Выдаецца пры фінансавай дапамозе
Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага

УВАГА: Гэты том працягвае сэрыйнае выданьне ЗАПІСЫ, запачаткаванае ў 1952 г. Першыя 6 тамоў у 1952–1954 гг. выйшлі ў Нью-Ёрку; 5 наступных у 1962–1970 гг. друкаваліся ў Мюнхэне. З 12-га (1974) па 24-ты (1999) том ЗАПІСЫ друкаваліся ў Нью-Ёрку. Ад 2002 г. ЗАПІСЫ — сумесны нью-ёркска-менскі праект.

ADDRESS
Belarusan Institute of Arts and Sciences
166–34 Gothic Drive, Jamaica, NY. 11432, U.S.A
zapisybinim@gmail.com

## ЗЬМЕСТ

## *Месца на мапе*



## *Літаратура*



## *Вакол кнігі*



## **Публікацыі**



## **Будучыя кнігі**

**Угодкі**



**Кніжная паліца**



**Хроніка**

**Кніга ў “Запісах”**

Sono particolarmente lieto che l'Anno della cultura italiana in Bielorussia e il 25° anniversario dell'avvio ufficiale delle relazioni diplomatiche tra i nostri Paesi coincidano con la pubblicazione di un numero dell'almanacco "Zapisy" dell'Istituto Bielorusso della Scienza e dell'Arte di New York, intitolato "Il mosaico italiano" e dedicato interamente agli scambi culturali e umani tra Italia e Bielorussia. Tale coincidenza è particolarmente simbolica e testimonia che l'interesse nello studio delle relazioni italo-bielorusse non è limitato alle sole istituzioni ufficiali, ma è altresì condiviso dalla comunità scientifica e civile.

E' noto che l'arte e l'architettura italiane hanno lasciato una notevole traccia nella cultura bielorussa dal Cinquecento al Settecento. Il Rinascimento italiano ebbe una grande influenza sullo sviluppo di tutti i settori della vita sociale del Granducato Lituano, grazie anche all'azione della regina Bona Sforza. Le idee del Rinascimento, diffuse in tutta Europa, accrescevano l'interesse dell'élite politica delle terre bielorusse verso la cultura italiana.

I contatti tra i nostri Paesi hanno avuto positivo seguito anche in tempi più recenti. Proprio alla loro analisi è dedicata la maggior parte dell'almanacco. I tragici eventi del XX secolo hanno nonostante tutto consolidato i rapporti umani tra italiani e bielorussi. Noto con interesse tra i materiali inseriti nell'almanacco quelli relativi alla vita e all'eredità creativa del prelato Piotr Tatarynovic, fondatore della Direzione bielorussa della Radio Vaticana ed editore della rivista bielorussa in Italia "Znic", le lettere dei Bielorussi che hanno vissuto in Italia nella seconda metà del XX secolo, e altri testi che valorizzano i legami tra le letterature bielorussa e italiana.

L'impegno dell'Ambasciata d'Italia rimane costante nel sostenere simili iniziative e nel promuovere nuovi progetti di collaborazione e di dialogo fra i nostri popoli, anche con il concorso degli enti e delle associazioni private espressione della comunità imprenditoriale e della cultura. Sono certo che l'almanacco sarà una fonte importante di informazione nello studio comparato dei nostri patrimoni culturali e del loro ruolo nello spazio europeo.

***S. E. Stefano Bianchi,***
*Ambasciatore Straordinario e Plenipotenziario*
*della Repubblica Italiana*
*nella Repubblica di Belarus*

Мне асабліва прыемна, што выхад чарговага нумару альманаху "Запісы" Беларускага інстытуту навукі й мастацтва (Нью-Ёрк), які мае назву "Італьянская мазаіка" й цалкам прысьвечаны беларуска-італьянскім кантактам, прыпадае на Год італьянскай культуры ў Беларусі й 25-годзьдзе фармальнага ўсталяваньня дыпляматычных стасункаў паміж нашымі краінамі. Гэтае супадзеньне асабліва сымбалічнае й сьведчыць пра тое, што цікавасьць да вывучэньня беларуска-італьянскіх сувязяў не абмяжоўваецца толькі афіцыйнымі ўстановамі, але таксама падзяляецца навуковай і грамадзкай супольнасьцю.

Вядома, што італьянскія мастацтва й архітэктура пакінулі значны сьлед у беларускай культуры XVI—XVIII стст. Культура італьянскага Адраджэньня зрабіла вялікі ўплыў на разьвіцьцё ўсіх сфэраў сацыяльнага жыцьця Вялікага Княства Літоўскага ў тым ліку й дзякуючы высілкам каралевы Боны Сфорца. Ідэі Адраджэньня, распаўсюджаныя па ўсёй Эўропе, узмацнялі цікавасьць палітычнай эліты беларускіх земляў да італьянскай культуры.

Кантакты паміж нашымі краінамі працягваліся і ў больш позьні час. Менавіта іх асьвятленьне складае асноўны зьмест новага выпуску альманаху. Трагічныя падзеі XX стагодзьдзя, не зважаючы ні на што, умацавалі чалавечыя стасункі паміж італьянцамі й беларусамі. Зь цікавасьцю адзначаю, што сярод публікацыяў, зьмешчаных на старонках альманаху, матэрыялы да жыцьця й творчай спадчыны заснавальніка беларускай рэдакцыі Радыё Ватыкана, выдаўца беларускага часопісу ў Італіі "Зьніч" прэлата Пётры Татарыновіча, лісты беларусаў, што жылі ў Італіі ў другой палове XX ст., і іншыя тэксты, прысьвечаныя сувязям паміж беларускай і італьянскай літаратурамі.

Пасольства пастаянна прыкладае намаганьні для падтрымкі падобных ініцыятываў і для прамоцыі новых праектаў супрацоўніцтва й дыялёгу, у тым ліку й з удзелам прыватных арганізацый і аб'яднаньняў, прыналежных да прадпрымальніцкіх і культурніцкіх асяродкаў. Упэўнены, што альманах стане важнай крыніцай інфармацыі для кампаратыўнага вывучэньня нашай агульнай культурнай спадчыны й яе ролі ў эўрапейскай прасторы.

***Я. Э. Стэфана Б'янкі***,
*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол*
*Італьянскай Рэспублікі*
*ў Рэспубліцы Беларусь*

*Пераклад з італьянскай Аксаны Данільчык*

***Тэма нумару: Італійская мазаіка***
*Да творчай спадчыны Пётры Татарыновіча*

***Пётра Татарыновіч***

# ЛІСТЫ

***Пётра Татарыновіч** (02.06.1896, в. Гайнін Слуцкага пав., цяпер Ляхавіцкі раён Берасцейскай вобл. — 03.09.1978, Рым, Італія), рэлігійны дзеяч, каталіцкі сьвятар, пэдагог, перакладчык, публіцыст. У 1921 г. высьвечаны на сьвятара. Працаваў у парафіях Заходняй Беларусі. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1945—1949 г. вучыўся ў Рыме, абараніў доктарскую дысэртацыю, прысьвечаную Кірылу Тураўскаму. У 1950 г. заснаваў беларускі каталіцкі часопіс "Źnič", які й рэдагаваў цягам 1950—1975 гг. Заснаваў Беларускую рэдакцыю Радыё Ватыкану й быў галоўным яе супрацоўнікам.*

*За кароткімі біяграфічнымі згадкамі хаваецца бадай самы ведамы беларус другой паловы XX ст. у Рыме. Выдаваныя ім кнігі й часопіс чыталі суродзічы ў ЗША й Канадзе, Аўстраліі й Вялікабрытаніі. Беларусы, што адведвалі Рым, абавязкова гасьцявалі ў Пётры Татарыновіча ці прынамсі тэлефанавалі да яго.*

*Лісты ды іншыя матэрыялы з творчай спадчыны Пётры Татарыновіча, што публікуюцца ў гэтым разьдзеле "Запісаў", маюць на мэце прыцягнуць адмысловую ўвагу дасьледнікаў і зацікаўленых чытачоў да гэтай недастаткова ацэненай сёньня ў Беларусі асобы.*

*Rom, via Corsica, 1;*
24.VIII.1952

Паважаны Спадар Доктар[1],

Выбачайце, што крыху спазьніўся з падзякай Вам за прысланы мне 1-шы Номер "Запісак"[2]. Дзякуй і прашу высылаць наступным тутэйшым установам: *Pontificio Instituto Orientale, Roma, Plazza S. Maria Maggiore, 7 (Biblioteca)* і паасобнік: *Biblioteca Vaticana, Citta del Vaticano* — 1 паасобнік. Апрача таго прысылайце мне 3 паасобнікі, зь якіх я два яшчэ ў іншыя навуковыя ўстановы, можа, на Ўнівэрсытэт і Бібліятэку Публічную Італійскую тут зарэкамэндаваную. А калі-б

[1] Лісты адрасаваны Вітаўту Тумашу. Арыгіналы захоўваюцца ў БДАМЛМ.

[2] Маюцца на ўвазе "Запісы БІНіМ".

можна было, дык яшчэ паасобнік у бібліятэку аа. Марыянаў і студэнту Янку Садоўскаму[3] 1 паасобнік. Усё знача было-б 8 паасобнікаў. За паасобнік высланы мне і Садоўскаму Вы атрымаеце 3 "Зьнічы". Ці ня будзе крыўды? А рэшту Вам хіба аплачвацьмуць.

Што да крытыкі, якое дамагаецеся, дык Вы яе хіба ўжо мелі ад іншых: пісала-ж і "Бацькаўшчына"[4]. Я наагул ня надта ахвоч чужога мазалю занадта крытыкаваць, асабліва першыя выпускі, якімі нельга паказаць ідэалу. Трэба заўсёды разумець, што людзі, абмеркаваўшы сваю працу, і самі ведаюць, што добра, а чаго недахоп. Крытыка найчасьцей адно з толку зьбівае, бо часта ня ведае інтэнцыяў і магчымасьцяў іх зьдзяйсьненьня. Калі пазволіце, дык пару славец дам у наступным Номеры "Зьнічу". Дый я-ж ужо пару славец аб гэтым пісаў сп. Арсеньневай[5]. Падам тут толькі тое, што мяне вельмі ўсьцешыла назова ангельскае "*Whiteruthenian*", а гэтага фатальнага монстру "*Byelorussian*" ня трэ было нат і ў дужках даваць, яно нам надта шкодзіць, усюды разумеюць яго як "*беларасейскі*". Чыстая бяда з гэтым. I які гэта дурэнь абдарыў нас гэткай "*кветкай*"! Фармат быў-бы мо практычнейшы — на мой пагляд — гэткі, як калісьці меў журнал "Калосьсе"[6]. Друк дужа добры, старанна карыгаваны, мусіць, маеце тэхнікаў, разумеючых мову і альфабэт наш? Ці ня добра было-б даваць сягды-тагды што-небудзь лацінкай? Асабліва артыкулы з шырэйшым пазначэньнем. Лацінкі мы нізашто ня можам выводзіць з ужыцьця, асабліва тут на Захадзе. Дый яна сяньня мае асаблівае значэньне яшчэ й з увагі на большае адмежаваньне ад расейцаў, якія намагаюцца інфармаваць загранічную палітыку аб нашай тоесамасьці зь імі. Мова часапісу ня дрэнная наагул: у ёй мала сьлядоў бальшавізацыі правапісу і слоўніка ды перасоленае эксперыментацыі, на манер "Веды"[7]. Праз гэта не байкатую гэтай апошняй, хай яна сабе робіць пошукі старога й новага й заспакойвае нашыя пякучыя патрэбы тэрміналагічныя, але каб не гыпнатызавалася чужымі ўплывамі, напрыклад, чэскімі

---

[3] **Янка Садоўскі** (1926—1982), грамадзкі дзеяч, гісторык, аўтар манаграфіі "*Byelorussians in Canada*" (1982). У 1949—1961 гг. ён вучыўся ў Рыме.

[4] Маецца на ўвазе публікацыя: Ст. Ст. Новыя беларускія часапісы // Бацькаўшчына. 1952. № 28 (107). 13 ліпеня. С. 4.

[5] **Натальля Арсеньнева** (у шлюбе **Кушаль**, 1903—1997), паэтка, грамадзкая дзяячка, у той час выконвала функцыі сакратара ў Беларускім інстытуце навукі й мастацтва.

[6] **"Калосьсе"** — літаратурна-навуковы часопіс, што выдаваўся ў Вільні ў 1935—1939 гг.

[7] **"Веда"** — навукова-літаратурны часопіс, орган Крывіцкага (беларускага) навуковага таварыства імя Пранціша Скарыны. Выдавец Янка Станкевіч. Выходзіў у ЗША ў 1951—1954 і 1973—1975 гг.

("а" замест лучніковага "і" і т. п.) ды больш лічылася з аўтэнтычнай чыстай жывой мовай роднай сучаснай. Ад аўтара "Веды" трэба гэтага болей вымагаць, чым ад нас, неспэцыялістаў. Крыху зьвягавалі там некаторыя на мае неалогістычныя спробы, але-ж яны ў мяне, здаецца, ня так густыя й частыя ды дзікія, а проста падыктаваныя тэхнічна-рэторычнымі патрэбамі, на якія мала ў нас дагэтуль зьвяртана ўвагі; а калі возьмем крычачыя недахопы рэлігійных тэрмінаў, дык хіба лягчэй будзе зразумець гэныя спробы; хто-б запраэктаваў нешта лепшае ад іх, заўсёды гатоў з удзячнасьцю прыняць.

Тэматыка "Запісак" дужа мне падабалася, а стылістычная апрацоўка яшчэ больш. Зьмест даволі ядраны, Шкада толькі, што ў зацемцы аб адкрыцьці партрэту Скарыны гаворыцца, што *"справа гэтая тады, аднак, ня была пададзена да ведама агульнага"*, бо друкавала аб гэтым "Хрысьціянская Думка"[8] ў маёй брашурцы "Шляхом дзіваў і ўражаньняў" (ня маю тут на вакацыях пад рукою таго Н. "Хр. Д.", магу пасьля яго падаць). Але гэта малаважна.

Цікавіць мяне яшчэ адно: чаму др. Станкевіч Янка[9], пералічаючы ў сваім артыкуле часопісі, ня ўспомніў аб "Запісках" нічога? (у "Бацькаўшчыне").

І яшчэ адно пытаньне: хто такі праф. Леў Акіншыц[10]? Ці ня мае гэта якое сувязі з Акінчыцам[11] нябошчыкам?

Але мушу канча[ць], бо і папер скончыўся.

---

[8] **"Хрысьціянская Думка"** (*"Chryścijanskaja Dumka"*) — рэлігійны часопіс беларусаў-каталікоў, што выходзіў у Вільні пад рэдакцыяй кс. Адама Станкевіча ў 1928—1939 гг.

[9] **Янка Станкевіч** (1891—1976), грамадзкі дзеяч, мовазнавец, журналіст, Ад 1949 г. жыў у ЗША. Ён быў стваральнікам Крывіцкага навуковага таварыства імя Праньціша Скарыны, што адчувала канкурэнцыю з боку Беларускага інстытуту навукі й мастацтва.

[10] Пётра Татарыновіч няправільна прачытаў прозьвішча аднаго з аўтараў першага нумару "Запісаў БІНіМ" **Льва Акіншэвіча** (1898—1980), гісторыка, публіцыста, крытыка, які ад 1949 г. жыў у ЗША. У 1951—1954 гг. выкладаў у Калюмбійскім унівэрсытэце. Займаўся дасьледаваньнем праблемаў нацыянальных меншасьцяў, савецкай юрыдычнай сыстэмы, гісторыі Беларусі й Украіны XVI—XVII стст.

[11] Маецца на ўвазе **Фабіян Акінчыц** (1886—1943), грамадзка-палітычны дзеяч, публіцыст, рэдактар, адзін за стваральнікаў Беларускай нацыянал-сацыялістычнай партыі.



Пётра Татарыновіч у сваім кабінэце ў Рыме. 1950-я гг.

*Roma, v. Corsica 1;*
22.IX.52.

Паважаны і Дарагі Спадар Доктар.

Выбачайце за крыху прымаруджаны адказ: я быў по-за домам і пазьней атрымаў Ваш апошні ліст дый пашло крыху часу на мае пошукі прошанай Вамі здымкі "Мужыцкай Праўды"[12]. Перашукаў тутака і ў бібліятэках дый у маіх калекцыях і нідзе не знайшоў. Вельмі прыкра мне Вам гэта паведамляць. Тут сталася адна рэч, якая мяне вельмі задзіўляе, але можа калі пазьней аб гэтым напішу, бо можа яшчэ выясьніцца. Пытайце ў айца Рэшаця ў Лісьле[13], *St. Procopius Abbey, Ill.*, можа яны маюць Адамкавы выданьні[14]. Або дзе там у літоўскіх бібліятэках у Чыкаго ці ў каго з нашых старых эмігрантаў.

[12] **"Мужыцкая Праўда"** — нелегальная газэта, якая выдавалася лацінкаю ў 1862—1863 на Гарадзеншчыне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Першая беларускамоўная газэта.

[13] **Язэп Рэшаць** (1890—1958), рэлігійны дзеяч, пэдагог. У 1938 г. прыехаў у ЗША. У 1941 г. быў адным з заснавальнікаў Беларуска-Амэрыканскай нацыянальнай рады. Жыў у бэнэдыктынскім кляштары Сьв. Пракопа ў Лайлі (*Lisle*, Ілінойс).

[14] Маецца на ўвазе брашура кс. Адама Станкевіча: Kastuś Kalinoŭski "Mužyckaja Prauda" i ideja Nezaležnaści Biełarusi. Wilnia, 1933. — 58 s.

Тут у Італіі заложаны Інстытут Навукова-этнаграфічных студыяў, да якога належаць усе нацыі, папрасілі й мяне туды рэпрэзэнтаваць беларусаў. Прадбачыцца навуковыя даклады з нашай этнаграфіі, геаграфіі, гісторыі, палітычнай эканоміі. Восьжа будзьце ласкавы зьмясьціць у “Запісках” тэмы, паважна апрацаваныя з гэтых галінаў веды, бо будуць хутка і незадоўга патрэбныя. Я ані ў ваднэй з гэтых галіноў не спэцыялісты, а толькі *“за не іменіем рыбы”* стаўся *“рыбай”*... спадзяючыся на падпору нашых спэцыялістых. Рэч вельмі важная й патрэбная. Тут вытрымаць стойка нашы пазыцыі трэба канечне дзеля асаблівага значэньня Рыму, дзе нам прыходзіцца адваёўваць правы ў галіне герархічнай. Патрэбны на скорую руку ведамкі аб беларускасьці Вільні, Горадні, Ліды, наагул статыстычныя дадзеныя насельніцтва Беларусі, гэта — *sine qua non*[15]! Дайце мне гэта з найнавейшых крыніц. Статыстыка нашай новай эміграцыяй (старой то хіба трудна) павінна такжа аглашацца. Ну і языковыя праблемы... Др. Станкевіч[16] шмат працуе, але, выбачайце, — *inter nos loquendo*[17] — гэта нейкая дзікалінгвістыка: як зь ёю трудна выступаць на шырэйшым форуме. Такжа ведамкі з гэноцыдзыму ёсьць вельмі патрэбныя, брашуркі канадыйскае сп. Абр[амчы]ка[18] аднае замала. Весткі аб сучасным стане краю пад бальшавіяй. Прысылайце ўсё, што толькі можа быць карысным для дакумэнтацыі нашых незалежніцкіх дэзытэратаў[19]. Гэту просьбу маю прашу трактаваць зусім канкрэтна і паважна. Як Вам падабаўся жыцьцяпіс сп. Прэзыдэнта ў вапошнім Н. “Бацькаўшчыны”?[20] На мяне ён зрабіў уражаньне хутчэй фэльетону, чым паважнага дыплёматычна-рэкляманoвага артыкулу. Але мушу канчаць. Бывайце й не забывайце.

Ваш.

---

[15] ***Sine qua non*** (лац.) — тут у значэньні: без чаго нельга.

[16] Маецца на ўвазе Янка Станкевіч.

[17] ***Inter nos loquendo*** (лац.) — паміж намі кажучы.

[18] Маецца на ўвазе выданьне: Abramčyk, Mikola. I accuse the Kremlin of genocide of my Nation. Based on the secret documents of the Military Prosecutors and N.K.V.D. of the U.S.S.R. Toronto, 1950. — 36 p.
**Мікола Абрамчык** (1903—1970), палітык, грамадзкі дзеяч, публіцыст, Прэзыдэнт Рады БНР (1947—1970). Жыў у Парыжы.

[19] ***Dezyderat*** (пол.) — жаданьне.

[20] Маецца на ўвазе артыкул: Рыдлеўскі, Лявон. З жыцьця й дзейнасьці М. Абрамчыка // Бацькаўшчына. 1952. № 36—37 (115—116). 7—14 верасьня. С. 3—4.

*Roma, v. Corsica, 1;*
14.XI.1952 г.

Паважаны сп. Доктар,

Выбачайце за маё марудства з адказам, я задушаны працай. Пажаданыя Вамі лацінскія пісьмы аб Скарыне я знайшоў і дзеля недахопу мне часу аддаў іх пералажыць аднаму тутэйшаму студэнту, спадзяючыся, што на кухонную лаціну ня трэба спэцыяльнага зуба. На жаль, ён ня мог тое "*кухоншчыны*" агрысьці: масса спэцыяльных тэхнічных сказаў старазагабоннае канцэлярскае ветлівасьці паставілі хлопца ў тупік, тымболей, што й беларускі слаба знае. Дык вось мушу брацца сам, але ў данным мамэньце не магу, бо акурат я рыхтую матар'ял у газэту дый падасьпелі іншыя справы ўрадавыя. Ці Вам гэта вельмі тэрмінова патрэбнае? Калі не, дык па якіх тыдняў два я Вам гэта пералажу й прышлю. Брала мяне [с]пакуса пусьціць гэта ў "Зьніч", але пасаромеўся заганяць Вам дарогу…

Вы хіба чыталі ў "Б[ацькаўшчы]не" артык[ул] Др. Дуніна[21] (ці не Грышкевіч[22] гэта?). Тэма вельмі па часе, я ў Н. 18 (у перадавіцы) "Зьніча" ініцыяваў шмат падобных, і шкода, што мала хто цікавіцца імі глыбей. Але ня тое тут хочу адцяміць. Сп. Д[унін] закрананае справу ўсталеньня нацыянальнага назову (Ластоўскі[23] піша: "*назоў, не назва*"). Справа вельмі на часе! Толькі баязно, каб яе замест палепшыць не пагоршылі. Навуковымі інстытуцыямі, як Ваш Інстытут, або Станкевічава[24], або гісторыкаў нашых і чужапрыяцельскіх (Энгель-

---

[21] Маецца на ўвазе публікацыя: Дунін, А., др. Аб патрэбе інфармацыі. Пытаньне нашай нацыянальнай назвы // Бацькаўшчына.1952. № 42 (121). 19 кастрычніка. С. 6; № 43 (122). 26 кастрычніка. С. 2, 4; № 44 (123). 2 лістапада. С. 3—4; № 45—46 (124—125). 16 лістапада. С. 5.

**А. Дунін** — псэўданім **Аўгена Вярбіцкага** (1922—1986), грамадзкі дзеяч, навуковец, хімік, сябра БІНіМу. Жыў у ЗША, спэцыялізаваўся ў хіміі мясной прадукцыі. Дасягнуў посьпехаў у галіне кансэрваваньня харчоў шляхам ірадыяцыі, стваральнік касьмічнай ежы, што выкарыстоўвалася ў палётах амэрыканскіх астранаўтаў.

[22] Пётра Татарыновіч мае на ўвазе **Вінцэнта Жук-Грышкевіча** (1903—1989), грамадзкага дзеяча, пэдагога, у 1970—1982 гг. старшыні Рады БНР. У 1952—1954 гг. ён жыў у Канадзе, у Атаўскім унівэрсытэце абараніў доктарскую дысэртацыю "Лірыка Янкі Купалы".

[23] **Вацлаў Ластоўскі** (1883—1938), грамадзкі дзеяч, празаік, паэт, этнограф, мовазнаўца, мэмуарыст. Аўтар першай "Кароткай гісторыі Беларусі" (1910).

[24] Маецца на ўвазе заснаванае Янкам Станкевічам у 1946 г. у Рэгенсбургу з мэтай аб'яднаньня вучоных-беларусаў для навуковай працы ў галіне беларусазнаўства **Крывіцкае навуковае таварыства імя Праньціша Скарыны**. Зь Нямеччыны дзейнасьць таварыства разам з стваральнікам перамясьцілася ў ЗША.

гардт[25]) справа гэта фактычна ўжо вырашана. Вы зусім добра назваліся *"Whiteruthenian (Byelorussian)"*, кепсьцяць гэта толькі нашы палітыкі. Дунін рэкамэндуе Інстытуту Навукі й Мастацтва, каб рабіў плебэсцыт ды нармаваў справу пераназову, а скарэй замацаваньня ўпадабанага сабою *"Byelorussia"*. Вось-жа не дапусьцеця, калі Інстытуту ў рэчы самай прыйдзецца справу гэту вырашаць, каб гэта кампрамітуючая нас аномалія надалей асталася. Не негую тутака слова *"Беларусь"*, негую толькі фатальны пераклад ад гэтага па-ангельску, утоесамляючы нас з Расеяй. Расейцы гэта выкарыстоўваюць усюды. Пішу з горкага досьведу. Трэба ясна ў назове разрозьнівацца. *"Whiteruthenian"* усё-ж выглядае як нешта іншае. Дзеля паказаньня самога аб'екту *"Беларусі"*, залегалізаванай у ОНУ[26], можна прыстаўляць у дужках *"Byelorussia"*, але называцца першым тэрмінам такім, які-б паказваў, што наша Беларусь па ідэі, па форме і назову гэта не камуністычная краіна. Спадзяюся, Вы гэта разумееце.

Бывайце. Чакаю слова.

Татарыновіч.

*Roma, v. Corsica, 1.*
22.V.1953.

Паважаны Спадар Доктар,

Ня помню, ці я Вам адпісаў апошняе Ваша пісьмо. Дык пішу вось яшчэ раз. Адрас Ваш мы паправілі, і газэту выляцімем правільней. Тады мы ня знал зьмены Вашага адрэсу. Цікава, якія рэзультаты таго паседжаньня, на якім мелася разглядацца справа *"Whiteruthenian"* і *"Byelorussian"*? Будзьце ласкавы, напішэце. Я дужа гэтым цікаўлюся. Дагадваюся, што гэта Прэзыдэнт зажадаў гэтае канфэрэнцыі. Дрэнна будзе, калі ўпірацімуцца на сваім каўтунскім *"...russian"*! Напэўна, гэтым справы не паправялі. Найлепш так аставіць, як дагэтуль пісалі: *"Whiteruthenian (Byelorussian)"*. Я думаю, што некаму залежала на гэтым, каб перад вырашаньням гэтае справы паніжыць і "Зьніч" як прапагатар гэтага назову. Таму, бачыце, нехта махнулі ў "Бацькаўшчыне"

---

[25] Маецца на ўвазе барон **Аўген фон Энгельгардт** (ням. *Eugen von Engelhardt*, 1899—1948), нямецкі гісторык. У гады Першай сусьветнай вайны быў дарадцам па беларускіх пытаньнях пры штабе 10-й нямецкай арміі Ўсходняга фронту. Ад канца 1930-х гг. кансультант па праблемах Беларусі ў нямецкім урадзе. Вывучаў гісторыю, геаграфію, эканоміку й літаратуру Беларусі. Аўтар працы "Weissruthenien: Volk und Land" (Berlin, 1943).

[26] Маецца на ўвазе ААН.

артыкул “Ці можам быць незадаволенымі”[27]. Страшэнна глупы артыкул, і настолькі шкодны, наколькі глупы.

Буду Вам, сп. Доктар, вельмі ўдзячны за пару славец аб сяньняшніх тамашніх падзеях, аб дасягненьнях сп. Прэзыдэнта. Мушу мець тут сёе-тое для Радзія і наагул для арыентацыі. Мы тут зачалі старацца Радзія Італьянскага[28], і нам ужо як-бы прыабяцана: кожны дзень 20 мінут. Толькі чалавека шукаем. Італійскае радзія мае большае значэньне, як Мадрыдзкае[29]. І добра чутное ўсюды. Дый даволі лояльнае, не накідае свае цэнзуры і г. д.

Пішэце!

Кс. Татарыновіч.

*Italia, Collalbo (Bolzano),*
*Longostagno (Lengstein).*
20.VII.1953

Паважаны й Дарагі Спадар Доктару,

Толькі сяньня злавіла мяне Ваша пісьмо ў тырольскіх горах, куды мусяў я ўцякаць ад страхотнае жары (43°) ды ўсякага роду смуроду. Праседзіў тутака аж да першых дзён верасьня. Гэта знача, не магчыму, на вялікі жаль, выканаць тэрміновa Вашай просьбы. Таму сьпяшу парадзіць Вам, калі даведкі гэтыя вельмі сьпешныя, дык пішэце каму-небудзь (напрыклад, а. Сіповічу[30] ці Надсону[31], якія жывуць у вад-

[27] Маецца на ўвазе артыкул: Вярба, Мікола. Ці можам быць незадаволенымі? (Друкуецца ў парадку дыскусіі) // Бацькаўшчына. 1953. № 16 (147). 19 красавіка. С. 4.

[28] Маецца на ўвазе Радыё Ватыкану.

[29] Ад 1952 г. на Гішпанскім нацыянальным радыё ў Мадрыдзе з нагоды сьвятаў пэрыядычна гучалі беларускія перадачы ды рабіліся намаганьні наладзіць сталую беларускую праграму. Уласная Беларуская рэдакцыя гэтага радыё пачала працаваць у 1958 г.

[30] **Чеслаў Сіповіч** (1914—1981), рэлігійны дзеяч, грэка-каталіцкі біскуп. У 1947 г. быў прызначаны рэктарам Беларускай каталіцкай місіі бізантыйска-славянскага абраду ў Вялікабрытаніі. Жыў у Лёндане, дзе стварыў Беларускі рэлігійна-культурны цэнтр, часткай якога пазьней стала Беларуская бібліятэка й музэй імя Ф. Скарыны. У 1960 г. быў пасьвечаны на біскупа, пазьней прызначаны апостальскім візытатарам для беларусаў за мяжой.

[31] **Аляксандар Надсан (Надсон)** (сапр. **Бочка**, 1926—2015), рэлігійны дзеяч. У 1946—1953 гг. жыў у Лёндане, пазьней паехаў вучыцца ў Рым, дзе атрымаў сьвятарскія сьвячэньні і адкуль ў 1959 г. зноў вярнуўся ў брытанскую сталіцу. Ад 1971 г. кіраваў Беларускай бібліятэкай-музэем імя Ф. Скарыны. У 1986 г. быў прызначаны на пасаду апостальскага візытатара для беларусаў-каталікоў у замежжы.

ным доме: *Marian House, Holding Ave, London*) у Англію. Там ня менш багатая бібліятэка на нашыя патрэбы. А калі можаце пачакаць, дык чакайце да восені, як вярнуся, можа тое-сёе й знайду. Трэба ведаць, што апошнімі часамі тут на беларускую літаратуру наложана нейкая "*шапка-невідзімка*", кс. Адама[32] кніжак ува Ўсходнім Інстытуце і з сьвечкаю не знойдзеш. Я голаў скруціў, шукаючы ягонага "Родная мова ў сьвятыні"[33] і ніяк ня мог знайсьці, а быў такі час, калі я яе ў руках тут трымаў. Гэтасама, баюся, спаткала і "Кастуся Каліноўскага". "Шлях Моладзі"[34], здаецца, недзе быў у бібліятэцы аа. Марыянаў тутака, дык зараз напішу, каб наш Янка Садоўскі перашукаў дый, перапісаўшы, што трэба, выслаў Вам. Але не запэўніваю, ці там напэўна знойдзе. Дзіўная рэч, што вы тамака гэтых польскіх рэчаў у амэрыканскіх бібліятэках ня можаце знайсьці. Амэрыка даволі засобная, трэба толькі зорыентавацца.

Што да інтэрнацыянальнасьці тае "Хрысьціянскай Дэмакрацыі", дзе верхаводзіць паляк, дык сумніўна крыху. Гэткія і ў нас тут ёсьць "*інтэрнацыяналы*". Ім каб толькі паказацца перад сьветам, што "*інныя*" народы ахвотна карыстаюць зь іхняга прадстаўніцтва, і зуснадаюцца на далейшыя іхнія "*mnejszosci*"[35]. А што да нашай Хрысьціянскай Дэмакрацыі, дык з кім тут яе аднаўляць? Дый як пры гэткай фатальнай дыяспоры? Адна толькі Амэрыка магла-б гэта зрабіць, калі-б мела ахвочых ды кампэтэнтных дзеячаў. Нягледзячы на гэта, усёж-такі спрабуем пасылаць тому Цэнтру Дэмхрысьціянскаму ў *NY* наш "Зьніч". Палякі круціцьмуць насамі. Апошні нумар, напрыклад, бесцэрэмонна падняў голас проці іхных даўнейшых і цяперашніх закусаў.

"Запіскі" апошні нумар атрымалі. Дужа добрыя! Дзякуем! Прашу Вас толькі (ужо другі раз) высылайце адразу ў бібліятэкі, якіх адрэсы я Вам падаў, г. зн. Ватыканскую, Інстытут Усходні і Нацыянальную, бо мне, бяспомачнаму, сапраўды вельмі трудна тут рассылаць. Я-ж ня толькі вашу маю прэсу, але й цэлага сьвету. Я прыдушаны працай на ўсе бакі, бо памагчы тут, папраўдзі сказаўшы, німа каму. І калі высылаеце пачку з 5-ці паасобнікаў, дык яна важыць больш за паўкіля, і паштальон гэткае мае права на дом ня прыносіць, тады трэба самому асабіста ісьці на пошту забіраць. Аб гэтым я Вам ужо пісаў.

---

[32] Маецца на ўвазе **Адам Станкевіч** (1891/1892 — 1949), грамадзкапалітычны дзеяч, каталіцкі сьвятар, выдавец, гісторык, публіцыст

[33] Маецца на ўвазе выданьне: Станкевіч, Адам кс. Родная мова ў сьвятынях. Вільня, 1929. — 192 с.

[34] **"Шлях Моладзі"** — моладзевы грамадзска-палітычны й літаратурнамастацкі часопіс, што выходзіў у Вільні ў 1929—1939 гг.

[35] ***Mnejszość*** (пол.) — меншасьць.

Перад выбарамі мы тут мелі ўжо так, якбы і прыабяцанае ўрадавае Радыё ў нашай мове, але цяпер справа скамплікавалася, трэба будзе зноў пачынаць яе.

За артыкул аб "*Whiteruthenii*" Вам астаецца толькі падзякаваць. Памятайце, гэтае справы ня можна закідаць!

На гэтым і канчаю. Пішэце.

Ваш Кс. Татарыновіч.

*Roma, v. Traspontina 18*
15.XII.1953

Паважаны Сп. Доктар,

Дзякую за пісьміцо. Ня меў часу паваротнай поштаю на яго адказаць. Выбачайце.

Цытаты Вашы трэба пералажыць наступна:

*1. 1503 Біп. 8. Чурылка з пісьмамі ў Мадзяршчыну для хірурга Франціска дзьве Польскія Каралевы (спэц. назова грошай) і адсюль у Кракаў 8 флоренаў*.

Трэба заўважыць на дакладнае перапісваньне тэксту лацінкаю, бо ў слове "*Literis*" правідлова павінна быць 2 "t". Таксама павінна быць "*duae Reginae Poloniae*".

2. *1505, Чурыла беларус (rutheno) калішні цытарыст за сукно... 1 флор*. Можна сказаць: на сукно або адзежу. Ня можа быць тут "пан", бо стаіць 2 "n", ды ня мог ён атрымаць заплату тады, як іграў "*каралевічу*", бож сказана "*antiquo*" — калішні. Ды чаму тут пішацца ўжо "*Czurilo*", а ня "*Czurilko*", як у першай пазыцыі? Ці дакладна цытата перапісана?

Фатаграфіі прышлю, як мецьму што добрае, цяпер няма грошай рабіць дый часу недахоп.

Так, "Quo Vadis"[36] і "Эванэлія"[37] зьбліжаюцца да канца, але ведаеце якога? Да банкроцкага. Грошай — ані граша. Яшчэ выйдзе адзін нумар, і далей ня ведаю, што рабіць. Чытачы нашы ў бальшыні ня плацяць. Праўда, зашмат маюць розных складак, але каб усе далі хоць мінімум, дык і гэта ўжо дало-б хоць скромную магчымасьць давесьці да канца імпрэзу, каб хоць не змарнавалася тое, што ўжо зроблена. Будзьце ласкавы, закіньце там між нашымі ці можа й чужымі дзе слаўцо — буду вельмі ўдзячны.

---

[36] Маецца на ўвазе праца Пётры Татарыновіча над беларускім перакладам раману Генрыка Сянкевіча "Quo vadis". Выданьне пабачыла сьвет у Рыме 1956 г.

[37] Маецца на ўвазе пераклад Пётрам Татарыновічам Эвангелля. Пабачыў свет як: Śviataja Evanelija i Apostalskija Dziei / pieraklaŭ I padaŭ vyjaśnieńni Ks. Dr. Piotr Tatarynovič. Rym, 1954. — 636 s.

Прашу напісаць канкрэтней аб той праэктаванай Хрысьціянскай Дэмакратыі. Ці гэта вы робіце на модэль тае інтэрнацыянальнае, аб якой мне пісалі, ды з мэтай уступіць туды? Я напісаў Б[іску]пу Сл[оска]ну[38]. Паглядзімо, што скажа ён. Я ня проціў салідарызму з праваслаўнымі ў палітычнай дзялянцы. Пісаў аб гэтым у апошнім "Зьнічы".

Бывайце! Шчасьлівых каляд!

Татарыновіч.



Беларускія сьвятары ў Рыме. Сядзяць: аа. Леў Гарошка, Пётра Татарыновіч, Францішак Чарняўскі, Часлаў Сіповіч, Уладзімер Тарасэвіч; стаяць: Аляксандар Надсан, Кастусь Маскалік, Янка Садоўскі. Рым, 1954 г.

*Rome, v. Traspontina 18*
21.I.1954

Паважаны й Дарагі Спадар Доктар.

У адказ на ваша Інстытуцкае пісьмо з 22.XII.53 паведамляю, што за гэты час я ператрос у Рыме бібліятэкі й нідзе не напаткаў жаданых Вамі кніжак. Шукаў навет і ў знакомых прыватных славістаў, як, на-

[38] Маецца на ўвазе **Баляслаў Слосканс** (лат. *Boļeslavs Sloskāns*, 1893—1981), каталіцкі ярарх (біскуп) латыскага паходжаньня. Ад 1952 г. быў апостальскім візытатарам для беларусаў-каталікоў у Эўропе.

прыклад, праф. Сальвіні[39], і, нажаль, таксама не знайшоў. Апошні мае групу нашых кніжок: “Гісторыя літаратуры” Гарэцкага[40] й жменьку савецкіх навейшых выданьняў, між якімі ёсьць дзьве рэчы, зьмяшчаючыя таксама даволі значныя разьдзелы аб нашым мастацтве (пэўнеж, у савецкім духу): гэта: “Зьяднаньне беларускага народу ў адзінай сацыялістычнай дзяржаве”[41] — аўтар нейкі Гарбуноў[42], выданьне 1952 г. Менск. Ну і хіба ўжо ведамая Вам “Большая Савецкая Энцыклапедыя”, vol. II, бачына 514 — пасьвячае аж 10 бачын беларускаму мастацтву. Вы гэтыя рэчы напэўна знойдзеце ў Нью Ёрку. Прынагодна я прасіў праф. Сальвіні, каб запатрабаваў зь Менска Шчакаціхіна[43], як будзе сабе выпісваць адтуль матар’ялы для студыяў, і ён абяцаў. Малая аднак надзея, ці і там гэта знойдзецца, бо-ж калі была пісана за нацдэмаўшчыны, дык “вычышчана”.

Што да выбранай паэзыі Я[нкі] Купалы, дык не разумею, ці Вы разам друкуеце із Станкевічам[44], які расьпісваецца аб гэтым у “Бацьк[аўшчы]не”, ці нешта апрычонае[45]? Бо і ён закідае тут мяне рознымі загадамі бібліятэчных пошукаў. “Зборніка Твораў” Я[нкі] Купалы т. VI з 1932 таксама не знайшоў. Было калісь у *Russicum* “Шляхам Жыцьця”[46], але апошнімі часамі недзе *“ў ваду канула”*...

[39] Маецца на ўвазе **Луіджы Сальвіні** (іт. *Luigi Salvini*, 1911—1959), італьянскі мовазнаўца, славіст. Ад 1949 г. выкладаў у Папскім Усходнім інстытуце ў Рыме.

[40] Маецца на ўвазе адно з выданьняў працы Максіма Гарэцкага “Гісторыя беларускай літаратуры” (Вільня, 1920).

[41] Маецца на ўвазе выданьне: Гарбуноў, Ц. Уз’яднанне беларускага народа ў адзінай Савецкай Сацыялістычнай дзяржаве. 2-е выд. Мінск: Дзяржвыд БССР, 1952. — 219 с.

[42] Маецца на ўвазе **Цімафей Гарбуноў** (1904—1969), дзяржаўны й партыйны дзеяч, гісторык, доктар гістарычных навук, акадэмік АН БССР. У 1941—1947 і 1950—1960 гг. быў сакратаром ЦК КПСС, у 1955—1963 гг. — старшынём Вярхоўнага Савету БССР.

[43] Маецца на ўвазе выданьне: Шчакаціхін, М. Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва. Т. 1. Курганная старажытнасці Беларусі. Царкоўная архітэктура XI—XII ст. Замкавае і ваеннае будаўніцтва Беларусі ў XIII—XVI ст. Менск, 1928. — 279 с.

[44] Маецца на ўвазе **Станіслаў Станкевіч** (1907—1980), грамадзка-культурны дзеяч, літаратуразнаўца, публіцыст, крытык, выдавец. У той час (1948—1962) быў рэдактарам газэты “Бацькаўшчына” ў Мюнхене.

[45] У гэты час Вітаўт Тумаш супольна з Станіславам Станкевічам рыхтавалі да выданьня зборнік Янкі Купалы “Спадчына”, які пабачыў сьвет у Мюнхене ў 1955 г.

[46] Маецца на ўвазе выданьне: Купала, Я. Шляхам жыцьця. Пецярбург, 1913. — 264 с.

Памойму, том той VI, які Вы знайшлі ў *NY*, быў туды прысланы ўжо з падчысткамі, бо немагчыма, каб гэта зрабіў нехта ў данай бібліятэцы: таму пошукі нецэнзураваных экзэмпляраў, здаецца, дарэмныя. Няўжо міншчукі (як, напрыклад, Адамовіч[47]) ня знаюць тых вершаў? У "Шляху Моладзі", які тут знаходзіцца ў аа. Марыянаў, жаданых артыкулаў з патрабаванай цытатай аб "Мужыцкай Праўдзе" пасьля другіх пошукаў — таксама не знайшлі.

Дык выбачайце за гэткія сумныя паведамленьні. Будзем шукаць яшчэ, спадзяючыся ўжо на "авось", але малая надзея. Такая наша доля.

Не зважаючы на гэткія бясплодныя мае ўслугі, а цяпер асьмелюся і ў Вас, г. зн. Інстытуту, аднае рэчы папрасіць. Я тут належу, як вам ужо ведама, да Інтэрнацыянальнага Інстытуту Студыяў Праблем Этнічных і Мяншыняў, належу навет да Рады Прэзыдэнцыяльнай (на маю бяду). Вось-жа на днях гэты Інстытут зажадаў ад кожнай нацыі, да яго належачай, каб у працягу пару месяцаў даручыла яму кароткі, але зьмястоўна апрацаваны навукова артыкул студыюм этнічнае свае нацыянальнасьці, якое будзе навукова-дакумантальным абгрунтаваньнем нашых вызвольна-палітычных асьпірацыяў. Для канкрэтнейшага прадстаўленьня справы падаю ніжэй даручаны *ISPEM*ам мне праспэкт у перакладзе.

Студыюм этнічнай праблемы Беларусі: a. з гістарычнага пункту гледжаньня (аб першай аселасьці Краю, уфармаваўш[ай] цяпер беларускі народ, этнічную групу, стабілізац[ыі] іхн[яга] асена данай тэрыторыі, разьвіцьцё і склад сучасны і г. д; b. з лінгвістычнага пункту гледжаньня: апрычонасьць; c. з пункту гледзішча рэлігійнага фактара; d. з пункту гледжаньня антропонічнага; e. з гледзішча этнічнай масы; атрыбуты характ[ару] сялян і іхні быт і г. д., усё тое, што пазваляе акрэсьліць чалавека ці даную этн[ічную] групу выявай інстынктоўных.

Пэўне-ж гэта толькі накід агульна наводзячых думак. Аўтар даных студыяў можа іх улажыць паводля пляну ды ідэйных мяркаваньняў. Дык вось, не ўзяўся хто з вашых спэцыялістаў этнографаў і лінгвістаў ці хоць і гісторыкаў гэта салідна апрацаваць мне ад якіх месяцаў 3? Можа праф. Акіншэвіч? Гэта рэч вельмі важная і патрэбная. Мы [дамо] раз назаўсёды аўтарытэтна апублікаваны (*ISPEM* будзе гэта публікаваць) наш дакумант, нашу сказаць-бы мэтрыку ці пашпарт навукова-палітычны. Тут, у Цэнтры нашым, ён сапраўды болей патрэбны, чым усюды. Гэта ў вялікай меры аблягчыць і нам вызвольна-

---

[47] **Антон Адамовіч** (1909—1998), грамадзкі дзеяч, літаратуразнаўца, гісторык, публіцыст, літаратар, аўтар вялікай колькасьці літаратуразнаўчых прац.

герархічную дзейнасьць, якую так фатальна тармозяць тут застарэлыя кансэрватызмы дыплёматычныя. Я ад імя нашай пякучай справы буду вельмі ўдзячны на гэту працу. Пэўне-ж добра адразу яе пералажыць на якую-небудзь дыплёматычную мову: ангельскую, французкую ці нямецкую. Будзьце ласкавы, сп. Доктар, папрасіць каго із знакомых ды напісаць мне (магчыма хутка) ад каго і калі яе магчыму спадзявацца. Я як не спэцыяліст крыху пабайваюся за гэта брацца, тут трэба сем раз адмераць, а адзін раз адрэзаць! Падобныя-ж рэчы, як мне паведамляла, а навет запрашала да супрацы (!) Абрамава (Тэодоровіч)[48] з Мюнхэну, сьпяшае падрыхтоўваць (для Амэрыканцаў) расейскі Інстытут[49]. Вось-жа мы мусім упярэдзіць сваёй інфармацыяй сяньняшнія дэцыдуючыя дзейнікі сьвету, каб ізноў нас ня кляймілі *"бела-расейцамі"* ці нечым падобным. Спадзеюся, што Вы мяне зразумееце і паможаце. Тэма гэтая, калі-б выйшла ў выдавецтве Інстытуту *Internac[ional]*, дык мела-б большую, аб'ектыўную, вартасьць, чым у выданьні нашых установаў аналогічных.

Маю яшчэ адну бяду: Вы, забіраючы сп. Казака (Крушыну)[50] на Рэдактара Літаратурнай Газэты[51], адцягнулі яго ад супрацы із "Зьнічом", і даведзеная амаль да палавіны і ўжо ў 2х шаснаццатках прыгожа збрашураваная "Калыханка" яго ўвязла там недзе... і далей, паміма абяцанкаў Аўтара, болей не паказваецца[52]. Ці ня можна было-б гэта зрабіць, каб і вам, і мне ня было крыўды? Няўжо я не заслужыў у вас на тое? Калі ўважацімеце магчымым і згодным з ветлівасьцю закіньце там пры добрай нагодзе слаўцо за мяне Пав[ажанаму] Сп. Крушыне. Але не прадстаўляйце справы так, як быццам-бы я на яго Вам скардзіўся. Гэта залатога сэрца чалавек, і я не хацеў-бы яму нічым зрабіць прыкрасьці. Скажэце мо так, што прынагодна перасылаю яму прывет і дапамінаюся працягу чароўнае (яна сапраўды мяне зачаравала) "Калыханкі".

[48] **Надзея Тэадаровіч** (да эміграцыі **Абрамава**, 1907—1979), грамадзкая дзяячка, лекар, навуковец-саветоляг. Ад кастрычніка 1942 г. узначальвала дзіцячы сэктар Беларускай народнай самапомачы, а ад чэрвеня 1943 г. — службу юначак Саюзу беларускай моладзі. Была пастаянным супрацоўнікам рэдакцыі часопіса "Жыве Беларусь!". Ад 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне. Пасьля вайны працавала ў Інстытуце вывучэньня СССР у Мюнхене, займалася пытаньнямі рэлігіі й атэізму.

[49] Маецца на ўвазе мюнхенскі Інстытут вывучэньня гісторыі і культуры СССР, які да рэарганізацыі 1954 г. складаўся пераважна з расейцаў.

[50] **Рыгор Казак** (псэўд. **Рыгор Крушына**, 1907—1979), паэт, празаік, крытык, грамадзкі дзеяч. Ад пачатку 1950-х гг. жыў у ЗША. Быў адным з заснавальнікаў БІНіМу, уваходзіў у рэдкалегію "Конадняў".

[51] Напэўна, маецца на ўвазе часопіс "Конадні".

[52] У Рыме выданьні твораў Рыгора Крушыны не выходзілі.

Прашу такжа падаць у "Беларусе"[53] аглашэньне, што ад лютага г[этага] г[оду] беларускія перадачы ў Радыё Ватыкана будуць надавацца 2 разы ў тыдзень: у сераду і ў пятніцу ў г[адзіне] 18.15 (паводле рымскага часу, у вас 6 ч[асоў] пазьн[ей]) на каротк[іх] хвалях: 49,75 (4M); 41,21; 31,10 (T), 25,67 і на сярэдніх — 196. У пятніцу будуць нядзельныя Гоміліі ці іншыя рэлігійныя перадачы, а ў серады — бягучыя весткі. Кажуць, што кароткахвалёвыя перадачы лепш чутны на далёкі дыстанс, дык прабуйце на добрых апаратах, можа, калі зловіце. Мне тут з тактычных матываў вельмі патрэбныя часамі якія-небудзь одзывы слухачоў нашых, гэта памагае тут трымацца. Пэўне-ж, радыёперадачы гэтыя болей мо прынцыповае тэорэтычнае маюць значэньне, чым практычнае (між намі толькі гаворачы); але вельмі важнае, гэта атэстат для нашае мовы і культуры.

Вось одклік у рэлігійнай нашай справе быў вельмі ўпапад, і я яго, як мо ўжо чыталі, належна падтрымаў у "Зьнічы"; спадабаўся ён такжа й Біскупу. У травені, калі ладзіцімем тутака кангрэс наш і Марыянскую імпрэзу[54], можа што пачуеце больш канкрэтнае ў гэтай справе.

Я сам рвуся ўсьцяж у Амэрыку, бо ня толькі карціць мне нашы рэлігійна-арганізацыйныя там справы пякучыя, але і з увагі на маё тутака жаласнае матарыяльнае палажэньне, якое навет пачало дзеець ужо і на маё здароўе: перадчасна не хацелася-б стацца інвалідам. Я Вам здэцца крыху ўжо пісаў аб працэдуры майго прыняцьця ў ЗДА[55]; залежыць яно ад тамтэйшага епіскапату і іхняга ашурансу[56]. Трэба, каб вы закідалі там усюды, дзе ёсьць нашы людзі, пісьмовымі заявамі й просьбамі даць вам духоўнага вашай нацыянальнасьці і языка. Паводля пазалеташняе Энцыклікі "*Exu familia*"[57] ўсе Біскупы Ордынарыі абавязаны даваць душпастарства людзем зь іхняю моваю. На гэту Энцыкліку ў заявах трэба паклікацца. Біскуп Слосканс назначаны толькі для Эўропы. Пэўнеж, Вас мо гэтыя справы мала цікавяць,

---

[53] Вітаўт Тумаш быў рэдактарам газэты "Беларус" (Нью-Ёрк) толькі кароткі час у 1952 г. Калі пісаўся ліст, выданьнем згаданага пэрыёдыка займалася рэдкалегія на чале з Натальляй Арсеньневай.

[54] Магчыма, маецца на ўвазе Тыдзень студыяў Беларускага акадэміцкага каталіцкага аб'еднаньня "Рунь" і Міжнародны марыялягічны й марыянскі кангрэс. Аднак яны адбываліся ў Рыме не ў траўні, а ў кастрычніку (24 кастрычніка — 1 лістапада) 1954 г.

[55] **ЗДА** — Задзіночаныя Дзяржавы Амэрыкі — Злучаныя Штаты Амэрыкі (ЗША).

[56] ***Assurance*** (анг.) — гарантыя.

[57] Маецца на ўвазе **Апостальская Канстытуцыя** ад 1 жніўня 1952 г. ***"Exsul familia"***, дзе выкладзеныя нормы арганізацыі душпастырства ўцекачоў і эміграцыі.

маеце й без таго шмат клопатаў, але трэба заахвочваць да гэтага людзей больш маючых магчымасьцяў; трэба папросту да гэтай справы выдэлегаваць чалавека. Др. Грынкевіч[58] нейкі ня сталы, раз ударыць у хамут, а другі раз астыне.

Канчаю, пажадаючы ўсяго найлепшага!

[Татарыновіч]

*Roma, via Traspontina 18*
21.VI.1954

Паважаны Спадар Доктар,

Пішу да Вас як да старшыні БІНІМ, бо ня ведаю, хто ім зьяўляецца сяньня фармальна[59], а ведаю, што Вы фактычна зьяўляецеся душою яго.

Справа ў тым: наш славуты бас, сп. Пётра Конюх[60], рыхтуецца із сваім турнэ к вам у Амэрыку, каб правесьці рад канцэртаў. Ён просіць напісаць беларускім арганізацыям і дзеячам, каб былі ласкавы яму арганізацыйна памагчы зладзіць свае імпрэзы, г. зн.: заладзіць усе фармальнасьці публічна-праўнага характару, локалу[61], аўдыторыі і т. п. Пэўне-ж не абыйдзецца тут мусіць і бяз помачы фінансовае на дарогу, бо сядзіць небарака *“на бабах”*. Але гэта хіба ня будзе так трудна, узяўшы пад увагу магчымыя пазьнейшыя даходы з імпрэзаў. Яму лягчэй тут будзе дастаць візы ўездныя, калі атрымае ад вас запросіны адтуль.

Ён мае дакуманты прафэсіянальнага артысты, зь якімі публічна выступае. Канцэртаў вылучна сваіх солёвых, як калісь у нас Забэйда[62],

[58] **Станіслаў Грынкевіч** (1912—1966), грамадзкі дзеяч, колішні рэдактар бэрлінскіх пэрыёдыкаў “Раніца” й “Беларускі работнік”. Ад 1950 г. жыў у Кліўлендзе (ЗША).

[59] 20 студзеня 1954 г. старшыня БІНіМу Янка Ліманоўскі зрокся свае пасады й ягоныя функцыі сапраўды стаў выконваць віцэ-старшыня — Вітаўт Тумаш, які ў 1955 г. ужо афіцыйна быў абраны на кіраўніка Інстытуту (заставаўся ім да 1982 г.).

[60] **Пётра Конюх** (1910—1994), грамадзкі дзеяч, сьпявак. У 1945 г. атрымаў стыпэндыю для навучаньня ў Рымскай акадэміі мастацтваў, якую закончыў у 1951 г. Пазьней удзельнік хору данскіх казакоў пад кіраўніцтвам Сяргея Жарава. Езьдзіў з гастролямі па Эўропе й Амэрыцы.

[61] Маецца на ўвазе месца жыцьця на час паездкі.

[62] **Міхась Забэйда-Суміцкі** (1900—1981), сьпявак і пэдагог, які ў 1932—1934 гг. вучыўся ў Італіі. Пасьля вайны жыў у Празе. Тут Татарыновіч, відаць, мае на ўвазе сольныя канцэрты Міхася Забэйды-Суміцкага, якія ён даваў у Беларусі ў 1935—1936 гг.

іх тут яшчэ ня ладзіў, але гэта залежыць хіба ад абставін, якія яму створыце. Прафэсары тутэйшыя як галасы рэцэнзыйна-кампэтэнтныя маюць, праўда, засьцярогі некаторыя што да яго субтэльнасьці й фінэзыі[63] выкананьня, аднак ставяць сілу і арыгінальнасьць голасу ягонага як фэномэн нязвычайны, які пры дабраным рэпэртуары можа выклікаць нязвычайнае ўражаньне. Прафэсар Карповіч[64] Вам акрэсьліць яго больш фахова, ён і дарадзіць вам, якога характару могуць быць імпрэзы. Ён тут рэпэртуар беларускі мае, праўду сказаць, ня надта багаты, усё намагаецца пераклады рабіць з расейскага, але ў вагульным трэба сказаць — мае з чым выступаць. Аб гэтых рэчах зрэшты магчымем пасьля напісаць абшырней і канкрэтней. Цяпер галоўна падрыхтоўваць магчымасьці арганізацыйныя, тэхнічныя далейшыя. Добра было-б, каб гэта правёў Інстытут: бо калі-б ініцыятыва вашая аказалася няздатнаю, дык ён шукаціме помачы на старане або ў нашых опозыцыяністаў, сярод якіх мае прыяцеляў, або ў палякаў, якія, між іншым, ужо пісалі яму, радзячы, каб без свайго імпрэсарыя ня ехаў. Цяпер тымчасам ён чакае надзейна помачы ад беларусаў і мае найшчырэйшую інтэнцыю прыслужыцца беларускай справе: трэба восьжа гэты настрой у яго ўтрымаць. Можа Вы напішаце яму слоў пару і наагул распачнеце зь ім арганізаваць усю справу. Я тымчасам на два месяцы выяжджаю з Рыму, бо вельмі дрэнна чуюся, хачу адпачыць. Адрэс ягоны: *Roma, via Lucrezio Caro 51, presso la Signora Borucchia*. Паведамце наша грамадзтва тамашняе, каму трэба, хай справу абмяркоўваюць, асабліва сілы артыстычныя, як кампазытара Куліковіча[65]. Можа-б ён яму прыслаў што адпаведнае для вашай аўдыторыі арыгінальнае беларускае. Карповіч прыслаў быў тут яму свае апрацоўкі “Курган”[66]. Рэч трудная, але яшчэ здаецца яны тут яе выконваюць кампазыцыйна.

Трэба вашае грамадзтва там крыху падварушваць, бо ўсякне ў той тамашні бабілёнскі пропасны грунт і загіне для бацькаўшчыны.

---

[63] **Finezja** (пол.) — вытанчанасьць.

[64] **Алесь Карповіч** (1908—1992), кампазытар, грамадзкі дзеяч, сябра БІНіМу. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Заходняй Нямеччыне, дзе працаваў як выкладчык у музычнай школе ў Ольдэнбургу. Пазьней пераехаў у ЗША, жыў у Нью-Ёрку.

[65] **Мікола Куліковіч-Шчаглоў** (1893—1969), кампазытар, музыка, музыказнаўца, грамадзка-культурны дзеяч. Ад 1950 г. — у ЗША. Сябра БІНіМу. Спачатку жыў у Нью-Ёрку, дзе кіраваў хорам. Пазьней перабраўся ў Кліўленд, а ад 1959 г. жыў у Чыкага й кіраваў хорам беларускай грэка-каталіцкай царквы Хрыста-Збаўцы.

[66] Маецца на ўвазе паэма Янкі Купалы.

Мяне запрашаў Амэрыканскі (а фактычна расейскі) Інстытут дасьледваньня *URSS*[67] да супрацы, але я адказаўся. Не пайду, пакуль на кіравецкіх становішчах сядзецьмуць расейцы. Др. Стась Станкевіч там ужо супрацуе быццам[68]. Плацяць ня дрэнна. Мусіць-жа і ў вас там нехта ўдзельнічае ў гэтым Інстытуце?

Мюнхэнскага радыя беларускага[69] ў нас зусім ня чуваць, заглушае пякельная машына бальшавіцкая.

Добры артыкул зьмясьцілі вы ў апошнім нумары "Запісаў" аб правільным назове Беларусі ў іншых мовах. Новы доктар наш маладзец[70]! Трэба гэтую справу каваць далей, мусім-жа нарэшце гэтых варонаў наіўных нашых п[е]раканаць. У мяне тут у Рыме афіцыяльна настаўлена гэта справа добра, нажаль псуюць яе некаторыя із студэнтаў, як, напрыклад, Надсон[71], што недаўна прыехаў з Лондыну. Баюся, што іх "кангрэс" Руні[72] (*Pax Romana*[73]), які рыхтуюць тутака ў канцы верасьня, папсуе мне тут усе парадкі. Пішу "іх" кангрэс, бо я да "Руні" дзеля яе неправільнага "беларасейскага" назову не належу. Але пабачым. Здаецца, і Прэзыдэнт наш паважаны ў гэтай справе шмат вінават. Наагул, ня цікава неяк яно ўсё ў нас ідзе, Беларусь уместа эўропеізавацца, абмаскальваецца, ніяк ня можам выкараскацца з тае "славяншчыны" старабаўгарскае зь ейнымі грубымі тэрмінамі... Заданьні нашых навукоўцаў на гэтым полі вельмі вялікія.

Тымчасам канчаю. Пішэце мне да 29.VI. г. г. на вышэй паданы адрас, а ад 30.VI на: *Italia, Baldissero Canavese (Torino) Castello "Maria Consolata" Don P. T.*

Усяго Вам найлепшага і ўсім Вашым супрацоўнікам.

Татарыновіч.

---

[67] Маецца на ўвазе ўжо згаданы вышэй Інстытут вывучэньня гісторыі й культуры СССР у Мюнхене.

[68] Станіслаў Станкевіч супрацоўнічаў зь мюнхенскім інстытутам ад 1953 г. А 13 ліпеня 1954 г. на генэральнай асамблеі сябраў інстытуту ён увайшоў у склад навуковай рады гэтай установы.

[69] Беларуская рэдакцыя Радыё "Вызваленне" ў Мюнхене афіцыйна пачала сваю працу 20 траўня 1954 г. Трансляцыя перадачаў была скіраваная на савецкую тэрыторыю, але моцна глушылася.

[70] Маецца на ўвазе артыкул: Дунін, А. Др. Да пытаньня Whiteruthenia ці Byelorussia // Запісы БІНіМ. № 1 (5). Нью-Ёрк, 1954. С. 44—48. Аўтарам яго быў доктар хімічных навук Аўген Вярбіцкі.

[71] Аляксандар Надсан увосень 1953 г. паехаў вучыцца ў Грэцкую калегію ў Рыме.

[72] Маецца на ўвазе 5-ы зьезд (кангрэс) Беларускага акадэміцкага каталіцкага аб'еднаньня "Рунь", які адбыўся 27 кастрычніка 1954 г. у Рыме.

[73] ***Pax Romana*** — Міжнародны рух каталіцкіх інтэлектуалаў.

*Roma, v. Transpontina 18.*
7.VII.1955.

Паважаны Спадар Доктар.

Маю да Вас адну просьбу. Чыталі Вы хіба ў “Бацькаўшчыне” рэцэнзыю Ст. Ст.[74] майго перакладу “Эванэліі” і “Апост. Дзеяў”[75], у якой ён праз неабдуманасьць і бязь ніякай патрэбы ўставіў адну нефортунную засьцярогу, вяжучы слова “рэформамі” з Эванэліяй: *“хаця далёка ня з усімі “рэформамі” перакладчыка можна згадзіцца”*. Калі восьжа і Вы ўважацімеце за патрэбнае пісаць у “Запісах” што-небудзь аб гэтым перакладзе й выданьні, дык прашу гэткіх зацемак высьцерагацца; гэта бо можа фатальна падзеяць на некаторых чытачоў, якія гатовы зрабіць зь мяне другога Лютэра[76]-псэўдарэфарматара або яшчэ што горшае. Як бо можна Эванэлію рэфармаваць? Наагул прасіўбы не чапаць квэстыі языковае, каб не накладаць нашым раскапрышаным чытачом акуляраў упярэджаньня да гэткай кнігі. Каму гэта патрэбнае? Адным хіба ворагам нашым, сеючым дэфетызм у нашым народзе да ягонае роднае мовы й дэградуючы яе перад чужым культурным сьветам. Мае мовы гэткімі заўвагамі вышупомнены рэцэнзар не направіць; сьмею сьцьвердзіць, што яна ня горшая, калі ня лепшая, за мову “Бацькаўшчыны”. Інавацыі, аб якіх успамінае, дагэтуль крытыкавалі толькі пустагоны, паважаныя-ж языкаведы мне ўводзіць іх памагалі. Бо-ж кожны паважны адраджэнец бачыць тую крычачую неабходнасьць арыгінальнай тэрміналогіі, вызваляючай нас ад няволі суседніх шавінізмаў, асабліва на полі рэлігійным. Пэўне-ж, не ўважаюся за неабмыльнага ў маіх экспэрыментах; але калі хто бачыць іх нятрапнасьць, дык хай кампэтэнтна паможа замест негатыўнадэфетыстычнай[77] галаслоўнай крытыкі.

Ёсьць яшчэ адна рацыя, змушаючая заашчадзіць усебаковы аўтарытэт кніжкі: яна была спрэзэнтаваная Папе[78], які — як бачыце ў “Зьнічы” — выказаў сваё зь яе задавальненьне. Гэта для нас вельмі важнае як з гледзішча рэлігійнага, так і палітычнага. Ці выпадае пасьля гэтага публічна яе дыскваліфікаваць? Дэфэкты хай астаюцца між

---

[74] **Ст. Ст.** — крыптанім Станіслава Станкевіча.

[75] Маецца на ўвазе тэкст: Ст. Ст. “Сьвятая Эванэлія і Апостальскія Дзеі”. Пераклаў і падаў выясьненьні кс. др. Пётр Татарыновіч. Рым, 1954, 636 с. // Бацькаўшчына. 1955. № 25 (255). 19 чырвеня. С. 3.

[76] **Марцін Лютэр** (ням. *Martin Luther,* 1483—1546), нямецкі багаслоў, пачынальнік рэфармацыйнага руху ў Эўропе ў XVI ст.

[77] Ад ***defetyzm*** (пол.) — паражэнства.

[78] Маецца на ўвазе Папа Рымскі **Пій XII** (сьвецкае *Eugenio Maria Giuseppe Giovanni Pacelli,* 1876—1958), які займаў сьвяты пасад у 1939—1958 гг.

намі *in foro interno*[79] дзеля направы іх у наступным выданьні, асабліва тыя няпрыкметныя для чужынцаў.

Гэтую просьбу маю прасіўбы захаваць у сакрэце, асабліва перад Ст. Ст. Прасіў-бы толькі яе пераказаць у адпаведны спосаб, не парушаючы сакрэту, рэдакцыі "Беларуса", баюся бо, каб там жыўцом не перадрукавалі зацемкі Ст. Ст.

А цяпер крыху з жыцьця. Забралі Вам цэннага супрацоўніка Казака[80]. Шкада і для Рэдакцыі і для яго самога, бо-ж Радыё — гэта казённая (хоць добраплатная) проза. Цікава, хто ў вас будзе на ягоным месцы?

Я апошнім часам пачаў крыху прыхворваць і сяджу цяпер у горах, бяда, што разам з грудзьмі дый кішэнь недамагае. Не знаю, што такое, так мала плацяць нашы людзі за газэту: і Амэрыканцы нашы нешта зьбяднелі. Прыходзіцца з жабрачага собскага граша цягнуць гэтае няшчаснае выдавецтва. Пакуль меў помач на Эвангелію, дык пры ёй і газэта трымалася, а цяпер…

Атрымаў новыя кніжкі нашых Амэрыканскіх маладых паэтаў, якія просяць па-магчымасьці аплочваць. Пэўне-ж, плаціць трэба, але пасылаць эўропейскія грошы вам, дык гэта тое самае, што проці ветру мыльныя пузыры пушчаць. Я магу толькі адплаціцца сваім выданьнем кніжак, якія так магчымуць прадаць і выручыць грошы. Вось-жа прашу, калі ласка, сказаць гэта сп. Пеляса[81], які хіба-ж належыць да Інстытуту. Я пісаў яму праз Казака, і пісьмо вярнулася. Выбачайце, што пазваляю сабе выручацца праз Вас, Сп. Доктар, раблю гэта таму, што ня маю тут пад рукою іхняга адрэсу.

У нас тут бальшавікі прабавалі рассылаць "напаміны", каб вярталіся дамоў з эміграцыі; атрымаў і я, разам з газэтай бэрлінскага Камітэту "Возврашения на Родину"[82]. Адрэсы ўсёж-такі ад нейкага нашыя маюць.

Вернемся можа і бязь іх…

На гэтым і канчаю. Усяго Вам найлепшага, Сп. Доктар.

Татарыновіч.

---

[79] ***In foro interno*** (іт.) — даслоўна: ва ўнутранай адтуліне; тут: унутры.

[80] Рыгор Казак каля 1955 г. паехаў у Мюнхен працаваць у Беларускай рэдакцыі Радыё "Вызваленьне".

[81] **Уладзімер Пеляса** (1918—2004), грамадзкі дзеяч. Ад 1949 г. жыў у Нью-Ёрку (ЗША). У 1950-я гг. заснаваў уласнае выдавецтва, у якім выдрукаваў за ўласны кошт некалькі кніг беларускіх пісьменьнікаў-эмігрантаў.

[82] Маецца на ўвазе заснаваны ў Бэрліне ў 1955 г. **Камітэт "За вяртаньне на Радзіму"** ("*За возвращение на Родину*"), у 1959—1963 гг. — Камітэт "За вяртаньне на радзіму і разьвіцьцё культурных сувязяў з суайчыньнікамі".



Pamiaci Darahich Bratoŭ u Chryście, Pijanieraŭ i Zmaharoŭ-Mučanikaŭ za rodna-relihijnaje adradžennie Baćkaŭščyny, paśviačaju —

Pierakładčyk.

Darahoj i Mitaj Rajeccy, dziejnaj patryjotcy

Roma

H. SIEŃKIEVIČ

QUO VADIS

U BIEŁARUSKIM PIERAKŁADZIE

K. Dr. P. TATARYNOVIČA

RYM 1956

Кніга Г. Сянкевіча “Quo Vadis” у перакладзе Пётры Татарыновіча (Рым, 1956)
і дароўны надпіс перакладчыка на яе тытульным лісьце

*Roma, v. Camilluccia 24*
7.IV.1960

Паважаны Спадар Доктар,

Учора нарэшце выслалі Вам жаданыя здымкі, датычныя Скарыны. Нядаўна толькі далося іх выканаць, таму так позна адпісваем Вам ды высылаем. Дзякуючы ахвочасьці ды спрыту майго тут ідэальнага супрацоўніка а. Янкі Садоўскага[83], справу гэту далося неяк залагодзіць. Падабраўшы свабаднейшы час у сваіх унівэрсытэцкіх студыях, ён паехаў у Падую і іншыя гарады — аб чым хіба сам Вам пісаціме — на гэныя пошукі. Збавіў нешта 8 дзён. І прывёз 22 фільмовыя здымкі, рэестар якіх ён Вам залучыў. Ці ўсё гэта задаволіць Вашыя патрэбы, дык пабачыце. Пэўнаж — недахопы будуць. Віндакевіча[84], то тут знайшлі толькі ў старой дзяржаўнай акадэміцкай польскай бібліятэцы, у іншых няма. Ну й расейскіх біографаў ёсьць пара здымак, але-ж іх Вы маеце. Нажаль, перакладаў ня ўсьпелі Вам зрабіць. Але й самы выканаеце, бо няма нічога труднага. Калі-б што дзе яшчэ недаставала, дык пішэце. Я сабе перафатаграфаваў у значна пабольшанай форме, можа сёе-тое дзе выкарыстаю. Партрэт-фрэск паднішчаны[85], дык лепш яго зьняць бадай нельга. Але ён ня ёсьць нейкай старыною — перад сарака гадамі быў выкананы. Аўтар мо шчэ нат жыве. Цікава толькі, на чым ён абасноўваў падобу свайго малюнку.

Экспэдыцыя гэта каштавала каля 40 д[а]л[яраў] усё з усім разам. Вы ўжо прыслалі мне 5 д[а]л[яраў]. Стыдна дамагацца нам усяго (ён Вам напэўна рахунку не падасьць цэлага), бо-ж невядома, колькі з гэтага будзе карысьці, але калі маеце там нейкія магчымасьці хоць часткова зьвярнуць, дык будзем удзячны, бо ён бедны студэнт.

Што да іншых пошукаў — тае катахізмоўкі віленскага выданьня — дык дагэтуль безрэзультатныя. Вось і сяньня капаўся цэлы дзень у вадной бібліятэцы важнейшай і дарэмна. Задробная рэч, каб яе тут скрапна бібліятэкі перахоўвалі. Буду яшчэ ў ватыканскай бібліятэцы шукаць

---

[83] У часе свайго больш як 10-гадовага навучаньня ў Рыме Янка Садоўскі зацікавіўся Скарыніянай і актыўна дапамагаў у пошуку зьвязаных са Скарынам дакумэнтаў. Пазьней у Канадзе ён абараніў дысэртацыю, прысьвечаную кнігам Скарыны.

[84] **Станіслаў Віндакевіч** (пол. *Stanisław Windakiewicz,* 1863—1943), польскі навуковец, дасьледнік гісторыі польскай літаратуры, прафэсар Ягелонскага ўнівэрсытэту ў Кракаве. Тут, відаць, маецца на ўвазе праца: Windakiewicz, Stanislaw. Materialy do historyi Polakow w Padwie // Archiwum dla dziejow literatury i oswiaty w Polsce. T. VII. Krakow, 1892.

[85] Маецца на ўвазе партрэт Францыска Скарыны ў “Залі сарака” Падуанскага ўнівэрсытэту.

і спрабую шчэ ў польскіх, напрыклад, Змартыхвастанцаў. Але надзея слабая. Эванэлю і *Quo Vadis* тут апраўляўю, можа й “Зьніч” нарыхтую. Але-ж я дагэтуль усё чакаў на тыя запросіны той вашай бібліятэкі, аб якіх Вы пісалі — нажаль, не атрымаў. Ці перасылаць тады праз Вас? Можа і лепш было-б гэтак адрэваць? На люксус трудна спадзявацца, калі за аправу скураную запрасілі тут 6 тыс[ячаў] лір (10 дл), дык раблю скромную аправу, але прызваітую (калі італійцы не падгадзяць). Маю тут яшчэ пару кніжак “Казаньні” кс. Бобіча[86], Станкевіча[87], “Сьледам за Хрыстусам” перакл. С. Грынкевіча[88], монограф[ія] Кірылы Тураўскага[89] (яе хіба маеце) і “La Letteratura Bielorussa” G. Messina[90] ў італійскай мове (філософецкая) і яе хіба маеце ў Інстытуце? А кніжак а. Германовіча[91], дык штурмуйце Марыянаў. Я баюся пасылаць цэнных рэчаў, як, напр[ыклад], “Сьледам за Хрыстосам”, каб не прапалі. Гэта сяньня *“белы крук”*! Нідзе не знайдзеце! Прыдзецца Вам яшчэ зараз напісаць, што з гэтага Вы маеце, што даслаць Вам. І прыдзецца мусіць выставу адлажыць, бож калі пачнеце, як пісалі: за паўтара месяца (лічачы ад 1 сакавіка), дык знача позна. Я абсалютна ня мог за гэтыя справы брацца раней, бо тут прыдушаны быў іншымі справамі. Наагул я так ушрубаваны тут, што трудна думаць аб справах вонкавых.

---

[86] Магчыма, маецца на ўвазе выданьне: Bobič, I. Niadzielašnija Ewanhielii i nawuki / pad redakcyjaj Ad. Stankiewiča. Wilnia, 1921.

[87] Відаць, маецца на ўвазе Адам Станкевіч.

[88] Маецца на ўвазе выданьне: Kempijski, T. Śledam za Chrystusam: Čatyry knižki / Z lacinskaj pieraklau St. Hrynkiewicz. Wilnia—Lwou: Wyd-nie “Chryscijanskaj Dumki”, 1934. — 176 s.

[89] Магчыма, маецца на ўвазе выданьне на падставе дысэртацыі самога Пётры Татарыновіча: Tatarynovič, Pietro. S. Cirillo vesc. Di Turov e la sua dotrina spiritual. Roma, 1950. — 94 p.

[90] Messina, Giuseppe L. La letteratura belorussa. Firenze: Valmartina, 1952. — 147 p.

[91] **Язэп Германовіч** (1890—1978), рэлігійны дзеяч, пісьменьнік, пэдагог. Друкаваўся ў беларускіх выданьнях “Крыніца”, “Хрысьціянская думка”, пісаў пад псэўданімам Вінцук Адважны. У 1932—1936 і 1938—1948 гг. працаваў у Харбіне ва Ўсходняй місіі. У 1948 г. быў арыштаваны кітайскімі камуністычнымі ўладамі й выдадзены Саветам, асуджаны на 25 гадоў прымусовых лягерных работ. Адбываў пакараньне ў лягерах Сібіры. Па вызваленьні ў 1955 г. выехаў у Польшчу, адтуль у 1959 г. пераехаў у Рым і далей у Вялікабрытанію. Пасяліўся ў Лёндане ў Марыян Хаўзе.
Тут Пётра Татарыновіч, відаць, мае на ўвазе даваенныя выданьні Язэпа Гэрмановіча “Jak Kaziuk sabraŭsia da spowiedzi” (Wilnia, 1928), “Hanuliny kłopaty” (Wilnia, 1935), “Dobramu i Boh pamahaje” (Vilnia, 1939) і інш.

З высылкай буду чакаць Вашага паведамленьня, каб мець пэўнасьць, ці выстава тая будзе[92]. Кніжкі папрашу пад абсалютным забавязаньнем адаслаць мне назад! Гісторыя літаратуры італійскай толькі можаце забраць для інстытуту, калі ня маеце.

На гэтым і канчаю. Шчыры Вялікодны прывет і пажаданьні!

Татарыновіч.

*Roma, v. Camilluccia 24*
19.VI.1960

Паважаны Спадар Доктар,

Вось аж калі адказваю Вам на апошняе (з 26.IV) пісьмо. Мо што й благое ўсьпелі за гэткі час падумаць. Найгалаўнейшай прычынай гэткага марудзтва дык гэта тое, што ня люблю абычаго пісаць — хацелася ўжо нечым рэальнейшым пацешыць.

Расшыфроўку восьжа ня толькі тае адцемленае Вамі "знаходкі" Біск[упскай] Курыі, але і ўсіх дакумантаў, маем: і то не абыякую, а — куды саліднейшую за ўсе шляпкінскія[93]... Прышлося крыху на старасьць прысхнуць над гэтым гераглiфічным калупайствам ды ня раз патрывожыць майго прафэсара-карэктара, каб нарэшце даць нешта аўтарытэтнейшае. Розжніцу із цытатамі Шляпкіна ўбачыце самі: як на твор навуковы, дык недакладнасьці ня гэткія ўжо й пусьценькія...

У нашым адчытаньні і адпісе ўсе адносныя скароты паданы поўнаслоўна дзеля лепшае арыентацыі чытача. І тэкст навет памагчымасьці разложаны так, як у арыгіналах. Нажаль, у друку паданым зьнічавым, нельга было ўсіх знакаў зьмясьціць, як бачыце із залучніка. Падам іх паводля слоўніка цяпер: на здымцы дакуманту ледзь прыкметная групка літар (над тытулам) абазначае: *Jesus Cristus*. На маргінэсе зьлева верхні закрунтас абазначае "*Egsamen*", а ніжэйшы: "*Testes*". У іншых дакумантах яны ў мяне напісаны так, як у арыгінале на маргінэсе. Не прыслаў Вам дагэтуль, бо зьбіраўся перакладаць на беларускі, так як пераложаны гэты надрукаваны. А калі-б сапраўды мелі час Вы там зрабіць гэта самы, дык мо прысляць зараз? Я — прызнаюся — прыдушаны тут працай, бо апрача таго Ра-

[92] Маецца на ўвазе выстава беларускіх лацінкавых друкаў у Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы ў 1959—1960 гг.

[93] **Ілля Шляпкін** (расейск. *Илья Шляпкин*, 1858—1918), расейскі філёляг, палеограф, гісторык старажытнарускага мастацтва. Тут маецца на ўвазе публікацыя: Шляпкин, И. К биографии Франциска Скорыны // Журнал Министерства народного просвещения. 1892. № 4. С. 382—385.

дыя ды Рэдакцыі яшчэ вось прысьпеў і той Кангрэс *Eucharyst[yczny]* у Мюнхэне[94], не кажучы ўжо аб іншай тут сутаргні.

Не судзіце за маю "выскачку" з гэтым артыкулам аб Скарыне ды здымкамі[95]. Ніякім там "адкрыцьцём" не хваліўся я, паверце — ня рупіла тут мне *"як найхутчэй пахваліцца"* (як і з тамтымі каліcь здымкамі, што падаў Вам, зусім ня думаючы аб уводжаньні іх у Вашу навуковую манаграфію) — а проста не хацелася, як публіцысту, *"сьвятла трымаць пад накрыўкаю"*. Тым-болей, што сёй-той з важнейшых чужынцаў прыглядаецца "Зьнічу" тут…

Аб ролі маёй асабістай у гэтых росшуках можаце зусім не спамінаць, як і публікацыі наагул Скарынаўскае праблемы ці інш. Пра славу маю асабістую я зусім не зайздросны, ня ласы на пахвальную паднету, затое — дрыжу за добрую славу "Зьнічу", тут не асабістая, а ідэйная амбіцыя. Таму, выбачайце, што разьлічаў тут на Вашую выразумеласьць, застаўляючыся сям-там *"нашай Рэдакцыяй"*.

Вялікая шкода, што мой люксусовы паасобнік "Эванэліі" не пабачыў выставы[96] — як пішаце. Захавайце яго ў Інстытуце — нейкую ролю яму прыдумаем. Відно, зь якімі труднасьцямі й недахопамі Вы там змагаецеся і таму — нажаль — гэтак мала было экспанатаў. Няўжо лацінству на Беларусі прыдзецца зусім загавець? Духавенства нашае, таўкачы, не разумее свае ролі: замест адрожнівацца культураю ад Маскальшчыны — сьляпцом лезе ў вабоймы ёй, цягнучы за сабой і народ, на які Хрушчоў[97] із сваімі цянётамі толькі й чакае…

Але годзі, каб не сказаць зашмат. Пішэце! Ледзь не забыўся: грошай (40), аб якіх пісалі, не атрымаў. Таксама не атрымаў — скажэце Шукелойцу[98] — і тых абецаных 10 брашур.

Усяго вам найлепшага!

Татарыновіч.

---

[94] Маецца на ўвазе **37-ы Міжнародны эўхарыстычны кангрэс**, які адбываўся ў Мюнхене 31 ліпеня — 7 жніўня 1960 г.

[95] Маецца на ўвазе тэкст: Т. [Татарыновіч, Пётра]. Baraniem našych vučonych // Źnič. № 56. Travien – Lipien 1960. С. 7—8. У публікацыі падаваліся выявы знойдзеных у Падуі дакумэнтаў і партрэту Францыска Скарыны.

[96] Маецца на ўвазе згаданая вышэй выстава беларускіх лацінкавых друкаў у Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы.

[97] **Мікіта Хрушчоў** (расейск. *Никита Хрущев*, 1894—1971), дзяржаўны дзеяч СССР, Першы сакратар ЦК КПСС у 1953—1964 гг. Старшыня Савету Міністраў СССР у 1958—1964 гг.

[98] **Антон Шукелойць** (1915—2017), грамадзка-культурны дзеяч. Ад 1952 г. жыў у Нью-Ёрку. Сябра Галоўнай управы Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня.

*Roma, via Trionfale 6415*
11.XI.1966

Паважаны і Дарагі Спадар Доктар,

Шчыра дзякую Вам за падасланы матарыял ды запросіны да ўдзельніцтва ў юбілейным выданьні Скарынаўскім[99]. Пастараюся Вам перакладзікі зрабіць, абагнаўшы крыху мае тут напалеглыя работы выдавецкія ды радыёвыя.

Малатыцкая "базыліка"[100] — сапраўды сэнсацыя. У 1916 летам я прыяжджаў на вакацыі з Петраграду да Славутыч у Магілёўшчыне і крыху тады знаёміўся з гэнай правінцыяй, але пра Малатыцкі кур'ёз не давялося мне ад каго-небудзь даведацца, нешта ня ў памяці мне. Распачаў пошукі ў Ватыканскай бібліятэцы праз аднаго там працуючага знаёмага; калі не напаткаю нічога, дык прабаваціму ў Інстытуце Ўсходнім, і бязумоўна, пушчу гэта на найвіднейшае месца ў "Зьніч" ды нараблю гуку на ўвесь Рым. Хай ведаюць, што Беларусь — гэта не Гонолулу[101].



Пётра Татарыновіч. 1960-я гг.

[99] Маецца на ўвазе юбілейны скарынаведны выпуск "Запісаў", выданьне якога плянавалася на 1967 г., але пабачыў ён сьвет толькі праз тры гады (№ 5 (11), Мюнхен, 1970).

[100] Відаць, маецца на ўвазе касьцёл Сьвятога Станіслава ў в. Маляцічы (Крычаўскі раён Магілёўскай вобл.), які быў пабудаваны ў 1787—1794 гг. паводле праекту архітэктара Лаўрына Стуока-Гуцэвіча на замову магілёўскага арцыбіскупа Станіслава Богуша-Сестранцэвіча. Лічыцца, што касьцёл быў паменшанай у 8 разоў копіяй сабору Сьвятога Пятра ў Рыме. Пасьля паўстаньня 1830—1831 гг. будынак быў перададзены праваслаўнай царкве, а ў 1934 г. — разбураны.

[101] **Ганалулу** (анг. *Honolulu*) — горад на высьпе Ааху Гавайскага архіпэлягу, сталіца штату Гаваі ЗША. Тут Татарыновіч выкарыстоўвае гэтую назву як

І ці Вы ня проці таго, каб зьмясьціць у “Зьнічы” і перакладзікі Скарынаўскіх *litterae passus*? Гэта мо ня выглядаціме на нейкія канкурэнцыйныя выперадкі, а толькі дапаўнаціме тое, што там ужо зьмешчана аб Скарыне? Разумеецца, будзе зазначана, што дакумэнты прыдбаныя БІНІМ’ам.

Нехта падкінуў мне тут брашуру аб нацыянальнасьці Ів[ана] Фёдарава[102], першадрукара ў Маскве[103], але так у нявідзімку, што ня ведаю, каму дзякаваць. Калі гэта Вы, дык дзякуй Вам. Мо зьявіцца магчымасьць гэта выкарыстаць. Я назарэз пераладаваны працай і пры фатальнай маёй адзіноце не хаджу, але бегаю ад справы да справы.

Прывет Вам усім! Не забывайце!

Монс. Татарыновіч.

*Roma, v. Trionfale 6381*
20 чэрвеня 1971

Высокапаважаны Спадар Доктар,

Шчыра дзякую за ласкавую памяць і дабражаданьні маёй старэчасьці[104]!

Прызнаньні Вашыя маёй адданасьці ідэйнай, дык больш мяне застыдаюць, як цешаць — пры маёй далёкасьці ад тых ідэалаў, якіх ад мяне чакаеце. Падводжу вось падсумак маіх дасягненьняў, сьвяткуючы розныя ўгодкі, што зьбегліся ў гэтым годзе ды яшчэ ўкаранаваліся “Залатым Юбілеем Сьвятарства” і сьцьвярджаю, што на завяршэньне іх патрэбная шчэ хіба “50”. Гэта знача веку майго дзядулі, сьв[ятой] п[амяці], які адмерыў сабе 96, або брата ягонага, што адлічыў сабе 106.

Як *Post scriptum* паведамляю, што маю тут ад аднаго прафэсара зь Любліну цікавую нотатку для Вашых “Запісаў” датычна ўводжаньня “*казённага рытуалу*” каталіком-лаціньнікам на Беларусі. Калі не забудуся, дык перашлю праз чаканага тут “Госьця Сьвяткаваньня” Сп. А[нтона] Адамовіча.

З узаемнай да Вас глыбокай пашанай, Монс. Татарыновіч.

---

сынонім глухое правінцыі.

[102] **Іван Фёдараў** (каля 1510 — 1583), асьветнік, кнігавыдавец, заснавальнік рускага і ўкраінскага кнігадрукаваньня. Лічыцца, што паходзіць зь беларускага роду Рагозаў.

[103] Маецца на ўвазе выданьне: Лукомский, Владимир. Национальность и родопроисхождение Ивана Фёдорова, первопечатника в Москве. [Нью-Ёрк]: издание эмигрантов из Вязьмы, 1955. — 11 с.

[104] 2 чэрвеня 1971 г. Пётра Татарыновіч адзначыў свой 75-гадовы юбілей.


Permesso N. 182

PONTIFICIA COMMISSIONE
PER LE COMUNICAZIONI SOCIALI

Il Giornalista TATARYNOVIČ
Pietro
del Giornale (Agenzia, Radio - T V)
RADIO VATICANA
è autorizzato ad accedere alla Sala Stampa della Santa Sede per il periodo del Sinodo Episcopale
Vaticano, li 3 ottobre 1969
IL DIRETTORE

Пасьведчаньне Пётры Татарыновіча як супрацоўніка Ватыканскага радыё. 1969 г.

*Roma, v. Trionfale 6381/8*
3.VII.1971

В[ельмі] Паважаны й Дарагі Спадар Доктар,

Паўторна сьпяшу дзякаваць Вам за Вашыя паўторныя дабражаданьні з “цукеркаю” на “Зьніч”!

Міла й настройна адбылося тут маё сьвяткаваньне, акрашанае прысутнасьцю Вашай амэрыканскай дэлегацыі. Спадар Адамовіч — гэта сапраўды аўтарытэтны й адначасна дасьветчаны дзеяч нас на меру патрыархальную. Ня даўся ўпрасіць тут астацца крыху адпачыць, учора ўжо адляцеў у Мюнхэн на працу. Адкуль у яго тая вытрываласьць бярэцца і сіла ў гэтай фігуры скромнай? Падагрэў тут і мяне да вытрываласьці — панапісваў рэцэптаў сваіх кулінарскіх, заручаючы, што зь імі магу сьмела пачынаць наступную “50-ку”…

Дзякуй Вам, Амэрыканцам нашым, што настроілі яго сюды. Нагаварыў мяне адведаць Амэрыку. І ня выключана, што зьбяруся на сілах туды мо пад восень[105].

А тымчасам — усяго Вам усім Дарагім найлепшага!

Вас Монс. Татарыновіч.

---

[105] Пётра Татарыновіч сапраўды ажыцьцявіў падарожжа ў ЗША, але не ў 1971, а ў 1972 г.

*Roma, via Vergerio 16*
20.II.1977

*Illustrissimo Doktore*[106],

Дзякуй за апошні Ваш водклік. Аб кніжках не журэцесь. На днях вось нескольк пачкаў пайшло. Міхаліна малайчына! Не дамо тут загінуць... Паволі разашле хіба ўсе. Пэўна-ж, на белетрыстыку то мы небагаты.

Дзякуй асабліва за ўспамін дваццаціпяцігодкавы Беларускага Інстытуту Мастацтва й Навукі[107]. Можа ўдасцца й з "Запісамі" бліжэй пазнакоміцца.

Здароўем пахваліцца не магу, яшчэ ўсё рэконваленсцэнцыя[108].

Жадаю Вам далейшага добрага здароўя і ахвоты да памыснае працы.

Татарыновіч.

*Падрыхтоўка да друку й камэнтары*
*Лявона Юрэвіча й Натальлі Гардзіенкі*

[106] *Illustrissimo Doktore* (лац.) — выбітны доктар.

[107] БІНіМ адзначыў сваё 25-годзьдзе ў снежні 1976 г.

[108] ***Rekonwalescencja*** (пол.) — выздараўленьне.

***Тэма нумару: Італійская мазаіка***
*Да творчай спадчыны Пётры Татарыновіча*

***Пётра Татарыновіч***

# СПОГАДЫ

*Пётра Татарыновіч не пакінуў па сабе адмысловых пасьлядоўных успамінаў. Свае прынагодныя спогады-згадкі ён публікаваў у часопісе "Зьніч". Некаторыя зь іх і прапануюцца тут увазе чытачоў*[1].

## Помнік антырусыфікацыйнай стойкасьці[2] (у 50-я ўгодкі яго пабудовы)

У нюёрскім часапісе "Беларус" № 65/1958, у ваддзеле "Весткі з БССР", была зьмешчана зацемка –

*"На берасьцейскай абласной камсамольскай канфэрэнцыі, у дакладзе сакратара абласнога камітэту, быў прыведзены факт, што вучні вёскі Мядзьведзічы, Ляхавіцкага раёну, у часе летніх канікулаў памагалі рэмантаваць і ўладжваць касьцёл. Дакладчык падаў гэты факт як адмоўную зьяву сярод савецкіх школьнікаў"*[3].

Гэтая зацемка нейк хутка ды амаль бясссьледна ўцякла з поля цікавасьці агулу беларускіх чытачоў, быццам падавала яна нешта занадта абыднае ды дробна-лёкальнае, ня маючае агульна-ідэйнага значэньня. Тады як бязбожніцка-русыфікатарскія дзейнікі, нябось, не ўважалі факту ў ёй зьмешчанага за лёкальную дробязь, калі не маглі аб ім дыплёматычна замаўчаць, а муселі публічна акляйміць яго "адмоўнасьць"...

Ці не панукае гэта і нас, Паважныя Чытачы, больш утаропна зацікавіцца гэным фактам. Тады б мо выкрылі мы пад гэтай іскровай зацемкай цэлую гісторыю агульнейшага, ўсенароднага значэньня,

---

[1] Сярод спогадаў быў яшчэ тэкст: Dryhonič, P. [?], Dryhvič, P. [Татарыновіч, Пётра].Treba ich paznać (Uspaminy ab ś. p. Ks Dr. Stanisł. Hlakoŭskim) // Źnič. № 6—7. Luty — Sakavik 1951. C. 3—5. Ён быў перадрукаваны ў "Нашай веры" ў 1995 г.: http://media.catholic.by/nv/n1/art5.htm.

[2] Друкуецца паводле: Miadźviedzionak [Татарыновіч, Пётра]. Pomnik antyrusyfikacyjnaj stojkaści. (Ŭ 50-ja ŭhodki jaho pabudovy) // Źnič. № 50. Luty — Krasavik 1959. C. 3—6.

[3] Чырвоная змена. 1958. 5 студзеня.

фактаў нашай далейшай ды сьвяжэйшай адраджэнска-змагальнай мінуўшчыны, так прыгожа ўпамяткаванай монумэнтальнымі сьвятынямі, як — для прыкладу — і гэны *"рэмантаваны школьнікамі Мядзьведзіцкі касьцёл"*.

Пав[ажаныя] Чытачы нашы адумысна могуць ім любавацца на залучанай вось тут здымцы. Парываючая рэнэсансавая стройнасьць яго — сьмеем спадзявацца — здолее захапіць навет і найбольш тонкі мастацкі смак, узгадаваны мо ўжо на архітэктанічных цудах найбольш культурных цэнтраў, агляданых нашай беларускай эміграцыяй. Ня дзіва тады, што і шчыра-ўражлівая пабожнасьць вышуспомненых маладых Мядзьведзічан захапілася яго красою аж да такое адданасьці, ад якое вось ня можа адарваць іх і крывое камісарскае вока бязбожнага зьдзеку.

Ады-ж ня самая толькі маладая эстэтычная ўражлівасьць тлумачыць гэткую прывязанасьць да свае роднае сьвятыні й абраду. Тут ігралі ролю й глыбейшыя матывы, добра ведамыя аўтару гэтых слоў, як сыну тых-жа Мядзьведзіч: пабуджаў іх той магутны ўплыў спадчыннага прыкладу *дружнай непахіснай стойкасьці* іхніх бацькоўзмагароў проці абмаскальваньня іхняй натуральна ды рэлігійна апрычонай, шчыра каталіцкай, беларускай душы праз накіданьне нялюбае "казённае" веры і абраду. Гэты касьцёл для мядзьведзіцкае (дый ці толькі для мядзьведзіцкае) моладзі гэта ня голая архітэктанічная, мілая воку, беленькая цацка ў зялёным вянку ліпаў — акрашаючая шэрую манатонію саламяных стрэх — гэта найдаражэйшы, глыбокапавучаючы, каранюючы гісторыю гэройскіх родзічаў, запісаўшуюся ў дзеях краю рэлігійна й этнічна абаронным *гартам*, ахвярна-творчым *потам* і шчырапаручаючайся Богу *сьлязою*.

Гадоў за пяцьдзясят таму на тым-жа ўсьвячаным узгорку, дзе сяньня красуецца новы — у цяню тых-жа стараветных ліповых прысадаў яшчэ таіўся пад саламянаю, украдкам крытаю страхою стары касьцёл, прыгорблены, з бусьліным гняздом, заміж крыжа, на вежы ды празорліва сьцеражоным Найсьвяцейшым Сакрамантам у аўтары... Ён ад 1882 г. быў разам з парахвіяй закрыты царскім ваюючым праваслаўем. Ім — як тыя школьнікі сяньня новым — даўнейшыя Мядзьведзічане апякаваліся дзень і ноч праз 19 год — вартуючы, (схаваўшы ключы ў рэчцы), рэмантуючы ды ўладжваючы для вонкавых пад сьценамі набажэнстваў (саматужных, бо каталіцк[ія] духоўнікі былі забароненыя) — аж пакуль Японская вайна ня змусіла гэнае *"гурамісіянарства"* да талеранцыі й не атрымана дазвол на абнаўленьне парахвіі й сьвятыні дэкрэтам з 28 кастрычніка 1905 г. Узброеныя шчырай верай у блізкую прысутнасьць між імі Ўсемагутнага Збавіцеля (Сакрамантальных Пастацяў Якога бяз ключоў схаваных нельга было вынясьці з аўтара пры апячатваньні сьвятыні) не баяліся

Мядзьведзічане крывога вока маскальскага начальства, забараняючага *“по высочайшему повелению”* гэны (калоўшы ім тое вока) помнік лацінскае культуры зь незалежніцкіх часаў Літвы-Беларусі аднаўляць; каб хутчэй, бач, на яго месцы ў зьлітнай блізу шасьцітысячнай чыста каталіцкай ды чыста беларускай гушчы — як ня даўшайся апалячыць, так не даваўшайся, дзеля свае абароннае, па духу інтэрнацыянальнае лацінскасьці, і русыфікаваць — каб хутчэй у гэткім вось месцы згарусьціць сваю, гэрархічнай дысцыплінай, духам, моваю ды цыбулястым стылем русыфікатарскую царкву. Кажам *“згарусьціць”*, — часта бо на стылы сваістым лацінскай сьвятыні (адабранай) тыя цыбулястыя надбудоўкі, што меліся *“обязательно”* надаваць ёй *“истинно-русский”* характар, выглядалі — даруйце за слова — як на вярбе дулі...

А шчэ горшую карыкатуру тая-ж русыфікацыя вытварала з арыгінальнае душы беларускае, зь ягонай сваістай асцэтычнай псыхікі, мовы, часта фатальна кантрастуючай і эстэтычнасьцю фонэтыкі і адваротнасьцю этымолёгіі з выгадаванай на дыялектычным македонскім прымытывізме расейшчынай. Няграматнаму ў гэтай (не ў пагарду кажучы, бо-ж мо каму й надта мілай) мове каталіку беларусу дык страшна было, напрыклад, праслаўляць Бога літургічным эпітэтам *“Преблагій”*, бо пабеларуску фонэтычна-ідэнтычнае слова сынонімізуе із словам *“самы дрэнны”*. Беларусу прыкра выгаварыць і тое, што Маці Божа *“во чреве”* (у чэраве) насіла Сына Божага, бо-ж у ягонай мове слова гэтае не належыць да далікатных. Яму такжа трудна вырабіць эстэтычны смак, пашану, і да фонэтычна-сьлізкага слова *“поп”*, або хоцьбы й *“цар-ква”*, фонэтычна й палітычна яму нагадваючая хутчэй цара маскоўскага (што квапіцца так на іхні касьцёл), чым Цара Нябеснага. Псыхолёгічна тут трэ было беларуса разумець ды не ставіць яму таго



Histaryčn. značennia kaścioł u Miadźviedzičach

ў віну й не караць арыштамі, высяленьнямі (бацька аўтара гэт[ага] арт[ыкулу] апрача вастрогу быў 2 гады на высяленьні), насыланьнем казакоў (у Мядзьведзічах нешта зь месяц стаялі) ды бізуновымі *"хрэзьбінамі Мацюкоў"*, за тое, што бараніўся ад накіданьня яму гэнае мовы *"как родной"*, маючай замяняць сваю матчыную. Лягчэй ужо яму было згадзіцца з чужонасьцю, хоць далейшай, мовы літургічнай, тэолёгічнай, ці адміністрацкай, як напрыклад, лацінскай, (старэйш[ыя] мэтрыкі былі пісаныя па-лаціне) паколькі прышчапляньне яе ня было заквашана падступным шовінізмам, а абсалютная рожнасьць проста дамагалася перакладу на мову матчыную, дый паколькі культурнасьць яе мела куды вышэйшае й шырэйшае, інтэрнацыянальнае значэньне; ня кажучы ўжо аб тым, што гэта была мова ягонай веры.

Забарона разьвіцьця тае дапаможнае матчынае мовы ды накіданьне этнічна й вызнаньнява нямілай — маскоўскай уганяла беларусаў каталікоў у другую шавіністычную небясьпеку, польскую, якая выдавалася ім нагэтулькі меншай, наколькі была бліжэйшай і вераю, зь ейнай лацінскай культурай, і палітычным паняволеньнем пад супольным акупантам.

Але былі гэта ўжо часы нацыянальна-адраджэнскага прадвесьня; часы ня толькі казачых, але й Багушэвічавых "Хрэзьбінаў Мацюка", г. зн. сьведамага змагальнага цярпеньня за сваю веру і мову, якое ўжо не забівала, а гартавала ідэйнага духа, так дабітна адлюстраванага ў патэтычных радкох вышмянаванага вершу —

> *"Ах біце ж, біце мацней, —*
> *Мацнейшы ад веры вашай Мацей!"*.

Народ ужо, як бачым, натхняўся сваімі пакутамі і да ўзгадаваўчалітаратурнага, паэтычнага, і да арганізацыйна-актыўнага адраджэнскага ўздыму, што-раз болей абяззбройваючы й кампрамітуючы перад сьветавай апініяй суседнія шовінізмы ды змушаючы іх да талеранцыі. Хоць талеранцыя тая з боку расейскіх уладаў была яшчэ даволі зыгзагаватая, то ўсё-ж упусьціла крыху жыцьцядайнага паветра і Мядзьведзічы яе, можна сказаць, наўзорна выкарысталі: адважна, дзейна, ахвярна, пэрспэктыўна. Калі, напрыклад, нельга было просьбы на *"высочайшее имя"* аб узнаўленьні парахвіі й касьцёла падаць праз круцельскае начальства, дык пасылаюць яе праз свайго сярмяжнага дэлегата (бацьку аўтара гэтых слоў) аж у самы *"Зимний Дворец"* даручыць асабіста. Калі *"становой пристав"* у адкрытай зараз-жа пасьля касьцёла і парахвіяльнай школе сканфіскаваў лемэнтары (між імі былі ўжо й беларускія друк[аваныя] лац[інкай]) дык зьбегшыяся зь дзяцьмі на руках парахвіянкі адабралі іх назад, шчэ й вышпарыўшы канфіскатара дубцамі, што аж стыдаўся прызнавацца да свае бяс-


Biełaruski Narodny Dom u Miadźviedzičach

слаўнае капітуляцыі; так, як стыдалася потым уезднае начальства даўжэй трымаць за гэта тых *"мяцежніц"* у Слуцкай вязьніцы, бо няўпынна пялі там свае пабожныя песьні. Калі на пабудову новага касьцёла, на месцы згрыбелага ад вякоў (пры разьбіраньні прызнавалі старабудульцу найменш 200 год, а грубезнай мо ў 5 абхватаў ліпе ля клябані — да 400), ды забарону рэмонту старога, нельга было спадзявацца на казну (фінансаваўшую толькі цэрквы), дык дружнадзейныя мядзьведзіцкія сярмяжнікі пабудавалі яго сваімі мурашкавымі ахвярнымі складкамі і працаднямі пры прадукцыі й даставе будульцу ды мулярцы.

Гэтак вось із непераможнай натуральнай тугі й любасьці да Бога ды ўсяго роднага; із прыкладнай самаабароннай дружнасьці (*"адзін за ўсіх і ўсе за аднаго!"*) ды паслуху свайму першаму, нязвычайна ініцыятыўнаму, пробаршчу[4], кс. Вінцэнту Гарасімовічу, (беларусу: гл. "Хрысьціянства й Беларускі Народ" — кс. Ад[ам] Станкевіч, Вільня 1940, б. 167), з выслужанай за ўсё гэта Божай помачы — паўстаў той апісваны тут слаўны помнік.

На белым, зараз ад пасады ірвучымся ўвысь, бы "Вежа Эйфля", фронтоне сьвеціць ён любуючамуся із галоўнай вуліцы местэчку сваім далёкапрыкметным падзячна-трыумфальным напісам *"GLORIA DEO"* (Хвала Богу!).

Сьвеціць вось ужо паўвеку. Летась на сьв. Пятра й Паўла, імям якіх сьвятыня гэта тытулуецца, мінула круглых 50 год ад таго вялікапомнага дня (29.VI.1908) ейных высьвяцін, у якім залітыя адусюль народам Мядзьведзічы рабілі ўражаньне хіба ўсебеларускага мора трыумфуючай аднадушнасьці. Гэта бо ня быў абыдны парахвіяльны фэст — гэта быў існы плебісцыт трапіўшай да праканаўньня масам вызвольна-адраджэнскай, грамадзка-прасьветнай, харытатыўнай, рэлігійнасьці, якою Мядзьведзічы, дзякуючы выбітнай актыўнасьці свайго шырокапапулярнага пробаршча ўсьпелі да гэтага дня адзначыцца і стацца атракцыйнымі. У галодным 1907 г., напрыклад, яны сваёй парахвіяльнай пякарняй карміліі недаядаючых із усёй ваколіцы; і кс. Гарасімовіч куды аўтарытэтнейшым стаўся тады ў народзе, чым

[4] Так у тэксьце.

губарнатар. Зілюструе мо' гэта наступны, хоць дробны, але вымоўны эпізод.

Вяртаецца ён раз нейк зімою із Мядзьведзіч да Клецка, другое свае парахвіі, дзе рэзыдаваў стала. Дарога ад сьнежнай намеці была цяжкавата. Клыгае па ёй, засопшыся, нейкая пажылая ўжо кабеціна.

— Садзіся, бабка, падвязём — кажа ёй, спыніўшы фурмана, кс. Г.

— Да хто яго, панок, дзякую! — цэрэмоніцца зьдзіўленая крыху жанчына — ці мне гэткай... на вашым возе... Хоць труднавата, але нейк дайду.

— Няма чаго саромяцца ў гэткай дарозе — асьмельвае небарачку непазнаны кс. дабрадзей — садзіся, бо-ж змаглася, ня дойдзеш.

— Мусіць-жа й здалёк недзе йдзеш? — заводзе па хвіліне, (як у яго было ў звычаю), гутарку, калі ўкошкаўшаяся ў воз спадарожніца крыху адсаплася ды пасьмялела, пачуўшы "простую" мову.

— Хадзіла туды ў каталікі аж да Мядзьведзіч. Мо й дагадаецеся чаго, бо хіба-ж чулі пра тамашняга вельміж нейкага разумнага ксёндза, што выпісвае аднекуль муку ды раздае бедным, каб яму Бог шчасьце нябеснае даў! Узяла вось квіток на яе ды баханок хлеба із ягонай пякарні тамака — вось бачыце, які харошы, як сонейка! А народу-ж там, народу, ля тае кухні!

— Ня дзіва! Гэткая галадэча скрозь! — дасказвае дыскрэтна ксёндз — ні на полі бо не ўрадзіла, ні начальства помаччу не ўгадзіла.

— Народ той, дык проста й гаворыць, — цягне далей разгутараная жанчына. — *"Во, каб нам гэткага начальства, як кс. Гарасімовіч"*. Я то не пасьпела зь ім гутарыць, чула толькі, што такі-ж ужо высока навучаны, а да простага народу — нейк аж дзіва — гэтак во, як вы, панок, прыветны. У нашай-жа вёсцы, хоць і праваслаўнай, а ўсе аб ім гавораць. Гэтаж ня жарты — гэткі касьцёл для цярпеўшага народу выстройваць! Ды гэтулькі людзей накарміць!

— Кабета, кабета, каму ты гэта гаворыш! — ня ўцерпяў, наслухаўшыся ўсяго гэтага, фурман, які маніўся мусіць яе настаўляць, але яна перарвала, зьвяртаючыся да "пана":

— Выбачайце, ваша скародзе, можа й вы які начальнік ды вам прыкра ад мяне, простае, гэта ўсё было слухаць, але хацелася толькі сказаць, што на душы было.

— Я гэткі "начальнік", якога ня трэ' баяцца, а толькі маліцца, каб яму Бог памагаў, — закончыў ксёндз.

Гэтага аднак замала было той жанчыне, каб дагадацца каго хваліла й каму дзякавала, злазячы з воза ля свае вёскі. *"Qui pro quo"*[5]

---

[5] ***Qui pro quo*** (лац.) — Хто замест каго. Тут азначае непаразуменьне, блытаніну, здарэньне.

ёй раскрылі толькі потым — таму й дайшла гісторыя гэтага праўдзівага эпізоду да нас.

Такою вось моральнаю нагародаю ўдзячнага народнага прызнаньня абдарыла нагода гэтага выбітнага ідэйна-грамадзкага дзеяча. Затое інакш яго *"абдарыла"* пасьля паганае начальства: ссылкі (у Архангельск) усёж-такі змусіла пакаштаваць. Але гэта зрабіла яго шчэ больш папулярным, а адраджэнска-ідэйны засевак яго больш ураджайным.

У народзе, талкова настаўленым абясьпечаным рэлігійна, запульсавала і культурна-асьветнае ды сацыяльнае жыцьцё ў духу нацыянальнага адраджэньня тагдышняе "Нашаніўскае пары". Падрастала душпастырамі (пераваж[на] белар[усамі]) выцягваная із шэрай вёскі ў гарады патрыятычна-інтэлігэнцкая моладзь, навет духоўніцкая. Аўтар гэтых слоў, напрыклад, таксама заўдзячвае сваё пакліканьне ініцыятыўнаму кс. Гарасімовічу. Першая сусьветная вайна (трохгадовым сваім фронтам над акрываўленай Шчарай) ды рэвалюцыя хоць знурыла народ матарыяльна і маральна, то ўсё-ж разварушыла ідэйна. Так што ў 1918 г. Мядзьведзічы ўжо патрапілі паслаць свайго бойкага дэлегата (Язэпа Сьвірэпу) на Ўсебеларускі Кангрэс; а пасьля "Акту 25 Сакавіка", калі творча-незалежніцкая ідэя магутным струмам пайшла ўсюды ў народ, яны пад правадніцтвам свайго пробаршча — адчайнага дэмакрата — кс. А. Хрулевіча[6] з падручнымі студэнтамі, ставаліся адным з наўзорных каталіцкіх бастыёнаў Беларусі. Казнадзейства й поза-імшальныя набаж[энствы], школьніцтва, гмінны самаўрад, каапэратыўная акцыя, разрыўковыя імпрэзы і г. д. — так асвоіліся былі ўжо зь беларускай мовай, што ніхто й піснуць проці яе ня сьмеў. Тая ж мова й бараніла на мітынгах незалежніцкую ды хрысьціянскую ідэю Беларусі проці бальшавіцкіх подступаў, сулячых "сваю" Беларусь. Яна фактычна валадарыла над душою Мядзьведзічан, хоць ужо неафіцыяльна, і праз увесь пэрыяд польскага гаспадараваньня, даючы галасы на беларускіх парлямантарыстаў, увайходзячы ў школу, як утраквістычная[7], ды вядучы беларускія арганізацыі. Цэнтральны лёкаль іх падаём вось тут на здымцы — пры касьцельным пляцы, уладжаны наўзорна: зь бібліятэкай, заляй для паседжаньняў і спэктакляў, а ў ёй фартап'ян ды настраёвы камінак; навонкі даволі прасторная вэранда ў зелені й гэктаровы пляц, могучы эвэнтуальна служыць і для спартовых уладжаньняў. Пабудаваны ў 1935—1936

[6] Маецца на ўвазе ксёндз **Аляксей Дэвольда-Хрулевіч**, які быў пробашчам у Мядзьведзічах у 1914—1918 (?) гг.

[7] **Утраквістычны** (пол. utrakwistyczny) — двухмоўны.

паводля пляну Інж. Дубейкоўскага[8], ведамага беларускага дзеяча зь Вільні. Станавіў уласнасьць кс. П. Татарыновіча. За кароткі час свайго, хоць путанага польскім шовіністычным урадам, функцыянаваньня стаўся ён праўдзівым сэрцам беларускага грамадзка-патрыятычнага дый рэлігійнага жыцьця, асабліва моладзі пад верхаводзтвам мясцовай студэнтэрыі. Слаўная моладзь! Яе ўжо нельга было зьвязаць паліцыйным пужалам. Калі Баранавіцкі стараста апячатаў бібліятэчныя шафы (лёкаванага там Белар[ускага] Інст[ытуту] Гасп[адаркі] і Культуры[9]), дык праз плечы гэных шафаў даставалі хлопцы кніжкі ды чыталі. Сяньня гэты цэнтр ужо ня існуе. Стаўся балючай ахвярай бальшавіцкага агню ненавісьці. На месцы яго згарусьціў сабе інтымную "рэзыдэнцыю" нейкі насланы маскаль.

*Нашчасьце, уцалеў і дагэтуль функцыянуе, як відно з уступное зацемкі, найдаражэйшы тамтэйшы скарб — касьцёл, і аддана яму гэройская моладзь. Тая моладзь, што ня толькі ўладжвае яго, як гавора зацемка, але й абараніла ад бязбожнае канфіскаты на кіно і камсамольскі клюб.*

*Праз тры месяцы трывала абароннае змаганьне. Народ, днямі й начамі вартаваў яго, як калісь іх бацькі-дзяды — той стары (таксама схаваўшы ключы ў рэчцы). На трывогу, падчас наступу канфіскатараў, зьбягаліся таксама жанчыны зь дзяцьмі й крычалі: "па трупах нашых толькі ўвойдзеце й заграбіце нам гэту дарагую сьвятасьць мучаніцкіх бацькоў нашых!". Із старэйшых абаронцаў найгарачэйшым быў сьляпы званар Кастусь, які адчайным сваім прыкладам заахвочваў да адвагі й іншых.*

*Да сьлёз кранаючая вера ў Бога й любасьць да ўсяго сьвятога і роднага! І выслужыла-ж яна ледзь ня цуд — "крануліся" ёю й канфіскатары ды адступілі.*

*Мядзьведзёнак [Кс. Пётра Татарыновіч.]*

[8] **Лявон Дубейкаўскі** (1869—1940), грамадзкі дзеяч, публіцыст, архітэктар. Ад 1890-х гг. ён займаўся аднаўленьнем каталіцкіх храмаў на Магілёўшчыне, Смаленшчыне ды інш.

[9] **Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры (БІГіК)** — культурна-асьветная арганізацыя ў Заходняй Беларусі, якая дзейнічала ў 1926—1936 гг.

## З нагоды саракавін майго сьвятарства[10]

Ёсьць у людзкім ідэйна-дзейным жыцьці мамэнты, даты, мацней прыцягаючыя нашу ўвагу, будзячыя глыбейшы сэнтымэнт ды арыентацыйную застанову; зь імі бо зьвязаны часта дэцыдуючыя[11] для таго жыцьця (адзінкі ці народу) падзеі. І чым болей аддаляюцца яны ў гісторыю, тым урачысьцей звычай сьвяткуе іхнія ўспаміны, юбілеі, каб не аслаб уплыў гэтых падзеяў на жыцьцё.

Саракавіны! Праўда гэта йшчэ не "залаты" юбілей (пяцьдзесяцігодзьдзя), а тымболей ня "брылянтовы". А ўсё ж блізкі ўжо "залатому", з вышыні бо яго на пройдзеным шляху ўжо відна тая бялеючая верхавіна жыцьця, да якое ўздыбаемся рэшткаю нашых сіл... І як той альпіністы, усьпінаючыся да сьнежных верхавін гары, час-адчасу кідае вокам уніз, каб налюбавацца што-раз шырэйшаю панорамаю пад сабою, так і юбіляту карціць зірнуць з вышыні свае гадавіны на панораму пражытага шляху, у даным выпадку ідэйнасьвятарскага шляху.


Prymicyjant

І там далёка яшчэ на розьвідні жыцьця сьведамага, у гаротнай вясковай сям'і роднае Случчыны, бача ён сябе — кволага фізычна, ўражлівага псыхічна — хлапчыну, цікавасьць якога не магла задаволіцца манатоніяй шэрых будняў вузкога сялянскага асяродзьдзя, а горш за ўсё — пастушынае самоты. Як рад быў сяброўскай кампаніі, сьвежаму госьцю, апра-

[10] Друкуецца паводле: ks. P. T. [Татарыновіч, Пётра]. Z nahodysarakavinmajhosviatarstva// Źnič. № 61. Krasavik — Cervien 1961. С. 1—3.

[11] **Дэцыдуючы** (ад пол. *decydujący*) — вырашальны.

мяняючаму будзёншчыну ў хаце, асабліва роднаму дзедухне зь ягонымісна пэдагогічным — вясёла заахвочваючым, а ніколі прынукаючым — падыходам да маладое лакнае цікавасьці, умела запладнянай і скіроўванай у жаданым (як потым аказалася) для бацькоў напрамку — духоўніцкім. Багаты й абызнаны (як калішняга закрыстыяна, блізкага сьветкі духоўніцкай працы, а за маіх часаў "бексяндзоўя" — дарэктара сялянскае хатняе самаасьветы) дый хапаючы за сэрца быў рэпэртуар ягоных павучаючых гутарак і сапраўды талентных расказаў пра даўнасьць і нядаўнасьць, як багатай і валадаючай настроямі была й тагачасная неўгамонная гісторыя рэлігійнага змаганьня з чарнасоценскай неталеранцыяй у нашай Мядзьведзіцкай парахвіі, а навет у нашай хаце (сьв. п. мой тата быў дэпартаваны і вязьнены як "*подстрекатель*"), уходзячага ўжо ў фазу свайго пералому на карысьць прасьледаваных. Царскі маніфэст з 1905[12] палажыў канец неталеранцыі, зракаючыся беспадстаўных пратэнсыяў да так званых "*замеченных приходов*".

Неадрэчы мо будзе адцеміць, што падчас таго ж змаганьня за веру, сярод нас радзіўся і нацыянальны, хоць мо толькі шчэ падсьведамы, інстынктовы, дух; калі бо вёўся ў стылю мураўёўскім прасьлед з матываў ня толькі царкоўных, але й нацыянальна-русыфікацыйных, дык і адпорная рэакцыя разбуджалася й вялася з тых-жа двух пачуцьцяў. На іх потым базавалася адумысловая адраджэнскаўсьведамляючая акцыя нашаніўскай пары. Поруч з малітаўнікамі й катахізмоўкамі ў сялянскай парахвіяльнай самаасьвеце сям-там пачалі паказвацца й беларускія лемантары. Вышуспомнены "*подстрекатель*" — помню — прывёз із самага сталічнага Пецярбурга (куды вазіў "*на высочайшее имя*" просьбу ад парахвіі на пабудову новае сьвятыні) між іншымі гасьцінцамі і гэткі лемантар.

Але гэта быў яшчэ толькі спарадычны прадвесьнік роднае асьветы. У школах прадсэмінарыйных прышлося гадаваць і "сьпяліць" інтэлігэнцыю на казёншчыне. Яна аднак ня здолела зацерці тых першаўспадобаў, што заложаны былі на дне ўражлівай душы тою, хоць прымітыўнаю, але натуральна шчыраю глыбокаўражліваю першаасьветаю роднае хаты.

На іх фактычна апіраў сваю рэлігійную пэдагогію і школьны Прэфэкт Кс. Ян Гродзіс[13] (у Слуцку), малады надта інтэлігэнтны

[12] Маецца на ўвазе **Найвышэйшы Маніфест пра ўдасканаленьне дзяржаўнага парадку,** выдадзены Мікалаем II 17 кастрычніка 1905 г. Сярод іншага дакумэнт абвяшчаў свабоду сумленьня, слова, сходаў і недатыкальнасьць асобы.

[13] **Ян Гродзіс** (1881—1942), каталіцкі сьвятар. Рукапакладзены на сьвятарства ў 1908 г. Ад 1916 г. быў настаяцелем касьцёлу ў Слуцку. Ад 1920—1921 гг. быў дырэктарам гімназіі ў Нясьвіжы.

акадэмік, які сваёю ўдухоўлена-скромнай ды надта культурнай і сымпатычна-прыстойнай павярхоўнасьці, пэрсонаю ўасабляў той ідэал духоўніка, што ў маёй чыстай імагінацыі заснаваў слаўнай памяці дзед-першанастаўнік.



Na studyjach u Rymie
Stajać: arab, lićvin, rasiejec, čech, italijec.

Ён, школьны Прэфэкт, непадзельна заваладаў маёю, дый наагул усіх каталіцкіх вучняў, душою. Ягоныя бязь лішніх слоў, а поўныя эрудыцыі, выклады, актуальныя тэматыкай, цікавыя й дарэчныя зьместам, а надусё — чаруючыя існа мастацкім палётам думкі й дасканальнай стылістыкай, нядзельныя эгзорты[14], чаравалі даслоўна ўсю моладзь. Калі заімправізаваў раз — помню — той моладзі тры канфэрэнцыі Вялікапосных Рэкалекцыяў, дык мелася ўражаньне, што гэта былі тры разьдзелы існай часткі літаратурнай у форме рэтарычнай дыскусіі з жыцьця моладзі, асабліва “зялёных” лібералаў залётнікаў... Залаты гэта быў чалавек, пэдагог і сьвятар прыцягаючы да сябе моладзь і натхняючы яе ідэйна. Якой амбіцыяй было паслужыць яму да Імшы сьв., або паезьдзіць зь ім пад руку зімою на коўзьлях (каньках). Паводля несправўджаных чутак — быццам падчас гэткай гульні з моладзьдзю й жыцьцё скончыў на ўламаўшымся лёдзе Нясьвіжскага возера за свайго пазьнейшага гімназіяльнага дырэктарства. І любіла-ж ды шкадавала яго моладзь! Двух у нашай клясе было каталікоў і абодва ўступілі ў Духоўную Сэмінарыю — не нагавораныя проста з мосту, але ачараваныя ўасабляным праз яго сьвятарствам. Вынесеную з роднае хаты іскру хлапчачае ўпадобы да духавенства і прыгаства дому Божага ён, каханы мой Прэфэкт, Кс. Ян Гродзіс, апостал моладзі, разжухаў у полымя сьведамага здэцыдаванага сьвятарскага покліка.

Але гэта яшчэ ня быў той грунтоўны поклік паводля тэолёгічнага акрэсьленьня: idoneità conbuona volontà — як метка гаворыцца па-

[14] **Эгзорты** — духоўныя лекцыі-казані, звычайна з маральнае тэматыкі.

італійску = ня толькі ахвочасьць, але і здатнасьць, галоўна надпрыродная, каторую трэ было фармаваць мазольнымі студыямі філязафічнымі й тэолёгічнымі ды вытрывалай асцэтычнай прахтыкай усабешняга духовага выrabленьня, жыцьця надпрыроднага сьвятарскага. Таму дрыжалі крыху кавалерскія ногі мае пераступаючыя (1915) парог гэткага жыцьця. Хутка аднак, амаль ля самага таго парогу, наіўная трывожлівасьць мая разьвеялася. Сэмінарыя аказалася ўсебакова так дасканальна да патрэбаў і празначэньня свайго алюмнату дарыхтавана, што тая выідэалізаваная здатнасьць здабывалася на крыльлях усё большай ахвочасьці й прыемнасьці, пры якіх маладосьць заміж (наіўна дамневанай) прыгнобы, чула эгзальтацыю, захопны парыў, для якога ніякая труднасьць ня была прыкрай і страшнай. Сапраўды, нідзе так даладна ня ёсьць пастаўлена пэдагогія навукова-ўзгадаваўчая, як у каталіцкіх духоўных установах. Да гэткіх установаў — і здаровай рэгулай, і высокавартасным цэнзусам прафэсарства, і сапраўды каталіцкім, інтэрнацыянальным (як у Рыме) духам суадносін — адзначалася бяссумніўна Сэмінарыя Магілёўская (у Петраградзе) зь ейным, крышталёвай справядлівасьці й дысцыпліны, цьвёрдааўтарытэтным Рэктарам, Балтрушысам[15] (ліцьвіном, як і яго вучань, Гродзіс), у якога ўсе нацыі мелі адзінакавае права на самаакрэсьленьне й разьвіцьцё. Ён-жа, як слаўны кананіст, сябра Дзярж[аўнай] Акадэміі Навук, быў прафэсарам і Дух[оўнай] Акадэміі, (адкуль выйшлі слаўныя протагоністы нашага адраджэньня). На ўзор Сэмін[арыі] і Акад[эміі] Магілёўскай фармавалася (1918) і Менская зь беларускай часткі алюмнату й прафэсароў гэных апошніх, зьліквідаваных рэвалюцыяй. Там фактычна ўгрунтавалася мая ідэйнасьць і сьвятарская, і нацыянальная, там атрымаў (1919) з рук Слугі Божага Біскупа Зыгмунта Лазінскага[16] першыя сьвятарскія высьвяціны — Субдыяканату, там аставіў найлепшую частку маей душы. Тыя-ж высьвяціны, якіх вось маю шчасьце саракавыя ўгодкі абходзіць, эміграцкая доля судзіла атрымаць, разам з тэолёгічным ліцэнцыятам (12.VI.1921) у Влоцлаўку[17].

[15] **Ігнаці Балтрушыс** (1864—1919), рэлігійны дзеяч летувіскага паходжаньня, каталіцкі сьвятар. У 1889 г. рукапакладзены ў сьвятары і стаў прафэсарам Пецярбурскай духоўнай сэмінарыі. У 1910—1918 гг. быў рэктарам гэтай жа сэмінарыі.

[16] **Зыгмунт Лазінскі** (пол. *Łoziński*; 1870—1932), каталіцкі ярарх, у 1917—1925 гг. біскуп Менскі, у 1925—1932 гг. — Пінскі.

[17] **Улоцлавак** (пол. *Włocławek*) — горад у Куяўска-Паморскім ваяводзтве Польшчы. Тут ад 1569 г. дзейнічае Найвышэйшая духоўная сэмінарыя Ўлоцлаўскай дыяцэзіі.

Было нас сямёх менчукоў (6 белар[усаў] і паляк) нэопрэзьбітэраў, высьвячаных *ad servitiam dioecesis Minscensis* = для абслугі Менскай дыецэзыі; улады аднак Влоцлаўскія, манючыся ўсіх прысабечыць, паназначвалі на становішчы ў сваёй дыецэзыі. Мы аднак усе салідарна — як прысягнулі Богу, дзякуючы за сьвятую іскру пакліку, аддаць яго свайму гаротнаму, духова асіраценаму народу, а ня чужынцам, і бяз нас шчасьлівым — так наадрэз і сказалі: дзякуем за ваш канфорт, пускайце нас на нашу каханую, апустошаную вайною й акрыўджаную палітыкай, Меншчыну — памагаць нашаму прасьледаванаму біскупу й народу!..

І кінуліся ў вір душпастырскай працы на парахвіях, па школах, дабрадзейных інстытуцыях, нацыянальных арганізацыях. Кіпела дзейнасьць. Рос энтузыязм, бо чуліся не самотнымі. Тады налічалася сьведамых беларусоў сьвятароў на этнічных прасторах беларускіх каля добрых дзьвюх соцень, але раскіданых пад рознымі больш ці менш лёяльнымі дыецэз'яльнымі юрыздыкцыямі. Найбольш лёяльнымі адносна беларусаў былі сьв. п. бп. Юры Матулевіч[18], архб. Ропп[19] і бп. Лазінскі. Іншыя аднак сілы не далі разгону.

Я пачаў сваю дзейнасьць ад соленнай Прыміцыі[20] ў дню свайго патрона Сьв. Пятра і гадавога парахвіяльнага фэсту, які сапраўды ператварыўся ў многатысячную правінцыяльную ўрачыстасьць ледзь не гістарычнага значэньня з увагі на сэнсацыю: пабачыць першага зь непамятных часаў ксяндза палескага паходжаньня з прасьледаванай калісь парахвіі... Хіба й сяньня яшчэ не замярло ў разбуджаных масах эха таго незабыўнага цуду Божага міласэрдзя, як не замярло яно ў маім сэрцы...

Чым больш аднак абмацоўвалася чужанацыянальнае панаваньне ў нашым акупаваным суседзьмі краі, тым менш станавілася таго духавенства сьведамага. У народзе, праўда, сьведамасьць паволі рас-

---

[18] **Юры Матулевіч** (літ. *Jurgis Matulevičius-Matulaitis,* 1871—1927), каталіцкі сьвятар заходняга абраду, тэоляг, генэрал ордэну марыянаў. У 1918 г. абраны віленскім ардынатарам, у сьнежні таго ж году кананічна ўзначаліў Віленскую дыяцэзію. Як рэлігійны й культурна-грамадзкі дзеяч выступаў за нацыянальную й рэлігійную талерантнасьць, клапаціўся пра ўзровень рэлігійнага жыцьця ў дыяцэзіі. Падтрымліваў сярод іншых і беларускі нацыянальна-рэлігійны рух, заахвочваў маладых беларускіх клерыкаў і сьвятароў да шырокага ўжываньня іх роднай беларускай мовы ў штодзённым жыцьці й душпастырскай дзейнасьці. Ад 1923 г. знаходзіўся ў канфлікце з польскім урадам, у 1925 г. адышоў ад кіраўніцтва дыяцэзіяй.

[19] **Эдвард фон Роп** (ням. *Eduard Michael Johann Maria Baron von der Ropp,* 1851—1939), рэлігійны і грамадзкі дзеяч. У 1904—1907 гг. біскуп Віленскі, у 1917—1931 гг. арцыбіскуп Магілёўскі.

[20] **Прыміцыя** — урачыстая першая служба.

ла, але сыноў народу, ідучых за поклікам духоўным, працэджвалі, пераарыентоўвалі й зьвіхалі ім у духоўным, ці цывільным (пасьля выдаленьня з сэмінарыі) стане, ідэйны шлях. Шчасьліўцы толькі выбіваліся й трымаліся на ідэйным непахісным узвышшы.

Сваіх духоўных школ нельга было мець, асабліва на родных акупаваных тэрэнах. Праектаваліся заграніцай у форме місыйных закладаў пад пратэкцыяй самога-ж Папы, як напрыклад Беларуская Калегія ў Рыме, на якую ахвяраваны ўжо быў навет і капітал, але закрутыя шляхі былі да іх зьдзейсьненьня[21]... Дробныя групы, як нп. Марыянаў[22], фармаваліся й выхоўвалі моладзь[23], але зараз-жа былі эксмітаваныя... разганяныя па сьвеце. Працавалі толькі адзінкі ідэйныя, змагаючыся з перашкодамі, з тэрорам маральным і фізічным. Да гэткіх належаў і ніжэйпадпісаны тут юбілят. Колькі раз запыняны, страшаны, путаны, атручаны горкім сарказмам, зьнеслаўляньнем! Колькі разоў выкіданы з роднага этнічнага тэрэну. Кіданы ваеннымі абставінамі, выстаўляны на сьмяротную небясьпеку.



Dajcie žancoŭ !

І вось спаглядае цяпер з юбілейнага ўзвышша на пройдзенае. Што бача? Дзе тыя, што пад старасьць ягонага па-

[21]Хутчэй за ўсё маецца на ўвазе вядомая гісторыя брыльянтавага калье княгіні Магдалены Радзівіл. Гл.: Надсан, Аляксандар. Таямніца брыльянтавага калье // Надсан, Аляксандар. Княгіня Радзівіл і справа адраджэньня Уніі ў Беларусі. 2-е выд. Менск, 2009. С. 42—80.

[22] **Марыяне** — чальцы мужчынскай каталіцкай манаскай Кангрэгацыі Беззаганнага Зачацьця Прасьвятой Дзевы Марыі (лац. *Congregatio Clericorum Marianorum sub titulo Immaculatae Conceptionis Beatissimae Virginia Mariae*), заснаванай у 1673 г. у Польшчы.

[23] Маецца на ўвазе Друйскі кляштар айцоў марыянаў, які існаваў у 1923—1939 гг. і пры якім ад 1924 г. дзейнічала школа (ад 1933 г. — гімназія).

каленьня пяроймуць ідэйную працу? Дзе наш ідэйна-сьвятарскі прырост?...

Тут на эміграцыі ў вольным сьвеце — пара маладых поклікаў, пачынаючых ужо дзейнасьць на ўсходняй ніве. А па-за імі новага студыюючага нарубкі ня відно нікога. Калі дзе хто забадзяўся ў чужацкіх сэмінарыях, ці манастырах, дык прымушаны быў адрачыся свайго народу, а служыць чужым інтэрэсам. Там за жалезнай заслонай дзеецца тое самае — этнічны беларускі элемэнт купляе сабе магчымасьці да студыяў за цану собскае натуральнае душы нацыянальнае, аддаючыся чужынцам на апосталаў дэнацыяналізацыйных у сваім уласным народзе. Ці не трагэдыя гэта!?

Але, годзі бедаваць! Шукайма спосаба ў выйсьця з гэтага трагічнага палажэньня. Мы мусім разбудзіць поклікі сярод нашай моладзі ды памагчы ім забясьпечыць адпаведныя ўмовы для студыяў і выпрацаваньня духовага, падрыхтовы духовай патрыятычнай, не шавіністычнай. Гэта будзе магчымым, калі пашырым і паглыбім душпастырскую працу сярод нашых масаў і мецімем сутычнасьць з нашым юнацтвам ды калі ўдасца стварыць свае ўзгадаваўчыя калегіі.

Пацяшаючым зьяўляецца той факт, што ў Лёндане закладзіны такой калегіі пачаліся[24]. Калі яна залюдніцца ды будзе вясьціся на асновах заспакойваючых нашыя патрэбы, г. зн. калі ні аграічыцца толькі да ўзгадаваньня ўсходніх місіянароў, а выхоўваціме юнацтва і для лацінскага абраду, дык тады-б магла ў нейкай меры балючыя патрэбы нашы і надзеі на будучыню апраўдаць. Адклікаемся тут да грамадзкай помачы.

За жалезнай заслонай існуюць на этнаграфічных землях беларускіх сэмінарыі ў Беластоку й Драгічыне дыецэзыяў Віленскай і Пінскай. Там напэўна ёсьць моладзь беларуская, але трэ было б яе толькі рэвіндыкаваць да апастольства ў сваім родным духу адраджэнскім. Калі няма духоўных да гэтага ўзгадаваўцаў, дык хай сям'я, роднае асяродзьдзе патрыятычнае наагул духа роднага ў іх падтрымоўвае.

З нагоды маіх Саракавін прашу ветліва ўсіх добрых людзей на гэтую інтэнцыю маліцца да Сьвятога Духа!

*кс. П. Т.*

[24] Магчыма, тут маецца на ўвазе як заснаваньне кляштару марыянаў біскупам Чаславам Сіповічам у Марыян-Хаўзе ў Лёндане, гэтак і адкрыцьцё на пачатку 1960-х гг. Беларускай школы-інтэрнату імя сьв. Кірылы Тураўскага тамсама.

## Мітрапаліт Андрэй Шэптыцкі[25] ў маіх успамінах[26]

Сёлета мінае акурат 55 год ад памятнай гістарычнай хвіліны назначэньня на Галіцкі Мітрапаліцкі Пасад у Львове Яго Эксцэленцыі Мітрапаліта Андрэя Шэптыцкага. Шмат пісалася ды йшчэ пішацца аб гэтым Вялікім Гэрарху ў прэсе з нагоды леташніх дзясятых угодкаў ягонай сьмерці; але ня будзе лішнім, калі й “Зьніч” да багатага памінальна-глёрыфікацыйнага акорду дакіне свой прынагодны голас. Аўтор яго, каб не паўтараць ужо сказанага, агранічыцца толькі да скромнага ўспаміну ўражаньняў із свайго асабістага сутыку зь Вялікай Асобай пакойнага Мітрапаліта падчас ягонай ідэйнай дзейнасьці.



Monumentalnaja statuja
Mitrp. ANDREJA SEPTYCKAHA
u hr.-kat Duch. Akademii u Lvovie
(Hl. bac. 3).

* * *

Памятны 1917 год. На вуліцах Петраграду разам із зімою лютуе лютаўская рэвалюцыя. Стары імпэр’ялістычны расейскі молёх, выдабываючы із-пад сваіх румовішчаў апошнія сілы (врэменныя правіцельствы), адчайна змагаецца за ўладу з будучым імпэр’ялістычным молёхам, бальшавізмам. Лёзунгі, мітынгі, маніфэстацыі, вулічныя ростыркі й баі, грабяжы й арышты, выбары й антывыбары, камітэты й антыкамітэты!...

Насельніцтва наагул зьбянтэжанае й стэррорызаванае. Сям-там толькі трымаюцца сярод яго оазы спакайнейшыя людзей, не ўтануўшых у вулічнай рэвалюцыйнай атхлані й дызор’ентацыі, здольных вычуваць па-над гэнай лютаўскай негадзьдзю сакавіковыя, аб-

---

[25] **Андрэй Шаптыцкі** (укр. *Андрей Шептицький*, 1865—1944), дзеяч Грэка-Каталіцкай царквы, мітрапаліт Галіцкі й арцыбіскуп Львоўскі ў 1901—1944 гг.

[26] Друкуецца паводле: Z. [Татарыновіч, Пётра]. Mitrapalit Andrej Šeptycki ŭ maichuspaminach // Źnič. № 34—35. Cervien — Vierasien 1955. С. 3—5.

надзейваючыя вясною, павевы. Да такіх оазаў належала й каталіцкая Духоўн[ая] Сэмінарыя. У гэткую пору выпалі там вялікапосныя рэкалекцыі. Поўны патрасаючых уражаньняў алюмнат з асаблівым энтузыязмам слухае канфэрэнцыяў, чакаючы ад іх нечага надзвычайнага, актуальнага. І трэба-ж — на апошнюю зь іх, заміж абыднага сэмінарыйнага айца духоўнага, неспадзевана зьяўляецца, як-бы тымі прадвясьнянымі мроямі выкліканы, нейкі магутнай маестатычнай паставы зь існа Майзееўскай барадою, канфэрэнтыст. Сэнсацыя маланкаю зэлектрызавала ўсю дзьвесьцеасабовую рознанацыянальную аўдыторыю; асабліва перад малодшымі курсамі, менш асьведамленымі з апошнімі вонкавымі падзеямі, стаў жывы пытальнік: хто гэта? Ужо самы толькі вонкавы выгляд ягонай вялічавай фігуры будзіў дагадку, што гэта нейкі надта высокі й выдатны, дый мусіць загранічны, гэрарх; адсутнасьць аднак усякіх інсыгніяў[27] на простай манашай адзежы ягонай — ні пурпуры, ні бліскучага крыжа на грудзях, ні посаха ў руках — аслабляла ўпэўненасьць у гэтым. Ня было як і дапытвацца падчас рэкалекцыйнага *silentium*[28] дый пачаўшайся канфэрэнцыі. Ня помню ўжо сяньня дэталічна ейнага зьместу, ведаю толькі, што павучала яна аб хрысьціянскай стойкасьці й надзейнасьці ў небясьпеках ды ідэйных змаганьнях і дзялілася на тры пункты; зафіксаваў мне гэта ў памяці забаўны інцыдэнт: вычарпаўшы першыя два з заложаных пунктаў, новы канфэрэнтыст (на твары якога відны былі сьляды прынесенага сюды змучэньня), зьвяртаецца зь ветлівай прастатою да прысутнага ў капліцы айца духоўнага, каб дакладна прыпомніў запавешчаны трэці пункт; айцец-жа духоўны зьнячэўку вырваны із свае задумы, пачырванелы адказвае: даруйце, Ваша Эксцэленцыя, я так здыстрактаваны цікавым Вашым выкладам першых 2-х пунктаў, што зусім упусьціў з памяці трэці. Ня гледзячы на павагу хвіліны і месца, маладой уражлівай аўдыторыі трудна было ўтаіць вулькан гумару; але памагла да пэўнай меры ўтамаваць яго цікавая мімаходная рэвеляцыя аб высокай годнасьці канфэрэнтыста, быў знача біскупам. Ён шчэ з большай сілай духовай дапоўніў тэму хутка прыгаданым трэцім пунктам, і мы — помню — выходзілі з гэнай канфэрэнцыі з такім настроем, як тыя, нераўнуючы, першабытныя хрысьціяне зь Пятровай казані ў Острыянум, аб якой піша *Quo Vadis*[29]. Выйходзілі ў пошуме, раскрываўшых сакрэт шэптаў: *"Шэптыцкі! Вяртаючыся із Суздаль-*

[27] **Інсыгніі** — вонкавыя знакі сану.

[28] ***Silentium*** —маўчаньне, ціша.

[29] ***"Quo Vadis"*** — кніга Генрыка Сянкевіча, перакладзеная ў 1950-я гг. кс. П. Татарыновічам на беларускую мову й выдадзеная ў Рыме.

*скай царскай цюрмы грэка-каталіцкі Мітрапаліт Галічыны, Граф Шэптыцкі*"...

У гэткіх вось асаблівых абставінах я меў гонар першы раз пазнаць гэтага вялікага чалавека. Пасьля крыху болей цікавасьць маю аб Яго Эксцэленцыі, дый наагул аб усходнім каталіцтве, заспакоілі ўкраінскія эвакуаваныя алюмны, якіх закватаравалі на час іхніх высьвяцін пры нашай сэмінарыі. Было іх пяцёх, галіцкіх абсольвэнтаў тэолёгіі, надта сымпатычных ды цікавых духоўных юнакоў, будзячых найбольшую сэнсацыю між намі лаціньнікамі тым, што быццам усе ўжо пажэненыя. Гэткім чынам паняцьці нашы аб унівэрсальнасьці каталіцтва і ягонай рожнаабраднай гэрархіі расшыраліся.

Але гэтае першае абзнаямленьне, хоць сільна даймаючае, было прыпадковае, як-бы сказаць, здалёку.

* * *

Мінула пасьля гэтага каля дзесятка год. Шмат чаго за гэты час на сьвеце ды у нас перажылося йператраслося, заціраючы прыгожыя маладыя ўражаньні. Краі нашы, выкарыстоўваючы нараўне з другімі "*вясну народаў*", прайшлі былі не малы ўжо шлях вызвольнага змаганьня; ідэалу аднак проклямаванай (1918) самастойнасьці не ўдалося ім абараніць: Беларусь і Украіна — як ведама — былі разабраны між Бальшэвіяй і Польшчай. На гэтым, пэўна-ж, уцярпела ня толькі нацыянальная, але й рэлігійная самастойнасьць: Бальшэвія яе душыла, тамавала, а шовіністычная Польшча — дэнатурызавала. Гэткая паганая сытуацыя вельмі ўтрудняла жыцьцё й працу ідэйна-беларускаму, ня маючаму роднае гэрархіі, духавенству. А я ўжо тады меў за сабою гадоў 7 гэткай працы. Урэшце, сасланы на этнічна польскую частку новапаўсталай Пінскай дыецэзыі чуўся вельмі дрэнна. Для падтрымкі майго слабога здароўя дый для псыхічнага адсьвяжэньня крыху на свабодзе я пастанавіў паехаць на летнішча ў Карпаты і заікнуўся аб гэтым нашым беларускім верхаводам у Вільні, кс. Ул[адзіславу] Т[алочку] і кс. А[даму] Ст[анкевічу]. Яны назвалі маю пастанову вельмі трапнай ды забавязалі мяне па-



Sjatkannie u Lvovie pasla pavarotu z rasiejskaje viaznicy

бываць канечне ў Львове й завезьці ад усіх беларусаў найшчырэйшае *homagium*[30] Я. Э. Мітрапаліту. З'амбіцыянавала — прызнаюся — мяне гэта крыху, але больш устрывожыла, не ўяўляў бо сабе, як я, загнаны патульны паляшук, патраплю справіцца ў гэткай місыі, вымагаючай ледзь не фамільярнага збліжэньня да так высокага аўтарытэту, веліч якога шчэ пабольшвалі тыя петраградзкія ўражаньні, ды пазьнейшы досьлед (я тады быў ужо сталым чытачом украінскае публіцыстыкі й літаратуры, а навет друкаваным перакладчыкам яе). *"Нічога, нічога"* — асьмельвалі мяне вышназваныя прыяцелі — *"як пазнаеш бліжэй, дык іначай будзеш пачувацца"*. Будучы пад уражаньнем, я ўпусьціў з увагі асаблівае значэньне гэтага нагавору і хваляваньня майго ён не ўспакоіў. Колькі трывожных думак, колькі імагінацыі[31] перавярнулася ў маёй галаве тады перад гэнай аўдыенцыяй! І калі ўрэшце знайшоўся на парозе стройнай Сьвятаюраўскай Мітрапалічай Палаты ў Львове, дык сапраўды ня чуў ужо ні ног пад сабою, ні галавы на сабе, а толькі адзін вулькан растрывожанага сэрца ў грудзях. Калі-ж доўга не чакаючы, знайшоўся ў скромным на выгляд габінэце сам-на-сам перад Вялікім Гаспадаром гэтай Палаты, воблік якога адразу ўдарыў мяне сваёй ласкававетлівай дзіўна асьмельваючай да сябе, прастатою й беспасярэднасьцю, дык уцякла ад мяне ўся мая сарамяжлівасьць і здэтынаванасьць. Яго Эксцэленцыя, парываючыся ў сваёй паралiжнай немачы як-бы ўстаць, не даў сябе выперадзіць з прывітальным словам: спатыкае мяне шчэ ў дзьвярах айцоўскім мілапрыязным: *"Вітаем, вітаем дорогіх білорусьнів! Як міло нам бачыты й шчось доброго почуты"*... Аказалася непатрэбным ні рэкамандавацца, ні каго іншага рэкамандаваць, усіх нашых перадавых дзеячаў, і духоўных і сьвецкіх, знаў паіменна й ведаў аб іхняй дзейнасьці; навет аб маёй мізэрнай асобе чуў ужо[32], як аб сымпатыку ды пачаткуючым місіянары каталіцкага ўсходніцтва. Тым дзіўнейшым гэта мне здавалася, што я-ж тады яшчэ ўсяго ня ведаў аб ягонай асаблівай місыі на Беларусь. Але гутарка ягоная й прамянюючая ад яго сіла духа спагады давалі адчуваць, што ён зьяўляецца ідэйна-духовым айцом, патрыярхам, адраджэнскім верхаводам ня толькі для ўкраінцаў, але і для нас беларусаў. Выслухаўшы мой прывет і кароткі даклад аб *status quo* на нашым адраджэнскарэлігійным полі, жыва інтэрэсаваўся настроямі й дэзыдэратамі нашага грамадзтва ды матарыяльнымі патрэбамі. *"Як нацыянальна сьведамае духавенства* (мы ўжо мелі блізу 200 сьвятароў)*, так і сьвецкае*

---

30 ***Homagium*** — даніна павагі.

31 **Імагінацыя** — уяўленьне, вобраз.

32 Цэнтар наш усьпеў ужо паведаміць аб маёй асобе і візыце. — ***П. Т.***

*грамадзтва* — запэўняў я — *паміма балючай адсутнасьці роднае гэрархіі, паміма шавіністычных акупанцкіх рэпрэсыяў, не пачуваемся ідэйна-духовымі сіратамі пакуль жыве й дзее Ваша Эксцэленцыя; пасьля гэтулькіх доказаў Вашага Высокааўтарытэтнага заступніцтва й падтрымкі і мы беларусы, побач з украінцамі, чуемся дзяцьмі Вашай Эксцэленцыі, гэта нас і духова-моральна ратуе*". Заўвагі свае на мой даклад Мітрапаліт закончыў прыблізна такімі славамі: "*Справа повного відроджэньня нашых народів та хрістіянськоі едності в ніх богато потрэбуватымэшчэ поту, крові й сьлез каяньня; та нэ трэба падаты духом — Бог з намі! І на нашу поміч в граныцях нашоі спомогі завжды можэтэ розлічаты. Завезіть цэ запэвнэньня своім суродічам*"!..

І так выйходзіў я з тае аўдыенцыі пацешаны, збудаваны, падрослы на духу, ды поўны подзіву для гэтага так вялікага, а так даступнага, аўтарытэту. І цяпер толькі дагадаўся, што значылі тыя выпраўляючыя мяне словы: "*як пазнаеш бліжэй, дык іначай будзеш пачувацца*"...

Пасьля гэткай візыты ўцякае ўсякая маладушнасьць і чалавек падрастае, мацнее ідэйна, пачуўшыся на дарозе заапрабаванай праз так магутны вядучы аўтарытэт. Магутны ня толькі сваёй глыбокай удухоўленасьцю, сьвятасьцю, ды канонічнай над'юрыздыкцыяй, ці шырокай аўтарытэтнасьцю арыстакратычна-канвэнансавай, але і матарыяльнымі рэсурсамі. Імя "*Шэптыцкі*", дзякуючы шырознай дабрадзейнасьці асобы, яго носячай, сталася нейкім сымбалем уасобленага жывога хрысьціянскага міласэрдзя, з'ішчальнага міласэрдзя, якое ўспамагала ня толькі голым салодка-спагадлівым словам, але й рэальнай матар'яльнай помаччу; якое дзеля гэтага было ведамым і ў найглушэйшых закутках усей Мэтраполіі, якога палата для ўсіх чыста была адкрыта (бачыў я там навет убогіх дзетак) і штодня штурмавана просячымі й дзякуючымі. Колькі школ усякай ступені — як даведаўся я пасьля на летнішчы — ды іншых узгадаваўчых установаў, колькі госпіталяў, прытулкаў для старцаў і сірот, колькі манастыроў ды іншых пабожных установаў ён фінансаваў! Уся багатая манаская спадчына ягоная сталася адной вялікай эканоміяй дабрадзейнасьці. Не шкадаваў яе і для беларусаў. Пры рожных нагодах пасылаў падтрымку нашаму рэлігійнаму выдавецтву ў Вільні (не абыйшлася без таго й мая візыта) ды цэнтрам місыйным, асабліва на ўбогім Палесьсі, дзе не адна капліца паўстала ягоным сумптам[33]. А каб перадваеннае фанатычнае чарнасоценства (Сталыпін[34]) і паваенны бальшавізм не

[33] **Сумптам** — выдаткам.

[34] **Пётар Сталыпін** (расейск. *Пётр Столыпин*, 1862—1911), расейскі дзяржаўны дзеяч, у 1906—1911 гг. старшыня Савету міністраў і міністар унутраных справаў Расейскай імпэрыі.

загарадзілі былі дарогі ягонай буйнейшай дабрадзейна-місыйнай ініцыятыве на нашу бацькаўшчыну[35], дык хто ведае, ці дагэтуль ня сталася б яна гэткім рэлігійным і нацыянальным монолітам, як была ўкраінская Галічына за яго душпастыраваньня.

Для бліжэйшага зацікаўленьня ўнійнымі мэтадамі Я. Э. Мітрапаліта Шэптыцкага далі мне пасьля нагоду спатканьні на Пінскіх Канфэрэнцыях, у якіх ён удзейнічаў беспасярэдна, ці пасярэдна праз сваё духавенства, якое, хоць не насіла барадаў, productады-ж рэпрэзэнтавала праўдзівы дух унійны, абаснаваны на глыбейшым узаемазразуменьні, і элімінацыі дзелячых прычын антаганізмаў, на крыштальнай справядлівасьці й спагаднасьці да здарова адраджаючыхся заінтэрэсаваных народаў, а — не на дробнадэвоцкім абстракцыйным душахвацтве. Аб ягоных дачыненьнях да канфэрэнцыйнага руху во што піша найбліжэйшы ягоны супрацоўнік, Я. Э. Архб. Іван Бучко[36], былы Суфраган Львоўскі:

“Мітрапаліт Андрэй быў сутным ініцыятарам новага напрамку ўнійнай дзейнасьці сярод каталікоў і некаталікоў розных нацыяў. Даволі ўспомніць аб Велеградзкіх Зьездах, зь якіх першы адбыўся ў 1907 г. пад асабістым правадніцтвам Мітрапаліта Андрэя пры многалікім удзеле вучоных духоўных і сьвецкіх унійных дзеячаў рожных нацыянальнасьцяў ды веравызнаньняў. У сваіх пісьменных ці вусных рэфэратах, выглашаных на тых Зьездах, Мітрапаліт Андрэй захапляў усіх сваёй колёсальнай тэолёгічнай ведай ды агульнай асьветай, вялікім зразуменьнем рожніц, дзелячых хрысьціян з’адзіненых ад нез’адзіненых; такжа ясным і рэзкім прадстаўляньнем страшнае злыбяды хрысьціянскага раз’адзіненьня й ягоных пагубных наступстваў. Таму ніякая ахвяра не павінна ўважацца завялікай дзеля направы таго страхотнага ліха й павароту тае адзінасьці. На ўсіх тых Зьездах унійных Мітрапаліт Андрэй прадстаўляў сабою традыцыю й будучыню Каталіцкага Ўсходу з усімі дарагацэннымі скарбамі тае традыцыі. Прызнаньне для яго міжнароднага аўтарытэту ня мела граніц. Некаторыя з чужынцаў ня сумлеваліся назваць яго гэніем, не адзін сказаў, што такога другога цяжка знайсьці ў нашых часах, а трэ было-б шукаць хіба між даўнымі Сьвятымі Айцамі, як Атаназ[37], Базылі[38], ці За-

[35] Гл.: Станкевіч, А. Хрысьціянства і Беларускі Народ. Вільня, 1940. С. 167. — ***П. Т.***

[36] **Іван Бучко** (1891—1974), украінскі рэлігійны й грамадзкі дзеяч, архіяпіскап Украінскай грэка-каталіцкай царквы.

[37] Напэўна, маецца на ўвазе **Афанасій Вялікі** (каля 295 — 373), адзін з айцоў царквы, архіяпіскап Александрыйскі.

[38] Маецца на ўвазе **Васіль Вялікі** (330—379), сьвяціцель, багаслоў, архіяпіскап Кесарыі Кападокійскай.

латавусны[39]. І перад Сьв. Апост[альскім] Пасадам у Рыме аўтарытэт і заслугі Вялікага Мітрапаліта мелі найвышэйшае прызнаньне, як гэта сьцьвярджае шчырая прыязьнь Сьвятога Папежа Піуса X-га[40] ды найвышэйшыя эклезіяльныя паўнамоцтвы на тэрэны вялізнае царскае імпэрыі, даныя Мітрапаліту Андрэю. Толькі будучая гісторыя дасьць належную ацэну й скажа пра вялікае значэньне ды ўплывы на стварэньне новае эпохі змаганьня за адзінства Сусьветнае Цэрквы, а можа й пра ўплывы на іншых дзялянках культуры Мітрапаліта Андрэя".

*"Сьвет абыдна ацэньвае веліч якое гістарычнае асобы паводле вонкавых слаўных чынаў, бліскучых дасягненьняў, а недахоп такіх дасягненьняў урахоўвае на зьменшаньне тае велічы. Сьвет не зьвяртае ўвагі на жыцьцё ўсабешняе чалавека, жыцьцё надпрыроднае ласкі Божай, безь якое наагул чалавек зьяўляецца бязвартасным. Праўдзівая веліч чалавека непрамінальная, не залежыць ад вонкавага выгляду, ні ад багацьця, ні ад тытулаў і годнасьці, ані нават ад вонкавых чынаў і заслугаў, яна залежыць выключна толькі ад дасканальнага выконываньня волі Божай і сьвятасьці жыцьця. Усё, што робім з Божае волі ды з намерам падабацца Богу незалежна ад таго, ці ўдаецца, ці не, пабольшвае тую веліч ды памнажае заслугі. Нам ведама зь біблійнае ды царкоўнае гісторыі аб Сьвятых, што падчас свайго зямнога жыцьця даканалі на хвалу Божу вялікіх чынаў, productions ады-ж ня ў тых вялікіх дакананьнях прычына іхняй сьвятасьці. Ёсьць вялікія Сьвятыя, што зусім мала, або й цалком не адзначыліся вялікімі слаўнымі чынамі, аднак заслужылі сабе называцца Сьвятымі за сваю безгранічную ахвяру самаадданасьці Богу на службу ды найдасканальнейшае выкананьне Божае волі. І самжа Хрыстус Сын Божы даканаў найвялікшае справы праслаўленьня Бога ня дзівоснымі цудамі, а ахвяраю сьмерці на Крыжы"*[41].

* * *

1943 год. Над Эўропай лютуе бура Другое сусьветнае вайны. Грыміць бомбардацыя, валяцца ў грузы гарады, льецца кроў і сьлёзы ў фронтавых баёх і позафронтавых рэпрэсіях; акупацыі нахлынаюць за акупацыямі, заганяючы тубыльчае вольнае жыцьцё ў падпольле. Над Беларусьсю й Украінай ўжо ўсьпела зьмяніцца іх тры ды пагражала чацьвёртая, найстрашнейшая, бо выглядаючая на рэзультатную. Ваенная бо фортуна здрадзіла немцаў: сьмяротна ўдараныя дэсан-

[39] **Іаан Залатавусны** (каля 347 — 407), сьвяціцель, архіяпіскап Канстанцінопальскі.

[40] **Пій X** (1835—1914), Папа Рымскі ў 1903—1914 гг.

[41] Хрысьціянскі Голас. № 44. 1954. — ***П. Т.***


Aposnija vakacyi u svaim Pidlutym

там на Захадзе, яны былі змушаныя кранацца назад і на Ўсходзе, адкрываючы паваротную дарогу чырвонай навале.

Невясёлы то быў час, поўны канстэрнацыі[42], нэрваў і трывог.

У гэткім вось часе зноў мне надарылася адведаць Львоў ды пабываць на аўдыенцыі ў Я. Э. Мітрапаліта Андрэя. Было гэта 1 верасьня, падчас майго павароту з карпацкага летнішча. Ня той быў ужо Львоў, што перад вайною, і ня тая Сьвятаюрская Палата. Памутнеў ейны выгляд і настроі. Рабіла ўражаньне здэваставанай, асабліва бібліятэка, неўпарадкавана яшчэ пасьля нядаўнай гэстапаўскай рэвізыі. Пасумнеў ды моцна пастарэў і сам ейны Высокадастойны Гаспадар. Больш мо ад страхотных падзеяў і моральнага болю, чым ад хваравітага глыбокага веку (78 год) пастарэў. Зь перасоўным фотэлям сваім не расставаўся. Удухоўлены твар ягоны амаль гэткі белы стаў, як валасы. У вачах аднак іграла яшчэ інтэлектуальная бадзёрасьць і пагода духа, хоць стаўся больш усабешнім, маўклівым. У гутарцы — лёгкая крытыка сытуацыі, пэрспэктываў, але ані ценю нараканьня й пэсымізму, поўная рэзыгнацыя хрысьціянская.

Прыняў мяне, пэўне-ж, ня з гэткай жывасьцю, як даўней, але ня зь меншай міласпагаднасьцю, запрашаючы пасьля гутаркі на абед. Я рэпрэзэнтаваў тады ня толькі наша беларускае духавенства, але й ідэйна-грамадзкі рух, як рэфэрэнт культуры й асьветы Беларускага Камітэту[43]. Жыва цікавіўся Яго Эксцэленцыя нашымі справамі, асабліва гэрархічнымі, расказваючы мне аб трагічных пэрыпэтыях на граніцы і ў львоўскай бальшавіцкай вязьніцы нашага архімандрыта а. Ф. Абрантовіча[44] й шкадуючы, што нельга было яму

[42] **Канстэрнацыя** — замяшаньне.

[43] Маецца на ўвазе **Беларускі камітэт у Варшаве**, створаны ў 1940 г. для апекі над беларусамі ў Польшчы ў часе Другой сусьветнай вайны.

[44] **Фабіян Абрантовіч** (1884—1946), каталіцкі сьвятар, адзін з ідэолягаў і заснавальнікаў беларускага хрысьціянскага руху. Пасьвячоны ў сьвятары ў 1908 г. пасьля заканчэньня духоўнай акадэміі ў Пецярбургу. Вучыўся ў Лювэнскім унівэрсытэце ў Бэльгіі, працаваў сьвятаром і выкладчыкам у Пецярбургу (Петраградзе). Яшчэ падчас вучобы ў Пецярбургу належаў да

памагчы эфэктыўней, ды што згінулі аб ім чуткі ў апошніх месяцах бальшавіцкай акупацыі. Вычувалася, што зацікаўленьне гэнае было сумыснае: задумоўваў нешта канкрэтнае, дэцыдуючае; пякучая бо збаўленная патрэба, кан'юктуры ды ўцякаючае жыцьцё да гэтага панукалі. Ня мог ня думаць аб блізкім сваім адыходзе ў вечнасьць[45] пры гэткіх акупанцкіх небясьпеках, пры сваёй ідэйнай гатоўнасьці (прасіў-жа Айца Сьвятога багаславіць яго на мучаніцкую сьмерць), ды пры відавочнай старчай немачы (таго-ж дня зараз пасьля яды й задрамаў пры абедным стале).

Ах, каб яшчэ Бог зашчадзіў пры жыцьці гэты сапраўдны эпоковы Аўтарытэт — уздыхаў я ў цягніку, расстаючыся зь ягонай рэзыдэнцыяй, — нябытнасьць яго ў гэткім ліхалецьці магла-б спрычыніць катастрофу!..

Не далей як цераз год, нажаль, катастрофа гэна ўжо была (сяньня нам ведамым) фактам гістарычным...

Як дзіўнымі дарогамі вядзе Бог народы да іхняга празначэньня!

*Z. [кс. Пётра Татарыновіч]*

## Адгалосак мінуўшчыны[46]

Хто цікавіўся падзеямі беларусаў каталікоў у Менску з часаў апошняе вайны, той, напэўна, чуў, або мо і спатыкаў, аднаго ціхага, але ідэйна-цэннага працаўніка на ніве рэлігійнай асьветы, выдатна памагаўшага беларускаму духавенству пры цяжкой заснове душпастырства на парэвалюцыйных ды ваенных румовішчах духовы і матарыяльных, часова адслоненых пракаціўшымся фронтам, нібы абецываючым магчымасьці нейкай рэвіндыкацыі й адбудовы квітнеючага калісь там каталіцка-рэлігійнага, з адраджэнска-беларускімі пэрспэктывамі, жыцьця. Гэта быў малады законны клерык, студэнт францішканін, родам з тае-ж парахвіі, адкуль паходзіў і

культурна-асьветнага гуртка беларусаў-клерыкаў, адзін з заснавальнікаў Беларускай хрысьціянска-дэмакратычнай злучнасьці. Пасьля рэвалюцыі 1917 г. працаваў у Менску, на пачатку 1920-х гг. — выкладчык эвакуяванай зь Менску ў Наваградак, а пазьней у Пінск каталіцкай сэмінарыі. У 1929—1938 гг. узначальваў каталіцкую місію ўсходняга абраду ў Маньчжурыі й Кітаі. Улетку 1939 г. знаходзіўся ў Польшчы. Арыштаваны савецкімі ўладамі, памёр ад катаваньняў у Бутырскай турме ў Маскве.

[45] Мітрапаліт Андрэй Шаптыцкі памёр 1 лістапада 1944 г.

[46] Друкуецца паводле: Р. Т. [Татарыновіч, Пётра]. Adhałosak minuŭščyny // Źnič. № 82—83. Krasavik — Žnivień 1965. С. 3—5.



Hramadka mienskich dzietak iz svaim Katechetam S.V.

сь. п. Кс. В. Гадлеўскі[47], а прозьвішчам Станіслаў Васюкевіч. Пакліканы ён быў на катэхэту менскае каталіцкае моладзі, масава горнучай-ся да ўцалеўшых і наскара адноўленых сьвятыняў. Бачыце яго тут у вянку тае моладзі на нашым здымку (4). Із шчыра энтузыястычнага заінтэрэсаваньня рэлігійнай ведай тае першапачатнае аўчаранькі, моў тых першабытных хрысьціян, можна быць пэўным аб глыбокіх сьля-дох незацёртых і дасяньня тае вытужанае народам, асьвячанае ідэйна-ахвярным законніцкім мазалём ды мучаніцкай крывёю, катэхэтыкі. А хоць брутальныя падзеі скалочанай сяньняшняй гісторыі не далі ёй пашырацца і нармальна ўкараняцца даўжэйшы час, бо маладзенькі апостал наш, падзяліўшы крутую долю сваіх кіраўнікоў духоўных,

[47] **Вінцэнт Гадлеўскі** (1888—1942), нацыянальны дзеяч, каталіцкі ксёндз. Адзін з заснавальнікаў і лідараў Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі. У міжваенны час за беларускую нацыянальную дзейнасьць арыштоўваўся польскімі ўладамі. У другой палове 1930-х гг. быў выдаўцом і рэдактарам газеты “Беларускі фронт”. З пачаткам Другой сусьветнай вайны пераехаў у Коўна, ад чэрвеня 1940 г. — у Варшаве. Заснавальнік і ідэоляг Беларускай незалежніцкай партыі. Ад верасня 1941 г. у Менску, прызначаны галоўным школьным інспэктарам пры Генэральным камісарыяце Беларусі. Арыштаваны й расстраляны немцамі.

мусеў ратавацца бясьследнай эміграцыяй, то гэта нічуць ня зьменшвае заслугаў ягоных ды вартаснай істотнасьці справы.

Ад часу тае эміграцыі ня было дагэтуль ніякіх слухаў аб С. Васюкевічу. І толькі аж сёлета вясною, з прычыны ніжэй апісанага выпадку, змусіўшага шукаць помачы ад суродзічаў духоўных, аб якіх насіў у сэрцы найлепшую памяць, собіла яму даведацца ад слухачоў радыя і скантактавацца з тымі духоўнымі, пакладаючы ў іх надзею на выбаўленьне з кадуковага доўгу ды ідэйнай самоты. Для характарыстычнейшага прадстаўленьня справы, цікавай такжа і сваёю гістарычнаю рэвэляцыйнасьцю, пазволім сабе зацытаваць тут даўжэйшыя выняткі з карэспандэнцыі гэтага заслужанага небаракі.

*"Любань Сл. дн. 2.IV — 1965 году.*

*Найдаражэйшы Ксенжа Татарыновіч,*

*Недаапісаньня як вялікую радасьць прынясла мне вестка з Рыму, што Кс. Т[атарыновіч] ... жывы і здаровы... Мінула 23 гады, калі-то мы разам для хвалы Божай и свайго Беларускага Народу ахвяраваліся і працавалі ў Менску. Вы як ксёндз, а я як катэхэта законьнік Францішканін; але праклятыя сілы нацызму перарвалі душпастырскую працу; зглумілі маладое жыцьцё Кс. Др. Станіслава Глякоўскага[48], Кс. Мальца[49], Кс. Рыбалтоўскага[50], а потым страшэнна Кс. Гадлеўскага. Гэтыя мучанікі Беларусы злажылі з сябе ахвяру Найвышэйшаму. Вы цудоўна ў астатні мамэнт вырваліся зь бязбожных рук. Калі ў Менску ністала Ксяндза, залегла жалоба і смутак. Нават арганісты і закрыстыян уцяклі, астаўся я адзінокі. У сьвецкім адзеньні, пры замкнёных галоўных дзьвярах катэдры, бяз прэрвы катэхізаваў маладзеж, меўшы іскру ў душы нейкай надзеі. І з ласкі Бога сталася так, што да Літоўскага войска, якое стацыяна-*

---

[48] **Станіслаў Глякоўскі** (1896—1941), рэлігійны й грамадзкі дзеяч, каталіцкі сьвятар. У 1921 г. рукапакладзены на сьвятарства. Закончыў Грыгарыянскі інстытут у Рыме са ступеньню доктара тэалягічных навук. Ад 1929 г. працаваў у Вільні, выкладаў у Віленскай беларускай гімназіі. У часе нямецкай акупацыі быў пробашчам касьцёла Сымона й Алены ў Менску. Арыштаваны паліцыяй у сьнежні 1941 г.

[49] **Дзяніс Малец** (1909—1941), рэлігійныя дзеяч, каталіцкі сьвятар. Пасьвячоны ў сьвятары ў 1937 г. У 1938 г. быў прэфэктам мясцовых школаў у Пінску, вікарыем пры Пінскай катэдры. У 1941 г. быў арыштаваны разам з Станіславам Глякоўскім на канфэрэнцыі ў Менску.

[50] **Казімір Рыбалтоўскі** (1909—1943), рэлігійныя дзеяч, каталіцкі сьвятар. Рукапакладзены на сьвятарства ў 1935 г. Служыў вікарыем у в. Камень Івянецкага дэканату. У часе Другой сусьветнай вайны арыштаваны нямецкімі ўладамі й расстраляны.

*вала ў Менску, на стала прыехаў вайсковы Кс. Капэлян; ён ахвярна далей павёў Божую Службу. Працаваў я зь ім 3 годы, абслужвалі ня толькі Менск, але і суседнія парахвіі. А перад самым фронтам Немцы пазволілі прыехаць да Менска кс. Шутовічу*[51]*; зь ім то я перажыў страшны фронт у Менску, а па фронце спакойна адпрацавалі 4 месяцы. Па гэтым Кс. Шутовіч апынуўся далёка на Ўсходзе, а мне цудам (удалося апынуцца) ў Польшчы. Тут на захадзе шмат нашага народу і з прыемнасьцю можна пагаварыць у роднай мове.*

*Скора па Вашым выезьдзе зь Менска, ад бандыцкае кулі згінуў прафэсар Іваноўскі*[52]*, потым Контаўт*[53] *і другія*[54]*. Многа, многа магу чаго расказаць, усякіх дзеяў (якіх) — я ёсьць адзіны навочны сьведак...*

*Я па вайне ня мог вучыцца далей, цяпер маю сваю сям'ю: жонку і аднаго сына 8 год. Дасюль жылося срэдня, хлеб і да хлеба было, а цяпер перажываю страшну часіну, спаткала мяне вялікае няшчасьце ў гэтым годзе...".*

---

[51] **Віктар Шутовіч** (1890—1960), рыма-каталіцкі сьвятар, пэдагог, публіцыст. Пасьвячоны ў сьвятары ў 1913 г. у Вільні. Быў вікарыем у парафіях Барадзенічы Браслаўскага павету, у польскай парафіі Тжцяннэ, у Харошчы пад Беластокам (да 1943 г.). Пасьля адступленьня немцаў пераехаў у Менск, дзе стаў пробашчам катэдральнага касьцёла. Арыштаваны бальшавікамі ў студзені 1945 г., да 1956 г. знаходзіўся ў лягерах Комі АССР. Апошнія гады быў пробашчам у Барысаве.

[52] **Вацлаў Іваноўскі** (1880—1943), палітычны й грамадзкі дзеяч, выдавец, доктар тэхнічных навук. Уваходзіў у кіраўніцтва Беларускай сацыялістычнай грамады. Кіраваў выдавецкай суполкай "Загляне сонца і ў наша аконца" ў Пецярбургу. У Вільні кіраваў Беларускім выдавецкім таварыствам. Быў міністрам асьветы ва ўрадзе Беларускай Народнай Рэспублікі, які ўзначальваў Антон Луцкевіч. Пасьля Рыскай мірнай дамовы адышоў ад палітычнай дзейнасьці. У 1922—1939 гг. працаваў на пасадзе прафэсара Варшаўскага політэхнічнага інстытуту. У часе Другой сусьветнай вайны кіраваў Беларускім нацыянальным камітэтам у Вільні, ад 1942 г. — бургамістр Менску. Быў старшынём Беларускай рады даверу, Беларускай народнай самапомачы. Загінуў у выніку замаху невядомых.

[53] **Мечыслаў Контаўт** (1908—1943), палітычны й культурны дзеяч. Перад Другой сусьветнай вайной жыў і вучыўся ў Варшаве, арганізоўваў беларускія тэатральныя пастаноўкі. У 1941 г. сябра Беларускага камітэту ў Варшаве. Ад канца 1941 г. займаў пасаду старшыні Менскага павету. Увосені 1943 г. быў забіты партызанамі.

[54] Пра Казлоўшчыка не спамінае. — ***П. Т.***

*“Любань Сл. 25.V. 1965 г.*

*Найдар...*

*Як вялікую ласку аказаў нам Усёмагутны Бог, што пазволіў скантактавацца з Вамі па гэтулькіх гадох ды пераржыцьцях. Хвала Яму за гэта! Цяпер я чуюся не адзінокі, вялікая радасьць і надзея ўступае ў сэрца маё, горам прыгнечанае...*

*Пасылаю Вам у пісьме фатаграфію Кс. Гадлеўскага, за якога (глядзі здымку 5) сьмерць вінаваты іскарыёты бязбожныя (ваўкі ў авечай скуры); па фронце аказалася, хто кім быў, каб замаскаваць сваю цёмную работу; пазбыліся шчырага праўдзівага беларускага дзеяча. Помню той дзень, як вечарам пад'ехаў “wilis”*[55] *пад плябанію, увайшоў Кс. Гадлеўскі ў асысьце двух... гэстапоўцаў і сказаў да мяне: “Стаська, я прыехаў разьвітацца з табою, я арыштаваны, павязуць мяне праз Вільню, Коўна, Рыгу, да Эстоніі, бо ўзналі, што не магу я тут быць (гэстаповец у гэтым часе, стоячы за лячамі Ксяндза, скрывіўся шыдэрча і паківаў галавою). Стаська, дай мне ключы ад катэдры, зараз табе я прывязу”. Я даў ключы і ўкленчыў, Ксёндз мяне пабагаславіў. “Стаська, завязеш валізкі мае і сутану маме маёй — бывай з Богам!” За пятнаццаць мінут зноў заехаў гэты самаход, гэстаповец аддаў мне ключы, і я больш Ксяндза Гадлеўскага, ані ніхто, ня бачыў. Калі дастарчыў матцы яго валізкі і сутану, старушка рукі заламала, патом кінулася мне на шыю і стала галасіць... “Скажы... скажы, дзе мой сынок!...” (Мы ёсьць з аднае парахвіі Кс. Гадлеўскі, Глякоўскі і я).*



**Ks. V. Hadleûski jak malady akademik**

*Пытаецца Ксёндз у мяне, ці помню гэну справу, як Кс. Глякоўскі хацеў сьцягнуць Біскупа Слосканса да Менска? Помню я аб тым.*

---

[55] Маецца на ўвазе аўтамабіль амэрыканскай фірмы *“Willys-Overland Motors”*.

*Помню, як я з Вамі па арыштаваньні Кс. Глякоўскага ламалі дзьверы да яго пакою, ламалі бюрка, шуфляды... і я ўканцы насіў хаваць да суседзяў: пячаткі, усякія пісьма, машыну да пісаньня і другія (рэчы)”.*

Гэта было выканана на заданьне арыштаванага, які ўсьпеў мне (П[ётры] Т[атарыновічу]), зблізіўшамуся ў адзявальні, яго высказаць. Менскі Тэатр, месца арышту — на здымцы (6). Адначасна тамжа быў і Кс. Гл[якоўскі] арышаваны і Кс. Дыонізы Малец, малады здольны вікары Пінскай дыец[эзыі], які меў пры сабе каля паўтараста рублёў золатам — ахвяр на патрэбы арганізацыйна-эклезіяльныя ад людзей, іх шчадзіўшых тады, як самы прымíралі з голаду падчас рэвалюцыйнае растрэскі...

*“Дарагі Ксенжа,* — піша далей С. Васюкевіч, — *29.III. г.г. была справа ў судзе, гдзе ўзналі мяне вінаватым за катастрофу і здрузгатаньне друкарскай машыны: ашацавалі страту на 68 тысяч злотых; гэта для мяне рэч страшная, бо на месяц зарабіць можна да трох тысяч. Каб я ўсё папрадаваў сваё, што маю, ні пакрыў палавіны (таго), чым мне абцяжылі — папаў у верад, што ні ўзад, ні ўперад — роспач мяне праймае, для мяне надходзіць мусіць ужо канец... Каморнік забярэ ўсё, што маю, а за рэшту што ня хопіць, забяруць да абозу працы, там адрабіць мушу. Адно яшчэ добра, што гэту катастрофу мне суд ня прызнаў за сабатаж, а толькі за выпадак...*



Pamiatny Mienski Teatr

*Ні маю на сьвеце нікагусенька ані ў краю, ані заграніцай, хто-б мне мог памагчы ў гэту страшную для мяне гадзіну... О! Каб за Тваёй, Ксенжа... прычынай і Кс. Ігнатовіча[56] знайшоўся хтось — можа якая каталіцкая дабрачынная арганізацыя мяне выратавала-б, прысылаючы грашавую запамогу, я быў-бы шчасьлівы. Гэтыя грошы я ў жыцьці зарабіў-бы і зьвярнуў-бы на найбяднейшых людзей, або на сіраты — гэта прысягаю зрабіць на сваё збаўленьне. Патрэбна мне на гэта праве адна тысяча даляраў (долёр у нас плаціцца 72 злоты).*

*Справа гэта ёсьць вельмі пільнай, бо ляда дзень могуць зрэалізаваць пастанаўленьне суду. Людзі з-за граніцы сваім родным і знаёмым прысылаюць грошы ў "пісьмах вартосьцёвых" залякаваных, у гэткі спосаб прыйходзяць найхутчэй; а таксама прысылаюць на P.K.O.(Powszechna Kasa Oszczednościowa); наша Экспозытура ёсьць у Вроцлаве, ул. Олаўска 84/87.*

*Найдаражэйшы Ксенжа, абрадзь гэта з кім добрым і ратуйце мяне, бо гіну, малю Вас на міласьць Боскую. Я ў жыцьці многа што каму памог, можа і я помач атрымаю".*

Дык вось такая гісторыя гэтага пачцівага і цэннага недабітка. Дапаўняць яе тут камэнтарам ня будзем, бо і так ужо публікацыя яе прыпозьненая, і мо будзе мець значэньне больш гістарычнай хронікі, чым закліку да помачы. Заклік той быў карэспандэнцыйна распачаты месяц таму, зараз па атрыманьні першага сьлёзнага лісту (нажаль, і той ліст быў мне дасланы праз пасярэдніка зь месячным апазьненьнем). І дзеля таго, што дагэтуль не атрымана ніякіх чутак аб актывізацыі дапамогавай гэтай справы, Дырэкцыя Эмігр[анцкага] Беларуск[ага] Душпаст[ырства] зьвяртаецца тут публічна да нашага паважанага грамадзтва з просьбай аказаньня так заслужонаму суродзічу дапамогі. Асаблівай увазе дапамаговых арганізацыяў у ЗДА гэту справу шчыра паручаем. Спосабы здабыцьця вышмянаванай сумы паручаем кампэтэнцыі Загаду гэтых арганізацыяў, а — даручэньня (перасылкі) выказаны самым пэтэнтам. Усякімі бліжэйшымі інфармацыямі заўсёды гатова служыць ДЭБД і Рэдакцыя Зьнічу.

*П[ётра] Т[атарыновіч]*

*Падрыхтоўка да друку Алеся Аўдзеюка,*
*камэнтары Алеся Аўдзеюка й Натальлі Гардзіенкі*

[56] Маецца на ўвазе **Зянон Ігнатовіч** (**Ігнатавічус**, 1908—1975), каталіцкі сьвятар. У часе вайны быў пробашчам Чырвонага касьцёлу ў Менску. У 1944 г. выехаў на Захад, жыў у Італіі, Бразыліі, Канадзе.

# ЭВАНЭЛІЯ ПАВОДЛЯ СЬВ. МАРКА

**у перакладзе кс. Пётры Татарыновіча**

*Sviataja Evanelija i Apostalskija Dziei. Pierakłau i padau vyjasnienni Ks. Dr. Piotr Tatarynovic. Rym, 1954. S. 163—167.*

*(арігінальная лацініца, транслітараваная кірыліца, транслітараваныя ў кірыліцу камэнтары да разьдзелу).*

## Razdzieł 1

1. Pačatak evanelii Jezusa Chrysta, Syna Božaha.

2. Jak napisana ŭ Izaja praroka (40,3): “Voś ja pasyłaju ànieła majho pierad voblikam tvaim, jaki pryhatuje darohu tvaju pierad taboju.

3. Hołas kličučaha ŭ pustyni: Praŭcie darohu Hospadavu, prastujcie ściežki jahony”.

4. Byŭ Jan u pustyni, chryściačy j abviaščajučy chrost pakuty na adpuščennie hrachoŭ.

5. I vyjchodziła k jamu ŭsia kraina Judejskaja ŭsie Jeruzalimcy dy byli chryščany im u race Jardanie, spaviadajučysia z hrachoŭ svaich.

6. A byŭ Jan adziety ŭ šarścianku viarbludavu z pojasam škuranym u pajaśnicy jahonaj dy jeŭ šaranču j lasny miod.

7. I pradviaščaŭ kažučy: Mahutniejšy za mianie idzie za mnoju jakomu nia hodzien ja nachiliŭšysia razviazać remień abutku jaho.

8. Ja vas chryściŭ vadoju, jon-ža chyścicimie vas Ducham Sviatym.

9. I stalasia, ŭ tyja dni pryjšoŭ Jezus z Nazaretu Halilejskaha i byŭ Janam achryščany ŭ Jardanie.


SVIATAJA EVANELIJA
i
APOSTALSKIJA DZIEI

PIERAKŁAŬ I PADAŬ VYJAŚNIENNI
Ks. Dr. PIOTR TATARYNOVIČ

RYM — 1954

10. I zaraz, vyjchodziačy z vady, ŭbačyŭ nieba raschilenaje i Ducha, by hołuba, zychodziačaha j tryvajučaha na im.

11. I staŭsia hołas z nieba: Ty Syn moj miły, ŭ tabie mnie daŭspadoby.

12. I zaraz Duch pavioŭ jaho ŭ pustyniu.

13. I prabyŭ u pustyni sorak dzion i sorak načej, i byŭ spakušany dzjabłam i prabyvaŭ z zviaratami, a ànieły prysłužvali jamu.

14. Paśla-ž taho, jak byŭ vydany Jan, pryjšoŭ Jezus u Halileju, abviaščajučy evaneliju vaładarstva Božaha

15. i kažučy, što spoŭniŭsia čas i prybližyłasia haspadarstva Božaje, pakutujcie dy viercie evanelii.

16. I prajchodziačy kala mora Halilejskaha, ŭbačyŭ Symona j Andreja, brata jahonaha, zakidajučych sieci ŭ mora, byli bo rybakami.

17. I skazaŭ im Jezus: Idziecie za mnoju, a zrablu vas, što stanieciesia rybakami ludziej.

18. I jany zaraz-ža, pakinuŭšy sieci, pajšli za im.

19. A krychu adyjšoŭšysia adtul, ubačyŭ Jakuba Zebedejevaha dy Jana, brata jahonaha, paradkujučych nievady ŭ łodcy,

20. i zaraz paklikaŭ ich. I jany, pakinuŭšy ŭ łodcy backu svajho Zebedeja z najmitami, pajšli

za im.

21. Dy prychodziać u Kafarnaum; i zaraz-ža ŭ sybotu, ŭvajšoŭšy u bažnicu, navučaŭ ich.

22. I dzivilisia z navuki jahonaj, vučyŭ bo ich jak toj, što ŭładu maje, a nie jak knižniki.

23. A byŭ u ichniaj bažnicy čałaviek, majučy ducha niačystaha i zakryčaŭ,

24. kažučy: Sto tabie da nas, Jezus Nazareński? Pryjšoŭ ty zhubić nas? Viedaju chto ty, Sviaty Božy!

25. I pryhraziŭ jamu Jezus, havoračy: Zamoŭkni j vyjdzi z čałavieka!

26. I skałatnuŭšy jaho dy zakrycaŭšy dzikim hołasam, vyjšaŭ z jaho duch niačysty.

27. I žachnulisia ŭsie, tak što pytalisia adzin druhoha, kažučy: Što heta? Sto za navuka novaja, što jon z uładaj naviet ducham niačystym zahadvaje j słuchajuć jaho?

28. I chutka razyjšłasia ab im słava pa ŭsioj Halilejskaj krainie.

29. I nieŭzabavak, vyjšaŭšy z bažnicy, pryjšli ŭ dom Symona j Andreja z Jakubam i Janam.

30. A ciešča Symonava lažała ŭ haračcy, dyk zaraz kažuć jamu ab joj.

31. I padyjšoŭšy, padniaŭ jaje, ŭziaŭšy za ruku, i vomih pazbylasia harački j pasłuhoŭvala im.

32. Kaliž nastaŭ viečar, jak zajšło sonca, prynosili k jamu ŭsich niadužych dy majučych dzjabalstva,

33. i ŭsio miesta sabrałosia pierad dzviaryma.

34. I azdaraviŭ mnohich, cierpiačych ad usiakich chvarobaŭ, i vyhaniaŭ mnoha demonaŭ, dy nie pazvalaŭ im havaryć, što jaho znali.

35. A ŭstaŭšy naranicy, čuć zołak, vyjšaŭ dy pajšoŭ na adasobnienaje miesca i tam maliŭsia.

36. Paspiašyŭ i Symon za im dy tyja, što byli z im.

37. I znajšoŭšy jaho, havorać jamu: Usie ciabie šukajuć.

38. I skazaŭ im: Pojdziem u blizkija vioski j harady, kab i tam navučać mnie, bo-ž natoje ja j

pryjšoŭ.

39. I navucaŭ skroz u ichnich bažnicach dy pa ŭsioj Halilei j vyhaniaŭ dèmanaŭ.

40. I pryjchodzie da jaho zapavietrany, prosiačy jaho i, ŭpaŭsy na kaleni, havoračy jamu: Kali chočaš, možaš mianie ačyścić.

PAVODLA ŠV. MARKA

RAZDZIEŁ 1.

**1. Pačatak evanelii Jezusa Chrysta, Syna Božaha.**
**2. Jak napisana ŭ Izaja praroka (40,3): « Voš ja pasyłaju àniela majho pierad voblikam tvaim, jakì pryhatuje darohu tvaju pierad taboju.**
**3. Holas kličučaha ŭ pustyni: Praŭcie darohu Hospadavu, prastujcie ściežki jahony ».**
**4. Byŭ Jan u pustyni, chryściačy j abviaščajučy chrost pakuty na adpuščennie hrachoŭ.**
**5. I vyjchodziła k jamu ŭsia kraìna Judejskaja ŭsie Jeruzalimcy dy byli chryščany im u race Jardanie, spaviadajučysia z hrachoŭ svaich.**
**6. A byŭ Jan adziety ŭ šarścianku viarbludavu z pojasam škuranym u pajašnicy jahonaj dy jeŭ šaranču j lasny miod.**
**7. I pradviaščaŭ kažučy: Mahutniejšy za mianie idzie za mnoju jakomu nia hodzien ja nachiliŭšysia razviazać remień abutku jaho.**
**8. Ja vas chryściŭ vadoju, jon-ža chyścicimie vas Ducham Sviatym.**

1. Hety versš možna brać za zahałovak, možna jaho viazać i z nastupnymi vieršami. Zaraz ad jaho i pačynajecca hutarka ab sapraŭdnasci [illegible] Chrystusa, jakoje [illegible] [illegible] vykazvaciмiecca ŭ jahonych mnohich cudach.
2. Pačatkam [illegible] Chrystovaj było vystuplennie Jana Chryściciela; Piotr bo, jakoha supracoŭnikam byŭ Marak, uvažaje za pačatak hetaj dziejnasci chrost Janavy, dziacinštva Zbaviciela prapuskajecca (Paraŭn. Dz. 1, 22; 10, 37). Cytata uziataja z Malach. 3, 1, slavianski teksi u hetym miescy maje: « u prarokaŭ », bo ŭ rečaisnasci zacytavany tut dva praroki: Mal. i Iz. (40, 3); ale evanelist nazyvaje tolki Izaju, jak staršaha i boĺšaha praroka.
4. Par: Mt 3, 1-12
8. Par. Mt 3, 11. Chrost Janavy byŭ tolki abradam i symbalam, pabudžajučym da pakuty. Chrystus padaŭ praŭdzivy chrost,

41. Jezus, zžaliŭšysia nad im, praciahnuŭ ruku svaju, i dakranuŭšysia da jaho, skazaŭ jamu: Chaču, budz acyšcany.

42. I jak tolki skazaŭ, zaraz-ža adyjšło ad jaho zapavietrannie i byŭ ačyščany.

43. I pryhraziŭšy jamu, zaraz-ža adpraviŭ jaho

44. i skazaŭ jamu: Hladzi, nie kažy nikomu, ale jdzi pakažysia staršamu šviataru j achviaruj za svajo ačyščennie što zahadaŭ Majziej na paśvietčannie im.

45. Ale jon, vyjšaŭšy, pačaŭ abviaščać i pašyrać viestku, tak što ŭžo nia moh adkryta ŭvajści ŭ horad, a prabyvaŭ vonkach na adludzdzi, adyž schodzilisia k jamu zusiul.

## Разьдзел 1.

1. Пачатак эванэліі Езуса Хрыста, Сына Божага.

2. Як напісана ў Ізая прарока (40,3): “Вось я пасылаю а`нела майго перад воблікам тваім, які прыгатуе дарогу тваю перад табою.

3. Голас клічучага ў пустыні: Праўце дарогу Госпадаву, прастуйце сьцежкі ягоны”.

4. Быў Ян у пустыні, хрысьцячы й абвяшчаючы хрост пакуты на адпушчэньне грахоў.

5. І выйходзіла к яму ўся краіна Юдэйская ўсе Ерузалімцы ды былі хрышчаны ім у рацэ Ярдане, спавядаючыся з грахоў сваіх.

6. А быў Ян адзеты ў шарсьцянку вярблюдаву з поясам шкураным у паясьніцы ягонай ды еў шаранчу й лясны мёд.

7. І прадвяшчаў кажучы: Магутнейшы за мяне ідзе за мною, якому ня годзен я нахіліўшыся разьвязаць рэмень абутку яго.

8. Я вас хрысьціў вадою, ён-жа хрысьцiціме вас Духам Сьвятым.

9. І сталася, ў тыя дні прыйшоў Езус з Назарэту Галілейскага і быў Янам ахрышчаны ў Ярдане.

10. І зараз, выйходзячы з вады, убачыў неба расхіленае і Духа, бы голуба, зыходзячага й трываючага на ім.

11. І стаўся голас з неба: Ты Сын мой мілы, ў табе мне даўспадобы.

12. І зараз Дух павёў яго ў пустыню.

13. І прабыў у пустыні сорак дзён і сорак начэй, і быў спакушаны дзьяблам і прабываў з зьвяратамі, а анелы прыслужвалі яму.

14. Пасьля-ж таго, як быў выданы Ян, прыйшоў Езус у Галілею, абвяшчаючы эванэлію валадарства Божага

15. і кажучы, што споўніўся час і прыбліжылася гаспадарства Божае, пакутуйце ды верце эванэліі.

16. І прайходзячы каля мора Галілейскага, ўбачыў Сымона й Андрэя, брата ягонага, закідаючых сеці ў мора, былі бо рыбакамі.

17. І сказаў ім Езус: Ідзеце за мною, а зраблю вас, што станецеся рыбакамі людзей.

18. І яны зараз-жа, пакінуўшы сеці, пайшлі за ім.

19. А крыху адыйшоўшыся адтуль, убачыў Якуба Зэбэдэевага ды Яна, брата ягонага, парадкуючых невады ў лодцы,

20. і зараз паклікаў іх. І яны, пакінуўшы ў лодцы бацьку свайго Зэбэдэя з наймітамі, пайшлі за ім.

21. Ды прыходзяць у Кафарнаум; і зараз-жа ў сыботу, увайшоўшы ў бажніцу, навучаў іх.

22. І дзівіліся з навукі ягонай, вучыў бо іх як той, што ўладу мае, а не як кніжнікі.

23. А быў у іхняй бажніцы чалавек, маючы духа нячыстага і закрычаў,

24. кажучы: Што табе да нас, Езус Назарэньскі? Прыйшоў ты згубіць нас? Ведаю хто ты, Сьвяты Божы!

25. І прыгразіў яму Езус, гаворачы: Замоўкні й выйдзі з чалавека!

26. І скалатнуўшы яго ды закрычаўшы дзікім голасам, выйшаў з яго дух нячысты.

27. І жахнуліся ўсе, так што пыталіся адзін другога, кажучы: Што гэта? Што за навука новая, што ён з уладай навет духам нячыстым загадвае й слухаюць яго?

28. І хутка разыйшлася аб ім слава па ўсёй Галілейскай краіне.

29. І неўзабавак, выйшаўшы з бажніцы, прыйшлі ў дом Сымона й Андрэя з Якубам і Янам.

30. А цешча Сымонава ляжала ў гарачцы, дык зараз кажуць яму аб ёй.

31. І падыйшоўшы, падняў яе, ўзяўшы за руку, і воміг пазбылася гарачкі й паслугоўвала ім.

32. Каліж настаў вечар, як зайшло сонца, прыносілі к яму ўсіх нядужых ды маючых дзьябальства,

33. і ўсё места сабралося перад дзвярыма.

34. І аздаравіў многіх, церпячых ад усякіх хваробаў, і выганяў многа дэмонаў, ды не пазваляў ім гаварыць, што яго знаді.

35. А ўстаўшы нараніцы, чуць золак, выйшаў ды пайшоў на адасобненае месца і там маліўся.

36. Пасьпяшыў і Сымон за ім ды тыя, што былі з ім.

37. І знайшоўшы яго, гавораць яму: Усе цябе шукаюць.

38. І сказаў ім: Пойдзем у блізкія вёскі й гарады, каб і там навучаць мне, бо-ж натое я й прыйшоў.

39. І навучаў скроз у іхніх бажніцах ды па ўсёй Галілеі й выганяў дэманаў.

40. І прыйходзе да яго запаветраны, просячы яго і, ўпаўшы на калені, гаворачы яму: Калі хочаш, можаш мяне ачысьціць.

41. Езус, зжаліўшыся над ім, працягнуў руку сваю, і дакрануўшыся да яго, сказаў яму: Хачу, будзь ачышчаны.

42. І як толькі сказаў, зараз-жа адыйшло ад яго запаветранне і быў ачышчаны.

43. І прыгразіўшы яму, зараз-жа адправіў яго

44. і сказаў яму: Глядзі, не кажы нікому, але йдзі пакажыся старшаму сьвятару й ахвяруй за сваё ачышчэньне, што загадаў Майзей на пасьветчаньне ім.

45. Але ён, выйшаўшы, пачаў абвяшчаць і пашыраць вестку, так што ўжо ня мог адкрыта ўвайсьці ў горад, а прабываў вонках на адлюдзьдзі, адыж сходзіліся к яму зусюль.

## [Камэнтары да паасобных вершаў]

*1. Гэты верш можна браць за загаловак; можна яго вязаць і з наступнымі вершамі. Зараз ад яго й пачынаецца гутарка аб сапраўднасьці боства Хрыстуса, якое так сільна выказвацімецца ў ягоных многіх цудах.*

*2. Пачаткам жыцьцядзейнасьці Хрыстовай было выступленьне Яна Хрысьціцеля; Пётр бо, якога супрацоўнікам быў Марак, уважае за пачатак гэнай дзейнасьці хрост Янавы; дзяцінства Збавіцеля прапускаецца (Параўн. Дз. 1, 22; 10, 37). Цытата ўзятая*

*з Малах[іі] 3, 1; славянскі тэкст у гэтым месцы мае "ў прарокаў", бо ў рэчаіснасьці зацытаваны тут два прарокі: Мал[ахія] і Із[ая] (40, 3); але эванэліст называе толькі Ізаю, як старшага й большага прарока.*

*4. Пар: Мт 3, 1—12*

*8. Пар: Мт 3, 11. Хрост Янавы быў толькі абрадам і сымбалем, пабуджаючым да пакуты. Хрыстус падасьць праўдзівы хрост, што дзеяньнем Сьв. Духа, моў агнём, выпаліць грахі, ачысьціць душу і асьвеціць ласкаю.*

*9. Гл: Мт 3, 13—17; Лк 3, 21—22; Я[н] 1, 31—34.*

*10. Магчыма, што ў вышэйшых сфэрах паветра здарыліся нейкія зьмены, й зьявы, дакананыя моцай Божай; яны давалі выгляд адчыненага неба, адкуль дайходзіў голас Божы.*

*12. Гл: Мт 4, 1—11; Лк 4, 1—13. "Павёў", знача моц Духа Сьв., які зьявіўся падчас хросту, узяла над Збавіцелем кіравецтва.*

*13. Глядзі паясн. да Мт 3, 1—4, 11; пустыня тая настолькі дзікая, што ня толькі тады, але й цяпер там поўна зьвяр'я: лісоў, ваўкоў, гіенаў. Пасьля спашуканьня прыступілі да Езуса анелы, каб аддаць яму чэсьць ды быць на паслугах.*

*14. Гл: Мт 4, 12—22; Лк 4, 14н.*

*21. Гл: Мт 4, 13—16; Лк 4, 31—37. Хоць Вульгата піша "шабаты" лік множны, то гутарка тут выразна аб адным шабаце. Множны лік тэксту грэцкага можа мець ды мае тут гэткі сэнс.*

*22. У бажніцах кожную сыботу вучыцелі Закону чыталі сьв. Пісаньне ды разьясьнялі яго, ніколі не гаворачы ад уласнага імя, а паклікаліся на Майзея і прарокаў, ці на слаўных вучоных у Законе; Езус-жа вучыў сваёю ўласнаю павагай і ўласнааўтарытэтна даваў загады.*

*24. Сэнс выказу духа злога такі: Чаму пачынаеш з намі? Нячысьціку знача яшчэ ня ясна, ці Збавіцель ёсьць Богам.*

*25. Збавіцель не хацеў сьвядоцтва ад злога духа, праўда бо ня можа прыймаць пасьветкі ад родзіча зла; дзеля гэтага загадвае дэмонам маўчаць. Тут Збавіцель і нас павучае ніколі ня слухаць падшэптаў нячыстага, хоцьбы й выдаваліся на першы выгляд і добрымі.*

*29. Гл: Мт 8, 14—17; Лк 4, 38—43.*

*32. Прыносілі хворых на захадзе сонца дзеля таго, што тады ўжо быў адыйшоў шабат і можна было насіць ношы.*

*34. Збавіцель вучыць, каб пры спаўняньні добрых учынкаў ня шукаць людзкое пахвалы й розгаласу, а на самоце ў маліцьве дзякаваць Богу за ласку добрае ахвоты. Злыя духі агульна "зналі" Хрыстуса, як высланьніка Божага, але ён ня хоча аб сабе сьвядоцтва дэманаў.*

*39. Марак часта спамінае аб выгнаньні дэманаў, каб гэтым адцеміць боскую моц Е[зуса]Хрыста (Мт 8, 1—4; Лк 5, 12—16).*

*40. Аб заражаных струплёй (лепра) гл. Мт 8, 2.*

*43. "Прыгразіўшы" — бо запаветраны не зладжыў яшчэ ахвяры паводля Майзеевага Закону (Лев 14, 1—32) дый будчы заразліва хворым, увайшоў у горад, хоць было забаронена.*

*44. "На пасьветчаньне ім" — каб пазналі, што і цуды дзее Збавіцель, і Закону пільнуецца.*

*45. Езус ня мог увайсьці ў горад адкрыта (у Кафарнаум), бо адразу рабілася зборышча народу.*

*Пётра Татарыновіч*

# ПУБЛІЧНАЯ ДЫСКУСІЯ АДНОСНА ТЭРМІНАЛЁГІІ Й НАВАТВОРАЎ КС. ПЁТРЫ ТАТАРЫНОВІЧА Ў ЯГОНЫМ ЧАСОПІСЕ “ЗЬНІЧ” І ПЕРАКЛАДАХ БІБЛІІ

## Слоў некулькі самаабароны[1]

Неадрэчы раз нехта прыраўнаў горкую долю рэдактара нашых паважнейшых часопісаў да тае долі гароху прыдарожнага, аб якім абыдна кажуць: хто йдзе, дый і ўшчыпне. Бо і сапраўды няма ў нас бадай аніводнага зь іх, ня толькі партыйнага, але й беспартыйнага (а вярней: падпартыйнага, бо з усіх бакоў па ім б’юць, што не памагае бэсьціць праціўніка), няма — кажу — аніводнага з рэдактараў, які-б ня быў шчыпаны, муштраваны праз чытачоў, і то з матываў часта недарэчных ды супярэчных. А калі ўжо якога рэдактара доля ў гэтым сэнсе горкая, дык рэдактара маладога “Зьнічу” хіба найбольш. Бо і хто толькі на яго не разьзяўляўся ды ня шчыпаў, не нападаў, не “пярунаваў” на яго спатайку, ці публічна. Адхрысьціўшыся (як ад нечага жахліва блюзьнерскага й брутальнага), ад “Сілы” дэманаўскае ненавісьці, прафанацыйна прыкрытай магічным словам “Веры” й найсьвяцейшым Пакровам Жыровіцкай Божай Маці, — успамянём толькі аб сілах больш-менш нармальных. Які толькі інструктаман і карэктаман із гэтых сіл не замахваўся на нас з імпэтычнай мінай ці-то гохрэдактара[2] дызынфэктара ад “жаргону”; ці-то антыімправізатара й прыганятага ў вадной асобе (чаму бо яму ў вадзін год газэта не рэвіндыкавала із чужашавіністычнага культурнага палону таго, што вякамі было глытана); ці-то розных густаведаў і крывулістаў. Пры гэткім вось настаўленьні з гары дайшло да таго, што некаторыя, каб паказацца ў кпінах з каго *“ня горшымі”*, пачалі аж… *“выкрадаць талеркі”*, каб на іх вылажыць, выбачайце, “кветкі” сваіх інсінуацыйных алюзыяў

[1] Друкуецца паводле: Redakcyja. Slou niekulki samaabarony // Źnič. № 20. Vierasien — Kastrycnik 1952. C. 8.

[2] Галоўнага рэдактара.

ды бяссорамна пад самы нос падносіць (“*еже четет, да разумеет*”). Ну і ці не даволі ўжо было-б усяго гэтага? Куды там! На давяршэньне — на табе йшчэ й нейкае аўстралійскае накакарэчанае “*Я*” із-за готэнтоцкага вугла вылазіць з імпэртынэнцкім каменем: каб яму канечне — 1) “*нітраціць зра паперу і грошай*”; 2) каб ня быць “*ізуітам*”, ці “*другім Станкевічам, а працаваць на карысьць беларускага народу*” (навучыўшыся ад завугольных ананімаў патрыятызму); 3) каб заўсёды за адным выстралам “*часопіс у чыстай мове беларускай, быў даступны як да інтылігэнта, так і сяляніна*” (дзе іх сяньня набрацца тых сялян?); ды 4) каб канечне малпаваў іншую газэту, яму дапаўшую гэтым разам да смаку і т. п.

Цярпела тая душа рэдактара, цярпела, ашчаджаючы энэргію на паважнейшыя рэчы, дый нарэшце сказала сабе: Годзі! — Мушу ахвяраваць бачыну, хай не здаецца каму, што рэдакцыя без’языкатая, бы той гарох прыдарожны, па якой можна ўсякаму, *et Jovi et bovi*[3], бяскарна таптацца!

Зачнём ад тае публіцыстычнае мовы. Хто мае права яе кваліфікаваць ды рэкамандаваць рэдакцыі? — Той, хто сам зь яе ня зьдзекуецца, хто яе знае, зьяўляецца поўна-аўтарытэтным дый не грубіянска-самазванскім, а прошаным ейным карэктарам. І гэткіх карэктараў рэдакцыя наша ў меру патрэбы й магчымасьці выкарыстоўвае. Завугольнае-ж “*Я*” хай не чакае ад нас падобнага выкарыстаньня. У ягоным бо размазным пісьме дваццаціградковага зьместу красуецца (як сьцьвярдзіў кампэтэнтны й аб’ектыўны карэктар) аж 18 грубых ортографічных памылак, ня кажучы ўжо аб стылістычных ды іншых. Як-жа тады яно можа ды сьмее пры гэткім сваім “грамацействе” судзіць аб чыстаце й правільнасьці чые мовы? Паводля яго, той дрэнна рэдагуе газэту, хто не малпуе ягонай засьлеплянай ігнаранцыі, макаронізму. Ці ня вынікае з гэтага, што не яно, тое “Я” рэдакцыі, а наадварот, рэдакцыя яму мае права сказаць, каб ня глубіла надарма паперы й грошай на гэткую сваю ананімовую кавярзу? І калі ўжо так цікавіцца чужым грашавым капшуком, дык чаму-ж, пры сваім гурапатрыятызме, не спытала перш сябе, ці шмат таму капшуку памагло, ды ці хоць ёсьць што зь яго вытрачваць? А мо’ яму здавалася, што патрапіць гэткай кавярзою некага ўпакорыць, зьбянтэжыць? Калі нам не патрапілі выбіць пяра з рук дагэтуляшнія вышмянаваныя плыткія дацінкі, дык ягоныя й пагатоў не патрапяць. Хай будзе пэўны — мы ня з голымі рукамі, маем чым пасьветчыць тое, што наша часопісь не зьяўляецца ані больш жаргоннай, чым іншыя, ані горш абясцэнванай за дрэнны стыль ды аўтэнтычнасьць роднай мовы, а тымболей за беспатрыятычнасьць. Вось нат разам зь

[3] ***Et Jovi et bovi*** (лац.) — І Юпіцеру, і быку.

ягоным пісьмом, таго-ж самага дня, мы атрымалі два другія, у якіх адзін карэспандэнт, каталік, піша: *“...вельмі дзякую Вам за “Зьніч”, які я чытаю зь вялікаю прыемнасьцю ад пачатку да канца. Асабліва падабаецца мне, што Вы ўжываеце многа слоў із жывое народнае мовы. Прышлеце нехапаючыя бачыны Эванэліі...”*. Другі карэспандэнт, праваслаўны, піша: *“Маю гонар як беларус выразіць Вам шчырую падзяку, што хоць адзін з рыма-каталіцкіх сьвятароў здабыўся на так важную справу і вядзе яе з нацыянальным духам, каб нашыя суродзічы ня блуталіся між чужынцаў палякаў... шкадую, што ня маю ўсіх нумароў, бо меў-бы вартасную кніжку Сянкевіча... Я ёсьць праваслаўным... але няма перашкоды, каб я ня мог атрымліваць Вашае рэлігійнае часопісі...”*. Пісьмы гэныя з аўторызацыяй і адрэсам высылаючага. Шмат такіх мы атрымоўваем і на падставе іх праконываемся, што насуперак цьверджаньню аўстралійскага “Я”, не надарма трацім паперу: Зьніч паволі здабывае чытачоў. Недацаняюць яго толькі плыткія авантурысты, або заскемлыя індывідуалісты, якім хацелася-б усё зманераваць на свой вузкі рэгіяльны, ці партыйны капыл. Ня могуць-жа быць газэты, хоць-бы й рэлігійныя, ўсе на адзін манер, кожная зь іх па-за аднолькавым агульным рэлігійна й нацыянальна-ідэйным адраджэнскім напрамкам, павінна мець і свой собскі, дапаўняючы; таму наіўным, (калі не сабатажніцкім) зьяўляецца той, хто дамагаецца, каб адна газэта дрыпятала тою-ж самаю сьцежкаю й рабіла тое самае, што й другая; такім чынам мы ніколі не асягнем паўнаты нашага адраджэньня.

“Зьніч” ня ёсьць выпладам чыйго-небудзь асабіста-канкурэнцыйнага экспэрымэнту, хоць паўстаньне сваё й дагэтулешняе функцыянаваньне, а такжа фармальна-праўны дый фінансовы стаж, і заўдзячвае гарачым захадам аднаго фактычна свайго закладчыка. Яго зрадзіла наша пякучая адраджэнская патрэба: по-за агульнымі культурна-асьветнымі й рэлігійнымі ўслугамі, салідна выправіць формы беларускага лацінства й паглыбіць ды асвоіць ягоны дух, знакомячы з гэтым з аднаго боку сьведамыя, з другога нясьведамыя беларускія каталіцкія масы, а з трэцяга — і масы праваслаўныя, каб праканаць іх, што радзімае лацінства ня толькі ня ёсьць ім варожае, годнае байкоту, але братняе, працуючае ня менш, калі ня больш, над адраджэньням нашага народу й маючае да яго ідэйна-гістарычнае натуральнае права. Без лацінства собскага мы не абаронім нашых масаў, асабліва тут у замежжы, ад рэлігійнага й нацыянальнага ачужэньня, ані не магчымем рэвіндыкаваць вынарадаўленых, трацячы на гэтым мільёны братоў. Асаблівая й паважная задача гэта вымагае й своеасаблівых мэтодаў: вымагае матар’ялу ідэолёгічна-ўсьведамляючага, часамі папулярна, а часамі й сьцісла навукова-дыскусыйнага, літаратурна-здабытнага, канкурэнцыйна-прыгожага,

будзячага сэнтымэнт, чапляючага за душу; але ўсё гэта ў постаці больш бэлетрыстычнай рэчова-глыбейшай, чым дэмагогічнай, сэнсацыйна-фаерверкавай, дробнавесткавай; вераб'ёў бо на мякіну ня звабіш. А калі-б навет выдатная карысьць якіх-небудзь драбнейшых модэрных прывабаў, адлюстроўваючых жыцьцё, і апраўдвала іх кошт, дык ня трэ звальваць гэтага на абцяжаныя плечы й кішэнь самога толькі рэдактара; трэба яму памагаць, уявіўшы ўрэшце высокія й спэцыяльныя мэты нашай часопісі, памагаць абедзьвюмя рукамі, памагаць чынна, пазытыўна, дамэтна, талковым пісьменскім і кольпортэрскім супрацоўніцтвам ды грашмі, а ня голай прэтэнсыянальна-капрысьлівай камандай і бясплоднымі дацінкамі. Пара, вялікая пара ўжо скончыць з гэнай атрутнай бязьдзейнай гыпохондрыяй, а зачаць даверліва-цярплівую здысцыплінаваную пазытыўнатворчую разьвіваючую супрацу. Ад гэтага — думаем — больш будзе карысьці нашай газэце і нам.



Пётра Татарыновіч у працоўным кабінэце. 1960-я гг.

*Рэдакцыя*

***П. Д.***[4]

## Па лініі вытрыманай кансэквэнцыі[5]

Да сьвяткавальных сакавіковых разважаньняў, абяртаючыхся пераважна ля праблемаў вызвольна-адраджэнскага змаганьня, неадрэчы мо будзе дакінуць пару зацемак з аднае найболей абняхаенае дзялянкі таго змаганьня — рэлігійна-языковай. Дзялянкі ня ў гэткім сэнсе абняхаенай, як там пад акупацыяй, ці-то сяньняшняй, дзе рэлігія брутальна выкараняецца, ці-то ўчарашняй, дзе яна недарэчна

[4] **П. Д. — Пётра Дрыгвіч** — псэўданім кс. Пётры Татарыновіча.

[5] Друкуецца паводле: P. D. Pa linii vytrymanaj kansekvencyi // Źnič. № 17. Luty — Sakavik 1952. Hod III. C. 3—4.

адсоўвалася, як непатрэбшчына, па-за адраджэнска-дзяржаўную праграму. Наш арганізаваны эмігранцкі рух беларускі, Богу дзякаваць не пайшоў сьледам дзікага атэізму; ён за прыкладам цывілізаванага сьвету прызнае рэлігію за аснаўны дзейнік духова-культурнага адраджэньня народу і хіба-ж дзеля гэтага кладзе столькі захадаў, каб аздаравіць яго пры помагчы ўласнагэрархічнай (кананічнай) самаўлады, забясьпечваючай ад чужанацыянальных надужыцьцяў на гэтым так важным полі. Нажаль, захады гэныя ня йдуць, як паказвае практыка, *па лініі вытрыманай кансэквэнцыі*. Вось у гэтым сэнсе і выглядае рэлігійная дзялянка наша абняхаенай.

У чым-жа тая некансэквэнцыя? Бачымо, як паўстаюць тыя ўласнагэрархічныя ўстановы, а беларушчаньня рэлігійнага быту зусім не відно. Возьмем толькі адну галіну гэтага быту, языковую; хто-ж ня бачыць, як тэрміналогія душпастырская, тытулярызацыя дастойнікаў, іменьнік і т. п. у практыцы тых установаў яшчэ астаецца чужая, выклікаючая ўражаньне нявольніцкай чужакультурнай залежнасьці, тады, калі наша мова ня ёсьць такой убогай і несамавыстарчальнай. Ці гэта гарманізуе — пытаем — з тымі ўсімі сакавіковымі імкненьнямі й ідэаламі?

Ня хочам гаварыць аб гэтых далікатных рэчах занадта канкрэтна ды з аподыктычным эксклюзывізмам і шаблёнам; бо-ж усяго ані не дасца зьбеларушчыць, ані няма патрэбы. Так як у другіх народаў шмат агульнапрынятых навукова-тэолёгічных, канонічна-літургічных тэрмінаў, ня кажучы ўжо аб спэцыяльных аўтэнтыках біблійных, астанецца з моваў клясычных. Тое аднак, што суседнія пануючыя мовы знацыяналізавалі (часамі вельмі-ж няўдала) і гэтым накінулі нашаму рэлігійнаму быту свой характар чужанацыянальны, нам даўно пара, асабліва тут заграніцай, ужо зьбеларушчваць. Пэўне-ж, не праз самую толькі асыміляцыю фонэтычную, і да таго няздарную, зьбеларушчваць, каб з характэрыстычна-прыгожага, напрыклад, беларускага аканьня ды выходзіла разьзявяканьне, але праз нашы зусім апрычоныя густоўныя тэрміны пры ўсёй іх дакладнасьці і дагматычнай, і граматычнай, і ўсякай іншай. Возьмем, напрыклад, тэрміны "*Царква*", "*Касьцёл*". Першы змаскалены, ці згэрманізаваны (*Kirche*) баўгарызм, а другі — палянізм; ні адзін, ні другі, знача, ня выйшаў зь нетраў незалежнай беларускай душы, разумеючай, успрыймаючай і выказваючай сабе свома абазначаную імі істасьць. Тэрміны гэтыя ў меру змаганьня з чужымі шовіністычнымі ўплывамі з усходу й захаду, зь якімі доля судзіла ім к нам прыйсьці, робяцца прыкрымі ды нясуцерпнымі ўзаемна: праваслаўныя, паміма братняга джэнтэльмэнства, чуюць нейкую ўтаеную нехаць да слова "*касьцёл*", зь якім зьвязана гэтулькі гістарычных упярэджаньняў, а каталікі тое-ж самае чуюць да слова "*царква*", да якое за цароў гналі іх сілком.

Сяньня, калі здэцыдавана працуем над нашым монолітам нацыянальным, адваёўваючы яму незалежнасьць, а рэлігія набірае ў гэтых імкненьнях штораз важнейшага значэньня, беларусам яшчэ трудней цярпець языковае рэлігійна-культурнае раздваеньне. Калі ня можам сяньня гаварыць аб задзіночаньні ідэйна-вызнаньнявым, дык хіба-ж можна гаварыць аб культурным, языкова-тэрмінолёгічным. Бо-ж ня можа існаваць дзвёх моваў; гэтага нідзе ў сьвеце няма; так, як ня можа існаваць аднае мовы, накінутай адной якой-небудзь, хоцьбы нат і большай, стараною вызнаньнявай, пакуль яна карыстаецца чужымі тэрмінамі. Дык ці не пара падумаць нам аб падшуканьні ў нашым лексыконе арыгінальнага слова для аднаназовы гэтай так падставовай для нашага вызваленьня Установы? Усёроўна, ці будзе гэта архаізм, ці нэолёгізм, абы толькі ўдалы. Пякучая патрэба і прыклад іншых рэлігійна падзеленых народаў (Нямеччына, Англія і ім пад[о]бн[ыя]) павінен цалком апраўдаць яго навет і перад найболей заскемлым консэрватыстам ці суб'ектывістам. Не ігноруецца тут псыхолёгічна-консэрватыўны дзейнік, задаўненая прывычка, ставіцца его толькі пад крытэрыю рацыянальнасьці. Нябось не баяліся консэрватызму тыя чужынцы, хто пасьмеў арыгінальны эванэлічны грэцкі тэрмін "эклесіа" падаваць нам у сваёй знацыяналізаванай форме. І калі-б ужо была нейкая рацыя консэрваваць чужамоўныя тэрміны, дык ці ня першае месца павінны заняць першатэрміны апастольскія, стараклясычных моваў? Асабліва тады, калі этымолёгія гэтых чужазнацыяналізаваных ані крошкі да нас ня бліжэйша, не абразуе данага паняцьця. Ліцьвіны, напрыклад, дык гэтак і пачынаюць рабіць адносна "*эклесіа*", агледзеўшыся, што слова "*bažnyčia*" славянскага паходжаньня дый этымолёгічна нічуць не бліжэйшае за "*эклесію*". Па гэткай лініі пайшоў тымчасам і наш найнавейшы пераклад эванэліі, пакуль ня знойдзецца ды не зрэасымілюецца свой чыстабеларускі. Пошукі гэных тэрмінаў сваіх напэўна ўдаліся-б, каб не пашкадавалі ў іх свайго фаховага і талентнага ўдзейніцтва нашы языкаведы, паэты, пісьменьнікі. Чытачы "Зьнічу" ўжо спатыкаліся з праектаваным (не накіданым аподыктычна) тэрмінам "*Субожня*", вынятым із старых нашых назоваў сьвятыні[6] Тураўскія князі, палоненыя ў Кіеве Валадзімерам, тамашн[юю] сваю фамілійную сьвятыню называлі "*божэнка*", "*божня*", не "*царква*". Каб данаравіць гэты адноўлены прыгожы архаізм да паняцьця суспольнасьці Божай, якой і зьяўляецца "*эклесіа*", дадана суфікс "су" і выйшла "*субожня*", "*субажэнскі*"; сьвятыня (дом Божы), каму даўспадобы, тады магла-б называцца "*набожня*", ці "*пабожня*". Але тэрмін гэты вымагае вельмі

---

[6] Малышевский, Иван. Творения Отца нашего Св. Кирила Туровскаго. Киев, 1880. С. XLV. — ***П. Т.***

цьвёрдага фонэтычна-эстэтычнага ўсьведамленьня, каб не пагражала й яму тое нясуразнае “разьзявяканне” ды ня выйшла: “*субажн`я*”. Што прапанаваная намі форма “*субожня*” ёсьць свомая беларускай мове, сьветчыць аб гэтым падобнае, і пасяньня жывое слова “*субожына*”, “*субожынка*”[7].

Апрача тэрмінаў “*царква*” і “*касьцёл*” колькі-ж яшчэ іншых просіцца пад увагу!

Можа зацемкі гэтыя выдадуцца каму й засьмелымі, адыж і цэлае наша адраджэньне, ці-ж не складаецца з гэткіх сьмелых актаў? Інакш — трудна паступіць наперад.

***а. Леў Гарошка***[8]

## У справе назову Царквы[9]

Два гады таму зьявіўся ў “Зьнічу” Нр. 17 артыкул: “Па лініі вытрыманай кансэквэнцыі”, у якім аўтар, схаваны пад крыптонімамі “П. Д.” закрануў справу беларускае рэлігійнае тэрміналёгіі і спэцыяльна затрымаўся над словамі “*Царква*”, “*Касьцёл*”, прапануючы на іх мейсца свой новатвор.

Назоў такое важнае ўстановы, якою ёсьць рэлігійная ўстанова, заснаваная самым Ісусам Хрыстом для збаўленьня людзкіх душаў, ёсьць бязумоўна вельмі важнаю справаю і дзеля гэтага неабходна разглядзець тую прапанову.

Да гэтага часу ўспомнены артыкул ёсьць адзіны, які катэгарычна дамагаецца зьмены назову і ўводзіць новатвор, а рэдактар “Зьніча”, не чакаючы прыняцьця тае прапановы кампэтэнтнымі ўладамі, ані нават адабраючых галасоў з боку грамадзкасьці і вернікаў, пачынае карыстацца новатворам, як агульнапрынятым словам, уводзячы гэтым баламуцтва.

Перш чым разьбіраць самую прапанаваную зьмену, неадрэчы будзе пашукаць і яе аўтара. Знайсьці яго зусім лёгка, бо і стыль і мова артыкулу выяўляюць, што “П. Д.” гэта сам рэдактар “Зьнічу”

[7] Ластоўскі, Вацлаў. Расейска-Беларускі Слоўнік. Коўна, 1924. сл. “милостыня” — ***П. Т.***

[8] На той час **а. Леў Гарошка** (1911—1977), рэлігійны й культурны дзеяч, выдавец часопісу “Божым Шляхам”, жыў у Парыжы і быў кіраўніком Беларускай каталіцкай місіі ў Францыі.

[9] Друкуецца паводле: Гарошка, Л. а. У справе назову Царквы // Божым Шляхам. 1954. № 3 (60). Травень —Чэрвень. С. 10—12.

кс. др. П. Татарыновіч, які першы ўжыў слова "*субожня*", перавыдаючы ў 1949 г. малітаўнік "Голас душы"[10].

Сваё дамаганьне зьмяніць словы "*Царква*", "*Касьцёл*" кс. Татарыновіч ставіць у катэгарычнай форме. Ці сапраўды гэтая зьмена такая неабходная?

Беларусы прынялі хрысьціянства ў X стагодзьдзі і адначасна прынялі туюю тэрміналёгію, якую несла з сабою новая рэлігія, у тым ліку і слова для азначэньня тае Хрыстовае арганізацыі, якую называюць Царквою. Ужо дзесяць стагодзьдзяў існуе на Беларусі хрысьціянства і за гэты час беларускі народ перажываў пэрыяды дзяржаўнасьці і пэрыяды паняволеньня, перажывала гэтыя пэрыяды і беларуская мова. Некаторыя словы адпадалі, некаторыя зьмяніліся і нямала тварылася новых слоў, але да гэтага часу ніхто ня выказваў патрэбы зьмены слова "*Царква*", не адчуваючы відавочна да гэтага ніякае патрэбы.

Як-жа матывуе неабходнасьць зьмены кс. Татарыновіч? Ён кажа, што "*Царква*" гэта "*змаскалены, ці згэрманізаваны (Kirche) баўгарызм*", а "*Касьцёл — палянізм*". І адно і другое цьверджаньне непраўдзівае. Аб паходжаньні слова «Царква» ёсьць каля дзесятка тэорыяў, але ніхто з моваведаў не называе яго баўгарызмам. З сумам трэба сьцьвердзіць, што кс. Татарыновіч закрануў пытаньне, якога зусім ня ведае, хоць адносна слова "*Царква*" ёсьць вельмі багатая літаратура. Даволі сказаць, што ў кніжцы Гінара Гінарсона, якая прысьвечана спэцыяльна гэтаму слову толькі самая бібліяграфія займае цэлых пяць старонак[11]. Хто цікавіцца гэтым пытаньнем, дык там знойдзе вычэрпваючыя інфармацыі. Тут няма сэнсу пералічаць усе тэорыі адносна паходжаньня слова "Царква", бо некаторыя з іх зусім адкіненыя, напр[ыклад] тыя, што стараліся вывесьці яго паходжаньне ад лацінскага слова **circus**[12]. Нямецкія і пранямецкія тэорыі, якія выводзілі яго ад старавысокагэрманскага слова **chiricha**[13], ці ад пазьнейшых яго формаў у далейшым самі мусілі шукаць пачатку гэтага слова ў грэцкай мове. І сёньня ўсе моваведы канчаткова прыйшлі да выснаўку, што слова "Царква" паходзіць ад

[10] Маецца на ўвазе выданьне: Stepovič, K. Hołas Dušy. Rym, 1949. — 320 s.

[11] Gunnarsson, Gurmasr. Das slaviesche Wort für Kirche // Upsala Universitets Arsskrift. Upsala, 1937. S. 58—62. — ***Л. Г.***

[12] Miklosich, Franz. Die Christliche Terminologie der slavischen Sprachen // Denkschriften der Phil. histor. Classe der Kais. Akademie der Wissenschaft. Bd. XXIV. Wien, 1876. S. 17. — ***Л. Г.***

[13] Miklosich, Franz. Die Christliche Terminologie der slavischen Sprachen. S. 17. — ***Л. Г.***

грэцкага слова κυριακόν, κυριακή) — Госпадні[14].

Нават гістарычна бяручы слова “Царква” нельга называць змаскаленым, ці згэрманізаваным, бо яно ўспрыймалася і ўжывалася славянамі незалежна ад немцаў і задоўга да таго як яго ўспрынялі расейцы. Сьвятыя браты Кірыла і Мяфод ведалі славянскую мову яшчэ перад тым, як прыйшлі ў Баўгарыю. У старым жыцьцяпісе гэтых сьвятых гаворыцца, што імпэратар Мануіл, выпраўляючы іх на місію, казаў: *“Вы ёсьць салуняне, а ўсе салуняне гутараць чыста па-славянску”*. Што гэтыя словы імпэратара адказваюць праўдзе сьведчыць той факт, што ад VI в. у Грэцыі каля Солуня пасялілася вялікая група славян, якія адарваліся ад беларускага племені Дрыгвічоў. Баўгарскі манах Храбар (VIII ст.) іх называе Другувітамі, значыць іхняю моваю і гаварылі сьвятыя браты Кірыла і Мяфод. Прымаючы пад увагу гэтая весткі нам ня толькі ня выпадае ствараць нейкае ўпярэджаньне да слова *“Царква”*, але хутчэй сьцьвердзіць, што беларусы да яго маюць найбольшае права.

Што да слова *“касьцёл”*, дык хоць яно на Беларусь сапраўды прыйшло з Польшчы, але яно ня ёсьць польскае, бо-ж палякі ўзялі яго ад чэхаў,а чэхі стварылі яго ад лацінскага слова *castellum* — замак[15]. Пры гэтым неабходна падчыркнуць, што ў чэскай і славацкай мовах гэтае слова адносіцца толькі да азначэньня сьвятыняў, а да азначэньня рэлігійнае арганізацыі яны маюць слова **Cirkev**.

Як яшчэ адзін закід супраць слоў *“Царква”*, *“Касьцёл”* кс. Татарыновіч падчырквае, што яны ня выйшлі *“з нетраў незалежнай беларускай душы”*. Гэтае цьверджаньне ёсьць праста дэмагогіяй, бо-ж і самое хрысціянства ня выйшла з нетраў беларускае душы, дык ці-ж яго так-жа трэба зьмяніць? Прытым большасць рэлігійнае тэрміналёгіі паходзіць з гэбрайскае, грэцкае і лацінскае моваў — ці іх усе неабходна мяняць? На ўсім сьвеце хрысьціянства несла з сабою багатую тэрміналегію для азначэньня ўсяго таго духоўнага і культурнага багацьця, якое яно мела ў сабе і ўсе ўважаюць гэты факт не як штосьці годнае заганы, але як паважны здабытак[16]. Ці-ж у нас белае павінна для арыгінальнасьці называцца чорным?

Далей кс. Татарыновіч дадае яшчэ адну прычыну да зьмену назоваў — гэта *“ўтаеная нехаць”* да слова *“касьцёл”*... і... ўпярэджаньне да слова *“царква”*. У гэтым цьверджаньні ёсьць частка праўды, але толькі частка, бо ўласьціва ўпярэджаньне і нехаць адносяцца ня так да рэлігійных установаў, што называліся *“Царквою”* і *“Касьцёлам”*,

[14] Gunnarsson, Gurmasr. Das slaviesche Wort für Kirche. S. 5. — ***Л. Г.***

[15] Miklosich, Franz. Die Christliche Terminologie der slavischen Sprachen. S. 18. — ***Л. Г.***

[16] Siegert, Hans. Griechisches in der Kirchensprache. Heidelberg, 1950. — ***Л. Г.***

але да духавенства, якое ў тых установах рабіла надужыцьці рэлігіі. У такім палажэньні зьмена слоў нічога новага ня дасьць, а калі-б і ўвесьці якое новае слова, дык яно хутка станецца такім-жа, як тыя, што яно замяніла. Затое зьмена на лепшае адносінаў духавенства да вернікаў і бяз зьмены слоў зьнішчыць і ўпярэджаньне і нехаць.

Далейшая заўвага кс. Татарыновіча, што *"ня можа існаваць дзьвёх моваў"* для аднаго народу, ёсьць зусім слушная. Трэба толькі пажадаць, каб ён сам дастасаваўся да яе і пакінуў тварыць нейкую дзівосную *"зьнічаўскую"* мову, пераладаваную новатворамі, правінцыяналізмамі і барбарызмамі. Дзе-як-дзе, але ў рэлігійных часапісах такая практыка зусім недапушчальная, бо тут абавязвае правіла, што да народу трэба зьвяртацца зразумелаю моваю. Рэлігійны часапіс заўсёды закранае рэлігійныя пачуваньні з якімі экспэрымэнтаў рабіць нельга.

У канцы кс. Татарыновіч прапануе замест *"Царква"*, *"Касьцёл"* навае слова *"Субожня"*, якое нібыта мае быць *"вынятым із старых нашых назоваў сьвятыні"* і спасылаецца пры гэтым на твор І. Малышэўскага "Твореня Отца нашего св. Кирилла Туровскаго", Кіевъ 1880, бач. XLV. Названую кніжку знайсьці нялёгка, але вось знайшоўшы яе дарэмна там шукаць слова "субожня".Такога слова ня ведае ані Малышэўскі, ані сьв. Кірыла Тураўскі. І гэта відаць з далейшых слоў кс. Татарыновіча, бо ён замест назваць той твор і сказ, дзе можна знайсьці тое слова, пачынае апавядаць гісторыю: *"Тураўскія князі, палоненыя ў Кіяве Валадзімерам тамашн[юю] сваю фамілійную сьвятыню называлі "божэнка", "божня", не "царква"».* І далей падае ўвесь працэс тварэньня новага слова: *"Каб данаравіць гэты аднойлены прыгожы архаізм да паняцьця суспольнасьці Божай, якой і зьяўляецца "эклесія" (sic!) дадана суфікс (sic!) "су" і выйшла "субожня", "субажэнскі"».* Тут, што ні сказ, дык памылка. Як ні прыкра сьцьвярджаць гэты факт, але яго сьцьвердзіць неабходна. Асабліва прыкра, што кс. Татарыновіч, спасылаючыся на твор Малышэўскага, стараецца сьведама ўвесьці чытача ў блуд. З цытаты відаць ясна, што "субожня" ня вынята з ніякага старога твору; гэтага слова ніколі ня ведаў ні сьв. Кірыла Тураўскі, ні Малышэўскі; горш таго яны нават ня ведалі слова *"божня"*, ад якога хоча кс. Татарыновіч вывесьці свой новатвор.

Успомнены Малышэўскі на старонках XLIV і XLV кажа даслоўна: *"Далее Туръ, какъ знатный варягъ могъ быть начальным строителемъ упоминаемой въ летописи подъ 1144 годомъ туровой божницы, стоявшей противъ того святого места, где совершилось крещеніе кіевлянъ. И если такъ, то это была фамильная церковка Тура, ставшая потом усыпальницею его, его рода и пришлых съ нимъ туровскихъ варяговъ, почему и называлась божницею, т. е. усыпальною, кладбищенскою церковью"*. У нотцы

дадана: *"Божницами, боженками назывались у насъ и церкви, но по преимуществу церкви или церковки усыпальныя, нагробныя, кладбищенскія"*. Вось-жа аб *"божні"* ані на той старонцы, ані на іншых няма ўспаміну і таму спасыланьне кс. Татарыновіча на Мальшэўскага ёсьць недапушчальным фактам і асабліва прыкра, што ён яго паўтарае ў паясьненьні да перакладу сьв. Эвангельля паводля Матэя (на стар. 93),зьнішчаючы тым самым давер да перакладу і асабліва да паясьненьняў.

Выдумаўшы слова *"божня"* кс. Татарыновічтворыць далей ад яго паходнае слова, дадаючы да яго прэфікс "су", які ён яшчэ на дадатак называе памылкова суфіксам.

Да гэтага трэба заўважыць, што нават калі-б *"божэнкі"* дзесь хтось і называў *"божнямі"*, дыкяны ня прыгодныя да таго, каб з іх выводзіць назоў царквы-сьвятыні і Царквы-ўстановы. У вышэй цытаваным тэксьце Малышэўскі выразна *"божэнкі"* разрозьнівае ад іншых сьвятыняў, бо гэта былі цэркаўкі ўсыпальніцы, намагільныя капліцы, ці як іх цяпер у нас некаторыя называюць магільні — гэтыя сьвятыні свой пачатак выводзяць яшчэ з дахрысьціянскіх маўзолеяў. У божэнках культ адпраўляўся рэдка, або толькі прынагадна, тады калі фамілійныя сьвятыні маглі мець гробы ў сваіх падвалах, або і зусім іх нямець, але мелі сталы культ. Нажаль гэтае розьніцы кс. Татарыновіч зусім не заўважвае.

А слова *"бажніца"* захавалася і да сёньня ў беларускай мове, але для азначэньня нехрысьціянскіх сьвятыняў: *"жыдоўская бажніца"*. Таму Пушча[17] выказваючы вобразна сваю нязгоду з камунізмам, пісаў: *"Ня гнуся каленьмі ў бажніцы-сьвятыні"*[18].

Цяпер, не зважаючы на ўсе беспадстаўнасьці і недарэчнасьці, якіх дапусьціўся кс. Татарыновіч пры тварэньні слова *"субожня"* трэба пацікавіцца, ці яно новае ў беларускай мове? Зусім не! Праўда сёньня ў літаратурнай мове гэтае слова не ўжываецца, але Насовіч у сваім слоўніку падае некалькі слоў блізкіх да яго: *"**Субожный** — имеющій Бога в сердце. Милосердный; **Субоженый** — доведеный до нищеты. «Калі дасі тым ня будзеш субожэн»; **Субоживаць** — доводить до убожества"*[19]. У некаторых мяйсцовых гутарках і цяпер яшчэ захаваліся гэтыя словы і паводля іх *"субожня"* азначала-б даводжаньне да жабрацтва ці інстытуцыю, якая даводзіць да жабрацтва.

---

[17] **Язэп Пушча** (сапр. **Плашчынскі**, 1902—1964), паэт, крытык, перакладчык.

[18] Радок з цыклю вершаў Язэпа Пушчы "Асеньнія песьні".

[19] Носовичъ, Иван. Словарь Бѣлорусскаго нарѣчія. Санкт-Петербургъ, 1870. С. 620. — ***Л. Г.***

Калі-б не зьвяртаць увагі на стары слоўнік Насовіча і папрабаваць азначыць зьмест слова *“субожня”* згодна з духам сучаснае беларускае літаратурнае мовы, дык яно магло-б азначаць згуртаваньне багоў — гэта значыць тое, што грэкі называлі пантэонам. Назваць аднак такім словам Хрыстовую Царкву — гэта ёсьць глумам над рэлігійнымі пачуцьцямі і пахне гэрэзіяй.

Таму, што “Зьніч” выдаёцца ў Рыме, сталіцы каталіцызму, камусьці магло-б здавацца, што тыя моўныя *“экспэрымэнты”*, ад якіх роіцца на старонках “Зьнічу”, маюць якуюсьці рымскую інспірацыю адносна беларусаў. Вось-жа каб так ніхто ня думаў, на гэтым мейсцы сьцьвярджаецца, што моўныя дзівацтвы кс. Татарыновіча ёсьць выключна ягоным дзелам.

Бязумоўна, калі камусьці непадабаецца нейкае слова, ён мае поўнае права шукаць іншае, але з усяго вышэйсказанага відаць, што няма ніякай ані асновы, ані патрэбы да зьмены ад вякоў зьбеларушчанага і агульнапрынятага слова *“Царква”* (Каталіцкая Царква, Праваслаўная Царква). Да таго варта дадаць, што ім карыстаюцца ня толькі беларусы, але агулам усе славянскія народы за выняткам палякаў і то толькі ад XVI ст. Кожны народ вымаўляе гэтае слова на свой лад, адпаведна да духу свае мовы: баўгары — **Църква**, беларусы — **Царква**, кашубы — **Cerkvjo**, лужычане — **Cark’oi**, македонцы — **Црква**, палякі да XVI ст. **Cerkiew**[20], а потым **Kościół**, расейцы — **Церковь**, славакі — **Cirkev**, славэнцы — **Crkev**, сэрбы — **Црква**, украінцы — **Церква**, харваты — **Crkva**, чэхі — **Cirkev**. Гэтыя-ж словы звычайна ўжываюцца і да азначэньня сьвятыняў, толькі чэхі і славакі, як ужо было зазначана, маюць асобнае слова **kostel**. На Беларусі да XVI в. ужывалася толькі слова *“царква”*, а потым пачаў пашырацца польскі звычай называць цэрквамі толькі сьвятыні ўсходняга абраду, а касьцёламі — сьвятыні лацінскага абраду і з часам гэты звычай стаўся агульным; з такім станам рэчаў хочаш-ня-хочаш, але неабходна рахавацца, бо міма ўсіх стараньняў вернікі заўсёды будуць называць рознымі словамі сьвятыні, якія і нутрана і вонкава розьняцца між сабою. Толькі тады, калі ў іх вернікі будуць сябе пачуваць аднолькава, як у доме аднаго супольнага Нябеснага Айца, зьнікне розьніца ў назовах сьвятыняў.

---

[20] Klich, Edward. Polska terminologja chrześcijańska. Poznań, 1927. S. 88. — ***Л. Г.***

***[кс. Пётра Татарыновіч]***

## Ад перакладчыка і выдаўца[21]

З гарачай думкай прыслужыцца Божай хвале і здароваму духова-адраджэнскаму поступу беларускага народу, выдаём гэты вось найнавейшы пераклад Сьвятое Эванэліі й Апостальскіх Дзеяў.

Пасьля змарнаванага бязбожным акупантам, выданага на пярэдадні вайны (1939) і няўсьпеўшага разысьціся, перакладу Кс. Мгр. Вінцэнта Гадлеўскага, патрэба новага адпаведна апрабаванага перакладу сталася канечнай і неадкладнай; асабліва тут, на эмігранцкім роднамоўным бяскнігоўі ды духовым раздарожжы. Мэты аднак больш адкрытай апрацоўкі ды мяркаваньні прапагацыйныя змусілі нас да маруднейшага, пэрыядычнага, выдавецкага спосабу, у часапісе “Źnič”.

Асноваю гэтага перакладу быў лацінска-грэцкі тэкст Новага Запавету, навукова апрацаваны й выданы праф. Папескага Біблійнага Інстытуту, А. Аўгустынам Мэркам[22] Т. І. у Рыме 1944. Побач з гэтым галоўным падручнікам былі такжа выкарыстваны для праверкі сэнсу тэксту розныя пераклады: на першым месцы — вышуспомнены пераклад Кс. В. Гадлеўскага “Чатыры Эванэліі і Апостальскія Дзеі”, Вільня 1939, як адзін із болей даслоўных перакладаў з лацінскага. Даслоўнасьць аднак яго не заўсёды йшла об руку зь яснасьцю й мілагучнасьцю стылю ды чыстатою, арыгінальнасьцю й эстэтычнай адпаведнасьцю слоўніка, на што ў нашым перакладзе зьвернена асаблівая ўвага; шпаркае бо і ўсебаковае разьвіцьцё нашага незалежніцка-рэлігійнага адраджэньня ўсьпела за гэты час паставіць мове нашай новыя вымаганьні. Для шырэйшай ды глыбейшай арыентацыі служылі такжа і іншыя пераклады з іхнімі камэнтарамі: украінскі А. Архм. Галушчынскага[23], Рым 1946; польскі Ватыканск. выд. 1942; крыху царк.-славянскі, а такжа італійскі й французкі: La Sainte Bible (апрац. і выд.) Louis Pirot’a, Albert Clamerai, P. J. Renie, SM. Paris — VI, 1949. Гэты апошні асабліва прыслужыўся ў труднейшых мясцох тэксту сваім грунтоўным камэнтарам эгзэгэтычным і тэолёгічным.

---

[21] Друкуецца паводле: Ad pierakładčyka i vydaйca // Sviataja Evanelija I Apostalskija Dziei. Pierakłaй i padaй vyjasnienni Ks. Dr. Piotr Tatarynovič. Rym, 1954. С. 3—5.

[22] **Аўгустын Мэрк** (ням. *Augustin Merk*, 1869—1945), нямецкі дасьледчык, прафэсар Папскага Біблейскага інстытуту ў Рыме ў 1928—1945 гг.

[23] **Феадосій Галушчынскі** (1880—1952), украінскі рэлігійны дзеяч, грэка-каталіцкі сьвятар, архімандрыт ордэну Сьв. Васіля Вялікага, рэктар Львоўскай духоўнай сэмінарыі ў 1920—1927 гг.

З увагі на прыгожую старую форму ды на лягчэйшае чытаньне й цытаваньне тэксту, мы трымаліся старога падзелу яго на вершы ды не перарывалі яго падзелам тэматычным, а вынесьлі той падзел на канец кнігі. Там-жа зьмешчаны й скарагляд эванэлічных пэрыкопаў на кожную нядзелю й сьвята для казнодзейскіх патрэбаў.

Важнейшыя друкарскія пахібы, непазьбежныя абсалютна ў чужамоўных друкарнях, мы стараліся паправіць карэктай на апошняй бачыне. Драбнейшыя-ж недахопы — як напрыклад беларускіх значкоў над літарамі — Пав[ажаныя] чытачы лёгка магчымуць даладзіць самы.

У моральных і матарыяльных друднасьцях гэтае паважнае выдавецкае імпрэзы дадавала нам сілы багаславячая і падтрымліваючая фінансаваю першапамаччу прыхільнасьць Самога Айца Сьвятога, Піюса XII[24] (дакум. *Segr. di St. di S. Santità* на імя перакладчыка, з дн. 14.2 і з дн. 20.11/1950), за што маем гонар выславіць тут на першым месцы ад сябе і народу найгарачэйшую ўдзячнасьць і сыноўскую прывязанасьць.

Шчодрае багаслаўленьне Яго Сьвятасьцю нашага пачыну было задаткам памыснасьці: нам пашанцавала знайсьці салідную фінансавую помач, пакрыўшую выданьне цалком, у Амэрыканскай "Славянскай Місыі" Бэнэдыктынскага Абацтва Сьв. Пракопа ў Ляйле (*Lisle*). Дабрату гэнай Місыі, якая знайшла гэтулькі зразуменьня для беларускага адраджэньня, упамятняем тут з найгарачэйшай удзячнасьцю ейнаму Кіраўніку Высокадастойнаму Айцу Аббату Амброзу Л. Ондраку[25], усім Даст[ойным] Сябром і Прыхільнікам, а спэцыяльна беларусам: Даст[ойным] АА. Хрызостаму (Я. Тарасэвічу[26]) і Атаназу (Я. Рэшэцю) за іхнюю інтэрвэнцыю ў нашай справе.

---

[24] **Пій XII** (сьвецкае *Eugenio Maria Giuseppe Giovanni Pacelli*), Папа Рымскі ў 1939—1958 гг.

[25] **Амброзій Ондрак** (анг. *Ambrosius Ondrak*) быў абатам кляштару Сьвятога Пракопа ў Ляйлі, штат Ілінойс (ЗША).

[26] **Ян Хрызастом Тарасэвіч** (1892—1978), рэлігійны і грамадзкі дзеяч, сьвятар. Ва ўзросьце 19 гадоў выехаў у ЗША. Вучыўся ў Місіянэрскім каледжы Ла Салет у Канэктыкуце. У 1917 г. прыняў манаства і быў накіраваны на навучаньне ў Фрыбурскі ўнівэрсытэт у Швайцарыю, які закончыў як доктар багаслоўя і філязовіі. У 1920-х гг. вярнуўся ў ЗША, у 1923 г. стаў сьвятаром. Быў адным з рэдактараў двухмоўнага руска-ангельскага часопіса *"Церковный Голос"* (*"The Voice of the Church"*), які выдавалі бенедыктынцы ў кляштары Сьвятога Пракопа ў Ляйлі (каля Чыкага). Працуючы зь беларускімі імігрантамі ў Нью-Ёрку, Канэктыкуце й Чыкага, браў удзел у заснаваньні некалькіх беларускіх арганізацый, у тым ліку Беларуска-Амэрыканскай Нацыянальнай Рады ў 1941 г., дзе быў першым старшынём. Аўтар шэрагу зваротаў да Дзяржаўнага дэпартаманту

З удзячнасьцю таксама адзначаем тут выдатную помач дэлегаваных Цэнзараў: Я. Э. пакойнага Архібіскупа Пятра-Францішка Бучыса[27], MIC[28], зь ягоным сакратаром А. Др. Станіславам Шкутансам[29], MIC, і Я. Э. Архібіскупа Івана Бучкі зь ягоным сакратаром А. Др. Міраславам Марусыным[30], — ды прынагодных ахвярадаўцаў нашых і дараднікаў спэцыялістаў у біблістыцы, языкаведзе біблійнай і беларускай.

Для сябе-ж за найбольшую падзяку ад Пав[ажаных] чытачоў уважацімем, калі ня ўзгардзяць нашай мазольнай працай, а карыстацімуць зь яе для большага пазнаньня й шчырэйшага пакаханьня Бога-Збаўцы Нашага Езуса Хрыстуса і Ягонай Маткі Найсьвяцейшай Бязьвінназачатай, Марыі, юбілейны год Якое нам прынёс гэтае выданьне.

***Ст. Ст. [Станіслаў Станкевіч]***

## Кнігапіс. "Сьвятая Эванэлія і Апостальскія Дзеі". Пераклаў і падаў выясьненьні Кс. Др. Пётр Татарыновіч, Рым, 1954, бач. 636[31]

*"З гарачай думкай прыслужыцца Божай хвале і здароваму духова-адраджэнскаму поступу беларускага народу выдаём гэты вось найнавейшы пераклад Сьвятой Эванэліі й Апостальскіх Дзеяў"*. Гэтымі словамі пачынаецца прадмова "Ад перакладчыка й выдаўца"

і прэзыдэнта Злучаных Штатаў з патрабаваньнямі нязьменнасьці беларускіх межаў па Другой сусьветнай вайне. У 1955 г. быў адным з заснавальнікаў беларускае каталіцкае парафіі Хрыста Збаўцы ў Чыкага, яе духоўным кіраўніком. З часам стаў больш цікавіцца СССР, адведваў Савецкую Беларусь, надрукаваў некалькі тэкстаў у "Голасе Радзімы". Жыў у кляштары Сьв. Пракопа ў Ляйлі, дзе і пахаваны.

27 **Францішак Пётр Бучыс** (літ. *Pranciškus Petras Būčys*, 1872—1951), грэка-каталіцкі архіяпіскап, генэрал ордэну марыянаў (1927—1933), апостальскі візытатар для расейскіх грэка-católікаў Эўропы.

28 **M.I.C.** — скарочаная назва ордэну марыянаў — Кангрэгацыі Айцоў Марыян Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі.

29 **Станіслаў Шкутанс** быў генэралам ордэну марыянаў у 1957—1963 гг.

30 **Міраслаў Марусын** (1924—2009), украінскі грэка-каталіцкі ярарх, архіяпіскап, у 1982—2001 гг. быў сакаратаром Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў.

31 Друкуецца паводле: Ст. Ст. [Станкевіч, Станіслаў]. Кнігапіс: "Сьвятая Эванэлія і Апостальскія Дзеі". Пераклаў і падаў выясьненьні Кс. Др. Пётр Татарыновіч, Рым, 1954, Бач. 63 // Бацькаўшчына. 1955. № 25 (255). 19 чэрвеня. С. 3.

гэтае цэннае кнігі ў беларускай мове. Ужо коратка й павярхоўна перагледзеўшы кнігу, можна быць пэўным, што яе перакладчык і выдавец, шырака ведамы й шмат заслужаны беларускі рэлігійны й нацыянальны дзеяч, кс. др. Пётр Татарыновіч узапраўды шмат “*прыслужыцца Божай хвале і здароваму духова-адраджэнскаму поступу беларускага народу*”.

Перш за ўсё, на што трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу, гэта саліднасьць і працавітасьць, зь якімі перакладчык выканаў сваё заданьне. Пераклад быў зроблены, як даведваемся з прадмовы, не зь якога-небудзь аднаго, больш перакладчыку даступнага, першаўзору. Перакладчык, прыняўшы за аснову лацінска-грэцкі тэкст Новага Запавету, навукова апрацаваны й выданы праф. Папескага Біблійнага Інстытуту, А. Аўгустам Мэркам у Рыме ў 1944 годзе, выкарыстаў пры перакладзе змарнаваны акупантам выданы напярэдадні апошняй вайны ў Вільні ў 1939 г. пераклад кс. мгр. В. Гадлеўскага, а таксама адзін тэкст у італьянскай і адзін у францускай мове.

Асабліва цэннымі ў гэтым выданьні зьяўляюцца шырокія выясьненьні перакладчыка менш зразумелых месцаў як у Эванэліі, гэтак і ў Апостальскіх Дзеях. Яны займаюць прыблізна адну трэйцюю часьць кнігі і робяць яе даступнай і больш цікавай для шырокага кола чытачоў навет зь нізкай асьветай.

Трэба падчыркнуць, як дадатні бок выданьня, і тэхнічнае афармленьне. Кніга надрукаваная на добрай паперы, мае скромную, але густоўную вокладку, а паасобныя разьдзелы пачынаюцца й замыкаюцца прыгожымі застаўкамі-рысункамі. Тэкст Эванэліі і Апостальскіх Дзеяў надрукаваны гармондам (буйнымі літарамі), што аблягчае чытаньне, а выясьненьні перакладчыка — пэтытам (дробнымі літарамі), што выразна аддзяляе ад сябе абодвы тэксты.

Кс. др. Татарыновіч, як ведама, у сваей рэдактарскай і выдавецкай практыцы ўводзіць ня мала інавацыяў у беларускую літаратурную мову з мэтаю ачышчэньня яе ад барбарызмаў і няправільных, на ягоную думку, нэалёгізмаў. Само гэтае імкненьне і інтэнцыі трэба толькі прывітаць, хаця далёка ня з усімі “рэформамі” перакладчыка можна згадзіцца. Аднак увядзеньне ім у пераклад чыста беларускай і ў народзе нашым пашыранай формы слова “*эванэлія*” замест перанятай з расейскай мовы й афіцыяльна ўжыванай нашым духавенствам, асабліва праваслаўным формы “*евангельле*”, трэба ўважаць за правільнае й карыснае.

Кніга надрукаваная беларускай лацінкай. Кс. др. Татарыновіч, выданьнем гэтае кнігі, а таксама выпускаючы ад даўжэйшага часу беларускі грамадзка-рэлігійны месячны часапіс “Зьніч”, зьяўляецца адзіным на эміграцыі беларускім культурным дзеячом, які сьвядома й пасьлядоўна прапагуе беларускую лацінку. У сувязі з гэтым ніжэй

прысьвячаем некалькі словаў беларускаму лацінскаму шрыфту і патрэбе ягонага пашырэньня.

Лацінскі шрыфт мае ў нас вельмі багатую традыцыю. Ён быў выключным для першых твораў беларускае адраджэнскае літаратуры, ім былі друкаваныя вершы Яна Чачота, творы Марцінкевіча, першыя выданьні "Дудкі беларускай" і "Смыка беларускага" Багушэвіча. І толькі ў пэрыяд нашаніўскі кірыліца пачынае пераважаць над лацінкай, хаця і апошняя захавала сваё права. Гэтак калі першы зборнік вершаў Янкі Купалы "Жалейка" выйшаў у 1908 годзе кірыліцай, дык наступны ягоны зборнік "Гусьляр" паявіўся ў 1910 годзе лацінкай. Газэта "Наша Ніва" ў некаторых гадох друкавалася асобна кірыліцай і асобна лацінкай.

Пасьля Рыскага падзелу Беларусі палажэньне зьмянілася. У ўсходняй часьці Беларусі, зь якой была ўтвораная БССР, задэкрэтаваным стаўся шрыфт кірылічны, хаця сярод многіх беларускіх культурных дзеячоў існаваў пагляд, што для беларусаў больш карысным і мэтазгодным зьяўляецца шрыфт лацінскі. Гэтак вялікая колькасьць удзельнікаў Беларускай Акадэмічнай Канфэрэнцыі дзеля рэформы беларускага правапісу й абэцэды, якая была скліканая ў 1926 годзе ў Менску, выказалася за пераход з кірыліцы на лацінку, як адзіны беларускі шрыфт, што ў 1929 годзе, калі пачалася першая хваля перасьледваньня беларускай нацыянальнай культуры ў БССР, было закваліфікавана бальшавікамі, як шкодніцтва й адна із пробаў штучнага адарваньня беларускае культуры ад расейскае.

У заходняй часьці Беларусі, што апынулася пад Польшчай, лацінка, па-за дробнымі выключэньнямі, сталася шрыфтам толькі беларускіх рэлігійна-каталіцкіх выданьняў і нямногае літаратуры; выдаванае паважанымі прыхільнікамі лацінскага шрыфту. Агульна пануючым беларускім шрыфтам сталася кірыліца. Гэтае пашырэньне кірылічнага шрыфту за кошт лацінкі ў Заходняй Беларусі трэба тлумачыць абаронаю перад загрозай палянізацыі і тэндэнцыяй да ўніфікацыі з палажэньнем у БССР.

Як заглядаецца аўтар гэтых словаў на справу беларускага шрыфту? Наш нацыянальны інтэрас прамаўляе за раўнапраўнасьцю абодвых шрыфтаў: кірыліцы й лацінкі. Аб поўнай замене кірыліцы лацінкай, як думала значная частка ўдзельнікаў Беларускай Акадэмічнай Канфэрэнцыі, сяньня ня можа быць мовы, паколькі ў БССР ужываецца выключна кірыліца ды паколькі яна ўжываецца ў нашым эміграцыйным друку. Справа поўнае замены можа быць тады выключна пытаньнем будучыні, калі Беларусь станецца вольнай і незалежнай ды сама будзе разьвязваць усе свае пытаньні.

Пашырэньне, раўналежна зь кірыліцай, лацінкі, апрача практычнае карысьці, — бо ў мовах краінаў расьсяленьня нашае эміграцыі

ўжываецца толькі лацінка — мела-б і вялікае нацыянальна-палітычнае значэньне. Гэта, з аднаго боку, у значнай меры спыніла-б ідэнтыфікаваньне нас чужынцамі з Расейцамі, якое на нас балюча мсьціцца й па сяньняшні дзень, з другога боку — мацней засьветчыла-б аб нашай прыналежнасьці да заходняй культуры.

Вось чаму папулярызаваньне й прапагаваньне кс. др. Татарыновічам беларускае лацінкі заслугоўвае на асаблівае заакцэнтаваньне й беззасьцярожнае прызнаньне. Але выданьні кс. др. Татарыновіча галоўна празначаныя для беларусаў каталікоў і ў васнаўным маюць рэлігійна-каталіцкі зьмест. Пажаданым было-б тады, каб і некаторыя сьвецкія беларускія выданьні пачалі паяўляцца беларускай лацінкай.

Вяртаючыся да галоўнае тэмы гэтае зацемкі — перакладу й выданьня друкам "Сьвятой Эванэліі і Апостальскіх Дзеяў", трэба адцеміць, што кніга гэтая зьяўляецца багатым укладам у беларускую рэлігійную літаратуру на эміграцыі й павінна знайсьці як найбольшае пашырэньне. Яе варта рэкамэндаваць для пашырэньня сярод спалянізаванай старой беларускай эміграцыі ў ЗША, дзе кніга гэтая можа адыйграць значную ўсьвядамляльную ролю. Ксяндзу др. Татарыновічу за пераклад і выданьне гэтае кнігі належыцца вялікая падзяка. Побач з многімі іншымі ягонымі нацыянальнымі дасягненьнямі, як выдаваньне месячніка "Зьніч", вядзеньне беларускіх перадачаў цераз Ватыканскае радыё, актыўны ўдзел ад імя беларусаў у міжнацыянальным антыбальшавіцкім руху ў Рыме ды духовае й нацыянальнае правадніцтва сьціплай беларускай калёніі ў Рыме, гэта новы доказ ягонае нацыянальнае руплівасьці й ахвярнасьці.

***а. Др. Ч. Сіповіч***

## Да новага выданьня сьв. Эванэліі[32]

Збаўленная патрэба пазнаньня самым Богам абʼяўленай адвечнай Праўды панукае нас да студыяў Сьв. Пісаньня, якое зьяўляецца адною з крыніц гэнага абʼяўленьня.

Беларусы былі аднымі зь першых сярод славян, што мелі цэлы Стары й Новы Запавет у роднай мове. Цэнная спадчына вялікага й набожнага нашага вучонага Франціша Скарыны з Полацка ёсьць гэтага доказам. Сяньня аднак яна зьяўляецца бібліяграфічнай рэдкасьцю якая, калі-б навет і была каму даступнай, дык дзеля свае

[32] Друкуецца паводле: Sipovič, Č. a. Dr. Da novaha vydannia śv. Evanelii // Źnič. № 34—35. Cervien — Vierasien 1955. C. 7—8.

моцна перастарэлае мовы аказалася-б у штодзённай практыцы няўжыткоўнай. Таму з разьвіцьцём нашага адраджэньня зьяўляюцца спробы новых перакладаў. Першымі ў нашым стагодзьдзі — якбы сказаць прынагоднымі — перакладчыкамі былі душпастыры, якіх змушала навучальная неабходнасьць. Найвыдатнейшымі зь іх былі аўтары казнодзейскіх падручнікаў кс. Ільдэфонс Бобіч[33] і кс. Ад[ам] Станкевіч, выкарыстаўшы пераклады Лістоў Апостальскіх кс. Кан. Ад. Лісоўскага[34]. Але яны далі толькі перыкопы (адрыўкі) на нядзелі й сьвяты літургічнага году, прытым — у мове, перасычанай яшчэ ня выдыханымі ў народзе полёнізмамі. Саліднейшы ўжо крыху ў сэнсе мовы быў пераклад цэлага Новага Запавету й Псальмаў сп. А[нтона] Луцкевіча[35], але й ён, як падручнік для пратэстанцкіх місіяў сярод праваслаўных, здэфармаваны барбарызмамі, асабліва з царкоўна-славяншчыны (Евангельле, Гасподзь, Ангел, Якаў, царства, жэрабе), дый занадта пасьвецку, калі так можна сказаць, эстэтычны: такія напрыклад ды ім падобныя тэрміны, як *“чэравы”* (бач. 121), *“ба-*

---

[33] **Ільдэфонс Бобіч** (1890—1944), каталіцкі сьвятар заходняга абраду, рэлігійны й культурна-асьветны дзеяч, адзін з пачынальнікаў беларускага хрысьціянскага руху XX ст. У беларускім каталіцкім пэрыядычным друку выступаў пад псэўданімам Пётра Прасты. Пасьвячоны ў сьвятары ў 1915 г., на 1-м зьезьдзе беларускіх сьвятароў у Менску (24—25 траўня 1917 г.) уступіў у саюз ксяндзоў-беларусаў. У 1917—1920 гг. працаваў вікарыем у Друі й душпастырам на Дзісеншчыне, у 1921—1923 гг. быў законавучыцелем у Віленскай беларускай гімназіі. Ад 1923 г. быў пробашчам у мястэчку Германавічы, у 1930—1944 гг. — пробашч і дэкан у мястэчку Іўе. Супрацоўнічаў зь беларускімі каталіцкімі выданьнямі, аўтар і перакладчык некалькіх папулярных брашур на рэлігійную тэматыку. На пачатку 1930-х гг. адышоў ад беларускай дзейнасьці.

Пётра Татарыновіч, відаць, мае на ўвазе кнігу Ільдэфонса Бобіча *“Niadzielašnija ewanhielii i nawuki”*, выдадзеную ў Вільні ў некалькіх частках у 1921—1922 гг.

[34] **Адам Лісоўскі** (1882—1929), рэлігійны й грамадзкі дзеяч, каталіцкі сьвятар, адзін з заснавальнікаў беларускага хрысьціянскага руху. У 1907 г. стаў сьвятаром. Служыў у розных парафіях у Менску, Магілёве, Гарадзішчы, Ігумене, Анопалі. Быў сябрам Рады Польскага таварыства “Асьвета” ў Менску, якое спрыяла пашырэньню польскай сьвядомасьці ў Беларусі. У 1922 г. узначаліў Менскі дэканат і быў арыштаваны савецкімі ўладамі. Асуджаны да 5 гадоў турмы. У 1924 г. у выніку абмену палітвязьнямі апынуўся ў Польшчы. Служыў у Гарадзішчы каля Пінску і ў Віннай на Падляшшы. Пераклаў на беларускую мову часткі Новага Запавету, Апостальскія Дзеі, Апакаліпсіс, лісты сьв. Паўла.

[35] Маецца на ўвазе выданьне: Новы Запавет Госпада Нашага Ісуса Хрыста [і Псальмы]. Гэльсінгфорс: Брытанскае і Замежнае Біблійнае Таварыства, 1931. — 353 +93 с. [Пераклад Антона Луцкевіча].

*лота”* (б. 139), *“мытар”* — занадта рэжуць вуха чытача пабожнага; не кажучы ўжо аб недаслоўнасьці, да якой сам перакладчык прызнаваўся. Ня імпанаваў гэты пераклад шырэйшым веручым кругам і дзеля свае кананічнае безапрабатнасьці. Паказваецца вось-жа перад самай Другой сусьветнай вайною выданьне яшчэ аднаго перакладу чатырох Эванэліяў і Апостальскіх Дзеяў кс. Мгр. В[інцэнта] Гадлеўскага, апрабаванае, куды паважней і языкова і эгзэгэтычна апрацаванае. Нажаль, цёмная вандалістычная ваенна-акупацыйная хмара нам яго накрыла, насеньне па ім толькі асталося ў постаці аднаго-двух паасобнікаў.

А тымчасам няўпынная хваля нашага, расшуганага вайною, адраджэнскага руху, асабліва тут на эміграцыі, што-раз сільней штурмавала, ужо не з самай толькі галоўнай духова-ўзгадаваўчай, але і з адраджэнска-рэпрэзэнтацыйнай рацыі запоўніць гэну балючую нястачу.

Ад кагож, пасьля сь. п. кс. Гадлеўскага, аставалася спадзявацца адвагі на гэту навукова, мастацка, а найбольш фінансова трудную імпрэзу, як не ад папулярнага старога ідэйнага энтузыясты, кс. Др. П[ётры] Татарыновіча, нядрэннага моваведа зь літарацкай жылкай (семінар[скага] вучня праф. Б[ раніслава] Тарашкевіча), так прыгожа выдаўшага малітаўнік ды рэдагуючага “Зьніч”, умела знайходзячы на гэта паважныя сумы?

Спадзяваньні гэтыя апраўдаліся. Сяньня вось бачым перад сабою саліднага Рымскага выданьня (1954) кнігу ў 636 бачын вялікай васьмёркі, калярова азагалоўленую й зьмяшчаючую прыгожым, падвойнага шрыфту, друкам найнавейшы пераклад СЬВЯТОЕ ЭВАНЭЛІІ Й АПОСТАЛЬСКІХ ДЗЕЯЎ.

Ці ня цэнны гэта здабытак? Ці ня дзякаваць за яго Богу ды тым усім, што да яго спрычыніліся?

Але, каб больш упэўніцца аб ягонай цэннасьці ды пачуцца ўдзячнымі, схарактарызуйма, хоць кораценька, наколькі пазволяць нам рамы публіцыстычнага артыкулу, апрацоўку ягонага зьместу.

Зь бібліяграфічна-стылістычнага й тэхнічнага боку яна правільна ахарактарызавана ў прадмове “Ад Перакладчыка й Выдаўца”, дзе між іншым гаворыцца: *“Асноваю гэтага перакладу быў лацінска-грэцкі тэкст Новага Запавету, навукова апрацаваны й выданы праф. Папескага Біблійнага Інстытуту, А. Аўгустынам Мэркам Т. І. у Рыме 1944. Побач з гэтым галоўным падручнікам былі такжа выкарыстаны для праверкі сэнсу тэксту розныя пераклады; на першым месцы — вышуспомнены пераклад Кс. Мгр. В[інцэнта] Гадлеўскага «Чатыры Эванэлії й Апостальскія Дзеі», Вільня 1939, як адзін із болей даслоўных перакладаў з лацінскага. Даслоўнасьць аднак яго не заўсёды йшла об руку зь яснасьцю й мілагучнасьцю стылю ды чыстатою, арыгінальнасьцю й эстэтычнай адпаведнасьцю слоўніка,*

*на што ў нашым перакладзе зьвернена асаблівая ўвага; шпаркае бо і ўсебаковае разьвіцьцё нашага незалежніцка-рэлігійнага адраджэньня ўсьпела за гэты час паставіць мове нашай новыя вымаганьні. Для жывейшай ды глыбейшай арыентацыі служылі такжа й іншыя пераклады з іхнімі каментарамі*". Мы ня будзем пералічаць тых перакладаў, адсылаючы чытача да арыгіналу, а толькі сьцьвярдзім пару прыкладамі нашай параўнаўчай аналізы праўдзівасьць і слушнасьць вышэйсказанага.

Пачатак разьдзелу 5-га Эванэліі паводля сьв. Лукаша, на бач. 263.

"І сталася, *калі грамады напіралі на* яго, каб паслухаць слова Божага, *а* ён стаяў *каля* возера Гэназарэт. І ўбачыўшы дзьве лодкі, стаячыя *на возеры, а рыбакі былі выйшоўшы* і паласкалі *сеці*. І ўвайшоўшы ў вадну лодку, што была Сымонава, прасіў яго *ад'ехаць трохі* ад *зямлі*. І сеўшы, вучыў *грамады* з лодкі".

"І сталася, *як народ тоўпіўся да яго*, каб паслухаць слова Божага, ён стаяў *ля* возера Гэназарэт. І ўбачыў дзьве лодкі стаячыя *край возера, рыбакі-ж адыйшоўшыся* паласкалі *невады*. Увайшоўшы ў вадну лодку, што-была Сымонава, прасіў яго *адплысьці крыху ад берагу*; і сеўшы, *навучаў* із лодкі".

Абодва гэтыя адрыўкі перадаюць згодна з арыгіналам тую самую думку, рожняцца аднак лёгкасьцю й яснасьцю стылю, сынтаксісу ды ўніклівасьцю тэрміналёгіі. Першы — больш даслоўны, затое менш ясны: "*калі грамады напіралі, а ён стаяў*"; "*былі выйшаўшы*" — нейкі сынтаксычны літванізм; "*ад'ехаць трохі*" — падхадней сказаць "*адплысьці*", едзецца абыдна возам. У другім — сынтаксіс правільны, тэрміналёгія падхаднейшая, з этымолёгічнай тонкасьцю малюючая эпізод.

У тым-жа разьдзеле верш 12 шчэ больш паказвае, як сьляпая даслоўнасьць у кс. Гадлеўскага зацямняе думку, і як гэта выпраставана, без нарушэньня думкі арыгіналу, у кс. Татарыновіча:

"І сталася, калі быў у вадным месьце, і вось чалавек поўны праказы; і ўбачыўшы Езуса і ўпаўшы на твар, прасіў яго, кажучы: Пане, калі хочаш, можаш мяне ачысьціць".

"І сталася, калі прабываў у вадным месьце, вось чалавек увесь у струпох, убачыўшы Езуса, ніцам паў ды прасіў яго кажучы: Усеспадару, калі хочаш, можаш мяне ачысьціць".

Сьляпая даслоўнасьць, праўда перадае характар арыгінальнае мовы архаічнае, у ёй амаль кажны сказ пачынаецца на "І", якое ў меру

магчымасьці дзеля характарыстыкі трэба ўтрымаць, але-ж характарыстыка агульная ня зьменіцца, калі ў выпадку неабходнасьці раз ці другі ад яе адступіцца; гэта бадай у ва ўсіх іншамоўных перакладах здараецца, таму нельга закінуць і беларускаму найнавейшаму перакладчыку, калі гэта сабе пазволіў дзеля ясьнейшага прадстаўленьня думкі ў роднай мове.

Да плюсаў перакладу кс. Татарыновіча трэба залічыць такжа і ўдатную замену ўжо выжытага ў нас тэрміну *"Пан"* адумысловым для Асобы Бога і Хрыста тэрмінам *"Усеспадар"*, уфармаваным праз самога перакладчыка ад асвоенага ўжо тэрміну *"спадар"* і заапрабаваным выдатнейшымі нашымі языкаведамі. Добра й тое, што дзеля адмены й featнаабраднасьці, ужывае часамі *"Госпад"* (не *"Гасподзь"*!).

Ёсьць жменька й іншых, няўжываных у другіх беларускіх перакладчыкаў тэрмінаў, архаізмаў, нэолёгізмаў, правінцыяналізмаў, больш ці менш удатных, а ўсё-ж унезалежняючых нашу мову ад суседзкіх асыміляцыяў, дый удасканаляючых этымолёгічна й фонэтычна. Такія, напрыклад, словы як *"засьнітак"* = *"зачатак таго, што будзе роджана"* (слоўн[ік] Ластоўскага); *"кунаймт"* (замест неэстэтычнага дый небеларускага *"мытнік, мытар"*) = *"урадовец, які зьбірае падаткі"*, што даўней браліся куніцаю, як сьветчыць Смаленская Грамата (1230); *"адыж"* = аднак, але, адылі, як вынікае з кантэксту; *"згробуўстаў"* (замест небеларускага ды неяснага этымолёгічна й глухога фонэтычна *"ўскрос"*). Гэты апошні тэрмін, дык зложаны з трох слоў: з-гробу-ўстаў, чаго быццам ня любіць беларуская мова, таму трэ' было-б яго пісаць асобна гэткім трыслоўем, але-ж усёроўна ў вымове гэтыя словы стройна зліваюцца, дык ці ня варта ўжо гэтага толераваць нараўне зь іншымі выняткамі?

Нельга мне тут глыбока залазіць у лінгвістычныя дэталі, у псыхолёгічныя дзейнікі (прывычка!), а найбольш у барбарызмавую двуязыковую парадоксальнасьць, — адцемлю толькі наагул, што праблема беларусізацыі рэлігійнай тэрмінолёгіі, гэта пякуча-актуальная праблема ў нашым кіпучым нацыянальна-рэлігійным адраджэньні, і шляхотныя, дый не бесталентныя спробы вырашэньня яе кс. Др. Татарыновічам у ягоным выдавецтве астаецца толькі прывітаць, а ўклад працавітае ўніклівае памысловасьці ў нашы нясьпелыя патрэбы, пры навале іншых заняткаў ды ўсебаковай бяспомачнасьці, удзячна падзіўляць.

Але ў імя бесстароннасьці я мушу падчыркнуць і заўважаныя пахібы апісванай тут кнігі. Да некаторых зь іх — да тэхнічна-друкарскіх недаглядаў — пав[ажаны] перакладчык, слушна экскузуючыся, і сам у прадмове прызнаецца й прабуе направіць іх у канцы кнігі карэктай. І добра. Тая карэкта, дарэчы кажучы, выпала не страшнейшай, чым навет у самога таго падручнага Мэрка, які меў непараўнальна лепшыя

выдавецкія абставіны. Шкада толькі, што гэная карэкта не надрукавана яшчэ дадатковай укладкай, якую можна было б мець перад вачыма, чытаючы кажную бачыну. Гэта, здаецца, й цяпер яшчэ зрабіць ня позна.

Далейшым пахібам ёсьць тое, што на пачатку кажнай бачыны не паданы бег разьдзелаў і вершаў для пахопнейшай арыентацыі ў тэксьце.

Частка віны за гэтыя недахопы, пэўне-ж, ляжыць і на нас чытачох затое, што ў пору, як кніга друкавалася адкрыта праз цэлыя гады й чакала на папраўкі зь нераскіданым наборам, мы іх не далі. За гэткую нашу сваечасную бяспомачнасьць зробім пав[ажанаму] выдаўцу рэкампэнсату выразумелай, дый так лёгкай-жа, асабістай карэктай розных няістотных дробязяў.

Уканцы — яшчэ адзін недахоп, якога хіба нельга назваць дробязьзю, што на пачатку кнігі не памешчаны друкаваны ў № 33 “Зьнічу” дакумант з прызнаньнем і багаслаўленьнем Айца Сьвятога. Гэны дакумант быў-бы магутным аргумэнтам проці ўсіх сцэптыкаў і ворагаў адносна нашага самастойніцка-рэлігійнага адраджэньня, тых асабліва гэрархаў, ад якіх дзеля нацыянальнай неталеранцыі трудна было дастаць на якую рэлігійную, а тым-болей, на Эванэлію, належную апробату, й трэ’ было шукаць помачы ў аддаляных ад нас вялікіх аўтарытэтаў, як сь. п. Архбп. Матулевіч, ці Мітрапаліт Шэптыцкі. А сяньня? Вось кніга Пісьма Сьв. у нашай мове субсыд’яваная, выданая й заапрабаваная самым Рымам! Гэта не абыякі наш сукцэс!

Браты, не змарнуйма-ж яго! Хай не астанецца аніводнага паасобніка нявыкарыстанага: у сьвятынях, у школах, у бібліятэках, у арганізацыях і сямейных вогнішчах ды на адзіноце! Цана ня будзе перашкодай, бо-ж выдавецтва абвяшчала для бяднейшых суродзічаў бясплатнасьць. Не зьнеахвоціць хіба нікога да гэтай кнігі і ейная лацінка, наадварот: яшчэ болей — падчас сяньняшняй прэзэнтацыі нашай перад лацінскім Заходам, а змаганьня з найгразьнейшым нахабствам Масквы — павінна яна цікавіць нас; байкот яе ў гэткіх часах выглядаў-бы на адну з самагубскіх памылак.

***а. Леў Гарошка***

## На кніжнай паліцы. Sviataja Evanelija і Apostalskija Dziei. Pierakłau i padau vyjasnienni Ks. Dr. Piotr Tatarynovic[36]

Патрэба выданьня беларускага перакладу Сьвятога Пісаньня або прынамся Новага Запавету з паясьненьнямі адчуваецца ўжо ад даўна і ўсякі добры пачын у гэтым кірунку годны пахвалы. Тым больш мусіўбы быць высока ацэнены такі пераклад, які мае на мэце "*прыслужыцца эміграцыі, што знайходзіцца на духовым раздарожжы*" і адносна мовы перакладу мае на ўвеце зьвяртаць асаблівую ўвагу на "*яснасьць і мілагучнасьць стылю... і эстэтычную адпаведнасьць слоўніка*", як гэта абяцае на ўступе да свайго перакладу кс. Татарыновіч. Нажаль і то на вялікі жаль, перакладчык ня толькі што не датрымоўвае свайго абяцаньня, але проста выстаўляе яго на кпіны ў сваім перакладзе.

Ужо сам назоў кнігі выклікае паважныя засьцярогі. Слова "*Эванэлія*" ўводзілася ў беларускай каталіцкай літаратуры, выданай у Вільні між 1936—1939 гадамі, але не атрымала агульнага прыняцьця дзеля таго, што мае форму пародыі (перакручаньня з мэтаю насьмешкі) з слова Эвангельле, якое ўжывалася і ўжываецца беларусамі паўсюдна так каталікамі, як і праваслаўнымі. Да таго гэтае слова перакладчык ужыў у адзіночным ліку, хоць падаў пераклад чатырох Эвангельляў. Праўда Хрыстос быў адзін і Ягоная добрая вестка — Эвангельле было адно, але ў данным выпадку маецца дачыненьне з чатырмя кнігамі дык лепш зазначыць гэта і адпаведнаю граматычнаю формаю. Адступленьні адносна гэтае формы часам робяцца, але тады зьвяртаецца большая ўвага на паясьненьні. Мова перакладу так густа перасыпана новатворамі, правінцыяналізмамі і архаізмамі, што часам абцяжвае разуменьне тэксту. Некаторыя новатворы такія няўдалыя, што відаць сам перакладчык адчувае іх нясмак і стараецца іх унікаць. Напрыклад у Марка XII, 30 зусім выпушчана слова "*Госпад*" якое на іншых мейсцах перадавалася новатворам "*Усеспадар*". У Лукі I,38 выраз "*слуга Госпада*" перадана як "*слуга Божа*". У Матэя VII, 21 — "*Госпадзе, Госпадзе*", пераведзена "*Госпадзе, Усеспадару*", і т. д.

У пагоні за арыгінальнасьцю перакладчык дапускаецца паважных недакладнасьцяў: замест "*аздаравіў*" — "*ачуняў*" (Мат. VIII, 13); замест "*на пачатку*" — "*спаконвеку*" (Ян I, 2), хоць гэтае апошняе слова дапускае розныя тлумачэньні тэксту. Ёсьць так-жа выпадкі

---

[36] Друкуецца паводле: Гарошка, Л. а. *Sviataja Evanelija i Apostalskija Dziei. Pierakłau i padau vyjasnienni Ks. Dr. Piotr Tatarynovic. Rym 1954 f. 8º, star. 636* // Божым Шляхам.1955. № 3—4 (66—67). Травень — Вересень. С. 31—32.

зусім няправільнага перакладу, напрыклад, азначэньне большае пабожнасьці словам *“буйнейшая”* (Мат. V, 20). Наагул пералічыць усе слоўныя недакладнасьці гэтага перакладу немагчыма ў рамах артыкулу.

Паясьненьні, якія прызначаны для таго, каб тэкст Сьвятога Пісаньня зрабіць больш зразумелым, у некаторых выпадках перакладчык выкарыстоўвае для апраўданьня сваіх наватвораў — гэткая практыка беззаганная ў сабе, на стар. 93 выкарыстоўваецца ў такі баламутны спосаб, спасылаючыся на кнігу Малышэўскага, што аж мяжуецца з хлуснёю.

Шматлікія граматычныя формы, уведзеныя ў перакладзе, зусім ня прынятыя ў беларускай літаратурнай мове. Напрыклад дзеяслоўная форма будучага часу незакончанага трываньня заменена царкоўна-славянскаю формаю: *гаварыцімеце, мецімеце* (*говорити имате, имѣти имате*). Шмат дзе гэтая форма ўжыта так-жа для азначэньня будучага часу закончанага трываньня (*хрысьціціме*, замест *ахрысьціць*. Мат. III, 11). Такую форму можна пачуць у некаторых паўдзённых беларускіх гаворках, але ў літаратурнай мове, калі не рахаваць пару адхіленьняў дзеля рытму ў аднаго паэта, дык нават і спробаў ня было ўвядзеньня гэтае граматычнае формы ў беларускую граматыку. Затое яна часта сустракаецца ў творах украінскіх пісьменьнікаў у Галіцыі. Таксама і сінтаксіс шмат мае зусім небеларускіх формаў: побач правінцыяналізмаў сустракаецца шмат польскіх формаў (прыметнікі ставяцца часта перад назоўнікамі, мноства дзеяпрыметнікавых сказаў).

Кідаецца так-жа ў вочы няўвага да правапісу. Нават тыя самыя словы адзін раз пішуцца так, другі раз іначай: *такжа — так-жа*; *анел — анёл* і пад.

Шмат ёсьць дробных памылак, якія зусім выбачальныя, бо-ж ведама як цяжка правіць набор, які робіць чужынец, што ня ведае беларускае мовы, але павага і значэньне Сьвятога Пісаньня вымагае адпаведна ўважлівых адносін да карэктуры асабліва тады, калі праз памылку зьмяняецца зусім сэнс слова, напрыклад: *сто — што*, *ласка — ляска* і пад.

Моўныя недарэчнасьці і дзівацтвы, якіх поўна ў перакладзе кс. Татарыновіча, кампрамітуюць беларускую мову і перад філялёгамі і перад вернікамі, бо гэткія моўныя экспэрымэнты ня прычыняюцца да падняцьця рэлігійнасьці, але наадварот — спрычыняюць замяшаньне, да таго ўсяго яны ня годзяцца з павагаю Сьвятога Пісаньня.

***кс. П. Татарыновіч***

## Маім рэцэнзарам[37]

На маё леташняе выданьне перакладу "Сьв. Эванэліі й Апостальскіх Дзеяў" паказалася ў беларускай прэсе некалька рацэнзыяў: Сп. Др. Ст. Станкевіча ў № 25 "Баць[каўшч]ны" і а. Др. Ч. Сіповіча ў № 34 "Зьнічу", а такжа адклікнулася шмат галасоў у прыватнай карэспандэнцыі. Гэныя рэцэнзары, хоць пабежна, а ўсё-ж не бескарысна выказалі плюсы і мінусы кнігі, вытрымоўваючы належную аб'ектыўнасьць, прыязны тон і такт, ды будзячы здаровае заінтэрэсаваньне сярод чытачоў. За гэта выказываю тут ім падзяку й гатоўнасьць скарыстаць, у меру магчымасьці й патрэбы, зь іхніх дробных спасьцярогаў.

Але вось на самым вылёце з друку гэтага нумару нашай часопісі, падасьпела крыху іншая рэцэнзія, а. Л. Гарошкі, ў № 66—67 "Божым Шляхам"[38], вымагаючая й крыху іншага адказу. Пастараюся тут — наколькі пазволіць час — паралельным да стаўленых мне закідаў выясьненьнем адносна іх п[аважаных] Чытачоў з'арыентаваць.

Пав[ажаны] Рэцэнзар адразу на самым уступе свае рэцэнзыі аж да "*вялікага жалю*" разжальваецца, што я ў сваім перакладзе быццам "*выкпіў*" абяцаную ў прадмове "*яснасьць і мілагучнасьць стылю... і эстэтычную адпаведнасьць слоўніка*", але ані аднюсенькім канкрэтным прыкладам гэных дзівосных "*кпін*" ня ўдавадняе. За сьлязьмі таго "*жалю*", дык мусіць вельмі цяжка было той прыклад знайсьці, таму, каб "*жаль*" той апраўдаць, прабуе пакрыць гэта собскім галаслоўным ды больш, чым неэстэтычным і неадпаведным, ня кажучы ўжо для рэцэнзыі Сьв. Пісаньня, але навет для ягонай часопісі, лексіконам ("*кпіны*", "*пародыя*","*хлусьня*", "*дзівацтвы*" і т. п.).

Ясна пакажа гэта самасьць рэчы.

Калі назова "*Эванэлія*" не атрымала агульнага прыняцьця дзеля таго, што мае форму "*пародыі*", дык чаму мела-б атрымаць тое прыняцьце прапанаваная а. Г[арошкам] "*Эвангэльле*", маючая форму яшчэ большай "*пародыі*" грэцкага арыгіналу "*Evaggelion*". Нечымжа не задаваляла тое "*Эвангэльле*", калі "*ўводзілася ў беларускай каталіцкай літаратуры Эванэлія*", што й дасяньня, насуперак цьверджаньню а. Г[арошкі], ужываецца. (Каб ня ўжывалася, дык ня было-б вось чаго а. Г[арошку] й крытыкаваць.) На якой падставе

[37] Друкуецца паводле: Tatarynovič, P. x. Maim recenzaram // Źnič. № 37. Studzien — Sakavik 1956. C. 4—5.

[38] Гл. вышэй: а. Леў Гарошка. На кніжнай паліцы. *Sviataja Evanelija i Apostalskija Dziei. Pierakłau i padau vyjasnienni Ks. Dr. Piotr Tatarynovic.*

Пав[ажаны] Рэцэнзар замыкае тое ўжываньне ў 1936—1939 г., калі каталіцкія выдавецтвы, а зь імі й народ, ад самых раньніх адраджэнскіх часаў (гл. усе выданьні малітаўнікаў, казаньняў ды інш. літаратуры), ужывалі тэрміну *"Эвангэлія"*, а пасьля фонэтычнай эвалюцыі (дзеля лягчэйшага вымаўляньня, каб ня вызяхаць паўгрудзей на тое "г") — *"Эванэлія"*; якая ў 1939 ня толькі ня была закінена, але набрала шчэ сур'ёзнейшай ды шырэйшай апробаты й прахтыкі ў так паважным выданьні яе, як пераклад кс. Мгр. Гадлеўскага, ды новыя выданьні малітаўніка. Ня чутно было, каб праваслаўныя супроць гэтага сур'ёзна выступалі. А вучоныя, дык навет ішлі далей у гэтай эвалюцыі й дараджвалі тэрмін *"Ванэля"*, як болей згодны з псыхікай народу й з фонэтычна-эвалюцыйным прыродным законам. (Італійцы таксама замест старога злацін[ізаванага] *"Evangelium"* ужываюць народнае *"Vangelo"*.) Калі гэтая форма, высказаная ў літаратуры Багушэвічам ("Хрэзьбіны Мацюка") і магла выдацца каму пародыяй, дык гэта хіба таму толькі, хто адважваўся і ўсю мову беларускую называць *"мужыцкай пародыяй"* пануючай тады мовы царкоўна-славянскай, расейскай ці польскай...

А што да таго *"множнага ліку"* ў назове, дык быў-бы я рад яго ўвясьці, каб гэта *post factum* было магчымым, ды каб гэта ня было супярэчным із слушнейшым адваротным цьверджаньнем П[аважанага] Рэцэнзара, што *"Хрыстос быў адзін і Ягоная добрая вестка — Эвангэльле было адно"*; аб чым зрэштай і я, за прыкладам амаль усіх перакладчыкаў, цьвярдзіў у маіх "Уступных Выясьненьнях" (б. 9), на якія а. Г[арошку] трэ было зьвярнуць *"большую ўвагу"*, каб не даваць промаху ў сваіх павучэньнях ды нарэшце знайсьці апраўданьне для мае назовы.

А тыя *"наватворы, правінцыяналізмы і архаізмы"* — дык ня так ужо *"няўдалыя"* й *"густыя"*, каб сапраўды *"абцяжвалі разуменьне тэксту"*, таму папярэдні мой рэцэнзар а. Др. Сіповіч, зусім не галаслоўна залічыў мне іх да плюсаў, а патрэбу беларусызацыі рэлігійнай тэрміналёгіі назваў *"пякуча-актуальнай"* (гл. № 34, б. 8 "Зьнічу").

У Марка 12, 30 — не *"Ўсеспадар"*, нажаль, апушчаны, а — *"Госпад"* (гл. Мт. 22, 37), і то зусім не празь *"нясмак"*, а праз звычайны недагляд, (новай эрратай ужо напраўлены). Аб смаку, то дайма высказацца тут крыху лепшаму за нас абодвых языкаведу, які даючы мне навуковую кансультацыю, пісаў: *"Пана" напэўна трэба выжываць із малітваў, пакідаючы яму толькі ягонае сьціслае сацыяльна-клясавае значэньне... Вашае "Ўсеспадар" мне асабіста вельмі падабаецца, яно мае патрэбнае тут адценьне вышэйшасьці над усімі іншымі, зямнымі "спадарамі" Божае ўсемагутнасьці. Я мог-бы толькі раіць Вам сьмела прасоўваць гэты ўдалы тэрмін"*.

У Лукаша І, 38 — камантар, уважна прачытаны, разгоніць усе скрупулы.

У Матауша 7, 21 — *"Госпадзе, Усеспадару"* наўмысьне супастаўленыя дзеля паказаньня сынанімнасьці гэтых, ужываных замест таўтолёгіі, тэрмінаў.

Проці Мт. 8, 13 — закід памылкова сконструаваны: слова *"ачуняў"* (гл. Ласт[оўскага], Насов[іча]) сынонімізуе адпаведны сабе тэрмін *"аздаравеў"*, а не — прымайстраванае Рэцэнзарам *"аздаравіў"*; выразна відно гэта з сэнсу цытаванага вершу: *"І сказаў Езус сотніку: Ідзі, як ты уверыў, так табе хай станецца. І ачуняў слуга ў тую гадзіну" (цудоўна ачуняў, або аздаравеў).* Паказвае гэта й кантэкст: сотнік (у 8 в.) гавора *"аздаравее"* (ад *"аздаравець"*).

У Яна І, 2 — дык і трэба праз слова *"спаконвеку"* дапускаць іншае, чым у слове *"на пачатку"*, тлумачэньне тэксту, бо тэрмін *"на пачатку"* адносіцца да пачатку сьвету, а ня *"Слова"*, ня меўшага пачатку; а тэрмін *"спаконвеку"* якга адносіцца да спрадвечнага *"Слова"* (Бога). Украінскі пераклад мае тут таксама *"спаконвеку"*.

Пераклад Мт. 5, 20 — ня толькі не нарушае сэнсу арыгіналу, але навет лепш яго передае, чым іншыя пераклады. Трэба ведаць, што абсалютная даслоўнасьць перакладу — не заўсёды магчымая дый забавязваючая. Як бо, напрыкл[ад], перакласьці ў даным выпадку лацінскае *"abundaverit"* (рас. *"б.изобилувать"*, польс. *"б. obfitować"*)?

Далей — Пав[ажаны] Крытык, выткнуўшы толькі адзін выпадак замены дзеяслоўнай формы будучага часу закончанага трываньня формай няскончанага трываньня (*"хрысьціць"* замест *"ахрысьціць"*, Мт. 3, 11), піша, што я ўвёў у пераклад шматлікія граматычныя формы, якіх быццам навет і спробаў ня было ўвядзеньня ў беларускую граматыку, і пры гэтым канфузіцца з іх царкоўнаславянскасьці, хоць яны без параўнаньня менш царкоўнаславянскія, чым, напрыкл[ад], *"Эвангэльле"*, дый якраз у нашу граматыку і ўведзеная (гл. Б. Тарашкевіч "Беларуская Граматыка", Менск 1943, б. 73); а ў дадатку — прапанаванай формай *"ахрысьціць"* ніхто не перакладаў лацінскага *"baptisabit"* (гл. пераклады: украінскі, расейскі, польскі ды іншыя беларускія).

Уканцы П[аважаны] Рэцэнзар скардзіцца, што *"пералічыць усе слоўныя недакладнасьці гэтага перакладу немагчыма"*, тады як ані адным зь пералічаных не даказаў патрэбу гэтага пералічаньня, бо што ні закід — то промах.

Пасьля гэтага, дык аб галаслоўных закідах проці майго сынтаксісу ды правапісу ня будзем і гаварыць.

За вялікадушнае дараваньне непазьбежных друкарскіх пахібаў хай П[аважаны] Карэктар пазволіць мне адузаемніцца дараваньнем Яму таго, што да гэткіх лёгкавыбачальных дробязяў не залічыў і тыя

*“sto”* ды *“laska”*, сэнс якіх (*“što”*, *“łaska”*) з кантэксту нагэтулькі ясны, што аж сьмешна гаварыць тут аб загрожанай імі *“павазе і значэньні”* Сьв. Пісаньня; калі-б карэкта прыйшла ўпору, тады як чакала на яе волава, напэўна гэткая *“трагэдыя”* ня здарылася-б...

Аб закіданых мне экспэрымэнтах, якія быццам *“кампрамітуюць беларускую мову і перад філёлёгамі і перад вернікамі”*, дык, побач зь іншымі, вышэй цытаваны філёлёг у сваёй навуковай кансультацыі так піша: *“Ідэя стварыць адзіны тэрмін для задзіночаньня разьдзеленых вызнаньнява “царквы” й “касьцёла”, вельмі правільная. Падаваная Вамі назова мо была-б добрая ўжо хоць-бы тым, што гэта ўсё-ж не нэалягізм, а ўжыванае, хоць і даўно, слова. Толькі дзеля гэтага трэ было-б падаць дзе, калі, кім яно ўжывалася”*... У зьвязку з гэтым і зьявілася на 93 б[ачыне] тая *“беззаганная ў сабе прахтыка”* кароткага (не *“баламутнага”*) паказаньня крыніцы й першаўзору праектаваных тэрмінаў з кнігі Малышэвскага.

*“Згаршэньня”* вернікаў няма чаго баяцца. Вось што ад аднае арганізацыі іхняе ў тракце навет пісаньня гэтага артыкулу пошта мне даручае: *“Гэтым паведамляем, што Эванэлію атрымалі, за што шчыра і сардэчна дзякуем. Сапраўды ўзбагацілася нашая бібліятэка, так прыгожай кнігай як вонкава, так і апрацоўкай з так цудоўнай прадмовай... гэта ёсьць скарбам беларускага друкаванага слова на эміграцыі”*. Адзін з найвыбітнейшых дзейнікаў другое арганізацыі (БІНІМ) выказывае ня менш шчырую падзяку, шкадуючы, што з гэткай цэннай кнігі ня можа, дзеля залезнай заслоны, карыстаць уся наша бацькаўшчына, а толькі эміграцыя. Іншы, даволі ўплывовы наш вернік, піша: *“Дужа дзякую за Эванэлію... Вашая мова зусім не разіць вуха. Замена “касьцёл, царква” на “эклезія” здаецца будзе трапны і пашырыцца... Веру, за гэты прыгожы і карысны пачын, дазнаеце Божага багаславенства і народнае ўдзячнасьці, калі і не адразу цяпер, дык напэўна ўжо найбліжэйшая будучыня дацэніць і ўшануе”*. За аўтэнтычнасьць гэтых апініяў — ручаюся. А іх Выдавецтва атрымала масу, ня толькі ад каталікоў, але і ад праваслаўных, не спаткаўшы ў іх нідзе ані слова гэткай трывожлівасьці, як а. Г[аро]шкі, перад *“замяшаньнем”*, *“згоршаньнем”* ды *“нязгоднасьцяй з павагай Сьв. Пісаньня”*, выснаваных у канчатковым уступе рэцэнзіі. Калі да іх дадамо вышэй адцемленыя рэцэнзыі, афіцыяльную апробату й водклікі гэрархічных аўтарытэтаў на чале з дакумантам ад Айца Сьв., дык пакажацца зусім ясна, што мова рэцэнзаванай кнігі нідзе ні ў кога не насеела таго *“замяшаньня і згоршаньня”* — іх фантастычна сее вузкі, вылучна нэгатывістычны, суб’ектывізм рэцэнзыйнай мовы а. Л[ява] Гарошкі.

***П. Д.***[39]

## Як разумець назоў “Субожня”

*(Артыкул дыскусыйны)*

У выніку адраджэнскага імкненьня да культурна-рэлігійнай сынтэзы, да незалежніцкай арыгінальнасьці й лепшай ужывальнасьці нашай мовы, стаіць ад нейкага часу на творча-дыскусыйнай вокандзе аднаназоў касьцёла-царквы — *“СУБОЖНЯ”*. Запраектаваны ён быў каталіцкім выдавецтвам “Зьніч” пасьля кансультацыі выдатнейшых языкаведаў ды кампэтэнтнай духоўнай апрабаты. Частка публічнай нашай апініі паставілася да прапанаванага назову гэтага пазытыўна, частка з рэзэрвай, як абыдна да нечага новага; дыскусыйных-жа галасоў у публіцыстыцы паднялося два — з боку уніяцкіх дзеячаў. Першы голас а. Льва Гарошкі[40] (у № 60 часап. “Божым Шляхам”), пропагуючы выключна *“царкву”* як тэрмін экс-грэцкі, быў аспрэчаны другім голасам, Міколы Волаціча (у № 13 часоп. “Беларуская Царква”) як навукова слабы, няясны. Дзеля надта вузкіх рамак артыкулу затрымоўвацца тут над ім цяпер ня будзем. Другі-ж голас, — за выняткам пары вымкнуўшыхся алюзыяў — утрыманы ў спакайнейшым тоне, робячым уражаньне аб’ектыўнай навукова-дасьледнай спробы, хоць з нацягнутымі крыху выснавамі. Ён у вартыкуле “Аб назове “Царква””, сьцьвярдзіўшы — насуперак а. Г[аро]шку — славянска-паганскае паходжаньне гэтага назову ды пазьнейшае прышчапленьне яго ўсходнеславянскаму хрысьціянству, слушна даводзіць цытатамі, што гэты назоў часамі ў царкоўнай літаратуры быў заменьваны ня менш старым славянскім назовам *“БОЖНІЦА”*. Далей, шукаючы нейкай аналёгіі з адноўленым заменьнікам *“СУБОЖНЯ”* — якога быццам *“а. др. Татарыновіч зрабіў із зусім правільнага лінгвістычна і сэнсоўна”*, а навет *“аднавартаснага з “БАЖНІЦАЙ”*, слова *“БОЖНЯ”* — М. Волаціч шкадуе, што гэтай *“БОЖНІ”* не знайшоў *“у крыніцах”*.

Калі вартаснасьць аднаго слова мае быць мерана другім словам ды мерана тым, што яно *ёсьць у крыніцах*, дык прычым тут гутарка аб той жа звульгарызаванай форме *“БАЖНІЦА”*, наяўнасьць якое ў крыніцах акурат і ня выказана? У цытатах бо артыкулу выразна пішацца не “б*а*жніца”, а “б*о*жніца” (з акцэнтам на “*о*” так, як у слове *“Бог”*). Дый чаго было небараку артыкулісту фатыгавацца аж пад *“варотню”* ці кепкацца ў *“гнойні”*, каб узятымі *адтуль* параўнаньнямі выказаць ужывальнасьць формы *“БОЖНЯ”*, тады як тая ўжывальнасьць

[39] **П. Д. — Пётра Дрыгвіч** — псэўданім кс. Пётры Татарыновіча.

[40] Гл. вышэй: а. Леў Гарошка. У справе назову Царквы.

накідаецца самай лёгікай: калі бо існавала здрабнелая форма *“БОЖНІЦА”*, *“БОЖЭНКА”*, дык дапушчаецца й існаваньне аснаўное формы *“БОЖНЯ”*.

Ня меў-бы клопату паважаны рэцэнзар і з разуменьнем ды ўжывальнасьцю й поўназову *“СУБОЖНЯ”* і ня кляйміў-бы яго нязгодным з духам роднай мовы *“наватворам”*, калі-б таксама ня змыліў крыніцаў шуканьня (крыху мо й не безь віны пробнага няпоўнага камэнтара зьнічавага, (гл. Зьніч № 17)[41]. Слова бо гэтае *ня* зусім *новае*, а паходнае ад гатовага жывога слова *“СУБОЖНЫ”*, узятага із слоўніка такога знаўца духа беларускай мовы, як М. Насовіч, у якога яно на першым месцы абазначае *“чалавека, маючага Бога ў сэрцы”*, што ў паўнейшым сэнсе, знача: веручы, набожны, жывучы *з Богам* (у польск. мове *“збожны”* ў кантраст *“безбожны”*). Прэфікс *“су”* ў *субожны* суадказвае *“з”* паўсталаму з *“с”* — як сьцьвярдзіў адзін з аўтарытэтных нашых этымолёгаў — і абазначае ня толькі *“мэханічную”* злучнасьць, а і духова-моральную, што акурат і можа — насуперак павучэньню пав[ажанага] рэцэнзара — часамі перакладаецца нямецкім *“mit”* ці беларускім *“з”*, напр.: суверны — *mitgläubig*, суладны — што зь некім зладзіў (як субожны з Богам), сулука = злука.

Адсюль — месца зьбіраньня на малітву людзей *субожных* можна назваць *субожняй* так, як называем і *сьвятыняй,* бо ёсьць месцам культу сьвятых, а лёкаль зыбраньняў — зборняй. Дадаткова зьвяртаем увагу — згодна з зацемкай у зьнічавым правізарычным камэнтары — сьвятыня, месца набажэнстваў, зусім дакладна магла-б называцца такжа *набожняй,* (спатыканай навет у нашай паэзіі), каму недаўспадобы ў гэтым сэнсе было-б ужываць слова *субожня*.

Тым ня менш і ўстанова, вялікі арганізаваны збор групаў субожных зь іхнімі набожнямі, усё што абазначае сусьветную хрысьціянскую цэласьць і акрэсьліваецца аўтэнтычным назовам *“ECCLESIA”* (эклезія) — таксама можа называцца *“СУБОЖНЯЙ”*.

Вось-жа — ані з гледзішча этымолёгічнага, ані з гледзішча рэлігійна-супольнага нельга быць супраць ужываньня слова *“СУБОЖНЯ”* як назову паасобнай сьвятыні і як назову ўсеаб’едныкаючай хрысьціянскай установы. Больш таго — назоў гэты ў сэнсе выражальнасьці паняцьця, ідэі, шмат здатнейшы для Божага дому і ўстановы, чым абстрактныя *“царква-касьцёл”*, якія самы за сябе нічога не гавораць, а вымагаюць штучнага прытасаваньня ім данага значэньня. Тады як *“субожня”* з натуры свае фонэтычнае беспасярэдна гавора аб сваім значэньні; як тая растропная мама, напрыклад, паказваючая першы раз павучанаму дзіцяці прыгожу сьвятыню, ня кажа яму абстрактнага ў сабе трудназразумелага назову

[41] Гл. вышэй: П. Д. Па лініі вытрыманай кансэквэнцыі.

*"царква"* ці *"касьцёл"*, а гавора *"вунь там Божанкаў дом..."*, гавора так, каб дзіця ня мучылася пытаць паясьненьня.

А ўжо, каб зразумець — хай даруе нам пав[ажаны] дасьледчык — гэнэтычна гэты назоў, сьлібізуючы даўгую морфалёгічную літанію: *kirk-čyrk-circus-čirkev-cerkov-cerkva-cirkva-carkva*, па пачатку якое трэба пнуцца аж у прагісторыю на этнаграфічна спорныя тэрэны ды із старабаўгараў рабіць *"славянаў"*, а з макэдонцаў ледзь не *"беларусаў"* — каб гэта ўсё ўцеяць, дык ня-то дзіцяці, але й вусатаму на ілбе рот выступіць.

У зьвязку з гэтым, больш перасьцярагаючым, як заахвочваючым, выглядае і той аргумэнт староньнікаў тэрміну *"царква"*, што ім, як агульнаславянскім, паслугоўваюцца быццам *усе* славянскія народы. Перадусім — тая *славянскасьць*, а тым-болей *беларускасьць*, пры адначасным прысвойваньні яго другімі языкамі ды пры супярэчна падзеленых навуковых апініях — як відаць і з самага разгляданага тут артыкулу — выглядае надта проблематычнай. А калі-б і ня выглядала такою, дык нельга расьцягаць яе на ўсе славянскія народы: чэхі бо й славакі ня выракаюцца побач зь ім і *"kostol"*; ды й палякі мо, каб не ўпадабняцца да рэфармацкай *"Kirche"*, а з другога боку, каб не растапіцца, як лёд, *"в едином неделимом славянском море"*, пачынаючым прыблізна ў тым-жа (цытаваным) XVI ст. загрозьліва выступаць із берагоў — хапаюцца, як *"цьвердзі"* таго-ж злацінізаванага тэрміну *"касьцёл"*, даючы якраз гэтым — проці лішняга кансэрватызму — прыклад падыктаванае патрэбаю *магчымасьці* зьмены рэлігійнай тэрміналёгіі.

А ў нас беларусаў — ня гледзячы на заварожваючыя сырэны нашых опонэнтаў — тая патрэба ёсьць крычачай. Дабітна гэта выказаў арт[ыкул] "Па лініі вытрыманай кансэквэнцыі" (гл. "Зьніч" № 17). Нам ня гэтулькі ёсьць важным паходжаньне грэцкае, лацінскае, ці славянскае ды пашыранасьць аспрэчваных назоваў *"царква-касьцёл"* (самых у сабе зрэштай пачэсных), колькі — *замена іх нэўтралізуючай аднаназовай* ды аблягчаючай прахтычны (позалітургічны) ужытак, н[а]п[рыклад] у літаратуры, прэсе і радыё, мяшаная аўдыторыя якога астаецца падзеленая рожнаверствам і культурнай ар'ентацыяй на два ўзаемна нясусьмяшчальныя густы: лацінска-каталіцкі й бізантыйска-праваслаўны (уніятаў надта мала), для справядлівага заспакаеньня якіх нельга-ж заўсёды гаварыць двух назоваў. Балячкі гэтай не загоім і накіданьнем аднаго з гэтых тэрмінаў, зь бязумоўным выключэньнем другога. Калі зьвяртацца н[а]п[рыклад] да ўсіх выключна словам *"касьцёл"* — яго, як застрамку ў душы — паміма нат толерантнасьці — адчувацімуць праваслаўныя; і *vice versa*[42]:

[42] ***Vice versa*** (лац.) — наадварот.

калі зачаць уводзіць выключна *“царкву”* — як бязмысныя спробы ўжо паказалі — яна аналёгічнай застрамкай калоціме каталікоў, як сьветчаць скаргі із-за жалезнай заслоны. Псыхолёгічна гэта зусім зразумела, гляньма толькі на справу вачыма больш уніклівымі — тут нешта большае за абыдную прывычку да абрадаў, тут вера й культурная арыентацыя ўходзіць у ігру з цэлым сплётам гістарычных дазнаньняў (Мураўёўшчына), псыхічных уразаў, ідэйных змаганьняў, ды ўпадабаньняў, тут закранаецца духовае “я”. А гэта ўсё — ня дробязь, якую можна збываць лёгкім *“хай сабе”*, спадзяючыся ад народнай стыхіі *“парваньня традыцыі падзелу”*, а адначасна паглыбляючы той падзел праз расьцяганае *“сваё старое слова”* — якраз сымбаль тых, што *аддзяліліся* і проці аб’еднаньня ім ваююць...

Злучыць нас нэўтральны сымбаль, Імям Бога натхнёны, а ня — гісторыяй зьвіхнёнай, што няўлечальна акляйміла перад народнай стыхіяй *“царкву”* — рускай, а *“касьцёл”* — польскім...

За гэткі нэўтральна-санацыйны сымбаль, пакуль няма лепшага, уважаем свой незалежны тэрмін *“СУБОЖНЯ”*.

***Др. Ян Станкевіч***

## Рома, экклезія, іконы[43]

Дзівосы бываюць у нас. Адзін сьвятар[44], будучы вельмі аброчны — мала зарабляючы, выдаець каля 60 даляроў у месяц на выдавецтва беларускае — можа быць гэтага прыкладам іншым. Дзівосы, ведама, ня ў гэтым, а ў наступным у яго і ў другога. У паважанага сьвятара гэтага, на жаль, блага з роднай моваю. Народную — сваю мясцовую мову беларускую, жывучы ўвесь час на чужыне, ды ня пішучы, ён хіба на палавіцу забыўся, а літаратурнае мовы беларускае ня вучыўся. І вось ён важыўся два словы беларускія адмяніць на іншыя. Першым із гэтых словаў ё *“Рым”*, адмененае ім на *“Рома”*, бо італьянцы сталіцу сваю гэтак завуць. Ён меў-бы пацікавіцца, чаму беларусы кажуць *“Рым”*, бо справа датыкаецца мовы беларускае. Калі-б пацікавіўся, дык даведаўся-б, што яшчэ ў мове праславянскай, з каторае ўсе цяперашнія мовы славянскія, замест *“Рома”* вымаўлялі *“Рым”*, затым гэтак ё цяпер у ўсіх мовах славянскіх. Калі-б рабіць так із іншымі словамі, як ён зрабіў з *“Рымам”*, дык трэ’ было-б, прыкладам, замест *“князь”*, *“хлеб”*, *“пенязь”* (найдрабнэйшая манэта калісь у нас ужываная) ужываць

---

[43] Друкуецца паводле: Станкевіч, Я. др. Рома, экклезія, іконы // Божым Шляхам. 1965. № 5 (92). Верасень — Кастрычнік. С. 9.

[44] Маецца на ўвазе Пётра Татарыновіч.

*“кунінг”*, *“гляйфс”*, *“пфэнінг”*, бо гэтак было ў мове германскай, з каторай гэтыя словы пераняты да мовы праславянскае.

У чужых, перанятых да мовы праславянскае словах сталіся зьмены подле яе асаблівасьцяў, а нам спалі такія словы ўжо ператвораныя. Ня лічыцца з гэтым, адмяняць іхна нязьменныя формы чужых словаў, знача ня лічыцца зь істасьцяй мовы свае. Бо мова беларуская складаецца з таго, што спала ёй з мовы праславянскае ды з прыдбанага заапрычонага жыцьця свайго.

Што адмена *“Рыму”* на *“Рому”* дзікая, відаць таксама з таго, што аўтар адмены спыніўся на *“Роме”*, а ўжо прыметніка *“ромскі”* ад *“Ромы”* і *“Рамляніна”*, жыхара Ромы, у яго ня бачым, прыметнік ё *“рымскі”*.

Той самы сьвятар, яшчэ слова “касьцёл” — з чэскага “костэль”, каторае з лацінскага *“castellum»* — малы горад, гарадок (рас. *“крепостца”*) адмяніў на *“эклезія”*. Згодна із сваім значаньням лацінскім, у мове чэскай *“костэль”* знача *“сьвятыня”* (будынак), бо ў старавеччу сьвятыні былі заразом абароннымі месцамі. У мове нашай і ў польскай значаньне слова *“касьцёл”* пашыралася й на (каталіцкую) царкву як арганізацыю. Такім парадкам тут слова даўно перанятае й усім зразумелае адменна на таксама чужое, нам новае, незразумелае. Адно тады варта аддаліць барбарызм, калі замест яго дамо слова свае. Таксама й тут прыметніка ад *“эклезія”* не сустракаем.

Колькі год таму, а. Леў Гарошка напісаў у “Божым Шляху”, што іконамі завуць абразы аднае малярскае школы. Зь лягкое рукі ягонае іконаю пачалі зваць у нас некаторыя кажны абраз сьвятога.

*“Ікона”* слова грэцкае (*“айкон”*) і ў мове грэцкай яно азначае кажны абраз, незалежна ад школы, ды як абраз сьвятога так праклятога, як чалавека так і зьвера. Прыкладам у грэцкім арыгінале Евангельлі сьв. Мацьвея 22:20 і Маркі 12:16 іконаю названы малюнак цэсара на манэце, у в аб’яўленьні сьв. Яана апостала 12:14 іконаю названы абраз зьвера.

Значыцца, грэцкае слова *“ікона”* мае значаньне сусім такое, як беларускае абраз, і мы, маючы сваё, ані не патрабуем пераймаць чужое.

Перанятае слова *“ікона”* да мовы расійскае адзяржала там толькі значаньне абраза сьвятога, сьвятых. Прычына: калі які народ ізь ніжшай культураю пераймае словы ад народу з культураю вышшай, дык часта прыдаець такія словам значаньне вышшае. Гэтак, прыкладам, *“обыватэль”* у мове чэскай знача *“жыхар”*, але перанятае зь яе да мовы польскай знача ў ёй *“грамадзянін”*. Пераймаць слова *“ікона”* ў яго значаньню расійскім знача пераймаць русыцызм, расійскі гэленізм.

***[а. Л. Гарошка]***

## Зь беларускае прэсы
## [Зьніч: Студзень — Сакавік, 1965, № 81, Год XVI][45]

Увесь нумар заняты вельмі цікавымі тэмамі. Гарачы і магутны верш Янкі Купалы пачынае Новы Год: "Паўстань з народу нашага, Прарок… Пясьняр… Ваяк… Уладар!..".

Крыху трудна зразумець, што значаць у артыкуле словы: *"Найсьперш, усадоміць, струм, жывуальны, вырынацца, сьледамкі, сусьціг, тропат, уснавальны, вадзінакрыніца, ацямленьне"* і інш.

Нам здаецца, што, калі Царква (Экклезія) уводзіць нават у Літургію народныя мовы, каб Божае слова было даступна ўсім, дык і беларусы будуць больш рады, калі мы будзем даваць ім выясьненьні ў мове зразумелай.

***Чарнэцкі, Я[нка]***

## [Ліст з Чыкаго да а. Льва Гарошкі][46]

Паважаны Айцец Рэдактар!

У зацемцы зь беларускага жыцьця (№ 3) датычна "Зьніча" ўстаўлена, што крыху трудна зразумець, што значаць слова: *"Найсьперш, усадоміць… і інш."*, далей надрукавана: *"Нам здаецца, што калі Царква ўводзіць нават у Літургію народныя мовы, каб Божае слова было даступна ўсім, дык і беларусы будуць больш рады,калі мы будзем даваць ім выясьненьні ў мове зразумелай"*.

Нам, Беларусам, трэба цешыцца з чужога счасьця, бо нас гэта абмінула і абмінае.

У нас на эміграцыі ёсьць беларускія парахвіі толькі ўсходняга абраду, дзе нязьменна ёсьць каранаваная стара-баўгарская зрасейшчаная мова; у цэрквах мала зразумелая для старэйшых, а для моладзі — тое самае, што і турэцкая. Дык ня дзіва, што моладзь мала наведвае свае цэрквы.

Каталіцкая беларуская парахвія ў Чыкаго, усходняга абраду, дзякуючы бадай ці ня выключна зрасейшчанай Літургійнай мове, ня можа пахваліцца аб'еднаньнем і прыхільнасьцю каталікоў беларусаў-лацінnікаў, бо гэтыя апошнія добра ведаюць, як былі прасьледаваны іхнія бацькі, а часткова і яны самі за сваю нацыянальнасьць і рэлігію.

---

[45] Друкуецца паводле: З беларускае прэсы // Божым Шляхам. 1965. № 3 (90). Травень — Чэрвень. С. 17.

[46] Друкуецца паводле: Чарнэцкі, Я. [Ліст з Чыкаго] // Божым Шляхам. 1965. № 5 (92). Верасень — Кастрычнік. С. 20.

Дык для дабра рэлігіі, народнага адзінства інашай нацыянальнай годнасьці неабходна найхутчэй устанавіць у нашых цэрквах родную беларускую мову.

І мне здаецца, што словы ці тэрміны ў “Зьнічу” ня зусім трудныя, бо яны чыста беларускія, толькі з другое ваколіцы.

***[а. Л. Гарошка]***

## Беларуская мова ў лацінскім абрадзе[47]

Усе беларусы прымуць з радасьцю Дэкрэт з дня 9 чэрвеня 1965 г., падпісаны Яго Эмінэнцыяй Кардыналам Леркаро[48] ад імя ўпаважненае Камісіі да спраў літургічных, у якім сказана, што беларуская мова можа ўжывацца ў сьв. Літургіі, адпраўлянай для народу.

Як даведваемся са зьместу Дэкрэту, дазвол ужываньня беларускае мовы ў лацінскім абрадзе атрымаў Яго Дастойнасьць Біскуп Балеслаў Слёсканс, Апостальскі Адміністратар Менскі і Магілёўскі. За гэта ўсе мы выказваем Яму шчырую ўдзячнасьць.

Пры гэтым мы павінны аднак заўважыць, што трэба адрозьніць д а з в о л на ўжываньне жывой беларускай мовы ў набажэнствах ад с а м о г а  ў ж ы в а н ь н я. Трэба вельмі вялікай развагі і асьцярожнасьці, асабліва ў сьвятых абрадах, пры перакладзе лацінскае мовы на жывую. На вялікі жаль рэдактар “Źniča” не зьвяртае ўвагі на публічную апінію беларусаў: ён часта ўжывае словы штучна створаныя і прасякнутыя полёнізмамі.

Ня можна также прайсьці міма такіх фактаў, што адно гаворыцца вышэйшым царкоўным уладам, а другое робіцца. Прыкладам, у Дэкрэце, аб якім тут мова, сказана, што тэкст беларускае Імшы (Літургіі) да часу будзе з малітаўніка “Голас Душы”. Калі аднак параўнаць тэкст з малітаўніка із тым вышаўшым з друку, як дадатак да “Źniča” (Наузорная Імша Сьвятая — Літургія...[49]), дык заўважаецца ў найбольш важных малітвах — (прыкладам, “Веру”) — розьніцу.

Праўда, у малітаўніку “Голас Душы” (рымскае выданьне) ёсьць ня толькі друкарскія памылкі, але і недакладнасьці, незразумелыя

---

[47] Друкуецца паводле: Беларуская мова ў лацінскім абрадзе // Божым Шляхам. 1965. № 5 (92). Верасень — Кастрычнік. С. 1.

[48] **Джакама Лекаро** (іт. *Giacomo Lercaro,* 1891—1976), італьянскі кардынал. Архіяпіскап Равены (1947—1952), архіяпіскап Балоны (1952—1968), кардынал-сьвятар ад 1953 г.

[49] Маецца на ўвазе выданьне: Naŭzornaja (pieršaja) Imša Śviataja — Liturhija pavodle abnoŭlenaha abrade biełaruskaj movaj. Rym: vydaviectva “Źnič”, 1965. — 15 s.

сказы і дагматычна сумніўныя. Іх трэба было-б паправіць належна і адпаведна. Ці-ж гэта аднак можа зрабіць адзін чалавек, хоць-бы сабе вельмі працавіты? Трэба знаць, апрача сваей, таксама старадаўныя мовы.

Для прыкладу возьмем пераклад ведамай малітвы, якая ўжываецца ува ўсіх хрысьціянскіх абрадах: "Kyrie eleison", славянскае: "Господзі, памілуй".

У малітаўніку "Голас Душы" (выд. рымскае) старадаўнае грэцкае *"Kyrie eleison"* тлумачыцца праз: *"Зжалься, Божа, над намі"*, а ў "Наўзорнай Імшы" тое самае перaтлумачана: *"Божа, зьмілуйся"*.

Абодвы тлумачэньні няправідловыя, бо грэцкае *"Kyrios"* знача *"Госпад"*, а не Бог. Ці нялепш было-б у г. наз. беларускай Імшы лацінскага абраду папросту затрымаць *"Kyrie eleison"*, або, калі тлумачыць, дык правідлова: *"Госпадзе, зжалься"*, або *"Госпадзе, памілуй"*?

Калі затрымаемся крыху больш пры гэтай малітве, дык трэба зьвярнуць увагу таксама і на *"Christe eleison"*.

Малітаўнік "Голас Душы" тлумачыць гэтыпабожны кліч: *"Хрыстэ, зжалься над намі"*, а *"Наўзорная Імша сьвятая..."*: *"Хрыстэ, зьмілуйся"*.

Пытаемо: чаму-ж той самы аўтар адзін раз тлумачыць так, а іншым разам інакш?

Далей: хто зь беларусаў ужывае слова *"Хрыстэ"*? Часам беларусы кажуць: *"Хрыстусе"* (форма спалянізаваная), або: *"Хрысьце"* (бліжэй старaславянскага), але ніколі *"Хрыстэ"*, бо-ж гэта жыўцом польшчына!

Можна было-б падаць больш падобных прыкладаў, аднак мы спынімся і сьцьвердзім наступнае: усё пазытыўнае, што было ці ёсьць зроблена праз паважанага рэдактара "Зьніча", мы ня толькі прыймаем, але — як агульнае дабро — будзем падтрымліваць і пашыраць. Нямала аднак апошнім часам друкавалася на старонках "Зьніча", што — дзеля таго самага агульнага беларускага дабра— патрабуе здаровай грамадзкай крытыкі і спраставаньня.

Добра паінфармаваны духоўныя ўлады ня могуць дазволіць, каб асабліва там, дзе "Сьвятое Сьвятых", кожны баранаваў, як яму спадабаецца.

Гэта адносіцца ў першую чаргу да перакладу Сьв. Пісаньня і да літургічных тэкстаў —так лацінскага як і старaславянскага абраду. Таму мы лічым, што павінны заіснаваць у беларусаў к а м і с і і, а ў іх склад павінны ўваходзіць каталікі і праваслаўныя, а таксама спэцыялісты людзі сьвецкія.

Тады мы абмінём небясьпеку пісаньня і друкаваньня сьвятых тэкстаў лёгкамысна і непрыгатавана.

***Рэдактар “Зьнічу”***

## “Штучная мова Зьнічу”, ці штучны над ёю “жаль”?[50]

### *Легалізацыя беларускай мовы ў Літургіі*

Кажнаму сяньня ўжо ведама дый зразумела, зь якою ўцехаю і прызнаньнем прыняла агульная беларуская апінія абвестку ў Зьнічы (№ 81) аб легалізацыі беларускай мовы ў каталіцка-лацінскай Літургіі = Мшы Сьв. Ведама зь якою растропнасьцю й выразумеласьцю для пачатковых труднасьцяў абыдных паўстрымоўвалася тая апінія ад разводжаньня крытыкаманскага, атрутнага ў псыхозе нашага разладзьдзя, прычэпства да няістотных, штучна перавялічваных дробязяў. Наадварот, сьпяшыла прыватна ці публічна, у прэсе, выказваць дабражаданьні памыснага разьвіцьця ды падзяку і інтэрвэнюючым і дэкрэтуючым Уладам за іхнюю турботнасьць аб патрэбах беларускага народу; падчорківаючы такжа заслугі ініцыятыўныя, ды ажыцяўляючыя на прахтыцы тую легалізацыю, Дырэкцыі Эміграцкіх Душпастырстваў, замацоўваючай яе ў гісторыі, рэклямуючай перад іншымі, адраджаючыміся народамі.

На працягу паўгада гэтая прахтыка ў меру скромных магчымасьцяў пачала разьвівацца, дасканаліцца, папаўняючы й зацьвярджаючы ў Літургічнай Камісыі далейшыя тэксты Літургіяў і папулярна цэлебруючы іх (гл. хроніку на бач. 7) ды заклікаючы да разьвіцьцёвай супрацы болей сіл (паваж[аны] рэдактар “Б[ожым] Ш[ляхам]” з’ігнараваў гэты заклік). І робіцца ўсё гэта не зь якой-небудзь самазванцка-прыватнай ініцыятывы і кампэтэнцыі, а з тытулу кананічна забавязваючага вышуспомненага Дырэктарства, пад кантрольным і дарадным наглядам адносных кампэтэнцыяў гэрархічных, як выразна адцемлена ў вышцытаванай абвестцы “Зьнічу”; робіцца з агляднаю развагаю, абасноўваючыся ў гэнэральных лініях на тых — spectatis spectandis[51] — старых ужо засвояных, а йшчэ не аджытых, формах пабожнасьці (“Голас Душы”); робіцца з асьцярогаю ня толькі *ня страціць* чаго цэннага *старога*, але і *не праваронiць* патрабнейшага *новага*.

Калі аднак адразу з’ігнараваўшы, а пасьля паўгода агледзеўшыся паважаны рэдактар “Б[ожым] Шл[яхам]” (гл. № 5/1965, б. 1)[52] усё гэта,

---

[50] Друкуецца паводле: Red.Z-čn. “Štučnaja mova Źniču”, ci štučny nad joju “žal”? Lehalizacyja bielaruskaj movy ü Liturhii // Źnič. № 85—86. Listapad — Sniezan 1965. С. 8—9.

[51] ***Spectatis spectandis*** (лац.) — зьвяртаючы ўвагу на тое, на што трэба зьвярнуць.

[52] Гл. вышэй: [а. Л. Гарошка]. Беларуская мова ў лацінскім абрадзе.

бы ў крывым люстры, упракудзіў сабе датаго пахібным, вымагаючым санацыі, што пнецца тую санацыю справакаваць аж *“вялікім жалем”* ды алярмовым застрашваньнем публічнай апініі *“дагматычнай сумніўнасьцяй... штучнасьцяй слоў прасяклых палянізмамі”* ў літургічных перакладах зьнічавых, а ўдабавак правакаваньне тое навет аж *“прыкрасіць”* саркастычнымі кпінамі, дык нічога абвінавачванаму не астаецца, як адклікацца да права: *audiatur et altera pars*[53]...

1) Наколькі прасочаныя тэндэнцыйнасьцю закіды зьяўляюцца нясумернымі з пахібамі, а навет і зусім прамаховымі, хай пакажа наступны агульна-арыентацыйны прыклад адносна *“штучных слоў”* — хто каму павінен-бы іх вытыкаць. У № 3/65 час. “Божым Шляхам”, бач. 17[54], у перакладзе актуальнае беларускае прэсы, люструецца між іншым і № 81 “Зьнічу”, у якім з артыкулу, ня маючага нічога супольнага зь Літургіяй, навыкалупвана (б. 2) жменьку простых, кажнаму зусім зразумелых ды карэктных слоў, паперакручвана іх і на гэну пярэкруць выдана дакорлівую рэцэнзыю: *“незразумелыя”*, ня спрыяючыя моў духу новай Літургіі ў роднай зразумелай мове... а былі гэта словы: *жывёльны* (ад жывёла) — яго перакруцілі на *жывуальны*; *існавальны* (ад існаваць) — яго перакруцілі на *уснавальны*; *ў вадзінакрыніцу* — здэфармавана на *вадзінакрыніца*, адрываючы ад “ў” ды абяссэнсваючы “в”. Ці адзіны гэта выпадак? Ці можна яго ўважаць за друкарскі недагляд, калі на адной бачыне вытыкаецца аж адзінаццаць падобных *“незразумеласьцяў”*? Галасы публічнай апініі, дык мелі хіба іншае ўражаньне, калі ў № 5 “Б[ожым] Ш[ляхам]”, б. 20[55] зьявіўся ўжо пратэст проці гэткай *“санацыі”*, а кансэквэнтна і проці тае імпэртынэнцкае[56] *“абароны”* апініі ад слоўнікавай *“штучнасьці”* зьнічавай.

Няма тады патрэбы самому рэдактару “Зьнічу” выступаць тут зь нейкай рэплікай морфолёгічнай; сьцьвердзім толькі, што мова “Зьнічу” перайшла ўжо свой дыскусыйны пэрыяд і мае свой вытрыманы стаж. Калі-ж каму шчэ ўсё яшчэ выдаецца *“штучнай”*, дзеля сваіх (падыктаваных балючаю патрэбаю) асаблівасьцяў, адрожніваючых яе ад наіўных філё-расейскіх ці філё-польскіх жаргонаў; калі ейную тэндэнцыю да незалежніцкай арыгінальнай, ці аўтэнтычнай беларускасьці (з глыбі правінцыі) з аднаго боку, а з другога — імкненьне такжа да ўзвышна-стылістычнай мілагучнай

53 ***Audiatur et altera pars*** (лац.) — належыць выслухаць і іншы бок.

54 Гл. вышэй: [а. Л. Гарошка]. З беларускае прэсы. Зьніч: Студзень — Сакавік, 1965, № 81, Год XVI.

55 Гл. вышэй: Чарнэцкі, Я. Ліст з Чыкаго да а. Льва Гарошкі.

56 **Імпэртынэнцкі** — недарэчны.

(так патрэбнай у Літургіі, у Сьв. Пісьме) дастойнасьці, рэдактар "Б[ожым] Ш[ляхам]" сьмее абзываць *"лёгкамыснай"*, — дык адсылаем да галаслоў апініі, асабліва рэцэнзыйных, ды нашых жа рэплікаў у "Зьнічы": *№ 4—5, бач. 8, ліст Я. Ш. у рэдакцыю*[57]*; № 18, б. 8, ліст В. Ш.*[58]

[57] *"Вельмі паважаны кс. Рэдактар. Дзякую Вам шчыра за прысланыя мне нумары "Зьнічу". З дапраўднай прыемнасьцю я і мае знакомыя прачытаў іх. Кажу, з прыемнасьцю, бо, ня гледзячы на цяперашняе нашае буйнае газэтаманства, мала спатыкалася паважнейшых, годна рэпрэзэнтуючых нас, часапісаў у гэткім эстэтычным выглядзе ды ў гэткай высокастылізаванай прыгожай мове, чэрпанай з роднай старой крыніцы, не засьмечанай наскара пахапанымі з суседніх моваў няздарнымі барбарызнымі. Відаць Вы каштавалі з гэнай крыніцы ня мала за сваіх маладых вучнёўскіх часаў. Добра, што стараецеся ўтрымацца на дэмаркацыйнай лініі, ухіляючыся ад уплываў з Усходу і Захаду. Вам, старэйшаму нашаму публіцысту, добра знаючаму суседнія агрэсыўныя мовы, лягчэй пры помачы параўнаньня ўтрымаць апрычонасьць мовы роднае, бо малодшым нам, гадаваным за рожнымі зялезнымі заслонамі, не заўсёды гэта ўдаецца. Некаторыя сваімі наіўнымі русыцызмамі й палянізмамі так успелі замарочыцца, што ім старое арыгінальнае беларускае выдаецца дзіватворам. Ёсьць у "Зьнічы" наватворы ці чужыя словы, але ў іх не адчуваецца наіўнага нявольніцтва: калі й здараюцца якія запазычаныя тэрміны, пры недахопе сваіх, дык гэта, або — агульна эўрапэйскія, ня выстаўляючыя на шовіністычныя суседзкія пратэнсыі, або — нейкія новыя больш, ці менш, удачлыя спробы (Першапомач), ідучыя на спатканьне нашай тэхнічна-разьвіцьцёвай неадзоўнай патрэбе. [...] J. S."* (J. S. Vielmi pavazany Ks. Redaktar // Źnič. № 4—5. Sniezan — Studzien 1951. С. 8).

[58] *"Дарагі айцец Татарыновіч. [...] Дык якая ж тайніца выклікае ў чытача "Зьнічу" гэткія пачуцьці? Пэўна-ж — глыбока рэлігійна-моральны тон гуляе не апошнюю ролю. Знайходжу аднак і другі адказ: часапіс ёсьць пісаны глыбока народна-беларускаю моваю ня толькі па словах, але і па духу. Пабудова сказаў ня гоніцца за гэтак званай рэторыкай, ці бліскучасьцю. Сказы будуюцца срога паводля таго, як яны кажуцца народам. Мова "Зьнічу" — як кажа J. S. у № 4—5 часапісу — не нахапаная наскара адкуль ні папала, а чэрпаная з народных крыніцаў. Гэткае слова, як "адкасьніся", "адкаснуцца", першы раз я стрэў у "Зьнічу". Гэтае слова прыпомніла мне маю Матку, якая словам "адкасьнецеся", адганяла нас ад сябе, калі мы ёй бывала надта надакучым. У "Зьнічу" сустракаў шмат-шмат іншых чыста народна-беларускіх словаў, якіх нашая "мадэрная" літаратура ня ўжывае. Тутака пазволю сабе зацеміць, што пры чытаньні Коласавых твораў "Новая Зямля" й "Сымон Музыка" агортвае мяне тое самае, што і пры чытаньні "Зьнічу". [...] Праўду сказаўшы, брыдка забіраць голас пра мову, ня будучы моваведам, ані літаратарам. Аднак мне здаецца, што нашыя сучасныя будаўнікі мовы, будуюць яе ня толькі бяз грунтоўнага фундаманту, але навет без сякой-такой дзеравянай падрубы. Кажнае дзіцянё ведае, што ў гэткай будыніне хутка робяцца распадзіны, якія трэ' зарабляць, або*

*і адказ на яго*[59]*; № 20, б. 8, "Слоў некулькі самаабароны"*[60]*; № 34—35, рэцэнз. "Да новага выданьня Сьв. Эванэліі" а. Др. Ч. Сіповіча*[61]*; № 37, б. 4—5 рэпл.: "Маім рэцэнзарам"*[62]*; №51—2, б. 4—5 "Як разумець назоў "Субожня"?"; № 24, б. 8 "Ад Рэдакцыі"*[63]*; у "Бацькаўшчыне" № 25 1955, рэцэнз. на выданьне "Эванэліі", Др. Ст. Станкевіч*[64]. Апрача таго — прыватная карэспандэнцыя, кансультацыя зь языкаведамі; якою заінтэрэсаваным наша рэдакцыя можа служыць, як таксама й цэлымі "Гадавікамі" Зьнічу, дзе знайдзецца ўсё цытаванае.

2) А і прыгледзьмася крыху літургійнаму мовазнаўству самога пав[ажанага] крытыка.

Найбольш кранула яго (паміма заўвагі: "*ad libitum*"[65]) у папулярным падручніку "Наўзорная Імша" і малітаўніку "Голас Душы", быццам памылковае тлумачэньне інвокацыі "*Kyrie eleison*" "*Christe eleison*" — "*Божа зьмілуйся*", "*Зжалься Божа над намі*". Калі стаў аднак тую

---

*й цэлую будыніну часта грунтоўна перабудоўваць. Нашая сучасная літаратурная мова нагадвае цела бяз душы. Вы, Дарагі Айцец, пайшлі іншаю, памойму зусім добраю, дарогаю. Вы амаль што адзін, бяз ніякіх памагатыраў, пачалі будаваць пад наш будынак новы грунтоўны і моцны фундамант. А гэта, як ведама, ёсьць вельмі цяжкай ды адказнай працай. Тут найменшая памылка будзе прычынай развалу будынку. Я веру ў тое, што беларуская мова будзе разбутоўвацца на фундаманце, які цяперака будуеце Вы. […] З вялікай пашанай да Вас — V. Š."* (V. Š. [Darahi Ajciec Tatarynović] // Źnič. № 18. Krasavik — Travien 1952. С. 8).

[59] *"Паважаны Спадару В. Ш. Рэдакцыя дзякуе Вам за... зацемкі аб нашай часопісі. Мы пазволілі сабе агласіць іх тут з увагі на тое незразуменьне, з якім некаторыя адзінкі спаткалі былі Зьніч на парозе яго выхаду ў сьвет, і з увагі на нашых Пав[ажаных] Супрацоўнікаў, ім бо ў першую чаргу належыцца Ваша джэнтэльмэнска-сатысфактная ацэна. Мы ўпаўне сьведамы адзначанай Вамі цяжкасьці й адказнасьці языкова-будавецкай ролі, таму і ня спушчаем з вока — з аднаго боку — здаровых адраджэнскіх крыніц (аўтэнтычнай мовы вёскі), а з другога — і шырэйшых ды наглейшых новых адраджэнскіх патрэбаў, якіх нельга заспакоіць самой вясковай тэрміналёгіяй, а якія часам змушаюць не пагарджаць навет і ... "бліскучай рэторыкай". З узаемнай пашанай — Рэдакцыя"* (Źnič. 1952. № 18. Krasavik — Travien. С. 8).

[60] Гл. вышэй: Рэдакцыя. Слоў некулькі самаабароны.

[61] Гл. вышэй: а. Др. Ч. Сіповіч. Да новага выданьня сьв. Эванэліі.

[62] Гл. вышэй: кс. П. Татарыновіч. Маім рэцэнзарам.

[63] Ad Redakcyi // Źnič. № 24. Cervien — Lipien 1953. С. 8.

[64] Гл. вышэй: Ст. Ст. [Станіслаў Станкевіч]. Кнігапіс. "Сьвятая Эванэлія і Апостальскія Дзеі". Пераклаў і падаў выясьненьні Кс. Др. Пётр Татарыновіч. Рым, 1954. С. 636.

[65] ***Ad libitum*** (лац.) — паводле ўласнага жаданьня.

“*памылковасьць*” тлумачыць сам — аспрэчваючы магчымасьць ужываньня паняцьця “*Бог*” заміж “*Госпад*” — дык датлумачыўся да таго, што мы дагэтуль, дый цэлая Эклезія, у гэтым “*Kyrie eleison*” маліліся не да Бога, бо — як кажа даслоўна — “*грэцкае “Kyrios” знача “Госпад”, а не “Бог”*”, так як-бы пад абодвымі паняцьцямі “*Госпад*” і “*Бог*” ня можна разумець Кагось Аднаго... І як тады згадзіцца на тое дараджванае крытыкам, нібы-то “*правільнае*”, “*Госпадзе, зжалься, ці... памілуй*”, калі Госпад гэта ня Бог? Тым-болей, што “*зжалься*” куды горшае за “*зьмілуйся*”, дзеля свае многазначнасьці — жаліцца над кім, жаліцца за грахі, каяцца, жаліцца н[а]п[рыклад] вось гэткімі сьлязьмі, як крытык — тэрмін як такі занячышчае думку аб Божай несканчатнай Сьвятасьці. Таму вось пры нагодзе дазволенага дыалегаваньня, пераладжваньня (гл. два апошнія радкі Дэк[рэ]ту) — запраектавана “*Божа зьмілуйся*”. Кажам “*запраектавана*”, бо гэтая інвокацыя дана да выбару: хто хоча, можа гаварыць дагэтулешняе грэцкае: хто, напрыклад, прыпадкам і паверыў-бы, што “*зьмілуйся*” гэта “*палянізм*”, ды спудзіўся б яго, або дагадаўся б, што “*Госпадзе памілуй*” гэта фактычна русыцызм...

Так, як і тое “*Хрыстэ зьмілуйся*” — чаму у крытыка яно канечне “*польскае*”, а не скарэй лацінскае? Ды чаму больш правільнае “Хрысьце”, хоць бліжэй — як кажа — старославянскага (а фактычна старабаўгарскага)? Калі ўжо ўглыбляцца ў морфолёгічную лёгіку, дык трэ было-б па-польску гаварыць “*Хрыстусе*” ад “*Хрыстус*”, (так, як аналягічна па-царкоўнаславянску — *Христосе* ад *Христос*, чаму аднак у практыцы — *Христе*?). Дзеля нейкай аднак рацыі, мо для польгі фонэтычнае, палякі асвоілі лацінскую форму “*Christe*”. Калі дапусьцілі й мы яе, дык гэтым-жа не спалянізаваліся, а “*далацінізаваліся*” (бо-ж наагул і ўвесь абрад наш (каму ня ўспеў яшчэ ачужэць) — лацінскі, а ня “*польскі*”, як часта гракаюць нам вароны; мусім-жа шукаць мілагучнасьці.

Патрэбаю тае мілагучнасьці, асабліва ў сьпеве, або лёгкай рэцытавальнасьці, часткова аб’ясьняецца й дапушчальнасьць пераладжваньня ў тэксьце строю слоў ці дабору іх, дзе дазваляе ненарушальнасьць кананічнага сэнсу. Гэта і мела месца ў тым, так раздражніўшым нерастропна — кансэрватыўнае вока цэнзарава. “Веру”, дзе скарыгавана адстарэлы пераклад двух слоў: “*Створцу*” на “*Стварыцеля*” і “*паважаецца*” на “*адоруецца*” (паважаньне бо, гэта яшчэ не паклон). Крыху также ўразнастайнена тое да нуды паўтаранае “*і*”. Але-ж гэта ўсё — насуперак дацінку крытыка — ня толькі не зрабіла тэкст “*дагматычна сумніўным*”, а йшчэ ўдакладніла яго. На інструкцыйных курсах Літургічнае Камісыі ды асобных кансультацыях гэткая прахтыка ўважалася ня толькі дапушчальнай, але і дараджванай дзеля ўпрыемненьня Літургіі проці ўсяго ўпрыкраючага.

3) Маючы гэта на ўвеце, як прыкра ды крыўдна спатыкацца зь нясуразнымі закідамі проці вышэйш казанага. *"Адно гаворыцца ўладам, а другое робіцца"* — жаліцца крытык — *"Добра паінфармаваныя духоўныя ўлады ня могуць дазволіць, каб кожны… баранаваў, як яму спадабаецца"*. Тады, як і сам-жа крытык, хай сабе галаслоўна ды перасолена, выказаў патрэбу карэкты маліт[аўніка] "Голас Душы"; а як тая карэкта за ведамам уладаў пры вымагаючай яе нагодзе робіцца кім іншым, а ня ім, дык за гэта вінаваціць абразьлівай алюзыяй дрэннага паінфармаваньня тых уладаў… А ў якім выпадку яны былі-б лепей паінфармаваны? Выглядае, што тады толькі — калі інфармаваў-бы сам пав[ажаны] крытык, або імагінаваная[66] ім *"камісьыя"*, дзе спадзяецца трымаць сваю гэгэмогію (да якое — як відаць з усяго — так пнецца), ды праводзіць сваё *"баранаваньне"*…

Ці ня гэта анно разбудзіла і той *"вялікі жаль"* над *"штучна творанымі славамі рэдактара Зьніча"* ды тую *"здаровую крытыку, прастуючую"* пахібы літургійных перакладаў? Сьмеем аднак сьцьвярдзіць, што выключна нэгатывістычная аднастароннасьць яе, нічога фактычна не даказаўшая, а пераважна галаслоўная, ды насьмешлівы тон з ідэйнага мазалю, як — у эвэнтуальнай кансэквэнцыі і з (выкрутна *"экскузаваных"*) уладаў — зусім ня сьветчаць аб здаровасьці тае крытыкі, а наадварот: сьветчаць аб той *"лёгкамыснасьці"* самога крытыка, які з тэндэнцыйнай прычэплівасьцю закідаў яе ніжэйпадпісанаму.

І ці ў сьвятле ўсяго вышэй алярмаванага проці "Зьнічу" прапанова *"падтрымкі й пашыраньня ўсяго ў ім пазытыўнага"* ня выглядае на горкую іронію, як навотлеў кінутая адчэпна галоднаму костка? Хто будзе квапіцца на яе абглодваную, зьнеслаўляную, крытыкаманскім калупайствам? Дзякуем за яго. Нашай сьвятой выдавецкай справе хопіць ужо і таго, калі чэсна пакінеце зьнеуважаць ардынарным *скароджаньнем* – працавіта, прызваіта і легальна ёю *баранаванага*.

*Рэдактар "Зьнічу".*

*Падрыхтоўка да друку Алеся Аўдзеюка,*
*камэнтары Натальлі Гардзіенкі*

[66] **Імагінаваны** — уяўлены.

***Тэма нумару: Італійская мазаіка***
*Да творчай спадчыны Пётры Татарыновіча*

***Міхаліна Татарыновіч***

# ЛІСТЫ ДА ВІТАЎТА ТУМАША

***Міхаліна Татарыновіч*** *(1908—1987), сястра прэлата Пётры Татарыновіча. Закончыла Віленскую беларускую гімназію, вывучала францускую філялёгію ў Віленскім унівэрсытэце. Падчас нямецкай акупацыі — намесьніца кіраўнічкі юначак, а з 31 траўня 1944 г. — кіраўнічка (заступніца) СБМ на Баранавіцкую акругу. Улетку 1944 г. пакінула Беларусь, апынулася ў аўстрыйскім Куфштайне. Потым пераехала ў Польшчу, жыла ў Острудзе (цяпер — Вармянска-Мазурскае ваяводзтва). Неаднаразова наведвала Рым.*

*Roma, 10.XII.76 г.*

Паважаны сябра Вітаўт!

Пазвольце прыпомніцца ніжэй падпісанай сублёкаторцы “інтэрнату” Сп. Марысі Суторчанкі на Полацкай у Вільні. Блізкае даўнейшае знакомства асьмельвае мяне зьвяртацца як да Сябры.

Пасьля заканчэньня вайны доля завяла мяне ў Польшчу, дзе, як тагды думалася, знайшла тымчасовае прыпынішча, ажно прышлося і да сягоньня там жыць.

У сучасны мамэнт гашчу ў Рыме ў брата кс. Пятра. У сапраўднасьці то не прыехала гасьціць, а толькі адведаць хворага брата ды заняцца ягонымі справамі, іменна ў нейкі спосаб разладаваць архіў кніжак ягонага выданьня: Эвангельля, “*Quo Vadis*”[1], “Лісты Сьв. Апосталаў”[2], малітоўнік “Голас душы”. Гэных кніжак засталася большая колькасьць. Ёсьць некалькі камплектаў “Зніча”, што праўда, не апраўленыя і не пераплеценыя. Папросту ня ведаю, як да гэтага ўзяцца і куды кінуцца. Таксама ня ведаю, што рабіць з карэспандэнцыяй і іншымі дакумэнтамі. Брат ня можа сам заняцца гэтай справай і парадзіць, так што мушу сама аб гэтым думаць і дэцыдаваць. Зьвяртаюся па раду да

---

[1] Sienkievič, Henryk. Quo Vadis. U biełaruski pierakładzie ks. Dr. P. Tatarynoviča. Rym, 1956. — 475 s.

[2] Listy Śviatych Apostalaŭ. Pierakłaŭ I padaŭ vyjaśnieńni Mns. Piotr Tatarynovič. Rym, 1974. — 403 s.

знаёмых. Вашыя прыязныя адносіны да брата асьмелілі мяне й да Вас зьвярнуцца.

Пераглядаючы карэспандэнцыю, напаткала Ваш ліст, у якім прапануеце брату выслаць у бібліятэку фундацыі імя Пётры Крэчэўскага камплект "Зьніча" і іншыя выданьні ягоныя. Сягоньня брат не памятае, ці гэта зрабіў, а ў карэспандэнцыі не спаткала пацьверджаньня сп. інж. М. Гарошкі[3] аб атрыманьні.

Буду вельмі ўдзячная, калі даведаецеся і паведаміце мяне, а таксама можа штось парадзіце ў справе ліквідацыі архіву.

Адначасна пры нагодзе прыміце ад мяне й брата Калядныя й Навагоднія дабражаданьні.

З пашанай,

Міхаліна Татарыновіч.

Рым, 26.II.1977 г.

Дарагі Вітаўт!

Затрымалася з адказам на Твой ліст, бо чакала, што вось-вось атрымаю грошы, каб адначасна паведаміць. Аднак трэба было доўга чакаць, але ўсё-ж дачакалася. За 30 даляраў пошта выплаціла 26.190 ліраў. Шчыра дзякую, што парупіліся прыйсьці з помаччу грашовай у аплаце перасылкі. Думаю, што гэта ў поўнасьці павінна хапіць. Раблю малыя пачкі, каб не перавышалі 5-ці кілаграмаў, тагды аплата ёсьць меншая як за звыклую пачку, ды й пакаваць лягчэй.

Першыя 4 пачкі выслала 16.II, 18 і 19 лютага — 5 пачак. У гэтым: "Голас душы" — 47 шт., "Ружа"[4] — 50 шт., "Лісты Апосталаў" — 36 шт., "Эвангельля" — 6 шт., "Quo Vadis" — 2 шт., "Зьніч" — 1 камплект, "Мша сьв."[5] — 50 шт.

"Мшы сьв." ёсьць 4 роды (тонкія экз.), дык кожной вышлю па 50 шт — з гэтага будзе невялічкая пачка. Кожную рэч паасобна маю зьвязаную і так дабіраю, каб не перавысіла ўмоўнай вагі. Ад 1-га сакавіка буду высылаць наступныя. Трохі абайваюся, ці не заслабая апакоўка: папер як да пачак, раблю з гэтага скрынкі, дапасаваныя адпаведна, і гэта яшчэ абкручваю моцнаю паковаю паперай. Хіба-ж не павінна разтрасьціся, хоць і далёкая дарога.

---

[3] **Мікола Гарошка** (1902—1979), грамадзкі дзеяч, інжынэр. У ЗША быў старшынём Беларуска-амэрыканскага задзіночаньня ў 1949—1952 і 1965—1967 гг., а таксама першым старшынём Фундацыі імя П. Крэчэўскага.

[4] Ruža. Padručnik ružancovaha abjadnańnia dla Biełarusaŭ. Rym, 1949. — 30 s.

[5] Відаць, маецца на ўвазе выданьне: Naŭzornaja (pieršaja) Imša Śviataja — Liturhija pavodle abnoŭlenaha abrade biełaruskaj movaj. Rym, 1965. — 15 s.

Архіў лістоў астаўляю ў апошнюю чаргу, бо мушу сьпяшыць хутчэй разсылаць кніжкі ва ўсе магчымыя мейсцы (найбольш у Лёндан) дзеля таго, што да канца сакавіка павінна зволніць памешканьне. Па адным экзэмпляры пасылаю ў польскія бібліятэкі, так як мне раіш. Я вельмі цікава, у якім стане дойдуць пачкі, але-ж напэўна гэта будзе доўга трываць, пакуль вадаплавам даплыве да вас.

Я маю намер аставацца тут да Вялікадня, а пасьля — будзе залежыць ад абставін.

Яшчэ раз шчыра дзякую за грашовую помач, а таксама за згоду прыняцьця ў Інстытут большай колькасьці кніжок.

Ага, яшчэ вельмі, вельмі дзякую за прысланыя мне свае кніжкі. Хоць спозьнена, складаю гратуляцыі з нагоды юбілею 25-годзьдзя існаваньня Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва[6], у працы якога і Вы ўзялі німалы ўдзел. Сто гадоў плённай працы!

Прашу прыняць ад мяне й брата прывітаньні з пажаданьнем усяго добрага!

Зь ветлівасьцю,

Міхаліна Т.

Рым, 7.IV.1977 г.

Паважаны й Дарагі Сябра Вітаўт!

Трохі, ды ня трохі, пазьнілася зь лістом і Вялікоднымі дабражаданьнямі, але ўсё-ж такі пішу перад Вялікаднём, дык жадаю ад сябе й ад брата радаснага Альлелуя для ўсёй Вашай Сямейкі!

Лічыла, што раней закончу высылку, але, на няшчасьце, у мінулым тыдні захварэла, і ў далейшым немач яшчэ цягнецца, грыпа ці што іншае: кашаль, падвышаная тэмпэратура. Ляжаць няма калі, трэба было сьпяшацца закончыць перад Сьвятам. Дзякаваць Богу, 5.IV выслала апошнія 3 пачкі ў Лёндан.

Хваля пачак да Вас хіба-ж пачалася. першыя выслала, бадай, 16.II. пачаткова пошта прымала пачкі да 5-ці кл., потым сказалі, што толькі да 3-х, таму гэтак доўга цягнулася, цыркаючы малымі пачкамі. Усяго выслала Вам 28 пачак (а наагул усіх — 77), у гэтым, паводле маіх нататак: “Лісты Сьв. Апосталаў” — 62 экз., Сьв. Эвангельля — 6, “Quo Vadis” — 24, “Сьледам за Хрыстусам”[7] — 24, “Зьніч” — 4, “Голас душы” — 148, “Ружа” — 50, “Імша сьв.” — 55.

[6] 25-годзьдзе Беларускага інстытуту навукі й мастацтва адзначалася ў сьнежні 1976 г.

[7] Маецца на ўвазе выданьне: Kempijski, Tamaš. Śledam za Chrustusam: čatyry knižki. Z łacinskaj movy pierakłaŭ Dr. St. Hrynkievič. [Нью-Ёрк, 1971]. 176 s.

Рабіла нататкі, каб не перасаліць, аднак "Г[оласа] д[ушы]" вымкнулася больш, як Вы пісалі. Іншыя выслала ў меншай колькасьці, бо высылала некаторым знаёмым, а таксама ў бібліятэкі, нр. 3 "Зьнічы" выслала да Польшчы ў бібліятэкі і Бел[арускае] таварыства ў Беластоку.

Пакуючы пачкі, усьцяж думала, у якім стане яна дойдзе. Матар'ял пакункаў даволі слабы, але толькі такі здолела знайсьці. Так сама ня ведаю, ці ў парадку будзе аплата. першы раз спаткала на пошце такое бязладзьдзе. Амаль за кожным разам іншую аплату бралі, нават той самы працаўнік адзін дзень браў большую, а на другі дзень — меншую. Бяда мая, што як "нямая", не магла зь імі дагаварыцца, выясьніць: колькі казалі — столькі плаціла.

Яшчэ асталося выслаць трохі карэспандэнцыі. Пачаткова думала, што здолею перагледзіць, зн. прачытаць усе лісты і іншыя матарыялы і пасеграваць паводле тэматыкі, але ўсё-ж не дала рады, зашмат гэтага было.

Лісты менш-больш пасегравала паводле адрасатаў, не ўнікаючы ў іх зьмест, таму, пэўне-ж, будзе многа бязвартаснага. Гэта вышлю пачкай рэкамэндаванай пасьля Вялікадня.

Дакумэнтальную карэспандэнцыю, датычачую спраў рэліійных і духавенства, а таксама пэўную колькасьць лістоў, забраў Біскуп Сіповіч, які прыяжджаў у Рым у студзені.

Пасьля Вялікадня мушу здаць гэтае памешканьне і тагды фактычна ня маю дзе жыць. На пару дзён мо дзе прытулюся і хіба каля 20-га паеду да дому.

Шчыра дзякую, і брат просіць падзякаваць за Вашую шчыраволю. Прашу не дзівіцца, што брат ня піша, але гэта не ад яго залежыць, галава слаба працуе. Аднак прашу час-ад часу адазвацца да яго, гэта будзе яму вельмі прыемна, што памятаюць аб ім.

Яшчэ раз шчыра дзякую і прашу выбачыць, калі было што ня так, як трэба. Мо калі пазволіць Вам час, дык прашу напісаць да мяне да дому. Адрыс ніжэй.

Усяго, усяго добрага ў жыцьці Вам і Вашай Сямейцы.

Астаюся зь ветлівасьцю,

Міхаліна Т.

*Падрыхтоўка да друку й камэнтары*
*Лявона Юрэвіча й Натальлі Гардзіенкі*

***Тэма нумару: Італійская мазаіка***
*Эпісталярыі*

***Пётра Конюх***

# ЛІСТЫ ДА ВІТАЎТА ТУМАША

*Італія была краінай, дзе некаторыя беларусы аўтрымоўвалі адукацыю, асабліва музычную. З міжваеннага часу найбольш вядомы быў хіба Міхась Забэйда-Суміцкі. А ў паваенны — Пётра Конюх.*

***Пётра Конюх** (08.03.1910, в. Турэц, цяпер Карэліцкі раён Гарадзенскай вобл. — 14.07.1994, Канада), грамадзкі дзеяч, сьпявак. У 1940 г. рэпрэсаваны й вывезены ў Сыбір. У 1941 г. далучыўся да Другога Польскага корпусу. Ваяваў у Палестыне, Паўночнай Афрыцы, Італіі, браў удзел у бітве за Монтэ-Касіна. У 1945 г. атрымаў стыпэндыю для навучаньня ў Рымскай акадэміі мастацтваў, якую закончыў у 1951 г. Потым выступаў у Італіі, езьдзіў з гастролямі па Эўропе й Амэрыцы. Удзельнік хору данскіх казакоў пад кіраўніцтвам Сяргея Жарава. Пераможца Міжнароднага конкурсу маладых вакалістаў у Рыме. Ад сярэдзіны 1950-х гг. жыў у ЗША. Выступаў з канцэртамі, опэрнымі арыямі. Напрыканцы жыцьця перабраўся ў Канаду. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.*

*З італьянскага пэрыяду Пётры Конюха ў архіве БІНіМу засталося колькі лістоў да Вітаўта Тумаша. Яны зьвязаныя з спробамі сьпевака выехаць ў ЗША на гастролі і сьведчаць як пра абставіны ягонага жыцьця ў Італіі, гэтак і пра магчымасьці беларускай грамады ў ЗША.*

Рым, 15.I.53.

Дарагі Прафэсар Тумаш!

Дзякую за Вашу памяць аба мне. Атрымаў ад Вас картку з пажаданьнямі вясёлых сьвят, у якой так сама знайшоў 5 даляраў, за што шчыра дзякую. Можа калісь у прышласьці мне Бог паможа аддзякаваць добрым людзям.

Я да гэтага часу не магу ўладзіцца добра. Цяжка дастацца ў Оперу. Нісамавітая канкурэнцыя, бо ў Італіі толькі можна зарабіць у Оперы. Канцэртамі і Радыямі зарабляю толькі на пражыцьцё і на навуку.

У сучасны мамэнт не магу наракаць, хоць зарабляю мала, але хапае на все неабходнае. У мяне месяц таму быў імпрызарыё з опе-

ры Метрополітэну, слухаў мяне, запісваў мой рэпертуар, казаў, што будзя для мяне шукаць працы ў Амерыцы. Надто было-б добра, каб выяхаць, бо тут можна навучыцца, але грошы трэба ехаць зарабляць да Вас. Мне, чужынцу, біз іх тут надта цяжка разпачаць кар'еру, гдзе не кінуся, то все трэба грошы. Мoжа з гэтага што і будзя, як удасцца, то ў гэтым годзе забачымся ў *New York*.

Ня гэтак даўно награў восім песянь у Ватыканскім Радіо. Кс. Татарыновіч у каждые пятніцы а 18.30 пасля свое мовы пушчая адну а то і дзве песні[1].

Гэта все, будце здаровы, жадаю Вам шчасця ў Новым 1953 годзе.



Пётра Конюх. 1950-я гг.

П. С. Калі ласка, даручэце ліст спадару Грабінскаму[2], бо не магу найці яго адрэсу. Думаю, што Вы находзіцеся разам.

Дзякую,

Петра.

Рым, 11-9-1954.

Дарагі Прафэсар Тумаш!

Шчыра дзякую за ліст і турботы аба мне. Што да заработку з маіх канцэртаў у Амэрыцы, на гэта я зусім ні лічу і з Вашым праэктам у паўні згаджаюся. На першы раз маяго побыту ў Амэрыцы добрым будзя, калі аплацім усе расходы. Тут усё безумоўна залежыць ад арганізацыі, і трэба пашукаць надто сведамаго чалавека ў гэтым кірунку, каторы бы ні пашкадаваў свае працы і здольнасьці ў сарганізацыі, бо іначай

---

[1] Маюцца на ўвазе Беларускія перадачы на Ватыканскім радыё, якія заснаваў і вёў Пётра Татарыновіч.

[2] **Баляслаў Грабінскі** (1899—1991), грамадзкі дзеяч, лекар. Паходзіў з Сакольшчыны. У міжваенны час быў старшынёй Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі, старшынёй Беларускага нацыянальнага камітэуа ў Заходняй Беларусі, намеснікам старшыні Беларускага навуковага таварыства. У 1941—1944 гг. старшыня віленскага БНК. Пасьля вайны жыў на эміграцыі, працаваў доктарам-стаматолягам у ЗША.



Рыгор Крушына, Пётра Татарыновіч, Пётра Конюх. Рым, 1950-я гг

нiварто пачынаць, бо толькі наразімся на страты. Я на сібе бяру толькі вакальную частку, па за чым усе будзе спачываць на Вашых сілах.

Што да рэпэртуару, то я маю прышыкованы як оперныя, так жа і народныя песні, меншбольш каля семідісці рэчаў, так само пяю на мовах як італійскай, рускай, украінскай, польскай, ангельскай, французкай і нямецкай. Ні скажу, што я гэтыя ўсе мовы разумею добра, але рэчы каторые спеваю, то прыгатованы добра.

Я думаю, калі пойдзя добра, то будзям магчы так само арганізаваць ні толькі для публікі беларускай, але так само і для другіх нацый "*канцэрты інтэрнацыянальные*".

Дарагі Прафэсар, я даю сваю згоду, а Вы думайце і рабеце, як Вы прыдбачваеце. Як гэта прынясе карысьць і есьць на часе для нашае агульнае беларускае справы, то старайтесе, а як есьць рызыка і малая надзея, то можа лепшым было-б пачакаць яшчэ з год і абмеркаваць ляпей, каб мець большыя шанцы.

З глыбокаю пашанаю астаюся

Пётра Конюх.

П. С. Шлю шчыры прывет для ўсіх беларусаў у Амэрыцы.

*Падрыхтоўка да друку й камэнтары*
*Лявона Юрэвіча й Натальлі Гардзіенкі*

***Тэма нумару: Італійская мазаіка***
*Эпісталярыі*

***Янка Мойсік***

# ЛІСТЫ ДА ЯНКІ ЗАПРУДНІКА

*Адно з найважнейшых пачынаньняў Пётры Татарыновіча — беларускія перадачы на Ватыканскім радыё — існуюць да сёньня. Пачын заснавальніка працягнулі а. Леў Гарошка, а. Пётра Тамушанскі, Янка Мойсік… Апошні прыбыў у Ватыкан у 1983 г. зь Беласточчыны, дзе нарадзіўся. Праца на радыё стала для Янкі Мойсіка галоўнай справай жыцьця, пра што сьведчаць ягоныя лісты да калегі — супрацоўніка Нью-Ёркскай беларускай рэдакцыі Радыё “Свабода” й рэдактара газэты “Беларус” Янкі Запрудніка.*

Ватыкан, 13.10.86 г.

Здароў, Янка!

Піша да Цябе Янка Мойсік з Рыму. Ужо даўно хацеў да Цябе напісаць пісьмо, але заўсёды нешта стаяла на перашкодзе. Аднак сёньня ўжо вырашыў да Цябе напісаць.

У мяне ёсьць крышку навасьцей. Перадусім тое, што праўдападобна паеду на Зьезд у Мэльбурн[1]. Ужо атрымаў аўстралійскую візу і зарэзэрваваў білет. Еду аж на 2 месяцы. Буду ад 23-га сьнежня аж да 23-га лютага. Дзеля гэтага цяпер я ёсьць страшэнна заняты. Мушу многа напісаць артыкулаў наперад, гэта значыць на той час, калі я буду ў Аўстраліі. Калі я быў у вас у Радыё, Ты прасіў, каб я напісаў нешта адносна беларускае эміграцыі ў ЗША. Пасьле павароту з Амэрыкі была ў мяне страшэнна вялікая ахвота, каб аб гэтым напісаць. Нават ужо пачаў пісаць. Але цяпер, дзеля гэтага падарожжа ў Аўстралію, ня ведаю, ці дам рады напісаць. Можа аж пасьле павароту ўдасца мне гэта напісаць. Прашу памяркоўнасьці.

Хачу паслаць Вам таксама фотакопіі двух пісьмаў ад слухачоў. Жывуць яны ў Фінляндыі. Гэта толькі так для вашай цікавасьці.

Дык яшчэ раз перапрашаю, што ня спраўлюся на час са сваім абавязкам. Можаш да мяне пазваніць! Нумар тэлефону маеш. Некаторыя вашы артыкулы ўжо выкарысталі ў сваёй праграме.

---

[1] Маецца на ўвазе **Сёмая Сустрэча беларусаў Аўстраліі**, якая адбывалася ў Мэльбурне 6—10 студзеня 1987 г.

Перадай прывітаньні для праф. Адамовіча, сп. Шукелайца, др. Кіпелю[2], но і для Адама[3]!

Усяго добрага!

Твой! Янка.

Ватыкан, 19.01.88 г.

Здароў, Янка!

Вельмі дзякую за пісьмо, якое атрымаў пару дзён таму назад. Пра сьмерць Тваёй жонкі[4] я даведаўся толькі зь "Беларуса". Хоць крышку ўжо позна, але прыймі нашы спачуваньні.

Вельмі шкада, што я запозна "апамятаўся" з высыланьнем да Вас матэрыялаў, якія зьмяшчаюць італьянскія газэты адносна Беларусі. У мінулым яны час ад часу з'яўляліся, хоць бы, напрыклад, той, што Вам высылаю. Не зрабіў перакладу гэтага артыкула, бо думаю, што ёсьць крышку застары. Но, на жаль, не памятаю дакладнай даты, калі ён паявіўся ў прэсе. Здаецца, што зьмясьціла яго *"La Republica"*[5] ў канцы кастрычніка, пачатку лістапада. Хоць пісалі таксама аб гэтым і іншыя газэты.

Янка! Будзем вельмі ўдзячныя за вашы скрыпты! "Беларуса" атрымліваем рэгулярна. Хоць часам здараецца, што прыходзіць аж 4 экзэмпляры.

Дык на сёньня хопіць! Прывітаньні праф. Адамовічу, сп. Шукелайцу і ўсім іншым знаёмым!

Твой Янка.

Ватыкан, 1.07.89

Здароў, Янка!

Дзякую за пісьмо і за нядаўна атрыманы матарыял Б[арыса] Сачанкі[6]. Яго новы артыкул, зьмешчаны ў 5 нумары "Маладосьці", маю. Дзякую таксама за даляры — атрымліваў іх таксама ў папярэдніх Тваіх пісьмах.

---

[2] **Вітаўт Кіпель** (нар. 1927), грамадзкі дзеяч, бібліёграф, у той час быў дырэктарам БІНіМу.

[3] **Адам Акуліч** прыбыў у ЗША ў 1979 г., быў супрацоўнікам нью-ёркскай Беларускай рэдакцыі Радыё "Свабода".

[4] Першая жонка Янкі Запрудніка Вольга памерла 30 верасьня 1987 г.

[5] ***"La Repubblica"*** — штодзённая італьянская газета, заснаваная ў 1976 г. Адна з найбольш папулярных у Італіі.

[6] **Барыс Сачанка** (1936—1995), пісьменьнік, перакладчык, пры канцы 1980-х гг. шмат пісаў пра беларускую эміграцыю.

Цешуся, што *“бэлетэнь[7] робіць добрую справу”*. Нядаўна атрымаў пісьмо ад Гуркова[8] зь Менску (залучаю фотакопію), дзе студэнты хочуць яго памножыць аж да 2 тысяч экзэмпляраў. Я аж гэтым перастрашыўся. Няўжо ж ён аж такі цікавы? Ці варты гэтага? Ведаю, што ў ім ёсьць многа недахопаў, але ж я сам. Ня толькі Гуркоў піша, пішуць таксама іншыя. Сёньня, напрыклад, атрымаў пісьмо аж зь Якутска. Гэтага я не спадзяваўся. Калісьці, калі быў у Лёндане, абяцаў помач др. Сенкевіч[9], але дагэтуль маўчыць. Ведаю, што ён ёсьць заняты іншымі справамі.

Кніжкі да граматыкі то маю. Даў мне свайго часу айцец Надсон. Спачатку многа зь іх карыстаў, але ў апошні час якасьці пра іх “забыў”.

Жадаю Табе ўсяго добрага!

Твой Янка.

ПС. Высылаю дзьве выразкі з італьянскіх газэт.

Ватыкан, 2.11.89.

Здароў, Янка.

Вельмі дзякую за пісьмо і падарунак. Не адпісаў адразу, бо быў крышку “заняты” Тамушанскім[10]. Ведаеш, ён далей робіць усё, каб спыніць існаваньне майго бюлетэня. Апошнім разам дапусьціўся нават да таго, што раніцай, калі нікога не было ў Радыё, выкінуў усе мае бюлетэні (ужо гатовыя да высылкі) на сьметнік. Добра, што я ў час зарыентаваўся і выцягнуў іх са сьметніка. Справа пайшла ў дырэкцыю Радыё. Ёсьць пытаньне, якое ён меў права зрабіць гэта? Ці ён ёсьць беларусам? Усім у Рыме ведама, што ён ёсьць арабам[11], з чым нават

---

[7] Маюцца на ўвазе **“Хрысьціянскія Навіны”** — рэлігійна-грамадзкі “інфарматар”, які штомесячна выдаваў у 1988—1992 гг. Янка Мойсік ад імя беларускай праграмы Радыё Ватыкана. Выйшлі 37 нумароў.

[8] **Алесь Гуркоў** (нар. 1965), адзін з актыўных удзельнікаў незалежнага выдавецкага й моладзевага руху у Беларусі ў другой палове 1980-х гг. Адзін з заснавальнікаў і выдаўцоў газэты “Свабода”, арганізатараў руху БНФ “Адраджэньне”.

[9] Відаць, маецца на ўвазе **Віктар Сянкевіч** (1926—?), журналіст, гісторык, грамадзкі дзеяч. У 1958—1961 гг. працаваў у Беларускай секцыі Нацыянальнага іспанскага радыё. Пазьней супрацоўнічаў зь Беларускай рэдакцыяй Радыё “Вызваленне” і Ватыканскага радыё. Ад 1992 г. жыў у Сан-Францыска (ЗША).

[10] **Робэрт Тамушанскі** (1940—1996), рэлігійны дзеяч, каталіцкі сьвятар. Ад 1971 г. працаваў у Рыме ў беларускай праграме Ватыканскага радыё, ад 1977 г. кіраваў гэтай праграмай.

[11] Робэрт Тамушанскі паходзіў зь сям’і нашчадкаў беларускіх эмігрантаў зь Беласточчыны, якія жылі ў ЗША, але магчыма, меў і арабскія карані. У Рыме

не ўкрываецца. Сьвятара зь яго няма ніякага, проста стаў п'яніцай. Ці можа ён далей нас зьняважаць? Ты сам ведаеш, сколькі трэба працы ўлажыць, каб выдаць бюлетэнь.

Пішу гэта ня толькі да Цябе, але многім беларусам на дыяспары. Хачу ведаць, ці варта далей выдаваць бюлетэнь? Ці ёсьць запатрабаваньне на яго? Як яго ўспрыймаюць у ЗША. Многія пішуць, каб высылаць на іншыя адрасы, значыць іх знаёмых. Таксама многія пішуць зь Беларусі. Высылаю бюлетэнь на 120 адрасоў.

Ведаеш, мы тут у Ватыкане слухаем Вашы перадачы. Прыём не аж так добры, але можна зразумець, аб чым гаворыце. Мне вельмі падабаюцца.

Жадаю Табе ўсяго найлепшага ў Новым 1990 годзе.

Твой Янка.

Ватыкан, 28.02.91.

Здароў, Янка!

Вельмі дзякую за пісьмы, за матарыялы і за папраўкі. Учора атрымаў таксама "Беларуса". Ведаеш, з гэтымі папраўкамі адносна бюлетэня якасьці не выходзіць. Магчыма, у наступных нумарах нешта паправіцца.

Ведаеш, якасьці слаба адчуваю сябе тут у Рыме. Пастаянныя сваркі з Тамушанскім (хоць цяпер крышку ўспакоілася), нэрвовая атмасфэра ў працы, брак рэакцыі з боку а. Надсона[12], дарагое жыцьцё (якое Ты сам бачыў) ды часта прыходзяць думкі: ці не пакінуць гэтае радыё і шукаць нешта новага. Нават на Каляды спэцыяльна езьдзіў у Польшчу, каб купіць памешканьне, але нічога ня выйшла. Хацеў-бы ўжо мець нешта ў жыцьці. А так, тут у Рыме, што заробіш, то і "*прапусьціш*", не пішу, што "*прагуляеш*". Яшчэ не вырашыў, што далей рабіць, хоць ужо найвышэйшы час мне ўладкавацца — мне-ж ужо 35 гадоў.

А што новага ў Цябе? Бачу, што ў мінулым годзе бываў часта ў Эўропе. Магчыма, зноў прыедзеш у Рым?

Жадаю Табе ўсяго добрага!

З пашанай

Янка

.

*Падрыхтоўка да друку й камэнтары*
*Лявона Юрэвіча й Натальлі Гардзіенкі*

---

ён вучыўся ў Папскім інстытуце арабскіх і мусульманскіх дасьледаваньняў і атрымаў дыплём у галіне сучаснай арабскай літаратурнай мовы.

[12] Айцец Аляксандар Надсан у 1986 г. быў прызначаны на пасаду апостальскага візытатара для беларусаў-каталікоў у замежжы й быў самым аўтарытэтным беларускім сьвятаром на Захадзе.

*Тэма нумару:* ***Італійская мазаіка***
*Эпісталярыі*

***Часлаў Сіповіч***

# ЛІСТЫ ДА ЯНКІ ЗАПРУДНІКА

*Біскуп Часлаў Сіповіч меў некалькі італійскіх пэрыядаў у сваім жыцьці. У 1938—1947 гг. ён жыў у Рыме, дзе закончыў Папскі грыгарыянскі ўнівэрсытэт і Папскі ўсходні інстытут, па вайне апекаваўся беларускімі жаўнерамі Арміі Андэрса, раскватараванымі па ўсёй Апэнінскай паўвысьпе, праводзіў сярод іх дабрачынную й асьветніцкую працу. І пазьней, калі ў 1960 г. атрымаў біскупскія сьвячэньні, а ад 1963 г. стаў генэралам Ордэну марыянаў, да канца 1960-х шмат часу праводзіў у Вечным горадзе. Ягоная "італійская" спадчына, захаваная ў архіве дзеяча ў створанай ім жа Беларускай бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лёндане, яшчэ чакае на свайго дасьледчыка. Тут жа прапануем чытачам два лісты біскупа да Янкі Запрудніка з нагоды абраньня новага Рымскага Папы Яна Паўла II. У іх адлюстроўваюцца асаблівасьці стаўленьня беларусаў на Захадзе да новага найвышэйшага каталіцкага ярарха польскага паходжаньня.*

Лёндан, 9.XI.1978.

Дарагі Др. Запруднік,

Шчыра дзякую за лісты; у адным вы інфармавалі пра побыт сп. Дынглі[1] ў Ню Ёрку, а ў апошнім (26.X.1978) выказалі жаданьне пачуць маю апінію пра нававыбранага Папу Яна Паўла II[2].

Перш чымся прыступлю да галоўнай тэмы, хоць пару слоў аб тым самым сп. Дынглі і яго візыце. Ён вельмі здаволены са спатканьняў зь беларусамі і пэўне-ж з усяго таго, як яго спаткалі.

Пра новага Папу ўжо мне прыйшлося выказацца і то ў даволі незвычайных абставінах. 4. X.78 польская лёнданская эміграцыя ладзіла

---

[1] **Джэймс (Джым) Дынглі** (анг. *James Dingley*, нар. 1942), брытанскі беларусіст, шматгадовы старшыня Англа-Беларускага таварыства.

[2] **Ян Павал II** (лац. *Ioannes Paulus PP. II*, да інтранізацыі *Караль Юзаф Вайтыла*, пол. *Karol Józef Wojtyła*, 1920—2005), Папа Рымскі ў 1978—2005 гг.

набажэнства ўдзячнасьці з “Тэ Дэум”[3] у касьцёле Сьв. Андрэя Баболі, каб падзякаваць Богу за тое, што іхні суродзіч, кракаўскі Архіепіскап Вайтыла, быў выбраны на Рымскі Пасад Апостала Пятра. Касьцёл быў напоўнены і то польскай эміграцыйнай сьмятанкай з прэзыдэнтам Астроўскім[4] і ягоным урадам на чале. Былі запрошаныя і прысутнічалі прадстаўнікі суседніх палякам народаў. Ад беларусаў апрача мяне былі Міхалюкі[5], Асіповічы[6], Глінскія[7]. Ад украінцаў быў Я. Д. Біскуп Аўгустын Горняк[8] і іншыя духоўныя і сьвецкія. Саслужылі з польскімі пралатамі Зелінскім[9] і Салаўём[10] сьвятары чэх, летувіс і славак. Казань гаварыў пасьля Эвангельля а. Лянг, чэх. Не прамінуў успомніць у сваім казані, што хрысьціянства прынясла ў пястоўскую Польшчу іхняя прынцэса Дубраўка[11]. Пасьля сьв. Літургіі, якая ў галоўным адпраўлялася на лаціне, прэзыдэнт і прэм’ер эгзыльнага ўраду падышлі да алтара, да нас, біскупаў, і дзякавалі за прыбыцьцё і ўдзел у набажэнстве. Хутка пасьля ў польскім цэнтры адбыўся пачастунак

---

3 **“Te Deum”** (*Te Deum laudamus — Цябе, Божа, хвалім)* — хрысьціянскі гімн, які традыцыйна сьпяваўся па нядзелях і вялікіх сьвятах, а таксама зь вельмі значных нагодаў кшталту каранацый каралёў і імпэратараў, узьвядзеньня ў сан царкоўных ярархаў.

4 Маецца на ўвазе **Станіслаў Астроўскі** (пол. *Stanisław Ostrowski,* 1892—1982), польскі палітычны й вайсковы дзеяч, прэзыдэнт Польскай Рэспублікі на выгнаньні ў 1972—1979 гг.

5 Маюцца на ўвазе грамадзкія дзеячы ў Вялікабрытаніі **Янка** (1922—1995) і **Алена** (нар. 1930) **Міхалюкі**.

6 Маюцца на ўвазе грамадзкі дзеяч у Вялікабрытаніі **Павал Асіповіч** (1923—1997) і ягоная жонка.

7 Маюцца на ўвазе грамадзкі дзеяч у Вялікабрытаніі **Кастусь Глінскі** (1906—1987) і ягоная жонка. Варта адзначыць, што і Кастусь Глінскі, і Павал Асіповіч пазьней былі пахаваныя менавіта ў касьцёле Сьв. Андрэя Баболі ў Лёндане.

8 **Аўгустын Гарняк** (анг. *Augustine Eugene Hornyak*, 1919—2003), тытулярны япіскап гермаантыйскі, экзарх Апостальскага грэка-каталіцкага экзархату ў Вялікабрытаніі ў 1963—1987 гг.

9 Маецца на ўвазе прэлат **Караль Зяліньскі** (пол. *Karol Zieliński*), які быў у 1974—1991 гг. дэлегаваным вікарыем для палякаў у Ангельшчыне й Валіі.

10 Маецца на ўвазе **Казімір Салавей** (пол. *Kazimierz Sołowiej*, 1912—1979), польскі рэлігійны дзеяч, каталіцкі сьвятар. У 1961—1979 гг. быў пробашчам касьцёла Сьв. Андрэя Баболі ў Лёндане.

11 **Дубраўка** (чэс. *Doubravka,* пол. *Dąbrówka,* каля 930—977), дачка чэскага князя Баляслава I, жонка першага польскага князя Мешка I, які пад яе ўплывам прыняў хрысьціянства.

і там-жа мелі прамовы: сп. Сабат[12] (прэм'ер), я і біскуп украінскі Горняк. Я гаварыў у трох мовах: па-ангельску, па-беларуску і па-польску. Хаця я і меў загадзя напісаную прамову, аднак нямала прыйшлося зьмяніць у час самай прамовы. Тут пастараюся падаць прынамсі галоўны зьмест маей прамовы.



Пётра Татарыновіч і біскуп Часлаў Сіповіч

Перад маёй прамовай прысутныя палякі прасьпявалі "Сто лят". Я заўважыў на пачатку прамовы, што першы раз прыходзіцца прысутнічаць на такім здарэньні! Ніхто ніколі не сьпяваў папу на нейкім спатканьні "Сто год"! Усе ўсьміхнуліся. Далей я падкрэсьліў зьбег абставінаў: сяньня, 4.XI, акурат каталіцкая Царква сьвяткуе Караля Борромэс[13], а цяперашні папа таксама ахрышчаны Кароль. Куды, аднак, важнейшым ёсьць тое, што Папа не-італіец, паляк па-за зялезнай заслоны, быў выбраны акурат у кастрычніку! Месяц — які стаўся сымбалем сусьветнага камунізму, сьветавай рэвалюцыі...

У выбары Папы Яна Паўлы II бачым асаблівую дзейнасьць Духа Сьвятога. Разумеем мы яе, аднак, гэтак: яго выбралі не дзеля таго, што ён паляк, але таму, што адпаведны чалавек для нашых часаў. Аднак беручы на ўвагу раўнапраўнасьць усіх у Кат[аліцкай] Царкве, трэба прызнаць, што Калегія Кардыналаў у час конклявэ[14] сьведама выбрала паляка, маючы на ўвазе ня толькі самую асобу кардынала

[12] **Казімеж Сабат** (пол. *Kazimierz Sabbat*, 1913—1989), польскі эміграцыйны дзеяч, у 1976—1986 гг. прэм'ер, а ў 1986—1989 гг. прэзідэнт Польскай Рэспублікі на выгнанні.

[13] **Карл Барамэй** (іт. *Carlo Borromeo,* лац. *Carolus Borromeus*, 1538—1584), рэлігійны дзеяч, кардынал, ініцыятар рэформы манаскіх ордэнаў, сьвяты Каталіцкай царквы.

[14] **Канклаў** (лац. *conclave*) — рада кардыналаў, якая абірае Папу Рымскага.

Вайтылы, але паложаньне Царквы ў Польшчы, ягонае азнаямленьне з камуністычнымі мэтадамі змаганьня. Таксама палітычная сытуацыя ў Італіі ды ў іншых краінах сьвету, якім камунізм моцна пагражае, у актуальных выбарах Папы мелі сваю вагу.

У кароткім часе свайго пантыфікату Папа Ян Павал II — падобна як ягоны папярэднік — прыцягнуць да сябе людзей. Ягоныя словы "*Ня бойцеся! Адчыніце шырока дзьверы для Хрыста!*" — сталіся быццам ягоным клічам.

Мы разумеем радасьць палякаў, але таксама і ўсе славяне цешуцца з гэтай нагоды.

Вось пра што гаварыў у прамове і мае думкі адносна нядаўна выбранага Папы. Не ўважаў я адпаведным выходзіць навонкі з нашымі даўнымі ды яшчэ не загоенымі ранамі, якія мы — як народ — атрымалі з боку ці то польскіх палітыкаў ці іхняга духавенства. Зрэшты, папа паходзіць з-пад Кракава і больш сустракаўся з украінцамі, чымся зь беларусамі. У студні наступнага году выбіраюся ў Рым і спадзяюся спаткацца зь Янам Паўлам II. Хачу толькі тут падкрэсьліць з усёй моцай факт, што ня ўсё можа Папа для нас зрабіць, хаця й жадаў-бы. Гэтак было зь Янам XXIII[15] і Паўлам VI[16]. Яшчэ зарана падаваць да публічнага ведама дакуманты, якія маглі-б пацьвердзіць тое, што я тут сказаў. Калі ўвесь сьвет вітае новага Папу, не выпадала-б, каб беларусы распачалі ад жаляў і прэтэнзыяў, ня ведаючы зусім Папу. Таму я асабіста жадаў-бы бачыць у "Беларусе" артыкул, поўны пашаны да Папы і абнадзейваючы сьвет і нас, беларусаў. Калі дзеля гэтага можа прыдасца мой матэрыял з той апісанай урачыстасьцяй, буду рады.

Прывітаньні ўсім.

Ваш + Ч. Сіповіч.

Лёндан, 17.VI.1981.

Дарагі Доктар Запруднік,

Шчыра дзякую за прысланую копію артыкула Брылеўскага[17] "Стан каталіцтва на Беларусі".

---

[15] **Ян XXXIII** (лац. *Johannes PP. XXIII,* да інтранізацыі *Анжэла Джузэпэ Ранкалі,* іт. *Angelo Giuseppe Roncalli,* 1881—1963), Папа Рымскі ў 1958—1963 гг.

[16] **Павал VI (**лац. *Paulus VI*; да інтранізацыі *Джавані Батыста Энрыка Антоніа Марыя Манціні,* іт. *Giovanni Battista Enrico Antonio Maria Montini,* 1897—1978), Папа Рымскі ў 1963—1978 гг.

[17] **Уладзімер Брылеўскі** (1917—2002), грамадскі дзеяч. Ад канца 1940-х гг. жыў у Саўт-Рывэры (Нью-Джэрсі, ЗША), браў удзел у нацыянальным

Аўтар ня бачыў "Г[оласу] Р[адзімы]"[18], дзе пра а. Ул[адзіслава] Ч[арняўскага][19]. Усё, што ў тым артыкуле чытаем, адказвае праўдзе. Іншая рэч, чаму яны яго зьмясьцілі? Можна дагадывацца, што жадаюць супрацьпаставіць кагосьці ўплывам Папы, які, без сумніву, падкуражыў у Сав[ецкім] Саюзе палякаў і апалячаных беларусаў. Як дагэтуль справа назначэньня а. У[ладыслава] Ч[арняўскага] біскупам[20] тармазілася перадусім Масквой.

Арт[ыкул] Брылеўскага: стар. 2, 5 радок зьнізу: *"У дадатку, ужываньне беларускай мовы... разглядаецца гэтай уладай як праява беларускага буржуазнага нацыяналізму"*. Напэўна, такія выпадкі былі і ёсьць, аднак абагульніваць ня можна. А беларускія часапісы, газэты, выданьні, школы? А там-жа ёсьць таксама патрыёты, якія змагаюцца за сваё й пільнуюць свайго. Лепш вышэй прыведзены сказ выкінуць.

Стр. 5: *"Ясна, што Ватыкан кіраваўся ня тым, каб задаволіць духовыя патрэбы беларускіх рыма-каталікоў... Гэтым Ватыкан ня толькі не дапамог беларусам-каталікам, але зрабіў ім і асабіста кс. Сіповічу шкоду"*.

Перадусім можна запытаць паважанага аўтара гэтых радкоў: ці не задалёка ён сягнуў, маючы за тэму "Стан каталіцтва на Беларусі"? Маё назначэньне Ватыканам ёсьць зьявай вылучна эміграцыйнай.

Выдаваць суд аб інтэнцыях Ватыкана, не разгледзеўшы розных абставінаў, зарызыкоўна, калі мы жадаем не разьмінуцца з праўдай. У 1960 годзе беларускія сьвятары на эміграцыі ў час свайго Зьезду ў Рыме на чале зь Біскупам Б[аляславам] Слоскансам (які нядаўна памёр)[21] прасілі Папу назначыць для беларусаў на эміграцыі Біскупа. Тады было для лацінскага абраду 4 сьвятароў беларусаў, а ўсходняга 7. Мы ўсе прасілі Папу, а лісту сьвятароў падаў Папу Біскуп Слосканс,

---

руху, супрацоўнічаў з польскім часопісам "Культура" (Парыж). Друкаваўся ў газэце "Беларус" і часопісе "Беларуская Думка".

[18] **"Голас Радзімы"** — інфармацыйна-асьветная газэта для беларусаў замежжа, што выдаецца ад 1955 г. Да 1960 г. мела назву "За вяртанне на Радзіму". Выкарыстоўвалася для прапаганды савецкага ладу жыцьця.

[19] **Уладзіслаў Чарняўскі** (1916—2001), рэлігійны дзеяч, каталіцкі сьвятар, перакладчык Бібліі й Катэхізісу на беларускую мову.

[20] Пытаньне прызначэньня асобнага каталіцкага біскупа для Беларусі было актуальным і абмяркоўвалася беларускімі сьвятарамі на Захадзе цягам дзесяцігодзьдзяў. У студзені 1979 г. біскуп Часлаў Сіповіч у часе прыватнай аўдыенцыі ў Папы Рымскага Яна Паўла ІІ агучваў прапанову прызначыць біскупам а. Уладзіслава Чарняўскага. Аднак гэтая ідэя так і засталася нерэалізаванай. Гл.: Надсан, А. Біскуп Чэслаў Сіповіч: сьвятар і беларус. Менск, 2004. С. 228.

[21] Баляслаў Слосканс памёр 17 красавіка 1981 г.

сам лацінскага абраду. Напэўна, ён даў таксама і сваю апінію пра кандыдата на Біскупа. У кожным выпадку ані Біскуп Слосканс, ані Ватыкан не жадалі прынесьці шкоду беларускай эміграцыі. Я аб сабе магу сказаць з чыстым сумленьнем, што служу паводле маіх скромных сілаў і ведаў усім беларусам: каталікам розных абрадаў і праваслаўным. Ці праз маю дзейнасьць я наношу шкоду беларусам? Сам сп. Брылеўскі шмат у сваім артыкуле выказаў пад маім адрасам камплімэнтаў, але яму баліць, што я ўсё-ж такі вуніят!

Так, я ёсьць вуніят і нашчадак вуніятаў, якіх вынішчывалі царскія палачы. Ад моладасьці я цярпеў, што была зьнішчаная наша вунія, і ў гэтым я згаджаюся з многімі беларускімі выдатнымі дзеячамі, а не зь Сямашкам[22] і іншымі адступнікамі.

Я не чураюся ніякага абраду і служыў сьв. Літургію па лаціне для беларусаў Нью-Ёрскай катэдры.

Абрад ёсьць вельмі важным элемэнтам у жыцьці сьвятара і вернікаў, але ня сутным для рэлігіі, для веравызнаньня.

Некаторыя нашыя палітыкі думаюць, што вунія аджыла ў нас, але няма сэнсу яе ўваскрашаць. Я таксама згаджаюся, што калісь вунія прынесла ў Беларусь закалоты. Але каб не інтрыгі з Усходу й Захаду, беларусы мелі-б сваю Царкву, якую самі сабе збудавалі-б. Была-б яна Хрыстовай, але беларускай. Сяньня ёсьць ня толькі гутарка пра аб'еднаньне хрысьціян, але ў духу зь людзьмі добрай волі мы ўжо аб'еднаныя. А толькі можна злучыцца пад наступнікам Апостала Пётры! І вось тут ізноў вунія!

Я вельмі шаную сп. Брылеўскага і не стараюся яго "*наварачываць*", але ягоныя некаторыя сказы з артыкулу лепш было-б прапусьціць. На жаль, яны ёсьць водгаласам старай царскай траўлі ня толькі супроць вуніі, але наагул супроць беларусаў, якія захацелі людзьмі звацца.

Высылаю Вам разам з гэтым лістом: 1. артыкул з "Г[оласа] Р[адзімы]" пра а. Уладыслава Чарняўскага; 2. копію ьз беластоцкай "Солідарносьць"[23], з арт. С[акрата] Яновіча[24].

---

[22] Маецца на ўвазе мітрапаліт **Іосіф** (сьвецкае **Іосіф Сямашка**, 1799—1868), уніяцкі, потым праваслаўны дзеяч, ад 1833 г. грэка-каталіцкі япіскап Літоўскі. Ініцыятар і рэалізатар далучэння ўніяцкай царквы да праваслаўнай у Расейскай імпэрыі.

[23] Відаць, маецца на ўвазе ***"Solidarność"*** (польск.) — штотыднёвік, адно зь першых незалежных выданьняў у сацыялістычнай Польшчы, заснаванае ў 1981 г.

[24] **Сакрат Яновіч** (1936—2013), беларускі пісьменьнік у Польшчы, старшыня Клюбу Саюзу польскіх пісьменьнікаў у Беластоку.

Беластоцкую “Ніву”[25] хіба-ж Вы атрымоўваеце? У ей апошнім часам таксама сюрпрызы: інтэрвію зь Мітрапалітам Дарашкевічам[26], зьмешчаныя малюнкі Паўлоўскага[27], які акурат сяньня (18.VI) мае ў нас для Анг[ла]-Бел[арускага] Таварыства[28] даклад і г. д. У “Полымі” за красавік г. г. артыкул Алеся Бажко[29] “Пакручастыя сьцежкі багаслова з Вадовіц” — супроць Папы Яна Паўла II. У БССР ужо два праваслаўныя біскупы: нованазначаны пінскі.

Прывітаньні!

+ Чэслаў Сіповіч.

*Падрыхтоўка да друку й камэнтары*
*Лявона Юрэвіча й Натальлі Гардзіенкі*

[25] **“Ніва”** — беларуская газэта, што выдаецца у Беластоку (Польшча) ад 1956 г.

[26] Маецца на ўвазе мітрапаліт **Васіль** (сьвецкае **Ўладзімір Дарашкевіч**, 1914—1998), рэлігійны дзеяч, япіскап Польскай праваслаўнай царквы, мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы ў 1970—1998 гг.

[27] Маецца на ўвазе **Мікалай Паўлоўскі** (нар. 1948), мастак зь Віцебску. У 1979 г. зьехаў на Захад. Пасяліўся ў Парыжы, дзе стаў першым прэзыдэнтам нефармальнага аб’яднаньня “Артклошінтэрн”(1981—1987).

[28] **Англа-Беларускае таварыства** — беларуская грамадзкая й навукова-асьветная арганізацыя, заснаваная ў Лёндане ў 1954 г.

[29] **Алесь Бажко** (1918—2013), пісьменьнік, паэт, журналіст. Працаваў у газэтах “Голас Радзімы”, “Літаратура і мастацтва”.

***Тэма нумару: Італійская мазаіка***
*Выданьне*

***Лявон Юрэвіч***
*Нью-Ёрк*

# "ŹNIČ"

Часопіс "Зьніч" (*"Беларуская Рэлігійна-Адраджэнская Часопісь. Il Focolare"*) выдаваўся ў Рыме ад верасьня 1950 г. да студзеня 1975 г. заснавальнікам і нязьменным рэдактарам — спачатку ксяндзом, а пазьней мансіньёрам — Пётрам Татарыновічам. Як пісаў у нэкралёзе біскуп Часлаў Сіповіч:

*"Перадусім загарэўся "Зьніч", які ў падзагалоўку адрэкамэндаваў сябе як "беларуская рэлігійная часопісь". Калісьці беларускія вуніяты, пачынаючы ад Пацея, друкавалі ў Рыме свае маленькія рэчы, але ніколі яшчэ беларусы ня мелі ў Вечным Горадзе сваёй сталай часопісі! Мэтай яе было задаволіць духовыя патрэбы беларусаў, а ў першую чаргу — беларусаў каталікоў лацінскага абраду.*

*"Зьніч" — гэта незвычайная зьява ў гісторыі беларускага друкаванага слова. І гэта ня толькі дзеля месца свайго нараджэньня, але й дзеля доўгіх гадоў свайго існаваньня (1950—1975), а таксама й дзеля іншых абставінаў. На працягу блізу 25 гадоў адзін і той самы рэдактар і выдавец, той самы аўтар бальшыні артыкулаў, ён-жа й мастак і кальпартар! Хто-ж ня помніць ксяндза Пятра, пахіленага над невялікай машынкай, нэрвова-задуманага над падрыхтоўкай артыкулаў у "Зьніч" або наступнай радыперадачы!? Калі-ж яго пыталі, дзе-ж рэдакцыя "Зьніча", ён паказваў на свой пісьмовы стол і казаў з усьмешкай: Тут, усё тут"*[1].

Сам Пётра Татарыновіч пра ўласнае выданьне — у пэўнай апазыцыі да старэйшага ды шырэй ведамага часопісу "Божым Шляхам" — пісаў наступна:

*"Дзеля таго, што гэта часопісь вырабіла сабе напрамак ахватней усходніцкі, вылучна кірылічны (мо дзеля свае адумысловае тактыкі місыйнае сярод праваслаўных), дык зьявілася патрэба выдаваньня другое часопісі лацінкай, каб прадоўжваць запачаткаваную ды ўстабілізаваную лінію нашага рэлігійнага быту "Хрысьціянскай Думкі" на дамаганьні ейных даўнейшых чытачоў, наагул нашай ідэйнай эміграцыі лацінскага абраду, шукаючы антыдотум польскіх*

[1] Божым Шляхам. 1979. № 150. С. 16—22.

*накарасьлівых уплываў. Дый наагул тут на Захадзе ў вольным сьвеце лацінскае культуры й цывілізацыі нам трэ было неабходна заманіфэстываць сваю прыналежнасьць да яго і салідарнасьць культурна-кваліфікацыйную супроць нахабства збальшавіцэлага Усходу.*

*З гэтых вось, галоўна, матываў родзіцца ў Рыме ў 1950 годзе... тая царкоўная лацінская рэлігійна-адраджэнская часопісь пад назвай “Зьніч”, сымбалізуючая той няўгасны агонь на дне прыску ў ідэйным гарне нашай адраджэнскай кузьні. Як “Крыніца” мела неўтаймавана біць із пад зямлі народнай стыхіі жывой вадою г. зн.: самаўсьведамляючаяся сілай нацыянальнай і рэлігійнай; як: “Хрысьціянская Думка” із гэтай вады мела рабіць і віно, г. зн.: паглыблены зьбеларушчаны рэлігійны, каталіцкі быт; так “Зьніч” задаўся мэтаю ўсё здабытае папярэдняй каталіцка-беларускай прэсай перахаваць ідэйна, каб не расьцярушылася ды не загасла тут у чужасьвеце, але шчэ й разьвівалася ды было перадана лепшым часом”*[2].


LA BRACE

CERVIEN - ZNIVIEN

ŹNIČ

Нягледзячы на гэтак высока афішаваныя мэты, часопіс ніколі не набыў папулярнасьці “Божага Шляху”, да чаго ці ня ў першую чаргу спрычынілася надта-ж своеасаблівая мова “Зьніча” і ягонага рэдактара[3]. Што, тым ня менш, не зашкодзіла стацца яму самым доўгавыдаваным беларускім часапісам у Вечным горадзе.

[2] Źnič. 1960. № 54—55. С. 7—11.

[3] Гл.: Юрэвіч, Лявон. Камэнтары. Літаратуразнаўчыя артыкулы. Менск, 1999. С. 232—241.

### *Сэнсацыйная навіна*[4]

На пярэдадні *выпуску бягучага нумару нашай часопісі, неспадзевана трапіла нам у рукі сьвежая італійская кніга: “La letteratura belorussa” di L. Messina, Firenze 1952: выданьня “Valmartina Editore in Firenze (307) via Mannelli 85”, адкуль можна яе выпісаць (цана з перасылкай каля 1,25 дл).*

*Кніжка прэзэнтуецца даволі прызваіта: у аздобнай вокладцы 147 бач. нармальнай восімкі з прыгожым друкам.*

*Рэцэнзыі зьместу нажаль ня ўсьпеем тут нашым Чытачом падаць; тое, што спахопу далося зацеміць, не паказвае на абсалютную бездапаможнасьць яго. Сам ужо маскафільскі загаловак твору, (які ў тэксьце часта балансуецца бесцэрэмонным “Russia Bianca”: russo-bianco”) няміла ўпераджае ідэйнага беларускага чытача аб нейкім навукова-інфармацыйным недаразуменьні; ня кажучы ўжо аб номенклатуры скрозь расейскай (“Gomel”, “Mogilev”, “Baranovici”), якую аўтар называе “інтэрнацыянальнай”, ды граматычных фокусах “Назовы жывёл” жывёлаў, ігнараваньне найхарактарыстычнейшага нашага “ў” семіовакале”). У абшырнай (13 бачын) бібліяграфіі, перапоўненай усякімі іншамоўнымі дробязямі, ня відно нат такога дакумэнтарнага жарала, як “Гісторыя Беларускай Кнігі” Ластоўскага ды ягонага “Слоўніка”. У іменьніку — загадковая рэзкая адсутнасьць прозьвішчаў выбітнейшых аўтараў, характарызуючых некаторыя неабмінальна — важныя галіны нашай літаратуры. Да таго — пагляд на наш адраджэнскі ідэал ня зусім ясны. Па-за гэтымі, ад першага пагляду кідаючыміся ў вочы, мінусамі, кніжка ў сваёй цэласьці зьместу, шчодра перасыпаная ўдатнымі перакладамі пэрлаў нашай паэзыі, фольклору, робіць надзейнае ўражаньне і Пав[ажанаму] Аўтару, бяссумніўна, належацімецца падзяка за так працавіты ўклад у нашу літаратуру.*

*Рэдакцыя.*

---

[4] Źnič. 1952. № 21. Listapad — Sniezan 1952. C. 8.

# БІБЛІЯГРАФІЯ ЧАСОПІСУ “ŹNIČ” (1950—1978)[1]

## [Успаміны, Біяграфіі, Угодкі]

**Ad Multos Annos!** // Źnič. № 40. Studzien — Sakavik 1957. S. 7.
Да 50-годзьдзя жыцьця і 30-годзьдзя ідэйнай працы Др. Станіслава Станкевіча.
Ілюстрацыя: здымак *“з часаў слаўнага “Белар[ускага] Студ[энцкага] Саюзу” ў Вільні (“Студэнцкая Думка” № 3 1930 )”* зь юбілярам на ёй.

**Apostalski vizytatar dla Bielarusau** // Źnič. № 22. Studzien — Sakavik 1953. S. 1.
Загаловак: Апостальскі візытатар для Беларусаў.
Да прызначэньня біск. Баляслава Слоскана (Слосканса) Апостальскім Візытатарам для беларусаў каталікоў на эміграцыі. Біяграфічныя зьвесткі, сучасны адрас.
Ілюстрацыя: фотапартрэт біскупа Б. Слоскана.

**Balučasumnyja ùhodki** // Źnič. № 21. Listapad — Sniezan 1952. S. 7.
Загаловак: Балючасумныя ўгодкі.
Да 10-годзьдзя трагічнай загубы кс. Вінцэнта Гадлеўскага.
Ілюстрацыя: фотапартрэт кс. В. Гадлеўскага.

**[Beatus Pius X]** // Źnič. № 10—11. Cervien—Lipien. Hod II. [1951]. S. 4.
Загаловак: [Блаславёны Пій X (лат.)].
Беатыфікацыя Слугі Божага папы Пія X (Сарто); напрыканцы — сьцісла аб ягоным жыцьці й цудах.
Ілюстрацыя: бэатыфікацыйны абразок Пія X з напісам, які, магчыма, плянаваўся як загаловак артыкулу.
Кард. Мэры дэль Валь (Merry del Val).

**C. B. [?]. Franciš Hryškievič** // Źnič. № 118. Studzieñ — Krasavik 1974. S. 7.
Загаловак: Францішак Грышкевіч.
Кс. Фр. Грынкевіч, кс. Адам Станкевіч, Камісар Клімаў, Сталін, Молатаў, кс. Канстант Стэповіч (Казімір Сваяк), А. Корнюк, Мітрафан Кіпель.

---

[1] Поўная бібліяграфія зьмешчаная на дыску ў дадатку да гэтага выпуску альманаху “Запісы БІНіМ”. Тут падаюцца толькі некаторыя яе разьдзелы.

**Chaŭturny hod** // Źnič. № 48. Kastrycnik — Listapad 1958. S. 4.
Загаловак: Хаўтурны год.
Весткі аб сьмерці трох ксяндзоў-беларусаў на Беларусі; уступная зацемка перад шэрагам нэкралёгаў.

**Čakanyja ŭhodki** // Źnič. № 6—7. Luty — Sakavik 1951. S. 1, 8.
Загаловак: Чаканыя ўгодкі.
Узьнёслыя словы ў гонар Пія XII (Аўгена Пачэльлі) з нагоды 12 гадоў ягонага пантыфікату; ягоныя адносіны да беларусаў.
Ілюстрацыя: фотаздымак Папы Рымскага Пія XII.
Біск. Слосканс.

**Čarnecki, J. [Чарнэцкі, Янка]. Na mahiłu s.p. Andreju Popka** // Źnič. № 85—86. Listapad — Sniezan 1965. S. 12.
Загаловак: На магілу с.п. Андрэю Попка. Ілюстрацыя: фотапартрэт А. Попка.
Кс. Леонард Кавэцкі.

**Dryhonič, P. [?], Dryhvič, P. [Татарыновіч, Пётра]. Treba ich paznać (Uspaminy ab ś. p. Ks Dr. Stanisł. Hlakoŭskim)** // Źnič. № 6—7. Luty — Sakavik 1951. S. 3—5.
Загаловак: Трэба іх пазнаць (Успаміны аб сь. п. Кс. Др. Станісл[аве] Глякоўскім).
Кс. [А.] Шніп (езуіт), кс. Дыянізы Малец, галоўны камісар Беларусі Кубэ, Кс. Казімер Рыбалтоўскі, кс. Гадлеўскі.
Ілюстрацыя: здымак *"Biełarusk. piahlhrymka [sic!] u Kalvaryi pad pravadnictvam Ks. St. Hlakoŭskaha"*.

**Iharovič. [Ігаровіч, Я]. Patryjatyzm i relihijnaść. (Refleksyi na fonie Testamentu ś. p. Janki Čarapuka Zmahara)** // Źnič. № 53. Listapad — Sniezan 1959. S. 7.
Загаловак: Патрыятызм і рэлігійнасьць. (Рэфлексыі на фоне Тэстамэнту сь. п. Янкі Чарапука-Змагара).
А. Я. Тарасэвіч, а. Я. Рэшэць.

**Iharovič, J. [Ігаровіч, Я.]. Ecce Sacerdos** // Źnič. № 24. Cervien — Lipien 1953. S. 1.
Слова з нагоды прызначэньня біск. Балеслава Слосканса (Слоскана) апостальскім візытатарам для Беларусаў.
Ілюстрацыя: фотаздымак біск. Слоскана падчас багаслужэньня.
Архіб. Эдвард фон Роп, архіб. Юры Матулевіч, архіб. З. Лазінскі.

**[J. E. Biskup Česlaŭ Sipovič]** // Źnič. № 57—58. Znivien — Kastrycnik 1960. S. 7—8.
Загаловак: [Я. Э. Біскуп Чэслаў Сіповіч].
Храналягічна-біяграфічныя зацемкі аб новым біскупе; цытата (у перакладзе) з папскай булы аб пакліканьні а. Ч. Сіповіча на біскупа.
Ілюстрацыя: фотаздымак б-па Ч. Сіповіча на пакансэкрацыйнай падзячнай аўдыенцыі ў айца сьвятога (з камэнтарам).

Біск. А. Еўрэінаў, мітр. Язон Юноша Смогожэўскі, кард. Годфры.

**J. Č. [Чарнэцкі, Ян]. [Žałoba pa ś. p. Balesłavie Žabiku]** // Źnič. № 26. Kastrycnik — Sniezan 1953. S. 8.

Загаловак: [Жалоба па сь[вятой] п[амяці] Баляславе Жабіку].

Андрэй Попка, міністар Варонка.

**J. S. [Садоўскі, Янка]. Žmieńka uspaminau na adnu darahuju jubilejnuju mahilu** // Źnič. № 29—30. Lipien — Listapad 1954. S. 11.

Загаловак: Жменька ўспамінаў на адну дарагую юбілейную магілу.

Успаміны пра кс. каноніка Адама Лісоўскага з нагоды 25 угодкаў сьмерці.

Кс. Пласкавіцкі.

**Jakubu Kolasu. [Symon Muzyka. Z paemy pieršapačatnaj najpryhažejšaj redakcyi (1911—18)]** // Źnič. № 114. Vierasien — Sniezan 1972. S. 3.

Загаловак: Якубу Коласу. [Сымон Музыка. З паэмы першапачатнай найпрыгажэйшай рэдакцыі (1911—18)].

З нагоды 90-й гадавіны ад дня уродзін (3.11.1882). Ілюстрацыя: партрэт Я. Коласа зь ягоным аўтографам. Сьледам ідзе урывак з паэмы “Сымон Музыка”, пачынаючы ад радкоў *“О, край родны, край прыгожы...”*.

**Jazep Pušča. [Z asiennich pieśniaü. [Vierš]]** // Źnič. № 85—86. Listapad — Sniezan 1965. S. 11.

Загаловак: Язэп Пушча. [З асеньніх песьняў. [Верш]]. Ілюстрацыя: фотапартрэт Я. Пушчы.

Жыцьцё і адзін зь вершаў Язэпа Пушчы ў гадавіну ад дня яго сьмерці.

Пятрусь Броўка, Пятрусь Глебка.

**[Johannes XXIII. Pont. Max.]. [Žmieńka bijahrafičnych viedamak]** // Źnič. № 49. Sniezan — Studzien 1958—1959. S. 1—3.

Загаловак: [Johannes XXIII. Pont. Max.]. [Жменька біяграфічных ведамак].

Ян XXIII выбраны новым Папам Рымскім.

Кард. Джузэппэ Ронкальлі, Пій XII,

Ілюстрацыя: фотапартрэт новавыбранага Папы Рымскага.

**Karasevič, V. [Пануцэвіч, Вацлаў]. Ks. Viktar Šutovič. Praŭdzivy patryjot i dobry pastyr. Z nahody atrymanych viestak ab jahonaj śmierci** // Źnič. № 76. Sakavik — Travien 1964. S. 2—7.

Загаловак: Кс. Віктар Шутовіч. Праўдзівы патрыёт і добры пастыр. З нагоды атрыманых вестак аб ягонай сьмерці.

Гісторыі з жыцьця і дзейнасьці кс. Шутовіча; паездка ў Амэрыку й пазьнейшыя ліставаньні зь беларускімі бэнэдыктынцамі ў Ляйле (Чыкага); арышт і вызваленьне; сьмерць і пахаваньне.

Ілюстрацыя: здымкі *“Кс. В. Шутовіч, пробашч Барысаўскі, коратка перад сьмерцю”*, *“Магіла с. п. Кс. В. Шутовіча на Барысаўскім каталіцкім магільніку”*.

Дэкан кс. Асьціловіч, кс. Язэп Рэшэць, кс. Я. Гэрмановіч, кс. Адам Станкевіч, кс. У. Талочка, біск. Эдв. Роп, біск. Матулевіч, а. Ян Тарасэвіч,

др. Грынкевіч, кіраўнік школы Галуб, пан Сьлепакура, пані Сьлеповронска, Клімовіч, М. Танк, Уладзімер Тарасэвіч, Янка Навагродзкі, а. Вінцэнт Гадлеўскі, а. Малец, а. Ст. Глякоўскі, Сталін.

**Karasevič, V. [Пануцэвіч, Вацлаў]. Ks. Viktar Šutovič ab ks. Uł. Taloččy** // Źnič. № 77. Cervien — Znivien. Hod. XV. [1964]. S. 6—7.

Загаловак: Кс. Віктар Шутовіч аб кс. Ул. Талочцы.

Зь ліста а. В. Шутовіча да а. Я. Тарасэвіча з 18.VII.1939. Уступ В. Пануцэвіча. Станкевіч, Рэшэць, Гадлеўскі, кс. Адам Станкевіч, кс. Баярунец, В. В. Багдановіч, др. Грынкевіч.

**Ks. Adam Stankievič. [Žycciapis ks. Adama Stankieviča]** // Źnič. № 114. Vierasien — Sniezan 1972. S. 2; № 115. Studzien — Sakavik 1973. S. 2—3; № 116. Krasavik — Znivien 1973. S. 5—7.

Загаловак: Кс. Адам Станкевіч. [Жыцьцяпіс кс. Адама Станкевіча].

Успаміны Зьніча [кс. П. Татарыновіча] (з намерам пазьнейшага выданьня). Ілюстрацыя: фотапартрэт кс. А. Станкевіча (№ 114, s. 1); здымак “Фасада Кат. Духоўнай Акадэміі ў Пецербургу” (№ 115, s. 3).

Брат Валік (Валянцін), бацька Вінцэнт, мешчанін Юрэвіч, шавец Тармашэвіч, кс. Адам Лісоўскі, Францішак Багушэвіч, Браніслаў Эпімах-Шыпіла, сьв. Тамаш з Аквіну, архіб. Ропп, архіб. Р. Ялбжыкоўскі, кс. Шутовіч, архіб. Юры Матулевіч, Вітаўт Вялікі, Казімір Сваяк, Паўлюк Багрым, Баброўскі, Магнушэўскі, кс. др. Талочка, інж. Клімовіч, а. Язэп Гэрмановіч.

**ks. P. T. [Татарыновіч, Пётра]. Na mahiłu ś. p. Advardu Budźku** // Źnič. № 48. Kastrycnik — Listapad 1958. S. 6—7.

Загаловак: На магілу сь. п. Адварду Будзьку. Ілюстрацыя: здымак А. Будзькі.

Кс. Пранцісь (Францішак) Будзька.

**ks. P. T. [Татарыновіч, Пётра]. Z nahody sarakavin majho sviatarstva** // Źnič. № 61. Krasavik — Cervien 1961. S. 1—3.

Загаловак: З нагоды саракавін майго сьвятарства.

Успаміны з раньняга жыцьця, сэмінарыі, высьвяцін; рэфлексіі аб сваіх духоўных школах.

Кс. Ян Гродзіс, біск. Зыгмунт Лазінскі, біск. Юры Матулевіч, архіб. Роп,

Ілюстрацыі: фотаздымкі кс. Татарыновіча “*Прыміцыянт*”, “*На студыях у Рыме. Стаяць: араб, ліцьвін, расеец, чэх, італіец*”, “*Дайце жанцоў*” (зь іншым сьвятаром).

Гл. папраўку да артыкулу ў: Paprauka // Źnič. № 62—63. Lipien — Sniezan 1961. S. 12.

**Maksim Bahdanovič** // Źnič. № 116. Krasavik — Znivien 1973. S. 8.

Загаловак: Максім Багдановіч.

Аб харастве паэзіі Багдановіча (з нагоды 55 гадоў ад ягонае сьмерці).

Антон Навіна, Рафаэль.

**Moj załaty jubilej. [Jubilejnaja mša śviataja. Čytannie telehramy Ajca Šviatoha** [sic!]**. Malitva jubilata. Jubilejnaja viačera]** // Źnič.

№ 108—109. Krasavik — Znivien 1971. S. 1—5.
Загаловак: Мой залаты юбілей. [Юбілейная мша сьвятая. Чытаньне тэлеграмы Айца Сьвятога. Малітва юбілята. Юбілейная вячэра].
Аповед кс. П. Татарыновіча аб урачыстым сьвяткаваньні ягонага залатога юбілею сьвятарства.
Ілюстрацыі: здымак *“Менская перадваенная Катэдра”* (S. 1); 17 здымкаў зь юбілейнай імшы (S. 2—4) і з тлумачальным камэнтарам да іх; рэлігійны малюнак са сьвечкай і кветкамі (суправаджае тэкст малітвы юбіляра, S. 4).
Монс. Дж. Біцюнас (Biciunas), кард. Villot, др. Амато П’етро Фрутаз (Dr. Frutaz), архім. Алексы Шэвэлёў (з Ват. радыё), праф. Антон адамовіч, др. Н. Тэадаровіч, інстытуцкі калега праф. Салавей, др. І. Томас, Монс. Я. Мылянык (Mylanyk).

**P. L. O. [??]. Śviaty papież** // Źnič. № 28. Krasavik — Cervien 1954. S. 1—3.
Загаловак: Сьвяты папеж.
Жыцьцё і дзейнасьць Папы Рымскага Пія X з нагоды ягонай кананізацыі.
Андрэ Жыд, папа Леў (Лявон) XIII, выдаўца Падрэкі, сьв. Дамінік, Бэпі Сарто, сьв. Бэрнард, Джаваньні Сарто, Маргарыта Сансон, Люцыя Сарто (сястра), сьв. Альфонс дэ Лігуоры, сьв. Леонард Маўрыцыянскі, сястра Бія (Марыя), Сэрафін Пілётто (закрысьцянін), дон Антоніо Костантіні, сьв. Язэп-Бэнэдыкт Лябрэ, Пій IX, Вольтэр, сям’я Віанэй, Жан Віанэй пробашч з Арс, М. Францішка дэр Більлянтэ, дон Роса, монс. Зінэльлі.
Ілюстрацыя: Фотаздымак абраза папы Пія X у рымскай сьвятыні.

**P. T. [Татарыновіч, Пётра]. Adhałosak minuŭščyny** // Źnič. № 82—83. Krasavik — Žnivień 1965. S. 3—5.
Загаловак: Адгалосак мінуўшчыны.
Успаміны пра маладога законьніка францішканіна зь Менску Станіслава Васюкевіча й ягоны ліст да кс. Татарыновіча з просьбай аб помачы; зварот да суродзічаў у эміграцыі.
Ілюстрацыі: здымкі *“Грамадка менскіх дзетак із сваім Катэхэтам S. V.”*, *“Кс. В. Гадлеўскі як малады акадэмік”*, *“Памятны Менскі Тэатр”*.
Кс. В. Гадлеўскі, кс. Татарыновіч, кс. др. Станіслаў Глякоўскі, кс. Дыонізы Малец, кс. Рыбалтоўскі, кс. Шутовіч, біск. Слосканс, праф. Іваноўскі, Контаўт, Казлоўшчык, кс. Ігнатовіч.

**P. T. [Татарыновіч, Пётра]. Karotkaja daviedka ab ks. Prałacie Lucjanie Chviećku** // Źnič. № 81. Studzien — Sakavik 1965. S. 5—6.
Загаловак: Кароткая даведка аб кс. Пралаце Люцыяне Хвецьку.
Антось Хвецька (бацька), біск. Цепляк, кс. Вітольд Пашкевіч, парафіянін Шарнас.

**Padziačnaść** // Źnič. № 104—105. Krasavik — Vierasien 1970. S. 4.
Загаловак: Падзячнасьць.
Разважаньні аб характары й служэньні папы Паўла VI (Джаваньні Баціста Монціні) з нагоды ягонага юбілею сьвятарства.

**Padziava, Tamaš MIC. [Падзява, Тамаш]. Na sustrač 20-tym uhodkam Źniču** // Źnič. № 100. Krasavik — Vierasien 1969. S. 1—2.

Загаловак: Насустрач 20-тым угодкам Зьнічу.
Ілюстрацыя: рэлігійны малюнак адкрытай кнігі з каласкамі.
Мансіньор Пётра Татарыновіч.

**Podziava, Tamaš M.I.C. [Падзява, Тамаш]. Jubilejny sympozyjon** // Źnič. № 108—109. Krasavik — Znivien 1971. S. 6.
Загаловак: Юбілейны сымпозыён.
Заклік да суродзічаў і да кс. П. Татарыновіча ў справе патрэбы адмысловай вялікай імпрэзы з нагоды 4 асаблівых гадавінаў рэдактара “Зьнічу”.

**Redakcyja. Ad multos annos jaho ekscelencyi bpu Baleslavu Sloskansu u 70-ju hadavinu jaho žyccia** // Źnič. № 74. Kastrycnik — Sniezan 1963. S. 3.
Загаловак: Ad multos annos яго эксцэленцыі б-пу Балеславу Слоскансу ў 70-ю гадавіну яго жыцьця.
Вітаньні й перабег урачыстай “Акадэмійкі” ў Кёнігштайн падчас Тыдня *“Kirche in Not”*.
Ілюстрацыя: здымак б-па Слосканса, што баслаўляе дзяўчыну ў беларускім касьцюме.
Др. Н. Тэадаровіч, монс. Ул. Салавей, а. Мутуліс, а. Бернатоніс, а. пралат Кіндэрман.

**Redakcyja. Siarebrany jubilej jaho ekscelencyi ukrainskaha archibiskupa kir Ivana Bučki** // Źnič. № 29—30. Lipien — Listapad 1954. S. 8.
Загаловак: Сярэбраны юбілей яго эксцэленцыі ўкраінскага архібіскупа кір Івана Бучкі.
Ілюстрацыя: гравюра Хрыста-Сейбіта.

**Redakcyja. [Vialebnamu A. Jazepu Hermanoviču, M.I.C.]** // Źnič. № 73. Lipien — Vierasien 1963. S. 6.
Загаловак: [Вялебнаму а. Язэпу Гэрмановічу, M.I.C.].
Дабражаданьні й вітаньні з нагоды 50-годзьдзя сьвятарства.
Ілюстрацыя: фотапартрэт а. Я. Гэрмановіча.

**Redakcyja “Źniču”. Jaho Ekscelencyi Biskupu Administrataru Apastol. Bielarusi Baleslavu Sloskanu u 25 Uhodki Biskupstva** // Źnič. № 10—11. Cervien — Lipien. Hod II. [1951]. S. 5.
Загаловак: Яго Эксцэленцыі Біскупу, Адміністратару Апастол[ьскаму] Беларусі Баляславу Слоскану ў 25 угодкі Біскупства.
Кароткая біяграфія й віншаваньні рэдакцыі (пасьля вішнаваньня — подпіс: *“Rym, 10.V.1951”*)
Бэрнард і Цэцылія Слосканс, біск. Д’Эрбіны.
Ілюстрацыя: фотапартрэт біскупа Слоскана ў абрамленьні вянка з дубовых галінак.

**Redakcyja “Źniču”. Zalaty jubilej** // Źnič. № 89. Lipien — Vierasien 1966. S. 2.
Загаловак: Залаты юбілей.
Угодкі сьвятарства кард. Язэпа Сліпога; мітр. А. Шэптыцкі.

**Redakcyja "Žniču"** [sic!]. **Jaho Ekscelencyi Biskupu Administrataru Apastol. Biełarusi Baleslavu Sloskansu u 50 ühodki Śviatarstva I 40 Biskupstvs** [sic!] // Źnič. № 91. Studzien—Sakavik 1967. S. 1.

Загаловак: Яго Эксцэленцыі Біскупу Адміністратару Апастол[ьскаму] Беларусі Баляславу Слоскансу ў 50 угодкі Сьвятарства і 40 Біскупства.

Кароткая біяграфія, віншаваньне. Бэрнард і Цэцылія (бацькі), біск. Д'Эрбіны (D'Herbigny),

Ілюстрацыя: партрэт б-па Слосканса ў абрамленьні дубовых галінак.

**S. H. [??]. Treba ich paznać. Žmienka üspaminaü ab ś.p. Ks. Üładysławie Tałočku z nahody 10-tych uhodkaü jahonaj śmierci** // Źnič. № 24. Cervien — Lipien 1953. S. 7.

Загаловак: Трэба іх пазнаць. Жменька ўспамінаў аб сьв. пам. Кс. Уладыславе Талочку з нагоды 10-тых угодкаў ягонай сьмерці.

Жыгімонт Нагродзкі, адвакат Врублеўскі, сенатар Абрамовіч, Купала, сьв. Францішак з Асыжу, кс. Адам Станкевіч, інж. Клімовіч, Кастусь Каліноўскі, Ігнат Грынявіцкі, Францішак Багушэвіч, Іван Луцкевіч, Эпімах Шыпіла, Уласаў, Іваноўскі.

**Sadoŭski, Janka a. [Садоўскі, Янка]. Z nahody piaćdziesiataha nomieru Źniču. (Hety artykul źmiaščajem na pravoch volnaj trybuny)** // Źnič. № 50. Luty — Krasavik 1959. S. 8.

Загаловак: З нагоды пяцьдзясятага номеру Зьнічу. (Гэты артыкул зьмяшчаем на правох вольнай трыбуны).

Абсэрвацыі аб пачатках і шляху разьвіцьця часапіса; д-р П. Татарыновіч. Папа Пій XII.

**Tarasevič OSB, Uł. a. [Тарасэвіч, Уладзімер]. Śviata redaktara — śviatam čytačoŭ Źniču** // Źnič. № 38. Krasavik — Cervien 1956. S. 8.

Загаловак: Сьвята рэдактара — сьвятам чытачоў "Зьнічу".

Да 60-лецьця жыцьця, 35-лецьця сьвятарства і 40-лецьця беларускаадраджэнскай дзейнасьці кс. Пётры Татарыновіча.

Ілюстрацыя: партрэт кс. П. Татарыновіча ў маладыя гады.

Станіслаў Татарыновіч і Караліна з Пашукевічаў.

**Tatarynovič, P. Mons. [Татарыновіч, Пётра]. Dań pavahi pryjmaju niaśmieła** // Źnič. № 88. Krasavik — Cervien 1966. S. 1.

Загаловак: Дань павагі прыймаю нясьмела.

Роздумы і падзяка кс. П. Татарыновіча з нагоды ягоных 70-х угодкаў жыцьця.

Ілюстрацыя: фотаздымак кс. Татарыновіча за працоўным сталом падчас працы.

**Były viazień kataržnickaha Łaheru ü Varkucie = «2A — 500». [Былы вязень катаржніцкага Лагэру ў Варкуце = "2A — 500"]. Viedamka da bijahrafii a. Andreja Cikoty M. I. C. Apostalskaha administratara ü Charbinie, zamučanaha ü Tajšeckich laheroch,**

**h. zv. “Kamyšłahu” za Bajkałam** // Źnič. № 113. Krasavik — Znivien 1972. S. 3.

Загаловак: Ведамка да біяграфіі а. Андрэя Цікоты М. І. С. Апостальскага адміністратара ў Харбіне, замучанага ў Тайшэцкіх лягэрох, г. зв. Камышлагу за Байкалам.

Успаміны аб сустрэчы ў 1953 г. з іншым вязьнем, які быў сябрам а. Андрэя Цікоты ў лягэры.

**Vilenčuk. [?]. Inzynier Adolf Klimovič, žmienka uspaminaŭ** // Źnič. № 113. Krasavik — Znivien 1972. S. 5—6.

Загаловак: Інжынэр Адольф Клімовіч, жменька ўспамінаў.

Кс. Адам Станкевіч, Янка Пазьняк, Абэцэдарскі, Прокша, Альбін Стэповіч, кс. К. Стэповіч, кс. В. Шутовіч.

**x. Dr. P. T. [Татарыновіч, Пётра]. Ideja Papiestva. Dumki z nahody 80-lećcia J. Sv. Papieža Piusa XII** // Źnič. № 37. Studzien — Sakavik 1956. S. 1—2.

Загаловак: Ідэя Папества. Думкі з нагоды 80-лецьця Я. Сьв. Папежа Піюса XII.

Ілюстрацыя: абразок-калаж папы Пія XII і базылікі Сьв. Пятра.

Філіп Пачэльлі, біск. Слосканс.

**Z. [Татарыновіч, Пётра]. Kanstancyja Bujla bielaruskaja paetka z našaniŭskaj pary. (Z nahody patrojnaha jubileju)** // Źnič. № 77. Cervien — Znivien. Hod. XV. [1964]. S. 9—10.

Загаловак: Канстанцыя Буйла беларуская паэтка з нашаніўскай пары. (З нагоды патройнага юбілею).

Жыцьцё й паэзія К. Буйла; верш “Дзень сканаў” са зборніка “Курганная Кветка” (Першы радок: *“Дзень сканаў за гарой, а над соннай зямлёй...”*).

Колас, Купала, Алаіза Пашкевіч, др. S. Станкевіч, Віталь Калечыц, Шчарбатаў, Мікола Равенскі.

**Z. [Татарыновіч, Пётра]. Mitrapalit Andrej Šeptycki ŭ maich uspaminach** // Źnič. № 34—35. Cervien — Vierasien 1955. S. 3—5.

Загаловак: Мітрапаліт Андрэй Шэптыцкі ў маіх успамінах.

Ілюстрацыі: фотаздымкі *“Монумэнтальная статуя Мітрп. Андрэя Шэптыцкага ў гр.-кат. Дух. Акадэміі ў Львове (гл. бач. 3)”* (с. 1), *“Сьвяткаваньне ў Львове пасьля паварoту з расейскае вязьніцы”* (с. 3), *“Апошнія вакацыі ў сваім Підлютым”* (с. 5).

Кс. Ул. Т. [Талочка, Уладзіслаў], кс. А. Ст. [Станкевіч, Адам], Сталыпін, архіб. Іван Бучко, сьв. Атаназ (Афанасій), сьв. Базыль, свь. Ян Залатавусны, папа Пій X, архім. Ф. Абрантовіч.

**Zyliński, Wiesław. Treba ich paznać. Ks. Fabijan Abrantovič. (Asabistyja úspaminy j načyrk žyćciadośledu)** // Źnič. № 19. Ċervień — Żnivień 1952. S. 3—4.

Загаловак: Трэба іх пазнаць. Кс. Фабіян Абрантовіч. (Асабістыя ўспаміны й начырк жыцьцядосьледу).

Пераклад з польскай паводле польскай газэты “Zycie”. № 8. 1952.II.24 (з рэдакцыйнага ўступу на пачатку артыкулу).

Сьцяпан Цыбульскі, Тадэвуш Зелінскі, мітр. Андрэй Шэптыцкі, мітр. Ключэўскі (Ключыньскі), мітр. Ропп, архібіск. Цэпляк, біск. Лазінскі, экзарх Фёдараў, кс. Колпінскі, кс. Абрантовіч, папа Пій XI.

**Z. [Татарыновіч, Пётра]. K 500-lećciu narodzin Leonardo Da Vinci** // Źnič. № 21. Listapad — Sniezan 1952. S. 4.
Загаловак: К 500-лецьцю народзін Леонардо да Вінчы.
Франціш дэль Джаконда (*Franciš del Giocondo*), Людвік Сфорца (*Ludvik Sforza*), кароль Франціш I (*Franciš I*).

## Na mahiłu
(Нэкралёгі)

**[Adolf Klimovič]** // Źnič. № 106. Kastrycnik — Sniezan 1970. S. 3.
Загаловак: [Адольф Клімовіч].

**Ajc. Dr. Jazep Dašuta MIC** // Źnič. № 89. Lipien — Vierasien 1966. S. 3.
Загаловак: Айц. Др. Язэп Дашута MIC.

**[Ajciec doktar Viktar Vojtanka-Vasileuski]** // Źnič. № 113. Krasavik — Znivien 1972. S. 3.
Загаловак: [Айцец доктар Віктар Войтанка-Васілеўскі].

**Bałtupski, A. [?]. S. p. Dr. Staňisłau Hryňkievic** [sic!] **(pierakładčyk “Sledam za Chrystusam” Tam. a Kempis)** // Źnič. № 117. Travieñ — Sniezan 1973. S. 7—8.
Загаловак: S. п. Др. Станіслаў Грынкевіч (перакладчык “Сьледам за Хрыстусам” Там[аша] а Кемпіс).
Два др. Станіславы Грынкевічы; кс. Фр. Грынкевіч, жонка Ядвіга, Тамаш Кемпійскі, Альфонс Шутовіч.

**Čarnecki, J. [Чарнэцкі, Янка]. Na mahiłu s. p. Mikole Dziamidavu** // Źnič. № 92. Krasavik — Cervien 1967. S. 8.
Загаловак: На магілу с[ьвятой] п[амяці] Міколе Дзямідаву.
Ілюстрацыя: фотапартрэт М. Дзямідава; крыж перад пачаткам артыкулу з датай *“23.5. 1967”*.
Станіслаў Катнароўскі й Алеся з дому Каліноўскае (бацькі), Ян Дзямідаў (айчым), Булак-Балаховіч, К. Езавітаў, Я. Варонка, Я. Чарапук-Змагар (Янка Змагар).

**[Daminik Aniśko]** // Źnič. № 112. Studzien — Sakavik 1972. S. 3—4.
Загаловак: [Дамінік Анісько].
Абвестка й біяграфічная зацемка. Подпіс: *“Лёндан, 3.XII. 1972”*.
А. Язэп Гэрмановіч, Біск. Ч. Сіповіч.

**Na mahilu darahomu s. p. Inz. Rydleuskamu** // Źnič. № 26. Kastrycnik — Sniezan 1953. S. 8.
Загаловак: На магілу дарагому с[ьвятой] п[амяці] Інж[ынэру] Рыдлеўскаму.
Лявон Рыдлеўскі.

**Na mahilu s. p. d-mu a. egzarchu Viačaslavu Onoško** // Źnič. № 87. Studzien — Sakavik 1966. S. 6—7.

Загаловак: На магілу сьв[ятой] п[амяці] д[араго]му а. экзарху Вячаславу Аношка.
Ілюстрацыя: фотапартрэт а. Аношка; тры здымкі з пахаваньня.
Кс. біск. Бр. Дамброўскі, кс. Юневіч.

**Na mahiłu s. p. Kupalisie** // Źnič. № 56. Travien — Lipien 1960. S. 6.

Загаловак: На магілу сь[вятой] п[амяці] Купалісе.
З нагоды сьмерці жонкі Янкі Купалы сьв. п. Уладзіславы Луцэвіч (зь сям'і Станкевічаў).

**Na mahiłu Prezydentu Mikole Abramčyku** // Źnič. № 104—105. Krasavik — Vierasien 1970. S. 5.

Загаловак: На магілу Прэзыдэнту Міколе Абрамчыку.
Ілюстрацыя: фотапартрэт М. Абрамчыка.
Шопэн, Бальзак, прэзыдэнт БНР Захарка.

**Na Mahiłu Svajmu Najdastojniejšamu Cenzaru** // Źnič. № 14—15. Kastrycnik — Listapad 1951. S. 1, 8.

Загаловак: На Магілу Свайму Найдастойнейшаму Цэнзару.
На сьмерць біскупа Пятра-Францішка Бучыса (25-X-1951).
Ілюстрацыя: фотапартрэт біск. Бучыса.
Эпімах-Шыпіла.

**Nad sviežymi mahilami surodzičaŭ. [Ks. Prał. Juljan Tarasevič. Heneral Francišak Kušal. Mah. Aleksandar Marhovič]** // Źnič. № 97. Travien — Lipien 1968. S. 6.

Загаловак: Над сьвежымі магіламі суродзічаў. [Кс. Прал. Юльян Тарасэвіч. Гэнэрал Францішак Кушаль. Маг. Александар Марговіч].
Ілюстрацыя: фотапартрэт гэн. Ф. Кушаля.

**Nia majem papieža** // Źnič. № 48. Kastrycnik — Listapad 1958. S. 1—3.

Загаловак: Ня маем папежа.
З нагоды сьмерці папы Пія XII. Ілюстрацыя: 2 фотаздымкі спачылага.
сьв. Пій X, папа Бэнэдыкт XV, папа Пій XI, Філіп Пачэльлі й жонка Віргінія з Грацыёзі (*Graziosi*).

**P. T. [Татарыновіч, Пётра]. S. P. Ks. Dr. Michaś Maskalik** // Źnič. № 85—86. Listapad — Sniezan 1965. S. 10.

Загаловак: Сь. П. Кс. Др. Міхась Маскалік. Ілюстрацыя: здымак кс. М. Маскаліка.
Мітр. А. Шэптыцкі, кс. Адам Станкевіч, а. мітрат Уладыслаў Салавей.

**Pałkoünik Ružaniec Ružancoŭ** // Źnič. № 89. Lipien — Vierasien 1966. S. 3.

Загаловак: Палкоўнік Ружанец Ружанцоў.

**R. Z. [Жук-Грышкевіч, Раіса?]. Pamior Janka Čarapuk-Zmahar** // Źnič. № 43. Vierasien — Sniezan 1957. S. 5.

Загаловак: Памёр Янка Чарапук-Змагар.

Ілюстрацыя: фотапартрэт Я. Чарапука-Змагара з азнакамі рыцара Калюмба.

А. Праф. Тарасэвіч, кс. Францішак Грынкевіч, сп-ня Жызьнеўская, М. Белямук, Др. Ст. Грынкевіч, сям'я Махначоў, сям'я Чарнэцкіх.

**Mikoła Kulikovič-Ščahloŭ** // Źnič. № 100. Krasavik — Vierasien 1969. S. 16.

Загаловак: Мікола Куліковіч-Шчаглоў.

**Raźvitannie. [Aficyjalnaja abviestka. Raźvitannie]** // Źnič. № 72. Krasavik — Cervien 1963. S. 1—3.

Загаловак: Разьвітаньне [Афіцыяльная абвестка. Разьвітаньне].

Ілюстрацыі: здымак папы Яна XXIII, здымак з цырымоніі паховінаў;

На сьмерць папы Яна XXIII. Анджэло Джузэппэ Ронкальлі.

**Redakcyja Zniču. [Sviatoje pamiaci Vysokadastojny Archibiskup Biełaruskaj Autakefalnaj Pravasłaŭnaj Carkvy Vasil Tamaščyk]** // Źnič. № 104—105. Krasavik — Vierasien 1970. S. 7.

Загаловак: [Сьвятое памяці Высокадастойны Архібіскуп Беларускай Аўтакэфальнай Праваслаўнай Царквы Васіль Тамашчык].

**S-nok, J. [?]. Paśmiertny ŭspamin ab viedamym biełaruskim dziejačy s. p. Fabijanie Jaremiču** // Źnič. № 48. Kastrycnik — Listapad 1958. S. 4—5.

Загаловак: Пасьмертны ўспамін аб ведамым беларускім дзеячы с[ьвятой] п[амяці] Фабіяне Ярэмічу.

Паслы Тарашкевіч, Рак-Міхайлоўскі, Мятла, Сабалеўскі, санатар Уласаў, паслы кс. Адам Станкевіч, Рагуля, Баран, санатар Багдановіч, санатар Назарэўскі, кс. Дулінец, біск. Мікалай Чарнэцкі, кс. В. Гадлеўскі, Францішак Скарына.

**S. p. Mons. Üładysłaŭ-Üładzimier Sałaviej** // Źnič. № 119—120. Snizañ — Studzieñ 1974—1975. S. 4—8.

Загаловак: S. п. Монс[іньор] Уладыслаў-Уладзімер Салавей.

Ілюстрацыя: здымак а. У. Салаўя.

**Śmierć prezydenta Kennedy heta balučaja strata dla volnaha svietu** // Źnič. № 74. Kastrycnik — Sniezan 1963. S. 1 укладка [б. н.].

Загаловак: Сьмерць прэзыдэнта Кенэды — гэта балючая страта для Вольнага сьвету.

Ілюстрацыя: здымак Дж. Ф. Кенэды. Подпіс: “За “Хр[ысьціянскім] Г[ола] сам”

Лі Х. Освальд, губэрнатар Конэлі.

**T. [Татарыновіч, Пётра]. Na mahilu niezabyŭnaj pamiaci Piatra Syča** // Źnič. № 77. Cervien — Znivien. Hod. XV. [1964]. S. 4—5.

Загаловак: На магілу незабыўнай памяці Пятра Сыча.

Вершаваны адказ П. Сыча на ліст кс. Татарыновіча; біяграфія, псэўданімы, дзейнасьць.

Ілюстрацыі: фотапартрэт П. Сыча; тры фотаздымкі з Рыму: П. Сыч, кс. П. Татарыновіч, а. А. Надсан.
Рак-Міхайлоўскі, Тарашкевіч, Вінцук Жук-Грышкевіч, Андэрс, Часлаў Сіповіч, Мікола Абрамчык.

**Tarasevič, Uł. a. [Тарасэвіч, Уладзімер]. Sv. pam. ajc. Michał Urbanovič MIC** // Źnič. № 117. Travieñ — Sniezan 1973. S. 5.
Загаловак: Сьв[ятой] пам[яці] айц[ец] Міхал Урбановіч MIC.
Ілюстрацыя: здымак а. М. Урбановіча.
Язэп і Антоніна (з дому Кучынская) Урбановіч, Адальфіна з дому Шыткевіч (бабка), біск. Матулевіч, біск. Бучыс, а. Янка Тарасэвіч.

**Tatarynovič, P. Mons. [Татарыновіч, Пётра]. Dr. Stanislavu Hrynkieviču pasmiertny uspamin** // Źnič. № 88. Krasavik — Cervien 1966. S. 3—4.
Загаловак: Др. Станіславу Грынкевічу пасьмертны ўспамін.
Ілюстрацыя: фотапартрэт др. Ст. Грынкевіча.
Мікола Абрамчык, кс. Пётра Татарыновіч, кс. Адам Станкевіч, а. А. Крыт, а. Фр. Чарняўскі, кс. др. Грынкевіч, кс. канонік Лісоўскі, Тамаш Кемпійскі (Кемпіс), Вітаўт (сын).

**Tatarynovič, P., Redaktar “Zniču”. [Татарыновіч, Пётра]. Na mahiłu dastojnamu a. Abatu Ambrozu L. Ondraku** // Źnič. № 64—65. Studzien — Sakavik 1962. S. 4—5.
Загаловак: На магілу дастойнаму а. Абату Амброзу Л. Ондраку.
Ілюстрацыя: фотапартрэт а. А. Ондрака, абата бэнэдыктынскага манастыра ў Ляйлі (Чыкаго).
папа Піюс (Пій) XII, біск. Шэйл (Sheil).

**U tryccatyja uhodki smierci Andreja Ziaziuli** // Źnič. № 12—13. Žnivien — Vierasien 1951. S. 7—8.
Загаловак: У трыццатыя ўгодкі сьмерці Андрэя Зязюлі.
Я. Колас, Аляксандар Астрамовіч (Андрэй Зязюля), кс. Юльян Тарасэвіч.

**Vasil Ciechanovič** // Źnič. № 72. Krasavik — Cervien 1963. S. 8.
Загаловак: Васіль Цехановіч.
На сьмерць Васіля Цехановіча ў Мэльбурне. М. Нікан.

**Z. [Татарыновіч, Пётра]. Na mahiłu s. p. Ściapanu Žyźnieŭskamu** // Źnič. № 66—67. Travien — Lipien 1962. S. 8—9.
Загаловак: На магілу сь. п. Сьцяпану Жызьнеўскаму.
Ілюстрацыі: здымак S. Жызьнеўскага, здымак з пахавальнай цырымоніі.
Еўдакія Жызьнеўская (жонка), Мікодым Жызьнеўскі (сын), Вера (Жызьнеўская) Ромук (дачка), др. В. Ромук (зяць), Адварды Будзька, Янка Чарапук-Змагар, а. Янка Тарасэвіч, сп. Янка Чарнэцкі, гэн. М. Дзямідаў.

**Z. [Татарыновіч, Пётра]. Śloznaje “Gloria!”...** // Źnič. № 70. Listapad — Sniezan 1962. S. 11—12.
Загаловак: Сьлёзнае “Gloria!”...

Да ўгодкаў сьмерці кс. В. Гадлеўскага. Біск. З. Лазінскі, кс. Язэп Белагаловы, а. рэктар Ф. Абрантовіч, а. Цікота, Брн. Тарашкевіч, архіб. Ропп, архіб. Матулевіч, кс. Др. Толочко, Пятроўскі, Станкевіч, Бобіч, Стэповіч, Шутовіч, Рэшэць.

Ілюстрацыя: здымак *“Беларуская народная пяльгрымка ў Кальварыі (1935). На чале Кс. В. Гадлеўскі і Кс. Адам Станкевіч”*.

**Źnič. [Татарыновіч, Пётра]. Na mahiłu s. p. ajcu prafesaru Jazepu-Atanazu Rešeciu, OSB** // Źnič. № 44. Studzien — Krasavik 1958. S. 3—5.

Загаловак: На магілу с[ьвятой] п[амяці] айцу прафэсару Язэпу-Атаназу Рэшэцю, OSB.

Ілюстрацыі: фотапартрэт а. Я. Рэшэця; фотаздымак *“У таварыстве парафіянак спн. Махнач і спн. Пануцэвіч з дочанькай”*.

Кард. Помпільлі (Pompilli), архіб. Юры Матулевіч, мітр. Ялбжыкоўскі, біск. МакНамара.

*Укладаньне Алеся Аўдзеюка*

# БЕЛАРУСКАЯ РЭДАКЦЫЯ ВАТЫКАНСКАГА РАДЫЁ

**(гутарка Натальлі Гардзіенкі з супрацоўнікамі)**

*У лютым 1931 г. пачало сваё вяшчаньне Ватыканскае радыё. Да лацінамоўных перадачаў зь цягам часу сталі дадавацца праграмы на іншых мовах. Да пачатку Другой сусьветнай вайны іх было 9, а сёньня Ватыканскае радыё мае 35 моўных рэдакцый, у тым ліку й беларускую. Яна была запачаткаваная ў 1950 г. дзеячам паваеннай эміграцыі ксяндзом Пётрам Татарыновічам.*

*Увосень 2015 г., у часе побыту ў Рыме, у мяне ўзьнікла жаданьне пабачыць, што ўяўляе зь сябе Беларуская рэдакцыя Ватыканскага радыё. І вось я ўжо ў Палацы Піа. Тут у двух пакоях з вокнамі на Замак Сант-Анджэла знаходзіцца Беларуская рэдакцыя, дзе я цягам некалькіх дзён сустракалася зь яе супрацоўнікамі Аляксандрам Панчанкам і Янкам Мойсікам. На сьценах і паліцах пакояў — здымкі колішніх кіраўнікоў рэдакцыі (Пётра Татарыновіч, Леў Гарошка і інш.), а таксама сустрэчаў з папамі рымскімі, мапа БНР і этнаграфічная мапа Беларусі — утульны асяродак беларушчыны ў дажджлівым восеньскім Рыме.*

*Вынікам тых спатканьняў стала інтэрв'ю, у якім журналісты расказалі пра гісторыю рэдакцыі, асобаў, якія ў ёй працавалі, уласны шлях да Ватыкану, а таксама пра беларускае жыцьцё ў Вечным горадзе.*

*Натальля Гардзіенка: Хацелася спачатку крыху пачуць пра гісторыю Беларускай рэдакцыі Ватыканскага радыё.*

*Аляксандар Панчанка:* Рэдакцыя пачала працу ў 1950 г. Тады адбываўся "парад" лінгвістычных рэдакцыі на радыё: ствараліся адна за адной рэдакцыі краінаў Усходняй Эўропы й іншых рэгіёнаў. Беларуская рэдакцыя пачала сваё рэгулярнае вяшчаньне 6 студзеня 1950 г. Да гэтага перад Божым нараджэньнем, 24 сьнежня 1949 г., у этэры ўпершыню прагучала на беларускай мове пасланьне Папы Пія XII з нагоды адкрыцьця Юбілейнага году, які пачынаўся ў Касьцёле. Папа пажадаў, каб гэтае пасланьне магло прагучаць для як мага большай колькасьці розных народаў. Тады было запрапанавана ксяндзу



Будынак, у якім знаходзіцца Ватыканскае радыё

Татарыновічу падрыхтаваць гэты зварот па-беларуску, і ён яго агучыў. У газэце *"L'Osservatore Romano"* ёсьць расклад трансьляцый гэтага пасланьня на розных мовах, і сярод іх згадваецца, што а 13.30 дня 24 сьнежня прагучыць пасланьне на беларускай мове.

Калі я пачаў цікавіцца гісторыяй нашай рэдакцыі, то гартаў часопісы "Зьніч", чытаў успаміны айца Аляксандра Надсана, іншую літаратуру, паглядзеў наш архіў, паразмаўляў зь людзьмі. У мяне зьявілася гіпотэза, што падштурхнуць ксяндза Татарыновіча да стварэньня рэдакцыі мог літоўскі біскуп Францішак Бучыс, зь якім ён вельмі сябраваў, калі прыехаў у Рым. У а. Аляксандра Надсана я прачытаў, што, калі Татарыновіч прыехаў, менавіта Бучыс дапамог яму ўладкавацца, знайсьці жыльлё, уладзіў яго на вучобу ва Ўсходні інстытут — яны вельмі сябравалі. Татарыновіч неаднойчы ў часопісе "Зьніч" згадваў пра тое, што абапіраецца на падтрымку Бучыса. Той дапамагаў яму выдаваць "Зьніч" і нават кансультаваў адносна зьместу выданьня. Бучыс быў таксама галоўным рэдактарам Літоўскай рэдакцыі Ватыканскага радыё, і ён вельмі шчыра, актыўна далучаў да гэтай дзейнасьці маладых літоўскіх сьвятароў. Татарыновіч прыехаў у Рым з групай літоўскіх сьвятароў. Аляксандар Надсан успамінае пра гэта ў сваёй кнізе пра біскупа Чэслава Сіповіча. Магчыма, менавіта Бучыс прапанаваў Татарыновічу стварыць беларускую рэдакцыю.

Такім чынам, 6 студзеня 1950 г. на Ватыканскім радыё пачалі рэгулярна выходзіць беларускія праграмы. Першапачаткова адзін раз на тыдзень, толькі па пятніцах. На старонках "Зьніча" Татарыновіч зьмяшчаў абвесткі: *"Дарагія беларусы, Ваша мова*

*дачакалася найвышэйшага прызнаньня. Цяпер яна можа гучаць на хвалях беларускага радыё Ватыкану. Вашыя радыёпрымачы павінны быць найлепшай якасьці і г. д.".* Зь цягам часу колькасьць праграмаў павялічвалася. Ксёндз Татарыновіч даваў актуальныя навіны з Ватыкану, перакладаў пасланьні Папы, надаваў значную ўвагу й беларускай нацыянальнай тэматыцы, распавядаў пра падзеі ў Беларусі, крытычна ставіўся да савецкіх уладаў.

*Н. Г.:* *А ці быў у радыё нейкі рэглямэнт, што павінны былі трансьляваць тыя нацыянальныя рэдакцыі?*

*А. П.:* Арыентырам быў інфармацыйны бюлетэнь, які на радыё выходзіў кожны дзень на італьянскай мове. Паведамленьні й тэксты, якія ў ім зьмяшчаліся, трэба было перакладаць на іншыя мовы. Яны ж гучалі ў этэры. Я мяркую, што менавіта іх Пётра Татарыновіч потым нярэдка друкаваў у "Зьнічы".

Я спрабаваў знайсьці дакумэнты, якія б пацьвярджалі маю гіпотэзу пра Бучыса й заснаваньне беларускай рэдакцыі. На жаль, у архіве самаго Ватыканскага радыё захавалася толькі сем дакумэнтаў, якія тычацца гісторыі. Сярод іх некалькі справаздачаў Татарыновіча, у якіх пазначаецца, колькі праграмаў выйшла ў этэр, хто супрацоўнічаў. Згадваюцца айцы Тамаш Падзява й Кастусь Маскалік. У справаздачах ёсьць таксама інфармацыя пра тое, пра што былі праграмы. Па панядзелках чыталіся навіны пра падзеі, прамовы Папы. У сераду пазнавальныя праграмы, бягучыя навіны й тэксты агульных аўдыенцый Сьвятога Айца. Па пятніцах — навіны пра касьцёльнае жыцьцё ў сьвеце. У нядзелю рыхтавалася пропаведзь і таксама прамова Папы, магчыма, "Анёл Панскі".

*Н. Г.:* *А колькі па часе займала адна перадача?*

*А. П.:* Адна перадача ў той час мела працягласьць 14 хвілінаў. Гэта беларускамоўныя 14 хвілінаў у панядзелак, сераду, пятніцу й г. д. На сёньня маем 19 хвілінаў.

*Н. Г.:* *Таксама ў панядзелак, сераду, пятніцу й нядзелю?*

*А. П.:* Сёньня — не. Ужо калі прыйшоў а. Леў Гарошка, праграмы выходзілі 5 разоў на тыдзень. Потым вяшчаньне стала штодзённым. Цяпер яно адбываецца на кароткіх хвалях, у інтэрнэце, праз спадарожнік. Мы рыхтуем таксама кожны тыдзень 5-хвілінны выпуск навінаў з Ватыкану для Першай праграмы Беларускага нацыянальнага радыё. У ім зьмяшчаецца інфармацыя пра асноўныя падзеі тыдню: мы распавядаем пра тое важнае, што зрабіў Папа, пра навіны з Апостальскай сталіцы й гэтак далей.

Захаваліся справаздачы ксяндза Татарыновіча за 1967, 1968, 1969, 1970 гг. У 1970-м ксёндз Татарыновіч пасьля 20 гадоў працы сышоў на пэнсію, больш не працаваў на радыё, займаўся іншымі справамі, перакладаў Сьвятое Пісаньне. Тады прыехаў у Рым айцец Леў Гарошка



Аляксандар Панчанка й Натальля Гардзіенка ў часе інтэрвію. 2015 г.

й да 1977 г. кіраваў рэдакцыяй. Я пасьпеў паразмаўляць наконт ксяндза Татарыновіча з Марыяй Пецюкевіч. Яна да апошніх хвілінаў ягонага жыцьця была адзінай, хто ім тут апекаваўся. Расказала, што пра яго ўсе забыліся на некаторы час, ніхто аб ім не клапаціўся. Ён крыху пачаў забываць рэчы, губляўся ў горадзе. Спадарыню Марыю гэта раззлавала, яна пайшла ў нашую Дырэкцыю, сказала: *"Як так: супрацоўнік 20 гадоў аддаў службе на радыё, а яму няма ні дагляду, нічога?"* Тады ксяндза зьмясьцілі ў пансіянат, а яна яго заўсёды запрашала да сябе на вячэру, на сьвяты, каб ён не сумаваў.

Татарыновіч меў вялікае пачуцьцё гонару. Калі спадарыня Пецюкевіч заходзіла да яго яшчэ на кватэры і бачыла, што непрыбрана, вопратка непамытая, пачынала зьбіраць гэтыя рэчы, пакуль ён там размаўляў зь ейным бацькам. А Татарыновіч потым пачынаў на яе злаваць. У пансіянаце ён ужо сябе больш-менш добра адчуваў. Паводле яе словаў, сяброўскія адносіны з Татарыновічам падтрымліваў толькі былы калега з Румынскай рэдакцыі, ксёндз па прозьвішчы Траян. Мы неяк дамовіліся з Марыяй Пецюкевіч на інтэрв'ю, я павінен быў яго запісаць у панядзелак, але напярэдадні патэлефанавала яе дачка й сказала, што тая памерла. Не пасьпеў у апошні момант зрабіць тое, што меўся. Праўда, занатоўваў сабе ў часе нашых тэлефонных размоваў аповеды пра Татарыновіча: як ён жыў у сваёй кватэры й, прыкладам, вельмі любіў сваю канарэйку.

*Н. Г.: Але ў Пётры Татарыновіча, калі глядзець па ягоных лістах, здаецца, чатыры розныя адрэсы былі, адкуль ён пісаў, то ён не ў адным месцы тут, у Рыме, жыў. Вы не спрабавалі знайсьці гэтыя месцы?*


Аляксандар Панчанка. 2015 г.
*Здымак Н. Гардзіенкі*

<u>*А. П.:*</u> Адным з пунктаў, дзе ён жыў, была Каза дэль Клера, дом сьвятароў на Віа Транспарціна — гэта адразу за нашым радыё. Сёньня гэта гатэль для сьвятароў. Татарыновіч жыў там некаторы час. Потым ён здымаў кватэру на *Via Camilluccia*. Трэці адрас, які магу назваць, гэта той пансіянат. Чацьверты... гэта магчыма, дом айцоў марыянаў на віа Корсіка. Той дом таксама зьвязаны з нашай рэдакцыяй. Там доўгі час жыў айцец Леў Гарошка. Я знайшоў у некаторых запісах ягоных, тут у архіве, у некаторых лістах, што там Гарошка працаваў, бо на радыё не было ў яго друкарскай машынкі з кірылічнымі літарамі. Таму ён рыхтаваў усе свае праграмы менавіта ў доме марыянаў на віа Корсіка.

<u>*Н. Г.:*</u> *Айцец Татарыновіч доўгі час працаваў на радыё адзін. Але з часам сталі зьяўляцца памочнікі: Садоўскі, Маскалік, Падзява, Гарошка, Тамушанскі. Што Вы пра іх ведаеце?*

<u>*А. П.:*</u> Першапачаткова Татарыновіч працаваў адзін, пра гэта а. Аляксандар Надсан, здаецца, згадваў у сваёй кнізе. Потым пачалі зьяўляцца памочнікі. Я чуў імя Яна Садоўскага, прыехаў айцец Кастусь Маскалік, пазьней, пад канец 1950-х, прыязджаў айцец Тамаш Падзява. Калі вызваліўся, прыяжджаў на радыё таксама айцец Язэп Германовіч, біскуп Часлаў Сіповіч дасылаў свае прамовы, якія таксама ішлі ў этэр. А потым, калі Татарыновіч перастаў працаваць на радыё, тут зьявіўся айцец Гарошка, зьявіўся айцец Робэрт Тамушанскі. Яны працавалі, і айцец Маскалік заставаўся, працаваў да вельмі позняга часу, пакуль не ад'ехаў у Лёндан.

Пра а. Льва Гарошку вядома дастаткова. Ён быў чалавекам сьвету камунікацый. Яму на самай справе гэта падабалася. Айцец Аляксандар Надсан у кнізе адзначаў, што калі Гарошка быў у Лёндане, кіраваў місіяй, дык не на сваім месцы пачуваўся. А калі прыехаў сюды, то было яму нашмат лепш. Ён з радасьцю рабіў перадачы. Пра айца Тамушанскага больш можа Янка Мойсік расказаць, ён зь ім працаваў.

<u>*Н. Г.:*</u> *Тады распавядзіце, калі ласка, пра сябе. Адкуль Вы й які быў Ваш шлях да радыё?*

<u>*А. П.:*</u> Я нарадзіўся ў сям'і вайскоўца, таму мая сям'я вельмі шмат падарожнічала. Мой бацька — украінец, маці — беларуска. Нарадзіўся я ў Нямеччыне ў 1981 г., потым жыў у Расеі (Екацерынбургу), пакуль мой бацька вучыўся там, закончыў танкавае вучылішча й атрымаў прызначэньне ў Беларусь, у Печы. Там я ўжо хадзіў у школу, вучыўся, паступіў у БДУ на гістарычны факультэт у 1998 г. І потым працаваў пасьля заканчэння БДУ ў Музэі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры. Тады ў мяне зьявілася магчымасьць паехаць у Рым вучыцца ў Папскім унівэрсытэце сьв. Тамаша Аквінскага (Анжэлікум).

<u>*Н. Г.:*</u> *Але гэта трошкі задалёка ад гісторыі й музэйнай працы...*

<u>*А. П.:*</u> Гэта так. Але я быў актыўным парафіянінам у архікатэдры ў Менску. І калі ў Рыме зьявіліся стыпэндыі для моладзі, нас некалькі чалавек адправілі вучыцца: два чалавекі зь Мінска-Магілёўскай дыяцэзіі, адну дзяўчыну з Гродзенскай і адну зь Віцебскай.

<u>*Н. Г.:*</u> *А якая была мэта такога навучаньня? Сьвятарства?*

<u>*А. П.:*</u> Не. Гэта сьвецкая адукацыя. Мэта праекту, па якім мы вучыліся, — фармаваньне каталіцкіх лідараў, людзей з добрым навуковым бэкграўндам і арганізацыйнымі здольнасьцямі, каб яны працавалі на карысьць Касьцёлу ў Беларусі. Спонсары гэтага праекту мелі такую мэту. Гэта нямецкамоўныя каталікі зь Нямеччыны, Аўстрыі, Галяндыі, яны ахвяруюць частку грошай, каб ва Ўсходняй Эўропе было больш адукаваных каталікоў.

<u>*Н. Г.:*</u> *І што ўяўляла зь сябе навучаньне? Якія Вы курсы слухалі?*

<u>*А. П.:*</u> Першыя два гады я пісаў ліцэнцыят, у каталіцкіх унівэрсытэтах гэта эквівалентна магістэрцы. Навукі вывучаліся розныя: ад вузка касьцёльных да такіх, як гісторыя сацыяльнага навучаньня касьцёлу, само сацыяльнае навучаньне касьцёлу, эканоміка, псыхалёгія, але заўсёды праз прызму каталіцкага вучэньня.

<u>*Н. Г.:*</u> *А якія мовы Вы вывучалі?*

<u>*А. П.:*</u> Ангельскую, італьянскую, раней засвоіў размоўную польскую. Навучаньне ішло на італьянскай. Некаторыя курсы былі па-ангельску. Была магчымасьць выбраць. Для навучаньня трэба было італьянскую вывучаць. Для нас у Беларусі гэтыя стыпэндыі былі нечаканыя. Мы прыехалі сюды, месяц пабылі на моўных курсах, а тады першы сэмэстар прайшоў у пакутах, вельмі цяжка было. Трэба было рыхтавацца да іспытаў, чытаць цэлыя кнігі, калі табе цяжка даецца й старонка. Гэта было вельмі складана. Але потым, праз паўгоду, калі ты чытаеш і ўсё разумееш, калі ты слухаеш і разумееш, гэта такое шчасьце, проста неперадаванае. Я хадзіў як акрылёны.

Навучаньне ішло два гады. Я абараніў таксама працу магістарскую й прысьвяціў яе постаці італьянскага палітыка Альчыдэ ды Гаспэры, аднаго з заснавальнікаў Эўрасаюзу, хрысьціянскага дэмакрата. Потым нам прапанавалі рабіць доктарскую. Але ў мяне тэма неяк сябе

вычарпала, аказалася занадта тэарэтычная. Хацелася чагосьці больш блізкага да Беларусі. І я ўзяўся за вывучэньне гісторыі нашай Беларускай рэдакцыі Ватыканскага радыё.

*Н. Г.: Але як гэтая рэдакцыя сталася Вашай?*

А. П.: Калі яшчэ вучыўся, пачаў прыходзіць сюды, каб дапамагаць рабіць пераклады, у якасьці валанцёрства. Ад 2010 г. рэдакцыяй пачаў кіраваць рыма-каталіцкі сьвятар ксёндз Аляксандар Амяльчэня, які да гэтага часу быў прэс-сакратаром Касьцёлу ў Беларусі, кіраваў сайтам *catholic.by*, афіцыйным парталам Каталіцкага касьцёлу ў Беларусі. І ён прыехаў сюды, каб кіраваць Беларускай рэдакцыяй, ініцыяваў вельмі шмат зьменаў, у тым ліку й фармату вяшчаньня.

*Н. Г.: Як хутка Вы сталі штатным супрацоўнікам Беларускай рэдакцыі?*

А .П.: Напэўна, недзе праз год ад майго зьяўленьня ў рэдакцыі мне прапанавалі стаць яе штатным супрацоўнікам. І на сёньня гэта адзіная мая праца.

*Н. Г.: А гэтага дастаткова, каб жыць у Рыме? Ці ёсьць у Вас сям'я?*

А. П. Для жыцьця — дастаткова. Я маю жонку, літоўку зь Вільні, і двое сыноў: першаму, Альгерду, тры з паловай гады, другому, Арвіду, — месяц.

*Н. Г.: З чаго складаецца Вашая праца ў рэдакцыі? Вы пішаце самі тэксты і самі агучваеце?*

А. П.: Як я казаў ужо, штодзённа выходзіць 19-хвілінны выпуск Беларускай рэдакцыі Ватыканскага радыё. Ён выходзіць а 19-й гадзіне па рымскім часе на кароткіх хвалях як асноўным канале вяшчаньня. Потым ужо дублюецца на ўсіх іншых. У першую частку выпуску, прыкладна 10 хвілінаў, уваходзяць актуальныя навіны. Пры Радыё існуе інфармацыйная служба, якая пастаўляе нам дакумэнты, тэксты прамоваў Папы ды іншых важных касьцёльных ярархаў, навіны з усяго сьвету аб касьцёльных і некасьцёльных падзеях, але блізкіх нам па тэматыцы й г. д. Зь іх мы выбіраем тое, што найбольш актуальнае, найбольш адпавядае нашаму фармату.

*Н. Г.: Вы вольныя ў выбары матэрыялаў?*

А. П.: Нашае прызначэньне — быць голасам Папы й Касьцёлу. Таму галоўнае месца ў праграмах займае ўсё, што зьвязана з Папам. Папа Францыск — вельмі актыўны пантыфік, і пераважная большасьць навінаў тычыцца ягонай дзейнасьці: аўдыенцый, сустрэчаў, прамоваў, неспадзяванак, якія ён вельмі часта чыніць, наведвае кагосьці, тэлефануе й г. д. Мы стараемся пра гэта расказаць, прадставіць найбольш зразумела вучэньне пантыфіка, растлумачыць даступнай мовай. Мы стараемся быць голасам Папы ў першую чаргу. Іншая частка выпуску, гэта недзе 8-9 хвілінаў штодзённа, — тэматычныя

рубрыкі. Кожны дзень тыдня ў нас разьмеркаваны й замацаваны або за супрацоўнікам нашай рэдакцыі, або за пазаштатнымі супрацоўнікамі. Выходзяць літаратурныя праграмы, катэхетычныя, гістарычныя, праграмы, прысьвечаныя духоўнасьці, мастацтву й музыцы. Сярод нашых аўтараў — вядомы мастацтвазнаца Сяргей Харэўскі, радыёрэжысэр і прафэсійны дыктар Алег Вінярскі, канцлер курыі Менска-Магілёўскай архідыяцэзіі кс. Дзьмітры Пухальскі, грэка-каталіцкі сьвятар з Горадні айцец Андрэй Крот, арганіст і музычны экспэрт Віктар Кісьцень.



Пячатка Беларускай рэдакцыі Ватыканскага радыё.
*Здымак Н. Гардзіенкі*

*<u>Н. Г.:</u> А нешта, што датычыць беларускай гісторыі, менавіта беларускія навіны, як было пры Татарыновічу, — такога цяпер няма?*

<u>А. П.:</u> Апошнія пяць гадоў стала значна менш беларускай гістарычнай тэматыкі. Гэта зьвязана з тым, каб не паўтараць тое, што друкуецца й публікуецца ў Беларусі, ёсьць шмат іншых крыніцаў з значна большай аўдыторыяй, дзе можна на згаданую тэматыку прачытаць навіны. Мы пастараліся сфакусавацца менавіта на ватыканскім жыцьці, каб быць галоўнай крыніцай інфармацыі ў гэтым сэгмэньце — усё, што вы хаціце ведаць пра Ватыкан па-беларуску, вы можаце даведацца тут.

*<u>Н. Г.:</u> Ці ёсьць у вас нейкая адваротная сувязь, прыкладам, з слухачамі зь Беларусі? Лісты, эмэйлы? Ці проста перадачы ідуць у космас?*

<u>А.П.:</u> Лісты прыходзяць і просьбы распавесьці пра нешта. Прыходзяць справаздачы ад аматараў радыёспорту, якія слухаюць нашыя праграмы й ставяць адзнакі, як ідзе радыёсыгнал, пра што яны пачулі ў этэры. Прыходзяць таксама лісты ад слухачоў удзячных, падзякі за нешта. Асноўным каналам камунікацыі зьяўляецца нашая старонка ў Фэйсбуку. Гэта нашмат прасьцей. На ёй мы таксама зьмяшчаем фотарэпартажы, дзелімся навінамі, і людзі іх камэнтуюць, ставяць лайкі.

*<u>Н. Г.:</u> На паліцы ў рэдакцыі стаіць бел-чырвона-белы сьцяжок. Якія дачыненьні мае вашая рэдакцыя й афіцыйная Беларусь сёньня. Ці вы абыходзіце гэтую тэму?*

<u>А. П.:</u> Не. Сымбалі, якія вы тут бачыце, захоўваюцца яшчэ са старых часоў. І ніхто іх выкідваць не зьбіраецца, таму што яны

адносяцца на нашай гісторыі. Мы асьвятляем таксама падзеі, якія зьвязаны з адносінамі паміж Апостальскай сталіцай і Беларусьсю. Тут мы павінны быць толькі голасам Папы й Касьцёлу. Ватыканская дыпляматыя спрыяе таму, каб усе народы разьвіваліся, жылі ў міры, былі паважаныя на міжнароднай арэне, і мы стараемся, каб гэтая лінія Апостальскай сталіцы ўмацоўвалася. Мы ідзем у сугуччы з тымі дыпляматычнымі намаганьнямі, якія прыкладаюць прадстаўнікі Ватыкану ў Беларусі. Таму да ўладаў мы ставімся так, як ставіцца Папа — заўсёды з павагай, з добрымі ініцыятывамі, якія маюць спрыяць таму, каб у розных сфэрах жыцьця нашага беларускага грамадзтва быў прагрэс, было разьвіцьцё, і ў пазітыўным ключы гэтаму садзейнічаць.

*Н. Г.: У Рыме ёсьць нейкая колькасьць беларусаў, якія тут жывуць, вучацца. Ці Вы падтрымоўваеце зь імі кантакты?*

А. П.: Натуральна, у Рыме ёсьць беларусы. Іх ня вельмі шмат, але яны ёсьць. Праўда, мы ня надта часта перасякаемся. Калі я прыехаў у Рым, тут паўстала маленькая каталіцкая суполка, у якую ўваходзілі сьвецкія вернікі й сьвятары, што вучыліся ў розных унівэрсытэтах. Можна сказаць, што мы аб'ядналіся па рэлігійным прынцыпе. У рамках гэтай суполкі мы зьбіраліся кожны месяц на Сьвятую Імшу, потым пілі гарбату й г. д. Здаралася, што ладзілі пілігрымкі па санктуарыях італьянскіх, якія нейкім чынам зьвязаныя зь Беларусьсю. Напрыклад, мы наведвалі вайсковыя могілкі ў Монтэ-Касіна. Яшчэ нашай марай было зьездзіць у касьцёл у Мэнтарэла, санктуарый у гарах, у якім ёсьць фрэска з выявай сьвятога Казіміра. Потым многія студэнты, якія тут былі, заканчвалі вучобу й ад'яжджалі, нас стала зусім мала, 4-5 чалавек. І ўжо, калі зьбіраемся, то зусім рэдка ды ня так урачыста, як было раней. Я ведаю, што ёсьць некаторыя беларусы, якія падтрымліваюць сувязь з Русікумам. Пры ім існуе парафія Сьвятога Антонія, дзе праходзіць літургія ва ўсходнім абрадзе, і яе некаторыя наведваюць. Нядаўна мы пазнаёміліся з адной беларускай, якая тут жыве даўно. Яна замужам за італьянцам і прыходзіла да нас, працавала як валанцёрка, перакладала навіны. Цікавіцца таксама беларускай гісторыяй. Мы мелі такую ідэю: можа, калі-небудзь зрабіць нарыс пра беларускія месцы тут — могілкі, карціны, сымбалі ў Рыме, зьвязаныя з гісторыяй Беларусі. Я калісьці рабіў нават праграму на гэтую тэму з цыклю "100 пытаньняў і 100 адказаў". Яна называлася: "Што беларусу наведаць у Рыме".

*Н. Г.: Ці можна сказаць, што Беларусь у Рыме — гэта вашая рэдакцыя і ўсё?*

А. П.: Мне складана адказаць на гэтае пытаньне. Арганізаванага беларускага жыцьця ў Рыме няма. Тое, што Беларуская рэдакцыя Ватыканскага радыё — гэта месца адзінай беларускай прысутнасьці ў Ватыкане, дык гэта дакладна.



Янка Мойсік і Натальля Гардзіенка ў часе інтэрвію. 2015 г.

*Н. Г.: Беларуская рэдакцыя й Радыё цалкам заўсёды былі ў гэтым будынку?*

А. П.: Не, Радыё пераяжджала. Першы глябальны пераезд адбыўся ў 1970 г., калі тут яшчэ быў Пётра Татарыновіч. Радыё працавала першапачаткова на тэрыторыі самога Ватыкану. І толькі ў 1970-м пераехала ў Палац Піа. Гэта ватыканская пабудова, унутры якой дзейнічае вельмі шмат розных установаў: частку займае Ватыканскае радыё, частка здаецца ў арэнду канцэртнай залі, частка — гатэль для сьвятароў. Потым рэдакцыя перамяшчалася ўжо ў межах будынку, была за сьцяной у суседнім пакоі, разам з расейскай рэдакцыяй.

*Н. Г.: У Беларускай рэдакцыі Ватыканскага радыё, відавочна, ёсьць архівы. Як можна ахарактарызаваць іхны зьмест, што у іх захоўваецца?*

А. П.: Архівы ёсьць. У нас захоўваюцца тэксты праграмаў, не штодзённых навінаў, а менавіта тэматычных перадачаў, якія гучалі ў этэры, ад 1970-х гг. За 1980—1990-я гг. ёсьць і навіны штодзённыя, што выходзілі ў этэр. Цягам апошніх пяці гадоў у нас наогул вельмі дакладна вядзецца ўлік і мы архівуем усё, што мы кожны дзень чытаем у этэры, і папярова, і аўдыёфайлы. У нас маленькі сэрвэр ёсьць, дзе мы захоўваем штодзённа ўсе перадачы.

*Н. Г.: Спадар Янка, а як Вы апынуліся на Радыё й што яно тады зь сябе ўяўляла?*

Янка Мойсік: Мой першы кантакт з Ватыканскім радыё быў у 1982 г., калі я жыў у Вене. Я тады выехаў з Польшчы праз складаныя ўмовы, якія ў той час узьніклі ў краіне. Выехаў не на эміграцыю, а



Янка Мойсік. *Здымак Н. Гардзіенкі*

проста так, бо быў маладым чалавекам і ня меў вялікіх абвязкаў. У Вене, як праваслаўны, часта хадзіў ва ўкраінскую грэка-каталіцкую царкву. У той час я дакладна не разумеў розьніцы паміж праваслаўем і ўніяцтвам. Гляджу, што літургія такая самая, сьвятары таксама апранутыя, толькі некаторыя сьвяты былі ў розных тэрмінах. У размове зь венскімі ўкраінцамі я заўсёды прызнаваў сябе беларусам. Яны часта мяне панукалі, каб я выяжджаў як украінец у Амэрыку ці Канаду. І тады ў Вену прыехаў айцец Тамушанскі, тагачасны кіраўнік Ватыканскага радыё. Украінскія дзеячы неадкладна прывялі яго да мяне, і айцец стаў мне гаварыць пра працу ў Радыё й агулам пра Ватыкан і Рым. Ён пытаўся, ці я ведаю беларускую мову. Я сказаў, што закончыў беларускі ліцэй у Бельску. І Тамушанскі кажа: *"То прыяжджай"*. Пасьля пару месяцаў я прыехаў сюды, у Рым. Помню, што гэта было 13 чэрвеня 1983 г. Ну й з гэтага часу я пачаў працаваць у рэдакцыі. Тады былі толькі айцец Тамушанскі й айцец Маскалік. Літаральна пару месяцаў перад маім прыездам пакінула працу ў рэдакцыі Вольга Браско, украінка. Перайшла ва Ўкраінскую рэдакцыю. Калі я прыйшоў, перадачы былі пяць разоў на тыдзень. Літоўцы ў нас забралі суботу й нядзелю. Але калі мяне прынялі на працу, дырэкцыя сказала, што паколькі нас трое, суботу яны нам мусяць зьвярнуць. Так што пасьля нейкага часу, магчыма праз два-тры месяцы, мы ўжо мелі шэсьць праграмаў на тыдзень. Яны доўжыліся тады 14 хвілінаў. Гэта былі іншыя часы: не было інтэрнэту, не было так вялікага доступу да мас-мэдыяў, і зьмест праграмаў быў іншы. Тады быў Савецкі Саюз, і Беларусь была падсавецкая, таму мы больш увагі зьвярталі ў сваіх праграмах на рэлігійнае жыцьцё ў Беларусі. Тут вельмі дапаможнымі былі апрацаваньні айца Льва Гарошкі, асабліва ягоныя камэнтары да нядзельных Эвангельляў і на вялікія сьвяты. Таксама дасылаў скрыпты доктар Віктар Сянкевіч з Гішпаніі, які потым перасяліўся ў Каліфорнію.

У нас быў такі прынцып — штодня якісьці цыкль. Напрыклад, у нядзелю было тлумачэньне Эвангельля дня. У панядзелак я пісаў пра гісторыю Сьвятой Зямлі, пра яе месцы культу і г. д. Знайшоў такія

апрацаваньні ў нашых архівах. Праграмы да 1989 г. былі асабліва зьвернутыя на рэлігійныя тэмы, бо Ватыканскае радыё — гэта радыё Папы. Трэба было гаварыць пра штодзённую дзейнасьць Святога Айца, пра ягоныя аўдыенцыі ці пра разважаньні Папы перад малітвай "Анёл Панскі" ды іншае. Гэта займала каля 30 адсоткаў часу.

Прыйшоў 1989 год, і адбыліся калясальныя зьмены: мы пачалі мець супрацоўнікаў зь Беларусі. Першай супрацоўніцай была Алеся Ўнукоўская, якая цяпер у Нью-Ёрку. Яна давала вельмі добрыя рэпартажы на 2-3 хвіліны пра жыцьцё каталікоў і праваслаўных на Беларусі. Беларусь стала адкрытай краінай, мы маглі нават паехаць туды. Я сам быў на 1-м кангрэсе беларусістаў у 1991 г. І маё выступленьне было два разы перадаванае на беларускім тэлебачаньні. Маю пры сабе беларускія газэты й тыднёвікі, якія пісалі, што ў Ватыкане гавораць па-беларуску, а ў беларускім парлямэнце — па-расейску. Я даў беларускім СМІ шмат інтэрв'ю.

*Н. Г.: Вы выдавалі тут бюлетэнь "Хрысьціянскія навіны". Раскажыце, калі ласка, пра яго.*

*Я. М.:* Гэтая думка нарадзілася пасьля 1989 г. Мы працавалі, але было шмат вольнага часу. Зь Беларусі тады мне прысылалі магчыма з 30 розных бюлетэняў. Пачала ўзьнікаць думка: а магчыма, і мы пачнём нешта выдаваць? Так склалася, што ў 1989 г. прыехалі ў Рым два студэнты з Польшчы — Юрка Ляшчынскі (цяпер ён праграмны дырэктар Радыё Рацыя) і Мікола Ваўранюк, журналіст "Нівы" й супрацоўнік Радыё Рацыя. Яны прыехалі недзе на шэсьць месяцаў і нам дапамагалі ў праграме. А па вечарах мы доўга размаўлялі, што рабіць. *"Давай будзем выдаваць бюлетэнь"*, — хтосьці з нас сказаў. Так ўтраіх і пачалі: першы, другі, трэці нумар. Я паслаў гэтыя бюлетэні ў розныя куткі сьвету да беларусаў. Вельмі хутка прыйшлі добрыя рэцэнзіі ня толькі, напрыклад, з Радыё "Свабода", але нават і з самой Беларусі. Быў такі ўздым. Але неяк вельмі супраць гэтага паставіўся Тамушанскі. Таму я мусіў рабіць усё цішком, каб ён ня бачыў.

*Н. Г.: А матэрыял Вы адкуль бралі?*

*Я. М.:* Матэрыял я шукаў усюды. У "Божым шляхам" шукаў, многа дапамагаў прафэсар Антон Мірановіч зь Беластоку, ужо ўспомнены др. Сянкевіч, час ад часу айцец Аляксандар Надсан. Сам пісаў шмат, асабліва пра дзейнасьць Папы й пра падзеі ў Ватыкане. Не было кампутару, толькі простая кірылічная машынка. Калі ўжо запоўніў зьмест бюлетэню, трэба было пайсьці на другі паверх і зрабіць копіі, потым кожны лісток асобна трэба было скласьці й заклеіць ды выслаць на той ці іншы адрас. Наклад быў 250 асобнікаў. Дасылаў яго спачатку на 170 адрасоў, а потым на больш за 200. Я нават дасылаў яго да Барадуліна, і ў беларускія міністэрствы. Шмат на Беларусь высылаў.

Трэба пахваліцца, што прымалі добра. Але ўжо недзе ў 1994 г. я спыніў выдаваць бюлетэнь.

*Н. Г.: Раскажыце, калі ласка, пра Тамушанскага. Мы даволі мала пра яго ведаем. Што ён за чалавек быў, чым займаўся?*

*Я. М.:* Як я ведаю, ён называўся Ёзэф Робэрт Патры. Ня ведаю, у якім годзе зьмяніў прозьвішча на Тамушанскі. Ён вучыўся ў духоўнай сэмінарыі айцоў базыльянаў у Таронта, у Канадзе, потым жыў у манастыры. Пасьля нейкага часу ён меў кантакты зь сьвятаром Янкам Тарасэвічам, і той яго ўгаварыў, каб пакінуў манастыр і стаў дыяцэзіяльным сьвятаром. У выніку празь нейкі час Тамушанскі прыехаў у Лёндан, дзе вучыўся ва ўнівэрсытэце. Разам з вучобай пачаў працаваць у лёнданскім беларускім цэнтры разам з айцамі Надсанам, Сіповічам, Гарошкам і г. д. Тады ў Лёндане было даволі шмат беларускіх каталіцкіх сьвятароў, а ў Рыме не было нікога, акрамя Татарыновіча. Калі Татарыновіч адышоў ад справаў, прыехаў на ягонае месца ў 1970 г. архімандрыт Гарошка й стаў кіраўніком праграмы. А сьледам зьявіўся недзе ў 1974 г. і айцец Тамушанскі, каб дапамагаць Гарошку. Тады было іх трое: Тамушанскі, Маскалік і Гарошка. Архімандрыт Леў Гарошка — гэта быў волат беларускі, строгі, добра ведаў беларускую мову, бо ў самой Беларусі выкладаў яе ў розных школах. Але ён хварэў на сэрца. Паехаў у Парыж, зрабіў апэрацыю й памёр на апэрацыйным стале. Пахавалі яго ў Лёндане, дзе нядаўна пахавалі айцоў Надсана й Маскаліка.

Такім чынам, з 1978 г. Тамушанскі стаў кіраўніком беларускай праграмы Ватыканскага радыё. Айцец Тамушанскі гаварыў, што ягоныя дзяды паходзяць недзе з-пад Наваградку. Ягоная маці была немка. Таму ён вельмі добра гаварыў па-нямецку. А бацька — амэрыканец. Тамушанскі любіў езьдзіць па Эўропе й да арабскіх краінаў, асабліва ў Туніс. За маіх часоў, у канцы 1980-х гг., ён часта браў на два-тры дні білет і гатэль ды ляцеў. Ягонае сэрца было там. Ён мне ня раз казаў, што як закончыць працу на радыё, паедзе жыць у арабскую краіну. На жаль, не атрымалася. Айцец Тамушанскі часта езьдзіў у Лёндан, заўсёды сьвяткаваў там свае "ўрачыстасьці": 3 чэрвеня — сьвятога Робэрта і 3 сьнежня — гадавіну свайго сьвятарства. І ў 1996 г. паехаў сьвяткаваць 33-ю гадавіну свайго рукапалажэньня ў сьвятарства ў Лёндан і там дрэнна пачуўся. Але вяртаўся сюды ў Рым. Раніцай наступнага дня прыехаў на працу на радыё, а тут людзі бачаць, што ён дрэнна сябе адчувае й завезьлі яго ў больніцу. Наступнага дня, 10-га сьнежня, звоняць адтуль, што памёр. Тады айцец Надсан прыехаў і служыў хаўтурную літургію ў Русікуме. Было шмат народу на пахаваньні, шмат прыбыло людзей з нашага радыё, уключна з праграмным дырэктарам, айцом Фэдэрыкам Ламбардзі. Пахавалі Тамушанскага на рымскіх могілках Порта Пія. Там ватыканская

Ўсходняя Кангрэгацыя мае свой участак. Праўда, ён малы — тры на чатыры мэтры, дык мы як паехалі шукаць магілу Тамушанскага, ледзь знайшлі яе. Там ужо быў пахаваны ўкраінскі япіскап, якаясьці ўкраінская манашка, і Тамушынскі быў трэці зь імі. Адзін над другім пахаваныя. А недалёка ад яго ляжаў і заснавальнік беларускай праграмы айцец Пётра Татарыновіч. Я бываў на магіле Татарыновіча шмат разоў, асабліва на 25 Сакавіка, у дзень абвешчаньня БНР. Тэрмін яе арэнды скончыўся, і цяпер сваякі кс. Пятра хочуць перапахаваць яго ў Польшчы.

Колішняя наша маленькая суполка — айцец Маскалік, я, Марыя Пецюкевіч, дачка славутага Марыяна Пецюкевіча, муж Марыі й іхняя маленькая дачушка Анджэліка — рэгулярна езьдзілі на могілкі, дзе маліліся за душу айца Татарыновіча й за Беларусь. Затым вярталіся да сп. Пецюкевічаў на абед.

*Н. Г.: Вы праваслаўны й працуеце на каталіцкім радыё, гэта ня ёсьць перашкодаю? Як тут да гэтага ставяцца?*

*Я. М.:* Ніколі нічога дрэннага мне не казалі, усё было добра. Для маёй Беларусі — гэта, магчыма, было б праблемай, але ня тут. Я нават з Папам Рымскім неаднойчы сустракаўся, разоў з дзесяць. З усімі, гэта значыць са сьв. Янам Паўлам II, Бэнэдыктам XVI і Францішкам. І ніколі пытаньне веравызнаньня не ўзьнікала. Першы раз была аўдыенцыя з нагоды 35-годзьдзя Беларускай рэдакцыі. І магчыма зь пяць хвілінаў я гутарыў з Папам, якому расказаў пра гісторыю нашай праграмы, яе зьмест. Сьвяты Айцец на заканчэньне ўдзяліў сваё блаславеньне.

*Тэма нумару: Італійская мазаіка*
*Месца на мапе*

***Натальля Гардзіенка***
*Менск*

# ЦАРКВА, ЗБУДАВАНАЯ БЕЛАРУСАМ, У ФЛЯРЭНЦЫІ

Зь беларускіх славутасьцяў у Флярэнцыі шырокай публіцы вядомае хіба што пахаваньне ў базыліцы Санта Крочэ аўтара знакамітага палянэзу “Разьвітаньне з Радзімай” Міхала Клеафаса Агінскага. Аднак зусім недалёка ад цэнтру гораду на вуліцы Льва Х (*Via Leone Decimo, 8*) знаходзіцца храм, пабудаваны выхадцам зь Беларусі, — царква Раства Хрыстова й Сьв. Мікалая Цудатворца, што была першым расейскім праваслаўным будынкам на тэрыторыі Італіі.

Ініцыятарам стварэньня храму стаў нараджэнец Жабінкаўшчыны айцец Уладзімер Лявіцкі, сын вясковага сьвятара зь Вялікіх Сяхновічаў Івана Лявіцкага. Будучы заснавальнік царквы ў Флярэнцыі нарадзіўся ў 1842 (ці 1843) г., закончыў Літоўскую духоўную сэмінарыю й Пецярбурскую духоўную акадэмію. За год да сканчэньня апошняй, у 1866 г., ажаніўся з Надзеяй Васільевай, дачкой заснавальніка й настаяцеля Аляксандра-Неўскага храму ў Парыжы протаярэя Іосіфа Васільева. Ужо праз год Уладзімер Лявіцкі стаў сьвятаром, і маладая пара паехала ў падарожжа па Эўропе, кіруючыся да першага месца прызначэньня навасьпечанага айца — у Ніцу. Тут Лявіцкі служыў цягам 11 гадоў, пакуль у 1878 г. ня быў прызначаны ў Флярэнцыю.

Сям’я Лявіцкіх часта падарожнічала: праяжджала празь Вену, Варшаву, Берасьце ў родныя Сяхновічы. Гэтыя падарожжы разам з асноўнымі сямейнымі падзеямі Ўладзімер Лявіцкі занатоўваў у адмысловай “Храналёгіі летніх знаходжаньняў”. Сьвятар наогул багата пісаў. Публікаваўся на старонках часопісу “*Церковный вестник*”, выдаў уласную кнігу пад назвай “*Современные стремления папства*” (Санкт-Пецярбург, 1908), а таксама пакінуў падрабязны “Журнал будаўніцтва храма” — таго самага, флярэнтыйскага.

Калі айцец Уладзімер Лявіцкі прыбыў у тасканскую сталіцу, тамтэйшая праваслаўная грамада ня мела ўласнага храму — набажэнствы адбываліся ў арандаваных памяшканьнях. Таму й паўстала ідэя набыць пляц зямлі й пабудаваць уласную царкву.

Ужо ў 1880 г. айцец Уладзімер атрымаў дабраславеньне ад пецярбурскага мітрапаліта й пачаў зьбіраць грошы на будаўніцтва

царквы. У 1882 г. ён нават набыў пляц зямлі на віа Курва, аднак прыхаджанам не спадабалася непрыгожая назва вуліцы, і ўчастак давялося зьмяніць.

У той жа час Ляціцкі пачаў шукаць архітэктара, які б спраектаваў царкву. Не знайшоўшы адпаведных – дасьведчаных у расейскай праваслаўнай архітэктуры – кандыдатаў у Італіі, ён зьвярнуўся да нядаўняга выпускніка Імпэратарскай акадэміі мастацтваў, нараджэнца Ковенскай губэрні Міхаіла Праабражэнскага, які якраз у 1882 г. падарожнічаў па Італіі. Будучы знакаміты расейскі архітэктар стварыў шмат эскізаў-праектаў як усяго царкоўнага будынку, гэтак і ягоных дэталяў, аднак да рэальнага будаўніцтва справа дайшла няхутка. Сінод перадаў прапанову аб апецы й фінансаваньні пабудовы царквы ў Міністэрства замежных справаў, і там паперы ляжалі гадамі. За гэты час на нованабытым пляцы зьявілася маленькая часовая цэркаўка, і прыхаджане сталі сумнявацца ў неабходнасьці сапраўднага сталага храму.



Царква Раства Хрыстова й Сьв. Мікалая Цудатворца ў Флярэнцыі. *Здымак Н. Гардзіенкі*

Айцец Уладзімер, тым ня менш, працягваў прасоўваць уласную ініцыятыву і ўрэшце дамогся свайго. У 1899 г. быў нарэшце атрыманы апошні дазвол, заключаны кантракт з архітэктарам, тым самым Міхаілам Праабражэнскім, але ўжо значна больш вядомым, чым пры стварэньні ім першых накідаў, спэцыялістам, і пачалося будаўніцтва двухпавярховай сьвятыні ў рускім стылі. Ніжняя царква ў імя Сьв. Мікалая Цудатворца была высьвечаная ў 1902 г., а верхняя й цалкам храм — пасьвечаныя ў гонар Раства Хрыстова і ўрачыста адчыненыя 26 кастрычніка 1903 г. у прысутнасьці вялікай колькасьці гасьцей. Сама падзея была адлюстраваная ў вялікай колькасьці фотаздымкаў і нават засьнятая на кінастужку.

У фінансаваньні пабудовы царквы шмат дапамагла княгіня Дзямідава Сан-Даната, што жыла ў Флярэнцыі. Іканастас жа, выразаны зь белага мармуру, стаў падарункам ад імпэратара Мікалая II.

Прыгажосьць царквы адзначалася сучасьнікамі. У 1924 г. мітрапаліт Эўлогій, кіраўнік рускіх праваслаўных цэркваў у Заходняй Эўропе, пасьля наведваньня Флярэнцыі напісаў, што тут знаходзіцца найпрыгажэйшы з храмаў у ягонай япархіі.

Праўда, айцец Уладзімер тады ўжо ня жыў. Ён заставаўся настаяцелем царквы да 1922 г., калі сышоў на пэнсію, і ў 1923 г. знайшоў вечны спачын. Царква ж працягвала існаваць, перажыўшы цяжкія часы Першай сусьветнай і рэвалюцыі ў Расеі, калі ня толькі спынілася фінансаваньне прыходаў, але й павісла небясьпека страты храму. У 1924 г. савецкія дыпляматы заявілі пра свае правы на царкву, якая будавалася пад апекаю колішняга МЗС царскае Расеі, аднак з дапамогаю нанятага адваката ўдалося абвергнуць іх прэтэнзіі, і храм застаўся вернікам, перайшоўшы адначасова ў юрысдыкцыю Канстанцінопальскага патрыярхату.

Сёньня заснаваная айцом Уладзімерам Лявіцкім царква Раства Хрыстова й Сьв. Мікалая Цудатворца па-ранейшаму дзейная, мае сваю царкоўную раду, хор і сайт. І няхай зь Беларусьсю гэтае месца зьвязвае толькі паходжаньне стваральніка, ягоную гісторыю можна таксама лічыць невялічкім фрагмэнтам у вялікай мазаіцы дасягненьняў нашых суродзічаў у замежжы.

***Аксана Данільчык***
*Менск*

# ВЕРШЫ

## Перакладаючы Кампану[1]

Сьнежаньскі туман гусьцее,
не пакідаючы месца для жартаў,
самотныя выспы плывуць празь яго
у невядомым напрамку
і ўрэшце выплываюць
з гораду прэч.

Яшчэ ўчора белы сьнег —
неспадзяваная радасьць! —
зьмешваецца з гразёю
і чарнее,
а будынкі з чырвонай цэглы —
недабітыя рэшткі даўніны —
робяцца зусім цёмнымі ад вільгаці.

З-за дзьвярэй я чую італьянскую гаворку —
вось ён, непараўнальны калярыт
майго жыцьця.

Не завешваю вокнаў,
нават калі пачынае цямнець,
не баюся
бессэнсоўных пільных вачэй,
якія ўглядаюцца —
куды? —
нідзе нічога не відаць.
Не запальваю сьвятла.

---

[1] Творы італьянскага паэта Дзіна Кампаны можна пачытаць у інтэрнэт-часопісе “Прайдзісьвет”: http://prajdzisvet.org/texts/kits/dzen-neurastenika.html.

Каханы і каханая…
Шматкі скуры…

Чырвоныя плямы
ў люстэрку насупраць акна
запалалі ярчэй,
і дзень аднаго неўрастэніка
зрабіўся днём
другога неўрастэніка.

## Сіцылія

Лімонная асалода ляжыць на далонях тваіх,
лімонныя дрэвы шумяць над тваёй галавою,
і нават калі імя тваё не прамаўляецца ўслых,
лімонныя хвалі коцяцца за табою.
І водар лімонны ахутвае ночы і дні,
на кветках лімонных пасуцца чмялёў карагоды,
прайдзіся па скуры лімона, забудзься пра ўсё і засьні
у краі далёкім чароўнай лімоннай прыроды.

І, можа, адчуеш на вуснах лімонавы смак
у час, калі ветразь лімонны над морам згасае,
і будзе лімоннае сонца каціцца па чорных гарах,
пакуль у далоні твае не ўпадзе непрадбачаным раем.

Пакуль непрадбачаным вершам ня ўспыхне усход,
пакуль не прачнуцца і зранку ня выйдуць на бераг,
паэты лімонаў — вясёлы і просты народ –
сьпяваць свае песьні зямлі прыгажосьці бязьмернай.

***Уладзімер Калупаеў***
*Сэрыятэ (Італія)*

# ДЖУЗЭПЭ МЕСІНА Й ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ЗАБЕСЬПЯЧЭНЬНЕ БЕЛАРУСКІХ ДАСЬЛЕДАВАНЬНЯЎ У ІТАЛІІ Ў 1950-я гг.

Ключом да цяперашняга агляду, прысьвечанага беларусістыцы ў італьянскім друку сярэдзіны мінулага стагодзьдзя, паслужыла манаграфія Джузэпэ Месіны (Giuseppe *Messina*) *“La letteratura belorussa”* (“Беларуская літаратура”), прысьвечаная гісторыі беларускай літаратуры ў пачатковы савецкі перыяд. Кніга захоўваецца ў бібліятэцы цэнтру “Хрысьціянская Расея” ў Сэрыятэ.

Джузэпэ Месіна, прафэсар рускай мовы й літаратуры ў Рымскім унівэрсытэце “La sapienza”. Тытул кнігі – “La letteratura belorussa”, апублікаваная яна ў Флярэнцыі (Firenze) выдавецтвам *“Valmartina”* ў 1952 г.[1]. Аўтар прысьвячае манаграфію памяці свайго настаўніка Энрыка Даміяні *“Ad Enrico Damiani con devoto affetto di discepolo”* (*“Энрыка Даміяні з адданай прыязнасьцю вучня”*).

У працы прыводзяцца нормы транскрыпцыі беларускіх і расейскіх словаў лацінкай паводле міжнародных правілаў. Зьвернем увагу, што паводле сучасных італьянскіх правілаў Беларусь мае пісацца як “Bielorussa”, тады як Месіна выкарыстоўвае “Belorussa”. Акрамя таго, у тэксьце ён выкарыстоўвае яшчэ адзін назоў *“Bianco-russo”*, які лічыцца састарэлым і не сустракаецца ў сучаснай італьянскай літаратуры, а таксама *“Belorussia”* й *“Russia Bianca”*, якімі ён карыстаецца раўназначна, ня робячы нікага адрозьненьня паміж імі. Адначасова Месіна падкрэсьлівае іранічны сэнс ужываньня слова “Biancoruteno” (“беларусін”) у некаторых пісьменьнікаў.

Ва ўступе прыводзіцца геаграфічная даведка з апісаньнем тэрыторыі, межаў, плошчы й колькасьці насельніцтва, статыстычных зьвестак па асноўных рэгіянальных цэнтрах і працэнтных суадносінах розных этнасаў: беларусаў, яўрэяў, рускіх, украінцаў. палякаў, літоўцаў, латышоў, цыганаў, немцаў і інш. Далей зьмешчаны гістарычныя зьвесткі пачынаючы ад IX ст. Наступны параграф падае

[1] Messian, Giuseppe L. La letteratura belorussa. Firenze: Valmartina editore in Firenze, 1952. — 147 p.

этнічныя характарыстыкі й распавядае пра разьвіцьцё беларускай нацыі ад усходнеславянскіх плямёнаў дрыгавічоў, радзімічаў, крывічоў і драўлянаў. Аўтар антрапалягічна адрозьнівае сучасных яму беларусаў ад *"велікарусаў і ўкраінцаў дзякуючы іх больш высокаму росту, яны больш сьветлыя зь нябесна-блакітнымі вачыма, русымі каштанавымі валасамі, яны не такія прысадзістыя, але пры гэтым больш выносьлівыя ў працы"*[2]. Апісваюцца адзеньне, побыт, хаты, элемэнты народнай культуры, фальклор, забабоны й паганскія перажыткі. Сьледам ідзе аповед пра лінгвістычныя асаблівасьці, уплыў суседніх польскай і рускай моваў, абагачэньне слоўнікавага запасу за кошт летувіскіх і латыскіх запазычаньняў, адначасовае захаваньне архаічнага характару мовы нароўні з падобным працэсам, які можна назіраць у суседняй украінскай мове[3].

Разгледзім зьмест манаграфіі:

Глава I. Паходжаньне пісьмовай літаратуры.
1. Стараславянскія дакумэнты.
2. Першыя ўласныя творы.
3. "Пацярык" і "Летапісы".
4. Казаньне пра сьвятога Мэркурыя.

Глава II. Росквіт у літоўскі пэрыяд.
1. Новая палітычная і культурная сытуацыя.
2. Дакумэнты й гістарычная літаратура.
3. Літаратура Рэфармацыі.
4. Народная літаратура.

Глава III. Заняпад пад польскім валадарствам.
1. Рэлігійныя войны.
2. Працэс палянізацыі.

Глава IV. Пэрыяд царскага прыгнёту.
1. Русыфікацыя краіны.
2. Літаратурная дзейнасьць да 1864 г.
3. "Тарас на Парнасе".
4. Рэакцыя 1864 г.

Глава V. Народная літаратура.
1. Асаблівасьці беларускага фальклору.
2. Казкі, легенды й народныя паданьні.
3. Народны тэатар.

Глава VI. Зараджэньне сучаснай літаратуры.
1. Фактары літаратурнага адраджэньня.
2. Францыск Багушэвіч.

---

[2] Messian, Giuseppe L. La letteratura belorussa. C. 17.

[3] Messian, Giuseppe L. La letteratura belorussa. C. 18.







3. Сацыялістычная літаратура пачатку стагодзьдзя.

Глава VII. Янка Купала.
1. Жыцьцё й творчасьць.
2. Мастацтва.
3. Месца ў сучаснай літаратуры.

Глава VIII. Іншыя аўтары пэрыяду адраджэньня.
1. Зьмітрок Бядуля.
2. Максім Багдановіч.
3. Алесь Гарун.
4. Іншыя паэты й празаікі.

Глава IX. Якуб Колас.
1. Біяграфія.
2. Паэтычныя творы.
3. Мастацтва.
4. Творы ў прозе.

Глава X. Савецкая літаратура.
1. Новыя культурныя далягляды.
2. Паэзія.
3. Проза.

Заключэньне.
Бібліяграфія.

З прыведзеных у кнізе крыніцаў відаць, чым карыстаўся аўтар пры напісаньні сваёй працы. Гэта кнігі й артыкулы па геаграфіі, гісторыі, этнаграфіі, мове, літаратуры, архітэктуры й выяўленчым мастацтве, музыцы, тэатры, кіно: 78 — на расейскай, 62 — на беларускай, 7 — на польскай, 6 — на ўкраінскай, 1 — на чэскай, 6 — на францускай, 2 — на нямецкай і 2 — на ангельскай і, вядома ж, на італьянскай мовах. Вылучым апошнія, бо аналіз італьянамоўных публікацый дазволіць чытачу мець уяўленьне аб інфармацыйнай карціне й даступнасьці друкаваных матэрыялаў, прысьвечаных беларусістыцы, у італьянскай навуковай прасторы 1950-х гг.

Спачатку згадаем пра матэрыялы з Італьянскай энцыкляпэдыі навукі, літаратуры й мастацтва (*Enciclopedia Italiana di scienze, lettere ed arti*) выданьня 1936 г. Галоўны артыкул, прысьвечаны Беларусі “*Russia Bianca*”, напісаны Джузэпэ Карачы (*Giuseppe Caraci*)[4] — італьянскім географам, які нарадзіўся ў Флярэнцыі ў 1893 г. і памёр у Рыме ў 1971 г. Ён быў прафэсарам геаграфіі, выкладаў ва ўнівэрсытэтах Месіны, Пізы й Рыму, пакінуў шматлікія навуковыя публікацыі, прысьвечаныя Вялікім геаграфічным адкрыцьцям і гісторыі картаграфіі.

Наступныя тры артыкулы, прысьвечаныя беларускай мове[5], літаратуры[6] й асобе Янкі Купалы[7], для тае ж Энцыкляпэдыі пісаў Эторе Ла Гата (*Ettore Lo Gatto*). Яму ж належыць яшчэ адна праца, згаданая Джузэпэ Месінам у бібліяграфічным сьпісе — “*La giovane letteratura d'un vecchio popolo*” (“Маладая літаратура аднаго старажытнага народу”)[8]. Аўтар нарадзіўся ў Неапалі ў 1890 г. і памёр у Рыме ў 1983 г. Ён вядомы як эсэіст, літаратурны крытык, перакладчык, акадэмік Нацыянальнай акадэміі дэі Лінча (*Accademia Nazionale dei Lincei*), адзін са стваральнікаў славістыкі як навуковай дысцыпліны ў Італіі. Выкладаў у Неапалі, ад 1931 да 1936 г. узначальваў катэдру славянскай філялёгіі ва ўнівэрсытэце Падуі. У 1936— 1940 гг. жыў у Празе, дзе выкладаў у Інстытуце італьянскай культуры, а ў 1941—

[4] Caraci, Giuseppe. Russia Bianca // Enciclopedia Italiana di scienze, lettere ed arti. Vol. XXX. Roma: Istituto dell'Enciclopedia Italiana, 1936. P. 336—337.

[5] Lo Gatto, Ettore. Russia Bianca: Lingua // Enciclopedia Italiana di scienze, lettere ed arti. P. 337.

[6] Lo Gatto, Ettore. Russia Bianca: Letteratura // Enciclopedia Italiana di scienze, lettere ed arti. P. 337—338.

[7] Lo Gatto, Ettore. Janka Kupala // Enciclopedia Italiana di scienze, lettere ed arti. Vol. XX. P. 310.

[8] Lo Gatto, Ettore. La giovane letteratura d'un vecchio popolo // Piccola Biblioteca Slava: Note di storia e letteratura russa. № XVII. Roma: Istituto per l'Europa Orientale, 1931.

1965 гг. кіраваў катэдрай рускай літаратуры ў Рымскім унівэрсытэце. Быў жанаты з выкладчыцай расейскай мовы й перакладчыцай Зояй Мацьвееўнай Варанковай. Ла Гата ў 1920 г. заснаваў часопіс *"Russia"* ("Расія"), які ў 1926—1932 гг. значна пашырыў зьмест і выходзіў пад назвай *"Rivista di letterature slave"* ("Часопіс славянскіх літаратураў"). Джузэпэ Месіна пазначае ў якасьці бібліяграфічных крыніцаў да сваёй манаграфіі публікацыі з гэтага часопісу пра беларускую літаратуру: два артыкулы беларускага вучонага, этнографа й літаратуразнаўцы, які жыў у эміграцыі ў Празе, дзе ў гэты ж час працаваў Ла Гата, Яўгена Ляцкага (1868—1942), адзін прысьвечаны творчасьці Якуба Коласа[9], другі — Максіма Багдановіча[10].

Ла Гата кіраваў створаным ім Інстытутам Усходняй Эўропы ў Рыме, пры якім выдаваў часопіс "Усходняя Еўропа" (*L'Europa Orientale: Rivista mensile pubblicata a cura dell'Istituto per l'Europa Orientale. Roma, 1921—1943*). Гэты часопіс публікаваў, паводле сьпісу Месіны, наступныя артыкулы па беларусістыцы: 1) Аўрэліё Палміеры (*Aurelio Palmieri,* 1870—1926) — "Савецкая Беларусь"[11], аўтар – італьянскі багаслоў і ўсходазнаўца, якому належыць шэраг дасьледаваньняў па рускім і грэцкім праваслаўі й па савецкай палітыцы ў Азіі[12]; 2) Усевалад Дзьмітрыевіч Шэбедзеў (*Vsevolod Dmitrievič Šebedev,* 1880—?) — "Беларуская літаратура"[13], аўтар – ураджэнец Сімфэрапалю, журналіст паводле прафэсіі[14], які пераехаў у Італію у 1907 г., пісаў пад псэўдонімам Георгія Хрысьціяна артыкулы, прысьвечаныя ўкраінскай тэматыцы[15]. Ад 1922 г. Шчэбедзеў быў супрацоўнікам *"L'Europa Orientale"*. У ягоным артыкуле "Беларуская літаратура" "прадстаўленыя беларусы й тыя цяжкасці, зь якімі ім даводзілася сутыкацца, калі іх мова не

---

9 Ljaскij, Eugenio. I1 poeta della Russia Bianca rinascente: Iakub Kolos // Rivista di letterature slave. 1927. № 3. P. 116—122.

10 Ljaскij, Eugenio. Un poeta Bianco-russo. Massimo Bagdanovič // Rivista di letterature slave. 1928. № 4. C. 193—201.

11 Palmieri, Aurelio. La Bjelorussia sovietista // L'Europa Orientale. 1926. № 3. P. 129—141.

12 Palmieri, Aurelio. La Chiesa russa. 1908; Palmieri, Aurelio. Nomenclator litterarius theologiae orthodoxae Russicae et Graecae recentioris. 2 vol. 1910; Palmieri, Aurelio. Theologia dogmatica orthodoxa (Ecclesiae graeco-russicae) ad lumen catholicae doctrinae examinata et discussa. 2 vol. 1911—1913; Palmieri, Aurelio. La politica asiatica dei bolscevichi. 1924; *Idem*. La geografia politica della *Russia* sovietista. 1926.

13 Scebedev, Vsevolod. La letteratura bianco-rutena // L'Europa Orientale. 1923. № 1. P. 14—25.

14 Современный Рим. Сборник. Москва, 1914.

15 La Voce dell'Ucraina. Roma: Edizione Comitato Ucraino in Italia, 1919—1920.

ўспрымалася як самастойная, а ім самім адводзілася аўтономная роля ў спрэчцы расейцаў з палякамі, згадваецца пэрыяд знаходжаньня ў складзе Вялікага Княства Літоўскага і ўдзел у культуры Адраджэньня. Аўтар спыняецца на сучаснай беларускай літаратуры й яе аўтарах. Артыкул суправаджаецца бібліяграфіяй працаў, прысьвечаных беларусам"[16]. Выглядае, пасля перамогі фашызму Шэбедзеў пакінуў Італію й пераехаў у Каўнас, дзе адкрыў курсы італьянскай мовы й друкаваўся ў газэце Аркадзя Бухава "Рэха"[17].

Наступны аўтар зь бібліяграфіі Джузэпэ Месіны — гісторык і географ, выпускнік унівэрсытэту Падуі Джорджыа Пуле (*Giorgio Pullè*) з двума артыкуламі: "Скандынаўскія і Балтыйскія дзяржавы, Савецкая Расія"[18] ды "Народы СССР"[19]. Далей ідзе паліглот і пісьменьнік Джакама Прампаліні (*Giacomo Prampolini*, 1898—1975) з артыкулам "Літаратуры Украіны й Беларусі"[20].

У бібліяграфічным сьпісе ў кнізе Месіны знаходзім таксама паэтычны твор беларускага савецкага паэта Пімена Панчанкі (1917—1995) "Вяртаньне"[21] ў перакладзе Раісы Рыгораўны Алькеніцкай-Нальдзі (*Raisa Olkenickaja-Naldi*, 1886—1978). Апошняя нарадзілася ў багатай габрэйскай сям'і ў Санкт-Пецярбургу, закончыла Клясычны ліцэй у Варшаве, у 1904 г. паступіла на юрыдычны факультэт Падуанскага ўнівэрсытэту, у 1907 г. выйшла замуж за італьянскага журналіста Піліпа Нальдзі (1886—1972)[22].

І апошняя праца ў сьпісе Джузэпэ Месіны — рэцэнзія на паэмы Петруся Броўкі "Да родных берагоў" і "Янук Сяліба" Максіма Танка[23].

Колькі словаў пра самога аўтара кнігі. Джузэпэ Месіна вядомы ў італьянскім навуковым асяродзьдзі. Яму належаць слоўнікі, працы па гісторыі літаратуры і ў галіне граматыкі: ягоных аўтарскіх 15

---

[16] Russi in Italia. http://www.russinitalia.it/bibliografia.php?id_rivista=212.

[17] Русские в Италии. http://forum.vgd.ru/386/19155/0.htm.

[18] Pullè, Giorgio. Gli Stati Scandinavi e Baltici, L'Unione Sovietica Russa // Collezione "Geografia universale illustrata". Vol. II. Torino: Unione Tipografico-Editrice Torinese, 1935.

[19] Pullè, Giorgio. I popoli dell'URSS. Milano: Gentile, 1944. P. 108—115.

[20] Prampolini, Giacomo. Le letterature dell'Ukraina e della Russia Bianca // Storia universale della Letteratura. Vol. III. P. 3. Torino: Unione Tipografico-Editrice Torinese, 1938. P. 663—667.

[21] Pančenko, Pimen. Il ritorno: Poesia / Versione di Raissa Naldi // Mercurio. 1945. № 10.

[22] Русские в Италии. http://www.russinitalia.it/dettaglio.php?id=176.

[23] Zvete, Pietro. Recensione a К родным берегам = Alle sponde natìe di Petrus' Broŭka e a Janùk Sjalìba di Maksim Tank // Cultura sovietica. 1946. № 1—2.

манаграфій 5 кніг у суаўтарстве й 3 пераклады[24]. Прычым ягоныя навучальныя дапаможнікі шматкроць перавыдаваліся. Кнігі выходзілі ў вядучых выдавецтвах Рыму, Міляну, Флярэнцыі й Палерма. Варта згадаць, што ў 1950 г. выйшла таксама ягоная кніга *“La letteratura Sovietica”* (“Савецкая літаратура”).

[24] Messina, Giuseppe L. Chiara favella: grammatica, stilistica, metrica, introduzione allo studio della letteratura italiana: Per le scuole medie superiori. Roma: Angelo Signorelli, 1967; Idem. Dante: la vita e le opere. Roma: Signorelli, 1951; Idem. Disegno storico della letteratura italiana. Appendice. Roma: Signorelli, 1956 (ristampa 1957; Firenze: Tip. Cartografica, 1960); Idem. Dizionario dei neologismi, dei barbarismi e delle sigle: Prontuario delle incertezze lessicali e delle difficolta grammaticali: Parole al vaglio. Roma: Signorelli, 1983; Idem. Dizionario di mitologia classica. Roma: Signorelli, 1959 (ristampa 1960, 1961, 1985, 1989); Idem. I megaliti pugliesi. Roma: Croce, 1948; Idem. Il dono di Evandro: Grammatica, stilistica, metrica, introduzione allo studio della letteratura italiana: Per gli istituti tecnici. Roma: Signorelli, 1965 (ristampa 1967).; Idem. L’arte dello scrivere: Norme di fonetica e di ortografia: Elementi di stilistica: Nozioni di metrica: Introduzione allo studio della letteratura italiana: Ad uso delle scuole medie superiori. Roma: Signorelli (Tip. Sallustiana), 1952 (ristampa 1953, 1954, 1955, 1956, 1960, 1962, 1965, 1968); Idem. La letteratura Sovietica. Firenze: F. Le Monnier (Tip. E. Ariani e L’arte Della Stampa), 1950; Idem. La matematica come linguaggio: Rapporti fra linguaggio e concetto numerico. Milano: Federico Motta, 1975; Idem. Lasciatemi la pipa!..: Ricordi e pensieri di un fumatore. Roma: Signorelli, 1979; Idem. L’etimologia di mafia, camorra e ‘ndrangheta. Acireale: Bonanno, 1992; Idem. Norma, sparacanaci & ‘nzuddi: viaggio gastronomico di un linguista a Catania / con un’appendice di Franco Maria Messina e con 14 disegni di Beowulf Paesler-Luschkowko. Roma: A. Signorelli, 1978; Idem. Parole al vaglio: Dizionario dei neologismi, dei barbarismi e delle sigle: Prontuario delle incertezze lessicali e delle difficolta grammaticali. Roma: Signorelli, 1954, (ristampa 1957, 1962, 1963, 1965, 1968, 1970, 1973); Idem. Poeti di tutto il mondo. Roma: Signorelli, 1961; Idem. Storia della letteratura italiana: Dalle origini a tutto il Trecento. Roma: Croce, 1948. У суаўтарстве: Messina, Giuseppe L., Cogliolo, Tito. Il ponte: Antologia italiana per la Scuola media. Palermo: S. Andт e F., 1953; Messina, Giuseppe L., Cogliolo, Tito. Antologia italiana: Per la prima classe degli istituti tecnici e magistrali. Torino: Soc. Ed. Internazionale, 1950 (ristampa 1951); Messina, Giuseppe L., Amico, M.C., Chiaravelli, Tito. Fa parte di Ore serene: Letture di autori classici fatte dall’insegnante nelle ore ricreative. Palermo: Edizioni Bodoniane, 1973; Messina, Giuseppe L., Cantamessa, Giuseppe. Dizionario della lingua italiana. Milano: Signorelli, 1978; Messina, Giuseppe L., Paesler-Luschkowko, Beowulf. Il gergo dei drogati. Roma: Signorelli, 1979. Пераклады: Il fumista: racconti / Alphonse Allais, traduzione, introduzione e note di Giuseppe L. Messina con 7 disegni di Beowulf Paesler-Luschkowosko. Roma: Signorelli, 1999; Certopchanov / Ivan Turgenev. Roma: Signorelli, 1961; Tre palle, un soldo: Racconti / Alphonse Allais, traduzione e note di Giuseppe L. Messina con 13 disegni di Beowulf Paesler-Luschkowso. Roma: Signorelli, 1980.

Згадкі пра Джузэпэ Месіну можна таксама знайсьці ў навукова-крытычных літаратуразнаўчых артыкулах[25]. Сярод апошніх па часе — артыкул Марка Сабацціні (*Marco Sabbatini*) з унівэрсытэту Мачэрата, прысьвечаны ўплыву італьянскага рамантызму на беларускую літаратуру й прадстаўлены на Міжнародным кангрэсе славістаў у 2013 г. у Мінску. Аўтар абапіраецца на працы Месіны й цытуе яго[26]. Гэта падкрэсьлівае актуальнасьць напісанай больш за паўстагодзьдзя таму манаграфіі пра беларускую літаратуру ды яе значэньне для італьянскіх славістаў да нашых дзён.

*Пераклад з расейскай Натальлі Гардзіенкі*

---

[25] Seeley, F. F. La letteratura sovietica by Giuseppe L. Messina // The Slavonic and East European Review / The Modern Humanities Research Association and University College London, School of Slavonic and East European Studies. Vol. 29. № 73 (June, 1951). P. 607—609; Mondrone, D. Parole al vaglio: Dizionario dei neologismi, dei barbarismi e delle sigle: Prontuario delle incertezze lessicali e delle difficolta grammaticali. 6-a ed. interamente rifatta. Roma: A. Signorelli, 1968. 8°, XVI-612. L. 2.600 // La Civiltà cattolica. Vol. 120. Edizione I. P. 199—200.

[26] Sabbatini, Marco. Il romanticismo italiano in Bielorussia: Alcune riflessioni attraverso Leopardi // Contributi Italiani al XV Congresso Internazionale degli Slavisti, Minsk, 20—27 agosto 2013 / a cura di Marcello Garzaniti / Biblioteca di Studi slavistici. 19 / Associazione italiana degli Slavisti. Firenze: Firenze University Press, 2013. P. 291—314.

***Аксана Данільчык***
*Менск*

# УЛІСЭ АЛЕСІЁ ФЛАРЫДЗІ Й ЯГОНАЯ РЭЦЭНЗІЯ НА КНІГУ ДЖУЗЭПЭ МЕСІНЫ "БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА"

Падводзячы вынікі разьвіцьця славістыкі ў Італіі за 1920—1990 гг., італьянская дасьледчыца Эмануэла Згамбаці адзначыла: "*...пачынаючы з... дваццатых гадоў цікавасьць да розных славянскіх моў і літаратур выяўлялася ў розных формах, у рознай ступені й з рознай сілай. Несумненна, найбольшае разьвіцьцё атрымалі дасьледаваньні расейскай мовы й літаратуры, пасьля польскай, чэскай і г. д. Ролю "Папялушкі"... атрымалі ўкраіністыка й беларусістыка. Мала й непасьлядоўна пісаліся дасьледаваньні на тэму літаратуры або агульнага характару...*"[1]. Нельга сказаць, што сытуацыя значна зьмянілася — кніга Джузэпэ Месіны "Беларуская літаратура" (*Giuseppe L. Messina. La letteratura belorussa*), якая выйшла ў Флярэнцыі ў выдавецтве "*Valmartina*" ў 1952 годзе, і да сёньня застаецца адзінай гісторыяй беларускай літаратуры на італьянскай мове.

Кніга мае прысьвячэньне: "*Ad Enrico Damiani con devoto affetto di discepolo*" ("*Энрыка Даміяні з адданай прыязнасьцю вучня*"), што дае падставы лічыць Джузэпэ Месіну студэнтам Энрыка Даміяні (1892—1953), дасьледчыка расейскай, польскай і балгарскай літаратур, перакладчыка й крытыка, які выкладаў балгарскую мову й літаратуру ва Ўнівэрсытэце Рыму "*La Sapienza*" (*Università di Roma "La Sapienza"*) і ва Ўсходнім інстытуце Неапалю (*Istituto Orientale (IUO)*), ад 2002 г. — Неапалітанскі ўнівэрсытэт "Л'Арыентале" (*Università degli Studi di Napoli "L'Orientale"*)[2]. Дзякуючы спадару Габрыелю Мадзітэлі

---

[1] Sgambati, Emanuela. *L'Ucrainistica e la Bielorussistica* in Italia nel settantennio passato (1920—1990) e i loro compiti futuri // La Slavistica in Italia: cinquant'anni di studi (1940—1990) / a cura di Giovanna Brogi Bercoff, Giuseppe Dell'Agata... [et al.]. Roma, 1994. C. 249. (Тут і далей пераклад з італьянскай мовы А. Данільчык.)

[2] Mazzitelli, Gabriele. Damiani, Enrico // Dizionario biografico degli italiani. Vol. 32. Roma: Istituto della Enciclopedia italiana, 1986. P. 327—328; Mazzitelli, Gabriele. Enrico Damiani: un profilo biografico // Culture del testo. № 5. 1996.

ўдалося высьветліць, што ў 1952 г. у тым жа выдавецтве Энрыка Даміяні выдаў двухтамовую “Літаратурную гісторыю славянскіх народаў” (*Storia letteraria dei popoli slavi: (dai tempi più remoti ai nostri giorni) / a cura di Enrico Damiani. Firenze: Valmartina, 1952*), якая мела аднолькавае графічнае афармленьне з кнігай Месіны, адрозьніваючыся толькі колерам устаўкі на вокладцы (не чырвоны, а блакітны). Цалкам лягічна дапусьціць, што была задуманая сэрыя выданьняў, прысьвечаных славянскім літаратурам. Яшчэ адна адметная падзея тагачаснай славістыкі — у 1952 г. пачынае выходзіць часопіс *“Ricerche Slavistiche”*, якім кіраваў вядомы славіст Джавані Мавер. Такім чынам, можна казаць пра пэўны ўздым славістыкі.

Трэба адзначыць, што мы сутыкнуліся з пэўнымі цяжкасьцямі, спрабуючы высьветліць абставіны жыцьця й дзейнасьці Джузэпэ Месіны, але на падставе сабраных зьвестак паспрабавалі скласьці біяграфію дасьледчыка, хоць на гэты момант маем больш пытаньняў, чым дакладных звестак.

Джузэпэ Л. Месіна (*Giuseppe L. Messina*) — італьянскі філёляг, перакладчык, аўтар кніг “Савецкая літаратура” (*“La letteratura sovietica”, Le Monnier, Firenze 1950*), “Беларуская літаратура” (*“La letteratura belorussa”, Valmartina, Firenze, 1952*), студэнт (?) вядомага італьянскага славіста Энрыка Даміяні. Верагодна, атрымаў дыплём у Рымскім унівэрсытэце *“La Sapienza”* або ва Ўсходнім інстытуце Неапалю, вучыўся, відаць, у 1945—1950 гг. Працаваў выкладчыкам, загадчыкам упраўленьня сярэдняй адукацыі, быў асьпірантам па палеанталёгіі ў Рымскім унівэрсытэце. Пісаў на вельмі розныя тэмы: ад славістыкі да італьяністыкі, перакладаў І. С. Тургенева, А. Аверчанку ды інш. Аўтар такіх кніг, як: “I megaliti pugliesi” (Croce, 1948); “La letteratura sovietica” (Firenze: Le Monnier, 1950); “La letteratura belorussa” (Firenze: Valmartina, 1952) і інш. Хутчэй за ўсё, меў нейкае дачыненьне да камуністычных колаў Італіі, магчыма, да пэрыёдыку кампартыі Італіі *“La Rinascita”*.

Кніга сапраўды выйшла ў той час, калі “*пасьля Другой сусьветнай вайны, якая стала храналягічнай цэзурай… здаецца, усё зьмянілася: палітычныя, этычныя, эстэтычныя погляды й сама канцэпцыя культуры…Жалезная заслона пакінула “там” разам з найвялікшымі па колькасьці расейцамі (а таксама беларусамі і ўкраінцамі), усіх іншых славянаў, ад паўднёвых славянаў да чэхаў, славакаў і палякаў,* — адзначае Рыкарда Пік’ё, — *апошнія гады саракавых і*

---

P. 69—75; Mazzitelli, Gabriele. Slavica biblioteconomica. Firenze: Firenze University Press, 2007. — 161 p. (Biblioteca di studi slavistici; 3). Contiene fra l’altro: Enrico Damiani slavista. P. 77—91 (con la bibliografia degli scritti), Enrico Damiani: un profilo biografico. P. 93—98.

*пяцідзясятыя пазначылі пачатак няпростай рэарганізацыі нашых славістычных дасьледаваньняў, часткова як адказ на мадэлі з усходу, а часткова як пошук самаідэнтыфікацыі*"[3]. Рыкарда Пік'ё падкрэсьлівае, што ў той пэрыяд "*дасьледаваньні ў галіне славістыкі таксама павінны былі падпарадкоўвацца агульным тэндэнцыям рынку культуры, зьвязанага з нацыянальнай і міжнароднай палітыкай, з патрабаваньнямі выдаўцоў, а таксама з рознымі плынямі ўнівэрсытэцкай адукацыі*"[4]. Складанасьць сытуацыі была абумоўленая як зьменай прыярытэтаў на міжнароднай арэне, гэтак і вельмі абмежаванымі магчымасьцямі вывучэньня славянскіх моваў і літаратур у "*палявых*" умовах, на месцах, бо амаль усе славянскія краіны сталі часткай сацыялістычнага лягеру, а асноўную ролю ў культурных стасунках адыгрывалі арганізацыі кшталту Таварыства дружбы Італія — СССР.

З другога боку, як падкрэсьліў Давід Фактаровіч у 1961 г.: "*Кніга гэта, відаць, была задумана і напісана ў атмасферы маральнага антыфашызму, якой было азнаменавана першае пасляваеннае сямігоддзе ў Італіі. Гэта быў час, калі "Уніта" стала самай уплывовай газетай краіны, калі сацыяльная паэзія выцесніла школы так званага "герметызму" і "ўнанімізму", калі з'явіліся сапраўды праблемныя творы ў сучасным італьянскім тэатры і кіно, у скульптуры і жывапісу. Неўзабаве пасля гэтага на італьянскай зямлі адбыліся сустрэчы паэтаў свету з удзелам вядомых савецкіх майстроў... Усё гэта выклікала і прыкметнае ажыўленне італьянскай славістыкі, узначальваемай такімі вядомымі імёнамі, як Ла Гата, Дж. Берта, П. Цветэрэміч, Р. Прампаліні. Дж. Месіна, відавочна, з'яўляецца філолагам, блізкім да гэтай школы. Некаторыя, невядомыя нам, яго працы рэкамендаваў сваім чытачам часопіс Кампартыі Італіі "Рынашата*"[5]. Як бачым, на жаль, і тут няма ніякіх пэўных зьвестак.

Кніга Джузэпэ Месіны выклікала пэўны рэзананс у тагачасным друку, прынамсі, вядома пра водгукі на яе ў Італіі і ў Беларусі. Адным зь іх стаў артыкул Улісэ Алесіё Фларыдзі "*A proposito di un libro sulla letteratura biancorutena*" ("Датычна аднае кнігі аб беларускай літаратуры"), апублікаваным у часопісе "*La Civiltà Cattolica*", які стаіць у шэрагу нячастых, але пасьлядоўных публікацый, прысьвечаных

[3] Picchio, Riccardo. La slavistica italiana negli anni dell'Europa bipartita // La Slavistica in Italia: cinquant'anni di studi (1940—1990) / a cura di Giovanna Brogi Bercoff, Giuseppe Dell'Agata... [et al.]. Roma, 1994. С. 5.

[4] Picchio, Riccardo. La slavistica italiana negli anni dell'Europa bipartita... С. 6.

[5] Фактаровіч, Давід. Беларуская савецкая літаратура за мяжой. Мінск, 1961. С. 72.

беларускай літаратуры, што час ад часу зьяўляліся ў італьянскай пэрыёдыцы.

Інфармацыю пра аўтара артыкулу пашчасьціла адшукаць на старонках таго самага часопісу, які апублікаваў рэцэнзію: *"La Civiltà Cattolica"*, у адным з рэдакцыйных артыкулаў "Згадваючы айца Дэ Маркі і айца Фларыдзі", надрукаваным у 1986 г. Дзейнасьць Улісэ Фларыдзі была вядомая ў Савецкім Саюзе (цяжка пакуль сказаць дакладна, у якой ступені), але ў даведніку "Беларускія пісьменьнікі" маюцца зьвесткі пра гэты артыкул і пра пераклад верша Янкі Купалы "Я ад вас далёка, бацькаўскія гоні" на італьянскую мову, у яго ўключаны. Такім чынам, праца Фларыдзі не засталася незаўважанай. Артыкул даволі хутка быў перакладзены на беларускую мову, а пераклад апублікаваны ў пэрыёдыку "Зьніч", які выходзіў у Рыме. Да артыкулу была дададзеная пазнака: *"Артыкул гэты зьяўляецца даслоўным перакладам з італійскага. Узяты ён з аднае найважнейшае часопісі рымскае "La civiltà cattolica", № 4, 1953, б. 444—452, кантраляванай самым Папежам; так што аўтарытэтнасьць выказаных у ім паглядаў трэба мераць ня самым толькі подпісам аўтара"*[6]. Аўтарам перакладу, магчыма, быў Пётра Татарыновіч, рэдактар "Зьніча", пісьменьнік, перакладчык, заснавальнік і дырэктар беларускай сэкцыі Радыё Ватыкану.

Айцец Улісэ Алесіё Фларыдзі нарадзіўся ў Рыме 18 сакавіка 1920[7] г., паступіў у ордэн езуітаў 19 верасьня 1936 г. Вучыўся ў Папскім калегіюме Русікум (*Collegio Russicum*), дзе меў магчымасьць вывучыць расейскую мову, а таксама пазнаёміцца з культурай і звычаямі народаў былой Расейскай імпэрыі, гісторыяй рэвалюцыі й падзей, якія прывялі да пабудовы Савецкай дзяржавы. У артыкуле адзначаецца, што грунтоўная падрыхтоўка дазволіла яму стаць выдатным спэцыялістам і яго прыход у часопіс *"La Civiltà Cattolica"* быў лягічны, бо не існавала магчымасьці накіраваць яго ў Савецкі Саюз для сьвятарскай дзейнасьці, да якой ён так імкнуўся.

І сапраўды, пасьля курсу тэалёгіі ў Папскім Грыгарыянскім унівэрсытэце й доктарскай ступені, атрыманай у Дзяржаўным унівэрсытэце Рыму за напісаньне дысэртацыі пад кіраўніцтвам аднаго з заснавальнікаў італьянскай славістыкі Этарэ Ла Гата, айцец Фларыдзі ў 1950 г. стаў адным з аўтараў часопісу, дзе працаваў пятнаццаць гадоў, да 1965 г., займаючыся напісаньнем артыкулаў, поўных навінаў, атрыманых непасрэдна зь першакрыніцаў – савецкай

---

[6] Датычна аднае кнігі аб беларускай літаратуры // Źnič. Sakavik, 1953. № 22. S. 5.

[7] Ricordando Padre De Marchi e Padre Floridi // Civiltà cattolica. № 3276. 20.12.1986. С. 575—579.

пэрыёдыкі, газэтаў і часопісаў, якія ён даставаў праз пасярэдніцтва сваіх рымскіх сяброў. Аўтар артыкулу адзначае, што сапраўды тэксты Фларыдзі чыталіся, камэнтаваліся й нават выклікалі пярэчаньні.

Вынікам працяглай працы ў часопісе стала важкая кніга *"Дылема Савецкага Саюзу — міф і рэальнасьць аднаго гуманізму"* (1966), у якой абмяркоўваліся ідэалягічныя, палітычныя, сацыяльныя й эканамічныя праблемы СССР з гістарычнай аб'ектыўнасьцю і ўсхваленьнем тых чалавечых каштоўнасьцяў — асабліва свабоды веравызнаньня, — якія ў Савецкім Саюзе ня толькі не прызнаваліся, але й перасьледаваліся. Для айца Фларыдзі, адзначаюць аўтары артыкулу, *"марксіцскі гуманізм"* быў немагчымы, бо ён лічыў марксізм абсалютна антыгуманнай ідэалёгіяй, асабліва ў рэжымах, дзе ўвасобіліся тэорыя й практыка бальшавісцкага камунізму, як у СССР і ў краінах, якія пасьля Другой сусьветнай вайны трапілі пад яго ўплыў.

У пэўны момант літаратурна-навуковая дзейнасьць перастала задавальняць айца Фларыдзі, і ён пераехаў спачатку ў Бразылію, пасьля ў Злучаныя Штаты, дзе працаваў з выгнанцамі-католікамі з Савецкага Саюзу. Лягічна дапусьціць, што Фларыдзі сустракаўся зь беларускімі эмігрантамі ў ЗША, але з упэўненасьцю мы гэтага пакуль ня можам сьцьвярджаць. Пасьля ён працаваў у Калюмбійскім унівэрсытэце пад кіраўніцтвам Зьбігнева Бжэзінскага і ў іншых установах, працягваючы навуковую дзейнасьць. Так, у 1976 г. выйшла ягоная кніга "Масква й Ватыкан: савецкія дысідэнты перад "дыялёгам"', перакладзеная пасьля на францускую і ангельскую мовы. Акрамя таго, айцец Фларыдзі перакладаў з рускай мовы, напрыклад, у 1970 г. у яго перакладзе на італьянскую мову выйшаў зборнік артыкулаў выдатных расейскіх мысьляроў, такіх як Мікалай Бярдзяеў, Сяргей Булгакаў і іншых, "Вехі": *La svolta. "Vechi" : l'intelligencija russa tra il 1905 e il 17 / [scritti di N. Berdjaev ... [et al.] Milano: Jaca book, 1970. — 187 p.; 23 cm. (A cura del Centro studi Russia cristiana. — Trad. U. Floridi)* ("Пералом. Зборнік артыкулаў "Вехі": руская інтэлігенцыя паміж 1905 і 1917 гадамі"). Як бачым, рэцэнзія на кнігу Джузэпэ Месіны зьяўляецца натуральным вынікам цікавасьці Фларыдзі й самога часопісу як да праблемаў Савецкага Саюзу, гэтак і да нацыянальных культураў тых народаў, што ў яго ўваходзілі.

Артыкул у пэўнай меры адлюстроўвае й погляды ягонага аўтара. У цэлым высока ацэньваючы працу Месіны, Фларыдзі адзначае, што перш, чым даваць ёй высокую ацэнку, неабходна зрабіць некаторыя заўвагі. Ужо ў першых радках Фларыдзі робіць заўвагу наконт тэрміналёгіі: на яго думку, найлепш было б назваць кнігу *Biancorutena*, а не *Bielorussa*, аднак не раскрывае чаму. Гаворачы пра кнігу Месіны ў цэлым, Фларыдзі адзначае пэўныя аб'ектыўныя цяжкасьці з

матэрыяламі, зьвязаныя з палітычнай сытуацыяй. Тым ня менш ён піша, што *“калі ідзе гаворка пра народ, які, як прызнае сам Месіна, быў вымушаны неаднаразова падвяргацца гвалту прыгнятальнікаў, што перашкаджалі яму нават пісаць і выказвацца на ўласнай роднай мове (с. 13, 14 і 43) або нават зводзілі яго літаратуру... да фальклёрнай цікавосткі, да музэйнага экспанату... (с. 123) неабходна быць больш асьцярожнымі ў карыстаньні пэўнымі рускімі й савецкімі крыніцамі ды меркаваньнямі”*[8]. Фларыдзі адзначае, што гаворка ідзе не пра некаторыя пропускі, а пра якасьць, неперадузятасьць, неабходную для любога навуковага дасьледаваньня. І хоць у некаторых месцах Месіна, на думку аўтара, дэманструе незалежнасьць уласных разваг, у іншых ён, наадварот, выяўляе залежнасьць ад несправядлівых выказваньняў, асабліва там, дзе прыніжае ці як мінімум адкідае ўнёсак у беларускую літаратуру эміграцыі (с. 18) і каталіцызму, *“які больш за тое, лічыць чыста палітычным фактарам і ў пэўнай ступені антынацыянальным... настолькі, што ня можа патлумачыць, як Л. Сапега змог зрабіць унёсак — “і не малы — ў разьвіцьцё беларускай культуры... не зважаючы на тое, што ён пераў навяртаньне ў каталіцызм” (с. 43)”*[9].

Адзначым, што кнігу Месіны крытыкавалі й беларускія навукоўцы: даволі падрабязны разгляд зрабіў Давід Фактаровіч у кнізе “Беларуская савецкая літаратура за мяжой” (1961), выданьні, якое мае ўсе прыкметы свайго часу, напрыклад: *“...італьянскі аўтар не ўяўляе сабе сутнасці тых найглыбейшых сацыялістычных ператварэнняў усяго беларускага жыцця як у горадзе, так і ў вёсцы, вынікі якіх ён аплаквае. Тое, што яму здаецца “небяспечным для будучыні нацыянальнай паэзіі”, даўно з’явілася і з’яўляецца асновай для развіцця сучаснай беларускай літаратуры”*[10]. Дарэчы, у кнізе выкарыстоўваюцца й цытаты з італьянскага выданьня, аднак не пазначана, хто зрабіў іх пераклад. Магчыма, сам Давід Фактаровіч, які валодаў італьянскай мовай.

Фларыдзі дэманструе глыбокую абазнанасьць у беларускай гісторыі й культуры й адзначае, што, калі іншаземец хоча зрабіць сур’ёзную працу па літаратуры, культуры, гісторыі іншага народу, то ён павінен паспрабаваць адаптаваць свой мэнталітэт пад мэнталітэт гэтага народу й ацэньваць падзеі з пункту гледжаньня гэтага народу, а не суседніх. Канкрэтна гэта датычыцца й напісаньня геаграфічных назваў. Так, Фларыдзі зьвяртае ўвагу на тое, што Месіна піша Мінск, а

[8] Floridi, U. A. A proposito di un libro sulla letteratura biancorutena // La Civiltà Cattolica. 1953. 21 febbraio. Quaderno 1464. P. 445.

[9] Floridi, U. A. A proposito di un libro sulla letteratura biancorutena.

[10] Фактаровіч, Давід. Беларуская савецкая літаратура за мяжой. С. 85.

не Менск, Гродна замест Гародня й г. д. Фларыдзі падкрэсьлівае, што Месіна практычна замоўчвае пэрыяд праўленьня Ўсяслава Чарадзея, засяроджваючы тым часам увагу на дамінаваньні Ўладзімера й Яраслава над Полацкам, а таксама лічыць, што шматлікія спасылкі й паралелі з рускай літаратурай, якія ў разумнай прапорцыі былі б і дарэчы, адсоўваюць галоўную тэму на другі плян.

Акрамя таго, Фларыдзі адзначае, што Месіна прызнае за савецкім рэжымам заслугу ў тым, што апошні дазволіў беларускаму народу навучаньне на роднай мове, аднак, на ягоную думку, варта памятаць, што гэтую прывілею беларускі народ часткова здабыў сам пасьля падзей 1905 г. Уласна кажучы, Фларыдзі папраўляе вельмі шмат выказваньняў Месіны наконт заслуг савецкай улады ў разьвіцьці беларускай культуры, згадваючы й пра нацдэмаўшчыну, і пра рэформу беларускага правапісу 1933 г., і пра імкненьне ўвесьці як мага больш словаў расейскага паходжаньня ў беларускую мову, і пра нязгоду зь ёй беларускіх навукоўцаў. Цытуючы Месіну, Фларыдзі адзначае: *“Калі, такім чынам, сёньня беларуская мова “вярнулася да сваёй літаратурнай годнасьці” і Беларусь мае сваю “незалежную літаратуру”, заслуга цалкам належыць беларускаму народу, а не “рэвалюцыі саветаў”*[11]...

Акрамя таго, Фларыдзі падкрэсьлівае ролю беларускай эміграцыі як папулярызатара беларускай культуры, прычым ня толькі з пункту гледжаньня гісторыі, але й сучаснасьці. Ён адзначае, што *“дастаткова глянуць на шматлікія часопісы й газэты, якія выходзяць у розных частках сьвету на беларускай мове, каб зразумець значны ўнёсак, які беларуская эміграцыя робіць дзеля свабоды ўсіх, у культуру й нацыянальную справу”*[12]. І пералічвае назвы пэрыядычных выданьняў беларускай эміграцыі, даючы пры гэтым іх пераклад, а таксама называе такіх дзеячаў, як Натальля Арсеньнева (якую Месіна згадвае), Рыгор Крушына, Алесь Салавей, Уладзімер Клішэвіч, Юрка Віцьбіч, Масей Сяднёў, Антон Адамовіч і інш.

Абазнанасьць і дасьведчанасьць Фларыдзі адлюстроўваюць і ягоныя камэнтары, дзе ён згадвае й тэксты Сталіна ў перакладзе Тальяці, і беларускія эмігранцкія выданьні, у прыватнасьці часопіс “Божым шляхам” (артыкул Аляксандра Надсана), а таксама газэты “Бацькаўшчына” й “Беларус”.

Паколькі Фларыдзі сярод іншых эмігранцкіх выданьняў згадвае пэрыёдык “Зьніч”, які выходзіў у Рыме, а ў другім месцы цытуе працы прэлата Пётры Татарыновіча, то, думаю, цалкам дапушчальная думка аб іх знаёмстве й блізкасьці айца Фларыдзі да беларускіх эмігранцкіх

[11] Floridi, U. A. A proposito di un libro sulla letteratura biancorutena. P. 448.

[12] Floridi, U. A. A proposito di un libro sulla letteratura biancorutena. P. 449.

колаў у Італіі. Хоць, як адзначае Лявон Юрэвіч у артыкуле пра мастака Міколу Казака, *“зрэшты, эміграцыя з Беларусі ў Італію ніколі не была масаваю; ехалі сюды Скарынавым шляхам адзінкі: вучыцца. І ў паваенныя гады сітуацыя бадай што не змянілася (калі, натуральна, не лічыць беларусаў у Другім польскім корпусе) — невялікая купка інтэлігентаў, можа з тузін, мо крыху болей”*[13].

Фларыдзі згадвае й такую зьяву як выгнаньніцтва (для якой ён стварае своеасаблівы тэрмін — *fuoruscitismo*), а таксама зьвяртае ўвагу, што нельга замоўчваць *“перасьледаваньні й страты”*, якія панёс беларускі народ і асабліва беларуская інтэлігенцыя. Прычым аўтар называе дакладныя лічбы, гаворачы пра прыкладна мільён васямсот тысячаў ахвяраў камуністычнага рэжыму.

Акрамя таго, Фларыдзі засяроджвае ўвагу й на ролі каталіцкіх сьвятароў у нацыянальным беларускім адраджэньні, якую, на ягоную думку, Месіна ігнаруе. Тым больш што многія аўтары, на якіх спасылаецца Месіна, былі каталікамі паводле веравызнаньня (такія як Багушэвіч, Луцкевіч і г. д.). Многія зь іх, адзначае Фларыдзі, прыйшлі да беларушчыны дзякуючы працы адукаваных каталіцкіх сьвятароў.

Фларыдзі справядліва пытаецца, чаму Месіна, згадваючы пракамуністычных паэтаў Броўку, Александровіча, Клімковіча й *“двух габрэяў”*[14], абыходзіць увагай такіх глыбокіх творцаў, як Уладзімер Хадыка, а таксама хрысьціянскіх аўтараў, такіх як Казімір Сваяк і інш. Ён разьвівае тэму ўзаемаадносінаў паміж канфэсіямі, абараняючы ролю езуітаў на Беларусі.

Напрыканцы аналізу Фларыдзі падкрэсьлівае перадузятасць Месіны. Выпраўляючы недакладнасьці фактычнага характару, сьвятар засяроджвае ўвагу на стаўленьні Янкі Купалы да рэлігіі, спасылаючыся ў тым ліку і на артыкул Пётры Татарыновіча, напісаны да 70-годзьдзя паэта. Фларыдзі адзначае, што ў дачыненьні да савецкай улады Купала ніколі ня меў асаблівага энтузіязму й нават, паводле інфармацыі Вялікай Савецкай Энцыкляпэдыі, не адразу зразумеў сутнасьць Кастрычніцкай рэвалюцыі. *“Арыштаваны на кароткі час ГПУ ў 1931 г. , з пачаткам апошняй сусьветнай вайны быў перавезены савецкімі ўладамі для бясьпечнасьці са свайго дому пад Воршай у Маскву. У гэтым прымусовым выгнаньні ён напісаў свой апошні верш як духоўны запавет, такой непараўнальнай прыгажосьці й гармоніі, што ні адзін беларус, чытаючы яго, не ўстрымаецца ад сьлёз: “Я ад вас далёка”. Аплакаўшы сваё знаходжаньне “пад чужым небам”,*

---

[13] Юрэвіч, Лявон. Мікола Казак — мастак дадатнай і адмоўнай прастораў // Новы Час. 21.07.2014.

[14] Не зусім зразумела, чаму Фларыдзі лічыць габрэем Цішку Гартнага, якога згадвае ў зьвязку са Зьмітраком Бядулем.

*ён сьцвярджае трапнымі мэтафарамі й натхнёнай шырынёй, што нічога ў сьвеце ня можа перашкодзіць яму хаця б думаць і сьпяваць аб сваёй дарагой зямлі...*”[15].

Фларыдзі цытуе апошнія восем радкоў вершу Купалы *“Я ад вас далёка, бацькаўскія гоні...”*, згадваючы, што айцец Татарыновіч задаў пытаньне, ці не хацеў сказаць паэт, калі пісаў *“ўстане цень зь зямлі мой, на крыж абапрэцца”*, што яго магіла павінна быць хрысьціянскай магілай? Застаецца пытаньне, чаму Фларыдзі называе гэты верш апошнім, хоць ён быў напісаны ў 1910 г. Больш за тое, чамусьці й Татарыновіч ніяк не спрабуе патлумачыць гэты момант, хоць гэта можна было б зрабіць у камэнтары.

Артыкул Фларыдзі носіць даволі крытычны характар, асабліва ў адносінах да радкоў, прысьвечаных Янку Купалу. Напрыканцы аўтар адзначае, што калі б Месіна ўлічыў усе гэтыя моманты, то не напісаў бы, што Янка Купала далучыўся да ідэй камуністаў у 1917 г. Гэта сьведчыць пра беларусацэнтрычнасьць пазыцыі Фларыдзі пры разглядзе кнігі Месіны й блізкасьць да беларускіх эміграцкіх колаў.

Кніга Джузэпэ Месіны даступная для беларускіх дасьледчыкаў у Цэнтральнай навуковай бібліятэцы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, і, мяркуючы па надпісе лацінкай на яе тытульным лісьце — *A. Nadsan*, трапіла туды (ці прынамсі ў Беларусь) дзякуючы айцу Аляксандру Надсану, дасьледчыку й перакладчыку. На кнізе таксама стаіць штамп *SIAE* (*Società Italiana degli Autori ed Editori* — Таварыства аўтараў і выдаўцоў Італіі), якое існуе й сёньня. На беларускую мову не перакладалася за выключэньнем асобных цытатаў.

[15] Floridi, U. A. A proposito di un libro sulla letteratura biancorutena. C. 452.

***Юры Грыбоўскі***
*Варшава*

# ВАЙСКОЎЦЫ-БЕЛАРУСЫ Ў ІТАЛІІ ПАДЧАС ДРУГОЙ СУСЬВЕТНАЙ ВАЙНЫ

Да Другой сусьветнай вайны, як і ў першыя яе гады, прысутнасьць беларусаў на Апэнінскай паўвыспе была нешматлікая. Становішча зьмянілася карэнным чынам у пэрыяд баявых дзеяньняў на італьянскай зямлі. Як вядома, увосень 1943 г. у Італіі быў зрынуты рэжым Беніта Мусаліні. Новыя ўлады спынілі супрацоўніцтва з Гітлерам і абвесьцілі вайну Нямеччыне. Аднак нямецкія войскі здолелі ў хуткім часе акупаваць краіну. У гэтым жа годзе італьянская зямля ператварылася ў тэатар баявых дзеяньняў. Ужо напрыканцы 1943 г. на Сіцыліі высадзіліся войскі заходніх альянтаў, а з пачаткам 1944 г. распачаліся баявыя дзеяньні ў кантынэнтальнай часцы Італіі. У складзе 8-й Брытанскай арміі, якая брала ўдзел у баях на італьянскім фронце, дзейнічаў 2-і Польскі корпус пад камандаваньнем генэрала Ўладыслава Андэрса. Сярод польскіх жаўнераў знаходзілася некалькі тысячаў беларусаў. У большасьці гэта былі жыхары Заходняй Беларусі, якія ў 1939—1941 гг. сталіся ахвярамі савецкага рэжыму. У складзе аддзелаў генэрала Андэрса ў 1941—1944 гг. яны прайшлі шлях ад Савецкага Саюзу праз Іран, Ірак, Палестыну й Эгіпет, адкуль трапілі ў Італію. З шэрагу прычынаў дакладную колькасьць вайскоўцаў-беларусаў складана вызначыць. Паводле зьвестак вайсковага камандаваньня, у 1942 г. у складзе польскіх аддзелаў з СССР у Іран было эвакуавана 1397 беларусаў. Аднак афіцыйныя лічбы не заўсёды адпавядалі рэчаіснасьці, паколькі многія жаўнеры не жадалі падаваць свайго сапраўднага паходжаньня.

Падчас знаходжаньня на італьянскай зямлі 2-і корпус складаўся з 3-й дывізіі карпацкіх стральцоў (ДСК), 5-й крэсавай дывізіі пяхоты (КДП), 2-й Варшаўскай танкавай дывізіі (ВТД), агульнакарпусных аддзелаў і базы. На працягу 1944—1945 гг. корпус генэрала Андэрса браў чынны ўдзел у найбуйнейшых баталіях на Апэнінскай паўвыспе. Баявое хрышчэньне польскія жаўнеры атрымалі падчас баёў на р. Сандра (31 студзеня — 14 красавіка 1944 г.). Аднак бясспрэчным сымбалем змаганьня 2-га корпусу сталася бітва за Монтэ-Касіна.

Узвышша Касіна, побач з шэрагам іншых горных вышыняў, было часткай умацаванага раёну нямецкіх абарончых “Лініі Густава” й “Лініі

Гітлера", якія праходзілі ад Адрыятычнага да Тырэнскага мора. Гэтыя лініі перакрывалі далейшае прасоўваньне брытанска-амэрыканскіх войскаў на Рым. 24 сакавіка 1944 г. камандаваньне альянтаў вырашыла накіраваць у раён Монтэ-Касіна 2-і корпус. Першы штурм з удзелам польскіх вайскоўцаў распачаўся 11 траўня. Бітва за ўзвышша Касіна лічыцца адной з найбуйнейшых баталій італьянскай кампаніі. Агульныя страты 2-га корпусу падчас баёў за Монтэ-Касіна і ўзвышша П'едымантэ з 23 красавіка да 25 траўня 1944 г. склалі 4199 палеглых, параненых і зьніклых бязь вестак[1].

Падчас бітвы за Монтэ-Касіна нароўні з палякамі мужна змагаліся прадстаўнікі іншых нацыянальнасьцяў, у тым ліку беларусы. Пра геройскі чын беларускіх вайскоўцаў падчас штурму Касіна сьведчаць шматлікія ўспаміны ўдзельнікаў тае баталіі, як беларусаў, гэтак і палякаў. Ніжэй варта прывесьці некалькі найбольш яскравых прыкладаў. Адным зь першых жаўнераў 2-га корпусу, які загінуў у раёне Касіна быў беларус са зьвязу сувязі 3-й дывізіі карпацкіх стальцоў Анатоль Жак, які палег 25 красавіка 1944 г.

Капітан 4-й роты 3-га батальёну 3-й дывізіі карпацкіх стральцоў Тадэвуш Радваньскі называў беларусаў са сваёй роты "*ўзорнымі жаўнерамі*". Вось якім чынам ён апісваў паводзіны некаторых зь іх падчас першай атакі польскіх жаўнераў на варожыя пазыцыі ў раёне МонтэКасіна ўначы 12 траўня: "*Зьлева й справа, з усіх бакоў чуліся несупынныя сэрыі са "шпандаў", выбухі гранатаў і снарадаў, крык людзкіх галасоў. Пасьля кароткачасовага спакою я пачуў голас Вісьнеўскага: Выбранец, скачы ўправа! За мною! — зароў Выбранец, але яго апярэдзіў Юрка Паранюк, які першым дапаў да замаскаванай варожай пазыцыі. Ён быў беларусам, таму закрычэў пабеларуску: Здавайся!*"[2]. Далей капітан Радваньскі ва ўспамінах апісваў сьмерць аднаго зь беларусаў са свайго зьвязу Браніслава Івашкі з Наваградчыны: "*Івашка і... з усьмехам на твары павінны былі дакладаць мне, што прынесьлі мінамёты й амуніцыю, як раптам адбыліся адзін за другім два выбухі. Снарад разарваўся побач зь імі... Засталіся толькі парэшткі ад гэтых адважных хлапцоў... Мазгі аднаго зь іх апынуліся на галаве Вісьнеўскага, які, з разгубленасьці зьвяртаючыся да мяне, сказаў: Пане капітане, я паранены ў галаву. Так загінулі ўзорныя жаўнеры Бронік Івашка і... у бітве за Монтэ-Касіна, на ўзвышшы 593. Яны змагаліся за свабоду айчыны й за яе аддалі свае жыцьці*"[3].

[1] Partacz, Czesław. Łada, Krzysztof. Polska wobec ukraińskich dążeń niepodległościowych w czasie II wojny światowej. Toruń, 2004. S. 188—190.

[2] Radwański, Tadeusz. Karpatczykami nas zwali. Warszawa, 1978. S. 245.

[3] Radwański, Tadeusz. Karpatczykami nas zwali. S. 249—250.

Згадкі пра дзеяньні вайскоўцаў-беларусаў з-пад Монтэ-Касіна ўтрымлівае таксама праца Мельхіёра Ваньковіча. Аўтар апісвае геройскі ўчынак стральца 4-й роты 1-га батальёну 3-й дывізіі карпацкіх стральцоў Уладзімера Кішулкі, які падчас бітвы адбіўся ад сваіх, трымаў кругавую абарону, але нарэшце быў узяты ў палон. Аднак у той жа дзень ён зьдзейсьніў адважныя ўцёкі й вярнуўся ў свой батальён. Стралец 13-га батальёну "Рысі" 5-й крэсавай пяхотнай дывізіі Рыгор Булак, рызыкуючы жыцьцём, сваім целам праклаў баявым таварышам шлях празь міннае поле. Першапачаткова ён апынуўся ў сьпісе палеглых. Аднак пазьней высьветлілася, што падчас атакі ён страціў вока, руку й нагу, трапіў у палон, аднак здолеў выжыць. Існуюць зьвесткі, што пасьля вайны ён знаходзіўся ў Швайцарыі. І гэта толькі некалькі эпізодаў удзелу беларусаў у той бітве. Падобныя прыклады можна прыводзіць і далей.

У 1965 г. у Мюнхэне выйшла кніга Пятра Сыча "Сьмерць і салаўі. Успаміны афіцэра-беларуса з-пад Монтэ-Касіна". Аўтар у якасьці харужага 18-га батальёну 5КДП браў удзел у бітве за Монтэ-Касіна. Гэтая невялічкая праца сталася першым і адзіным ў беларускай літаратуры мэмуарным творам былога ўдзельніка тае баталіі. Ва ўспамінах Пётра Сыч апісвае гераізм жаўнераў-беларусаў, якія *"шчодра абмылі сваёй крывёй шурпатыя, дзікія горы каля манастыра Монтэ-Касіна"*[4].

Варта адзначыць, што ў бітве за Монтэ-Касіна ў якасьці вайскоўцаў 2-га корпусу ўдзельнічалі такія вядомыя пазьней на эміграцыі беларусы, як знакаміты беларускі сьпявак Пётра Конюх (9-ы лёгкаартылерыйскі полк), Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Вінцэнт Жук-Грышкевіч, сын прэзыдэнта Беларускай Цэнтральнай Рады Радаслава Астроўскага Віктар Астроўскі. Разглядаючы пытаньне ўдзелу беларусаў у бітве за Монтэ-Касіна можна назваць прозьвішчы найменш двух беларусаў, якія ў часе баёў трапілі ў варожы палон. Гаворка тут ідзе пра вышэйзгаданага Рыгора Булака, стральца 13-га батальёну 5КДП, і Валяр'яна Стручко, стальца 2-га батальёну 3ДСК[5].

Трэба падкрэсьліць, што беларускія грамадзкія й камбатанцкія арганізацыі на чужыне заўсёды з пашанай ставіліся да ўдзелу беларусаў у бітве за Монтэ-Касіна. Так, напрыклад, у траўні 1945 г. на першыя ўгодкі бітвы перад помнікам 5-й крэсавай пяхотнай дывізіі на

[4] Сыч, Пётра Сьмерць і салаўі. Успаміны афіцэра-Беларуса спад Монтэ-Касыно. Мюнхэн, 1965. С. 7.

[5] Цэнтральны архіў Камітэту дзяржаўнай бясьпекі (ЦА КДБ) Рэспублікі Беларусь. Спр. 23217-С. Арк. 1—9; Spod Monte Casino na Sybir. Deportacja żołnierzy Polskich Sił Zbrojnych na Zachodzie z Białorusi, Litwy i Ukrainy w 1951 roku. S. 196. Wańkowicz, Melchior. Bitwa o Monte Cassino. Warszawa, 1992. S. 138, 226.

ўзвышшы 575 адпраўляў набажэнства па палеглых сьвятар-беларус. Вось якім чынам пісала пра яго дывізійнае выданьне “На шляху крэсовай”: *“Сёньня, у гадавіну перамогі, ля падмурку крэсовай сярод жаўнераў моліцца й сьвятар-беларус. Напэўна, і ён ня мысьліць крытэрыямі простага вяртаньня да даўняй Рэчы Паспалітай, якая ахоўвала ягоную сталіцу Менск ад усходняга захопніка, як ня думае аб гэтым ніводзін з палякаў, якія моляцца перад крыжам. Але й той сьвятар-беларус, і паляк, стоячы побач, ведаюць, што тыя, хто ляжыць тут, сапраўды загінуў “за вашу і нашу вольнасьць“, палеглі як наказ будучым пакаленьням, каб у барацьбе й супольным змаганьні... шукалі супольнай долі й супольнага ацаленьня”*[6].

1 верасня 1945 г. у часе асьвячэньня могілак Монтэ-Касіна ва ўрачыстасьцях узялі ўдзел і вайскоўцы-беларусы. У траўні 1951 г. прэзыдэнт БНР Мікола Абрамчык у асысьце былых жаўнераў 2-га корпусу наведаў могілкі Монтэ Касіна. Ад імя беларускага ўраду на эміграцыі ён ушанаваў памяць па загінулых земляках. Тым часам каталіцкі сьвятар Пётра Татарыновіч адправіў жалобную імшу па палеглых на беларускай мове. У 1979 г. дэлегацыя беларускіх камбатантаў у ліку трох былых вайскоўцаў 2-га корпусу ўзялі ўдзел у сьвяткаваньні 35-х угодкаў бітвы за Монтэ-Касіна. Падчас ўрачыстасьцяў Хведар Кажаневіч (2-я варшаўская танкавая дывізія), Кастусь Маскалік (5КДП) і Віктар Сянкевіч (3ДСК) усклалі ля помніку вянок са стужкай у нацыянальных бел-чырвона-белых колерах з надпісам: *“Сябрам, якія палеглі, каб жыла Айчына — Беларускія камбатанты”*. Нарэшце ў 1994 г. пры падтрымцы ўраду Рэспублікі Польшча некалькі былых вайскоўцаў 2-га корпусу — камбатантаў зь Беларусі, наведалі Італію, дзе побач з вэтэранамі зь іншых краінаў узялі ўдзел у сьвяткаваньні 60-й гадавіны бітвы. У 2003 г. перад адчыненым помнікам палеглым пад Монтэ-Касіна ў Варшаве побач зь дзяржаўнымі сьцягамі краінаў — удзельнікаў бітвы, у тым ліку Польшчы й Вялікай Брытаніі, лунаў і сьцяг Рэспублікі Беларусь, што сталася чарговым пацьверджаньнем і сымбалічным прызнаньнем з боку сусьветнай супольнасьці чыннага ўдзелу прадстаўнікоў беларускага народу ў той баталіі[7].

Бітва за Монтэ-Касіна была толькі пачаткам баявога шляху 2-га корпусу. Зь ліпеня 1944 г. да красавіка 1945 г. беларускія вайскоўцы

[6] Праўдападобна, гэта быў а. Часлаў Сіповіч альбо нехта зь яго атачэньня. Polak, Bogusław; Polak, Michał. Włoskie nekropolie 2 Korpusu Polskiego 1944—1945 // Bitwa o Monte Cassino. Geneza — przebieg — opinie. III Konferencja Naukowa. Koszalin. 16 maja 2002 r. S. 185.

[7] Depozyty żołnierzy Polskich Sił Zbrojnych na Zachodzie. Warszawa — Toruń, 2003. S. 175.

ўдзельнічалі ў баявых дзеяньнях на Адрыятычным узьбярэжжы, а таксама на поўначы Італіі. У ліпені 1944 г. асабовы склад 2-га Польскага корпусу ўзяў удзел у бітве за Анкону (15—24 ліпеня 1944 г.). Пазьней былі баі на "Лініі готаў" (25 ліпеня — 1 верасня 1944 г.) і ў Апэнінах (10 кастрычніка 1944 г. — 5 студзеня 1945 г.). Свой баявы шлях 2-і корпус скончыў баямі за Балёнію (9—21 красавіка 1945 г.).

Многія беларусы за мужнасьць падчас баявых дзеяньняў былі адзначаныя баявымі ўзнагародамі: Срэбным крыжам заслуг з мячамі, Бронзавым крыжам заслуг з мячамі, Крыжам Храбрых, а таксама Памятным знакам Монтэ-Касіна. Можна гэта прасачыць на прыкладзе 4-га танкавага палка "Скарпіёны" 2-й Варшаўскай танкавай дывізіі. Так, на 11 праваслаўных беларусаў з каманднага швадрону, два былі кавалерамі Крыжа заслуг — падпаручнік Леанід Федарук і шараговец Янка Марцінкевіч. У 1-м швадроне служыла 10 беларусаў праваслаўнага веравызнаньня, зь якіх 5 стральцоў былі ўзнагароджаныя Крыжам Храбрых (Аляксандр Міхасюк, Аляксандр і Мікалай Натынчыкі, Хведар Стрэж, Васіль Шымановіч). Сярод 6 беларусаў 2-га швадрону адзін быў кавалерам Бронзавага крыжа заслуг (Мікалай Шульга), а двое атрымалі Крыж Храбрых — Канстанцін Дэц (загінуў 11 ліпеня 1944 г. пад Анконай) і Герасім Крук[8]. Асаблівай увагі заслугоўваюць беларусы, якія сталі кавалерамі найвышэйшай польскай вайсковай узнагароды – ордэну Віртуці Мілітары. Вядомыя прозьвішчы прынамсі некалькіх кавалераў: падпаручнік 4-га танкавага палка "Скарпіёны" Леанід Федарук (загінуў у няшчасным выпадку 8 жніўня 1944 г. каля Лярэта) і зьвязовы 3-га палка супрацьтанкавай артылерыі Аркадзь Кажаневіч. Аднак відавочна, што былі й іншыя кавалеры. Ускосна сьведчыць пра гэта факт, што ў часе італьянскай кампаніі ордэнам Вітруці Мілітары былі ўзнагароджаны 2 афіцэры і 8 шарагоўцаў праваслаўнага веравызнаньня[9]. На жаль, крыніцы не падаюць нацыянальнасьці й месца нараджэньня кавалераў.

Многія зь беларусаў былі адзначаныя падзякамі польскага камандаваньня. Напрыклад, капрал 16-га батальёну 5КДП Уладзімер Унучак з Валожыншчыны 1 лістапада 1944 г. атрымаў падзяку камандзіра злучэньня за тое, што *"як выдатны стралец забіў аднаго й параніў другога жаўнера непрыяцеля з кулямётнага разьліку "Шпандаў""*[10]. Стралец 4-га батальёну 3ДСК Зьміцер Прыбалавец са Столінскага павету атрымаў ажно дзьве падзякі камандаваньня

[8] Walczące "Skorpiony". Historia pułku 4-go pancernego w fotografii. Londyn, 1975. S. 119—126.

[9] Instytut Polski i Muzeum im. gen. Sikorskiego (IPMS). Sygn.: A.XII.3/33.

[10] Spod Monte Casino na Sybir. Deportacja żołnierzy Polskich Sił Zbrojnych na Zachodzie z Białorusi, Litwy i Ukrainy w 1951 roku. S. 219.

дывізіі — 19 ліпеня 1944 г. *“за мужнасьць і адвагу падчас атакі па нямецкія пазіцыі 7 красавіка 1944 г.”* і 10 жніўня 1944 г. *“за ўзяцьце палонных”*. Стралец 17-га батальёну 5КДП Уладыслаў Кавалевіч з-пад Берасьця апынуўся ў ліку 29 жаўнераў злучэньня, якія ў адпаведнасьці з загадам камандзіра дывізіі ад 15 ліпеня 1944 г. атрымалі падзякі за тое, што ў часе першае фазы бітвы за Анкону *“вызначыліся ў часе акцыі, прадэманстравалі выскія баявыя якасьці, праявілі асабістую адвагу, самаахвярнасьць і разуменьне пастаўленага заданьня”*[11].

Многія вайскоўцы-беларусы палеглі падчас баёў на італьянскай зямлі. Першыя спробы падліку загінулых землякоў былі праведзеныя беларускімі эмігрантамі. У 1951 г. упершыню ў газэце “За Волю” (Парыж) быў надрукаваны “Сьпіс беларусаў палеглых у баю пад Монтэ Касіна”, які ўтрымліваў 264 прозьвішчы, у тым ліку 10 афіцэраў[12]. Гэтая лічба была значна перабольшаная, паколькі ў сьпісе фігуруюць ня толькі беларусы, але й прадстаўнікі іншых нацыянальнасьцяў — жыхары Заходняй Беларусі. Вядома, што ў часе баявых дзеяньняў у Італіі загінулі 863 вайскоўцы 2-га корпусу, якія паходзілі з гэтага рэгіёну[13]. Колькі сярод іх складалі беларусы? З упэўненасьцю можна сьцвердзіць, што дакладны падлік немагчымы. Аднак пэўнае ўяўленьне пра нацыянальнасьць загінулых дае аналіз канфэсійнага складу вайскоўцаў. Адной з прыкметаў беларускасьці жаўнераў была прыналежнасьць да праваслаўнага веравызнаньня. Прытулак на вайсковых могілках у Італіі знайшлі 173 вайскоўцы гэтае канфэсіі. У залежнасьці ад месца пахаваньня сытуацыя выглядае наступным чынам: пад Монтэ-Касіна — 52, у Лярэта — 55, у Балёніі — 56, у Касамасіма — 10. Пераважную большасьць (92 %) палеглых складаюць асобы, якія паходзілі з заходнебеларускіх мясцовасьцяў[14]. Пераносячы гэтыя суадносіны на агульную колькасьць праваслаўных польскіх вайскоўцаў, пахаваных у Італіі, атрымоўваецца, што колькасьць беларусаў сярод загінулых гэтага веравызнаньня магла складаць каля 160 чалавек. Гэтую лічбу можна лічыць мінімальнай падчас падліку беларусаў, палеглых у Італіі, паколькі яна ахоплівае вайскоўцаў толькі адной канфэсіі. Падлік загінулых беларусаў сярод прадстаўнікоў іншых веравызнаньняў надзвычай складаны, калі браць пад увагу акалічнасьць, што нацы-

[11] Spod Monte Casino na Sybir. Deportacja żołnierzy Polskich Sił Zbrojnych na Zachodzie z Białorusi, Litwy i Ukrainy w 1951 roku. S. 100.

[12] Сьпіс беларусаў палеглых у баю за Монтэ Касыно // За Волю. 25 чэрвеня 1951.

[13] Падлік на падставе: Wykaz poległych i zmarłych żołnierzy Polskich Sił Zbrojnych na obczyźnie w latach 1939—1946. Londyn, 1952.

[14] Siemaszko, Zbigniew. W sowieckim osaczeniu 1939—1943. Londyn, 1991. S. 261—262.

янальная самасьвядомасьць жахыроў Заходняй Беларусі тады яшчэ знаходзілася ў стадыі фармаваньня.

Карыстаючыся архіўнымі крыніцамі, магчыма зрабіць калектыўны партрэт беларусаў — вайскоўцаў 2-га Польскага корпусу. Большасьць жаўнераў паходзіла з сялянскіх сем'яў. Многія ня ведалі пісьмовай роднай мовай. У адным зь лістоў жаўнера 2-га корпусу Васіля Харытанюка да а. Часлава Сіповіча можна прачытаць: *"Каханы сябра, калі ласка, не палічыце за абразу, што пішу па-польску, бо хадзіў я ў расейскую школу, але ў размове карыстаўся толькі сваёю моваю. Аднак пісаць на ёй ня дам рады"*[15]. Адначасна многія таксама кепска валодалі польскай мовай. Падпаручнік 5КПД Пятро Сыч адзначаў, што некаторыя жаўнеры з 18-га батальёну размаўлялі з афіцэрамі па-польску, *"калечачы мову Сянькевіча й Жыромскага"*[16]. Многія вайскоўцы мелі цяжкасьці з нацыянальнай ідэнтыфікацыяй. Пасьля вайны былы капрал 5-й крэсавай пяхотнай дывізіі Вячаслаў Гузавяка згадваў: *"У арміі Андэрса былі праваслаўныя і каталікі. Як адны, так і другія нарадзіліся ў Беларусі й размаўлялі на адной беларускай мове. Аднак каталікі лічылі сябе сапраўднымі палякамі й заўсёды ў дакументах запісваліся палякамі"*[17]. Не належылі да вынятку выпадкі, калі жаўнеры ў асабістых дакумэнтах неаднаразова зьмянялі нацыянальнасьць, што можа сьведчыць пра пэўныя ўнутраныя ваганьні.

Пераважная большасьць беларусаў, якія служылі ў 2-м корпусе, належылі да праваслаўнага веравызнаньня. Захавалася значная крыніцавая база, якія дазваляе досыць падрабязна прасачыць іх рэлігійнае жыцьцё. Неабходна адзначыць, што вайсковае кіраўніцтва рупілася пра духоўную апеку над вайскоўцамі ўсіх канфэсій. У складзе 2-га корпусу існавала вайсковае душпастырства праваслаўнага веравызнаньня, якое ў 1945—1946 гг. складалася зь пяці капэлянаў. Напрыканцы вайны на кожных 780 праваслаўных вайскоўцаў даводзілася па адным капэляне. Рэгулярна ладзіліся палявыя набажэнствы, а на вялікія царкоўныя сьвяты праваслаўныя вызваляліся ад заняткаў і атрымоўвалі адпачынак. Адзін з праваслаўных беларусаў, былы кананер 5-га лёгкаартылерыйскага палка Якуб Конан, згадваў на гэты конт: *"У нейкім сэнсе нам было яшчэ лепей, чымсі каталікам. На каталіцкія сьвяты (Каляды, Вялікдзень і інш.) каталікі атрымоўвалі адпачынак. Паколькі яны складалі*

[15] Беларуская бібліятэка імя Ф. Скарыны (ББФС). Зборы біскупа Ч. Сіповіча. Ліст Васіля Харытанюка да а. Ч. Сіповіча ад 16 ліпеня 1946 г.

[16] Сыч, Пётра. Сьмерць і салаўі. С. 19.

[17] Архіў інфармацыйна-аналітычнага цэнтру пры Менскім аблвыканкаме. Спр. 2396. Арк 31.

*пераважную большасьць, то й мы — праваслаўныя, у гэтыя часы вызваляліся ад вайсковых заняткаў. На праваслаўныя сьвяты адпачывалі толькі жаўнеры, якія адносіліся да гэтага веравызнаньня, а каталікі працягвалі займацца паўсядзённай жаўнерскай працай”*[18].

Вайскоўцы адзначаліся досыць высокім узроўнем рэлігійнасьці. Гэта можна тлумачыць тым, што ва ўмовах вайны й паваеннай няпэўнасьці далейшага лёсу рэлігія выконвала ролю своеасаблівай псыхалягічнай тэрапіі. Адзін з жаўнераў гэтак апісваў свае ўражаньні ад удзелу ў нядзельнай службе ў 2-й танкавай дывізіі, якая адбылася ў лістападзе 1945 г.: *“Ідучы побач каля камэндатуры, я пачуў сьпевы царкоўнае песьні мяшанага хору. Калі азірнуўся навокал, пабачыў таблічку з надпісам Праваслаўная Капліца. Тады я зарыентаваўся, што тут адбываецца праваслаўнае набажэнства. У адно імгненьне гэны сьпеў прыгадаў мне маю парафіяльную царкву на Наваградчыне. Аўтаматычна накіраваў свае крокі ў бок капліцы, якая месьцілася на другім паверсе. Адчыніў дзьверы й пабачыў капліцу, перапоўненую аж па самыя берагі вайскоўцамі, якія кленчылі і ўважліва слухалі Эвангельле, якое чытаў капэлян а. Сэрафім Краскоўскі, які некалі прымаў ад мяне прысягу ў пустыні ў Іраку”*[19].

Адным з найбольш маляўнічых момантаў рэлігійнага жыцьця вайскоўцаў быў удзел у сьвяткаваньні Ярдана (Вадохрышча). У 1946 г. жаўнеры ўпершыню змаглі ў неваенных умовах сьвяткаваць Вялікдзень. Ва ўсіх буйных аддзелах была адпраўленая служба з удзелам капэлянаў і жаўнераў, а таксама вайсковага аркестру й прадстаўнікоў камандаваньня. Сярод жаўнераў панаваў узьнёслы і ўрачысты настрой. Варта зацытаваць аднаго з удзельнікаў велікоднага набажэнства на італьянскай зямлі сапёра Мікалая Махнача, які паходзіў з Valожыну: *“На Вялікдзень на малітву ў Імолі сабралася значная група праваслаўных жаўнераў, якія паходзілі з усіх адзінкаў 2-га корпусу, прысутнічалі вайскоўцы ўсіх афіцэрскіх і падафіэцрскіх рангаў — ад шарагоўцаў да палкоўнікаў уключна... [...] Набажэнства адпраўлялі тры праваслаўныя капэляны. Удзельнічаў таксама вайсковы аркестр, які выканаў некалькі царкоўных гімнаў. Перад набажэнствам адзін з капэлянаў зьвярнуўся да жаўнераў з заклікам, каб тыя, хто некалі сьпявалі ў царкоўных хорах падышлі да аўтара і дапамаглі дзяку ў сьпяваньні. І такім чынам знайшлося каля трыццаці жаўнераў. На Велікоднае набажэнства прыйшло*

[18] Беларусы ў бітве за Монтэ Касіна. Артыкулы, дакумэнты. Менск, 2004. С. 117—118.

[19] W kaplicy prawosławnej pancerniaków // Polski Żołnierz Prawosławny. 1945. № 2. S. 5.

*столькі жаўнераў, што можна было зь іх сфармаваць праваслаўны полк*"[20].

Дзякуючы заканчэньню баявых дзеяньняў на Апэнінскай паўвысьпе значна палепшыліся ўмовы функцыянаваньня душпастырскай службы. Замест часовых палявых капліцаў пачалі ладзіцца сталыя сьвятыні. Так, вядома, што вельмі прыгожая капліца існавала ў 2-й танкавай дывізіі, якая мела маляўніча аздоблены іканастас. Акрамя таго, набажэнствы для вайскоўцаў адбываліся ў мясцовых цэрквах. У прыватнасьці, жаўнеры карысталіся грэцкімі цэрквамі ў Рыме, Нэапалі й Вэнэцыі (пабудавана ў 1539 г.), а таксама расейскай царквой у Бары. Як і польскія вайскоўцы часам удзельнічалі ў набажэнствах, таксама на службу, якую адпраўлялі вайсковыя капэляны 2-га корпусу, завітвалі жаўнеры з іншых армій: брытанскай, грэцкай, канадыйскай і югаслаўскай.

У чэрвені 1945 г. жаўнераў у Італіі наведаў япіскап Мацей (Сямяшка), які прыехаў з Ангельшчыны. У лютым 1946 г. аддзелы 2-га корпусу інспэктаваў япіскап Сава (Саветаў), праваслаўны вайсковы япіскап Польскіх узброеных сілаў на Захадзе. Неабходна падкрэсьліць, што абодва ярархі рабілі ўсё магчымае, каб палегчыць долю жаўнераў і іх сваякоў, якія апынуліся далёка ад бацькаўшчыны. Падчас візыту ў Італію япіскап Сава адзначыў царкоўнымі ўзнагародамі й годнасьцямі капэлянаў і жаўнераў, якія самаахвярна працавалі на карысьць вайсковай душпастырскай службы. Вайсковае кіраўніцтва адзначала, што візыт галоўнага вайсковага капэляна выклікаў задавальненьне сярод праваслаўных жаўнераў.

Важным элемэнтам рэлігійнага жыцьця вайскоўцаў быў удзел у пілігрымках. Шэф вайсковага душпастырства праваслаўнага веравызнаньня ў рапарце да камандаваньня адзначаў: "*Жаўнер вельмі далікатны й чулы на розныя справы, зьвязаныя з рэлігіяй. Жаўнеры просяць, каб падчас Калядных сьвятаў зладзіць для іх экскурсіі ў Рым альбо Флярэнцыю, дзе знаходзяцца праваслаўныя сьвятыні*"[21]. У красавіку 1946 г. адбылася пілігрымка вайскоўцаў да рэліквій сьв. Мікалая Цудатворцы, якія знаходзяцца ў Бары. Апрача таго, жаўнеры праваслаўнага веравызнаньня разам з каталікамі ўдзельнічалі ў выездах у Ватыкан й іншыя месцы.

У 1945 г. намаганьнямі вайсковага душпастырства ў Рыме быў выдадзены "Праваслаўны малітоўнік" для жаўнераў, які ўтрымліваў

---

[20] Mochnacz, Mikołaj. List do redakcji // Polski Żołnierz Prawosławny. 2013. № 3. S. 7.

[21] IPMS. Sygn.: A.XII.28/17c. Sprawozdanie z czynności duszpasterskiej kapelana jednostek pozadywizyjnych i szefa duszpasterstwa prawosławnego 2 Korpusu za czas od 1 XI do 30.XI.1945 r.

малітвы на царкоўна-славянскай і польскай мовах. У пэрыяд ад ліспадапа 1945 да лістапада 1946 г. у 2-м корпусе выходзіў штомесячны ілюстраваны часопіс "Польскі праваслаўны жаўнер" (*"Polski Żołnierz Prawosławny"*). Акрамя артыкулаў рэлігійнага зьместу на бачынах гэтага часопісу друкаваліся матэрыялы з гісторыі й сучаснага стану Праваслаўнай царквы. Выданьне карысталася значным посьпехам сярод вайскоўцаў, якія нават дасылалі ў рэдакцыю ўласныя допісы. Многія жаўнеры складалі грашовыя ахвяраваньні на ўтрыманьне часопісу. Апрача іншага, выданьне давала магчымасьць пошуку сваякоў і знаёмых, зь якімі падчас вайны быў страчаны кантакт. У той час, калі жаўнеры 2-га корпусу кватараваліся ў Італіі, іх родныя былі расьцярушаныя па розных кутках сьвету, у тым ліку ў Нямеччыне, на Блізкім Усходзе й ва Усходняй Афрыцы. Часопіс распаўсюджваўся сярод выгнанцаў з Польшчы, якія знаходзіліся ў гэтых краінах, таму існавала магчымасьць аднаўленьня страчаных сувязяў[22].

Вайсковыя капэляны апекаваліся таксама цывільнымі ўцекачамі, якія апынуліся ў Італіі. Па поўдні краіны, у мясцовасьцях Барлета й Трані, месьціліся лягеры для перамешчаных асобаў, у якіх знаходзіліся жыхары даваеннай польскай дзяржавы, пераважна жанчыны й дзеці. Частка іх паходзіла з Заходняй Беларусі. Духоўную апеку над праваслаўнымі жыхарамі абодвух лягераў выконваў а. Мікалай Краўчанка, які, праўдападобна, паходзіў зь Віленшчыны. Сьвятару дапамагалі вайсковыя капэляны 2-га корпусу. У лютым 1946 г. выгнанцаў наведаў генэрал Уладыслаў Андэрс. Пры дапамозе вайсковага камандаваньня ў сакавіку 1946 г. у Барлеце была адчыненая капліца Маці Божай Пачаеўскай. Лягеры праіснавалі да жніўня 1946 г., пасьля чаго іх жыхары былі перавезеныя ў Вялікабрытанію[23].

Аналіз архіўных крыніцаў дазваляе сьцьвярджаць, што менавіта беларусы складалі асноўную масу праваслаўных вайскоўцаў у 2-м корпусе. На паўсядзённым узроўні жаўнеры, безумоўна, адчувалі сваю адметнасьць ад сваіх калегаў каталіцкага веравызнаньня й польскай нацыянальнасьці, але беларускай ідэяй большасьць зь іх таксама не была прасякнута. Многія разважалі наконт свайго паходжаньня ў катэгорыях *"тутэйшасьці"*, а ва ўмовах ваеннай рэчаіснасьці найчасьцей дэклaравалі прыналежнасьць да польскай нацыянальнасьці. Толькі пасьля вайны й дэмабілізацыі многія зь іх далучыліся да беларускага руху. Вайсковыя капэляны займалі дзяржаўніцкую па-

[22] Grzybowski, Jerzy. W służbie Rzeczypospolitej. Duszpasterstwo wojskowe wyznania prawosławnego w Wojsku Polskim w latach 1919—1949. Warszawa, 2016. S. 359—381.

[23] Grzybowski, Jerzy. W służbie Rzeczypospolitej. Duszpasterstwo wojskowe wyznania prawosławnego w Wojsku Polskim w latach 1919—1949. S. 381—384.

зыцыю і выхоўвалі жаўнераў у духу прыналежнасьці да *“польскага праваслаўя”*. У гэтым жа кірунку праводзіла сваю дзейнасьць Кола (Брацтва) польскіх грамадзянаў праваслаўнага веравызнаньня, да якой належыла нямала беларусаў-вайскоўцаў 2-га корпусу й іх сваякоў. На бачынах часопісу “Польскі праваслаўны жаўнер” не ўздымалася нацыянальная тэматыка, а клаўся націск на рэлігійны бок справы. У першую чаргу акцэнтавалася ўвага на польскай дзяржаўнасьці й ейнай шчыльнай сувязі з грамадзянамі праваслаўнага веравызнаньня.

У пазьнейшы час беларускія дзеячы рабілі спробы дамагчыся ад вайсковага камандаваньня прыняцьця ў войска капэлянаў-беларусаў і асьветных афіцэраў, якія б праводзілі адпаведную працу сярод суродзічаў. Аднак якія-колечы спробы ўвядзеньня элемэнтаў нацыянальнай дзейнасьці ўспрымаліся вайсковымі ўладамі як захады, якія мелі на мэце палітызаваньне войска. У нататцы кіраўніка Аддзелу некаталіцкіх веравызнаньняў Польскага корпусу прыстасаваньня й разьмяшчэньня чытаем: *“Улік жаданьняў беларусаў у рэлігійным пытаньні быў бы ствараньнем штучных рухаў і працягам, можа ў меншай ступені, юзэфскай палітыкі*[24]*... Прызначэньне польскіх грамадзянаў беларускай ці ўкраінскай нацыянальнасьці капэлянамі праваслаўнага веравызнаньня не належыць да кампэтэнцый кіраўніка праваслаўнага душпастырства. Паклíканьне польскіх афіцэраў беларускай нацыянальнасьці ў склад кіраўніцтва Аддзелу некаталіцкіх веравызнаньняў лічу неабгрунтаваным й ня бачу для іх заданьня. У выпадку ўлічэньня вышэйзгаданых жаданьняў беларусаў трэба было б таксама ўлічыць жаданьні ўкраінцаў, армянаў, татараў і шмат іншых... Нашым заданьнем ёсьць пільнаваньне, каб Праваслаўная царква... не была абшарам палітычных гульняў. Гэта непажадана з польскага гледзішча, але таксама і ў сувязі з ангельцамі. Дзейнасьць украінскіх і беларускіх кіраўнікоў для жаўнерскіх масаў можа на пэўным этапе прынесьці далёкасяжныя наступствы, а тым больш ў дачыненьні да тых, якія знаходзяцца за лініяй Керзана. Трэба асьцерагацца, што ў пэўны момант Расея пачне мець прэтэнзіі да гэтых асобаў”*[25]. Стаўленьне камандаваньня было цалкам зразумелым і натуральным, паколькі польскія ўлады імкнуліся кансалідаваць вакол ідэі адраджэньня Польшчы ўсіх вайскоўцаў незалежна ад канфэсіі. Разам з тым не заба-

[24] Маецца на ўвазе валынскі ваявода Генрык Юзэфскі, які ў міжваенны час праводзіў палітыку пэўных саступак на карысьць украінцаў, мэтай якіх было адцягненьне іх ад антыдзяржаўнай дзейнасьці й фармаваньня ў іх прапольскіх настрояў.

[25] IPMS. Sygn.: KOL. 465/35. Notatka kierownika Zespołu Kapelanów Wyznań Niekatolickich PKPR w sprawie obywateli polskich wyznania prawosławnego. 20 V 1947.

ранялася ўжываньне роднай мовы жаўнераў у рэлігійным жыцьці (казані, споведзь, катэхізацыя). У практыцы рэлігійныя паслугі выконваліся на роднай мове кожнага жаўнера, а казані адбываліся на польскай мове, паколькі яна была аднолькава зразумела для ўсіх вайскоўцаў[26].

Сярод 5 праваслаўных вайсковых капелянаў 2-га корпусу 4 паходзілі зь Беларусі. Былі гэта: а. Усевалад Яськоў (шэф праваслаўнага вайсковага душпастырства 2-га корпусу), а. Уладзімер Пятручык (капэлян 5КДП), а. Сэрафім Краскоўскі (капэлян 2ВТД), а. Мікалай Макарэвіч (капэлян 3ДСК). Падчас службы ў войску аніводзін зь іх не праяўляў зацікаўленьня нацыянальнай справай. Аднак пасьля дэмабілізацыі некаторыя сьвятары падтрымоўвалі сувязі з суродзічамі й нават удзельнічалі ў беларускім рэлігійным жыцьці[27]. Акрамя капэлянаў у склад дышпастырскай службы ўваходзіў дапаможны пэрсанал, які складаўся з 12 асобаў (кіроўцы, псалмісты, памочнікі). Сярод іх знаходзіўся Алег Мірановіч, які пасьля вайны быў адным са сьвятароў Беларускай праваслаўнай царквы (парафіі ў Манчэстары й Чыкага) у юрысдыкцыі Канстанцінопальскага патрыярхату. Падчас службы ў 2-м корпусе ён выконваў функцыі псалміста 2-й танкавай дывізіі[28].

Вайсковыя капэляны мелі абавязак рабіць штомесячныя рапарты ў сувязі са сваёй дзейнасьцю. Гэтыя справаздачы зьяўляюцца цікавай крыніцай ведаў пра настроі, якія панавалі сярод жаўнераў. У большасьці выпадкаў вайсковыя сьвятары адзначалі сум і трывогу, што поўнілі жаўнерскія сэрцы. Напрыклад, у справаздачы (студзень 1946 г.) шэфа праваслаўнага душпастырства корпуса а. Усевалада Яськова чытаем між іншым: “*Няпэўнасьць у заўтрашнім дні надта непакоіць і дэнэрвуе жаўнера. Жаўнер вельмі цікавіцца ўсялякімі навінамі наконт будучыні і сёньняшнюю сытуацыю разумее*”[29]. З часам нічога істотна не зьмянілася, пра што сьведчыць чарговы рапарт: “*Я заўважыў, што*

[26] IPMS. Sygn.: A. 9.V / 38.Odpis p. o. Wojskowego Biskupa Prawosławnego Biskupa Sawy do redaktora pisma “Ukraiński Hołos” z dnia 23 marca 1944 r.

[27] У першыя паваенныя гады а. С. Красоўскі і а. М. Макарэвіч уступілі ў Згуртаваньне беларусаў у Вялікай Брытаніі. М. Макарэвіч у паваенны час жыў у ЗША й быў сьвятаром БАПЦ. Тым часам а. У. Яськоў (у манастве — архімандрыт Васарыён), які таксама пасяліўся ў ЗША, у 1960-я гг. разглядаўся некаторымі тамтэйшымі праваслаўнымі беларусамі як адзін з патэнцыйных кандыдатаў на ярарха беларускай эміграцыйнай япархіі ў юрысдыкцыі Канстатынопальскага патрыярхату.

[28] IMPS. Sygn.: A.XI.13/1. Wykaz imienny personelu pomocniczego kapelanów prawosławnych w 2 Korpusie. 8 V 1946.

[29] IPMS. Sygn.: A.XII. 28/17c. Sprawozdanie z czynności duszpasterskiej kapelana jednostek pozadywizyjnych i szefa duszpasterstwa prawosławnego 2 Korpusu ks. kan. Jeśkowa Wsiewołoda za miesiąc styczeń 1946 r.

*ў сувязі зь няпэўнай сытуацыяй прыйпаў псыхічны стан часткі жаўнераў. Асабліва іх непакоіць нявызначанасьць заўтрашняга дня й розныя чуткі адносна будучыні 2-га корпусу. Жаўнер добра ўсьведамляе непрымальнасьць вяртаньня на радзіму, нягледзячы на гэта, пэўны адсотак (нязначны) выказаўся за выезд у Польшчу. Гаворка ідзе пра адзінкавыя выпадкі, якія матывуюцца незадаволенасьцю камандзірамі ды асабістымі праблемамі*"[30].

Са справаздачы капэляна 5-КДП а. Мікалая Макарэвіча вынікае наступнае: "*Жаўнеры 5КДП не выказваюць свайго жаданьня вяртацца на радзіму, паколькі большасьць праваслаўных паходзіць з усходніх крэсаў, якія яшчэ ў 1939—1941 гг. здолелі пазнаёміцца з раскошаю жыцьця ў савецкім раі*"[31]. Як бачна, большасьць вайскоўцаў апынуліся на жыцьцёвых ростанях і перажывалі ўнутраны крызыс у сувязі зь няпэўнай будучыняй.

Разглядаючы побыт беларусаў у 2-м корпусе ў Італіі, варта спыніцца на пытаньні адносінаў паміж вайскоўцамі-беларусамі й іх польскімі сябрамі. Трэба адзначыць, што вайсковае камандаваньне намагалася трактаваць усіх жаўнераў як раўнапраўных незалежна ад нацыянальнай альбо канфэсійнай прыналежнасьці. Тым ня менш ёсьць усе падставы меркаваць, што на ніжэйшым узроўні ў аддзелах 2-га корпусу здараліся выпадкі нацыянальнай неталерантнасьці з боку часткі афіцэраў і шарагоўцаў у адносінах да саслужыўцаў няпольскай нацыянальнасьці. На думку Міністэрства нацыянальнай абароны, быў гэта ў значнай ступені вынік перажытых у СССР пакутаў і крыўдаў, знаходжаньня працяглы час за мяжою ў экстрэмальных умовах. Выпадкі неталерантнасьці ў дачыненьні да нацыянальных меншасьцяў былі распаўсюджаныя сярод вайскоўцаў зь нізкім узроўнем культуры й выразным палітычным нігілізмам[32]. Можна прывесьці некалькі прыкладаў гэткага кшталту. Жаўнер Васіль Харытанюк у лісьце ад 16 ліпеня 1946 г. пісаў да знаёмага: "*Ня ведаем, што зараз рабіць і куды ехаць, бо нам ў гэтай арміі далей няможна знаходзіцца, паколькі праваслаўных трактуюць блага... горлам выходзіць нам гэтае войска*"[33]. Браты Янка і Хведар Мазуры

---

[30] IPMS. Sygn.: A.XII. 28/17c. Sprawozdanie z czynności duszpasterskiej kapelana jednostek pozadywizyjnych i szefa duszpasterstwa prawosławnego 2 Korpusu ks. kan. Jeśkowa Wsiewołoda za miesiąc marzec 1946 r.

[31] IPMS. Sygn.: A.XII. 28/17c. Sprawozdanie z czynności duszpasterskiej kapelana 5 KDP 2 Korpusu ks. kan. Makorewicza Mikołaja za miesiąc grudzień 1946 r.

[32] IPMS. Sygn.: A.XII. 3/22. Referat na odprawę Pana Ministra Obrony Narodowej w dniu 30 marca 1944 r. Zagadnienie narodowościowe i wyznaniowe w wojsku.

[33] ББФС. Зборы біскупа Ч. Сіповіча, Ліст Васіля Харытанюка да а. Ч. Сіповіча ад 16 ліпеня 1946 г.

з 3-й роты 17-га батальёну 5КДП наракалі на капітана Ўрбановіча, які празь іхную беларускасьць *“не даваў ім жыцьця”*. Капрал гэтага ж злучэньня Вячаслаў Гузавяка ўзгадваў, што ў войску яго абражалі *“кацапам”* і *“камуністам”*[34]. Трэба, аднак, заўважыць, што ў 2-м корпусе зьява непаразуменьняў паміж жаўнерамі на нацыянальнай глебе не набыла шырокага распаўсюду. Вайскоўцы 2-га корпуса бралі ўдзел у баявых дзеяньнях і змаганьне за жыццё ў адзіным шэрагу было мацнейшым за пачуцьцё адрознасьці паводле нацыянальнасьці альбо веравызнаньня. Акрамя таго, вайскоўцаў 2-га корпусу ядналі агульныя пакуты, празь якія яны разам прайшлі ў савецкай няволі.

Трэба заўважыць, што падчас баявых дзеяньняў у Італіі вайскоўцы 2-га корпусу былі не адзінымі беларускімі жаўнерамі, якія тады апынуліся на італьянскай зямлі. Існуюць зьвесткі пра прысутнасьць у той час вайскоўцаў-беларусаў на нямецкім баку. 9 чэрвеня 1944 г. камандаваньне Арміі Краёвай інфармавала, што немцы выслалі ў Італію групу афіцэраў-беларусаў з мэтай іхнага пранікненьня ў 2-гі корпус і ажыцьцяўленьня ў яго шэрагах варожай агітацыі[35]. Пацьверджаньне гэтага факту можна адшукаць у савецкіх архівах, а таксама ў зборах беларускіх эмігрантаў. Кастусь Мерляк ва ўспамінах згадваў, што ў 1944 г. ён апынуўся ў Італіі й атрымаў загад перайсьці лінію фронту ды ўступіць у 2-гі корпус. Ён меў падробленыя дакумэнты на імя Конрада Мацкевіча, паляка з Наваградку, прымусова вывезенага гітлераўцамі на працу ў Нямеччыну. Пасьля вайны Мерляк пісаў, што атрымаў ад нямецкіх афіцэраў наступнае заданьне: *“Вы будзеце перакінутыя на той бок фронту з даручэньнем пранікнуць у шэрагі арміі генэрала Андэрса, а перадусім у дывізію “Белавежа”* (праўдападобна, гаворка ідзе пра 5КДП. — ***Ю. Г.***)*, якая пераважна складаецца зь беларусаў. Там будзеце нагаварваць беларусаў, каб яны пераходзілі са зброяй на нямецкі бок. Яны будуць далучаныя да існуючых беларускіх фармаваньняў у Нямеччыне, каб разам змагацца за належнае месца для Беларусі ў новай Эўропе”*[36]. Аўтар тых радкоў пасьля пераходу лініі фронту быў затрыманы амэрыканскімі вайскоўцамі, і яму не ўдалося патрапіць у шэрагі 2-га корпусу.

Цікавыя зьвесткі наконт прысутнасьці на італьянскім фронце беларусаў у складзе нямецкіх войскаў падаў на допыце адзін зь беларусаў — афіцэраў нямецкай арміі Ўсевалад Родзька. Ён засьведчыў, што з восені 1944 г. на італьянскім фронце дзейнічаў

[34] Архіў інфармацыйна-аналітычнага цэнтру пры Менскім аблвыканкаме. Спр. 2393. Арк. 31.

[35] IPMS. Sygn.: A. XII. 1 / 48 d-f. Depesza — szyfr gen. K. Sosnkowskiego do gen. W. Andersa z 12 czerwca 1944 r.

[36] Мерляк, Кастусь. Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі. Мінск, 1994. С. 38.

аддзел беларускіх дывэрсантаў на чале зь Юрыем Вежанам. Верагодна, гэтае фармаваньне ўваходзіла ў склад аддзелу прапаганды "Ўсход". Юры Вежан быў агентам Абвэру й на тэрыторыі Трэцяга рэйху ажыцьцяўляў вярбоўку ў сваё фармаваньне беларусаў — былых польскіх ваеннапалонных з 1939 г. Беларускія эмігранты дамагаліся ад немцаў стварэньня на італьянскім фронце асобнага фармаваньня, якое магло б заняць прамежак фронту насупраць пазыцый 2-га корпусу. Такім чынам яны спадзяваліся выклікаць пераход на іх бок польскіх вайскоўцаў-беларусаў. Аднак немцы не пагадзіліся з гэтымі меркаваньнямі, таму заданьнем аддзелу было ажыцьцяўленне закіду сваіх людзей празь лінію фронту з мэтай уступленьня ў якасьці добраахвотнікаў у 2-і корпус. Агенты Абвэру мусілі праводзіць падрыўную працу сярод вайскоўцаў-беларусаў, намаўляючы іх да пераходу на бок немцаў. З гэтай мэтай фармаваліся групы па 10—12 асобаў, якія паступова засылаліся на бок альянтаў[37]. У распараджэньні беларускіх дывэрсантаў была радыёстанцыя[38]. Юры Вежан у студзені 1945 г., усьведамляючы агульную палітычную сытуацыю ў сьвеце, пачаў шукаць шляхі ўсталяваньня кантакту з заходнімі хаўрусьнікамі з мэтай арганізацыйнага пераходу на іх бок[39].

Акрамя інфармацыі пра аддзел Юрыя Вежана, існуюць непацьверджаная зьвесткі наконт беларускага батальёну (каля 1 тыс.), які ў 1943 г. нібыта быў сфармаваны эмігрантамі ў Нямеччыне й накіраваны на італьянскі фронт[40]. Паводле іншых крыніцаў, беларуская адзінка фармавалася ад 1943 г. на тэрыторыі Аўстрыі[41]. Таксама маецца

[37] Беларускае асобнае войска ў Італіі // Дакуманты і факты. 1952. № 1. С. 1—2.

[38] ЦА КДБ Рэспублікі Беларусь. Допыты Усевалада Розькі. Спр. 16652. С. 116—117.

[39] ЦА КДБ Рэспублікі Беларусь. Допыты Усевалада Розькі. Спр. 16652. С. 116—117.

[40] ЦА КДБ Рэспублікі Беларусь. Допыты Баляслава Барткевіча ад 12 чэрвеня 1945 г. Спр. 101.

[41] Паводле адных зьвестак, гэта было вайсковае фармаваньне, створанае беларускімі эмігрантамі ў 1943 г. у Нямеччыне. Паводле іншых — беларускія вайсковыя альбо вайскова-паліцыйныя фармаваньні, якія былі перакінутыя зь Беларусі. Беларускі дасьледчык А. Салаўёў падае, што на прамежку нямецкай абароны ў раёне Монтэ-Касіна дзейнічала некалькі батальёнаў Беларускай краёвай абароны й "1-я дывізія штурмовай брыгады СС "Беларусь", вайскоўцы якой адмовіліся ваяваць, калі даведаліся, што ў складзе 2-га корпусу змагаюцца іх суайчыньнікі. Знаходжаньне ў Італіі ў гэты час аддзелаў Беларускай краёвай абароны, перакінутых зь Беларусі, падаецца цалкам неверагодным, бо на момант наступу альянтаў на "Лінію Густава" яны яшчэ не былі сфармаваныя. Штурмавая грэнадэрская брыгада СС "Беларусь" увогуле была сфармаваная толькі ў студзені

патрабуючая ўдакладненьня інфармацыя адносна таго, што на 16 снежня 1944 г. гэтая адзінка налічвала 4400 чалавек[42]. Аднак ні нямецкія, ні польскія крыніцы не пацьвярджаюць факту прысутнасьці буйнога беларускага фармаваньня на італьянскім фронце. Вядома, што ў Італіі ад верасня 1943 г. да траўня 1945 г. дзейнічала некалькі ўсходніх фармаваньняў: грузінскіх, азербайджанскіх, туркестанскіх, літоўскіх, славацкіх і расейскіх. Аднак няма інфармацыі пра беларускія аддзелы[43].

Такім чынам, знаходжаньне нямецкай дывэрсійнай адзінкі ў Італіі, якая складалася зь беларусаў, здаецца вельмі праўдападобным. Складана, аднак, адказаць на пытаньне, ці ўдалося каму-небудзь зь беларускіх дывэрсантаў Абвэру пранікнуць у польскія фармаваньні? Праз адсутнасьць адпаведных архіўных крыніцаў гэтыя пытаньні застануцца без адказу. На працягу 1944—1945 гг. шэрагі 2-га корпусу папаўняліся за кошт тысячаў добраахвотнікаў зь ліку былых нямецкіх ваеннапалонных і цывільных польскіх грамадзянаў. Кожнага з добраахвотнікаў пільна спраўджвала польская контрвыведка, таму шанец трапляньня ненадзейных элемэнтаў быў досыць невялікі. З архіўных дакумэнтаў вынікае, што нямецкая прапаганда ня мела плёну ў сваёй дзейнасьці, скіраванай на польскіх вайскоўцаў, у тым ліку сярод беларусаў. Нават неляяльныя да польскай дзяржавы беларусы і ўкраінцы добра разумелі, што шалі вайны пераважылі не на карысьць Нямеччыны, таму ня бачылі сэнсу падтрымліваць яе.

Нягледзячы на гэта, супрацоўнікі пранямецкай пальскамоўнай радыёстанцыі “Ванда” паведамлялі, што ў 1944 г. на бок немцаў перайшлі чатыры дэзэртыры з 2-га корпусу, сярод якіх былі два беларусы. Немцы спрабавалі выкарыстаць іх у сваёй прапагандзе, таму прадставілі слова перад мікрафонам вышэйзгаданай радыёстанцыі з прапановай звароту да астатніх жаўнераў 2-га корпусу з заклікам паўтарыць іх учынак. Аднак з прычыны кепскага валоданьня польскай мовай не было магчымасьці выкарыстаньня іх у радыёпрапагандзе[44].

---

1945 г. у Баварыі. Вядома, што ў Італіі ў 1944 г. знаходзілася 3-я рота 13-га беларускага батальёну СС пры СД. Аднак удзел гэтай адзінкі пад Монтэ-Касіна таксама падаецца немагчымым, паколькі асабовы яе склад быў раскватараваны на поўначы краіны ў Трыесьце.

[42] Гелагаеў, Алесь. Беларускія нацыянальныя вайсковыя фармацыі ў часе Другой сусьветнай вайны. Мінск, 2002. С. 54.

[43] Verbande und Truppen der deutschen Wehrmacht und Waffen-SS im Zweiten Weltkrieg 1939—1945. Siebenter Band: Die Landstreitkrafte 131 — 200. Osnabruck, 1979. S. 36—37.

[44] Jaracz, Andrzej. Polacy w bitwie o Monte Cassino i propaganda niemiecka // Bitwa o Monte Cassino 1944. Geneza — przebieg — opinie. III Konferencja Naukowa. Koszalin, 16 maja 2002 r. 2003. S. 155.

На жаль, невядомымі застаюцца прозьвішчы гэных жаўнераў. Нельга таксама вызначыць матывы іхнай дэзэрцыі. З архіўных крыніцаў вынікае, што выпадкі дэзэрцыі сярод беларусаў у часе баявых дзеяньняў у Італіі здараліся вельмі рэдка. Падобная ацэнка сустракаецца і ў польскай вайсковай прэсе. Так, падчас асвячэньня вайсковых могілак Монтэ-Касіна 1 верасня 1945 г. прысутны на ўрачыстасьці карэспандэнт Польскай тэлеграфічнай агенцыі Зьдзіслаў Баў пісаў у "Польскім дзёньніку й дзёньніку жаўнера" наступнае: "*Над магіламі жаўнераў праваслаўнага й грэка-каталіцкага веравызнаньня крыжы з падвойнымі папярочкамі. Гэтыя магілы гэта адказ тых жаўнераў на нямецкую прапаганду, якая намагалася намаўляць украінцаў і беларусаў да дэзэрцыі*"[45].

Нягледзячы на вышэйзгаданае, дэзэртырствы ўсё ж здараліся. Праўда, яны ня мелі нічога супольнага зь нямецкай прапагандай. З аналізу сьпісаў дэзэртыраў вынікае, што памер гэтай зьявы ды ейныя прычыны не залежалі ад нацыянальнасьці. Сярод жаўнераў, якія пакінулі свае аддзелы, знаходзіліся людзі розных нацыянальных групаў[46]. Аднак можна адзначыць, што ў дачыненьні да часткі беларусаў дэзэрцыя мела свае асаблівасьці. Савецкі Саюз праз свае дыпляматычныя й вайсковыя прадстаўніцтвы ў Вялікабрытаніі, Італіі й на Сярэднім Усходзе сачыў за настроямі жаўнераў. Не апошняе месца ў гэтых назіраньнях займала ўвага да нацыянальнага складу польскіх аддзелаў. У прыватнасьці, савецкія крыніцы паведамлялі, што ў 2-м корпусе служыла 6—7 тыс. беларусаў і ўкраінцаў[47]. Савецкая прапаганда ставіла сабе за мэту разбурыць маральную й палітычную еднасьць 2-га корпусу. Гэтая акцыя ў першую чаргу скіроўвалася на прадстаўнікоў нацыянальных меншасьцяў. Вядомыя выпадкі, калі функцыянэры савецкай місіі ў Рыме хавалі ў сябе дэзэртыраў-беларусаў, а таксама дапамагалі арганізоўваць уцёкі з кашараў. У гэтай справе савецкія эмісары супрацоўнічалі з Італьянскай кампартыяй.

Некаторыя вайскоўцы беларускай нацыянальнасьці ў Італіі сапраўды знаходзіліся пад уплывам італьянскіх камуністаў, якія распаўсюджвалі сярод польскіх жаўнераў прасавецкую інфармацыю й намаўлялі да вяртаньня на радзіму. У якасьці прыкладу можна

[45] Polak, Bogusław; Polak, Michał. Włoskie nekropolie 2 Korpusu Polskiego 1944—1945 // Bitwa o Monte Cassino 1944. Geneza — przebieg — opinie. III Konferencja Naukowa. Koszalin, 16 maja 2002 r. 2003. S. 181.

[46] IPMS. Sygn.: A.XI. 29/36. Komunikaty żandarmerii; IPMS. Sygn.: A. XII. 59/11; IPMS. Ilościowe wykazy dezerterów.

[47] Архив внешней политики Российской Федерации (АВП РФ). Информационный материал о стране и обзоры польской прессы в третьих странах. Т. III (март — апрель 1945 г.). Ф. 0122 Оп. 27. Д. 46. Л. 38—39.

прывесьці капрала 5-й крэсовай пяхотнай дывізіі Вячаслава Гузавяку, які ад 1944 г. быў сябрам Італьянскай камуністычнай партыі. Пад уплывам прапаганды мясцовых камуністаў улетку 1945 г. ён пакінуў свой аддзел і самавольна накіраваўся ў савецкую місію ў Рыме. Савецкія супрацоўнікі дапамаглі яму схавацца й трапіць у фільтрацыйны лягер № 300 у мясцовасьці Сан-Валянціна (Аўстрыя), адкуль яго транспартавалі ў СССР. У выніку 20 студзеня 1946 г. былы жаўнер вярнуўся ў месца даваеннага жыхарства[48]. Вышэйзгаданы выпадак быў не адзіным дэзэртырствам з 2-га корпусу, якое было зьдзейсьненае пры дапамозе савецкіх агентаў і мясцовых камуністаў. 8 сьнежня 1945 г. тое самае зрабілі трое беларусаў зь 10-га цяжкаартылерыйскага палка. У групе ўцекачоў знаходзіліся Ўладзімер Косік з Валожынскага павету, Уладзімер Янкоўскі з Пастаўскага павету й Хведар Вазьняк з Маладзечанскага павету. Менш чым праз тыдзень пасьля гэтых уцёкаў зь 10-га цяжкаартылерыйскага палка дэзэртавалі яшчэ два беларусы. Усе яны зьвярнуліся ў савецкую місію ў Рыме, адкуль былі накіраваныя ў фільтрацыйны лягер у Сан-Валянціна, зь якога іх транспартавалі ў лягер ў г. Сегет (Румынія). Пасьля фільтрацыі й праверкі ў якасьці рэпатрыянтаў у 1946 г. яны вярнуліся дахаты[49].

Усе вышэйзгаданыя дэзэртыры-беларусы ўступілі добраахвотна ў Войска Польскае яшчэ ў 1941—1942 гг. Усе бралі чынны ўдзел у баях на тэрыторыі Італіі, мелі баявыя ўзнагароды. Кожны ў свой час прайшоў праз пакуты сталінскіх лягераў. Кожны знайшоў выратаваньне й прытулак у шэрагах Войска Польскага. Аднак гэта не перашкодзіла ім пакінуць свае аддзелы й зьвярнуцца па дапамогу, па сутнасьці, да сваіх былых катаў. У сувязі з гэтым узьнікае пытаньне: якія былі матывы гэнай дэзэрцыі? Пасьля вяртаньня ў Беларусь на допыце ў мясцовых органах дзяржбясьпекі адзін з дэзэртыраў Уладзімер Косік даводзіў, што ён 7 гадоў ня бачыў сваёй жонкі й дзяцей і ўвесь час расстаньня надта сумаваў па родных. Са свайго боку італьянскія камуністы й супрацоўнікі савецкай місіі прапаноўвалі вельмі простае вырашэньне ўсіх праблемаў — як мага найхутчэйшае вяртаньне на бацькаўшчыну, да сваёй сям'і. Пры гэтым савецкія эмісары запэўнівалі польскіх вайскоўцаў у *"добрым жыцьці ў СССР"* і гарантавалі ім *"роўнасьць правоў і свабодаў"*. З гэтага можна зрабіць выснову, што вышэйзгаданыя дэзэртыры не былі перакананымі камуністамі альбо зацятымі прыхільнікамі Савецкага Саюзу. Найбольш верагоднымі бачацца ня столькі палітычныя прычыны, колькі абставіны, зьвязаныя

[48] Архіў інфармацыйна-аналітычнага цэнтру пры Менскім аблвыканкаме. Сведчаньні Вячаслава Гузавякі ад 26 красавіка 1946 г. Спр. 2396.

[49] Архіў інфармацыйна-аналітычнага цэнтру пры Менскім аблвыканкаме. Сведчаньні Ўладзімера Косіка ад 29 красавіка 1946 г. Спр. 940.

з штодзённым жыцьцём жаўнераў. Большасьць вайскоўцаў да вайны былі простымі людзьмі, сялянамі, якія ня мелі вышэйшай адукацыі й не вылучаліся веданьнем палітычнай сытуацыі. Пасьля заканчэньня баявых дзеяньняў асноўнай іхнай праблемай быў непакой за сваю будучыню, лёс сем'яў, што магло штурхаць да гэткіх учынкаў, як дэзэртырства з надзеяй на як мага хутчэйшае вяртаньне дахаты.

Як і ў кожным войску, у 2-м корпусе здараліся й выпадкі жорсткага парушэньня вайсковай дысцыпліны з боку вайскоўцаў. Часам гэта мела трагічныя наступствы. Сярод вінаватых знаходзіліся таксама беларусы, сьведчаньнем чаго ёсьць іх прозьвішчы ў сьпісе вайскоўцаў, асуджаных вайсковымі судамі да вышэйшай меры пакараньня за зьдзяйсьненьне розных злачынстваў. Акалічнасьці гэтых справаў дакладна не дасьледаваныя.

Адносіны жаўнераў зь мясцовым цывільным несельніцтвам выглядалі па-рознаму. З аднаго боку, італійцы разглядалі польскіх вайскоўцаў як сваіх збаўцаў, якія прынесьлі ім вызваленьне ад нямецкай акупацыі. З другога боку, на стаўленьне тубыльцаў да 2-га корпусу ўплывалі палітычныя абставіны. Камуністы, якія карысталіся падтрымкай значнай часткі італьянскага грамадзтва, намагаліся выклікаць у насельніцтва варожыя настроі ў дачыненьні да польскіх аддзелаў. Пасьля заканчэньня баявых дзеяньняў вайскоўцы атрымалі магчымасьць больш часу прысьвячаць уласным справам. Знаходжаньне па-за кашарамі спрыяла кантактам з цывільнымі асобамі, у тым ліку шуканьню сабе другіх паловаў. Нам удалося адшукаць зьвесткі наконт некалькіх вайскоўцаў-беларусаў, якія пабраліся шлюбам з італійкамі. Аднак трэба адзначыць, што такія дзеяньні не віталіся вайсковымі ўладамі, што было прычынай досыць непрыемных сытуацый. Асабліва гэта тычылася брытанскага боку, які не жадаў браць на сябе абавязкі ўтрыманьня дадатковых асобаў.

У часе знаходжаньня на італьянскім фронце колькасны склад 2-га корпусу значна павялічыўся. Калі на 1 сьнежня 1943 г. фармаваньне налічвала 52 688 чалавек, то ўжо 30 чэрвеня 1945 г. у ягоным складзе знаходзілася 103 244 чалавекі. У выніку былі створаныя новыя тактычныя адзінкі[50]. Галоўнай крыніцай папаўненьня былі былыя вайскоўцы нямецкай арміі, якія апынуліся ў альянскім палоне й пажадалі ўступіць у польскія аддзелы. У сувязі з гэтым паміж польскім урадам і ўрадамі заходніх хаўрусьнікаў была дасягнутая згода аб дазволе на вярбунак сярод нямецкіх ваеннапалонных добраахвотнікаў. Нямецкія вайскоўцы, якія паходзілі з тэрыторы міжваеннай польскай дзяржавы, разьмяшчаліся ў амэрыканскіх і

[50] Partacz, Czesław, Łada, Krzysztof. Polska wobec ukraińskich dążeń niepodległościowych w czasie II wojny światowej. S. 196.

брытанскіх лягерах ваеннапалонных на тэрыторыі Вялікабрытаніі й Францыі. У адпаведнасьці з дамоўленасьцямі польскі Генэральны штаб накіроўваў у кожны буйны лягер сваіх афіцэраў сувязі. Брытанцы й амэрыканцы падзялялі ваеннапалонных на групы ў залежнасьці ад нацыянальнасьці. Задачай афіцэраў сувязі быў улік палонных палякаў, агітацыйная справа сярод іх па закліку да ўступленьня ў польскае войска, а таксама ажыцьцяўленне сэлекцыі падчас запісу й адпраўкі ваеннапалонных да месцаў дыслякацыі рэзэрвовых базаў польскай арміі, ролю якіх у 2-м корпусе выконвала 7-я пяхотная дывізія, якая кватаравалася ў Сан-Базыліё. Кандыдаты ў Войска Польскае накіроўваліся хаўрусьнікамі ў фільтрацыйны лягер "Яланта", дзе праходзілі агледзіны контрвыведкі.

Сярод добраахвотнікаў пераважалі палякі — жыхары Сілезіі й Пазнаншчыны, якія падчас акупацыі прымусова мабілізоўваліся ў Вэрмахт і іншыя нямецкія вайсковыя аддзелы. Аднак знаходзіліся таксама прадстаўнікі іншых нацыянальнасьцяў. Для добраахвотнікаў сярод нямецкіх ваеннапалонных не існавала нацыянальных абмежаваньняў, а ў якасьці асноўнага крытэру вызначалася наяўнасьць у міжваенны час польскага грамадзянства. Цяжка вызначыць дакладную колькасьць беларусаў — былых нямецкіх ваеннапалонных, якія ўступілі ў 2-і корпус. Пэўнае ўяўленьне можа даць аналіз зьменаў колькаснага складу вайскоўцаў праваслаўнага веравызнаньня. У пэрыяд ад восені 1944 г. да пачатку 1946 г. колькасьць праваслаўных жаўнераў у шэрагах 2-га корпусу павялічылася з 2156 да 2609. На жаль, невядомая нацыянальнасьць гэтых людзей. Як адзначае Чэслаў Партач, галоўным чынам гэта былі "*палякі зь Віленшчыны*"[51]. Уступленьне былых нямецкіх ваеннапалонных у 2-і корпус паўплывала на павелічэньне агульнай колькасьці беларусаў у шэрагах гэтага фармаваньня. Калі прыняць адсоткавую вагу беларусаў сярод жаўнераў праваслаўнага веравызнаньня, раней выкарыстаную ў дачыненьні да палеглых (звыш 90 %), то можна меркаваць, што ў 1945—1946 гг. колькасьць праваслаўных беларусаў у корпусе генэрала Андэрса складала ня менш за 1800—2000 чалавек. Да гэтага належыць дадаць беларусаў-каталікоў, дакладную колькасьць якіх вызначыць немагчыма. У параўнаньні зь іншымі нацыянальнымі меншасьцямі ў 2-м корпусе беларусы былі найбольш шматлікай групай.

Зараз варта зьвярнуць увагу на тое, кім былі беларусы — былыя нямецкія ваеннапалонныя, якім напрыканцы Другой сусьветнай вайны ўдалося апрануць мундуры польскіх жаўнераў у Італіі. Галоўным чынам гэта былі былыя жаўнеры 30-й грэнадэрскай дывізіі СС (ра-

[51] Partacz, Czesław, Łada, Krzysztof. Polska wobec ukraińskich dążeń niepodległościowych w czasie II wojny światowej. S. 205.

сейскай № 2). Злучэньне было створанае ў жніўні 1944 г. на тэрыторыі Польшчы з парэшткаў беларускіх, украінскіх, расейскіх і казацкіх вайскова-паліцыйных фармаваньняў, якім удалося эвакуявацца на Захад. У склад дывізіі ўвайшлі шутцманшафт (ахоўныя) батальёны, якія на працягу 1942—1944 гг. фармаваліся на тэрыторыі Заходняй Беларусі (60-ы — Баранавічы, 64-ы — Глыбокае, 65-ы — Навагрэдак), а таксама курсанты Менскай камандзірскай школы Беларускай краёвай абароны (БКА). У верасьні 1944 г. дывізія была перакінутая ў Францыю на прамежак фронту паміж Белфартам і Мюльхаўзэнам, а таксама ў раён Кольмару й Шлетстаду[52]. Пра настроі вайскоўцаў-беларусаў 30-й дывізіі падчас удзелу ў баявых дзеяньнях супраць альянтаў сьведчыў нямецкі афіцэр сувязі пры 30-й дывізіі обэр-лейтэнант Гансэн, які 6 верасьня 1944 г. у палявым дзёньніку занатаваў наступнае: *“У складзе 30-й дывізіі знаходзіцца фармаваньне, складзенае з афіцэраў Саюзу беларускай моладзі[53]. Нягледзячы на тое што маральны стан жаўнераў дывізіі ўпаў, а таксама існуе недахоп узбраеньня й забесьпячэньня, беларуская адзінка надалей захоўвае сваю баяздольнасьць”*[54]. Назіраньні нямецкага афіцэра не адлюстроўваюць агульнай сытуацыі ў злучэньні. На працягу існаваньня 30-й дывізіі выпадкі дэзэрцый, у тым ліку калектыўных, здараліся вельмі часта. За ўцёкі й бунты частка жаўнераў была накіравана ў карныя палкі. Інцыдэнты былі настолькі значныя, што нямецкае камандаваньне ў сьнежні 1944 г. было вымушанае адклікаць рэшткі злучэньня з фронту й перавесьці ў тыл. Частка жаўнераў і афіцэраў нават была аддадзеная пад суд[55].

Апынуўшыся ў альянцкім палоне беларусы з прычыны свайго даваеннага грамадзянства былі залічаныя лягернай адміністрацыяй да польскай групы. Вось як згадваў сваё знаходжаньне ў лягеры ваеннапалонных у Францыі Мікола Сенька: *“Умовы ўтрыманьня былі надзвычай цяжкімі. Кожны марыў нейкім чынам як мага хутчэй выйсьці на волю. У хуткім часе амэрыканцы пачалі нас сартаваць паводле нацыянальнасьці. Сярод ваеннапалонных было шмат розных нацыянальнасьцяў. Выкрочылі — бэльгійцы, французы, нарвэжцы,*

[52] Hausser, Paul. Soldaten wie andere auch. Der Weg der Waffen-SS. Osnabruck, 1966. S. 428—429.

[53] Хутчэй за ўсё, гэта камандзірская школа БКА, створаная ў Менску ў сакавіку 1944 г.

[54] Juergen, Thorwald. Wen Sie verderben wollen. Bericht des grossen Verrats. Stuttgart, 1952. S. 403.

[55] Grzybowski, Jerzy. Pogoń między Orłem Białym, Swastyką i Czerwoną Gwiazdą. Białoruski ruch niepodległościowy w latach 1939—1956. Warszawa 2011. S. 356—357.

*палякі й інш. У рэшце рэшт засталася толькі нашая група, паколькі беларусаў ня выклікалі. Тады амэрыканскі афіцэр пацікавіўся наконт нашага паходжаньня, на што мы адказалі, што мы беларусы. Тады ён сказаў, што ня ведае такой краіны. Параіўшыся зь іншымі амэрыканскімі вайскоўцамі ён паведаміў, што мы мусім далучыцца да палякаў, паколькі зьяўляемся польскімі падданымі. Але калі хто жадае, то можа пайсьці да расейцаў, якіх накіруюць у СССР*"[56]. У гэтай сытуацыі дэкляраваньне сябе польскімі грамадзянаміі ды ўступленьне ў польскае войска было адзіным шляхам ўратавання ад рэпатрыяцыі ў "савецкі рай". Не павінна зьдзіўляць, што большасьць беларусаў з 30-й дывізіі ў адсутнасьці іншага выйсьця наважылася на ўступленьне ў польскія аддзелы. Трэба адзначыць, што рабілі гэта яны безь вялікага маральнага задавальненьня й разглядалі дадзены крок выключна як неабходнасьць. Яскрава характарызаваў настроі беларусаў адзін з былых жаўнераў 30-й дывізіі Юры Весялкоўскі: *"У наш лягер прыйшоў амэрыканец польскага паходжаньня й паінфармаваў нас дакладна, як саветы апякуюцца "здраднікамі радзімы" і параіў нам запісацца палякамі, паколькі мы зьяўляемся польскімі грамадзянамі. Ён быў у Італіі, бачыў польскае войска і раіў нам ехаць у Італію, калі ня хочам падвергнуцца перасьледу сталінскай тыраніі. Паляк гутарыў з намі па-польску, і мы яго добра разумелі. Меў ён добрыя інфармацыі й жадаў нам дабра. Аднак у нас была нейкая антыпатыя да палякаў, і мы не хацелі да іх ісьці. Цяжка сказаць, дзе я й другія з нас маглі-б быць, калі-б не Максім Рудзь. Ён быў нашым старшынёю ў камандзірскай школе БКА ў Менску, і ўвесь час мы ставіліся да яго з пашанай як да свайго начальніка і старэйшага досьведам чалавека. Таму цяпер, калі афіцыйна стала вядома, што адно нашае слова вырашае нашую будучыню, мы пастанавілі паслухаць свайго былога старшыню й пайсьці часова да палякаў... Я асабіста выказваўся за тое, каб ня ісьці да палякаў. Але мяне пераканаў Максім Рудзь. Тлумачыў ён, што як я быў беларусам, так і застануся, бо гэта толькі часовы пераход. Пасьля такога настаўленьня я з балючым сэрцам падпарадкаваўся большасьці... Праз пару дзён мы праходзілі камісію.. сьпісвалі нашыя асабовыя дадзеныя, рабілі фотаздымкі і т. п. Пасьля гэтых працэдураў трэба было назваць сваю нацыянальнасьць. Нас залічылі да палякаў, і мы чакалі ад'езду ў далейшую дарогу*"[57].

Варта адзначыць, што сярод беларусаў — былых нямецкіх ваеннапалонных вядомыя выпадкі, калі ў 2-і корпус уступалі ўраджэнцы

---

[56] Грыбоўскі, Юры; Козак, Кузьма. Забытыя жаўнеры Польскага войска ў часы Другой сусветнай вайны. Мінск, 2003. С. 85.

[57] Весялкоўскі, Юры. Няясна мроіліся новыя дарогі. Лёндан, 1997. С. 97.

Ўсходняй Беларусі, якія ніколі ня мелі польскага грамадзянства. Падчас уступленьня ў 2-гі корпус амаль усе беларусы з 30-й дывізіі запісваліся палякамі. З боку польскага камандаваньня не адзначана істотнага супраціву закліку беларускіх добраахвотнікаў. Значна больш засьцярогаў польскі бок меў да ўкраінцаў, якія нярэдка належалі да Арганізацыі ўкраінскіх нацыяналістаў (АУН) альбо падчас нямецкай акупацыі служылі ва ўкраінскіх вайскова-паліцыйных фармаваньнях (дывізія СС "Галічына").

Пераважная большасьць залічаных у 2-гі корпус беларусаў падчас службы ў нямецкіх вайсковых і вайскова-паліцыйных фармаваньнях належалі да шараговага складу. Выключэньнем былі толькі лейтэнант БКА Канстанцін Нор і некалькі падафіцэраў. Аднак у польскае войска яны былі прынятыя ў годнасьці шарагоўцаў[58]. Беручы пад увагу атрыманую на радзіме падчас нямецкай акупацыі адукацыю, шмат былых курсантаў Менскай камандзірскай школы БКА паступілі ў гімназіі пры 5-й крэсовай пяхотнай і 3-й карпацкай дывізіях, дзе атрымоўвалі поўную сярэднюю асьвету. Апрача таго, многія зь іх пайшлі ў падафіцэрскія школы. Так, напрыклад, у падафіцэрскай школе ў Сан-Базыліё існавала нават цэлая дружына, складзеная зь беларусаў — былых нямецкіх ваеннапалонных. Заслугоўвае ўвагі яшчэ той факт, што некаторыя беларусы пасьля ўступленьня ў 2-і корпус зьмянілі свае прозьвішчы. Напрыклад, Мікалай Сенька стаў Мікалаем Яблонскім, Канстанцін Качан — Канстанцінам Акулам, Аляксандр Бочка — Аляксандрам Надсанам і інш. Паводле іх словаў, рабілі яны гэта дзеля бясьпекі[59].

Частка былых ваеннапалонных пасьпела ўзяць удзел у ваенных дзеяньнях у Італіі. Многія вызначыліся самаахвярнасьцю на полі бою й атрымалі ўзнагароды. Адзін з былых кадэтаў камандзірскай школы БКА Павал Навара нават быў прадстаўлены да ўзнагароджаньня Крыжам Храбрых[60].

Сярод беларусаў — былых нямецкіх ваеннапалонных значны адсотак складалі людзі з высокім узроўнем нацыянальнай самасьвядомасьці й патрыятычным пачуцьцём. Мелі таксама выразна сфармаваныя палітычныя погляды. Асабліва гэта было ўласьціва

---

[58] Centralne Archiwum Wojskowe (CAW). Kolekcja dokumentów z archiwów brytyjskich; Ministry of Defence. APC Polish Enquiries. Ewidencja Konstanty Norego; Ministry of Defence. APC Polish Enquiries. Ewidencja Konstantego Akuły, Aleksandra Nadsona.

[59] Архіў Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Картатэка сябраў арганізацыі.

[60] Навара, Павал. Кароткія успаміны // Голас Часу. 1994. № 31 (4). С. 32—38; Ministry of Defence. APC Polish Enquiries. Ewidencja strz. Pawła Nawaro.

былым курсантам Менскай камандзірскай школы БКА — юнакам 1924—1927 г. н. Менавіта яны сталіся рухавіком нацыянальнай дзейнасьці сярод вайскоўцаў-беларусаў у 2-м Польскім корпусе. Большасьць юнакоў разглядалі службу ў польскім войску як часовы прытулак і сродак уратаваньня ад вонкавай пагрозы. Стралец 5-й крэсавай пяхотнае дывізіі Хведар Цімафейчык у лісьце да а. Часлава Сіповіча пісаў: *“Хаця сёньня нас закінуў лёс у шэрагі чужой і ад веку варожай нам арміі, але ў любых абставінах мы ня згубім сваіх ідэалаў... да апошняй хвіліны будзем вернымі прысязе, якую мы склалі перад абліччам нашае маці Беларусі”*[61]. Такія настроі маглі лёгка выклікаць адмоўнае стаўленьне да беларусаў з боку некаторых жаўнераў-палякаў[62].

Зьяўленьне ў 2-м корпусе патрыятычнай і нацыянальна сьвядомай групы беларусаў спрычынілася да запачаткаваньня ў сярэдзіне 1945 г. нацыянальна-культурніцкага руху сярод вайскоўцаў. Безумоўна, паспрыяў гэтаму таксама факт заканчэньня ў красавіку 1945 г. баявых дзеяньняў на італьянскім фронце, што дазволіла жаўнерам зьвярнуць больш увагі на ўнутранае жыцьцё. Нягледзячы на тое што былыя кадэты БКА былі разьмеркаваныя па розных вайсковых аддзелах, яны намагаліся падтрымліваць сувязь паміж сабою. Падчас сустрэчаў, а таксама ў карэспандэнцыі карысталіся выключна беларускай мовай. Яны пачалі праводзіць сярод землякоў нацыянальную працу па стварэньні сярод польскіх вайскоўцаў беларускіх гурткоў. Да сярэдзіны 1945 г. склалася некалькі асяродкаў, дзе служылі беларусы. Базай для арганізацыі беларускай дзейнасьці ў 2-м корпусе былі вышэйзгаданыя гіманазіі пры 5КДП і 3ДСК у мясцовасьцях Алесана, Мадэна, Мартына й Сарнана. У кожную з гэтых установаў трапіла да 10 вайскоўцаў-беларусаў. Беларускі асяродак у гімназіі пры 3-й дывізіі стварыў і ўзначаліў стралец Віктар Сянкевіч. Тым часам у адпаведны гурток у гімназіі пры 5-й дывізіі ўвайшлі былыя кадэты камандзірскай школы БКА — Павал Навара, Юры Весялкоўскі, Кастусь Акула, Павал Асіповіч, Хведар Цімафейчык, Аляксандр Надсан і інш. Вайскоўцы-беларусы шукалі кантакту зь беларускай эміграцыяй. У хуткім часе беларускія жаўнеры з гімназіі пры 5КДП пазнаёміліся з прафэсарам Вінцэнтам Жук-Грышкевічам, які выкладаў у гэтай установе[63].

---

[61] ББФС. Фонд біскупа Ч. Сіповіча. Ліст Хведара Цімафейчыка ад 22 ліпеня 1946 г.

[62] IPMS. Protokoły z posiedzenia komisji specjalnej Rady Narodowej. Sygn.: A.5.6A.20.

[63] ББФС. Фонд біскупа Ч. Сіповіча. Ліст Віктара Сянкевіча ад 28 верасня 1945 г., ББФС. Архіў Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Картатэка сябраў арганізацыі;

Дадатковы штуршок у беларускай дзейнасьці сярод польскіх вайскоўцаў зрабіў той факт, што справу землякоў падтрымалі беларускія каталіцкія сьвятары ўсходняга абраду, якія жылі ў Рыме, — а. Часлаў Сіповіч і а. Леў Гарошка. Менавіта ў памяшканьні гэтых сьвятароў адбываліся нарады беларусаў з розных вайсковых частак. Сустрэчы ладзіліся звычайна ў выходныя дні, калі вайскоўцам дазвалялася пакідаць кашары й рабіць экскурсіі па Рыме. Першая буйная нарада вайскоўцаў-беларусаў адбылася 3 лістапада 1945 г. Падчас яе Віктар Сянкевіч зрабіў даклад "Беларускі жаўнер: яго доля й нядоля", прысьвечаны становішчу беларусаў у іншаземных арміях[64]. Была выпрацаваная адзіная мэта па згуртаваньні вайскоўцаў-беларусаў і правядзеньні сярод іх нацыянальнай і культурніцка-асьветнай працы. Ад сярэдзіны 1945 г. да восені 1946 г. праз вышэйзгаданых беларускіх сьвятароў трымалі паміж сабою кантакт каля 500 вайскоўцаў-беларусаў[65].

За пасярэдніцтвам беларускіх сьвятароў польскія жаўнеры навязалі кантакт са старшынём Рады БНР Міколам Абрамчыкам у Парыжы. Менавіта адтуль беларускія вайскоўцы атрымоўвалі "Беларускія Навіны". Ад моманту заснаваньня газэты ў 1945 г. і да пачатку 1947 г. яна выдавалася ў значнай ступені за кошт вайскоўцаў-беларусаў з 2-га корпусу. У 1945—1946 гг. ахвяраваньні на выданне ад беларускіх жаўнераў склалі 53 500 франкаў (55 % ад агульнай сумы)[66]. Гэта тлумачыцца тым, што вайскоўцы на той час былі найбольш маёмаснымі ў параўнаньні зь іншымі беларускімі эмігрантамі, паколькі яны атрымлівалі належныя кожнаму вайскоўцу кішэнныя грошы. Ахвяраваньні дасылаліся на адрас сьвятароў, адкуль апошнія перасылалі іх у Парыж, дзе разьмяшчалася рэдакцыя выданьня. За гэтыя грошы пабачыла сьвет шэсьць нумароў газэты. Пасьля дастаўкі ў Рым наклад газэты па сутнасьці нелегальна распаўсюджваўся па асобных падразьдзяленьнях 2-га корпусу, дзе служылі беларусы. Падчас паштовай перасылкі газэты вайскоўцы карысталіся адрасамі знаёмых цывільных італійцаў, адтуль забіралі наклад падчас выходных дзён.

Акрамя газэты "Беларускія Навіны" на ахвяраваньні вайскоўцаў-беларусаў з 2-га корпусу ў 1946 г. быў выдадзены малітоўнік на беларускай мове[67]. Варта адзначыць, што як "Беларускія Навіны", так

---

[64] ББФС. Фонд біскупа Ч. Сіповіча. Пратакол сустрэчы вайскоўцаў-беларусаў ад 3 лістапада 1945 г.

[65] ББФС. Фонд біскупа Ч. Сіповіча. Ліст 10 вайскоўцаў-беларусаў ад 23 жніўня 1946 г.

[66] Беларускія Навіны. 1947. № 1 (6).

[67] ББФС. Фонд біскупа Ч. Сіповіча. Ліст Кастуся Акулы ад 17 кастрычніка 1945 г.

і згаданы малітоўнік з мэтай вяртаньня сабекошту распаўсюджваўся сярод вайскоўцаў за грошы. Праз гэта нярэдка частку дасланага сьвятарамі накладу адказныя за распаўсюджваньне былі вымушаныя вяртаць назад, бо не маглі прадаць[68]. Кіраўнік беларускага гуртка ў гімназіі пры 3-й дывізіі Віктар Сянкевіч прасіў а. Сіповіча пераслаць яму творы беларускіх пісьменьнікаў, абгрунтоўваючы тым, што сярод яго саслужыўцаў назіраецца цікавасьць да такіх кніг[69].

Тагачасная беларуская эміграцыя, асабліва Рада БНР, была зацікаўленая ў кантакце з суайчыннікамі з Італіі, паколькі яе дзеячы шукалі масавай падтрымкі. Падзеі Другой сусьветнай вайны параскідалі беларусаў па розных краінах Заходняй Эўропы, а 2-і корпус стаўся тым месцам, дзе была сканцэнтраваная значная колькасьць беларусаў, арганізаванасьць якіх была зручнай дзеля разгортваньня сярод іх нацыянальна-культурніцкай дзейнасьці. Выданьне газэты “Беларускія Навіны” ў значнай ступені было абумоўленае неабходнасьцю працы сярод жаўнераў. На старонках выданьня разьмяшчаліся матэрыялы, скіраваныя на асьвету вайскоўцаў-беларусаў.

4 сакавіка 1946 г. у г. Мадэна на базе 5-й крэсавай пяхотнай дывізіі адбыўся кірмаш. Выкарыстаўшы гэты момант, беларускія асяродкі з 3-й карпацкай і 5-й крэсовай дывізій наладзілі супольную канфэрэнцыю, падчас якой была вызначаная далейшая дзейнасьць па стварэньні легальнай беларускай арганізацыі. Дзеля гэтага неабходна было набраць сярод вайскоўцаў 2-га корпусу як мага большую колькасьць прыхільнікаў. На прапанову Віктара Сянкевіча было прынятае рашэньне падчас пошуку аднадумцаў зьвяртаць пільную ўвагу на праваслаўныя набажэнствы ў 2-м корпусе, дзе найбольш верагодна было знайсьці вайскоўцаў-беларусаў[70].

Актывісты беларускіх гурткоў вялі ўласны падлік беларусаў сярод вайскоўцаў сваіх аддзелаў з пазначэньнем ўзроўню іх нацыянальнай самасьвядомасьці. Напрыклад, стралец 5-й крэсавай пяхотнай дывізіі Хведар Цімафейчык акрэсьліваў колькасьць вайскоўцаў-беларусаў у сваім злучэньні на 2800 чалавек, у тым ліку — 17 афіцэраў. З гэтага ліку ён адносіў да катэгорыі “сьвядомых” — 1409, “несьвядомых” — 1391 чалавека. Апрача таго, зьбіраліся зьвесткі пра беларусаў, якія вызначыліся падчас бітвы пад Монтэ-Касіна[71].

---

[68] ББФС. Фонд біскупа Ч. Сіповіча. Ліст Кастуся Акулы ад 15 верасьня 1945 г.

[69] ББФС. Фонд біскупа Ч. Сіповіча. Ліст Віктара Сянкевіча ад 28 верасьня 1945 г.

[70] ББФС. Фонд біскупа Ч. Сіповіча. Ліст Віктара Сянкевіча ад 15 сьнежня 1945 г.

[71] ББФС. Фонд біскупа Ч. Сіповіча. Ліст Хведара Цімафейчыка ад 15 сьнежня 1945 г.

Праца беларускіх гурткоў не абмяжоўвалася распаўсюдам літаратуры й пэрыёдыкаў. Было вырашана ладзіць разнастайныя імпрэзы з нагоды беларускіх нацыянальных сьвятаў. Напрыклад, на кватэры беларускіх сьвятароў у Рыме 25 сакавіка 1946 г. адбылося сьвяткаваньне ўгодкаў абвяшчэньня БНР[72].

Аднак праводзіць беларускую дзейнасьць у 2-м корпусе было складана, бо большасьць вайскоўцаў-беларусаў мелі досыць нізкі ўзровень нацыянальнай самасьвядомасьці. Апрача таго, многія беларусы хавалі сваю сапраўдную нацыянальнасьць, асьцерагаючыся рэпатрыяцыі ў СССР.

Якім было стаўленне польскага камандаваньня й вайскоўцаў-палякаў да беларускай дзейнасьці? Як адзначалі некаторыя актывісты беларускага руху, здараліся выпадкі, калі афіцэры канфіскоўвалі ў жаўнераў нумары "Беларускіх Навінаў", а некаторыя вайскоўцы асьцерагаліся падтрымоўваць кантакты з нацыянальна актыўнай часткай саслужыўцаў, каб ня трапіць у няласку да камандаваньня. У адным зь лістоў Віктар Сянкевіч адзначаў, што стварыць "*нейкае беларускае згуртаваньне ў польскай арміі вельмі цяжка*" праз адмоўнае стаўленьне палякаў да беларускага пытаньня[73]. Нам не ўдалося ані пацьвердзіць, ані аспрэчыць гэтага факту. Аднак з архіўных дакумэнтаў вынікае, што вышэйшае камандаваньне 2-га корпусу не перашкаджала беларускай дзейнасьці сярод асабовага складу польскіх фармаваньняў. 26 красавіка 1946 г. Беларускі камітэт самапомачы ў Рыме накіраваў мэмарыял на імя Галоўнага камандаваньня Войска Польскага і 2-га Польскага корпусу, дзе былі выстаўленыя наступныя пажаданьні: 1) выдаць вайсковы загад на вольнае распаўсюджваньне сярод жаўнераў газэты "Беларускія Навіны"; 2) дазволіць і даць практычную магчымасьць самастойна выдаваць вайскоўцам-беларусам уласнае друкаванае выданьне на беларускай мове; 3) выдаць загад, які дазваляў бы афіцыйна належаць польскім вайскоўцам да Камітэту беларускай самадапамогі. Да мэмарыялу ў якасьці прыкладаў далучаліся два нумары газэты "Беларускія Навіны"[74]. Адказ на гэты мэмарыял быў выдадзены 4 кастрычніка 1946 г. ад імя шэфа штабу 2-га корпусу генэрала Казімежа Вісьнеўскага, які абвесьціў, што згода камандаваньня даецца толькі

---

[72] ББФС. Фонд біскупа Ч. Сіповіча. Групавы фотаздымак сьвяткаваньня 25 сакавіка 1945 г.

[73] ББФС. Фонд біскупа Ч. Сіповіча. Ліст Віктара Сянкевіча ад 28 верасьня 1945 г.

[74] ББФС. Фонд біскупа Ч. Сіповіча. Мэмарыял Беларускага камітэту самадапамогі ў Італіі да галоўнага камандаваньня Войска Польскага ад 26 красавіка 1946 г.

на вольнае распаўсюджваньне й чытаньне сярод асабовага складу выданьня “Беларускія Навіны”. Тэхнічны бок распаўсюду выданьня ўскладаўся на аддзел культуры й прэсы 2-га корпусу. Акрамя таго, дзеля сувязі штабу корпусу зь Беларускім камітэтам самадапамогі вызначалася адказная асоба, інж. Яраслаў Жаба[75].

З зразумелых прычынаў вайсковае кіраўніцтва захоўвала пэўны недаверінасьцяроугуўадносінахданацыянальнагаруху,уякімбачылася пагроза падзелу жаўнерскіх масаў паводле нацыянальнай прыкметы. Галоўнай мэтай камандаваньня было захаваньне баяздольнасьці й вайсковага маналіту ўзброеных сілаў, якія, як меркавалася, можна яшчэ было выкарыстаць у далейшай барацьбе за дзяржаўную незалежнасьць Польшчы. Трэба адзначыць, што польскія вайсковыя ўлады непараўнальна больш хвалявала ўкраінская актыўнасьць у войску, чым беларуская[76]. Можна меркаваць, што беларускія дзеячы маглі падтрымоўваць сувязі з украінцамі, якія служылі ў 2-м корпусе. Аднак пакуль нам не ўдалося адшукаць адпаведных і верагодных доказаў гэтага супрацоўніцтва на італьянскай зямлі.

Увосень 1946 г. 2-і Польскі корпус пакінуў Італію й быў перакінуты ў Вялікабрытанію, дзе распачаўся паступовы працэс дэмабілізацыі польскіх аддзелаў на Захадзе. Беларускія гурткі працягвалі сваю дзейнасьць у новых умовах. Па-рознаму склаўся далейшы лёс беларусаў з 2-га корпусу. Некаторыя ўзялі чынны ўдзел у нацыянальным жыцьці на чужыне. Былыя вайскоўцы 2-га корпусу былі заснавальнікамі й актывістамі шэрагу беларускіх эміграцыйных арганізацый (у тым ліку камбатанцкіх) у Вольным сьвеце. Перадусім гэта тычыцца беларускіх асяродкаў у Вялікабрытаніі, дзе былыя

---

[75] ББФС. Фонд біскупа Ч. Сіповіча. Адказ ген. Казімежа Вісьнеўскага на імя Беларускага камітэту самадапамогі ў Італіі ад 4 кастрычніка 1946 г.

[76] На апошнім этапе баявых дзеяньняў актывізавалася дзейнасьць украінскіх дзеячаў у Італіі, чаму спрыяла прысутнасьць на Апэнінскай паўвыспе канадыйскіх аддзелаў 8-й Брытанскай арміі, у складзе якіх знаходзіліся ўкраінцы. Дзякуючы іх намаганьням у Італіі распачаў дзейнасьць мясцовы аддзел Саюзу Украінскіх Канадыйскіх Ваякаў (СУКВ). Нацыянальную працу сярод суайчыньнікаў падтрымлівалі ўкраінскія вайсковыя капэляны канадыйскай арміі, а таксама япіскап Іван Бучка, прадстаўнік Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы ў Ватыкане (пазьней Апостальскі візытатар украінцаў-каталікоў у Заходняй Эўропе). Польскае вайсковае камандаваньне асьцерагалася празьмерных уплываў канадыйскіх жаўнераў украінскага паходжаньня на сваіх суродзічаў з 2-га корпусу. Выразны непакой вайсковых уладаў выклікала навіна пра зьезд СУКВ, які адбыўся ў Рыме на пачатку студзеня 1945 г. Арганізатары зьезду нават накіравалі ліст да Аддзелу прапаганды 2-га корпусу з просьбай дазволіць жаўнерам-украінцам удзел у вышэйзгаданым мерапрыемстве.

андэрсаўцы складалі стрыжань нацыянальнай эміграцыі. Некалькі сотняў былых вэтэранаў баёў у Італіі пасьля вайны вярнулася на бацькаўшчыну, дзе іх сустрэў гаротны лёс. Мусілі чарговы раз прайсьці праз сталінскія вязьніцы й дэпартацыі, а пра іх гераізм беларускаму грамадзтву нічога не было вядома ажно да распаду СССР[77].



Сьвятары (сядзяць) Пётра Татарыновіч, Леў Гарошка і Часлаў Сіповіч з жаўнерамі 2-га Польскага корпусу. Рым, 3 лістапада 1945 г.

[77] Грыбоўскі, Юры. Беларусы ў польскіх рэгулярных вайсковых фармаваннях у 1918—1945 гг. Санкт-Пецярбург, 2006. С. 418—443.

*Публікацыі*

***Уладзімер Калупаеў***
*Сэрыятэ (Італія)*

# КРЫНІЦЫ ПА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ Ў ЗБОРАХ ІТАЛЬЯНСКАГА ЦЭНТРУ "ХРЫСЬЦІЯНСКАЯ РАСЕЯ"

Цэнтар "Хрысьціянская Расея" (*"Russia Christiana"*) быў заснаваны ў 1957 г. сьвятаром япархіі Трэнта (*Trento*) Рамана Скальфі (*Romano Scalfi*, нар. 1923) з групай аднадумцаў, сярод якіх былі: візантыст, экзэгет і кіраўнік Амбразіянскай бібліятэкі (*Biblioteca Ambrosiana*) Энрыка Гальбіяцi (*Enrico Galbiati*, 1914—2004); прафэсар філязофіі ў Мілянскім каталіцкім унівэрсытэце Сьвятога Сэрца й унівэрсытэце Мюнхену, а таксама перакладчык на італьянскую працаў расейскіх філёзафаў — П'етра Мадэста (*Pietro Modesto*, 1923—2009); прафэсар філязофіі ў Кома (*Collegio Arcivescovile Edmondo De Amicis*) Адольфа Аснагі (*Adolfo Asnaghi*, 1917—2007) і сьвятар з досьведам місіянэрскай працы з былымі савецкімі *DP* (*displaced person*) у лягерах Неапалю, а потым з уцекачамі ў Трыесьце — Ніла Кадона (*Nilo Enzio Cadonna*, пам. 1997).



Уладзімер Калупаеў і Рамана Скалфі. Сэрыятэ, 2015 г. Здымак Н. Гардзіенкі.

Мэтай цэнтру стала спрыяньне міжцаркоўнаму адзінству, вывучэньне ўсходнеславянскай праваслаўнай рэлігійнай культуры й дапамога вернікам і дысыдэнтам ў СССР. Скальфі быў выхаванцам і прадаўжальнікам традыцый рымскага калегіюму "Русікум", створанага для падрыхтоўкі сьвятароў ва ўмовах СССР у 1929 г., калі кіраўніцтва Ватыкану ўсьвядоміла рэальнае становішча рэлігіі й жах савецкіх атэістычных ганеньняў. Калегіюм таксама ператварыўся ў своеасаблівы цэнтар рускай рэлігійнай культуры ў замежжы.

У той час, калі ў Савецкім Саюзе вынішчаліся ўсялякія згадкі пра Бога й царкву, у "Русікуме" зьбіралася бібліятэка з выратаваных расейскіх і славянскіх кніг, аднаўлялася й разьвівалася музычная царкоўная культура, фармаваўся збор карцінаў з помнікамі царкоўнай архітэктуры ды іншых артэфактаў, пачалася ўласная выдавецкая дзейнасьць. Тут выкладалі прадстаўнікі першай хвалі эміграцыі.

Рамана Скальфі за гады знаходжаньня ў "Русікуме" ад 1951 да 1956 г. вывучыў рускую мову, богаслужбовыя рытуалы й літургічныя традыцыі ў праваслаўных і славянска-візантыйскіх культавых формах, вывучаў клясічную расейскую й савецкую літаратуру, філязофію, а таксама займаўся крытычным аналізам марксісцкай ідэалёгіі. У сфэры ягонай увагі была й сацыялістычная рэальнасьць, усё тое, што адбывалася ў СССР. Жаданьне паехаць за жалезную заслону ажыцьцявіць не ўдалося, будаўнікі камунізму ня мелі патрэбы ў сьвятарах, у візе было адмоўлена. У выніку Скальфі шмат разоў наведваў розныя гарады Расеі й іншых рэспублік Саюзу, але толькі ў якасьці турыста. Потым доўгі час да перабудовы быў у СССР пэрсонай нон грата. Забарона на ўезд у краіну была зьнятая толькі ў 1993 г.

Але вернемся да 1957 г. Гэта быў пэрыяд Мікіты Хрушчова (1894—1971). У Італіі ў гэты час былі вельмі папулярныя левыя тэндэнцыі, камуністычная ідэалёгія набірала прыхільнікаў сярод бедных слаёў у спустошанай і эканамічна слабой краіне. Таму ў процівагу чырвонай Расеі-СССР Рамана Скальфі са сваімі паплечнікамі акцэнтавалі ўвагу на хрысьціянскіх аспэктах, адсюль і назва створанага імі цэнтру "Хрысьціянская Расея". Гэта быў свайго кшталту выклік, моцны выклік прыхільнікам кампартыі, які меў на мэце паказаць хрысьціянскія карані ўсходнеславянскіх культураў і прысутнасьць веры ў СССР. Рабочая рэзыдэнцыя цэнтру разьмяшчаецца на віле Амбіверы ў Сэрыятэ (*via dei Tasca 36, 24068 Seriate (BG)*). Даступны сайт для кансультацыі анлайн: http://www.russiacristiana.org.

Разгледзім кірункі сучаснай актыўнасьці цэнтру й ягоныя дакумэнтальныя зборы ў зьвязку зь беларускай тэматыкай.

## Выдавецтва "La Casa di Matriona" ("Матренин двор")

Выдавецтва было заснаванае ў 1975 г. з мэтай публікацыі тэкстаў літаратурнага, філязофскага, гістарычнага характару, а таксама матэрыялаў па мастацтве. Назва *"Матренин двор"* паходзіць ад другога з апублікаваных у часопісе *"Новый мир"* за 1963 г. апавяданьняў Аляксандра Салжаніцына (1918—2008).

Агулам на сёньня выдавецтва выпусьціла каля 160 найменьняў друкаванай прадукцыі. Дасьледчыку беларусікі могуць быць цікавыя наступныя кнігі:

*Parravicini, Giovanna. Marija Judina: Più della musica. Milano: La Casa di Matriona, 2010. 200 p.* ("Больш, чым музыка") — гісторыя жыцьця вядомай савецкай піяністкі габрэйскага паходжаньня Марыі Веніямінаўны Юдзін (1899—1970), ураджэнкі Віцебскай вобласьці.

З улікам тэрытарыяльных і этнакультурных гістарычных беларуска-літоўскіх сувязяў згадаем таксама: *Parravicini, Giovanna. Lituania: popolo e Chiesa. Milano: La Casa di Matriona, 1984* ("Літва: народ і Царква") ды *Cronaca della Chiesa cattolica in Lituania. Milano: La Casa di Matriona, 1976* ("Хроніка каталіцкай царквы ў Літве").

Публікацыя па сакральным мастацтве: *Piskun, Jurij. Al crocevia d'Europa: Antiche icone della Bielorussia. Libro-calendario. Milano: La Casa di Matriona, 2006. 50 p., 25 tavoli a colori.* Гэтае выданьне належыць да катэгорыі штогадовых ілюстраваных календароў-альбомаў пэўнай іканаграфічнай тэматыкі, што выдаюцца ад 1979 г.

## Пэрыёдыка

Часопіс на італьянскай мове *"La Nuova Europa"* ("Новая Эўропа"). Выходзіць раз на два месяцы, выдаецца ад 1960-х гг. Ён першапачаткова назваўся *"Russia Cristiana"* і ў большасьці сваёй друкаваў матэрыялы па самвыдаце, альтэрнатыўнай падпольнай культуры й апазыцыі таталітарызму. Ад 1985 г. выходзіў пад назвай *"L'Altra Europa"* ("Іншая Эўропа"), спэцыялізуючыся на цікавасьці да Ўсходняй Эўропы цалкам, а ад 1992 г.ператварыўся ў *"La Nuova Europa"*.

Беларускай тэматыцы ў часопісе прысьвечаныя наступныя артыкулы (паводле храналёгіі):

1. Situazioni nuove // Russia Cristiana. 1981. № 6. P. 68.
2. La Chiesa cattolica in Ucraina // L'Altra Europa. 1985. № 4. P. 69.
3. Poleski, Tadeusz. La Chiesa cattolica in Bielorussia // L'Altra Europa. 1987. № 1. P. 115.
4. Un prete audace in Bielorussia // L'Altra Europa. 1987. № 1. P. 128.
5. Boero, Delfina. I frutti di un lungo lavoro // La Nuova Europa. 1994. № 2. P. 13.

6. Andrejanov, Igor. Vivere nel mondo e mostrare Cristo / intervista di Thiry Jean-Francois // La Nuova Europa. 1996. № 1. P. 9.
7. Broun, Janice. Un crocevia di influssi // La Nuova Europa. 1996. № 1. P. 7.
8. Filaret di Minsk. Cristo è vivo e presente nella sua Chiesa / intervista di Vicini Anna // La Nuova Europa. 1996. № 4. P. 7.
9. Filaret di Minsk // La Nuova Europa. 1996. № 4. P. 8.
10. In Bielorussia decide il presidente // La Nuova Europa. 1996. № 4. P. 18.
11. Swiatek, Kazimierz. Collaborando con Dio / intervista di Thiry Jean Francois // La Nuova Europa. 1996. № 4. P. 17.
12. Vicini, Anna. Primi passi in Bielorussia // La Nuova Europa. 1996. № 1. P. 5.
13. Dai paesi del socialismo reale due nuovi vicari episcopali // La Nuova Europa. 1998. № 3. P. 7.
14. Mazur, Jerzy. Da dove ricominciare? // La Nuova Europa. 1998. № 3. P. 4.
15. Presentazione del calendario a Minsk // La Nuova Europa. 2001. № 2. P. 48.
16. Aleksievic, Svetlana. Cerco l'uomo dell'utopia / intervista di Mara Quadri // La Nuova Europa. 2002. № 6. P. 63.
17. Dell'Asta, Adriano. C'è l'uomo, c'è Cristo // La Nuova Europa. 2002. № 4. P. 100.
18. Parravicini, Giovanna. A Minsk, sulle tracce di Cirillo e Metodio // La Nuova Europa. 2002. № 4. P. 98.
19. E in Bielorussia c'è il " Lukamol " // La Nuova Europa. 2003. № 5. P. 89.
20. Bonaguro, Angelo. I ragazzi del Liceo Kolas // La Nuova Europa. 2004. № 1. P. 88.
21. Bonaguro, Angelo. Ideologia in salsa bielorussa // La Nuova Europa. 2004. № 1. P. 97.
22. Gejnrichs Evgenij // La Nuova Europa. 2004. № 1. P. 36.
23. Swjatek, Kazimierz. I martiri del passato sfidano i cristiani di oggi // La Nuova Europa. 2004. № 1. P. 10.
24. A scuola in divisa, con "la mia patria" sotto il braccio // La Nuova Europa. 2006. № 3. P. 89.
25. Bonaguro, Angelo, a cura di. Le tende di Minsk // La Nuova Europa. 2006. № 3. P. 91.
26. Bonaguro, Angelo. L'Università umanistica bielorussa in esilio // La Nuova Europa. 2006. № 3. P. 82.
27. Dichiarazione del senato accademico sui fatti di Minsk // La Nuova Europa. 2006. № 3. P. 90.

28. Gli studi di Jurij Bandazevskij // La Nuova Europa. 2006. № 3. P. 78.
29. Un buon libro per conoscersi.... // La Nuova Europa. 2006. № 3. P. 106.
30. Un appello dalla Bielorussia // La Nuova Europa. 2006. № 3. P. 74.
31. Voto coatto per gli universitari // La Nuova Europa. 2006. № 3. P. 86.
32. Commemorazioni in Ucraina e Bielorussia // La Nuova Europa. 2007. № 6. P. 68.
33. La "Marcia europea" // La Nuova Europa. 2007. № 6. P. 95.
34. Milinkevic, Aljaksandr. Lavorare senza aver paura della verità / intervista di Quadri Mara // La Nuova Europa. 2007. № 6. P. 92.
35. "Nelle nostre anime spira un vento..." // La Nuova Europa. 2007. № 6. P. 101.
36. Iosif Germanovic. Cina, Sibera, Mosca // La Nuova Europa. 2010. № 4. P. 68.
37. Kolupaev, Rostislav; Boero, Delfina. La Chiesa nella diaspora russa in Cina // La Nuova Europa. 2010. № 5. P. 85.
38. Kolupaev, Rostislav. Iosif Germanovic, che celebrava nei lager // La Nuova Europa. 2010. № 4. P. 62.



Вілла Бэці Амбіверы, дзе знаходзіцца цэнтар "Хрысьціянская Расея" ў Сэрыятэ. Здымак Н. Гардзіенкі.

## Бібліятэка “Бэці Амбіверы”

Бібліятэка цэнтру ўтрымлівае больш за 30 000 адзінак захоўвання й штогод папаўняецца прыблізна 300 новымі кнігамі і 608 найменьнямі пэрыёдыкі, зь якіх 60 — з працягам.

Фармаваньне фондаў ідзе па кірунках: мастацтва, атэізм, права, дысыдэнцтва, эканоміка, філязофія, геаграфія, літаратура, лінгвістыка, музыка, пэдагогіка, палітыка, рэлігія, сацыялёгія, статыстыка, гісторыя. Збор па русістыцы, славістыцы, гуманітарных пытаньнях, зьвязаных з Расеяй-СССР, постсавецкай прасторай і Ўсходняй Эўропай на славянскіх і асноўных эўрапейскіх мовах зьяўляецца самым вялікім у Італіі. Акрамя асноўнага фонду, у складзе бібліятэкі маюцца асобныя калекцыі.

Для кансультацыі электронная вэрсія генэральнага каталёгу бібліятэкі маецца ў рэжыме анлайн у разьдзеле “*Biblioteca Betty Ambiveri*” на сайце “*Russia Cristiana*” па адрасе:

http://www.russiacristiana.org/RussiaCristianaBiblio.htm.

Дырэктар бібліятэкі – *Paola Pellegatta*,

e-mail: biblioteca@russiacristiana.org.

Цяпер ідзе праца па электроннай каталягізацыі ў праграме для царкоўных бібліятэк Канфэрэнцыі каталіцкіх біскупаў Італіі (CEI), з магчымасьцю кансультацыі ў інтэрнэце праз італьянскую Нацыянальную бібліятэчную службу SBN (*Catalogo del Servizio Bibliotecario Nazionale*). Для пошуку маецца таксама англамоўная вэрсія — http://www.sbn.it /opacsbn/opac/iccu/free.jsp.

Зьвернем увагу на паасобныя зборы.

***“Keston News Service”***

Англіканскі цэнтар *Centre for the Study of Religion and Communism* “*Keston College*” ў Вялікабрытаніі вядомы ў гісторыі рэлігійнага супраціву савецкіх часоў[1].

***“Archiv Samisdata”***

Храналёгія дакумэнтаў: 1968—1985 гг. Аб’ём: 5618 справаў. Разьдзел “Belarus” зьмяшчае: Economy, Education, International Relations, Media / Communications, Politics / Domestic, Security — Vol. 1. № 2 — 24; Economy, Media / Communications, Politics / Domestic, Social Issues — Vol 2. № 1 — 25[2].

***“Радыё Свабода”***

Рэдакцыя рэлігійных праграмаў Расейскай службы незалежнай міжнароднай няўрадавай некамэрцыйнай радыёстанцыі “Радыё Сва-

[1] Keston News Service. Keston (Kent, UK): Keston College. ISSN 0278-3169.

[2] “Russia Cristiana” Архив. Index // Transition: Events and Issues in the former Soviet Union and East-Central and Southeastern Europe. Prague: Open Media Research Institute. Part I. 1995. — 60 p.; Part II. 1996. — 105 p.

бодная Эўропа / Радыё Свабода", ("Radio Free Europe / Radio Liberty"), якая існуе ад 1959 г. передала цэнтру свой архіў, у якім прадстаўлены дакумэнты, у тым ліку паводле разьдзелаў:

Belorussian and the Belorussian SSR: Mass Media and Culture, Politics, Security Policy;

Belarus: Economics, Environment, International Relations, Interview, Military Affairs, Politics, Public Opinion;

Belarus: Economics, Leadership Update, Politics, Social Issues.

***Інстытут па вывучэньні СССР***

Цікавасьць маюць нумары бюлетэню (1965—1971), які выдаваўся ў Мюнхене Інстытутам па вывучэньні СССР.

Вядомая ў гістарычнай навуцы як беларускі нацыянальны дзеяч антысавецкай скіраванасьці Надзея Аляксандраўна Тэадоравіч (у дзявоцтве Абрамава, 1907—1979) у паваенны пэрыяд свайго жыцьця ў Заходняй Нямеччыне, працавала навуковым супрацоўнікам Інстытуту па вывучэньні гісторыі й культуры СССР, спэцыялізуючыся як рэлігіязнаўца. Асоба Надзеі Тэадоравіч цікавая для гісторыі савецкага пэрыяду ў царкоўна-дзяржаўных і царкоўна-грамадзкіх дачыненьнях, што актуальна як для сучаснай дзяржавы Беларусь, гэтак і для дыяспары. Яе працы ў гуманітарнай сфэры заслугоўваюць глыбокага вывучэньня і ўвядзеньня ў навукова-гістарычную, палітычную й сацыяльную інфармацыйную й дакумэнтальную прастору.

***Архіў***

*"Самвыдат"*

Пачынаючы ад канца 1950-х гг. і на працягу ўсяго наступнага часу да перабудовы 1990-х гг. цэнтар атрымоўваў праз розныя каналы інфармацыю ад дысыдэнтаў з СССР. Нешта перакладалася на італьянскую мову й было апублікавана.

Такім чынам, на сёньня фонд утрымлівае вялікую колькасьць дакумэнтаў па рэлігійным супраціве: "Samizdat" — 32 тэчкі, 813 справаў.

Дакумэнты дысыдэнцкага паходжання, якія паступалі ў Сэрыятэ, складаюць адмысловы інфармацыйны блёк. Нешта зь яго перакладалася на італьянскую мову й было апублікавана, іншае маецца толькі ў архіўным выглядзе. Але пры гэтым трэба сказаць, што наш архіў зьяўляецца дзейным працоўным інструмэнтам і працягвае выкарыстоўвацца як фонд і рэзэрв для рэдакцыі часопіса "Новая Эўропа" і для іншых магчымых выданьняў.

Сыстэматызацыя й першаснае апісаньне фонду выкананы Раманам Скальфі ў пэрыяд ад 1973 г. і да 1989 г. Самы раньні дакумэнт датуецца 1963 г., самы позьні — 1989 г.

Для паляпшэньня пошуку дакумэнтаў у межах навукова-даведачнага апарату пры навуковым апісаньні калекцыі ўжываецца сыстэматызацыя паводле ключавых словаў:

Рэлігія — Гісторыя рэлігіі — Рэлігіязнаўства — Філязофія — Філялёгія;

Царква — Праваслаўе — Патрыяршаства — Статыстыка — Багаслоўе — РПЦ МП — Гісторыя царквы — Эклезіялёгія — Кананічнае права — Параўнальнае багаслоўе;

Свабода сумленьня — Асуджаныя за веру — Перасьлед паводле рэлігійных матываў — Рэпрэсіі супраць вернікаў — Перашкоды ўладаў — Закрыцьцё й разбурэньне храмаў і манастыроў — Дыскрымінацыя вернікаў — Супрацоўніцтва епіскапату зь дзяржавай — Супрацоўніцтва духавенства з уладаю;

Эміграцыя — Выезд з СССР — Рэлігія — Свабода сумленьня — Перасьлед паводле рэлігійных матываў;

Свобода слова — Друк — Журналістыка — Самвыдат — Кнігі — Цэнзура — Чытацкі інтарэс;

Права — Канстытуцыя — Правы чалавека — Працоўнае заканадаўства — Абарона правоў інвалідаў;

Карупцыя сілавых структураў — Працэсуальныя парушэньні — Ператрус — Арышт — Допыт — Судовы працэс — Турмы — Лягеры — Асуджаныя — Умовы ўтрыманьня — Катаваньні — Выкарыстаньне псыхіятрыі ў барацьбе з іншадумствам;

Прафсаюзы;

Міжнародная Амністыя — Amnesty International;

Нацыянальнае пытаньне — Дыскрымінацыя — Нацыяналізм;

Мараль — Шлюб — Сям'я — Побыт — Жыльлёвыя ўмовы — Праца;

Літаратура — Паэзія — Проза;

Мастацтва — Жывапіс.

Геаграфічна інфармацыя ахоплівае ўсе былыя саюзныя й аўтаномныя рэспублікі, у тым ліку Беларускую ССР.

Сучаснаму навукоўцу ў галіне беларускіх дасьледаваньняў могуць быць прапанаваныя наступныя кірункі працы з выкарыстаньнем фондаў "Хрысьціянскай Расеі" ў Сэрыятэ:

- Мэтады працы КДБ у Беларускай ССР, парушэньне правоў чалавека, працэсуальныя парушэньні ў ходзе сьледзтва й суду, умовы ўтрыманьня зьняволеных, турмы й лягеры.
- Свабода сумленьня, рэлігія, становішча праваслаўнай царквы й іншых канфэсій, парушэньне заканадаўства аб культах, закрыцьцё й разбурэньне храмаў і манастыроў, дыскрымінацыя вернікаў.

Асабліва цікавым можа быць вывучэньне ролі інстытуту ўпаўнаважанага Савету па справах рэлігій, а таксама супрацоўніцтва духавенства з уладамі, факты кантролю службы дзяржаўнай бясьпекі,

палітычнай паліцыі й Міністэрства ўнутраных спраў за жыцьцём манахаў, карупцыя.

- Нацыянальнае пытаньне й нацыяналізм, нацыянальны рух, рэпрэсіі супраць габрэяў і іншых нацыянальных меншасьцяў, дэпартацыі. Габрэйская эміграцыя, юдаізм і сіянізм.
- Медыцына й псыхіятрыя, выкарыстаньне псыхіятрыі ў барацьбе з іншадумствам.
- Падпольны друк, літаратура й публіцыстыка.
- Грамадзкія групы садзейнічаньня выкананьню Хельсінскіх пагадненьняў у СССР.

Іншая вартая ўвагі база зьвестак — гэта *“Personalità” (Martiri — Chiesa cattolica, Confessori della fede — Chiesa cattolica)*, даступная ў рэжыме анлайн: http://www.russiacristiana.org/martiri/approfondimenti.html. Тут прадстаўлены біяграфіі людзей, пацярпелых у савецкі пэрыяд, у тым ліку і ў Беларусі, таксама як і ў іншых рэгіёнах СССР. Значная частка матэрыялаў датычыць каталіцкіх сьвятароў і сьвецкіх асобаў.

Архіўныя дакумэнты “Хрысьціянскай Расеі” маюць патрэбу ў аналізе й навукова-крытычным апісаньні дзеля ўвядзеньня іх у навуковы ўжытак і стварэньня электроннай базы зьвестак. Тут ёсьць магчымасьці для асьпірантаў і дасьледчыкаў па падборы тэмаў і матэрыялаў для напісаньня дысэртацый і навуковых працаў, забесьпячэньні матэрыяламі й даведачна-аналітычнай інфармацыяй. Ёсьць вялікая прастора для супрацоўніцтва зь беларускімі навукоўцамі.

*Пераклад з расейскай Натальлі Гардзіенкі*

***Аксана Данільчык***
*Менск*

# АРТЫКУЛЫ ЯЎГЕНА ЛЯЦКАГА ПРА БЕЛАРУСКУЮ ЛІТАРАТУРУ Ў ІТАЛЬЯНСКІМ ДРУКУ

Літаратуразнаўчая дзейнасьць ураджэнца Беларусі, вядомага славіста Яўгена Аляксандравіча Ляцкага (1868—1942) у апошнія дзесяцігодзьдзі неаднаразова прыцягвала ўвагу айчынных і расейскіх дасьледчыкаў[1]. Аднак адзін зь яе аспэктаў — "італьянскі", на нашую думку, варта крыху ўпарадкаваць, тым больш што пачатак 1920-х гг. — важны пэрыяд у гісторыі беларуска-італьянскіх культурных стасункаў. Гэта час нараджэньня італьянскай славістыкі, айцамі якой лічацца Этарэ Ла Гата (*Ettore Lo Gatto*) і Джавані Мавер (*Giovanni Maver*), а таксама ўзьнікненьня пэрыядычных выданьняў, мэта якіх — дасьледаваньне славянскіх культур, у тым ліку й беларускай[2].

Адным з такіх выданьняў стаў часопіс "*Rivista di letterature slave*" (1926—1932), заснаваны Этарэ Ла Гата. Часопіс цікавы для нас апублікаванымі ў ім артыкуламі, прысьвечанымі творчасьці Якуба Коласа й Максіма Багдановіча. Іх аўтар – Яўген Аляксандравіч Ляцкі – у час напісаньня артыкулаў жыў у Празе й працаваў у Праскім унівэрсытэце. Дасьледчыца дзейнасьці Ляцкага багеміст Марына Чмарава, якая азнаёмілася з чэскім архівам дзеяча, адзначае: "*Адкрыццё дакументаў Літаратурнага архіва помнікаў нацыянальнага пісьменства ў Празе (дзе і захоўваецца ўвесь архіў Я.А. Ляцкага) дазволіла канстатаваць, што прафесар Я. А. Ляцкі*

[1] Цішчанка, Іван. З думкай пра Беларусь: Да 130-годдзя з дня нараджэння Я. А. Ляцкага // Полымя. 1999. № 1. С. 156—185; Евгений Ляцкий: Материалы к биографии / подготовка текстов и публикация С. И. Михальченко. Брянск: Издательство БГПУ, 2000. — 176 с.; Чмарава, М. Шляхі ўзаемнага пазнання: беларуская літаратура ў Чэхаславакіі (1920—1945). Магілёў: МДУ імя А. А. Куляшова, 2004. — 136 с. і інш.

[2] Данільчык, Аксана. Беларуска-італьянскія літаратурныя сувязі XIX—XX стст.: асноўныя напрамкі даследавання // Беларуска-італьянскае культурнае ўзаемадзеянне і праблемы захавання нацыянальнай ідэнтычнасці: гістарычны вопыт і сучасныя праблемы: зборнік навуковых артыкулаў / нав. рэд. С. Л. Гаранін, І. У. Ялынцава. Мінск: Беларуская навука, 2016. С. 210—223.

*актыўна цікавіўся станаўленнем беларускай навукі, развіццём беларускай культуры. Вучоны вёў перапіску з Ц. Гартным, В. Ластоўскім, С. Некрашэвічам, М. Піятуховічам. Важнай заслугай Я. А. Ляцкага з'яўляецца тое, што ён быў бадай першым літаратурным крытыкам, што пачаў знаёміць заходні свет з беларускай літаратурай*"[3]. Дадамо, што Ляцкаму прапаноўвалася браць удзел у Генуэскай канфэрэнцыі ад Беларусі (перапіска з Аляксандрам Цьвікевічам), яго неаднаразова запрашалі наведаць Савецкую Беларусь... І яго італьянскія публікацыі таксама не засталіся без увагі ў Беларусі, дзякуючы, думаецца, менавіта непасрэдным кантактам зь беларускімі літаратарамі. Так, у часопісе "Маладняк" (1927. № 6) падаваліся наступныя звесткі: "*У апошнім нумары часопісі "Рывіста ді летэратурэ славэ" зьмешчаны артыкул вядомага славянаведа Э. Ляцкага пра Якуба Коласа*"; а ў часопісе "Полымя" (1927. № 7), у раздзеле "Хронікі культурнага жыцця замежных краін", была апубліваная наступная невялікая нататка: "*Профэсар расійскай літаратуры пры Чэскім унівэрсітэце Е. Ляцкі зьмясьціў цэлы шэраг артыкулаў аб беларускай літаратуры ў італьянскай, францускай і швэдскай пэрыодычнай прэсе*". Гаворка ідзе пра наступныя тэксты: Eugenio Ljackij. Il poeta della Russia Bianca rinascente: Iakub Kolos // Rivista di letterature slave. 1927. № 3. P. 117—122; Eugenio Ljackij. Un poeta Bianco-russo. Massimo Bagdanovič // Rivista di letterature slave. 1928. № 4. P. 193—201.

Марына Чмарава паведамляе, што ў архіве Яўгена Ляцкага ў Чэхіі знаходзіцца рукапіс артыкула пра Якуба Коласа на рускай мове, а таксама рукапіс артыкула пра Максіма Багдановіча (зноў жа на рускай мове) і пераклады вершаў паэта на рускую мову. Калі меркаваць па прыведзеных дасьледчыцай цытатах, гэта й ёсьць тыя самыя артыкулы.

Такім чынам, можна з упэўненасьцю сказаць, што артыкулы, першапачаткова напісаныя на рускай мове, былі пасьля перакладзеныя на італьянскую. Хто рабіў пераклад, пад публікацыяй не пазначана. Магчыма, гэта сам Этарэ Ла Гата, вядомы таксама й як перакладчык (аднак дзеля таго, каб дакладна гэта высьветліць, неабходна зьвярнуцца да італьянскіх архіваў, у прыватнасьці да архіву часопісу "*Rivista di letterature slave*"). Пры падрыхтоўцы

[3] Чмарава, Марына. Яўген Аляксандравіч Ляцкі як вучоны-славіст, даследчык і папулярызатар беларускай літаратуры ў міжваеннай Чэхаславакіі // Актуальные проблемы современной филологии и преподавания филологических дисциплин: сборник научных статей Международной научно-практической конференции, посвящённой 100-летию МГУ имени А. А. Кулешова, Могилёв, 15—16 мая 2013 г. Могилев: МГУ имени А. А. Кулешова, 2013. С. 235.

да італьянскай публікацыі згаданых тэкстаў не абышлося без рэдагаваньня й недакладнасьцяў (напрыклад, у італьянскім тэксьце артыкула пра Якуба Коласа замест назваў некаторых вершаў быў пазначаны зборнік-дэкляматар "Чырвоны дудар", дзе сабраныя творы розных паэтаў, у тым ліку й, безумоўна, Якуба Коласа). Гэтая памылка была па-свойму інтэрпрэтаваная Іванам Цішчанкам: *"Трэба адзначыць, што аналітычная база, на якой напісаны артыкул, даволі сціплая — усяго дзве кнігі пісьменніка: "Новая зямля" (1923) і "Чырвоны дудар" (1924) — у той час, як на ягоным творчым рахунку тады значыліся "Сымон-музыка" (1918), "Водгулле"(1922)..."*[4]. Пры гэтым Іван Цішчанка памыляецца як у напісаньні назвы часопісу, дзе быў апублікаваны артыкул пра Якуба Коласа, так і ў годзе апублікаваньня (1924 замест 1927), а падрабязна цытуючы артыкул, не паведамляе крыніцы тэксту, і калі гаворка ідзе ўсё ж такі пра італьянскае выданьне, то кім зроблены пераклад. Гэта, безумоўна, зьніжае навуковую вартасьць артыкулу, таму нельга не пагадзіцца зь Сяргеем Міхальчанкам[5], што артыкул Івана Цішчанкі мае хутчэй папулярны, чым навуковы характар.

Артыкулы Яўгена Ляцкага былі вядомыя італьянскім славістам. Прынамсі, у кнізе Джузэпэ Месіны "Беларуская літаратура"[6] яны стаяць у сьпісе выкарыстаных крыніц, хоць Эмануэла Згамбаці ў сваёй працы *"Ўкраіністыка й беларусістыка ў Італіі за мінулае сямідзесяцігодзьдзе (1920—1990) і іх далейшыя задачы"*[7] пра дзеяча ня згадвае.

Наколькі нам вядома, ні рукапісы артыкулаў на рускай мове, ні іх пераклады з італьянскай мовы цалкам не друкаваліся (акрамя асобных цытатаў), хоць аналізаваліся даволі парабязна. Таму мы прапануем наш пераклад італьянскіх тэкстаў на беларускую мову, хоць, адзначым, што пераклад перакладу — справа не заўсёды ўдзячная. Аднак, магчыма, вартая тых намаганьняў, якія прыкладаў Яўген Аляксандравіч Ляцкі дзеля папулярызацыі беларускай літаратуры ў сьвеце.

---

[4] Цішчанка, Іван. З думкай пра Беларусь. С. 181.

[5] Михальченко, С. Предисловие // Евгений Ляцкий: Материалы к биографии. С. 11.

[6] Messina, Giuseppe L. La letteratura belorussa. Firenze, Valmartina, 1952. С. 136—137.

[7] Sgambati, Emanuela. *L'Ucrainistica e la Bielorussistica* in Italia nel settantennio passato (1920—1990) e i loro compiti futuri // La Slavistica in Italia: cinquant'anni di studi (1940—1990) / a cura di Giovanna Brogi Bercoff, Giuseppe Dell'Agata... [et al.].– Roma, 1994. С. 249—269.

***Яўген Ляцкі***

## Паэт Беларусі, якая адраджаецца: Якуб Колас[8]

*У апошнія дзесяцігодзьдзі ў Беларусі, у гэтай дасюль пакінутай без увагі падчаркі славянскага сьвету, адбыўся значны культурны рух. У літаратуры ён выявіўся ўзьнікненьнем цэлай плеяды пісьменьнікаў і паэтаў, якія распачалі пэрыяд глыбокай апрацоўкі літаратурнай беларускай мовы. Зьявіліся пісьменьнікі вялікай літаратурнай культуры, якія больш не задавальняюцца пераймаханьнем звонкага маляўнічага народнага мастацтва зь ягонай старажытнай паэтыкай і гумарам. У цэнтры іх увагі — нацыянальная ідэя, прагрэс Беларусі, разьвіцьцё яе духоўных і фізычных сілаў і засваеньне яе сынамі інтарэсаў і каштоўнасьцяў эўрапейскай культуры. Разьвіцьцё нацыянальнай самасьвядомасьці, безумоўна, уяўляе зь сябе непазьбежную прыступку ў культурным абуджэньні любой краіны, што доўгі час адставала не празь недахоп творчых сілаў, а з прычыны абставінаў свайго цяжкога гістарычнага мінулага.*

*На чале літаратурнага руху, прасякнутага ідэяй культурнага й нацыянальнага адраджэньня, паўсталі перш за ўсё паэты, чыя дзейнасьць прыцягнула ўвагу й за межамі Беларусі.*

*З боку Расеі Максім Горкі й Валерый Брусаў найперш заўважылі гэтых паэтаў і паспрыялі іх перакладу на рускую мову. Адзін з найбольш значных паэтаў сучаснасьці — Якуб Колас. Справядліва, каб культурны сьвет яго ведаў ці прынамсі меў пра яго ўяўленьне, нават калі й вельмі агульнае.*

*Якуб Колас — гэта псэўданім, сапраўднае імя — К. Міцкевіч. Яго мінулае простае, але некаторыя факты — характэрныя й важныя для разуменьня ўнутраных умоваў яго разьвіцьця. Колас нарадзіўся ў 1882 г. у сялянскай сям'і, хадзіў у школу, быў выкладчыкам пачатковых клясаў; за ўдзел у нелегальным зьездзе настаўнікаў правёў тры гады ў турме, пасьля жыў у Расеі. У 1921 г. вярнуўся на радзіму… Вось і ўсё, што мы ведаем пра ягонае вонкавае жыцьцё. Ягоны ўнутраны сьвет раскрываецца ў творах, асабліва ў вершах. Ён зьдзіўляе не складанасьцю сваіх унутраных досьведаў, а іх сілай і глыбінёй. Мова і асноўныя складнікі яго паэзіі глыбока народныя. Яны прасякнутыя тым пачуцьцём народнасьці, які ўсмоктваецца з мацярынскім малаком, з гадамі жыцьця ў духоўным і інтэлектуальным адзінстве, у адной краіне і ў адным асяродку.*

[8] Пераклад зроблены паводле: Ljackij, Eugenio. Il poeta della Russia Bianca rinascente: Iakub Kolos // Rivista di letterature slave. 1927. № 3. P. 116—122.

*Што датычыцца літаратурнай формы, майстэрства вонкавага афармленьня верша, шырыні паэтычнага далягляду, то Колас — спадкаемца расейскіх паэтаў, асабліва тых, у якіх ён знаходзіць водгук сваіх думак і пачуцьцяў. У раньні пэрыяд яго творчай дзейнасьці асабліва заўважны ўплыў Някрасава й Кальцова. Уплыву гэтых песьняроў народнага смутку Колас абавязаны ня толькі мэлёдыяй і рытмам некаторых сваіх вершаў, але таксама матывамі й адценьнямі многіх станаў душы, узьнятых над паэтычнай сьвядомасьцю народнага складніка. Паэзія Коласа праходзіць праз той гістарычна зразумелы й эстэтычна непазьбежны пэрыяд разьвіцьця, калі асоба паэта яшчэ не адрываецца ад навакольнай прыроды. Тое самае можна сказаць і пра іншых беларускіх паэтаў. Прырода роднага краю павінна была адбіцца і ў іх творчасьці сваімі найбольш характэрнымі й прыцягальнымі якасьцямі, чытач ня толькі цудоўным чынам яе адчувае, але й вучыцца спасьцігаць праз творы Якуба Коласа. Яна не зьдзіўляе ні велічнасьцю, ні багацьцем колераў, яе чароўнасьць — у ясным мройным суме долаў і лясоў, у сонечным бляску залатых палёў, у ласкавай пяшчоце вясновых ручаёў. Хмурыя восеньскія ночы, сьнежныя гурбы — надзейныя вартаўнікі традыцый і казак-паданьняў, якія перадаюцца з пакаленьня ў пакаленьне, як нітка кудзелі ў худой руцэ старой, калі ў гульні водблескаў і ценяў "лучыны", што вось-вось згасьне, яна згадвае прывідаў зь мінулага й чароўнага сьвету. "Лучына", "лапці", белая ці шэрая сьвітка, "торба" з хлебам і салам, разьбітая лясная дарога, сава, якая мае шмат гадоў спакойнага, невыразнага існаваньня, худы конік, драўляны плуг — вось проза беларускага жыцьця, якая адгукаецца ў вершы ў вобразах волі, скіраванай да жыцьця й шчасьця.*

*Колас не ідэалізуе прыроду Беларусі, але ўмее раскрыць яе прыгажосьць ва ўсёй паўнаце духоўнага ўспрыманьня й вучыць любіць яе не таму, што яна бывае прыгожай, а таму што найперш яна свая, блізкая: прырода, зьвязаная з душой, радасьцю й болем беларуса. Мноства прывабных краявідаў і малюнкаў прыроды дае Колас у сваіх вялікіх паэмах "Новая зямля" й "Сымон-музыка". Цяжка аддаць перавагу адной зь іх, бо абедзьве зьяўляюцца прыкладам майстэрскага пяра мастака й лірыка:*

*Ідуць касцы, зьвіняць іх косы,*
*Вітаюць іх буйныя росы,*
*А краскі ніжай гнуць галовы,*
*Пачуўшы косак звон сталёвы.*
*Касцы ідуць то грамадою,*
*То шнурам цягнуць, чарадою,*
*То паасобку, то па пары;*

*Ідуць касцы, ідуць, як хмары,*
*І льецца сьмех іх разудалы.*
*Як веснавыя перавалы*[9].

*Праца дае радасьць і задавальненьне, але ў мінулым гэтая праца была пастаўленая ў цяжкія ўмовы. Яна была прымусовая, абкладзеная падаткамі й прыносіла працаўніку пакуты й беднасьць. Гэтае мінулае паэт не забывае:*

*Што-ж? бядота гоніць,*
*Толькі сілы траціш,*
*Толькі косьці ломіць,*
*Як хваробу схваціш.*

*Эх, ты доля, доля!*
*Голад ты, галота!*
*Не свая тут воля,*
*Не свая ахвота*[10].

*Гэтае мінулае яшчэ не зусім зьнікла. Ва ўсёй Беларусі ідзе ўпартая барацьба за дасягненьне тых сацыяльных даброт, што былі толькі абвешчаныя, але яшчэ вельмі далёкія ад зьдзяйсьненьня. Пакаленьне, якое вынесла ўсе цяжкасьці й беды апошніх гадоў, глядзіць у будучыню стомлена й спалохана. Сапраўды, у гэтай будучыні ёсьць яшчэ шмат трывожных і неспрыяльных момантаў. Паэт ускладае свае надзеі на моладзь: хай новае пакаленьне вучыцца ў старога працаваць, клапаціцца й любіць радзіму. Яе лёс залежыць цалкам ад маладой энергіі, мэтанакіраванасьці й адукацыі, і паэт зьвяртаецца да моладзі ў радках, якія заклікаюць і падбазёрваюць.*

*За работу жыва, жыва!*
*Каб нас доля не ўшчувала,*
*Каб ня сохла наша ніва,*
*Каб нуда нас больш ня гнала!*[11].

*Больш за ўсё паэту важна абудзіць у народзе ўсьведамленьне нацыянальнай еднасьці й незалежнасьці.*

*Кожная галіна славянскага племені ў розныя часы змагалася за ўласныя ідэалы яднаньня й палітычную свабоду; гісторыя*

---

[9] Колас, Якуб. Новая зямля. Мінск, 1922.

[10] Колас, Якуб. Плытнікі [у арыгінале: Якуб Колас. Чырвоны дудар. Мінск, 1924. — ***А. Д.***].

[11] Колас, Якуб. Кіньце смутак [у арыгінале: Якуб Колас. Чырвоны дудар Мінск, 1924. — ***А. Д.***].

*кожнай зь іх — балючая й сьветлая старонка бясконцых ахвяраў, палымянага энтузіязму й самаадданасьці ў імя радзімы. Цяпер прыйшоў час Беларусі. Яе народ павінен абудзіцца й сабраць вакол сьцягу сваёй свабоды й сваёй культуры ўсіх сваіх сыноў і тых, хто быў сілай адлучаны ад яго ў тыя дні, калі рэвалюцыйныя спадзяваньні былі так жорстка разьбітыя аб разьлікі несумленных і абыякавых кіраўнікоў.*

*Нас падзялілі — хто? Чужаніцы,*
*Цёмных дарог махляры.*
*К чорту іх межы! К д'яблу граніцы!..*
*Нашы тут гоні, бары!*[12].

*Гэты верш датуецца 1921 годам. Вельмі цікавая дата: яна сьведчыць, што паэт даволі хутка ацаніў уяўныя й сапраўдныя даброты, якія вайна й рэвалюцыя прынесьлі Беларусі. Яго пранікнёная крытычная думка не асьлеплена пышнымі гучнымі словамі аб свабодзе й шчасьці беларускай зямлі. У адным зь вершаў, дзе ён азіраецца назад на ўжо пройдзены шлях пераэжытага ім рэвалюцыйнага вопыту, ён ўвасабляе ў вобразе ланцуга тое, што стала галоўным прынцыпам палітычнага жыцьця:*

*Кавалі другія,*
*А ланцуг той самы —*
*Песьні ўсе старыя*
*Неаджытай гамы*[13].

*Як падаецца, 1921 год стаў важным момантам у разьвіцьці творчасьці нашага паэта. Пасьля некалькіх гадоў, праведзеных у Расеі, Колас вярнуўся на радзіму й тут інакш паглядзеў на глыбокія язвы народнага жыцьця. Лёс уласнай краіны зь ягонай няпэўнасьцю поўніў яго сэрца турботамі й страхам. Што будзе з краінай, якая столькі пакутвала й яшчэ працягвае адчуваць наступствы цяжкага мінулага? Што будзе зь ягоным народам, які захаваў у душы столькі духоўнай прыгажосьці й паэтычнасьці? Гэтае пачуцьцё жахлівай няпэўнасьці адлюстравалася ў цудоўным вершы, вельмі глыбокім, дзякуючы свайму сымбалічнаму сэнсу: "Цені-страхі". Эпоха, якая настае, падаецца паэту ўвасобленай у вечаровых прывідах. Набліжаецца ноч, якая нараджае ў душы чалавека пачуцьцё самоты, прадчуваньне жудаснага. Ноч і самота. Прачынаюцца толькі совы — для іх надыходзіць дзень, груганы лятаюць над лесам і аб нечым папярэджваюць, але аб чым дакладна — хто іх зразумее!*

12 Колас, Якуб. Беларускаму люду. Мінск, 1922.

13 Родныя малюнкі [у арыгінале публікацыі з памылкамі. — ***А. Д.***].

*Старцы ідуць па дарозе, мудрыя ад досьведу й сьвятла развагнабытых на працягу доўгіх гадоў. У іх трэба спытацца, што чакае самотнага паэта, які напружана думае пра шчасьце свайго народу.*

*Але нават старцы ня могуць адказаць.*

*Насустрэч старцы дыбаюць.*
*— Скуль вы людзі? хто такія?*
*Воч старцы не падымаюць*[14].

*Той самы матыў неспакою за будучыню знаходзім таксама ў іншым найцікавейшым па форме вершы – "Звон шыбаў". Твор поўны фанэтычных імітацый арыгінальнага сымбалізму гукаў, які адлюстроўвае ўсю гаму пачуцьцяў неспакойнага стану душы, захопленай прывідамі страху. Вось некаторыя радкі:*

*Няма ветру, ўсюды ціха:*
*Шыбы-ж звоняць — што за ліха?*
*Хто ў іх стукнуў? хто чапае?*
*Ці то знак хто хоча даць,*
*Што згубілі мы дарогу,*
*Б'е трывогу.*
*Ходзіць ўсіх прасьцярагае*
*І накладвае пячаць.*
*На шляхі, дарогі тыя,*
*Дзе крыжы згнілі старыя,*
*Ці зумыслу пазьнімалі*
*Як аджыўшыя свой час.*
*Хто такі ён? Невядомы,*
*Незнаёмы.*
*А мо' дзе і сустракалі,*
*Мо' зь ім бачылісь ня раз*[15].

*Колас яшчэ адносна маладыі яго краіна можа чакаць ад яго многа новых удалых твораў. Акрамя вершаў, афарбаваных моцным нацыянальным мясцовым каларытам, ягоная паэзія ўтрымлівае ў сабе й матывы агульначалавечага значэньня. Сфэра гэтых матываў, безумоўна, пашырыцца, асабліва калі ягоная радзіма апраўдае надзеі й стане свабоднай і адукаванай. Тады яго творчасьць будзе вывучацца зь яшчэ большай увагай і любоўю, а ў яго мастацтве будуць знойдзеныя новыя шырокія далягляды й памкненьні. Але відавочна ўжо цяпер, што над яго ўласным "я" й тады будзе панаваць сонца яго мілай Беларусі, якая праз шматвекавыя пакуты здолела*

[14] Цені-страхі.

[15] Колас, Якуб. Звон шыбаў.

*захаваць усьмешку паэзіі й прыгажосьць працавітага, чыстага й яснага жыцьця.*

## *Адзін беларускі паэт: Максім Багдановіч*[16]

*Трэба з сталі каваць, гартаваць гібкі верш,*
*Абрабіць яго трэба зь цярпеньнем.*
*Як ударыш па ім, ён як звон зазьвініць,*
*Бразнуць іскры з халодных каменьняў.*

*Багдановіч*

*Някрасаў неяк заўважыў:*

*Не рыдай так безумно над ним,*
*Хорошо умереть молодым!*[17].

*Беларусь, якая адраджаецца, так ня скажа. Ёй асабліва дарагія маладыя сілы, і калі яна страчвае кагосьці са сваіх творцаў у росквіце гадоў і надзей, вялікімі робяцца яе горыч і шкадаваньне. Так заўчасна памёр адзін зь яе найлепшых паэтаў – Максім Багдановіч. Яму было толькі 25 гадоў, калі бязьлітасныя сухоты забралі яго 25 траўня 1917 года — на досьвітку новага жыцьця ягонай краіны й творчасьці. Сын этнографа Адама Багдановіча, навучэнец Дзямідаўскага ліцэю ў Яраслаўлі, ён яднаў тонкую паэтычную чульлівасьць з шырокімі ведамі ў галіне расейскай і замежнай літаратур. Лёс падрыхтаваў яму зайздросную кар'еру будзіцеля маладой Беларусі, і ён мог бы ўзьняцца на вышыню сучаснай эўрапейскай думкі й найноўшых дасягненьняў мастацтва.*

*Тое, што Багдановіч пакінуў сваім суайчыньнікам, не вызначаецца вялікай колькасьцю, але мае вялікую каштоўнасьць і высокую якасьць. У маленькай кнізе (М. Багдановіч, "Вянок", Вільня, 1923) застаўся выразны адбітак ягонага натхненьня, які дае яму пачэснае месца ў беларускай літаратуры ў галіне апошніх удасканальваньняў паэтычнай тэхнікі.*

*Сярод беларускіх паэтаў XX стагодзьдзя ён дасягнуў найвышэйшай віртуознасьці формы, якая лёгка падпарадкоўваецца душэўнаму стану, паслухмяна рухаецца ўсьлед за ўсімі ягонымі капрызамі й настроямі. Душэўны стан у большасьці выпадкаў*

---

[16] Пераклад зроблены паводле: Ljackij, Eugenio. Un poeta Bianco-russo. Massimo Bagdanovič // Rivista di letterature slave. 1928. № 4. C. 193—201.

[17] Радкі зь вершу Мікалая Някрасава *"Не рыдай так безумно над ним…"*. — ***А. Д.***

*вынікае з найглыбейшага эстэтызму. Яго найперш вабіць прыгажосьць — як у форме зьнешніх уражаньняў, так і ў форме ўнутраных адлюстраваньняў эстэтычнага ўспрыманьня. Ягоная паэтычная кар'ера пачалася ў пэрыяд найбольшага росквіту рускага сымбалізму, і ў сваім імкненьні апяваць пераважна прыгажосьць ён доўгі час быў пасьлядоўнікам расейскіх сымбалістаў. Празь іх працяла ягоную душу пяшчотная чароўнасьць Вэрлена й Анры Рэнье, якіх ён напэўна ведаў і ў арыгінале: “Les chansons grises” Вэрлена зрабілі вялікае ўражаньне на Багдановіча, бо надалі ягонай паэзіі эфірную лёгкасьць ліній у апісаньнях прыроды, напоўненых пяшчотным рамантызмам смутку й незадаволеных памкненьняў. Менавіта яны адарвалі ягоную думку ад суровай рэальнасьці й распусьцілі яе ў няўстойлівай туманнасьці нябеснай фантазіі. Менавіта яны нарэшце падказалі пяшчотную й томную гармонію, што абуджае найбольш глыбокі сум аб недасягальнай вечнасьці.*

*Але матывы раньняга францускага сымбалізму не вычэрпваюць зьмест паэзіі Багдановіча. Узвышаны, няпэўны, чыста эстэцкі складнік — толькі прыступка, дасягнутая Багдановічам у тэхнічнай працы ў галіне беларускай мовы. Гэтая мова, старажытная, як славянская кроў у зморшчынах сучаснага чалавецтва, старога й мудрага, яшчэ вельмі маладая, наіўная, вельмі даверлівая да ўсіх спробаў эўрапейскай літаратурнай культуры. Багдановіч павёў гэтую мову па крутых вышынях зелянеючых гор і бліскучых вадаспадаў да вышыні чыстых сузіраньняў, асьвечаных вечным зьзяньнем прыгажосьці. Але ў ягонай душы быў яшчэ й іншы складнік — прыгажосьць і сум, любоў і пакуты з-за сваёй Беларусі. Ён не захацеў заставацца на парнаскіх вышынях эстэтызму, чароўнага, але халоднага. Беларусь клікала яго да сябе спакойнай задумлівасьцю сваёй прыроды, пяшчотнай скаргай мацярынскага клопату на незразумелы смутак сваіх сыноў. Песьні Багдановіча, прысьвечаныя беларускім матывам, — гэта ня толькі ўзыходжаньне на парнаскія вышыні, ня толькі адмова ад іх, але й спроба дасягнуць гармоніі, пашырыць і паглыбіць гаму адчуваньняў, якімі валодае паэт. Ня ўсё, аднак, добра спалучаецца ў агульным тоне. Гарадзкія песьні Брусава не маглі спалучыцца з паэтычнымі алегорыямі беларускага краявіду, зь ягонымі раўнінамі й лугамі. Холадна гучаць і матывы болю й пакутаў чалавецтва. Больш жывыя колеры, больш цёплае гучаньне маецца там, дзе паэт адчувае пад сваімі нагамі родную беларускую* глебу:

*Даўно ўжо целам я хварэю,*
*І хвор душой, —*
*І толькі на цябе надзея,*
*Край родны мой!*

*У родным краю ёсьць крыніца*
*Жывой вады.*
*Там толькі я змагу пазбыцца*
*Сваей нуды.*

*Калі-ж у ім умру — загіну, —*
*Ня жалюсь я!*
*Ня будзеш цяжкая ты сыну*
*Свайму, зямля.*

*Там хоць у гліне, хоць у брудзе,*
*Там пад зямлёй,*
*Найдуць мае слабые грудзі*
*Сабе спакой.*

*Багдановіч позна спазнаў Беларусь. Ён спазнаў яе найперш з кніг, са збораў песень і казак. Ён прыехаў на радзіму ўжо паэтам, зачараваным выявамі, якія прыгажосьць стварае матывамі сусьветнай любові й прагі жыцьця. Але, дакрануўшыся да Беларусі, адчуў пад нагамі глебу, якая з удзячнасьцю прыняла ягоную музу. Беларуская мова — пяшчотная, сардэчная; пяшчотная ў беларускай народнай паэзіі й прырода — яе ўзгоркі, яе замкнёныя раўніны, яе неглыбокія рэкі. Але для паэта стала палёгкай згубіцца напоўненай паэзіяй душой у зяляніне яе лясоў, у квітнеючых лугах, у вольнасьці палёў. Невыпадкова Багдановіч асьцярожна дакрануўся да сымбалізму ў найбольш выразных ягоных рысах і канчаткова павярнуў сваю паэзію на шлях крыштальнай, дакладнай думкі, яснага й стрыманага слова. Містычныя цені й таямнічыя алюзіі раньняга сымбалізму не маглі спалучыцца з духоўнай структурай народнай беларускай мовы, яснай, простай і дакладнай.*

*У ягоных творах непазьбежна ўзьнікае думка пра лёс Беларусі, што ў палымяным жаданьні лепшай долі злучаецца з агульнай душой беларускай сучаснай паэзіі. Характэрны ягоны санэт, дзе ён зьмешвае два такія далёкія сьветы, як Эгіпет і ягоная радзіма:*

*Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі,*
*Над хвалямі сінеючага Ніла,*
*Ўжо колькі тысяч год стаіць магіла:*
*Ў гаршку насеньня жменю там знайшлі.*

*Хоць зернейкі засохшымі былі,*
*Ўсё ж такі жыцьцёвая іх сіла*
*Збудзілася і буйна ўскаласіла*
*Парой вясновай збожжа на ральлі.*

*Вось сімвал твой, забыты краю родны!*
*Зварушаны нарэшце дух народны,*
*Я верую, бясплодна не засьне,*
*А ўперад рынецца, маўляў, крыніца,*
*Каторая магутна, гучна мкне,*
*Здалеўшы з глебы на прастор прабіцца.*

## II

*Ня варта забывацца, што мы гаворым пра Беларусь, пра мову й літаратуру, якія толькі пачынаюць сьвядомы пэрыяд свайго эўрапейскага разьвіцьця...*

*Паэты зьявіліся ў ёй раней, чым іншаземныя вучэньні далі эстэтычную тэорыю. Яна, несумненна, нараджаецца, але нараджаецца ў мадэлях, ужо выпрацаваных першымі майстрамі роднага мастацкага слова. Ня так важна ведаць, якія матывы й формы Багдановіч запазычыў у паэтаў папярэдніх рэвалюцыі часоў і да якой школы можна аднесьці таго ці іншага паэта. Важней, што такі паэт, як Багдановіч, якога немагчыма аднесьці да нейкай пэўнай школы, здолеў паяднаць сваё высокае мастацкае адчуваньне з вобразамі спантаннай народнай паэзіі палёў і лясоў. Калі ў зьнешняй прастаце й крыштальнай чысьціні ягонага радка бачацца сьляды розных уплываў, і разам з З. Гіпіус і Бальмонтам выяўляюцца водгукі Фета, Апухціна, А. Талстога, то ўсё гэта сьляды й адбіткі, якія ўвайшлі ў паэтычную тэхніку паэта, сталі прыладамі ягонага творчага майстэрства, але ў самой паэзіі, як на спакойнай паверхні, адбіваецца асабістая ўнутраная думка аб жыцьці. Багдановіч належыць да той катэгорыі паэтаў, для якіх народная мова й родная краіна зьяўляюцца крыніцай цеплыні й пяшчоты, насустрач якім адкрываецца ягонае палымянае любячае сэрца й скіроўвае ягонае слова да спакойнай сардэчнасьці, да чароўнай прыгажосьці палявых кветак і асьветленага сонцам сну. У гэтым сьне разгортваецца лясная казка:*

***

*Чуеш гул? — Гэта сумны, маркотны лясун*
*Пачынае няголасна граць:*
*Пад рукамі яго, развважаючы сум.*
*Бытцам тысячы, крэпка нацягнутых, струн,*
*Танкаствольныя сосны зьвіняць.*

*І ці трэба казаць, чаму сьціхла рака,*
*Не шасьцяць у палёх каласы*

*І аб чым шапаціць галасок вецярка*
*Што зіяе-дрыжыць на лісьцёх лазьняка:*
*Кроплі сьлёз ці халоднай расы?*

*Тут няма ні Пана, ні Дрыядаў, а ёсьць фантазіі Фета й заціхаючыя акорды Шапэна. А лёгкасьць і пяшчота перадаюцца душы. Няма тут ні містыцызму, ні жаху, ні няпэўнай томнасьці ў нябесным блакіце — усё проста й натуральна, як у самой беларускай паэзіі. "Вадзянік" (вадзяны дух) і "русалкі" (ундзіны) прыходзяць сюды ня зь пекла й нават ня з млынавога кола, не выклікаюць спалоху, ня топяць, а, хутчэй, абмотваюць сеткамі, калышуць і ўсыпляюць. Паслухайце, што кажа пра сябе "Вадзянік", якому недаспадобы лічыць сябе далёкім сваяком жудасных пачвараў з расейскіх ды ўкраінскіх казак:*

*Сівавусы, згорблены, я залег між цінай,*
*І гадамі грэюся — сплю на дне ракі.*
*Твар травой аблытаны, бытцам павучынай,*
*Засыпаюць грудзі мне жоўтыя пяскі.*

*Над вадой ля берага, ціха сьпіць асока,*
*Ды лаза зялёная жаліцца-шуміць,*
*Хвалі ціха коцяцца і бягуць далёка, —*
*І усё навокала сном адвечным сьпіць.*

*І "Лясун" (дух леса), якому надаюць шмат цёмных правінаў у легендах таямнічых некранутых пушчаў, не адрозьніваецца амаль нічым ад простага селяніна-пчаляра, які шмат ведае, але мала гаворыць.*

*Вось што распавядае пра яго паэт:*

*Стаяў калісь тут бор стары*
*І жыў Лясун у тым бары.*
*Зрубалі бор — лясун загінуў.*
*Во сьлед яго ад тэй пары:*
*Сваё люстэрка ён пакінуў.*

*Маўляў у іншы сьвет вакно*
*Ляжыць, спакойнае, яно,*
*Жыцьцё сабою адбівае*
*І ўсё, што згінула даўно,*
*Ў цёмнай глыбіні хавае.*

*Паслухайце сьпеў "русалак", што спакушальна плыве, але ня бойцеся ні жудасьцяў, ні фатальных спакушэньняў. Прасякніцеся*

*паэзіяй сьветлай летняй ночы. Абудзіце ў сабе прагу паэзіі й мараў, і перад вамі паўстане карціна, створаная паэтам:*

*Сонца ціха скацілася з горкі;*
*Месяц белы заплаканы сьвеціць,*
*Аглядае бахматые зоркі,*
*Цягне з возера срэбные сеці.*

*Ў іх русалкі заблуталі косы, —*
*Рвуць і блутаюць срэбные ніці*
*Ноч плыве над зямлёй, сее росы,*
*Ноч шапоча русалкам: "засьніце"...*

*Але ці гэта сапраўды "русалкі"? А не бязьвінныя душы дзяцей ці нешчасьлівыя ахвяры незадаволенага каханьня? Няма нічога ў іх, што б гаварыла пра нетутэйшае, нічога, што б дазваляла думаць пра чароўнасьць зла, ніякага прадвесьця страчаных душаў. Яны здаюцца, хутчэй, дзяўчатамі, якія прыйшлі з суседняй вёскі, каб пагуляць у срэбнай цемры месяцовай ночы, каб палюбавацца ўласнай прыгажосьцю, каб сасьніць шчасьлівыя сны. Удзень яны ператвараюцца, магчыма, у тых ткачых, пра якіх распавядае верш "Слуцкія ткачыхі":*

*Ад родных ніў, ад роднай хаты*
*У панскі двор дзеля красы*
*Яны, бяздольныя, узяты*
*Ткаць залатыя паясы.*
*І цягам доўгія часіны,*
*Дзявочыя забыўшы сны,*
*Свае шырокія тканіны*
*На лад пэрсыдзкі ткуць яны.*
*А за сьцяной сьмяецца поле,*
*Зіяе неба з-за вакна —*
*І думкі мкнуцца мімаволі*
*Туды, дзе расьцвіла вясна,*
*Дзе блішча збожжэ ў яснай далі,*
*Сінеюць міла васількі,*
*Халодным срэбрам зьзяюць хвалі*
*Між гор ліючайся ракі.*
*Цямнее край зубчаты бора...*

*І тчэ, забыўшыся, рука*
*Заміж пэрсыдзкага узора*
*Цьвяток радзімы васілька.*

*Іншым разам у лірыцы Багдановіча пераплятаюцца эпічныя матывы. Архаічная выява летапісца, паўтораная шмат разоў, выклікае спакойную далёкую думку, якая лунае па-над чалавечымі лёсамі. Урэшце паэт не паказвае летапісца мінулых часоў кшталту несьмяротнага пушкінскага Пімена. Ён малюе сябе самога ў гэтым летапісцы. Ён хацеў бы жарсна распавесьці пра тое, што перажыла ягоная краіна й што яе ўзрушыла:*

*Хай тыя ведаюць, што зьявяцца па нас,*
*Усю праўду пра жыцьцё ў наш і пройшлы час:*
*Пра войтаў, лаўнікаў, і райцаў, і паспольства,*
*Пра розных каралёў, і бітвы, і пасольства.*
*Што тут чынілася ў даўныя гады,*
*Што думалі, чаго бажалі мы тады,*
*За што змагаліся, як баранілі веру, —*
*Хай зьведаюць усё патомкі праз паперу!*

*Падобны тон мае верш “Перапісчык”. Папера пакрываецца прыгожымі роўнымі радкамі. Літары адна ад адной вытанчанейшыя і дакладнейшыя. Загалоўныя літары іншага колеру ўпрыгожваюць высокія думкі, выкананыя вопытнай рукой зь любоўю й натхненьнем. I спакусы летняга дня, асьветленага сонцам, што паглядае з вакна, не перамагаюць раўнівага паборніка “прыгожай працы”. Але лірычныя паэты не ператвараюцца ні ў летапісцаў, ні ў старанных паўтаральнікаў чужых ідэй; яны самі ёсьць спакушэньнем для іншых, пазбаўленых дара складаньня новых песьняў. Сфэра Багдановіча ёсьць сфэрай песьні або, можа быць, арыгінальнага суправаджэньня словаў і думак, якое яму прапануе народная беларуская паэзія. Магчыма, адсюль паходзіць уражаньне, што Багдановіч зьяўляецца паэтам і музыкам адначасова, настолькі багатыя мэлёдыямі й рытмамі ягоныя вершы. Іншым разам здаецца, што слухаеш два матывы, два гарманізаваныя тоны: адзін, натхнёны беларускім складнікам, і другі, які зьмяняецца і з пункту гледжаньня памеру надае адценьні і ўкладае ў віртуозную форму сусьветную гармонію:*

*Парой ён спыніцца, каб лепей завастрыць*
*Пяро гусінае, і гляне: сьветла сонца*
*Стаўпамі падае праз вузкае ваконца*
*I круціцца у іх прыгожы лёгкі пыл;*
*Як сіняваты дым нявідзімых кадзіл,*
*Рой хмарачэк плыве; шырокімі кругамі*
*У небе ластаўкі шыбаюць над крыжамі,*
*Як жар, гарашчымі; а тут, каля вакна,*
*Малінаўка пяе і стукае жаўна.*

*І зноў ён схіліцца, застаўку зноў выводзіць*
*Няяркім серабром; нячутна дзень праходзіць.*
*Ўжо хутка будзе ноч і першая гвезда*
*Благаславіць канец прыгожага труда.*

*Такая ў сваіх асноўных рысах паэзія Багдановіча. Ёсьць у ёй шмат яшчэ незразуметага, што заслугоўвала б уважлівага вывучэньня — асабліва ў тых адгалінаваньнях ягонай творчай думкі, дзе з найбольшай сілай выяўляецца ўплыў народнай лірыкі. Але нават таго, што мы сказалі, дастаткова, каб прыйсьці да высновы, што паэт з такой адчувальнасьцю, сілай і гнуткасьцю паэтычнага натхненьня, як Багдановіч, ёсьць вельмі значнай зьявай ня толькі для Беларусі, якая адраджаецца, але й для ўсяго культурнага славянскага сьвету.*

*Пераклад з італьянскай Аксаны Данільчык*

## *Публікацыі*

***Надзея Старавойтава***
*Менск*

# АБ'ЕКТЫЎНАСЬЦЬ ДАСЬЛЕДАВАНЬНЯ БЕЛАРУСКАГА "ТРЫШЧАНА" Ў ЗАМЕЖЖЫ
## (на матэрыяле італьянскіх і амэрыканскіх выданьняў)

"Раман пра Трышчана ды Іжоту" (далей — "Трышчан") займае выключнае месца сярод помнікаў даўняй беларускай літаратуры. Гэты бліскучы твор — перакладны й арыгінальны адначасова — быў створаны ў 80-я гады XVI стагодзьдзя на Наваградчыне. Ён зьмешчаны ў "Пазнанскім зборніку", які цяпер знаходзіцца ў бібліятэцы імя Рачынскіх у Пазнані. На фоне шматлікіх рэлігійных твораў, летапісаў ён вылучаецца сьвецкасьцю й даволі высокім узроўнем мастацкасьці.

Раман пераўвасабляе легенду пра каханьне рыцара Трыстана й каралевы Ізольды, што зарадзілася ў эпічнай паэзіі брытанскіх кельтаў. У сярэднявечнай Эўропе гэты тэкст карыстаўся неймавернай папулярнасьцю (у Эўропе меліся дзясяткі вэрсій "Трышчана" — паэтычных і празаічных), што да канца XVI ст. ужо згасла. Так, беларуская вэрсія ўзьнікла ўжо на сыходзе эўрапейскай папулярнасьці славутай легенды. Варта адзначыць, што на славянскай глебе гэты сюжэт ня быў рэалізаваны так шырока, як у Заходняй Эўропе (вядомы толькі недасканалая чэская паэтычная вэрсія XIV ст. і сэрбскі згублены прататэкст, які наўрад ці калі існаваў[1]).

Знакава тое, што ў эпоху Адраджэньня гэты рыцарскі беларускі раман не выклікаў перастварэньняў[2], а вось у XX ст., наадварот, перакладчыцкая актыўнасьць у дачыненьні да "Трышчана" нечакана ўзрасла, найперш — на дасьледчыцкай ніве. На сёньня вядомыя <u>дзевяць сучасных перакладаў</u> старабеларускай вэрсіі сусьветна вядомага рыцарскага раману: два сэрбскія пераклады Ірэны Грыцкат (1966 і 1988), два ангельскія пераклады Соні Дэканіч-Яноскі (1977) і Зоры Кіпель (1988), італьянскі пераклад Эмануэлы Згамбаці (1983), летувіскі пераклад Альгімантаса Антанавічуса (2003) і два

---

[1] Сярод літаратуразнаўцаў ёсьць меркаваньне, што фраза, якой пачынаецца беларускі пераклад — "*с книгъ сэрбъских*", — магла азначаць не мову прататэксту, а месца, адкуль кнігі былі прывезеныя, з Сэрбіі.

[2] Падобны рыцарскі твор пра каралевіча Бава з "Пазнанскага зборніка" — "Баво" — на ўкраінскіх ды расейскіх землях XVII—XVIII стст. стаўся вядомай казкай лубачнай літаратуры.

нявыдадзеныя беларускія пераклады Сяргея Шупы й Міколы Раманоўскага, а таксама двойчы надрукаваны беларускі пераклад Алеся Бразгунова (2006 і 2009).

Цікавымі ёсьць яшчэ тры віды працы над тэкстам старабеларускага "Трышчана": транслітарацыя (цалкам) і драматургічная трансфармацыя (фрагмэнт) Надзі Старавойтавай, а таксама п'еса-рэмінісцэнцыя Сяргея Кавалёва. Напавідоку ўнікальныя працэсы ў сусьветным перакладазнаўстве: непапулярны ў XVI ст. у Беларусі раман (вядомы ў адзіным экзэмпляры) набыў сваю папулярнасьць праз чатыры стагодзьдзі менавіта дзякуючы адваротным перакладам са старабеларускай мовы. Разгледзім больш падрабязна італьянскі й ангельскі пераклады.

У 1983 г. у Флярэнцыі італьянскай дасьледчыцай Эмануэлай Згамбаці была выдадзеная першая грунтоўная манаграфія па беларускай трышчаніяне *"Il Tristano Biancorusso"*[3]. Штуршком да гэтай працы былі дасьледаваньні італьянскага славіста Сантэ Грачыёці, які ў Венскай нацыянальнай бібліятэцы знайшоў вельмі важную для нас італа-вэнэцыянскую рэдакцыю "Трыстана"[4]. У 1971 г. Сантэ Грачыёці ў працы *"Hrvatska glagoljska književnost"*[5] першым дакладна вызначыў вэнэцыянскі рукапіс 1486 г. як мажлівую крыніцу беларускага "Трышчана". У 1977 г. Эмануэла Згамбаці (паслядоўніца Сантэ Грачыёці) абгрунтавала гэтую гіпотэзу ў працы *"Note sul Tristano bielorusso"*[6] і пазьней разьвіла ў *"Il Tristano Biancorusso"*.

Прааналізуем структуру гэтай манаграфіі[7]. Прадмова мае тры разьдзелы, кожны зь якіх складаецца з параграфаў. Першы разьдзел называецца "Беларускі "Трышчан" і ўтрымлівае зьвесткі пра гісторыю кодэксу, ягонае вывучэньне, мову, а таксама ягонае сэрбска-харвацкае й італьянскае паходжаньне[8].

---

[3] Sgambati, Emanuela. Il Tristano Biancorusso // Studia Historica et Philologica. Vol. XV. Sectio Slavoromanica. Bd. 4. Firenze, 1983. — 509 p.

[4] Сгамбати, Эмануэла. Белорусская повесть о Тристане и её итало-венетский оригинал // Славянские культуры и мировой культурный процесс. Минск, 1985. С. 122.

[5] Graciotti, Sante. Hrvatska glagoliska knjizevnost kao kulturni posrednik izmeodu evropskog zapada i istocnih slavena // Slovo. XXI. Zagreb, 1971. S. 305—323.

[6] Sgambati, Emanuela. Note sul Tristano bielorusso // Ricerche Slavistiche. 1977—1979. № 24—26. S. 33—53.

[7] Сгамбати, Эмануэла. Белорусская повесть о Тристане и её итало-венетский оригинал // Славянские культуры и мировой культурный процесс. С. 121—126; Sgambati, E. Il Tristano Biancorusso.

[8] Параўнаньне Сантэ Грачыёці акурат і выявіла шэраг новых сэмантычных

Другі разьдзел “Першая частка беларускага “Трышчана” і традыцыя Трыстана ў прозе” апісвае тэматычна-літаральныя й тэкстуальныя суадносіны розных рэдакцый. Трэці разьдзел “Другая частка беларускага “Трышчана” і іншыя тэксты трыстаніяны” раскрывае аднайменную праблематыку. Як адзначае ў сваёй прадмове дасьледчыца, прыблізна першыя тры чвэрці беларускага й вэнэцыянскага тэкстаў (далей — БТ і ВТ) надзвычай шчыльна зьвязаныя, а апошняя чвэрць мае адрозную будову, але амаль кожны яе эпізод і матыў можна адшукаць у іншых італьянскіх празаічных вэрсіях.

Асноўную частку манаграфіі займае тэкст беларускага “Трышчана” й ягоны пераклад на сучасную італьянскую мову, а таксама крытэрыі выданьня, перакладу ды ўжытыя сымбалі. Тут варта адзначыць, што ў сваёй працы над перакладам беларускага “Трышчана” Эмануэла Згамбаці ўжывае не зусім карэктныя мэтады. Так, даслоўны прынцып перакладу на італьянскую мову яна абгрунтоўвае наступным чынам: *“штучна захаваць убогасьць і аднастайнасьць лексікі арыгіналу...Той самы прынцып зьяўляецца вынікам захаваньня каструбаватасьці сынтаксісу беларускага арыгіналу”*[9]. Відаць, такая думка наконт прадмету дасьледаваньня вынікае зь неабазнанасьці аўтара ў старабеларускай мове, недастатковай інфармаванасьці пра ўмовы яе разьвіцьця й слабога адчуваньня ды недаацэнкі спэцыфікі мастацкага стылю старадаўняй беларускай прозы[10]. Наадварот, як сьцьвярджаў акадэмік Яўхім Карскі, беларуская вэрсія гэтага рыцарскага раману апрацаваная з такой доляй аўтарскай свабоды, майстэрства й экспрэсіі, што пры яе чытаньні й цяпер ствараецца ўражаньне непасрэднае гутаркі апавядальніка з чытачом. Дзякуючы багацьцю лексікі, найбольш сынаніміі, а таксама фразэалёгіі, разнастайнасьці сынтаксісу, шматлікім тропам і фігурам аўтар знаходзіць непаўторныя фарбы для кожнага зь бясконцых турніраў, для перадачы лірычных

---

сэрбізмаў у беларускім тэксьце, што лішні раз пацьвердзіла вэрсію А. Весялоўскага пра сэрбскі пратограф: *ведро — “ветразь”* ← сэрб. *jѐдро* ← іт. *vela — “ветразь”*. Між іншага, такое напісаньне лексэмы магло быць ня проста сэрбізмам альбо памылкай перакладу, але й магчымай беларускай формай, паколькі ў выніку мы назіраем аднакарэнныя словы: *ведро — ветразь*. Зора Кіпель таксама лічыла лексэму ***ведро*** проста скажэньнем старабеларускага *ветрило*.

[9] Sgambati, Emanuela. Il Tristano Biancorusso. P. 80.

10 Эмануэла Згамбаци паводле сваіх асноўных навуковых зацікаўленьняў ёсьць русістам, працуе ў Рымскім ўнівэрсытэце Ла Сапіенца. Відавочна, што праца над “Трышчанам” была для яе выпадковая й ад 1980-х гг. да беларусістычных пытаньняў яна больш не зьярталася.

эпізодаў, апісаньня перажываньняў[11]. Багацьце жывой народнай гаворкі прыводзіць дасьледчыкаў да перакананьня, што "Трышчан" — гэта вельмі таленавіты творчы пераказ, а не пераклад. Італьянская ж дасльедчыца не заглыбілася ў нюансы стылістыкі твору. Нягледзячы на гэта, кніга мае даволі каштоўныя для нас дадаткі, асабліва першы — сынаптычныя табліцы, у якіх дасьледчыца параўноўвае самыя важныя эпізоды БТ і ВТ зь іншымі вэрсіямі трышчаніяны, праўда, не тэксталягічна, а апісальна.

У сваёй параўнаўчай працы Эмануэла Згамбаці карысталася рознымі выданьнямі, але найбольш пазытыўныя вынікі прынесла супастаўленьне беларускага "Трышчана" з "*Tristano Veneto*" (ВТ), які разам зь некрытычным выданьнем Курціс (далей — РТ) называецца найбольш блізкім да БТ тэкстам. Шматлікія фактары, як адзначае Эмануэла Згамбаці, вядуць менавіта да ВТ як да непасрэднага пратографу БТ (напрыклад, лексема *autre* — "іншы" РТ, што ў ВТ і БТ робіцца ўласным імем *Audret, Аудрет*). Менавіта той факт, што першая частка БТ часта вельмі дакладна ўзнаўляе ВТ, дазволіў дасьледчыцы правесьці тэкстуальнае параўнаньне між гэтымі часткамі.

Самае відавочнае адрозьненьне паміж ВТ і БТ — гэта скарачэньне беларускага тэксту, што адчуваецца як на макра-, так і на мікраструктуры аповеду, а таксама ў шматлікіх тэматыка-літаральных і лінгвістычных суадпаведнасьцях. Аднак пасьля таго, як дасьледчыца правяла аналіз тэкстуальных адносінаў і выявіла ў ВТ памылкі й пропускі, адсутныя ў БТ, яна выключыла магчымасьць паходжання БТ наўпрост ад ВТ і выказала тры меркаваньні наконт паходжаньня БТ[12]. Найбольш верагодным ёй падаецца трэцяе, паводле якога БТ паходзіць ад ВТ2, скарачаючы ВТ1 і выпраўляючы яго шляхам параўнаньня з францускім тэкстам. Цяпер робіцца зразумелым і відавочнае адрозненьне БТ: тэкст раману быў скарочаны не ў беларускім перакладзе, а ў яго пратографе, што толькі пацьвярджае нашую думку пра паспешнасьць высноваў А. Міхайлава наконт "*зжаванасьці*" беларускага "Трышчана". Урэшце, дасьледчыца яшчэ раз нагадвае, што трэцяе меркаваньне сапраўднае толькі для першай часткі БТ, а для другой сапраўднае сьцьвярджэньне наяўнасьці большай часткі матываў і эпізодаў у італьянскай трыстаніяне.

У 1988 г. у Нью-Йорку дасьледчыцай Беларускага інстытуту навукі й мастацтва Зорай Кіпель была выдадзеная іншая грунтоўная

[11] Карский, Ефим. Белорусы: в 3 т. Т. 3: Очерки словесности белорусского племени. Вып. 2: Старая западнорусская письменность. Петроград, 1921. С. 78.

[12] Сгамбати, Эмануэла. Белорусская повесть о Тристане и её итало-венетский оригинал. С. 125.

манаграфія па беларускай трыстаніяне *“The Byelorussian Tristan”*[13]. Структура працы традыцыйная: прадмова, выбраная літаратура, “Беларускі Трыстан” у перакладзе Зоры Кіпель на сучасную ангельскую мову (першы пераклад на ангельскую быў зроблены ў 1977 г. С. Дэканіч-Яноскі, але дасьледчыца няправільна ўжыла там тэрмін *“сэрбарускі Трыстан”*[14]), тэксталягічныя заўвагі, дадатак і паказьнік імёнаў.

Асаблівай увагі беларускага дасьледчыка заслугоўваюць прадмова, тэксталягічныя заўвагі й дадатак. У прадмове ўздымаюцца такія праблемы, як аўтар і чытацкая аўдыторыя, мастацкія дасягненьні, крыніцы і ўплывы. У параграфе “Мастацкія дасягненьні” ўпершыню разглядаюцца не заўважаныя ранейшымі дасьледчыкамі вартасьці беларускага перакладу: архітэктоніка, трансфармацыя вобразаў і выяўленчая сыстэма. У тэксталягічных заўвагах спрэчныя моманты англамоўнага перакладу тлумачацца пры дапамозе кампаратыўных мікрадасьледаваньняў арыгінальнага беларускага тэксту зь іншымі вэрсіямі раману ў прозе. Нарэшце, дадатак уяўляе зь сябе рэканструкцыю лакунаў на першых шасьці старонках беларускага раману, улічваючы папярэднія дасьледаваньні і ўжываючы той самы кампаратыўны мэтад. Гэтая рэканструкцыя зьяўляецца самым каштоўным матэрыялам для працы тэкстоляга.

Праведзены намі ў ранейшых працах тэксталягічны аналіз, акрамя тэкставай блізкасьці, выявіў і шэраг канцэптуальных разыходжаньняў, найбольш важным зь якіх зьяўляецца тое, што ад самага пачатку беларускі перакладчык крыху іначай расстаўляе акцэнты, арыентуючы чытача на гуманізм (такія моманты мы яшчэ неаднаразова сустрэнем у раманах “Пазнанскага зборніка”). Падобнай думкі прытрымліваецца і Зора Кіпель у сваіх дасьледаваньнях: беларускі “Трышчан”, акрамя літаральнага насьледаваньня ВТ у першай частцы, вылучаецца й наяўнасьцю тонкіх псыхалягічных нюансаў, новых у сусьветнай трышчаніяне. Гэта вынікае з заглыбленага й больш аб’ектыўнага аналізу тэксту, праведзенага беларускай дасьледчыцай на эміграцыі Зорай Кіпель.

Такім чынам, у ХХ—ХХІ стст. менавіта беларускі пераклад робіцца імпульсам, зваротным пунктам адліку ў больш як тысячагадовым існаваньні легенды пра Трышчана ды Ізоту. Гэтая ідэя цалкам аспрэчвае нэгатыўныя водгукі некаторых замежных перакладчыкаў і дасьледчыкаў пра мастацкія вартасьці беларускага раману, падкрэсьліваючы яго ўнікальнасьць.

---

[13] The Byelorussian Tristan / Transleted by Zora Kipel. New York & London: Garland Publishing, 1988. — 166 p.

[14] Janoski, S. The Serbo-Russian Romance of Tristan and Isolt // The Tristan Legend. Texts from Northern and Eastern Europe in modern English Translation. Leeds Medieval Studies. Vol. 2. Leeds, 1977. P. 47—147.

## *Публікацыі*

***Лявон Юрэвіч***
*Нью-Ёрк*

# VARIA

## Вуду, зомбі й белыя рускія

Этнограф Стэнфард Нэйл Гербэр, аўтар кнігі *“Russkoya Celo”* — пра беларускае мястэчка ў ЗША, а таксама (цікавая сувязь, зразумець бы) тэкстаў пра адметнасьці сем’яў на Карыбах[1], падаўся Ганьне Кісьліцынай ледзь не прыдуманым пэрсанажам, народжаным дзеля інтрыгі або містыфікацыі[2]. Гэта яна шчэ пра Сібрука ня чула!

Уільяма Сібрука (*William Buehler Seabrook*), народжанага ў 1884 г. у Ўэстмінстэры (штат Мэрылэнд), акрэсьліць нейкім адным азначэньнем немагчыма; гэта быў журналіст (і ў пэўныя пэрыяды нават вельмі папулярны), вандроўнік і аўтар травэлёгаў, вэтэран Першай сусьветнай, садамазахіст, акультыст. Сярод знаёмых — сам Алістэр Кроўлі, Гертруда Стайн, Сінклер Льюіс, Олдас Гаксьлі, Томас Ман, Тэадор Драйзэр (што праўда, назваць іх сябрамі наўрад ці можна; апошні дык наагул назваў Сібрука ў вочы *“жоўтым журналістам”*). Фрэнсіс Скот Фіцджэральд у зборніку эсэяў *“Crack Up”* (1945), напісаным у сумны пэрыяд жыцьця аўтара й выдадзеным адно праз пяць гадоў пасьля ягонай сьмерці (але акурат у год самагубства Сібрука), згадвае такога ж, як і сам, пісьменьніка-алькаголіка й кнігу аб спробах таго пераадолець залежнасьць; ні назоў, ні імя не называе: на той час ў тым патрэбы не было. Тым больш дзіўна, што сёньня гэтае імя амаль нікому нічога не скажа нават у Амэрыцы.

Вярнуўшыся з вайны, куды пайшоў добраахвотнікам у ліку таго самага страчанага пакаленьня, што й Гэмінгўэй, толькі старэйшым ад яго на добрых пятнаццаць гадоў, Сібрук таксама прагна хацеў рабіць Вялікую Літаратуру. От толькі ягоныя кароткія апавяданьні — пра звышнатуральнае ці сэкс-злачынствы — адкідаліся рэдакцыямі зь лёгкай пагардаю.

Прарывам сталася знаёмства зь лебанійскім студэнтам Калюмбійскага ўнівэрсытэту, які ўсім знаёмцам расказваў пра сваю бацькаўшчыну й запрашаў наведаць яе. Сібрук ухапіўся за прапанову і ўжо праз два месяцы жыў сярод бедуінаў у пустэльні, знаёміўся

[1] Юрэвіч, Лявон. Жанры. Мінск, 2013. С. 62—67.

[2] Acta Albaruthenica. Т. 13. Warszawa, 2013. С. 374.

з дэрвішамі, браў удзел у крадзяжы коней, быў адораны дзяўчынай-рабыняй для сэксуальных паслугаў, нават перайшоў у іслам, каб зрабіць прыемнае гаспадарам, — і ў выніку нарадзілася кніга, што мела даволі гучны розгалас, — *"Adventures in Arabia: Among the Bedouins, Druses, Whirling Dervishes, and Yezidee Devil Worshipers"* (1927).

Гэтая кніга вызначыла формулу пісьменьніка, якой ён больш-менш карыстаўся пры напісаньні ўсіх наступных: 1) прыехаць у як мага больш экзатычную мясцовасьць; 2) шукаць і знайсьці забароненае (месца, рытуал, культ); 3) атрымаць пагрозьлівае папярэджаньне, а мо нават забарону (не хадзіць, не глядзець, не размаўляць), інакш — будзеш забіты / звар'яцееш / пракляты; 4) перамагчы ўсё гэта; 5) знайсьці! Галоўны герой, ён жа аўтар — гэткі белы вандроўнік з адкрытым сэрцам і розумам у зямлі цемры й містэрый.

Наступная кніга, *"Magical island"* (1929), сталася бэстсэлерам без аніякіх перабольшваньняў (прададзена звыш паўмільёну копій!). Яна расказвала пра наведваньне Сібрукам Гаіці (і што іх усіх вабіла на Карыбы?!) і знаёмства з вуду, з зомбі. Ня ён прыўнёс гэтае слова ў ангельскую мову, але яму дакладна належыць слава шырокай папулярызацыі: амэрыканскі зомбі ў літаратуры й кіно адпавядае ягоным апісаньням. Нават больш: першы зомбі-фільм, што паклаў пачатак шалёнай вядомасьці жудасьцікаў з жывымі мерцьвякамі, *"White Zombie"* (1932), у значнай ступені будаваўся на гэтай кнізе й карыстаў адтуль цэльныя дыялёгі.

Пазьней Сібрук выдаў не адну кнігу і часам шакаваў прызнаньнямі ў каштаваньні чалавечага мяса (*"троху падобнае на ялавічыну"*) ці сэксуальнымі задавальненьнямі ад залучэньня кабетаў у кайданы й падвешваньня іх на страсе свайго хлеўчука, але падобнай славы паўтарыць ужо ня мог. Да ўсяго далучыліся праблемы з алькаголем, і ў 1933 г. ён добраахвотна аддаўся лячэньню, якое ў тыя часы было даволі брутальным: адна з працэдураў складалася з загортваньня чалавека ў мокрыя прасьцірадлы — зрэшты, для Сібрука, зь ягонай любою да садамазахізму, тое было нават прыемна. Ад алькаголю ён ня вылекаваўся, затое сапраўдным вынікам сталася яшчэ адна кніга — *"Asylum (An Alcoholic Takes the Cure)"*, раньні ўзор жанру мэмуараў скандальнай славутасьці, шчыры й балючы аповед.

Сібрук скончыў жыцьцё самагубствам, сьвядома прыняўшы сьмяротную дозу наркотыкаў, у 1945 г. Але яшчэ ў 1938 г. ён напісаў і выдаў троху нязвыклую для сябе кнігу, якая й сталася падставаю зацікаўленьня аўтарам. Кніга называлася *"These Foreigners: Americans All"* ("Гэтыя замежнікі: усе амэрыканцы")[3].

[3] Seabrook, William. These Foreigners. Harcourt, Brace and Company. New York, 1938. — 358 p.

У прадмове Сібрук засьцерагае чытача, што кніга не зьяўляецца працай па сацыялёгіі, палітыцы ці эканоміцы. Усё, што хацелася аўтару, — паказаць праз асабістыя, пэрсанальныя, чалавечыя партрэты й замалёўкі, якога кшталту людзі суайчыньнікі-амэрыканцы, што яны прыўнесьлі ў гэтую краіну, як жывуць на гэтай зямлі, як на іх глядзяць і як да іх ставяцца.

Кніга расказвае пра пяць групаў: скандынаваў, італійцаў, немцаў, палякаў і рускіх, пра якіх шосты, апошні разьдзел. Аўтар расказвае, што знаходзіцца ён каля Ўэстбуры (*Westbury*), Лонг-Айленд, але адначасна — ён *"на Белай Русі. На Сьвятой Русі"* (с. 300). Ну й сапраўды: ягоны суразмоўца — князь Гагарын. Стэнфард Нэйл Гербэр ухваляе. Тым болей, што й далей у аповедзе — гусары, князі, адным словам, усе тыя "белыя рускія".

Праўда, калі заходзіць аб *"White Russian peasant members"* (с. 309) гэтай грамады, цяжка здагадацца, пра каго ж там ходзіць — "белагвардзейскіх сялянаў" ці ўсё ж беларусаў? Далей сам аўтар прызнаецца, што гэтыя рускія паходзяць *"з Белай Расіі, Малой Расіі ці правінцый кшталту Карпата-Расіі або частак Польшчы, Фінляндыі, Літвы, якая ўжо зусім не Расея"* (с. 319).

Затое праз дзьве старонкі — згадка аб містэры Тарсаідзэ, які памятае, як Сталін абрабаваў банк, сам жа ён тут дапамагае з правядзеньнем дзьвюх імпрэзаў "Белай Русі": "Алавэрды Баль" і "Рускі Марскі баль" (с. 321).

А вось на с. 344—345 чытаем пра падарожжа аўтара ў Чыкага: *"Я спыніўся ненадоўга ў Чыкага, дзе найбольшае — па-за Нью Ёркам — гарадзкое расьсяленьне рускіх. [...] Я пазнаёміўся з Іосіфам Якавічам Варонкам, Белым Рускім, нягледзячы на старазапаветная імя, калісьці міністрам у Керанскага, які дванаццаць гадоў выкладаў рускую мову ў школах Чыкага, а цяпер прасоўвае Руска-Амэрыканскія праграмы на станцыі WSBC. Містэр Варонка, шчыры, вясёлы ("gay") і які выглядаў троху як сам Керанскі, зарганізаваў Руска-Амэрыканскі Радыё Клюб і запрасіў нас усіх на штогадовы баль і кабарэ ў Масонскі Храм на North авэню"*. На балі прысутнічалі генэралы, князі, баранэсы, кіроўцы таксі, афіцыянты.

Адным словам, *"всё смешалось в доме"* Белай Русі.

Прысутнасьць беларусаў у гэтай кнізе можна, вядома, расцаніць ня болей, як кур'ёз, падобна кнізе *"Russkoya Celo"*, але, як і там, тут можна знайсьці свае станоўчыя бакі. Прынамсі два.

Першы, калі паверыць аўтару, дык адкрываецца новы й даволі нечаканы аспэкт дзейнасьці Язэпа Варонкі ў Чыкага. Бо наўрад ці можна было прыдумаць, нават зь Сібруковай фантазіяй, увесь баль з казакамі, балетам і сьпевамі ў гонар Раманавых.

Другое — адзначыць прапробленую паваеннай эміграцыяй працу па адукаваньні тубыльцаў, бо сёньня ніводны этнограф, ніякі аўтар травэлёгу ўжо ня зблытае беларуса зь белагвардзейцам[4].

## Узнаўленьне біяграфіі: працяг

“Узнаўленьне біяграфіі: Да гісторыі беларускае эміграцыі ў ЗША першай чвэрці XX стагодзьдзя” — пад такім назовам быў выдрукаваны тэкст ў маёй кнізе “Жанры” (Мінск, 2013, с. 128—164), дзе апавядалася пра лёсы асобных “мужыкоў” і “кніжных людзей”, народжаных у Беларусі й выехаўшых у Амэрыку ў пошуку лепшага лёсу.

Зразумела, згадана было далёка не пра ўсіх; гэта вялікая й няпростая задача будучага — сабраць і ўкласьці біяграфічны даведнік даваеннай эміграцыі кшталту таго, што ў дачыненьні да паваеннай зрабіла Натальля Гардзіенка[5]. Тут жа падаецца яшчэ некалькі жыцьцяпісаў больш ці менш вядомых эмігрантаў, пра якіх удалося адшукаць весткі ў амэрыканскім друку.

***Велікоўскі (Вялікатоўскі) Імануіл Сямёнавіч*** (29 траўня / 10 чэрвеня 1895 г., м. Сасонікі Віцебскай губ. — 17 лістапада 1979 г., Прынстан, Нью-Джэрзі), філёзаф, гісторык, пісьменьнік, псыхіятар, псыхааналітык. Бацька — купец 1-й гільдыі Шымон-Ехіель (Сямён Якаўлевіч), маці — Бэла Гродзенская. Ад 1901 г. жыў у Маскве. Закончыў з залатым мэдалём гімназію Мядзьведнікавых (1905—1913). Вандраваў па Эўропе, Блізкім Усходзе. Студыяваў мэдыцыну ў Манпэлье (Францыя) і ва ўнівэрсытэце Эдынбургу, дзе слухаў лекцыі А. Бэргсана. Вярнуўся ў Расею ў 1914 г. У 1921 г. празь Літву, Латвію, Эстонію, Швэцыю эміграваў у Нямеччыну. У 1921—1923 гг. у Бэрліне, працаваў у шпіталі “Шарытэ”. Быў выдаўцом і рэдактарам часопісу “Скрыпта” (*Scripta Universitatis Atque Bibliothecae Hierosolymitanarum*), да ўдзелу ў якім здолеў заахвоціць Нільса Бора, Альбэрта Эйнштэйна. Студыяваў курс псыхааналізу ў Вене ў В. Штэкеля. Ад 1939 г. — у ЗША. Аўтар арыгінальнай альтэрнатыўнай канцэпцыі гісторыі чалавецтва, якая атрымала даволі шырокае распаўсюджаньне.

Творы: *Worlds in Collision. New York, 1950; Ages in Chaos. Vol. 1—3. New York, 1952–1978; Oedipus and Akhnaton. New York, 1960; Peoples*

[4] Але ў якасьці параўнаўча сучаснага кур’ёзу варта згадаць кнігу аўтарства *Jak Deleon* пад назовам *“The White Russians in Instanbul”* (Istanbul, Turkey: Remzi Kitabevi, 1995). Мяркую, ня варта казаць, пра каго насамрэч там распавядаецца.

[5] Запісы БІНіМ. № 37. Нью-Ёрк — Менск, 2014. С. 10—260.

*of the Sea. New York, 1977; Rameses II and His Times. New York, 1978; Mankind in Amnesia. New York, 1982.*

***Вансовіч Язэп Язэпавіч*** (10 лістапада 1867 г., Менск — 25 ліпеня 1944 г., Сан-Францыска, Каліфорнія), літаратар. Да рэвалюцыі працаваў у галоўным кіраўніцтве Кітайска-Ўсходняй чыгункі ў Петраградзе. Адначасна супрацоўнічаў з рэдакцыяй часопісу *"Вестник Русско-японского общества"*, быў адным з заснавальнікаў гэтага таварыства (1907). Ад верасьня 1921 г. жыў у Харбіне, дзе працаваў сакратаром Біржавога камітэту й камэрцыйным агентам кіраўніцтва чыгункі. Звольнены ў 1940 г. за адмову ўзяць савецкі пашпарт. Доўгі час быў беспрацоўным, зарабляў літаратурнымі публікацыямі, выдаў дзьве кнігі (*Покуривая трубку. Рифмов блокнот. Харбин, 1930; Проблески. Блокнот 2-ой. Шанхай, 1934*). Пераехаў у Сан-Францыска перад самым пачаткам Другой сусьветнай вайны. Браў удзел у працы "Рускага цэнтру", друкаваўся ў газэце *"Русская жизнь"*.

***Падзюкоў Сяргей Мікалаевіч*** (23 кастрычніка 1922 г., Берасьце — 22 кастрычніка 1993 г., Томс-Рывэр, Нью-Джэрзі), архітэктар. У 1939 г. апынуўся (добраахвотна ці прымусова, пакуль ня высьветлена) у Нямеччыне. У 1950 г. закончыў архітэктурны факультэт політэхнічнага факультэту ў Карлсруэ, а ў 1954 г. з жонкаю-немкаю эміграваў у ЗША. У 1960 г. атрымаў у Прынстане дыплём архітэктара, заснаваў уласную фірму па праектаваньні й будаўніцтве, якая за 30 гадоў свайго існаваньня ў Амэрыцы пабудавала звыш 40 праваслаўных і каталіцкіх цэркваў.

***Шохат Якаў Аляксандравіч*** (5/17 жніўня 1886 г., вёска Рагозна Кобрынскага павету Гарадзенскай губ. — 8 кастрычніка 1944 г., Філядэльфія), матэматык. Закончыў берасьцейскую гімназію з залатым мэдалём, вучыўся ў Санкт-Пецярбургу (1906—1910). Вучань члена Пецярбурскай Акадэміі навук, будучага віцэ-прэзыдэнта АН СССР В. А. Сьцяклова. У 1922 г. абараніў доктарскую дысэртацыю *"Исследования одного класса многочленов, наименее отклоняющихся от нуля в данном промежутке"*. У тым самым годзе атрымаў дазвол выехаць у Польшчу. Ад 1923 г. жыў у ЗША, ад 1929 г. — грамадзянін. Асыстэнт, пазаштатны прафэсар Чыкагскага (1923—1924), Мічыганскага (1924—1929) унівэрсытэтаў, унівэрсытэту ў Пэнсыльваніі (ад 1930). Поўны прафэсар ад 1942 г. Адзін з выдаўцоў бюлетэню Амэрыканскага матэматычнага таварыства (1940—1944). Сябра Матэматычнай асацыяцыі Амэрыкі, Інстытуту матэматычнай статыстыкі, Амэрыканскай асацыяцыі разьвіцьця навукі. Навуковыя досьледы прысьвечаны пытаньням матэматычнага аналізу й прыкладной матэматыкі. Пахаваны ў Вашынгтоне на Арлінгтонскіх могілках.

Творы: *A Bibliography on Orthogonal Polynomials. Washington, 1940; The Problem of the Moment, 1943; Stieltjes Integrals in Mathematical Statistics. Ann Arbor, 1946.*

***Шуб Давід Натанавіч*** (13 верасьня 1887 г., Паставы Дзісьненскага павету Віленскай губ. — 27 траўня 1973 г., Маямі-Біч, Флярыда), дзеяч расейскага сацыял-дэмакратычнага руху, пазьней габрэйскага сацыялістычнага руху ў ЗША, журналіст і гісторык. Ад 1903 г. жыў у ЗША. У 1920—1970 гг. супрацоўнічаў у розных расейскамоўных амэрыканскіх часопісах і газэтах (*“Дни”, “Новое Русское Слово”, “Новый Журнал”*), дзе выдрукаваў шматлікія артыкулы па гісторыі расейскага й габрэйскага рэвалюцыйных рухаў. Быў адным зь вядучых журналістаў у ідыш-прэсе. У артыкулах крытыкаваў бальшавікоў. Асобныя артыкулы склалі кнігу *“Политические деятели России 1850—1920-х годов”* (NY, 1920). Самай папулярнай кнігай Шуба сталася “Ленін. Біяграфія” (NY, 1928 — ідыш; 1948 — пашыранае англамоўнае выданьне). У *“Новом Журнале”* ў 1970—1973 гг. апублікаваў разьдзелы з успамінаў *“Из давних лет”*.

***Эліяс (Эльяшэвіч) Максім Конрадавіч*** (12 жніўня 1889 г., Менск — 6 траўня 1982 г., Альянс, Нябраска), палеантоляг, палеаэколяг, стратыграф. У 1917—1920 гг. дацэнт Уральскага дзяржаўнага інстытуту, геоляг (1917—1918), старшы геоляг (1919—1920) Верхнясецкай горнаруднай кампаніі. Ад лістапада 1922 г. жыў у Сан-Францыска, ад 1930 г. — грамадзянін ЗША. У 1927—1937 гг. геоляг Канзаскай геалягічнай службы. У 1938 г. вёў геалягічныя досьледы ў Калюмбіі. Доктар філязофіі Ельскага ўнівэрсытэту (1939). Дысэртацыя *“Tertiary Grasses of the High Plains nad Their Relations to the Geology of the Region”*. У 1939—1958 гг. — палеантоляг Нябраскай геалягічнай службы. Ад 1958 г. — ад’юнкт-прафэсар палеанталёгіі ўнівэрсытэту ў Аклахоме. Сябра Палеанталягічнага, Геалягічнага й Батанічнага таварystваў ЗША.

***Юрэвіч Вадзім Аляксандравіч*** (16/28 кастрычніка 1872 г., Асіповічы Менскай губ. — 26 лютага 1963 г., Нью-Ёрк), бактэрыёляг, імуноляг. Паходзіў з шляхты. Закончыў 6-ю варшаўскую гімназію (1891), Пецярбурскі ўнівэрсытэт з дыплёмам 1-й ступені (1895). Доктар мэдыцыны (1902). Два гады (пачынаючы ад 1903) стажыраваўся ў Паталягаанатамічным інстытуце прафэсара К. Вэйгерта ў Франкфурце-на-Майне і ў парыскім Пастэраўскім інстытуце ў І. Мечнікава. Браў удзел у Першай сусьветнай вайне. У 1916 г. выяжджаў у Бухару для змаганьня з эпідэміяй сыпнога тыфусу. На пачатку сьнежня 1917 г. звольнены са службы, пераехаў на поўдзень

Расеі. Эвакуяваўся з Крыму ў Канстантынопаль. Ад 1922 г. жыў у Празе, потым пераехаў у Парыж, дзе працаваў у Пастэраўскім інстытуце. У 1930—1933 гг. па кантракце з Інстытутам зарганізаваў у Сайгоне лябараторыю па вырабе вакцынаў супраць інфэкцыйных хваробаў у Індакітаі. Па вяртаньні ў Парыж у 1934 г. працаваў у фармацэўтычнай лябараторыі. У кастрычніку 1946 г. пераехаў у Нью-Ёрк, ад 1954 г. — грамадзянін ЗША. Аўтар працаў, прысьвечаных пытаньням імунітэту, гематалёгіі. Пахаваны на Сьв.-Уладзімірскіх могілках каля Кэсьвілу (Нью-Джэрзі).

***Якаўлеў Павал Іванавіч*** (28 сьнежня 1894 г., вёска Турэц Віцебскай губ. — 16 чэрвеня 1893 г., Сілвэр Спрынг, Мэрылэнд), мэдык, нэўроляг, нэўрапатоляг. Зь сям'і вайскоўцаў. Закончыў клясычную гімназію ў Вільні. У сьнежні 1919 г. зьбег у Фінляндыю. Праз Англію ў траўні 1920 г. прыехаў у Парыж. Доктар мэдыцыны (Сарбона, 1925). У 1925 г. пераехаў у ЗША, практыкаваў на Род-Айлендзе, пазьней супрацоўнік Бостанскага гарадзкога шпіталю, шпіталю Мансон для эпілептыкаў (1926—1937), дырэктар лябараторыі ў Мэтраполітэн-шпіталі (1937—1940), дырэктар Школы В. Фэрналда ў Масачусэце (1937—1940). У 1947—1951 гг. выкладчык у Гарвардзе, куратар Анатамічнага музэю Гарвардзкага ўнівэрсытэту. Стваральнік унікальнай калекцыі зрэзаў мозгу (знаходзіцца сёньня ў Нацыянальным музэі здароўя й мэдыцыны Інстытуту паталёгіі Ўзброеных сілаў у Вашынгтоне). Прэзыдэнт Амэрыканскай асацыяцыі нэўрапатолягаў (1951), ляўрэат шматлікіх прафэсыйных прэмій.

## Загадка Самуйлёнка

*Восеньню кветкі завянуць у полі,*
*Кветцы засохшай ізноў не цьвісьці, —*
*Думкі твае не завянуць ніколі,*
*Думкі аб нашым прыгожым жыцьці.*

Янка Купала. Памяці Эдуарда Самуйлёнка

Прыгожае жыцьцё было — ці толькі думкі аб ім?

Анягож: Указам Прэзыдыюму Вярхоўнага Савета СССР, апублікаваным 2 лютага 1939 г. пад назваю "Аб узнагароджаньні савецкіх пісьменьнікаў", "*за выдатныя посьпехі й дасягненьні ў разьвіцьці савецкай мастацкай літаратуры*" ордэнамі Леніна былі ўзнагароджаныя Янка Купала й Якуб Колас, ордэнам Працоўнага Чырвонага Сьцяга — Зьмітрок Бядуля, Міхась Лынькоў і Эдуард Самуйлёнак.

А менш як за паўгоду, у кастрычніку 1938 г., народным камісарам унутраных справаў БССР маёрам дзяржбясьпекі Аляксеем Наседкіным (адным з арганізатараў забойстваў у Курапатах) амаль напярэдадні ўласнага арышту (20 сьнежня; расстраляны 26 студзеня 1940 г. Юрка Віцьбіч сказаў бы: "*Насіў воўк, панесьлі і ваўка*") была дасланая Панцеляймону Панамарэнку папера з грыфам "*Совершенно секретно. Только лично*" "*Об имеющихся компрометирующих материалов*[6] *на членов Союза советских писателей БССР*", дзе пад пунктам 12 паведамлялася: "*Самуйлёнок Эдуард Людвигович, 1907 г. рождения, уроженец г. Ленинграда, беспартийный, по национальности поляк. В 1927 г. вышел из комсомола. Сын стражника. Член Союза советских писателей Белоруссии. В последнее время почти ничего не пишет, так как болеет туберкулезом. Изобличается показаниями разоблаченных нами врагов: Пивоварова, Дударя, Микулича, Звонок и Зарецкого как участник антисоветской нацдемовской организации*"[7].

Падставаю для высокай узнагароды сталася, напэўна, выдадзеная напярэдадні першая кніга раману "Будучыня" (1938), падзеі якога разгортваюцца на радзіме Сталіна. Сучаснае літаратуразнаўства лічыць, што тая зямля "*прываблівала да сябе многіх савецкіх пісьменьнікаў*"[8], сам жа аўтар шукаў для сябе новых выклікаў. Журналіст Сяргей Богдан, згадваючы сказанае Віцьбічам пра пісьменьніка, піша, што той, маўляў, зашмат бярэ на сябе, а "*Самуйлёнак разумеў, што беларуская літаратура ня мусіць абмяжоўвацца роднай вёскай дый сьмела рушыў у Грузію, каб напісаць сэрыю твораў пра каўкаскую краіну. Ён ня быў кабінэтным творцам, як некаторыя нават сёньняшнія аматары напісаць пра нябачаныя імі джунглі ды людажэраў. Гэты чалавек спачатку, як Грэм Грын, на сваёй скуры адчуў пралетарскі стан, пілуючы дошкі, дый сьпёкся пад сонцам Калхіды. Ня дзіва, што й пісаў ён пра пралетарыят ды далёкія краіны так, што гэта чытаецца і празь дзесяцігодзьдзі*"[9].

Нямала гэта: браць на сябе адказнасьць сцьвярджаць, што менавіта так думаў Самуйлёнак. Віцьбіч жа пакінуў сьведчаньне, як ягоны калега па ТАВІЗу "*зусім п'яны Эдуард Самуйлёнак крычаў:*

---

6 Так у арыгінале.

7 Платонаў, Расціслаў. Лёсы. Гісторыка-дакументальныя нарысы аб людзях і малавядомых падзеях духоўнага жыцця ў Беларусі 20–30-х гадоў. Мінск, 1998. С. 264.

8 Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя. Т. 2. 1921—1941. Мінск, 1999. С. 131.

9 Богдан, Сяргей. Лені Рыфэншталь беларускай літаратуры. http://nn.by/?c=ar&i=10695.

*“Чаму я мушу эміграваць у Грузію?”*”[10]. Мо прадчуваў, што нічога добрага з гэтага ня будзе — ні для яго, ні для ягоных спадарожнікаў, Барыса Мікуліча й Міколы Хведаровіча?

Сам пісьменьнік пазьбег рэпрэсіяў — напэўна, праз хваробу, адышоўшы ад сяброў і сустрэчаў, праз сваю раньнюю сьмерць 12 лютага 1939 г.

Эдуард Самуйлёнак у пісьменьніцкім асяродзьдзі быў асобаю з неадназначнай рэпутацыяй. Прыкладам, Натальля Вішнеўская ў лісьце да Сяргея Грахоўскага ад 15 красавіка 1987 г. (захоўваецца ў БДАМЛіМ) піша: *“У Барыса [Мікуліча] мільганула ўскользь непрыглядная роль Самуйлёнка. Якою ж агіднаю яна была на самай справе. Ён жа ўвесь час круціўся каля Зв[онака]. Як я яго папярэджвала, як асьцерагала ад гэтага сяброўства. С[амуйлёнак] проста дакучаў, а часам, калі ня мог быць побач сам, падсылаў сваю дурненькую Марыньку[11], якая, канешне, нічога не разумела. Да чаго ж ён быў непрыемным чалавекам!*”[12].

Дамо слова тым беларусам-эмігрантам, што асабіста ведалі пісьменьніка, — каб не дадумваць за іх.

Юрка Віцьбіч у лісьце да Антона Адамовіча: *“Значна пашкодзіў сабе на фабрыцы руку. Лячуся й сьцяўшы зубы працую. Спадзяюся гэткім чынам дацягнуць да “вакэйшн” 3-12.07, каб крыху падлячыцца ды пад’ехаць у Нью-Ёрк. Хачу напісаць аб Эдуардзе Самуйлёнку. Гэта найвыдатны наш пісьменьнік, хаця і Цэляш, і ягоны кум ахарактарызавалі яго ні то як “рабкора”, ні то як “сялькора”. У мяне асабіста ды на ўласнай скуры мелася больш магчымасьцяў (чым у двох сваякоў) пераканацца ў апартунізьме Самуйлёнка, але ўсё-ж гэта добры, вельмі добры беларускі пісьменьнік. Памёр ён літаральна ў мяне на руках. І пэўне-ж такі загаловак майго нарысу як “Спадманулі русальчыны сьцежкі” характэрны для выдатнага беларускага пісьменьніка Эдуарда Самуйлёнка*”[13].

Ён жа піша да брата Язэпа Пушчы Ізыдара Гуткоўскага: *“Яшчэ за часы вайны я напісаў нарыс, прысьвечаны Эдуарду Самуйлёнку, ці, дакладней, на ягоным прыкладзе, таму — як савецкая рэчаіснасьць забівае таленты. Дарэчы, паказальны нават самы назоў гэтага ненадрукаванага нарысу “Спадманулі русальчыны сьцежкі”, рукапіс якога ў мяне не захаваўся. [...]*

[10] Віцьбіч, Юрка. Лшоно Габоо Бійрушалайм. Мінск, 2011. С. 143.

[11] Маецца на ўвазе жонка Эдуарда Самуйлёнка.

[12] Дзякуй Ганьне Севярынец за падказку крыніцы.

[13] Юрэвіч, Лявон. Шматгалосы эпісталярыум. Мінск, 2012. С. 71—72.

На сёл*ета прыпадаюць 50-ыя ўгодкі ад дня нараджэньня Эдуарда Самуйлёнка, і на гэты раз я аб ім абавязкова напішу. Напішу, бо, па-першае, ён не "рабкор" і не "пісака" (ацэнка М. Цэлеша), а адзін з найбольшых беларускіх (па форме) і савецкіх (па накінутым яму жыцьцём зьместу) пісьменьнікаў, які ўрэшце-рэштаў стаўся ахвярай, загінуў пад гэтым накінутым; па-другое, хоць Віцьбіч і Самуйлёнак ішлі рознымі літаратурнымі шляхамі — першага цкавалі, другога ўсхвалялі, але гэтае не перашкаджала ім сябраваць, і, магчыма, таму ніхто больш за Віцьбіча ня ведае сапраўдны твар Самуйлёнка, забітага ў літаральным і ўскосным сэнсе бальшавікамі.*

*Нават больш, я абстрагуюся ад таго, што нейкі час Самуйлёнак спрабаваў на маіх "памылках" нажываць сабе капітал, патрабуючы ад мяне на адной агульнапісьменьніцкай нарадзе, акрамя рознага іншага, каб я расшыфраваў ініцыялы "П. Г." — аўтара добрае рэцэнзіі ў "Полымі Рэвалюцыі" на маю кніжку "Сьмерць Ірмы Лаймінг". Не падлягае сумлеву, што ўсе прысутныя ведалі, хто такі "П. Г.", але, значыцца, Самуйлёнак дамагаўся, каб я стаўся шкурнікам і сам кінуў каменем у літаратара, да якога заўсёды ставіўся і дагэтуль стаўлюся зь вялікай пашанай. Ён гэтага не дамогся, як ніхто таксама не дачакаўся ад мяне пакаяльных лістоў у рэдакцыі.*

*Пазьней мне давялося бліжэй пазнаёміцца з Эдуардам Самуйлёнкам, калі разам належалі да ТАВІЗ'у. [...]*

*Таму ўрэшце-рэштаў, калі прыгадваецца Самуйлёнак, як і шмат хто з тагачасных і сучасных тамтэйшых літаратараў, дык адначасна прыгадваюцца радкі:*

*Паэтаў тых, Магутны, не карай,*
*Што пекла ўслаўляюць, нібы рай,*
*Бо лёс іх можа самы найцяжэйшы:*
*Яны, услаўляючы чужы закон,*
*Які нікога не сагрэў і не пацешыў,*
*Выпростваюць у хаце вольную далонь,*
*Уночы іншыя складаюць вершы*
*І кідаюць дзеля бясьпекі ў агонь.*
*Ня ўбачыць іх: «Вясна ў тых канцонах*
*Рыдае так, што на душы сьцюдзёна».*

*Перадусім падкрэсьленае мной ужываю як эпіграф да нарысу "Спадманулі русальчыны сьцежкі", але гэта адхіленьне ўбок. Гэтак мог напісаць у сваёй паэме "Праклятыя гады" толькі вялікі інтэлігент, што належаў да славутага "Пяцярнога Грону" Юры Клэн"*[14].

[14] Юрэвіч, Лявон. Архіўная кніга. Нью Ёрк, 1997. С. 386—387.

Антон Шукелойць згадвае: *“На Вайсковых могілках пахаваны Эдуард Самуйлёнак. Ягоная магіла недалёка ад царквы. І яшчэ адна магіла была — ці не Чарвякова? На гэтых магілах ня было ніякіх знакаў. У мяне ўзьнікла думка паставіць крыжы на гэтыя магілы. Але-ж то ўсё былі камуністы. Савёнак кажа:*

*— Няважна, што камуністы. Па-першае, гэта хрышчоныя людзі, а па-другое, — беларускія патрыёты. У тых умовах, у якіх яны жылі, яны, магчыма, не маглі інакш сябе паказаць. Так што стаў крыжы.*

*І я паставіў крыжы”*[15].

І маладзейшы ад іх, Янка Юхнавец, які, што праўда, асабіста знаёмым ня быў: *“...успомніўся Самуйлёнак — я лічу яго нашым Эрэнбургам. Выдатны, памёр маладым. Я любіў чытаць яго. Ён пісаў тады так, як не пісалі нашыя празаікі.*

*...Самуйлёнак — выдатны празаік сучаснай савецкай літаратуры. Мне ўсёдна, пра што ён пісаў. Там бытавала беларуская проза.*

*...саветамі дэманстравалася спачувальнасьць раньняй сьмерці таленавітых творчых людзей сярод беларускай нацыі. Тым лепш запоўніць месца расейскімі”*[16].

Юрка Віцьбіч расказваў, што магілу Самуйлёнка ў ноч пахаваньня раскідалі, выкінулі цела, сьцягнуўшы й скраўшы пінжак. Засталося загадкаю, хто зрабіў і дзеля чаго: ці тое былі звычайныя рабаўнікі, што ня грэбавалі нічым, ці хтосьці з сваякоў рэпрэсаваных пасквітаўся за шпэгаўства.

Гэтую таямніцу нам ужо ніколі не раскрыць. А вось разгадка ягонай творчасьці чакае.

## На раздарожжы

У 1954 г. у Мюнхэне выдавецтвам “Бацькаўшчына” была выдадзеная па-сапраўднаму ўнікальная кніга — прынамсі, для нашае літаратуры — “Нядоля Заблоцкіх” Лукаша Калюгі. Унікальнасьць палягала не ў вяртаньні бадай страчанага твора й закатаванага імя аўтара: годам раней сышлі з варштату “Запіскі Самсона Самасуя” Андрэя Мрыя, падобныя трагічным чалавечым і кніжным лёсам. Унікальным выданьне рабіла прадмова й пасьлямова (“Дасказаньне зьместу нявыдрукаваных частак “Нядолі Заблоцкіх” на аснове

[15] Савёнак, Лідзія. Творы. Мінск, 2012. С. 10.

[16] Юхнавец, Янка. Запіскі й зацемкі, напісаныя ў працягу некаторых гадоў прад траўнем 1996 году // Запісы БІНіМ. № 28. Нью-Ёрк — Менск, 2005. С. 407.

ўспамінаў пераказу гэтага зьместу самым аўтарам у лісьце да сябры на выгнаньні") *"хроснага бацькі"* Лукаша Калюгі па "Ўзвышшы" Антона Адамовіча. Шчасьлівы зьбег абставінаў — сяброўства пісьменьніка з крытыкам і выключная памяць апошняга — захавалі для нас дэталі літаратарскага даваеннага жыцьця і, што асабліва істотна, аўтарскую задуму працягу аповесьці.

Антон Адамовіч добра арыентаваўся ў сьвеце Заблоцкіх: *"Пасьля выпадку з аповесьцей ["Ні госьць, ні гаспадар"] Калюга бярэцца за больш нэўтральны матар'ял – "каб навет і без камсамольцаў", як сам ён казаў: ён хоча адтварыць жыцьцё й быт самога сяла, тых яго-ных "гаспадароў"-ралейнікаў самых па сабе, як яны ёсьць, ды задумвае й пачынае цыкль апавяданьняў пад агульным назовам "Баркаўцы й баркаўчане" ("Баркаўцы" — даволі празрысты псэўдонім роднага Калюгавага сяла Скварцы). З гэтага цыклю на балонах таго-ж "Узвышша" ў 1929 годзе друкуюцца апавяданьні, зьвязаныя адзінствам месца і асяродзьдзя дзеяньня — гэных "Баркаўцоў" і іхных жыхароў "баркаўчанаў": "Трахім — штучны чалавек" ("Узвышша", 1929, № 2), "Ільлюк — дасьледчык" (тамсама, № 3), "Як Міхалюку Баркаўцы даліся ў знакі" (тамсама, № 5), "Тахвілін швагер" (тамсама, № 8)"*[17].

Міжволі згадваецца структура "Сагі аб Фарсайтах", што таксама была пачалася з апавяданьня, а потым дапісваліся раманы, навэлы, і ў выніку атрымаўся манумэнтальны цыкль разнажанравых твораў, прысьвечаных жыцьцю аднае сям'і. "Сагу пра Заблоцкіх" мы можам толькі спрабаць сабе ўявіць з дапамогаю пералічаных апавяданьняў, самой аповесьці й пераказу.

І яшчэ аднаго апавяданьня!

Калюгава апавяданьне "Шкодны вісельнік" было надрукавана ў тым самым 1929 г., што й астатнія, але не ва "Ўзвышшы", а ў іншым выданьні: у літаратурна-мастацкім часопісе "Крыніца", у 4-м, лістападаўскім нумары, сярод рэдактараў якога, дарэчы, быў і сам аўтар. Як мог Антон Адамовіч з сваёй вядомай усім фантастычнай памяцьцю забыцца на гэты твор — пры тым, што асобнік часопісу быў выяўлены менавіта ў ягоным асабістым архіве! — загадка.

Праўда, гэтае апавяданьне суправаджае нейкі нешчасьлівы лёс. Нягледзячы на тое што яно — насуперак арышту й высылцы ўладальніка асобніка часопіса, вайне, эміграцыі — захавалася, ні першая рэпублікацыя (часопіс "Спадчына". 2001. № 4), ні другая, факсімільная ("Запісы БІНіМ". 2004. № 27) не прыцягнулі ўвагі ні літаратуразнаўцаў, ні ўкладальнікаў апошняга па часе выданьня твораў Лукаша Калюгі[18].

---

[17] Адамовіч, Антон. Да гісторыі беларускае літаратуры. Менск, 2005. С. 490.

[18] Калюга, Лукаш. Творы. Мінск, 2011. — 460 с.

Галоўны — зрэшты, адзіны — герой, Савоста Заблоцкі, Юстынаў сын, *"наважыў болей на гэтым сьвеце ня жыць.*

*— Раз прападаць, — сказаў ён.*

*Ды давай шукаць, чым-бы спрытней сябе са сьвету збаёдаць. І так і гэтак мяркаваў, але ўсяго адна вяроўка магла яму ратунак даць [...]*

*Эх. Як успомніш, дык аж мяне самога зайздрасьць бярэ. Добра вешацца, каб вы ведалі. Дурань той, хто ні разу гэтага не прабаваў. Усё адно: раз прападаць, — як той Савоста казаў. Калі ўжо чалавека на сьмерць павяло, калі мае на сябе злосьць, дык хоць якую знойдзе сабе кару. Сама лепей — павесіцца, лепш як тапіцца: п'явак няма чаго баяцца й рак табою не пажывіцца, ня гнісьці, а сохнуць будзеш, гразь цябе не занясе, багавіньне ў валасы не наб'ецца, а чысьценькі, крыху доўжанькі будзеш сабе на ветры гутатацца"*.

Зьмест — як той Савоста лез на дрэва, што бачыў, што думаў, як з буслом перастрэўся. І як перадумаў. Як хацеў быў спусьціцца, але паляцеў, праламаў страху ў лазьні: *"Паляжаў крыху, адбітыя месцы памацаў, плюнуў дый кажа сам сабе:*

*— От табе й павесься ня ўмеючы, ніколі ня вешаўшыся. Хай яно згарыць з такою работаю. Дурань той, хто вешаецца — я гэта на сабе дазнаў.*

*І па той жа раз — годзе Савоста вешацца. Выкінуў ён дур з сваёй галавы. Калі бывае гора яму ці бяда ўспадзе, дык памяркоўнымі думкамі сябе разважыць.*

*— Ат. Неяк жыць будзем. — скажа, як і даўней казаў. Засмуціцца бывае Савоста ды зараз-жа і вясёлы стане"*.

Твор зроблены цалкам у Калюгавай манэры, але — пра што ён? Ці гэта той выпадак Ядвігіна Ш., акрэсьлены Максімам Гарэцкім: *"Самае важнае ў аўтора... аднак ня столькі тое, каб абсьмяяць заганы жыцьця, сколькі тое, каб пасьмяшыць чытаньніка"*[19]?

Апавяданьне, нягледзячы на трагізм тэмы, напісана з добрым гуморам што да Савосты, хіба троху пакепліва; сур'ёзна тут гучыць адзін-адзінюткі абзац ды й тое ў спасылцы: *"Не падумайце толькі, што Савоста так, бяз дай прычыны напрападлую пусьціўся, што ён здуру вешацца надумаў. О, не. Бяда Савосту да гэтага давяла. Выбіраўся ён у бежанцы з баркаўцоў зьехаць ды агледзіўся, што грошы адсыралі за абразікам лежачы. От ён іх узяў ды на скавародзе ў печ на пот паставіў. Ня выняў іх зь печы ў пару, дык яны й зжалялі там стоячы — нельга ў рукі было ўзяць. Таму й прышла Савосту благая думка ў галаву, што: — Раз прападаць"*.

Як бачым, прычына ў Савосты была зусім нежартоўная.

[19] Гарэцкі, Максім. Гісторыя беларускае літэратуры. Вільня, 1921. С. 145.

І мо ўсё ж у падсьвядомасьці Антона Адамовіча апавяданьне прыхавалася, і менавіта яно выклікала наступныя развагі ў тэксьце пра “Нядолю Заблоцкіх”: *“Розныя шляхі разьвязаньня праблемы долі-нядолі назірала, адлюстроўвала й паказвала нашая літаратура. У ведамым і адным з наймацнейшых сваіх вершаў — “Перад вісельняй”, што ў часе напісаньня (у 1908 г.) у вабставінах царскае Расеі мог пашырацца адно нелегальна (у друк упяршыню трапіў за мяжою, у Львове, а на бацькаўшчыне — адно пасьля рэвалюцыі), Янка Купала паказаў адзін із такіх шляхоў — скрайны і адчайны шлях:*

*Як мне ўсе ходы зачынілі.*
*Ўсе ходы к зноснаму жыцьцю,*
*Я на пралом пайшоў у бясьсільлі*
*За праўду пастаяць сваю”*[20].

Нагадаю яшчэ два слупкі з гэтага ж вершу:

*...Дзе-ж кат? Гэй, шэльма, вешай лоўка!*
*Ня меў я волі, ні вугла...*
*Намыль з канца ў канец вяроўку,*
*Каб лепей шыю абняла!*
*Ў паветры ногі затрасуцца,*
*Байца ня стане аднаго,*
*Дый хоць званы й не адгукнуцца,*
*Не пахаваеце ўсяго!*

Антон Адамовіч далей спрабуе акрэсьліць, якія-ж наагул былі шляхі “*разьвязаньня праблемы долі-нядолі*”.

Першы — “*шлях пралому ў бясьсільлі*”.

Другі — “*шлях заламаньня*”.

Трэці, прамежны, — “*шлях чаканьня й спадзяваньня долі*”, “*шлях лятуценьняў*”[21].

Савоста Заблоцкі апынуўся на раздарожжы ў выбары шляху. Ужо не заламаньня, ужо не пралому ў бясьсільлі, але яшчэ ня бачыць чацьвёртага шляху — актыўнага, дзейнага: не чаканьня пераменаў, а “*здарэньня іх*”.

А з 1932 г. іншы ўзвышэнец, Адам Бабарэка, піша пра нядолю — Савосты й астатніх Заблоцкіх? Калюгі й ягоных сяброў? — наступнае: “*Нядоля яе [сям’і] у тым, што яна сваімі рукамі сама сабе павінна труну рабіць, сама сябе ўмагіліць (такая канечнасьць вызначана для яе пануючымі яе часу, вызначана ўсім тагачасным ладам грамадзкім, у той час, як воля яе ў процілеглым, як дух яе ў*

[20] Адамовіч, Антон. Да гісторыі беларускае літаратуры. С. 492.

[21] Адамовіч, Антон. Да гісторыі беларускае літаратуры. С. 492—492.

*творчасьці цікавага сьвету, у творчасьці сябе як сьвету вольнага часу, у творчасьці сябе чалавекам вольнае часіны, як сьвету ўцехі людзкое)”*[22].

Дык усё ж, як сказаў Савоста: *“Неяк жыць будзем”*!

## Пётра Сыч

*Толькі займаючыся другараднымі паэтамі,*
*мы можам спадзявацца, што не забудуць і пра нас,*
*трэцяшэраговых філёлягаў.*

*Міхал Гаспараў*[23].

Упершыню імя — Пётра Сыч — напаткаў не на старонках эміграцыйных выданьняў, а ў аповесьці Васіля Быкава “Сотнікаў”: кожны, хто чытаў твор, памятае старасту, характар й роля якога раскрываюцца паступова — ад ненавіснага чытачу фашыстоўскага паслугача да годнага Сотнікаву сутаварышча.

Ці тое было выпадковае супадзеньне — ну хіба адзін Гаўрыла ў Полацку?! — ці Васіль Быкаў насамрэч ведаў пра існаваньне кантравэрсійнага, у савецкім вытлумачэньні, пісьменніка-супляменьніка і такім чынам пакінуў падказку для пасьвячоных свайго разуменьня праблемы — калябарацыі?

Пра гэтага пісьменьніка заходні літаратуразнаўца напісаў: *“Ягоны ўнёсак у прозу беларускай эміграцыі складаюць сем аўтабіяграфічных замалёвак з ваеннага часу, сабраных пад агульнай назвай “Каляды на чужыне”. Іх падзеі пачынаюцца ў Вялейскай турме ў 1939 годзе і канчаюцца на Італьянскім фронце ў 1944-м. Яшчэ адзін абразок “Лоёртанскія званы” абмалёўвае апошнія дні італьянскай ваеннай кампаніі. Гэтыя творы, як і паэтычная спадчына П. Сыча, недастатковыя, каб атрымаць дакладнае ўяўленьне пра пісьменніцкі талент іх аўтара”*[24].

Складана ўявіць, як гісторыкі літаратуры маглі заўважыць Паўлюка Багрыма зь нейкім адзінюткім вершам і занатаваць ягонае імя на айчынных скрыжалях. А вось Пётра Сыч пакінуў ня толькі “Каляды на чужыне” ды “Лёрэтанскія званы” (менавіта такі аўтарскі назоў), зьмешчаныя ў альманаху “Ля чужых берагоў”, але й галоўны свой твор, пасьмяротна выдадзены асобнаю кнігаю, — “Сьмерць і

[22] Бабарэка, Адам. Збор твораў: у 2 т. Т. I. Літаратурна-крытычныя працы. Вільня — Беласток, 2011. С. 518.

[23] Жолковский, Александр. Выбраные места, или Сюжеты разных лет. Москва, 2016. С. 161.

[24] Макмілін, Арнольд. Беларуская літаратура дыяспары. Мінск, 2004. С. 174.

салаўі", успаміны з-пад Монтэ-Касына, з тэмаю якіх стаўся піянэрам, не раўнуючы як Францішак Аляхновіч з "У капцюрох ГПУ", а да ўсяго пералічанага пісаў вершы й фэльетоны (што насамрэч выдатна адлюстроўвае ягоны характар: лірычны й зьедліва-саркастычны аднachасна).

Гэты бок якраз найменш вядомы, а таму карціць хоць бы подбегам пазнаёміць зацікаўленага чытача, каб уяўленьне пра пісьменьніцкі талент аўтара было больш дакладным.

Сыч-паэт:

*Не, ліпай спакойнай Ты не разьмёдзішся,*
*На Табе незабудак нявіннасьць і чар —*
*Над Табой подых буры шалёнай расходзіцца,*
*У Табе прытаіўся стыхійны пажар.*
*З Табой прачуваецца ноч Палінэзыі —*
*Душная, парная, што затручвае кроў,*
*З хмараў навалы маланак магнэзыі,*
*Дэманаў позіркі, град пяруноў.*
*Таму ў стыхіі тваіх чараў дзікай*
*Стопіцца сэрца, як кволы крышталь.*
*Усё-ж забыцца ў жарсьці вялікай*
*Шэрай будзённасьці й сэрца ня жаль.*
*У бурах стыхійных — стыхія паэтаў,*
*У бурах і шквалах паэты жывуць.*
*Шкада толькі дурням раскошнага сьвету:*
*Бо з буры амэбы да порту плывуць...*

*Мюнхэн, 25.9.1954.*

## Восень

*Галіне Ганчарэнка*

*Ці, мая мілая, сонца Шампаніі,*
*Хоць за вакном восень цярушыць*
*Дажджом,*
*Мо' ашукаем восень мы сяньня,*
*Свой сум ашукаем віном...*
*Глянь — залаціцца сонца ў крышталі,*
*Дзе сонца — там бура, дык бура — на дне.*
*Што-ж, вып'ем і буру, каб не заспалі*
*Ў шэрай штодзёншчыны сьне.*
*Пасьля мы пойдзем каштановай алеяй,*
*Дзе скардзіцца восень жоўтым лісьцём,*

*Разьвітаемся зь летам маім і надзеяй*
*І кажны ў свой бок мы пайдзём.*
*На разьвітаньні мы рукі гарачыя*
*Сьцісьнем і глянем у вочы бяз слоў,*
*На ўсходзе сьцюдзёная раніца значыцца —*
*А яшчэ не дасьнілі мы сноў…*
*Дык дапівай. Хай крышталь ня крывавіцца.*
*Годзе, што сэрца сьцякае крывёй!*
*Глянь: скрозь бярозы сівее —*
*іржавіцца … —*
*Мілая, йдзі за вясной…*

*Мюнхэн, 22.8.5$_4$*

*Павошта ты з пэрламі чулай мэлёдыі*
*Ў душу мне насыпала сум і сумніў?*
*Пашто абудзіла ты рэха рапсодыі*
*І пачуцьцяў, якія даўно я згубіў?*
*А я ўжо прывык быў да прозы і восені,*
*Начэй адзінокіх бяз крозаў і сноў,*
*Шэрага неба бяз радаснай просіні —*
*Ці-ж варта спакой свой трывожыць ізноў?*
*Праўда, у восень пры вогнішчы міла,*
*Вечар васеньні мае свой чар,*
*Ды твая песьня зьнішчаючай сілай*
*Не камін паліць — стыхійны пажар…*
*Усё-ж не забыцца мне гэтай мінуты,*
*Калі ты мне пела знаёмы раманс,*
*І тоны, як каплі салодкай цыкуты,*
*Раскошны навеялі транс…*

Сыч-перакладчык:

*Б. Халко*

## ***Радзіма***

*Людзі цярпелі, прывыклі*
*Да кіслага шчаўя,*
*Сълізкіх вербалозаў,*
*Да стрэхаў,*
*На якія мох успоўзаў,*
*Да бедных палёў – мачыхі спагадаў,*
*Хоць іх чалавек касьцямі гнаіў,*
*Потам паліў,*

*Якія жменямі з-пад сахі*
*Ірве вецер ліхі*
*Пад неба поўнае хмарных стадаў.*
*А пасьля ўрасьлі*
*Ў каменьні,*
*гліну,*
*пясок,*
*які радзіць ня мог*
*і да самага зямлі дна,*
*дзе ўжо нічога няма,*
*капаліся кіпцэрамі, жменямі*
*ў цаліну, ў стэп,*
*абы толькі ўрасьці карэньнямі*
*ў скібу – чорны хлеб.*
*Зь бедных уласных справаў,*
*з лопуху,*
*шчаўя,*
*з траваў*
*плялі вянок – мужыцкі німб,*
*і йшлі па грудзе босыя,*
*абдзёртыя,*
*праставалосыя*
*ды зерне ад галодных вуснаў*
*адрывалі з думкай спакуснай*
*і кідалі яго ў жывот зямлі пусты,*
*каб праз хмыз, дзірваны і кусты*
*маглі надзеяй ганарыцца,*
*што зямля пачне каласіцца.*

*І гэтага поля набалелыя далі*
*людзі Радзімай назвалі….*

Бібліяграфія Сыча-фэльетаніста зьмешчана ў кнізе “Жанры”[25]; у лепшых фэльетонах, падпісаных *пс*, выразна пазнаецца традыцыя Мрыя-Савёнка, дзе герой-апавядач ну надта ж нагадвае Самасуя з Чужанінавым.

Той, хто калісьці будзе пісаць пра творчасьць Пётры Сыча, мусіць не прапусьціць ніводны зь яе складнікаў. У тым ліку й эратычны[26].

[25] Юрэвіч, Лявон. Жанры. С. 355—357.

[26] Запісы БІНіМ. № 34. Нью-Ёрк — Менск, 2011. С. 512—554.

## Nocturne[27]

*Чаму яшчэ, скажы, мая адзіна,*
*Люблю зямлю, вялікі жыцьця ток,*
*Як неба зорачкі, каханьнем моцным сына,*
*А сам – адлучаны ад дзераўца лісток?*

*Алесь Гарун. Ноктурно*

Хведар Ільляшэвіч — найперш паэт. Менавіта ў гэтай іпастасі ён паўстае ў раздзеле “Літаратура беларускага замежжа” ў “Гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя”[28] і ў кнізе “Пакліканыя”[29] (што праўда, і тое, і другое напісанае адным аўтарам, Лідзіяй Савік), у вучэбным дапаможніку Міколы Мішчанчука “Літаратура беларускага замежжа”[30]; артыкул Арсеня Ліса так і называецца — “Паэзія Хведара Ільяшэвіча”[31]. Не ўпісаўся ён і ў канцэпцыю нацыянальнага быцьця ў кнізе, прысьвечанай прозе беларускага замежжа[32]. Выглядае, што толькі ў працы Арнольда Макміліна[33] апавяданьням паэты адводзіцца дзьве з паловай старонкі. Магчыма, таго цалкам дастаткова, бо празаічная спадчына Ільляшэвіча насамрэч колькасна, па аб’ёмувалу — невялікая.

Тым больш знамянальна, што ў далёкія 1990-я гг. “Наша Ніва”, калі гэта сапраўды была *нашая* газэта, якую чакалі, якую чыталі, якую захоўвалі (сёньняшнім маладым наведвальнікам *copy-paste* ўэбстаронкі *nn.by* таго не зразумець і ўжо, выглядае, ніколі не адчуць), на першай бачыне аднаго з нумароў надрукавала ня вершы, а менавіта апавяданьне[34] — “Танга “Ноктурно””.

Цікава, што ў тым самым нумары — супадзеньне, а мо’ такая задума рэдактара — былі выдрукаваныя вершы яшчэ аднаго *enfant terri-*

---

27 ***Nocturne*** (фр.) — начны.

28 Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя. Т. 4. Кн. 2. 1986—2000. Мінск, 2003. С. 742—771.

29 Савік, Лідзія. Пакліканыя. Літаратура беларускага замежжа. Мінск, 2001. С. 187—218.

30 Мішчанчук, Мікола. Літаратура беларускага замежжа. Вучэбны дапаможнік. Мінск, 1996. С. 93—115.

31 Культура беларускага замежжа. Кн. 2. Мінск, 1993. С. 27—53.

32 Пашкевіч, Алесь. Канцэпцыя нацыянальнага быцця ў беларускай літаратуры. Проза замежжа XX стагоддзя. Мінск, 2002. — 219 с.

33 Макмілін, Арнольд. Беларуская літаратура дыяспары. Мінск, 2004. С. 172-174.

34 Дакладней, на першай старонцы, падвалам, быў зьмешчаны адно пачатак — апавяданьне заканчвалася на 5-й старонцы.

*ble* беларускае эміграцыі й разам з тым аднаго з адметнейшых паэтаў яе — Уладзімера Дудзіцкага.

Ва ўступным слове да публікацыі Сяргей Паўлоўскі (Дубавец) пісаў: "*Чытаючы Дудзіцкага, я думаю вось пра што. У крытыцы можа быць прынамсі два погляды на нацыянальную літаратуру. Першы — ерархічны, калі творцы разьмяшчаюцца на прыступках Алімпу зьверху ўніз у залежнасьці ад таленту. Такі вэртыкальны погляд беларуская крытыка запазычыла ў расейскай, якая гаворыць пра "асаблівае мейсца пісьменьніка ў грамадзтве", пра літаратара-духоўніка, пра тое, што "ў іх на Захадзе гэтага няма".*

*У іх на Захадзе гэта ўжо было... Другі погляд — гарызантальны, зьвязаны з прафэсыяналізацыяй літаратуры. "Прарокі" й "меншыя паэты" ўзаемна абумоўленыя, калі ў літаратуры бракуе дасканалых творцаў. Крытыка тады стварае ерархію. А літаратура ў такой інтэрпрэтацыі страчвае сваю функцыянальную ролю паралельнага жыцьця. Што і адбылося з нашай літаратурай. У нас крытыка гаворыць не пра сутнасьць літаратуры, а пра яе значнасьць, тады як у жыцьці нацыі літаратура ня значыць амаль нічога. Сама творчасьць нашых паэтаў і пісьменьнікаў падпарадкаваная ўласнай значнасьці ў ерархіі, а не сутнасьці быцьця. [...] Перад кожным зь іх стаяла задача самавыражэньня і эстэтычнае дасканаласьці твораў. Паміж пафасам адраджэньня і паэтыкай гібелі нацыі спакваля знаходзілася іншае — норма жыцьця і літаратуры, нармальнасьць*"[35].

Слоўнік *Merriam-Webster* сьцьвярджае, што падобнае акрэсьленьне — *enfant terrible* — стасуецца ня толькі да дзіцяці, але й да "*a person known for shocking remarks or outrageous behavior*" наагул. У дачыненьні да Хведара Ільляшэвіча азначэньне слушнае ва ўсіх варыянтах: ён і захоўваўся, як інфантыльны падлетак, і паводзіўся, як скончаны стары прапойца. У гэткім малапрывабным выглядзе паэт паўстае ва ўспамінах Адама Варлыгі (Язэпа Гладкага), чалавека, зь якім дзяліў побыт у лягеры ў Ватэнштаце — насуперак вобразу ў саладжавых, міфастваральных пісаньнях мэтрапольных дасьледчыкаў.

Але што ўласна тое мае да творчасьці?

"Танга "Ноктурно"" — апавяданьне ў апавяданьні, *mise en abyme*, прыём, вядомы ў нас яшчэ ад "Шляхціца Завальні". Апавядальнік-1 на Каляды апынуўся ўдалечыні ад дому, у надта нецікавым настроі, было яму сумна й прыкра пры ўспамінах аб сям'і. Згадаўшы, што недалёка знаходзіцца мястэчка, дзе жыве ягоны стары знаёмы, ён пастанаўляе заначаваць у яго й спаткаць сьвята.

[35] Наша Ніва. № 6. 1992.

Пасьля прыемнага вечару, калі найменшыя пажаданьні госьця адгадваліся й адразу ж задавольваліся, пасьля вячэры й сьпеваў старынных калядак гаспадыня з дачкою сышлі адпачываць, і госьць з гаспадаром засталіся адныя. *"Цяпер толькі я адчуў сябе дзінокім, пакінутым усімі ў сьвеце. Можа таму, што я быў змучаны, а мо сьнежная завея так настрайвала мяне, — мне стала нечага невымоўна жаль і хацелася ехаць далей, каб толькі не сядзець у гэтым цёплым пакоі"*[36].

Добры гаспадар, ён жа апавядальнік-2, заўважыўшы настрой госьця, заводзіць патэфон, прыносіць віно. *"Віно сапраўды было незвычайнае. У чарах яно гульліва іскрылася, быццам залатыя іскаркі паўдзённага сонца, згорнутыя некалі зь вінаграднікаў, ізноў прабудзіліся да жыцьця. Прыяцель не забываўся перастаўляць кружэлкі, і гукі музыкі, чаруючыя і мяккія, навявалі нейкія няясныя настроі, згадвалі ў гэтую завіруху далёкія вагні вялкіх гарадоў… […]*

*— Танго "Ноктурно"! — абвясьціў мой прыяцель, пакуль з кружэльца ня ўпалі першыя рытмы знаёмай мне мелодыі"*[37], і пачаў расказваць гісторыю, пачатак якой наш госьць прапусьціў:

*"… аднойчы, — расказваў прыяцель, — на курорт прыехала адна маладая жанчына. Усе зьвярнулі ўвагу на яе асаблівую красу. Уяві сабе сярэдняга росту прыстойную асобу зь цёмнымі зьвешанымі хваляй валасамі над бледным тварам, вочы, у якіх, быццам у возеры, адбіта сінь веснавога неба… Яна была адна і ўнікала знаёмстваў. Нейкі сум веяў ад яе"*[38].

Штовечар яна замаўляла аркестру на летняй вераньдзе граць танга "Ноктурно", і ўжо музыкі, якім добра плацілі, рабілі гэта па некалькі разоў, не чакаючы просьбаў, а жанчына, слухаючы музыку, глядзела *"кудысь замерзшымі вачыма"*.

Слухаючы аповяд гаспадара госьцю, апавядальніка-2 апавядальніку-1, аўтар гэтых радкоў — а для чытача артыкулу апавядальнік-3, — і ўявіў намаляваную сцэну, як было запрапанава:

*И каждый вечер, в час назначенный,*
*(Иль это только снится мне?)*
*Девичий стан, шелками схваченный,*
*В туманном движется окне.*

*И медленно, пройдя меж пьяными,*
*Всегда без спутников, одна,*

36 Ільляшэвіч, Хведар. Творы. Маладэчна, 2000. С. 52.

37 Ільляшэвіч, Хведар. Творы. С. 52—53.

38 Ільляшэвіч, Хведар. Творы. С. 53—54.

*Дыша духами и туманами,*
*Она садится у окна.*

*И веют древними поверьями*
*Ее упругие шелка,*
*И шляпа с траурными перьями,*
*И в кольцах узкая рука.*

*И странной близостью закованный,*
*Смотрю за темную вуаль,*
*И вижу берег очарованный*
*И очарованную даль.*

*Глухие тайны мне поручены,*
*Мне чье-то солнце вручено,*
*И все души моей излучины*
*Пронзило терпкое вино.*

*И перья страуса склоненные*
*В моем качаются мозгу,*
*И очи синие бездонные*
*Цветут на дальнем берегу.*

Канфлікт рэальнага і ўяўняга сьветаў у блокаўскім вершы, тэма мары, што лёгка пераўтвараецца ў падман, параза ў пошуку ідэалу знаходзіць у апавяданьні Ільляшэвіча амаль люстэркавы адбітак: апавядальнік-2, якому *"нехта расказаў, што яна пражыла нешчасьлівае каханьне, быццам яе каханы скончыў самагубствам, і ўсё гэта неяк было зьвязана з танго "Ноктурно""*[39], празь некаторы час у цягніку спатыкае тую жанчыну, вясёлую, з мужам, і прыходзіць да высnаву: *"а кажуць, што ёсьць вечнае каханьне… Усё гэта выдумкі"*[40].

Што быццам правідлова дае падставу Арнольду Макміліну зрабіць высnаў: *"Герой пакутуе ад юнацкага*[41] *расчараваньня і ад неўразуменьня — ці магчыма наогул вечнае каханьне"*[42].

От толькі ідэал выдумкамі назваў апавядальнік-2! Апавядальнік-1 жа…

[39] Ільляшэвіч, Хведар. Творы. С. 55—56.

[40] Ільляшэвіч, Хведар. Творы. С. 57.

[41] Праўда, называць юнаком чалавека жанатага ды які маю дачку неяк занадта.

[42] Макмілін, Арнольд. Беларуская літаратура дыяспары. Мінск, 2004. С. 173.

*“Калядны вечар... Я сяджу ў паскудненьнкім рэстаране на далёкім прадмесьці. Тут няма грукату вялікіх вуліц, зацішна і прывольна. Я ня ведаю, чаму забраўся аж сюды, далей ад людзей і руху. Можа таму, што тут вальней успамінаць і марыць. Я ведаю — гэта дрэнна... Праз вакно віднеецца ў змроку брудная дарога, і пару аголеных дрэў з навіслым вецьцем прыпамінае мне родныя мясьціны. Перада мною плывуць, як жывыя, абразы мінулага. Іграе радыё. Пры буфэце нерухома гаспадар рэстарану. Часам адчыняюцца дзьверы — нехта ўвойдзе. Закажа піва і сядзе пры століку, такі-ж маўклівы, як і я. Гутарка гасьцей не парушае маіх успамінаў. Я далёка.. за тысячу кіламетраў ад родных мясьцін. Ізноў знаёмае танго “Ноктурно”... Можа таму мне ўспамінаецца той вечар у прыяцеля. І я думаю чамусьці, што ўсё-ж ёсьць на сьвеце вечнае каханьне і вечная туга”*[43].

*В **моей душе**[44] лежит сокровище,*
*И ключ поручен только мне!*

Герой “Танга “Ноктурно””, як выглядае з тэксту, знаходзіцца на эміграцыі: *“за тысячу кіламетраў ад родных мясьцін”*, роўна як і герой іншага апавяданьня, “Афрадыта-ОСТ”, аўтарства Антона Адамовіча[45]. Гэты — у цягніку, без афіцыйнага дазволу й дакумэнтаў, скарыстаўшы адно з дабрыні гаспадара-баўэра, едзе па Нямеччыне пасьля спатканьня з любай і ўсьведамляючы: ужо былой дзяўчынаю: *“Зусім прыродна, калі ростань такая даўгая й далёкая. А цяпер яшчэ й поўная. Поўная ростань і поўная адзінота. Яно й лепш, што поўная. Няпоўная заўсёды карціць, цягне ў гэткія вось непатрэбныя й рызыкоўныя падарожжы. І тут, ля вакна, таксама лепш, што на адзіноце”*[46].

Адзінота яшчэ глыбейшая, бо — сярод чужых, і ты ім — таксама чужы: *“Там, у вагоне, было-б куды прыкрэй — усе-ж прыглядаліся-б і рабілі-б сваю “кантроль” угледлівымі і ўедлівымі нямецкімі вачыма. А хіба цяжка пазнаць? Навет гэтая вопратка — анцуг, што ўдружыла прыхільная “баворава” нявестка, добрая, такая малочнамляўкая Эльза з пляча свайго мужа — цяпер жаўнера. Адразу выдае, што з чужога пляча, дарма, што зусім тутэйшы. Сядзіць на ім, мала не як на тым калку. Добра-б, каб займець собскі, зусім, на*

[43] Ільляшэвіч, Хведар. Творы. С. 57—58.

[44] Вылучана мною — *Л.Ю.*

[45] Ля чужых берагоў. Альманах твораў беларускіх эміграцыйных паэтаў і пісьменьнікаў. Мюнхэн, 1955. С. 175—185.

[46] Ля чужых берагоў. С. 176.

*сябе шыты эўрапэйскі гарнітур — анцуг. Толькі што з таго? Навет і ў сваім анцугу не прабудзеш-жа ўвесь час зь людзьмі як рыба, змусяць-жа й разьзявіцца. А тут-жа незаўсёды навет і зразумець ухопіш, чаго заманулася таму ці іншаму гэру або фраў, ня кажучы ўжо, каб спраўна й гладка адказаць. Дый навет адзін акцэнт, вымова... А наверх, як кажнаму неспрактыкаванаму злачынцу — навіку, толькі й здаецца ўвесь час, што ўсе ўжо пазналі, ведаюць добра і толькі чакаюць на зручны мамэнт, каб выкрыць, выдаць, злавіць ненавіднага ўсім ім зладзюгу-аўслендэра, можа бандыта, прынамся — паразыта, што прыпхаўся знарок на іхны белы хлеб і аб'ядае бяз жалю й сумленьня, з горла выдзірае, аддзірае ад скупых і так іхных карткавых "абшнітаў". Бо ня бачыць і ня хоча бачыць ніхто, як робіцца ім-жа гэты агорклы чужы хлеб, робіцца запраўды ў поце аблічча..."*[47].

Адзіноту ў калідорчыку парушае немка, маладая кабета — яна падаецца апавядальніку незвычайнай прыгажосьці — "*чыстая Афрадыта*", хоць немкі — ён ведае — непрыгожыя. Паступова завязваецца гутарка, натуральна, па-нямецку, пра саме рознае, у тым ліку пра пакінутую бацькаўшчыну, і ён кажа: "*Але, ягоная бацькаўшчына прыгожая. Ды часам зусім-зусім падобная да таго, як тут. Часта — у лесе асабліва — яму здаецца, што ён у сябе дома. Праўда, часта тут бывае яшчэ прыгажэй, як дома, толькі што чужое...*"[48], на што чуе ў адказ, што ёй заўсёды прыкра, калі сваё паніжаюць перад чужым.

За размовамі, нават за чытаньнем й перакладам Багдановічавага вершу пад'яжджаюць да станцыі, дзе Афрадыце сыходзіць, і тая, ужо стоячы на плятформе, "*раптам — пахопіста ірвануўшы па ўсіх гузіках, расхрыстала плашч. Там — не, ня гімназічны хвартушок, як зманулася было напачатку, а пад левай грудзінай, мала не пад пахай, ды — адразу сьляпіцаю ў вочы — вялікімі літарамі, белым на сінім — "ОСТ"!*

*Дык вось нарэшце калі — запраўды — Афрадыта. Вось нарэшце калі запраўды нарадзілася, выйшла з морскага шумавіньня... — з "остам" на грудзёх...*

*Расхрыстаная й выпрастаная, із скульптурным аж рухам узьнятае для апошняга адвітаньня рукі, зь пераможным, трыумфальным бліскам уваччу, такім самым мэталічным і сьцюдзёным, ды пякучым, якім быў той пацалунак. Афрадыта з "остам", Афрадыта — "Ост""*[49].

[47] Ля чужых берагоў. С. 176.

[48] Ля чужых берагоў. С. 178.

[49] Ля чужых берагоў. С. 183.

Герой у здраньцвеньні, ашаломлены, думкі мітусяцца, і раптам усьведамляе: *“Было — сваё, а не пазналася, аж пакуль — “ост””*[50].

Быццам пра гэтае апавяданьне пісаў Адам Бабарэка: *“На гэтай чужыне было тое, што рабіла асобу нявольнаю, і ёсьць тое, што акоўвае руку яе стальлю. На чужыне ёсьць і тое, што навучае родны край любіць, і тое, што навучае бачыць у родным краі прыгожае, вялічавае, што навучае бачыць і яго нядолю. Ёсьць тут і тое, што абуджае імкненьні да творчасьці і працы ў родным краі, і тое, што родзіць лятуценьні, а ёсьць і тое, што ўчыняе адны толькі мукі. […] На чужыне — тое, што абуджае нацыянальную самасьвядомасьць і нацыянальную гордасьць ад дзейнае творчасьці”*[51].

“Каляды на чужыне” — апавяданьне выразна аўтабіяграфічнага зьместу Пятра Сыча[52]. І як яно сугучна па настроі, пачуцьцях, распавешчанаму Хведарам Ільляшэвічам і Антонам Адамовічам: *“Карлспляц раве гістэрычна какафоніяй нэонаў. Натоўпы людзей таўкуцца ў карытах вуліц, месячы і мяшаючы з балотам бязупынку падаючы сьнег. Кажны сьпяшаецца ўсхваляваны, аб’ючаны пакункамі. Прапіхаючыся цераз натоўп і бачучы, што людзі нясуць ялінкі і якіясь бліскучыя фінціклюшкі для ўпрыгожваньня гэных дрэўцаў, я толькі цяпер прыпомніў, што набліжаюцца Калядныя Сьвяты. І ўспомніўшы, прыпомніў, што калісь і я перажываў гэта — тады, калі меў свой дом, сям’ю і… Каляды…*

*Калі-ж гэта ўсё было? Так даўно, што аж здаецца няпраўда…*

*14 гадоў… У дачыненьні да вечнасьці, гэта дробязь, капля ў акіяне, зярнё пяску на Сахары, але ў жыцьці чалавека… Тымбольш што гэтае жыцьцё толькі адно…*

*Дзікі боль журбы запусьціў войстрыя кіпці ў сэрца. Пачуўся такі адзінокі, як-бы заблудзіўся ў бязьмежнай тайзе. Так я зажадаў вырвацца з гэтага раскрычанага, чужога натоўпу”*[53].

Згадвае тыя Каляды (кожная згадка — асобны разьдзел): 1939 г. — Вялейская турма. 1940 г. — бальніца ў лягеры ля Варкуты. 1941 г. — калгас пад Самаркандай (Узбэкістан). 1942 г. — ірацкая пустэльня пад Канакінам. 1943 г. — Бэтлеем, базыліка Нараджэньня. 1944 г. — на фроньце ў Італіі. Сам, адзін. Сярод чужых. І вось цяпер зноў — Куцьця. І раптам адбываецца цуд Нараджэньня — разуменьня, блізкасьці, амаль братэрства:

---

50 Ля чужых берагоў. С 184.

51 Бабарэка, Адам. Збор твораў у двух тамах. Т. I. Літаратурна-крытычныя працы. Вільня—Беласток, 2011. С. 159.

52 Ля чужых берагоў. С. 219—230.

53 Ля чужых берагоў. С. 219.

*“Назаўтрае была Куцьця. Шэрае неба нізка навісла над зямлёй і сеяла сьнегам. Рэдкі артылерыйскі агонь час ад часу разьдзіраў зімовую вусьціш. Апаўдні прыляцелі ангельскія самалёты і, няведама пашто, разбурылі некалькі бедных хатак на нямецкім баку.*

*Пад вечар, быццам на якісьці магічны загад, на ўсім фроньце залягла цішыня. Позна прывезьлі нам вячэру: кацёл зьмерзлай бульбы і бляшанку руму. Мул, які нёс біф, скаціўся ў протхлю. Ніхто ня ўзяўся ні за ежу, ні за водку. Вольныя ад службы жаўнеры сядзелі ў хлеве і шэптам гутарылі, або лепш — мроілі. Я выйшаў абысьці лініі забясьпечаньняў. Было ціха, аж звaніла ў вушах. Раптам пачуўся стрэл нэбэльвэрфэра.*

*— Во гады! — падумаў я, прысядаючы ў роў. — Гэтакага сьвята не ўшануюць!*

*Але замест разарвацца з трэскам, гранаты шпокнулі, быццам хтосьці адчыніў бутэльку шампанскага: прапагандовыя ўлёткі. Немцы жадалі нам вясёлых сьвятаў, але радзілі пераходзіць да іх.*

*Раптам я затрымаўся, ня веручы вушам. У мястэчку Немец пеў “Stille Nacht...”. Маладзы, мяккі барытон дрыжэў сэнтымэнтальнай журбой. Можа па каляровым Тыролі ці чароўным Райнляндзе...*

*Я стаяў ачараваны. Здавалася, што гэта пяе нехта блізкі, свой, што нічога ня перашкаджае пайсьці паціснуць яму руку і разыйсьціся ў імя Таго, што радзіўся сяньня, каб на сьвеце ўладалі любоў і супакой...”*[54].

Тры апавяданьні. Тры героі, самотныя, закінутыя ў чужы сьвет, а ці варожы ён — гэта ім трэба яшчэ спазнаць, як і зразумець, што ключы да гэтага сьвету ляжаць у іх саміх, ва ўласных сэрцах і вачах. Што ідэал варта шукаць і, галоўнае, што яго магчыма дапяць.

Як сказаў у адным з сваіх вершаў Алесь Гарун — яго, памёрлага на чужыне, таксама можна лічыць паэтам-эмігрантам[55] —

---

[54] Ля чужых берагоў. С. 230.

[55] З успамінаў Паўліны Мядзёлкі: *“У першую паездку пасля гутаркі з Ядвігіным Ш. я пачала шукаць Алеся Гаруна па ўсіх шпіталях і бальніцах Кракава. І вось у адным шпіталі натрапіла на яго след. Аказваецца, праз некалькі дзён пасля прыбыцця яго ў гэты шпіталь ён памёр. Сказалі, на якіх могілках яго пахавалі. У канторы могілак мне далі «адрас» таго раду могілак, дзе звычайна хаваюць бяздомных. Направа ад увахода, на самым краі, тры рады аднолькавых магіл. На некаторых з іх заткнуты толькі трэскі, на якіх хімічным алоўкам напісана імя і прозвішча нябожчыка. Дажджы змылі надпісы, цяжка прачытаць. Кожную магілу ўважліва аглядаю, капаюся ў зямлі, шукаючы шчэпачак і сілячыся прачытаць на іх прозвішчы. І вось на трэцяй з канца другога раду ў магіле дабыла прысыпаную зямлёй вузенькую дошчачку: «Aleksander Prószyński» —ледзь змагла прачытаць. Сціснулася сэрца. Вось дзе*

*Няма пакуты дзе — няма пазнаньня,*
*Душа тады лагчынамі паўзець;*
*А што гарчэй, скажы, пераўпазаньня?*
*А што страшней яшчэ, як вочмі не глядзець?*[56]

## Каму беларусамі звацца?

Ліст "Ня вам беларусамі звацца", апублікаваны ў кастрычніку 1966 г. у беларускім і маскоўскім друку, быў падпісаны прозьвішчамі васьмёх маладых пісьменьнікаў: Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Васіля Быкава, Анатоля Вярцінскага, Ніла Гілевіча, Івана Пташнікава, Барыса Сачанкі, Івана Чыгрынава. У гэтым лісьце быў выказаны пратэст супраць выказваньняў пісьменьнікаў-эмігрантаў у друку й на радыё "Свабода" пра сучасную беларускую літаратуру ды выстаўляліся абвінавачваньні ў калябаранцтве з фашыстамі пад час Другой Сусьветнай вайны, а ў сучасны пэрыяд — з амэрыканскім імпэрыялізмам. *"Не называйцеся беларусамі — вы гэтага не заслужылі"*[57], гаварылася ў лісьце.

У лістападзе таго ж году зьявіўся "Наш адказ", падпісаны імёнамі Кастуся Акулы, Юркі Віцьбіча, Рыгора Крушыны й Станіслава Станкевіча, дзе, праміж іншага, пісалася наступнае:

"Артыкул гэты нас ані чуць не зьдзівіў, бо ў гарце савецкай прапагандавай кампаніі супраць беларускай палітычнай эміграцыі ў Вольным Сьвеце да падобных выступленьняў у савецкім друку, радыё ды на розных сходах мы ўжо прывыклі. Дасюль падобныя артыкулы былі звычайна або ананімныя, або падпісаныя прозьвішчамі ведамых прафэсіянальных паклёпнікаў тыпу Леаніда Прокшы й падобных, а затым мы ня бачылі патрэбы наагул рэагаваць на іх. У гэтым жа вы-

*ты знайшоў свой апошні прыпынак, пясняр ты наш беларускі! Не часалі табе дамавіны твае сябры-сталяры, не спявалі над табой родных песень, не родная зямелька прысыпала твае грудзі. Злы віхор затуманіў твае вочы, адарваў ад народа, ад тваіх сяброў-рабочых і кінуў цябе ў стан нашых ворагаў. Забыты ўсімі, знайшоў сабе месца вечнага спачынку сярод бязвесных, бяздомных...*

*Не было ў мяне сродкаў, каб заказаць які-сьці знак з больш трывалым надпісам. Дабыла ў вартаўніка лепшую дошчачку, фарбы, надпісала больш выразна і прымацавала на магіле, спадзеючыся, што ўдасца з дапамогай сяброў-беларусаў сабраць сродкі хоць на якую каменную пліту з высечаным надпісам. Аднак дарэмныя былі мае патугі: беларускія эмігранты ў Лодзі абыякава аднесліся да гэтай справы, а тут новыя падзеі не дазволілі мне да канца давесці сваю задуму".*

[56] Гарун, Алесь. Матчын дар і ншыя творы. Нью-Ёрк—Мюнхэн, 1962. С. 137.

[57] Звязда. 15 кастрычніка 1966.

падку пад артыкулам стаяць прозьвішчы групы пісьменьнікаў, і то аўтарытэтных і вядучых сярод маладога літаратурнага пакаленьня, пры гэтым не абцяжараных ніякім калябаранцтвам із сталіншчынай. Затым вось уважаем за патрэбнае даць адказ на гэты артыкул.

*Нам добра ведама, што ў савецкіх абставінах падобныя артыкулы звычайна ініцыююцца й рэдагуюцца, а нярэдка й пішуцца адпаведнымі ворганамі, а ня тымі, чые прозьвішчы пад гэтымі дакумэнтамі стаяць. Гэтак магло быць і ў выпадку з артыкулам "Ня вам Беларусамі звацца!". Ужо тое, што артыкул спачатку зьявіўся ў органе ЦК КПБ — газэце "Зьвязда", а толькі пасьля быў перадрукаваны з гэтае газэты — разам з уступнай зацемкай да яго — у органе пісьменьніцкай арганізацыі — газэце "Літаратура і Мастацтва", наводзіць на думку, што ён мог быць і зрэдагаваны дзесь у ЦК партыі. Пісьменьнікам магло быць адно «запрапанавана» падпісацца пад артыкулам ды хіба перакласьці яго ў беларускую мову, бо, як добра ведама, беларуская мова ня толькі ў ЦК, але й бадай што ўва ўсіх іншых установах Беларусі, за выняткам Саюзу пісьменьнікаў БССР, ужытку ня мае. Дый у самым артыкуле знаходзім пацьверджаньне таго, што ён быў інсьпіраваны нейкімі органамі. Паміж густых радкоў артыкулу неяк прасьлізнуўся й наступны радок: "Асабліва актыўнічае,* ***кажуць****, Станіслаў Станкевіч" (вылучана намі). Дык хто-ж кажа? Звычайна «кажуць» тыя, што маюць больш інфармацыяў, у дадзеным выпадку тыя органы, што хвабрыкавалі й сам артыкул. Ды ўрэшце незалежна ад таго, дзе гэты артыкул пісаўся й кім падпісаны, у ім выказаныя перш-наперш думкі гэных органаў, пагляды партыі"*[58].

Ліст заканчваўся парафразаю Купалаўскага "Людзьмі звацца": *"Мы, у моц гістарычных абставінаў апынуўшыся ў вольным сьвеце, уважаем сябе за неадлучную частку ўсяго беларускага народу, дарма што ўспомнены артыкул намагаецца адмовіць нам права «Беларусамі звацца»"*[59].

Як бачна, для пісьменьнікаў-эмігрантаў ня было сумніву ў сапраўдным аўтарстве ліста з бацькаўшчыны: там былі скарыстаныя ўжо вядомыя па іншых публікацыях сродкі. Сродкі па стварэньні з эмігрантаў — ворагаў.

Вобраз *іншага* (вузей — *чужога*, яшчэ вузей — *ворага*) можна разглядаць як штосьці супрацьлеглае вобразу *сябе*, у якім прысутнічае набор характарыстак — рэальных ці ўяўных — што і ўтвараюць, фармуюць гэты вобраз. Зразумела, гэтыя характарыстыкі залежаць ад

[58] Юрэвіч, Лявон. Літаратурны рух на эміграцыі. Менск, 2002. С. 118—119.

[59] Юрэвіч, Лявон. Літаратурны рух на эміграцыі. С. 126.

шэрагу фактараў — тэрытарыяльна-этнаграфічных, канфэсійных, этнакультурных, інфармацыйных, палітычных, etc.

Якім жа быў механізм стварэньня ворагаў з беларусаў-эмігрантаў у вачах мэтрапольнага беларуса? Бадай тут можна казаць пра суплёт адначасна цэлага шэрагу фактараў.

Перш-наперш, зразумела, тэрытарыяльны. Значная частка актыўных эмігрантаў жыла не абы дзе, а ў ЗША. Стаўленьне да гэтае краіны таго часу шыкоўна дэманструе ўрывак з кнігі клясыка жанру Ўладзімера Бегуна "Ярмарка предателей"[60]: *"В Заире, недалеко от Киншасы, в одной из деревушек в свое время произошел «государственный переворот». Деревней управлял племенной вождь, царек, на местном наречии именуемый макоко. Как-то раз все мужчины ушли на охоту в джунгли, а он остался дома. Остался и еще один человек — заговорщик. Он вошел в хижину вождя, поколотил его хорошенько, отобрал «царские» регалии и вытолкал из «дворца». Старый макоко был низвержен, новый воцарился.*

*Дотошные западные корреспонденты пронюхали сенсацию и помчались в деревню. Они, потехи ради, взяли интервью у нового самодержца. Спросили:*

*— Почему вы, ваше высочество, свергли прежнего вождя?*

*Самозванец не стал говорить, как в таких случаях делают латиноамериканские генералы, о демократии, интересах народа, коммунистической опасности и т. д. Безо всякой такой демагогии он ответил откровенно и просто:*

*— Мне самому захотелось стать макоко.*

*Те подпустили ехидный вопрос:*

*— А если и вас кто-нибудь отлупит и свергнет? Что тогда?*

*— Попрошу убежища в Америке. Там принимают свергнутых макоко, — не моргнув глазом, ответил он.*

*Оказывается, прохиндей кое-что смыслил в политике. Жил в глуши, в джунглях, а каким-то образом знал, что в Соединенных Штатах Америки дают приют тем, кого ждет наказание дома. И был, конечно, прав.*

*Как известно, свергнутые народом эксплуататоры испокон веков искали убежища за границей. В прошлом, однако, они на новом месте или скрывались, или оставались на задворках политической жизни. Не было случаев, чтобы, например, какой-нибудь король давал аудиенцию уголовнику. Даже мысль такую сочли бы неприличной! Стражники бросили бы в темницу наглеца, дерзнувшего предстать пред ясные очи короля.*

[60] Бегун, Владимир. Ярмарка предателей. Минск, 1983. — 78 с.

*Времена, однако, изменились. Ныне президент Соединенных Штатов отщепенцам руку подает...”*[61].

Нягледзячы на тое, што абсалютная большасьць эмігрантаў была праваслаўнага веравызнаньня, канфэсійны фактар — менавіта каталіцтва — актыўна выкарыстоўваўся ў стварэньні вобраза ворага: Ватыкан — жупел ня меншы ад ЗША:

*“У 1949 годзе Рагуля і Абрамчык стварылі ў Лювэне так званае “аб’яднанне беларускіх студэнтаў у эміграцыі”. Пасля гэтага ім стала лягчэй адурманьваць і ўцягваць у шпіёнскія сеткі моладзь з асяроддзя беларускіх эмігрантаў. Фінансавалася гэтая арганізацыя амерыканскай разведкай і Ватыканам. А яны не трацяць грошы дарэмна і патрабуюць ад сваіх падапечных доказаў безумоўнай адданасці. [...] Пад паглядам клопатаў аб католіках Ватыкан стварае ўсе ўмовы для падрыхтоўкі кадраў шпіёнаў у сваіх шматлікіх установах. І як бы кардыналы ні спрабавалі захаваць у сакрэце сапраўднае прызначэнне такіх установаў, яны не ў сілах гэтага зрабіць”*[62].

Найменш цікавы, хоць мо й найбольш шырака ўжываны, гэта лінгвістычны фактар — назавем яго так. Тут нават не патрабавалася штосьці даводзіць ці прыводзіць хоць якія факты; дастаткова было проста нанізваць адно за адным: *мерцьвякі, вылюдкі, прыслужнікі, марыянеткі, падонкі, пісакі, лёкаі, дэгенераты* ды бясконцыя двукосьсі: “твор”, “гісторыя”, “дзеячы”, “абараняў”, “патрыёты”.

Вельмі важным складнікам быў фактар ідэалягічны, які выкарыстоўваўся абсалютна па-езуіцку (хай даруе мне Ватыкан). Сутнасьць механізму простая, але дзейная: бярэцца артыкул эміграцыйнага аўтара, неістотна — па гісторыі ці літаратуры, блізкай ці далёкай, ідэя якога не пераказваецца (натуральна!), нават не крытыкуецца, а мэханічна дадаецца эпітэт “фашыстоўскі” або “гітлераўскі” — прычым у любым месцы, і маем: *“Абвяргаючы фальш гітлераўскіх памагатых аб творчай манеры і эстэтычным вобліку Максіма Багдановіча, Кандрат Крапіва з нянавісцю гаварыў па радыё: “І вось імя такога паэта, паэта-гуманіста і гарачага патрыёта сваёй радзімы, фашысцкія ідыёты задумалі скарыстаць для сваёй подлай мэты. Яны не ведаюць таго, што адно датыканне іх крывавых лап да чыстай паэзіі Максіма Багдановіча з’яўляецца абразай для беларускага народа і выклікае ў яго сэрцы гарачую нянавісць да подлых фашысцкіх вырадкаў. Беларускі народ зробіць усё магчымае, каб рукі гітлераўскіх бандытаў, на якіх запяклася*

[61] http://flibusta.is/b/465482

[62] Раманоўскі, Васіль. Саўдзельнікі ў злачынствах. Мінск, 1964. С. 261—262.

*кроў беларускіх жанчын і дзяцей, не заплямілі светлы вобраз паэта*”[63].

Як вынік, вобраз беларуса-эмігранта з фэльетонаў, памфлетаў, нарысаў паўставаў у выглядзе ваеннага злачынца, хоць нібыта канкрэтныя абвінавачваньні й не высоўваліся, каб хоць адказаць на іх, прынамсі мець шанц апраўдацца. Адзін з падпісантаў ліста, Кастусь Акула, спрабуючы ў сярэдзіне 1960-х уладкавацца на працу на радыё “Свабода”, прапаноўваў сваю тэму: “*Як адносна нарысаў аб асобных людзях? Ці такія маюць попыт? Прыклад: чалавек, што пасяліўся ў Канадзе ў 1947 годзе, сяньня добры, багаты й ведамы фармар, уласьнік вялікай гаспадаркі. Іншы стаў шэфам у хвабрыцы, трэці там яшчэ нешта. Як яны гэтага дабіліся? Вось аб такіх можна напісаць нарысы*”[64]. “*Беларускі “радавы” рэлігійна-грамадзкі працаўнік. Тэму гэту я абмяркоўваў раней. Варта, каб слухачы якраз во пачулі пра працу й жыцьцё такога звычайнага працаўніка на царкоўна-нацыянальнай ніве. Няхай ведаюць, што тутака няма “буржуазных нацыяналістаў” з рагамі, а звычайныя, старанныя добрыя людзі*”[65].

З працай у Мюнхэне нічога не атрымалася, і да вобразу “звычайнага працаўніка” пісьменьнік дайшоў толькі ў рамане “За волю”: “*Пасьля тае даўгое гутаркі з Капшуном Вера ці раз намагалася ўявіць Алеся вылюдкам, забойцам нявінных людзей, з рукамі ў іхнай крыві. Казаў яшчэ Грыша, што ён і цяпер быццам браў удзел у нейкіх канспірацыйных апэрацыях. Што за загадка? Тут ці ня сам чорт рогі мог паламаць. Намаляваны Капшуном злачынца ніяк не нагадваў таго дзецюка, — ветлівага, талерантнага, зычлівага, добра адукаванага, сумленнага, — якога Веры ўжо ўдалося пазнаць з бліжэйшае адлегласьці*”[66].

Наўрадці гэты вобраз ды й увесь раман цалкам мог паспрыяць разбурэньню вобразу-антыподу ў Беларусі, але тут важна адзначыць наступнае: межы паміж *сваімі* й *чужымі* (*ворагамі*) не зьяўляюцца аднойчы й назаўсёды дадзенымі, непераадольнымі, паколькі залежаць ад канкрэтна-гістарычных, каньюктурных умоваў. Яны рухавыя. Ідзе час, зьмяняюцца тыя ўмовы — і вось адзін з падпісантаў, Барыс Сачанка, стварае першы нарыс пра беларускую эміграцыю; другі, Генадзь Бураўкін, працуе ў якасьці пастаяннага прадстаўніка Рэспублікі Беларусь пры ААН, жыве ў Нью-Ёрку, знаёміцца з дыяспарай і прысь-

[63] Сачанка, Іван. Хто такія беларускія “патрыёты”? Мінск, 1975. С. 49.

[64] Ліст К. Акулы ад 20.10.1963. Архіў БІНіМ.

[65] Ліст К. Акулы ад 11.05.1967. Архіў БІНіМ.

[66] Акула, Кастусь. За волю. Раман. Таронта, 1991. С. 67.

вячае ёй вершы; Васіль Быкаў, сам ужо эмігрант, прагна чытае выдадзенае ў Амэрыцы (*“Шаноўная спадарыня Зора, шаноўны спадар Вітаўт! Дзякуй Вам вялікі за “Беларускую мемуарыстыку”*[67], *якую я атрымаў і адразу ж прачытаў. Кніга вельмі цікавая, добра надрукаваная і чытаецца з захапленьнем. Каб такіх кніг было болей! Беларусь павінна ведаць лёсы і справы сваіх апосталаў. У тым ліку і на эміграцыі*”).

Яшчэ адзін з былых падпісантаў, Ніл Гілевіч, падцьвярджаючы слушнасьць заакеанскіх калегаў што да сапраўднага аўтарства ліста, зазначыў: *“Беларускім чытачам на Беларусі ніхто з пісьменьнікаў-эмігрантаў ніводным радком і нават па імені ажно да пачатку 90-х гадоў не быў вядомы. Бо ўсе яны заклеймлены як беларускія буржуазныя нацыяналісты, а страшней за беларускі нацыяналізм, як вядома, няма нічога ў свеце. [...] І таму мы нічога не маглі ведаць і чуць пра беларускую эміграцкую літаратуру. А яна існавала, і даволі значная, асабліва ў жанрах паэзіі і эсэістыкі. Цяпер яна, хоць далёка не ўся, прыйшла да нас, узʼядналася — лёгка і натуральна — з мацерыком беларускага літаратурнага слова”*[68].

Узʼядналася беларуская літаратура, узʼядналіся й самыя беларусы. І калі й сёньня зрэдзьчасу дзе-нідзе пытаюцца, каму-ж беларусамі звацца (“*а ты хто такі на беларускім полі?*”), варта памятаць пра механізмы, што стаяць за падобнымі пытаньнямі.

## Дзуйхіцу Янкі Юхнаўца

*...у нас на эміграцыі чуюцца нэгатыўныя ўпамінаньні (між інтэлігенцыі) да некалькіх словаў у вершы, сказаных М. Сяднёвым: “Я сам сабе вялікі” й г.д.*
*...так. Чалавек, калі ён абавязвае сябе быць часткай нацыянальнага грамадзтва, мусіць адчувацца ўсчоленым духам асабістасьці — незалежнасьці ў сваім жыцьці.*

Янка Юхнавец

Чытач, які разгортвае Юхнаўцовы “Запіскі й зацемкі”[69], магчыма, чакае штосьці кшталту Шапэнгаўрэўскага ці Міхала Гаспараўскага. І тое чаканьне было б, відаць, апраўданае — і гэтак жа абсалютна

[67] Ідзецца пра кнігу: Юрэвіч, Лявон. Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі. Нью-Ёрк: БІНІМ, 1999.

[68] Літаратура і мастацтва. 1998. 13 лістапада.

[69] Юхнавец, Янка. Запіскі й зацемкі, напісаныя ў працягу некаторых гадоў прад траўнем 1996 г. // Запісы БІНіМ. № 27. Нью-Ёрк—Менск, 2004. С. 299—390; № 28. Нью-Ёрк—Менск, 2005. С. 351—447.

падманутае. Бо твор ёсьць нішто іншае, як дзуйхіцу, і бліжэй хіба да “Запісак ад нуды” Ёсыды Кэнка-Хосі.

Беларус па мячы Ўладзіслаў Гарэгляд, адзін з выбітнейшых, разам з народжанай у Менску Верай Маркавай, савецкіх японістаў XX ст., пераклаў гэты тэрмін як *“кіравацца за пэндзлем”*[70] і пералічыў галоўныя прызнакі няўлоўнага жанру: вядучая роля дзёньнікава элемэнту, вольнае пераключэньне з адной тэмы на другую, зьмена стылю аповяду, “скокі” асацыяцыяў[71], і яшчэ адзін, надзвычай істотны: незавершанасьць[72]. А незавершанасьць непаўторна:

*“...мне блізу кожную ноч сьняцца каляровыя сны. Дыктуюцца вершы, якія раніцай успамінаюцца адрыўкамі.*

*...мабыць, я адрывак у жыцьці?*

*...спадзяюся: адрыўкі злучацца ў суцэльнасьць-агульнасьць.*

*...сучаснасьць, пакуль ты жывеш, патрабуе дамагчы сабе, сустрэцца із пасьлядоўнасьцяй асабістай самапэўнасьці”.*

У пераважнай большасьці пісьменьнікаў ёсьць дзьве мовы: адна — будзённая, побытавая, і другая, прадуманая, узважаная, з правіламі — для творчасьці. Вось жа ў Юхнаўца — сьведчу — мова была адная-адзіная, што да вершаў, што да размовы за кухлем портэру: *“...я пішу зацемкі-запісы спарадычна. Кожнадзённае жыцьцё чалавека спарадычна. Даныя сьціпласьці думаньня кажнаму самазамкнёныя. ...усё залежыць ад самаго сябе. Запіскі — мае дабычы. Прымушаю сябе да інтарэсу задавальненьня падтрымаць, што думаю. І вось сёньня нахлынула на мяне пісаць у своеасаблівых вершах, недарэчнасьцях... А ніякай вартасьці, пэўнюся, запіскам не дадуць. Уласны эгаізм існуе, і ён ня першы, проціvапазнаны ў іншых таксама”.*

Пры вонкавай хаатычнасьці запісаў, што й характэрна для дзуйхіцу, нескладана вылучыць асноўныя тэмы: лёс беларускай нацыі, айчынная філязофія, літаратура, фальклёр, міталёгія й рэлігія, эміграцыя. І над усім — страх зьнікненьня: не канкрэтнага чалавека, Янкі Юхнаўца, а беларуса наогул: *“...народ наш у стане зьнішчэньня шукае сваюісьціну. Так было й будзе працягвацца ў вякох чалавечага існаваньня. Выскразнуць на дарогу магчымага існаваньня праз бунт-супрацію. Я ёсьць! Я ёсьць яшчэ!”.*

Уладзімер Конан, гаворачы пра ўсходнеславянскую філязофскую школу, заўважыў: *“Чытачы, знаёмыя з гэтай філасофскай трады-*

[70] Горегляд, Владислав. Дневники и эссе в японской литературе X—XIII вв. Москва: Наука, 1975. С. 335.

[71] Горегляд, Владислав. Дневники и эссе в японской литературе X—XIII вв. С. 347.

[72] Горегляд, Владислав. Дневники и эссе в японской литературе X—XIII вв. С. 346.

*цыяй, не маглі не зьвярнуць увагу на адну заканамернасьць: філязофскія адкрыцьці ў нашым усходнеславянскім рэгіёне належаць, як правіла, не прафэсіянальным “схаластам” (у сэньсе школьнага ці ўнівэрсытэцкага філёзафа), а таленавітым літаратарам-публіцыстам, паэтам і празаікам. Сярод беларусаў гэтую філязофскую традыцыю пачыналі Франьцішак Скарына і Сімяон Полацкі, на Ўкраіне — Рыгор Скаварада, у Расеі — “агняпальны” Авакум; а працягвалі і разьвівалі Пётр Чаадаеў, Уладзімер Салаёў, Канстанцін Ляоньцеў, Іван Франко, у нас на Беларусі — Ігнат Канчэўскі ды Ўладзімер Самойла (Суліма), аўтар эсэ “Гэтым пераможаш!”*”[73].

І ў гэтым шэрагу — Янка Юхнавец: “*...прыжыўся да свае нацыі. Праклёнаў аніяк зь нябёснай верхні не прызываю анікому. Я толькі ўсьцеліваю наскрозь быць беларусам.*

*...крыху камусь сьмяхотна! Але ў гэтым ёсьць самабытнасьць, зьядналая да агулу чалавечай бытнасьці. Яна патрабуе ад мяне дысцыпліны, вялікомасьці быць у супрацівах тым, хто ручаецца аслабіць маю сапраўднасьць. Маё аблічча можа згубіцца толькі ў сьмерці. А той, хто грэбліва пахавае яго, будзе доўга палохацца майго шкілета — ён адразу ня згіне*”.

І агучаная вышэй думка Ўладзіміра Конана была яму, як выглядае, блізкаю: “*...сучасная беларуская філязофія закінутая, а тая, што ёсьць, уся ў ленінска-марксісцкім тлумачэньні.*

*...ды вось ранейшыя вянчаюць нас з будучым. Будны і іншыя ў нацыянальнай наветнасьці адважыліся даць толк Беларускай філязофіі*”.

Але “Запіскі й зацемкі” ані не філязафічны трактат. Гэта назіраньні за жыцьцём, сваім і свайго народу, за зьменамі палітычнага надвор’я й разгортваньні літаратурных ляндшафтаў: “*...яшчэ жывём сучаснасьцяй 20-га веку. Незразумелы ўвалоў загрэдзіўся, нахлудзіўся ў маёй Айчыне... Я назіральнікам стаю ў воддалі, на чужыне. Я ў балоце-дрыгве сучаснасьці! Гэтая падробасьць хоць слухаецца азначанай мэце, а ніяк ня ўводзіць мяне ў якасьць зразумелых — зоны думак майго народу. Часта яго ня можна зразумець, што магчыма або немагчыма праз “павестваваніі” свайго нацыянальнага. Прыняць праўнасьць сваю, нават празь сілу-зброю*”.

На старонках “Запісак” — імёны Бэртрана Расэла, Флябэра, Ніцшэ, Сёрэна К’еркегара, Карла Джасперса, Эдмунда Гусэрля, Бэрнарда Шоў, Уладзімера Караткевіча, Барыса Сачанкі, Васіля Быкава, Жана-Поля Сартра, Івана Шамякіна, Івана Пташнікава, Анарэ дэ Бальзака,

[73] Вяртання маўклівая споведзь. Постаці творцаў беларускай гісторыі ў кантэксце часу. Мінск, 1994. С. 164.

Эсхіла. Чытаецца, думаецца, супастаўляецца. Занатоўваецца: *“…учора чытаў наступна выданы часапіс “Беларуская Думка” (эмігранцкі часапіс). Усюды на балонках сум пра Айчыну. Разумеецца, у гэтым ня можна адказаць і спыніцца. Сум — таксама творчасьць, ён блізу фальклёрны і ў поўнай меры адпавядае пачуцьцям эмігрантаў. Там найбольш асабістага губляецца ў эмоцыях, пачуцьцях “пакінутага” сабакі. А навакол сапраўдная літаратура. “Гаўкае”, шукае захапленьня для эпохі не плачамі*”.

Сярод развагаў пра беларускую й сусьветную міталёгіі знаходзіцца месца й для ўласнае: *“…аднойчы, кажнатыдзень, бываў у Нью-Ёрскай Публічнай Бібліятэцы. У часе полудзеня (амэрыканскі ланч), я пачуў за дашчанай перагародкай гутарку па-беларуску. Потым даведаўся, што там гутарылі з П. Глебкам (прыехаў на сэсію ў ААН), гэта было ў 60-х гадах.*

*…даслоўна ад П. Глебкі:*

*— У нас шмат гэтакіх паэтаў.*

*…успомніў імёны беларускіх эміграцыйных паэтаў. Пахваліў М. Сяднёва, яму ўзапярэчылі — не паводле да Н. Арсеньневай. Пайшла радоўка й да майго імя.*

*— У вас ёсьць нейкі Янка Юхнавец — дзікі, але цікавы, чаму часта не друкуецца?*

*…кончыў полудзень. Падышоў. — Дабрыдзень, — пачаў. — Гутарыце па-беларуску.*

*…адзін зь вядомых беларусаў устаў з-за стала, падышоў да мяне.*

*…— Абыдземся безь цябе. У нас тут Глебка.*

*…із таго часу пайшло пра мяне — “дзікі”*”.

Як у сапраўдным дзуйхіцу, зацемкі можна чытаць зь любога месца, можна прамінаць тыя, якія не адпавядаюць цяперашняму настрою, разглядаць слоўныя малюнкі Нью Ёрку або Беларусі ў часе Другой Сусьветнай ці назіраць за буслом у высокім амэрыканскім небе, рыхцік як на папяровых скрутках Кінкея Дадзіна: *“…я не заўсёды пішу пра тое, што люблю. Чаго гэтым дасягну на эміграцыі? А нічога.*

*…успамінаю, таму што трэба ўспамінаць. Забываюся — добра дзень пераажыў, мінуў. Прыгатаваньне на заўтрае — заплоціцца маёй працай. А ўсё іншае — існую ў сваіх паступках, у сваіх памылках, і пра гэта я найбольш думаю. Нейкі час ёсьць абежнік нормам сваіх паводзінаў. Ён упісаны супроць чужых. Над усё, а раблюся часткай краіны, дзе жыву, але не аднімаю запас для маёй Айчыны, яна дазваляе прыбліжацца да яе праз бытаваньне на чужыне. Я сучасны чалавек, не таўпчуся на адным месцы, але адзінае, зборнае месца не забываю — Айчыннае месца. Пералётны бусел? Ніякіх рэзонаў. Ёсьць узвышанасьць розьніцаў правападобнасьці жыцьця ад жыцьця*”.

## На боцех "Яно"

Па выхадзе ў "Лімарыусе" таўшчэзнага, амаль вычарпальнага тому паэзіі Янкі Юхнаўца чуліся нараканьні, маўляў, у кнігу ня трапіла Юхнаўцова ліставаньне.

Праўда палягае ў тым, што лістоў (часьцей — паштовых картак) захавалася небагата, але галоўнае — яны па зьместу нагадваюць сёньняшнія тэлефонныя паведамленьні, *messages*: кароткія, па справе — "*буду, прынясу, ці атрымалі?*". Не засталося таго жаданага кожным дасьледчыкам, мары любога архівіста ліставаньня, якое б даносіла да нас, тлумачыла й казытала сакрэтамі аўтарскай кухні.

Затое — хіба ўнікальны выпадак у нашай літаратуры — як Томас Манн да свайго "Доктара Фаўстуса" напісаў "Гісторыю "Доктара Фаўстуса". Раман аднаго раману", як Умбэрта Эка да "Імя ружы" дадаў "Зацемкі на бачынах "Імя ружы"", гэтак і Янка Юхнавец да неапублікаванай аповесьці адстукаў на друкарцы "Да "Яно", ад сябе — аўтара"[74].

Прыходзіць на роздум яшчэ адна літаратурная паралель. Калі напрыканцы 1980-х гг. быў надрукаваны раман расейскага (ці, у адпаведнасьці з часам, савецкага) пісьменьніка Валянціна Катаева "Дыямэнтавы мой вянок" ("*Алмазный мой венец*"), крытыкі бы спаборнічалі ў вынаходніцтве жанру твора: "раман з ключом", "кніга памяці", "аўтабіяграфічная проза", "аповесьць", "мэмуарны раман-памфлет".

Згадалася, бо і аповесьць "Яно" Янкі Юхнаўца — ці то гістарычны твор (падзеі Другой сусьветнай вайны), ці то шыфраваны летапіс падзей (дзе героі Арэмчык, Саболік зашыфраваныя імёны рэальных дзеячаў), ці то ўспаміны. Не падлягае сумніву адное: гэта непрыдуманая літаратура: "*...эпізоды з жыцьця заўсёды створаны жыцьцём. Паказанасьць дзеючых асобаў? Яны яшчэ жывыя ці памерлыя*"[75].

З гэтых жа запісак на боцех аповесьці, напісаных у стылі "Запісак і зацемак", даведваемся пра генэзу твора: "*...мой начырк-крытыка пайшоў пад уплывам твораў айчынных літаратараў, але не эміграцыйных. Проза на эміграцыі крыху пачалася А. Адамовічам, а за ім проза К. Акулы. У Акулы паказная імкнёнасьць напісаць накшталт пра Д'Арк, якой і якіх (даруйце – у мужчынскім родзе) у часе 2-й вайны не было. А ўсё іншае ў яго – пакуты некаторых асабістасьцяў — літаратурныя кампазыцыі, блізу перарослыя ў літаратурныя значэньня. А потым проза М. Сяднёва — яго хвалюе ўласнае жыцьцё. Проза Я. Юхнаўца мала вядомае — скрапіны ў про-*

[74] Запісы БІНіМ. № 30. Нью-Ёрк—Менск, 2006. С. 288—305.

[75] Запісы БІНіМ. № 30. С. 288.

*зу, бы кароткае кукаваньне зязюлькі*"[76].

Васіль Быкаў, Янка Брыль, Барыс Сачанка — гэтыя імёны называюцца найчасьцей, а зь іх — найбольш апошняга. Мо' праз падобнасьць лёсаў — абое былі вывезеныя ў Нямеччыну на працы — Юхнавец вычуваў штосьці блізкае і ў творах?

Хоць сваё "Яно" ён чамусьці не лічыў мастацкай прозаю: "*... у начырках няма мастацтва, а спачуваньне роднаму*"[77], "*мае начыркі не мастацтва літаратурнае, а прад'яўленая скорасьць, што адбывалася ў Менску падчас 2-й вайны*"[78].

І ўсё ж "Яно" мастацкі твор, хоць сапраўды адметны: гэта не "франтавая" проза, не "акопная", не "партызанская". Як яе назваць? Мяшчанская? Абывацельская? Тая, пра якую расказваў — дакумэнтальна — Дзьмітры Сямёнаў у сваім дзёньніку, а Лявон Савёнак — з горкім сьмехам — у "Дзёньніку Чужанінава". Гэта вайна вачыма тых, што засталіся ў Менску: "*...у Беларусі, пра што Сачанка не напісаў, адбывалася змаганьне не за незалежнасьць, а ходаньне зьвязкаў (із чужых і часткова сваіх авантурнікаў, пакрыўджаных крыміналаў багаслаўлёныя тыранам супроць тырана. У гэтым толькі яны й разьядноўваліся: хто як, і за каго, у спосабах зьнішчэньня й рабаваньня. Дам толк Сачанку, паказаў некаторыя памылкі захаваньня беларускай нацыі падчас 2-й вайны. Адно толькі дрэнна: ён не падзяліў тыраніі, кінуў яе ў апісальнасьць пра адзіночных асобаў, напатканых у часе вайны. А яны асталіся тыя самымі ад Кастрычніцкай рэвалюцыі да цяперашчыны*"[79].

Юхнавец падчас вайны таксама быў у Менску — працаваў у судзе, дапамагаў Леаніду Галяку. А ягоная сям'я ў вёсцы Забродак была спаленая літоўскімі карнікамі. Расказваць пра тое ён ніколі не хацеў, але аднойчы ў размове мільганула імя Кастуся Мерляка, і з раз'юшаных кароткіх сказаў Юхнаўца вынікала, што Мерляк меў нейкае дачыненьне да тае акцыі. Як, якім чынам адміністратар Самапомачы, большую частку дзейны на Наваградчыне, мог спрычыніцца да жудасных падзеяў на Віцебшчыне, тады даведацца не ўдалося, а болей да гэтае тэмы ніколі не вярталіся: "*...я шмат не сказаў пра асобаў у начырках "Яно". Дзе патрэбнасьць асабліва важная, паколькі я адмовіўся пісаць другую частку начыркаў. Мае суджэньні ў наступных начырках нічога-б, можа, не прыгналі ў стабэльню гісторыі. Я, можа, загіпнатызаваўся тым, што напісана раней. Ранейшае выглядала:*

[76] Запісы БІНіМ. № 30. С. 302—303.

[77] Запісы БІНіМ. № 30. С. 290.

[78] Запісы БІНіМ. № 30. С. 298.

[79] Запісы БІНіМ. № 30. С. 300.

*ня можам мы пазьбегнуць у сучаснай гісторыі нашай нацыянальнай лухты, падтасаванае народу ажно з двух полюсаў — нямецкае й расейскае. Таму празвычай творчы складваецца: не кажы, што ўжо сказана іншымі пісьменьнікамі”*[80].

Дык што такое “Яно”? Гэта і ўспаміны, і гісторыя пра беларусаў у горадзе, акупаваным ня толькі немцамі, але й сваімі, з Самапомачы. І філязофія, і памфлет: *“Усё напісанае ад мяне — назіраньні свае ў Менску, а найбольш распавяданыя людзьмі, прычаснымі да гэтага. Волі шмат. Філёзафы цьвердзяць, прыносяць новыя эпохі.*

*Усё гэта асабістае, індывідуальнае асуджэньне бывае ілжабочнае, некарыснае, аднак зьявілася болесьць у недалегласьці болесьці іншым людзям, пра якіх шчыра напісаў.*

*… чалавек у жыцьці ня можа быць справядлівым, але дагодны сълядзіць за яе дагоднасьцямі сваімі і іншых. Чалавек — абарона чалавеку”*[81].

[80] Запісы БІНіМ. № 30. С. 301—302.

[81] Запісы БІНіМ. № 30. С. 305.

## *Будучыя кнігі*

***Макар Краўцоў***

# ВЫБРАНАЕ

*“Маладым і спадзеўным паэтам-лірыкам і публіцыстам” назваў Макара Краўцова Максім Гарэцкі*[1].

*Не нашмат болей (але побач зь якімі імёнамі!) гаворыцца пра яго і ў акадэмічнай гісторыі літаратуры: “Акрамя прозы М. Гарэцкага, псіхалагізмам, чалавеказнаўчай скіраванасцю вылучаюцца апавяданні М. Краўцова “Маршлют”, “Маскалёвы дзеці”, у якіх па-мастацку даследуецца народны характар, у класічнай манеры распавядаецца пра народнае жыццё. Асобных адзнак свайго часу, заходнебеларускай рэчаіснасці ў іх пісьменнік не выяўляе. Ён паказвае вобразы, тыпы старой беларускай вёскі. […]*

*Крытыка ў Заходняй Беларусі 1920-х гадоў, першай іх палова, была прадстаўлена даволі самавітымі імёнамі А. Луцкевіча, У. Самойлы, М. Косцевіча. Апошні свае літаратуразнаўчыя эцюды, крытычныя заметкі падпісваў псеўданімам “Светазар””*[2].



Макар Краўцоў

*Між тым нават толькі адным сваім творам Краўцоў заслужыўся на асобнае месца ў нашай літаратуры й гісторыі: “Але пачатак “ваяцкай паэзіі” паклалі ня гэтыя вэтэраны “нашаніўскага адраджэньня”, а тады яшчэ малады іхны пасьлядовец, Краўцоў Макар (Макар Косьцевіч), што пачаў друкаваць свае вершы ўсяго ад 1918 году. У тэй самай газэце “Беларусь”, дзе зьявіўся й першы Жылкаў верш, але куды раней, бо яшчэ ў 1919 г.*

[1] Гарэцкі, Максім. Гісторыя беларускае літэратуры. Вільня, 1921. С. 202.

[2] Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя. Т. 2. 1921—1941. Мінск, 1999. С. 223—224, 228.

*(№ 9) быў надрукаваны першы твор "ваяцкае паэзіі" – ведамы "Ваяцкі гімн" Краўцова Макара (пачатак – "Мы выйдзем шчыльнымі радамі"), тэкст якога (з музыкаю Ў. Тэраўскага) цяперака спраўляе ролю нашага нацыянальнага гімну"*[3].

*Антон Адамовіч пісаў пра гэты гімн як пра верш "моцны і ўпэўнены, запраўды баёвы й ваяўнічы", "зырка нацыянальны ў зьмесьце", "у якім упяршыню ў вадраджэнскай лірыцы гэтак магутна прагучэў матыў нацыянальнае гордасьці ды ўпяршыню-ж высака ўзьняты быў нацыянальны сьцяг — "штандар наш бел-чырвона-белы", а таксама ясна азначаная канцавая мэта нацыянальна-рэвалюцыйнага руху — "нараджэньне жыцьця Рэспублікі свае""*[4].

*Меў рацыю некалі Віктар Войтанка-Васілеўскі, напісаўшы да Вітаўта Тумаша: "Заслужаным даюць мэдалі, ставяць помнікі. Сваім волатам наш Народ і Краіна пакульшто давала шыбеніцы на Лукішках, катаргу ў Сібіры"*[5]. *Пісьменьнік Макар Краўцоў гэтак і не дачакаўся кніжачкі хоць бы сваёй паэзіі; сябра Рады БНР Макар Косьцевіч, як і Тамаш Грыб, і Ўладзімер Самойла, застаўся нават без уласнай магілы, ня тое што помніка. Гэтым мы пачынаем публікацыю матэрыялаў для будучай кнігі аўтара гімну Беларускай Народнай Рэспублікі.*

## **Вершы**[6]

### ***Паварот да Горадна***

Ізноў я тут. Цябе вітаю,
Мой родны Горадзен стары!
Ізноў па вуліцах лятаю
Да самай позняе пары.

З цябе нацешыцца няможна
Пасля разлукі ў тры гады!
Як міла плітачка тут кожна,
Дамы, бульварчыкі, сады.

---

3 Адамовіч, Антон. Да гісторыі беларускае літаратуры. Менск, 2005. С. 404—405.

4 Адамовіч, Антон. Да гісторыі беларускае літаратуры. С. 405.

5 Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Хронікі БІНіМу: Гісторыя Беларускага інстытуту навукі і мастацтва ў дакументах, лістах і ўспамінах. Мінск: Кнігазбор, 2017. С. 117.

6 Аўтарскі правапіс твораў захоўваецца.

Хрыбты мастоў пераламаных.
Ахвяры скончанай вайны,
Шкада мне вас, параскіданых,
Ўдалыя Нёмнавы сыны!

І ты – нямога пасяджэння
Магутны замак – як жывеш?
Праб'е часіна адраджэння –
Ізноў ты, мілы, загудзеш!

А ты... ты – Нёман бела-сіні...
Ой, як харошы, дарагі!
Старыя хвоі, як багіні,
Тваe бароняць берагі.

Цяпер нядоляй пілігрыма
Сюды загнаны незнарок,
Твой быстры бег лаўлю вачыма,
Гляджу і ўдоўж, і ўпапярок.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Вітай жа, Горадзен, дзяціну
Тваіх мяроў, твае раллі,
Хоць ты прытулішчам будзь сыну –
Выгнанцу роднае зямлі!

### *Раманс*

Ціха спаў стары лес недалёчка,
На балоце кулік чыркацеў,
Той вясны была цёмная ночка,
Што не вернецца зноў, каб хацеў.

Хутка недзе схавалася вёска,
Ўсё гусцела й гусцела імгла;
Твая мілая доўгая коска
Чорнай стужкай на плечы лягла.

Яшчэ зоркамі вочкі свяцілі.
Шчасце-моладасць грэла душу...
Тыя думкі, што нас засмуцілі,
Я дагэтуль, як шчасце, нашу.

«Нас нядоля ліхая злучыла,
І ў наплыве сляпога чуцця
Ўсю атруту пазнаць навучыла»...
Дый заплакала ты, як дзіця.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Было жудасна нам сярод ночы,
Лёд нядолі застыў каля нас.
Ты, як ангел, мне глянула ў вочы
І пачула: «Расстацца нам час»...

*1918, Менск*

## *Ваяцкі марш*

Мы выйдзем шчыльнымі радамі
На вольны родны свой прастор.
Хай воля вечна будзе з намі,
А гвалту мы дамо адпор!

Няхай жыве магутны, смелы
Наш беларускі вольны дух.
Штандар наш бел-чырвона-белы,
Пакрый сабой народны рух.

На бой! За шчасце і за волю
Народу слаўнага свайго!
Браты, цярпелі мы даволі,
На бой — усе да аднаго!

Імя і сілу беларуса
Няхай пачуе й убачыць той,
Хто смее нам нясці прымусы
І першы выкліча на бой.

Браты, да шчасця мы падходзім:
Хай гром грыміць яшчэ мацней!
У крывавых муках мы народзім
Жыццё Рэспублікі сваёй!

*1919*

## *На чужыне*[7]

Нічога роднага… Чужое ўсё вакол…
Муры высокія, а ў іх чужыя людзі.
О, як жадаў-бы я ўзьняцца, як сакол,
Каб паляцець туды, дзе радасьней мо будзе.

Дзе ўдасца, можа, мне нанова засьпяваць,
І струны лірныя крануць ізноў рукою,
І духу творчасьці бяз меры набываць,
Ад працы цяжкае ня ведаці спакою.

Дык да цябе, мой мілы, родны краю,
Імкне душа мая і рвецца ў вышыню,
Бо на чужыне, тут я ціха паміраю
Дый не жыву, а сплю і волю тваю сьню.

*Лодзь, 14.1.1921*

## *Братом*[8]

Праклёнства нейкага пячатка на Народзе,
Што засяліў абшар ад Нёмна за Дняпро
І кожныя сто год апошняе дабро
Губляе ў полымі вайны, ды годзі.

У згодзе хоча жыць з суседзямі, а тыя
З Усходу, з Захаду руйнуюць быт Яго,
Ў палон забраўшы, лічаць за “свайго”,
Забыўшы ўсе правы яго сьвятыя.

Ці’ж Ён такі, як вы, браточкі-ненажоры?
Ці мову вашу ён, ці звычаі пабраў?
Мо’ не сваю зямлю Ён, скажаце, згараў,
Чужыя мо’ калі таптаў разоры?

Славянскае братэрства нібыто нясеце
З Масквы, або з Варшавы вы да нас;
Але’ж падумайце цьвяроза кожны з вас –
Ці не зашмат вы толькі нам даеце?

[7] Наша Думка. № 7. 18 лютага 1921. С. 4.

[8] Наша Думка. № 24. 17 чырвеня 1921. С. 3.

Маскаль, паляк пазнаў ужо, здаецца,
Як часам лёгка рвуцца рабства ланцугі...
Ці-ж Беларускі Люд такі ужо благі,
Што Волі Сам, бяз вас, Ён не даб'ецца?

Паверце, брацьця, шчодрыя на падарункі!
Навек рабамі стаць ня згодзімся і мы, —
Да вольнай працы выйшаўшы з турмы,
Па-людзку вашы "брацкія" аплоціма рахункі.

Бо працу любім мы і ўмеем мусі жыці,
Калі дасюль яшчэ ня ўмёрлі, бедакі,
Бо ліцавалі-ж нас на розныя бакі
І не самім сабе вучылі нас служыці.

Цяпер мы ведаем: Зямля нам Беларуска — маці!
Яе палон, разьдзел — часовая бяда,
Бо Беларуская мільённа грамада
Калі-нібудзь патрапіць-жа сказаці:

"Ва ўласнай хаце спалі мы адвеку;
Нас няжывымі ўжо лічылі мусі ўсе,
Бо хто хацеў толькі, то лазіў па страсе,
Пакуль пачуў: "Зямлі, свабоды трэба чалавеку"...

І мы Народ жывы — ня раб, а Гаспадар!
І роўнай зь іншымі заслужываем долі!
Мы трупамі усьцелем цяжкі шлях да Волі!
Хай соты можа з нас, а ўбачыць Яе твар!

## *Сьмейся, браце!*[9]

Сьмейся, браце беларусе,
Сум далоў гані!
Не кажы: "я ўсіх баюся"...
Вечна не стагні.

---

[9] Маланка. № 5. 1 сакавіка 1926 г. С. 1. У "Маланцы" № 6 ад 2 сакавіка 1926 г. паведамлялася: *"Па загаду Камісара Ураду на м. Вільню № 5 "Маланкі" ад 1 сакавіка с. г. сконфіскаваны за 1. Рысунак Ю. Ш. і надпіс на ім, зьмешчаныя на першай старонцы; 2. Верш: "Рады-бы ў рай, ды грахі не пускаюць", сатыра Я. М.; 3. "Сьмейся, браце!" лірычны верш Краўцова Макара; 4. Верш пад рысункам: "З баданьня", сатыра Я. М."*.

Не паможа бядзе гора,
Ліха не памрэ.
Годзе зь сьлёз рабіці мора,
Засьмяяцца трэ’.
Каб разьвеяць непагоду
Нашага жыцьця,
Каб у рогаце свабоду
Нам пачуць хаця!
Бо сьмяяцца толькі й можа
У сьвеце чалавек.
А ці-ж наш народ прыгожы
Зложаны з калек?
Не! Мы людзі, браце мілы,
Людзі, як і ўсе,
Тыя, хто нас часам сілай
Цісьне і трасе.
Не дарма-ж і мы гаруем —
Лепшы лёс куём,
Ліха сьмехам зачаруем,
Песьняю даб’ём.
І народзіцца вось доля
Лепшая для нас.
Прыдзе весялосьць і Воля
У недалёкі час.
І пад новых песьняў гукі,
Крышачку пазьней,
Засьмяюцца дзеці, ўнукі
Нашыя вальней.

### ***Сьпявай***![10]

Сьпявай, гаротны беларусе,
Паплакаў годзі ты!
Такой, як мы, працоўнай — мусі
Ня зьлічыш галаты.
Раней ня значыў ты нічога,
Запомніў сам сябе —
І шмат так часу дарагога
Ня сьніў аб барацьбе.
Аж вось загуў грымот аб Волі:
“Народы, хто жывы!

[10] Маланка. № 7. 15 сакавіка 1926. С. 4.

Падбайце самі ўжо аб долі
Сваёй уласнай вы!”
І ты, плячыма варухнуўшы,
З вачэй заслону зьдзёр,
Ды імя ўласнае пачуўшы,
Пячатку рабства сьцёр,
Што на табе была вякамі,
Атрутай на душы…
Хоць сёньня дружнымі рукамі
Свой лёс паварушы!
Пад моц надзеі уваскросшай
Былому кінь: “Бывай!”.
Пад гук дуды сваёй заглохшай
Нанова засьпявай!
І гумар прашчураў свабодна
Маланкай распалі,
Каб красавала мова родна
На беразе Вяльлі.
А там папрэцца год за годам
Твой новы быт у высь,
Пачнуць і нас лічыць народам,
Як муселі калісь…

## ***Мімалётнае***[11]

Вось не’к — няўцям — ачараваў
Мяне твайго пагляду жар,
І Твайго цела знойны пах,
І грэх, што сьпіць у Тваіх вуснах.
І стан Твой спадабаўся гібкі,
І ход Твой — лёгкі, вабны, зыбкі,
Вагульлі цэльны Твой сыльвэт
Прыгожы, стройны, як сонэт…
Але боль сэрца разьдзірае,
Бо розум ясна уяўляе,
Што, аднак, Ты — мая краса,
Не для мяне і не мая!..
Я ведаю ўжо заранье,
Што мімалётнае спатканьне
Не патрывае на’т і дней,

[11] Сялянская Ніва. № 23. 31 ліпня 1926. С. 1.

Ці праляціць яно хутчэй,
Чым бліскавак у ночы зяньня,
Чым дня вясеньняга зьмярканьне.
І вось ціхонька, неўзначай,
Надыдзе сумнае: бывай!
А мо’ на’т і яго ня будзе
Ў жыцьця бурлівым перагудзе...
Як два лісточкі у разводзьдзе
Нурт разганяе у прыродзе,
Так Лёс праклёны ў бегу дней
Раскіне нас што раз далей...
І вось пяройдзе дзён нямнога,
Забудзем мы адзін аднога
І наша шчыра пачуцьцё
Праглыне вечнасьць... забыцьцё...
Рад доўгі шэрых, нудных дней,
Асоб рад новых і падзей
Заб’е ў душы ўспамін спатканьня
І нечаканага каханьня...
Аж-но урэшце ў бегу дзён
Дзесь загудзіць хаўтурны звон...
.........................
Патонем мы ў бяздоньнях Леты...
Так дзьве сыгнальныя ракеты,
Спаткаўшысь, неба ўздоўж пратнуць
І у бязьмежжы патануць!..

## ***Туга***[12]

Ах, колькі-ж я бы даць гатоў
За то, каб не’к пабачыць йзноў
Край дзіцячых маіх гадоў.

Дзе ўсё было так проста, стройна,
Прытульна, гожа і пристойна,
Вясёлкава і супакойна...

Ня так пабожны пілігрым
Імкнецца ў Мэкку або Рым,
Як я ў тэй кут, ў краю глухім,

[12] Сялянская Ніва. № 31. 30 верасьня 1926. С. 1.

Дзе разьляглісь кругом вазёры,
Агромныя, бы тыя моры,
І сумныя, глухія боры…

Зь якім балючым пачуцьцём
Я аглядаў-бы стары дом,
Дзе жыў калісь я дзіцянём.

Ў ім кожны кут і кожны клін
Будзілі-б у душы ўспамін
Былых бясклопатных гадзін.

Зь сьлязьмі прыпаўшы да зямлі,
Я-б ўспомнеў тых, што тут жылі
І ўжо на вечнасьць адышлі…

Рэчы вялікія калісь
Цяпер малымі-бы здалісь,
А шмат зь іх пэўне ўжо зьвялісь…

Дык як-бы з сумам спазіраў
На розных перамен навал,
Якія час там пастывараў.

Сярод чужых і сам чужы,
Хадзіў-бы я нямы, глухі
Па майго шчасьця цьвінтары.

Зь вялікім стогнам і жальбою,
З палючай, горкаю сьлязою,
Успамінаючы былое…

Але здарма мая туга!
Прад краем, дзе радзіўся я,
Узрасла гранічная мяжа…

## *У вастрозе*[13]

Вее холад ад парога,
Дзень за днём бяжыць.
Зьнікла ўсякая трывога
І ў душы няма ўжо Бога —
Неахвота жыць.
І нашто, каму ўсё гэта?
Я-ж не ліхадзей —
Душа вольная паэта
Была думкаю сагрэта:
Вызваліць людзей.
Людзі-ж цешацца на волі:
"Во, папаўся ён!"
Не палохае ніколі
Іх нішто так мусі болей,
Як лад новых дзён.

# Крытыка

## *Песьнярка каханьня*[14]

(Аб любоўным элемэнце ў творчасьці
Канстанцыі Буйло)

*Як я цябе люблю — хай скажа гэта мора,*
*Што у грудзях маіх бушуе, — хай гавора*
*Аб гэтым сэрца, што пагляд тваіх вачэй*
*Сон прабудзіў яго, аж дрыгнула сільней*
*І так забілася, як птушачка у клетцы,*
*Што вырвацца з грудзей хацела ўжо здаецца.*

К. Буйло

Констанцыя Буйло?!

Аўтарка "Курганнай кветкі"!?

Не адзін мо' нат ня чуў пра яе, а шмат хто пэўне ўжо і забыўся…

Дый ня дзіва! Бо ці-ж было якое новае выданьне ейных твораў? Якоесь сьвяткаваньне, прысьвечанае ёй? Ці былі якіясь угодкі яе

[13] Беларускі Дэкляматар. Сабраў С. С. Вільня: Выдавецтва У. Знамяроўскага, 1928. С. 25.

[14] Досьвіткі. Месячнік беларускай літаратуры і мастацтва. Вільня, 1927. № 1. С. 9—11.

творчасьці? Не, ня было! Ды і скуль ім бываць, калі ў адзінай, якую маем, гісторыі беларускай літэратуры М[аксіма] Гарэцкага[15], німашка ня толькі даты выдрукаваньня яе першага вершу, але н'ат году яе радзін!

Мы нават ня ведаем, ці жыве яшчэ — недзесь у Расеі — гэтая кволая дзяўчынка, што гэтак прыгожа летуцела аб неспазнаным яшчэ тады, буйным, вагністым каханьні, бо ўжо некулькі год як яна ня піша і німа аб ёй ніякіх вестак...

Гэтак *"спыніла свой голас жалейка"* і — пакрысе — забыліся ўсе аб заглохшай кветцы...

Вось-жа ў нашым артыкуле мы хацелі-б прыпомніць беларускаму грамадзянству гэту выдатную песьнярку, якая — духова — вельмі блізка зроднена характарам свайго таленту зь вядомай сучаснай паэткай Натальляй Арсэньневай.

Біографічныя данныя, якія знаходзім мы аб К[анстанцыі] Буйло ў падручніку М[аксіма] Гарэцкага, — ёсьць вельмі скупыя і невыстырчаючыя, але ня маючы іншых крыніцаў, мусім задаволіцца і гэтым малым, што там ёсьць.

А ёсьць там, больш-менш, наступнае:

Констанцыя Буйло ўрадзілася ў самым канцы мінулага стагодзьдзя.

З паходжаньня дачка дворнага служачага зь Вішнева (Ашмянскага павету Віленскага ваяводзтва), засталася Буйло з хатняй адукацыяй, але, маючы ўроджаны ўхіл да літэратуры, шмат чытала, дапаўняючы гэткім чынам нястачы і хібы свайго ўзгадаваньня.

Пазнаёміўшыся зь беларускім рухам, дзякуючы аднаму студэнту-адраджэнцу, маладая дзяўчына захапілася справай і незабавам зрабілася выдатнай супрацоўніцай "Нашае Нівы".

Празь нейкі час працавала яна ў Вільні ў дзіцячым прытулку, пасьля-ж — у пачатковай школе ў в. Чаўшлі Мала-Салечніцкай парахвіі.

Крыху пазьней бачым мы К[онстанцыю] Буйло як загадчыцу беларускай кнігарні ў Полацку.

Падчас вайны наша пясьнярка працуе ў "Земскім Саюзе", дзе, пазнаёміўшыся зь нейкімсь В[італём] Калечыцам, выходзе за яго замуж.

Ад часу рэвалюцыі жыве яна ў Маскоўшчыне, на станцыі Шахаўской, Аляксандраўскай зялезнае дарогі.

Гэта вестка аб Буйло з-прад некалькі год, на жаль, зьяўляецца апошняй!

Што зь ёй зрабілася далей — німа ведама!..[16].

---

[15] Маецца на ўвазе праца Максіма Гарэцкага "Гісторыя беларускай літаратуры", якая ў 1926 г. мела ўжо 4-ае выданьне.

[16] Каснтанцыя Буйло ад 1923 г. і да сьмерці ў 1986 г. жыла ў Маскве.

У 1914 годзе зьяўляецца першы і адзіны дасюль зборнік яе вершаў п[ад] н[азвай] “Курганная кветка”.

Зборнік гэты, старанліва выданы праз заслужаную для беларусаў друкарню Марціна Кухты ў Вільні, мае каля 100 старонак друку разьмеру васьмёркі і выяўляе першарадныя мастацкія вартасьці. Прыгожая віньета вокладкі, прадстаўляючая ні то — сярэднявечнага рыцара, ні то — эгзэтычную нейкуюсь красуньку ў казачнай вопратцы, як нельга лепш адказвае зьместу зборніка.

Львінная частка кніжкі прысьвячана каханьню.

Характэрнымі ў ёй ёсьць выняткова моцныя эротычныя акцэнты, гэтак рэдкія наагул у беларускай літэратуры.

Уся істота К[онстанцыі] Буйло імкнецца прост’такі стыхійна да каханьня! Аб ім яна лятуціць, па ім сумуе, яго чакае!..

У творах яе бачым мы цэльную чашу любоўных пачуцьцяў; бачым каханьне ўва ўсіх яго праявах!

У некаторых вершах ідэалізацыя каханага мужчыны ў хваравітым сваім пафосе даходзе ажно да абагатварэньня, у іншых ізноў прыкмечаем гэтак характэрную для маладых дзяўчат, асабліва-ж для дзяўчат-фантазёрак, “*восторжэнносьць*”, эмфазу — наагул аднак любоўныя вершы К[онстанцыі] Буйло вызначаны моцай пачуцьця і артызмам поэтыцкага яго выразу, ня кажучы ўжо аб багацьці і рожнароднасьці яе любоўных перажываньняў, як рэальных, гэтак-жа і высьненых толькі любоўнай інтуіцыяй пясьняркі.

Сярод беларускіх імпрэсыяністаў, песьняроў Чыстае Красы як: М[аксім] Багдановіч, У[ладзімер] Жылка, Н[аталья] Арсэньева — К[онстанцыя] Буйло займае пачэснае мейсца і належыць бязсумліўна да беларускага літэратурнага Олімпу.

У абгаварываным намі зборніку вершы ня ёсьць падзелены на нейкіясь асобныя групы, аднак у пачатку пераважаюць вершы патрыятычныя, далей йдуць — любоўныя, якіх ёсьць найбольш, а йшчэ далей зьмешчаны імпрэсыі; акрамя таго, у перамешку зь іншымі поэзыямі знаходзім мы тут і пару вершаў фантастычных, прыродаапісальных або пісаных на матывы сялянскія.

У самым канцы кніжкі зьмешчаны дзьве п’ескі.

У гэтым нашым артыкуле мы абмяжуемся да агляду выключна толькі вершаў любоўных, якія зьяўляюцца найбольш характэрнымі для нашае пясьняркі, а дзеля таго заслугоўваюць на апрычоную ўвагу. Багацьце любоўных сюжэтаў тутака гэткае, што можам зь іх лёгка ўлажыць цэльную паэму каханьня!..

Вось для прыкладу верш “У краіне мар” (ст. 23) кажа нам аб каханьні пабратымчых душ яшчэ ў перыядзе бязьцельным, у іх эфірных падарожжах перад прыходам на сьвет:

*Ў краіне мар, паднебнай далі*
*Гдзе зоры сьвет ракой лілі,*
*Ў праменьнях сонца мы спаткалісь,*
*Не знаючы ешчэ зямлі.*
*Я помню гэтае спатканьне,*
*Пагляд гарачы помню твой,*
*Ясьнейшы зоркі залатой,*
*Што мне ў душу уліў каханьне.*

У іншым ізноў вершы п[ад] н[азвай] “Памятны дзень” (ст. 33) мы бачым гэткі, напрыклад, абраз як першае зямное спатканьне, ужо здаўна празначаных для сябе воляй лёсу мужчыны й жанчыны; спатканьне гэта выклікае магутны ўстрас у душы пясьняркі, якая пад уплывам яго адразу перастае быць дзіцянём і зьмяняецца ў горача кахаючую кабету:

*Зь лет даўнейшых маіх помню дзень я адзін:*
*Весна была, скаўронaчак пеў;*
*Каля ног серабрыстая рэчка плыла,*
*А над ёй лазьняк ціха шумеў.*
*Я — дзіцяцяй ешчэ — чуць падросткам была, —*
*Шоў пятнадцаты год мне тады;*
*У той дзень я над рэчкай вяночкі віла,*
*Прыгледаючысь ў люстры вады.*
*Поўна сетка мая ўжо была матылькоў,*
*Вянкі пышнай лежалі гурбой,*
*Прымерала я іх, сьмяючысь як дзіцё...*
*Ты зьявіўся тады прада мной.*
*У той памятны ясны і сонечны дзень,*
*Як цябе толькі ўбачыла я, —*
*Ўраз прапалі на век жывасьць гуляў маіх*
*І дзяцінная ўцеха мая.*

Тутака пясьнярка ўпадае ў любоўны экстаз і гэтак пяе далей сваю “Песьню песьняў”:

*Як-бы Бог хараства, ты стаяў прада мной*
*С сьмелым поглядам дзіўных вачэй;*
*Многа новых, нязнаных мне дум пабудзіў,*
*Сэрцэ білась сільней і сільней.*

Не бракуе ў зборніку й першых нясьмелых, ад сэрца йдучых прызнаньняў пясьняркі аб яе любоўнай туге, пачуцьцях, лятуценьнях, словам — аб усіх тых рэчах, якія дасюль былі саромліва хаваны ў глыбіні душы, будучы для іншых тайніцай; вось, напрыклад, у вершы

“Я шукала” (ст. 22) спатыкаем выяўленьне магутнай, спрадвечнай тугі жанчыны за мужчынай, якога аўтарка ўжо здаўна чакала і радасьць ад яго зьяўленьня:

*Я шукапа цябе мілы мой ўжо даўно, —*
*Я шукала цябе выглядала,*
*Вось такога, як сьніўся ў дзявочых мне снох,*
*Хоць тагды я цябе йшчэ ня знала!*

— пачынае свае вызнаньні поэтка, але саромлівасьць, навык да скрытасьці, а яшчэ больш жаноцкая амбіцыя не дазваляюць ёй рабіць гэткіх шчырых рэвэляцыяў аб яе ўнутраным міру, і яна, спыняючы сябе, кажа ў адным зь безназоўных вершаў (ст. 32):

*Не хачу я нічога казаці табе,*
*Бо баюся, што ў словах маіх*
*Вылiецца каханьне маё для цябе,*
*Што усё зразумееш ты зь іх.*

Дый ня толькі казаць яму штось баіцца яна, але нат узірацца на яго:

*Не хачу я глядзець, каб з маіх ты вачэй*
*Тайны сэрца майго не згадаў,*
*Каб паблеск іх таёмных, гарачых лучэй,*
*Як цябе я люблю — не сказаў.*

А вычытаць гэтую тайну зь яе вачэй мілому будзе тым лягчэй, што ягоны вочы маюць на яе нейкісь асаблівы ўплыў, гэтак уладарна магнэтызуючы яе, крыючайся ў іх чорных бяздоньнях, палкасьцяй, ажно яна спуджана пытаецца:

*Скажы, мілы, чаму —*
*Толькі гляну я ў вочы твае —*
*Мне здаецца, што ноч прад сабою я маю?*
*Так глыбокі яны, як яна,*
*І так ясны, як зоркі яе.*
*Ажно часам я вочы свае прыжмураю...*

*Скажы, мілы, чаму*
*У глыбокае іх глубіне,*
*Як на кніжцэ патчас — так чытаць я гатова?*
*Уся глуб твайго сэрца у іх*
*Чорна-ясным атсьвеціцца дне,*
*Адабьецца ляпей і ясьней, як у словах...*

*Чаму зь сілы усей*
*Часам хочэцца мне закрычаць:*
*Не глядзі — адвядзі ад мяне свае вочы!*
*Бо ўсё тое, што часам у іх*
*Мне удасца ўглядзець, прачытаць,*
*То мне разум, душу і ўвесь сьвет замарочэ?..* (“Чаму”, ст. 26).

Але раз пачатыя прызнаньні перапыніць трудна, і пясьнярка, крыху далей, ужо зусім адкрыта прызнаецца мілому ў сваім палкім каханьні:

*Як я цябе люблю, — хай скажэ гэта морэ,*
*Што у грудзях маіх бушуе, — хай гаворэ*
*Аб гэтым сэрцэ, што паглёд тваіх вачэй*
*Сон прабудзіў яго, аж дрогнула сільней*

*І так забілася, як птушачка у клетцы,*
*Што вырвацца з грудзей хацела ўжо здаецца...*
*Як я цябе люблю, — хай скажэ салавей,*
*Што ночкамі пяяў над галавой маей;*

*І ночкі гэтые — бяссонныя ўсе ночы, —*
*Што да цябе нясьлі рой дум маіх дзявочых,*
*Як ты далёка быў — далёка ад мяне...*
(“Як я цябе люблю”, ст. 29).

Чым далей, тым прызнаньня ахопленай полымям каханьня маладое дзяўчыны робяцца што раз то больш палкімі і неакелзанымі:

*Не глядзі на мяне... Маё сэрцэ так бьецца, дрыжыць;*
*Твае вочы ў крыві у маей запаляюць агонь,*

кажа яна, а крыху далей дабаўляе:

*Не глядзі! Твае вочы ясьнеюць, як неба у дзень,*
*Якбы зоркі у небе — так ясна, так мягка блішчаць;*
*Мой пагляд у іх тоне, бы ў той у марской глыбіне...*
*Не хачу ўжо глядзець, а вачэй не магу адарваць.*

*Не глядзі! Ты глядзіш, а тады так хацелася-б мне*
*Мой распалены твар да грудзей да тваіх прытуліць*
*І глядзець ў твае вочы ўвесь век і на яве, і ў сьне..*
*Не хачу... А цябе не магу, не магу не любіць!*
(“Не глядзі”, ст. 31).

*Урэсьце, просячы яго, каб дазволіў пацалаваць сябе пры разьвітаньні, кажа:*

*За твой пагляд адзін ўсё аддала-б на сьвеце —*
*І славу, і пачот, і шчасьце у жыцьці...*
*Пазволь апошні раз на цябе паглядзеці,*
*Пацалаваць цябе, а потым памярці!* ("Не глядзі", ст. 28).

Бурлівы эротызм гэтак пранікае ўсю істоту К[онстанцыі] Буйло, што нат' гэткія адарваныя паняцьці, як "туга", прыймаюць у ейных поэзыях яскрава-эротычную форму любоўнага адданьня:

*Прыйшла ты да мяне ў паўночны ціхі час,*
*Прысела на маей раскіданай пасьцелі,*
*І сон мой адляцеў кудысь далёка — ўраз,*
*І мары сьветлые кудысьці адляцелі,*
*І былі мы з табой ў паўночы ціхі час...*

*І ўраз знайшлася я ў галубленьнях тваіх:*
*Ты абвіла мяне гарачымі рукамі,*
*Палючых вусн агонь лёг на грудзях маіх,*
*А ў вочы мне сваймі панурымі вачамі*
*Ўпілась ты, й мёрла з мук ў ваб'яцьцях я тваіх...*
("Туга", ст. 41).

У гэтай сапраўднай сымфоніі каханьня, якой ёсьць любоўныя вершы К[онстанцыі] Буйло, не бракуе і сумных тонаў скаргі, адчаю, сьмяротнае тугі...

Адным зь лепшых вершаў у гэтым родзе ёсьць імпрэсыя п[ад] н[азвай] "Адна" (ст. 34) — скарга кабеты, згубіўшай свайго мілага, ці мо пакіненай ім. Пачынаецца ён гэтак:

*Адна, ізноў адна, як колас той у полі*
*Не сьцяты ў час жніва нагострэным сярпом,*
*Зламаны ветрамі гулячымі на волі*
*Між апусьцелых ніў, спалосканых дажджом.*

*Адна, ізноў адна... Тужліва сэрцэ ные.*
*Наўкола пуста, глуш... Ноч цёмная стаіць.*
*А за вакном віхор так жаласьліва вые,*
*Якбы сканаць ня мог, ня хочучы больш жыць.*

Напасьледак зьвернем тут яшчэ ўвагу на адзін абразок, найбольш можа стыльны і суцэльны з усіх любоўных вершаў К[онстанцыі] Буйло; носіць ён назоў "Дзяўчына" (ст. 27).

Ад усяго гэтага вершу, утрыманага ў цёплых, пульсуючых гарачай крывёй, тонах, вее нявыказаным чарам дзявоцкае сыпяльні і бурлівае маладосьці; вось яго зьмест:

*Ўжо сьвечка пагасла, ўжо ноч за вакном…*
*Ў пасьцелі мне душна, ня сьпіцца…*
*О сон! Ты самкні мае вочы скарэй,*
*Мо мілы сягоньня прысьніцца!*

*Гадзіны ідуць, я ў пасьцелі ляжу,*
*І сон не змыкае мне вочы,*
*А месяц праз вокны лье сьвет залаты,*
*Малюнкамі сьцены залочэ…*

*Устану з пасьцелі, вакно адчыню, —*
*Мо вецер, што ў полі гуляе,*
*Мне скажэ, што робіць мой мілы цяпер, —*
*Мяне, як даўней, ці кахае?..*

І вось наша дзяўчына ўстае, адчыняе вакно і глядзіць на чароўны малюнак летняе месячнае ночкі і здаецца ёй, што ня толькі ветрык, але ўся агулам прырода кажа ёй аб сталасьці каханьня мілага, ды — нажаль — начны халадок хутка перапыняе гэтыя лятуценьні:

*А ночка халодна: ўжо чую, як мне*
*Дрыжаньне пабегла па целі;*
*Іду ўжо, лажуся у цёплай маей*
*І мягкай і белай пасьцелі…*

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*Заснула дзяўчына, а месяца сьвет*
*На вочы і вусны лажыцца.*
*Праз сон штось сьмяецца дзяўчынка мая;*
*Відаць, што ўжо мілы ей сьніцца.*

Канчаючы гэтым агляд любоўнай творчасьці К[онстанцыі] Буйло, спынімся тут толькі праз момант над роляй, якую яна грае ў беларускай адраджонай літэратуры.

Вось-жа галоўнай заслугай К[онстанцыі] Буйло зьяўляецца ўвядзеньне моманту выразна-эротычнага ў беларускую літэратуру.

Ні адзін спаміж беларускіх пісьменьнікаў перад ёй, а нат і па сяньняшні дзень ня пісаў гэтак шчыра, палка і адважна аб сваіх любоўных пачуцьцёх, дык прадусім К[онстанцыя] Буйло пройдзе ў гісторыю беларускай літэратуры як пясьнярка каханьня. Але на гэтым не канчаецца яе роля ў беларускай літэратуры, бо К[онстанцыя] Буйло будучы прадусім пясьняркай каханьня, адначасна з гэтым зьяўляецца і дасканальнай і тонкай імпрэсыяністкай, у харастве сваіх настрояў не ўступаючай паэзыям вядомай пясьняркі беларускай — Натальлі Арсеньевай, але гэта — асобная тэма, аб якой пагаворым іншым разам.

## ***Канстанцыя Буйло як імпрэсыяністка***[17]
Крытычны нарыс

Канстанцыя Буйло, аўтарка зборніку поэзыяў п[ад] н[азвай] “Курганная кветка”, займае бязсумліўна першае месца сярод песьнярак Беларусі (другое — Н[атальля] Арсеньнева, трэцяе — А[лаіза] Кейрысова — “Цётка”).

З паходжаньня дачка дваравога служачага ў Вішневе Ашмянскага павету, — К[онстанцыя] Буйло ўрадзілася ў самым канцы мінулага стагодзьдзя і адукацыю атрымала яна хатнюю, але шмат папоўніла яе праз сыстэматычнае чытаньне цэнных і карысных твораў.

Даведаўшыся аб беларускім руху ад аднаго студэнта-адраджэнца, яна захапілася справай і незабавам зрабілася сталай і выдатнай супрацоўніцай “Нашай Нівы”. Займаючы па чарзе рад службовых становішч у рожных інстытуцыях і прапрыемствах грамадзкага характару, яна ўрэсьце — ужо падчас вайны — выходзіць замуж за нейкага В[італя] Калечыца і больш-менш з гэтага часу ўсякія весткі аб ёй спыняюцца. Паводле апошняй — з-прад некулькі год — яна, пачынаючы з часоў рэвалюцыі, мелася жыць у Маскоўшчыне на станцыі Шахаўской Аляксандраўскай жалезнай дарогі.

З той пары нічога ўжо больш аб ёй не чуваць!

Быць можа — памёрла яна, а хутчэй — заелі яе, як і шмат іншых замужак, сямейныя клопаты і абавязкі, адрываючы адначасна ад літэратурнай творчасьці і наагул ад інтэлектуальнага жыцьця.

У кожным выпадку аднэй зь пярвейшых задач для менскіх культурнікаў зьяўляецца выясьненьне далейшых лёсаў К[онстанцыі] Буйло, адшуканьне яе, калі яна жыве яшчэ, ухіленьне тых фактараў, якія спынілі яе паэтыцкую творчасьць і прыахвочваньне яе да далейшае літэратурнае працы, калі-ж яна памёрла — сабраньне ўсіх не друкаваўшыхся або параскіданых па газэтам і календарам яе твораў дый апрацоўкі падрабязнае яе біографіі.

А цяпер пяройдзем да самага яе зборніку.

Старанліва выданы ў 1914 годзе ў Вільні заслужанай для беларускага адраджэнскага руху друкарняй М[арціна] Кухты — ён абыймае каля 100 старонак друку фармату васьмёркі.

Зьмешчаныя ў зборніку творы не падзелены на нейкія асобныя аддзелы, але прыгледзіўшыся бліжэй, можна ў ім прыкмеціць пэўную з грубшага праведзеную групіроўку матар’ялу; гэтак у самым пачатку пераважаюць імпрэсыі з дадаткам вершаў патрыятычных, далей бачым вялікую групу любоўных, у канцы-ж – ізноў імпрэсыі.

Акрамя таго знойдзем мы тут у перамежку зь іншымі паэзіямі і некалькі вершаў фантастычных, прыродаапісальных, а гэтак-жа

[17] Беларускае Слова. № 11 (40). 8 красавіка 1927. С. 2—3.

пару маленечкіх паэмак зь сялянскага жыцьця. Пасьля вершаў, якім прысьвечана 50 старонак зборніку, рэшту яго займаюць два вершаваныя драматычныя творы, выяўляючыя даволі значную літаратурную вартасьць: 1. "Кветка Папараці" — фантастычны абразок у 1 акце з сымвалічным зьместам, пісаны пад моцным уплывам Купалавага "Сну на кургане", і 2. "Сяньняшнія і даўнейшыя" — драма ў 3-х дзеях з жыцьця сучаснае шляхты, малюючая барацьбу дзьвёх пакаленьняў: старога рэакцыйнага, узгадаванага ў духу прыгонных часоў, і маладога "народніцкага", настроенага паступова і рэвалюцыйна.

Насколькі ў "Кветцы папараці" бачым мы ідэолёгію пэрыяду зусім сьвядомага адроджэньня, пастолькі ў "Сягоньняйшніх і даўнейшніх" гучаць яшчэ даволі моцна ноткі шляхоцкага рамантызму.

Вяртаючыся да вершаў, трэба адзначыць, што сярод іх галоўнай і найбольш характэрнай групай зьяўляюцца "эротыкі" — вершы любоўныя, аднак дзеля таго, што мы іх як патрабуючых больш падрабязнага досьледу, разгледзілі ўжо ў адумысловым артыкуле на іншым месцы, спыняцца тут над німі ня будзем, а спрабуем высьветліць іншую, гэтак-жа вельмі цэнную і важную галіну яе творчасьці — *імпрэсыі*. Ужо на 4-й старонцы зборніку спатыкаем вельмі прыгожую і вызначную глыбінёй думкі і поэтыцкім размахам імпрэсыю "На крыльлі песьні"; вось яе пачатак:

*Ляту, нясуся ўзвыж, плыву па мягкіх хвалях…*

*Як лёгка, добра мне!*

*Гдзе я? Чырвонасьць зор, блакіт паднебнай далі*

*І сонца ясны блеск, і прозрыстасьць крыштальляў*
*Дрыжыць вакруг мяне.*

*Ляту, нясуся… Гэй, які абшар шырокі!*
*Як мгла — душа і грудзь.*
*Там дзесьці, ў даліне — чуць-чуць дагледзіць вока —*
*Ляжыць яна — зямля… Так нізка, так далёка!*
*А тоны ў высь плывуць.*

*Мяне штось зь імі рве, штось цягне страшнай сілай,*
*Якаясь моц нясе…*
*Што? — не згадаць ніяк — к жыцьцю ці да магілы…*
*І ведаць не хачу… Мне добра так, так міла*
*Ў высі нямой красе!*

Але-ж не здарма наша пясьнярка ёсьць поўнай спачуцьця і каханьня для цёмнага сярмяжніка ідэалісткай-“народніцай”!

Нечакана ў гэту краіну хараства, у якую перанясьлі пясьнярку мо — чутыя празь яе сьпеў або музыка (*“А тоны ўвысь плывуць”*), а мо толькі поэтыцкае натхненьне, —урываецца балючы ўспамін аб мужыцкім горы і вяртае яе да сумнае сапраўднасьці:

*Ціха! Во штосьці ўкруг там дзіўна задрыжала,*

*А сэрцэ ў тон яму*
*Забілась моцна так... і біцца перэстала..*
*Дух зьмёр, а штось ў глыбі там глуха ныць пачала,*
*Штось мчыць у ніз думу.*

*То болю ціхі стогн прарваўся ў сьветлай песьні*
*І міма праляцеў,*
*І сэрца дрыгнула, і дух заныў балесьне,*
*І згінуў сон... Ізноў ў чароўны край прадвесьні*
*Мчыць душу дзіўны сьпеў!..*

Ідэю гэтага арыгінальнага па форме і зьместу вершу можна тлумачыць яшчэ і гэткім чынам, што асабістае шчасьце людзкое ёсьць нетрывалае і неадлучнае ад гора, зь якім ідзе ў пары, сплятаючыся зь ім у адзін неразрыўны вузел...

Выразна “народніцкай” тэндэнцыяй пранікнута затое чарговая імпрэсыя п[ад] н[азвай] “Каб я мела” (ст. 6), вызначаная маладым ідэалізмам і сьпеўнасьцяй вершу:

*Каб я крыльле лёгкай птушкі*
*Салавейкі мела,*
*Ў гай вясёлы, гай зялёны*
*Я-б не паляцела.*
*...........................*
*Я-бы зь песьняй паляцела*
*Ў горад той далёкі:*
*Там ёсць дом пануры, сумны,*
*Цёмны і высокі.*
*На вакне закратаваным*
*Зь песьняй-бы я села*
*І вастрожнікам нешчасным*
*Сваю песьню-б пела.*
*Я пеяла-б аб свабодзе,*
*Аб шчасьлівай долі*
*І забыліся-б пры песьні*
*Яны аб няволі.*

Яшчэ больш захапляе сваёй непадкупнай шчырасьцяй, сьвежасьцяй пачуцьцяў і раскошным, наіўным прымітывізмам імпрэсыя “Ў лесе” (ст. 7), вось яе зьмест:

*Як я лесам іду — на душы лёгка мне:*
*Я адна у лясной цішыне;*

*Аддыхаю душой. Тут, між елак, бяроз*
*Не чуваць ані енкаў, ні сьлёз;*

*Тут між іх я люблю так хадзіць і хадзіць,*
*Слухаць толькі што лес гаманіць.*

*Часам хочэцца птушкаю ў высь узьляцець,*
*Між зялёных галінак запець,*

*І шчасьліва пажыць, і ня відзець бяды,*
*Што пануе ў людзей заўсяды.*

*Тут люблю я глядзець, як дубочэк з сасной*
*Ціха шэпты вядуць між сабой;*

*Як з расою-сьлязінай бярозка адна,*
*Якбы мужа схаваўшы жана,*

*Да зямлі валасы апусьціўшы стаіць,*
*Чагось сумна і нудна шуміць...*

Зь іншых імпрэсыяў заслугоўваюць на ўвагу настраёвы “Хаўтурны звон” (ст. 19), апісуючы хаўтуры селяніна; гучная “Лебядзіная песьня” (ст. 20), далікатныя “Кветкі” (ст. 35) і субтэльны “Матыль” (ст. 41); арыгінальна патрактаваная “Туга” (ст. 41), урэсьце поўная нявыказанага хараства “Раніца” (ст. 42) і тонкі па форме, магутны сваёй экспрэсыяй безназоўны верш, пачынаючыся словамі: “*Ваал! — Я ўсё ўжо спаліла на аўтары...*”.

Вось зьмест “Раніцы:

*У вакно маё яснасьць глядзела*
*Ўсходам ясных, вялікіх вачэй*
*З русалчаных сьвятлістых плячэй;*
*Росы мглістые хваляй ляцелі...*

*Яе вусны штось ціха шэпталі:*
*Туды звала, здаецца, яна,*
*Гдзе з праменьнямі ветры гулялі*

*Ды віднела палёў шырына...*

*— Хадзі, пойдзем, пакінь нуду злую,*
*Хадзі, пойдзем далёка са мной;*
*Завяду цябе ў ясны сьвет мой*
*І ўсе чары яго пакажу я.*

*І праменьні ў вакно мне кідала*
*І красою маніла сваей,*
*І ў душы мне сьвятлеці пачала*
*Пад пагляд яе сьветлых вачэй.*

А вось пачатак безназоўнага вершу на ст. 51:

*Ваал! — Я ўсё ужо спаліла на аўтары...*
*Глядзі: высокаю ўзносіцца гарой*
*Мой попел — і німа ўжо больш ў мяне ахвяры, —*
*Дык не гудзі ты там пракляцьцем нада мной,*
*Бо ўсё, што мела я, спаліла на аўтары...*

Канчаючы гэтым агляд імпрэсыяў пясьняркі, пяройдзем цяпер да іншых, менш важных у яе творчасьці галін, ласьне да вершаў патрыятычных, прыродаапісальных і зь сялянскага быту.

Вершаў патрыятычных ёсьць агулам няшмат; адны зь іх маюць форму фантазыяў і ўспамінаюць слаўную мінуўшчыну, як, напрыклад, безназоўны верш, пачынаючыся са слоў: “Дзень сканаў” (ст. 12), другія выяўляюць моцныя “народніцкія” тэндэнцыі, як, напрыклад, прыгожы верш “Да працы” (ст. 10), горача заклікаючы да прасьветнай працы сярод цёмных братоў:

*Да працы час, браты! Мы туманы разьвеем:*
*Бо, як у пялёнках, ў іх ваш сумны край ляжыць,*
*Каханьнем маладым мы дух яго сагрэем, —*
*Нізіны кіне ён і вышэй узьляціць.*

Што-ж датыча вершаў прыродаапісальных, дык іх у поўным сэнсе гэтага слова ў зборніку бадай што зусім няма, затое ёсьць апісаньні прыроды, патрактаваныя ў форме фантастычных імпрэсыяў, як, напрыклад, “Ноччу” (ст. 17), “Ноч” (ст. 40), “Русалка” (ст. 46).

Гэтак сама німа ў зборніку вершаў у даслоўным значэньні сялянскіх, і знаходзім тут толькі дзьве невялічкія поэмкі зь сялянскага жыцьця з значнай падмешкай сэнтымэнталізму: “Руты” (ст. 43—44) і “Курган” (ст. 48—49).

Канчаючы гэтым агляд зборніку “Курганная кветка”, адзначым яшчэ тое, што толькі поўная біяграфія пясьняркі, якой дасюль німа, дасьць магчымасьць выявіць поўнасьцю эротычны, асабісты эле-

мэнт у поэзыях К[онстанцыі] Буйло; тое месца, якое займаюць у яе творчасьці ўласныя перажываньні, але і цяпер ужо відаць, што месца гэтааграмаднае!

У беларускай літэратуры К[онстанцыя] Буйло займае выдатнае месца сярод пярвейшых песьняроў нашаніўскае пары. Галоўную роль грае яна ў беларускім пісьменстве як *пясьнярка каханьня*, але акрамя таго можна яе разглядаць як *імпрэсыяністку, патрыётку-"народніцу" і аўтарку сцэнічных твораў*.

Пасьля эротыкаў найвялікшую вартасьць у яе творчасьці маюць імпрэсыі, тонкія і вышуканыя, нагадываючыя сваёй інтэлігэнтнасьцяй творы М[аксіма] Багдановіча.

Сьмерць яе была-б вялікай стратай для беларускай літэратуры, дык лепш цешымо сябе надзеяй, што ліра К[онстанцыі] Буйло ня змоўкла яшчэ на векі і што яшчэ ўсьцешыць нас калісь яе салодкі сьпеў.

*Падрыхтоўка да друку Лявона Юрэвіча*

***Зіна Гімпелевіч***
*Ватэрлоа (Канада)*

# ДЗЬМІТРЫ РАМАНАВІЧ КАМІНСКІ (1906—1989):
## ЖЫЦЬЦЁ Й МУЗЫЧНАЯ ТВОРЧАСЬЦЬ

*Беларускі кампазытар Дзьмітры Раманавіч Камінскі — аўтар яркіх музычных твораў. У СССР было падрыхтавана нямала навуковых дасьледаваньняў, прысьвечаных ягонай творчасьці.*

Міхаіл Гальдштэйн

*У індывідуальна-адметным пераасэнсаваньні элемэнтаў беларускага фальклору, спалучэньні традыцыйных і сучасных сродкаў перадачы праяўляюцца асаблівасьці шмапланавага фартэпіяннага стылю Д. Камінскага, уласьцівыя й іншым ягоным творам для фартэпіяна.*

Барыс Гарт

Паважаныя чытачы, дазвольце прапанаваць вашай увазе публікацыю, якая складаецца, галоўным чынам, з успамінаў беларускага



Дзьмітры Камінскі. 1970 г.

кампазытара й піяніста Дзьмітрыя Раманавіча Камінскага (1906—1989). Музыка Дзьмітрыя Камінскага была шырока вядомая ў Беларусі й за яе межамі. Ён зьяўляўся сябрам прафэсійных арганізацый: Саюзу кампазытараў СССР (ад 1941 г.) і Саюзу кампазытараў БССР (ад 1946 г.), а таксама быў старшынёй праўленьня Саюзу кампазытараў БССР (1963—1966). У 1963 г. Дзьмітры Камінскі стаў заслужаным дзеячам мастацтваў БССР. Ён — вэтэран Другой сусьветнай вайны, быў узнагароджаны некалькімі мэдалямі й ордэнамі за ваенныя заслугі.

Гэты чалавек, які валодаў надзвычайным характарам, ведамі й прафэсійным майстэрствам, увайшоў у жыцьцё нашай сям'і, калі мая сястра была падлеткам, а мне яшчэ ня споўнілася й адзінаццаці гадоў. Ён ажаніўся з маёй мамай пасьля сьмерці нашага роднага бацькі, Якава Захаравіча Гімпелевіча, які прайшоў тую ж страшную вайну ад чэрвеня 1941 г. і ўдзельнічаў ва ўзяцьці Бэрліну[1]. Пры жыцьці майго бацькі Якаў Захаравіч і Дзьмітры Раманавіч, нягледзячы на розьніцу прафэсій, глыбока сымпатызавалі адзін аднаму. Дзьмітры Раманавіч мне таксама заўсёды падабаўся, таму хоць я й шанавала памяць роднага бацькі, мы скора пасябравалі. Сястра, праз падлеткавы максымалізм, спачатку даволі холадна паставілася да новага члена сям'і, але, пасталеўшы, зусім зьмянілася й цалкам усьвядоміла высокія чалавечыя й прафэсійныя якасьці нашага айчыма. Таму я спадзяюся, што паважаныя чытачы даруюць мне, публікатарцы, некалькі лірычна-сямейных адступленьняў у гэтай кароткай прадмове да ўспамінаў Дзьмітрыя Камінскага. Пачну з момантаў, якія характарызуюць яго шматгранную асобу. Першы зьвязаны з тым, як Дзьмітры Раманавіч, не жадаючы таго, "папаўся" на пасаду "старшыні праўленьня".

Ішоў зьезд Саюзу кампазытараў БССР, на якім прысутнічаў адзін з гаспадароў Беларусі таго часу, *"камуніст з чалавечым абліччам"* Пётар Міронавіч Машэраў[2]. Усчалася шумная валтузьня перад выбарамі новага старшыні праўленьня. Машэраў пэўны час назіраў за гэтай карцінай, а тады падышоў да Камінскага, які нешта захоплена чытаў, і спытаўся ў яго: *"Што вы чытаеце, Дзьмітры Раманавіч?"* —

---

[1] **Якаў Гімпілевіч** (1909—1961) скончыў вайну ў званьні капітана й ня раз узнагароджваўся ордэнамі й мэдалямі за вайсковую доблесьць. Ён нарадзіўся ў беларускім мястэчку Сяліба, ад 1947 г., неўзабаве па дэмабілізацыі, працаваў начальнікам плянавага аддзелу на мінскай шчотачнай фабрыцы.

[2] **Пётар Машэраў** (1918—1980) быў першым сакратаром ЦК кампартыі БССР (1965—1980). Чалавек мужны й глыбока сумленны, ён сапраўды імкнуўся многае зрабіць на карысьць Беларусі. Аднак і ў яго былі начальнікі: савецкія рэспублікі моцна залежалі ад Масквы.

*“Ды “Палату № 6”, Пётр Міронавіч. Быццам бы ведаю на памяць, а адарваецца немагчыма!”* Машэраў, колішні школьны настаўнік, а ў час вайны — адзін з адважных камандзіраў партызанскага руху, таксама любіў Чэхава. Пасьля кароткага абмену цёплымі словамі пра пісьменьніка Машэраў падышоў да трыбуны, узяў мікрафон і сказаў: *“Дарагія таварышы! Думаю, што вы згадзіцеся з кандыдатурай на пасаду старшыні праўленьня Саюзу кампазытараў Беларусі Дзьмітрыя Раманавіча Камінскага, нашага вядучага кампазытара! Галасуйце, калі ласка!”* Атарапелы Камінскі, які стаў, бадай, адзіным беспартыйным кіраўніком творчага саюзу за ўсю гісторыю СССР, вярнуўшыся дахаты, у асобах апісваў, як *“таварышы сьпешна й аднагалосна прагаласавалі”*. На наступны тэрмін, аднак, ён не застаўся, дарма што яго доўга ўгаворвалі.

А вось і другі выпадак. У 1977 г. Дзьмітрыя Камінскага ўзнагародзілі ордэнам Дружбы народаў (у той час даволі рэдкая, а таму пачэсная ўзнагарода). Спаслаўшыся на хворасьць, Дзьмітры Раманавіч не паехаў у Маскву на ўручэньне яму ордэна *“асабіста таварышам Брэжневым”* і пад той жа маркай не пайшоў на ўрачыстасьць, наладжаную ў Менску з гэтай нагоды. Калі ж нарэшце яму перадалі (паводле яго выразу, *“уперлі”*) ордэн, то, прыйшоўшы дадому, ён прыладзіў яго нашаму дварнягу Рэксу на ашыйнік са словамі: *“Зінуля, зірні, праўда, яму пасуе?”*.

Што ж тычыць музычнай творчасьці, то хочацца паказаць, чым вызначыўся Камінскі ў гісторыі беларускай музыкі, на прыкладзе аднаго толькі жанру, канцэрту для саліруючага інструмэнту з сымфанічным аркестрам. У манаграфіі Ірыны Назінай *“Беларускі фартэпіянны канцэрт”*[3] — усяго 130 старонак, яе наратыў абымае 40 імёнаў, аднак кампазыцыям Камінскага яўна аддаецца перавага: яго імя згадваецца на 86 старонках, і творы падрабязна аналізуюцца. Вось што кажа музыказнаўца: *“Беларускі фартэпіянны канцэрт ствараўся намаганьнямі кампазытараў розных кірункаў. Аднак ніводзін з аўтараў на працягу свайго творчага шляху ня выявіў такой глыбокай і пастаяннай цікавасьці да гэтага віду музычнага мастацтва, як Дзьмітрый Раманавіч Камінскі. Ён стварыў 14 канцэртных твораў для розных саліруючых інструмэнтаў з аркестрам: адзін для цымбалаў (1947), адзін для двух цымбалаў (1948), што зьявілася першай спробай такога кшталту ня толькі ў Беларусі, а і ў Савецкім Саюзе ўвогуле, чатыры для скрыпкі (1948, 1953, 1963, 1974), адзін для віяланчэлі (1957) і сем для фартэпіяна*

[3] **Ірына Назіна** (нар. 1937), доктар мастацтвазнаўства, прафэсар. Гл. яе кнігу: Назина, И. Белорусский фортепианный концерт. Мінск: Наука и техника, 1977.



Аўтарсі канцэрт Дзьмітрыя Камінскага ў Белдзяржфілярмоніі. 1975 г.

*(1940, 1946, 1953, 1958, 1962, 1969, 1972). Сваю цікавасьць да канцэрту Камінскі тлумачыць тым, што гэта адзін з найбольш "камунікабельных" жанраў інструмэнтальнай музыкі, жанр вялікай канцэртнай залі, які дазваляе напоўніцу праявіць разнастайныя выразныя сродкі салірыючага інструмэнту, а таксама прадставіць выканаўцу слухачам. Вабяць кампазытара ў гэтым жанры і закладзеныя ў ім элемэнты сьвяточнасьці"*[4].

Камінскі ёсьць таксама аўтарам дзьвюх канцэртных фантазій на беларускую тэму. Ён, безумоўна, ня першы кампазытар, які паказаў беларускі нацыянальны тэматычны пачатак у сваіх творах, але ён фундамэнтальна ўмацаваў гэты пачатак і тэарэтычна, і на практыцы. Паводле яго словаў, *"у творах, якія прэтэндуюць на беларускі калярыт, павінны прысутнічаць інтанацыі менавіта беларускага складу, іначай ніхто й ніколі не адчуе нацыянальную прыналежнасьць таго ці іншага твору"*[5]. У пацьверджаньне гэтай тэарэтычнай думкі, няхай выказанай сухавата-артадаксальна, Камінскі стварыў дванаццаць цудоўных п'есаў для цымбалаў з фартэпіяна, кожная зь якіх нясе тэму індывідуальнай народнай песьні[6]. Таксама ён зьяўляецца аўтарам дзьвюх кантатаў, трох сымфанічных сюітаў,

---

[4] Назина, Ирина. Белорусский фортепианный концерт. С. 23—24.

[5] Каминский, Д. Р. // Советская музыка. 1971. № 3. С. 24.

[6] Камінскі, Дзмітрый. П'есы для цымбал з фартэпіяна [Ноты]. Мінск: Беларусь, 1973.

некалькіх сымфоній, дзьвюх санатаў (адна для фартэпіяна, другая для скрыпкі), двух струнных трыа й квартэту, мноства камэрнаінструмэнтальных твораў. Выдатную музыку пісаў ён для спэктакляў і кінафільмаў, хораў і сольнага вакалу. Практычна няма жанраў, у якіх Камінскі не праявіў бы сябе ў якасьці арыгінальнага й таленавітага аўтара. Ягоныя дасягненьні ў поліфаніі выявіліся ў дванаццаці прэлюдыях і дванаццаці фугах, напісаных на тэмы беларускіх народных песень, у якія кампазытар, без сумневу, быў закаханы: “*На беларускай зямлі зь яе цудоўнымі народнымі песьнямі Камінскі знайшоў сапраўднае натхненьне*”[7].

Мне здаецца, Міхаіл Гальдштэйн слушна акрэсьліў і адміністратыўны, і творчы характар працы Камінскага: “*На пасадзе старшыні праўленьня Саюзу кампазытараў Беларусі ён выявіў сябе сьмелым і ініцыятыўным кіраўніком, прынцыповым і сумленным, дапамагаў таленавітым музыкам выйсьці на прастор. Такую ж сумленнасьць і прынцыповасьць ён дэманстраваў у музычнай творчасьці. Мне добра вядомая ягоная сымфанічная паэма “Брэсцкая крэпасьць”. Як вядома, абаронцы крэпасьці, якія засталіся ў жывых, былі жорстка й незаслужана пакараныя Сталіным*”[8].

Усе савецкія ўзнагароды, абсалютна заслужаныя, а не “*выслужаныя*”, не дапамаглі пазьбегнуць суворага паклёпніцкага цкаваньня, калі ў 1980 г. Дзьмітры Камінскі з маёй матуляй наважыўся эміграваць у Канаду. Яны мелі матыў, просты й зразумелы для ўсіх, за выняткам кіраўніцтва СССР: пажылыя бацькі хацелі ўзьяднацца з маёй сястрой, мной і нашымі сем’ямі. Мы выехалі з БССР у 1978 г. (сям’я сястры) і ў 1979 г. (мая сям’я). Ня варта й казаць, што двое старых пакінулі ўсё нажытае ў БССР… Нарэшце з двума чамаданамі, дзе былі пераваж-

---

[7] Гольдштейн, Михаил. Композитор Дмитрий Каминский. К 80-летию со дня рождения // Новое Русское Слово. 16 августа 1986. С. 6. Савецкі скрыпач, кампазытар, дырыжор, літаратар і музычны крытык (аўтар чатырох манаграфій і мноства артыкулаў) Міхаіл Гальдштэйн нарадзіўся ў Адэсе ў 1917 г., а памёр у Гамбургу ў 1989 г. Ён быў вучнем Пятра Сталярскага ў Адэсе, прадоўжыў навучаньне ў Маскоўскай кансэрваторыі па клясе кампазыцыі ў Мікалая Мяскоўскага, па класе скрыпкі — у Абрама Ямпольскага, а па класе дырыжыраваньня — у Канстанціна Сараджава. Міхаіл Гальдштэйн — прафэсар, брат скрыпача Барыса (Бусі) Гальдштэйна. У эміграцыі ад 1964 г. Выкладаў у Гамбургу ў Вышэйшай школе музыкі, напісаў некалькі значных сымфанічных твораў, а таксама шэраг твораў для скрыпкі й віяланчэлі.

[8] Гольдштейн, Михаил. Композитор Дмитрий Каминский. К 80-летию со дня рождения. У бацькоўскім архіве захаваліся таксама тры цёплыя лісты ад Міхаіла Гальдштэйна й такі самы цёплы чарнавік адказу, які пісала маці.

на кнігі й ноты, а таксама з дазволенымі дзьвюма сотнямі доляраў, яны прыехалі ў Рым. Гэты вялікі горад быў тады транзітным цэнтрам, дзе пасьля мэдычнай праверкі (часам цягнулася больў за паўгода) мігрантаў скіроўвалі ў розныя краіны. Вось што мама напісала ў лісьце да Міхаіла Гальдштэйна ў Нямеччыну пра гэты пэрыяд іхняга жыцьця й пра непрыемнасьці на мяжы ў Чопе (Заходняя Украіна): *"Вельмі цяжка апісаць пэрыяд перад эміграцыяй на паперы... але некаторыя дэталі паспрабую расказаць... Нягледзячы на тое што ўвесь удар я прыняла на сябе, сам працэс не прайшоў бясьследна. Выключэньне з Саюзу кампазытараў; на сходах, не шкадуючы эпітэтаў, Камінскага клеймавалі ганьбай... бясконцыя званкі па тэлефоне, пагрозы... усё гэта адбілася на стане здароўя Дзьмітрыя Раманавіча. Ды яшчэ дарога з жахлівымі прыгодамі. У Чопе (на мяжы), калі падалі вагоны, не прыставілі лесьвічку-падножку. І гэта зімою, у галалёд. Я сама цудам упаўзла ў вагон і спрабавала зацягнуць Дзьмітрыя Раманавіча, але ні ў мяне, ні ў яго не было сілаў; праваднікі глядзелі на нашыя высілкі й сьмяяліся. У рэшце рэшт нейкі малады пасажыр пашкадаваў нас і дапамог літаральна зацягнуць мужа ў вагон. Дай яму Бог здароўя. Потым ён жа выскачыў і закінуў у вагон два нашыя чамаданчыкі, і ўжо практычна на хаду заскочыў сам. Я нават не падзякавала яму як сьлед, да Вены не магла гуку вымавіць"*[9]. Мама мела рацыю, хваляваньні й пераезд адмоўна паўплывалі на здароўе абаіх. У Камінскага вельмі хутка разьвілася хвароба Альцгеймера, пачаліся зрокава-прасторавыя й камунікацыйныя складанасьці. У мамы пазьней выявіўся рак.

Да ўсіх звычайных праблем эміграцыі — чужая абстаноўка, няведаньне мовы й звычаяў, матэрыяльная залежнасьць[10] — дадалося тое, што першы раз у жыцьці ў бацькоў не было галоўнай аддушыны — фартэпіяна. Мама ж і сама мела не абы-якія музычныя схільнасьці. Вундэркіндам яна ў сем гадоў саліравала дзяржаўнаму аркестру беларускага радыё. Музычнае чатырохгадовае вучылішча ў Менску яна закончыла экстэрнам за два гады й была адразу ж прынятая ў кансэрваторыю, але тут пачалася вайна. Неўзабаве мама й трое яе братоў асірацелі. Спачатку памерла наша бабуля, а праз месяц ад інфаркту памёр і дзед. Абаім было толькі крыху за сорак. У мамы на руках засталіся трое братоў, малодшаму было чатыры гады. Калі яны вярнуліся ў родны горад, Бабруйск, мама адразу пайшла працаваць у дзіцячую музычную школу для таго, каб неяк пракарміць малодшых

[9] Частку ліста ад маёй маці Гальдштэйн апублікаваў у *"Новом Русском Слове"*.

[10] У адрозьненьне ад ЗША ўрад у Канадзе звычайна не дапамагаў пажылым людзям у першыя дзесяць гадоў жыцьця ў краіне.

братоў. Было не да кансэрваторыі. Калі ж у 1945 г. яна сустрэла свайго першага мужа, нашага бацьку, то шлюб не наблізіў, а нават аддаліў яе мару пра кар'еру канцэртнай піяністкі. Бацька, на чатырнаццаць гадоў старэйшы за маці, адразу ж і безагаворачна прыняў маміных братоў як родных дзяцей, але яе мары пра вяртаньне ў кансэрваторыю палічыў незразумелым дзівацтвам. І мама працягвала займацца пэдагагічнай працай да пэнсіі. А потым — эміграцыя.

Па прыездзе ў Канаду маці, нягледзячы на свой стан і далейшыя некалькі апэрацый, старалася забясьпечыць мужу ўтульнасць і спакой, падтрымаць цікавасьць да жыцьця. Яна грукалася ва ўсе дзьверы, спрабавала знайсьці спосабы, каб вярнуць творы Дзьмітрыя Раманавіча да жыцьця, бо яны былі забароненыя да выкананьня ў СССР і выкінутыя з музычных бібліятэк. Мы зь сястрой былі настолькі занятыя пошукамі свайго месца ў новай краіне, што фізычна не маглі ім сур'ёзна дапамагаць (абмяжоўваліся пераважна матэрыяльнай падтрымкай), дый з ангельскай мовай напачатку было ў нас усіх даволі кепска. Вядома, бацькі надоўга прыяжджалі да нас у Атаву й любілі гэты горад, але пастаянна жылі ў Манрэалі, недалёка ад маёй сястры.

Тым ня менш мама не марнавала часу. Хвалюючыся з прычыны часовай залежнасьці ад дачок, яна знайшла месца нянькі й гувэрнанткі ў шматдзетнай габрэйскай сям'і. Там аказаўся інструмэнт, і яна з асалодай займалася зь дзецьмі. Паступова прыйшла падтрымка ад габрэйскай абшчыны, у жыцьці якой мама пачала браць удзел




Дзьмітры й Дора Камінскія ў Атаве. 1985 г.

(не афішуючы таго факту, што Дзьмітры Раманавіч быў сынам рускай дваранкі), а потым і невялікая ўрадавая дапамога. Калі ж празь няпоўных тры гады было набытае піяніна (таннае, кароткаструннае), да мамы пацёк сьпярша маленькі, а потым і вельмі прыстойны паток студэнтаў — і дзяцей, і дарослых. Праца ёй падабалася, мама выкладала нават за два тыдні да сваёй апошняй шпіталізацыі; на яе пахаваньне ў 1997 г. прыйшло багата яе вучняў.

Аднак галоўным клопатам маці ў эміграцыі заставаўся яе муж. Даволі рана па пераезьдзе ў Канаду мама прыдумала яму занятак: загадала мне забясьпечыць пісьмовыя прыналежнасьці, а яму — пісаць мэмуары. Цяпер, амаль праз трыццаць гадоў, яны ляжаць у мяне, і неўзабаве Дзьмітры Камінскі — чалавек, які навучыў мяне цаніць самастойнае мысленьне, істотна паўплываў на літаратурныя й музычныя густы, — сам загаворыць з вамі, дарагі чытач.

Мэмуары майго айчыма валодаюць непараўнальнай трайной каштоўнасьцю. Першае ў іх — безумоўна, даніна эпосе, дзе перадрэвалюцыйная Расейская імпэрыя, асабліва яе паўднёвая частка, апісаная падрабязна й жыва. Цікава, што, чытаючы ўспаміны, мы шмат у чым пройдзем той самы геаграфічны маршрут, што й героі Міхаіла Шолахава[11]. Розьніца, аднак, у тым, што пісьменьнік цікавіўся перадусім аграрнай і данской Расеяй, тады як у Камінскага апісваецца жыцьцё тыповых прадстаўнікоў такога нетыповага пласту грамадзтва, як рускамоўная інтэлігенцыя, што складалася зь людзей рознага паходжаньня й выхаваньня.

Другая адметная рыса мэмуараў Камінскага — у тым, што аўтар згадвае пасьляваенную музычную дзейнасьць беларускіх кампазытараў. Гэтая частка публікацыі падмацавана лістамі да бацькоў ад кампазытара Алеся Карповіча (1909—1992), які выехаў у Нямеччыну ў 1944 г. У сваіх лістах ён распавёў пра асабісты лёс і даваеннае музычнае жыцьцё ў Беларусі.

Трэцяя, сумная рыса ўспамінаў Дзьмітрыя Камінскага — у тым, што па іх можна прасачыць гісторыю ягонай хваробы. Паступова зьмяніліся як почырк аўтара, ператварыўшыся з каліграфічнага ў цяжкачытэльны, гэтак і якасьць самавыяўленьня. Пачынаючы ад 1986 г. Дзьмітры Раманавіч пачаў губляць здольнасьць размаўляць, а ўжо праз два гады ён размаўляў толькі сваімі цудоўнымі сьветлаблакітнымі вачыма, якія запальваліся, бы ліхтарыкі, калі ён бачыў маму. У сувязі з гэтым ягоныя запісы апошніх гадоў тут не публікуюцца. 23 лістапада 1989 г. Дзьмітры Камінскі памёр у Манрэалі.

---

[11] **Міхаіл Шолахаў** (1905—1984), ляўрэат Нобэлеўскай прэміі па літаратуры. Расейскі савецкі пісьменьнік, журналіст і кінасцэнарыст, які нарадзіўся на Доне, у Растоўскай вобласьці.

Я шчыра шкадую, што Камінскі амаль зусім не закрануў ва ўспамінах сваёй неспатольнай цікавасьці да Антона Чэхава, Аляксандра Пушкіна, Анатоля Франса, Уільяма Шэкспіра, Андрэ Маруа, Ігара Стравінскага, Дзьмітрыя Шастаковіча, Сяргея Пракоф'ева, а значыць, не пазнаёміць зь імі чытачоў. З гэтымі й многімі іншымі дзеячамі культуры я расла, быццам зь блізкімі сябрамі, настолькі жыва ён іх абмяркоўваў, "*нагбом*", як казала мама. Назва ягоных ўспамінаў — "Пра майго бацьку й сябе. Успаміны пра найлепшага чалавека ў маім жыцьці" — мяне, аднак, не зьдзіўляе. Пра свайго бацьку ён заўсёды гаварыў з такой пяшчотнай любоўю й сымпатыяй, якія рэдка здараюцца ў наш час. Дый увогуле, адметнай рысай майго айчыма была здольнасьць да шчырай любові, якая выяўлялася ў ягонай музыцы. Гэтую адметнасьць чытач, без сумневу, прыкмеціць і ў запісках, прапанаваных ніжэй.

*Пераклад з расейскай Вольфа Рубінчыка*




Дзьмітры й Дора Камінскія граюць у шпіталі для хворых. 1988 г.

***Дзьмітры Камінскі***

# ПРА МАЙГО БАЦЬКУ Й СЯБЕ. УСПАМІНЫ ПРА НАЙЛЕПШАГА ЧАЛАВЕКА Ў МАІМ ЖЫЦЬЦІ

*Разумееш, Зінуля, поліфанічная музыка заўсёды гняла кіраўнікоў СССР.*

Дзьмітры Камінскі

Імя маё — Дзьмітры, імя па бацьку — Раманавіч, а прозьвішча — Камінскі. Я сын вядомага ў свой час на поўдні Расеі музыкі, Робэрта Ісакавіча Камінскага. Гэта быў надзвычай адораны скрыпач-віртуоз, выдатны ансамбліст і ўвогуле музыка велізарнага таленту й рэдкіх душэўных якасьцяў: дабрак, спагадлівы чалавек, нястомны аптыміст і жыцьцялюб. Тыя, хто яго ведаў, а ведалі яго вельмі многія, шчыра любілі яго. Асабліва прыхільна да майго бацькі ставілася ягоная публіка, калі ён выходзіў на эстраду са скрыпкай, прыбраны (фрак яму пасаваў), цікавы, нават прыгожы, браў скрыпку й пачынаў іграць так, як толькі ён умеў іграць. Было такое ўражаньне, што ігра на скрыпцы для яго — занятак неверагодна лёгкі! Перш за ўсё ўражваў гук яго інструмэнту, які глыбока пранікаў у душу слухача. Выдатнае, віртуознае валоданьне інструмэнтам, “чароўныя штрыхі”, высакароднасьць фразіроўкі, цудоўны густ — усё гэта рабіла яго ігру незабыўнай. Іграў ён усё, што напісана для скрыпкі. Улюбёнымі яго кампазытарамі былі Бах, Бэтховен, Паганіні, Брамс, Крэйсьлер. На біс ён часта выконваў мноства твораў, папулярных і вядомых музычнай публіцы, напрыклад “На прыгожым узгорку” Пабла Сарасатэ й “Фантастычнае” скерца Антоніа Бацціні. Як ён радаваў слухачоў сваім віртуозным майстэрствам! Публіка яго вельмі любіла. У Растове-на-Доне, дзе мы доўгі час шчасна жылі, майго бацьку называлі “*галоўны па музыцы*” (!). Ці варта казаць пра тое, як я яго любіў, дый ён проста абажаў мяне…

Мне хочацца вярнуцца да яго дзяцінства й гадоў навучаньня. Нарадзіўся ён у 1882 годзе ў горадзе Краменчугу (Украіна). У яго бацькі быў прыдарожны гатэльчык (карчма) — крыніца існаваньня даволі вялікай сям’і, дзе нарадзіліся тры хлопчыкі (Леў, Рыгор, Рувім) і дзяўчынка Цыля. Акрамя бацькавага брата Рыгора (дзядзя Грыша), другога брата я ня ведаў, гэтаксама ня быў знаёмы зь цёткай Цыляй.



Робэрт Камінскі (бацька Дзьмітрыя). Да 1917 г.

Зь цягам часу ўся сям'я Камінскіх пераехала ў Адэсу, і жылі яны ў самым пралетарскім раёне, на Малдаванцы. Калі бацьку было з тры гады, у двор зайшоў вулічны “ансамбль” музыкаў. У Адэсе такія “ансамблі” называліся *“Ванька-ру-цю-цю”*! У майго таты гэтая музыка пакінула *“непазбыўнае ўражаньне”*, ён хадзіў з гэтымі музыкамі з аднаго двара ў другі й паўсюль слухаў іх выступы. Пасьля гэтага любімай для майго таты сталася гульня зь дзьвюма палкамі: адну ён прыстаўляў да грудзей (“скрыпку”), а другая была “смыком”. Ён мог гадзінамі *“пілаваць”* гэтыя палкі, удаючы зь сябе скрыпача. Калі яму споўнілася пяць гадоў, яго аддалі ў музычную школу — ня памятаю імя выкладчыка. Хлопчык зьдзіўляў пэдагогаў сваімі посьпехамі. У бацькі былі рукі фэнамэнальнай будовы: на левай руцэ мезенец быў гэткай жа даўжыні, як 4-ы палец (як у Паганіні!), таму цяжкасьцяў для яго не існавала.

У 1893 годзе ў Адэсу прыехаў Пётар Ільліч Чайкоўскі, наладзілі вялікую ўрачыстасьць. Чайкоўскаму паказалі адораных дзяцей школы, і, вядома, Рувім[1] Камінскі ўдзельнічаў у гэтым спаборніцтве[2]. Ён уразіў Пятра Ільліча сьпеласьцю выкананьня канцэрта № 9 Бэрыа. Чайкоўскі абняў хлопчыка й параіў не перагружаць яго заняткамі: *“Ён у вас бледненькі, кволы, яму трэба больш хадзіць на шпацыр! А скрыпка ад яго не ўцячэ!”* Тату было тады гадоў адзінаццаць. Пётар Ільліч падарыў бацьку Рувіма сторублёвую купюру — для беднай сям'і гэта было цэлым багацьцем! Чайкоўскі тут жа напісаў хадайніцтва ў Пецярбурскую кансэрваторыю з просьбай прыняць без іспыту рэдкага паводле адоранасьці хлопчыка, а таксама ліст свайму брату Мадэсту Ільлічу з просьбай прытуліць у сябе на кватэры хлопчыка зь беднай сям'і, які прыедзе вучыцца ў кансэрваторыю ў бліжэйшы час. Мадэст

[1] У сьвецкім жыцьці — Раман, але нярэдка яго іменавалі Вэнем (па другім імі Вэніямін; згодна з іудзейскім звычаем, немаўлятам давалі два імя).

[2] **Пётар Чайкоўскі** (рас. *Пётр Ильич Чайковский*, 1840—1893), расейскі кампазытар, дырыжор, пэдагог і музычны крытык.

Ільліч[3] ахвотна выканаў просьбу брата. Так і пачалося для майго бацькі новае жыцьцё ў Пецярбургу.

## Гады навучаньня

Чым асабліва каштоўныя гады навучаньня ў такой установе, як Пецярбурская кансэрваторыя таго часу? Гэта быў апагей росквіту кансэрваторыі. Бадай, у тыя гады Пецярбурская кансэрваторыя была адной з найлепшых у сьвеце навучальных установаў паводле ўкамплектаваньня прафэсарамі й складу студэнтаў. Па прыклады далёка хадзіць ня трэба. Прафэсар па тэорыі кампазыцыі — М[ікалай] А[ндрэевіч] Рымскі-Корсакаў[4], дырэктар — А[нтон] Р[ыгоравіч] Рубінштэйн[5]. Прафэсары па клясе скрыпкі — Л[еапольд] Аўэр[6] і М[ікалай] Галкін[7] (вучань Аўэра), прафэсары па клясе фартэпіяна — Г[анна]

---

[3] **Мадэст Чайкоўскі** (рас. *Модест Ильич Чайковский*, 1850—1916), расейскі драматург, літаратурны крытык і опэрны лібрэтыст. У ягонай сям'і расьлі двое сыноў, раўналеткі Рувіма (Рамана, Вэніяміна) Камінскага. Бацька Камінскага пражыў у гэтай сям'і восем гадоў. Дзьмітры Раманавіч сьцьвярджаў, што Пётар Чайкоўскі быў хросным бацькам Рувіма Камінскага. З аднаго боку, у дыплёме бацькі майго айчыма напісана так: "*Мастацкая Рада С.-Пецярбургскай Кансэрваторыі Імпэратарскага Рускага Музычнага Таварыства гэтым сьведчыць, што Палтаўскай губэрні Крамянчугскі мяшчанін Рубэн-Вэніямін Ісакаў Камінскі, нарадзіўшыся 27 лістапада 1887 г., Іудзейск. закон., які навучаўся ў СПБ. Кансэрваторыі іграць на скрыпцы ў клясах прафэсараў Галкіна й Аўэра, скончыў у маі месяцы 1903 года курс музычнай адукацыі паводле зацьверджанай для атрыманьня дыплёму праграмы*" і г. д. З другога боку, Дзьмітры Камінскі ніколі не маніў, і многае сьведчыць пра тое, што хрэсьбіны адбыліся. Па-першае, па заканчэньні кансэрваторыі Рувім Камінскі мала кантактаваў з братамі й сястрой, а проста перасылаў грошы бацькам, пакуль яны жылі. Магчыма, гэтая адсутнасьць зносінаў была наступствам хрэсьбінаў. Па-другое, ён уступіў у законны (царкоўны) шлюб з дваранкай (далёкай сваячкай Чайкоўскіх), што таксама гаворыць пра перамену веры. Тым ня менш у жыцьці Рувім Камінскі, як у далейшым і яго сын, былі агностыкамі.

[4] **Мікалай Рымскі-Корсакаў** (рас. *Николай Андреевич Римский-Корсаков*, 1844—1908), расейскі кампазытар, дырыжор і пэдагог.

[5] **Антон Рубінштэйн** (раск. *Антон Григорьевич Рубинштейн*, 1829—1894), расейскі канцэртны піяніст, кампазытар, дырыжор і пэдагог.

[6] **Леапольд Аўэр** (рас. *Леопольд Семёнович Ауэр*, 1845—1930), расейскі скрыпач, які канцэртаваў па ўсім сьвеце, кампазытар, дырыжор, пэдагог (у яго было 300 вучняў). Заснавальнік скрыпічнай школы Расейскай імпэрыі.

[7] **Мікалай Галкін** (рас. *Николай Владимирович Галкин*, 1856—1906), выбітны расейскі скрыпач, дырыжор, пэдагог і саліст Марыінскага тэатра.

Есіпава[8] й М[арыя] Барынава[9], прафэсар па клясе віялянчэлі — А[ляксандар] Вержбіловіч[10], прафэсары вакалу — зоркі Марыінскага тэатру! Пазьней ім на зьмену прыйшлі А[ляксандар] Глазуноў[11], В[ячаслаў] Сук[12] і многія іншыя асобы, якімі ганарылася музычная культура Расейскай імпэрыі.

Апынуўшыся ў такім атачэньні, мой бацька проста абавязаны быў добра іграць, дый Аўэр прымушаў яго добра займацца! Калі Аўэр бачыў прыкметы ляноты або, яшчэ горш, падману, то доўга не разважаў: адной рукой ён трымаў пульт, на якім стаялі ноты, а другой рукой — галаву вучня са скрыпкай, усё гэта рухалася насустрач, білася адно аб адно й выкідвалася прэч з клясы, у калідор, а па калідоры гулялі дзяўчаты, таварышы… Гэтаму ёсьць дакладная назва: *“выгнаць у шыю!”*. А якія ў бацькі былі таварышы! Міша Эльман[13], бліскучы скрыпач, у Ангельшчыне атрымаў ганаровае званьне лёрда. У свой час бацька ўпрасіў Аўэра ўзяць Мішу ў клясу. Яша Хейфец[14], зь якім бацька асабліва сябраваў! Пра Хейфеца бацька казаў так: *“хлопчыкам 12 гадоў ён паводле сьпеласьці іграў як стары”*, гэта значыць ён быў

---

8 **Ганна Есіпава** (рас. *Анна Николаевна Есипова*, 1851—1914), расейская канцэртуючая піяністка й пэдагог.

9 **Марыя Барынава** (рас. *Мария Николаевна Баринова*, 1878—1956), выбітная расейская піяністка, тэарэтык і пэдагог. Канцэртавала да 1940-х гг.

10 **Аляксандар Вержбіловіч** (рас. *Александр Валерьянович Вержбилович*, 1849—1911), першакласны расейскі віялянчэліст; як і ўсе названыя Камінскім музыкі, зь велізарным посьпехам канцэртаваў і ў Расейскай імпэрыі, і за мяжой.

11 **Аляксандар Глазуноў** (рас. *Александр Константинович Глазунов*, 1856—1936), расейскі кампазытар (позьняя расейская школа рамантызму), дырыжор і пэдагог. Дырэктар Санкт-Пецярбурскай кансэрваторыі, а пазьней Петраградзкай і Ленінградзкай (1905—1930). Дарма што ў 1928 г. ён выехаў у Францыю на сталае месца жыхарства, да 1930 г. лічыўся дырэктарам.

12 **Вячаслаў Сук** (рас. *Вячеслав Иванович Сук*, 1851—1933), вядомы расейскі дырыжор і кампазытар, народны артыст РСФСР.

13 **Міхаіл (Міша) Эльман** (рас. *Михаил Саулович Эльман*, 1891—1967) быў вундэркіндам, як і бацька Камінскага; выдатны скрыпач Расейскай імпэрыі, Брытаніі й ЗША.

14 **Яша Хейфец** (рас. *Яша Хейфец*, 1901—1987), ураджэнец Вільні, таксама быў вундэркіндам, канцэртаваў зь пяці гадоў. Лічыцца найлепшым скрыпачом усіх часоў і народаў. Перабраўся зь сям’ёй у ЗША ва ўзросьце 16 гадоў, ужо з сусьветнай славай выканаўцы. Паспрыяў пераезду свайго настаўніка, Аўэра. Пасьля траўмы бядра ў 1958 г. перайшоў на выкладчыцкую дзейнасьць.

ня проста вундэркіндам, а геніяльным майстрам, яшчэ не дасягнуўшы падлеткавага ўзросту.

Аўэр навучыў бацьку лёгкасьці штрыхоў. *"Цяжка працуючым"* скрыпачам Аўэр казаў: *"Ад вашай ігры потам патыхае, гэтага ня трэба ў музыцы"*. І амаль усе аўэраўскія вучні славіліся відочнай лёгкасьцю й высокім артыстызмам пры выкананьні любых, нават найскладанейшых твораў. Я памятаю, як бацька іграў "Кармэн" у транскрыпцыі Сарасатэ. У гэтай транскрыпцыі вельмі цяжкі фінал — у шалёным тэмпе, усьцяж у двайных нотах. Гэтыя двайныя ноты, тэрцыі, сэксты, актавы праносіліся з жахлівай хуткасьцю, а ён, іграючы, толькі пазіраў на мяне й пасьміхаўся. Я думаю, што яму многае дала Адэса! Ён казаў, што горад у той час *"поўніўся эмбрыёнамі таленту менавіта скрыпічнай ігры"*. У час навучаньня ў кансэрваторыі бацьку накіравалі для стажыроўкі й практыкі ігры ў аркестар Марыінскага тэатру. Гэта таксама, мякка кажучы, някепская школа: пад кіраўніцтвам Напраўніка аркестар Марыінскага тэатра быў проста ідэальны![15].

У 1903 годзе прыйшла пара заканчваць кансэрваторыю, бацьку тады ішоў дваццаць першы год. Многія ў такім узросьце толькі паступаюць у вышэйшыя навучальныя ўстановы, а мой бацька ўжо быў выпускніком. За год да заканчэньня ён зьмяніў кватэру, утаіўшы свой новы адрас ад *"сябручкоў"*, якія зaміналі яму займацца скрыпкай, і засеў за працу ўсур'ёз. Для экзамэну была выбраная праграма: канцэрт Бэтховэна й "Атэла" Г[енрыха] Эрнста (фантазія на тэмы опэры Расіні). І больш я нічога ня ведаю, мяне яшчэ тады не было на сьвеце. Я нарадзіўся ў 1906 годзе, так што ўсе гэтыя зьвесткі — са словаў бацькі. Яшчэ ён мне казаў, што год працы са скрыпкай у *"пустэльніцтве"* даў яму больш, чым усе гады навучаньня ў кансэрваторыі! У маі 1903 года адбыўся выпускны экзамен, але майго бацьку, як круглага выдатніка, прызначылі іграць на акце — гэта *асаблівая ўзнагарода*, якая давалася толькі тым, хто быў выдатнікам на працягу ўсяго курсу ў навучальнай установе. Пра канцэрт у выкананьні бацькі я магу распавесьці паводле аднаго эпізоду, які здарыўся са мною ў Маскве. Калі я быў у Сакольніцкім парку на канцэрце, вучань майго бацькі (Анатоль Сьцяпанавіч Залатароў)[16] паклікаў мяне на хвілінку ўбок, падвёў да музыкі, які стаяў недалёка, і зьвярнуўся да яго: *"Дазвольце прадставіць вам сына знаёмага вам Робэрта Камінскага!"* Той

[15] **Эдуард Напраўнік** (рас. *Эдуард Францевич Направник*, 1839—1916), чэскі й расейскі кампазытар з сусьветнай славай найлепшага дырыжора свайго часу, пэдагог.

[16] Зьвесткі пра Анатоля Залатарова ня знойдзены. У архіве Дзьмітрыя Камінскага ёсьць, аднак, фотаздымак Анатоля Сьцяпанавіча ў канцэртным гарнітуры. На адвароце — цёплы надпіс бацьку Дзьмітрыя Раманавіча.

музыка абамлеў! *“Уй, вы сын Рувіма Камінскага? Скажыце, дзе ён? Уй, маё прозьвішча Вэйсбэйн! Перадайце яму, што я дагэтуль памятаю, як ён іграў канцэрт Бэтховэна, гэта было на акце! Гэта было нешта незвычайнае! Гэты гук! Гэтая фразіроўка! Перадайце яму вялікі прывет! Маё прозьвішча Вэйсбэйн! Вы падобны на свайго тату!”* Гэта было на пачатку 1930-х гадоў.

## Пасьля заканчэньня кансэрваторыі

Заканчэньне Пецярбурскай кансэрваторыі ў бацькі прайшло бліскуча! Выдатная ігра на акце канцэрту Бэтховэна з кансэрваторскім аркестрам, потым — прысваеньне срэбранага мэдаля й званьня *“вольнага мастака”*. Бацька атрымоўваў дзьве стыпэндыі: адну ад барона Гінцбурга[17] (адзінага яўрэя пры двары Мікалая II), другую — як выдатнік кансэрваторыі. Апрача таго, “камэр-фрэйліна” пры старой імпэратрыцы (Аляксандры Фёдараўне) Ганна Вырубава[18] старалася выклапатаць яму камандзіроўку ў Прагу да Отакара Шэўчыка[19] для далейшага дасканаленьня. Аднак, паводле словаў бацькі, ён адмовіўся праз матэрыяльны стан (вялікая бацькоўская сям’я мела патрэбу ў падтрымцы). Дый характар майго бацькі — багема! Ён быў вялікі аматар уцех, “знакамітасьць” у кансэрваторыі па гэтай частцы! Нават швайцары ўсе яго ведалі й любілі. Прыехаўшы ў Пецярбург у 1917 годзе па справах, ён зайшоў у кансэрваторыю й падышоў да швайцара, якога бацька пазнаў (праз столькі гадоў!). Бацька спытаўся: *“А вы мяне пазнаяце?”* І той адразу адказаў: *“Камінскі!”* Такая папулярнасьць, вядома, прыемная, але часам яна *“зараблялася”* за кошт заняткаў, а гэта ўжо кепска! Нават барон Гінцбург, робячы майму бацьку вымову за “паводзіны”, казаў так: *“Вы паводзіце сябе непрыстойна для яўрэя! Такія паводзіны пасавалі б вулічнаму хулігану, але не вам. Спадзяюся, гэта больш ніколі не паўторыцца!”*.

---

[17] **Гарацый Гінцбург** (рас. *Гораций Осипович (Евзелевич) Гинцбург,* 1833—1909), банкір, золатапрамысловец, грамадзкі дзеяч і мэцэнат. Атрымаў патомнае баронства ад герцага Гесэн-Дармштацкага. Царскі дом за нястомную дабрачынную дзейнасьць таксама не скупіўся на знакі пашаны для Гінцбурга й надаў яму шмат ордэнаў і іншых узнагародаў, а таксама званьне стацкага саветніка. Яго бацька нарадзіўся ў Віцебску.

[18] **Ганна Вырубава** (дзяв. **Танеева**, рас. *Анна Александровна Вырубова,* 1884—1961), давераная асоба і ўлюбёная фрэйліна маці Мікалая II, мэмуарыстка. Верная саюзніца й шанавальніца Рыгора Распуціна.

[19] **Отакар Шэўчык** (чэск. *Otakar Ševčík,* 1852—1934), канцэртуючы чэскі скрыпач і пэдагог з сусьветным імем.

На выпускны экзамен, і асабліва на акт у Пецярбурскую кансэрваторыю (як і ў Маскоўскую), зьяжджаліся музычныя прадпрымальнікі з усёй імпэрыі, было так і ў 1903 годзе. Бацьку слухаў дырыжор Цярэнцьеў зь Севастопалю й запрасіў яго ў свой аркестар у якасьці канцэртмайстра (бацьку тады яшчэ толькі ішоў 21-ы год). Бацька быў вельмі ўсьцешаны гэтым запрашэньнем; ён думаў галоўным чынам пра тое, як сядзе ў купэ першай клясы цягніка "Пецярбург — Севастопаль", больш яго нічога не цікавіла! Мінула лета, на восень і зіму бацька падпісаў кантракт на пэдагагічную працу ў Стаўрапалі на Каўказе, і 1904 год ён прабавіў там. Вядома, гэтая паездка ў Стаўрапаль была фатальнай памылкай, трэба было вяртацца ў Пецярбург! У кансэрваторыю, дзе яго доўга памяталі й калегі, і прафэсура. Паездка ж у Стаўрапаль паклала пачатак жыцьцю ў правінцыі, а правінцыя для сапраўднага артыста вельмі небясьпечная. Публіка там пераважна "*ўсёедная*", і ў артыста, які ўжо заняў высокае становішча, няма стымулу расьці далей.

У Стаўрапалі бацька сустрэў Ганну Яўгенаўну Красовіч (дваранскага саслоўя), якая стала ягонай жонкай і маёй маці. Пры ўсёй сваёй натуры, якая імкнулася да "*прыгожага жыцьця*", бацька быў далікатны й не карыстаўся даходамі з жончыных маёнткаў, утрымліваў сям'ю самастойна. Ну а пасьля ракавога 1917 года так ці іначай трэба было разьлічваць выключна на сябе самога. Аўэр (які зьехаў ад бальшавікоў у Амэрыку ў 1918 годзе) яшчэ ў 1906-м казаў маёй маме, падмацоўваючы словы жэстамі рук: "*У вашага мужа вось такі таленцішча, але вось такусенькі розум!*" І праўда, бацька быў зусім непрактычны. Ён ужо больш і ня бачыў Пецярбургу, акрамя як у 1917 годзе, калі прабавіў там некалькі дзён.



Робэрт Камінскі. 1959 г.

Аднойчы ў Кіславодску, дзе мы зь ім разам адпачывалі, бацька далучыўся да музыкаў аркестру Ленінградзкай філармоніі, які гастраляваў у горадзе. Разгаварыўшыся, бацька спытаўся ў аднаго з музыкаў: "*Ну, як цяпер жыве Пецярбург?*" Той яму адказаў: "*Пецярбург ужо даўно жыве як Ленінград*". Была гэтая гутарка ў 1948 годзе. Тады мне стала шкада ўсяго жыцьця майго бацькі. Не ўдалося яно яму!

## Пра сябе

Нарадзіўся я 4 жніўня (паводле старога стылю) 1906 года ў горадзе Екацярынаславе (Днепрапятроўску). З раньняга дзяцінства я быў акружаны вялікай увагай і агромністай любоўю *"надзвычайнага дабрака"*, майго бацькі, а таксама маёй мілай маці. З задавальненьнем і глыбокім сумам успамінаю я сваё дзяцінства. Бадай самым прыемным успамінам было нашае жыцьцё ў горадзе Растове-на-Доне, дзе мы пражылі з 1921 да 1933 году. Гэтыя ўласьцівасьці душы — марыць і тужыць па мінулым — выхавалі ў мяне "скрайні" сэнтымэнталізм. Зь дзяцінства я ня мог абыякава глядзець на ад'яжджаючы цягнік, адразу пачынаў *"усхліпваць"*! Мне здавалася, што я кагосьці выпраўляю назаўсёды, хоць нічога такога не было. Дзякуючы частым паездкам бацькі я прызвычаіўся да вакзалаў і ўсялякіх чыгуначных *"падрабязнасьцяў"*: праводзінаў, сустрэчаў, чаканьня. Колькі сябе памятаю, любімыя гульні ў мяне тычыліся чыгункі, а паравоз быў любімай цацкай. Калі я трохі падрос і навучыўся чытаць, бацька навучыў мяне карыстацца чыгуначным даведнікам. Гэта адкрыла мне *"сьвет бясконцых цуда"*. Як я быў яму ўдзячны!

Калі мне было шэсьць-сем гадоў, бацька ўзяўся вучыць мяне іграць на скрыпцы — справа аказалася складанай! Трымаць скрыпку нязручна, гукі яна выдае жахлівыя: рыпіць, сьвішча, *"харкае"*. Нягледзячы на ўсе намаганьні бацькі, нічога ў яго не выйшла. Ён прасіў займацца са мной сваіх вучняў, але бяз выніку. Слых у мяне быў цудоўны, але нават трымаць скрыпку мне было дужа непрыемна. Затое слухаць скрыпку, калі бацька іграў, я абажаў. Асабліва санаты Бэтховэна. У нас здымаў пакой піяніст Васіль Арнольдавіч Зысэрман[20]. Бацька зь ім часта выбіраўся ў канцэртныя паездкі, і ўдома ў нас яны ня раз рэпэтыравалі санату Бэтховэна *F-dur*. Для мяне гэта было вялікай асалодай. Я нават патаемна спрабаваў развучыць першую частку й фінал гэтай санаты на раялі. Фінал я ведаў, але ня ведаў басовы ключ; Васіль Арнольдавіч растлумачыў мне басовы ключ. Калі, як мне здалося, 1-я частка была *"гатова"*, я папрасіў бацьку ўзяць скрыпку і зайграць у маім суправаджэньні 1-ю частку вясеньняй санаты Бэтховэна № 5. Бацька прыйшоў у захапленьне, паклікалі Васіля Арнольдавіча й вырашылі, што я пачну займацца ў піяніста Букімовіча. Пасля скрыпкі раяль здаваўся мне спрэс прыемным адпачынкам: ясная клавіятура з канкрэтнымі й выразнымі нотамі — адно здавальненне. Нічога ня трэба рыхтаваць — усё заўсёды на месцы! На скрыпцы ж — ціхі жах!

[20] **Васіль Зысэрман** (рас. *Василий Арнольдович фон Зиссерман*, 1866—1930) на пачатку 1910-х гг. быў выкладчыкам фартэпіяна ў клясах, арганізаваных Новачаркаскім аддзяленьнем Імпэратарскага Рускага музычнага таварыства (Р. І. Камінскі выкладаў тамсама ігру на скрыпцы).

Уся музыка ляціць у бездань ад найменшай недакладнасьці як левай рукі, так і правай. Пазьней, калі я падрос, то зразумеў, што пачынаць вучыцца на скрыпцы сапраўды цяжка, але затое на раялі далейшыя заняткі становяцца ўсё цяжэйшыя й цяжэйшыя.

Больш за ўсё мяне цешыла граць на раялі са слыху. Я хутка арыентаваўся ў розных танальнасцях і, такім чынам, ствараў уражаньне, што "ўмею" іграць на раялі. Заняткі з Букімовічам і потым, з 1922 году, з Гартмутам, многа мне далі: я здолеў вытрымаць іспыт па клясе раялю ў Растоўскі-на-Доне музычны тэхнікум (вучылішча) у 1923 годзе. Мне было няпоўных 17 гадоў. Час быў галодны, імкненьне падзарабіць штурхала мяне да ігры ў *рэстаранах*, у якой у мяне ўжо былі некаторыя навыкі й досьвед, хоць, безумоўна, такая ігра і ўяўны "досьвед" прыносілі больш шкоды, чым карысьці з пункту гледжаньня прафэсійнасьці ў авалоданьні інструмэнтам. Але тады я й чуць не хацеў пра такія *"пункты гледжаньня"*. Я быў упэўнены, што любая прафэсійнасьць, якая спрыяе заробку, карысная. А як прыемна па заканчэньні працоўнага дня падлічваць "чаявыя"! Маё самалюбства цешыла тое, што я магу палегчыць лёс маіх бацькоў у сэнсе "даходаў". Мне было радасна прыносіць у родны дом сьвежую капейку.

У вучылішчы я трапіў да выкладчыка Гіроўскага Яўгена Фёдаравіча[21], выхаванца Пецярбурскай кансэрваторыі, вучня прафэсара Барынавай. Ад доўгай ігры ў рэстаране ў мяне балелі рукі. Гіроўскі адразу сьцяміў, у чым справа, і вызваліў мае рукі ад перанапружаньня. Іграць стала лёгка, тэхнікі прыбавілася, і ў наступным годзе на веснавых іспытах я выступіў з рапсодыяй Ліста № 11[22]. Іграў яе я зь вялікім посьпехам, і многія пэдагогі, хто памятаў мяне з прыёмных іспытаў, мяне віншавалі. Гэта быў 1924 год. Гіроўскі быў зьнешне вельмі падобны да Шапэна, мы зь ім пасябравалі, і справы пайшлі добра.

У 1925 годзе я ўжо мог граць "Канцэртны вальс" Глазунова ў транскрыпцыі Ф. Блумэнфэльда[23]. Зьявілася багата новых сяброў, жыць было цікава й добра. Гармоніяй са мной займаўся бацька — ён быў выдатным тэарэтыкам, закончыў курс Пецярбурскай кансэрваторыі ў

---

[21] **Яўген Гіроўскі** (рас. *Евгений Фёдорович Гировский*, 1891—1973) быў дырэктарам Уральскай кансэрваторыі (1937—1939).

[22] **Фэрэнц Ліст** (вугор. *Liszt Ferencz*, 1811—1886) быў ня толькі адным з найвялікшых кампазытараў-рамантыкаў, але й выдатным піяністам XIX ст. Ён таксама шануецца як заснавальнік вэймарскай (новай нямецкай) школы ў музыцы.

[23] **Фэлікс Блумэнфэльд** (рас. *Феликс Михайлович Блуменфельд*, 1863—1931), расейскі й савецкі канцэртуючы піяніст, кампазытар і пэдагог. Вучань Густава Нейгаўза.

кампазытара Лядава[24]. Між іншага, бацька мне паказваў свой дыплём, выдадзены ў 1903 годзе Пецярбурскай кансэрваторыяй: спрэс пяцёркі! Нават такія прадметы, як ігра на альце, — 5, энцыкляпэдыя (аналіз формаў) — 5, кляса дырыжыраваньня — 5, кляса ансамблю — 5. Што за вучань! Ясная рэч, да яго мне было далёка, але ён радаваўся й мам посьпехам. У чым я даваў слабіну, дык гэта ў чытаньні з аркушу, не давалася мне гэтая навука... Не было спрыту, хоць у клясе ансамблю я атрымліваў чацьвёркі з плюсам і пяцёркі. Вось мой бацька чытаў ноты з аркушу — гэта было нешта неверагоднае! Усё-ткі сапраўдны музыка павінен умець чытаць ноты выдатна; як кажуць рэстаранныя лабухі, *“галоўнае — гэта чытка!”*. Мяне ж Бог пакрыўдзіў, ня даў гэтай “прамудрасьці”. Але затое я быў непераўзыдзеным імправізатарам у нямым кіно. Варта мне было зірнуць на экран і пакласьці рукі на клявішы, як яны пачыналі нешта выяўляць. Часам сярод публікі мне нават апладзіравалі за імправізацыі.

Я шмат гадоў адпрацаваў ілюстратарам у нямым кіно. Пасьля гэтай працы я зразумеў, што мне зусім не зашкодзіць павучыцца кампазыцыі.

## Войны й рэвалюцыі

Ужо з 1914 года пачалася першая імпэрыялістычная вайна; яна аўтаматычна перайшла ў рэвалюцыю, якая працягваецца дагэтуль, гэта значыць да 1983 года! У пачатку вайны зь Нямеччынай і Аўстрыяй эканоміка Расеі рэзка пагоршылася, але жыць яшчэ можна было. А ў 1917 годзе грымнула *“сацыялістычная рэвалюцыя”*, прадказаная паэтам і філёзафам Дз[ьмітрыем] Меражкоўскім у ягоным крытычным артыкуле *“Грядущий хам”*[25] і вялікім Ф[ёдарам] Дастаеўскім у *“Бесах”*[26]. Рэвалюцыю мой бацька ўспрыняў вельмі холадна, больш за ўсё яго палохала фраза з “Інтэрнацыяналу”: *“Кто был ничем, тот станет всем!”*. Ён ня мог зь ёй згадзіцца, і крыніцу ўсіх бедаў ад рэвалюцыі ён бачыў у гэтай бязглузьдзіцы. Яшчэ яго абураў сва-

---

[24] **Анатоль Лядаў** (рас. *Анатолий Константинович Лядов*, 1855—1914), расейскі кампазытар, дырыжор і пэдагог.

[25] **Дзьмітры Меражкоўскі** (рас. *Дмитрий Сергеевич Мережковский*, 1865—1941), адзін з самых яркіх прадстаўнікоў літаратуры Срэбранага веку Расейскай імпэрыі, расейскі пісьменьнік, філёзаф, гісторык, літаратурны крытык і перакладчык. Артыкул, пра які ідзе гаворка, быў напісаны ў 1906 г.

[26] **Фёдар Дастаеўскі** (рас. *Фёдор Михайлович Достоевский*, 1821—1881), адзін з найвялікшых наватараў расейскага рэалізму. “Бесы” — ягоны шосты раман (першае выданьне — 1871—1872 гг.).

ёй хлусьлівасьцю выраз *"дыктатура пралетарыяту"*, бацька нават публічна дазваляў сабе казаць: *"Гэта не дыктатура пралетарыяту, а дыктатура над пралетарыятам"*. Падобнай фразіроўкі было зусім дастаткова, каб паводле "рэвалюцыйных законаў" сесьці ў турму прынамсі гадоў на пяць (гэта лічылася *"лёгкім пакараньнем"*). Небясьпека была і ў "непралетарскім" паходжаньні маёй мамы. Але, на шчасьце, тады, у 1920ях гады, яго яшчэ не пасадзілі: гэта здарылася пазьней, у 1931 годзе. Органы бяспекі (ДПУ) арыштавалі бацьку па абвінавачаньні ў сувязі з замежнай буржуазіяй! Ніводнага радка ён не пісаў і не атрымліваў ад "буржуазіі", ніводнага замежнага канвэрта ў нас дома не было! Аднак, калі ДПУ кажа, што сувязь была — значыць ён *"вінаваты"*! Сядзеў ён восем месяцаў у Растоўскім ДПУ й чатыры месяцы ў Новачаркаскай турме *ні за што*! У 1933 годзе *"абвясьцілі прысуд"* — тры гады вольнай высылкі ў Котлас! Божа! Там жа голад і ўсё засыпана вошамі! Але і ў гэтым страшным Котласе скрыпка выручыла бацьку: ён *"даў канцэрт"* у памяшканьні Котласкага ДПУ для *"слаўных чэкістаў"*. Вядома, ён іграў рускія народныя песьні й скокі — посьпех быў велізарны! Яму нанесьлі столькі хлебу й рыбы, што ён тыдзень жыў на ўсім гатовым! На знак *асаблівай літасьці ўладаў* бацьку дазволілі пераехаць у Архангельск, а там было куды лягчэй, можна было *"прымяніць свае здольнасьці"*. Агулам, жыцьцё ў ссылцы ў Савецкім Саюзе — гэта бясконцы доказ таго, што ўсё ў жыцьці *адносна*! Нават само існаваньне — паняцьце "адноснае"!

У Архангельск прыехаў і я з мамай, і зажылі мы там, як казаў тата, "на славу"! Асабліва добра стала тады, калі бацьку, віялянчэліста Вышылоўскага й мяне запрасілі іграць у рэстаран "Таргсіна"[27] за *"таргсінаўскую бульбу"*, даволі добрую. Яшчэ адзін доказ таго, што ўсё-ткі ўсё ў жыцьці "адносна".

У 1936 годзе бацьку вызвалілі, і ён, як *"вольны грамадзянін"*, атрымаў прызначэньне ў Варонеж у музычнае вучылішча, дзе яго таксама называлі *"галоўным па музыцы"*! Урэшце, пасьля ўсіх неймаверных перажываньняў, у Архангельску, паводле бацькі, *"жылося няблага"*. Ён казаў, што *"ўсё трэба ўмець цаніць: сухар, кавалак хлеба, навагу (паўночная рыба), шклянку гарбаты з цукрам — усё гэта можа стаць у любы момант у Савецкім Саюзе небывалай рэдкасьцю!"*. І калі такія "пэратварэньні" выпрабуеш на сабе, то надыходзіць сапраўдная пераацэнка каштоўнасьцяў.

Тата жыў паводле азбучнай ісьціны: *"трэба ўмець цаніць усё добрае і ўсё чалавечае"*! Мой тата... У 1959 годзе я атрымаў ад мамы

[27] ***"Торгсин"*** (скарачэньне ад *"Торговля с иностранцами"*) — у СССР 1931—1936 гг. усесаюзная арганізацыя й сетка крамаў для гандлю за золата, срэбра або валюту, дзе прадаваліся тавары лепшай якасці. — ***Заўвага перакл.***

тэлеграму: “*сышоў тата*”. Я адразу ж у аэрапорт і ў Маскву. У Маскве я паехаў на Курскі вакзал (яны тады жылі ў Арле). Вось і іх домік... Маўкліва мяне сустрэла мама й павяла ў пакоі. На пасьцелі ляжыць цела бацькі — як быццам ён сьпіць! Не! Ён мёртвы! Сьмерць здарылася зьнянацку, ён размаўляў, за нешта дзякаваў маме, потым закашляўся й змоўк. Мама выклікала хуткую дапамогу, яна прыехала, але ўжо было позна. Урач разьвёў рукамі й выказаў спачуваньне. Гэта было 10 жніўня 1959 года, яму было 76 гадоў, столькі, колькі мне зараз. Хавалі яго на наступны дзень, было раскошнае надвор’е, бліскучы дзень. Нарэшце прыехала падвода з бальніцы, на якой ужо стаяла труна. Труну падвезьлі бліжэй да мяне. Я ня мог адвесці пагляду ад ягоных рук... Як гэта было цяжка! Калі пачалі закопваць магілу, я вырваў у трунара рыдлёўку й таксама чамусьці стаў сьпешна закопваць дарагую мне магілу. Я моцна плакаў — каго ж я хаваю! Ды мне лягчэй самому з жыцьцём разьвітацца, чым з горача любым бацькам! Маму я адправіў да родных, а сам паехаў дадому ў Менск... У Менску прыкладна праз тыдзень бацька прысьніўся мне. У сьне я адразу зразумеў, што трэба, не марнуючы часу, пасьпець спытацца ў яго, як яму там? І я пасьпеў спытацца! Што ж ён адказаў? “*Выдатна! Я ніколі так не адпачываў, як цяпер!*” Я прачнуўся ашчасьліўлены. Мне хацелася быць забабонным і верыць у замагільнае жыцьцё! Вось так і скончылася няўдалае і ў той жа час па-свойму шчаснае жыцьцё майго палка любімага бацькі, Робэрта Ісакавіча Камінскага.


Анатоль Залатароў,
вучань Робэрта Камінскага
перад сольным канцэртам
у Маскве. 1957 г.

Апошні жывы напамін ад бацькі быў мне, здаецца, на пачатку 1960-х гадоў. Татаў вучань Анатоль Сьцяпанавіч Залатароў, вярнуўшыся з Масквы, прывёз мне цёплае прывітаньне ад старога сябры бацькі па кансэрваторыі, выбітнага скрыпача Яфрэма Цымбаліста[28], які

[28] **Яфрэм Цымбаліст** (рас. *Ефрем Александрович (Аронович) Цимбалист,*

старшынстваваў на конкурсе скрыпачоў. Бацька яго часта й захоплена згадваў. Цымбаліст вельмі падрабязна распытваў Залатарова пра майго бацьку, тужыў па ім, быў вельмі зьбянтэжаны з прычыны ягонай сьмерці.

Маю мілую, дарагую маму я пахаваў у Менску ў дзень новага, 1965 году. У той дзень я нічога не разумеў, ня цяміў. Я ўжо ня памятаю падрабязнасьцяў — толькі страшную яву, як я адзін вёз яе на могілкі. Ох, як гэта было цяжка, і не знаходзіцца ў мяне словаў, каб патлумачыць, што я перажыў. Адно толькі ведаю: мой горача любімы тата й мілая мама будуць вечна жыць у маім сэрцы. Я заўсёды стараўся жыць паводле іх запаветаў, па прыкладзе майго дарагога таты: сумленна й зьмястоўна, а галоўнае, быць удзячным за тое добрае, што прыносіць жыцьцё. У памяць пра тату я распавяду пра гарады, у якіх мы жылі.

## Пра Новачаркаск

У 1911 годзе мой бацька атрымаў запрашэньне паступіць на службу ў Новачаркаскае музычнае вучылішча й музычную школу. У Новачаркаск ён прыехаў з Луганску, дзе граў сэзон са сваім старым сябрам дырыжорам І. І. Розэнфэльдам[29]. А я з мамай жыў у гэты час у Стаўрапалі, дзе непадалёку, у фамільным маёнтку, пастаянна жылі ейныя сёстры. Я выдатна помню, што лета 1913 года я з мамай правёў у Есентуках, там было мала цікавага. А ў 1914 годзе бацька наняўся на сэзон у Сімфэропаль, мы з мамай прыехалі да яго пасьля сэзону й разам потым вярнуліся ў Новачаркаск. Недзе ў канцы траўня або на пачатку чэрвеня я з мамай сеў у цягнік, і мы паехалі да станцыі Сінельнікава, а там была перасадка далей на поўдзень. Як усё было цікава! Асаблівае значэньне я надаваў надпісам на вагонах: вэнзэль паўднёвых дарог — *"Е"* (*"Екатерининская дорога"*), а *"Ник"* — вэнзэль Мікалаеўскай (*"Николаевской"*) дарогі! Я наперад смакаваў асалоду расказаць пра гэта майму найлепшаму сябру Лёню. Які ён будзе рады даведацца ўсе гэтыя *"тонкасьці"*! А вось і рака Салгір, на якой стаіць Сімфэропаль. На вазаку паехалі ў гарадзкі сад, дзе ў аркестры іграў тата, а вось і ён сам! Як добра! Ён нас адвёз у зьняты для нас пакой, і зажылі мы там раскошна, бо Сімфэропаль — цудоўны горад! Неўзабаве перазнаёміліся з музыкамі аркестру, дырыжор — важны пан. Аркестранты да нашага прыезду паставіліся выключна гасьцінна. Майго тату пасьпелі палюбіць як вельмі добрага скрыпача,

1889—1985), расейскі й амэрыканскі скрыпач. Пасьля Хейфеца й Эльмана — самы вядомы вучань Аўэра. Канцэртаваць за мяжой пачаў у 1907 г., як толькі закончыў Пецярбурскую кансэрваторыю.

[29] Зьвесткі пра гэтую асобу ня знойдзены.

нястомнага аптыміста й найбольш сардэчнага чалавека. Парк, у якім штовечар граў аркестар, быў найвыдатнейшы! Так, у нас была маса знаёмых, і нас вельмі любілі. Але пачалі ўжо пагаворваць пра вайну, і ў хуткім часе тата паехаў прызывацца ў Новачаркаск (па месцы прапіскі). Мы засталіся ў Сімфэропалі без навінаў, поўныя хваляваньня. Аднойчы мы з мамай зайшлі на пошту даведацца пра лісты. Нас сустрэў чыноўнік з усмешкай: *"Вам прыйшла добрая тэлеграма, хоць і аднаслоўная: "Вольны!""*. Я саромеўся паказаць сваю радасьць перад чыноўнікам, ведаючы, чаго вартая такая тэлеграма ў час мабілізацыі. З пошты я й мама сышлі шчасьлівыя. Хутка скончыўся сэзон, і мы ўсёй сям'ёй вярнуліся дадому, у Новачаркаск. Уражваў тлум на вакзалах, народ заварушыўся — вайна! Я, безумоўна, не разумеў у той час усяго маштабу катастрофы, дый ніхто не разумеў, нават дарослыя.

Да вясны 1915 году я ўжо быў падрыхтаваны да паступлення ў Пятроўскую гімназію, і ўсё прайшло выдатна. Вытрымаў я іспыт у другую падрыхтоўчую клясу. На іспыце я зрабіў адну памылку: слова *"вверх"* напісаў паасобку. Настаўнік Рэбрыкаў, які прымаў іспыт, пасьмяяўся і пакінуў гэтую памылку без наступстваў! Дома мяне сустрэлі як імяніньніка! Добра жыць на сьвеце! У той жа дзень я пайшоў да майго найлепшага сябры Лёні, ён таксама паступіў, але ў настаўніцкую сэмінарыю, яму карцела стаць настаўнікам. Якая цудоўная пара — дзяцінства! Нічога няма лепей. Дома я ўпрасіў бацьку купіць мне дзіцячую чыгунку, і ён, вядома, купіў, бо ён жа быў вельмі добры! Гэта быў паравозік, і да яго прыстаўляліся тры вагоны. Які я быў шчасьлівы — зь дзяцінства я надзвычайна любіў чыгункі і ўсё, што было зь імі зьвязана. Купіў мне тата гэты падарунак у горадзе Растове-на-Доне за пяць рублёў. На той час гэта былі шалёныя грошы: за іх можна было купіць падводу вінаграду.

Гэта было даўно, але было на сьвеце, і я гэта памятаю. Я не забуду *"Атаманскі спуск"*, дом № 10 зь ягонай кватэрай № 2. Там доўга-доўга мы жылі, і з намі было хараство, якое няможна, грэх забыць. За тры гады жыцьця ў Новачаркаску ў нас зьявілася мноства знаёмых і сяброў. Найперш хочацца назваць стрыечнага брата мамы, Пракоф'ева (ён быў старшынёй судовай палаты)[30], і ягоную жонку, наймілейшую Праскоўю Аляксандраўну. Іхны сын Сярожа, мой раўналетак, здаваўся мне ня вельмі сымпатычным, так што асаблівага сяброўства ў нас не было. Бацька й мы з мамай пасябравалі зь сям'ёй ягонай

[30] Час (войны, рэвалюцыі, міграцыі, эміграцыі й наступныя савецкія ўзрушэньні) зьнесьлі ў нябыт мільёны. Таму, калі людзі не былі сусьветнымі знакамітасьцямі, то знайсьці пра іх зьвесткі цяжка. Большасьць родзічаў і знаёмых сям'і Камінскіх, згаданых у разьдзеле пра гарады (такія, як сям'я Пракоф'евых), на жаль, належаць да катэгорыі забытых гісторыяй.

таварышкі па службе М. Ф. Гінзбург. Яе муж, Салямон Ільліч Гінзбург, прысяжны паверaны, быў найвядомейшы ў горадзе, дый увогуле на Доне адвакатам. Яны жылі ў доме № 25 на Гарбатай вуліцы, недалёка ад нас. Добра памятаю гэты дом, выдатную кватэру, а галоўнае, гэтых людзей: тата лагодна менаваў іх *“рафінаваная інтэлігенцыя”*! У сям’і было двое дзетак, хлопчык Сярожа й дзяўчынка Ліда. Лёс іхны у час Другой сусьветнай вайны быў жахлівы: за *“яўрэйскае пахожаньне”* іх расстралялі ў шахтах. Так, Салямон Ільліч быў хрышчаным яўрэем — і з пункту гледжаньня ідыёта Гітлера гэтая “правіннасьць” каралася сьмерцю ўсёй сям’і. Гэтай вар’яцкай гнюснасьці няма назвы! Я ў чымсьці забег наперад, але мушу сказаць, што тады, перад вайной і рэвалюцыямі, антысэмітызму, гэтага зьвярынага шаленства, на Доне не назіралася.

Там, у доме № 10, у нас былі суседзі, зь якімі мы выдатна ўжываліся. Гэта была сям’я Зазерскіх: бацька быў афіцэрам, служыў у войску. У яго была жонка Ганна Міхайлаўна й дзьве цудоўныя дачкі, Ірачка й Кіці. Мы вельмі сябравалі, і гэта было сапраўднае, самае шчырае сяброўства! Малодшая, Кіці, забаўляла нас сьпевамі. Была ў яе такая песня: *“вот маленький кабанчик взобрался в скользку гору…”*. Гэта было так забаўна й так добра! Кіці й мая мама абажалі адна адну. У той жа час у мяне быў неразлучны сябра Лёня Сарокін, я згадваў яго раней. Мы зь ім апантана любілі Новачаркаск і пастаянна блукалі па горадзе ды навакольлі. Так, Лёня быў незвычайным хлопчыкам паводле душэўнага складу й па сваёй дабрыні, спагадлівасьці. Нешматслоўны, ён мог выказаць глыбокія й самастойныя думкі, у якіх мелася імкненьне да маралі й справядлівасьці. Дзіўна, як хутка мы знаходзілі агульную мову й разумелі адзін аднаго. Лёня жыў з маці, Антанінай Уладзіславаўнай. Яна была сьціплая й добрая жанчына, вельмі любіла свайго Лёньку. Памерла Антаніна Ўладзіславаўна ў 1943 годзе ад разрыву сэрца, калі даведалася, што Лёня ўпаў з паравозу, які рухаўся… Мне гэтыя людзі вельмі дарагія, яны мне родныя.

Так, у нас наладзіліся сяброўскія стасункі са многімі. Хочацца ўспомніць хоць некаторых: Анатоль Залатароў, Гукаў (скрыпачы), Міхаіл Міхайлавіч Хуцыеў, Алоіс Стэрнардт (віялянчэлісты), ваенныя (атаманы й проста казакі), дактары, настаўнікі, юрысты, просты й адметны народ, які жыў ва ўзаемапавазе да войнаў і рэвалюцый[31]. Алоіс Стэрнардт у свой час, калі пачалася рэвалюцыя, намаўляў майго бацьку пакінуць Новачаркаск і назаўсёды (праз Турцыю) зьехаць у Ангельшчыну, але бацька адмовіўся, і вельмі шкада! Стэрнардт неўзабаве пасьля ад’езду прыслаў нам пісьмо ў Новачаркаск з Канстанцінопалю. Яно не захавалася, але я памятаю першыя радкі: *“Дарагія мае, пішу*

[31] Зьвестак пра гэтых людзей, як і пра тых, што згадваюцца далей, няма.

*вам з Турцыі! Збіраюся ехаць у Ангельшчыну! Як шкада, Веня (памяншальнае імя бацькі), што ты не паехаў са мной!"*. Мая мілая мамуля пасьля гэтага пісьма доўга-доўга плакала...

У мяне быў яшчэ адзін блізкі сябра, звалі яго Віктар Каклюгін. Быў ён бацькавым вучнем, здольным скрыпачом, мой тата яго вельмі любіў. Жыў ён з бацькамі на Марыінскай вуліцы. Памятаю яго маці, яна была ўжо немаладая, звалі яе Вольга Міхайлаўна. У яе было найтанчэйшае пачуцьцё гумару, яна заўсёды нас сьмяшыла. Вольга Міхайлаўна таксама нас усіх вельмі любіла. Бацька Віці, Канстанцін Каклюгін, быў міністрам унутраных справаў пры Данскім урадзе. Калі Віця прыходзіў да нас, мы яго сустракалі "пераможна"! З ушанаваньнямі садзілі за стол, і тады пачынаўся абед, які заўсёды праходзіў весела. Памятаю, яшчэ быў у майго бацькі вялікі сябра, яго благародзьдзе, казацкі афіцэр — есаул Ломцеў. Служыў ён у мясцовай камандзе на Хрышчэнскім спуску, па дарозе на вакзал да станцыі Новачаркаскай. Жыў Ломцеў на скрыжаваньні Хрышчэнскага спуску й Аксайскай вуліцы. Сяброўства з маім бацькам у іх было моцнае й шчырае, яны пастаянна наведвалі адзін аднаго. Дый я любіў яго, мне падабалася ў яго бываць. Ломцеў вучыў мяне казацкім песьням, вось прыпеў адной зь іх: *"Так громче музыка, играй победу, мы победили и враг бежит, бежит, бежит! Так за царя, царя и нашу веру, мы грянем громкое ура! ура! ура!"*. Вельмі многа было сяброў, усіх не пералічыш і пра ўсіх не раскажаш!

У пляне здабыцьця харчоў да першай вайны ў Новачаркаску жылося прыўкрасна! Таннасьць, а якія базары! Я памятаю Хрышчэнскі базарчык — раскоша! Кіслае малако найлепшай якасьці! А садавіна! Усё фантастычна танна, толькі што ня дарма! Новачаркаск быў спакойным месцам, і не хацелася думаць пра нейкія перамены ў жыцьці гэтага чароўнага горада.

Данскія казакі — народ добры, але надта самалюбны. *"Мы — прыродныя данскія казакі, і размова скончана!"* Было агульнае шанаваньне памяці атаманаў, Ермака[32] й Платава[33], якім казакі будавалі манумэнты ў гонар Дона ціхага. Дзе цяпер тыя манумэнты й тыя казакі? І дзе цяпер той ціхі Дон? Грамадзянская вайна зьмяла ўсё магутным ураганам. Брат пайшоў на брата — такая была бяда! Праўда, усё пакацілася кулём ужо на пачатку нямецкай вайны. Жыцьцё амаль адразу зьмянілася да горшага, зьявіліся людзі, якія цярпелі

[32] **Атаман Ярмак** (рас. *Ермак Тимофеевич*, 1532—1585), першы заваёўнік Сібіры.

[33] **Атаман Мацьвей Платаў** (рас. *Матвей Иванович Платов*, 1769—1818), заснавальнік гораду Новачаркаску (1808), зрабіў гэты горад сталіцай Данскога казацкага войску.

ад беднасьці. Жыць адразу стала цяжэй усім. А тут яшчэ ўсеагульная мабілізацыя! Данскія казакі грузіліся ў эшэлоны й ехалі на фронт, на яўную сьмерць! Як удараліся ў сьлёзы нашыя каза́чкі! Мы, мірныя людзі, да канца не разумелі, што адбываецца, але было ясна, што ў сьвеце здарыўся страшны ералаш! На вакзалах, праўда, быў выгляд парадку. Там я некалькі разоў бачыў цара, Мікалая II, ён прыяжджаў у царскім цягніку ў Новачаркаск. Божа, што тварылася! Велізарны тлум народу сустракаў яго са шчырым натхненьнем. Але я стаў пазьбягаць гэтых натоўпаў, яны мяне пужалі. У тыя дні я імкнуўся бачыцца толькі са сваім сябрам Лёнем Сарокіным, яго таксама ня вабіла стоўпатварэньне. А разам нам было добра.

А жахлівая вайна ішла ды ішла! Ужо было многа ахвяраў, і канца гэтаму хаосу не было відаць. У горадзе стала цяжка з харчамі, усё даводзілася даставаць. Жыцьцё ўскладнялася з кожным месяцам. Нягледзячы на ўсе гэтыя цяжкасьці, мы ня ведалі пагалоўнага голаду, як у іншых краях імпэрыі, дзе ва ўладзе ўжо стаялі бальшавікі. У 1917 і часткова ў 1918 годзе мы, праўда, пасьпелі пакаштаваць савецкай улады, а таксама зьявіўся антысэмітызм, і ён мацнеў. Гэта было брыдка. Мамуля стала нават пабойвацца за тату, але ён толькі аджартоўваўся.

Неўзабаве бальшавікоў зьмяніла Белая армія на Доне. У канцы 1918-га, начуўшыся пра пасьпяховае прасоўваньне бальшавікоў, мама выказала настойлівае, непераадольнае жаданьне зьехаць на Каўказ. Татаў вучань Віця Каклюгін (сын міністра ўнутраных спраў пры Данскім урадзе) быў пасьля Лёні Сарокіна маім найлепшым сябрам. Дый увогуле, пасьля шматгадовых зносінаў з нашай сям'ёй ён стаў як бы нашым сямейнікам: мы ўсе яго шчыра любілі. У Каклюгіных была дача ў Геленджыку, і Віця велікадушна прапанаваў нам перажыць *"трывожны час"* у іх на дачы. Наладзілі *"ваенную раду"*, дзе пастанавілі: мама й я едзем у Геленджык, перасядзім там неспакойны час, потым вернемся дадому й зажывем па-старому. Тата ў час нашай адсутнасьці будзе ў Таганрогу, у яго там быў кантракт на сэзон. А ў выпадку *"зацягнутай трывогі"* тата да нас далучыцца!

Пачалося лета 1919 года. Вайна набліжалася да нас! Я затужыў па бацьку, па Лёню, маім ўлюбёным сябры. Я стал угаворваць маці вярнуцца дадому, і ў канцы жніўня, на параходзіку "Гурзуф", мы дабраліся да роднага гораду. Я быў вельмі рады захапляльнай сустрэчы на нашым "падворку". Усё там было на сваіх месцах, хлапчукі й дзяўчынкі прыкметна падрасьлі. Лёня за час маёй адсутнасьці хварэў на сыпны тыф, неўзабаве на гэты тыф захварэў і я. Пакуль я адсутнічаў у горадзе й хварэў, моцна адстаў ад таварышаў па гімназіі, трэба было наганяць. У бацькі быў вучань Юра Смаленскі, які ўзяўся мяне *"падагнаць па прадметах"*. Пачалі мы зь ім займацца, і справа скончылася, нягледд-

зячы на розьніцу ва ўзросьце, моцным сяброўствам паміж намі; мне толькі споўнілася 12, а яму ўжо ішоў 21-ы. Юра мне падараваў вялікі альбом з маркамі, на якіх я няблага знаўся. Потым Юру мабілізавалі ў Белую армію, і ён *"стаяў на варце"* ў раёне станцыі Таганрог. Я бегаў яго наведаць, прыхапіўшы Лёню. Так і несьлі мы службу ўтраіх. Канец майго сябра быў трагічны: пры адступленьні Белай арміі Юра памёр на падлозе ў вясковай хаце. Адзін-адзінюткі. Я дагэтуль яго аплакваю.

Тады шмат гаварылі пра Распуціна, пра тое, як яго забілі. Я кепска цяміў у сытуацыі, таму што быў дзіцём, але памятаю словы бацькі: *"У цывілізаванай дзяржаве такіх зьяваў, як гэты мужык, што кіраваў краінай, быццам манарх, быць ня можа. І гэта за жывым царом!"*. Няўдачы на франтах, агульная неўладкаванасьць жыцьця, злоўжываньні ў арміі і ўрадзе — усё гэта стварала ў народзе незадавальненьне й прыводзіла да неспакою. Пагаворвалі пра магчымую рэвалюцыю. А тата ў тыя дні часта ўспамінаў 1905 год. У лютым 1917 году Мікалай II выракся царства, і была ў яго адзіная просьба: пакінуць для яго сям'і адзін маёнтак, Лівадыю. У мяне гэта тады пакінула глыбокае ўражаньне. Я сабе ўяўляў, як былы цар зь сям'ёй едзе ў хуткім цягніку зь Пецярбургу ў Севастопаль, – уявіць гэта ўсё было лёгка, бо геаграфію й шляхі зносінаў я ведаў віртуозна. Але так і не задаволілі ягоную дастаткова сьціплую просьбу. Забілі іх усіх, усю сям'ю, дзяўчатак, маленькага цэсарэвіча. Мае бацькі абураліся забойствам царскай сям'і, шчыра аплаквалі дзяцей, перадусім жа мой тата ня мог дараваць забойцам іхняга злачынства. Да канца жыцьця паўтараў: *"Але дзетак-та за што? Такія слаўныя, выхаваныя, нявінныя дзяўчаткі! А хлопчык, дзіця ж было хворае, у яго кепска згушчалася кроў!"*

Ад самага заснаваньня *"рэвалюцыйнага парадку"* ў народзе пачаў расьці страх. З розных франтоў вайны арганізавана й неарганізавана вярталіся салдаты дадому, вярталіся на Дон і казакі. Данскі атаман, генэрал Каледзін, трымаў перад казакамі прамову, ён заклікаў іх згуртавацца й не пускаць на Дон бальшавікоў. Але казакі на *"вайсковым кругу"* (казацкі парлямэнт) вырашылі так: *"Нікуды мы ня пойдзем, але й на Дон нікога ня пусьцім!"*. Казакі былі згодныя: *"Няхай будзе савецкая ўлада, толькі... без камуністаў!"*. Ня вытрымала казацкае сэрца генэрала Каледзіна такой недальнабачнасьці й анархіі! Ён застрэліўся, і хавалі яго ў Новачаркаску. Падобныя факты, аднак, ужо мала каго кранал, людзі проста спрабавалі выжыць у гэтым шалёным віры падзей. І мала хто разумеў, што дзеецца ў велічэзнай краіне.

У сакавіку 1918 году бальшавікі заключылі Брэсцкі мір зь Нямеччынай. Умовы для былой імпэрыі былі цяжкія: немцы занялі Беларусь, Украіну й частку Расеі. Атаман Красноў запрасіў нямецкія войскі ў Данскую вобласьць, ліст з гэткай просьбай быў пасланы са-

мому імпэратару Вільгельму. Прыкладна да траўня 1918 году немцы ўвайшлі ў Новачаркаск: вельмі скора спыніўся бандытызм і быў наведзены парадак у горадзе. У вольны час мы зь Лёнем хадзілі на станцыю, дзе ў немцаў была камэндатура. Усё было вельмі цікава. Яны да нас, хлапчукоў, ставіліся добразычліва, дый з дарослымі ў іх былі паважлівыя адносіны, усе іх паводзіны мелі мірны характар. Але і ў немцаў здарылася бяда — таксама рэвалюцыя! І яны паціху згортвалі акупацыю: усё менш і менш іх заставалася ў нашым краі і ўрэшце сышоў іхны апошні эшалён. Пакідалі немцы Расею амаль бяз зброі, так і скончылася першая нямецкая акупацыя поўдню Расеі.

Пасьля немцаў у раёне стаялі данскія казакі й асобныя часткі Дабравольніцкай арміі. Наколькі я памятаю, справы на фронце пайшлі кепска: бальшавікі не бяз посьпеху напіралі, а казакі падзяліліся на белых і чырвоных. Жыхары станіцаў вярхоўя Дону — Ніжне-Чарская, Цымлянская, Вешанская — сымпатызавалі чырвоным, але жыхары нізавых гарадоў і станіцаў — Новачаркаск, Растоўна-Доне, Канстанцінаўская, Старачаркаская — былі пагалоўна супраць. Так надышоў 1919 год — апагей грамадзянскай вайны. Па ўсёй былой імпэрыі многа крыві пралілося! Чырвоныя марудна, але пэўна прасоўваліся на поўдзень Данской вобласьці, які быў заняты белымі. У харчовым пляне было, вядома, нашмат горш, чым у стары добры час, але жыць яшчэ было можна. А вось з цэнтральных, заходніх і ўсходніх губэрняў імпэрыі даходзілі трывожныя весткі: там ужо запанавалі голад, разруха, бандытызм. Усе вакол казалі, што з Расеі трэба ехаць, чакаць тут няма чаго. Да гэтага імкнулася й мая мама. Бацька ж сумняваўся, хоць пазьней ня раз горка шкадаваў, што не паслухаў маму, яе родных і сваіх сяброў. Дапраўды, пасьля ягонага неабачлівага ад’езду зь Пецярбургу нашая неадбытая эміграцыя стала ягонай другой фатальнай памылкай у жыцьці!

У Новачаркаску 1919 году мы пакаштавалі ўсю мярзоту запусьценьня, спароджанага вайной і бальшавіцкай рэвалюцыяй. Фронт рухаўся да нас марудна, але пэўна. Бальшавіцкія палкі пасьпяхова займалі Данскую вобласьць. Гэта ўсё было ўжо ў 1920 годзе, а ў 1921-м і да нас дакацілася навіна пра новую эканамічную палітыку (нэп). Паводле росчырку сыфілітыка Леніна, савецкая ўлада зьмяніла суворасьць жахлівага *“ваеннага камунізму”* на палёгкі для прыватнага прадпрымальніцтва. Нэп доўжыўся гадоў сем, а ў палітычных адносінах тым часам кансалідаваліся аўтарытарызм і дыктатура.

## Пра Растоў-на-Доне

Бацька мой вырашыў пакінуць Новачаркаск і перабрацца ў Растоўна-Доне менавіта тады, у 1921 годзе. І вось у цудоўны веснавы дзень я

з татам пайшоў на вакзал, мы селі ў цягнік Новачаркаск — Растоў-на-Доне й паехалі... Да Растову блізка, усяго-ткі гадзіны паўтары язды. А вось і ён! Я там часта бываў у дзяцінстве, але той прыезд пакінуў ашаламляльнае ўражаньне. Які вакзал, колькі цягнікоў, і на ўсе напрамкі! Трамваі, аўтамабілі! Які рух! Колькі тлуму! Якія вуліцы! Галоўная вуліца Садовая — раскоша! А якія крамы й колькі іх! І ўсе яны прыватныя. Нэп дэманстраваў заможнасьць і нават багацьце.

Майго тату многія ведалі й цанілі ў Растове. Дабраліся мы да нашых знаёмых па прозьвішчы Паперыны (ён — скрыпач). Спыніліся ў іх. Прынялі нас цудоўна. Жылі яны на Сянной вуліцы, недалёка ад цэнтру. Наступным ранкам прыехала цягніком мама, Растоў яе таксама ўзрушыў. Ёй гэты горад нагадваў ні многа ні мала сам Парыж! У хуткім часе бацька мой уладкаваўся на працу ў сымфанічны аркестар: ён заняў, як заўсёды, месца канцэртмайстра. Дырыжор быў з Таганрогу — Валерыян Гаэтанавіч Мола, наш стары сябра[34]. Для адкрыцьця сэзону выбралі канцэртны вальс Глазунова. Канцэрт праходзіў на вольным паветры, у Аляксандраўскім садзе. Калі над скрыпачамі ўздымаўся лес смыкоў і лілася незвычайная музыка, проста хацелася плакаць ад асалоды. Божа, як было добра!

А я тым часам знаёміўся з цудоўным горадам Растовам. Увосень я паступіў у музычны тэхнікум і зь вялікім задавальненьнем займаўся з выкладчыкам Я. Ф. Гіроўскім[35]. Вось шчасьлівы час! Потым была знойдзеная кватэра на Крапасным завулку, у доме № 72. Мы пераехалі туды й зажылі там на славу. А Растоў усё прыгажэў, я памятаю ягоны дастатак. Крама “Праваднік” гандлявала гумовым адзеньнем і абуткам; крама мужчынскай гатовай вопраткі “Альшванг” — раскоша! Гастранамічныя крамы — фантастычныя! А садавіна ў краме “Абрыкос”! Цяжка апісаць прысмакі — сочыва, цукеркі, — якія прадаваліся ў крамах нэпмана Бландова й іншых. Так і жылі мы ўсёй сям’ёй у гэтым цудоўным горадзе. Неўзабаве ў Растоў прыехалі мае сябры, Ірачка і Каця (Кіці) Зазерскія. Які я быў рады, і яны таксама цешыліся з сустрэчы. Мае найлепшыя сябры Віця й Лёня пачасту завітвалі да нас. Праўда, у 1921 годзе савецкая ўлада “*прыняла новыя*

[34] **Валерыян Мола** (рас. *Валериан Гаэтанович Мола*, 1872—1938), дырыжор, пэдагог, кампазытар і піяніст. Закончыў Пецярбурскую кансэрваторыю. Вучань Мікалая Рымскага-Корсакава па клясе тэорыі кампазыцыі. Арганізаваў у родным горадзе Таганрогу музычны тэхнікум (з 1935 г. — музвучылішча). Дырыжор і мастацкі кіраўнік Таганрогскага сыфанічнага аркестру ў 1920—1930-я гг. Як і бацька Дзьмітрыя Камінскага, быў рэпрэсаваны ў 1931 г. У Таганрог пасьля ссылкі вярнуўся ў 1934 г.

[35] **Я. Ф. Гіроўскі** (рас. *Я. Ф. Гировский*, 1891—1973), канцэртуючы піяніст і пэдагог. Перайшоў на працу ў Таганрогскі музычны тэхнікум, у арганізацыі якога дапамагаў свайму сябру Валерыяну Мола.

*формы кіраваньня*", і ўсе гэтыя іх "формы" пачыналіся й канчаліся найбольш жорсткім тэрорам і бязьлітаснасьцю. Гэта было жахліва. Горы трупаў усіх узростаў, эпідэміі хваробаў зносілі мільёны ахвяраў у магілы. Але "*вялікі настаўнік усяго прагрэсіўнага чалавецтва*" казаў: "*Клясавая барацьба прыняла новыя формы*". Усё, што казаў Ленін, прымалася як закон, запярэчыць якому было найвялікшым злачынствам, за якое кара адна — сьмерць! Ну а пасьля Леніна прыйшоў наступны бальшавіцкі цар-вылюдак, Сталін, і іншае гадаўё, што жывіліся крывёю ўласнага народу.

Калі я пастаянна жыў у Растове, то часта наяжджаў у Новачаркаск. Там у мяне засталося нямала сяброў па Пятроўскай гімназіі, дый увогуле было многа знаёмых, пра якіх я часта ўспамінаў, сумаваў па іх. Не магу забыць і сям'ю Болдыравых. Барыс Болдыраў быў старым, звыклым сябрам. Жылі яны ў вельмі добрым уласным доме на Ратнай вуліцы, № 18. Будаваў гэты дом сам Сяргей Іванавіч Болдыраў, інжынэр-архітэктар[36]. Дом быў трохпавярховы, і як жа там было добра гасьцяваць! Сяргей Іванавіч для гэтага дому нічога не шкадаваў: усё было аддадзенае выгодам і камфорту. Маці Боры, Зінаіда Андрэеўна, "*пані*", найрахманейшая жанчына, безразважна любіла свайго Бору, мужа, свой дом і гаспадарку. У двары гэтага дому, у флігелі, жыў прафэсар Габрычэўскі[37]. Ягоны сын, Міша, таксама быў вялікім маім сябрам. Я часта наведваў іх у Новачаркаску, а яны мяне ў Растове, карацей, сяброўства ня слабла, а нават мацнела! Часам я прыяжджаў у Новачаркаск з канцэртамі й заўсёды радаваўся дзіцячай радасьцю, калі сустракаўся з родным горадам. Цяпер, калі ўспаміны пра Новачаркаск адносяцца да далёкага мінулага, хочацца зьняць капялюш у ягоны гонар! Хоць, у разе цьвярозай ацэнкі, незвычайнага там быццам бы нічога й не было. Правінцыйны горад, населены спакойнымі, добрымі людзьмі. Але ў той жа час трэба прызнаць: Данская вобласьць мела свае спэцыфічныя рысы, якія адрозьнівалі яе ад іншых тэрыторый Расейскай імпэрыі. Прыкладамі могуць служыць асаблівыя "*данскі характар*" і "*данская мова*". І тое, і іншае вылучалася сваімі нюансамі. А данскія песьні! Цяжка на словах перадаць прыгажосьць мэлёдый гэтых песень. Аднак з такім апісаньнем выдатна даў рады Шолахаў у "Ціхім Доне".

---

[36] **Сяргей Болдыраў** (рас. *Сергей Иванович Болдырев,* 1871—1943), данскі архітэктар, будаўнік, пэдагог і грамадзкі дзеяч. Удзельнічаў у праекце й будаўніцтве Вазьнясенскага катэдральнага сабору й царквы Данской іконы Божай Маці, а таксама мноства галоўных будынкаў Новачаркаска. Нягледзячы на тое што да рэвалюцыі атрымаў званьні "тытулярнага", а пазьней "надворнага" саветніка, працаваў і пры савецкай уладзе.

[37] Зьвестак пра гэтую асобу ня знойдзена.

Казацкія прозьвішчы таксама гучаць своеасабліва. Вось тыповыя: Гыдоскаў, Валошынаў, Курмаяраў, Ломаў, Селіванаў, Касаротаў і г. д. Майму бацьку пісалі на канвэртах па-казацку: *"Обэру Сакычу Камінскаму"*. Данцы любілі свой народ і казалі пра сябе так: *"Мы прыродныя нацыянальныя данскія казакі!"*. Усе яны жылі на сваёй зямлі, як душа жадае, без клапот. І нікому яны не заміналі, пакуль не зьявіўся Ленін са сваёй хэўрай. Гэтыя параджэньні пекла пачалі зьнішчаць ня толькі данскіх казакаў, але й вольных стэпавых калмыкаў. Колькі ў некаторых чалавечых істотах закладзена злосьці! І гэтую "якасьць" ці то спарадзіла, ці то разбудзіла ленінская рэвалюцыя. Толькі падумаць, гэта ж недаступна розуму! Мужчын-казакаў па-зьверску забівалі ледзь не зь дзіцячага ўзросту! А жорсткае, ліхадзейскае абыходжаньне з каза́чкамі! З пункту гледжаньня Леніна, як данскія, так і кубанскія казакі падлягалі вынішчэньню, таму што яны былі "памагатымі" царскага рэжыму і, адпаведна, *"ворагамі рэвалюцыі"*! Няхай яна, гэтая рэвалюцыя, і ўсе яе прыслужнікі будуць праклятыя на векі вечныя!

Наша, Камінскіх, прырода, не такая. Як тата казаў: *"Для шчасьця патрэбная годнасьць сэрца, каб берагчы й помніць толькі добрае ў людзях. Людзей, асабліва блізкіх, трэба любіць і песьціць"*. І дадаваў: *"Дый добра жыць на сьвеце!"* Я помню, як ён часта гэта паўтараў у розных варыянтах. Я добра памятаю вучняў бацькі й іхную узаемную любоў. У гэтых адносінах я бачыў нешта боскае. А якія "балі" ладзіла мая мілая, незабыўная мамуля! І з нагоды прыходу вучняў, і ў дні імянінаў майго бацькі ды маіх, і ў дні нашых народзінаў! Дый проста так, парадаваць нас і сяброў. Як я любіў усё гэта, што патанула ў бяздоньні рэвалюцый і войнаў.

У 1935 годзе з парады бацькі я паступіў у Маскоўскае музычна-пэдагагічнае вучылішча (тэхнікум; цяпер Інстытут імя Гнесіных) па двух аддзяленьнях: фартэпіянным і кампазыцыі. Я быў вельмі рады гэтай акалічнасьці. Навучальная ўстанова была зусім прыстойная, вядома, не кансэрваторыя, але ў 1935-м я быў для кансэрваторыі пераросткам — 29 гадоў. За навуку я ўзяўся з энтузіязмам. Асабліва мяне прыцягвала кампазыцыя, і, папраўдзе, займаўся я няблага. У гэтых жа сьценах вучыўся Хачатуран[38], але ён быў там перада мною. У СССР

[38] **Арам Хачатуран** (рас. *Арам Ильич Хачатурян*, 1903—1978), найбуйнейшы армянскі й савецкі кампазытар, дырыжор і пэдагог, грамадзкі дзеяч. Аўтар трох балетаў, трох сымфоній, шасьці канцэртаў, вялікай колькасьці інструмэнтальных, вакальных і харавых музычных твораў. У той жа час Хачатуран быў адным з найбольш аблашчаных савецкай уладай кампазытараў (ляўрэат Ленінскай і чатырох Сталінскіх прэмій, дзяржаўных прэмій Арменіі й СССР, акадэмік АН Армянскай ССР).

пра Хачатурана было прынята выказвацца з доляй гіроніі. Я заўжды тлумачыў гэта асабістай зайздрасьцю. Арам Ільліч быў чалавек вельмі таленавіты — вось, напрыклад, ягоны балет "Гаянэ"... А яго скрыпічны канцэрт, гэта ж проста шэдэўры!

З задавальненьнем успамінаю маіх пэдагогаў: Г[енрыха] Г[устававіча] Нейгауза[39], Я[ўгена] І[осіфавіча] Мэснэра[40], самога Міхаіла Фабіянавіча Гнесіна![41] У 1940 годзе я закончыў гэтую адметную ўстанову як піяніст і кампазытар, і мяне разьмеркавалі ў Менск. Там жа я напісаў 1-ы канцэрт для фартэпіяна з аркестрам на беларускія народныя тэмы. Іграла менская піяністка Эва Якаўлеўна Эфрон, і іграла добра![42]. Ёй падабаўся канцэрт, што спрыяла натхнёнаму выкананьню. Потым канцэрт запісалі ў Маскве на плёнку з аркестрам радыёкамітэту (дырыжор — Кавалёў[43]). Неўзабаве ён быў выкананы

---

[39] **Генрых Нейгауз** (рас. *Генрих Густавович Нейгауз*, 1888—1964), выбітны савецкі канцэртны піяніст і пэдагог. Народны артыст РСФСР.

[40] **Яўген Мэснэр** (рас. *Евгений Иосифович Месснер*, 1897—1967), расейскі кампазытар, тэарэтык і пэдагог. Працаваў адначасова ў вучылішчы і ў Маскоўскай кансэрваторыі. Мэснэр пісаў у шматлікіх музычных жанрах, адметнае месца ў ягонай сымфанічнай і інструмэнтальнай творчасьці займаў фальклёр.

[41] **Міхаіл Гнесін** (рас. *Михаил Фабианович Гнесин*, 1883—1957), расейскі й савецкі кампазытар, пэдагог, тэарэтык і грамадзкі дзеяч. Нарадзіўся ў сям'і казённага рабіна, галоснага гарадзкой думы ў Растове. Міхаіл Гнесін паступіў у Маскоўскую кансэрваторыю па заканчэньні рэальнага вучылішча, калі яму было 16. Па клясе кампазыцыі вучыўся ў Мікалая Рымскага-Корсакава, Анатоля Лядава, а потым у Аляксандра Глазунова (1901—1909). Узяў актыўны ўдзел у забастоўцы 1905 году супраць расстрэлу рабочых 9 студзеня, за што й быў неадкладна выключаны. Дзякуючы гарачай падтрымцы Рымскага-Корсакава, Лядава й Глазунова быў аднаўлены ў кансэрваторыі на год пазьней. Па яе заканчэньні паехаў на свой ўлюбёны Дон, прадоўжыў там працаваць над напісаньнем музычных твораў, займаўся пэдагагічнымі й грамадзкімі справамі. Ён — аўтар мноства фартэпіянных п'есаў, сымфанічнай, інструмэнтальнай, харавой і сольнай музыкі. У 1923 г. Гнесін вярнуўся ў Маскву, дзе ў музычным вучылішчы, кіраваным сёстрамі, стварыў факультэт кампазыцыі. Быў прафэсарам Маскоўскай, а пазьней — Ленінградзкай кансэрваторыі. Аўтар асноватворных працаў па тэорыі музыкі й кампазыцыі. Чалавек з абвостраным пачуцьцём справядлівасьці, заўжды ставаў на бок гнаных. Так, Гнесін быў адным з нямногіх, хто ўголас падтрымліваў Пракоф'ева й Шастаковіча.

[42] **Эва Эфрон**, вядучая піяністка БССР, таксама эмігравала, але ў Нямеччыну й крыху раней за бацькоў. Відаць, таму яе імя зьнікла зь беларускіх крыніцаў.

[43] **Аляксей Кавалёў** (рас. *Алексей Матвеевич Ковалёв*, ? — ?), галоўны дырыжор усесаюзнага радыё.

у Калённай залі той жа піяністкай, Э[вай] Я[каўлеўнай] Эфрон, але з дырыжорам Натанам Рахлінам[44]. Наступнае ягонае публічнае выкананьне было ў Менску, перад самай вайной і з маім удзелам. Я іграў канцэрт з дырыжорам Афанасьевым[45] і зь менскім філярманічным аркестрам. Зразумела, я пісаў музыку й даўней, але з гэтым канцэртам зьведаў першы творчы посьпех.



Дзьмітры Камінскі на фроньце. 1942 г.

А ў 1941 годзе пачалася жахлівая вайна!!! Яе немагчыма апісаць, дый ці трэба? Гінула ўсё. Гэты вар'ят Шыкльгрубэр — Гітлер! З самага пачатку нечакана гнюсна паказалі сябе немцы. Саветы таксама былі не на вышыні. З аднаго боку, выявілася поўная бяздарнасьць камуністычных правадыроў (пра гэтую бяздарнасьць няможна расказаць ні на якой чалавечай мове). А шалёная жорсткасьць гэтых правадыроў, пачынаючы зь іх "вялікага" Леніна? Дый тых, хто прыйшоў яму на зьмену, адзін Сталін чаго варты... Я пайшоў на фронт у 1941 годзе, мяне прызначылі камандзірам выязной канцэртнай брыгады на Паўднёва-Заходнім фронце. Мы рэдка, амаль ніколі не выступалі ў тыле да канца 1943 году. А на перадавой было горача й страшна. Мае любімыя гарады выгаралі: Севастопаль, Новачаркаск, Таганрог, Растоў-на-Доне — гарэлі, Ялец гарэў! Варонеж згарэў на 94 %, Менск — практычна на 100 %... А людзі! Саветы прыхоўвалі сапраўдныя зьвесткі, але падобна, што колькасьць ахвяраў гэтай страшнай вайны толькі ў СССР наблізілася да 30 мільёнаў чалавек. Божа мой, які гэта быў бясконцы кашмар! Самалётныя й артылерыйскія бамбёжкі! А танкі й кулямёты! А голад і смага! Мне пашанцавала больш за іншых, а колькі сяброў загінула! Лёня, мой любімы сябра, Лёня Сарокін, ніколі не перастану

[44] **Натан Рахлін** (рас. *Натан Григорьевич Рахлин,* 1906—1979), вядучы савецкі дырыжор.

[45] **Барыс Афанасьеў** (рас. *Борис Игнатьевич Афанасьев*, 1920—1992), вядомы савецкі дырыжор, народны артыст РСФСР (1971). Творчы шлях пачаў канцэртмайстрам аркестру Беларускага драматычнага тэатру, у якім зь невялікім перапынкам працаваў з 1934 да 1943 г.

аплакваць цябе... Зь якой радасьцю я аддаў бы табе або тваім дзецям мае ваенныя ўзнагароды! Але каму патрэбныя гэтыя савецкія бляшкі? Ды што там! Жыцьцё б за цябе аддаў! Але ў цябе, як і ў мільёнаў іншых загінулых, няма дзяцей. І ўсё гэта праз брыдкую тройцу — Ленін — Гітлер — Сталін — ды кагорты іх памагатых, якім няма супыну!

Так, у канцы 1943 году мяне дэмабілізавалі, накіравалі ў Варонежскі дзяржаўны драматычны тэатр загадчыкам музычнай часткі. Разбураны бамбёжкамі ў 1942 годзе будынак тэатру аднавілі неўзабаве па маім прыезьдзе, на пачатку 1944 году. За шэсьць гадоў да мяне ў горадзе жыў Восіп Мандэльштам[46], яго там жа арыштавалі, і неўзабаве паэт загінуў. Не давялося сустрэцца... Агулам праца ў Варонежы была добрай па тых часах, але мне хацелася займацца пэдагагічнай дзейнасьцю й кампазыцыяй, а амаль увесь час марнаваўся на тужлівую адміністрацыйную працу. І мяне цягнула ў Менск, куды я й вярнуўся ў 1946 годзе.

Нягледзячы на тое што бацькам маім не дазвалялася жыць у сталічных гарадах (праз паходжаньне мамы), я спадзяваўся, што пасьля такой ПЕРАМОГІ й стольkіх ахвяраў паветра ў СССР разрэдзіцца, бацькі прыедуць да мяне, і мы зноў зажывем разам. Але гэтага ня здарылася. Я змог прывезьці зусім хворую маму толькі пасьля сьмерці таты.

У Менску я многа й шчасна працаваў. Мяне ад самага пачатку скарылі багатыя народныя мэлёдыі краіны, дзе вясёлыя, жыцьцярадасныя, танцавальныя рытмы перапляталіся часам са своеасаблівай песеннай поліфаніяй. Усё гэта пачасту проста прасілася ў тэму сымфанічнага й поліфанічнага абрамленьня. Дзякуючы гэтым тэмам я напісаў сем фартэпіянных канцэртаў, два скрыпічныя, адзін віялянчэльны й многа канцэртных п’есаў для народных інструмэнтаў — з акампанемэнтам як народных, так і сымфанічных аркестраў. Мне вельмі мілыя былі беларускія тэмы з выкарыстаньнем цымбалаў (солё) у суправаджэньні сымфанічнага аркестру. Асабліва я любіў поліфанічнае пісьмо: напісаў у суме 24 прэлюдыі й фугі на беларускія народныя тэмы (па 12 кожнай). Вядома, з аднаго боку мне можна закінуць падабенства маіх фугаў да фугаў Баха[47]. Але з другога

[46] **Восіп Мандэльштам** (рас. *Осип Эмильевич Мандельштам*, 1891—1938), найбуйнейшы расейскі паэт Срэбранага веку, пазьней савецкі паэт, празаік, перакладчык, эсэіст і літаратуразнаўца. Загінуў у савецкім далёкаўсходнім перасыльным пункце.

[47] **Іаган Сэбасьцьян Бах** (ням. *Jóhann Sebástian Bach,* 1685—1750), найбольш вядомы нямецкі кампазытар эпохі барока, арганіст-віртуоз і пэдагог. Напісаў звыш тысячы твораў, паспрыяў эвалюцыі поліфанічнага жанру.

— мова поліфаніі заўсёды нагадвае чароўныя інтанацыі вялікага Баха. Дарэчы, чым больш мае фугі прыпадабняліся да Бахавых, тым больш яны мне падабаліся.



Дзьмітры Камінскі. 1968 г.

У Менску я знайшоў Дору Абрамаўну, таленавітага выкладчыка па фартэпіяна ў музычнай школе-дзесяцігодцы для адораных дзяцей. Потым Дора Абрамаўна стала маёй жонкай, і мы зь ёй пражылі шчасьліва не адзін дзясятак гадоў у гэтым горадзе. Там жа мяне прызначылі старшынёй Саюзу кампазытараў БССР, прысвоілі званьне “Заслужаны дзеяч мастацтваў”, чамусьці ўзнагародзілі ордэнам Дружбы народаў, увялі ў камітэт па ленінскіх прэміях пры Савеце міністраў СССР. Зрэшты, апошняе прызначэньне я ўпадабаў: можна было мець зносіны з Шастаковічам[48]. Дзьмітрыя Дзьмітрыевіча я заўсёды вельмі любіў, дый цяпер зь пяшчотай шаную ягоную памяць.

Аднак я паставіўся з пагардай да ўсіх гэтых “выгодаў” (адзін Бог ведае, што я да іх за Саветамі ніколі й не імкнуўся) і не стаў хаваць жаданьня пакінуць Савецкі Саюз для *“ўзьяднаньня сям’і”*. Я на ўсё жыццё ўдзячны Доры Абрамаўне за тое, што яна дапамагла мне зьехаць з Савецкага Саюзу ў Канаду, дзе мы шчасьліва жывём зь ёй, дочкамі і ўнукамі. Ну а да ад’езду было некалькі спэктакляў разыграна. Так, быў скліканы спэцыяльны сход Саюзу кампазытараў БССР, на якім мяне павінны былі з трэскам выключыць з гэтага саюзу. Я, вядома, не прыйшоў, але мае “сабраты” й безь мяне справіліся! Пазьней, выпадкова мяне сустракаючы, кожны зь іх паўтараў адно й тое: *“Вы ж разумееце, што мяне прымусілі!”*. Гэта было настолькі аднастайна, што я стараўся да ад’езду іх усіх абмінаць.

---

[48] **Дзьмітры Шастаковіч** (рас. *Дмитрий Дмитриевич Шостакович*, 1906—1975), найбуйнейшы кампазытар XX ст., доктар мастацтвазнаўства, быў і музычна-грамадзкім дзеячам, і піяністам-віртуозам. Шастаковіч — аўтар 12 сымфоній, 6 канцэртаў, 3 балетаў, вялікай колькасьці камэрных, вакальных твораў, музыкі да спэктакляў і кінафільмаў. Нягледзячы на мноства ўзнагародаў ад савецкага ўраду за творчасьць, Шастаковіч пацярпеў ад улады, якая ў розныя часы абвінавачвала яго ў касмапалітызьме й іншых “грахах” савецкага ўзору.

## Алесь Карповіч: сустрэча па перапісцы двух беларускіх кампазытараў

*Наступная частка ўспамінаў была выкліканая перапіскай зь вядомым на выгнаньні беларускім кампазытарам, фальклярыстам і музыказнаўцам Алесем Карповічам (1909—1992). Перапіска пачалася з ініцыятывы маёй маці. Справа ў тым, што неўзабаве па эміграцыі ў Канаду ў Дзьмітрыя Раманавіча абвастрылася хвароба Альцгеймера, адна з прыкметаў якой — апатыя. Вось мама й шукала шляхі, каб перамагчы адсутнасьць цікавасьці да жыцьця ў свайго мужа. Яго ўспаміны — вынік гэтых намаганьняў, як, зрэшты, і яе асабістая перапіска з Алесем Карповічам, якая пабудзіла Дзьмітрыя Камінскага напісаць некалькі нарысаў пра кампазытарскае жыцьцё ў паваеннай Беларусі.*

*Лёс Алеся Карповіча — беларускага патрыёта, таленавітага музыкі, кампазытара й музыказнаўцы — такі ж нялёгкі, як і лёс ягонай радзімы, якую ён вымушаны быў пакінуць, каб ня трапіць у капцюры сталінскіх бандытаў пасьля таго, як краіна вызвалілася ад гітлераўскіх. "Віна" ягоная палягала ў тым, што, як і мільёны беларусаў, ён апынуўся ў мяху нямецкай акупацыі, што прыйшла імгненна праз бездапаможнасьць савецкіх армій. У 1941 г. яны ня здолелі аказаць супраціву нашмат пераўзыходзячай іх ваеннатэхнічнай магутнасьці гітлераўцаў.*

*Алесь Карповіч закончыў Маскоўскую кансэрваторыю па клясе тэорыі музыкі й кампазыцыі ў 1937 годзе. Ягоная дыплёмная праца была прысьвечаная гісторыі й аналізу музыкі Клода Дэбюсі. Да таго часу Карповіч напісаў некалькі поліфанічных твораў для фартэпіяна й струнны квартэт, санатнае алегра й музыку да балету "Саламея". Карповіч, на ягоную просьбу, быў разьмеркаваны на працу ў Менскую кансэрваторыю. Не зважаючы на салідную выкладчыцкую нагрузку, творчасьць Карповіча працягвала разьвівацца ў двух кірунках — кампазыцыі й музыказнаўства. З 1937 да 1944 году ён стварыў зборнік музычна-пэдагагічных п'есаў для фартэпіяна й склаў зборнікі беларускай народнай музыкі ва ўласнай аранжыроўцы, напісаў рамансы на вершы беларускіх і ўкраінскіх паэтаў, тарантэлу, санаты й 12 прэлюдый для фартэпіяна. У той жа час ён падрыхтаваў манаграфіі й артыкулы пра творчасьць беларускіх кампазытараў: Багатырова[49],*

[49] **Анатоль Багатыроў** (1913—2003), адзін з заснавальнікаў беларускай нацыянальнай кампазытарскай школы. Нарадзіўся ў Віцебску, закончыў Белдзяржкансэрваторыю (БДК) у 1937 г. па клясе кампазыцыі ў Васіля Залатарова. З 1948 да 1961 г. — рэктар БДК. Аўтар араторыі, дзьвюх опэраў і шасьці кантатаў. Кампазытар быў прылашчаны савецкім урадам: атрымаў

*Аладава*[50]*, Цікоцкага*[51]*, Туранкова*[52]*, Падкавырава*[53]*, Шчаглова-*

Сталінскую прэмію II ступені, у 1941 г. — званьне народнага артыста БССР, меў некалькі мэдалёў, шэсьць ордэнаў (сярод іх і ордэн Дружбы народаў). Багатыроў быў выдатным пэдагогам і добра арыентаваўся ў палітыцы — апошняе не замінала яму пісаць першаклясную музыку.

[50] **Мікалай Аладаў** (1890—1972), беларускі кампазытар, пэдагог, адзін з арганізатараў БДК, рэктарам якой зьяўляўся ў 1944—1948 гг. Закончыў Пецярбурскую кансэрваторыю экстэрнам у 1910 г., у Менску жыў і працаваў з 1924 г. (зь перапынкам на гады вайны, калі выкладаў у Саратаўскай кансэрваторыі). Аладаў лічыцца адным з заснавальнікаў сучаснага опэрнага, сымфанічнага, камэрна-інструмэнтальнага, камэрна-вакальнага, харавога й кантатнага музычнага мастацтва. Народны артыст БССР (1955).

[51] **Яўген Цікоцкі** (1893—1970), беларускі кампазытар і пэдагог. Народны артыст БССР (1953) і СССР (1955). Цікоцкі нарадзіўся ў сям'і патомнага двараніна Карла Міхайлавіча Цікоцкага — капітана першага рангу, пазьней віцэ-адмірала. Карл Міхайлавіч цудоўна іграў на флейце й віялянчэлі. Дзяцінства Яўгена Цікоцкага праходзіла ў Царскім Сяле, дзе ён закончыў рэальнае вучылішча. Браў рэгулярныя прыватныя ўрокі музыкі й паступіў у Пецярбурскі псыханэўралягічны інстытут, а ў 1914 г. быў накіраваны на фронт Першай сусьветнай вайны. Пасьля рэвалюцыі (як расказваў мне Дзьмітры Раманавіч) Яўген Карлавіч далучыўся да белага руху, але ў 1919 г. добраахвотна перайшоў у Чырвоную армію, зь якой дэмабілізаваўся толькі ў 1922 г. Нягледзячы на ягоную бездакорную службу ў чырвоных і дасягненьні ў сфэры музычнага мастацтва Беларусі, органы бясьпекі, паводле майго айчыма, заўсёды *"трымалі Цікоцкага пад прыцэлам"*. Спачатку ён асталяваўся ў Бабруйску, дзе працаваў у музычнай школе й займаўся кампазыцыяй, а потым пераехаў у Менск, працягваючы пэдагагічную й творчую працу. Уступіў у Саюз кампазытараў СССР у 1932 г., у 1944—1951 гг. кіраваў дзяржаўнай філармоніяй у Менску.

[52] **Аляксей Туранкоў** (1886—1958), кампазытар, выпускнік Пецярбурскай кансэрваторыі па клясе кампазыцыі ў прафэсароў А. Лядава й М. Сакалова. Адзін з родапачынальнікаў беларускай масавай песьні, хору й раманса; напісаў некалькі опэраў, балетаў, кантатаў, сюітаў, твораў інструмэнтальнай музыкі, мноства вакальных твораў для салістаў і хораў. З 1918 г. жыў у Гомелі, дзе іграў у аркестры, кіраваў харавымі калектывамі, арганізаваў музычную школу, загадваў музычнай сэкцыяй аддзелу народнай адукацыі. З 1934 г. — у Менску. Быў дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР, з 1940 г. — заслужаны дзеяч мастацтваў. Туранкоў, як і большасьць беларусаў, нечакана для сябе апынуўся пад нямецкай акупацыяй (відаць, праз гэта Карповіч так цікавіўся ягоным лёсам). У 1941—1944 гг. працаваў у менскім і рыскім выдавецтвах, якія выпускалі падручнікі, літаратуру для моладзі. За гэтае "злачынства" быў сасланы ў ГУЛАГ, дзе ледзь выжыў. Рэабілітаваны пасьмяротна, у 1959 г.

[53] **Пётар Падкавыраў** (1910—1977) зь дзяцінства граў у аркестры народных інструмэнтаў, закончыў Свярдлоўскі музычны тэхнікум (1928—1933), дзе

*Куліковіча[54], Залатарова[55] і іншых. Васіль Андрэевіч Залатароў выхаваў цэлую плеяду беларускіх кампазітараў, сярод якіх такія знакамітыя, як Багатыроў, Аладаў, Лукас[56], Алоўнікаў[57], Падкавыраў. Яго родзіч Анатоль Залатароў быў вучнем бацькі Дзьмітрыя Камінскага. Думаецца, што й сам Дзьмітры Раманавіч трапіў у Беларусь дзякуючы рэкамэндацыі Залатаровых.*

займаўся й народнымі інструмэнтамі, і кампазыцыяй. У 1933 г. Падкавыраў прыехаў у Менск для заняткаў кампазыцыяй у клясе Васіля Залатарова, які пасьпяхова закончыў у 1937 г. Аўтар опэры, дзьвюх кантатаў, двух харэаграфічных эцюдаў, дзьвюх увэрцюраў, трох скрыпічных канцэртаў, трох сымфоній і многіх іншых твораў, як буйных, гэтак і камэрных (ладная частка — для народных інструмэнтаў).

54 **Мікалай Шчаглоў-Куліковіч** (1893—1969), беларускі кампазытар, дырыжор, музыказнаўца, аранжыроўшчык беларускай народнай музыкі. Выпускнік Маскоўскай кансэрваторыі, аўтар опэраў, сымфоній, мноства вакальных твораў. У Менску ён жыў з 1936 г., быў заснавальнікам і першым галоўным дырыжорам Менскага тэатру опэры й балету. З 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне, з 1950 г. — у ЗША.

55 **Васіль Залатароў** (рас. *Василий Андреевич Золотарёв*, 1873—1964), расейскі й беларускі кампазытар, прафэсар. Добры прыяцель бацькі Дзьмітрыя Камінскага, якому ў свой час даручыў навучыць ігры на скрыпцы свайго родзіча, Анатоля Канстанцінавіча Залатарова. Яшчэ на пасадзе прафэсара Маскоўскай дзяржкансэрваторыі імя П. І. Чайкоўскага Васіль Залатароў выхаваў плеяду будучых вядучых беларускіх кампазытараў, а калі пераехаў у Менск, то працягнуў гэтую працу. У 1932 г. Залатароў атрымаў званьне “Заслужаны артыст РСФСР”, у 1949 г. — “Народны артыст БССР”. У 1950 г. ён стаў ляўрэатам Сталінскай прэміі II ступені.

56 **Дзьмітры Лукас** (1911—1979), беларускі кампазытар і тэарэтык музыкі. Нарадзіўся ў Сьвянцянах, закончыў БДК у 1941 г. па клясе кампазіцыі ў Васіля Залатарова. Лукас — заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1955). Пасьля вайны працаваў галоўным рэдактарам Беларускага радыё, а потым і кіраўніком беларускага радыёвяшчаньня. Ён таксама ўзначальваў вакальную катэдру Менскага пэдагагічнага інстытуту. Аўтар дзьвюх араторый, чатырох опэраў, чатырох струнных квартэтаў, кантаты, музыкі да фільмаў і спэктакляў, мноства песень.

57 **Уладзімер Алоўнікаў** (1919—1996), беларускі кампазытар. Як і Лукас, закончыў БДК у 1941 г., па клясе кампазыцыі ў Залатарова й па клясе фартэпіяна ў Бэргэра. Алоўнікаў пайшоў на фронт і ўдзельнічаў у баях зь першых дзён вайны. Сьледам за сваім пэдагогам ён выкладаў у БДК (з 1947 г.), стаў дацэнтам (1966), прафэсарам (1980), а ў 1962—1982 гг. быў рэктарам кансэрваторыі. Папулярнасьць прыйшла да Уладзімера Уладзімеравіча дзякуючы яго камэрнай творчасьці. Яго песьні — пераважна ваенна-патрыятычнага характару — ня толькі ўваходзілі ў рэпэртуар беларускіх вакалістаў і харавых калектываў, але і былі запатрабаваныя і ў іншых рэспубліках СССР.


Алесь Карповіч. 1940-я гг.

*Пасьляваенны пэрыяд для Алеся Карповіча пачаўся зь лягераў саюзьнікаў. Спачатку ён трапіў у той, дзе ўтрымліваліся пераважна ўкраінцы, а потым перайшоў у "свой", беларускі. Карповіч сьведчыць, што ў абодвух лягерах, дзе ён знаходзіўся з канца 1944 г., культурнае жыцьцё было багатае й разнастайнае. Ён, напрыклад, у гэтых лягерах ставіў опэры, пісаў вакальную музыку на словы пераважна беларускіх (і ўкраінскіх) паэтаў. Некалькі твораў кампазытар напісаў для фартэпіяна (12 прэлюдый, вальс, "Беларускую рапсодыю" й "Такату" для аргану).*

*У 1947—1951 гг. большасьць насельнікаў лягераў (зь ліку тых, каго саюзьнікі не выдалі Сталіну — было выдадзена звыш чатырох мільёнаў чалавек) зьехалі з Эўропы ў ЗША, Канаду, Аўстралію, Новую Зэляндыю й іншыя далёкія краіны. Сям'я Алеся Карповіча ня трапіла ў гэтую хвалю: празь цяжкую хваробу дачкі іх ніхто не прымаў. Давялося асвойвацца ў Нямеччыне: там пачаліся пошукі працы, якія пасьля многіх няўдачаў скончыліся ў 1952 годзе месцам настаўніка ў музычнай школе Альдэнбургу. Спачатку кампазытар атрымаў гадзіны ў выкладаньні акардэону, потым дадаліся клясы па гітары, флейце й нарэшце па ягоным улюбёным інструмэнце — фартэпіяна. Праца, паводле прызнаньня кампазытара, была катаржная, але ён цешыўся тым, што скончылася безнадзейная лягерная залежнасьць, што зьявілася магчымасьць самастойна ўтрымліваць сям'ю[58].*

*У школе Карповіч адпрацаваў 25 гадоў, да пэнсыі. Рэдкія вольныя хвіліны аддаваліся кампазыцыі. Ён напісаў мноства песень на вершы беларускіх паэтаў, пачынаючы ад тэкстаў клясыкаў XIX—XX стст. да лірыкі такіх паэтаў эміграцыі, як Натальля Арсеньнева (1903—1997), Міхась Кавыль (1915—2017), Рыгор Крушына (1907—1979), Масей Сяднёў (1913—2001) і інш. Вось як кампазытар характарызуе беларускую песенную творчасьць напрыканцы*

[58] Гл. інтэрвію Алеся Карповіча з д-рам Запруднікам у: Беларус. 1984. № 321. С. 5—6.

*інтэрвію з д-рам Запруднікам: "Беларуская песьня — гэта нашае нацыянальнае багацьце, якім мы з правам можам ганарыцца й пачэсна рэпрэзэнтаваць сябе ўва ўсім сьвеце".*

*Алесь Карповіч, безумоўна, прызвычаіўся да Альдэнбургу, але да канца жыцьця ня толькі тужыў па радзіме, а й пакутваў праз недахоп непасрэдных зносінаў з супляменьнікамі, якіх не было ні ў горадзе, ні ў навакольлі. Напэўна, менавіта таму ён так узрадаваўся, калі атрымаў ад мамы пісьмо, і неадкладна на яго адказаў*[59]*.*

* * *

*Альдэнбург, 21 сьнежня 1982 г.*

Паважаная Дора (напішыце Ваша імя па бацьку) Камінская!

Прыемнай нечаканасьцю было для мяне Ваша пісьмо! Як быццам прыадчыніліся дзьверы ў далёкае мінулае. Вам у 1937 годзе было 14 гадоў, а мне — 27, а зараз мне ўжо за 70, усё жыцьцё ззаду, засталася толькі старасьць зь яе немаччу, хваробамі, дактарамі й таблеткамі. Але даваенны Менск, кансэрваторыю, пэдагогаў і некаторых студэнтаў я памятаю яшчэ добра й іх лёс мяне вельмі цікавіць, таму буду рады, калі нашая перапіска замацуецца. Я цудоўна памятаю несамавіты, цесны, чырвона-цагляны будынак кансэрваторыі зь невялікай заляй на верхнім паверсе й буфэтам на двары. У час вайны там зьмяшчалася ваенная камэндатура, і ўсе інструмэнты былі проста ў двор выстаўленыя — пад сонца, дождж і сьнег. Некалькі інструмэнтаў мне ўдалося ўратаваць, разьмясьціўшы іх па дамах нямногіх знаёмых, якія вярнуліся ў Менск; што сталася зь іншымі — ня ведаю.

Добра памятаю дырэктараў кансэрваторыі, спачатку Гантмана[60], потым Бэргэра[61], заўгасаў Цыпкіна й Фішара[62], пэдагогаў фартэпіяннага

---

59 Камэнтар Зіны Гімпелевіч.

60 Магчыма, маецца на ўвазе **Оскар Гантман**, у канцы 1930 —пачатку 1940-х гг. дырэктар Беларускага дзяржаўнага тэатру опэры й балету, пазьней — дырэктар Рускага тэатру ў Менску.

61 **Міхаіл Бэргэр** (1909—1981), адзін з заснавальнікаў беларускай фартэпіяннай школы, дырэктар БДК у 1937—1941 гг. У 1940 г. атрымаў званьне заслужанага дзеяча мастацтваў, у часе вайны ўзначальваў франтавую канцэртную брыгаду. Бэргэр быў выкладчыкам у маёй мамы й лічыў яе самай таленавітай вучаніцай за ўвесь час сваёй багатай пэдагагічнай дзейнасьці. Ён шчыра смуткаваў, што вайна перашкодзіла ёй стаць вядучай канцэртнай піяністкай краіны (гэта было ягонае прадказаньне, калі ён прыняў яе ў сваю клясу яшчэ ў музычным вучылішчы, а праз два гады перавёў у кансэрваторыю).

62 Зьвестак пра абодвух заўгасаў няма.

факультэту Клумава[63], Шаршэўскага[64], пазьней — Ілю Бэрман[65], вакалістаў Ціханава[66], Паніну, Карына, Бандарэнка, Ручаёву, скрыпачоў Бясьсмертнага[67], Амітон[68], духавікоў Папавіцкага[69], Сьцягеннага[70], харавікоў Шварц[71] і Грынбліт[72],

---

[63] **Аляксей Клумаў** (1907—1944), беларускі кампазытар, піяніст і пэдагог. Закончыў кансэрваторыю па клясе фартэпіяна ў Генрыха Нейгауза, а па клясе кампазыцыі — у Міхаіла Гнесіна. У 1940 г. атрымаў званьне заслужанага дзеяча мастацтваў БССР. Дзьмітры Камінскі яго часта згадваў, сьцьвярджаючы, што заўчасная сьмерць Клумава не дала яму стаць адным зь вядучых кампазытараў XX ст.

[64] **Рыгор Шаршэўскі** (1913—1991), выбітны піяніст і добры кампазытар, які таксама займаўся і ў Генрыха Нейгауза, і ў Міхаіла Гнесіна. Дзьмітры Камінскі й Рыгор Шаршэўскі былі блізкімі сябрамі.

[65] Пакуль няма зьвестак пра піяністку Ілю Бэрман і пра вакалістаў Паніну, Бандарэнка й Ручаёву.

[66] **Павал Ціханаў** (1877—1944), опэрны сьпявак, з 1940 г. — прафэсар БДК па клясе вакалу; заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1940).

[67] **Аркадзь Бясьсмертны** (1893—1955), выпускнік Петраградзкай кансэрваторыі (1917), скрыпач-віртуоз, дырыжор і пэдагог, заснавальнік струнна-смычковай катэдры ў Менскай кансэрваторыі. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1940).

[68] **Аляксандар Амітон** (рас. *Александр Наумович Амитон,* 1911—1969) закончыў Маскоўскую кансэрваторыю ў 1935 г. і асьпірантуру пры ёй у 1937 г. Ня раз перамагаў на скрыпічных конкурсах. З 1941 да 1944 г. выкладаў у Саратаўскай кансэрваторыі й даваў сольныя канцэрты. У 1937—1941 гг. і ў 1944—1951 гг. выкладаў у БДК і загадваў катэдрай струнных інструмэнтаў. Заслужаны артыст БССР (1940).

[69] **Георгі Папавіцкі** (рас. *Георгий Константинович Поповицкий,* 1890—1948) закончыў Пецярбурскую кансэрваторыю па клясе габою ў 1911 г. і быў адным з найлепшых габаістаў у Расейскай імпэрыі й СССР. У 1912—1929 гг. і ў 1941—1948 гг. ён працаваў у Саратаўскай кансэрваторыі, а ў 1933—1941 гг. — у БДК.

[70] Зьвестак пра валтарніста **Я. Сьцягеннага** мала; вядома, што, апрача выкладаньня ў БДК, ён іграў у беларускім сымфанічным аркестры.

[71] **Лідзія Шварц**, выпускніца Маскоўскай кансэрваторыі па клясе прафэсара Дзьмітрыеўскага, да вайны была адным з стаўпоў катэдры харавога дырыжыраваньня ў БДК. Яе роля й дзейнасьць апісаныя ў публікацыі А. П. Зелянковай і М. Ф. Маслава “*История кафедры хорового дирижирования Белорусской государственной консерватории*” (праца 1972 г., апублікаваная ў 2013 г. тут: referatdb.ru/literatura/55793/index.html). Публікатары, аднак, не далі падрабязных біяграфічных зьвестак, пазначыўшы толькі, што Лідзія Вячаславаўна загінула ў партызанскім руху як удзельніца супраціву гітлераўцам.

[72] **Барыс Грынбліт** не фігуруе ў публікацыі па гісторыі катэдры харавога

тэарэтыкаў Мацісана[73], Шнітмана[74], Зінчука[75], кампазытара Залатарова, гісторыка Мухарынскую[76]. Ды яшчэ піяністку Зільбэрбэрг[77], пэдагогаў абавязковага ф[артэпія]на Пілеман-Зубковіч[78], Маўшовіч,

---

дырыжыраваньня, як і многія музыкі, згаданыя Карповічам. Праз трагічныя падзеі, справакаваныя прыхільнікамі Леніна — Сталіна — Гітлера, вялізная колькасьць беларусаў і іх імёны зьніклі беззваротна. Апрача Лідзіі Шварц, заснавальнікам катэдры ў публікацыі Зелянковай і Маслава названы Ісыдар Бары: *"Адным зь першых кіраўнікоў дырыжорска-харавога факультэту БДК быў Ісыдар Германавіч Бары, выпускнік Маскоўскай кансэрваторыі па клясе П. Р. Часнакова. Ісыдар Германавіч быў вельмі патрабавальным і бескампрамісным пэдагогам, які ўмеў сваім натхнёным стаўленьнем да музыкі прымусіць кожнага вучня дасканала і ўсебакова адпрацоўваць харавыя партытуры, якія дырыжыраваліся. Разам з тым карпатлівая праца над творам ня мела характару тэхніцызму, а заўсёды спалучалася зь непасрэдным і глыбокім адчуваньнем прыроды мастацкага вобразу"*. Бары, як і Шварц, загінуў у партызанскім атрадзе.

[73] **Міхаіл Мацісан** (1881—1940), беларускі савецкі музыказнаўца, хормайстар і кампазытар.

[74] **Товій (Тэўе) Шнітман** (1879—1942) загінуў у Менскім гета, кампазытар, музыказнаўца, дырыжор, адзін з заснавальнікаў і выкладчыкаў музычна-тэарэтычных дысцыплінаў з моманту адкрыцьця ў Менску музычнага тэхнікуму (1924). Таксама выкладаў у Менскай кансэрваторыі пасьля яе адкрыцьця ў 1932 г.

[75] **Марк Зінчук** (рас. *Марк Васильевич Зинчук*, 1904—1945), кампазытар, музыказнаўца, дырыжор; выпускнік Маскоўскай кансэрваторыі (1934), у якой быў пакінуты выкладчыкам (1934—1935) да яго пераходу на прафэсарскую пасаду ў БДК. Загінуў на фронце ў апошнія дні вайны.

[76] **Лідзія Мухарынская** (рас. *Лидия Сауловна Мухаринская*, 1906—1987), выпускніца Маскоўскай кансэрваторыі (1939), музыказнаўца. Выкладала ў Маскве, Ленінградзе, а ў 1939—1941 гг. і з 1946 г. — у БДК. Лідзія Мухарынская — вэтэран вайны, стала вядучым тэарэтыкам беларускай народнай песеннай творчасьці, аўтарам найлепшых манаграфій па гэтай тэматыцы. За больш чым 50 гадоў пэдагагічнай дзейнасьці яна выхавала большасьць беларускіх тэарэтыкаў музыкі. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1974).

[77] **Яўгенія Зільбэрбэрг-Скупнік** (1873?—1942) закончыла Пецярбурскую кансэрваторыю па клясе прафэсара Есіпавай і Венскую па клясе прафэсара Лешаціцкага. У 1933—1941 гг. — прафэсар БДК, атрымала званьне "Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР" у 1940 г. Загінула ў Менскім гета.

[78] **Эльза Зубовіч-Пілеман** (1895—1983) нарадзілася ў Менску. Выпускніца Бэрлінскай кансэрваторыі па клясе П. Юона, адна зь першых жанчын — прафэсійных беларускіх кампазытараў. Музыказнаўца, прафэсар па клясе кампазыцыі, вакалу, пэдагог па фартэпіяна. Выкладала ў БДК з дня заснаваньня кансэрваторыі, загадвала катэдрай вакалу. На эміграцыі

Бах і многіх яшчэ, якія зараз не прыходзяць у галаву[79]. З многімі, як, напрыклад, з Клумавым, я быў блізкі, добра ведаў і ягоную жонку, таксама пэдагога, Лору Грынбэрг, і ягоную другую жонку, студэнтку Маліноўскую. Добра ведаў я і кампазытараў Аладава, Цікоцкага, Багатырова, Лукаса, Падкавырава, тады зусім маладых. Вашага мужа я ня мог ведаць, ён прыехаў у Менск пасьля вайны[80]. Ведаў я і многіх артыстаў опэрнага й драматычнага тэатраў (знаходзіліся побач з кансэрваторыяй), а таксама дырыжораў філярмоніі Грубіна[81] й Шнэйдэрмана[82]. У 1939 годзе ў кансэрваторыю прыехала многа таленавітых польскіх студэнтаў, успамінаю імёны Абеліёвіча[83],

з 1944 г. — спачатку ў Нямеччыне, потым у ЗША. Аўтар фартэпіяннай музыкі (клясічнага кірунку) і незьлічонай колькасьці вакальных твораў. Пісала музыку пераважна на словы беларускіх паэтаў, а таксама на словы расейскіх — Ахматавай, Блока, Цьвятаевай. Яе аранжыроўкі беларускай народнай музыкі вылучаюцца тонкім пранікненьнем у прыродны матэрыял.

79 Індывідуальных зьвестак пра названых Карповічам пэдагогаў няма, але больш поўны сьпіс дадзены на сайце кансэрваторыі (цяпер — Беларускай акадэміі музыкі) www.bgam.edu.by/structure/departments/detail.php?ID=166: “*У Беларускай дзяржаўнай кансэрваторыі клясам агульнага фартэпіяна заўсёды надавалася вялікая ўвага, аднак як самастойнае структурнае падразьдзяленьне катэдра сфармавалася не адразу й да 1941 г. яе функцыі выконвала катэдра спэцыяльнага фартэпіяна. Першымі пэдагогамі па абавязковым фартэпіяна былі Р. Маўшовіч, Я. Жыў, Г. Бах, Я. Яхніна, М. Шлапакова, пазьней — Л. Краўчанка, Н. Салодчанка, Фрыдман*” і г. д.

80 Дзьмітры Камінскі прыехаў у Менск незадоўга да вайны, але пасьля яе пачатку быў мабілізаваны на фронт і вярнуўся ў горад толькі ў 1946 г.

81 **Натан Грубін** (1893—1945), выпускнік Петраградзкай кансэрваторыі па клясе кампазыцыі ў прафэсара Я. Вітала й па клясе фартэпіяна ў прафэсара Мікалаева. Ён быў галоўным дырыжорам дзяржаўнага тэатру опэры й балету БССР, прафэсарам БДК, музычным кіраўніком многіх спэктакляў, аўтарам камэрнай (інструмэнтальнай музыкі). Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1940). Загінуў у апошнія дні вайны.

82 **Марк Шнэйдэрман** (рас. *Марк Эманулович Шнейдерман*, 1898—1981), дырыжор і кампазытар, нарадзіўся ў Жытоміры. Выпускнік Ленінградзкай кансэрваторыі па клясах А. Малько й Гаўка. З 1935 да 1947 г. (зь невялікімі перапынкамі) — галоўны дырыжор аркестру дзяржаўнага тэатру опэры й балету БССР, у 1947—1957 гг. — мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор сымфанічнага аркестру беларускай філярмоніі. Шнэйдэрман — аўтар музыкі для дзяцей, а таксама твораў для фартэпіяна, народных і сымфанічных аркестраў. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1940).

83 **Леў Абеліёвіч** (1912—1985) нарадзіўся ў Вільні. Спачатку займаўся кампазыцыяй у Мікалая Мяскоўскага (Маскоўская кансэрваторыя),

Вайнбэрга[84], Вагнэра[85], Столава[86], Збарамірскай[87]. У маёй памяці застаўся Менск даваенны, яшчэ шмат у чым правінцыйны, з зусім вясковымі прыгарадамі. Нават драўляныя тратуары былі на некаторых вуліцах. І жылося там утульна й спакойна.

Памятаю Менск ваеннага часу, увесь спалены й разгромлены, галодны, страшны Менск з трупамі партызанаў, якія віселі на дрэвах і брамах, з жудасным гета, якое абсалютна перакульвала нашае разуменьне чалавечага жыцьця й чалавечай годнасьці.

---

потым закончыў БДК у прафэсара Залатарова. Аўтар чатырох сымфоній, канцэрту для фартэпіяна з аркестрам, мноства твораў для фартэпіяна. Асабліва трэба вылучыць ягоную яркую вакальную музыку на вершы беларускіх паэтаў і клясыкаў сусьветнай літаратуры. За сваю дзейнасьць стаў заслужаным дзеячам мастацтваў БССР (1963), быў узнагароджаны ордэнам "Знак Пашаны" (1972), атрымаў нямала іншых урадавых узнагародаў.

[84] **Майсей Вайнбэрг** (1919—1996) нарадзіўся ў сям'і кампазытара, галоўнага дырыжора яўрэйскага тэатру Самуіла Майсеевіча Вайнбэрга й актрысы гэтага тэатру Соні Штэрн (Катлавіцкай). З 10 гадоў саліраваў на фартэпіяна ў суправаджэньні аркестру названага тэатру. У 1939 г. ён закончыў Варшаўскую кансэрваторыю па клясе фартэпіяна ў прафэсара Юзафа Турчыньскага. Калі пачалася вайна, Майсею Вайнбэргу ўдалося ўцячы ад немцаў у Менск. Ягоныя бацькі й малодшая сястрычка ня здолелі да яго далучыцца й загінулі ў лягеры Траўнікі. У Менску да нямецкага нападу ён займаўся ў БДК па клясе кампазыцыі ў прафэсара Залатарова. Вайнбэргу пашанцавала яшчэ раз: за некалькі гадзінаў да прыходу нацыстаў у Менск ён быў эвакуяваны ў Ташкент, дзе адбылася лёсаносная сустрэча зь Дзьмітрыем Шастаковічам. У 1953 г. Вайнбэрга арыштавалі ў сувязі са "справай урачоў"; нягледзячы на хадайніцтва Шастаковіча, яго вызвалілі толькі пасьля сьмерці Сталіна. Вайнбэрг — адзін з самых таленавітых і плодных кампазытараў Беларусі XX ст. Працаваў ва ўсіх музычных жанрах — ад сымфанічнага (аўтар 27 сымфоній) да музыкі да фільмаў і спэктакляў; аўтар шматлікіх песень.

[85] **Генрых Вагнэр** (1922—2000) нарадзіўся ў польскім гарадку Жырардуве. У 1936 г. паступіў у Варшаўскую кансэрваторыю па клясе фартэпіяна, з 1939 г. жыў у Менску. У 1948 г. закончыў БДК па клясе фартэпіяна ў Шаршэўскага й па клясе кампазыцыі ў Багатырова. У 1963—1973 гг. — адказны сакратар Саюзу кампазытараў БССР. Вагнэр — заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1963), народны артыст БССР (1988). Аўтар дзьвюх опэраў, дзьвюх вакальна-сымфанічных паэмаў, трох сымфоній, сямі канцэртаў для розных саліруючых інструмэнтаў з аркестрам, музыкі да дзевяці фільмаў і спэктакляў, а таксама шматлікіх вакальных твораў.

[86] **Г. Столаў**, беларускі кампазытар-інструмэнталіст, пра якога зьвестак ня знойдзена.

[87] Звесткі пра асобу ня знойдзены.

Аб Менску паваенным, аб працэсе аднаўленьня ў ім нармальнага жыцьця, аб дзеячах мастацтва, якія вярнуліся ў горад, я нічога або амаль нічога ня ведаю. Вось я й прашу Вас і Дзьмітрыя Раманавіча напісаць мне, як паўставаў горад з руінаў і попелу, як пачало пульсаваць у ім культурнае жыцьцё. Дзе цяпер кансэрваторыя, хто дырэктар, склад пэдагогаў, як выглядае горад, можа быць, Вы маеце фота або паштоўкі зь відамі Менску, прышліце іх паглядзець, я вярну іх.

І, вядома, пра сябе, у каго Вы займаліся ў кансэрваторыі, як Вам удалося ўратавацца зь Менску, дзе Вы былі ў часе вайны, калі вярнуліся й што Вы рабілі пасьля вайны? Як і чаму Вы з мужам пакінулі Менск, як і ў каго Вы жывяце зараз, што робіце Вы і Ваш муж? Ці займаецца ён кампазыцыяй, ці мае магчымасьць апублікаваць свае творы?

Божа, я столькі панапісваў і столькі пытаньняў задаў, што, вядома, у адным пісьме Вы не адкажаце, але я спадзяюся, што нашая перапіска будзе працягвацца. Я буду прасіць і Дзьмітрыя Раманавіча напісаць пра сябе й сваю творчасьць, гэта будзе важна для беларускай прэсы. Такім чынам, завяршаю, чакаю ад Вас скорага адказу, а пакуль жадаю добра, у моцным здароўі й радасным настроі правесьці сьвяты.

З найлепшымі зычэньнямі,

Ал[есь] Карповіч.

Альдэнбург, 3 лютага 1983 г.

Паважаная Дора Камінская! Напішыце й Вы Ваша імя па бацьку. Вялікі дзякуй за Вашае для мяне вельмі цікавае пісьмо. Калі я яго прачытаў, мне стала сумна. Божа мой, гэта ж звыш сарака гадоў мінула з тых пор, звыш паловы жыцьця, колькіх няма ў жывых, а тыя, хто застаўся, — старыя, як і я... А тады мы ўсе былі маладыя, поўныя сілаў і спадзеваў. Колькі было захапленьняў і рамантыкі, сьвежасьці пачуцьцяў і парываў... І музыка ўспрымалася па-іншаму, больш непасрэдна й эмацыйна. І горад. Вы пішаце, што ён стаў прыгожы й велічны, а ў маёй памяці застаўся стары, даваенны Менск, няхай правінцыйны, але мілы і ўтульны. Можа быць, у Вас ёсьць якія-небудзь здымкі Менска, прышліце хоць паглядзець, а я Вам перашлю назад. Вельмі добра Вы напісалі пра нашых агульных знаёмых. Загадзя радуюся Вашаму наступнаму пісьму.

Хто быў Вашым пэдагогам па фартэпіяна? Так, страшна шкада Алёшу Клумава, ад якой жа хваробы ён згарэў, і што сталася зь Люсяй Маліноўскай? Ці ведалі Вы ягоную першую жонку, Лору Грынбэрг[88]? Яна сябравала з маёй жонкай, і жылі яны зусім блізка ад нас, а мы

[88] Зьвестак пра Л. Маліноўскую й Л. Грынбэрг ня знойдзена.

жылі на Чырвонаармейскай, унізе. Ці жывы Смольскі[89], ён скончыў Маскоўскую кансэрваторыю на год раней за мяне, таксама як гісторык? Часта сустракаліся мы й сябравалі зь Лідай Шварц і Барысам Грынблітам, пэдагогамі факультэту музычнага выхаваньня, а таксама з тэарэтыкам Зінчуком, гразой студэнтак-вакалістак, і кампазытарам Пецем Падкавыравым. Які гэта быў прыемны й цікавы час! Хоць я быў дастаткова моцна нагружаны працай і як завуч кансэрваторыі, і курсамі гісторыі музыкі й лекцыямі ў філярмоніі, і напісаньнем рэцэнзій, і паездкамі на канфэрэнцыі ды нарады — знаходзіўся час і для сустрэчаў зь сябрамі з выпіўкай ды закускай. Жылі мы ўсе тады таксама няблага, вядома, па тагачасных умовах (а іншых мы й ня ведалі), і калі б ня клятая вайна…

Спачатку мне ўсё падабалася за мяжой: я быў у Галяндыі, Францыі, Бэльгіі, Італіі, Ангельшчыне, — усё здавалася новым, цікавым, пышным. Аднак чым старэйшы робішся, тым больш ахоплівае настальгія, туга па пакінутым, незваротным… Можа быць, там, дзе знаходзіцеся Вы, ёсьць многа “сваіх людзей”, з кім можна пагутарыць, адвесьці душу, а ў нашым Альдэнбургу ня толькі беларусаў, расейцаў не засталося, папаміралі або выехалі. Я дваццаць год адрабіў у музычнай школе як пэдагог фартэпіяна, акардэону, гітары, флейты, хоць я й гісторык музыкі. Вядома, слава Богу, што працаваў, зараз хоць нейкую пэнсію атрымліваю, але асалоды гэта не давала: чужая мова, чужыя звычаі й зусім ня тыя стасункі з калегамі, што былі некалі. Зараз я пэнсіянэр, у нас маленькі домік на ўскраіне, за які дагэтуль яшчэ ня выплачана, бо мы ж павінны былі ўсё пачынаць з “нуль-пункту”. Ля дома невялікі кавалак зямлі, дзе жонка разводзіць кветкі, а я гародніну — без асаблівага посьпеху. Здароўе — адпаведнае ўзросту, мне ж ужо 72 гады.

Напішыце, што Вас прымусіла прамяняць тое жыцьцё, якім Вы з мужам жылі ў Менску, на Канаду, ва ўжо немаладым узросьце. Разьлічваць тут на выданьне беларускіх твораў не выпадае, але чаму б Дзьмітрыю Раманавічу не зьвярнуцца ў выдавецтва Цымэрмана ў Франкфурце-на-Майне, яно й цяпер цікавіцца рускай музыкай. Кепска, што Вы пакуль ня маеце інструмэнту, але ня ўсё адразу робіцца, а тады можна даваць урокі, што я й зараз раблю. Чакаю зь

[89] **Браніслаў Смольскі** (1909—2005) нарадзіўся ў Менску. Музыказнаўца, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1979). Апрача Маскоўскай кансэрваторыі, атрымаў адукацыю ў Дзяржаўным інстытуце тэатральнага мастацтва (*ГИТИС*). З 1955 г. — навуковы, пазьней — старшы навуковы супрацоўнік АН БССР. Кандыдат мастацтвазнаўства, аўтар некалькіх манаграфій і мноства навуковых артыкулаў па гісторыі й тэорыі беларускай музыкі.

нецярпеньнем Вашага пісьма. Сардэчнае прывітаньне й найлепшыя зычэньні Вам і Д. Р.

Шчыра Ваш,

Алесь К[арповіч]

Альдэнбург, 12 лютага 1983 г.

Дарагая Дора Абрамаўна! Дзякую Вам за пісьмо й сьпяшаюся адказаць. Я не падзяляю Вашых асьцярогаў наконт таго, што нашая перапіска *"заглухне"*, калі вычарпаюцца мае пытаньні. Апрача тэмы *"мінулае"*, ёсьць яшчэ й тэма *"цяперашні час"*, а яе мы амаль не краналі. Я перапісваюся зь беларусамі, але яны або нашмат маладзейшыя за мяне, або не менчукі, а вы — адзіны чалавек, які памятае столькі дарагога для мяне, і да таго ж — музыка. Раней я вёў інтэнсіўную перапіску з Эльзай Робэртаўнай Зубковіч-Пілеман, яна была загадчыцай катэдры агульнага фартэпіяна. Вы яе, верагодна, таксама памятаеце, яна даўно ў ЗША. Муж яе быў сьпявак опэры — Зубковіч, барытон. Яна — цудоўная піяністка, пэдагог і адораны кампазытар, так што перапіска нашая была пераважна на прафэсійныя тэмы. Яна нашмат старэйшая за мяне й даўно ўжо ня ў стане пісаць.

Значыць, і Пеці Падкавырава ўжо няма ў жывых. Добры й сумленны ён быў чалавек, безнадзейна закаханы ў піяністку Ілю Бэрман. Ці быў ён жанаты, і што сталася зь Іляй Бэрман? Я не зразумеў, ці жывая яшчэ Мухарынская? Я добра яе ведаў, таму што вучыўся на адным зь ёй факультэце ў Маскве, і ў Менску мы былі калегі. Часам праводзілі разам ночы за напісаньнем сумесных рэцэнзій на опэрныя спэктаклі. Разумная была жанчына, з мужчынскай лёгікай мысленьня, але зусім пазбаўленая жаночага шарму. І занадта ўжо яна была артадаксальная марксістка. Я маю яе кнігу пра беларускую народную песьню, рэцэнзію на якую напісаў для беларускай прэсы. Кніга добрая, багатая на матэрыял і глыбокія, навукова падмацаваныя высновы й спасылкі, аднак і там яна стараецца не адысьці ад марксісцкіх пастулатаў пра культуру народаў.

Ці ведалі Вы Сіму Нісьневіч[90], яна была студэнткай гістарычнага факультэту й таксама займалася музычнай этнаграфіяй. Яе брат Ізя вучыўся ў Бэргэра, але піяністам быў сярэднім[91]. Цікавіць мяне так-

[90] **Сіма Нісьневіч** (1914—1985), музыказнаўца й пэдагог. Закончыла БДУ (1936) і БДК па клясе Залатарова (1941). Пасьля вайны выкладала ў БДК (1944—1983) і адначасова працавала ў Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі й фальклору Акадэміі навук БССР. З 1958 г. рэгулярна публікавала падручнікі, хрэстаматыі й артыкулы на тэму глыбокіх сувязяў беларускай прафэсійнай музыкі з народнай творчасьцю.

[91] **Ізыдар Нісьневіч** (1914—1977), музыказнаўца й пэдагог. Закончыў БДК

сама, ці ведалі Вы гісторыка Смольскага. Ён скончыў Маскоўскую кансэрваторыю на год раней за мяне, але па фартэпіяна мы займаліся ў аднаго пэдагога — Шэрмана. Жонка ягоная заставалася ў Менску ў часе вайны, яна з посьпехам займалася агародніцтвам і частавала гасьцей гароднінай, якую сама вырошчвала[92]. Вы нічога ня пішаце пра кампазытара Туранкова, ці быў ён у Менску й як да яго ставіліся? Ці сьпявалі ў опэры сьпевакі Шчаціхін, Сімага, Някрасаў[93], якія заставаліся ў Менску пасьля вайны? Польскіх студэнтаў я ведаў, зразумела, усіх, гэтаксама як і Столава зь ягонай жонкай. У кансэрваторыі ладзіліся танцы, і ён граў мадэрную "лёгкую" заходнюю музыку, якая нас захапляла, таму што мы яе зусім ня ведалі. Часам грала Тырманд[94], таксама адораная музыкантка. Ведаў і маладых кампазытараў, але мала, толькі як завуч. Бліжэй, чым зь іншымі, я й жонка пасябравалі з Галінай Збарамірскай, прыгожая была жанчына, хаця крыху грувасткая, і зь яе мужам-скрыпачом Палескім[95], здаецца, такое было ягонае прозьвішча. Яны мелі пласьцінкі Вярцінскага, якія ў нас было немагчыма знайсьці, і мы імі заслухоўваліся. Я й зараз яго люблю й маю даволі шмат, у Нью-Ёрку іх можна атрымаць. Напішыце, дзе Вы былі ў часе вайны й потым — пытаньне мяне вельмі цікавіць — як стала жыць у Менску пасьля вайны, матэрыяльна й асабліва маральна: ляг-

(1938) і быў пакінуты там жа выкладчыкам (1938—1941). Удзельнік вайны; у 1948—1977 гг. выкладаў у Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце. Аўтар сцэнараў навукова-папулярных і хранікальных дакумэнтальных фільмаў. Ягоныя музыказнаўчыя працы прысьвечаны творчасьці беларускіх кампазытараў і выканаўцаў, а таксама адносінам паэзіі й музыкі.

[92] Агародніцтва — традыцыйны занятак беларускіх татараў.

[93] Імёны Шчаціхіна, Сімагі, Някрасава пакуль не вярнуліся ў беларускую культуру.

[94] **Эта (Эдзі) Тырманд** (1917—2008), першая жанчына-прафэсіянал беларускай кампазытарскай творчасьці. Нарадзілася ў Варшаве, дзе закончыла харавое-дырыжорскае аддзяленьне ў кансэрваторыі. З 1939 г. у Менску, дзе паступіла ў БДК, але з прычыны вайны ў навучаньні быў перапынак (у 1941—1948 гг. працавала ў г. Фрунзэ). У 1949 г. закончыла БДК па клясе фартэпіяна ў Шаршэўскага, а ў 1952 г. па клясе кампазыцыі ў Анатоля Багатырова. Тырманд — аўтар некалькіх канцэртаў для фартэпіяна з аркестрам, кантатаў, буйных і малых інструмэнтальных формаў, песень, рамансаў і твораў для хору. Усе яе родзічы загінулі ў Варшаўскім гета. У 1988 г. у Тырманд, якая ніколі не размаўляла на тэму вайны й не напісала датуль ніводнага музычнага радка пра той час, нечакана зьявілася памінальная малітва, "Элегічная імправізацыя" для скрыпкі й фартэпіяна. Гэтым творам яна разьвіталася з роднымі, у якіх не было магілаў.

[95] Пра гэтую пару зьвестак ня знойдзена.

чэй ці ўсё засталося па-ранейшаму? Тут можна здабыць савецкія газэты, я зрэдку праглядаю іх і мне здаецца, што гэта тыя ж газэты, што я чытаў перад вайной. Няўжо няма ніякіх зрухаў і вайна не навучыла?

Чакаю зь нецярпеньнем Вашага пісьма, хачу яшчэ дадаць адносна (выдаўца) Цымэрмана. Пісаць трэба, вядома, па-нямецку. Калі ніхто ня можа дапамагчы Вам гэта зрабіць, то напішыце мне па-руску, што Вы — дакладней, Дзьмітры Раманавіч — хацелі б туды паведаміць, а я Вам перакладу з дапамогай дачкі, для якой нямецкая мова — другая родная. Пісаць трэба сьцісла й канкрэтна, добра было б прыкласьці музычны матэрыял — ноты, запіс на касэты, пласьцінкі, фірма гэтая сур'ёзная й ім можна давяраць. Адрас такі:

*Musikverlag Zimmermann*
*Gaugrafenstrasse 19-23*
*D-6000 Frankfurt am Main*
*Postfach 940 183*
*West Germany*

З найлепшымі зычэньнямі ўсяго добрага, а галоўнае здароўя, Вам і Дзьмітрыю Раманавічу, якому, відаць, напішу адзін з маіх наступных лістоў.

Ваш,

Алесь Карповіч.

P.S. Ці маеце Вы ўжо фартэпіяна?

Альдэнбург, 18 сакавіка 1983 г.

Дарагая Дора Абрамаўна!

Вашыя пісьмы прыносяць мне столькі радасьці, сумнай радасьці, радасьці, што знайшоўся чалавек, які памятае так многа дарагога для мяне, зьвязанага з найлепшым часам майго жыцьця, калі была маладосьць, здароўе, і ўсё, здавалася, яшчэ наперадзе, і суму, што ўсё гэта мінула й людзей тых ужо няма, і наперадзе нічога няма. Вайна паламала ўсё маё жыцьцё, у першы ж дзень вайны я згубіў маю дачку, трохгадовую дзяўчынку. Яна была, як заўсёды, у дзіцячым садку, недалёка ад нас. Калі пачалася бамбёжка Менску, то ўсіх дзяцей эвакуіравалі й ніхто ня мог сказаць куды. Была страшная неразьбярыха, не было да каго зьвярнуцца ў палаючым Менску. А яна была такая музыкальная, сьпявала многія рускія рамансы, на зьдзіўленьне знаёмых. Безь яе ўцякалі мы зь Менску, спрабавалі перайсьці лінію фронту, але не атрымалася праз абстрэл, давялося вярнуцца назад. Тут сустрэлі Зінчука, Шварца, Грынбліта, Пілеман, Сьцягеннага, Арлова[96], не-

[96] Зважаючы на прозьвішчы, Сьцягенны й Арлоў, найбольш верагодна, сталі вязьнямі й ахвярамі Сталіна.

каторых артыстаў опэрнага тэатру, балету й драматычнага тэатру, кампазытараў Туранкова, Шчаглова, Самохіна[97], Спаскага[98], Равенскага[99]. І пачалося дзіўнае жыцьцё сярод руінаў. Часам мне здавалася, што ўсё гэта сон, што я прачнуся і ўсё будзе так, як было. Каб пражыць, я стаў працаваць у тэатры як бібліятэкар і рэпэтытар, часта іграў з Арловым (віялянчэлістам), іграў Скрабіна, вядома, ня вельмі складаныя рэчы, вельмі люблю яго; я таксама кампанаваў беларускія песьні. Дарэчы, у тэатры выступаў сын Сьцягеннага — піяніст. Ці ведалі Вы яго? Аднойчы партызаны падклалі ў тэатральнай залі бомбу, павінен быў прысутнічаць гаўляйтар і іншыя ўплывовыя немцы, але іх якраз не было, і загінула шмат беларусаў[100]. Я ацалеў, таму што ў гэты час быў за кулісамі.

У гэты час я сустрэўся з Галяй Чыстоўскай[101]. Яна перад вайной была студэнткай майго, гісторыка-тэатральнага факультэту. У Менску ж яна зьявілася ў складзе нейкай танцавальнай групы, якая хутка распалася, а Галя засталася ў горадзе. Для мяне пачаўся час неверагоднай, казачнай рамантыкі, якая прымусіла забыць усё: жонку, вайну, радзіму. Пішу пра гэта Вам шчыра, усё ўжо ў мінулым, і ў апошнія дні перад ад’ездам зь Менску мы згубілі адно аднаго з вачэй, і што зь ёй потым здарылася, я ня ведаю. Казалі, што яна была зьвязаная з

---

[97] **Рыгор Самохін** (1911—1944), беларускі кампазытар, “кароль рамансаў”, аўтар опэраў, сымфанічных сюітаў і сымфоній, аранжыроўшчык народных мэлёдый, дажыў толькі да ўзросту Хрыста. Працаголік і чалавек, для якога музыка ўсіх жанраў і часоў была паветрам, ён стаў адным з карыфеяў сучаснай беларускай музычнай культуры. Быў выпускніком Аладава й Залатарова па клясе кампазыцыі й апынуўся ў нямецкім “мяшку”, як і большасьць ягоных суайчыннікаў таго часу. Прычыны ягонай сьмерці невядомыя: вэрсіі розьняцца ад цяжкай хваробы да савецкай бамбёжкі пры наступленьні. Відавочна адно: краіна рана страціла выбітнага кампазытара.

[98] Пра **А. Спаскага** зьвестак мала; вядома, што ў 1943 г. у Рызе быў апублікаваны ягоны раманс “Астры” на словы Максіма Багдановіча.

[99] **Мікола Равенскі** (1886—1953), адзін зь вядучых беларускіх кампазытараў, хормайстраў і аранжыроўшчыкаў народнай музыкі, выпускнік Маскоўскай кансэрваторыі (1930). Падзяліў лёс Карповіча й Шчаглова. Равенскі пачынаў як хормайстар царкоўнага хору, і духоўная музыка назаўсёды засталася важнай часткай ягонай творчасьці. Кампазытар пакінуў значную спадчыну і ў сьвецкіх жанрах. Ён — аўтар опэраў, апэрэтаў і шматлікіх рамансаў на словы беларускіх і сусьветных клясыкаў, сучасных яму паэтаў. З 1950 г. Равенскі працаваў у Бэльгіі, дзе стварыў пры Лювэнскім ўнівэрсытэце студэнцкі ансамбль беларускай музыкі.

[100] Адным з загінулых быў сын Натальлі Арсеньневай.

[101] Зьвестак пра Галіну Чыстоўскую ня знойдзена.

партызанамі, але ці слушна — ня ведаю. Вядома, час усё згладзіў, але Вы згадалі яе імя, і зноў усё ўспомнілася. А дзе Вы былі ў час нямецкай акупацыі? Так, успомнілася яшчэ піяністка Ждановіч, якая таксама працавала ў тэатры, магчыма, Вы яе ведалі. Вы вельмі дакладна ахарактарызавалі Бэргэра. Мне, як завучу, даводзілася мець зь ім шмат справаў, і я добра помню, як любіў ён пусьціць пыл у вочы. Мы зь ім часам езьдзілі ў Маскву на канфэрэнцыі, і ў гатэлі ён неадменна патрабаваў нумар з раялем. І ў яго кабінэце ў кансэрваторыі стаяў раяль, на якім ён любіў *“даваць гучка”*, граючы пачатак канцэрту Чайкоўскага b-moll[102].

Клумаў разышоўся з Лорай не празь яе раман зь Берзіным[103]. Ён быў вельмі палкі й захоплены, а яна нейкая стрыманая й сабраная. Клумаў казаў, што яна любіць гадзінамі граць эцюды і што ў жыцьці яна такая самая. Ці бачылі Вы яе пасьля вайны? Мая жонка зь ёй сябравала, як і з усімі маладымі пэдагогамі, якія ў адзін час прыехалі са мной у Менск. Яна (жонка) па прафэсіі не музыкант, а чарцёжніца, але дастаткова добра іграла на раялі, цяпер зусім закінула, ды праз свой багемны характар заўсёды была блізкая да мастацтва: ведала ў Маскве многіх пісьменьнікаў і паэтаў, сама пісала вершы й малявала. Нягледзячы на шэраг “навальніцаў” у нашым сямейным жыцьці, мы й цяпер разам і дажылі амаль што да залатога вясельля.

З кампазытараў у нас часта бываў Пеця Падкавыраў. Ці праўда, што Алоўнікаў ажаніўся з Барысенкай і што ён моцна піў? Ці ведаеце, як загінуў дзядзька Клумава, яны ж, здаецца, не былі яўрэямі і ў гета яго, здаецца, не было.

Вы просіце прабачэньня за *“крамзолі”*, але Вы цудоўна пішаце. А ў мяне зусім кепска з кісьцямі рук, сьцяжэньне сухажыльляў і мала расьцяжкі паміж пальцамі, яны быццам бы склейваюцца міжсобку, таму я перайшоў на машынку. Вельмі цяжка пісаць ноты, а машынкі такой яшчэ, на жаль, ня вынайшлі. Да таго ж зусім прапала тэхніка, цяжка іграць.

Чым займаецца зараз Дзьмітры Раманавіч? Сардэчнае яму прывітаньне. Вялікі дзякуй за паштоўку. Які прыгожы стаў Менск — я б яго не пазнаў. Пішыце як мага хутчэй. З найлепшымі пажаданьнямі Вам усім. Ваш Аляксей Уладзіміравіч,

Алесь Карповіч.

[102] Маецца на ўвазе першы канцэрт для фартэпіяна з аркестрам.

[103] Зьвестак пра Берзіна ня знойдзена.

Альдэнбург, 10 траўня 1983 г.

Дарагія Дора Абрамаўна і Дзьмітры Раманавіч!

Ад душы спачуваю няшчасьцю, якое вам выпала. Вось ужо дапраўды, толькі пажару вам не хапала[104]. Добра, што засталіся жывыя й цэлыя, а рэчы — справа нажыўная, дый страхавое таварыства дапаможа зноў абсталявацца. Ці быў у Вас ужо інструмэнт? Чаму б Вам, Дора Абрамаўна, не пачаць зноў даваць урокі фартэпіяна? Адна мая знаёмая, некалі вучаніца, ёй зараз ужо за 50, жыве ў Эдмантане й мае 25 вучняў. Цяжкі толькі пачатак, а паступова вучні самі прыходзяць, трэба толькі добра сябе зарэкамэндаваць як пэдагог і — што ня менш істотна — як чалавек. Моўны бар'ер тут лёгка пераадольваецца, ведаю гэта на сваім вопыце. А Дзмітры Раманавіч ня мог бы кіраваць хорам? Да маёй працы ў музычнай школе я вёў хоры ў Нямеччыне й Бэльгіі.

Я склаў для Дзьмітрыя Раманавіча кароткі ліст да Цымэрмана, які пасылаю для подпісу й перасылкі паветранай поштай у Франкфурт, калі Дзьмітры Раманавіч згодзен з маёй рэдакцыяй. Вось пераклад гэтага пісьма.

*Глыбокапаважаныя дамы й панове!*

*Я пішу гэты ліст, бо ведаю, што выдавецтва Цымэрман заўсёды было зьвязана з рускай музыкай. Я — рускі кампазытар, звыш 30 гадоў працаваў па гэтай спэцыяльнасьці ў гор. Менску (Беларусь) і маю кампазыцыі ва ўсіх жанрах: буйныя аркестравыя творы, камэрную, фартэпіянную й вакальную музыку. Многія мае творы былі прынятыя да выкананьня, запісаныя на пласьцінкі й высока ацэненыя крытыкай. Нядаўна я выехаў у Канаду, каб узьяднацца з маімі дзецьмі. У Канадзе я працягваю маю творчую дзейнасьць і, калі Вы зацікаўлены ў гэтым, магу вам выслаць некаторыя з маіх твораў. Магу таксама прапанаваць свае паслугі як аранжыроўшчык і інструмэнтатар. Прашу вас адказаць мне і быў бы вельмі рады, калі б праз вас мне ўдалося аднавіць кантакт з музычнай грамадзкасьцю.*

*З найвялікшым шанаваннем…*

Вельмі шкада, што прапалі пласьцінкі, іх жа наўрад ці можна здабыць там. А ноты, калі Цымэрман зацікавіцца, трэба паслаць у выглядзе ксэракопій. У гэтым Вам дапаможа Янка Запруднік, ён пастаянна нешта капіруе. Па-мойму, паслаць лепей за ўсё невялікія рэчы, кшталту прэлюдый, некалькі штук. Вы іграеце гэтыя прэлюды? Тады можна бы запісаць на касэту, гэта проста зрабіць і паслаць.

[104] У шматкватэрным доме, дзе бацькі здымалі кватэру, адбыўся пажар. Гэтая падзея, безумоўна, адбілася на здароўі абодвух пажылых людзей.

Я гарэў тры разы, два ў Менску й адзін раз у Бэрліне, страціў тры музычныя інструмэнты, усе кнігі й мае працы. Трэба было пачынаць з пункту “нуль”. За мяжой у сфэры мастацтва добра ўладкоўваюцца толькі зоркі, астатнія даюць урокі, вядуць хоры, пішуць артыкулы або займаюцца апрацоўкамі, інструмэнтоўкай для розных эстрадных ансамбляў. Вельмі добра авалодаць акардэонам і гітарай, на гэтыя інструмэнты вялікі попыт. Як справы з Вашым здароўем, Дзьмітры Раманавіч, ці ёсьць у Вас яшчэ жыцьцёвая й творчая энэргія, настойлівасьць і аптымізм? Я доўгія гады даваў урокі, рабіў аранжыроўкі, пералажэньні, пісаў рэцэнзіі, акампаніраваў у канцэртах, але цяпер моцна здаў, хутка стамляюся, ні за што ня хочацца брацца. Калі дазваляе надвор’е, корпаюся ў зямлі, у нас вакол дома трохі зямлі, і я вырошчваю гародніну й трускалкі, гэта адцягвае ад змрочных думак, якія ўсё часьцей прыходзяць. Як Вы бавіце час, Дзьмітры Раманавіч, ці займаецеся кампазыцыяй? Ці ведаеце кнігу “Гісторыя беларускай савецкай музыкі”, там некалькі разоў у розных яе разьдзелах згадваецца Вашае імя? Ці прыбралі ў сувязі з Вашым выездам у Канаду гэтую кнігу, а таксама Вашыя творы, з абыходку? Калі Вам удасца нешта апублікаваць у Цымэрмана, то лепей, калі гэта будуць новыя або “абноўленыя” творы, калі ж ужо надрукаваныя, то я Вам раю спачатку высьветліць пытаньне “аўтарскіх правоў”, каб не было непрыемнасьцяў пазьней.

Дарагая Дора Абрамаўна, дзякуй за Вашае пісьмо, якое Вы напісалі, нягледзячы на пажарныя хваляваньні. Многа Вы перажылі такога, што й ня сьнілася амэрыканскім і канадыйскім жанчынам. У Нямеччыне іначай, тут людзі таксама хапілі шмат гора, таму тут такі стыхійны рух супраць узбраеньня й вайны, таму й амэрыканская ваенная палітыка тут вельмі мала папулярная. Пішыце больш пра сябе, тут справа не ў інтарэсе з нашага боку, а ў тым, што мы з жонкай Вас так добра разумеем і спачуваем у тым, што Вы перажылі.

Вы пішаце, што Вайнбэрг быў сябрам Шастаковіча, я пра гэта ня ведаў. Ці ведалі Вы зь Дзьмітрыем Раманавічам Шастаковіча й як ставіцеся да кнігі Салямона Волкава “Мэмуары Шастаковіча”, якая зьявілася тут? Пра яе існуе тут шмат супярэчлівых водгукаў. У час заняцьця немцамі Менску там заставаўся вельмі вядомы беларускі кампазытар Туранкоў, аўтар шматлікіх твораў у розных жанрах, у тым ліку й опэры “Кветка шчасьця”. Ён не пайшоў на Захад (пасьля вайны), а застаўся ў Менску. Ці вядома Вам што-небудзь пра ягоны лёс? Таксама пра рэжысэра Гаянэ Тушмалову[105], артыстаў Палтэўскага,

[105] **Гаянэ Тушмалова** (1892—1971) з 1944 г. жыла ў Сьвярдлоўску, выкладала сцэнічную мову ў тэатральным інстытуце й аматарскіх калектывах.

Краўчанку, Судніка, Кляўса[106]? Ці жыў музыказнаўца Смольскі са сваёй ранейшай жонкай, якая заставалася ў Менску (пад немцамі), або зь іншай? Ці ведалі Вы ягонага сына, кампазытара?

Зараз у Нямеччыне шырока адзначаецца 150-годзьдзе з дня нараджэньня Брамса, асабліва на поўначы Нямеччыны, дзе ляжыць ягоны родны горад Гамбург, недалёка ад якога знаходзіцца й наш Альдэнбург. У газэтах і часопісах шмат артыкулаў пра яго, а па радыё й тэлебачаньні перадаюцца ягоныя творы. Тут часта бываюць музычныя перадачы з цудоўнымі выканаўцамі, за адзін мінулы год былі пра Моцарта, Шапэна, Ліста. Побач з гэтым трансьлююецца й шмат крымінальнай лухты. Цікава, якая якасьць савецкіх тэлеперадачаў? Бо калі я жыў "там", яшчэ тэлебачаньня ўвогуле не было.

Мне прыйшло ў голаў, што копіі Вы, напэўна, зможаце зрабіць і ў Манрэалі. У нас, напрыклад, капіравальныя машыны ёсьць у кожным вялікім супэрмаркеце, дзе за мізэрную плату можна зрабіць любую колькасьць копій.

Жадаю здароўя й посьпехаў. Прашу Дзьмітрыя Раманавіча пабольш напісаць пра сябе, пра творчыя пляны й намеры.

Адказвайце адразу, як атрымаеце гэтае пісьмо. Баюся, што ў сувязі з пажарам паштовыя зносіны будуць мець перабоі, і пісьмо можа не дайсьці да Вас.

З найлепшымі пажаданьнямі,

Ваш Алесь Карповіч.

Альдэнбург, 30 лістапада 1983 г.

Дарагія Дора Абрамаўна й Дзьмітры Раманавіч!

Вялікі дзякуй за Вашае пісьмо ад 10 кастрычніка. Рады, што набылі інструмэнт, бо для музыканта гэта галоўнае, і настрой у Вас палепшыўся, зважаючы на "танальнасьць" апошняга пісьма. Вы пішаце, што *"ўсе праблемы разьвязаліся"*. Што Вы маеце на ўвазе?

Вялікі артыкул-нэкралёг пра Эльзу Робэртаўну Зубовіч-Пілеман я напісаў для газэты "Беларус", дзе ён і быў надрукаваны ў двух нумарах. Ці прысылае Вам Запруднік гэтую газэту? Што да *"Нового Русского Слова"*, то я ня думаю, што там зацікавяцца артыкуламі Дзьмітрыя Раманавіча. Па-першае, беларуская тэматыка іх увогуле не цікавіць, а па-другое, там хапае сваіх музыказнаўцаў і тых, хто выдае сябе за музыказнаўцу. Гадоў 10 таму пісалі сапраўды буйныя музыкі, як Сабанееў[107], а цяпер пішуць пра музыку ўсе каму

[106] Пра названых артыстаў зьвестак ня знойдзена.

[107] **Леанід Сабанееў** (рас. *Леонид Леонидович Сабанеев*, 1881—1963), матэматык, кампазытар, музыказнаўца, тэарэтык (вучань Танеева, Зьве-

хочацца. Міхаіл Гальдштэйн вучыўся ў Маскоўскай кансэрваторыі адначасова са мной і жыў у тым жа інтэрнаце. Ён — добры скрыпач, але заўсёды быў у цені свайго брата Бусі, скрыпача-вундэркінда. Ён цяпер таксама ў Нямеччыне, здаецца, у Гановэры. Толькі за мяжой я са зьдзіўленьнем даведаўся, што Міхаіл Гальдштэйн — ня толькі скрыпач, а й музыказнаўца, да таго ж вельмі плодны. Большасьць ягоных артыкулаў — гэта штучна складзеныя кампіляцыі на грунце слоўнікавых зьвестак. Разьвязна піша ён пра буйных савецкіх музыкаў, прычым усе яны аказваюцца ягонымі добрымі знаёмымі, творы якіх ён іграў, або яны ігралі ягоныя творы. Ён да ўсяго яшчэ й кампазытар! Памятаю, свае першыя артыкулы ў "НРС" ён называў чамусьці сэптакордамі. Не нашмат лепшыя артыкулы й іншых пісак ад музыкі, канцэртмайстраў сымфанічных аркестраў, дырыжораў і г. д. Паспрабуй правер! А вось для "Беларуса", мне здаецца, Вы маглі б быць цікавыя[108]. Толькі я ня думаю, што трэба апісваць *"сямейныя паданьні"*, даруйце за такі выраз. Тэма павінна быць актуальнай. Дзьмітры Раманавіч быў сакратаром саюзу кампазытараў Беларусі, такім чынам, усё музычнае жыцьцё разгортвалася перад ягонымі вачыма[109]. Пра гэта й трэба пісаць! Прычым ня толькі пералічваць кампазытараў і напісаныя імі творы — пра што, сапраўды, можна прачытаць у энцыкляпэдыі, — а расказваць пра партыйную палітыку ў музыцы, пра ўмяшаньне партыйных і дзяржаўных чыноўнікаў у творчасьць і рэпэртуар, пра перашкоды, якія чыніліся творчасьці з боку савецка-партыйнага начальства, адказнага за музычныя справы, пра забароны тых ці іншых твораў, ідэалягічна ня "вытрыманых".

---

рава й Шлецара). Быў прафэсарам матэматыкі ў Маскоўскім унівэрсытэце. Ягоны бацька, вядомы натураліст і пісьменьнік, асабіста сябраваў з Аляксандрам III. У сувязі з эміграцыяй імя Сабанеева было табу ў СССР, а цяпер паступова вяртаецца ў Расею. Ягоныя кнігі пра Скрабіна (1916 і 1925 гг.) лічацца найлепшымі дасьледаваньнямі жыцьця кампазытара. Набыла вядомасьць і ягоная кніга мэмуараў "Успаміны пра Расею", якая выйшла ў Маскве ў 2005 г.

[108] Мама спрабавала зьвязацца з д-рам Запруднікам, галоўным рэдактарам "Беларуса", але нешта не спрацавала — магчыма, пісьмо не дайшло. Значна пазьней яна зьвярнулася да Міхаіла Гальдштэйна, які напісаў вялікі артыкул пра жыцьцё й творчасьць Камінскага да ягонага 80-годзьдзя. Урыўкі з артыкулу Гальдштэйна мы ня раз прыводзілі ў гэтай публікацыі.

[109] Камінскі быў старшынёй (а не сакратаром) Саюзу кампазытараў БССР (1963—1966). Гэтую ролю яму навязалі, і пры першай магчымасьці Камінскі (паўтару, ці не адзіны беспартыйны кіраўнік творчага саюзу ў СССР) адмовіўся ад пасады, нягледзячы на настойлівыя тэлефонныя званкі ад *"асабіста таварыша Брэжнева, генэральнага сакратара ЦК КПСС"*. Я была сьведкай дзьвюх такіх тэлефонных размоваў.

Вы, Дзьмітры Раманавіч, 35 гадоў жылі й творча працавалі ў Менску і, напэўна, многае выпрабавалі на сабе. У Вашым становішчы Вам, безумоўна, многае не падабалася й абурала, але тады Вы не маглі пра гэта заявіць, а зараз Вы ў свабоднай краіне, дзе Вашыя праўдзівыя выказваньні будуць каштоўныя, патрэбныя й цікавыя.

Вельмі шкада, што я зусім не знаёмы з творчасцю Дзьмітрыя Раманавіча. Зь ім, адным з буйнейшых кампазытараў паваеннай Беларусі, даўно трэба было б пазнаёміць беларускую грамадзкасьць, але няможна разважаць пра музыку, ня ведаючы яе. Я вельмі хацеў бы пачуць "Прэлюдыі" Дзьм[ітрыя] Рам[анавіча] — не маглі б Вы, Дора Абрамаўна, найграць іх на касэту й прыслаць мне для праслухоўваньня? Вы ўжо маеце інструмэнт і, думаю, Вам самой будзе прыемна ўспомніць выкананьне[110].

Вельмі шкада, што нічога ня выйшла з Цымэрманам. Зьдзіўляцца гэтаму не выпадае, зараз іншы клімат у палітыцы, і цікавасьць да ўсяго славянскага значна падупала. Гадоў 10 таму я зрабіў для гэтага выдавецтва шмат харавых апрацовак рускіх песень, і на іх быў вялікі попыт, а зараз усё заглухла.

Пасьля Вашага пісьма я ўяўляю сабе, дзе знаходзіцца плошча Якуба Коласа. Вядома, я памятаю Камароўку, гэта была сапраўдная правінцыя, як і ўвогуле даваенны Менск быў падобны да правінцыі. Я добра памятаю, дый Вы, верагодна, таксама, драўляныя тратуары, несамавітую Сьвіслач, домікі за частаколамі на ўскраінах, рамізьнікаў, а ўзімку — сані замест таксі. Мілы, утульны Менск, такім ён застаўся ў маёй памяці. А ці памятаеце, якія піражкі зь пячонкай прадавалі ў парку, каля тэатру? Я такіх больш нідзе не сустракаў. Дом побач з былой кансэрваторыяй у бок Чырвонаармейскай вуліцы да вайны належаў бацьку Эльзы Робэртаўны Зубковіч. Ён быў балтыйскі немец.

Пішыце больш пра сябе, пра музычнае жыцьцё Вашага гораду. Ці ёсьць сярод Вашых знаёмых музыкі, як ідзе справа з вывучэньнем

---

[110] Музыказнаўца **Барыс Гарт** (на жаль, зьвестак пра яго мала) напісаў прадмовы да першага й другога зборнікаў прэлюдый і фугаў Камінскага (I. Мінск: Беларусь, 1975; II. Мінск: Беларусь, 1980). У першым зборніку было 8 твораў, у другім — 12. У гэтых выданьнях Гарт аналізуе й дае ацэнку высокаму прафэсіяналізму й арыгінальнасьці аўтара. Адзначае, што выканаўцы літаральна "*выхоплівалі з-пад пяра*" гэтыя творы ў працэсе іх зьяўленьня, ігралі іх "*з рукапісаў*". Музыказнаўца падкрэсьлівае: "*У індывідуальна-адметным пераасэнсаваньні элемэнтаў беларускага фальклёру, спалучэньні традыцыйных і сучасных сродкаў перадачы праяўляюцца асаблівасьці шматплянавага фартэпіяннага стылю Д. Камінскага, уласьцівыя й іншым ягоным творам для фартэпіяна*". Кампазытар марыў давесьці колькасьць прэлюдый і фугаў да 24, як у пачынальніка гэтага жанру Баха й, пазьней, Шастаковіча. Эміграцыя, адсутнасьць інструмэнту й старасьць не далі ягоным плянам ажыцьцявіцца.

моваў, ці часта сустракаецеся зь дзецьмі? Я й жонка ад душы жадаем Вам здароўя і ўсялякага дабра.

Ваш Алесь Карповіч[111].

* * *

*Заключная частка публікацыі, з аднаго боку, зьяўляецца адказам на многія пытаньні Алеся Карповіча, а з другога — дапамагае выявіць пасьляваенную пераемнасьць беларускай музычнай культуры на працягу 35 гадоў, гэта значыць практычна да 1980 году. Цікава адзначыць, што большасьць кампазытараў першай (даваеннай) і нават другой (паваеннай) хвалі — не этнічныя беларусы й не былі народжаныя ў Беларусі. Многія зь іх — рускага, яўрэйскага, балтыйскага, польскага, татарскага й іншага паходжаньня, аднак Беларусь стала для кожнага зь іх любай і роднай. Іх сапраўды многае яднала: большасьць да заснаваньня БДК атрымала адукацыю ў Пецярбургу (пазьней — Петраградзе, Ленінградзе) і ў Маскве, практычна ў тых жа прафэсараў. У часе вайны ладная частка апынулася ў Саратаве — з тых, хто ня трапіў на фронт або, як Карповіч, не застаўся ў гітлераўска-сталінскім мяшку. Тым ня менш пры першай жа магчымасьці тыя, хто застаўся жывы на тэрыторыі СССР, вярнуліся ў галодны й цалкам разбураны Менск і спрыялі аднаўленьню там музычнага жыцьця. Што ж іх цягнула на папялішча ранейшага жыцьця, чым жывіўся гэты нечаканы для тых, хто нарадзіўся не ў Беларусі, патрыятызм? Адказ, вядома, не адназначны, аднак відавочным становіцца асноўны паяднальны матыў, калі мы зірнем на тэматыку твораў, якія ўсе бяз вынятку маюць адзнакі беларускай народнай музыкі. Творцы гэтай музычнай культуры, кампазытары Беларусі, паказаныя ў запісах Камінскага ня толькі праз агульныя характарыстыкі творчасьці кожнага зь іх, але й праз індывідуальныя чалавечыя рысы, што максымальна набліжае іх да чытача. Безумоўна, усё гэта праяўляецца праз асабістае ўспрыманьне Дзьмітрыя Раманавіча, але й гэтая пэрспэктыва раскрывае нам аўтара запісак зь яшчэ аднаго, душэўнага боку. Мяркуйце самі, але сьпярша я раскажу, як да самога Дзьмітрыя Раманавіча прыходзіла натхненьне: “Звычайна ўсё адбываецца ўночы: спачатку зьяўляецца адна музычная фраза, потым да яе, як вагончык да паравоза, чапляецца іншая, а за ёй наступная. Тут неабходна ўстаць і запісаць “жаданых гасьцей”, таму*

[111] Гэта апошні ліст, які захаваўся ў невялікім бацькоўскім архіве. Але перапіска, відаць, працягвалася: Алесь Карповіч прыслаў артыкул, дакладней, сваё інтэрвію з д-рам Запруднікам, галоўным рэдактарам “Беларуса”. Яно было надрукаванае ў гэтай газэце ў жніўні 1984 г.



Аўтарскі канцэрт Дзьмітрыя Камінскага ў Белдзяржфілярмоніі. 1955 г.

*што іначай да ранку ўсё бясьследна зьнікне". Гэта быў звычайны адказ на маё пытаньне пра тое, як ён піша свае творы. Цікава, што прыкладна такое ж апісаньне творчага моманту сустракаем у Барыса Пастарнака, калі ён апісвае гэты працэс у паэта, Юрыя Жывага: "Пасьля дзьвюх-трох строфаў і некалькіх параўнаньняў, якія ўразілі яго самога, праца завалодала ім і ён адчуў набліжэньне таго, што называюць натхненьнем"*[112]*. Магчыма, да калегаў Камінскага, пра якіх ён распавядае ў ніжэйпададзеных запісах, натхненьне прыходзіла гэткім жа чынам.*

## Саюз Савецкіх кампазытараў Беларусі

*Успаміны-нарысы*

Па заканчэньні Маскоўскага музычна-пэдагагічнага інстытуту імя Гнесіных у 1939 годзе я атрымаў запрашэньне на працу ў якасьці канцэртмайстра ў Менскую філярмонію. Запрашэньне я ахвотна прыняў: мне падабаўся горад Менск, які я ведаў раней. Вось там я й атабарыўся ў 1940 годзе. А ў сакавіку 1940 г. я быў прыняты маскоўскім сакратарыятам у члены Саюзу кампазытараў і неўзабаве, у маі 1941 г., аформіўся

[112] Пастернак, Борис. Доктор Живаго. Ann Arbor: University of Michigan Press, 1959. С. 448.

ў Саюз кампазытараў Беларусі. Старшынёй у тыя гады быў народны артыст БССР, прафэсар А[натоль] В[асільевіч] Багатыроў. Ён быў вучнем В[асіля] А[ндрэевіча] Залатарова, які жыў доўгі час у Менску, пакінуўшы пасьля сябе дастойную зьмену кампазытараў і пэдагогаў. Багатыроў працаваў даволі пасьпяхова ў самых розных жанрах: напісаў тры сымфоніі й дзьве опэры ("У пушчах Палесся" й "Надзея Дурава"), а таксама кантату "Партызаны" й мноства рамансаў. У ягоных творах адчуваецца незвычайнасьць таленту й салідны прафэсіяналізм. Як пэдагог, Багатыроў валодае ведамі, добрым густам і ўменьнем перадаць свае веды й досьвед вучням. У Беларусі імя Багатырова вельмі шануецца, і гэтай пашаны ён, безумоўна, заслугоўвае.

Пра кампазытара Яўгена Карлавіча Цікоцкага хочацца найперш гаварыць як пра абаяльнага чалавека. Рэдкая ўважлівасьць да калегаў, спагадлівасьць, дзіўная душэўнасьць ды весялосьць! Я ня памятаю Яўгена Карлавіча ў кепскім гуморы. А як ён любіць дзяцей! Гэта выдатная чалавечая якасьць!

Цікоцкі — кампазытар, які працуе ў мностве жанраў. Ён — аўтар опэраў, сымфоній, паэмаў, араторый, вялікай колькасьці музыкі да тэатральных спэктакляў. Ягоная творчасьць карыстаецца заслужаным посьпехам. Цікоцкі — рамантык, і гэты кірунак яскрава праяўляецца ў ягонай музыцы. Ягоны рамантызм заражае публіку, якая шчыра любіць Яўгена Карлавіча. Цікоцкі напісаў выдатныя опэры: "Міхась Падгорны", "Дзяўчына з Палесься" ("Алеся"), чатыры сымфоніі, вельмі ўдалую музыку да спэктаклю "3-я патэтычная", рамансы й песьні. Так, нямногія кампазытары ўзнагароджаныя такой моцнай і пастаяннай любоўю ў нашага беларускага народу. Я з задавальненьнем успамінаю Яўгена Карлавіча: мы былі вялікімі сябрамі.

Кампазытар Мікалай Мікалаевіч Чуркін — найстарэйшы кампазытар Беларусі (памёр у 95 гадоў)[113]. Ён быў вучнем М[іхаіла] Іпалітава-Іванава. М[ікалай] М[ікалаевіч] Чуркін — аўтар першай сымфоніі, напісанай у Беларусі. Ён дыхаў музыкай! Да глыбокай старасьці Чуркін захаваў ясную памяць і цьвярозае мысьленьне. М[ікалай] М[ікалаевіч] Чуркін — ураджэнец Закаўказьзя, таму ў ягонай музыцы маюць месца грузінскія й армянскія напевы. Аднак ягоная першая сымфонія 1924 года, як і далейшыя творы, напісаная пераважна на матэрыяле беларускага фальклёру, які ўдала падабраны й нясе слухачам сапраўдную асалоду дзякуючы сваёй прастаце й даходлівасьці. Ёсьць у Чуркіна й опэры — "Вызваленьне працы" (1922), "Рукавічка" (1941) — але, на вялікі жаль, мне не ўдалося іх паслухаць.

[113] **Мікалай Чуркін** (1869—1964) быў таксама першым прафэсійным беларускім этнографам: анталёгія сабраных ім твораў беларускай народнай музыкі, выдадзеная супольна з Еўдакімам Раманавым у 1910 г., — узорная праца й да сёньня.

Кампазытар Мікалай Ільліч Аладаў. На жаль, я зусім ня памятаю, у каго Мікалай Ільліч вучыўся, але памятаю, што ён выпускнік Пецярбурскай кансэрваторыі (менавіта Пецярбурскай, а не Ленінградзкай!)[114]. Аладаў — кампазытар вельмі своеасаблівы, ягоная музыка не падобная на творчасьць ніводнага з больш-менш знаёмых мне кампазытараў. Ён — адзін з заснавальнікаў беларускага сымфанічнага жанру, напісаў дзесяць сымфоній. Мікалай Ільліч Аладаў — аўтар дзьвюх опэраў: “Тарас на Парнасе” (камічная, 1927) і “Андрэй Касьценя” (1947). Значны ўклад ён зрабіў і ў разьвіцьцё харавога й вакальна-інструмэнтальнага жанраў. Беларускі фальклёр і тэматыка займаюць значнае месца ў ягонай, без сумневу, таленавітай творчасьці; яны нясуць важнае культурна-адукацыйнае пасланьне будучым пакаленьням.

Некалькі словаў пра велізарную ролю Мікалая Ільліча ў беларускай музычна-асьветнай дзейнасьці. Ён ня толькі браў самы актыўны ўдзел у падрыхтоўцы да адкрыцьця першай у Менску кансэрваторыі, але быў галоўнай дзейнай асобай у гэтай складанай і шляхетнай справе. Менавіта ён запрасіў цэлы шэраг высокакваліфікаваных выкладчыкаў, такіх як М[іхаіл] А[ркадзевіч] Бэргэр, Р[ыгор] Ю[дэлевіч] Шаршэўскі, Г. М. Пятроў (піяністы), А[ркадзь] Л[ьвовіч] Бясьсьмертны, А. Н. Крук (скрыпачы), Арлоў (віялянчэліст), Папавіцкі (ангельскі ражок), многіх іншых першаклясных музыкаў і пэдагогаў. Так, кляс дырыжыраваньня вёў вядомы ў свой час дырыжор Ільля Мусін[115]. Іншымі словамі, Мікалай Ільліч заслужыў усе свае званьні і ўзнагароды. Ён быў народным артыстам БССР, кавалерам ордэнаў Працоўнага Чырвонага Сьцягу й “Знак Пашаны”.

Кампазытар Пётар Пятровіч Падкавыраў, вучань В[асіля] А[ндрэевіча] Залатарова, пісаў у многіх жанрах. Ён — аўтар опэры “Павел Карчагін”, некалькіх сымфоній, канцэртаў для многіх

[114] Аладаў займаўся кампазыцыяй прыватна ў вучня Рымскага-Корсакава Я. В. Прохарава (1870—1942). У 1910 г. Мікалай Ільліч экстэрнам здаў экзамэны па клясе кампазыцыі й тэорыі музыкі.

[115] **Ільля Мусін** (рас. *Илья Александрович Мусин*, 1903—1999), вядучы савецкі дырыжор, піяніст і пэдагог (Валеры Гергіеў — адзін зь ягоных вучняў; менавіта ён паставіў настаўніку помнік на магілу ад імя “*Марыінскага тэатру*”), родапачынальнік “ленінградскай школы” дырыжыраваньня. Дарэчы, Мусін паспрыяў публікацыям нотаў Дзьмітрыя Камінскага ў Ленінградзе, а значыць, папулярызацыі ягонай творчасьці. У 1934—1935 гг. Ільля Мусін быў кіраўніком і галоўным дырыжорам Дзяржаўнага сымфанічнага аркестру БССР. Ён — заслужаны артыст БССР (1939), заслужаны дзеяч мастацтваў Узбэкскай ССР (у час вайны працаваў у Ташкенце), народны артыст РСФСР (1983), ганаровы сябра Каралеўскай акадэміі музыкі ў Лёндане.

інструмэнтаў, квартэтаў, квінтэтаў, вакальна-інструмэнтальнай музыкі. Творы гэтага кампазытара прыцягваюць увагу слухача сваёй арыгінальнасьцю, яны адрозьніваюцца некаторай “даўкасьцю”. У яго ёсьць цудоўныя рамансы на словы М[аксіма] Багдановіча (1891—1917), А[ляксандра] Пушкіна (1799—1837) і Т[араса] Шаўчэнкі (1814—1861), дзьве кантаты на словы Э[дзі] Агняцвет[116] і А[ркадзя] Куляшова (1914—1978). Ён таксама быў выдатным аранжыроўшчыкам беларускіх народных песень. У Падкавырава ярка выяўлены “свой” мэлядычны й рытмічны склад музыкі. Падкавыраў шмат напісаў ня толькі канцэртных, але й пэдагагічных твораў, якія ахвотна выконваліся як сьпелымі музыкамі, гэтак і студэнтамі (ён быў выбітным пэдагогам).

Кампазытар Юры Ўладзімеравіч Семяняка[117] быў узнагароджаны званьнямі заслужанага дзеяча мастацтваў БССР, народнага артыста БССР, зьяўляўся ляўрэатам Дзяржаўнай прэміі БССР. Ягоным настаўнікам быў кампазытар Анатоль Багатыроў. Семяняка — аўтар многіх сцэнічных твораў: опэраў, пяці апэрэтаў, музыкі да спэктакляў і фільмаў. Юрый Уладзімеравіч асаблівых посьпехаў дасягнуў у беларускай вакальнай музыцы, істотна ўзбагаціў яе. Кампазытар Семяняка напісаў некалькі соцень песень. Ён пісаў пераважна на вершы беларускіх паэтаў: М[аксіма] Багдановіча, Я[нкі] Купалы (1882—1942), Я[куба] Коласа (1882—1956), М[аксіма] Танка[118], Г[енадзя] Бураўкіна[119], Э[дзі] Агняцвет і іншых таленавітых паэтаў. “Песьняры”, “Верасы”, “Лявоны” й іншыя папулярныя вакальна-інструмэнтальныя беларускія ансамблі “біліся” за ягоныя творы. Іх шчырая мэлядычнасьць, почасту заснаваная на глыбіні беларускай народнай традыцыі, вабіла як выканаўцаў, гэтак і слухачоў. Мяркую, што, як кампазытар-песеньнік і майстар вакальнага жанру, ён зьяўляўся самым папулярным беларускім кампазытарам нашага часу. Так, мэлёдыі зь ягонай опэры-паэмы “Зорка Вэнэра” (па матывах паэзіі М[аксіма] Багдановіча) былі настолькі вядомыя, што многія ўважалі іх за народныя.

Я яго глыбока паважаю. У нашым лёсе было шмат агульнага: ён таксама быў на фронце (узнагароджаны мэдалямі й ордэнам Айчыннай вайны), ня вельмі любіў КПСС і быў старшынёй праўленьня Саюзу кампазытараў БССР (1978–1980). Шчыра цаню той факт, што Юры

[116] **Эдзі Агняцвет** (сапр. **Каган**; 1913—2000), папулярная ў свой час паэтка.

[117] **Юры Семяняка** (1925—1990), заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі (1962), народны артыст Беларусі (1974). У Менску яго імем названая вуліца.

[118] **Максім Танк** (сапр. **Яўген Скурко**, 1912—1995), народны паэт Беларусі (1968), акадэмік АН Беларусі (1972), грамадзкі й палітычны дзеяч.

[119] **Генадзь Бураўкін** (1936—2014), паэт, дзяржаўны дзеяч.

Ўладзімеравіч ня ўдзельнічаў у ганеньнях на мяне пасьля таго, як я абвясьціў пра эміграцыю з СССР (назваўся хворым і не прыйшоў на сход, дзе мяне *"клеймавалі ганьбай"*). Гэта было ўчынкам мужнага чалавека, на які нямногія здольныя ў нашай краіне *"пабядзіўшага сацыялізму"*.

Кампазытар Леў Майсеевіч Абеліёвіч (1912—1985) — заслужаны дзеяч мастацтваў БССР і кавалер ордэну "Знак Пашаны". Нарадзіўся ў Вільнюсе, але вучыўся ў Маскоўскай кансэрваторыі ў самога Мікалая Мяскоўскага! Таксама вучыўся ў В[асіля] А[ндрэевіча] Залатарова. Цікавы кампазытар, схільны да пошукаў. Леў Майсеевіч у сваёй музыцы прытрымліваецца "заходняй арыентацыі", ня ўлічваючы, што ў нас да такога кірунку ў музыцы не прывыклі. У выніку ягоныя творы "зь цяжкасьцю" ўспрымаюцца шырокім колам слухачоў. Кампазытар Абеліёвіч — чалавек надзвычай адукаваны й вельмі адораны, таму сардэчна шкадую, што ягоныя творы не сустракаюць больш цёплай рэакцыі, якой, безумоўна, заслугоўваюць. Ён — аўтар чатырох сымфоній, канцэрту для фартэпіяна з аркестрам. Піша Абеліёвіч галоўным чынам інструмэнтальную музыку. У яго ёсьць нямала п'есаў і для камэрных ансамбляў, і гэтая сфэра творчасьці ўдаецца кампазытару лепей, чым усе астатнія. Кампазытар мае надзвычай удалы фартэпіянны цыкль "Фрэскі", які піяністы ахвотна выконваюць. Вельмі добры й зьмястоўны таксама яго вакаліз "Памяці Д[зьмітрыя] Д[зьмітрыевіча] Шастаковіча». Леў Майсеевіч Абеліёвіч пісаў песьні й рамансы на вершы М[аксіма] Багдановіча, Я[нкі] Купалы, А[дама] Міцкевіча (1798—1855) і М[аксіма] Танка. Мне ён заўсёды быў блізкі паводле разуменьня ролі кампазытара ў грамадзтве й праз спробы не саступаць "кепскаму густу".

Іван Іванавіч Кузьняцоў (1918—1986), ураджэнец Курскай вобласьці. Гэты кампазытар — самародак, выхадзец з самадзейных гурткоў, які атрымаў цудоўную адукацыю ў кампазытараў Аладава й Багатырова. Аўтар апэрэтаў, але піша пераважна для народных хораў, якія любяць у нас у Беларусі. Рэдка які сьпеўны гурток абыходзіцца бязь песень Івана Іванавіча, а іх у яго — вялікая колькасьць. Іван Іванавіч таксама піша ўдалую музыку да спэктакляў і фільмаў. Мы былі суседзямі з Кузьняцовымі ў Менску, яны добра ставіліся да маёй мамы; Кузьняцовы — добрыя, спакойныя, працавітыя людзі.

Рыгор Раманавіч Шырма (1892—1978) — найперш выбітны харавік і дырыжор, а потым ужо — добры кампазытар і цудоўны аранжыроўшчык беларускіх народных мэлёдый, якія ён пачаў зьбіраць яшчэ падлеткам. Ён нарадзіўся ў мястэчку Пружаны (Заходняя Беларусь)[120]. Я ня думаю, што Рыгор Раманавіч Шырма

[120] Дакладней, у вёсцы Шакуны пад Пружанамі. — ***Заўвага перакл.***

атрымаў музычную адукацыю: ён — беларускі самародак! Фармальная адукацыя ў яго ўсё ж ёсьць: ён — настаўнік славеснасьці і ў часе вайны скончыў школу прапаршчыкаў. Пасьля Першай сусьветнай вайны Шырма кіраваў некалькімі хорамі, як царкоўнымі, гэтак і сьвецкімі. Ён пакінуў пасьля сябе ня толькі велізарную колькасьць аранжыровак, а цэлыя тамы народнай музыкі. Мы ўсе пастаянна карысталіся ягоным вопытам і ведамі. Рыгор Раманавіч, безумоўна, набыў неабходныя музыкам навыкі дзякуючы самаадукацыі, таму што спэцыяліст ён выдатны. Доўгія гады ён узначальваў Беларускую харавую капэлу. У партыю ён уступіў позна, недзе ў 60-я[121], відаць, пад ціскам. Рыгор Раманавіч, як і ўсе мы, героем ня быў, але ў партыю яўна не імкнуўся (у саветаў было для нас добрае вызначэньне: *"унутраная эміграцыя"*). Са мной у іх не атрымалася пасадзіць мяне на партыйны кручок, і я гэтаму бясконца рады. Аднак ён зрабіў добрую справу, быўшы адным з арганізатараў "Беларускага таварыства па сувязях з суайчыннікамі за мяжой". Іх жа, тых, хто пасьля вайны апынуўся за мяжой, усіх пагалоўна абзывалі *"ворагамі народу"*! Ён таксама дапамагаў людзям у якасьці дэпутата Вярхоўнага Савету БССР. Я быў шчыра ўсьцешаны, калі Рыгор Раманавіч узначаліў праўленьне Саюзу кампазытараў БССР, і гэтак жа шчыра бедаваў, калі яго ня стала. Ён, безумоўна, узбагаціў беларускую музычную культуру.

Кампазытар Вагнэр, Генрых Матусавіч. Нарадзіўся ў Польшчы, вучыўся ў Менску ў Багатырова па клясе кампазыцыі, а па клясе фартэпіяна ў дацэнта Шаршэўскага. Я б не назваў Вагнэра добрым кампазытарам. Большасьць ягоных твораў уяўляе зь сябе больш ці менш "хвосткі" набор тых ці іншых "абаротаў". Пісаў ён і сымфоніі, і асобныя п'есы для фартэпіяна, скрыпкі й іншых інструмэнтаў, але ўсё гэта аднолькава невыразна. Мне асабіста ягоная творчасьць ніколі не падабалася, дый чалавек ён нейкі назойлівы.

Кампазытар Уладзімер Уладзімеравіч Алоўнікаў. Нарадзіўся ён у Бабруйску, вучыўся ў Залатарова па клясе кампазыцыі і ў Бэргэра па клясе фартэпіяна. Пісаў у многіх жанрах, асабліва ўдаваліся яму сымфанічныя паэмы патрыятычнага зьместу й пра прыроду. Мне даспадобы дзьве ягоныя паэмы: "Партызанская быль" і "Возера Нарач". Музыка гэтага кампазытара запамінальная й заўсёды выдатна інструмэнтаваная. У Алоўнікава вельмі пасьпяховыя песьні пра ваенны час: напрыклад, "Песня пра Даватара" імгненна абляцела СССР, засталася ў сольным і харавым рэпэртуары многіх вакалістаў і харавых калектываў. Уладзімер Уладзімеравіч Алоўнікаў — сур'ёзны й патрабавальны да сябе музыка, выдатны тэарэтык і строгі, бязьлітасны ў дачыненьні да ляноты пэдагог. Зь іншага боку, калі ён бачыў, што

[121] Дакладней, у 1959 г. — ***Заўвага перакл.***

студэнт стараецца, але не дае рады, то заўсёды дапамагаў. З пачатку 1960-х гадоў Алоўнікаў — рэктар БДК. Ня ведаю, ці працуе зараз на гэтай пасадзе Алоўнікаў, але й як кампазытар, і як пэдагог і чалавек, ён дастойны павагі[122].

Кампазытар Смольскі Дзьмітры Браніслававіч (нар. 1937) — самы малады й здольны член нашага саюзу. Ён працуе ў шматлікіх жанрах, і ў кожным зь іх выяўляецца арыгінальнасьць музычнага мысьленьня, пачуцьцё стылю й, я б сказаў, выдатны балянс інтэлігентнасьці, інтуіцыі й ведаў. Нарадзіўся ён у Менску ў сям'і вядомага музыказнаўцы Браніслава Сільвэстравіча Смольскага. Дзьмітры Смольскі — кампазытар-вундэркінд, ягоныя першыя творы загучалі ў нас яшчэ да ягонага падлеткавага ўзросту. Праўда, здароўе ягонае было кепскае — зь дзяцінства было слабое сэрца. Гэтая акалічнасьць прымусіла яго вярнуцца ў Менскую кансэрваторыю з Маскоўскай, у якую ён паступіў у 18 гадоў. БДК закончыў па клясе кампазыцыі ў прафэсара Багатырова. Сапраўднай сэнсацыяй у музычным сьвеце сталі камэрная араторыя "Песьні Хірасімы" (1965) на вершы японскіх паэтаў і ягоная сымфонія "Актафонія" (1967). Дзьмітры Смольскі атрымаў за іх званьне заслужанага дзеяча мастацтваў. Ён напісаў выдатную опэру на лібрэта Ўл[адзімера] Караткевіча "Сівая легенда" ў 1979 годзе. Я ўпэўнены, што беларускі кампазытар Дзьмітры Браніслававіч Смольскі стане вядучым кампазытарам у сьвеце, чаго я яму ад усёй душы й жадаю![123].

* * *

*На гэтым спыняюцца чытэльныя запісы Дзьмітрыя Раманавіча Камінскага. Тым ня менш спадзяюся, што чытача ўзбагацілі бездакорная эмацыйная памяць, чалавечнасьць, дабрыня і ўспрыманьне жыцьця прадстаўніка пакаленьня царскай і савецкай эпохі, найбольш пабітага рэвалюцыямі й войнамі. Чытач успамінаў Дзьмітрыя Камінскага лёгка зразумее стаўленьне сям'і апошняга да савецкай улады. Як і ў большасьці насельніцтва СССР таго часу, здольнага самастойна мысліць, гэта быў пасыўны супраціў рэжы-*

[122] **Уладзімер Алоўнікаў** (1919—1996) займаў пасаду рэктара ў 1962—1982 гг.

[123] **Дзьмітры Смольскі** сапраўды стаў адным зь вядучых кампазытараў Беларусі. Што яшчэ больш цешыць, музычна-кампазытарская дынастыя Смольскіх не перарываецца, яна доўжыцца ягоным сынам, Віктарам Дзьмітрыевічам Смольскім (нар. 1969) — кампазытарам, мультыінструмэнталістам, пэдагогам і прадзюсарам. Сям'я Смольскіх — тыповая ў тым, што датычыць укладу беларускіх татараў у культуру й навуку роднай краіны.

*му. Аднак асабіста Дзьмітры Камінскі стараўся жыць паводле сумленьня.*

*Вось, напрыклад, такі выпадак — адзін з многіх, які мне запомніўся. Мне было гадоў 14. Айчым прыйшоў дадому й расказаў, што ў яго на прыёме быў беларускі паэт, рэпрэсаваны пасьля вайны за тое, што пад нямецкай акупацыяй пісаў вершы, друкаваў іх у беларускай прэсе, часам чытаў іх на эстрадзе й па радыё. Чалавек гэты быў абсалютна апалітычны, як і большасьць беларусаў ягонага пакаленьня. Вярнуўшыся пасьля 17 гадоў лягераў і ссылак на радзіму, ён галадаў, таму што праз сваё мінулае ня мог уладкавацца на працу. Ён папрасіў Дзьмітрыя Раманавіча напісаць музыку на ягоныя вершы. Яны дамовіліся, што ў аўтара вершаў будзе новы псэўданім, і Камінскі напісаў некалькі песень на вершы гэтага аўтара, прозьвішча якога ня памятаю[124]. Гэтае супрацоўніцтва дало імпэт больш-менш нармальнаму жыцьцю няшчаснага паэта. Сьледам за Дзьмітрыем Камінскім і іншыя кампазытары далі яму магчымасьць падзарабіць. У далейшым гэты чалавек атрымаў працу ў доме культуры нейкага калгасу (таксама па рэкамэндацыі айчыма). Гэтак жа рабіла й мая маці. Пасьля сьмерці бацькі ёй было цяжка спраўляцца зь печамі нашай драўлянай халупы на ўскраіне гораду, і яна з дапамогай братоў вырашыла паставіць агравальны кацёл з батарэямі. Прыйшоў малады чалавек, які аказаўся выхаванцам дзіцячага дому; ягоных бацькоў расстралялі за тое, што ў іх, школьных настаўнікаў, у доме жылі немцы. Хлопец сказаў, што, калі яна баіцца, то ён сыдзе. Гэта было ў 1962 годзе: дзевяць гадоў мінула са сьмерці Сталіна, але страх, відаць, усё адно прысутнічаў у жыцьці людзей. Мамін адказ быў такі: яна пасадзіла хлопца за стол, дзе ён харчаваўся з намі ўвесь час, пакуль працаваў. Хочацца адзначыць, што абодва выпадкі, прыведзеныя вышэй, былі хутчэй тыповыя, чым выключныя для жыхароў Беларусі таго часу.*

*Зразумела, часы зьмяніліся. Аднак пераемнасьць — гэта жывая сіла, і ўспаміны Дзьмітрыя Раманавіча Камінскага дораць нам яе, раскрываючы перад намі панараму падзей, сьведкам якіх ён быў. Мяркую, што ўспаміны Дзьмітрыя Раманавіча Камінскага, вярнуўшыся на радзіму ягонага творчага натхненьня, унясуць шчырую ноту ў гістарычную памяць краіны, памяць пра яе музычную творчасьць.*

*Публікацыя й камэнтары Зіны Гімпелевіч*
*Пераклаў з расейскай Вольф Рубінчык*

---

[124] Некаторыя дэталі апісаньня падказваюць, што гаворка ідзе пра Юльяна Сергіевіча (1910—1976). — ***Заўвага перакл***.

*Архівалії*

***Лявон Юрэвіч***
*Нью-Ёрк*

# БЛІЗКІЯ КАНТАКТЫ ТРЭЦЯЙ СТУПЕНІ

Адзін небарака сказаў: жыць у грамадзтве й быць вольным ад яго — нельга. Асоба, арганізацыя, грамада хоцькі-няхоцькі мусіць камунікаваць. Зь іншай асобаю, арганізацыяй, грамадою.

Колькі ж у гэтых кантактаў колаў, колькі прыступкаў, ступеняў? Дзевяць? Пачынаем рахаваць…

Ліставаньне, выдрукаванае, прыкладам, у кнізе Янкі Запрудніка "Па гарачых сьлядах мінуўшчыны" (Мінск, 2015) або ў "Шматгалосым эпісталярыуме" (Мінск, 2012) аўтара гэтых радкоў, — гэта сьведчаньне кантактаў першай ступені: размовы, абмеркаваньні, сваркі й споведзі беларускай эміграцыі паміж сабой.

Выйшла й першая кніга пра эміграцыйныя кантакты другой ступені: з суайчыньнікамі ў БССР. Яна так і называецца — "Кантакты"[1].

Кантакты ж трэцяй ступені — беларускіх эмігрантаў з эмігрантамі іншых нацыянальнасьцяў — заставаліся тым часам убаку ад пагляду дасьледчыкаў і архівістаў; тут можна хіба назваць толькі троху закранутыя сувязі ў палітычнай сфэры[2]. А былі ж падобныя і ў сфэры культурніцкай — і таксама вельмі няпростыя, пра што хоць-бы сьведчыць гісторыя Льва Акіншэвіча[3].

Пра асобныя зь іх — у наступных трох эпізодах-сколках.

### "Lietuvių enciklopedija"

30 красавіка 1953 г. у Бостане быў выдрукаваны зварот у справе стварэньня "Літоўскай Энцыкляпэдыі" — амбіцыёзнага велічнага навуковага й друкарскага праекту невялікай нацыі, што сёньня стаіць на паліцах 36 тамамі. А ўжо 18 чэрвеня Аляксандар Ружанец-Ружанцоў пісаў да Вітаўта Тумаша прапануючы таму разам пісаць

---

[1] Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Кантакты: Сіла прыцягнення Бацькаўшчыны: (да 90-годдзя Янкі Запрудніка). Мінск, 2016. — 280 с.

[2] Гардзіенка, Наталля; Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1947—1970): Падзеі. Дакументы. Асобы. Мінск, 2013.— 648 с.

[3] Юрэвіч, Лявон. Эмігрант Францыск Скарына, ці Апалогія. Мінск, 2015. С. 449—459.

артыкулы: *"[...] Але ж усё гэта "дробязі" ў параўнаньні зь лістом, які атрымаў я сёньня з рэдакцыі "Літоўскай Энцыкляпэдыі". Пакідаю ліст (далучаю копію) бязь перакладу. Спадзяюся, што атрымаю згоду на супрацоўніцтва, а ўжо з ганарарам, калі яго праўдзіва будуць плаціць, умовімся дзяліць на палову (калі ня будуць плаціць, дык супрацаўнікі ўспомняць вельмі папулярнае ў ліцьвіноў "neapsimoka"*[4] *і разыйдуцца па дамам... Дык жа дадаю і гэтак званыя "веці" (gaires)*[5] *з парадамі рэдактарам і супрацоўнікам. Патрэбны будуць кароткія біяграфіі: прозьвішча, імя, даты нараджэньня й сьмерці, мейсца нараджэньня, адукацыя, навуковая ці грамадзкая праца, творы, рэдагаваньне часапісаў і г. д., але ж якнайкарацей. Сягоньня, "да зарэзу", патрэбна мне біяграфія сп. Прэзыдэнта М[іколы] Абрамчыка! Бо ўжо пачынаюць набіраць! Дык жа зь ёй як мага хутчэй, спадзяюся, што ў інфармацыйных выданьнях яна друкавалася ня раз. Апрача гэтага сьв. п. Ф[ранцішка] Аляхновіча, Н[атальлі] Арсеньневай-Кушаль, [Радаслаў] Астроўскі, да II тому [Палута] Бадунова, М[аксім] Багдановіч, Ф[ранцішак] Багушэвіч. Найбольш будзе ў тым томе, дзе будзе літара G — Gudija, gudai, gudu*[6] *і г. д. Буду чакаць вашага адказу і спадзяюся, што будзе ён прыхільны. Валей інфармацыю аб Беларусі і беларусох даюць беларусы і перакладае таксама беларус. Але-ж сьв. п. Вацлаў Іваноўскі часам казаў, што ў Смаленшчыне беларусаў ужо не было, дыкжа я быў крыху падазрэнны, а яшчэ й крыху "зьліцьвінялы..."*[7].

У паперах Аляксандра Ружанцова ў БІНіМе захаваліся накіды артыкулаў і пра Міколу Абрамчыка, і пра Радаслава Астроўскага, і пра Натальлю Арсеньневу, нескарыстаныя, на жаль, рэдакцыяй "Літоўскай Энцыкляпэдыі", сьпісы асобаў, чые біяграфіі плянавалася яшчэ напісаць, а таксама ліст Вітаўта Тумаша, які тлумачыць нам сёньня асаблівасьці беларуска-літоўскіх стасункаў на эміграцыі й чаму супрацоўніцтва ўрэшце не атрымалася.

*2 верасьня 1953 г.*

*Вельмі Паважаны Спадару Палкоўніку!*

*Толькі сяньня атрымаў, пасьля доўгіх вандровак туды-сюды, Ваш ліст да мяне, пісаны аж 26 чэрвеня! Два месяцы ды яшчэ з*

---

[4] ***Neapsimoka*** (літ.) — ня варта.

[5] ***Gaires*** (літ.) — інструкцыі.

[6] ***Gudija, gudai, gudu*** (літ.) — адзін з варыянтаў назваў: Беларусь, беларус, беларускі.

[7] Гэты й наступныя цытаваныя ў тэксьце лісты захоўваюцца сёньня ў БДАМЛМ.

*гакам! Зь яго толькі цяпер даведайся, што біяграфію Абрамчыка Літоўская Энцыклёпэдыя зьмясьціць адмовілася ды што Вы таксама адмовіліся ад супрацоўніцтва.*

*Паколькі гэтая справа цяпер прыблізна выясьнілася, дык напішу тут і мой пагляд. Раней стрымліваўся ад сваіх камэнтароў, бо чакаў, які будзе адказ Біржышкі[8] на Ваш ліст, у якім Вы ставілі рубам справу. Цяпер сытуацыя ясная.*

*Дык мушу сказаць, што супрацоўніцтва Інстытуту зь Літоўскай Энцыклёпэдыяй у такой форме, якой Вы прапанавалі, для Інстытуту была няпрыемлімая. Інстытут ня можа й ніколі ня будзе магчы супрацоўнічаць у такой працы афіцыяльна, публічна, як фірма, хоць заўсёды гатовы памагчы ўсім, чым толькі можа неафіцыяльна, праз паасобных сяброў.*

*А прычына гэтага такая, што шмат у нас ёсьць справаў сплеценых, паблытаных і ў гісторыі, і цяпер, на сутнасьць якіх так розныя існуюць пагляды і ў нас, і ў летувіскіх вучоных, што Інстытут ніколі ня можа ў нейкі нават ускосны спосаб нясьці афіцыяльную адказнасьць за тое, што будзе напісана ў ЛЭ аб нас. Гэта можа мець для Інстытуту непрыемныя такія кансэквэнцыі, што злосныя адзінкі з пасярод беларусаў, даведаўшыся аб тым, што Інстытут супрацоўнічае з рэдакцыяй ЛЭ, посьле будуць нам закідаць, чаму ў ЛЭ тое й так напісана, а не накш, што мы "прадаліся" і г. д., і г. д. Можа, часам гэтага й ня быць, але трэба лічыцца з тым, прынамся, мы мусім лічыцца з такімі магчымасьцямі — у палітыканаў ды дэмагогаў няма межаў ды граніц — і таму супрацоўніцтва нашае й можа існаваць толькі неафіцыяльнае, толькі паасобных сяброў, але Інстытут ня можа браць на сябе й ценю адказнасьці за тое, што фактычна ад яго зусім і не залежыць.*

*Думаю, добра нас разумееце ды ня будзеце гнявацца за такое адзіна для нас магчымае становішча.*

*Цяпер, калі ходзіць аб біяграфію Абрамчыка, дык нам няведамыя меркаваньні, дзеля якіх яна адкінутая. Можа ў гэтым і разумная палітычная асьцярожнасьць: пакуль палітычныя фігуры яшчэ жывуць і дзеюць, часта бывае лепш нічога пра іх не пісаць, каб пазьней ня прыходзілася адварачываць "ката дагары нагамі". Калі толькі з гэтых меркаваньняў біяграфія ня пускаецца — гэта можна зразумець. Падабаецца нам ці непадабаецца, але рэдактары энцыклёпэдыі як гаспадары маюць цалкам права рабіць сабе такую*

---

[8] **Вацлавас Біржышка** (літ. *Vaclovas Biržiška*, 1884—1956), літоўскі юрыст, бібліёграф, грамадзкі й палітычны дзеяч. Ад 1944 — эмігрант. У 1949 г. пасяліўся ў ЗША. Быў ганаровым кансультантам Бібліятэкі Кангрэсу, у 1953—1954 гг. — галоўным рэдактарам *"Lietuvių enciklopedija"* (36 тамоў, 1953—1969).

*эсэкурацыю. Калі ёсьць іншыя прычыны — тады іншая справа. Калі, напрыклад, біяграфія Абрамчыка ня будзе памешчаная, але затое біяграфія Астроўскага, ягонага палітычнага контрагента, гэта будзе значыць, што рэдакцыя ЛЭ ідзе па лініі груповых сымпатыяў да адных, а антыпатыяў да другіх. Паколькі энцыклёпэдыя друкуецца толькі раз на дзесяткі гадоў, дык такое становішча ўжо было-б блізавокім, неразумным, бо ў палітыцы вельмі часта бывае, што сяньняшнія блізкія прыяцелі робяцца заўтра ворагамі, і наадварот. Ня думаю, што ЛЭ, маючы такога дасьведчанага рэдактара, як прафэсар Біржышку, такую кардынальную памылку наагул зробіць.*

*Для нас практычна гэта значыць, што памяшчэньне ці непамяшчэньне біяграфіяў двох — і інж. Абрамчыка, і Астроўскага — ня ёсьць такой істотнай справаю. Затое памяшчэньне толькі аднае Астроўскага было-б ужо выразнаю вузка груповаю сьцежкаю, і тады супрацоўніцтва Інстытуту ня было-б магчымым і нават у неафіцыяльнай, прыватнай форме дапамогі паасобнымі сябрамі.*

*Сам Інстытут па духу свае працы ня ёсьць груповаю, а чыста навукова-культурнаю арганізацыяй, якая пакідае сваім сябрам поўную свабоду ў іх палітычна партыйных паглядах, калі яны толькі ня ёсьць антыбеларускімі. У сябрах Інстытуту хоць вялікая бальшыня (каля 80%) і староньнікаў БНР (Абрамчыка), але ёсьць і значная колькасьць і зусім безпартыйных ды нават некалькі сяброў БЦР (напр[ыклад], Сяднёў). Калі Інстытут усё-ж неафіцыяльна мае свой твар крыху про-БНР, дык гэта толькі таму, што бальшыня ягоных сяброў гэтага кірунку. Ня могуць-жа людзі зусім вылезьце з свае скуры. Але афіцыяльна Інстытут ёсьць і будзе заўсёды арганізацыяй па-за партыйнаю, справы партыйныя — не ягоныя. Вось таму Інстытут і ня можа браць удзел у такіх працах ці імпрэзах, якія пастаўленыя ў вузка партыйнай плошчы.*

*Было-б шкода, хоць і не такая вялікая бяда, калі-б ЛЭ пайшла такой вузкапартыйнай сьцежкай. Шкода — бо нічога добрага з гэтага ня выйшла ў выніку й для літоўскіх чытачоў (ад аднастароньніх хвальшывых інфармацыяў). Невялікая бяда — бо ад таго, што лятувіскае грамадзянства будзе аднастароньне паінфармаванае, можа быць скарэй шкода самым лятувісам, а не беларусам. ЛЭ і так чытаюць толькі самі лятувісы, а іншы, заходні сьвет, мушу тут з поўнай сьведамасьцю падчыркнуць, і так заўсёды, аказываецца, куды лепш паінфармаваны аб нас, чым нашыя самыя блізкія суседзі (прынамся той, каму трэба). Аб гэтым я наглядна пераканаўся, калі чытаў некалі інфармацыйную зацемку аб нас у "Лятуве"[9]*

[9] Маецца на ўвазе ***"Lietuva"*** — часопіс, выданьне Камітэту вызваленьня Літвы і Камітэту вольнай Эўропы. Выдаваўся ў Нью-Ёрку ў 1952—1956 гг.

*спадара Беленіса. Свае галоўныя заўвагі, якія перадаю яму гэтымі днямі на рукі, аб гэтай інфармацыі пасылаю тут і Вам для Вашага ведама. Гаварыў ужо зь ім тэлефанічна й пабачымся за некалькі дзён.*

*Чалавек падыходзіў да справы, магчыма, зусім шчыра, але адна група падсунула яму памфлетную літаратуру партыйную самага нізкага гатунку, і бедны Беленіс, не падумаўшы аб тым, што такія рэчы заўсёды трэба праверыць і зь іншай стараны, паўтарае іх, лічачы, відаць, што робіць добрую прыслугу свайму грамаадзянству. Таксама аб поўнай незінтэрэсаванасьці ў лепшых справах і паглядах сьветчаць артыкулы й Матусаса*[10]*, і яшчэ некага, якія Вы мне некалі даслалі. Нейк усе пішуць аб нашых справах з такім зарыентаваньнем, як аб нейкіх полінэзыйцах! Мы моцна гэтым галавы ня ломім, дзеля раней пададзеных прычынаў: для нас шкоды ад гэтага мінімальныя, калі наагул якія. Як прыйшлося пераканацца і ў Вашынгтоне, і ў Эўрапэйскіх вузлавых палітычных мясцох, ведамасьці аб нас там куды лепшыя ды глыбейшыя ад інфармацыяй "Летувы", вось таму і выходзіць такі парадокс, што хоць Беленіс піша аб групе Астроўскага як аб самай дужай ды ўплывовай, дык у палітычным жыцьці міжнацыянальным лічацца аднак амаль усе (за вылучэньнем хіба лятувісаў) акурат з групаю БНР.*

*Калі такое становішча сьведамае, дзеля таго, што БНР "не аддала Вільні" — гэта мала папраўляе палажэньне. Падчас доўгіх некалі перамоваў з сп. Сідзікаўскасам*[11] *(яшчэ ў Эўропе) з боку БНР прапанавалася: 1. наагул аб справе Вільні не гаварыць, пакінуўшы яе вырашэньне гісторыі; 2. плябісцыт; 3. фэдэрацыя з супольнаю сталіцаю Вільняю і 4. тры кантоны — лятувіскі, беларускі ды асобна віленскі. На ніштто сп. Сідзікаўскас ня мог пагадзіцца, а дамагаўся толькі "паперкі", на якой было-б зрачэньне ўсялякіх правоў з нашай стараны*[12]*. Паколькі на ўсіх этнаграфічных картах салідных навукоўцаў сьвету падаецца, што Вільня ляжыць сяньня*

---

[10] **Ёнас Матусас** (літ. *Jonas Matusas,* 1899 — 1962), літоўскі гісторык, доктар гісторыі (1930). Закончыў Вілкавіскую духоўную сэмінарыю, ад 1924 г. сьвятар. У 1924—1930 гг. вучыўся ў Літоўскім унівэрсытэце. Ад 1940 г. дацэнт Каўнаскага ўнівэрсытэту, выкладаў гісторыю Літвы й літоўскай культуры. У 1945—1946 гг. жыў у Нямеччыне, ад 1948 г. — у ЗША.

[11] **Вацлавас Сідзікаўскас** (літ. *Vaclovas Sidzikauskas*, 1893—1973), вядомы літоўскі дыплямат, юрыст, актыўны дзеяч Найвышэйшага літоўскага камітэту вызваленьня. Пазьней, у 1964—1966 г., ягоны Прэзыдэнт.

[12] Падрабязьней пра перамовы БНР зь літоўцамі гл.: Гардзіенка, Н.; Юрэвіч, Л. Рада БНР (1947—1970): Падзеі. Дакументы. Асобы. С. 40—48.

*ў беларускім этнаграфічным моры (Рыціх*[13]*, Карскі*[14]*, Маскоўская Дыялектолёгічная Камісія*[15]*), дык ніхто не ўпаўнаважаны ад нас і подпісамі навуковыя факты зьмяняць. Ад тых ці іншых подпісаў этнаграфія й так ня зьменіцца. Найбольш пікантна тое, што нават сама "Летува" ў вадным нумары ў вартыкуле Пузінаса памясьціла этнаграфічную карту праф. Васмэра*[16]*, на якой Вільня выразна ляжыць у беларускіх этнаграфічнай прасторы, а ня лятувіскай! Адным словам, празявалі!*

*Я сам належу да тых, што ёсьць здэцыдаванымі староньнікамі пагляду, што мы павінны й можым знайсьці супольную формулу "модус вівенді"*[17] *на палітычным форуме, бо ад спрэчак больш для абодвых бакоў шкоды, чым карысьці, ды ў сучаснай сытуацыі гэта наагул выглядае на калатню за "бягучага ваўка хвост".*

*Распісаўся Вам пра гэта ўсё шырэй, каб зразумелі, скуль і як паўстала ды пашыраецца сярод лятувіскага грамадзянства лягенда аб нашым "імпэр'ялізьме". Беларусы-ж стаялі толькі і стаяць за прынцып, які на ўсім сьвеце ніхто ня лічыць за імпэр'ялістычны (за выняткам лятувісаў!) — свабода народу ў ягоных <u>этнаграфічных</u> межах. (Палякі нас за гэта называюць толькі "сэпаратыстамі", але ніколі аж так помпатычна імпэр'ялістамі!).*

*Выбачайце за так шырокае адступленьне ад нашых звычайных тэмаў ліставаньня, але раз трэба было справу асьвятліць, каб ведалі, што мы думаем.*

*Пра сп. Шчэснулевіча (якое прыгожае беларускае прозьвішча) яшчэ ня прыходзілася чуць. Калі адазвецца — думаю, зможым памагчы ягонай бядзе. Што да "той самай косткі", дык чуюся ў аба-*

---

[13] **Аляксандар Рыціх** (рас. *Александр Фёдорович Риттих,* 1831—1900), расейскі этнограф, ваенны картограф, аўтар *"Атласа народонаселения Западнорусского края по вероисповеданиям и национальностям"* (Санкт-Пецярбург, 1863).

[14] **Яўхім Карскі** (1860—1931), філёляг-славіст, заснавальнік беларускага навуковага мовазнаўства й літаратуразнаўства, этнограф, фальклярыст, палеограф. Сярод іншага аўтар карты беларускіх гаворак (1903).

[15] **Маскоўская дыялекталягічная камісія** была заснаваная ў 1903 г. пры Аддзяленьні рускай мовы і славеснасьці Расейскай акадэміі навук. Вынікам яе працы стала "Дыялекталагічная карта рускай мовы ў Эўропе" (1914).

[16] Відаць, маецца на ўвазе **Макс Фасмэр** (мям. *Max Julius Friedrich Vasmer*, 1886—1962), нямецкі мовазнаўца, лексікограф, славіст, дасьледчык усходнеславянскай тапаніміі й антрапаніміі.

[17] ***Modus vivendi*** (лац.) — згода бакоў суіснаваць, нягледзячы на розныя погляды на канкрэтную праблему.

*вязку Вас дакладней паінфармаваць — пакольні ўжо так доўга перапісываемся — скуль у мяне веда летувіскай мовы. Паходжу я зь Вілейскага павету (Старая Вялейка). У часе першай сусьветнай вайны немцы нашую вёску эвакуявалі аж у Сувальшчыну, у Грышкабуды, Шакю апскрытіс[18]; там пражылі мы аж каля васьмі гадоў, там я кончыў лятувіскую пачаткавую школу, стуль у мяне й крыху "сувальскі" акцэнт у вымове.*

*Што да біяграфіяў Аляхновіча ды Арсеньневай, дык яны зусім добра напісаныя. Толькі ў Арсеньневай трэба канечна вычыркнуць адзін сказ: "Ін тэн юсс ішвадавс ленку віряўсібэс сусітарімас су советайс"[19]. Гэта ня згодна з праўдаю. Кушэля выпусьцілі самі бальшавікі месяц перад нямецка-савецкай вайной, і нічога палякі ня мелі супольнага зь ягоным вызваленьнем, ані ён не прайшоў з Андэрсам дарогі праз Іран ды Афрыку. Тады-ж была адпушчаная з Казахстану і Арсеньнева, і гэта пазволіла ім знайсьціся на нямецкай старане падчас вайны. У біяграфіі Аляхновіча мо' варта было-б дадаць у пераліку важнейшых твораў "Няскончаную драму" (але гэта ўжо менш важная справа). Гэта лічыцца найлепшы твор. Яшчэ адна памылка: Арсеньнева не радзілася ў Вільні! Яна роджаная нейдзе на Каўказе, дзе ейны бацька быў нейкім чыноўнікам.*

*Прашу не забывацца пра: біяграфію, фатаграфію, собскую бібліёграфію (беларусікі) і пра ўспаміны аб Ластоўскім. Чакаю!*

*З шчырымі прывітаньнямі!*

*Ваш В. Тумаш.*

*<u>Некаторыя заўвагі й праўкі да агляду</u>*
*<u>беларускага палітычнага жыцьця К. Белініса</u>*
*<u>ў № 2 лятувіскага часапісу "Летува", Нью Ёрк, 1952 год</u>.*

*Інфармацыя, пісаная з добрай інтэнцыяй, пазнаёміць лятувіскае грамадзянства з палітычным жыцьцём беларускае эміграцыі. Нажаль, як відаць з зацемкі, аўтар натрапіў ня толькі на старонных, але й нясумленных інфарматараў зь беларускага боку. Гэта ёсьць прычынаю таго, што бальшыня інфармацыяў, асабліва сам абраз беларускага палітычнага жыцьця на эміграцыі, — фальшывыя. Бязумоўна, віна за гэта падае толькі на гэтых інфарматараў, а не на даверліавага аўтара зацемкі.*

*Для прыкладу некалькі важнейшых недакладнасьцяў з зацемкі:*

*1. Няпраўдаю ёсьць, што старшыня Рады БНР, нябошчык В[асіль] Захарка, ня рупіўся беларускімі палітычнымі справамі. Наадварот,*

[18] ***Šakių apskritis*** (літ.) — Шакяйскі павет.

[19] Быў вызвалены дзякуючы пагадненьню Польшчы з Саветамі (літ.)

*на сваім становішчы ён быў актыўным, нягледзячы на хваробу (тубэркулёз) аж да самай сьмерці. Захарка вёў безперапыннае змаганьне за правы беларускага народу праз усё сваё жыцьцё, пішучы мэмар'ялы як да Лігі народаў, так і паасобных дзяржаваў, асьветчаньні, пратэсты, друкуючы артыкулы, заклікі. Лятувіскім палітычным дзеячом можа быць цікава ведаць, што ўжо падчас нямецкай акупацыі Чэхаславаччыны старшыня Захарка выслаў на рукі лятувіскага прэзыдэнта 12 кастрычніка 1939 г. пратэст з прычыны савецка-лятувіскай угоды ў справе Вільні.*

*2. Недакладнае цьверджаньне, што пасламі ў польскі сойм былі "некаторыя выдатныя дзеячы, як Сабалеўскі ды Рагуля". У першым польскім сойме 1923 г. было 12 беларускіх паслоў, а ў сэнаце 3 сэнатары. Паколькі сэнатар Рагуля[20] сапраўды праяўляў немалую актыўнасьць, дык затое пасол Сабалеўскі[21] — ніякой: трудна сяньня нават прыпомніць, ці ён сказаў хоць адну прамову ў Сойме[22]. Вядучымі актыўнымі пасламі былі [Браніслаў] Тарашкевіч[23], кс. А[дам] Станкевіч, [Сымон] Рак-Міхайлоўскі[24], [Пётра] Мятла[25],*

---

[20] Маецца на ўвазе **Васіль Рагуля** (1879—1955), палітык і грамадзкі дзеяч, пэдагог. У 1922 г. быў выбраны паслом у польскі сойм як беларускі кандыдат. Пасольскія абавязкі выконваў у 1922—1927 гг., у 1928—1930 гг. сэнатар. Сябра Беларускага пасольскага клюбу. Адзін зь лідараў Беларускага сялянскага саюзу. Падчас Другой сусьветнай вайны быў бурмістрам Дзятлава, пасьля вайны — на эміграцыі. Жыў у Нямеччыне, Бэльгіі, ЗША.

[21] **Юры Сабалеўскі** (1889—1957), грамадзка-палітычны дзеяч. У 1926—1927 гг. быў дэпутатам польскага сойму, уваходзіў у пасольскі клюб БСРГ, затым у Беларускі пасольскі клюб. Пасьля вайны жыў на эміграцыі ў ЗША й Нямеччыне.

[22] Падрабязьней пра дзейнасьць Юрыя Сабалеўскага ў якасьці дэпутата гл.: Сабалеўскі, Юры. Беларуская сялянска-работніцкая грамада // Запісы БІНіМ. № 34. Нью-Ёрк — Менск, 2011. С. 325—421.

[23] **Браніслаў Тарашкевіч** (1892—1938), палітычны й культурны дзеяч, у 1925—1927 гг. старшыня Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады (БСРГ).

[24] **Сымон Рак-Міхайлоўскі** (1885—1938), грамадзка-палітычны дзеяч, пасол польскага сойму (1922—1927), адзін зь лідараў Беларускай сялянска-работніцкай грамады. У 1927 г. арыштаваны й зьняволены. У 1930 г. датэрмінова вызвалены, выехаў у БССР, дзе быў рэпрэсаваны.

[25] **Пятро Мятла** (1890—1936), грамадзка-палітычны й культурны дзеяч. У 1922—1927 гг. дэпутат польскага сойму. Адзін з стваральнікаў і лідараў Беларускай сялянска-работніцкай грамады. У 1927 г. арыштаваны й зьняволены. У 1930 г. датэрмінова вызвалены, выехаў у БССР, дзе быў рэпрэсаваны.

*[Фабіян] Ярэміч*[26]*. У другі польскі сойм 1928 г., нягледзячы на паліцыйную забарону выставіць беларускія выбарчыя сьпіскі ў шмат якіх акругах, змагло прайсьці ўсё-ж ізноў 10 беларускіх паслоў. І толькі ў сойм 1930 г. польская адміністрацыя не дазволіла беларусам ужо ніводнага выбарчага сьпіску, і ў сойм прайшоў толькі адзін Ярэміч па дзяржаўным сьпіску.*

*3. Дакладны назоў Рады, на чале якой стаіць інж. Абрамчык, не “Нацыянальная рада”, а Рада Беларускай Народнай Рэспублікі (рада БНР). Гэтая Рада існуе ад 1918 г. як простая наступніца Рады Усебеларускага Кангрэсу ад 1917 г.*

*4. Цьверджаньне, што “група Абрамчыка адзіночыць полёнафільска настроеных беларускіх каталікоў ды вуніятаў” — чысты фальш. Калі ходзіць аб полёнафільства, дык ні сам Абрамчык, ні нехта паважнейшы дзеяч з Рады БНР ніколі ня быў і ня ёсьць полёнафілам. Няпраўда (дзе факты?), што Рада БНР за тое, каб высяліць зь Беларусі каляністых расейскіх, а пакінуць польскіх. Гэта чыстая выдумка. Рада БНР за тое, каб землі Беларусі пакінулі ўсе сілком населеныя жыхары, незалежна, скуль яны паходзяць. Затое Астроўскі — ведамы “масьціты” полёнофіл беларускага палітычнага руху. Ён быў лідэрам беларускіх полёнафілаў у Заходняй Беларусі пад Польшчаю ад 1928 г. Ды выдаваў за грошы палітычнага аддзелу віленскага ваяводзтва (што было тады публічнаю “тайнаю” для ўсіх у Вільні) свой полёнафільскі орган “Родны Край”, ды стала выступаў супроць супольнага беларуска-лятувіска-ўкраінскага фронту ў Польшчы з даручэньня Ваяводзтва. Аб гэтым можа пасьветчыць кажны лятувіскі палітычна-грамадзкі працаўнік Вільні, які толькі браў удзел у палітычным жыцьці тады (да пачатку апошняй сусьветнай вайны) ды ведаў беларускія палітычныя суадносіны.*

*А што да “каталікоў ды вуніятаў” толькі, дык праўдаю ёсьць, што каля Рады БНР сёньня згрупаваная бальшыня беларускай эміграцыі й праваслаўнай, і каталіцкай. Апора на вуніятаў рэч наагул неістотная, бо беларускіх вуніятаў на эміграцыі можна палічыць на пальцах адной рукі. Што да праваслаўных, дык аб тым, якая колькасьць зь іх падтрымлівае Раду БНР, а якая Беларускую Цэнтральную Раду Астроўскага найлепш сьветчыць той факт, што Беларуская Праваслаўная Аўтакефальная царква, якая прызнае палітычнае кіраўніцтва толькі Рады БНР пад старшын-*

---

[26] **Фабіян Ярэміч** (1891—1958), грамадзка-палітычны дзеяч. Зь вясны 1920 г. старшыня віленскага Беларускага нацыянальнага камітэту. У 1922—1935 гг. быў паслом польскага сойму трох скліканьняў. У 1925—1930 гг. старшыня Беларускага пасольскага клюбу, адзін зь лідараў Беларускага сялянскага саюзу.

*ствам інж. Абрамчыка і якая мае на чужыне двух япіскапаў, мае сяньня каля дзесяці сваіх праваслаўных прыходаў, нягледзячы на вялікае расьцярушаньне беларускае эміграцыі па ўсім сьвеце. Тымчасам староньнікі Рады Астроўскага маюць толькі адзін адзіны праваслаўны прыход на ўсім сьвеце (Саўт-Рывэр). Гэта найлепшая ілюстрацыя нясумленнасьці інфарматараў спадара Бяленіса.*

*5. Няпраўдаю ёсьць, што нейкая "Сялянска-Работніцкая Партыя Вызваленьня Беларусі" мела пад Польшчаю 100 000 сяброў. Пад Польшчаю існавала кароткі час, да закрыцьця яе польскаю ўладаю, толькі адна палітычная арганізацыя, колькасьць сяброў якой перавышала 1 000 000, і гэта была "Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада", якая ня мае абсалютна нічога супольнага з сучаснаю радаю Астроўскага, бо гэта ўжо сяньня партыя гістарычнага, а ня сучаснага значэньня.*

*6. Няпраўда, што БЦР Астроўскага падтрымлівае сяньня аж 4 беларускія партыі, а Раду БНР толькі адна "крывіцкая". Зь пералічаных у зацемцы чатырох партыяў адна ўжо адышла сяньня да фэдэралістых (Кіпеля[27]), а кіраўнік Сялянскага Саюзу[28], былы сэнатар Рагуля, таксама нічога супольнага ня мае з БЦР Астроўскага. Рада БНР тымчасам мае падтрыманьне шырокіх масаў беларускай эміграцыі з пасярод староньнікаў усіх як старых, даваенных партыяў (як Грамада[29], Сялянскі Саюз, Хрысьціянская Дэмакрацыя[30],*

---

[27] Маецца на ўвазе **Яўхім Кіпель** (1898—1969), грамадзкі дзеяч, бацька Вітаўта Кіпеля. Быў сябрам Тэрміналягічнай камісіі Наркамата асьветы, працаваў у Інстытуце беларускай культуры. Быў рэпрэсаваны. У часе нямецкай акупацыі працаваў у Галоўным школьным інспэктараце, рэдакцыі газэты "Голас вёскі", займаўся падрыхтоўкай падручнікаў. Старшыня Другога Ўсебеларускага кангрэсу. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі, спачатку ў Нямеччыне, потым у ЗША. Браў удзел у грамадзка-палітычным руху, уваходзіў у кіраўніцтва БЦР, рэдагаваў газэту "Беларускае слова", быў сябрам Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі. Стварыў Асацыяцыю былых палітвязьняў савецкіх лягераў.

[28] **Беларускі сялянскі саюз** — нацыянальная партыя, якая дзейнічала ў Заходняй Беларусі ў 1925—1929 гг.

[29] Відаць, маецца на ўвазе **Беларуская сацыялістычная грамада** — нацыянальная партыя левaрадыкальнага кірунку, заснаваная зімой 1902—1903 гг. пад назвай Беларуская рэвалюцыйная грамада. Менавіта яе ўдзельнікі ініцыявалі стварэньне Беларускай Народнай Рэспублікі.

[30] **Беларуская хрысьціянская дэмакратыя** — нацыянал-дэмакратычная партыя, заснаваная ў 1917 г. як Беларуская хрысьціянска-дэмакратычная злучнасьць. Яе заснавальнікамі й ідэолягамі былі беларускія каталіцкія ксяндзы. Пад назвай Беларуская хрысьціянская дэмакратыя арганізацыя існавала з 1926 да 1936 г.

*Сацыялісты-Рэвалюцыянеры[31]), так і новых, паваенных ды ваенных (Нацыянальны Фронт[32], Незалежніцкая Партыя[33], Нацыянал-Дэмакратычная Партыя[34]). Для большай аднālітнасьці палітычна-нацыянальнай працы сябры гэтых партыяў навонкі дзеюць аднак аднаlітным фронтам пад іменем Рады БНР.*

*7. Аб тым, што да БЦР належаць "паважнейшыя беларускія дзеячы", ня можа быць і гутаркі. Усё паважнейшае згуртавана акурат перадусім пры Радзе БНР, а не БЦР Астроўскага. Бальшыня, і вялікая бальшыня, беларускіх навуковых, культурных, акадэмічных, вайсковых, маладзёжных арганізацыяў усіх краінаў сьвету прызнае акурат Раду БНР, а не БЦР як сваю галоўную палітычную рэпрэзэнтантку. Сяньня няма ніводнай краіны сьвету зь беларускай эміграцыяй, дзе староньнікі групы Астроўскага былі ў большай колькаснай сіле, чым староньнікі Рады БНР. А ёсьць шмат краінаў, дзе існуюць моцныя масавыя арганізацыі беларускай эміграцыі пад палітычнаю апекаю БНР і дзе няма ніякой арганізацыі, што падтрымлівала-б БЦР.*

*Гэтых сем важнейшых прыкладаў паказываюць дастаткова ясна, наколькі інфармацыі, якія былі дадзеныя для сп. Бяленіса, недакладныя, часта зусім хвальшыфыя, і наколькі інфарматары былі несумленныя.*

*Для дабра лятувіскага й беларускага народаў, як і для справы іх супольнага палітычнага сужыцьця ды добрых суадносінаў, неабходна заўсёды, каб весткі падаваліся якнайдакладнейшыя, праўдзівыя. Для дабра будучага беларуска-лятувіскага сужыцьця трэба ўсьцерагацца фальшывых, нясумленных інфармацыяў, зь*

---

[31] **Беларуская партыя сацыялістаў-рэвалюцыянэраў** — палітычная партыя ў 1918—1924 гг. Аформілася пасьля расколу БСГ. Ініцыятарамі стварэньня была народніцкая група на чале з Тамашам Грыбам і Палутай Бадуновай.

[32] Маецца на ўвазе **Беларускі нацыянальны фронт**, заснаваны ў 1940 г. у Варшаве з удзелам Міколы Шкялёнка, Вінцэнта Гадлеўскага й інш.

[33] **Беларуская незалежніцкая партыя** — вайскова-палітычная арганізацыя, створаная ў часе Другой сусьветнай вайны з ініцыятывы ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага. У паваенны час дзейнічала ў эміграцыі. У шэрагах партыі ў 1947—1948 гг. былі прыхільнікі як Рады БНР, так і БЦР, у выніку зьяўляліся розныя арганізацыі, што прэтэндавалі на назву БНП. Значная частка ўдзельнікаў на чале з кіраўніком Замежнага сэктару БНП Дзьмітрыем Касмовічам пазьней далучылася на БЦР, аднак была й група на чале з Барысам Рагулем, якая падтрымлівала Раду БНР і існавала яшчэ як мінімум у 1953 г.

[34] **Беларуская нацыянал-дэмакратычная партыя** паўстала ў Нямеччыне пасьля Другой сусьветнай вайны на чале з Аўгенам Каханоўскім.

*якой палітычнай групы яны не паходзілі-б. І гэта адносіцца як да справы інфармацыі аб Беларусі, так і інфармацыі аб Летуве.*

## *“Новое Русское Слово”*

Супрацоўніцтва Юркі Віцьбіча ў “Новым Русском Слове” ды выдадзеная па сьмерці на падставе тых артыкулаў кніга (аўтар хацеў назваць яе “*Ходит по Белоруссии Рогнеда*”) — тэма хай і ня вывучаная, але назваць яе цалкам невядомай нельга. Ведамае й даволі нэгатыўнае стаўленьне значнай часткі беларускай эміграцыі да гэтага супрацоўніцтва, калі, асабліва ня ўдумваючыся ў зьмест напісанага, асуджаўся сам факт.

Гэта не было сакрэтам для Віцьбіча й вымушала яго ня раз бы аўпраўдвацца ў лістах. Так, у сакавіку 1969 г. ён пісаў да Вітаўта Тумаша: “*З Ангельшчыны таксама атрымаў ліст ад невядомае мне др. мэд. Т. Руткоўскай*[35]*, якой спадабаліся мае творы на беларускую тэматыку ў НРСлове. Піша яна па-расейску, але адзначае, што лепш валодае беларускай мовай. Адказаў ёй, хоць ніколі асабіста ня сустракаўся, але для літаратара апошняе ня істотна. І магчыма яна ня ведае аб тоежсамасьці Стукаліча й Віцьбіча. Прыкра, што нашыя беларускія выданьні на чужыне ня маюць гэткае колькасьці чытачоў, як расейскія ці польскія. Слоў няма, наша эміграцыя колькасна меншая, але справа тут, як мне здаецца, ня толькі ў гэтым. Трэба больш цікава пісаць, парушаючы ў дадатак цікавыя тэмы, а не складаць даволі сумныя, часам, справаздачы ў пісьмовай форме. І першае залежыць ня гэтулькі ад здатнасьцяў, хоць пэўне-ж і яны патрэбныя, колькі ад сумленнага падыходу да матар'ялаў і чытачоў, якіх трэба паважаць*”[36]. І — праз гады — да яго ж у зьвязку з падрыхтоўкаю кнігі: “*Выданьне гэтае, як на мой погляд, прызначаецца не для расейцаў пераважна, а супраць іх, але на іхняй мове. Карацей кажучы, форма іхняя (маючы на ўвазе шырокае кола чытачоў, большасьць якога складаюць расейцы), а зьмест наш. Усё сваё пра Беларусь і за Яе на расейскай мове я, зразумела, не зьбіраю, бо атрымалася-б прыблізна 4 такія кніжкі, як “Змагарныя дарогі” Кастуся Акулы, а нешта каля пятае часткі з таго*”[37].

Зьмяшчаем яшчэ два лісты ў працяг гэтае тэмы. Хочацца дадаць толькі, што сваімі фэльетонамі Віцьбіч працярэбіў сьцежку ў рэдакцыю “*Нового Русского Слова*” беларусам, якія прыйшлі яму на зьме-

[35] **Т. Руткоўская** была пляменьніцай Міколы Равенскага.

[36] Ліст Ю. Віцьбіча да В. Тумаша ад 17.03.1969. Архіў БІНіМу.

[37] Ліст Ю. Віцьбіча да В. Тумаша ад 29.06.1974. Архіў БІНіМу.

ну; зь ліста да Кастуся Акулы: "*Пазнаёміўся я па тэлефону з найновым эмігрантам — Клёнавым*[38] *— што пад гэтым псэўданімам нейкі час таму зьмясьціў у НРСлове вельмі добры артыкул "Мои встречи с Янкой Купалой", дзе давёў, насуперак вядомаму плявузганьню саветчыкаў, ягонае самагубства ў Маскве. Хоча наведаць мяне, кажа — мы яшчэ ў Менску ў 1940 годзе пазнаёміліся ў Доме Пісьменьніка. Далібог-жа ня помню — а можа ладне падпітым я тагды быў. Ён з жыдоў і належыў, як кажа, да Саюзу Пісьменьнкаў БССР. Запрасіў яго да сябе, спадзяюся, шмат аб чым цікавым ад яго дазнацца*"[39].

*6.3.69 г.*
*Саўт Рывер.*

*Глыбокапаважаны Спадарыня Руткоўская!*

*Перадусім, няма ў мяне ўпэўненасьці, што гэты мой ліст патрапіць да Вас, бо чамусьці Ваш ветлівы ліст, датаваны днём 8.8.68 г., на ягонай агортцы на паштовым штампе адзначана 29.2.69 г., а з гэтае прычыны я дастаў яго 5.3.69 г. Ці не зьмяніўся за гэты час Ваш адрыс, пададзены ў лісьце? Аднак, адсунуўшы ў бок сваю чарговую працу, з прыемнасьцю адказваю на Ваш добры ліст.*

*Вельмі й вельмі дзякую за Вашыя цёплыя словы аб маіх творах у "Новом Русском Слове", якія зьяўляюцца для мяне вялікай маральнай падтрымкай. Чуюся там заўсёды ня гэтулькі літаратарам, колькі жаўнерам, які ў залежнасьці ад сваіх магчымасьцяў не дазваляе нікому абражаць нашую нацыянальную годнасьць ды змагаецца за нашую нацыянальную справу. Калі ўзяць пад увагу, што*

[38] **Андрэй Клёнаў** (сапр. **Арон Купершток**, 1920—2004), пісьменьнік, перакладчык. Друкавацца пачаў у 1935 годзе. Першы зборнік вершаў "*Мои друзья*" выдаў у 1940 г. З пачаткам нямецка-савецкай вайны пайшоў добраахвотнікам на фронт. Па вайне вучыўся ў Маскоўскім дзяржаўным пэдагагічным унівэрсытэце і ў Літаратурным інстытуце імя М. Горкага. У лютым 1973 г. эміграваў у Ізраіль, у 1974 г. пераехаў у ЗША. Жыў у Брукліне, Нью-Ёрк. Аўтар кніг: "*Неназванная книга*" (Масква, 1957), "*Три дня в Москве*" (Масква, 1961), "*Поиски любви*" (Масква, 1967, другое выданьне, перапрацаванае — Нью-Ёрк, 1989), "*Картинки Нью-Йорка*" (Нью-Ёрк, 1983, другое выданьне, дапоўненае — Нью-Ёрк, 1990), "*Откровение: книга поэм*" (Нью-Ёрк, 1984), "*Утренний голос: роман в монологах*" (Нью-Ёрк, 1987), "*Поздние цветы: много четверостиший, долго ждавших издания, новые стихотворения, новые поэмы*" (Нью-Ёрк, 1992), "*Писатели и книги, или Маленькая энциклопедия словесного творчества*" (Нью-Ёрк, 1996). Больш пра яго гл.: Юрэвіч, Л. Літаратурны рух на эміграцыі. Мінск, 2002. С. 141—148.

[39] Ліст К. Акулы ад 27.09.1974. Архіў БІНіМу.

*гэтая газэта найбольш пашыраецца на чужыне ды ўплывовая ня толькі на сваіх шматлікіх чытачоў, але й на розныя грамадзкія й дзяржаўныя інстытуцыі, дык уважаю сваю місію у ёй за карысную для ўсіх беларусаў.*

*Іншая рэч, што хоць, як кажуць, і ня блага валодаю расейскай мовай, бо выйшаў з абмаскаленага асяродзьдзя, вучыўся ў расейскіх навучальных установах, бяз малага 10 год пражыў у Маскве, але думаю, гавару ды пераважна пішу на роднай беларускай мове. Таму ў часе творчасьці ня вычуваю гэтак цяплыню вобразаў на расейскай мове, як на беларускай. Ды справа ж тут ня толькі ў форме — "вопраткі душы", а ў зьмесьце, які ідзе ад душы, ад сэрца, ад пераконаньняў. Адсюль і пісаць па-расейску мне параўнальна цяжка.*

*Спадзяюся, што Вы чыталі мае на беларускай мове. Калі ня колішняе, даўняе — першае маё апавяданьне зьявілася ў 1929 г. у часапісе "Ўзвышша" — дык цяперашняе, што надрукаванае ў "Бацькаўшчые", "Беларусе" (Нью Ёрк), і "Божым Шляхам" (Лёндан). І калі чыталі, дык прашу падзяліцца сваймі заўвагамі аб маім са мной.*

*Шчыра зычу ўсяго найлепшага.*

*Пішэце, калі ласка, пры наяве часу і ахвоты.*

*Жыве Беларусь!*

*З пашанай да Вас, Ваш Юрка Віцьбіч.*

*5.6.74 г.*
*Саўт Рывер.*

*Глыбокапаважаны Сп. Інж. Гарошка[40]!*

*Вельмі ўдзячны за Ваш ветлівы ліст ад 31.5., як і за гутарку па тэлефону. Шчыра цешуся, што мая просьба ад 27.4. да Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага аб перадачы мной у ейныя Бібліятэку і Архіў часткі маіх бібліятэкі і архіву атрымала з Вашага боку пазытыўны водгук. Пачынаю цяпер у вольны ад чарговай працы час складаць адмысловы сьпіс усяго таго, што перадаю ёй пры жыцьці й па сьмерці.*

*Дзякую таксама за Вашую ласкавую прапанову аб выданьні Фундацыяй паасобным выданьнем маіх палемічных твораў, што друкаваліся ў НРСлове. Але я ня ўдакладніў з Вамі істотнае — на якой уласьне мове яно прадугледжваецца. Для мяне асабіста як для беларуса прыемней, зразумела, наша родная мова, аднак калі ўзяць пад увагу, што, на жаль, колькасьць беларускіх чытачоў на чужыне вельмі абмежаваная, дык значыцца і значна зьменшыцца ейнае*

[40] Ліст адрасаваны Міколу Гарошку.

*прапагандовае значаньне ў змаганьні за нашую Нацыянальную Ідэю. Таму ў апошнім сэньсе, магчыма, зьявіцца пажаданай чужая мова. Прынамсі, даруйце за асабістае, і ў НРСлова я трапіў, каб у чужую форму ўліць наш нацыянальны зьмест, змагаючыся такім чынам на чужой тэрыторыі за нашае нацыянальнае.*

*Акрамя гэтага, ня ўсё мной дасланае ў НРСлова друкавалася ў ім, чаму, напрыклад, доказам зьяўляецца (прашу пры наяве часу зь ім пазнаёміцца) мой ліст "Ничто не ново под луной", які, разам зь яму падобнымі, таксама, на мой пагляд, мусіць зьявіцца ў гэтым выданьні. Патрэбныя і аўтарскія заўвагі аб паасобных маіх творах, якія ў перакладзе на ангельскую, польскую, украінскую й жыдоўскую мовы перадрукоўваліся ў іншых выданьнях. Як неабходны й заўвагі аб рэакцыі савецкага друку на некаторыя з маіх твораў увогуле.*

*Усё гэтае, як і прыблізны памер, патрабуе ўдакладненьня, пасьля якога й распачну працу над падрыхтоўкай кніжкі да друку.*

*Шчыра зычу ўсяго найлепшага.*

*Пішэце, калі ласка.*

*З пашанай да Вас, Ваш Юрка Віцьбіч.*

### **"Kultura"**[41]

Як напісаў у аўтабіяграфіі Ўладзімер Брылеўскі, быў ён *"не прыхільнікам беларушчыны, а яе абаронцам на ламах беларускай і польскай прэсы"*[42]. Сапраўды, ён пастаянна дасылаў у парыскі часопіс *"Kultura"* "Хроніку", хоць і скардзіўся, што Ежы Гедройц, галоўны рэдактар, часта скарачаў яе або наагул прамінаў, спасылаючыся на вялікі аб'ём больш актуальных матэрыялаў. Дый наогул, гэтае выданьне хоць нібыта й імкнулася да наладжваньня добраых адносінаў паміж Польшчай і ўсходнімі суседзямі, заставалася найперш часопісам польскім. Прыкладам, Брылеўскі пісаў да Янкі Запрудніка: *"Як Вы напэўна памятаеце, у свой час у "Культуры" (№ 1/388—2/389, студзень – люты 1980 г.) быў надрукаваны вельмі няпрыхільны да нас, Беларусаў, і да Лятувісаў вялікі артыкул нейкага П. Ліды "Палякі, Лятувісы, Беларусы". На першую частку гэтага артыкулу, датычную Лятувісаў, добра зарэагаваў ведамы лятувіскі паэта Томас Вэнцлёва*[43] *сваім рэчовым лістом у 4/391-ым нумары гэтай-*

[41] ***"Kultura"*** — польскі эміграцыйны штомесячны часопіс, што выдаваўся ў 1947—2000 гг. спачатку ў Рыме, а потым у Парыжы. Заснавальнік і галоўны рэдактар — Ежы Гедройц (1906—2000).

[42] Юрэвіч, Лявон. Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі. Нью Ёрк, 1999. С. 304.

[43] **Томас Вэнцлова** (літ. *Tomas Venclova*, нар. 1937), літоўскі паэт, перакладчык, літаратуразнаўца, дысыдэнт, праваабаронца.

*жа “Культуры”. Ад Беларусаў (на маю прапанову) паслаў у вадказ П. Лідзе ліст у рэдакцыю “Культуры” сп. А[ляксандар] Калодка[44] з Аўстраліі, але-ж ён ня быў зьмешчаны”*[45].

Троху болей пра супрацоўніцтва з гэтым выданьнем, а таксама пра неадназначную рэакцыю з боку землякоў — у лісьце, што выдрукоўваецца ніжэй.

*11 лістапада 1981 г.*

*Вельмі Паважаны й дарагі Спадару Доктар Запруднік!*

*Шчыра дзякую за прысланыя Вамі матар’ялы: сшытак беластоцкіх “Беларускіх Дакумэнтаў”[46], заклік Сакрата Яновіча й ксэракопіі выразкаў зь лёнданскага “Таймс” і зь “Нью Ёрк Таймс”. Нацыянальны ўздым і дзейнасьць Беларусаў Беласточчыны цешыць, падымае дух, абнадзейвае. Вельмі добра, што Вы на бачынах “Беларуса” шырака інфармуеце пра беларускае культурна-грамадзкае жыцьцё на беларускай Беласточчыне, пра задушваньне гэтага жыцьця польскімі камуністычнымі ўладамі й пра беларускае самавыдавецтва ў Польшчы.*

*Некалькі дзён таму я атрымаў ліст ад рэдактара “Культуры” Гедройця, у якім ён між іншым піша: “Kronika wykorzystuje bardzo obszernie w numrezre listopadowym, a reszte materialu zamieszcze w numerze grudniowym”[47]. Ён мае на ўвазе “Беларускую хроніку”, якую я выслаў яму ў мінулым месяцы. Я ў ёй напісаў пра першае самвыдавецтва беларускае выданьне ў Польшчы “Беларускія Дакумэнты” й пра сьмерць япіскапа Часлава Сіповіча[48], пра якую даведаўся ад д-ра Кіпеля[49] й крыху пазьней ад Вас. “Reszta materialu” —*

---

44 **Аляксандар Калодка** (1911—1985), грамадзкі дзеяч, выпускнік юрыдычнага факультэту Віленскага ўнівэрсытэту. У 1941—1943 гг. працаваў надзвычайным упаўнаважаным акруговага камісара ў Вялейскай акрузе, спрыяў беларусізацыі мясцовай адміністрацыі. У 1943 г. арыштаваны, знаходзіўся ў канцэнтрацыйных лягерах у Асьвенціме й Бухенвальдзе. Ад 1948 г. жыў у Аўстраліі, актыўна ўдзельнічаў у беларускім жыцьці Мэльбурну.

45 Ліст У. Брылеўскага да Я. Запрудніка ад 31.05.1981. Архіў БІНіМу.

46 Маюцца на ўвазе ***“Biełaruskija Dakumenty”*** — *“архіўнае выданьне дзеля навуковых бібліятэкаў і досьледна-публіцыстычнай працы”*. Выдаваліся ў Беластоку ў 1981—1983 гг.

47 Хроніку багата карыстаю ў лістападавым нумары, а рэшту матэрыялу зьмяшчу ў нумары сьнежаньскім (пол.).

48 Біскуп Часлаў Сіповіч памёр 4 кастрычніка 1981 г. у Лёндане.

49 Маецца на ўвазе Вітаўт Кіпель.

*гэта, мабыць, атрыманы ад Вас тэкст мэмарандуму БГ-КТ*[50]*, які я яму кагадзе выслаў, але я ў гэтым ня ўпэўнены. Ня будучы ўпэўненым, што ён зьмесьціць гэты мэмарандум, я, хочачы, каб усё-ж чытачы "Культуры" прынамся пра яго даведаліся, напісаў аб ім у дзьвух сваіх "Хроніках".*

*Нядаўна пазваніў да нас беларускі "лепшы думаньнік"*[51] *"д-р" Ян Пятроўскі*[52] *і ў гутарцы з маёй жонкай абвінаваціў нас абаіх ледзь не ў … нацыянальнай здрадзе. ("Вы зьвязаныя й супрацоўнічаеце з Украінцамі, а Ваш муж зьвязаўся з Палякамі. Чаму нічога майго, што я пасылаю ў "Культуру", ня друкуюць, а яго друкуюць"). Пазваніў ён да нас не пад уплывам алькаголю, што яшчэ можна было-б яму прабачыць, а... атрыманага ім ліста Беларускага Кангрэсовага Камітэту Амэрыкі ад 2 кастрычніка, падпісанага сп-рамі Віталям Цярпіцкім*[53] *і Міхалам Сенькам*[54]*, у якім яны пішуць пра ігнараваньне Беларусі "Ад Гок Камітэтам па справах Балтыйскіх Краін і Ўкраіны" і заклікаюць беларускія арганізацыі, каб яны "неадкладна напісалі ад сябе і выслалі Кангрэсмэну Доўгэрты*[55] *лісты з матывацыяй і просьбай аб уключэньні Беларусі ў гэты 'Ад Гок' камітэт, які займаецца толькі справамі Прыбалтыкі і Ўкраіны". ("Саўт Рывэр піша пратэстанцкія лісты, а Вы з чужынцамі супрацоўнічаеце!"). Памятаю, Вы мне калісь (некалькі гадоў таму ў часе нашай гутаркі каля плывовага басэну ў Бэлэр-Менску) сказалі, што Пятроўскі "нейкі дзіўны" чалавек. Я тады яго яшчэ ня ведаў, асабіста знаёмы*

---

[50] Маецца на ўвазе **Беларускае грамадзка-культурнае таварыства** — грамадзкая арганізацыя беларусаў у Польшчы, заснаваная ў 1956 г.

[51] Тут маецца на ўвазе выдадзеная Янам Пятроўскім кніга "Лепшыя думкі чалавека" (Т. 1—3. Гэйнсьвіль, 1977—1992).

[52] **Ян Пятроўскі** (1905—2001), рэлігійны й грамадзка-культурны дзеяч, пратэстанцкі прапаведнік, выдавец, літаратар, перакладчык. Ад 1953 г. жыў у ЗША. Напісаў і выдаў некалькі дзясяткаў кніг, у тым ліку пераклады з Плятона, Марка Аўрэлія, "Клясічны грэка-беларускі слоўнік".

[53] **Віталь Цярпіцкі** (1923—2017), грамадзкі дзеяч. Ад 1950 г. жыў у Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі, ЗША). Браў актыўны ўдзел у працы Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі, уваходзіў у яго кіраўнічыя органы, быў сакратаром БЦР.

[54] **Міхась Сенька** (1922—2016), грамадзкі дзеяч. Ад 1949 г. жыў у Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі, ЗША). Браў удзел у беларускім грамадзкім жыцьці. У 1950-я гг. узначальваў Аб'яднаньне беларуска-амэрыканскай моладзі. Уваходзіў у царкоўную ўправу беларускага прыходу Сьв. Эўфрасіньні Полацкай. Шматгадовы сакратар управы БККА.

[55] Відаць, маецца на ўвазе **Чарльз Догерты** (анг. *Charles Francis Dougherty*, нар. 1937), амэрыканскі палітык, рэспубліканец. Быў дэпутатам Палаты прадстаўнікоў Кангрэсу ў 1978—1982 гг.

*зь ім ня быў. Пазнаёміўшыся зь ім у Флярыдзе й добра яго пазнаўшы, я бачу, што Вы тады сказалі пра яго вельмі-ж ужо мякка, вельмі лагодна. Гэта чалавек — ненармальны! Паважна трактуе свой "дактарат", які ў свой час атрымаў ад ведамага шарлатана Рыжага-Рыскага*[56] *за тое, што ў сваёй саматужнай друкарні ў Сыракузах, штат Нью Ёрк, бясплатна надрукаваў для яго "Адозву да Беларускага Народу" нейкага "князя" Тодара-Ласкарыс-Камнэна, "прэтэндэнта" (высунутага Рыжым-Рыскім) на беларускі трон. Пераклаўшы (ясная рэч, што ня з грэцкага тэксту, як ён падае) на беларускую мову Плятона, уявіў сабе, што сам стаўся вялікім філёзафам. І гэты неадукаваны графаман, гэты хворы эгацэнтрык і самахвал зьяўляецца сябрам БІНіМу?*

*Жадаючы ўзяць удзел у пакрыцьці коштаў зьмяшчэньня ў "Нью Ёрк Таймс" платнага нэкралёгу па сьв. пам. Япіскапу Чаславу Сіповічу, залучаю чэк на сьціплую суму 10 даляраў.*

*З найлепшымі пажаданьнямі й глыбокай да Вас пашанай,*

*Ул. Брылеўскі.*

---

[56] **Уладзіслаў Рыжы-Рыскі** (1925?—1978), грамадзкі дзеяч. Ад 1944 г. на эміграцыі. Жыў у Нямеччыне, потым вучыўся ў Лювенскім унівэрсытэце (Бэльгія). На пачатку 1950-х гг. выехаў у Рым, дзе нядоўгі час вучыўся ў Папскім унівэрсытэце. Адтуль перабраўся ў Мадрыд, дзе заснаваў фантомны Інстытут беларусаведы імя Л. Сапегі. У 1958 г. выехаў у ЗША, дзе вучыўся ў Прынстанскім унівэрсытэце. Заснаваў уласную рэлігійную структуру "старакаталіцкую субожню" і ад студзеня 1960 г. усклаў на сябе абавязкі апостальскага візытатара для беларусаў-каталікоў. Выдавец шэрагу беларускіх пэрыёдыкаў.

## *Архівалії*

***Юрка Віцьбіч***

# ЛІСТЫ Ў “НОВОЕ РУССКОЕ СЛОВО”

9.3.63 г.,
Саут Ривер.

Глубокоуважаемый Марк Ефимович[1]!

*“Кажинный раз на этом месте”*. Неоднократно закаивался писать письма в Редакцию, дабы *“не расстрелять заряд души по три копейки за выстрел”*, а вот грешен, посылаю свое очередное письмо — Гомер и... Тухачевский[2]. Хотя...

Не могу согласиться с пренебрежительным отношением некоторых к этим самым письмам в Редакцию. Когда-то даже поспорил в связи с этим на страницах НРСлова с Аргусом[3], а теперь почти удивлен таким же отношением к ним Тараса Новака (НРСлово от 2.3.63 г. — “О самостийной Белоруссии, о Юрии Стукаличе”). Мне вспоминается афоризм Вольтера[4] — *“Все жанры хороши, кроме скучного”*, как и слова блестящего Д[она] Аминадо[5]: *“Первая страница должна пылать, вторая гореть, а все остальные то там, то тут ярко вспыхивать”*.

---

[1] Ліст адрасаваны рэдактару газэты *“Новое Русское Слово”* **Марку Вэйнбаўму** (рас. *Марк Ефимович Вейнбаум*, 1890—1973).

[2] **Гамэр** (VIII ст. да н. э.), легендарны першы старажытнагрэцкі паэт, аўтар паэмаў “Іліяда” й “Адысэя”.
**Міхаіл Тухачэўскі** (1893—1937), савецкі вайсковы й дзяржаўны дзеяч, маршал СССР.
***Гамэр і... Тухачэўскі*** — магчыма, алюзія на крылаты выраз з кнігі Ільлі Ільфа й Яўгена Пятрова “Залатое цяля” — *“Гамэр, Мільтан і Панікоўскі”* — як супастаўленьне імёнаў розных гістарычных значнасьці.

[3] **Аргус** — псэўданім аднаго з аўтараў газэты *“Новое Русское Слово”* **Міхаіла Айзэнштат-Жэлязнова** (рас. *Михаил Константинович Айзенштадт-Железнов*, 1900—1970), расейска-амэрыканскага пісьменьніка, журналіста, які ад 1924 г. жыў у Чыкага. У газэце ён вёў аўтарскую калёнку *“О чем говорят слухи-факты”*.

[4] **Вальтэр** (фр. *François-Mari Arouet de Voltaire*, 1694—1778), францускі філёзаф, раманіст, гісторык, драматург і паэт эпохі Асьветніцтва.

[5] **Дон-Амінада** (сапр. рас. *Аминад Петрович Шполянский*, 1888—1957), расейскі паэт-сатырык, мэмуарыст, адвакат.

Извините — знаю о недостатке у Вас свободного времени, но тем не менее надеюсь, что Вы ознакомитесь и с этим письмом — не для печати. Мне кажется, что вышеотмеченное письмо в Редакцию Т[араса] Новака не только скучное, но и переполнено грубыми ошибками, на которые я теперь лишен возможности ответить в НРСлове.

Так, Тарас Новак утверждает, что князь Константин Острожский[6] *"был борцом за настоящее православие, которое было одним из китов русской государственности"*. Явная ложь! Если раньше из деликатности я не привел полностью надпись на мраморной плите в виленской Свято-Троицкой церкви, то привожу теперь: *"В лето 1514 церковь сю созда князь Константин Острожский, гетман В. Кн. Литовского, в память победы под Оршею над врагом и супостатом веры християнское, православное, царем Московским"*.

Упрекая меня в незнании русской истории, Тарас Новак ссылается на *"Иловайского[7] и других историков"*. А ведь имя Иловайского стало нарицательным для недобросовестных историков. По крайней мере даже в популярном словаре Павленкова[8] (стр. 826) о нем пишется: *"...издал несколько учебников истории, отличающихся пристрастием и, местами, неверностью"*.

Подобные характеристики он получил также в энциклопедиях Брокгауза и Эфрона, бр. Гранат[9], большой и малой советских, как и в ряде других изданий. И после ссылки на авторитет Иловайского Тарас Новак советует мне *"почитать хоть краткий курс русской истории"*? Простите за личное — в моей собственной библиотеке отсутствует Иловайский, но зато присутствует Ключевский[10]

---

[6] **Канстанцін Астрожскі** (1460—1530), дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, вялікі гетман літоўскі (1497—1500, 1507—1530), пад кіраўніцтвам якога была атрыманая перамога над Маскоўскім войскам у бітве пад Воршай (1514).

[7] **Дзьмітры Ілавайскі** (рас. *Дмитрий Иванович Иловайский*, 1832—1920), расейскі гісторык і публіцыст, выдаў сярод іншага пяцітамовую "Гісторыю Расеі". Аўтар школьных падручнікаў расейскай і ўсеагульнай гісторыі.

[8] **Фларэнці Паўленкаў** (рас. *Флорентий Фёдорович Павленков*, 1839—1900), расейскі кнігавыдавец, асьветнік. Сярод іншага выдаў ілюстраваны *"Энциклопедический словарь"* (СПб, 1899), які шэсьць разоў перавыдаваўся.

[9] Маецца на ўвазе ***"Энциклопедический словарь Гранат"*** — адна з найбуйнейшых дарэвалюцыйных расейскіх унівэрсальных энцыкляпэдый, якая выдавалася таварыствам *"Братья А. и И. Гранат и К°"*.

[10] **Васіль Ключэўскі** (рас. *Василий Осипович Ключевский*, 1841—1911), расейскі гісторык, акадэмік, прафэсар Маскоўскага ўнівэрсытэту, аўтар прац па расейскай гіторыі, у тым ліку *"Курса русской истории в 5 частях"* (СПб., 1904—1922).

и Соловьев[11], Костомаров[12] и Любавский[13], Пресняков[14] и Платонов[15] и т. д.

Тарас Новак сожалеет, что *"Юрий Долгорукий[16] опоздал на 200 лет купить себе деревню у боярина Кучки и потому не успел крестить белоруссов в р. Москве"*. Мне думается, что все высказывания *"самостийников"* о Москве блекнут в сопоставлении с этим высказыванием о ней Т. Новака. Еще староверы, жидовствующие и т. д. тысячами бежали от костров родной им по крови Москве к нам — в Литву. Позднее Николай Первый насильственно присоединил белорусов униатов к православию, а еще позднее Сталин также насильственно присоединил украинцев униатов к советской московской патриархии. Зачем отнимать у людей их право идти своими путями к Единому Богу?

Г-н Тарас Новак, что очень любезно с его стороны, предлагает мне булаву белорусского гетмана, а я в ответ могу предложить ему только шапку московского городового, бдящего в районе ее Разгуляя или Зацепы[17].

И крайне удивило меня также заявление Г. Раковского (НРСлово от 28.2.63), что академик Карский является... *"основателем белорусского языка"*. Белорусский язык не искуственные эсперанто или волапюк, его создал белорусский народ еще за много столетий

---

[11] **Сяргей Салаўёў** (рас. *Сергей Михайлович Соловьев*, 1820—1879), расейскі гісторык, акадэмік, прафэсар Маскоўскага ўнівэрсытэту, аўтар прац па расейскай гісторыі, у тым ліку шматтамовай *"Истории России с древнейших времен"* (1851—1879).

[12] **Мікалай Кастамараў** (рас. *Николай Иванович Костомаров*, 1817—1885), расійскі грамадзкі дзеяч, гісторык, публіцыст, аўтар шматтамовага выданьня "Русская история в жизнеописаниях ее главнейших деятелей".

[13] **Мацьвей Любаўскі** (рас. *Матвей Кузьмич Любавский*, 1860—1936), расейскі гісторык, аўтар прац па гісторыі Вялікага Княства Літоўскага.

[14] **Аляксандар Прасьнякоў** (рас. *Александр Евгеньевич Пресняков*, 1870—1929), расейскі й савецкі гісторык, аўтар прац па расейскай гісторыі, у тым ліку прысьвечаных заснаваньню расейскай дзяржаўнасьці.

[15] **Сяргей Платонаў** (рас. *Сергей Фёдорович Платонов*, 1860—1933), расейскі гісторык, член-карэспандэнт Пецярбурскай акадэміі навук, дырэктар Археалягічнага інстытуту (1918—1923), старшыня Археаграфічнай камісіі (1918—1929), аўтар прац па гісторыі Маскоўскай дзяржавы. Арыштаваны ў 1930 г. па абвінавачаньні ў антысавецкай дзейнасьці.

[16] **Юры Даўгарукі** (1090-я — 1157), суздальскі князь, вялікі князь кіеўскі, лічыцца заснавальнікам Масквы.

[17] **Разгуляй** — плошча, а **Зацэпа** — вуліца ў Маскве.

до рождения Карского, который является, правда, одним из первых исследователей этого языка.

Но зато меня совсем не удивляет глубокомысленное замечание г. Н. Скрябина. Навряд ли ошибусь, если отмечу, что вся его просветительная миссия полегает исключительно в поисках вареных крабов. Кто порою не ошибается, но все-же далеко, очень далеко высоко (самим собой) поставленному Н. Скрябину до скромной Наталии Логуновой — умницы и замечательной писательницы.

Простите — не мог не высказаться.

Желающий всех благ.

Юрий Стукалич.

26.3.61 г.

Саут Ривер.

Глубокоуважаемый Марк Ефимович!

При всем моем уважении к В[ладимиру] П[именовичу] Крымову[18] хочется заметить, что его выражение *“какая-то Латвия”* ничем не лучше известного афоризма Андрея Вышинского[19] *“какой-то Гондурас”*.

Не хватило мне также мужества привести цитату из донесения от 1 ноября 1905 г. Попечителя Виленского Учебного Округа Управляющему Министерства народного просвещения о всеобщей политической забостовке рабочих и прекращении занятий в гимназии в гор. Полоцке Витебской губернии: *“...а 24 числа на улицах города буйствовали толпы старообрядцев, учинивших еврейский погром”* (Рев[олюционное] движение в Белоруссии 1905—1909. Минск, 1955. Стр. 300).

Но ведь и В[ладимиру] П[именовичу] Крымову не хватило мужества, между прочим, отметить, что если русские-старообрядцы составляли в б[ывшей] “русской” Витебской губернии 3 % всего населения, то местные отделения “Союза Русского Народа”[20] почти полностью комплектовались из них. Характерна в этом отношении выдержка

---

[18] **Уладзімер Крымаў** (рас. *Владимир Пименович Крымов,* 1878—1968), расейскі пісьменьнік, прадрымальнік. Ад 1933 г. жыў у Парыжы.

[19] **Андрэй Вышынскі** (рас. *Андрей Януарьевич Вышинский,* 1883—1954), савецкі дзяржаўны дзеяч. У 1933—1939 гг. намесьнік пракурора й пракурор СССР, быў дзяржаўным абвінаваўцам на фальсыфікаваных палітычных працэсах 1930-х гг. У 1949—1953 гг. міністар замежных справаў СССР.

[20] **“Саюз рускага народу”** (*“Союз Русского Народа”*) — масавая радыкальная нацыяналістычная й манархічная палітычная арганізацыя ў Расеі ў 1905—1917 гг.

из телеграмы от 24 декабря 1905 г. витебского губернатора Гершау Флотова[21] Председателю Совета Министров о крестьянском движении в губернии: *"Старообрядцам Режицкого у[езда] разрешено вооружиться, при этом предлагаю ходатайствовать о выдаче им винтовок при условии организации сплоченной не менее 75 человек сельской охраны, ибо в противном случае мелкие группы старообрядцев будут неминуемо обезоружены мятежниками"* (Там-же, стр. 435).

Витебские белоруссы и латыши хорошо помнят эти старообрядческие отряды.

Не удивительно после этого, если городским головой Двинска был дядюшка В[ладимира] П[именовича] Крымова, а не белорус, латыш и тем более еврей, хотя последние составляли 68 % населения города. Не удивляет меня также, если консерватизм, породивший вообще раскол, свойственен старообрядцам и в политике. Но зато странно, если писатель большой культуры В[ладимир] П[именович] Крымов идет в этом отношении на поводу у своих дядюшек и дедушек.

Откровенно говоря, у меня нет никакой уверенности, что посылаемая мною одновременно статья — *О губернских политиках* — не идет вразрез с основной лнией Нового Русского Слова, но не в состоянии мыслить, а следовательно и писать иначе. В крайнем случае прошу использовать ее как письмо в редакцию и этим дать мне возможность высказаться.

Желающий всех благ Юрий Стукалич.

27.9.64 г.

Кто он?

М[илостивый] Г[осударь] Г[осподин] Редактор!

Белорус из старой эмиграции, побывавший недавно в Москве, привез оттуда в Чикаго распространенную там от Зацепы до Разгуляя загадку:

*По свету шатается,*
*На "х" называется,*
*Ни сеет, ни пашет,*
*Только шляпой машет.*

Вначале, что греха таить, мы терялись в различных предположениях. Не хомут ли? Однако хомут, хоть и косвенно, но участвует и в посеве, и в пахоте как незаменимый друг колхозного трактора, а к тому же он и по Африкам не шатается и шляпой не машет. А может быть

[21] **Бэрнард Гершаў-Флотаў** (1853—1911), барон, віцебскі губэрнатар у 1904—1911 гг.

хрен? Но тот крепко прирос к грядкам крамольного приусадебного участка, никаких поползновений к путешествиям не проявляет и обходится, вдобавок, без головного убора итальянского происхождения.

А возможно, так сказать, холера? Но и она уже не бродит по земле за исключением, как утверждает “Правда”, колоний порабощенных Уол Стритом[22], а в рассчастливом СССР сохранилось только как милое приветствие со стороны первого секретаря ЦК к опальным секретарям обкомов. Ну а если отпадает холера, то не подойдет ли хабанера? Но ведь это танец явно феодального происхождения и немыслим в той, простите, социалистической стране, где периферийный вождь по приказу генерального вождя танцует на потеху буржуям казачка.

И каких только слов на “х” мы уже ни перебрали, как, например, хам, хвастун, хлам, хулиган, харя, хамелеон — почти так, а все же не он. В конце концов не выдержали и этак выругались, по своему, по простому, как подобает старым рабочим, что даже штукатурка со стен посыпалась… и тут нас словно осенило. Э-эх,

*“Каб не девичий стыд,*
*Что иного словечка сказать не велит”*

— поэтому ставлю здесь точку, а точнее — многоточие.

*“Пусть будет стыдно тому, кто подумает об этом дурно”* — гласит девиз Ордена Подвязки, который, между прочим, как информирует бродячий зять Аджубей[23], не имеет покамест его кругом орденоносный семипудовый тесть[24].

Есть польская пословица скороговорка: *“Не пепши Петше пепшем вепша, бо перепепшиш Петше вепша пепшем”* (*“Не перчи Петр перцем борова ибо переперчиш Петр борова перцем”*). Вспоминается также одна из заповедей Максима Горького, кстати, им же не однажды попранная — *не соли селедку*. Всплывают в памяти и французские фривольности, вроде известного телодвижения в канкане, которое, возможно, совсем не случайно Франк Синатра[25] преподнес в Холли-

---

[22] ***Wall Street*** (анг.) — вуліца ў Нью-Ёрку, цэнтр фінансавага жыцьця, сымбаль фінансавай магутнасьці ЗША.

[23] Маецца на ўвазе **Аляксей Аджубей** (рас. *Алексей Иванович Аджубей*, 1924—1993), савецкі журналіст, публіцыст, рэдактар газэтаў *“Комсомольская правда”* (1957—1959) і *“Известия”* (1959—1964), зяць Мікіты Хрушчова.

[24] Маецца на ўвазе **Мікіта Хрушчоў** (рас. *Никита Сергеевич Хрущев*, 1894—1971), савецкі партыйны й дзяржаўны дзеяч. У 1953—1964 гг. Першы сакратар ЦК КПСС, фактычны кіраўнік Савецкага Саюзу.

[25] **Фрэнк Сінатра** (анг. *Francis Albert Sinatra*, 1915—1998), амэрыканскі сьпявак, актор, рэжысэр.

вуде знатному путешественнику из Эсэсэрии[26]. Да мало ли еще какое “*хитросплетение словес*” на ум взбредет. Посему и “*закругляюсь*”.

Если только бумага стерпит (а ведь она выдержала даже полное собрание сочинений Михаила Ивановича Калинина[27] с портретом и автографом), то предлагаю мое письмо-загадку любезному вниманию Читателей.

С совершенным почтением, Юрий Стукалич.

27.2.67 г.

Пакет из Польши.

М[илостивый] Г[осударь] Г[осподин] Редактор!

В НРСлове от 28 января с[его] г[ода], в хронике есть заметка “Пакет из Падуи”, по всей вероятности, взятая из советской печати. В ней сообщается, что в Академию БССР прибыл из Падуанского университета в Италии пакет, в котором оказались фотокопии документов, касающихся белорусского первопечатника доктора Франциска Скарины, окончившего его в 1512 году. Заметка кончается сообщением, что эти документы будут показаны в Минске на выставке, посвященной 450-летию белорусского книгопечатания. А не плетется ли БАН (Академия Наук БССР) далеко в хвосте за белорусскими научными институциями и прессой на эмиграции? Не пролагают ли они ему дорогу в этом отношении?

Еще в 1962 г. в белорусском журнале “Зьнич” (Рим) были репродуцированы копии трех документов, полученных БАН лишь в 1967 г. Находящийся в Нью Ёрке БИНИМ (в переводе — Белорусский Институт Науки и Искусства) уже давно располагает фотокопиями не только документов из Падуи, продемонстрированых им в 1963 г. на специальной выставке, но в январе с[его] г[ода] получил, окружным путем через Скандинавию, большой пакет исторических данных о Ф[ранциске] Скарине из архивов Польши. В этом пакете имелись фотоснимки 25 страниц актовых книг, на которых были 12 записей, написанных по-латински и по-немецки. Ни одна из них до сих пор нигде не была репродуцирована. А в общей сложности в Скориниане БИНиМ насчитывается сегодня 20 фотокопий с архивных документов. К тому же БИНиМ, кроме статей в журналах, издал четыре науч-

[26] Ідзецца пра візіт Мікіты Хрушчова ў ЗША ў 1959 г. У часе наведваньня Галівуду Фрэнк Сінатра й Марыс Шэвалье сярод іншага станчылі канкан для савецкага лідара, што выклікала бурную нэгатыўную рэакцыю савецкага кіраўніцтва.

[27] **Міхаіл Калінін** (рас. *Михаил Иванович Калинин*, 1875—1946), расейскі рэвалюцыянэр, савецкі партыйны й дзяржаўны дзеяч, у 1919—1938 гг. старшыня Ўсерасейскага ЦВК.

ные работы о Ф[ранциске] Скарине, а, между прочим, БАН ни одной.

Кстати, не менее характерна история с падуанским портретом доктора Франциска Скарины, находящимся в университетском “Зале Сорока”, получившим свое название от созданных темперой портретов сорока наиболее известных воспитанников этого старинного семисотлетнего университета, каковыми он гордится. Еще в сентябре 1950 г. белорус доктор Б[олеслав] Г[рабинский] обнаружил здесь портрет Ф[ранциска] Скарины. Направо от него можно увидеть портрет знаменитого польского поэта Яна Кохановского[28], налево — первого русского доктора медицины Петра Васильевича Постникова[29]. Уже в 1951 г. в белорусском журнале “Божым Шляхам” (Париж) появился снимок с найденного портрета. В 1963 г. он был опубликован в журнале БИНиМ “Конадни” (Нью Ёрк). И только в 1966 г. в Но. 3 журнала “Беларусь” (БССР) появился небрежный снимок части “Зала Сорока” с десятью портретами, среди которых с большим трудом можно узнать Франциска Скарину.

БАН и БИНиМ. С одной стороны — государственное учреждение, огромные материальные средства для исследований и связанных с ними экспедиций и командировок, обширные библиотека и музей, большие склады и гонорары, время, предоставленное целиком для научной работы и т. д. и т. п. С другой стороны — ничего этого нет, кроме большой любви к родной стране и к своему народу. И вполне естественно, что когда думаешь о пакете, полученным орденоносными академиками БССР из Падуи, то сразу же вспоминается известная народная поговорка — Нашли топор под лавкой.

С совершенным почтением

Юрий Стукалич.

24.4.67 г.

Пожарник или поджигатель?

М[илостивый] Г[осударь] Г[осподин] Редактор!

Нужно отдать должное старым историкам. В поисках истины они более или менее, но об’ективно подходили к исследуемым им фактам и событиям, не взирая на лица. И это качество совершенно не присуще современным советским следопытам в области истории, выводы которых должны соответствовать решениям того или другого партийного с’езда, если не личным взглядам секретаря ближайшего райкома.

---

[28] **Ян Каханоўскі** (пол. *Jan Kochanowski*, 1530—1584), польскі паэт эпохі Адраджэньня.

[29] **Пётар Постнікаў** (рас. *Пётр Постников*, 1667—1703), першы ў Расеі доктар філязофіі й мэдыцыны, які атрымаў адукацыю ў Заходняй Эўропе (у Падуанскім унівэрсытэце).

В НРСлове от 13.4.67 г. в хроникальной заметке “Историческая находка”, перепечатанной, вероятно, из советской газеты и посвященной пребыванию императора Петра Первого в Риге, сообщается: *“Из дневника явствует, что царь совершал поездку по Даугаве, произвел смотр русским войскам и даже участвовал в тушении пожара в рижской церкви св. Петра”*.

Слов нет, похвально, что сам император боролся с огнем в кирхе святого Петра, построенной еще в 13 веке и являющейся для латышей национальной реликвией. Добавлю даже к этой давно известной исторической “находке”, что он пожертвовал тогда, в 1721 г., также значительную сумму на восстановление башни кирхи, сожженной молнией, однако... Очевидно великим людям свойственны противоречия, о которых тамошние ученые не только в периодической печати, но и в академических изданиях предпочитают умалчивать. И разрешите мне заполнить допущенный ими пробел.

В известной многотомной “России”, в ее 9 томе “Верхнее Поднепровье и Белоруссия” (Спб, 1905) на странице 454 отмечается: *“Петр Великий приказал зажечь Витебск со всех сторон. Капитан Соловьев 28 сентября 1708 г иполнил приказ и сжег замки, город, ратушу, лавки, Узгорье, Заручье, четыре костела, двенадцать церквей, а с Заречья взял выкуп 600 талеров битых. С тех пор Витебск обеднел, народонаселение в нем уменьшилось, торговля упала”*.

Там же, на странице 474, сообщается: *“...город, разграбленный перед этим шведами, в один день почти весь превратился в прах и пепел. По одной версии сам Петр Великий приказал сжечь Могилев, чтобы шведы не имели в нем опорного пункта; другая же версия гласит, что это было в наказание Могилеву за то, что он кормил шведов. После пожара многие из жителей совсем покинули город и перекочевали на Украину. Лишь в 1709 г. Могилев получил от Петра Великого дозволение строиться”*.

Северная война оставила в богатом белорусском фольклоре характерную историческую поговорку — *“Стуль маскали, а стуль швяды, дзе пазбыцца такой бяды”*. (Оттуда русские, а оттуда шведы, где избавиться от такого бедствия). Но непонятно почему так стесняются советские историки? Ведь разве не совпадают между собою приказы Петра Первого и Сталина о *”голой земле”*? Разница только в том, что при Сталине преступно сожженные им в 1941 г. Витебск и Могилев были в подвластной ему тюрьме народов — СССР, а во время Северной войны они входили в состав Речи Посполитой и, следовательно, не имели по отношению к Петру Первому никаких решительно верноподданнических обязательств.

С совершенным почтением

Юрий Стукалич.

30.12.67 г.

Кистью иконописца.
М[илостивый] Г[осударь] Г[осподин] Редактор!

*"Я раз слушал его* — делился своим впечатлением об учителе гоголевский городничий — *ну, покамест об ассириянах и вавилонянах — еще ничего, а как добрался до Александра Македонского, то я не могу вам сказать, что с ним сделалось. Я думал, что пожар, ей-Богу! Сбежал с кафедры и что силы есть хвать стулом об пол. Оно, конечно, Александр Македонский герой, но зачем же стулья ломать?"*.

Приятно, что г-н Ал. Карцев посвятил свою статью "Тадеуш Косцюшко[30]" (НРСлово от 3.12.67) 150-летию со дня смерти польского национального героя, но прискорбно, что перейдя затем от побежденного к победителю, от Косцюшко к Суворову[31], он, подобно гоголевскому учителю, явно утратил чувство душевного равновесия. Так, на основании, надо полагать, ведомственных реляций Ал. Карцев пишет: "*… принципиальность и широта взглядов победителя определили его отношение к побежденным. Прежде всего Суворов об'явил полякам широкую амнистию*" — и так далее и тому подобное, а — "*вообще отношение русских к варшавянам не походило на притеснения австрийцев и пруссаков*".

И прошу выслушать теперь не поляков и русских, а об'ективных иностранных наблюдателей и современников жуткой резни 4 ноября 1794 г. В этот страшный день, напоминающий Варфоломеевскую ночь, на улицах предместья Варшавы — Праги погибло 20 тысяч мирных жителей, причем кроме взрослых мужчин между ними были старые и больные, женщины и дети. Свидетель сего немец Фр[идрих] Нуфер[32] вспоминает: "*Суворов прежде всего разрешил своим солдатам три дня "погулять". И те буквально купались в крови варшавян, убивая всякого, кто только попадался им на глаза. Тела замученых были голые: здесь и там дрожали под трупами еще живая рука или обнаженная нога*". Показательно, что самого Суворова это исключительное зверство вдохновило лишь на альбомный стишок, адресованный им дочери в Смольный институт:

---

[30] **Тадэвуш Касьцюшка** (1746—1817), ваенны інжынэр і грамадзкі дзеяч Рэчы Паспалітай, кіраўнік вызвольнага паўстаньня 1794 г., нацыянальны герой Беларусі, Польшчы і ЗША.

[31] **Аляксандар Сувораў** (рас. *Александр Васильевич Суворов*, 1730—1800), расейскі вайсковы дзеяч, граф, князь, генэралісімус. Кіраваў расейскімі войскамі ў часе задушэньня паўстаньня Тадэвуша Касьцюшкі.

[32] Немец Фрыдрых Нуфэр пакінуў сьведчаньні пра вынікі ўзяцьця Суворавым Варшавы ў 1794 г.

*Уведомляю сим тебя, моя Наташа,*
*Косцюшко злой в руках:*
*Взяла вот так-то наша.*

Пражская резня не была для Суворова случайной. За четыре года перед ней тоже имелось в захваченном им в Бессарабии Измаиле, а в 1779 г. в Италии под Требией. С предельной образностью охарактеризовал его великий Байрон[33]: "*Суворов любит кровь, как английский городской советник шпик*". И не решаюсь, страха ради иудейска, привести далее полностью выдержку из мемуаров придворного историка Екатерины Второй француза С. Массона[34], которая кончается утверждением: "*Дикость Суворова природная, и кровь он проливает инстинктивно*".

Хоть не было тогда ни радио, ни телеграфа, но весть о Пражской резне быстро облетела весь свет, вызвав возмущение среди всех цивилизованных народов. Неужели эта бесчеловечная жестокость свидетельствует о "*...принципиальности и широте взглядов победителя*"? Не подлежит сомнению, что для своей статьи г-н Ал. Карцев воспользовался не пером историка, а кистью иконописца.

С совершенным почтением

Юрий Стукалич.

*Падрыхтоўка да друку Лявона Юрэвіча,*
*камэнтары Натальлі Гардзіенкі*

---

[33] **Джордж Гордан Байран** (анг. *George Gordon Noel Byron,* 1788—1824), ангельскі паэт-рамантык, драматург.

[34] Відаць, маецца на ўвазе **Шарль Масон** (фр. *Charles François Philibert Masson,* 1762—1807), францускі паэт і мэмуарыст, аўтар твору "*Секретные записки о России, и в особенности о конце царствования Екатерины II и начале правления Павла I, представляющие собой картину нравов Санкт-Петербурга в конце XVIII века и содержащие некоторые анекдоты, собранные в течение десятилетнего там пребывания*" (1800).

***Юры Грыбоўскі***
*Варшава*

# ЛІСТЫ ФРАНЦА КУШАЛЯ Й НАТАЛЬЛІ АРСЕННЬЕВАЙ ДА СВАЯКОЎ У ПОЛЬШЧЫ (1963—1965 гг.)

Паваенная Польшча сталася месцам жыхарства многіх беларускіх дзеячаў. Варта прыгадаць, напрыклад, Язэпа Найдзюка, Антона Сокал-Кутылоўскага ці Мар'яна Пецюкевіча. Нягледзячы на тое што тут таксама пасьля Другой сусьветнае вайны быў усталяваны камуністычны рэжым, аднак усё ж рэчаіснасьць шмат у чым адрозьнівалася ад той, якая панавала ў БССР.

У камуністычнай Польшчы жыло й нямала блізкіх сваякоў дзеячаў беларускай паваеннай эміграцыі на Захадзе. У якасьці прыкладу можна прыгадаць родных Барыса Рагулі, Міхася Тулейкі, біскупа Часлава Сіповіча. Сярод родзічаў вядомых эмігрантаў былі таксама сваякі Франца Кушаля, які ад 1950 г. стала жыў у ЗША й працягваў чынную дзейнасьць у беларускіх эміграцыйных арганізацыях. Доўгі час ён быў, між іншым, кіраўніком беларускіх камбатантаў на чужыне, а таксама міністрам абароны ва ўрадзе БНР. У Польшчы жылі ягоныя родныя браты — Казімер й Янка: першы — у мясцовасьці Нова Дамброва Граецкага павету Варшаўскага ваяводзтва, а другі — у Зялёнай Гуры[1]. Абодва трапілі ў Польшчу пасьля Другой сусьветнай вайны. Вядома, што Янка Кушаль у 1940 г. быў вывезены савецкімі ўладамі ў Архангельск, адкуль у 1948 г. як рэпатрыянт пераехаў на польскую тэрыторыю. У гэты ж час у краіну трапіў таксама ягоны брат.

Сваякі беларускіх эмігрантаў былі прадметам узмоцненай увагі з боку камуністычнага апарату дзяржаўнай бясьпекі. Тэма *"беларускіх нацыяналістаў на Захадзе"* ў дзейнасьці камуністычных спэцслужбаў Польшчы ўжо разглядалася ў навуковай літаратуры[2]. Аднак нельга

[1] Archiwum Instytutu Pamięci Narodowej (AIPN). Sygn.: BU 003172/33. T. 20. K. 7.

[2] Грыбоўскі, Юры. Службы бяспекі ПНР і "беларускія нацыяналісты і іх палітычныя цэнтры на Захадзе" // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 2007. № 28. S. 158—192; Той самы. Komunistyczny aparat bezpieczeństwa w Polsce wobec mniejszości białoruskiej w kraju i Białorusinów antykomunistów na Zachodzie (w latach czterdziestych, pięćdziesiątych i sześćdziesiątych) // Pamięć i

прызнаць яе раскрытаю цалкам. Трэба адзначыць, што найчасьцей мясцовыя органы праяўлялі цікавасьць да гэтых людзей ня з ўласнай ініцыятывы, а паводле запыту савецкіх калегаў. Не інакш было і ў выпадку родных Франца Кушаля. У 1963 г. савецкі бок накіраваў адпаведны ліст у Міністэрства унутраных справаў ПНР з просьбай высьветліць, ці вышэйзгаданыя асобы падтрымліваюць карэспандэнцыйную сувязь са сваякамі за акіянам. У выніку апэратыўнай працы было ўстаноўлена, што абодва браты сапраўды ліставаліся з Францам і ягонай жонкай Натальляй Арсеньневай[3]. Янка Кушаль упершыню зьвярнуў на сябе ўвагу бясьпекі яшчэ ў 1962 г., калі службы сканфіскавалі асобнік часопісу “Сяўбіт”, які брат (былы камандзір БКА) даслаў яму з ЗША[4]. З увагі на постаці Кушаля й Арсеньневай і іх ролю ў жыцьці эміграцыі карэспандэнцыя паміж імі й сваякамі ў Польшчы адсочвалася супрацоўнікамі дзяржбясьпекі. У архіўных зборах органаў бясьпекі захавалася прынамсі частка карэспандэнцыі паміж Францам Кушалем і Натальляй Арсеньневай ды польскімі сваякамі. Зьмест гэтых лістоў прапануем увазе чытачоў.

Можна заўважыць, што ў карэспанцэнцыі аўтары адмыслова не закраналі тэматыкі, якая выходзіла за межы чыста прыватнага жыцьця. Магчыма, гэта вынікала з ўсьведамленьня, што лісты могуць трапіць у рукі ня толькі іх адрасатаў. Кушаль, безумоўна, ведаў, што ягонае прозьвішча добра вядомае адпаведным службам за жалезнай заслонай. І ён не жадаў ствараць непатрэбнай рызыкі для родных. Нягледзячы на гэта, карэспандэнцыя цікавая як крыніца для дасьледаваньня розных аспэктаў эміграцыйнага жыцьця.

Лёс сям’і Кушаляў тыповы для паваеннай эміграцыі: цяжкі й няпросты. Апынуўшыся на эміграцыі й будучы ўжо ў немаладым веку, людзі мусілі прыстасоўвацца да ўмоваў жыцьця ў новым чужым асяродзьдзі. Лісты паказваюць складанасьці штодзённасьці эмігрантаў, а таксама ў пэўнай ступені настрой, які ў іх панаваў. Можна заўважыць, як праз радкі прамаўляе пэўная стомленасьць, смутак і туга па бацькаўшчыне.

Лісты да Янкі Кушаля напісаныя на польскай мове. Тым часам карэспандэнцыя, адрасаваная ягонаму брату Казімеру, была пабеларуску. Арыгіналы дакумэнтаў цяпер захоўваюцца ў архіве

---

Sprawiedliwość. 2011. № 1. S. 263—296; Той самы. Pogoń między Orłem Białym, Swastyką i Czerwoną Gwiazdą. Białoruski ruch niepodległościowy w latach 1939—1956. Warszawa, 2011. S. 908; Słabig, Arkadiusz. Aparat bezpieczeństwa wobec mniejszości narodowych na Pomorzu Zachodnim w latach 1945—1989. Szczecin, 2008. — 426 s.

[3] AIPN. Sygn.: BU 003172/33. T. 20. K. 26—28.

[4] AIPN. Sygn.: BU 003172/33. T. 20. K. 9.

Інстытуту нацыянальнай памяці ў Варшаве, у зборах Міністэрства ўнутраных справаў ПНР (Sygn.: BU 003172/33. T. 20). Карэспандэнцыя друкуецца ўпершыню, з захаваньнем арыгінальнага стылю й мовы. Пры гэтым польскамоўныя тэксты зьмяшчаем у арыгінале і зь перакладам на беларускую мову.

На заканчэньне варта дадаць, што акрамя Казімера й Янкі ў паваеннай Польшчы апынуліся далёкія сваякі Франца Кушаля. Яны таксама былі прадметам зацікаўленьня з боку савецкіх і польскіх службаў бясьпекі. Аднак на дадзены момант нам не ўдалося выявіць якіх-колечы матэрыялаў адносна іх стасункаў з Кушалем і Арсеньневай.

## Лісты да Казімера Кушаля й ягонай сям'і

*Дарагія Віця і Казюк!*

*На днях атрымалі Ваш ліст, а таксама папярэдні ліст і дзьве кнігі: "Зялёныя вочы"[5] і "Гэбэльс". Мы вінаватыя перад Вамі за тое, што не адпісалі Вам адразу і не падзякавалі Вам за пасылку, вельмі Вас за гэта перапрашаем. Мы так доўгі час Вам не пісалі таму, што ня было чаго пісаць. На сьвеце шмат цікавага робіцца, але Вы самі аб усім добра ведаеце і таму няма патрэбы паўтарацца. Новага ў нас ёсьць толькі тое, што я перайшоў на пэнсію, мне прызналі 89 даляраў у месяц. Каб з гэтай пэнсіяй прыехаў да Вас, то мог бы добра жыць, але тут у Амэрыцы гэта вельмі мала, бо трохі новая кватэра каштуе тут цяпер каля ста даляраў і палажэньне ратуе толькі тое, што яшчэ працуе Наталя. Мне ўжо 68 год і я, калі працаваў, зарабляў амаль у тры разы больш[6], чым гэтая пэнсія, але няма рады, старасьць мае свае законы. У сувязі з гэтым, наша матар'яльнае палажэньне значна цяпер пагоршылася. Вясну і лета мы правялі ня блага. Лета было тут вельмі гарачае, першае такое гарачае за ўвесь час, што мы ў Амэрыцы. У пачатку ліпеня мы езьдзілі да Улодка[7] ў Рачэстар, правялі там два тыдні. У Влодка ўсё ў парадку, жыве ён добра, дзеці гадуюцца вельмі добра. Далучаем да гэтага лісту іхную фатаграфію.*

*Прысланыя Вамі кнігі вельмі цікавыя, так што ня толькі прачыталі мы, але і нашыя знаёмыя. Там у Вас выйшла новая вельмі*

---

[5] Маецца на ўвазе кніга Станіслава Мацкевіча "Zielone oczy" (Warszawa, 1958).

[6] Франц Кушаль у ЗША спачатку працаваў на фабрыцы, потым быў ліфцёрам.

[7] Маецца на ўвазе **Ўладзімер Кушаль** (нар. 1926), сын Франца Кушаля й Натальлі Арсеньневай. Жыве ў Рочэстары (штат Нью-Ёрк).

*цікавая кніга пад загалоўкам “Таямніца Пілсудзкага”, напісаная Станіславам Мацкевічам. Калі-б Вы маглі там яе купіць і прыслаць, то мы былі-б Вам вельмі ўдзячныя. Вось і ўсё, што мы можам Вам напісаць. Вы, аднак, пішыце да нас часьцей і калі-б мелі нейкія патрэбы, то нам пішыце і пастараемся іх задаволіць. Перадайце нашае прывітаньне Маўчановічам. Жадаем Вам усяго найлепшага, цалуем Вас,*

*Вашыя Франук і Наталя*

*2-га верасьня 1963 г.*
*Далучаю адзін даляр*

*Дарагія Віця і Казюк,*

*Больш месяца таму назад мы атрымалі ад Вас ліст. Доўгі час мы Вам нічога не пісалі, чакалі можа здарыцца што-небудзь цікавае, з чым можна было б з Вамі падзяліцца. Нью-Ёрк, як вядома, горад вялізарны, жыцьцё тут кіпіць, але ў нас нічога новага. Наталя цяпер ужо на фабрыцы не працуе. Удалося ёй дастаць працу ў канцылярыі. Праца шмат лягчэйшая і лепш платная, і мы з гэтай перамены вельмі цешымся. Я, як ужо пісаў Вам, цяпер знаходжуся на пэнсіі. Плацяць мне 89 даляраў у месяц. Каб з гэткай пэнсіяй жыць у Вас, то было бы вельмі добра, але тут у Амэрыцы за гэтыя грошы жыць вельмі цяжка. Я мушу да пэнсіі дазарабляць і таму працую ў тым самым месцы, дзе і працаваў, з той толькі розьніцай, што працую шмат менш часу і плацяць мне адпаведна меней. Столькі пра сябе можам напісаць. Влодак жыве сваім асобным жыцьцём у Рачэстары, сувязь паміж сабой трымаем толькі праз лісты. Ягоны сын ад восені ходзіць у перадшколье[8], гаворыць толькі па-ангельску і чуецца сапраўдным амэрыканцам. Цікава нам, як жывіцё Вы, як Вашае здароўе. Мне ад лютага гэтага году пайшоў семідзісяты год, так што я ўжо стары чалавек, але чуюся яшчэ ня блага. Мы ўсе столькі перажылі за час другой сусьветнай вайны і вот дзякаваць Богу яшчэ жывём. Напішыце нам, можа Вам што-небудзь патрэбна, мы пастараемся Вашу патрэбу задаволіць. Летам мы выбіраемся паехаць да Валодка на два тыдні, а можа і трохі больш, будзе залежыць ад абставін, якія ўтворацца ў нас улетку. На гэтым канчаем каротнае да Вас пісьмо. Цалуем Вас моцна, жадаем як найбольш для Вас здароўя. Прывітаньне для Маўчыновічаў.*

*Наталя і Франак Кушаль*

*Нью-Ёрк*
*28-га красавіка 1964 г.*

---

[8] ***Przedszkole*** (польск.) — дзіцячы садок.

*Дарагія Казюк і Віця,*

*Тыдні тва таму назад мы атрымалі ад вас дзьве кнігі. За кнігі вельмі дзякуем, яны вельмі цікавыя, а асабліва Мацкевіча "Гэрэзіе і праўды"*[9]*. У будучыні, калі будзеце мець магчымасьць прыслаць кнігі, то прысылайце наступныя выданьні Мацкевіча. Мы выслалі Вам пасылку, у каторай знаходзяцца цёплыя боцікі для Віці і дзьве цёплыя кашулі для Казюка. У нас нічога асабліва новага няма. Як я ужо пісаў да Вас, я знаходжуся на пэнсіі. Мне у лютым наступага году скончыцца 70 год, як бачыце, я не малады. Пэнсія ў мяне 89 даляраў у месяц, каб з гэтай пэнсіяй прыехаць да Вас, то было бы не блага, але ў Амэрыцы гэта вельмі мала. За кватэру, на якую мы перасяляемся ў лістападзе гэтага году, будзем плаціць 95 даляраў у месяц. Палажэньне ратуе праца Наталі. Яна працуе цяпер у канцылярыі і зарабляе досыць добра, так што прыйдзецца жыць за яе грошы. Летам сёлета мы правялі два тыдні ў Владка ў Рачэстары. Жыве ён добра, увесь час працуе як інжынер, зарабляе добра. Ягоны сын ужо ходзіць у школу, вучыцца добра і гаворыць толькі па-ангельску, так што ён, калі падрасьце, дык будзе ўжо настаяшчым амэрыканцам. Тыя ідэі, за якія ягоны дзед змагаецца цэлае жыцьцё, для яго зусім незразумелыя. На сьвеце цяпер вельмі шмат цікавых падзеяў, аб якіх вы пэўна ведаеце. У нас ужо ў Амэрыцы самае галоўнае цяпер выбары новага прэзыдэнта*[10]*. Уся ўвага амэрыканцаў цяпер на гэта зьвернута. На тым і канчаю гэты ліст. Пішыце да нас часьцей — апошні Ваш ліст мы атрымалі недзе раньняй вясной. Жадаем Вам усяго найлепшага, галоўнае здароўя. Цалуем Вас*

*Франук і Наталя*

*Нью-Ёрк*
*18-га кастрычніка 1964 году*
*Далучаю адзін даляр*

*Дарагія Віця і Казюк,*

Нядаўна *атрымалі ад Вас ліст. Ліст давольна сумны. Вы жаліцеся ў ім, што Вы хворыя, ня можаце працаваць на сваёй гаспадарцы і т. п. Усё мы гэта ведаем, але гэта ёсьць нармальны бег рэчаў. Мы не павінны забывацца, што мы ўсе старыя, пачынаючы ад Казюка і канчаюся на Ганцы. Мне ў лютым гэтага году канча-*

[9] Маецца на ўвазе кніга вядомага польскага публіцыста й грамадзскага дзеяча Станіслава Мацкевіча *"Herezje i prawdy"*, якая выйшла ў Варшаве ў 1962 г. Мела некалькі перавыданьняў.

[10] У лістападзе 1963 г. пасьля сьмерці Джона Кенэды новым прэзыдэнтам ЗША стаў дэмакрат Ліндан Джонсан. У 1964 г. на выбарах ён быў пераабраны ўжо на поўны тэрмін.

*еціца 70 год, а ты за мяне на год 5 старэйшы. Трэба дзякаваць Богу за тое, што мы ўсе, акрамя Кастуся*[11]*, пасьля таго, што рабілася на сьвеце ў часе другой сусьветнай вайны, асталіся жывыя і жывём да гэтага часу. Усю маёмасьць і грошы, якія Вы маеце, старайцеся выкарыстаць для паляпшэньня Вашага жыцьця. У нас тут сталася такая перамена, што пераехалі ўжо ў новую кватэру. Кватэра шмат лепшая, але і шмат даражэйшая. За тую кватэру мы плацілі 45 даляраў у месяц, за гэтую будзем плаціць 95 даляраў у месяц. Як ужо пісаў Вам, я атрымоўваю пэнсію 89 даляраў у месяц, значыць маёй пэнсіі не хапае нават заплаціць за кватэру. Ясна, што цяпер увесь цяжар нашага эканамічнага жыцьця паў на Наталю. Адно шчасьце, што яна так добра вывучыла ангельскую мову, што атрымала добра платную працу ў канцылярыі. Я таксама працую дзьве гадзіны ў дзень, дапрацоўваю да сваёй пэнсіі, так што, усё разам злажыўшы, сяк-так пражывём. Наогул трэба сказаць, што нам усім, пачынаючы ад Казюка, нічога больш не асталося ў гэтым жыцьці, як старацца як найлепей пражыць свой век. Гэта ўсё, што мы маглі Вам напісаць у гэтым лісьце. Жадаем Вам як найбольш здароўя, не падайце духам, цалуем Вас моцна. Прывітаньне для Маўгуновічаў.*

*Вашыя Наталя і Франук*

*Нью Ёрк*
*27-га студзеня 1965 года*
*Наш адрас наступны:*
*430 E., 6 Street, Art. 2 F*
*New York 9 N.Y.*
*USA*

## Лісты да Янкі Кушаля і ягонай сям'і

*Kochany Janie z całą twoją Rodziną,*

*Kilka miesięcy temu otrzymaliśmy od Was list, do którego była dołączona fotografia Henryka i Tadka. Chłopczyki robią nadzwyczajnie miłe wrażenie. Należy uważać żeby obydwa byli zdrowymi... [...] My bardzo przepraszamy Was, że tak długo nie pisaliśmy Wam. Przyczyna było to, że nie było czego pisać. Na świecie dzieje się bardzo dużo ciekawych rzeczy, ale Wy wiecie wszystko. Przy obecnych technicznych środkach wszyscy o wszystkim wiedzą, tak że niema potrzeby powtarzać się. Nowego w naszym prywatnym życiu jest to, że wyszedłem już pa pensję. Mnie już 68 lat życia, tak że musiałem na pensję pójść. Mnie przyznano*

[11] Маецца на ўвазе Канстанцін Кушаль, брат Франца, які жыў у Беларусі.

*89 dolary w miesiąc. Gdyby z tymi pieniędzmi przyjechałem do Was, to można było by żyć bardzo dobrze, ale w Ameryce jest to bardzo mało. Lepsza kwatera kosztuje około sto dolary w miesiąc, a gdzie żywienie, ubranie, lekarzy i t.p. Położenie ratuje to, że Natalia jeszcze pracuje i z tego jakoś można będzie żyć. Położenie materialne obecnie bardzo się nam pogorszyło. Lato w tym roku w Ameryce było bardzo gorące, pierwsze takie od czasu jak przybyliśmy do Ameryki. Na początku lipca jeździliśmy do Włodka w Roczester, przebyliśmy tam dwa tygodnie. U Włodka wszystko w porządku. On stale pracuje, dobrze zarabia, dzieci chowają się bardzo dobrze, załączamy do tego listu trzy fotografie dzieci wraz z ich rodzicami. Czas przechodzi bardzo szybko. Prosto nie chce się wierzyć, że Staś się ożenił, Danusia wyszła za mąż, Jadzia ma już dwóch synów, a jak wspomnieć nasze dorskie czasy, to zdaje się tak niedawno to było, kiedy ja wszystkich ich nosiłem na rękach. Tak wszystko się zmienia. Ale póki żyjemy, to trzeba żyć. Nie zważając na to, że my Wam tak rzadko piszemy, ale Wy piszcie nam częściej. Nas szczególnie ciekawi co tam się dzieje w naszych rodzinnych stronach. Życzymy Wam wszystkiego najlepszego. Całujemy Was wszystkich.*

*Natalia i Franciszek Kuszelowie*

*Dołączam jednego dolara.*
*6-go września 1963*
*New York*

[пераклад]

*Каханы Яне і ўся твая сям'я,*

*Некалькі месяцаў таму мы атрымалі ад Вас ліст, да якога была далучана фатаграфія Генрыка й Тадка. Хлопчыкі робяць надзвычай мілае ўражаньне. Належыць сачыць, каб абодва былі здаровымі... […] Мы вельмі перапрашаем Вас, што працяглы час не пісалі Вам. Прычынай было тое, што не было чаго пісаць. На сьвеце адбываецца вельмі шмат цікавых рэчаў, але Вы ўсё ведаеце. Пры цяперашніх тэхнічных сродках усе пра ўсё ведаюць, так што няма патрэбы паўтарацца. Новым у нашым прыватным жыцьці ёсьць тое, што я выйшаў на пэнсію. Мне ўжо 68 гадоў, таму мусіў пайсьці на пэнсію. Мне прызналі 89 даляраў у месяц. Калі б з гэтымі грашыма я прыехаў да Вас, дык можна было б жыць вельмі добра, але ў Амэрыцы гэта вельмі мала. Лепшая кватэра каштуе каля ста даляраў у месяц, а дзе харчаваньне, вопратка, лекары і г. д. Становішча ратуе тое, што Натальля яшчэ працуе й з гэтага неяк можна будзе жыць. Матэрыяльнае нашае становішча зараз вельмі пагоршылася. Лета сёлета ў Амэрыцы было вельмі сьпякотнае, першае такое лета ад часу, калі мы прыехалі ў Амэрыку. На пачатку ліпеня мы езьдзілі да Ўладка ў Рачэстар, прабылі там два тыдні. У Ўладка ўсё ў парадку.*

*Ён стала працуе, добра зарабляе, дзеці гадуюцца вельмі добра, далучаем да гэтага лісту тры фатаграфіі дзетак разам зь іх бацькамі. Час мінае вельмі хутка. Проста ня хочацца верыць, што Стась ажаніўся, Дануся выйшла замуж, Ядзя ўжо мае двох сыноў, а калі ўзгадаць нашыя дорскія часы[12], дык здаецца, што так нядаўна гэта было, калі я ўсіх іх насіў на руках. Так усё зьмянілася. Але пакуль мы жывем, дык трэба жыць. Не зважаючы на тое, што мы Вам так рэдка пішам, Вы пішыце нам часьцей. Асабліва нас цікавіць тое, што адбываецца ў нашым бацькоўскім куце. Зычам Вам усяго найлепшага. Цалуем Вас усіх.*

*Наталья й Фрацішак Кушалі*

*Далучаем аднаго даляра*
*6-га верасьня 1963*
*Ню-Ёрк*

*

*Kochany Janie z całą twoją Rodziną,*

*Otrzymaliśmy twój list z świątecznym powinszowaniem. Ze swej strony przysyłamy Wam również najserdeczniejsze życzenia wesołych świąt i najszczęśliwszego nowego roku. Miejmy nadzieję, że następny 1965 rok będzie szczęśliwszy od roku ubiegłego. U nas tym czasem wszystko bez zmiany. Żyjemy po staremu. Żona pracuje bez przerwy, ja również pracuję tylko dwie godziny dziennie, dozarabiam do swojej pensyi. Jeszcze znajdujemy się w starym mieszkaniu. Mamy nadzieję że zaraz po świętach przeniesiemy się na nowe mieszkanie, które jeszcze nie jest skończone. Czekamy, prawda, długo, ale innego wyjścia nie ma. Nowe domy w Ameryce budują się długo za to bardzo dobrze. U Władka tak samo wszystko po staremu. Syn jego chodzi do szkoły, córka tym czasem siedzi w domu. Czas leci bardzo szybko. My coraz starzejemy się. W następnym roku kończy się siedemdziesiąt lat mojego życia, jestem już starym człowiekiem. Już podrastają nasze wnuki, czy będzie ich życie szczęśliwsze od naszego, nie wiadomo. To że Staś przeszedł na prywatne przedsiębiorstwo to bardzo dobrze. Chociaż prywatne przedsiębiorstwa wymagają więcej pracy i staranności, za to dają więcej zadowolenia. Na tym kończymy ten krótki list do was. Całujemy was wszystkich. Dołączamy pięć dolarów jako prezent świąteczny.*

*Wasi Natalia i Franciszek Kuszelowie*

*New York*
*2 grudnia 1964 r.*

---

[12] Маецца на ўвазе вёска **Доры** (цяпер Валожынскі раён Менскай вобласьці), дзе жылі бацькі Франца Кушаля. У міжваенны час сям’я Кушаляў бавіла там летнія вакацыі.

[пераклад]

*Каханы Яне і ўся твая сям'я,*

*Мы атрымалі твой ліст са сьвяточнымі віншаваньнямі. Са свайго боку дасылаем Вам найсардэчныя зычэньні вясёлых сьвятаў і найшчасьлівага Новага году. Маем надзею, што наступны 1965 год будзе больш шчасьлівы, чым папярэдні. У нас тым часам усё бязь зьменаў. Жывем па-старому. Жонка працуе бесьперапынна, я, таксама, працую толькі дзьве гадзіны штодзённа, дазарабляю да сваёй пэнсіі. Яшчэ знаходзімся ў старой кватэры. Спадзяемся, што пасьля сьвятаў перабярэмся ў новую кватэру, якая яшчэ ня скончаная. Чакаем, праўда, доўга, але іншага выйсьця няма. Новыя хаты ў Амэрыцы будуюцца доўга, але за тое вельмі добра. У Ўладка, таксама, усё па-ранейшаму. Ягоны сын ходзіць у школу, дачка тым часам сядзіць у хаце. Час ляціць вельмі хутка. Мы штораз старэем. У наступным годзе мне скончыцца семдзесят гадоў майго жыцьця, я ўжо вельмі стары чалавек. Ужо падрастаюць нашыя ўнукі, ці будзе іх жыцьцё шчасьлівейшае за нашае, невядома. Тое, што Стась перайшоў у прыватнае прадпрыемства, гэта вельмі добра. Хоць прыватныя прадпрыемствы патрабуюць больш працы і стараннасьці, за тое даюць больш задавальненьня. На гэтым я скончваю гэты кароткі ліст да вас. Цалуем Вас усіх. Далучаем пяць даляраў у якасьці сьвяточнага падарунку.*

*Вашыя Натальля і Францішак Кушалі*

*Нью Ёрк*
*2 сьнежня 1964 г.*

*

*Kochany Janie i cała twoja Rodzina,*

*Otrzymaliśmy od ciebie list datowany 3-go września tego roku. Bardzo dziękujemy. Z twojego listu widać, że powodzi sie Wam wiele dobrze. Bywacie jedni u drugich i to jest bardzo dobrze. My natomiast jesteśmy oderwani od Was na zawsze i nigdy się nie zobaczymy. U Władka zdarzyło się wielkie nieszczęście w pierwszej połowie września nagle ciężko zachorowała jego żona, dostała ciężkiego ataku nerek. Natychmiast odwieźli ja do szpitala, lekarz orzekł że stan jest beznadziejny, nerki wcale przestały pracować. Cała dobę leżała bez przytomności. Sprowadzili najlepszych lekarzy. Na szczęście w Ameryce jest wynaleziona maszyna na czyszczenie krwi. Zdaje się że w Europie takiej maszyny jeszcze nie ma. Przy pomocy tej maszyny zaczęli czyścić krew. Po sześciu godzinach czyszczenia przyszła do przytomności. Potem wleli jej zupełnie nowej krwi i od tego momentu zaczęła poprawiać się. Teraz na tyle wzmocniła się, że wróciła ze szpitala do domu. Co dalej będzie nie wiadomo, ale*

*obecnie coraz lepiej poprawia się. Strachu było bardzo dużo, ale na razie dobrze się skończyło. U nas w Ameryce było bardzo gorące i suche lato w tym roku, takiego lata nie było w Ameryce od przeszło stu lat. Dwa tygodnie lipca przeprowadziliśmy u Władka. Później kiedy wróciliśmy do New-Yorku to od gorąca w takim dużym mieście myśleliśmy że nie wytrzymamy. Teraz przyszła jesień i my trochę ochłonęliśmy. Teraz ja wcale nie pracuję, pensję trochę podwysil, obecnie otrzymuje 95 dolarów i 30 centów na miesiąc. Pracuje tylko żona, tak że jej zarobek i moja pensja dają tyle dochodu w miesiącu, że możemy przeżyć. Zdrowie tym czasem nam dopisuje, a co będzie dalej nie wiadomo. Dzieci Władka bardzo dobrze się chowają. Piotruś uczy się w Korpusie Kadetów, on ma tylko sześć lat życia tak że jest bardzo młody i uczy się w klasie przygotowawczej. Prawdziwym kadetem on stanie się nie wcześniej jak za dwa lata jeżeli będzie dobrze się uczył. Córka Natka, jak jej w domu nazywają, jeszcze jest bardzo młoda i znajduje się w domu. To wszystko co my możemy napisać do Was. Piszcie nam więcej i częściej, jak chowają się wasze dzieci. Henryk i Tadek już są duże chłopcy, a jak uczą się w szkole, jakie zdradzają zdolności i jakimi drogami chce ich puścić Jadzia. Poza tym życzymy Was wszystkim wszystkiego najlepszego, całujemy Was mocno.*

*Wasi Natalia i Franciszek Kuszelowie*

*New York*
*8-go września 1965 r.*
*Dołączamy pięć dolarów*

[пераклад]

*Каханы Яне і ўся твая сям'я,*

*Мы атрымалі ад цябе ліст, датаваны 3-га верасьня гэтага году. Вельмі дзякуем. З твайго лісту відаць, што Вам паводзіцца вельмі добра. Бываеце адны ў другіх і гэта вельмі добра. Тым часам мы адарваныя ад Вас назаўсёды і ніколі не пабачымся. У Ўладка здарылася вялікая нядоля: у першай палове верасьня раптам цяжка захварэла ягоная жонка, мела цяжкі прыступ хваробы ныркаў*[13]*. Неадкладна яе шпіталізавалі, лекар сьцьвердзіў, што стан безнадзейны, ныркі цалкам адмовіліся працаваць. Цэлыя суткі ляжала непрытомная. Былі выкліканы найлепшыя лекары. На шчасьце, у Амэрыцы вынайшлі машыну па чышчэньні крыві. Здаецца, што ў Эўропе такой машыны яшчэ няма. З дапамогай гэтай машыны пачалі чысьціць кроў. Пасьля шасьці гадзінаў чышчэньня апрытомнела. Потым улілі ёй зусім новую кроў і з*

[13] Маецца на ўвазе **Натальля Кушаль-Куліковіч** (1929—1967), дачка кампазытара Міколы Шчаглова-Куліковіча й жонка Ўладзімера Кушаля.

*гэтага часу пачала папраўляцца. Зараз настолькі ўзмацнілася, што вярнулася са шпіталя да хаты. Што будзе далей, невядома, але цяперака штораз лепш папраўляецца. Перапалоху было вельмі шмат, але пакуль добра скончылася*[14]*. У нас у Амэрыцы было вельмі сьпякотнае й сухое лета, такога лета ня было ў Амэрыцы ўжо больш за сто гадоў. Два тыдні ліпеня мы прабылі ў Уладка. Пазьней, калі вярнуліся ў Нью Ёрк, дык ад сьпёкі ў такім душным горадзе думалі, што ня вытрымаем. Зараз прыйшла восень і мы трохі ахаладзіліся. Зараз я зусім не працую, пэнсію крыху павысілі, цяперака атрымліваю 95 даляраў і 30 цэнтаў у месяц. Працуе толькі жонка, так што ейны заробак і мая пэнсія даюць столькі прыбытку ў месяц, што мы можам пражыць. Здароўе тым часам маем добрае, а што будзе далей невядома. Дзеці Ўладка вельмі добра гадуюцца. Пятрусь вучыцца ў Корпусе Кадэтаў, ён мае толькі шэсьць гадоў, так што вельмі малады й вучыцца ў падрыхтоўчым клясе. Сапраўдным кадэтам ён стане не раней як праз два гады, калі будзе добра вучыцца. Дачка Натка, як яе завуць ў хаце, яшчэ вельмі маладая й знаходзіцца дома. Гэта ўсё, што мы можам напісаць да Вас. Пішыце нам больш і часьцей, як гадуюцца вашыя дзеткі. Генрык і Тадак ужо вялікія хлапцы, а як вучацца ў школе, якія маюць здольнасьці і якімі шляхамі хоча пусьціць іх Ядзя. Акрамя гэтага зычам Вам усяго найлепшага, цалуем Вас моцна.*

*Вашыя Натальля і Францішак Кушалі*

*Нью Ёрк*
*8-га верасьня 1965 г.*
*Далучаем пяць даляраў*

## Ліст сваякоў з Польшчы да Франца Кушаля й Натальлі Арсеньневай

*Дарагие Францук и Наталя.*

*Паведамляю вас што мы усе жывы и здаровы жывем па старому. Перад калядами як вярнулася Любэрця з Дор, я вам выслав письмо, не ведаю, ци вы атрымали гэта письмо. 17.1 мы атрымали ад вас сьвяточнае павиншаване и 5 дал., за усе шчыра вам дзякуем. У гэтым письме я вам шмат чаго аписав, што чула Любэрця у Дорах, як вярнулася Любэрця з Дор, што не може сабе даравацъ, чаго мы ехали у Польшу, нас тут рэпатрыявавшыхся паляки не любяць, называюць русинами — кажуць, наехала гэта галата. Там на нашае бацькаушчыне людзи жывуць ня блага, хто*

[14] Натальля Кушаль-Кулiковiч памерла ў 1967 г. ва ўзросьце 37 гадоў.

*лепей, а хто горай, ци яны у бядзе завседы адзин другому спачувае и парадзиць и паможе. Любэрця расказвае, што там таксама шмат знаемых павыезжали у гарада и вельми добра жывуць, лепей як у нас, таксама хто мае здольнась и ахвоту, пачали вучыцца, шмат маладых людзей з Дорщыны, а пераважна з Сярэдняга Сяла*[15] *вывучылися на доктаров, на инжынерав, на афицерав, на тэхникав, на летчыкав, на механикав, на наставникав и таму падобнае. Вицька з Галькай вельми задаволены, што не паехали у Польшу. Яны жывуць вельми добра, лепей як перад вайной, маюць усяго пад дастаткам и мала працуюць, дастаюць пенсию на 12 руб у месец, им 24 руб в месец досыць на дробныя расходы, у их усе недарага: кило хлеба 13 капеек, цукер 80 капеек за кило. Яны маюць добрую карову, свиней, курэй, з усяго маюць даход и для сябе усяго хватае, на сваей прыусадзбе садзиеюць бульбу, сеюць и трохи збожжа, не гледзячы на их старась, чуюцца вельми добра. Вицька прыслав падарак — зимняю шапку, у нас такая шапка 350 зл., а там 12 руб. Вельми харошая шапка и дарагая, на ихния грошы можна купиць и за 4 руб. Пишыце да нас, што у вас чуваць, як там жыве Владак, як здарове вашей нявестки, як там вашы унуки гадуюца. Наша унучка вельми добра гадуеца, ей 5 марца кончыца два гады, но яна рослая, усе ужо гаворыць. Данусина сьвякоров не працуе, скончылася 60 год, ей прызнали рэнту старчаю, яна дастае 700 зл. у месец на [...] работах. На гэтым заканчываю письмо. Кланеимся вам и жадаем вам усяго добрага, а пераважна добрага здаровья.*

*Петр, Луберця и Вацек*

*Паклон вам ад Данусi и яе сямьи.*
*1 II 66 г.*

[15] **Сярэдняе Сяло** — вёска побач з Дорамі, роднай вёскай Кушаля.

## *Эміграцыязнаўчая сэкцыя на VI Кангрэсе дасьледчыкаў Беларусі*

**Вольга Зубко**
*Віньніца*

# БЕЛАРУСКАЯ ПРАСКАЯ ЭМІГРАЦЫЯ У НОВАЙ МОЎНАЙ ПРАСТОРЫ (1921—1939 гг.)

*Не надо несбыточных грёз,*
*Не надо красивых утопий,*
*Мы старый решаем вопрос:*
*Кто мы в этой старой Европе?*

Валерий Брюсов

Пры вывучэньні беларускай эміграцыі міжваеннага пэрыяду асноўная ўвага сучасных беларускіх і замежных дасьледчыкаў засяроджаная ў першую чаргу на гісторыі палітычнай думкі эміграцыі, яе культурнай і навуковай спадчыне, тады як праблематыка штодзённага эміграцыйнага жыцьця адыходзіць на другі плян. Разам з тым вывучэньне эміgranцкай штодзённасьці як асобнай культурнай катэгорыі выглядае цалкам мэтазгодным. Яно (вывучэньне) дазволіць глыбей зразумець асаблівасьці ўнутранага разьвіцьця дыяспары, яе сувязі са зьнешнім культурным асяродзьдзем, але пры гэтым максымальна дыстанцыявацца ад якіх-небудзь ідэалягічных ацэнак. Шырокая трактоўка паняцьця “штодзённасьць” дазваляе ахапіць і прастору побытавага існаваньня, і хронамэтраж жыцьця, формы вольнага часу й ролевыя функцыі ў розных групах, асаблівасьці сацыялізацыі й харчаваньня, будзённыя й сьвяточныя рытуалы, спэцыфіку міжасабовых адносінаў і, вядома ж, тактыкі моўных паводзінаў.

Моўны фактар заўсёды быў адным зь вядучых у працэсе адаптацыі мігрантаў. Бо веданьне замежных моваў — найважнейшы складнік культурнага дыялёгу, значны інструмэнт сацыялізацыі чалавека ў новым грамадзтве. Кажучы словамі вядомага філёзафа Гайдэгера: “*Мова — гэта дом быцьця*”[1]. Але вось парадокс: інфармацыя аб тым, якім менавіта чынам і з дапамогай якіх сродкаў праскія беларусы авалодвалі чэскай мовай, за выключэньнем матэрыялаў аб кур-

[1] Хайдеггер, Мартин. Бытие и время / пер с нем. В. В. Бибихина. Харьков: Фолио, 2003. С. 48.

сах па вывучэньні чэскай мовы на базе ВНУ ці іншых арганізацый, адсутнічае.

Чаму, уласна, узнятае пытаньне аб вывучэньні чэскай мовы беларускімі эмігрантамі ў міжваенны Чэхаславакіі? Бо чэскую мову вывучалі і ўкраінскія, і расейскія, і грузінскія, і іншыя эмігранты. Што ж, здавалася б, у гэтым пытаньні асаблівага? А асаблівасьцяў дзьве. Па-першае, вывучэньне мовы — гэта ў першую чаргу атрыманьне вышэйшай адукацыі для беларускіх эмігрантаў. Для беларусаў праблема адукацыі была зьвязаная з самой Рыскай мірнай дамовай 1921 г. Як адзначае гісторык Андрэй Буча, беларусы, якія складалі 67 % насельніцтва Заходняй Беларусі, далучанай ужо да Польшчы, практычна ня мелі доступу да вышэйшай адукацыі[2]. (Зрэшты, варта адзначыць, што існуе й супрацьлеглы пункт гледжаньня. Беларускі даследчык М. Улашчык паказвае на памылкі ў “агульнапрынятых” падліках. Ён сьцьвярджае, што да 1917 г. беларусы былі нашмат больш пісьменныя й падае лічбу 40 % у параўнанні з цэнтральнарасейскімі паказчыкамі[3].) Па-другое, адметнай рысай гэтага пытаньня ёсьць тое, што 1918—1933 гады былі другім пэрыядам станаўленьня (фармаваньня) беларускай артаграфіі й правапісу. Толькі ў 1918 г. у Вільні выйшла праца Браніслава Тарашкевіча “Беларуская граматыка для школ”, у якой навукова карэктна асьвятляліся нераспрацаваныя да таго часу пытаньні беларускай артаграфіі, фанэтыкі й сынтаксысу. (Хоць варта ўлічыць той факт, што падручнік Тарашкевіча быў падручнікам у першую чаргу школьным, г. зн. падручнікам для дзяцей, а не для дарослых. Яго задачай было вучыць пісаць, а не “*навукова адукоўваць*”.) І, такім чынам, беларускім эмігрантам у ЧСР давялося вывучаць як бы паралельна некалькі моваў: у першую чаргу родную, — беларускую, а сярод замежных (нямецкую, французскую й ангельскую) — чэскую.

Трэба сказаць, што да пачатку XX ст. беларусы апынуліся ў цікавай сытуацыі: з аднаго боку, яны нібыта былі народам безь беларускамоўнай інтэлігенцыі і чынавенства, без нацыянальнай школы, хоць бы пачатковай, без сваёй мовы за межамі сялянскай хаты. Як пісаў Б. Шушкевіч пра беларусаў Гродзеншчыны, “*тут жыве*

---

[2] Буча, Андрэй. Міжваенная Чэхаславакія як адзін з аўтарытэтных і буйных асяродкаў па падрыхтоўцы кадраў беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі // Геополитические трансформации в Восточной Европе между двумя мировыми войнами (к 90-летию Рижского мирного договора): сборник материалов международной научно-практической конференции; Брест, 17—18 марта 2011 г. Брест: БрГУ, 2011. С. 63.

[3] Улащик, Николай. Грамотность в дореволюционной Белоруссии // История СССР. Москва: Высшая школа, 1968. С. 106—118.

*насельніцтва, якое на штодзень выкарыстоўвае паміж сабой беларускую мову, а на рынку і каля касцёла — польскую*"[4]. Зь іншага — беларускасьць беларусаў (мова і наяўнасьць інтэлігенцыі) нікуды не зьнікала й не магла зьнікнуць. Так, этнонім "беларускі" станавіўся сацыяльнай характарыстыкай, азначаючы "сялянскі", "саматужны", "бедны", "просты". Самастойнасьць, "беларускасьць" значных культурных падзей, у тым ліку лёсы людзей, ігнаравалася. Всё, што ўздымалася над узроўнем непісьменнага сялянскага побыту — царква, школа, канцылярыя, — станавілася аўтаматычна альбо "рускім", альбо "польскім". Але паўторымся: усё гэта нябачна прысутнічала й цярпліва чакала свайго выхаду на гістарычную арэну.

Беларускі філёляг Ніна Барысаўна Мячкоўская падкрэсьлівае, што беларусы як народ былі пакараныя царызмам за саюз з Польшчай. У такі спосаб доўгі час вынішчаліся перадумовы нацыянальнага адраджэньня беларусаў. Ва ўмовах безьдзяржаўнага народу пытаньні захаваньня народнай мовы й культуры маглі кагосьці хваляваць толькі пры некаторым неабходным узроўні адукацыі й матэрыяльнага дабрабыту. Звычайна гэта былі клопаты сярэдняй клясы, і перш за ўсё — інтэлігенцыі й буржуазіі. У беларускіх землях імпэрыі ўлада вынішчала нават патэнцыйныя "*пункты росту*" нацыянальнага руху, тармазіла фармаваньне сярэдняй клясы, прыносячы эканоміцы, адукацыі, культуры беларусаў шкоду, супастаўляльную з той, якую мае пераможаны ў вайне, анэксаваны й пакараны бок. Справядлівасьць гэтай тэзы відавочная, калі параўнаць палітыку царызму ва Ўкраіне й Беларусі. У вачах царызму Ўкраіна — гэта саюзьнік Расеі ў войнах супраць Польшчы, у той час як беларусы ад часоў Вялікага Княства Літоўскага часьцей выступалі ў саюзе з Польшчай (або з польскім нацыянальным рухам) супраць Расеі. Хоць у палітыцы царызму й ва Ўкраіне, і ў Беларусі вызначальнай лініяй была русыфікацыя, аднак у яе мэтадах назіраліся адрозьненьні. Калі ў Беларусі імпэрыю турбавала не беларускае, а "польскае пытаньне", то ва Ўкраіне ішло ў першую чаргу насаджэньне рускіх культурна-адукацыйных інстытуцый і толькі ў другую чаргу — рэпрэсіі супраць нацыянальнага руху (у якім, зрэшты, царызм таксама ўгледжваў "каталіцкую інтрыгу" й "польскі сэпаратызм"). Таму, калі ва Ўкраіне XIX ст. урад адкрываў унівэрсытэты й ліцэі, то ў Беларусі вышэйшыя й прывілеяваныя школы зачыняліся, колькасьць гімназій абмяжоўвалася, бібліятэкі й архівы вывозіліся як культурныя каштоўнасьці з заваяваных земляў. Напрыклад, храналёгія адкрыцьця вышэйшых школаў ва Ўкраіне: Харкаўскі ўнівэрсытэт (1805), Харкаўскі сельскагаспадарчы інстытут

[4] Чарнякевіч, Андрэй. Нараджэнне беларускай Гародні: З гісторыі нацыянальнага руху 1909—1939 гадоў. Мінск: А. М. Янушевіч, 2015. С. 13.

(1816), Нежынскі ліцэй (1820), Кіеўскі ўнівэрсытэт (1834), Кіеўскі мэдычны (1841), Наварасійскі ўнівэрсытэт у Адэсе (1865), Харкаўскі політэхнічны (1885), Кіеўскі політэхнічны (1898), Кіеўская кансэрваторыя (1913). А вось храналёгія разбурэньня адукацыі ў Беларусі: у 1832 г., пасьля паўстаньня, зачынены Віленскі ўнівэрсытэт, ягоную бібліятэку вывезьлі ў Кіеў, дзе якраз рыхтаваліся адкрыць унівэрсытэт Сьвятога Уладзімера; у 1842 г. тэалягічны факультэт Віленскага ўнівэрсытэту быўператвораны ў Рыма-каталіцкую духоўную акадэмію й пераведзены ў Пецярбург; Горацкі земляробчы інстытут (адкрыты ў 1849 г., гэта была першая ў імпэрыі вышэйшая сельскагаспадарчая школа) пасьля паўстаньня 1863 г. закрылі й перавялі ў Пецярбург. Да часу Першай сусьветнай вайны ў Беларусі не было ніводнай вышэйшай школы; узровень адукацыі заставаўся больш нізкім, чым у астатняй частцы эўрапейскай Расеі: тры чвэрці насельніцтва было непісьменным (у губэрнях з рускім насельніцтвам — 70,7 %)[5]. Украінскія ўнівэрсытэты, нягледзячы на тое што да 1916 г. яны былі выключна расейскамоўныя, сталіся галоўнай крыніцай нацыянальнай гуманітарнай культуры й нацыянальнага руху. Сярод выпускнікоў дарэвалюцыйных унівэрсытэтаў Украіны ёсьць імёны эўрапейскага й сусьветнага ўзроўню (Патэбня, Грушэўскі, Драгаманаў, Кастамараў, Жытэцкі, Крымскі, Булахоўскі, Агіенка, Шавялёў і іншыя). Для беларусаў жа ў адрозьненьне ад украінцаў вышэйшую адукацыю было магчымым атрымаць толькі за межамі роднага краю, што паскарала дэнацыяналізацыю інтэлігенцыі. Заснавальнікі беларускай гуманітарыстыкі вучыліся, як правіла, у Пецярбургу (Браніслаў Эпімах-Шыпіла, Браніслаў Тарашкевіч, Максім Гарэцкі), Нежыне (Яўхім Карскі), Маскве (Мікалай Нікольскі), Кіеве (Мітрафан Доўнар-Запольскі), Юр'еве (Усевалад Ігнатоўскі), Адэсе (Пётра Бузук). Некаторыя вядомыя дзеячы беларускай культуры так і не атрымалі вышэйшай адукацыі (Іван Насовіч, Еўдакім Раманаў, Антон Луцкевіч, Вайлаў Ластоўскі, Цішка Гартны (Жылуновіч), Язэп Лёсік), у тым ліку клясыкі нацыянальнай літаратуры Янка Купала й Якуб Колас. Такім чынам, адсутнасьць унівэрсытэтаў у дарэвалюцыйнай Беларусі справакавала недастатковую сацыяльна-культурную значнасьць беларускай нацыянальнай эліты (у параўнаньні з украінскай), што й абумовіла ланцуг наступных адрозьненьняў паміж украінскай і беларускай культурамі й нацыянальнымі рухамі. Да часу абвяшчэньня незалежных Украінскай і Беларускай Народных Рэспублік (1917—1918) беларуская навукова-літаратурная традыцыя была менш прадстаўнічая, чым украінская;

[5] Мечковская, Нина. Почему в постсоветской Беларуси всё меньше говорят на белорусском языке? [Электронный ресурс]. Гл.: http://magazines.russ.ru/nz/2011/6/m16.html.

БНР пратрымалася менш, чым УНР, і менш пасьпела зрабіць для ўмацаваньня свайго сувэрэнітэту.

Чаму міжваенная Чэхаславаччына стала тым спрыяльным плацдармам, які спрыяў вывучэньню чэскай і іншых моваў? Па-першае, з прычыны так званай палітычнай прагматычнасьці першага прэзыдэнта ЧСР Томаша Масарыка. Разумеючы, што нацыянальныя эміграцыі прагнуць рэваншу й хуткага вяртаньня, у канцы 1921 г. ён (Масарык) ініцыяваў ухвалены чэхаславацкім урадам плян прыцягненьня ў Чэхаславаччыну эмігрантаў з былой Расейскай імпэрыі. Праграма так і называлася — "Расейская дапаможная акцыя". Пад яе былі выдзеленыя значныя сродкі на ўладкаваньне ў краіне "*навуковых і культурных сіл эміграцыі*" на падставе "*падрыхтоўкі новай інтэлігенцыі для будучай дэмакратычнай Расеі*". Па-другое, на працягу стагодзьдзяў чэскія землі служылі месцам сутыкненьня розных культурных традыцый. Асабліва ярка гэтая асаблівасьць прасочвалася ў Празе, культурны й лінгвістычны ляндшафт якой быў складзены з славянскага, германскага й габрэйскага кампанэнтаў. У чэскай сталіцы, як нідзе ў Цэнтральнай Эўропе, востра стаяла праблема суадносінаў моўнай прыналежнасьці й нацыянальнай ідэнтычнасьці. Мове адводзілася асаблівая роля ў складаных працэсах нацыянальнага й дзяржаўнага будаўніцтва.

Жыцьцё ва ўмовах новых моўных стандартаў аказалася вельмі складаным выпрабаваньнем для значнай колькасьці беларускіх эмігрантаў. Моўныя цяжкасьці ўзьнікалі ў многіх прадстаўнікоў беларускай дыяспары. Немалая іх колькасьць перажылі моўную траўму, якую варта разглядаць як працэс сутыкненьня вымушаных перасяленцаў з новай мовай, у прасторы якой ім неабходна было існаваць. Сытуацыя пагаршалася праз яшчэ дзьве значныя акалічнасьці. Па-першае, наяўнасьць у складзе беларускай праскай эміграцыі дзвюх плыняў — "касмапалітаў", або "*асобаў рускай нацыянальнасьці*", і "народнікаў". Першыя — студэнты былых расейскіх унівэрсытэтаў — з прычыны палітычнай і эканамічнай нестабільнасьці, выкліканай Грамадзянскай вайной, вымушаныя былі эміграваць з Расеі ў іншыя краіны. Гэтыя беларусы размаўлялі паміж сабой і іншымі прадстаўнікамі нацыянальных суполак, як правіла, на рускай або іншых эўрапейскіх мовах (францускай ці нямецкай). У той час як "народнікі" — эліта беларускай эміграцыі, прадстаўнікі Заходняй Беларусі, Літвы й Латвіі — мелі зносіны паміж сабой у большай ступені на беларускай і польскай мовах і ў меншай — на літоўскай і латыскай. Па-другое, на беларускую мову была ўскладзеная пачэсная роля элемэнту самасьвядомасьці "праскіх беларусаў". Беларуская мова адначасова арганічна зьвязвала сучаснае зь мінулым, дапамагала пераадольваць разьяднанасьць і выступала гарантам будучыні. Маючы статус мовы Беларускай Куль-

туры, яна канструявала нацыянальную й культурную ідэнтычнасьць дыяспары й была найважнейшым сродкам самаідэнтыфікацыі ва ўмовах іншанацыянальнага атачэньня.

У дарэвалюцыйнай Расеі практычна кожны адукаваны чалавек валодаў замежнымі мовамі. Як ужо было адзначана, гэта былі, вядома ж, француская й нямецкая мовы. Веданьне моваў замежных славянскіх народаў не атрымала такога шырокага распаўсюджаньня ва ўнівэрсытэтах. У Заходняй Беларусі традыцыйна мясцовае (няпольскіх) насельніцтва валодала польскай мовай. А з улікам таго, што чэская мова афіцыйна займала (і так і займае) пятае месца ў сьпісе моваў самых складаных для вывучэньня, цалкам заканамерна, што сутыкненьне зь ёй выклікала нямала цяжкасьцяў для беларусаў, як тых, што валодалі нямецкай, францускай і польскімі мовамі, гэтак і тых, хто не валодалі імі зусім. Зрэшты, варта адзначыць, што выключэньні з правілаў усё ж былі. Так вядома, што ў 1923 г. Людміла Краскоўская, атрымаўшы поўную сярэднюю адукацыю ў Дзьвінскай дзяржаўнай беларускай гімназіі, была "запатрабаваная" як афарміцель і перакладчык драматычнага гуртка пры гімназіі. Гэты гурток быў створаны Паўлінай Мядзёлкай. Самым першым перакладам Людмілы Краскоўскай з чэскай на беларускую мову стала апэрэта Карла Фожта "З чэскіх млыноў". Славацкі акадэмік Мікалай Мушынка адзначае, што песенныя тэксты апэрэты Людміле Краскоўскай дапамагаў перакладаць Уладзімер Жылка, які непрацяглы час вучыўся ў Дзьвінскай гімназіі й карыстаўся гасьціннасьцю дому Краскоўскіх[6].

Самым першым вывучаным чэскім словам у праскіх беларусаў было слова *"pozor"* — *"асьцярожна"*, *"увага"*. Беларусы пры гэтым ніякім чынам не суадносілі згаданае слова зь беларускімі эквівалентамі *"ўвага"*, *"асьцярога"*; з польскім — *"uwaga"*; з рускімі — *"внимание"*, *"осторожно"*; з францускім — *"attention"* і нямецкім — *"achtung"*. Проста гэта было першае слова, зь якім яны знаёміліся на чыгуначных вакзалах. Для беларусаў існавалі тры шляхі патрапіць ў ЧСР, кожны зь якіх быў так ці інакш зьвязаны з чыгункай: легальны, паўлегальны й нелегальны. Афіцыйны шлях у Прагу пралягаў праз чэхаславацкія консульствы Варшавы й Рыгі. Паўлегальны шлях быў зьвязаны зь літоўскім Каўнасам. А вось нелегальны —спачатку польская чыгунка ў бок чэхаславацкай мяжы, затым, уласна, пераход польска-чэхаславацкай мяжы з дапамогай правадыроў і, нарэшце, сама чэхаславацкая чыгунка. Беларускі дасьледчык Андрэй Буча падмацоўвае інфармацыю ўспамінамі беларускай студэнткі Ўкраінскага вышэйшага пэдагагічнага інстытуту імя М. Драгаманава ў Празе

[6] Трус, Мікола. Старонкі жыцьця й архіўные зборы Людмілы Краскоўскай // Запісы БІНіМ. № 37. Нью-Ёрк—Менск, 2013. С. 177.

Натальлі Сазановіч. Ён адзначае, што, атрымаўшы рэкамэндацыйны ліст зь Вільні для Мікалая Вяршыніна, ёй спачатку давялося сесьці ў Варшаўскі цягнік, а з Варшавы іншым цягнікам дабрацца да польска-чэхаславацкай мяжы, празь якую яе перавёў мясцовы правадыр. Затым будучая студэнтка паехала цягнікам у чэскі Багумін (горад на ўсходзе ЧСР) і ўжо з Багуміну пасьпяхова дабралася ў Прагу[7]. Калі ўлічыць тыя абставіны, што дзяўчына была родам з Заходняй Беларусі, а значыць, добра валодала польскай мовай, то, хутчэй за ўсё, аўтаматычна з польскай яна магла паспрабаваць перакласьці слова “*pozor*” як “бачнасьць”. Дарога ў Прагу прымушала вучыць і іншыя “дарожныя” словы: *rychlík — рыхлік — хуткі цягнік; osobní vlak — особні влак —пасажырскі цягнік; pokladna — покладна — касса; lístek, jízdenka — лістэк, ездэнка — квіток; čekárna — чэкарня — заля чаканьня; nástupiště — наступіштэ — пэрон.*

Наступнымі вывучанымі чэскімі словамі былі неабходныя ў побыце, але вывучаныя ў працэсе штодзённага камунікаваньня. І вось тут беларускіх выгнаньнікаў чакалі парадоксы разыходжаньняў сэнсаў словаў, што маюць агульнаславянскія карані: *čerstvé potraviny — чэрствы патравіны — сьвежыя прадукты; sedadlo — седадло — фатэль; divadlo — дзівадла — тэатар; podvodnik — падводнік — махляр, zacatecnik — зачатэчнік — кіроўца-пачатковец, chytry — хытры — разумны, mzda — мзда — заробак, chalupa — халупа — лецішча, pitomec — пітомец — глупец, bydliste — быдліштэ — месца жыхарства, urcite — урчытэ — абавязкова, дакладна, chapat — хапат — разумець, uzasny — ужасны — неверагодны, захапляльны* і інш. Гэтыя й іншыя кур’ёзныя словы давялося, відавочна, проста запамінаць.

Як ужо было сказана, у Прагу пераважна прыбыло маладое пакаленьне беларусаў з уласьцівымі яму юнацкім максымалізмам, цікавасьцю й жаданьнем “*заваяваць жыцьцё*”. У 1924 г. у чэхаславацкай сталіцы на Славянскім востраве або Жофіне зьявілася першая ў Эўропе на той час вінілавая грамплясьцінка. Неразбэшчаная тэхнічнымі навінкамі беларуская моладзь, даведаўшыся пра гэта, масава стала запісвацца на экскурсіі да жофінскага спэцыяліста прафэсара па пытаньнях радыё й тэлебачаньня, проста глытаючы новыя тэхнічныя веды й задавальняючы ў той жа час свае музычныя патрэбы. Хоць на пачатку чэскае слова “*gramodeska*” для беларускай моладзі нічым не вызначалася, ні пра што не казала.

Зьніжэньне моўнай напружанасьці адбывалася й з дапамогай арганізацыі агульнамоўных (факультатыўных) курсаў, а таксама з

[7] Буча, Андрэй. Беларуская дыяспара ў Чэхаславакіі: дысертацыя на суісканне ступені кандыдата гістарычных навук. Спецыяльнасць 07.00.03 — Усеагульная гісторыя. Мінск: БДУ, 2012. С. 53.

ўкараненьнем чэскай мовы ў навучальных праграмах тых ВНУ, у якіх навучаліся беларусы. Так, у навучальных плянах Украінскага вышэйшага пэдагагічнага інстытуту імя М. Драгаманава, на базе якога ў 1925 г. была створана першая за мяжой катэдра беларусазнаўства, на вывучэньне чэскай мовы ў статусе факультатыўнага курсу адводзілася ўсяго 4 вучэбныя гадзіны на тыдзень на кожным з трох факультэтаў. Такая самая сытуацыя была ў Падэбрадзкай сельскагаспадарчай акадэміі. Усё тлумачылася тым, што ва ўкраінскіх ВНУ, якія рыхтавалі спэцыялістаў (“вяртанцаў”) у першую чаргу для Украіны, хай сабе й часова акупаванай бальшавікамі, навучальны працэс адбываўся на ўкраінскай мове. Таму, можна меркаваць, факультатыўныя курсы чэскай былі карыснымі ў пляне спэцыяльным, профільным — інжынэрным або агранамічным. У якасьці абавязковага прадмету чэская мова фігуравала ў навучальных плянах першага й другога курсаў музычна-пэдагагічнага, натуральна-матэматычнага, гісторыка-філялягічнага, інжынэрнага й ляснога факультэтаў. Ёсьць зьвесткі, што ў 1921 г. у Празе былі створаныя Вышэйшыя расейскія дадатковыя курсы, закліканыя дапамагчы тым студэнтам былой Расеі, якія плянавалі працягнуць навучаньне ў чэскіх унівэрсытэтах. Сярод слухачоў гэтых курсаў было зафіксавана шмат украінцаў і беларусаў[8].

Тым часам рэаліі жыцьця папросту прымушалі праскіх беларусаў адаптавацца да новых умоваў і вывучаць чэскую мову. Гэтага патрабаваў у першую чаргу сацыяльны статус самага перасяленца. У 1920-я гг. у ЧСР прайшлі глыбокія сацыяльна-эканамічныя рэформы: з экономікі цалкам быў выцесьнены аўстрыйскі капітал, уведзенае працоўнае й сацыяльнае заканадаўства (8-гадзінны працоўны дзень, сацыяльнае страхаваньне й сыстэма дапаможных выплатаў). Беларуская праская эміграцыя была па сваім сацыяльным складзе сялянска-студэнцкая. Па-сялянску прагная да працы ў прамым сэнсе слова, бо праца была той палачкай-ратавалачкай, якая забясьпечвала “*mzdu*” — “заробак”, беларуская моладзь хапалася за любога кшталту працоўную дзейнасьць, хай нават пры ўмове, што праца зусім ня тая, якую хацелася б, і што калектыў складаецца з не зусім адукаваных мясцовых. Галоўнае, ёй даводзілася мець зносіны на незнаёмай мове й таксама актыўна зарабляць грошы на харчаваньне й жыцьцё наогул. Для беларускага эмігранта гэта было нават лепшым варыянтам, чым той, пры якім яму даводзілася вывучаць мову на якіх-небудзь афіцыйных курсах. Чаму? Па-першае, удасканальвалася моўная практыка, вывучаліся дыялекты й слэнг, бо чыстай літаратурнай чэскай мовай у Празе размаўляла выключна чэская прафэсура й мовазнаўцы. Па-другое, заробак спрыяў пашырэньню слоўнікавага запасу. Пражы-

[8] Русские в Праге. Учебные заведения. Прага, 1929. С. 76.

тачны мінімум беларускага эмігранта ў ЧСР у 1920—1930-я гг. складаў у сярэднім 1000 чэхаславацкіх кронаў. І гэта пры ўмове, калі пара восеньскіх жаночых (“*dámské boty*”) або мужчынскіх ботаў (“*pánské boty*”) каштавала ад 80 ці да 180 кронаў; мужчынскі касьцюм-тройка (“*pánský oblek*”) — 200—800 кронаў, жаночае (“*dámské kabáty*”) або мужчынскае паліто (“*mužský kabát*”) — 250—700 кронаў, мужчынская кашуля (“*pánské tričko*”) — 35—100 кронаў, аднаразовы праезд у трамваі (“*jednorázové jízdné v tramvaji*”) — 1—3 кроны, пры суадносінах чэхаславацкай кроны да амэрыканскага даляра 100 : 2,96, гэта значыць 100 чэхаславацкіх крон раўнялася у той час 2 далярам 96 цэнтам. Такім чынам, пражытачны мінімум праскага беларуса складаў 29 даляраў 60 цэнтаў9.

Сялянска-студэнцкая беларуская праская эміграцыя “*наносіла ўдар па моўным суперніку*” таксама з дапамогай вывучэньня тэатральнага й музэйнага рэпэртуараў. Прага 1920—1930-х гг. славілася выдатнымі тэатральнымі пастаноўкамі, музэйнымі выставамі. Такім чынам, чэская мова ўспрымалася на слых, што дазваляла праз паўгоду спакойна разумець у сярэднім каля 80 % прамоўленага чэскага тэксту. Тыя з эмігрантаў, каму вывучэньне мовы давалася лягчэй, маглі ўжо праз 3,5—4 месяцы гаварыць на чэскай мове бязь цяжкасьцяў на жыцьцёва важныя тэмы пры невялікім слоўнікавым запасе. Так, у 1925 г. у Празе адбылася выстава карцінаў Ільлі Рэпіна. У прыватнасьці, на ёй былі прадстаўленыя такія аўтарскія шэдэўры, як “Раніца Уваскрасеньня” (сустрэча Ісуса з Магдаленай) і “Нявера Фамы”. Васіль Касіян — украінскі студэнт Чэскай акадэміі мастацтваў успамінаў, што калі ён зь сябрамі пабываў на выставе першы раз, ён пачуў, як стаяў побач хтосьці зь беларускіх студэнтаў Падэбрадзкай сельскагаспадарчай акадэміі, што прыйшлі таксама ў той дзень, і пераклаў на чэскую мову сваёй дзяўчыне знакамітыя словы Ільлі Рэпіна: “Мастацтва я люблю больш за дабрадзейнасьць; больш, чым людзей, чым блізкіх, чым сяброў; больш, чым усякае шчасьце й радасьць жыцьця нашага” — “*Umění miluji více ctnosti; více, než lidí, než blízké, než přátelé; víc než veškeré štěstí a radost ze života naš*”.

У 1926 г. у адным з нумароў чэскага “*Slovanskego přehledu*” быў надрукаваны пераклад зь беларускай на чэскую вершаў Янкі Купалы. Перакладчыкам быў паказаны нехта Рубін. У прыватнасьці аб гэтым згадваецца ў часопісе “Прамень” (№ 1 за 1926 г.). У тым жа 1926 г. нейкім Н. Дуброўскім была перакладзеная на беларускую мову камедыя Ўільяма Шэксьпіра “Жартаўніцы Віндзару”[10].

[9] Зубко, Ольга. Створення та діяльність Українського вищого педагогічного інституту ім. М. Драгоманова в Празі (1923-1933рр.): дис..... канд. іст. наук: 09.00.12. Київ, КНУ ім. Т. Шевченка, 2010. С. 64—65.

[10] Хроніка беларускай культуры. // Прамень. 1926. № 1. С. 31.

У 1930-я гг. сытуацыя зьмянілася. Чэхаславаччыну зачапіў сусьветны эканамічны крызіс. Пік яго прыпаў на 1933 г. У ЧСР моцна пацярпелі прамысловая й сельскагаспадарчая вытворчасьць. Узьніклі так званыя нажніцы коштаў. Таму кіраўніцтва краіны, спрабуючы выратаваць эканоміку, укараняла элемэнты дзяржаўнага рэгуляваньня: у 1931 г. быў выдадзены закон аб дзяржаўнай падтрымцы зьнешняга гандлю, а ў 1934 г. — забарона на закрыцьцё прадпрыемстваў і звальненьне працоўных. Але нягледзячы на захады па ўрэгуляваньні сытуацыі, у 1937 г. адбыўся чарговы спад вытворчасьці ў цяжкой і лёгкай прамысловасьці. На 1938 г. колькасьць беспрацоўных у ЧСР складала (афіцыйна, уключна з эмігрантамі) паўмільёну. У той час праскія беларусы проста віртуозна жанглявалі наступнымі словамі й словазлучэннямі: "*inflace*" — "*інфляцыя*", "*výstavba, opravy a vylepšení dálnice a silnic, veřejných budov a jiných veřejných podniků a veřejných zařízení; zachování přírodních zdrojů a rozvoj jejich výroby, včetně kontroly, používání a čištění vod; prevence půdní a pobřežní eroze, rozvoj vodní energie, přenos elektrické energie; výstavba různých říčních a přístavních zařízení a prevence před povodněmi*" — "*будаўніцтва, рамонт і паляпшэньне шашы й магістраляў, грамадзкіх будынкаў і любых іншых дзяржаўных прадпрыемстваў і камунальных выгодаў; захаваньне натуральных багацьцяў і разьвіцьцё іх здабычы, уключаючы кантроль, выкарыстаньне й ачышчэньне вод; прадухіленьне глебавай і берагавой эрозіі, разьвіцьцё воднай энэргетыкі; перадача электрычнай энэргіі, будаўніцтва розных рачных і партовых збудаваньняў і прадухіленьне паводак*". Часта ў выйгрышы былі тыя, хто закончыў якія-небудзь практычныя прафэсійныя курсы: сталярныя, ганчарныя, шавецкія, пчалярскія, пякарскія, ювелірныя й інш. Напрыклад, у 1925—1927 гг. на базе УВПІ імя М. Драгаманава ў Празе функцыянавалі аўтатрактарныя курсы (гэтыя курсы былі роўныя цяперашнім курсам па падрыхтоўцы кіроўцаў грузавых і легкавых аўтамабіляў і трактарыстаў). І ўсё часьцей многія з праскіх беларусаў у 1933—1938 гг. паглядалі ў бок Амэрыканскага кантынэнту й БССР. І вось чаму. Частка дальнабачных ідэйных і часткова прагматычных беларускіх пражанаў пасьля Другой усебеларускай канфэрэнцыі (1925 г.) і закрыцьця многіх грамадзкіх беларускіх арганізацый, прадчуваючы блізкасьць Другой сусьветнай, па-ранейшаму арыентаваліся на Захад. Іншыя, проста зламаныя жыцьцёвымі абставінамі, зьвярталі свой позірк назад, на Усход. Але й для першых, і для другіх веданьне чэскай мовы заставалася вялікім багажом. Другіх, валодаючых чэскай, было нават больш, чым першых. Матывацыя іх зразумелая. У 1933 г. па ўсім Савецкім Саюзе афіцыйна было ліквідаванае беспрацоўе. Сямімільнымі крокамі, падпарадкаваўшы сфэру сельскай гаспадаркі, крочыла індустрыялізацыя. Але яшчэ раней, у сярэдзіне 1920-х гг.,

БССР захапіла беларусізацыя. (Так, у лістападзе 1926 г. у Мінску адбылася акадэмічная канфэрэнцыя па рэформе беларускага правапісу й азбукі. Удзельнікам гэтай канфэрэнцыі з ЧСР быў Уладзімер Жылка. У 1933 г. выйшла пастанова (з дапаўненьнямі) Савету народных камісараў БССР "Аб зьменах і спрашчэньні беларускага правапісу".) Ці трэба было вучыць чэскую, канкуруючы на чэхаславацкім рынку працы, калі станавілася магчымым пры веданьні беларускай мовы здабываць хлеб надзённы на сваёй роднай зямлі?

Час, адмераны беларускай Празе гісторыяй, зьмясьціўся ў невялікі пэрыяд паміж дзьвюма сусьветнымі войнамі. І тым ня менш гэткі невялікі па гістарычных мерках пэрыяд праскай Беларусі стаў часам незвычайнага пераадоленьня беларускай эміграцыяй моўнага бар'еру.

***Уладзіслаў Гарбацкі***
*Вільня*

# СКЛАДАЮЧЫ СЛОЎНІК БЕЛАРУСКАЙ ДЫЯСПАРНАЙ МОВЫ: НАПРАЦОЎКІ, АДКРЫЦЬЦІ, КУР'ЁЗЫ

**(сацыялінгвістычны аналіз дыяспарнай мовы)**

*Кажуць, паліглёт — гэта той,*
*хто ведае некалькі замежных моваў.*
*Але сяньня трэба быць паліглётам*
*у межах уласнай роднай мовы!*

Р. Капусьцінскі. Ляпідарыюм III[1].

Да складаньня слоўніка беларускай дыяспарнай мовы падштурхнула простая прычына: сучасныя беларусы (Беларусі) часьцяком не разумеюць тэксты, напісаныя клясычным правапісам ды яшчэ ў дыяспарнай вэрсыі. Беларусы дыяспары захавалі вялікія пласты клясычнай мовы й выпрацавалі да ўсяго новую беларускую мову ў заходнім кантэксьце. У выніку паўстала сапраўдная беларуская мова дыяспары, якая часьцяком супадае, а бывае й істотна адрозьніваецца ад беларускай мовы Беларусі. Гэтая цікавая й багатая як на архаізмы, так і на нэалягізмы дыаказіяналізмы мова дыяспары здаўна чакае сваіх дасьледнікаў. І, як бы скептычна ні ставіліся ў БССР і цяперашняй Беларусі да беларускай мовы замежжа ці дыяспары[2], яна можа зацікавіць ня толькі філёлягаў, але й перакладнікаў, гісторыкаў, у цэлым усіх спэцыялістаў у гуманістыцы.

Пры гэтым сам панятак *"дыяспарная мова"*, *"беларуская дыяспарная мова"* амаль не вядомы, не распрацаваны ў нас. Таму першапачаткова вызначымся з паняткам, нададзім яму навуковай, сацыялінгвістычнай вагі, а потым ахопім асноўныя напрасткі, напрацоўкі ў гэтай сфэры.

---

[1] Цытата выкарыстаная ў: Serejska Olszer, Krystyna. Polszczyzna z oddali język polski w anglojęzycznym świecie. Poznań: Wydawnictwo Media Rodzina, 2001. S. 40.

[2] Сачанка, Барыс. Беларуская эміграцыя. Мінск, 1991. С. 56.

Так, у заходняй сацыялінгвістыцы інтарэс да дыяспарнай мовы паўстаў у 1970-я гг., у гэтак званы пэрыяд *"аднoвы этнічнага"*[3] ў ЗША, англамоўным сьвеце наогул, у франкамоўнай сацыялінгвістыцы да тэмы павярнуліся ў 1990-я гг.[4]. У беларускім мовазнаўстве варта адзначыць вялікую й досыць поўную працу прафэсаркі Ніны Баршчэўскай з Варшавы, прысьвечаную якраз тэме мовы дыяспары[5]. Праўда, у працы не ўжываецца панятак *"беларуская дыяспарная мова"*, а хутчэй *"мова эміграцыі"*, і ня робіцца, бо няма такой мэты, сацыялінгвістычнага аналізу. Аўтарка аналізуе, як разьвівалася й мянялася мова ў эміграцыі (падаюцца фанэтычныя, марфалягічныя, сынтаксічныя й лексычныя асаблівасьці) і, як у розных частках Эўропы й Паўночнай Амэрыкі празь сьвецкія й рэлігійныя каналы розныя дзеячы й дзеячкі беларускага руху спрыялі захаваньню мовы, а таксама ўздымалі *"моўнае пытаньне"* і разважалі пра яго.

Тым ня менш сучасныя, найноўшыя тэндэнцыі ў разьвіцьці мовы дыяспары застаюцца так і не дасьледаванымі. Таму, абапіраючыся на грунтоўную рэтраспэктыўную працу прафэсаркі Ніны Баршчэўскай, сацыялінгвістычныя заходнія дасьледаваньні зьявы дыяспарнай мовы, аналіз мастацкай і публіцыстычнай дыяспарнай літаратуры, а таксама на аналіз мовы дыяспары ў сеціве (старонкі дыяспарных арганізацый), паспрабуйма падаць асноўныя напрасткі, напрацоўкі й кур'ёзы разьвіцьця дыяспарнай беларускай мовы.

Беларуская дыяспарная лексыка зьбіралася для дадзенага аналізу з наступных крыніцаў:

- ангельска-беларускі слоўнік Валянціны Пашкевіч;
- слоўнік і тэксты Янкі Станкевіча;
- дыяспарная пэрыёдыка: "Беларускі Эмігрант", "Бацькаўшчына", "Беларускі Голас", "Беларус";
- публіцыстыка, мэмуарная і мастацкая літаратура дыяспары (Кастусь Акула, Юрка Віцьбіч, Зора Кіпель, Янка Запруднік, Леў Гарошка, Аляксандар Надсан);
- аналіз мовы дыяспарных інтэрнэт-сайтаў (у асноўным старонка беларусаў Вялікабрытаніі: https://belarusians.co.uk).

[3] Donabédian-Démopoulos, Anaïd. Les langues de diaspora: une catégorie (socio)-linguistique? http://a.donabedian.free.fr/textes/FdL%20diaspora%20intro.pdf.

[4] Donabédian-Démopoulos, Anaïd. Les langues de diaspora une catégorie (socio)-linguistique?

[5] Баршчэўская, Ніна. Беларуская эміграцыя — абаронца роднае мовы. Варшава, 2004. — 368 с.

Адзначым, што ў сацыялінгвістыцы адрозьніваюць дыяспарную мову ад мовы эмігрантаў[6]: так, дыяспарная мова мае на ўвазе існаваньне й функцыянаваньне ў адрыве ад, так бы мовіць, мовы мэтраполіі хоць бы ў межах трох генэрацый. Праўда, беларуская сытуацыя не заўсёды цалкам адпавядае сацыялінгвістычнай тэорыі: беларускую мову на Захадзе можна ўспрымаць як дыяспарную пачынаючы зь дзьвюх генэрацыяў. А ўлічваючы малалікасьць актыўнай дыяспары, да дыяспарнай мовы адносім таксама тэксты беларусаў, якія маладымі пакінулі Беларусь, але ўсё сталае жыцьцё адпрацавалі на ніве беларушчыны за ейнымі межамі (Аляксандар Надсан, Леў Гарошка, Івонка Сурвіла й шматлікія іншыя). Моўны аналіз дыяспарных сайтаў, якія часьцяком ствараюцца й папаўняюцца інфармацыйна беларусамі новай эміграцыйнай хвалі (1990-я гг. — пачатак XXI ст.) якраз дэманструе гэтае адрозьненьне паміж дыяспарнай беларускай мовай і савецкай беларускай мовай. Кніжныя тэксты дыяспары пішуцца ці пісаліся на дыспарнай мове, тады як інтэрнэт-сайты ўжо вядуцца маладымі, новапрыбылымі беларусамі на беларускай мове Беларусі.

Таксама дыяспарная мова адрозьніваецца ад мовы новапрыбылых пэўным лякальным лексычным пластом, створаным на Захадзе (напрыклад, слова-дыяспарызм "*сьвецень*", тады як у самой Беларусі кажуць хутчэй "*флюарэсцэнцыя*", "*хварэц*", "*хварыца*" ў дыяспары — "*пацыент*", "*пацыентка*" ў Беларусі й пад.). Часьцяком ужываныя ў дыяспары словы цалкам адсутнічаюць у беларускай рэчаіснасьці (напрыклад, такія дыяспарызмы, як "*субожня*", "*галавар*", "*галаварка*", "*круцігалоў*", "*аўтаналад*" і г. д.). Іншым важным адрозьненьнем дыяспарнай мовы ад мовы (новай) эміграцыі зьяўляецца сымбалічнае вымярэньне: так, у дыяспары мова — гэта сымбаль, цэмэнт ідэнтычнасьці[7], тады як для новапрыбылых мова не (заўсёды) выконвае такую функцыю.

Такім парадкам, дыяспарная мова — гэта сукупнасьць як сацыяльных, так і моўных уласьцівасьцяў: гэта заўсёды мова мяншыні, мова ва ўмовах дзьвюх-, а можа й шматмоўя, а таксама мова, адарваная ад мэтраполіі. Што да моўных якасьцяў, якія натуральна вынікаюць з вышэй паданых сацыяльных, то тут варта прыгадаць аналіз дасьледніцы

---

[6] Donabédian-Démopoulos, Anaïd. Les langues de diaspora une catégorie (socio)-linguistique?

[7] Donabédian-Démopoulos, Anaïd. Langues et diasporas: enjeux linguistiques et enjeux identitaires. Réflexion à partir du cas de l'arménien occidental // Bruneau, M. et al. Arméniens et Grecs en diaspora: approches comparatives. Athènes (Grèce): Ecole Française d'Athènes, Oct. 2001. P. 523–538, 2007.

Анаід Данабэдзян-Дэмопулас[8]: дыяспарная мова — сымбаль ці важны атрыбут тоеснасьці. Яна заўсёды багатая на барбарызмы, запазычаньні й калькі з асноўнай кантактнай мовы (для беларускай дыяспарнай мовы гэта часьцей за ўсё ангельская мова). І нарэшце, гэта мова ў хісткім, калі не сказаць, небясьпечным становішчы, што да будучыні й пэрспэктываў. Можна дадаць, што дыяспарная мова, у прыватнасьці беларуская, часьцей за мэтрапольную мову падуладная пэўнаму валюнтарызму з боку моўных дыяспарных лідараў, якія пры адсутнасьці моўнай структуры, інстытуцыі прадпрымаюць харызматычныя спробы рэфармаваньня мовы.

Дыяспарная мова складаецца зь некалькіх пластоў. Перадусім клясычная беларуская мова (*абалонка, бачынка, гарывада, гарэльня, едасьпіс, заламаньне* (валюты — крах) і г. д.). Потым пласт, сфармаваны ўжо ў дыяспары. І тут у мове можна вылучыць гэтак званыя *дыяспарызмы* — словы, уласьцівыя выключна дыяспарнаму узусу. Так, дыяспарызмамі беларускай мовы можна лічыць наступныя словы: *субожня, аліянты, Вугорыя й Мадзяршчына, бавяльня, кавейнік (паравік), канцатыдзень, кансэрват (-ка), кантына, князёўна* (як сынонім “міс”), *мяняльня* (абмен валютаў), *перашуфлёўка, перашуфляваньне* (габінэту міністраў) і пад.

Акрамя лексыкаграфічнага інтарэсу да дыяпарнай мовы нас могуць цікавіць напрацоўкі беларускай мовы дыяспары ў шматлікіх кірунках, малавядомых у БССР ці Беларусі. Так, пачынаючы з сярэдзіны XX ст. беларуская дыяспарная мова хутчэй за мэтрапольную беларускую мову пачала апісваць многія зьявы, якія па палітычных, ідэалягічных і эканамічных прычынах адсутнічалі ў БССР (у сфэры рэклямы, касмэтыкі, дэмакратыі, фэмінізму й пад.). А таму ў вывучэньні дыяспарнай мовы ляжыць яшчэ й своеасаблівая культурніцкая ды дэмакратычная місія.

Зрэшты, дыяспарны досьвед важны й карысны з пункту зору перакладніцтва тым, што падае пласт лексыкі, уласьцівай англа-саксонскай традыцыі, якую дыяспара перакладала наўпраскі без усякай мадэрацыі расейскай ці польскай моваў: *Дзень Удзячнасьці (Дзякаваньня), пераплаўка ці гаршчок растайваньня* замест ксэнізму *melting pot* і пад.

Карыснай для перакладніцтва будзе дапамога дыяспарнай мовы ў перадачы імёнаў уласных, геаграфічных. Бо многія геаграфічныя назвы (амэрыканскія, брытанскія ці аўстралійскія) дыяспара адаптавала да беларускай мовы наўпраскі, абыходзячы кантроль афіцыйнай беларускай мовы, якая часьцяком проста пераймала нормы расейскай мовы: *Тэксас, Атлянтык Сіты, Нью Дзэрдзі, Нэвада, Мангэтан,*

[8] Donabédian-Démopoulos, Anaïd. Langues et diasporas...

*Флярыда, Адэляйда, Ньюёрк* і *Нью Ёрк, Нью Брансуік, Аява, Гаваі (і Гаваі, і Багамы).* Гэта датычыць і іншых назваў: *Гэлсінкі й Гэльсінкі, Любен, Венэцуэля, Бэльгія, Анвэра* і *Антвэрпэн, Марсэля, Страсбур, Альзас* і *Эльзас* і пад.

Яшчэ адной прынцыповай рысай дыяспарнай мовы зьяўляецца актыўная фэмінізацыя назваў пасадаў: *боска, навукоўка, фрызерка (фрызёрка), рэдактарка, кіраўнічка, сцювардэса, нашчадніца, галаварка, губэрнатарка, выканаўчыня, аўта-вадатайка, выкладоўка, балетніца (балерына), забароньніца (дысідэнтка), ірцярка* і пад. Дадзеная зьява ёсьць натуральным вынікам нормы клясычнага правапісу, але ў дадатак яна ўзмацняецца пад уплывам першапачаткова англа-саксонскай, а цяпер і ўсёй заходняй традыцыі палітычнай карэктнасьці. Падобная зьява назіраецца, напрыклад, у дыяспарнай польскай мове, калі пад уплывам ангельскай мовы фэмінізуюцца многія нязвыклыя для палякаў назвы пасадаў[9]. Бяруся сьцьвярджаць, што ў беларускім выпадку праз кансэрватызм, уласьцівы беларусам замежжа, чыньнік палітычнай карэктнасьці мае мізэрны ўплыў.

Асобна варта разглядаць тэму барбарызмаў у дыяспарнай мове: *парквэй, амбулянс, сабатыкал, плямбэрка, вікенд, лівінг, лоер, лоерскі, абстракт, лякатэр, дуана, фрызюра, ірытацыя, бранч, трафік, гамбургэрс, порч, кар(а), даўнтаўн, пунч, мушлі, сукцэс, шрымпы, зразыгнаваць* і г. д. Перадусім барбарызмы ў пэўнай дозе — зьява натуральнага кантактаваньня моваў, а да ўсяго цікавая і пэрспэктыўная з пункту зору выпрацоўкі новай лексыкі.

Нарэшце, неабходна ўлічваць аўтарскія падыходы ў разьвіцьці дыяспарнай мовы. Нельга ігнараваць пэўныя валюнтарызм і харызматызм дыяспарных мовазнаўцаў і пісьменьнікаў у распрацоўцы мовы. Неадымнай часткай дыяспарнай мовы зьяўляюцца наватворы й аказіяналізмы: *антыпсіхічныя пігулкі* (антыдэпрысанты), *круцігалоў* (пазал), *Скарынінка* (Скарынаўка), *эфэктоўна* (эфэктна), *этнік* (чалец этнічнай групы) і пад.

Аналіз тэкстаў дыяспарных мовазнаўцаў (Янка Станкевіч, Валянціна Пашкевіч, Ян Пятроўскі) і пісьменьнікаў (Юрка Віцьбіч, Леў Гарошка й іншыя) можа стацца ўзбагачальнай крыніцай у вывучэньні мовы. Пэрспэктыўнымі бачацца так званыя *case-studies* у вывучэньні аўтарскіх падыходаў і ўплываў на разьвіцьцё дыяспарнай мовы.

---

[9] Serejska Olszer, Krystyna. Polszczyzna z oddali... S. 24—25.

Дасьледаваньне дыяспарнай мовы
на прыкладзе працы В. Пашкевіч (case-study):
Ангельска-беларускі слоўнік

- слова круцігалоўка ўжываецца замест пазлу;
- круцігалоў — кастэт;
- галавар і галаварка — шэф, шэфка;
- хварэц і хварыца — пацыент, пацыентка;
- вадаплаў — карабель;
- сьвецень — флюарэсцэнцыя;
- мыцельная машына — пасудамыйная машына;
- шытная машына — швэйная машына;
- нацеліва — бялізна, паддзёўка;
- Швэдыя — Швэцыя;
- Харваччына — Харватыя;
- Турэччына — Турцыя й пад.

Такім парадкам, вывучэньне і ў пэрспэктыве складаньне слоўніка дыяспарнай мовы — гэта важны лексыкаграфічны этап у разьвіцьці любой мовы, якая зьведала раскол на мову мэтрапольную й дыяспарную. Навуковае й неідэалягічнае дасьледаваньне дадзенай зьявы мусіць спрыяць кансалідацыі й падкрэсьліваць творчы патэнцыял мовы.

Калі перафразаваць цьверджаньне Рышарда Капусьцінскага, перад тым як стаць паліглётам у дачыненьні да іншых моваў, спачатку станем паліглётамі ў межах роднай мовы.

***Андрэй Масквін***
*Варшава*

# БЕЛАРУСКАЯ ЭМІГРАЦЫЙНАЯ ПІСЬМОВАСЬЦЬ: НА ПРЫКЛАДЗЕ ЧАСОПІСА "ПАГОНЯ" Ў 1945—1946 гг.

Літаратура беларускай эміграцыі на працягу многіх гадоў была невядомая, а яе прадстаўнікі лічыліся ў Беларусі ворагамі й здраднікамі. Сытуацыя пачала мяняцца толькі на пачатку 1990-х гг., калі пачалі зьяўляцца публікацыі прац самых важных прадстаўнікоў беларускай эміграцыі[1].

Пасьля Другой сусьветнай вайны ў выгнаньні апынуліся 75—100 тыс. жыхароў Беларусі ў яе цяперашніх межах. Найбольш эмігрантаў было ў трох заходніх акупацыйных зонах ў Нямеччыне, а таксама ў Аўстрыі й Італіі. Там знайшлася даволі вялікая група беларускай інтэлігенцыі, зь незалежніцкімі і антыкамуністычнымі поглядамі. Большасьць тых эмігрантаў пакінулі радзіму ўлетку 1944 г., перад заняцьцем Беларусі савецкай арміяй. Гэтыя людзі ведалі, што іх будзе чакаць пасьля прыходу Чырвонай арміі. Намаганьнямі інтэлігенцыі ў лягерах для перамешчаных асобаў у Нямеччыне даволі хутка пачалася сацыяльна-культурная й адукацыйная праца. Адным з прыярытэтаў стала выдавецкая дзейнасьць, у тым ліку пэрыядычны друк.

Гэты артыкул прысьвечаны аналізу часопісу "Пагоня", публікаванага ў 1945—1946 гг. беларускімі эмігрантамі ў аўстрыйскім Зальцбургу. Часопіс быў ініцыятывай паэта Алеся Салаўя[2] ў

---

[1] Бібліяграфія гэтых публікацый вельмі шырокая. Падамо тут толькі некалькі прыкладаў: Туга па Радзіме. Паэзія беларускай эміграцыі / пад рэд. Б. Сачанкі. Мінск, 1992. — 639 с.; А часу больш, чым вечнасць: літаратура беларускага замежжа: для старэйшага школьнага ўзросту / аўт. прадм. і ўклад. Б. Сачанка. Мінск: Юнацтва, 1995. — 332 с.; Савік, Лідзія. Пакліканыя: Літаратура беларускага замежжа. Мінск: Тэхналогія, 2001. — 479 с.; Юрэвіч, Лявон. Літаратурны рух на эміграцыі. Мінск, 2002. — 244 с.; Юрэвіч, Лявон. Мэмуары на эміграцыі: крыніцазнаўчае дасьледаваньне. Мінск: Беларускі кнігазбор, 2005. — 332 с.

[2] **Алесь Салавей** (сапр. **Альфрэд Радзюк**, на эміграцыі **Альбэрт Кад-**

супрацоўніцтве з двума іншымі літаратарамі — Уладзімерам Дудзіцкім[3] і Аляксеем Грыцуком[4]. Згодна з інфармацыяй, прадстаўленай у пэ-

---

**няк**, 1922—1978), паэт, выдавец. У 1940 г. ён скончыў навучаньне ў двухгадовым тэхнічным каледжы ў Менску. Як паэт дэбютаваў у часопісе "Піянер Беларусі". Падчас вайны супрацоўнічаў з "Беларускай газэтай", з кастрычніка 1942 да жніўня 1944 г. быў намесьнікам галоўнага рэдактара часопісу "Новы шлях" (Рыга). У 1945—1949 гг. Салавей жыў у Зальцбургу, дзе быў адным з рэдактараў газэты "Зь Беларускага жыцьця" й часопісу "Пагоня". У 1949 г. разам зь сям'ёй пераехаў ў Аўстралію. Аўтар зборнікаў вершаў: "Мае песьні" (Рыга, 1944), "Сіла гневу" (Аўстрыя, 1948) і "Нятускная краса" (Нью-Ёрк — Мэльбурн, 1982).

[3] **Уладзімер Дудзіцкі** (сапр. **Гуцька**, на эмігр. **Гіцкі**, 1911 — пасьля 1976), паэт, празаік, эсэіст і перакладчык. Нарадзіўся ў сельскай мясцовасьці, а ў 1927 г. пераехаў у Менск, дзе скончыў сямігадовую школу (1930). Працягнуў навучаньне ў Менскім пэдагагічным тэхнікуме, які ня скончыў, бо, як "беларускі нацыяналіст", быў выключаны са сьпісу студэнтаў. Працаваў рэдактарам у штодзённай газэце "Савецкая школа", выдавецтве Беларускай акадэміі навук. Пачаў сваё навучаньне ў Беларускім пэдагагічным інстытуце, але 23 лютага 1933 г. быў арыштаваны й абвінавачаны ў "контррэвалюцыйнай дзейнасьці" й "антысавецкай агітацыі". Пакараньне адбываў у Новасібірску, Марыінску й Ташкенце. Пасьля выхаду з турмы жыў у Віцебску, дзе працаваў настаўнікам беларускай мовы й літаратуры. У 1939 г. быў звольнены з працы й зьехаў у Расею, дзе мусіў хавацца ад іншага арышту. Незадоўга да пачатку нямецкай акупацыі вярнуўся ў Беларусь і стаў працаваць выкладчыкам у вэтэрынарным тэхнікуме ў Менску. У 1941—1942 гг. быў загадчыкам акруговага аддзелу культуры й асьветы ў Менску, працаваў у "Беларускай газэце", служыў школьным інспэктарам у Барысаве. Са студзеня да чэрвеня 1944 г. узначальваў аддзел прапаганды й культуры Беларускага культурнага згуртаваньня (старшынёй быў тады Аўген Калубовіч). Летам 1944 г. адправіўся ў Нямеччыну, далучыўся да Камітэту вызвалення народаў Расеі генэрала Андрэя Уласава, працаваў у Міністэрстве прапаганды й на нямецкай прапагандысцкай радыёстанцыі "*Vineta*". Пасьля заканчэньня вайны жыў у Зальцбургу, у амэрыканскай зоне акупацыі. Пазьней пераехаў у Вэнэсуэлу, дзе заснаваў Беларускі камітэт. У 1950—1960-я гг. быў галоўным рэдактарам беларускай рэдакцыі радыё "Вызваленьне" (Мюнхен). З 1962 г. выкладаў рускую мову ва ўнівэрсытэце ў Блюмінгтане (штат Індыяна, ЗША). У 1976 г. зьнік, і з таго часу ягоны лёс невядомы. Паэт падрыхтаваў да друку некалькі тамоў паэзіі, але ніводны не пабачыў сьвету пры ягоным жыцьці. Гэта: "Песні і думы" (1933), "Напярэймы жаданьням" (1941), "Хвалі" (1948), "Да блізкіх і далёкіх" (1948), "Журботныя струны" (1953). Толькі ў 1994 г. Беларускі інстытут навукі й мастацтва выдаў кнігу "Напярэймы жаданьням".

[4] **Аляксей Грыцук** (1910—1976), грамадзкі дзеяч, пэдагог, гісторык і літаратурны крытык. Выпускнік гістарычнага факультэту Варшаўскага ўнівэрсытэту (1938). Пасьля пачатку Другой сусьветнай вайны трапіў у палон, адкуль яму ўдалося збегчы. Спачатку быў сябрам Беларускага камітэту ў Беластоку, а з чэрвеня 1942 г. — інспэктарам беларускіх школаў Бела-

рыёдыку, апошні займаўся пошукам сродкаў для друку часопісу[5]. Як відаць з аднаго зь лістоў Салаўя, рашэньні аб выбары матэрыялаў для друку ён прымаў у адзіночку: *"Я друкую ўсё добрае, не зважаючы на свой густ"*[6]. Варта падкрэсьліць, што ён меў вялікі досьвед у гэтым: у Менску працаваў у рэдакцыі "Беларускай газэты", а потым у Рызе – намесьнікам галоўнага рэдактара часопісу "Новы шлях". Падзагаловак "Пагоні" быў *"літаратурна-мастацкі месячнік"*, але ня меў на ўвазе, што рэдактары канцэнтраваліся выключна на пытаньнях мастацтва й літаратуры, друкавалі таксама культурна-гістарычную публіцыстыку.

Назва часопісу адсылала да гербу Вялікага Княства Літоўскага, які атрымаў статус дзяржаўнага ў час праўленьня Вітаўта Вялікага. Першыя згадкі пра герб "Пагоня" можна знайсьці ў "Літоўскіх хроніках" (1278 год). Як сьцьвярджаюць беларускія гісторыкі, ён зьявіўся ўпершыню ў XIV ст. на пячатцы вялікага князя літоўскага Гедыміна. У 1918—1919 гг. "Пагоня" стала нацыянальным гербам Беларускай Народнай Рэспублікі. Герб паказвае рыцара на кані ў чырвоным полі, у правай паднятай руцэ рыцар трымае меч, а ў левай — белы, сіні ці чырвоны шчыт з падвойным залатым крыжам. На тытульным лісьце часопісу быў белы шчыт. У ніжняй частцы старонкі два дыяганальна перакрыжаваныя мячы і дубовыя лісты з маладымі жалудамі. На левым баку — традыцыйны беларускі арнамэнт.

Выйшлі ў сьвет толькі чатыры нумары часопісу: першы — у сьнежні 1945 г., другі — у красавіку 1946 г., трэці — у чэрвені — ліпені 1946 г., а апошні, чацвёрты — у лістападзе 1946 г. Наклад быў дваццаць пяць асобнікаў, часопіс друкаваны на ратататары[7]. Памер накладу адлюстроўвае абмежаваныя здольнасьці выдаўцоў: адсутнасьць дастатковых фінансавых рэсурсаў і адпаведнага абсталяваньня. Умовы, у якіх працавалі выдаўцы, было даволі складаныя. У лісьце да Масея Сяднёва й Уладзімера Сядуры Алесь Салавей скардзіўся: *"Спачатку, добра не валодаючы гэтай справай, я дастаў зусім дрэнныя ма-*

---

стоцкай акругі. Спрыяў стварэньню новых школаў зь беларускай мовай навучаньня, апрацоўваў таксама кнігі на беларускай мове. Ад 1944 г. — у выгнаньні, спачатку ў Нямеччыне й Аўстрыі, а з 1948 г. — у Канадзе.

[5] Пра Алеся Грыцука Алесь Салавей пісаў: *"Ён шмат дапамагае мне ў выдавецкай справе"* (гл. [Ліст да Уладзімера Сядуры й Масея Сяднёва ад 28.05.1946] // Салавей, Алесь. Творы. Паэзія, проза, лісты. Мінск: Лімарыус, 2010. С. 303).

[6] [Ліст Алеся Салаўя да Масея Сяднёва ад 27.10.1946] // Салавей, Алесь. Творы. Паэзія, проза, лісты. С. 308.

[7] [Ліст Алеся Салаўя да Уладзімера Сядуры й Масея Сяднёва ад 28.05.1946] // Салавей, Алесь. Творы. Паэзія, проза, лісты. С. 301.

*трыцы. Чорт іх ведаў, што яны дрэнныя! Самому ж даводзілася ўсё рабіць, і матрыцы набіваць спачатку я добра не ўмеў. Цяпер ужо навучыўся. Трэці нумар выйдзе з выразнымі літарамі*”[8].

Паказальна, што ў першым нумары былі апублікаваныя два ключавыя тэксты беларускай гісторыі: верш “Пагоня” (1913) Максіма Багдановіча й беларускі нацыянальны гімн “Мы выйдзем шчыльнымі радамі...” (1919). У вершы “Пагоня” паэт прызнаецца, што, калі чуе страх за лёс краіны, ягоныя думкі пераносяцца да Вострай Брамы ў Вільні, дзе прадстаўлены рыцар ў пагоні. Лірычны герой просіць Маці-краіну прыняць яго, каб жыць і памерці ў яе імя. А рыцары ўсё імчаць ды імчаць, таму што “*старадаўняй Літоўскай Пагоні не разбіць, не спыніць, не стрымаць*”[9]. У сваю чаргу, у вершы “Мы выйдзем шчыльнымі радамі...” голас бярэ беларускі народ. Ён ганарыцца тым, што ўрэшце можа злучыцца, узнясьці бел-чырвона-белы сьцяг і змагацца за свабоду й шчасьце: “*Хай воля вечна будзе з намі, / А гвалту мы дамо адпор!*”, “*Браты, да шчасьця мы падходзім: / Хай гром грыміць яшчэ мацней! / У крывавых муках мы адродзім / Жыцьцё Рэспублікі сваёй!*”[10]. Аўтарам гэтага “Ваяцкага маршу” быў паэт, палітык і нацыянальны дзеяч Макар Краўцоў, а музыка была напісана Ўладзімерам Тэраўскім. Тэкст упершыню апублікаваны 30 кастрычніка 1919 г. у газэце “Беларусь”, быў гімнам Беларускай Народнай Рэспублікі. Песьню выконвалі падчас Слуцкага паўстаньня ў лістападзе 1920 г., таму яна таксама вядомая пад назвай “Марш Слуцкай брыгады”.

Першы нумар “Пагоні” зьявіўся напярэдадні Калядаў, і з гэтай нагоды ў ім зьмяшчаўся тэкст пад назвай “З Раством Хрыстовым!”, падпісаны — *Н. Шл.* Аўтар прасоўваў бачаньне сымбалічнай сувязі й аб’яднаньня ўсіх беларусаў, якія воляй лёсу мусілі пакінуць Радзіму й цяпер далёкія ад яе. Ён пісаў: “*Раство Хрыстова... Колькі гэтыя словы ў кожным з нас абуджаюць прыемных вясёлкавых успамінаў аб калядных днёх. Колькі ў кожнай сям’і бывала радасных прадчуваньняў чаканьня гэтага сьвята. І як глыбока і разнастайна выяўлялася народная душа, вера і абрады на куцьцю, калі ўся беларуская сям’я, у поўным зборы, зьбіралася вакол стала*”[11]. Аўтар хацеў бы ўсьцешыць усіх тых, хто ня меў кантактаў зь іншымі членамі сям’і ў Беларусі, паказаць, што сьвята Калядаў – гэта сьвята супольнасьці: “*Суворы час нястачаў і чужыны, якія мы цяпер перажываем,*

[8] Салавей, Алесь. Творы. Паэзія, проза, лісты. С. 301—302.

[9] Пагоня. 1945. № 1. С. 3.

[10] Пагоня. 1945. № 1. С. 4.

[11] Пагоня. 1945. № 1. С. 5.

*мала спамагае шырокаму праводжаньню сьвята. Аднак тысячы беларусаў, што з волі лёсу апынуліся на эміграцыі, зьбяруцца, як і на Бацькаўшчыне, у сваім цесным коле для таго, каб увечары... яшчэ раз узрадавацца за захаванае жыцьцё тых, што жывуць, аддаўшы слова ўдзячнасьці нашаму Збавіцелю Ісусу Хрысту, сыну Божаму. Людзі будуць у думках прасіць калядную гвязду зацемрыць сваім справядлівым сьвятлом морак і няверства, усяліць у людзкія душы чыстыя пачаткі сьвятой веры ў лепшыя свае сілы, даць ім уцеху і спадзяваньні на хутчэйшы зварот на Бацькаўшчыну*"[12].

У тым самым нумары апублікаваныя вершы Алеся Салаўя "Каляды" (11.12.1942), Максіма Багдановіча "Зімой" (1910) і Рыгора Крушыны "Перад сьвятамі", што павінны былі ўвесьці чытача ў сьвяточны настрой, стварыць асаблівую атмасфэру. "Каляды" апісваюць радасьць дзяцей, што прыходзяць зь лесу зь ялінкай. Для гераіні верша "Перад сьвятамі" надыходзячае сьвята мае ня толькі рэлігійны, але й асабісты сэнс: пасьля Калядаў яна выйдзе замуж за свайго Васіля, пра якога яна ўвесь час думае. А таму *"пад брывямі ў дзяўчыны / у блакітнай глыбіні / загараюцца агні"*[13].

У сваю чаргу, другі выпуск "Пагоні" зьявіўся як раз перад сьвятам Вялікадня. У рэдакцыйным артыкуле аўтары, з аднаго боку, нагадваюць аб сьвяце, якое набліжаецца, а з другога – згадваюць пра складаную сытуацыю тысячаў беларусаў: *"Даўно нясем усе мы цяжкі крыж зьдзеку і пакуты. Але, як зморанаю цямрынёю істоту абуджае першы пробліск сонца, гэтак і нас абнадзейвае сьвятая праўда ўваскрэшаньня, пасьля доўгіх пакутаў, найвялікшага пакутніка за праўду — Ісуса Хрыста — і акрыляе нязгаснай верою ў няўмiручасьць жыцьця нашага..."*[14]. Другі сьвяточны тэкст гэтага нумару — эсэ "Хрыстос Уваскрос!" (1910) Сяргея Палуяна. Нягледзячы на тое што яно напісана на пачатку XX стагодзьдзя, аднак у новай сытуацыі зноў стала важным, а ягоныя словы зноў – актуальнымі. *"Радуйся, мой родны краю! Надзея, як жывучая вада, ліецца ў тваю душу. Скора і ты ўваскросьнеш ад доўгага мёртвага сну. Вясна прыйшла і да цябе"*[15], — заклікае аўтар.

У большасьці твораў, апублікаваных у часопісе, дамінуе настальгія, боль разлукі з тымі, хто застаўся ў краіне й быў асуджаны на жыцьцё ў няволі, велізарная трывога за лёс і будучыню Радзімы. Герой верша Масея Сяднёва "Дзяцінства" ўспамінае час, праведзены

[12] Пагоня. 1945. № 1. С. 6.

[13] Пагоня. 1945. № 1. С. 9.

[14] Пагоня. 1946. № 2. С. 3—4.

[15] Пагоня. 1946. № 2. С. 6.

на бацькаўшчыне. Ён піша пра дзяцінства, што занадта хутка скончылася, *“як дождж, як вясеньняе сонейка”*. Толькі калі-некалі ў снах вяртаюцца вобразы таго часу: дуб і хвоі, якія ён так палюбіў, коні, якіх ганяў за рэчку, але гэтага не дастаткова. *“Нявіннасьць! нявіннасьць! — вярніся, / вярніся, дзяцінства маё”*[16], — моліць герой.

Тэма нязгоды на выезд, пакіданьне краіны паўтараецца ў шматлікіх вершах Салаўя. У творы “Бывай, Гедэместэ, бывай!” (1944) паэт разьвітваецца са сваім апошнім месцам жыхарства, удзячны за гэты кароткі адпачынак. Ён усьведамляе, што павінен вярнуцца на радзіму, якой ён вельмі патрэбны. Тым ня менш нейкія таямнічыя галасы ня раяць яму прыняць гэтае рашэньне, папярэджваючы: *“Нязваныя госьці ў доме тваім. / Супачын рыхтуюць табе... на пагосьце”*, *“У доме — злачынец і вораг”*, *“сабакам і сукіным сынам назваў цябе твой дом”*, *“па табе там асіны льюць сьлёзы”*. Яны раяць яму забыцца пра дом і краіну, а тады ўбачыць выхад зь пекла, пабачыць рай. *“Што мне рай? Мне ўсё, што ня дом, — ня прытулак”*[17], — кажа паэт.

У сваю чаргу, матыў тугі па каханых людзях, сябрах, якія засталіся ў краіне, сустракаецца ў вершы “Ахвяраў прагне сьмерць” (13.07.1944) таго ж Алеся Салаўя. Паэт ня можа зьмірыцца з тым, што лёс разьдзяліў іх, часта ўспамінае пра час, калі яны былі разам. Ён піша: *“Я ня жыву, няма мяне, / Калі я блізкага ня маю”*[18]. Побыт сярод чужакоў асацыюецца зь сьмерцю. Аднаго разу аўтар не вытрымлівае й вырашае, прынамсі ва ўяўленьні, бегчы да аднаго з сваіх сяброў дзяцінства. Бязьмежна задаволены, што мог бы сядзець побач зь ім, сьціскаць яго руку й казаць: *“Са мною ты — я не адзін, / З табою я — жыву, жыву я!”*[19]. У вершы “З агню вар’яцкага” (25.03.1945) паэт скардзіцца, у сваю чаргу, што ня можа знайсьці сябе ў новай рэальнасьці, у іншай краіне. Ягоны розум ўступае ў дыялёг з роднай зямлёй: ён прызнаецца, што давялося сысьці таму, што ўзьнесьліся там пажары й настала царства цемры, скардзіцца, што з-за гора зьмяніўся фізычна, *“стаў сухім і блядым”*[20]. З усяго гэтага вынікае, што ў далечыні ад радзімы вычувае адчужанасьць.

У вершы “Трамвай — даўжэнная, танклявая труна”, напісаным у Кёнігсбэргу, Алесь Салавей апісвае эсхаталягічнае бачаньне. Яму здаецца, што ён едзе на трамваі, у якім шмат целаў забітых людзей. Яго апаноўвае страх, тым больш што ўсе дзьверы й вокны зачыненыя,

[16] Пагоня. 1946. № 2. С. 16.

[17] Пагоня. 1946. № 3. С. 10.

[18] Пагоня. 1946. № 3. С. 9.

[19] Пагоня. 1946. № 3. С. 9.

[20] Пагоня. 1946. № 3. С. 11.

а звонку ідзе дождж. Раптам адкрываецца падлога, і ён бачыць дарогу й велізарнага васьмінога трамвайных рэек. Але аказваецца, што гэтая дарога вядзе ў нікуды, а празь перапляценьне рэек ён губляецца, ня ведае, куды ісьці далей. Гэта можа быць інтэрпрэтавана як разгубленасьць, няздольнасьць зразумець і прадказаць, як пойдзе ягоны лёс. Узьнікаюць пытаньні: *"Няўжо, як іншыя, і я халодны труп? / Няўжо ня вырвацца мне з тагасьветных путаў?"*[21]. У сваю чаргу, у вершы "Плыве вадаплаў і плыве" паэт скардзіцца на тых, хто прадказвае яго сьмерць, вечны супакой на дне мора. Ён просіць іх пакінуць яго ў спакоі: *"Пакіньце! — прарокаў прашу — / Нялёгка ад вашага мору / Спакойна хаваць мне душу / На дне неспакойнага мора"*[22].

Трагедыю таксама адчувае герой вершу Ўладзімера Дудзіцкага "Апошняя малітва". Калі ён прыйшоў у храм, каб памаліцца, ня мог паверыць сваім вачам: каля Сьвятой Брамы ў другі раз быў укрыжаваны Хрыстос: зь ягонага цела цячэ кроў, а Каін надзявае на галаву цярновы вянок. Над купаламі храмаў і званіцамі кружаць *"чорныя стварэньні"*, краіна заселеная няверуючымі ў Бога чужакамі, якія *"граюць на струнах д'ябальскіх"* музыку да *"нялюдзкага танцу"*. *"Хіба ўжо гэтакая доля Краю, / Табой ахрышчаная ў момант створу?"*[23] — пытаецца герой, зьвяртаючыся да Хрыста. Ня будучы ў стане пагадзіцца з тым, ён вырашае пакінуць гэты сьвет і просіць, каб *"зямлёю роднаю прыкрылі грудзі"*.

З іншага боку, матыў уласнай сьмерці Алесь Салавей разьвівае ў вершы "О, людзі! Паглядзеце на мяне…" (12.08.1944). Ён задае пытаньне: *"О, людзі! Паглядзеце на мяне, / хіба я назусім памёр, скажыце?"*. Доўга марудзіць, ня можа знайсьці адназначны адказ. Таму што з аднаго боку нібыта жыве, рухаецца, зьяўляецца *"жывым шкілетам"*, з другога — зданьню. Вінаватымі ў гэтым называе ён тых, хто разьвязаў вайну: *"Вы мне мячом адсеклі галаву / і гойстрым штрыхам пракалолі грудзі, зямлёй засыпалі"*[24]. Яму нічога не засталося, як толькі пасябраваць з чарцямі й ведзьмамі, разбудзіць усіх мёртвых, узяць у рукі касу й распачаць сапраўдную вакханалію.

Герой вершу Масея Сяднёва "Сьнежань" выказвае шкадаваньне з нагоды таго, што душа Беларусі пасьля сыходу сваіх найлепшых прадстаўнікоў *"чарней начэй"*. Расстаньне зь Беларусьсю выклікае ў героя смутак і боль. Тым ня менш ён спрабуе любой цаной не здавацца,

[21] Пагоня. 1946. № 3. С. 9.

[22] Пагоня. 1946. № 3. С. 11.

[23] Пагоня. 1945. № 1. С. 14.

[24] Пагоня. 1946. № 3. С. 10

знайсьці ў сабе сілы, каб жыць далей. Дапамагае яму ў гэтым чысты белы сьнег, які ўвесь час падае й супакойвае ягоную душу. Час цячэ павольна наперад, сьнег хавае зямлю — гэта закон прыроды, рэзюмуе герой[25]. У іншым вершы таго ж паэта "Мара" герой сьцьвярджае, што ён можа жыць толькі дзякуючы мары: яна прыносіць яму радасьць, робіць жыцьцё па-ранейшаму поўным сэнсу й значэньня[26].

У вершы Алеся Салаўя "Героям Бацькаўшчыны" (06.12.1944) герой ня ў стане зьмірыцца з тым, што да роднай краіны прыйшлі чужакі й занялі яе. Ён ня можа прыняць, што найлепшыя сыны Радзімы былі вымушаныя эміграваць на Захад. Аўтар пытаецца: *"Няўжо не змагаром і не героем / пакінуў Беларусь нашчадак ваш? О, не!"* Ён перакананы, што ён абавязкова вернецца, таму што *"ён не пакінуў таго, чаго ня можна пакідаць"*[27]. Радзіма зьяўляецца крыніцай трываласьці й сілы, таму кожны яе сын захоўвае здольнасьць змагацца, не здавацца сьмерці й не дазволіць, каб *"катні бот"* зьнішчыў яе. Ён прыйдзе як пераможца, са зброяй у руках, і пракладзе шлях, па якім вернуцца іншыя. У вершы "Гамоніць даўняй праўды звон" той жа Салавей не хавае сваёй нянавісьці да савецкай улады й параўноўвае яе з варварамі. Яны забілі *"самых верных хрысьціянаў"*, іншых прымусілі бегчы з краіны, спалілі амаль усе дамы й звон, як сымбаль старых часоў, скінулі ў балота. Аднак здарыўся цуд: звон ня быў страчаны, ляжаў і набіраўся сілаў, каб раптам даць зь сябе магутны гук — выклікаць на барацьбу з ворагам: *"Выходзь, мой сыне! Уставай, / зірні — вакол прадвесьне! / Ідзем за праўду ў бой! Твой храм / бяз праўды не ўваскрэсьне"*[28]. Усе тыя, хто чакаў гэтага моманту, адразу прачнуліся й выправіліся ў шлях. Сыгналу з краіны чакае таксама герой вершу Ўладзімера Дудзіцкага "Маліцца хочам на радзіме". Як толькі сыгнал будзе, усе пойдуць наперад: *"Рынемся у бой усе, ня вымавіўшы слова. ...сваімі грудзьмі цябе заслонім ад напасьці"*[29]. Так станецца, таму што радзіма выкарміла, выхавала й дала сілу.

Як жыць, калі краіна ахопленая агнём, калі *"новыя гаспадары"* кіруюць у ёй і руйнуюць? Што належыць зрабіць у гэтай сытуацыі? Вось пытаньні, якія задае герой вершу Алеся Салаўя "Зямля ў агні" (27.06.1944). Ён чуе чужыя галасы, яны пераконваюць яго: *"Хадзі сюды, хадзі сюды! / мне кажуць — У паход / мы рушым. Вывядзем*

[25] Пагоня. 1945. № 1. С. 15.

[26] Пагоня. 1945. № 1. С. 20.

[27] Пагоня. 1945. № 1. С. 22.

[28] Пагоня. 1946. № 2. С. 9.

[29] Пагоня. 1946. № 2. С. 15.

*зь бяды / Радзіму і народ!"*[30]. Гэта, аднак, ня проста: адзін дае яму карабін, які ператвараецца ў гнілы й крывы кастыль, другі — келіх, у якім замест напою для ваяроў — чалавечыя сьлёзы й кроў, трэці прапануе ляжаць на ложку й адпачываць. Але аказваецца, што герой ляжыць у труне й бачыць, як побач *"ідуць яны, ідуць яны — шкілеты... мерцьвякі..."*[31]. Рашэньне дзейнічаць прымае герой іншага вершу Салаўя — *"Alea acta est!"* (1946). Ён ня ў стане вытрываць пакуты й рабства. Ён ўяўляе, як выправіцца ў падарожжа й трапіць ў логава ворагу. Калі ўсе будуць яшчэ спаць, ён кінецца на аднаго з ворагаў, прыцісьне да зямлі й заб'е. Перамогу абвесьцяць грымоты, а затым усе пакінуць свае дамы, узьнясуць штандары і зьліюцца ў адзін вялікі струмень. Герою здаецца, што ён ужо зараз чуе той марш! Аптымізмам і надзеяй на лепшую будучыню насычаны верш таго ж аўтара "А ўсё ж мы вернемся да хаты..." (12.05.1945). Паэт перакананы, што ўсе беларусы, вымушаныя выехаць, вернуцца ў Беларусь, а разам зь імі й ён. Пасьля вяртаньня ён стане на калені й скажа: *"Крывіччына сьвятая! / Хай ты насьмерць была расьпятай, а жывеш. / [...] Ты не памрэш, Крывіччына! З Табою / ніколі не памрэ крывіцкі род"*[32].

Падобныя матывы можна знайсьці таксама ва Ўладзімера Дудзіцкага. Вайна, разбурэньні, занепакоенасьць лёсам сваёй радзімы, жаданьне любой цаной вытрываць, не здавацца, весьці барацьбу з ўласнай дэпрэсіяй — гэта галоўныя тэмы ягоных твораў. У вершы "Плача кроплямі золата дзень" (09.1944) герой перажывае катастрофу — у выніку вайны ягоная радзіма была зьмененая да непазнавальнасьці: палаюць дамы, чуваць гнеўны лямант, вянуць і паміраюць прыгожыя расьліны й дрэвы... Калі ўбачыў гэта, *"боль нясьцерпны працяў да касьцей маё цела"*, — прызнаецца герой. Што трэба рабіць, як рэагаваць, як супрацьстаяць —асноўнае пытаньне, якое задае Дудзіцкі. *"Мо скарыцца, замоўкнуць мо?"* — пытаецца герой і тут жа адказвае: *"Не! / Не замоўкне душы мае песьня! / Узьляціць у блакіт, няжывога скране / і заплача ля бацькаўскіх весьніц"*. Ён марыць: *"Прытулюся і я да разбураных сьцен, / ля курганаў уклянчу, схілюся / і мацней запяю, / каб на кажнай вярсьце / чутны голас мой быў Беларусі"*[33].

Той жа настрой прысутнічае ў вершы Ўладзімера Дудзіцкага "Балючым накіпам свае крыві" (1943). Герой адзінокі ў пустым доме. Яму здаецца, што аднойчы ў дом пракралася *"рудая, чорная"*

[30] Пагоня. 1946. № 3. С. 8.

[31] Пагоня. 1946. № 3. С. 9.

[32] Пагоня. 1946. № 3. С. 11.

[33] Пагоня. 1946. № 3. С. 5.

сьмерць і жыве разам зь ім. Ён ня мае намеру выкінуць яе (урэшце, дом вялікі й цёплы), але прысутнасьць невядомага чалавека выклікае смутак і страх. Герой вырашае супрацьстаяць такому настрою: *"Мой сум… / рукамі моцнымі яго вазьму, / шпурну, / каб сэрца не тачыў начамі"*. Ён чакае вясны, з прыходам якой, як яму здаецца, сьмерць сыдзе назаўжды. У вершы "Я з песняй упоруч пайду" (1943) Дудзіцкі задае ключавое для сябе пытаньне: як паэт павінен адаптавацца да рэальнасьці, якая зьмяняецца, як яе зразумець і апісаць? Бо час непазьбежна гоніць наперад, і тое, што яшчэ сёньня важна, заўтра стане неактуальным. Ёсьць, паводле паэта, дзьве дарогі: пражыць літаратурнае жыцьцё спакойна, збоку, безь якіх-небудзь прэтэнзій на арыгінальнасьць і адчуваньне часу або заўсёды ісьці супраць плыні, змагацца й пакутаваць. Ён выбірае апошняе, хоць разумее, што гэтая дарога ня будзе лёгкая. Але яму дапаможа вясна: *"ужо праразаецца воблік вясны, / што цемры скарыцца ня хоча. / У небе займаюцца зоры, гараць, / вяшчуюць нам новае лета..."*[34].

Даволі шырока прадстаўлена ў часопісе "Пагоня" проза. Апублікаваныя два апавяданьні Максіма Гарэцкага — "Страшная музыкава песьня" (1921) і "Лірныя сьпевы" (1914), Ядзвігіна Ш. — "Бярозка" (1912), Алеся Салаўя — "Белы сьнег" (10.02.1944), "Чужы" (1946, пад псэўданімам Тамара Залеская), Вольгі Таполі — "Маці" (1943—1944), два фрагмэнты раману "Голас крыві" Ўладзімера Дудзіцкага, апублікаванага пад псэўданімам Мікола Дварэцкі: "Перад бурай" і "У палоне думак". У той час Гарэцкага і Ядзвігіна Ш. можна было разглядаць як клясыкаў беларускай літаратуры. Таму рэдактары хацелі падкрэсьліць, з аднаго боку, заслугі гэтых двух пісьменьнікаў для разьвіцьця літаратуры, а з другога боку, праблемы й пытаньні, якія тыя апісалі[35]. Напрыклад, Ядзвігін Ш. у апавяданні "Бярозка" ў другім выпуску "Пагоні" разглядае тэму чалавечых пакутаў і адсутнасьці разуменьня паміж блізкімі людзьмі. Прыйшоў час, калі Лявон павінен выдаць замуж дачку Марысю. Перад тым як яна пакінула дом, ён сказаў ёй: *"Калі табе будзе вельмі цяжка… ідзі лепш у лес, выберы, каторае табе спадабаецца, дрэва і яму, толькі яму аднаму душу сваю адкрывай, жаль свой вылівай..."*[36]. Калі празь некаторы час адправіўся наведаць сваю дачку, Марыська адвяла яго да

[34] Пагоня. 1946. № 1. С. 6.

[35] *"З увагі на тое, што часопіс выдаецца адмыслова для таго, каб было што чытаць звычайным простым людзям, мне шмат дапамагаюць паважаныя клясыкі"*, — пісаў Алесь Салавей да Ўладзімера Сядуры й Масея Сяднёва 28.05.1946. (Салавей, Алесь. Творы. Паэзія, проза, лісты. С. 302).

[36] Пагоня. 1946. № 2. С. 11.

бярозкі, а тая была ўся чорная. Калі Лявон узяў сякеру і сьсек дрэва, то аказалася, што ўсярэдзіне яно гнілое. *"Татачка, а чаму паміж людзей я не знайшла, каму пажаліцца?"*[37] — спытала яна бацьку. Але ён ня змог ёй адказаць. У іншай гісторыі "Страшная музыкава песьня" ўжо Максім Гарэцкі дасьледуе важны для беларускай літаратуры й культуры матыў, кажа пра вялікую сілу й моц, уласьцівую беларускай народнай музыцы, а таксама пра ролю мастака, чыя задача палягае ў тым, каб перадаць гэтую моц слухачу. Галоўны герой апавяданьня, Арцём Скамарох, быў вымушаны зайграць на пахаваньні каханкі маладога паніча, якую той атруціў. На працягу ўсёй ночы ён іграў на скрыпцы поўныя смутку, горычы й жалю мэлёдыі. У іх можна было адчуць поўнае пакутаў жыцьцё музыкі, а таксама гаротны лёс беларускага народу. Паніч ня вытрымаў гэтае музыкі й скончыў жыцьцё самагубствам.

У апавяданьні "Лірныя сьпевы", апублікаваным у трэцім нумары "Пагоні", Гарэцкі ўздымае праблему чалавека й радзімы, а таксама чалавека й гістарычнай спадчыны. Ён апісвае гісторыю сям'і князёў Саламярэцкіх. Пасьля сьмерці апошняга князя Мсьціслава ягоная дачка Ганна засталася адна. Цяпер ад яе залежыць будучы лёс маёмасьці і ўсёй зямлі – захаваць незалежнасьць, або ўступіць у саюз з польскім панам Уладзіславам Ваябойскім. Ганна выбірае другі шлях. Як толькі прымае гэтае рашэньне, яна пакараная, а ўсё княства заваявана Княствам Маскоўскім.

Пытаньне аб сувязі чалавека з радзімай уздымае таксама Алесь Салавей ў апавяданьні "Белы снег". Ягоны герой, салдат, пасьля некалькіх гадоў адсутнасьці вяртаецца на радзіму, дадому. Нягледзячы на тое што цяжка паранены, хворы, ён хоча як мага хутчэй убачыць сваю сям'ю, зь якой на працягу доўгага часу ня меў ніякага кантакту. Ён асьцерагаецца, што ўсе паверылі ў ягоную сьмерць: *"Усё-ж ён не загінуў, ён жыве. Ён ніколі не забываўся на блізкую сэрцу зямлю, на родных сваіх і дарагіх. Ён разам зь імі жыў у мроях і ў мроях імкнуўся да іх..."*[38]. На працягу некалькіх дзён падае сьнег, засыпаючы дарогу. Дамы, куды салдат мог бы зайсьці й папрасіцца на ноч, засталіся ззаду, а наперадзе — нічога, акрамя засыпанай сьнегам дарогі, бярозаў і палёў. *"Цяжка рухацца гэтым шляхам,ісьці наперад. Цьвёрды тор засыпаны глыбокім сьнегам. Ногі западаюць у глыб, топнуць у ёй. Нельга ступаць. Здаецца, не наперад рухаешся, а назад. Цяжка, але трэба ісьці"*[39], — спрабуе пераканаць сябе герой. Аднак ён стаміўся,

[37] Пагоня. 1946. № 2. С. 12.

[38] Пагоня. 1946. № 4. С. 28.

[39] Пагоня. 1946. № 4. С. 28.

яму пачынае мроіцца кароткі адпачынак: “*Хацелася б легчы ў пуховую пасьцелю, адпачыць. Няшмат — адну толькі часінку*”[40]. Да дому засталося толькі некалькі кілямэтраў, і трэба пасьпець, прайсьці гэты кавалак дарогі як мага хутчэй. Аднак настае змрок, мучае кашаль, смага... Герой некалькі разоў падае, але ўздымаецца й зьбірае свае сілы й зноў адпраўляецца ў шлях. Нарэшце ён ужо ня ў стане ісьці, ляжыць і думае: “*Цяпер зусім добра. Цёпла, як у хаце. Ня страшна, што мароз. Няхай сабе... Затое цёпла і добра*”[41]. Раптам ён адчуў сябе дрэнна: яго пачаў душыць кашаль, ён страціў прытомнасьць, а з горла палілася тонкая бруя крыві. Прыйшла сьмерць, якая назаўсёды зьвязала героя са сьнегам. У выніку аўтару ўдалося стварыць трагічны вобраз рэальнасьці вайны: вяртаньне на радзіму, дадому не заўсёды лёгкае й простае.

Уладзімер Дудзіцкі, у сваю чаргу, падняў вельмі важнае для тагачасных беларускіх сялянаў пытаньне аб калектывізацыі. Трывога й перажываньні, выкліканыя калектывізацыяй, былі паказаныя аўтарам ва ўрыўках раману “Голас крыві”. Яны паказваюць яскравы вобраз беларускага селяніна – прывязанага да зямлі, працавітага, чулага да сьвету, адказнага за спадчыну сваіх бацькоў, такога, каму неабходны кантакт з прыродай, схільнага да рэфлексіі, але безабароннага перад несправядлівасьцю, няздольнага супраціўляцца й абараняць праўду. Гісторыя адбываецца ў вёсцы Пяшчанкі ў 1930-я гг. Галоўны герой, Палікар Ярашэвіч, жыве са сваёй жонкай Тэкляй і двума сынамі — Віктарам і Алесем. Калісьці ён сваімі ўласнымі вачыма бачыў жорсткія паводзіны прадстаўнікоў улады ў адносінах да некалькіх сем’яў у суседняй вёсцы, бачыў, як забіралі жывёлу, а жанчыны плакалі, крычалі гучна й рвалі на сабе валасы. Ня будучы ў стане забыць тыя думкі, герой вяртаецца да падзеі. Але ў той жа час ён баіцца, што ўсё можа адбыцца зноў, і тады ахвярай будзе ён і ўся ягоная сям’я. Супярэчлівыя пачуцьці трывожаць Палікарпа: ён баіцца разбурэньня дому й гаспадаркі, якія ён атрымаў ад бацькі, але разумее, што няздольны супрацьстаяць сіле й агрэсіі ўлады. “*А няхай ідзе, як ідзецца, калі ўжо гэтак суджана*”[42], — спрабуе пераканаць сябе герой.

Палікарп Ярашэвіч шукае суцяшэньня ў кантакце з прыродай – глядзіць на зьмены, якія адбываюцца ў ёй, захапляецца сьпевамі птушак. Праз нейкі час, аднак, яго спасьцігае страх перад мясцовай пушчай, якая “*выглядала як вялічэзная чорная пляма*”. Ён згадвае словы свайго дзеда пра “*вятры сьмерці*”, якія ў ранейшыя

[40] Пагоня. 1946. № 4. С. 29.

[41] Пагоня. 1946. № 4. С. 30.

[42] Пагоня. 1946. № 4. С. 26.

часы выходзілі з пушчы й крыўдзілі людзей. Яму здаецца, што пушча *"от-от разгайдаецца, разбракне і папаўзе, прыцісьне да зямлі саламяныя стрэхі будынкаў"*[43]. Тады адзіным ратункам для Палікарпа становіцца праца. Ён бярэ сваю касу й пачынае працаваць. Ён адчувае радасьць, што цягам многіх гадоў быў зьвязаны зь зямлёй: *"I які шчасьлівы той чалавек, якому доля наканавала таптаць бацькавы сьцежкі-дарожкі... якога не адарвала яна ад зямлі і ня кінула ў вір нафарбаванага, блуднага жыцьця..."*[44]. Але кожны раз, калі Палікарп бачыць набліжэньне машыны й пыл, што ўздымаецца па дарозе, пачынае вельмі хваляваца. *"Вось так і жыве чалавек... жыве і ня ведае, што яго чакае заўтра... Ня ведае і ня знае. Мажа і сьмерць, і можа яна зусім блізка?"*[45] — думае герой.

Лёс мастака на фоне ваенных падзей прадстаўлены Алесем Салаўём у апавяданьні "Чужы", апублікаваным пад псэўданімам Тамара Залеская. Галоўны герой – Сьцяпан Кажура, вядомы мастак. Ён чалавек *"просты і разумны"*, звычайна *"поўны энергіі і запалу, у кампаніі вясёлых і тых, што любяць жыцьцё"*. Зь дзяцінства ён трымаўся простага, але, як аказалася, вельмі добрага прынцыпу: заўсёды мець пляны на будучыню і любой цаной іх рэалізоўваць. Дзякуючы гэтаму Сьцяпан шмат дасягнуў, стаў вельмі вядомым. Аднак асабістае жыцьцё ня складвалася. Калі ён ажаніўся першы раз, ягоная жонка памерла праз два гады. Праз гэта ён цягам году быў у дэпрэсіі, ня мог ствараць. Урэшце мастак ажаніўся другі раз і ў новым шлюбе займеў двое дзяцей. Зноў ён пачаў маляваць карціны й атрымліваць асалоду ад жыцьця. Цяпер, аднак, перашкодзіла яму вайна: ён быў вывезены ў Нямеччыну на цяжкую фізычную працу. Калі даведаўся, што падчас абстрэлу загінула ўся ягоная сям'я, зноў дэпрэсія апанавала яго. Сьцяпан Кажура ня мог працаваць, ня меў сілаў, каб зноў нешта маляваць. Ён праводзіў час у адзіноце ў парку, дзе ў цішыні дрэў спрабаваў дасягнуць гармоніі з самім сабой. Аднойчы ягоную ўвагу прыцягнула жанчына, якая шпацыравала з каляскай, ён пачаў уважліва сачыць за ёй, назіраючы за яе рухамі, як яна займаецца дзіцём. Пасьля некалькіх такіх сустрэчаў мастак адчуў, як *"усё больш і больш б'ецца яго сэрца, душа становіцца сьвятлей і ярчэй"*[46]. Ён страчвае нават сон. У адну бяссонную ноч дастае мальбэрт і пачынае маляваць, і ўжо на наступны дзень малюнак з жанчынай, што схілілася над дзіцячай каляскай, гатовы. Мастак захапляецца сваёй працай, ён

[43] Пагоня. 1946. № 4. С. 26.

[44] Пагоня. 1946. № 4. С. 27.

[45] Пагоня. 1946. № 4. С. 27.

[46] Пагоня. 1946. № 3. С. 22

разумее, што павольна прачынаецца ў ім той Сьцяпан, якім ён быў да вайны, на сваёй радзіме. Зноў ён захацеў жыць і працаваць. Як будзе складацца лёс героя ў будучыні — аўтар не адказвае. Пад тэкстам рэдакцыя разьмясціла жартоўную заўвагу: "*На гэтым перарываецца прысланае ў рэдакцыю апавяданьне. Відаць, паважаная аўтарка ня ўклала праз памылку ў купэрт апошніх балонак твору. Навязаць лучнасьць з аўтаркай нам не ўдалося*"[47].

У апавяданьні Вольгі Таполі "Маці" (1943—1944) апісаныя адносіны паміж маці, 48-гадовай настаўніцай, і яе дачкой Валянцінай. Нейкі час маці сур'ёзна хворая, і ўсё паказвае на тое, што ў любы момант яна можа памерці. Дачка разумее гэта, менавіта таму яна заўсёды ля маці, гатовая выканаць кожнае яе жаданьне. Абедзьве заўсёды жылі ў гармоніі й згодзе. Маці, жанчына з "*крышталёва чыстым сэрцам*", была на працягу многіх гадоў сяброўкай для сваёй дачкі. Яна клапацілася пра яе, баючыся, што тая "*занадта сумленная й пяшчотная*", з сэрцам "*занадта мяккім і адчувальным*". Маці распавядала дачцэ казкі, якія чула ад сваёй маці. Валянціна ня толькі іх запісвала, але, будучы чулай асобай, складала й свае ўласныя. І вось надыходзіць момант, калі маці памірае. Валянціна губляе прытомнасьць і ўсё, што адбываецца пасьля — як мая маці ляжала ў труне, як зь ёй разьвітвалася, як яе хавалі, — памятае цьмяна. Толькі тады, калі застаецца сама, яна зноў прытомнее й жыве нейкі час успамінамі. Яна ўспамінае сваю маці, а таксама памерлых раней брата й сястру. Цяжка справіцца з адзінотай, Валянціна разумее, што яе сэрца "*мусіць любіць, толькі любіць, ахвяроўваць сабой дзеля блізкіх, дарагіх, аддаваць дзеля іх ўсё, жыць дзеля іх...*"[48]. Яна вяртаецца да напісаньня казак, але неўзабаве кідае гэтую справу, таму што разумее, што ўсё марна. Калі побач няма блізкага чалавека, нішто ня вартае намаганьняў — да такой высновы прыходзіць Валянціна.

Трэцім вельмі важным элемэнтам зьместу часопісу "Пагоня" ёсьць публіцыстыка. Тут публікаваліся працы Аляксея Грыцука: у другім нумары — "Усяслаў Чарадзей", у трэцім — "Да пытаньня аб Крэўскай вуніі", у чацьвертым — "Беларусь і польска-швэдзкая вайна: 1655—1660". У трэцім і чацьвертым нумарах надрукаваныя два артыкулы Юркі Віцьбіча — "Там, дзе шуміць незабытнае Пола" і "Б'е з-пад муру сьвятая крыніца". Таксама быў апублікаваны артыкул Уладзімера Глыбіннага "Залаты век".

Алесь Грыцук апісвае разьвіцьцё Полацкага княства, нагадвае пра ролю Ўсяслава Чарадзея, тлумачыць важнасьць Крэўскай уніі для гісторыі Вялікага Княства Літоўскага й літоўска-польскіх стасункаў,

---

[47] Пагоня. 1946. № 4. С. 22.

[48] Пагоня. 1946. № 3. С. 16.

паказвае, які вялікі нэгатыўны ўплыў мела польска-швэдзкая вайна на далейшую гісторыю Княства.

Юрка Віцьбіч піша пра прыроду Беларусі, пра яе ўнікальнасьць. Напрыклад, у артыкуле "Там, дзе шуміць незабытнае Пола" аўтар захапляецца ваколіцамі ракі Дзьвіны, азёрамі: *"Досыць толькі аднойчы пабачыць іх, каб назаўсёды пераканацца ў іхнай надзвычайнай прыгажосьці. [...] Безьліч маляўнічых вазёраў мае цудоўнае Наддзьвіньне, але найпрыгажэйшым зь іх будзе незабытнае Пола. Празрыстая вада ў ім нагадвае сваім блакітным колерам вочы крывічанак і ў гэтую блакіць, нібы ў люстра, дзівяцца на сябе ўзьбярэжныя гаі. А вакол, як бронзавае маніста, абыймаюць яго задуменыя курганы"*[49]. Вялікае значэньне мае крыж, які стаяў на беразе возера на працягу чатырох стагодзьдзяў, нагадваючы пра старадаўнія часы, пакуль у 1932 г. не разбурыўся. На ім быў тэкст на старабеларускай мове й дата: 1569. Побач зь ім вырылі магілу, дзе пахаваныя былі дзьвесьце ўдзельнікаў розных бітваў. Звычайна летам квітнелі на ёй белыя рамонкі й чырвоныя гвазьдзікі, таму здалёк здавалася, што тут ляжыць бел-чырвона-белы сьцяг. XVI стагодзьдзе, як кажа Віцьбіч, было асабліва цяжкім для Вялікага Княства Літоўскага, паколькі вайны, што тады вяліся, выклікалі масавыя разбурэньні. Разбураны былі такія гарады, як Полацак, Магілёў, Гомель, Віцебск, Смаленск, а таксама сотні невялікіх гарадоў і вёсак. Іхныя жыхары былі вымушаныя бегчы ў лес. Адным з тых, хто вінаваты ў гэтым, быў расейскі цар Іван Жахлівы. Калі ён прыйшоў з 300-тысячным войскам і пабачыў Дзьвіну, то быў уражаны, кажучы: *"У Дзьвіне дно залатое, а берагі сярэбраныя"*[50].

У эсэ "Б'е з-пад муру сьвятая крыніца" Юрка Віцьбіч праслаўляе, у сваю чаргу, прыгажосьць мястэчка Гарадок, якое знаходзіцца непадалёк ад Віцебску. На працягу некалькіх стагодзьдзяў радавалі сваёй прыгажосьцю царква Сьв. Ільлі, рэшткі крэпасьці й замку, крынічка, чорны крыж, усталяваны ў гонар усіх тых, хто загінуў у розных бітвах, капліца ў гонар Параскевы. Аднак у 1930-я гг. савецкі ўрад спрычыніўся да спусташэньня гэтых месцаў: па-першае, зьнік крыж, потым каменьнем з капліцы забрукавалі вуліцы, зьнесены рэшткі замку, а крынічку засыпалі. Аўтар завяршае твор пытаньнем: *"Што з табою сталася, маленькі беларускі павятовы гарадок? Дзе грамады простых і шчырых людзей, што прыходзілі зь вялікай пашанай і глыбокай верай да твае сьвятыні?"*[51]. Нягледзячы на

[49] Пагоня. 1946. № 3. С. 30.

[50] Пагоня. 1946. № 3. С. 30.

[51] Пагоня. 1946. № 4. С. 46.

тое што адказу няма, кожны чытач дасканала ведае, што вінаватая савецкая ўлада, якая разбурала ўсё, што зьвязана зь верай, рэлігіяй і культам.

Пачынаючы выданьне "Пагоні", Алесь Салавей хацеў перадусім згуртаваць вакол часопісу беларускіх уцекачоў, каб дапамагчы ім перажыць цяжкі час. Ён таксама меў намер аб'яднаць самых таленавітых пісьменьнікаў. Аднак паступова яго напаткалі сур'ёзныя праблемы. Па-першае, былі цяжкасьці ў атрыманьні матэрыялаў для друку зь Нямеччыны, дзе жыла большасьць аўтараў. Па-другое, бракавала фінансавых сродкаў, неабходных для выданьня часопісу. Па-трэцяе, не было доступу да добрай друкарні й тэхнікі. Па-чацьвертае, не было людзей, гатовых прысьвяціць свой час і энэргію выдавецкай справе. І, нарэшце, па-пятае, як гэта ні парадаксальна, бракавала чытачоў. Беларуская грамада ў Аўстрыі была колькасьцю ўсяго каля 300 чалавек, сярод якіх прадстаўнікоў інтэлігенцыі было 6—7. *"З нашай інтэлігенцыі ва ўсёй Аўстрыі — чалавек 6—7. З добрай інтэлігенцыі — чалавекі чатыры"*[52],— пісаў Алесь Салавей Вітаўту Тумашу. У выніку чацьверты выпуск "Пагоні" стаў апошнім. Нягледзячы на такі кароткі тэрмін існаваньня, часопіс стаў цікавым унёскам у жыцьцё беларускіх эмігрантаў у Аўстрыі. Перш за ўсё даваў – хоць і не цалкам рэалізаваную — магчымасьць адчуваньня прыналежнасьці да радзімы й да сваёй уласнай гісторыі ды знаёмства зь беларускай паэзіяй і прозай.

[52] [Ліст Алеся Салаўя да Вітаўта Тумаша ад 14.12.1946] // Салавей, Алесь. Творы. Паэзія, проза, лісты. С. 311.

## *Эміграцыязнаўчая сэкцыя на VI Кангрэсе дасьледчыкаў Беларусі*

***Сяргей Шабельцаў***
*Менск*

# ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ДЗЕЙНАСЬЦЬ У АРГЕНТЫНЕ БЕЛАРУСАЎ ТРЭЦЯЙ ХВАЛІ ЭМІГРАЦЫІ

У канцы 1940-х — першай палове 1950-х гг. беларуская грамадзкая дзейнасьць у Аргентыне прайшла пік свайго разьвіцьця. З аднаго боку, актыўнасьць праяўлялі прасавецкія арганізацыі міжваенных эмігрантаў, а з другога — паўстала антысавецкае "Згуртаваньне беларусаў у Аргентыне", створанае прадстаўнікамі паваеннай (трэцяй) хвалі эміграцыі.

Зьяўленьне адзінай антысавецкай беларускай арганізацыі ў Аргентыне было выкліканае прыбыцьцём у краіну беларусаў, якія перасяліліся з Заходняй Эўропы ў другой палове 1940-х гг. Большасьць прадстаўнікоў гэтай хвалі — перамешчаныя асобы, "ды-пі" (ад анг. *displaced persons*), якія пасьля заканчэньня Другой сусьветнай вайны апынуліся на тэрыторыі Нямеччыны й Аўстрыі ды адмовіліся вяртацца ў СССР. Як правіла, гэтыя беларусы былі выхадцамі з Заходняй Беларусі, лічыліся грамадзянамі міжваеннай Польшчы, а не СССР, што дазволіла ім пазьбегнуць прымусовай дэпартацыі на радзіму. Яшчэ адной катэгорыяй пасьляваенных перасяленцаў-беларусаў былі дэмабілізаваныя салдаты польскай арміі Андэрса (сфармаванай у 1941—1942 гг. на тэрыторыі СССР з грамадзянаў Польшчы). Паваенныя перасяленцы мелі вопыт жыцьця пры савецкай уладзе, адчулі на сабе таталітарна-дыктатарскі характар сталінізму і з гэтай прычыны не жадалі вяртацца ў савецкую Беларусь.

Цяжкія ўмовы й беспэрспэктыўнасьць жыцьця ў паваеннай Эўропе змушалі бежанцаў шукаць працу ў розных, у тым ліку і ў паўднёваамэрыканскіх краінах. Пры выбары краіны пасяленьня прымаліся пад увагу шматлікія фактары: разьвіцьцё эканомікі, палітычны лад, клімат, наяўнасьць сяброў або сваякоў. Апошняя акалічнасьць мела вялікае значэньне, паколькі блізкія людзі маглі загладзіць вастрыню адаптацыйных праблемаў на новым месцы. Вядома некалькі выпадкаў пераезду беларусаў трэцяй хвалі ў Аргентыну да сваякоў (Уладзімер Другавец, сям'я Саўчыцаў), аднак

былі нярэдкія выпадкі адмовы ім у дапамозе з боку прадстаўнікоў старой эміграцыі. Такая адмова была абумоўленая палітычнымі прычынамі. Напрыклад, міжваенны эмігрант Сьцяпан Самасюк у лісьце ў Таварыства "Радзіма" (Менск) так патлумачыў сваё паводзіны ў адносінах да пасваеннага бежанца:

*"Яго немцы вывезлі ў Нямеччыну, калі яму было 14 гадоў. А зь Нямеччыны ён трапіў у Францыю, там ажаніўся на адной дзяўчыне з Кіева. Потым ён захацеў паехаць у Паўночную Амэрыку. Ён і яго жонка наняліся на вельмі брудную й цяжкую працу, на фабрыку гумовай вытворчасьці, а потым з гэтай працы іх звольнілі, то ён прасіў, каб я іх забраў у Аргентыну. Ён пісаў мне, што з Расеі ўсё просяць пасылак, а з Амэрыкі ніхто не просіць. Ён прасіў, каб я забраў яго з Амэрыкі й даў яму грошай на дарогу ў Аргентыну. Але я яму адказаў, хай табе дасць грошай Эйзэнхаўэр за тое, што ты яго хваліш"*[1].

Па прыезьдзе ў Буэнас-Айрэс паваенных бежанцаў мог чакаць у порце несяброўскі прыём з боку старых эмігрантаў, якія крычалі на адрас ізноў прыбылых: *"здраднікі Радзімы"*, *"фашысты"*, *"едзьце назад!"*. Паміж прадстаўнікамі розных хваляў эміграцыі каля порту здараліся бойкі, у якія ўмешвалася паліцыя[2]. Паводле Кастуся Мерляка, *"гвалтоўныя дыскусыі і рукабойкі адбываліся ў сталоўках і рэстаранах на працягу некалькіх гадоў. Такія інцыдэнты здараліся дзякуючы нахабным захаваньням зьбіральшчыкаў грошаў на дапамогу ахвярам фашызму або ў часе вельмі частых зборак на "боты Сталіну"»*[3]. Паваенным эмігрантам маглі дасылаць і друкаваную прадукцыю савецкага камітэту "За вяртаньне на Радзіму". Васіль Рамановіч (сын міжваенных эмігрантаў-камуністаў) распавёў, як яго папрасілі даведацца месца жыхарства ўцекачоў з СССР, і ён даў адрасы тых, хто зь іх жыў у раёне Валянцін-Альсіна: *"І калі гэтыя людзі атрымлівалі літаратуру ад камітэта "За вяртанне на Радзіму", то рэакцыя была вельмі негатыўная. Больш за тое, ўзнікалі спрэчкі з суседзямі, якіх падазравалі ў тым, што гэта яны паказалі іх адрас"*[4].

---

[1] Ліст Сьцяпана Самасюка ад 12.10.1961. Захоўваецца ў архіве Таварыства "Радзіма" (Менск).

[2] [Ліст Эміля Цяўлоўскага ад 29. 06. 1964] // Запісы БІНіМ. № 38. Нью-Ёрк — Менск, 2016. С. 149.

[3] Мерляк, Кастусь. Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі: пранікслівасьць і практычны падыход. Нью Ёрк, 1992. С. 64.

[4] Романович, Василий. [Успаміны]// Шабельцаў, Сяргей. Беларусы ў Аргентыне: грамадская дзейнасць і рээміграцыя ў СССР (1930—1960-я гг.). Мінск, 2009. С. 217.

Паводле Ганны Мерляк, "*савецкія агенты*" маглі рабіць непрыемнасьці, аднак калі не праяўляць слабасьць, то яны бежанцаў не чапалі[5]. Тым ня менш канфлікты паміж эмігрантамі маглі прывесьці ня толькі да рукапрыкладства: у газэце "Бацькаўшчына" на пачатку 1949 г. гаварылася пра забойства ва ўласным доме беларуса, які прыехаў з Ангельшчыны й які перад гэтым меў "*вострую дыскусію*" зь мясцовымі камуністамі. Аўтар артыкулу Кастусь Мерляк дапускаў, што адказнасьць за забойства магла несьці таемная "міліцыя" (пад кіраўніцтвам Трафіма Ляшука), якая сачыла за тымі славянамі, што прыбылі з Эўропы, і дзейнічала па ўказцы савецкай амбасады[6]. Гэтае паведамленьне ў "Бацькаўшчыне" ўсё ж выклікае сумневы: у артыкуле не сказана, як звалі ахвяру, і ніякія іншыя крыніцы не згадваюць пра існаваньне камуністычнай "міліцыі" пад кіраўніцтвам Трафіма Ляшука.

Паваенныя эмігранты разумелі, што ў іх землякоў у Аргентыне распаўсюджана скажонае ўяўленьне пра СССР, таму яны часам праяўлялі ініцыятыву і ўступалі з суродзічамі ў дыскусію. Такія размовы былі вельмі цяжкія, паколькі міжваенныя эмігранты былі нэгатыўна настроеныя й суразмоўцаў інакш як "*бандыты-фашысты*" не называлі. Тым ня менш Пётра Саўчыц у адным зь лістоў сьцьвярджаў, што "*памаленьку атрымоўваецца некаторых перdesignacanaць і нават перацягнуць на свой бок*"[7]. Паводле словаў жа прасавецкіх беларусаў, такія сустрэчы не прыводзілі да зьмены іх поглядаў:

*«Аднойчы, калі мы кампаніяй сядзелі ў кафэ, да нас падышлі тыя, што ўцяклі з СССР. У нас завязалася спрэчка, яны казалі: "Вы чытаеце савецкія газеты і верыце ў тое, што там напісана? Хочаце туды пераехаць? У Савецкім Саюзе дрэнна, няма рынку, без якога нармальна не пражывеш!" Мы адказвалі, што ў СССР пры планавай эканоміцы добра, а тыя ў адказ: "Там ёсць толькі чорны рынак". Тады адзін з нашых (ён патрыёт, але ў Аргентыне займаўся камерцыяй) сказаў: «А-а! Дык усё ж ёсць рынак — вельмі добра! Пражывем!"»*[8].

---

[5] Мерляк, Ганна. У Аргентыне не было падзелу на "крывічоў" і "зарубежнікаў" // Адзінец, Аляксандар. Паваенная эміграцыя: скрыжаваньні лёсаў. Мінск, 2007. С. 300.

[6] Мерляк, Кастусь. Сталася гэта ў Аргентыне // Бацькаўшчына. 1949. 6 лютага.

[7] Ліст Пётры Саўчыца да Міколы Сільвановіча ад 20.10.1948 // Library and Archives Canada. Mikola Silvanovich Fonds. MG31-H90. Vol. 2. F. 55.

[8] Волкович, Андрей. [Успаміны] // Шабельцев, Сяргей. Иммигранты-чакареро из II Речи Посполитой в Аргентине и Парагвае. Воспоминания белорусов и украинцев. Минск, 2011. С. 33.

Непрыманьне крытыкі Савецкага Саюзу эмігрантамі-беларусамі міжваеннага пэрыяду тлумачыцца эфэктыўным узьдзеяньнем на іх савецкай прапаганды. У прасавецкіх газэтах "*Наш Голос*" і "*Світло*" паваенныя ўцекачы дэманізаваліся, называліся ваеннымі злачынцамі, "*ад якіх цягне мылам, выробленым з чалавечага цела, бо яны рабілі гэта мыла зь безабаронных людзей, зь якімі распраўляліся разам з гітлераўцамі. Гэтыя недачалавекі ніяк ня могуць зьмірыцца з новым народным парадкам... з тым, каб былы батрак стаў гаспадаром на калгаснай зямлі, каб краіна была без памешчыкаў і багацеяў*"[9].

Перасяленцы трэцяй хвалі па палітычных прычынах не маглі чакаць дапамогі ад дзейных у Аргентыне беларускіх арганізацый. Нягледзячы на сваю малую колькасьць, антысавецкія беларусы змаглі сфармаваць у Буэнас-Айрэсе ўласнае таварыства: 4 красавіка 1948 г. ініцыятыўная група правяла сход, на якім пастанавілі стварыць *Згуртаваньне Беларусаў у Аргентыне* (ЗБА) (па-гішпанску — *Asociacion bielorrusa en la Argentina*). Яе канцылярыя спачатку разьмяшчалася па адрасе ўкраінскага таварыства "*Відродження*", якое прадаставіла для блізкіх па духу беларусаў адзін з пакояў свайго клюбу. Пасьля таго як у канцы 1949 г. ЗБА пачало здымаць уласнае памяшканьне, стала магчыма арганізаваць больш камфортны вольны час сяброў арганізацыі. Быў набыты радыё-патэфон, на якім слухалі беларускую музыку; у памяшканьні зьявіўся бар. Цяпер існавала ўладкаванае месца, дзе беларусы маглі сабрацца й сумесна правесьці вечар у спакойнай абстаноўцы.

Кіраваньне ЗБА складалася з трох чалавек на чале з Кастусём Мерлякам, ва ўспамінах якога падрабязна апісаная дзейнасьць арганізацыі. Яе асноўнымі мэтамі ў 1948—1950 гг. былі: дапамога суайчыннікам у пераезьдзе зь Нямеччыны й Аўстрыі ды ўладкаваньні іх у Аргентыне; арганізацыя "беларускай калёніі" для культурна-грамадзкага жыцьця, каб забясьпечыць захаванасьць беларускай культуры; функцыянаваньне беларускага нацыянальнага прадстаўніцтва ў Аргентыне[10]. Кастусь Мерляк старшыняваў у 1948—1950 гг., а на чацьвертым агульным сходзе ЗБА (20 мая 1951 г.) абралі новае кіраўніцтва: Уладзімер Другавец (старшыня), Аляксандар Літвінскі (заступнік старшыні), Лявон Петраш (сакратар), Васіль Казлоўскі (скарбнік), Мікалай Ланкевіч (сябра ўправы). На тым жа сходзе Кастусь Мерляк у сваёй справаздачы за тры гады казаў аб атрыманьні ЗБА 98 дазволаў на прыезд беларусаў з Эўропы, распаўсюдзе 1 тысячы асобнікаў беларускай прэсы, зборы 100 кніжак і 200 асобнікаў часопісаў для бібліятэкі, а таксама пра тое,

---

[9] Світло. 1947. 15 вересня.

[10] Мерляк, Кастусь. Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі... С. 64—101.

што ўстаноўлена сувязь з аргентынскім урадам і прадстаўніцтвамі Украіны, Славакіі, Літвы, Польшчы, Харватыі й інш. *"Дзякуючы нашай актыўнасьці, пра Беларусь і пра нас аргентынская прэса пісала 32 разы"*[11].

Пры аналізе дзейнасьці ЗБА варта ўлічваць факт малалікасьці паваеннай беларускай эміграцыі ў Аргентыне. У канцы 1948 г. Пётра Саўчыц у лісьце ў Канаду апісаў стан спраў у ЗБА, выкарыстоўваючы выразы: *"арганізацыя новенькая і слабая"*, *"не хапае людзей"*, *"старшыня Мерляк... астатнія два — добрыя, але слабенькія хлопцы з войска Андэрса"*, *"паступова справа прасоўваецца, наладжваецца"*[12]. Аднак прасоўваньне да лепшага ішло павольна: у 1949 г. іншы член ЗБА пісаў: *"замежжа тут слабое (тры чалавекі) у ЗБА... [...] Шмат членаў пасіўных... [...] Калі б нас было тут больш, тады іншая справа"*[13].

Каб беларуская нацыянальная дзейнасьць набыла большы маштаб, кіраўніцтва ЗБА імкнулася прыцягнуць на свой бок прасавецкіх беларусаў: на адно са сваіх першых мерапрыемстваў — сяброўскую вечарыну 9 жніўня 1949 г. — ЗБА запрасіла прадстаўнікоў старой эміграцыі, якія прыйшлі, *"каб паглядзець на нацыяналістаў"*. На думку Кастуся Мерляка, мерапрыемства прайшло ўдала[14], але эмігранты міжваеннага пэрыяду ў ЗБА не ўвайшлі. Для наступнага наведваньня імі "нацыяналістаў" прыйшлося пайсьці на хітрасьць: у адну зь летніх начэй 1951 г. сябры ЗБА заклеілі плакаты-запрашэньні прасавецкага "Беларускага ачага" сваімі плякатамі, якія рэкламавалі іх вечарынку[15].

У адносінах са старой эміграцыяй у ЗБА прасочваецца двунакіраванасьць дзеяньняў: з аднаго боку, запрашаліся "простыя" беларусы, але, з другога боку, крытыкавалася пракамуністычнае кіраўніцтва "Беларускага саюзу", які зьяўляўся часткай Славянскага саюзу ў Аргентыне. Пры гэтым прызнавалася, што пракамуністычныя славянскія выданьні былі больш шматлікія й добра арганізаваныя[16]. На думку паваенных бежанцаў, такая арганізацыя Славянскага саюзу была праведзеная *"савецкімі агентамі, каб пад прыкрыцьцём*

11 Мерляк, Кастусь. Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі... С. 73—74.

12 Ліст Пётры Саўчыца да Міколы Сільвановіча ад 20.10.1948.

13 Ліст да Вінцэнта Жук-Грышкевіча ад 03.06.1949 // Library and Archives Canada. Raisa Zuk-Hryskievic fonds. MG31-H46. Vol. 4. F. 21.

14 Мерляк, Кастусь. Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі... С. 66.

15 Мерляк, Кастусь. Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі... С. 74.

16 Ліст Пётры Саўчыца да Міколы Сільвановіча ад 05.10.1949 // Library and Archives Canada. Mikola Silvanovich Fonds. MG31-H90. Vol. 2. F. 55.

*панславізму пашыраць расейскі імпэрыялізм*”[17]. У процівагу “*палітыцы Крамля*” ў 1948 г. ЗБА стала сябрам антыкамуністычнай Славянскай Лігі. На вялікім мітынгу, арганізаваным Лігай у Буэнас-Айрэсе 19 верасьня 1948 г. выступіў з прамовай на гішпанскай мове старшыня ЗБА Кастусь Мерляк. Ягоная прамова з фатаграфіяй была цалкам надрукаваная ў газэце “Трыбуна папулярны”, № 24, 11 кастрычніка 1948 г.[18].

Пасьля закрыцьця Славянскага саюзу (у які ўваходзілі й беларускія арганізацыі) ЗБА рабіла спробы прыцягнуць да сябе сяброў “*Беларускай бібліятэкі імя Івана Луцкевіча*”. Але “*ўліць яе ў аб'яднаньне не ўдалося з-за вострага выступу Мерляка ў міжнацыянальным антыкамуністычным Камітэце*”[19]. Прыведзеная вытрымка зь ліста аднаго сябры ЗБА да суродзіча ў Канадзе не дае магчымасьці зразумець, аб якім антыкамуністычным Камітэце ідзе гаворка, але відавочна, што магчымасьць аб'яднацца зь “Беларускай бібліятэкай імя Івана Луцкевіча” была страчаная.

Калі кантакты паміж прадстаўнікамі розных хваляў іміграцыі й былі, то яны насілі адзінкавы характар. Сярод апытаных аўтарам гэтых радкоў беларусаў, якія рээміграваліў СССР, ніводны зь іх нічога ня ведаў пра існаваньне ЗБА. Многія рэмігранты наогул не вылучалі беларусаў сярод паваенных перасяленцаў: у іх вачах усе яны зьбеглі з СССР і ад іх варта трымацца далей. Нават калі хтосьці з паваенных перасяленцаў жыў па суседзтве, кантакты зь імі зводзіліся да вырашэньня побытавых праблемаў, але пра патаемныя гутаркі “*по душам*” не магло быць і гаворкі. Алена Гніцэвіч распавядала, што суседзямі ў іх былі ўцекачы, але пра СССР у іх нічога не пыталіся, паколькі кіраўнікі прасавецкіх таварыстваў забаранялі зь імі мець зносіны. Паколькі прасавецкія клюбы зачыняліся ўладамі, сабрацца маглі на прыватных кватэрах, і дзеля пазьбяганьня складанасьцяў з паліцыяй ад суседзяў-бежанцаў тут трэба было трымаць усё ў таямніцы: “*Мой муж хадзіў дапамагаць суседзям па гаспадарцы, але і тое стараўся не ісьці: распытвалі яго пра ўсё. Але мой муж такі, што нічога не скажа... [...] Мы ня мелі зносіны й каб ня ведалі, хто да мяне прыходзіць. Бо прыходзіла да нас Съпірыдонава й чалавек пятнаццаць вучыла*”[20] (маецца на ўвазе, што Лізавета Спірыдонава вучыла рускай мове).

[17] Бацькаўшчына. 1952. 21 верасьня.

[18] Мерляк, Кастусь. Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі... С. 66.

[19] Ліст да Вінцэнта Жук-Грышкевіча ад 03.06.1949.

[20] Гницевич, Елена. [Успамін] // Шабельцаў, Сяргей. Беларусы ў Аргентыне: грамадская дзейнасць і рээміграцыя ў СССР (1930—1960-я гг.). Мінск, 2009. С. 256.

Акрамя ярка выяўленага антыкамунізму, ЗБА (на фоне астатніх беларускіх таварыстваў) выглядала нацыяналістычнай арганізацыяй. Яе сябры лічылі сябе адназначна беларусамі, падвойная самаідэнтыфікацыя (“*я беларус і ў той жа час рускі*”) ім не была ўласцівая. Нацыяналізм ЗБА заключаўся ў культываваньні беларускай мовы, традыцый, прыхільнасьці ідэі незалежнасьці Беларусі. Пашырэньне беларускіх традыцый выяўлялася ў выкарыстаньні нацыянальнага арнамэнту пры афармленьні друкаванай прадукцыі, правядзеньні вясельляў па беларускім звычаі, сьвяткаваньні, напрыклад, Калядаў (праваслаўнага Раства). Паколькі ў каталіцкай Аргентыне 7 студзеня не зьяўляецца непрацоўным днём, беларусы зьбіраліся па магчымасьці ў бліжэйшы да праваслаўнага сьвята Нараджэньня Хрыстовага выходны. На калядны вечар арганізоўвалі застольле, слухалі хор ЗБА, вершы й дэклямацыі. Калі на вечарыне прысутнічаў сьвятар, то ён бласлаўляў сьвяточнае мерапрыемства. Часта аднаго з прысутных апраналі Дзедам Марозам, які раздаваў дарослым і дзецям падарункі.

Прыхільнасьць да беларускай мовы й традыцый магла стаць асновай, якая аб’ядноўвае беларусаў усіх хваляў эміграцыі. Аднак ідэя незалежнай некамуністычнай Беларусі была характэрная толькі для ЗБА. Сярод штогадовых мерапрыемстваў значылася сьвяткаваньне абвяшчэньня незалежнасьці БНР (25 сакавіка). Яно пачыналася з набажэнства за беларускі народ, а працягвалася ўрачыстым вячэрнім мерапрыемствам. На вечарыне хто-небудзь зь беларусаў зачытваў рэфэрат, прысьвечаны БНР; звычайна прадугледжвалася й мастацкая частка — вершы, песьні, дэклямацыі. Гэтае мерапрыемства лічылася Днём Незалежнасьці Беларусі, і на яго ЗБА імкнулася запрасіць прадстаўнікоў ад антыкамуністычных арганізацый тых народаў (украінцаў, літоўцаў, латышоў, палякаў і інш.), якія знаходзіліся ў складзе СССР або пад уладай урадаў, падкантрольных Маскве. На Дзень Незалежнасьці Беларусі запрашаліся й прадстаўнікі мясцовых органаў аргентынскай улады, тым самым ЗБА прапагандавала свой погляд на мінулае й сучаснасьць Беларусі. Для лепшага разуменьня гасьцямі таго, што адбываецца на вечарыне, выкарыстоўвалася ня толькі беларуская, але й гішпанская мова.

Мабыць, самым маштабным мерапрыемствам ЗБА стала сумешчанае сьвяткаваньне 35-годзьдзя абвяшчэньня незалежнасьці БНР і 5-годзьдзя існаваньня ЗБА. Цырымонія прайшла 12 красавіка 1953 г. і пачалася ўскладаньнем вянка да сымбалічнай магілы Эвы Пэрон (у будынку фонду яе імя). Пасьля гэтага ва ўкраінскай праваслаўнай царкве прайшоў малебен за беларускі народ, а ў залі літоўскага клюбу, упрыгожаным выявай гербу “Пагоня” й партрэтам прэзыдэнта Хуана Пэрона, прайшоў урачысты сход. Кастусь Мерляк

вітаў гасьцей і коратка апісаў гістарычныя падзеі, якія прывялі да абвяшчэньня Акту 25 сакавіка 1918 г., *“за ажыцьцяўленьне ў жыцьцё якога й сёньня змагаецца беларускі народ”*. Уладзімер Другавец апісаў 5-гадовую дзейнасьць антысавецкай беларускай арганізацыі ў Аргентыне, і прысутным раздалі асобнікі выдадзенай ЗБА кнігі на гішпанскай мове *“Bielorrusia y los bielorrusos en la Republica Argentina”* (“Беларусь і беларусы ў Рэспубліцы Аргентына”). Падчас вечарыны з прывітаньнямі выступілі запрошаныя прадстаўнікі розных этнічных групаў; адзін з прысутных аргентынцаў адзначыў, што *“5-гадовая дзейнасьць ЗБА зьмяніла пагляды аргентынцаў адносна беларускае эміграцыі, паказала беларускі народ і яго імкненьні, а перадусім здабыла давер у афіцыйных колах ураду”*[21].

Нацыянальная канцэпцыя, выкладзеная ў *“Bielorrusia y los bielorrusos en la Republica Argentina”*, адстойвала старажытнасьць беларускай дзяржаўнасьці, паказвала, як нацыянальнае адраджэньне на пачатку XX ст. прывяло да абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі 25 сакавіка 1918 г. Але затым усталявалася савецкая ўлада, і стварэньне БССР азначала акупацыю Беларусі *“бальшавіцкай Расеяй”*. У рэчышчы гэтай канцэпцыі ЗБА накіроўвала ў аргентынскія органы ўлады лісты й тэлеграмы з нагоды прасавецкай дзейнасьці Беларускага саюзу ў Аргентыне або неправамоцнасьці дэлегатаў БССР прадстаўляць Беларусь. Напрыклад, у кастрычніку 1952 г. у Буэнас-Айрэсе праводзілася міжнародная канфэрэнцыя па тэлекамунікацыі, і ЗБА накіравала ў адрас міністэрства тэлекамунікацыі Аргентыны тэлеграму пратэсту супраць удзелу ў мерапрыемстве прадстаўніка ад БССР Аркадзьева. На думку ЗБА, прадстаўляць Беларусь магла толькі дэлегацыя ад БНР[22].

Для папулярызацыі ведаў пра Беларусь ЗБА выкарыстоўвала й перадачы на мясцовых радыёстанцыях. У 1954 г. напярэдадні сьвяткаваньня Дня Незалежнасьці Беларусі на станцыі “Эксцэльор” ЗБА арганізавала радыёпраграму, прысьвечаную гэтай падзеі. Прагучаў рэлігійны гімн “Магутны Божа”, прайшла інфармацыя пра БНР і *“акупацыйную палітыку расейскага бальшавізму”*, пра дзейнасьць ЗБА. Таксама перадаваліся беларускія песьні з тлумачэньнем народнага фальклору. Гэтую праграму паўтарылі затым яшчэ дзьве радыёстанцыі. ЗБА, выкарыстоўваючы посьпех, у траўні 1954 г. папрасіла ў прадстаўніка Міністэрства ўнутраных справаў даць час для рэгулярных радыёперадачаў для “беларускай калёніі”.

[21] Мерляк, Кастусь. Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі… С. 78—79.

[22] Bielorrusia y los bielorrusos en la Republica Argentina. Buenos Aires, 1953. S. 63.

Праз тыдзень быў атрыманы станоўчы адказ на гэтую просьбу: на радыё "Эксцэльор" для ЗБА адводзілася 30 хвілінаў на тыдзень.

Закранаючы палітычную актыўнасьць ЗБА, варта адзначыць і арганізацыйнае адзінства паваенных беларусаў: у Заходняй Эўропе, а затым і ў ЗША, Канадзе беларусы падзяліліся на прыхільнікаў БНР і БЦР (Беларускай Цэнтральнай Рады, створанай падчас нямецкай акупацыі Беларусі). У "Рэспубліцы Срэбра" расколу не адбылося: ЗБА лічылася прадстаўніцтвам БНР, хоць у канцы 1950 г. у Аргентыну прыяжджаў Радаслаў Астроўскі, першы прэзыдэнт БЦР і галоўны ідэоляг бэцээраўскай галіны беларускай эміграцыі. Аднак Радаслаў Астроўскі жыў у Аргентыне "інкогніта" зь сям'ёй сваёй дачкі, якая была замужам за доктарам Мікалаем Мінкевічам. Прадстаўніком БЦР у Аргентыне быў Мінкевіч, але ягоная актыўнасьць была мізэрная, да таго ж ён стаў працаваць у аргентынскай правінцыі, удалечыні ад Буэнас-Айрэсу, эпіцэнтры беларускага грамадзкага жыцьця ў краіне. ЗБА заўсёды салідарызавалася з рашэньнямі органаў БНР: напрыклад, па просьбе апошніх у 1950 г. была высланая ў Канаду рэзалюцыя-пратэст у адказ на заяву генэрала Андэрса пра тое, што Польшчы павінны належаць заходнебеларускія землі[23].

Такім чынам, паваенныя ўцекачы-беларусы ў Аргентыне былі малалікія й знаходзіліся ў канфрантацыі з прасавецкімі эмігрантамі. Тым ня менш было створанае антысавецкае таварыства ЗБА, якое займала актыўную палітычную пазыцыю. Дзякуючы арганізатарскім здольнасьцям, у першую чаргу Кастуся Мерляка, паваенныя беларусы наладзілі цесныя сувязі з аргентынскай адміністрацыяй і прапагандавалі свой нацыянальны погляд на падзеі, зьвязаныя зь Беларусьсю й дзейнасьцю беларускіх арганізацый у Аргентыне. Паваенныя ўцекачы лічылі сябе беларусамі, а сваю радзіму Беларусь разглядалі як дзяржаву, акупаваную *"расейска-бальшавіцкім рэжымам"*. Штогод ЗБА ладзіла мерапрыемствы, якія выконвалі як палітычную, так і культурна-рэкрэацыйную функцыю. Заслугай ЗБА зьяўляецца распаўсюджваньне ў Аргентыне зьвестак пра Беларусь і азнаямленьне аргентынцаў са сваёй антыкамуністычнай пазыцыяй. На жаль для ЗБА, у сярэдзіне 1950-х гг. з Аргентыны ў ЗША пераехала большасьць актыўных паваенных эмігрантаў (Кастусь Мерляк, Уладзімер Другавец і іншыя). Пасьля гэтага яшчэ каля дзесяці гадоў Ф. Фамін і Мікалай Ланкевіч рэпрэзэнтавалі паваенных беларусаў, але ЗБА ліквідавала сваю канцылярыю, і яе дзейнасьць паступова спынілася.

---

[23] Рэзалюцыя ЗБА ад 26.11.1950 // Library and Archives Canada. Mikola Silvanovich Fonds. MG31-H90. Vol. 3. F. 28.

## *Эміграцыязнаўчая сэкцыя на VI Кангрэсе дасьледчыкаў Беларусі*

**_Алена Ізергіна_**
*Менск*

# УПЛЫЎ ЗЬМЕНАЎ ДЗЯРЖАЎНЫХ МЕЖАЎ НА ФАРМАВАНЬНЕ БЕЛАРУСКАЙ ЭТНІЧНАЙ СУПОЛЬНАСЬЦІ Ў ЛІТВЕ (ХХ — пач. ХХІ ст.)

Адной з найважнейшых задачаў сучаснасьці, на думку шэрагу навукоўцаў, зьяўляецца вывучэньне малых этнічных групаў, што абумоўлена зьменай ролі апошніх у жыцьці нацыянальнай радзімы й прымаючай краіны пад уплывам розных фактараў — як лякальнага, гэтак і агульнасусьветнага значэньня. Адэкватнае ўяўленьне пра рэаліі сацыякультурнага разьвіцьця дыяспары за межамі мэтраполіі, дазваляе вырашаць досыць шырокае кола пытаньняў, цесна зьвязаных з этнічным кантэкстам. Дыяспары фармуюцца ў залежнасьці ад навакольных умоваў, сярод якіх вызначальнымі зьяўляюцца сацыяльна-эканамічныя й этнапалітычныя. Вынік трансфармацыйных працэсаў у кожным выпадку можа быць індывідуальным, таму дасьледаваньні канкрэтных умоваў і спэцыфікі фармаваньня этнічных групаў дастаткова значныя.

У кірунку дасьледаваньня ўзаемаадносінаў паміж краінай-зыходу, краінай пасяленьня й дыяспарай дасьледчыкамі высоўваюцца розныя падыходы, у якіх робяцца спробы растлумачыць фэномэн сучасных дыяспараў, прычыны іх узьнікненьня. Традыцыйна пад дыяспарай разумеюць частку народу (этнічнай супольнасьці), якая пражывае па-за краінай свайго паходжаньня, мае агульныя этнічныя карані й духоўныя каштоўнасьці. Для дыяспары характэрна ўсьведамленьне сябе часткай народу, які жыве ў іншай дзяржаве, наяўнасьць ўласнай стратэгіі ўзаемаадносінаў зь дзяржавай пражываньня й гістарычнай радзімай[1]. Роджэрс Брубэкер (прафесар-сацыёляг з ЗША) вылучае адмысловую падгрупу дыяспараў — *“дыяспары катаклізму”*, якія

[1] Коваль Вольга. Кантакты беларускай і украінскай дыяспар міжваеннага перыяду [Электронны рэсурс]. Гл.: https://docviewer.yandex.by/?url=ya-serp%3A%2F%2Fpdf.kamunikat.org%2F13178-10.pdf&lang=be&c=55606669feb7.

склаліся ў сувязі з дэзінтэграцыяй і распадам буйных дзяржаўных утварэньняў і са зьменай палітычных межаў. Дыяспары катаклізму у адрозьненьне ад гістарычных і працоўных дыяспараў узьнікаюць імгненна ў выніку рэзкай зьмены палітычнага ладу, насуперак жаданьням людзей[2].

У сваёй працы *"Дыяспары катаклізму" ў Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропе і іх адносіны з радзімамі"* Роджэрс Брубэкер сьцьвярджае, што *"дыяспару катаклізму"* неабходна ахарактарызаваць як постполінацыянальную, якая ўзьнікае ў выніку дэзінтэграцыі вялікіх поліэтнічных палітычных утварэньняў — распаду Расейскай, Габсбурскай імпэрый пасьля Першай сусьветнай вайны, Савецкага Саюзу, Югаславіі й Чэхаславаччыны па завяршэньні халоднай вайны[3]. Гэта грандыёзная рэарганізацыя палітычнай прасторы паводле нацыянальнай прыкметы ўвасабляла ідэю нацыі-дзяржавы, калі межы нацыі й дзяржавы павінны супадаць. Навуковец разглядае сыстэму *"дыяспара — радзіма — прымаючая краіна"* й высоўвае ідэю, што "нацыяналізацыя" раней поліэтнічнай палітычнай прасторы стварае тры ўзаемазьвязаныя тыпы нацыяналізму. Першы тып — "нацыяналізуючы" нацыяналізм новых незалежных дзяржаваў (альбо дзяржаваў са зьмененымі межамі). Ён мае на ўвазе палітыку, якая праводзіцца ў імя "тытульнай" нацыі альбо "галоўнай" нацыі. Тытульная нацыя ўспрымаецца як законная "ўладальніца" дзяржавы, а сама дзяржава разумеецца як дзяржава гэтай нацыі й для гэтай нацыі. Аднак, нягледзячы на валоданьне "ўласнай" краінай, апошняя лічыць свае пазыцыі слабымі й таму стварае *"баявыя парадкі"*, лічачы дадзеную сытуацыю вынікам дыскрымінацыйнай палітыкі ў адносінах да сябе, якая праводзілася да атрыманьня незалежнасьці. Гэтая ўяўная дыскрымінацыя зьяўляецца апраўданьнем "кампэнсацыйнай" стратэгіі выкарыстаньня ўсёй улады дзяржавы дзеля мэтаў "галоўнай" нацыі[4].

Другі тып — нацыяналізм радзімы — арыентаваны на грамадзянаў іншых краінаў, якія ўспрымаюцца ў якасьці этнакультурна роднасных. "Радзіма" лічыць сваім правам і абавязкам сачыць за тым, як жывуць "супляменьнікі" ў іншых краінах, аказваць ім рознага кшталту дапамогу, падтрымліваць іх палітычную актыўнасьць, іх арганізацыі й інш. У цэлым — абараняць правы й інтарэсы "сваіх". Падобныя

[2] Попков, Вячеслав. Феномен этнических диаспор. Москва: ИС РАН, 2003. — 337 с.

[3] Брубекер, Роджерс. "Диаспоры катаклизма" в Центральной и Восточной Европе и их отношение с родинами // Диаспоры: Независимый научный журнал. Москва, 2000. № 3.

[4] Брубекер, Роджерс. "Диаспоры катаклизма"...

прэтэнзіі выклікаюць найбольшы рэзананс, калі “сваім” пагражае нацыяналізуючая палітыка дзяржавы, у якой яны пражываюць. Такім чынам, нацыяналізм радзімы нараджаецца ў прамой апазыцыі і ў дынамічным узаемадзеяньні з нацыяналізмам нацыяналізуючай дзяржавы. Нацыяналізуючы нацыяналізм і нацыяналізм радзімы не зьяўляюцца ўзаемавыключальнымі зьвамі[5].

Трэці тып нацыяналізму створаны самімі “дыяспарамі катаклізму”. Нацыяналістычныя памкненьні й погляды меньшасьці ўключаюць хутчэй “нацыянальныя”, чым “этнічныя” патрабаваньні да ўладаў прызнаць асобную нацыянальную группу й даць яе ўдзельнікам калектыўныя, заснаваныя на нацыянальнасьці правы — культурныя альбо палітычныя. Падобныя самаадчуваньні й адпаведныя ім палітычныя перакананьні адрозьніваюць “дыяспары катаклізму”[6].

У выніку геапалітычных падзей на працягу XX — пачатку XXI ст. палітычная карта Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы зьмянялася тройчы: пасьля Першай і Другой сусьветных войнаў і пасьля распаду Савецкага Саюзу. Сфармуляваны Роджэрсам Брубэкерам прынцып вывучэньня дыяспары стаў асновай дасьледаваньня гісторыі фармавання беларускай этнічнай групы ў Літве ў канцы XIX — пачатку XXI ст. Тэрыторыя дасьледаваньня — сучасныя межы Літоўскай дзяржавы.

На пачатку XX ст. этнічна беларускія тэрыторыі ўваходзілі ў склад адзінай дзяржавы — Расейскай імпэрыі. Другая палова XIX — пачатак XX ст. характарызуюцца ўздымам нацыянальнай самасьвядомасці беларусаў. Вільня была цэнтрам нацыянальнага жыцьця, дзе друкаваліся беларускія пэрыядычныя выданьні “Наша доля” й “Наша ніва”, “Саха”, “Biełarus”, “Гоман”, працавалі Беларускае выдавецкае таварыства, выдавецтвы “Нашай нівы”, “Загляне сонца і ў наша ваконца”, выдавецкае таварыства “Наша хата”, Беларускі музычна-драматычны гурток[7]. У 1903 г. адбыўся ўстаноўчы сход першай беларускай нацыянальнай партыі — Беларускай рэвалюцыйнай грамады[8]. Паводле зьвестак перапісу 1897 г., беларусы складалі 56 % насельніцтва Віленскай губэрні[9].

---

5 Брубекер, Роджерс. “Диаспоры катаклизма”...

6 Брубекер, Роджерс. “Диаспоры катаклизма”...

7 Філякоў, Уладзімір. Беларусь у пачатку XX ст. Культура // Гісторыя Беларусі: у 6 т. Т. 4. Беларусь у складзе Расійскай імперыі (канец XVIII – пачатак XXст). Мінск, 2007. С. 409—434.

8 Біч, Міхаіл. Станаўленне буржуазнага грамадства // Нарысы гісторыі Беларусі. Мінск, 1994. С. 303—379.

9 Виленская губерния. Первая Всеобщая Перепись населения Российской Империи. 1897 год. [Электронный ресурс]. Гл.: http://rusemp.info/perepis1897/vilno.html.

У выніку палітычных падзей 1914–1922 гг. афармілася новая карта Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы. Этнічна беларускія тэрыторыі ўвайшлі ў склад Польскай і Літоўскай рэспублік, БССР і РСФСР. Тэрыторыя сучаснай Літвы ў выніку Першай сусьветнай і польска-савецкай войнаў была падзеленая на дзьве часткі: заходнюю — утворана Літоўская рэспубліка са сталіцай у Коўне й усходнюю — Віленскае ваяводства, якое было адміністрацыйнай адзінкай ІІ Рэчы Паспалітай. Цэнтрамі беларускага жыцьця міжваеннага пэрыяду былі Вільня й Коўна. Дзяржаўная палітыка Польскай і Літоўскай рэспублік адрозьніваліся, але можна вылучыць агульныя этапы:

1. Лібэральны (актывізацыя дзейнасьці беларусаў: былі адкрыты навучальныя ўстановы, СМІ, грамадзкія й палітычныя арганізацыі) — першая палова 1920-х гг.;

2. Радыкальны (скарачэньне беларускіх навучальных установаў, СМІ, ліквідацыя грамадзкіх і палітычных аб'яднаньняў) — другая палова 1920-х — 1930-я гг.

У міжваенны пэрыяд для беларускай этнічнай супольнасьці ў Літве (у сучасным разуменьні тэрыторыі краіны) былі характэрныя тры тыпы нацыяналізму, вылучаныя Роджэрсам Брубэкерам. Так, на тэрыторыі Віленскага ваяводства "нацыяналізм" дыяспары быў рэалізаваны праз адкрыцьцё беларускіх грамадзкіх, культурных арганізацый: у 1919 г. у Вільні пачала сваю дзейнасьць Беларуская гімназія, якая заклала аснову нацыянальнай сыстэмы адукацыі ў Заходняй Беларусі, у 1921 г. былі заснаваныя Таварыства беларускай культуры й Беларускі музэй, у 1926 г. — Беларускі інстытут гаспадаркі й культуры. Дзейнічалі ў гэты час на Віленшчыне й грамадзка-палітычныя арганізацыі беларусаў: Беларускі нацыянальны камітэт, Беларуская сялянска-работніцкая грамада ды інш.[10]. Ад 1926 да 1939 г. адбываецца зьмена лібэральнага кірунку на больш радыкальны — "нацыяналізуючы" нацыяналізм — пэрыяд, калі палітыка польскай дзяржавы была накіраваная на адзіны курс унутранага жыцьця з дамінаваньнем прадстаўнікоў польскай нацыі.

Пра колькасьць беларусаў на тэрыторыі Віленшчыны даюць інфармацыю зьвесткі перапісаў 1921 і 1931 г. Так, на тэрыторыі чатырох паветаў Віленскага ваяводства (без уліку насельніцтва Сярэдняй Літвы) згодна з перапісам 1921 г. жылі 47,3 % беларусаў[11]. У 1931 г. 59,7 % насельніцтва назвалі польскую мову роднай, а сярод нацыянальныя меншасьці складалі: беларусы (22,7 %), рускія (3,4 %), габрэі

---

[10] Ціхаміраў, Аляксандр. З гісторыі беларускай дыяспары ў Літве // Дыяспара. Культуралогія. Гісторыя. Мінск, 2006. С. 30—36.

[11] Skorowidz miejscowości Rzeczypospolitej Polskiej. T. VII. Warszawa, 1923.

(8,5 %) і літоўцы (5,5 %)[12]. Зьвесткі перапісу засноўваліся на моўным і рэлігійным прынцыпах. Прадстаўнік каталіцкай канфэсіі — паляк, размаўляеш на польскай мове — паляк. Праз гэта й хібы перапісаў, бо камэнданты паліцыі называлі праваслаўных сялянаў беларусамі, а сялянаў-каталікоў — палякамі[13]. У такім выпадку рэлігійная прыналежнасьць выступала крытэрам вызначэньня этнічнай. Другі момант — чалавечы фактар, калі самі беларусы прыпісвалі сябе да палякаў, каб атрымаць ільготы, зямлю ды інш. Можна сьцьвярджаць, што большасьць "палякаў" на тэрыторыі Заходняй Беларусі — грамадзяне-беларусы.

Для другога пэрыяду былі характэрныя асыміляцыя й паланізацыя далучаных тэрыторый праз насаджэньне польскамоўных школаў, закрыцьцё навучальных установаў з беларускай мовай навучаньня. Так, на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў 1922/23 навучальным годзе было 32 беларускія школы[14]. У 1937/38 навучальным годзе ў Заходняй Беларусі дзейнічалі толькі 5 польска-беларускіх пачатковых школ, 1 беларуская гімназія, у 44 польскіх школах беларуская мова вывучалася як прадмет. У 1930-я гг. рух за беларускую школу трансфармаваўся ў культурна-асьветніцкі, дзе галоўнае месца адводзілася самаадукацыі.

Яскравай выразьніцай сьвядомасьці мясцовага насельніцтва Заходняй Беларусі была літаратура. Асноўным цэнтрам выдавецкай справы была Вільня. З 233 найменьняў беларускай пэрыёдыкі 221 выдаваліся ў Вільні [15], сярод якіх газэты "Беларуская справа"[16], "Беларуская ніва"[17], "Беларускі кліч"[18], газэта-аднадзёнка "Водклік"[19]. З 466 беларускамоўных кніг і брашур, надрукаваных у 1920—1930-я гг. у Польшчы, 98 % прыпадала на Вільню: тут разьмяшчаліся друкарні

[12] Wykaz miejscowości Rzeczypospolitej Polskiej. T. 1. Województwo Wileńskie. Warszawa, 1938.

[13] Токць, Сяргей. Беларуская вёска ў эпоху зьменаў. Другая палова XIX – першая траціна XX ст. Менск: Тэхналёгія, 2007. С. 204.

[14] Вабішчэвіч, Аляксандр. Нацыянальная школа: складанасці развіцця (1921—1939 гг.) // Назаўсёды разам: Да 60-годдзя ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР. Мінск: БелЭн, 1999. С. 60.

[15] Вабішчэвіч, Аляксандр. Духоўнае жыццё ва ўмовах паланізацыі // Гісторыя Беларусі: у 6 т. Т. 5. Беларусь у 1917—1945 гг. Мінск, 2007. С. 423—448.

[16] Літоўскі цэнтральны гістарычны архіў (далей — ЛЦГА). Ф. 51. Воп. 7. Спр. 153. Арк. 1.

[17] ЛЦГА. Ф. 51. Воп. 7. Спр. 283. Арк. 10.

[18] ЛЦГА. Ф. 51. Воп. 7. Спр. 520. Арк. 3.

[19] ЛЦГА. Ф. 51. Воп. 7. Спр. 283. Арк. 11.

й выдавецтвы, сярод якіх — Беларускае выдавецкае таварыства, выдавецтвы Ўладзіслава Знамяроўскага, Барыса Клецкіна, Таварыства беларускай школы, Беларускага інстытуту гаспадаркі й культуры, Беларускае каталіцкае выдавецтва[20], кнігарня Станіслава Станкевіча[21] ды інш.

У Літоўскай дзяржаве, паводле зьвестак перапісу 1923 г., беларусамі запісаліся 4400 асобаў (0,2 % насельніцтва). Беларускае насельніцтва канцэнтравалася ў ваколіцах Нова-Аляксандраўска і Еўя. Галоўным цэнтрам дзейнасьці беларусаў у Літве стаў Каўнас. Як і на тэрыторыі Віленскага ваяводства, "нацыяналізм" дыяспары меў сваё ўвасабленьне ў дзейнасьці грамадзкіх, адукацыйных і культурных арганізацый. У 1919—1920 гг. тут дзейнічалі Міністэрства беларускіх справаў у Літве[22], Выдавецкае таварыства імя Ф. Скарыны, выдаваліся пэрыядычныя выданьні[23], фармаваліся беларускія вайсковыя адзінкі, якія падпарадкоўваліся літоўскаму камандаваньню[24].

Значнай падзеяй стала заснаваньне ў Каўнасе ў красавіку 1923 г. Беларускага цэнтру, галоўнымі задачамі якога былі выдавецкая дзейнасьць для абслугоўваньня Заходняй Беларусі, падтрыманьне сувязяў з грамадзкімі арганізацыямі ў Заходняй Беларусі, выступленьне на міжнароднай арэне ў абарону беларускіх і літоўскіх нацыянальных інтарэсаў.

У другой палове 1920-х гг. становішча беларусаў на Літве рэзка пагоршылася. Найперш гэта стала наступствам палітыкі, якую праводзілі ў адносінах да беларусаў літоўскія ўлады. Не спрыялі літоўскія ўлады й разьвіцьцю беларускага школьніцтва на тэрыторыях, дзе кампактна пражывалі беларусы. Новая хваля ажыўленьня беларускага жыцьця — пачатак 1930-х. У 1932 г. было заснавана Беларускае культурна-асьветнае таварыства, галоўныя задачы якога — *"арганізацыя беларускай меншасці і праца над узаемным беларуска-літоўскім яднаннем"*[25]. Альтэрнатывай БКАТ стаў Беларускі цэнтар, які аднавіў сваю дзейнасьць у сталіцы Літвы 23 лютага 1933 г. і галоўнай мэтай якога было аб'яднаньне й каардынацыя дзейнасьці асобных беларусаў і беларускіх арганізацый усёй Літвы. Спрэчкі паміж рознымі структурамі зьнізілі эфэктыўнасьць дзейнасьці беларусаў у Літве. У 1935—1936 гг. практычна ўсе беларускія суполкі

[20] Вабішчэвіч, Аяксандр. Духоўнае жыццё ва ўмовах паланізацыі.

[21] Русак, Міраслава. Лявонава доля. Вільня, 2000. — 103 с.

[22] ЛЦГА. Ф. 395. Воп. 1. Спр. 1.

[23] ЛЦГА. Ф. 395. Воп. 1. Спр. 15. Арк. 15—17; Воп.1. Спр. 9.

[24] ЛЦГА. Ф. 395. Воп. 1. Спр. 5. Арк. 13.

[25] Ціхаміраў, Аляксандр. З гісторыі беларускай дыяспары ў Літве.

ў Літве спынілі сваю працу з прычыны арганізацыйных і фінансавых цяжкасьцяў.

Неабходна адзначыць, што ў міжваенны пэрыяд "нацыяналізуючы" нацыяналізм для беларусаў Літоўскай і Польскай рэспублік стаў вынікам зьнешняй палітыкі, якую праводзілі дзяржавы непасрэдна пасьля атрыманьня незалежнасьці. Урад кожнай з рэспублік разьлічваў на падтрымку беларусаў з мэтай рэалізацыі сваіх мэтаў, сярод якіх галоўнай была спрэчка за Віленшчыну. Пасьля вырашэньня гэтага пытаньня ўзаемаадносіны з прадстаўнікамі нацыянальнай меншасьці займелі іншы характар. Таксама неабходна ўлічваць, што колькасьць беларусаў на тэрыторыі Літоўскай рэспублікі была невялікая, а на тэрыторыі Віленскага ваяводзтва — значна большая, але 80 % пражывалі ў сельскай мясцовасьці. Такім чынам, у першым выпадку беларусы не маглі займаць даміноўныя пазыцыі з прычыны малалікасьці, а ў другім — праз адсутнасьць адпаведнай адукацыі й патрэбаў: галоўная праца селяніна — на зямлі, ад якой залежыць ягонае жыцьцё й дабрабыт. Рухавіком нацыянальнага жыцьця была інтэлігенцыя.

Пытаньне пра нацыяналізм радзімы ў міжваенны час мае свае адметнасьці. Неабходна вызначыць, якая зь дзяржаў на этнічна беларускіх тэрыторыях мае правы мэтраполіі. У тэрытарыяльным вызначэньні перавагу мае БССР, але яе палітычны лад і дзейнасьць не адпавядаюць статусу: кантроль з боку СССР за беларускім жыцьцём і праявамі беларускасьці ў БССР, рэпрэсіі супраць беларускай інтэлігенцыі. Калі разглядаць узаемаадносіны паміж беларусамі Заходняй Беларусі й БССР, то тут пытаньне дапамогі "радзімы" мела палітычны й ідэалягічны характар. На тэрыторыі Літвы беларусы жылі адасоблена, размова ідзе толькі пра ўзаемадзеяньне паміж беларусамі Літвы й беларускімі суполкамі сьвету.

З пачаткам Другой сусьветнай вайны спыніла сваё існаваньне ІІ Рэч Паспалітая, Заходняя Беларусь была далучаная да БССР. Беларуская мяжа перамясьцілася на захад, але ў склад БССР не былі ўключаныя этнічна беларускія тэрыторыі: паводле Дамовы аб перадачы Літоўскай рэспубліцы гораду Вільні й Віленскай вобласьці й аб узаемадапамозе паміж Савецкім Саюзам і Літвой ад 10 кастрычніка 1939 г. частка паўднёва-ўсходняй Літвы й Вільня былі перададзеныя Літве.

Падчас уваходжаньня Вільні ў склад Польшчы ў 1922—1939 гг. літоўскае насельніцтва зьменшылася тут да 0,5 %. Таму пасьля перадачы Віленскага краю Літве яе ўрад пачаў палітыку засяленьня Вільні й іншых гарадоў літоўцамі, асабліва ў выніку рэпрэсій савецкай улады ў дачыненьні да беларускай інтэлігенцыі ў самой Вільні ў верасьні — кастрычніку 1939 г. Літоўцы засялялі Вільню й іншыя гарады й

мястэчкі краю таксама пасьля ліквідацыі гітлераўскімі й літоўскімі паліцэйскімі карнымі падразьдзяленьнямі габрэяў. Такая ж палітыка засяленьня праводзілася й пасьля 1945 г. савецкім урадам Літвы[26]. Так, паводле ўспамінаў Міраславы Русак, *"...як прыйшлі саветы пачаліся рэпрэсіі. Немцы не забаранялі нічога беларускага: працавала Віленская гімназія, якая была адкрыта ў 1919 г. Апошні выпуск гімназіі — вясна 1944 г., а там прыйшла савецкая ўлада з вызваленнем Вільні ад немцаў. Забаранялі беларускае. Нашы асвабадзіцелі "асвабадзілі" ад усяго беларускага: гімназіі, касцёла, царквы, музею, друку... Наша інтэлігенцыя была абвешчана "нацыяналістамі". Змагацца за беларускасць сталася небяспечна — гэта было ўсё ройна, што падпісаць сабе прыгавор. Пачаліся арышты, бацьку [Станіслава Станкевіча. — Аўт.] пасадзілі. З саветамі прыйшло новае жыццё"*[27].

Вільня стала сталіцай Літоўскай дзяржавы, тут канцэнтраваліся адміністрацыйныя ўстановы. У савецкі пэрыяд нязначная колькасьць беларусаў перасялялася ў Вільню й іншыя гарады Літвы па вярбоўцы на новабудоўлі й г. д., асабліва з памежных раёнаў Беларусі. Так, паводле ўспамінаў Валдаса Банайціса, *"у савецкі час у Нова Вільні пачалі будаваць заводы, а хто на іх рабіў?.. прыяжджалі беларусы — на заводзе грошы можна было зарабіць. Вучыцца спэцыяльна ня нада: на месяцы месяц, другі павучаць і рабі. І ім было да беларускай культуры? Не, гэта ўчарашнія людзі, якія працавалі на зямлі. Яны прыяжджалі з мэтай зарабляць грошы, а не займацца культурай"*[28]. Ехалі працаваць і ў калгасы Літвы. Справа ў тым, што селянін у Літве меў зямельны надзел большы, чым селянін у БССР. Таму частка беларусаў пасьля вайны пераехала жыць у Літву[29].

Яшчэ адзін кірунак міграцыі беларускага насельніцтва ў Літву — адукацыйны: беларусы пераяжджалі ў Вільню дзеля атрыманьня адукацыі. Так, са словаў інфарманткі Леакадзіі Мілаш, яна прыехала навучацца ў Віленскі ўнівэрсытэт і засталася жыць у Вільні[30]. Такім чынам, беларуская этнічная група ў савецкі час у Літве складалася пераважна з карэннага насельніцтва былога Віленскага ваяводзтва.

---

[26] Грыцкевіч, Анатоль. Беларусы ў Літве [Электронны рэсурс]. Гл.: http://kamunikat.fontel.net/www/czasopisy/filamaty/09/05.htm.

[27] Архіў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору (далей — АІМЭФ). Ф. 6. Воп. 14. Спр. 226.

[28] АІМЭФ. Ф. 6. Воп. 14. Спр. 226.

[29] АІМЭФ. Ф. 6. Воп. 14. Спр. 226.

[30] АІМЭФ. Ф. 6. Воп. 14. Спр. 226.

Зьмена дзяржаўнай мяжы ў сьвядомасьці жыхара былога Віленскага ваяводзтва мела сваё адлюстраваньне й разуменьне. Мяжа, якая падзяліла Беларусь на Заходнюю і Ўсходнюю ў 1921 г., стала вызначальным фактарам ўспрыманьня беларуса ўсходняй часткі. Вось што згадвала Людвіка Кардзіс: *"Я нарадзілася 46 кіламетраў ад Вільні ў Астраўцы. У нас у сям'і гаварылі па-беларуску. Вільня ніколі не была для мяне чужым горадам, яна была ў крыві. Мінск — у нас казалі, што там жывуць рускія. Для нас Вільня была родным горадам: людзі ехалі на працу, вучыцца. Гэта было натуральным, што я вось прыехала ў Вільню й засталася"*[31].

Прыток беларусаў прывёў да павелічэньня колькасьці беларускай этнічнай групы. Так, паводле зьвестак усесаюзных перапісаў насельніцтва, у 1959 г. у Літоўскай СССР жыло 30 тысячаў беларусаў, у 1979 — 58 тысячаў[32]. Аднак павелічэньне колькасьці беларускага насельніцтва ў Літоўскай СССР не прывяло да ажыўленьня беларускага нацыянальнага жыцьця ў рэспубліцы. Прычынаў таго некалькі. Па-першае, тэрыторыі Літоўскай дзяржавы й Заходняй Беларусі з пачаткам Другой сусьветнай вайны ўвайшлі ў адзіную дзяржаву — СССР. Адна з галоўных мэтаў унутранай палітыкі гэтай дзяржавы было фармаваньне адзінай савецкай нацыі. Па-другое, працавалі мэханізмы ўплыву на насельніцтва праз сыстэму ўнутранай бясьпекі. Па-трэцяе, варта згадаць вялікую колькасьць рэпрэсаванай з прыходам савецкай улады беларускай інтэлігенцыі.

Вышэй разгледжаны пэрыяд (1945—1985 гг.) характарызуецца нацыяналізмам радзімы, у якасьці якой выступае СССР. Паміж саюзнымі рэспублікамі — Літоўскай ССР і Беларускай ССР — існавалі эканамічныя, культурныя сувязі, але па-за ўвагай засталіся нацыянальныя працэсы, становішча этнічных меншасьцяў.

Новая хваля этнічнай мабілізацыі беларусаў у Літве — другая палова 1980-х — зьвязаная з палітыкай перабудовы. У БССР, як і ва ўсім Савецкім Саюзе, пачалі заўважацца пэўныя прыкметы лібэралізацыі й дэструкцыі савецкага грамадзтва. Сталі ўзьнікаць першыя беларускія культурна-асьветныя арганізіцыі. У 1988 г. у Вільні быў арганізаваны клюб аматараў беларускай народнай творчасьці "Сябрына"[33], Таварыства беларускай культуры[34].

Са спыненьнем існаваньня Савецкага Саюзу мяжа паміж дзьвюма незалежнымі краінамі стала важным аспэктам у жыцьці

[31]АІМЭФ. Ф. 6. Воп. 14. Спр. 226.

[32]Ціхаміраў, Аляксандр. З гісторыі беларускай дыяспары ў Літве.

[33] АІМЭФ. Ф. 6. Воп. 14. Спр. 226.

[34] АІМЭФ. Ф. 6. Воп. 14. Спр. 226.

беларусаў у Літве. У савецкі час мяжа існавала, але не было патрэбы вырашаць дакумэнтавыя пытаньні, каб выехаць у Літву. З атрыманьнем незалежнасьці адміністрацыйная мяжа паміж былымі савецкімі рэспублікамі ператварылася ў паўнавартасную мяжу паміж незалежнымі дзяржавамі. На самаадчуваньне суродзічаў, іх зносіны з бацькаўшчынай стаў уплываць візавы рэжым паміж Літвой і Беларусьсю, уведзены з сакавіка 1994 г. З улікам наяўнасьці ў Літве этнічных беларусаў для пэўных іх катэгорый былі зробленыя выключэньні, прадстаўленыя ільготы. З 1994 г. дзейнічае спрошчаны парадак (па пропусках) перасячэньня дзяржаўнай мяжы жыхарамі памежных тэрыторый, але ў той самы час існуюць і нявырашаныя пытаньні[35].

Пасьля абвяшчэньня незалежнасьці Літвы й Беларусі, распаду СССР, становішча беларускай дыяспары ў Літве істотна зьмянілася. Пачаўся працэс вяртаньня беларусаў на бацькаўшчыну, але разам з тым не перапыніўся й выезд іх у Літву. У 1992—1999 гг. у Беларусь прыехала больш за 13,4 тысячы чалавек, а выбыла ў Літву больш за 3 тысячы беларусаў.

У 1989 г., паводле зьвестак перапісу, у Літве жыло 63 тысячы беларусаў. За 12 гадоў колькасьць беларусаў зьменшылася: паводле зьвестак Літоўскага статыстычнага дэпартамэнту, на тэрыторыі Літоўскай дзяржавы ў 2001 г. жыло 42 866 беларусаў[36].

Пасьля абвяшчэньня незалежнасьці Літвы большасьць беларусаў, якія стала жывуць у гэтай дзяржаве, прынялі яе грамадзянства, а пэўная колькасьць атрымала грамадзянства беларускае. Істотна іншы маштаб набыў у гэты час нацыяналізм дыяспары — гуртаваньне суродзічаў, выяўленьне й рэалізацыя іх нацыянальных памкненьняў. Беларуская грамада выразна заявіла ўладам і грамадзкасьці пра свае нацыянальныя патрэбы, неабходнасьць адраджэньня культурнай і гістарычнай спадчыны беларусаў на Віленшчыне: у Вільні з 1993 г. дзейнічае Беларуская гімназія імя Францыска Скарыны, Таварыства беларускай мовы. На факультэце славістыкі Віленскага пэдагагічнага ўнівэрсытэту — катэдра беларускай мовы, літаратуры й этнакультуры. З 1991 г. беларускія мастакі ў Вільні ўдзельнічаюць у выставах Аб'яднаньня беларускіх мастакоў краінаў Балтыі "Маю гонар". З 1997 г. выдаецца газэта "Рунь"[37]. У 2001 г. была зарэгістраваная грамадзкая арганізацыя "Віленскі беларускі музэй імя Івана Луцкевіча" —

[35] Ціхаміраў, Аляксандр. З гісторыі беларускай дыяспары ў Літве [Электронны рэсурс]. Гл.: http://www.portalus.ru/modules/belarus/rus_readme.php?subaction=showfull&id=1142176623&archive=&start_&ucat=&.

[36] Статистика Литвы. Литовский Департамент статистики [Электронный ресурс]. Гл.: http://www.stat.gov.lt/uploads/docs/2002_11_07.pdf.

[37] АІМЭФ. Ф. 6. Воп. 14. Спр. 226.

прадаўжальніца традыцый былога Віленскага беларускага музэю[38].

На сучасным этапе важнае значэньне мае заканадаўчая база кожнай з краінаў — Літвы й Беларусі. У 1989 г. Вярхоўны Савет Літоўскай рэспублікі прыняў Закон аб нацыянальных меншасьцях, дапоўнены ў 1991, 2014 гг.[39]. Ад 2000 г. працуе ратыфікаваная Сеймам Літоўскай дзяржавы Рамачная канвэнцыя Савету Эўропы аб абароне правоў нацыянальных меншасьцяў[40]. У Беларускай дзяржаве правы суайчыннікаў замежжа былі замацаваныя пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 31.05.1993 № 354 *"Об одобрении Государственной программы "Белорусы в мире" и мерах по ее выполнению"*[41]. У 2014 г. быў зацьверджаны Закон аб беларусах замежжа[42].

Паміж Літвой і Рэспублікай Беларусь падпісаны шэраг пагадненьняў, якія сьцьвярджаюць этнічную, культурную й моўную самабытнасьць нацыянальных супольнасьцяў, іх права свабодна выяўляць гэтую самабытнасьць без якой-небудзь дыскрымінацыі й ва ўмовах поўнай роўнасьці перад законам. Так, у кастрычніку 1991 г. была падпісаная Дэкларацыі аб прынцыпах добрасуседзкіх адносінаў зь Літоўскай Рэспублікай, Дагавор аб добрасуседзтве й супрацоўніцтве паміж Рэспублікай Беларусь і Літоўскай Рэспублікай (падпісаны 6 лютага 1995 г.). Дзяржавы ўзялі на сябе абавязак устрымліваецца ад дзеяньняў, якія могуць выклікаць прымусовую асыміляцыю. Беларусь і Літва падпісалі міжурадавыя пагадненьні аб абароне правоў беларускіх грамадзянаў у Літве й літоўскіх — у Беларусі (1997).

На сучасным этапе адным з пытаньняў нацыяналізму радзімы зьяўляецца адсутнасьць сфармаванай сыстэмы трансгранічных адносінаў і руху рэсурсных патокаў. Дадзены тып узаемадачыненьняў у постсавецкіх краінах толькі наладжваецца пасьля перапынку,

[38] Віленскі Музэй. Беларускі інфармацыйны цэнтар [Электронны рэсурс]. Гл.: http://vilnia.com/museum/default.asp?newsId=18.

[39] Фонд поддержки и защиты прав соотечественников, проживающих за рубежом [Электронный ресурс]. Гл.: http://pravfond.ru/?action=view&id=1740&module=news.

[40] Рамочная конвенция о защите национальных меньшинств [Электронный ресурс]. Гл.: http://conventions.coe.int/Treaty/rus/Treaties/Html/157.htm.

[41] Постановление Совета Министров Республики Беларусь от 31.05.1993 № 354 "Об одобрении Государственной программы «Белорусы в мире» и мерах по ее выполнению" [Электронный ресурс]. Гл.: http://www.levonevski.net/pravo/norm2013/num69/d69448.html.

[42] Закон Республики Беларусь от 16 июня 2014 года №162-З О белорусах зарубежья. [Электронный ресурс]. Гл.: http://base.spinform.ru/show_doc.fwx?rgn=69864.

зьвязанага з распадам СССР. У доўгатэрміновай пэрспэктыве ад надзейнасьці такіх сацыяльна-эканамічных кантактаў будзе залежаць ступень і форма арыентацыі суайчыньнікаў на Беларусь у вырашэньні сваіх праблемаў, ступень іх інтэграцыі з радзімай.

Такім чынам, у выніку геапалітычных зьменаў на мапе Эўропы на працягу XX ст. беларусы ператварыліся з карэнных жыхароў Віленшчыны ў нацыянальную меншасьць Літоўскай дзяржавы. Палітыка Польскай, Літоўскай, Савецкай дзяржаваў, пад уплывам якіх знаходзілася беларуская этнічная група, была скіраваная на інтэграцыю й асыміляцыю беларускага насельніцтва. Уздым беларускага жыцьця на сучасным этапе ў Літоўскай Рэспубліцы зьвязаны з пачаткам перабудовы. Для разьвіцьця беларускіх цэнтраў у Літве важнае значэнне мае стабільная грамадзка-палітычная й культурная сытуацыя ў Беларусі, дзяржаўная зацікаўленасьць у захаваньні этнічных асаблівасьцяў беларусаў. Этнанацыянальныя ідэалёгіі, захаваньне распрацоўкі творчай элітай вобразаў мінулага спрыяюць кансалідацыі беларускай супольнасьці й фармаваньню этнічнай ідэнтычнасьці розных узроўняў.

## *Эміграцыязнаўчая сэкцыя на VI Кангрэсе дасьледчыкаў Беларусі*

**_Натальля Гардзіенка_**
*Менск*

# АПОШНЯЯ ХВАЛЯ ЭМІГРАЦЫІ Ў КАНАДУ: КОЛЬКАСНЫЯ Й ЯКАСНЫЯ ХАРАКТАРЫСТЫКІ

На пачатку верасьня 2016 г. у Атаве адбылася чарговая Сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі. У гэтым горадзе яна праходзіла ўпершыню й была адметная адлюстраваньнем тае значнае актыўнасьці, якую сёньня выяўляюць канадыйскія беларусы. Так, у гэтай краіне ўжо цягам больш як 10 гадоў дзейнічае гурт "Яваровыя людзі", які актыўна выступае на беларускіх і шматкультурных мерапрыемствах, рэгулярна выходзіць інтэрнэт-часопіс "Культура. Нацыя" (нядаўна пабачыў сьвет ужо 15-ы выпуск), працягваюць сваю дзейнасьць Згуртаваньне беларусаў Канады, БІНіМ у Канадзе, Рэлігійна-грамадзкі цэнтар у Таронта з парафіяй Сьв. Кірылы Тураўскага. Пры гэтым як у новых арганізацыях, так і ў старых пераважную большасьць удзельнікаў і кіраўніцтва складаюць беларусы, што прыехалі ў Канаду цягам апошніх 25 гадоў — г. зн. апошняй хвалі эміграцыі. Хто яны? Колькі іх? Чаму выехалі ў Канаду й як адаптаваліся да новага жыцьця? На такія пытаньні паспрабуем адказаць, выкарыстоўваючы і канадыйскія статыстычныя зьвесткі, і інтэрв'ю з прадстаўнікамі гэтай хвалі эміграцыі, запісаныя ў 2011 г.

Пачнём з вызначэньня храналёгіі й адметнасьцяў статыстыкі. Апошняя хваля выездаў зь Беларусі на Захад, як вядома, была зьвязаная з працэсам развалу СССР і адмены абмежаваньняў на свабодны выезд ды пачалася ў 1990 г. Аднак канадыйская іміграцыйная статыстыка стала фіксаваць беларусаў асобна ад іншых эмігрантаў з СССР толькі ад 1992 г. Таму колькасныя характарыстыкі першых гадоў эміграцыі беларусаў у Канаду падаць немагчыма.

Можна толькі канстатаваць, што нашыя суайчыньнікі ўваходзілі ў лік 2819 народжаных у СССР, якія прыбылі ў краіну ў 1990 г.[1]. Што праўда, прадстаўнікі Літвы, Латвіі, Эстоніі ўлічваліся ў канадыйскай

[1] Тут і далей выкарыстаны зьвесткі афіцыйнай статыстыкі Дэпартамэнту па грамадзянстве й іміграцыі Канады, зьмешчаныя на сайце: http://www.cic.gc.ca/english/resources/statistics/.

**Табліца 1[2]. Нараджэнцы Беларусі,
што прыбылі на сталае жыхарства ў Канаду ў 1992—1996 гг.**

| Год | Разам | Мужчыны | Жанчыны | Зь іх ва ўзросьце (гады) | | | | | | | | | | | | Зь іх у Антарыё | Зь іх у Квэбэк |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | да 20 | | 20—29 | | 30—39 | | 40—49 | | 50—59 | | звыш 60 | | | |
| | | | | м | ж | м | ж | м | ж | м | ж | м | ж | м | ж | | |
| **1992** | 16 | 5 | 11 | 2 | 2 | 0 | 1 | 1 | 3 | 1 | 2 | 1 | 3 | 1 | 1 | 8 | 3 |
| **Заўвагі** | 1 – Ньюфаўндлэнд, 2 – Манітоба, 1 – Альбэрта, 1 – Брыт. Калюмбія | | | | | | | | | | | | | | | | |
| **1993** | 45 | 20 | 25 | 5 | 6 | 3 | 6 | 4 | 1 | 0 | 3 | 1 | 2 | 7 | 7 | 37 | 3 |
| **Заўвагі** | 1 – Ньюфаўндлэнд, 2 – Альбэрта, 2 – Брыт. Калюмбія | | | | | | | | | | | | | | | | |
| **1994** | 114 | 59 | 55 | 16 | 14 | 11 | 4 | 13 | 14 | 7 | 7 | 4 | 7 | 8 | 10 | 90 | 11 |
| | 10 – Альбэрта, 8 – Брыт. Калюмбія | | | | | | | | | | | | | | | | |
| **1995** | 146 | 70 | 76 | 22 | 19 | 5 | 8 | 25 | 26 | 11 | 9 | 3 | 3 | 4 | 11 | 118 | 7 |
| **Заўвагі** | 1 – Ньюфаўндлэнд, 7 – Альбэрта, 13 – Брыт. Калюмбія | | | | | | | | | | | | | | | | |
| **1996** | 182 | 101 | 81 | 36 | 29 | 13 | 12 | 22 | 21 | 22 | 11 | 2 | 2 | 4 | 6 | 114 | 38 |
| **Заўвагі** | 3 – Манітоба, 6 – Саскачавань. 11 – Альбэрта, 10 – Брыт. Калюмбія | | | | | | | | | | | | | | | | |
| **Разам** | **503** | **255** | **248** | **81** | **70** | **32** | **31** | **65** | **64** | **41** | **32** | **11** | **17** | 24 | 35 | **367** | **62** |

[2] Табліца заснаваная на зьвестках са штогадовых справаздачаў Дэпартамэнту па грамадзянстве й іміграцыі Канады: Citizenship and Immigration Canada. Immigration Statistics. 1992, 1993, 1994, 1995, 1996.

статыстыцы асобна ўжо тады. Варта адзначыць, што савецкі напрамак іміграцыі сур'ёзна саступаў колькасна ганконгскаму (23 134 чал.), польскаму (16 536 чал.), кітайскаму (14 193 чал.), ліванскаму (12 974 чал.), філіпінскаму (12 590 чал.), індыйскаму (12 572 чал.), вьетнамскаму (9175 чал.), партугальскаму (7740 чал.), сальвадорскаму (4375 чал.), іранскаму (3975 чал.), тайваньскаму (3549 чал.), шрыланкійскаму (3430 чал.), румынскаму (2968 чал.) напрамкам. Усяго ў Канаду ў 1990 г. прыехалі 214 230 чалавек.

У 1991 г. колькасьць народжаных у СССР, што прыехалі ў Канаду, склала 2419 чалавек (зноў за выключэньнем прадстаўнікоў балтыйскіх рэспублік) з агульнай лічбы ў 230 781 імігрант.

Ад 1992 г. можна больш дакладна прасачыць колькасьць беларусаў, якія атрымоўвалі статус пастаяннага рэзыдэнта ў Канадзе. Праўда, канадыйская іміграцыйная статыстыка даволі няроўная. Калі ў 1992—1996 гг. падаваліся дэталёвыя зьвесткі пра пола-ўзроставыя характарыстыкі імігрантаў зь Беларусі, а таксама месцы, куды яны прыяжджалі ў Канадзе, то ад другой паловы 1990-х гг. можна знайсьці толькі агульную колькасьць прыбылых нараджэнцаў Беларусі.

Калі агулам ахарактарызаваць беларусаў, што прыбывалі ў Канаду цягам 1992—1996 гг. (503 чалавекі, гл. табліцу 1), то можна заўважыць, што колькасьць імігрантаў штогод павялічвалася ад 16 (1992) да 182 (1996). Пры гэтым жанчын і мужчынаў сярод іх прыкладна роўная колькасьць, а паводле веку дамінуюць асобы працаздольнага ўзросту (ад 20 да 50 гадоў) пры даволі значнай і групе дзяцей ды падлеткаў да 20 гадоў. Пераважная большасьць прыбылых пасялялася ў правінцыі Антарыё, на другім месцы — Квэбэк, на трэцім — Брытанская Калюмбія.

Статыстыку за 1997—1998 гг. знайсьці не ўдалося, што ж датычыць далейшага пэрыяду, 1999—2015 гг., то можна сказаць, што на 1999—2008 гг. прыпадае найбольш актыўны час эміграцыі беларусаў у Канаду, калі прыехалі 5171 чалавек (гл. табліцу 2[3]).

Табліца 2

| **Год** | **Прыехала беларусаў** |
|---|---|
| 1999 | 450 |
| 2000 | 550 |
| 2001 | 476 |
| 2002 | 453 |
| 2003 | 468 |
| 2004 | 598 |
| 2005 | 643 |
| 2006 | 441 |
| 2007 | 581 |
| 2008 | 511 |
| 2009 | 454 |
| 2010 | 427 |
| 2011 | 357 |
| 2012 | 277 |
| 2013 | 247 |
| 2014 | 175 |
| 2015 | 214 |
| | **7322** |

[3] Табліца 2 заснавана на зьвестках штогадовых справаздачаў Дэпартамэнту па грамадзянстве й іміграцыі Канады, апублікаваных на сайце: www.cic.gc.ca/english/resources/statistics/index.asp.

Штогод у сярэднім у Канадзе сталае жыхарства атрымоўвалі каля 520 беларусаў.

Далей, да 2014 г., ішоў спад эміграцыі нашых суайчыньнікаў у Канаду — ад 454 чалавек ў 2009 г. да 175 чалавек ў 2014 г.

Паводле перапісу 2006 г., у Канадзе зафіксавана 7270 беларусаў, з іх прыбылых да 1991 г. — 1330 чалавек, найбольш — 2685 чалавек у 2001—2006 гг., 2405 — у 1996—2000 гг., 845 — у 1991—1995 гг.

Такім чынам, на сёньня ў Канадзе жыве больш за 10 тысяч беларусаў, пераважная большасьць якіх прыехалі пасьля 1996 г. Сярод іх можна вылучыць некалькі важных (заўважных) прафэсійна-статусных групаў: 1) спэцыялісты ў галіне інфармацыйных тэхналёгій (IT); 2) мэдыкі; 3) гуманітарыі; 4) бабулі для догляду ўнукаў.

Першая група найбольш бачная ў Атаве, куды ад пачатку 1990-х гг. актыўна запрашалі на працу беларускіх праграмістаў. На мяжы 1990—2000-х гг. выяжджалі колішнія выпускнікі Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту інфарматыкі й радыёэлектронікі ледзь ня цэлымі групамі. Праз адносна невялікі час гэтыя людзі знаходзілі прыстойную працу ў канадыйскіх кампаніях і далучаліся да мясцовай “сярэдняе клясы”.

Мэдыкаў сярод беларускіх эмігрантаў у Канадзе ня так шмат. Каб працаваць тут па спэцыяльнасьці, неабходна пацьвярджаць дыплём, што займае даволі шмат часу й сілаў. Таму даволі часта беларускія мэдыкі працуюць на ніжэйшых мэдычных пасадах, у якасьці малодшага пэрсаналу ў шпіталях (паводле сьведчаньняў Пётры Мурзёнка).

Складана ўладкоўвацца ў Канадзе гуманітарыям, якім даводзіцца цалкам зьмяняць сфэру сваёй прафэсійнай дзейнасьці, часта пагаджацца на малакваліфікаваную працу. Часам нават атрыманьне новай гуманітарнай адукацыі не гарантуе эмігранту працаўладкаваньня па спэцыяльнасьці (выпадак Ірыны Лысенкі).

Цікавую групу складаюць “беларускія бабулі” — жанчыны пэнсійнага веку, якія прыяжджаюць у Канаду дамапагчы сваім дзецям у справе гадаваньня іх дзяцей. Як правіла, гэтыя жанчыны найскладаней адаптуюцца да мясцовага жыцьця.

Прадстаўнікі ўсіх згаданых катэгорый прысутнічаюць у грамадах Таронта й Атавы — двух найбуйнейшых сучасных беларускіх асяродкаў Канады. Запісаныя ў сакавіку — красавіку 2011 г. у гэтых гарадах інтэрв’ю дазваляюць зразумець матывацыю беларускіх імігрантаў, іх уяўленьні пра сябе, адлюстроўваюць вопыт адаптацыі.

У аповедах канадыйскіх беларусаў можна знайсьці наступныя варыянты матывацыі эміграцыі:

1) наступствы аварыі на Чарнобыльскай АЭС й клопат пра дзяцей;
2) цяжкая эканамічная сытуацыя ў Беларусі;

3) палітычныя працэсы пасьля 1994 г. і асабліва 1996 г.;
4) жаданьне зьменаў у жыцьці.

Пры гэтым палітычная сытуацыя згадваецца найчасьцей з усіх згаданых матываў.

Выкладчыца філфаку БДУ Ірына Лысенка, прыкладам, казала пра зьмяну атмасфэры на працы: *“Нам адмаўлялі ў магчымасьці гаварыць тое, што мы хацелі гаварыць, стала вельмі цяжка. Мы ведалі, што на лекцыях сярод студэнтаў прысутнічаюць тыя, хто будзе пісаць даносы, нас папярэджвалі. У маім выпадку было такое: ці прыняць тое, што навязвалася, або ўсё кінуць і пачаць з чыстага ліста”*[4]. Спэцыяліст IT Уладзімер Панчанка, кажучы, што ад палітыкі ён быў далёкі, тым ня менш зазначаў: *“После событий 1994 года появились первые мысли, а потом, когда товарищ переписал дважды Конституцию под себя, стало понятно, что это надолго, возможно, на всю мою жизнь, и вопрос решился сам собой. Так что этому человеку я должен быть благодарен, иначе в Канаде я мог бы не оказаться. […] Мне было противно, что отвратительный, малообразованный человек учит нас, и меня в частности, жить. Чисто на личном уровне чувствовал себя униженным, что, нечаянно включая телевидение или радио, я должен слушать весь этот бред”*[5]. Доктар мэдычных навук Пётра Мурзёнак казаў: *“…беларускае адраджэньне скончылася не пачаўшыся, пачаліся захады па славянізацыі, гэтыя рэфэрэндумы прайшлі. Жудасна ўсё гэта было бачыць і чуць на найвышэйшым узроўні. Агідна”*[6] і г. д.

Што праўда, шмат у каго з імігрантаў прысутнічае амаль што ўвесь спэктар згаданых матываў. Найчасьцей кажуць пра комплекс прычынаў.

Асабліва варта патлумачыць апошні пункт. Сярод эмігрантаў сустракаюцца тыя, хто ў Беларусі ня меў эканамічных складанасьцяў, асабліва не цікавіўся палітыкай, але на пэўным жыцьцёвым этапе адчуў або прыкрую прадвызначанасьць будучыні на бацькаўшчыне, або простае жаданьне выпрабаваць сябе ў новых абставінах, рэзка зьмяніць сваё жыцьцё. Для ілюстрацыі можна падаць прыклад Надзеі Дробінай (хоць ён і не адзіны): *“Толік [муж] яшчэ зь дзяцінства быў захоплены Канадай. Ён начытаўся кніжак і марыў туды трапіць. […] …у нас была не эканамічная эміграцыя, і не палітычная, у нас была эміграцыя рамантычная. Вось і прыехалі два рамантыкі зь дзіцём сюды, у Канаду, краіну мары”*[7].

---

[4] Інтэрв’ю з Ірынай Лысенкай. Атава, сакавік 2011 г.

[5] Інтэрв’ю з Уладзімерам Панчанкам. Атава, сакавік 2011 г.

[6] Інтэрв’ю з Пётрам Мурзёнкам. Атава, сакавік 2011 г.

[7] Інтэрв’ю з Надзеяй Дробінай. Таронта, красавік 2010 г.

Канада як краіна іміграцыі прываблівала беларусаў, па-першае, магчымасьцямі легальнай прафэсійнай эміграцыі. Штогод тут вызначаецца сьпіс спэцыялістаў, якія патрэбныя эканоміцы, і адпаведныя кандыдаты атрымоўваюць права на сталае жыцьцё й працу ў краіне. Зразумела, што ёсьць і тыя, што едуць са статусам уцекача або скарыстоўваючы сямейныя сувязі. Пры гэтым у Канадзе даволі добрыя сацыяльныя гарантыі для эмігрантаў: прыстойныя выплаты па беспрацоўі, што дазваляюць утрымоўваць сям'ю ў працэсе пошуку працы цягам нават колькіх гадоў, бясплатнае мэдычнае абслугоўваньне, бясплатныя моўныя курсы й інш.

Даволі тыпова выглядае тлумачэньне выбару Канады Ірынай Панчанкай: "*На тот момент это была единственная страна, которая давала возможность выехать для независимой профессиональной эмиграции. И мы прошли интервью, аттестацию, и это было самое простое средство для нас, поскольку мы не видели, как мы могли бы остаться в Европе. Конечно, если бы мы имели такую возможность, мы бы выбрали Европу. Но у нас такой возможности не было, не было средств. Канада была более лояльна, давала большие возможности для выезда профессионалов. Мы принадлежали к позициям того списка специальностей, которые требуются в Канаде. Поэтому и была Канада*"[8].

Пасьля прыезду ў Канаду беларусы сутыкаліся з рознымі складанасьцямі. Найбольшая — пошук працы. Гэты працэс мог займаць ад некалькіх месяцаў да некалькіх гадоў. Асабліва складана, як правіла, гуманітарыям. Пры гэтым усе імігранты адзначаюць добразычлівае стаўленьне канадыйцаў да новапрыбылых.

У адказ і стаўленьне беларусаў да Канады вельмі станоўчае. Часам падкрэсьліваючы разуменьне, што паўсюль ёсьць свае складанасьці, часам наракаючы на павольную канадыйскую бюракратыю, тым ня менш эмігранты выказваюць задавальненьне з свайго жыцьця ў Канадзе. На пытаньне, што ім дала Канада, большасьць найперш называюць пачуцьцё свабоды. Уладзімер Панчанка сфармуляваў гэта так: "*Что дает канадское гражданство? В первую очередь это быть спокойным независимым человеком. С белорусским гражданством я чувствовал, что я все время кому-то что-то должен. И любая мелкая белорусская власть, начиная от ЖЭКа и выше давали, мне знать, что я что-то должен. Здесь я никому ничего не должен с этим канадским паспортом, я ощущаю себя очень свободным и одновременно никому совершенно не нужным человеком. И это то, что мне нужно. Это чувство свободы и полного к тебе безразличия. Если ты заплатил налоги, что мы честно делаем, больше*

[8] Інтэрв'ю з Ірынай Панчанкай. Атава, сакавік 2010 г.

*никому до тебя дела нет"*[9]. Міхаіл Рыкаў, таксама спэцыяліст IT, вызначыў даволі паэтычна: *"Гражданство дает свободу, возможность поехать куда хочешь. И хоть я не практикую свою свободу, мне нравится знать, что я имею такую возможность. Я не отказался и от белорусского гражданства. Но если отказаться и поехать в Беларусь с канадским только паспортом, то оно дает еще и безопасность"*[10]. Таксама сярод плюсаў эміграцыі ў Канаду часам называюць каштоўны вопыт талерантнасьці, годны ўзровень жыцьця.

Прыбылыя ў краіну беларусы далёка не заўсёды далучаюцца да беларускіх арганізацый. Пётра Мурзёнак сьведчыць: *"У Атаве жыве каля тысячы беларусаў, большасьць іх занятыя ў кампутарнай галіне. Да нас на імпрэзы прыходзіць каля 70. Гэта пераважна эміграцыя 1997—2000-х гадоў. З ранейшых толькі Івонка Сурвіла. Былі некалькі чалавек з эміграцыі пачатку 1990-х, якія тады прыехалі на стажыроўку й тут засталіся. Але яны зусім савецкія людзі. Яны не жылі ў незалежнай Беларусі. Для іх важныя бярозкі, Ала Пугачова... Яны да нас ня ходзяць, бо не разумеюць"*[11].

Эміграцыя рэдка зьмяняе самасьвядомасьць, ідэнтычнасьць чалавека. Нават выехаўшы з палітычных матываў рускамоўны праграміст не ператворыцца ў імгненьне вока ў новай краіне ў беларускамоўнага актыўнага ўдзельніка грамады. Асобныя прыклады ёсьць, але яны, хутчэй, выключэньне. Як правіла, людзі прывозяць у эміграцыю ўвесь свой багаж каштоўнасных арыентацый.

Праграмісты зь беларускага асяродку ў Атаве, прыкладам, трымаюцца разам яшчэ старымі менскімі сувязямі, наведваюць беларускія мерапрыемствы таму, што ў іх асяродзьдзі апынуліся некалькі тых самых нацыянальна сьвядомых "рухавікоў", тых, хто яшчэ ў Беларусі цікавіўся беларушчынай. Адзін з удзельнікаў асяродку гаворыць: *"Я выбираю круг общения, который мне нравится. Так как на эти мероприятия ходят люди, общением с которыми я дорожу, я там бывал. Если бы оно называлось не белорусское собрание, а как-то по-другому, я бы всё равно туда ходил"*[12].

У Таронта, дзе крыху іншы склад грамады, пунктам прыцягненьня традыцыйна была царква, а цяпер для новых эмігрантаў — найперш і найбольш гурт "Яваровыя людзі" (пад кіраўніцтвам Віялеты Кавалёвай) зь ягонай папулярызацыяй традыцыйнай беларускай культуры.

[9] Інтэрв'ю з Уладзімерам Панчанкам.

[10] Інтэрв'ю з Міхаілам Рыкавым. Атава, сакавік 2011 г.

[11] Інтэрв'ю з Пётрам Мурзёнкам.

[12] Інтэрв'ю з Уладзімерам Панчанкам.

Палітычная матывацыя эміграцыі адгукаецца ў сьвяткаваньнях 25 Сакавіка й час ад часу дэманстрацыях пратэсту перад амбасадаю, аднак асноўны характар дзейнасьці беларускіх арганізацый у Канадзе ў першую чаргу культурніцкі.

На сёньня можна канстатаваць, што ў беларускай дыяспары ў Канадзе цягам апошніх 20 гадоў мела месца поўная зьмена пакаленьняў, што і абумовіла цяперашнюю актыўнасьць грамадаў. Аднак гэтая зьмена адбылася не за кошт натуральнага працэсу замяшчэньня бацькоў дзецьмі (дзеці беларусаў папярэдняй (паваеннай) хвалі эміграцыі не прыйшлі ў нацыянальныя арганізацыі), а за кошт новай хвалі эміграцыі з ўжо сувэрэннай Беларусі. Прадстаўнікі гэтай хвалі маюць зусім іншы досьвед, іншыя характарыстыкі самасьвядомасці, што ў вялікай ступені прадвызначае характар дзейнасьці сучасных беларускіх асяродкаў у Канадзе.

# 90-Я ЎГОДКІ ЯНКІ ЗАПРУДНІКА Й ВІТАЎТА КІПЕЛЯ

У 2016—2017 гг. у Беларусі і ў ЗША адзначаліся 90-я ўгодкі двух найбольш аўтарытэтных беларускіх дзеячаў на Захадзе, доўгагадовых лідараў Беларускага інстытуту навукі й мастацтва Янкі Запрудніка й Вітаўта Кіпеля.



Янка Запруднік. 2016 г.



Вітаўт Кіпель. 2016 г.

Да юбілею гісторыка, журналіста, грамадзкага дзеяча Янкі Запрудніка пабачыла сьвет заснаваная на ягоным эпісталярным архіве кніга Натальлі Гардзіенкі й Лявона Юрэвіча "Кантакты: Сіла прыцягненьня Бацькаўшчыны". Прэзэнтацыя гэтага выданьня ў Менску ў чэрвені 2016 г. з удзелам юбіляра сабрала больш за сотню ўдзельнікаў і стала вялікай культурнай падзеяй у жыцьці беларускай сталіцы й прыцягнула да сябе значную ўвагу СМІ. А непасрэдна да дня народзінаў Янкі Запрудніка ў Беларускім дзяржаўным архіве-музэі

літаратуры й мастацтва адчынілася выстава “Зь вераю, што сыйдуцца дарогі”. Яе аснову склалі дакумэнты з асабістага фонду юбіляра. Адмыслова адзначаліся ўгодкі Янкі Запрудніка і ў нью-джэрзійскім Саўт-Рывэры.

Да 90-годзьдзя доўгагадовага дырэктара БІНіМу, дасьледчыка гісторыі беларускай эміграцыі Вітаўта Кіпеля ў 2017 г. пабачыла сьвет другое, значна пашыранае й дапоўненае выданьне ягонай працы “Беларусы ў ЗША”. Юбілей быў адзначаны ў Нью-Ёрку прэзэнтацыяй кнігі й адмысловай вечарынай, а ў Беларусі — віртуальнай выставай на сайце БДАМЛМ, а таксама шэрагам публікацый інтэрв’ю зь дзеячам. Крыху пазьней, у часе 7-га зьезду беларусаў сьвету была арганізаваная вялікая выстава “Зора і Вітаўт” (да 90-х угодкаў беларускіх дзеячаў у ЗША Зоры і Вітаўта Кіпеляў) у галерэі “Ўнівэрсытэт культуры”, заснаваная на сямейным фондзе Кіпеляў, што захоўваецца ў БДАМЛМ. Выстава, у адкрыцьці якой удзельнічала дачка юбіляра Алеся Кіпель, стала значнай падзеяй і шырока асьвятлялася ў СМІ, у тым ліку па тэлебачаньні.

Рэдакцыя “Запісаў БІНіМ” далучаецца да ўсіх выказаных юбілярам у часе сьвяткаваньняў пажаданьняў і зычыць сапраўдным зубрам беларускага жыцьця на Захадзе здароўя й доўгіх гадоў далейшай плённай працы на ніве беларушчыны.

*Рэдкалегія*

***Угодкі***
*Да 135-годзьдзя Янкі Купалы*

**Вітаўт Кіпель**
*Хаўарт (Нью-Джэрзі)*

# ЗАЎВАГІ АБ ЭНЦЫКЛЯПЭДЫЧНЫМ ДАВЕДНІКУ ПРА ЯНКУ КУПАЛУ[1]

*Блізу год мінуў ад выхаду Энцыкляпэдычнага даведніка аб Янку Купалу[2]. За гэты час зьявіліся ў друку цімала рэцэнзіяў ды камэнтароў. У васноўным гэта дадатныя камэнтары, аднак ёсьць у даведніку мясьціны памылковыя ды ёсьць цімала прост невыбачальных для выданьня гэтага профілю пропускаў. З заўвагамі аб кнізе "Янка Купала — Энцыкляпэдычны Даведнік" — Вітаўт Зубкоўскі.*

Найперш аб адным важным пропуску, бясспрэчна, зробленым сумысьля. Падаючы даведку аб анталёгіі Купалавага вершу "А хто там ідзе?" на мовах сьвету, не адзначана, што выданьне 1983 г. — гэта ўжо другое выданьне анталёгіі[3]. Звычайна ў энцыкляпэдыях гэткага памеру падаецца заўсёды першае выданьне кожнае кніжкі. Аднак пра першае выданьне анталёгіі выдаўцом і рэдактарам купалаўскае энцыкляпэдыі пісаць не выпадала, бо-ж першае выданьне 1982 г. было поўнасьцю сканфіскаванае дзеля наступнае прычыны. У тым першым выданьні анталёгіі "А хто там ідзе" на мовах сьвету" за беларускім арыгіналам вершу ўсе іншыя пераклады былі разьмешчаныя ў альфабэтным парадку паводля мовы. Расейская мова ў тым першым выданьні стаяла там, дзе ёй і належыцца — пад літарай "р". Аднак у новым выданьні анталёгіі расейскую мову ўжо перастаўвілі: пераклад у расейскую мову адразу ішоў за беларускім арыгіналам, а толькі па гэтым іншыя мовы разьмяшчаліся ў альфабэтным парадку. Гэтак на прыкладзе анталёгіі "А хто там ідзе" на мовах сьвету" было выразна даведзена, што расейская мова — упрывілеяваная і месца ёй не ў

---

[1] Гэта тэкст перадачы для Беларускай рэдакцыі Радыё Свабоды, якая гучала ў 1987 г.

[2] Маецца на ўвазе выданьне: Янка Купала: энцыклапедычны даведнік / рэдакцыйная калегія: І. П. Шамякін (галоўны рэдактар) і інш. Мінск: БелСЭ, 1986. — 727 с.

[3] Маецца на ўвазе выданьне: Купала, Янка. А хто там ідзе?: На мовах свету / укл.: В. Рагойшы, Я. Раманоўскай. Мінск: Мастацкая літаратура, 1983. 159 с.

альфабэтным парадку, а на самым перадзе. Гэтага ў энцыкляпэдыі Купаліяны ня кажацца!

А цяпер аб колькіх недакладнасьцях ды пропусках. У даведніку ёсьць колькі большых артыкулаў аб творчасьці Янкі Купалы і іншамоўных літаратурах: ангілійская літаратура і Янка Купала, грузінская літаратура і Янка Купала і г. д. У артыкуле аб сувязі Купалы з ангельскай літаратураю ёсьць важная недакладнасьць. Там напісана, што *"ўпяршыню на англійскай мове яго паэзія загучала ў 1939 г., калі газэта "Moscow News" (25.12.39) зьмясьціла верш аб Сталіну-сейбіту"*. Гэта няпраўда. Упершыню ў ангельскую мову быў перакладзены верш Купалы "А хто там ідзе" ды выдрукаваны гэты пераклад быў у 1933 г. у англамоўным часопісе "Агляд Савецкае культуры", які, дарэчы, выходзіў у Маскве. А ў 1934 г. быў таксама ў Маскве выдрукаваны яшчэ адзін пераклад у ангельскую мову таго-ж Купалавага вершу ў часапісе "Літаратура народаў СССР". Наагул-жа ў ангельскай мове пра Янку Купалу напісана куды болей артыкулаў, аналізаў ягонае творчасьці, як гэта згадана ў даведніку.

Сьледам за Купалаведай у ангельскай мове чытач спадзяваўся-б знайсьці таксама артыкул "Гішпанская літаратура і Янка Купала". Аднак гэткага артыкулу ў даведніку няма. А ў гішпанамоўнай літаратуры Купала ведамы. Перш-наперш у шмат якіх гішпанамоўных бібліятэках ёсьць Купалава брашура "Культурны прагрэс народаў СССР", якая, дарэчы, згадваецца ў артыкуле аб ангельскай літаратуры. Гэтая брашура была перакладзеная і ў ангельскую, і ў гішпанскую мовы. Гішпанамоўная была выдрукаваная ў Мэксыцы ў 1940 г. Ёсьць у гішпанскай мове таксама Купалавы пераклады.

Няма ў даведніку і артыкулу "Італьянская літаратура і Янка Купала". А гэта вялікае ўпушчэньне, бо Купалавы вершы, пачынаючы ад перакладу 1923 г. "А хто там ідзе?", перакладаюцца стала. Гэтаксама першы большы артыкул аб паэце ў італьянскай мове быў напісаны сусьветна ведамым італійскім славістам, знаўцам славянскіх літаратураў Этарэ Ла Гата ў 1938 г. Шмат месца прысьвяціў творчасьці Купалы італьянскі прафэсар Джузэпэ Мэсіна. Наагул-жа ў італьянскай мове выдрукавана шмат цікавых матар'ялаў аб Янку Купалу.

Зусім незразумелы таксама факт, што няма артыкулу "Француская літаратура і Янка Купала", бо ў францускай мове артыкулы аб ім і пераклады ягоных вершаў — сталая зьява ад канца 1920-х — пачатку 1930-х гг.

Тое, што ня ўлучаныя ў энцыкляпэдычны даведнік творы беларускіх эміграцыйных літаратараў, можна вытлумачыць загадам зьверху, не зважаючы на палітыку галоснасьці, аднак тое, што ня ўлучаныя артыкулы, пераклады і дасьледваньні заходніх літаратараў, дык прост незразумела ды надзвычай шкодна.

# ДА ЎГОДКАЎ СТАНІСЛАВА СТАНКЕВІЧА

**Станіслаў Станкевіч** *(23.02.1907, в. Арляняты Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Смаргонскі раён Гарадзенскай вобл. — 06.11.1980, Нью-Ёрк, ЗША), грамадзка-культурны дзеяч, літаратуразнаўца, публіцыст, крытык, выдавец. Вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі. У 1933 г. закончыў гуманістычны факультэт Віленскага ўнівэрсытэту. У 1936 г. абараніў доктарскую дысэртацыю “Беларускія элементы ў польскай рамантычнай паэзіі”. Браў актыўны ўдзел у працы Беларускага студэнцкага саюзу, рэдагаваў часопіс “Студэнцкая думка”. У 1937—1938 гг. стажыраваўся ў навучальных установах Югаславіі й Баўгарыі. У 1939—1941 гг. — выкладчык у Наваградзкай пэдагагічнай вучэльні. У 1941—1943 гг. быў бурмістрам Барысава, у 1944 г. — намесьнікам Прэзыдэнта БЦР на Баранавіцкую акругу. Дэлегат Другога Ўсебеларускага кангрэсу. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1944 — пачатку 1945 г. у Нямеччыне рэдагаваў бэрлінскую газэту “Раніца”. Быў актыўным прыхільнікам аднаўленьня Рады БНР. Ад 1947 г. — радны БНР. У 1948—1962 гг. — рэдактар газэты “Бацькаўшчына” (Мюнхен). Заснавальнік філіі БІНіМу ў Заходняй Нямеччыне. Быў навуковым сакратаром Інстытуту вывучэньня СССР у Мюнхене. У 1963 г. выехаў у ЗША. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, у тым ліку ў 1963—1965 гг. — старшынём арганізацыі. Супрацоўнік Радыё “Свабода”. У 1963—1980 гг. рэдагаваў газэту “Беларус” (Нью-Ёрк). Аўтар шэрагу навуковых літаратуразнаўчых прац, сотняў публікацый. Пахаваны ў Іст-Брансьвіку на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.*



Станіслаў Станкевіч

## Лісты Станіслава Станкевіча

Мюнхэн, 16.2.1956

Дарагі Антось[1]!

Твой ліст з 2.2.56 прыпадкова праляжаў у Розэнгайме[2], пакуль сяньня мне яго прывезьлі ў Мюнхэн. Гэта таму, што я на апошні *"віікэнд"* у сувязі з побытам тут Абрамчыка[3], ня езьдзіў у Розэнгайм. А той перадапошні Твой ліст зь лістамі да Зоргенфрэя[4], Запрудніка[5] й Тэадаровіч[6], ясна, прапаў. Унізе падаю і на канвэрце адрас маёй мюнхэнскай "гасподы", куды ў далейшым і шлі. У Розэнгаймаўскі лягер часта прыходзяць лісты з ЗША з далярамі ў сярэдзіне, дык, здаецца, паштальёны нярэдка іх адмыкаюць, а адамкнуўшы, нішчаць. Цяпер да справы па парадку: 1. справа твайго кіраўніцтва груповаю тэмаю хіба ўжо Табе ведамая, бо Зоргенфрэй пісаў Табе аб гэтым. Праваліласся! Вельмі прыкра, але і я адзін ў полі ня воін. Паднаготная гэтай справы надта-ж паскудная, якую тут між намі Табе вылажу: на праекце пазбыцца Цябе ад кіраўніцтва тэмай і пераняцьце яго Стыпэндыяльнай Калегіяй зацята настойваў Вакуленка. Зоргенфрэй заняў становішча нэўтральнае, заявіўшы, што калі мае гэта быць запраўднае *"руководство"*, у чым ён не сумляваецца, дык аплату завысокай ня бачыць. Але й не настойваў! І тут усю справу папсаваў скнара Фрэдэрыксэн[7], які трасецца за кажны грош, а мо і ў надзеі, што тэма гэта зусім праваліцца, бо ён яе вельмі баіцца. Вакуленка-ж кіраваўся наступнымі матывамі: спасярод звычайных сяброў Рады (не сяброў прэзыдыюму)

---

[1] Ліст адрасаваны Антону Адамовічу.

[2] **Розэнгайм** (ням. *Rosenheim*) — горад у Баварыі, на паўднёвы захад ад Мюнхену, дзе ў чэрвені 1949 г. — жніўні 1950 г. дзейнічаў беларускі лягер *DP*, а пазьней некаторы час жыў Станіслаў Станкевіч.

[3] Маецца на ўвазе Прэзыдэнт БНР Мікола Абрамчык.

[4] Відаць, маецца на ўвазе **Аляксей Зоргенфрэй** (рас. *Алексей Густавович Зоргенфрей*, 1895—1957), пэдагог, літаратуразнаўца, прафэсар. Ад 1954 г. працаваў у мюнхенскім Інстытуце вывучэньня СССР, быў намесьнікам старшыні навуковай рады, кіраўніком аддзелу стыпэндый, рэдактарам часопісу "Studzies on the Soviet Union" і старшынём камісіі па правядзеньні навуковых канфэрэнцый.

[5] Янка Запруднік на той час жыў у Мюнхене, працаваў у Беларускай рэдакцыі Радыё "Вызваленьне" й газэце "Бацькаўшчына".

[6] Надзея Тэадаровіч-Абрамава працавала ў той час у Інстытуце ввывучэньня СССР у Мюнхене.

[7] **Олівер Фрэдэрыксэн**, амэрыканскі прафэсар, які быў навуковым кансультантам у Мюнхенскім інстытуце.

ён толькі адзін платны. Тут крывяцца, што старшынства Стыпэндыяльнай Калегіі ня ёсьць поўнай нагрузкай. Ну дык каб сябе поўнасьцю нагрузіць, кіруючы гэтай тэмай, ён і пайшоў на гэта сьвінства. Але будзь пэўны, гэта горка адрыгнецца калі не на ім асабіста, дык на Ўкраінцах. Ужо я аб гэтым пастараюся. Цяпер адразу-ж і якнайскарэй паведамі мне аб адным: возьмешся апрацоўваць беларускі разьдзел тэмы, як гэта Табе прапануюць, ці не. Гэта мне патрэбна вось на што: Паланевіч[8] злажыў заяву на стыпэндыяльную працу "Інбелкульт — Беларуская Акадэмія Навук". І хоць яшчэ не прыслаў цяперашняй стыпэндыяльнай працы (скажы, каб слаў "Люфтпост"[9]), дык адразу хай шле, бо на красавік – чэрвень ужо стыпэндыі падзялілі, апошняе зацьверджаньне іх у самым пачатку сакавіка, дык яго яшчэ змагу здаецца прапхнуць. 2. Рэзюмэ шлі адразу хоць у ваднэй расейскай мове, але, пажадана, у двух эгзэмплярах, каб адразу можна было перакладаць на некалькі моваў. Прасіў беларускага тэксту таму, што наш ангельскі перакладнік лепш знае па-беларуску, чымся па-расейску. Набор Тваёй працы[10] ўжо поўнасьцю скончаны, у наступным тыдні будзе зломлены і адразу-ж будзем друкаваць. У пачатку сакавіка атрымаеш першыя эгз. кнігі. А кніга салідная: трохі больш за 10 друкаваных аркушаў фармату нашых зборнікаў. Цяпер адна сугэстыя: ці ня варта расшыфравацца і пад Н. Недасекам даць унізе ў дужках Ант[она] Адамовіча або наадварот? Я-б на Тваім месцы зрабіў-бы гэтак. 3. Мерцалаў[11] узапраўды гне салідарыстаўскую лінію. Гэта-ж ён разваліў плянаваную тут на красавік канфэрэнцыю, аб чым я Табе пісаў. 4. Што Зоргенфрэй знае ангельскую мову, я першы раз даведваюся цяпер ад Цябе. Паўтара году зь ім разам працую, а пра гэта нічога ня ведаў. Ня ведалі пра яго знаёмасьць ангельскай мовы і іншыя

---

[8] **Гіпаліт Паланевіч** (1907—1997) жыў у Нью-Ёрку. Працаваў бібліятэкарам. Быў адным са стваральнікаў газэты "Беларус" разам зь Міколам Кунцэвічам. Сябра Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, уваходзіў ва ўправу Нью-Ёркскага аддзелу арганізацыі.

[9] ***Luftpost*** (ням.) — авіяпошта.

[10] Маецца на ўвазе праца: Недасек, Н. Большевизм в революционном движении Белоруссии. Введение в историю большевизма в Белоруссии. Мюнхен: Институт по изучению СССР, 1956. — 151 с.-

[11] **Уладзімер Мярцалаў** (рас. *Владимир Сергеевич Мерцалов*, 1901—1960), расейскі навуковец і грамадзскі дзеяч, сябра *Народно-трудового союза*. У сярэдзіне 1950-х гг. быў другім (пасьля Барыса Якаўлева) дырэктарам Інстытуту вывучэньня СССР у Мюнхене. Аўтар прац "*Закрепощенное хозяйство: сельскохозяйственная политика КПСС*" (Мюнхен, 1958), "*Советское колхозное сельское хозяйство*" (Bad Homburg, 1952), "*Проблема животноводства в СССР*" (Мюнхен, 1956), "*Biographic directory of the USSR*" (New York, 1958).

працаўнікі Інстытуту, якія тут даўжэй, чымся я. 5. Цяпер справа сучаснай беларускай савецкай літаратуры: а. што тычыцца *"лякальнага калярыту"* ці *"рэгіяналізму"*, дык на падставе ведамых мне твораў яго фактычна няма. У некаторых аўтараў, як Пасьлядовіч[12] (раман "У добры час"), які сам паходзіць з Добрускага павету Гомельшчыны, разьвівае акцыю раману на гэтай-жа тэрыторыі, а таксама Янка Брыль разьвівае акцыю свайго раману "У добры час"[13] у Наваградчыне і толькі. Дык гэта-ж, брат толькі вонкавы рэгіяналізм, фактычна ніякі. б. што-ж датычыцца поўрэалізму ці дэсоцрэалізму, дык я яго ніяк нідзе не заўважыў, затое гіпэр-соцрэалізм ці, як Ты называеш, псэўдарэалізм — пануючая зьява: ува ўсіх чатырох маладых празаікаў (Мележ, Шамякін, Пасьлядовіч, Брыль) усе *"положительные герои"* — гэта зусім нерэальныя тыпы: жаўнеры толькі й бачаць сваё шчасьце ў тым, каб папасьці на найбольш небясьпечны адрэзак фронту, калгасьнікі толькі й мрояць аб тым, каб як найбольш зьнізіць свае працадні на кошт *"непадзельнага фонду"*, маладыя жанчыны толькі й рвуцца да найцяжэйшай працы, якую цяжка выконваць нават мужчынам, жонка выдае партызанам мужа, які супрацоўнічае зь Немцамі, прасяклая савецкім патрыятызмам старуха дае прыклад патрыятызму й граміць за гэта свайго інтэлігэнтнага сына і г. д., ня кажучы ўжо аб такой красачцы, калі ў "Пяюць жаваранкі" Крапівы матка багаславіць дачку з нарачоным... іконай-партрэтам Сталіна. Вось падобнымі тыпамі й сцэнамі перасыпаная ўся сягоньняшняя творчасьць. І толькі бясспрэчныя таленты чатырох успомненых маладых празаікаў робяць іхныя творы ўсё-ж у многім цікавыя. 6. Справа гадавіны "Нашай Нівы", "Узвышша" Тваіх нарысаў аб гэтым і пад., дык я дзіўлюся, што Ты мяне пытаеш, што з гэтага мне адказвае. Здаецца, ня было выпадку, каб я чагось Твайго не зьмясьціў, затое былі выпадкі, што Ты абяцанага ня выконваў. Што-ж датычыцца зборнічкаў Пушчы ды Дубоўкі[14], дык трэба сьпяшацца: хутка скончу "У палескай глушы"[15] (наступныя часткі гэтай трылёгіі зь ведамых прычын друкавацца ня будуць), і калі да таго часу нічога ад Вас ня будзе, займу падвал нечым іншым і таксама вялікім. Пра "Ўзвышша" ў сувязі з гадавінай патрэбна было-б даць

[12] **Макар Пасьлядовіч** (1906—1984), пісьменьнік і перакладчык.

[13] Відавочная памылка ў Станкевіча.

[14] У 1956 г. у газэце Бацькаўшчына былі апублікаваныя некалькі вершаў Язэпа Пушчы (№ 24 (306). 10 чырвеня 1956. С. 3—4) і Ўладзімера Дубоўкі (№ 25—26 (307—308). 24 чырвеня 1956. С. 5). Аднак да выданьня зборнікаў паэтаў справа не дайшла.

[15] "У палескай глушы" Якуба Коласа публікавалася ў газэце "Бацькаўшчына" ад кастрычніка 1955 да канца траўня 1956 г., а ў 1957 г. выйшла ў выдавецтве "Бацькаўшчына" асобнай кнігай.

добры артыкул у “Беларускі Зборнік”[16]. Але ці-ж хто з Вас яго напіша і калі? Гэта трэба хутка! А мо Гуткоўскі[17]? Ня выключана, што ягоны артыкул пойдзе й на чацьвёртай мове: Інстытут выдае калектыўны ўсіх нацыянальнасьцяў зборнік для Немцаў па-нямецку, і я запрапанаваў гэты артыкул. 7. Адказы на анкеты нашага Зборніка надзвычайна сымпатычныя. Ужо атрымана каля 60 штук: пасьля першых 30 штук тут зь цікавейшых зрабілі фотакопіі й перасьлалі др. Пэннару[18]. Сяньня зрабілі такія фотакопіі і з 30 наступных. Ты іх там можаш пабачыць. Той адзіны “нэгатыўны” адказ фактычна быў нэгатыўным у тым сэньсе, што адзін ангельскі прафэсар напісаў: паколькі хтось займаецца Савецкім Саюзам як цэласьцю, патолькі немагчыма яму цікавіцца яго складовымі часткамі. Але ўчора прыйшоў і другі нэгатыўны адказ: наш сьв. айцец Аляксандр Крыт[19] напісаў, што ўважае Зборнік за бескарысны, бо ў ім няма нічога аб рэлігіі й сьвятынях... Ужо поўнасьцю набраная кніга другая Зборніка па-ангельску і ў палавіне сакавіка будзе гатовая. Але, здаецца, будзе і апошняя.

Ну, думаю, хопіць. Дык бывай здароў! Усе мы вітаем усіх Вас і жадаем Вам усяго найлепшага!

Твой Ст. Станкевіч.

*Dr. Stanislau Stankevic*
*(13b) Munchen 25*
*Daiserstr. 47/111*
*bei Stawinski*

---

[16] **“Беларускі зборнік”** — альманах, які выдаваўся беларускі аддзелам Інстытуту вывучэньня СССР у Мюнхене пад рэдакцыяй Станіслава Станкевіча ў 1950—1960 гг. Частка матэрыялаў у перакладзе на ангельскую мову перадрукоўвалася ў *“Belorussian Review”*. Пабачылі свет 12 выпускаў.

[17] **Язэп Гуткоўскі** (сапр. **Ізыдар Плашчынскі**, 1908—1986), грамадзкі дзеяч, публіцыст, малодшы брат Язэпа Пушчы. Жыў у ЗША, у Нью-Ёрку. У 1950-я гг. друкаваўся на старонках выданьняў мюнхенскага Инстытуту вывучэньня СССР, быў пазаштатным аўтарам Беларускай рэдакцыі Радыё “Вызваленьне”.

[18] **Якаў Пэннар** быў сябрам навуковай рады й прадстаўніком мюнхенскага Инстытуту пры Камітэце Радыё “Вызваленьне / Свабода” ў Нью-Ёрку.

[19] **Аляксандар Крыт** (царк. **Андрэй**, 1901—1983), рэлігійны й грамадзкі дзеяч. Ад 1960 г. быў у Кліўлендзе (ЗША). У 1968 г. быў рукапакладзены ў сан япіскапа БАПЦ, а ў 1972 г. стаў першаярархам БАПЦ.

Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва
Аддзел у Мюнхэне

Munchen 13
Adalbertstr. 38/0
Tel. 34-27-98
bei W. Bortnik

18 жнівеня 1962 г.

Сп. Павал Урбан
Мюнхэн 13
Шлясгаймэрштр. 171

Вельмі Паважаны Спадар Урбан!

Ліст Ваш з 68.8.62 атрымаў, за які вялікі дзякуй. Гэтта перасылаю апошнія карэктарскія адбіткі артыкулаў М[іколы] Куліковіча й С[ымона] Кабыша[20]. Артыкул Куліковіча я пасылаў самому аўтару, які й удакладніў выкінутую ў Друкарні зноску на бач. 227. Такім чынам адбітку гэтага артыкулу можна адразу-ж перадаваць у Друкарню, дзе, пасьля выпраўленьня адзначаных памылак і праверкі гэтых паправак Вамі, можна друкаваць. Затое артыкул Кабыша трэба спачатку паказаць самому аўтару. У ім на бачыне 260 паміж радкамі 7 і 8 зьверху апушчаны адзін радок. Значыцца, аўтар павінен яго аднавіць, і толькі тады можна даваць друкаваць. Як мне пісаў сп. Бабкоў, сп. Кабыш выехаў на адпачынак нейдзе ў Шварцвальд, дык гэтую папраўку, відаць, ён зможа зрабіць толькі пасьля свайго павароту ў Мюнхэн. Затое артыкул Куліковіча можна даваць адразу.

Вы нічога ня пішаце, як справа з рэгістрацыяй БІНІМу, з чаго можна судзіць, што яшчэ ў гэтым кірунку нічога ня зроблена. Як будзе нешта новае, вельмі прашу паведаміць мне аб гэтым. Тут нічога новага. Летняе зацішша, як заўсёды, ды як і ў Вас у Мюнхэне. Адно часьць публікі ўжо зьбіраецца да падарожжа ў Канаду на 5-ю сустрэчу Беларусаў Паўночнай Амэрыкі ў Таронта[21]. Мне запрапанавалі на сустрэчы зрабіць галоўны даклад на тэму “Расейскі каляніялізм у Беларусі і Купала й Колас як носьбіты беларускіх вызвольных, а не камуністычных ідэяў”. Сфармуляваньне тэмы, як бачыце, ідыёцкае, але яе фармулявалі там у Таронта, а я мушу прыстасоўвацца. Гэты даклад спачатку меўся мець др. Жук-Грышкевіч[22], але нядаўна ён меў

[20] **Сымон Кабыш** (да эмігр. **Кандыбовіч**, 1890—1971), грамадзкі дзеяч, гісторык, які жыў у Мюнхене. Ад 1954 г. працаваў у Беларускай рэдакцыі Радыё “Вызваленьне / Свабода”, а ад 1963 г. — у Інстытуце вывучэньня СССР у Мюнхене. Дасьледаваў пытаньні эканамічнай гісторыі.

[21] Пятая Сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі адбывалася ў Таронта 1—3 верасьня 1962 г.

[22] Маецца на ўвазе Вінцэнт Жук-Грышкевіч.

цяжкі і небясьпечны атак сэрца, што палажылі на даўжэйшы час у шпіталь, і лекар забараніў ня толькі чытаць і пісаць, але нават сядзець. Дык [Кастусь] Акула, а ўчора Барыс Рагуля тэлефанічна зьвярнуліся да мяне, каб я замяніў яго. Я згадзіўся. Усё гэта робіцца пакуль што ў сакрэце, каб не даведаўся Мярляк[23] і не нарабіў афронтаў. Ён мае быць прадстаўлены перад дакананым фактам. Я тут із Адамовічам і Запруднікам прыгатаўляем таксама і тэкст праекту рэзалюцыі, якая мае быць прынятая на гэным зьезьдзе.

На гэтым канчаю й жадаю Вам усяго найлепшага! Прывітаньні Вашай жонцы ад усіх нас.

З пашанаю Ст. Станкевіч.

Нью Ёрк, 19 жніўня 1974 г.

Д-ру Вітаўту Тумашу як сталаму супрацоўніку газэты "Беларус" для інфармацыі

27 ліпеня сёлета я зьвярнуўся да старшыні Галоўнай Управы БАЗА д-ра Р[асьціслава] Гарошкі[24], старшыні Галоўнай Управы ЗБК К[астуся] Акулы й старшыні Кліўлендзкага Аддзелу БАЗА Я[нкі] Раковіча[25] як арганізатараў і гаспадароў 11-ай Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі зь лістом наступнага зьместу:

*"У часе Акадэміі на Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі сёлета ў Кліўлендзе ветліва прашу даць мне слова на вельмі важную, актуальную й зьвязаную з 25-мі ўгодкамі БАЗА й ЗБК тэму: "Роля беларускага друку ў жыцьці й дзейнасьці беларускае эміграцыі". Гэтая мая прамова заняла-б часу ня больш, як 15 мінут або й менш"*.

У вадказ на гэта я атрымаў афіцыйны ліст пакуль што толькі ад старшыні Галоўнай Управы БАЗА, копія якога пры гэтым залучаецца. Як відаць з гэтага ліста, д-р Р[асьціслаў] Гарошка адказаў на маю прэсьбу адмоўна сам адзін, не чакаючы на думку двух астатніх арганізатараў і гаспадароў Сустрэчы, якім пераслаў адно да ведама копіі свайго адмоўнага ліста да мяне. Таму ўважаю справу гэтую

[23] **Кастусь Мерляк** (1919—2006) у 1959—1964 гг. быў старшынём Галоўнай управы Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня.

[24] **Расьціслаў Гарошка** (нар. 1938 (?)), грамадзкі дзеяч, сын Міколы Гарошкі. Жыў у ЗША. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня. У 1960-я гг. быў у кіраўніцтве Нью-Ёркскага аддзелу, а ў 1971—1975 гг. — старшынём Галоўнай управы БАЗА. Быў сябрам рэдкалегіі газэты "Беларус". У 1975 г. выйшаў з арганізацыі й пачаў выдаваць газэту "Беларускі час" (*Byelorussian Time*).

[25] **Янка Раковіч** (1923—?), грамадзкі дзеяч. Ад 1950 г. жыў у Кліўлендзе (ЗША). Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, уваходзіў у Галоўную ўправу арганізацыі й кіраўніцтва яе Кліўлендзкага аддзелу.

яшчэ не разьвязанай, бо яшчэ маюць у ёй голас сп. К[астусь] Акула і сп. Я[нка] Раковіч.

Апрача сваёй адмовы даць мне слова на Акадэміі (Банкецe) Сустрэчы, д-р Гарошка як старшыня Галоўнай Управы БАЗА ў згаданым да мяне лісьце заявіў:

*"Аднак-жа ў сувязі са зьменай ідэялягічнага кірунку газэты "Беларус", які зусім не адказвае патрэбам Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, на другі дзень Сустрэчы было-б вельмі пажадана прадыскутаваць справу далейшай Вашай працы як Рэдактара "Беларуса""*.

Уважаю, што д-р Р[асьціслаў] Гарошка, хоць і старшыня Галоўнай Управы БАЗА, ня мог гэтак далёка ўзурпаваць свае правы й сам адзін афіцыйна ад імя БАЗА сьцьвярджаць, што газэта "Беларус" зьмяніла свой ідэалягічны кірунак, які *"зусім не адказвае патрэбам БАЗА"*. У гэткай важнай і прынцыповай справе маглі-б выдаць сваю апінію Галоўная Управа БАЗА, а не адзін ейны старшыня, і Ўправы Аддзелаў БАЗА, ня кажучы ўжо пра звычайных сяброў БАЗА.

У сувязі з гэтым я й зьвяртаюся да Сяброў Галоўнай Управы БАЗА й да Ўправаў Аддзелаў БАЗА зь ветлівай просьбай абмеркаваць гэтае пытаньне на сваіх паседжаньнях, а яшчэ лепш на шырэйшых сходах сяброў Аддзелаў БАЗА й сьцьвердзіць, ці ідэалягічны кірунак газэты "Беларус" узапраўды *"зусім не адказвае патрэбам БАЗА"*. Паколькі старшыня Галоўнай Управы БАЗА д-р Р[асьціслаў] Гарошка пытаньне гэтае вырашыў сам адзін за ўсіх, а ягоны бацька інж. М[ікола] Гарошка самым апошнім часам інтэнсыўна ўзмоцніў у гэткім-жа духу ведзеную ім і раней кампанію супраць газэты "Беларус", апінія Галоўнай Управы БАЗА і Аддзелаў БАЗА ў гэтай справе вельмі патрэбная як для БАЗА, гэтак і для Рэдакцыйнае Калегіі газэты "Беларус".

Асабліва несамавітая прапанова старшыні Галоўнай Управы БАЗА д-ра Р[асьціслава] Гарошкі, каб на другі дзень Сустрэчы прадыскутаваць справу далейшай маёй працы як Рэдактара "Беларуса". Таму хачу прыпомніць, што на 12-м Кангрэсе БАЗА 28 травеня 1967 году ў Нью Брансьвіку быў вялізарнай бальшынёй галасоў прыняты "Нутраны Рэгулямін Рэдакцыйнай Калегіі газэты Беларус", які ў пытаньнях газэты й да сяньня зьяўляецца законам і для БАЗА, і для Рэдакцыйнай Калегіі газэты "Беларус". Паводля гэтага "Рэгуляміну", газэта "Беларус" зьяўляецца аўтаномнай адзінкай у сыстэме БАЗА й падпарадкаваная беспасярэдне Кангрэсу БАЗА, які вызначае (выбірае) ейнага Галоўнага Рэдактара й старшыню Рэдакцыйнае Калегіі ўваднэй асобе і ўсіх іншых сяброў Рэдакцыйнае Калегіі.

З глыбокаю пашанаю, Д-р Станіслаў Станкевіч, Старшыня Рэдакцыйнае Калегіі й Галоўны Рэдактар газэты "Беларус".

*Падрыхтоўка да друку Лявона Юрэвіча й Натальлі Гардзіенкі*

***Сяргей Гірык***
*Кіеў*

# НЕВЯДОМАЯ ПРАЦА РЫГОРА (ЦВІ) ФРЫДЛЯНДА АБ ЛЕВЫМ ПААЛЕЙ-ЦЫЯНІЗЬМЕ Ў БЕЛАРУСІ

Постаць народжанага ў Менску Рыгора (Цві) Фрыдлянда добра вядомая дасьледчыкам. На пачатку рэвалюцыйных падзей ён быў адным з лідараў парткаму Габрэйскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі (Паалей-Цыён) у Санкт-Пецярбургу, дзе ад 1913 г. вучыўся на юрыдычным факульцеце Псыханэўралягічнага інстытуту, а таксама працаваў дэлегатам ад сваёй палітычнай сілы ў Петраградзкім савеце рабочых і салдацкіх дэпутатаў.

Адзначым, што альма-матар Фрыдлянда — створаны ў 1907 г. Псыханэўралягічны інстытут (цяпер Санкт-Пецярбурскі навукова-дасьледчы псыханэўралягічны інстытут імя У. Бехцерава) — не была спэцыялізаванай мэдычнай навучальнай установай. У яе складзе побач з мэдычным і зоавэтэрынарным дзейнічалі таксама юрыдычны й пэдагагічны факультэты. Дзякуючы гэтаму ўжо ў 1916 г. інстытут атрымаў статус прыватнага ўнівэрсытэту, а ў 1918 г. быў рэарганізаваны ў Другі Петраградзкі ўнівэрсытэт. У Псыханэўралягічным інстытуце ня дзейнічала адсоткавая норма, што стварала дадатковыя магчымасьці для навучаньня там габрэяў. Гэтая ўстанова была вядомая як свайго кшталту "вольная акадэмія": у яе залях неаднойчы праводзіліся выступленьні літаратараў-футурыстаў і дыспуты з іх удзелам, якія былі немагчымыя ў шмат якіх іншых месцах[1]. Цікава, што аднachасова з Фрыдляндам у Псыханэўралягічным інстутуце вучыўся й вядомы ў будучыні ўкраінскі паэт-футурыст Міхайль Семянко. Сярод студэнтаў гэтай установы супрацьурадавыя настроі былі нашмат мацнейшыя, чым у іншых навучальных установах сталіцы Расейскай імпэрыі, што стала прычынай для разгляду на ўзроўні кабінэту міністраў і асабіста імпэратара пытаньня аб яго закрыцьці ў 1912—1914 гг.[2].

---

[1] Гл. згадкі пра гэтыя мерапрыемствы ў: Лившиц, Б. Полутораглазый стрелец. Ленинград: Издательство писателей в Ленинграде, 1933. С. 177.

[2] Никифоров, Анатолий. Бехтерев. Москва: Молодая гвардия, 1988. С. 211—213, 217—219.

На пачатку 1919 г. Рыгор Фрыдлянд ужо знаходзіўся ў Беларусі. У гэтыя месяцы сярод сябраў тутэйшых арганізацый ГСДРП(ПЦ) зрабіліся заўважнымі кардынальныя разыходжаньні ў паглядах на будучыню габрэйскай часткі насельніцтва гэтых земляў (у арганізацыях ГСДРП(ПЦ) на Ўкраіне гэты раскол быў бачны яшчэ больш). Прадстаўнікі правай плыні апынуліся на непадкантрольнай чырвоным тэрыторыі. У сваю чаргу, большасьць ячэек партыі на землях, занятых савецкімі войскамі, заявіла аб сваёй ляяльнасьці да савецкай улады. Гэта зрабіла магчымым іх удзел у саветах. Фрыдлянд як адзін зь лідараў Паалей-Цыёну на беларускіх землях увайшоў у склад Цэнтральнага выканаўчага камітэту саветаў Літоўска-Беларускай ССР.

У канцы лета 1919 г. адбыўся другі раскол у паалей-цыяніσцкім руху ў Беларусі і Ўкраіне. 10—15 жніўня ў Гомелі адбывалася Гомельская канфэрэнцыя камуністаў “Паалей-Цыён”, пасьля якой у верасьні таго ж году арганізацыйна аформілася Габрэйская камуністычная партыя (Паалей-Цыён)[3]. Рыгор Фрыдлянд стаў сябрам яе Цэнтральнага камітэту й працаваў у Менску. У партыйных дакумэнтах ён вядомы як таварыш Цві. Астатнія арганізацыі ГСДРП(ПЦ) у БССР, УССР і РСФСР дзейнічалі пад старой назвай да 1923 г., пасьля чаго гэтая палітычная група была перайменаваная ў Габрэйскую камуністычную рабочую партыю (Паалей-Цыён)[4]. У верасьні 1919 г. абедзьве гэтыя партыі падалі заяўкі аб уваходжаньні ў Камуністычны інтэрнацыянал, аднак атрымалі адмову без тлумачэньня прычынаў[5].

Цягам 1919–1921 гг. адбывалася паступовая эвалюцыя ГКП(ПЦ). На пачатку 1920 г. яе галоўны камітэт ва Ўкраіне[6] цягам кароткага часу моцна зьблізіўся з Украінскай камуністычнай партыяй (барацьбістаў) — найбольшай нацыянал-камуністычнай партыяй ва Ўкраіне[7]. Аднак пасьля таго, як у красавіку 1920 г. апошняя была

---

[3] Шолом. Гомельская конференция // Накануне. Орган ЦК ЕКП(ПЦ). 1919. № 1. С. 9—10; Резолюции Гомельской конференции коммунистов “Поалей-Цион” 10—15.VIII.1919 г. // Накануне. Орган ЦК ЕКП(ПЦ). 1919. № 1. С. 10—12; Декларация Еврейской коммунистической партии ко всем еврейским рабочим // Накануне. Орган ЦК ЕКП(ПЦ). 1919. № 1. С. 1—2.

[4] Гісторыю гэтай партыі дасьледаваў Барух Гурэвіц: Gurevitz, Baruch. National Communism in the Soviet Union, 1918—28. Pittsburgh, PA: University Center for International Studies, University of Pittsburgh, 1980. — 121 p.

[5] Российский государственный архив социально-политической истории. Ф. 495. Оп. 1. Д. 1. Протоколы № 1–40 заседаний Исполнительного Комитета Коммунистического Интернационала (ИККИ), с приложениями. Арк. 79.

[6] Вышэйшы партыйны орган на тэрыторыі рэспублікі, падначалены цэнтральнаму камітэту.

[7] Гісторыю іх кароткага “раману” можна часткова рэканструяваць на

паглынутая Камуністычнай партыяй (бальшавікоў) Украіны, адзіным цэнтрам ідэйнага й арганізацыйнага прыцягненьня для ГКП(ПЦ) ва ўсіх савецкіх рэспубліках засталіся бальшавікі. У сваю чаргу, у Беларусі гэткага "цэнтру прыцягненьня", апрача бальшавікоў, увогуле ніколі не існавала.




Тытульная старонка кнігі
Рыгора (Цві) Фрыдлянда

У 1921 г. Рыгор Фрыдлянд стаў адным з ініцыятараў роспуску ягонай партыі, якая была канчаткова ліквідаваная ў 1922—1923 гг. Пасьля гэтага ён пераехаў зь Менску ў Маскву, дзе зрабіў сур'ёзную акадэмічную кар'еру — закончыў Інстытут чырвонай прафэсуры, выкладаў у шэрагу ВНУ сталіцы СССР, а ў 1934 г., пасьля аднаўленьня гістарычнага факультэту ў складзе Маскоўскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту, стаў ягоным першым дэканам. У гэты час у цэнтры навуковых інтэрэсаў навукоўца знаходзіліся падзеі Вялікай францускай рэвалюцыі й постаці яе дзеячаў[8].

Разам з тым невядомай дасёньня застаецца роля Рыгора Фрыдлянда як аднаго з першых гісторыкаў паалей-цыянізму. Напісаная ім у 1921 г. расейскамоўная кніга "Камуністычны інтэрнацыянал і камуністычны паалей-цыянізм"[9] ніколі ня згадвалася дасьледчыкамі

---

аснове нешматлікіх матэрыялаў з фонду 41 ("Габрэйскія партыі") і фонду 43 ("Украінская камуністычная партыя (барацьбістаў)") Цэнтральнага дзяржаўнага архіву грамадзянскіх аб'яднаньняў Украіны. Мы коратка апісваем яе ў сваёй кандыдацкай дысэртацыі: Гірік, С. Джерела дослідження ідейних засад Української комуністичної партії (боротьбистів) (1918–1920 рр.). Дис. … канд. іст. наук. Київ: Інститут української археографії та джерелознавства ім. М. С. Грушевського НАН України, 2015. С. 154—156.

[8] У 1920—1930-я гг. Цві Фрыдлянд апублікаваў некалькі кніг па гэтай тэматыцы, сярод якіх *"Марат до Великой Французской революции"* (1926), *"Жан-Поль Марат и Гражданская война XVIII в."* (1934), *"Дантон"* (1934, вышла ў сэрыі *"ЖЗЛ"*), падрыхтаваў да друку зборнік дакумэнтаў аб антырэлігійнай дзейнасьці францускіх уладаў падчас Вялікай францускай рэвалюцыі, зборнік эпісталярнай спадчыны Рабэсп'ера й г. д.

[9] Фридлянд, Цви. Коммунистический интернационал и коммунистический поалей-ционизм. Минск: Государственное издательство Белоруссии, 1921.

гісторыі ГСДРП(ПЦ) і габрэйскага камуністычнага руху[10]. Болей за тое, нам не ўдалося выявіць аніводнага асобніка гэтай кнігі ў каталёгах бібліятэк Беларусі (Нацыянальная бібліятэка Рэспублікі Беларусь, Цэнтральная навуковая бібліятэка НАН РБ, Прэзыдэнцкая бібліятэка РБ, Фундамэнтальная навуковая бібліятэка Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту), Расеі (Расейская дзяржаўная бібліятэка ў Маскве, Расейская нацыянальная бібліятэка ў Санкт-Пецярбургу, Дзяржаўная гістарычная публічная бібліятэка ў Маскве й Цэнтар сацыяльна-палітычнай гісторыі ў яе складзе, то бок былая бібліятэка Інстытуту марксізму-ленінізму пры ЦК КПСС), Украіны (Нацыянальная бібліятэка Украіны ім. У. Вярнадзкага, нацыянальныя бібліятэкі ў Харкаве, Львове й Адэсе, Нацыянальная гістарычная бібліятэка Ўкраіны й Дзяржаўная навуковая архіўная бібліятэка Ўкраіны ў Кіеве, найважнейшыя ўнівэрсытэцкія бібліятэкі), Ізраілі (Нацыянальная бібліятэка Ізраілю, кніжныя фонды Цэнтральнага архіву гісторыі габрэйскага народу, фонды Цэнтральнага сыянісцкага архіву, бібліятэка Габрэйскага ўнівэрсытэту ў Ерусаліме).

У студзені 2017 г. аўтару гэтага артыкулу пашанцавала набыць асобнік згаданай кнігі праз букініста ў Петразаводску. Цяпер ён захоўваецца ў нашай прыватнай калекцыі ў Кіеве. Улічваючы, што кніга дасёньня ня ўводзілася ў навуковы ўжытак дасьледчыкамі Паалей-Цыён, можна зрабіць выснову, што гэты асобнік — адзіны вядомы на дадзены момант. Калі меркаваць па бібліятэчным штампе на тытульнай старонцы, да сярэдзіны 1930-х гг.[11] ён знаходзіўся ў Растоўскай публічнай бібліятэцы імя Карла Маркса (цяпер — Данская дзяржаўная публічная бібліятэка ў Растове-на-Доне). Храналягічна найбольш позьнія бібліятэчныя пазнакі — штамп аб інвэнтарызацыі 1933 г. ("Переучет 1933") і 1934 г. ("Проверено 1934"). Арыгінальная вокладка на кнізе не захавалася або, магчыма, яе ўвогуле не было. Фармат кнігі — 16,8х12,5 см. Тэкст абрываецца на старонцы 137, якая, паводле зьместу, зьяўляецца перадапошняй або трэцяй з канца. З прычыны памылкі друкароў пасьля старонкі 12 пагінацыя кнігі парушаная, няцотныя старонкі знаходзяцца зь левага боку развароту, а не з правага, як павінна быць, — наступная пасьля старонкі 12 ста-

[10] Gurevitz, Baruch. National Communism in the Soviet Union, 1918—28; Gitelman, Zvi Y. Jewish Nationality and Soviet Politics: The Jewish Sections of the CPSU, 1917—1930. Princeton, NJ.: Princeton University Press, 1972. 573 p.; Kessler, Mario. The Comintern and the Left Poale Zion, 1919—1922 // Australian Journal of Jewish Studies. 2010. Vol. 24. P. 116—133 et al.

[11] Хутчэй за ўсё, кнігу выдзялілі з фондаў бібліятэкі ў 1936 г., пасьля арышту Рыгора Фрыдлянда. Яго арыштавалі 31 траўня 1936 г., прысудзілі да расстрэлу 7 сакавіка 1937 г., расстралялі 8 сакавіка.

ронка мае нумар 14, хоць тэкст не перапыняецца. Пасьля тытульнай старонкі ўклеены непагінаваны аркуш з эратай. Калі лічыць, што тытул і адварот тытулу не ўваходзяць у агульную нумарацыю старонак, яна пачынаецца менавіта з гэтага аркушу. У кнізе шмат друкарскіх памылак, толькі малая частка зь якіх згадана ў эраце. Нават слова "*опечатки*" (загаловак аркушу з эратай) надрукавана з памылкай ("*отпечатки*"). Публікацыя пачынаецца кароткай прадмовай былых бундыстаў Ільлі Ашэровіча[12] й Арона Вайнштэйна[13]. Цікава, што ролю аўтараў прадмовы адвялі менавіта выхадцам з Бунду, якія перайшлі да Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі незадоўга перад Фрыдляндам.

Кніга Фрыдлянда зьяўляецца адначасова й палемічным трактатам, скіраваным супраць ягоных апанэнтаў у паалей-цыянісцкім руху, і навукова-публіцыстычнай працай па гісторыі гэтай палітычнай плыні. Ён пачынае сваю працу развагамі пра адносіны камуністычна настроеных сяброў Бунду й Паалей-Цыён да Камуністычнага інтэрнацыяналу. Цікавай (і далёка не артадаксальнай з пункту гледжаньня савецкай вэрсіі марксізму) ёсьць ягоная тэза аб тым, што "*камунізм успрымае ўсё гістарычна выпрабаванае, аддзяляе пралетарскае зерне ад дробнабуржуазных жыцікаў і дае габрэйскаму пралетарыяту магчымасьць у рэвалюцыйным дзеяньні сканструявацца* ***як нацыі*** (вылучана.— ***Ц. Ф.***)"[14]. Як памятаем, пасьля публікацыі ў 1913 г. працы Іосіфа Сталіна "Марксызм і нацыянальнае пытаньне" ў партыйнім афіцыёзе бальшавікоў агульным месцам стала адмаўленьне габрэям у статусе "нацыі"», паколькі "*можна ўявіць людзей з агульным "нацыянальным характарам" і ўсё-ткі нельга сказаць, што яны складаюць адну нацыю, калі яны эканамічна разьяднаныя, жывуць на розных тэрыторыях, размаўляюць на розных мовах і г. д. Такімі, напрыклад, ёсьць расейскія, галіцыйскія, амэрыканскія, грузінскія і горскія габрэі, якія, на нашую думку, не зьяўляюцца адзінай нацыяй*"[15].

Першы разьдзел кнігі (с. 9—35) мае назву "Асноўныя заданьні Камуністычнага інтэрнацыяналу". Яна не зусім адпавядае зьместу — першая частка разьдзелу прысьвечаная гістарычнаму разьвіцьцю

[12] **Ільля Ашэровіч**, сябра КП(б)Б з 1919 г., арыштаваны 24 сьнежня 1937 г., расстраляны 29 лістапада 1938 г.

[13] **Арон Вайнштэйн**, сябра КП(б)Б з 1920 г., у 1921 г. стаў сябрам Цэнтральнага бюро КП(б)Б. Арыштаваны 9 лютага 1938 г., памёр у турме ад сардэчнага прыступу 12 лютага 1938 г.

[14] Фридлянд, Цви. Коммунистический интернационал... С. 5.

[15] Сталин, Иосиф. Марксизм и национальный вопрос // Сталин, И. Сочинения. Т. 2. Москва, 1951. С. 296.

ГСДРП(ПЦ) з часоў яе заснаваньня, а другая — эвалюцыі афіцыйных поглядаў Камінтэрну на нацыянальнае пытаньне й пэрспэктывы сусьветнай рэвалюцыі, а таксама розьніцы паміж пазыцыямі ГКП(ПЦ) і Камінтэрну ў гэтай галіне. Парушаная ў першым разьдзеле тэма разьвіваецца ў другім — "Нацыянальнае пытаньне і Камуністычны інтэрнацыянал" (с. 35—58). Як і папярэдні, ён цікавы перадусім тым, як пазыцыі Камінтэрну пераламляліся ў оптыцы бальшавіцкага нэафіту, тым болей што на момант напісаньня кнігі аўтар, як згадваюць у прадмове Ільля Ашэровіч і Арон Вайнштэйн, яшчэ не пасьпеў выйсьці з шэрагаў ГКП(ПЦ), а зрабіў гэта, пакуль праца рыхтавалася да друку. У другой частцы тэксту Фрыдлянд амаль не закранае тэмы гісторыі сваёй партыі, крыху згадваючы толькі пра эвалюцыю яе поглядаў на нацыянальнае пытаньне пасьля 1919 г. у кантэксьце аналізу дакумэнтаў Камінтэрну, разыходжаньняў гэтай партыі з Камуністычным інтэрнацыяналам і г. д.

Найбольш багатымі факталягічным матэрыялам зьяўляюцца наступныя часткі кнігі. Трэці разьдзел "Габрэйскае пытаньне і камуністы "Паалей-Цыён"" (с. 58—91) прысьвечаны палеміцы з ідэалягічнымі пазыцыямі, агучанымі ў дакумэнтах ГКП(ПЦ) і артыкулах яе лідараў. Фрыдлянд намагаецца давесьці, што *"партыя, якая зьдзейсьніла камуністычную рэвізію сваёй сацыял-дэмакратычнай праграмы ў габрэйскім пытаньні, цяпер зноў праводзіць рэвізію гэтай праграмы, але ўжо ў сацыял-дэмакратычным духу"*[16] (маецца на ўвазе ГКП(ПЦ)). Ведучы гаворку аб прычынах *"сацыял-дэмакратычнага рэцыдыву"* ў ідэалёгіі сваёй партыі, аўтар апісвае выпадкі ціску на яе сябраў, якія выказвалі спачуваньне ідэйнаму дрэйфу гэтай палітычнай сілы ў бок бальшавікоў. Ясная рэч, набор прыкладаў, якімі Фрыдлянд ілюструе свой аповед, адлюстроўвае ягоную палемічную тэндэнцыйнасьць, але гэта ня робіць тэкст менш цікавым для дасьледчыка. Далейшая частка разьдзелу ўяўляе зь сябе пакрокавы аналіз тэзісаў да чацьвёртага партэйтагу ГКП(ПЦ) з націскам на іх разыходжаньні з ранейшымі базавымі дакумэнтамі партыі (Гомельскай канфэрэнцыі ў жніўні 1919 г. і Харкаўскай канфэрэнцыі ў ліпені 1920 г.), а таксама супастаўленьне гэтага дакумэнту з рэзалюцыямі IV Усерасейскай канфэрэнцыі габрэйскіх сэкцый РКП(б). Фрыдляндавы аналіз зьяўляецца каштоўным сьведчаньнем непасрэднага ўдзельніка падзей і разам з тым ёсьць прыкладам цалкам навуковага, як на час напісаньня працы, дасьледаваньня ідэйнай эвалюцыі ГКП(ПЦ) з моманту яе арганізацыйнага адасабленьня. Фрыдлянд разглядае зьмены пазыцый ягонай партыі ў пытаньнях зьнешняй палітыкі (асабліва адносна палестынскай праблемы), культурнай палітыкі, прафсаюзаў,

[16] Фридлянд, Цви. Коммунистический интернационал… С. 58.

канструяваньня ворганаў "нацыянальнага самакіраваньня", то бок экстэрытарыяльнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі, што было асабліва важна менавіта для габрэяў, і г. д. Апрача таго, што найбольш цікава для дасьледчыка гісторыі палітычных партый Беларусі, Фрыдлянд акрэсьлівае адрозьненьні паміж поглядамі асобных ідэолягаў ГКП(ПЦ) — далёка ня ўсе іх асаблівасьці знайшлі адлюстраваньне ў вядомых на сёння гістарычных дакумэнтах. Аўтар тлумачыць, чаму "палестынізм" нават у той "мяккай" форме, у якой яго агучвалі дакумэнты ГКП(ПЦ), стаў непрымальным для яго асабіста (Фрыдлянд выкарыстоўвае катэгарычную формулу *"пацярпеў крах"*). Уласна, у партыйных дакумэнтах ГКП(ПЦ) 1920—1921 гг. можна пабачыць сур'ёзную эвалюцыю поглядаў на пытаньне эміграцыі ў Палестыну й вялікі дыяпазон думак на гэты конт, так што пераход Фрыдлянда да адмаўленьня ідэі палестынізму можна лічыць адным з элемэнтаў унутрыпартыйных дыскусій па згаданай праблеме. Цікава гучаць і рэфлексіі аўтара наконт выказаных у тэзісах да чацьвёртага партэйтагу ягонай палітычнай сілы ідэі аб тым, што ва ўмовах савецкай улады *"ідэя канструяваньня нацый робіцца толькі пытаньнем* ***практычнай палітыкі*** *рабочага клясу"*[17]. Свой аналіз ён выкарыстоўвае для абгрунтаваньня патрэбы для тых сяброў ГКП(ПЦ), якія дэкляруюць сваю поўную неапазіцыйнасьць да чыннай улады, пераходзіць у габрэйскія сэкцыі ў складзе партыі бальшавікоў. Фрыдлянд апісвае пазыцыю сяброў ЦК ГКП(ПЦ) адносна пажаданай структуры ворганаў "нацыянальнага самакіраваньня" габрэйскіх грамадаў і распавядае, у чым іх погляды па гэтым пытаньні разыходзіліся з пазыцыямі творцаў габсэкцыяў у складзе кіруючай палітычнай сілы. Ён канстатуе, што *"ідэйнае разьвіцьцё Паалей-Цыён у пытаньні аб нацыянальнай аўтаноміі прывяло іх, з аднаго боку, да пераадоленьня супярэчнасьцяў з габсэкцыямі, з другога — да вяртаньня да ідэі нацыянальна-пэрсанальнай аўтаноміі, то бок да выпрошваньня асаблівага нацыянальнага прадстаўніцтва"*[18]. Аўтар асобна спыняецца на супярэчнасьці ідэі прывязаць вырашэньне палестынскай праблемы да лёзунгу "прадуктывізацыі" габрэяў, сьцьверджаньне асобных ідэолягаў ГКП(ПЦ) пра тое, што савецкія рэспублікі, дзе на практыцы рэалізуецца гэты лёзунг, ператвараюцца ў кірунак іміграцыі габрэйскіх працоўных масаў, якое выказвалася

[17] Фридлянд, Цви. Коммунистический интернационал... С. 72. Прыведзеныя словы — цытата Фрыдлянда з тэзісаў да чацьвёртага партэйтагу. Тут зьвяртае на сябе ўвагу выраз *"канструяваньне нацый"* (зь ім Фрыдлянд ніжэй салідарызуецца), які гучыць цалкам па-сучаснаму нават на пачатку XXI ст.

[18] Фридлянд, Цви. Коммунистический интернационал... С. 76.

аднačасова з думкай пра магчымасьці ліквідаваць стыхійнасьць габрэйскай міграцыі толькі шляхам яе скіраваньня да Палестыны[19]. Адзначым, што ідэі апанэнтаў Фрыдлянда насамрэч гучалі вельмі заблытана, бо ўяўлялі зь сябе намаганьне паяднаць "палестынізм" з "дыяспарным нацыяналізмам" пры дапамозе сафістычных прыёмаў. Адышоўшы ад палестынізму (лягічным наступствам гэтага быў пераход да бальшавізму), Фрыдлянд тлумачыць свой крок не наўпрост, а палемізуючы з тымі сябрамі сваёй партыі, якія засталіся вернымі згаданай ідэі. Намагаючыся знайсьці прычыны антысэмітызму й шляхі яго пераадоленьня, ён сьцьвярджае, што габрэйскае пытаньне ўскладняецца *"магчымым канфліктам паміж патрэбамі габрэйскіх працоўных масаў, сацыяльна-эканамічна адсталых, з масамі іншых, больш перадавых нацый. І чым больш будуць габрэйскія масы ў сваім эканамічным перараджэньні набліжацца да масаў навакольных народаў, тым хутчэй зьнікне, з аднаго боку, здань асыміляцыі, а зь іншага — той недавер і антыпатыя да ўсяго габрэйскага, якія захоўваюцца ў гушчы пралетарыяту ўсіх народаў"*[20]. Як бачым, у гэтым ягоная ацэнка шмат адыходзіла ад рэчаіснасьці — падзеі наступных дзесяцігодзьдзяў у Эўропе й кашмар Галакосту паказалі, што эканамічная мадэрнізаванасьць і нават амаль поўная культурная асыміляцыя габрэйскай часткі насельніцтва могуць толькі зьмяніць формы антысэмітызму, але для ліквідацыі самой зьявы іх недастаткова. Фрыдлянд таксама разважае пра задачы сусьветнага рэвалюцыйнага руху, выказваючы думку аб патрэбе распаўсюджваць *"правільную інфармацыю... аб габрэйскім рабочым руху сярод міжнароднага пралетарыяту"* й прапануе *"ўключыць у праграму дзейнасьці Камінтэрну й ягоных сэкцый задачу эканамічнага перараджэньня габрэйскіх працоўных масаў"*[21].

Перадапошні разьдзел кнігі названы "Паалей-Цыён у гады рэвалюцыі" (с. 91—113). Як відаць з назвы, ён носіць цалкам рэтраспэктыўны характар, уяўляючы зь сябе кароткі нарыс дзейнасьці ГСДРП(ПЦ) з 1917 г., уплыву Берасьцейскага міру на раскол у партыі й фармаваньне ў яе складзе левай плыні, канстатуе факт арганізацыйнага разьмежаваньня паміж ГКП(ПЦ) Беларусі і Ўкраіны. Асабліва падрабязна, як непасрэдны ўдзельнік тых падзей, Фрыдлянд апісвае працэсы, якія адбываліся ўнутры тэрытарыяльна беларускіх арганізацый ГКП(ПЦ): фармаваньне прабальшавіцкай фракцыі ў згаданай групе, перамовы ГКП(ПЦ) з Бундам (маецца на ўвазе яго камуністычнае

[19] Фридлянд, Цви. Коммунистический интернационал... С. 82—83.

[20] Фридлянд, Цви. Коммунистический интернационал... С. 89.

[21] Фридлянд, Цви. Коммунистический интернационал... С. 90.

крыло) у 1920 г. аб магчымым аб'яднаньні, перамовы партыі з Выканкамам Камінтэрну й ЦК РКП(б). Гэты разьдзел зьяўляецца найбольш каштоўным для дасьледчыкаў гісторыі палітычных партый у Беларусі ўвогуле й мінулага паалей-цыянізму ў прыватнасьці, паколькі зьмяшчае шмат інфармацыі, невядомай з архіўных крыніцаў[22] і прэсы ГКП(ПЦ).




Мэмарыяльная шыльда на будынку ў Маскве, дзе жыў Рыгор (Цві) Фрыдлянд. *Здымак з hist.msu.ru*]

Апошні разьдзел кнігі — "Камуністы Паалей-Цыён на 3-м кангрэсе Камінтэрну" (с. 114—132) — прысьвечаны ўдзелу дэлегацыі Камуністычнага вэлтфарбанду Паалей-Цыён у Трэцім кангрэсе Камуністычнага інтэрнацыяналу й кантактам дэлегатаў беларускай часткі ГКП(ПЦ) з прадстаўнікамі Вэлтфарбанду. Гэты сюжэт вядомы гісторыкам, але апісаньне адпаведных падзей прадстаўніком апазыцыі ў складзе ГКП(ПЦ) уяўляецца самастойным інтарэсам.

Завяршае кнігу кароткая пасьлямова "Што робіш — рабі хутчэй! Вынікі і пэрспэктывы", у якой Фрыдлянд яшчэ раз выказвае думку пра непатрэбнасьць далейшага існаваньня ГКП(ПЦ) у якасьці асобнай партыі.

Знойдзеная кніга Рыгора (Цві) Фрыдлянда дазваляе рэканструяваць некалькі невядомых ці малавядомых старонак гісторыі габрэйскіх палітычных партый у Беларусі і Ўкраіне. Яна адначасова зьяўляецца як каштоўнай гістарычнай першакрыніцай, сьведчаньнем "знутры" аб расколах у ГКП(ПЦ), так і храналягічна першай навуковай (ці, калі глядзець з нашага часу, навукова-папулярнай, бо апарат спасылак у кнізе амаль адсутнічае, а яе стыль блізкі да публіцыстычнага) працай па гісторыі левага крыла ў паалей-цыянізьме на беларускіх і часткова ўкраінскіх землях.

[22] Гаворка ідзе аб фондах Нацыянальнага архіву Рэспублікі Беларусь (Менск), Расейскага дзяржаўнага архіву сацыяльна-палітычнай гісторыі (Масква), Цэнтральнага дзяржаўнага архіву грамадскіх аб'еднаньняў Украіны (Кіеў) і Цэнтральнага архіву гісторыі габрэйскага народу (Ерусалім).

***Ларыса Доўнар***
*Менск*

# НА ШЛЯХУ ДА НАБІЛІТАЦЫІ ЭМІГРАЦЫЙНАГА СКАРЫНАЗНАЎСТВА

*Юрэвіч, Лявон. Эмігрант Францыск Скарына, ці Апалогія. Мінск: Кнігазбор, 2015. — 624 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны; кн. 25).*

Асоба й творчасьць Лявона Юрэвіча добра знаёмыя ў асяродзьдзі беларусістаў, дасьледчыкаў Беларусі й асабліва тых, хто вывучае дзейнасьць беларускага замежжа. Досьвед архівіста ў Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы, дзьве навуковыя ступені – адна ў галіне філялёгіі, другая ў галіне бібліятэказнаўства – сталі ўзаемадапаўняльнымі ў выкарыстаньні аўтарам адпаведнай мэтадалёгіі пры стварэньні такіх працаў, як “Архіўная кніга” (Нью-Ёрк, 1997), “Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі (Нью-Ёрк, 1999), “Літаратурны рух на эміграцыі” (Менск, 2002), “Мэмуары на эміграцыі” (Менск, 2005), “Шматгалосы эпісталярыум” (Менск, 2012), “Відымусы” (Мінск, 2015) і інш. На ягоным ліку ўкладальніцкая праца па выпуску шэрагу выданьняў выдатных дзеячаў беларускага замежжа: Барыса Рагулі, Уладзімера Дудзіцкага, Міколы Целеша, Лявона Савёнка, Юркі Віцьбіча, Антона Адамовіча, Янкі Юхнаўца, Дзьмітрыя Сямёнава ды інш.

Бярэ Лявон Юрэвіч удзел у працы над бібліяграфічнымі выданьнямі, як “Беларускі друк на Захадзе” (Нью-Ёрк; Варшава, 2006), цікавяць яго пытаньні гісторыі кнігі й кніжных калекцый, пра некаторыя зь якіх ён напісаў у зборніку навуковых працаў Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту культуры й мастацтваў (БДУКМ) “Беларуская кніга ў кантэксце сусветнай літаратуры” — гэта артыкул “Кнігарукапісы Міколы Панькова” (2010), у якім апісваецца рукапісная кніжная сэрыя, што выдавалася Міколам Паньковым, першым бібліёграфам эміграцыйных выданьняў у лягерах для перамешчаных асобаў у Нямеччыне ў паваенныя гады, і яшчэ адзін артыкул “Збор эміграцыйных пэрыёдыкаў у Нью-Ёркаўскай Публічнай Бібліятэцы” (2011), дзе прыводзіцца бібліяграфічны сьпіс калекцыі беларускіх пэрыядычных выданьняў — часопісаў, газэтаў, бюлетэняў, цыркуляраў, — што выходзілі ў ЗША, Канадзе, Нямеччыне, Вялікабрытаніі, Бэльгіі, Гішпаніі, Аргентыне, Францыі, Італіі й Чэхаславаччыне ў 1940-х — 1990-х гг. і якія былі сабраныя й падараваныя Зорай і Вітаўтам Кіпелямі амэрыканскай бібліятэцы.




Зусім ня новая для Лявона Юрэвіча й тэма, зьвязаная з Францыскам Скарынам. Яшчэ ў 1995 г. Лявон стаў суўкладальнікам разам з Валянцінай Грышкевіч бібліяграфічнай працы "Францішак Скарына: жыццё і дзейнасць: паказальнік літаратуры; дадаткі за 1530—1988 гг., 1989—1993 гг." (выдадзеная ў Менску Нацыянальным навукова-асьветным цэнтрам імя Ф. Скарыны), якая была пэўнай спробай працягу "Пяці стагодзьдзяў Скарыніяны, XVI—XX" Вітаўта Тумаша, а таксама й пачаткам новай, рэцэнзаванай тут, працы.

Асоба Францыска Скарыны, як вядома, знакавая для ўсёй беларускай эміграцыі. Справядліва адзначыла Натальля Гардзіенка ў прадмове "Людзі й кнігі" да новага выданьня Лявона Юрэвіча "Эмігрант Францыск Скарына, ці Апалогія": *"Скарынам беларусы на Захадзе адкрыта ганарыліся, яго дасягненні не выклікалі ні пытанняў, ні пярэчанняў. Папулярызуючы першадрукара эміграцыйныя навукоўцы і грамадскія дзеячы выконвалі тое ж заданне "паставіць Беларусь на сусветную мапу", засведчыць еўрапейскасць беларускай культуры, нацыянальную адметнасць беларусаў"* (с. 3).

Скарыназнаўства стала дабратворным кірункам і стымулам для навуковай дзейнасьці беларускага замежжа: у 1950 г., калі эмігрант зь Беларусі Баляслаў Грабінскі першы ўбачыў партрэт Францыска Скарыны ў "Зале сарака" ў Падуанскім унівэрсытэце; у 1960 г., калі Янка Садоўскі адшукаў новы дакумэнт пра экзамэн першадрукара й ягонае сакратарства ў "*караля Дацыі*"; у 1972 г., калі айцец Аляксандар Надсан паводле знойдзенага ў Капэнгагене асобніка "Малой падарожнай кніжкі" ўдакладніў час выхаду першага віленскага выданьня, і г. д.

Дасягненьні беларускага замежнага скарыназнаўства доўгі час замоўчваліся й таму патрабавалі ды патрабуюць адпаведнага асьвятленьня. І вось Лявон Юрэвіч паспрабаваў у год 525-годзьдзя з часу нараджэньня Францыска Скарыны й свайго 50-годзьдзя[1] прэзэнтаваць сьве-

[1] Гардзіенка, Наталля. Рэцэнзія на кн.: Лявон Юрэвіч. Эмігрант Францыск Скарына, ці Апалогія. Мінск: Кнігазбор, 2015. 624 с. Бібліятэка Бацькаўшчыны; кн. 25 // Roczniki Humanistyczne. 2016. T. LXIV. Z. 7.

ту тыя скарыназнаўчыя тэксты — артыкулы, лісты, аповеды пра кнігі й кніжнікаў, што адлюстроўваюць жыцьцё й дзейнасьць асьветніка, ягоную спадчыну на эміграцыі ды дзейнасьць пасьлядоўнікаў Скарыны на Захадзе. У кнізе таксама адзначана, што яна прысьвячаецца аўтарам-укладальнікам Лявонам Юрэвічам і рэдактарам Натальляй Гардзіенкай памяці аднаго з аўтарытэтных скарыназнаўцаў беларускага замежжа айца Аляксандра Надсана (1926—2015).

Складаецца выданьне зь пяці частак: частка I — "Пачаткі скарынаведы на эміграцыі" (с. 5—60), частка II — "Скарынава справа на эміграцыі: перыядычныя выданні і постаць Францыска Скарыны ў іх" (с. 61—120), частка III — "Імя Скарыны ў дзейнасці эміграцыйных арганізацый" (с. 121—346), частка IV — "Скарынава справа на эміграцыі: календары, кнігі і іншае" (с. 347—400), частка V "Паслядоўнікі Скарыны" (с. 401—587), "Post scriptum: дзеці БССР" (с. 588–601), а таксама ўключае "Іменны паказнік" (с. 602—620). Тэксты суправаджаюцца дадаткова рэдактарскімі падрадковымі заўвагамі й камэнтарамі. Зьмешчаныя 12 аркушаў ілюстрацый: маркі, капэрты, эмблемы, плякаты, паштоўкі, вокладкі буклетаў, улётак, часопісаў, кніг, лісты з аўтографамі, фатаграфіі. Дызайн вокладкі распрацаваў Анатоль Лазар. Выданьне было ажыцьцёўлена МГА «ЗБС "Бацькаўшчына"» сумесна зь Беларускім інстытутам навукі й мастацтва (Нью-Ёрк, ЗША).

Задае, так бы мовіць, тон выданьню і адкрывае першую частку невялічкае *ўступнае слова аўтара* пад назвай "Ад Вацлава Ластоўскага, Пётры Крэчэўскага ды Тамаша Грыба пачатак", у якім выказаная запаветная мара беларусаў-эмігрантаў — аб'яднаньня ўсіх беларусаў незалежна ад таго "*з БЦР яны ці БНР, Усходняй Беларусі або Заходняй, крывічы ці зарубежнікі, праваслаўныя або рыма-каталікі, аўтакефалісты ці з якой іншай юрысдыкцыі*" (с. 9). І вось такім культурным сымбалем для яднаньня было й ёсьць імя Скарыны, ягоная дзейнасьць, як і скарыназнаўчая дзейнасьць (навукова-дасьледчая, публіцыстычная, кніжная) беларускай эміграцыі на працягу XX—XXI стагодзьдзяў, як і пошук агульначалавечых шляхоў да незалежнасьці й волі.

Спачатку зьмешчаныя артыкулы Вацлава Ластоўскага "Доктар Францішк Скарына (1525—1925) (з часопіса "Крывіч" за 1924 г. № 2 (8)) і Пётры Крэчэўскага "Скарына і незалежнасьць" (з "Замежнай Беларусі", Прага, 1926). Захоўваючы храналёгію падачы матэрыялаў, Лявон Юрэвіч захоўвае й храналёгію ў адпаведнасьці паўстаньня "*скарынаўскага пытаньня*", зьвязанага як з пэрсонамі (В. Ластоўскі), так і з галоўнымі пунктамі беларускага замежжа гэтага часу — Літвой

S. 219—221. DOI: http://dx.doi.org/10.18290/rh.2016.64.7-14.

(са сталіцай у Коўне) і Чэхіяй (Прага)[2]. Наступныя й асноўныя публікацыі першай часткі — гэта пяць артыкулаў Тамаша Грыба (з праскага часопісу “Iskry Skaryny” за 1931, 1934, 1935 гг.), што падаюцца як праграмныя па дасьледаваньні спадчыны Францыска Скарыны, а таксама прысьвечаны разгляду значэньня ягонай асобы ў вызвольна-адраджэнскім руху.

Частка другая знаёміць са зьместам чатырох раньніх паваенных пэрыядычных выданьняў беларускай эміграцыі, што ўзьніклі на тэрыторыі Нямеччыны, і з артыкуламі, якія былі апублікаваныя на іх старонках пра Францыска Скарыну: Юркі Віцьбіча — “Доктар Францішак-Юры Скарына” (часопіс “Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі”, Рэгенсбург / Міхельсдорф, 1946, № 6); яго ж — “Вялікі сын вялікага народу (Францішак Скарына)” (часопіс “Шыпшына”, 1947, № 4); Уладзімера Глыбіннага — “Ня згаснуць іскры Скарыны” (часопіс “Шыпшына”, 1946, № 2); Антона Адамовіча — “Ля вытокаў нацыянальнага” (часопіс “Сакавік”. Остэргофэн, 1948, № 1 (2)); Вітаўта Кіпеля — “Сьлядамі Францішка Скарыны” (часопіс “У выраі”, Рэгенсбург, 1947).

У склад трэцяй часткі, самай ёмістай, у якой вылучаныя два разьдзелы: першы, прысьвечаны БІНіМу, другі — Беларускай бібліятэцы й музэю імя Францыска Скарыны, увайшлі некаторыя аўтарскія публікацыі з “Запісаў БІНіМ” — гэта “Гісторыя заснавання Беларускага Інстытута Навукі і Мастацтва ў дакументах і паведамленнях” (2005, № 29); “Кнігі і рукапісы” (2009, № 32), “Версіі: смерць Янкі Купалы” (зборнік памяці Віталя Скалабана “Ісці на святло лабірынтамі даўніх падзей”, Мінск, 2013), аб’яднаныя назвай “БІНіМаўская Купаліяна”, іншыя, асабліва “Літаратурны побыт, Скарына і кнігаведа ў лістах дырэктара БІНіМа Вітаўта Тумаша”, толькі часткова былі раней надрукаваны й зьмяшчаюць багаты фактаграфічны матэрыял па гісторыі скарыназнаўства за 1954—1981 гг. Каштоўнасьць карэспандэнцыі Вітаўта Тумаша, знакамітага дасьледчыка Скарыніяны ў эміграцыі, надзвычайная й з таго пункту гледжаньня, што раскрывае ягоную по-

[2] Дадаткова гл., напр.: Корбут, Віктар. Фарміраванне вобраза Францыска Скарыны ў віленскім беларускамоўным друку 1909–1917 гг. // Матэрыялы міжнароднага кангрэса “500 гадоў беларускага кнігадрукавання”: у 2 ч. Мінск, 14–15 верасня 2017 г. / НББ; [складальнік А. А. Суша]. Мінск, 2017. Ч. 1. XIII Міжнароныя кнігазнаўчыя чытанні. С. 128—132; Вабішчэвіч, Аляксандр. Ушанаванне памяці Францыска Скарыны ў Заходняй Беларусі ў 1921—1939 гг. // Тамсама. С. 133—138; Бабий, Л. Книгоиздательское дело украинских и белорусских эмигрантов в Чехословацкой Республике в межвоенный период XX в.: тематические и типологические особенности // Тамсама. С. 234—238; Коваль, Вольга. Стварэнне і захаванне кніжных калекцый беларускімі эмігрантамі ў Чэхаславакіі (1918—1939 гг.) // Тамсама. С. 325—329.

стаць як кнігазнаўцы, выяўляючы навуковую лябараторыю майстра, адносіны да савецкіх дасьледаваньняў у галіне скарыназнаўства, а таксама спэцыфіку эміграцыйнага кнігавыданьня.

Прадстаўленыя ў гэтай частцы й артыкулы такіх аўтараў, як Аляксандар Надсан (“Кніга Скарыны ў Капэнгагене”, Запісы БІНіМ, 2006, № 30), Юрка Віцьбіч (“Знайшлі тапор пад лавай”, Беларус, 1967, № 120), на пачатку іх тэкстаў Лявон Юрэвіч падае свае камэнтары ці, так бы мовіць, прадмовы. Уключыў аўтар у трэцюю частку й бібліяграфічны спіс (79 запісаў) артыкулаў, прысьвечаных Францыску Скарыну, што публікаваліся на старонках газэтаў “Бацькаўшчына” й “Беларус” у 1952—1995 гг., таксама забясьпечыўшы сьпіс уласным камэнтарам: “Постаць Францыска Скарыны на старонках газет “Бацькаўшчына” і “Беларус””, у якім адзначыў ролю заснавальніка й дырэктара БІНіМу ў Нью-Ёрку Вітаўта Тумаша, ягоныя арыгінальныя артыкулы, рэцэнзіі, агляды літаратуры, бібліяграфічную працу “Пяць стагодзьдзяў Скарыніяны”, дзякуючы якому “Запісы БІНіМ” называліся “скарынаведнымі””. Як нам падаецца, бібліяграфічныя зьвесткі паводле зьместу названых пэрыядычных выданьняў “Бацькаўшчына” й “Беларус” маглі б лягічна зьмясьціцца і ў папярэдняй частцы — “Скарынава справа на эміграцыі: перыядычныя выданні і постаць Францыска Скарыны ў іх”, але ўкладальнік распарадзіўся інакш, аддаўшы перавагу пэрсанальнай катэгорыі.

Частка чацьвертая мае чамусьці назву, якая пачынаецца, як і назва другой часткі “Скарынава справа на эміграцыі”, хоць і мае ўдакладненьне: “календары, кнігі і іншае”. Насычаны фактаграфічнымі зьвесткамі артыкул Лявона Юрэвіча “Календарыстыка”, прысьвечаны гісторыі выданьня беларускіх календароў ад “Паскаліі” Францыска Скарыны ў “Малой падарожнай кніжцы”, аб чым пісаў Вітаўт Тумаш і адзначаў 450-годзьдзе беларускага календара ў 1972 г. на старонках газэты “Беларус”, да 2007 г., калі традыцыя іх выпуску на эміграцыі была ўзноўленая Маратам Клакоцкім, рэдактарам “Вестак і паведамленьняў”, заснавальнікам і выдаўцом альманаху “Беларус”. Наступныя артыкулы аўтара пра рэдкія кнігі: рукапісныя — “Кнігарукапісы Міколы Панькова” (публікуецца паводле зборніка навуковых прац “Беларуская кніга ў кантэксце сусветнай кніжнай культуры”, Мінск: БДУКМ, 2012, вып. 4), машынапісныя, выкананыя на друкарцы — “Тамтэйшы самвыдат, або Гімн друкарцы”, друкаваныя — “Калюмбы” (пра мастацкае афармленьне аднайменнага зборніку Янкі Юхнаўца 1967 г.), “Кніга садоўніка Садоўскага” (публікуецца паводле выданьня “Запісы БІНіМ”, 2008, № 31), “Прыпавесці Язэпа Германовіча” (пра выданьне 1970 г., якое выйшла ў нямецкай друкарні “Логос”).

Акрамя матэрыялаў да гісторыі стварэньня кнігаў, падаюцца дзьве публікацыі Кастуся Мерляка і пра беларускія бібліятэкі і архівы

на эміграцыі (публікаваўся артыкул у газеце "Беларускі Голас", 1974, № 225 і асобнай адбіткай), якім папярэднічае тэкст пра Кастуся Мерляка з газэты "Беларус" (2007, № 505) з камэнтарам Лявона Юрэвіча. Завяршае чацьвертую частку артыкул "Made in BNR: да гісторыі марак і кружэлак на эміграцыі" (паводле публікацыі ў выданні "Запісы БІНіМ", 2010, № 33).

Пятая частка — успаміны-артыкулы: "Кніганоша Вітаўт Кіпель" (адмыслова напісаныя для дадзенай кнігі ўспаміны Вітаўта Кіпеля), "Ян Пятроўскі, перакладчык і друкар", "Калекцыянер з беларускімі каранямі: Расціслаў Палачанін", "Бібліятэкар з душою музыкі: Васіль Шчэцька", «"Людзі родзяцца роўнымі": Леў Акіншэвіч», ""В порядке исключения": Аляксандр Ружанцоў", "Іпастасі Вацлава Пануцэвіча", «"Я-ж пісаць ня ўмею": Часлаў Будзька», "Пісьменнік без біяграфіі: Пятро Палягошка", "Дзве душы маргінальнага беларуса: Кастусь Якуб-Птах", "Скарынавым шляхам: Аляксандр Орса", "Беларускі час: Мікола Гарошка", "Каралеўскі мастак: Міхась Саўка", "Мастак дадатнай і адмоўнай прастораў: Мікола Казак. Да 20-х угодкаў смерці", "Берлінскі скарыназнаўца: Норберт Рандаў".

І завяршае кнігу "Post scriptum: дзеці БССР": лісты і ўспаміны пра Рыгора Родчанку й Язэпа Дылу — з "Запісаў БІНіМ" (2005, № 28), Алену Юрэвіч[3] — маці аўтара.

Цалкам кніга Лявона Юрэвіча, як можна заўважыць, — складанка з успамінаў, лістоў, публікацый дзеячаў беларускай эміграцыі ў галіне кніжнай справы, а таксама ўласных рэфлексій аўтара паводле гэтых матэрыялаў у выглядзе прадмоваў-камэнтараў, даведкавых зьвестак і бібліяграфічных сьпісаў, спробаў пэўнага асэнсаваньня, а найболей разуменьня неабходнасьці захаваньня памяці пра ўнікальныя й амаль невядомыя ў Беларусі вынікі працы,. кніжнікаў, пісьменьнікаў, стваральнікаў і выдаўцоў часопісаў, календароў, брашураў, кніг — рукапісных і друкаваных, прадаўжальнікаў справы Скарыны на эміграцыі й ролі дзеячаў эміграцыі, у. тым ліку й самога Лявона Юрэвіча, у разьвіцьці скарыназнаўства.

У распаўсюджвальнікаў беларускіх кніжных выданьняў можна знайсьці самую разнастайную характарыстыку кнігі "Эмігрант Францыск Скарына, ці Апалогія": гістарычная, краязнаўчая, літаратуразнаўчая, мастацтвазнаўчая, мовазнаўчая — паводле зьместу, паводле мэтавага прызначэньня — навукова-папулярная, літаратурна-

[3] Гл. таксама: Доўнар, Ларыса. Моваю бібліяграфіі пра Алену Юрэвіч // Запісы БІНіМ. Вып. 31. Нью-Ёрк—Менск, 2008. С. 9—22; Бібліяграфія Алены Юрэвіч [падрыхтоўка да друку Таццяны Дзем'яновіч, Тамары Самайлюк, Ларысы Доўнар] // Запісы БІНіМ. Вып. 31. Нью-Ёрк—Менск, 2008. С. 30—44.

мастацкая, публіцыстычная (эсэістычная). І гэта, безумоўна, так. І ўсё ж. Апублікаваныя дакумэнты хоць і шматтэматычныя, аднак "нанізаныя" на агульную скарыназнаўчую вось, уяўляюць зь сябе адналітасьць, якую ўтварае іх кнігазнаўчая аснова — дакумэнтная й бібліяграфічная — ад стварэньня, распаўсюджаньня, чытаньня да захаваньня кніг, пэрыёдыкаў, календароў, гісторыя якіх падаецца праз выдавецкую, бібліятэчную й архіўную справу. Безумоўна, ужо даўно насьпеў час ацаніць усё тое, што было створана беларускай эміграцыяй у галіне кніжнай справы[4] й такім чынам вярнуць гэтую спадчыну з эміграцыі на радзіму. Зразумела, што такое вяртаньне — гэта найперш спэцыяльнае капітальнае вывучэньне, заснаванае на сучасных падыходах да гісторыка-кнігазнаўчых дасьледаваньняў і на аб'яднаньні намаганьняў вучоных з-за мяжы й з мэтраполіі. Дадзеная праца Лявона Юрэвіча, адлюстроўваючы кантэкст разьвіцьця скарыназнаўства, якому было характэрна змаганьне "за праўду" паміж савецкімі й замежнымі дасьледчыкамі, становіцца першай падобнай тэматычнай кнігай-архівам, важкай крыніцазнаўчай базай для далейшых канструктыўных навуковых распрацовак па гісторыі беларускай кнігі[5] й гісторыі станаўленьня цалкам беларускага кнігазнаўства[6], якое, сягаючы ў часы Францыска Скарыны, да ягоных прадмоваў, таксама раскрывае своеасаблівую Скарынаўскую апалёгію… апалёгію кнігі й чытаньня (асьветы, навукі, мудрасьці "*спасьціжэньня самога сябе*"), зь якой бярэ пачатак і сама беларуская кнігазнаўчая думка.

---

[4] Довнар, Лариса. Белорусское книговедение и национальное возрождение 1920-х годов // Knygotyra. Vilnius, 2007. Т. 48. С. 53—66; Доўнар, Ларыса; Герасімаў, Валер. Кніга беларускага замежжа: вызначэнне асноўных тэндэнцый у кнігавыданні // Новае слова ў беларусістыцы. Гісторыя і культуралогія: матэрыялы V Міжнароднага кангрэса беларусістаў, Мінск, 20—21 мая 2010 года / Міжнародная асацыяцыя беларусістаў; [пад рэд. А. А. Сушы; рэдкал.: Багдановіч І. Э. і інш.]. Мінск: Четыре четверти, 2012. С. 168—176. (Беларусіка = Albaruthenica; кн. 33).

[5] Гл.: Герасимов, Валерий; Довнар, Лариса. Наследие белорусской эмиграции в современной печати Беларуси и зарубежья // Knygotyra. Vilnius, 2008. Т. 50. С. 158—187; Доўнар, Ларыса. Гісторыя беларускай кнігі: вучэбны дапаможнік. Мінск: БДУКМ, 2012. — 252 с.

[6] Доўнар, Ларыса. Праблемнае поле беларускай кнігазнаўчай навукі і адукацыі // Беларуская кніга ў кантэксце сусветнай кніжнай культуры : зборнік навуковых артыкулаў. [Вып. 1]. Ч. 2. / Беларус. дзярж. ун-т культуры і мастацтваў. Мінск, 2006. С. 204—209; Довнар, Лариса. До и после Вацлава Ластовского: белорусская наука о книге в контексте персонального книговедения // Knygotyra. Vilnius, 2013. Т. 60. С. 170—191; Доўнар, Ларыса. Гісторыя беларускай кнігі і кнігазнаўства: дасягненні і патрэбы // Беларуская кніга ў кантэксце сусветнай кніжнай культуры: зборнік навуковых прац. Мінск, 2014. Вып. 5. С. 44–63.

***Аляксандар Фядута***
*Менск*

# “ЛІТШТУДЫІ” ЛЯВОНА ЮРЭВІЧА

*Юрэвіч, Лявон. Літштудыі. Мінск: Кнігазбор, 2017. — 208 с.*




Традыцыйна прадмова да філялягічнага дасьледаваньня мае адпавядаць шэрагу стандартаў. Яна пішацца або да выніковага, часьцей за ўсё юбілейнага выданьня працаў мэтра, што падводзіць вынік шматгадовых пошукаў і роздумаў, або да пасьмяротнай ягонай кнігі, што зьяўляецца данінаю памяці й павагі навукоўцу, які адышоў. У абодвух выпадках прадмову піша чалавек, чые навуковыя дасягненьні прынамсі раўнавартасныя дасягненьням юбіляра / памерлага — гэткі ж тытулаваны дасьледчык, што мае права паставіць сябе ў адзін зь ім навуковы шэраг. Кніга вядомага навукоўца Лявона Юрэвіча “Літштудыі”, пры ўсёй маёй павазе да яе, выніковай названая быць ня можа, як і ня можа быць названая этапнаю, — зборнік артыкулаў, пра зьмест якіх можна спрачацца, аднак любы чытач працаў Лявона Юрэвіча пацьвердзіць, што ў ягонай бібліяграфіі ёсьць і куды больш вартасныя выданьні. Вось чаму прадмова Ціхана Чарнякевіча да “Літштудыяў” чытаецца як своеасаблівы загадзя падрыхтаваны нэкралёг, час для якога прыйдзе, спадзяюся, ня вельмі хутка.

І гэта, бадай што, адзіны папрок, які рэцэнзэнт абавязаны выказаць у гэтым выпадку ўсім, хто меў дачыненьне да выданьня зборніку.

Цяпер мае сэнс перайсьці да аналізу тэкстаў, што ўвайшлі ў “Літштудыі”.

Нягледзячы на тое што перад намі менавіта зборнік артыкулаў, а не манаграфія, ён мае пэўную нутраную лёгіку, абумоўленую

навуковымі інтарэсамі аўтара. У першую чаргу гэта заўважна паводле ўлюбёных пэрсаналій, якім прысьвечаныя артыкулы. Такіх пэрсаналій тры — Янка Юхнавец, Уладзімер Караткевіч і Чорт, што часам прыкідваецца Сьмерцю.

Лявон Юрэвіч заслужана можа лічыцца найбуйнейшым знаўцам творчасьці Янкі Юхнаўца — надзвычай своеасаблівага й складанага беларускага паэта-эмігранта, на жаль, зацемненага ў вачах чытачоў постацямі іншых пісьменьнікаў-эмігрантаў, безумоўна выбітных Натальлі Арсеньневай, Алеся Салаўя й Масея Сяднёва. Менавіта Лявон Юрэвіч падрыхтаваў да выданьня найбольш поўны том паэзіі Юхнаўца, што пабачыў сьвет у Менску ў 2012 г.

У зьмест “Літштудыяў” увайшлі некалькі працаў, прысьвечаных асэнсаваньню фэномэну Юхнаўца, ягонай паэтыкі. Лявон Юрэвіч па-майстэрску ўпісвае свайго ўлюбёнага аўтара ў кантэкст эўраатлянтычнай культурнай традыцыі, выкарыстоўваючы тэарэтычныя напрацоўкі гэткіх розных мысьліўцаў, як Поль дэ Ман, Ханс-Георг Гадамэр ці Лорэнс Ліпкінг. Ня ведаю, ці быў знаёмы зь іхнымі працамі сам Юхнавец, але, думаю, яму спадабалася б выкарыстаньне інструмэнтарыю Гадамэра для аналізу ягонай творчасьці. Тым ня менш некаторая спрэчнасьць аўтарскіх высноваў цалкам апраўдваецца веданьнем матэрыялу: паўторым, што сп. Юрэвіч можа заслужана лічыцца найбуйнейшым знаўцам творчасьці Юхнаўца, значная частка спадчыны якога працягвае заставацца ў рукапісах.

Калі Юхнавец цікавіць дасьледчыка ў першую чаргу як паэт з арыгінальнай паэтыкай, то Караткевіч — як аб’ект пільнай увагі беларускай культурнай эміграцыі. Рэцэптыўная гісторыя беларускай літаратуры ўсё яшчэ не напісаная, але праблема ўзаемнага ўспрыманьня савецкай і несавецкай літаратуры (а пасьля распаду СССР — культурнай мэтраполіі й эміграцыі) непазьбежна будзе ў ёй адной з асноўных. Артыкул сп. Юрэвіча, прысьвечаны рэцэпцыі творчасьці Караткевіча беларускімі дасьледчыкамі-эмігрантамі і літаратуразнаўцамі-замежнікамі пакідае ў чытача непазьбежнае пачуцьцё недасказанасьці: хацелася б атрымаць болей інфармацыі, а стыль сп. Юрэвіча ў гэтай кнізе вымушана канспэктыўны (навуковец выразна не пажадаў дапісваць зборнік да фармату манаграфіі, нават калі й думаў пра гэта). Аднак без гэтай працы сп. Юрэвіча наўрад ці зможа ўжо сёньня абысьціся любы ўдумлівы чытач аўтара “Каласоў...” і “Хрыста...”. У будучыні ж гэтая невялікая праца стане да пэўнай ступені канспэктам разьдзела ў калектыўнай шматтамовай працы (калі казаць пра самога аўтара) або прыкладам таго, як варта пісаць рэцэптыўную гісторыю.

Нарэшце, трэці герой — спрадвечны вораг роду чалавечага, які выяўляецца ці Чортам, ці Сьмерцю, але ад гэтага не перастае быць

менш прывабным для любога пісьменьніка. На адносінах аўтара “Літштудыяў” з героем мы спынімся адмыслова, паколькі згаданы сюжэт здаецца нам надзвычай важным.

Лявон Юрэвіча — магчыма, праз тое, што ён не знаходзіцца ў беспасярэдняй залежнасьці ад беларускіх постсавецкіх (і, скажам шчыра, неасавецкіх) навуковых інстытуцый, — дастаткова вольны, каб ня толькі апісваць лёсы асобных літаратурных дзеячаў, гісторыю тэкстаў, але і трактаваць тыя лёсы й тэксты, не аглядаючыся на навуковы генэралітэт. Ягоныя ацэнкі аказваюцца таму сьвежымі й неардынарнымі.

Прывядзём прыклад.

Адзін з найбольш заўважных, на наш погляд, артыкулаў, уключаных аўтарам у зборнік, прысьвечаны казачнай аповесьці Зьмітрака Бядулі “Срэбраная табакерка”. Аповесьць гэтая, на думку сп. Юрэвіча, якая супадае і з нашаю, знаходзіцца на маргінальным становішчы ў беларускіх дасьледчыкаў. Яе лічаць ня надта “сур’ёзнай”, і, напрыклад, у аднатамовік выбраных твораў Бядулі, што выйшаў у выдавецтве “Кнігазбор”, яна ўключаная не была. Але Лявон Юрэвіч падыходзіць да казкі зь нечаканага боку — ён трактуе яе як “казку з ключом”. Нагадаем пра той фурор, які зрабілі некалі артыкулы, прысьвечаныя казцы Аляксея Талстога “Залаты ключык”, калі, прааналізаваўшы яе як “казку з ключом” (фактычна — адкрыўшы для дарослага чытача), Мірон Пятроўскі ўбачыў у ёй прысутнасьць паўнавартасных і вельмі жывых ацэнак Талстым калізій мастацка-літаратурнага жыцьця Петраграду 1910—1920-х гг. Пьеро, памятаецца, аказаўся Блокам, Арлекін — Андрэем Белым, а Карабас Барабас — і зусім Меерхольдам. Лявон Юрэвіч пераканаўча даводзіць, што Бядуля зь ягоным гіранічным стаўленьнем да рэалій міжваеннай савецкай эпохі ў нейкі момант прыходзіць да неабходнасьці выказаць свае ацэнкі ў зашыфраванай форме. І ў гістарычнай прозе, і ў прозе казачнай ён насяляе прастору тэксту гэроямі, за якімі ўгадваюцца рэальныя асобы і іхныя лёсы.

І Сьмерць робіцца для пісьменьнікаў адным з ключавых пэрсанажаў. Яна здольная схавацца паўсюль — і тое, што яна хаваецца ў табакерцы, ня робіць яе менш небясьпечнай. У любы момант можа яна вырвацца навонкі — і стаць паўнавартаснай царыцаю сьвету.

Калі ў “Язэпе Крушынскім” Бядуля хавае сваіх апанэнтаў пад цалкам зразумелымі імёнамі, дык у “Сярэбранай табакерцы” ў алегарычнай форме выяўляецца эпоха — зь ейным гвалтам, зь няспыннай пагрозаю творчай асобе. Аўтар хрэстаматыйна навязлага ў зубах апавяданьня “Пяць лыжак заціркі” выяўляецца мастаком, які здолеў адарвацца ад прымітыўна народніцкага ўспрыманьня рэчаіснасьці, уласьцівага шмат якім беларускім празаікам дарэвалюцыйнага пры-

зыву, і па-філязофску асэнсаваць сучасную яму рэчаіснасьць. Іншая справа, што чытач ня змог падняцца на дастаткова высокі ўзровень, каб ацаніць майстра. А магчыма і адваротнае: зразумеў, але вырашыў зрабіць выгляд, што не зразумеў галоўнага, што ўтрымлівалася ў фармальна казачным тэксьце.

У гэтым дачыненьні паказальны і заключны артыкул зборніку — "Сьмерць у люстэрку беларускай літаратуры". Лявон Юрэвіч у назове нібыта працягвае гульню Зьмітрака Бядулі, але ўжо не з эпохаю, а зь літаратурнымі тэкстамі, нагадваючы нам вядомую кнігу Адама Мальдзіса "Беларусь у люстэрку мэмуарнай літаратуры". Пры гэтым сп. Юрэвіч падкрэсьлівае, што супрацьстаяньне паняцьцяў "Сьмерць — Памяць" наогул характэрна для беларускай літаратуры, і яшчэ больш узмацняе паралель: мэмуарная творчасьць, урэшце, ёсьць спробаю рэалізаваць патэнцыял памяці ў адной з магчымых формаў. Хацелася б адзначыць, што такі падыход, на наш погляд, ёсьць наватарскім. Аднак рэцэнзэнт мае прызнацца, што ягоныя ўласныя ўяўленьні па дадзенай тэме сфармаваныя расейскім літаратурным і навуковым кантэкстам, а таму меркаваць, ці былі папярэднікі ў сп. Юрэвіча ў гэтым падыходзе, нам казаць складана. Адзначым толькі, што вырашаная пераважна на матэрыяле творчасьці аўтараў-эмігрантаў праблема ўжо таму зьяўляецца надзвычай важным крокам наперад: замежны мацярык беларускага літаратурнага сьвету ўсё яшчэ недастаткова дасьледаваны.

Можна сказаць, што сам сп. Юрэвіч цалкам мог бы стаць героем сваёй кнігі — не цэнтральным, але дастаткова яркім, бо, супрацьпастаўляючы Сьмерці (г. зн. Забыцьцю) Жыцьцё (г. зн. Памяць), ён робіць усё, каб ажывіць забытых, гэта значыць памерлых для нас ці не зусім ацэненых намі, аўтараў. І тое яму ўдаецца цалкам.

Менавіта таму хочацца пацьвердзіць нашую думку: прадмовы нэкралягічнага кшталту да кніг Лявона Юрэвіча пісаць рана. Дасьледчык жывы, працуе, піша. І ягоныя літаратурныя штудыі яшчэ ня раз прымусяць нас задумацца пра адэкватнасьць успрыманьня беларускай нацыянальнай культуры.

***Юры Грыбоўскі***
*Варшава*

# БЕЛАРУСЫ Ў ЗША

*Вітаўт Кіпель. Беларусы ў ЗША. Менск: Кнігазбор, 2017. — 632 с.*




Кніга, якую мы зараз трымаем у руках, гэта другое (дапрацаванае й пашыранае) выданьне працы “Беларусы ў ЗША” аўтарства Вітаўта Кіпеля, выбітнага беларускага навукоўца, гісторыка, грамадзкага дзеяча на эміграцыі, аўтара шэрагу грунтоўных і фундамэнтальных публікацый, прысьвечаных беларускай гісторыі й беларусістыцы. Нагадаем, што першае выданьне пабачыла сьвет у 1993 г. у Менску[1], а паміж абодвума выданьнямі ў 1999 г. выйшаў яшчэ й ангельскамоўны варыянт. Паводле словаў аўтара, падрыхтоўка другога выданьня доўжылася каля двух гадоў, цягам якіх аўтару дапамагалі Натальля Гардзіенка й Лявон Юрэвіч.

Дадзеная кніга ёсьць плёнам шматгадовай і цяжкай працы ў архівах і бібліятэках, а таксама вынікам уласных перажываньняў і назіраньняў. Гартаючы працу Вітаўта Кіпеля, мімаволі пераконваешся, што такая кніга магла выйсьці толькі з-пад пяра вельмі здольнага дасьледчыка, чыннага ўдзельніка беларускай дыяспары, чалавека зь вялізным жыцьцёвым досьведам. Крыніцавую базу дасьледаваньня складаюць матэрыялы Беларускага інстытуту навукі й мастацтва ў Нью-Ёрку, амэрыканскіх установаў і беларускіх эміграцыйных арганізацый, сьведчаньні відавочцаў, уласныя зборы аўтара[2]. Пазна-

[1] Кіпель, Вітаўт. Беларусы ў ЗША. Менск: Беларусь, 1993. — 348 с.

[2] Частка архіву Вітаўта Кіпеля захоўваецца ў зборах Архіву Цэнтру дасьледаваньняў іміграцыі Ўнівэрсытэту Мінэсоты (Мінэапаліс).

вальную й навуковую каштоўнасьць кнігі насамрэч цяжка пераацаніць. Безумоўна, гэтую працу належыць залічыць да дасьледаваньняў фундамэнтальнага характару. Кніга ёсьць грунтоўны кампэндыюм ведаў пра гісторыю й сучаснасьць беларускай дыяспары ў ЗША. Адначасова гэта дасканалы шляхавод па арганізацыях, падзеях і постацях Беларускай Амэрыкі.

Манаграфія ўяўляе зь сябе прэзэнтацыю падзей і фактаў у адпаведнасьці з храналёгічным парадкам. Чытач знойдзе ў ёй зьвесткі пра першых эмігрантаў зь Беларусі, якія ў XVII—XIX стст. апынуліся на амэрыканскай зямлі, даведаецца пра першыя спробы беларускай дзейнасьці ў міжваенны час, а таксама актыўнасьць у гады Другой сусьветнай вайны. Асноўная ж ўвага, натуральна, надаецца гісторыі паваеннай беларускай эміграцыі. Аўтар асьвятляе ўсе бакі жыцьця амэрыканскіх беларусаў у гэты час: падрабязна разглядае палітычную, рэлігійную й грамадзка-культурніцкую чыннасьць, робіць спробу стварэньня сацыяльнага партрэту амэрыканца-беларуса, аналізуе месца беларусікі ў сродках масавай інфармацыі ЗША. Наватарствам ёсьць таксама асьвятленьне яшчэ аднаго малавядомага аспэкту жыцьця на чужыне, а менавіта працэсу асыміляцыі (амэрыканізацыі) эмігрантаў-беларусаў. На некаторыя пытаньні складана, аднак, знайсьці дакладныя адказы. Напрыклад, гэта тычыцца колькаснага складу амэрыканскіх беларусаў, а дасюлішнія спробы падлікаў маюць арыентацыйны характар. Аўтар раскрывае прычыну гэтага стану рэчаў і піша, што працяглы час беларусы адсутнічалі ў амэрыканскіх нацыянальных статыстыках, датычных эмігрантаў зь Беларусі, якія, падобна як прадстаўнікі іншых народаў Расейскай імпэрыі, заганяліся ў рубрыку “расейцы”. Аўтар слушна адзначае, што гэткая палітыка мела далёкасяжныя наступствы для беларусаў і іх нацыянальнага самавызначэньня на чужыне.

Вітаўт Кіпель не абмяжоўваецца вылучна асьвятленьнем дзейнасьці беларускіх грамадзкіх, палітычных, культурных ці рэлігійных арганізацый і таварыстваў. Ён паказвае шматаблічнасьць і шматкультурнасьць эмігрантаў зь Беларусі. Так, напрыклад, піша пра беларускіх габрэяў у Амэрыцы, а таксама старавераў, якія цалкам альбо часткова інтэграваліся ў беларускую культуру. Па-за яго ўвагай не засталіся таксама беларускія праявы ў чыннасьці расейскай эміграцыі. Многія ўзьнятыя на бачынах працы аспэкты й эпізоды яшчэ патрабуюць дэталёвага вывучэньня й могуць быць тэмай асобных манаграфій.

Кніга Вітаўта Кіпеля ёсьць выдатнай інсьпірацыяй і дае добры штуршок да далейшых дасьледаваньняў, якія павінны адбывацца з улікам як эміграцыйных збораў, гэтак і крыніцаў у мэтраполіі, да якіх аўтар ня меў магчымасьці доступу. Аўтар ставіць розныя пытаньні,

стварае своесаблівы каталёг праблемаў, што мае значна аблегчыць працу наступным дасьледчыкам, якія будуць займацца дадзенай тэматыкай. Характэрнай рысай працы ёсьць ейны аб'ектывізм у паданьні матэрыялу. Зьвяртаем увагу на гэтую акалічнасьць таму, што аўтар належыць да пакаленьня паваеннай эміграцыі, якая, як вядома, зазнала сур'ёзныя падзелы. Трывалы й шматгадовы раскол на "крывічоў" і "зарубежнікаў" выклікаў узаемную варожасьць, якая знаходзіць сваё адлюстраваньне ў працах многіх эмігрантаў — сучасьнікаў аўтара. Амаль кожная праца носіць на сабе таўро аднабаковасьці, а аўтары выразна займаюць месца на адным з бакоў "барыкады". Гэтага ні ў якім выпадку нельга сказаць у дачыненьні да кнігі Вітаўта Кіпеля. Аўтар працы ўзьняўся па-над усялякімі падзеламі й асьвятляе гісторыю эміграцыі з гледзішча навуковай аб'ектыўнасьці.

Чытач можа заўважыць, што паводле сваёй структуры другое выданьне амаль нічым не адрозьніваецца ад першага, ня лічачы аднаго з разьдзелаў, прысьвечанага беларуска-амэрыканскім дачыненьням. Тым ня менш другое выданьне большае па памеры, значна больш ілюстраванае, дапрацаванае й дапоўненае. Галоўнае адрозьненьне тычыцца храналягічных межаў працы. Па зразумелых прычынах у першым выданьні была асьветленая гісторыя амэрыканскіх беларусаў да пачатку 1990-х гг. Тым часам, у другім дадаліся часткі, у якіх аўтар прасачыў жыцьцё беларускай дыяспары за акіянам да нашых дзён. Такім чынам, найноўшае выданьне было падрыхтавана з улікам зьменаў, якія адбыліся на працягу апошняга 20-годзьдзя. Гэта вельмі цікавы й насычаны на падзеі час, які характарызаваўся прыбыцьцём у Амэрыку новых эмігрантаў зь Беларусі, пачаткамі дыпляматычнай актыўнасьці беларускай дзяржавы за акіянам, узаемаадносінамі паміж дыяспарай і мэтраполіяй. Згаданай праблематыцы цалкам прысьвечаны разьдзел "Рэспубліка Беларусь: новыя амэрыканска-беларускія дачыненьні й новая хваля эміграцыі". Дасьледчык аналізуе зьмены, якія адбыліся ў жыцьці дыяспары пад уплывам грамадзка-палітычных і сацыяльна-эканамічных пераўтварэньняў на бацькаўшчыне, паказвае ролю дыяспары ў захаваньні й пашырэньні сярод амэрыканскага грамадзтва ідэі беларускай незалежнасьці. Чытача могуць зацікавіць узаемаадносіны і кантакты паміж старымі (паваеннымі) эмігрантамі й новымі, якія прыехалі ўжо зь незалежнай Беларусі. Аўтар разглядае пытаньні пераемнасьці пакаленьняў, а таксама паказвае ўнёсак прадстаўнікоў найноўшае хвалі эміграцыі (напрыклад, Алены й Лявона Юрэвічаў) у грамадзка-культурную й дасьледчыцкую дзейнасьць дыяспары. Высновы дасьледчыка дадаюць аптымізму: новыя эмігранты (а прынамсі іх частка) выдатна дапамагаюць пашырэньню беларускіх незалежніцкіх ідэалаў і бяруць чынны ўдзел у эміграцыйных арганізацыях. З кнігі можна таксама

шмат даведацца наконт стаўленьня беларускай супольнасьці ў ЗША да палітычных падзей і зьменаў у Беларусі ў сярэдзіне 1990-х гг. Новыя часткі й разьдзелы маюць ня толькі навуковы, але й мэмуарны характар, у якіх аўтар дзеліцца ўласнымі назіраньнямі й разважаньнямі наконт мінулага й сучаснага стану дыяспары.

Другое выданьне кнігі Вітаўта Кіпеля ёсьць надзвычай вартаснай крыніцай інфармацыі для дасьледчыкаў беларускай эміграцыі ў Амэрыцы яшчэ і таму, што яно ўтрымлівае каштоўныя зьвесткі пра беларусістыку ў амэрыканскіх архівах і бібліятэках. Аўтар падкрэсьлівае навуковыя й выдавецкія набыткі апошняга часу, якія тычыліся гісторыі беларускай дыяспары ў ЗША. Надзвычай цікавым ёсьць разьдзел прысьвечаны ролі амэрыканскіх бібліятэк, навуковых і навучальных установаў у прапагандзе беларускай спадчыны. Неабходна падкрэсьліць, што цягам апошніх гадоў многія беларускія дзеячы на эміграцыі перадалі амэрыканскім адукацыйным установам уласныя кнігазборы й архівалії. Такім чынам, пры паасобных унівэрсытэтах (у Прынстане, Нью-Брансьвіку, Мінэсоце) узьніклі салідныя беларускія калекцыі. Праблема "расьцярушанасьці" гэтых збораў па-ранейшаму, аднак, ёсьць значным выклікам для дасьледчыка. Тым часам кніга Вітаўта Кіпеля дае добрае ўяўленьне пра іх зьмест і характар, стварае магчымасьць належнай падрыхтоўкі да будучых архіўных пошукаў. Такім чынам, выхад другога выданьня можна лічыць трапным адказам на запатрабаваньне часу.

З упэўненасьцю можна сьцвярджаць, што праца "Беларусы ў ЗША" будзе вельмі карыснай як адмыслоўцам, якія займаюцца эміграцыйнай праблематыкай, так і аматарам, якія проста цікавяцца гісторыяй. Чытачы, знаёмыя з папярэднім выданьнем, знойдуць у ёй шмат цікавых дапаўненьняў пра тое, як выглядала жыцьцё беларускай дыяспары за акіянам пасьля 1991 г., а тыя, каму не даводзілася гартаць першае выданьне, адкрыюць для сябе зусім новы й цікавы кантынэнт пад назвай "Беларуская Амэрыка".

На заканчэньне нашага кароткага агляду працы Вітаўта Кіпеля цяжка паўстрымацца ад пэўнай рэфлексіі. Калі ў далёкім 1993 г. у Менску пабачыла сьвет першае выданьне гэтай кнігі, мала хто на бацькаўшчыне ведаў пра існаваньне й дзейнасьць беларускіх арганізацый у ЗША. Праблематыка, якой была прысьвечаная манаграфія, пэўна шмат кім успрымалася як вельмі экзатычная й далёкая. У сувязі з гэтым мімаволі прыходзіць на думку параўнаньне кнігі "Беларусы ў ЗША" з дасьледаваньнем беларуска-польскага гісторыка Юрыя Туронка "Беларусь пад нямецкай акупацыяй". У абодвух выпадках мы маем дачыненьне зь піянэрскімі працамі, якія запачаткавалі новую якасьць у ранейшых дасьледаваньнях, дазволілі беларускім гісторыкам зусім па-іншаму зірнуць на пэўныя рэчы,

стварылі поле для далейшай дыскусіі й даследаваньняў. На абедзьвюх працах выхавалася кагорта маладых беларускіх гісторыкаў. Думаю, што ня будзе перабольшаньнем, калі сказаць, што дзякуючы гэтым выданьням адбыўся пэўны перад\u043eлом у дасьледаваньнях многіх аспэктаў беларускай гісторыі ХХ ст. Пасьля выхаду вышэйзгаданай кнігі Юрыя Туронка многія перасталі глядзець на падзеі Другой сусьветнай вайны вылучна вачыма савецкай гістарыяграфіі, а паняткі “калябарацыя” й “акупацыя” перасталі быць табу ў беларускім навуковым асяродзьдзі. У сваю чаргу, праца Вітаўта Кіпеля расплюшчыла вочы на існаваньне іншага аблічча Беларусі. Яна дапамагла вярнуць на радзіму імёны незаслужана забытых сыноў і дачок. Аўтар пераканаўча давёў, што гісторыя беларусаў — гэта ня толькі тое, што адбывалася на бацькаўшчыне, а што існуе яшчэ адзін ейны бок — эміграцыйны і дасягненьні й посьпехі родзічаў на чужыне — гэта агульныя набыткі ўсяго народу.

Цягам апошняга часу праблематыка беларускай эміграцыі (ня толькі ў ЗША) стала прадметам дасьледчыцкай увагі на радзіме, у чым ёсьць бясспрэчная заслуга кнігі Вітаўта Кіпеля. Яскрава пераконвае ў гэтым навуковы нарыс Натальлі Гардзіенкі “Вывучэнне гісторыі і сучаснасці беларускай эміграцыі ў ЗША (1993—2016 гг.)”, які дапаўняе другое выданьне. Аўтарка падагульнае дасягненьні й вынікі дасьледаваньняў беларускай дыяспары, ацэньвае плён працы па гэтай тэматыцы ў прамежку паміж выйсцем першага й другога выданьняў працы Вітаўта Кіпеля, даводзіць, што ў гэты час актыўна вывучалася літаратурная спадчына пісьменьнікаў-эмігрантаў, дасьледаваўся пэрыядычны друк дыяспары, дачакалася грунтоўных працаў гісторыя беларускіх палітычных і камбатанцкіх арганізацый у замежжы. Нягледзячы, аднак, на плён апошніх гадоў, стан дасьледаваньня эміграцыйнай праблематыкі, у тым ліку датычнай беларусаў у ЗША, па-ранейшаму шмат у чым жадае быць лепшым. Як трапна адзначае Натальля Гардзіенка, колькасьць выступаў і публікацый у афіцыйных навуковых выданьнях зьмяншаецца. Адначасова аўтарка адзначае: *“для сістэматызаванага вывучэньня беларускай прысутнасьці ў ЗША й наогул беларускай эміграцыі ўсё роўна патрэбная асобная навукова-дасьледчая структура”*[3]. Такім чынам, мусім з сумам канстатаваць, што дасьледаваньні гісторыі беларускага замежжа ажыццяўляюцца дзякуючы паасобным гісторыкам, а не навукова-дасьледчым установам. З гэтым меркаваньнем пагаджаецца таксама аўтар разгляданай працы, які ва ўступе зьвяртае ўвагу на патрэбу

[3] Гардзіенка, Наталля. Вывучэнне гісторыі і сучаснасці беларускай эміграцыі ў ЗША (1993–2016 гг.) / В. Кіпель. Беларусы ў ЗША. Менск, 2017. С. 589.

ажыцьцяўленьня сыстэматычнага й інтэнсыўнага вывучэньня беларускай эміграцыі. Будзем жа спадзявацца, што хутка гэтак яно й будзе. Але ўжо зараз няма сумневу, што другое выданьне фундамэнтальнай працы Вітаўта Кіпеля “Беларусы ў ЗША” пакіне пасьля сябе трывалы сьлед у гістарычнай навуцы, а таксама будзе вельмі каштоўнай і значнай дапамогай будучым дасьледчыкам беларускага замежжа.

***Валянціна Лебедзева***
*Гомель*

# АБ РЫЦАРЫ БЕЛАРУСКАЙ СВАБОДЫ

*Тамаш Грыб. Выбранае. Мінск: Кнігазбор, 2017. — 476 с. — (Падсерыя “Спадчына: агледзіны”; серыя Бібліятэка Бацькаўшчыны: кн. 34).*




Напярэдадні набліжэньня пачэснага стогадовага юбілею Беларускай Народнай Рэспублікі айчынныя дасьледчыкі вымушаныя канстатаваць слабую распрацоўку яе праблематыкі, не выключаючы й пэрсанальны аспэкт. У гэтым кантэксьце цяжка пераацаніць вартасьць выданьня “Тамаш Грыб. Выбранае”, якое гэтым годам пабачыла сьвет у выдавецтве “Кнігазбор” у сэрыі “Бібліятэка Бацькаўшчыны”. Яно прысьвечана аднаму з найбольш актыўных і інтэлектуальных удзельнікаў руху за нацыянальна-дзяржаўнае самавызначэньне, лідару Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянэраў, легендзе праскай эміграцыі. Варта пагадзіцца са складальнікамі й камэнтатарамі выданьня Натальляй Гардзіенкай, Лявонам Юрэвічам ды Андрэем Бучам, што малавядомасьць гэтай асобы ў сёньняшнім грамадзтве й незапатрабаванасьць ягоных твораў у навуковым дыскурсе зьяўляюцца фактам мала вытлумачальным. Але можам толькі дадаць, што, на жаль, гэты факт не адзінкавы, а датычыць многіх іншых як паплечнікаў, так і апанэнтаў Тамаша Грыба па беларускай справе.

Жыцьцё й дзейнасьць Тамаша Грыба цалкам адлюстроўваюць трагізм беларускай ідэі ў спробах яе ўвасабленьня ў першай трэці XX ст. Пазьнейшы гістарычны досьвед вынес крытычны прысуд левa-рэвалюцыйнай народніцкай дактрыне, якую спавядалі Тамаш Грыб

і ягоныя аднапартыйцы — беларускія эсэры. Гэта, аднак, не вызваляе ад неабходнасьці аналізу дзейнасьці той сілы, якая на беларускім палітычным полі 1920-х гг. праявіла сябе найбольш эфэктыўна і чыя ідэалёгія, стратэгія й тактыка ў значнай ступені вызначалася менавіта Тамашом Грыбам. Акрамя таго, як вызначыў Арсень Ліс, гэты дзеяч назаўжды застаўся *"рыцарам беларускай свабоды"* — маральным ідэалам і прыкладам самаахвярнага служэньня Бацькаўшчыне.

Як заўважаюць складальнікі, падборкай твораў яны імкнуліся адлюстраваць увесь спэктар зацікаўленьняў Тамаша Грыба. Том уключыў даволі разнастайныя матэрыялы: публіцыстыку, аўтабіяграфічныя занатоўкі, ліставаньне, пасьмяротныя ўспаміны аб дзеячы. Частка матэрыялаў публікуецца ўпершыню, а раней друкаваныя ў розных выданьнях і ў розныя часы зьвераны з арыгіналамі, набылі больш грунтоўны камэнтар і сабраныя пад адной вокладкай. Важна тое, што ў чытацкі ўжытак уведзены тэксты з рарытэтных і цяжка даступных айчыннаму чытачу выданьняў 1920-х гг., у прыватнасьці — віленскіх і праскіх, а таксама архіўныя. Каштоўным дадаткам зьяўляецца бібліяграфія Тамаша Грыба. Том пачынаецца з даволі кароткай прадмовы складальнікаў, у якой адсутнічае традыцыйны для такіх выданьняў біяграфічны нарыс, што апраўдваецца зьмяшчэньнем у тэкстах аўтарскага "Жыцьцяпісу" ад 1927 г.

Значны аб'ём кнігі складае **публіцыстыка** — творы, друкаваныя ў пэрыёдыках, многія зь якіх паводле аб'ему і ўзроўню аналітыкі выходзяць далека за межы жанру.

Зазначым, што больш раньнія артыкулы Тамаша Грыба 1919—1921 гг. адметныя сваёй палітычнай абвостранасьцю й зьяўляюцца непасрэднай рэакцыяй на лёсавызначальныя для Беларусі актуаліі. Прадметам *"апэратыўнага асэнсаваньня"* сталі савецка-польскія перамовы й наступствы Рыскага міру. Ва ўспрыманьні гэтых падзей аўтар выступае найперш як носьбіт тагачаснай эсэраўскай ідэалёгіі й тактыкі. Артыкулы "Новы беларускі ўрад", "Да каго прылучыцца", "Чаго прыйшлі лапчывыя польскія паны на Беларусь" і "Сучасныя думкі" прысьвечаны выкрыцьцю партыйных апанэнтаў — палянафільскага крыла беларускіх дзеячаў — і паказваюць сымпатыі да савецкай Беларусі. Аўтар вітае стварэньне ССРБ і Часовага рабоча-сялянскага ўраду як беларускага і як рэальнай альтэрнатывы антынацыянальнаму Аблвыканкамзаху. *"Панская й эксплюататарская"* Польшча ды прапольская плынь беларускіх палітыкаў супрацьпастаўленыя сялянскай Беларусі — сацыялістычнай і дэмакратычнай паводле сваёй прыроды. Тэзіс *"ніякіх кампрамісаў з акупантамі"* — адкрыты заклік да гвалтоўнага адпору польскім уладам ў Заходняй Беларусі — цалкам адпавядаў тактыцы БПСР і яе спадзяваньням на парытэт з бальшавікамі-беларусамі ў *"адбудове Беларускага дому"*.

Як лідар БПСР Тамаш Грыб заклікае бараніць *"маладую радавую Беларусь"*. Заўважым, што празь нядоўгі час і яму, і ягонай партыі давядзецца перажыць цяжкія расчараваньні. Пазбаўленьне ад ілюзіяў утрымае дзеяча ад вяртаньня на радзіму разам з многімі паплечнікамі ды ад страшэннага молаху рэпрэсіяў.

У праскі пэрыяд біяграфіі Тамаша Грыба, які пачаўся з 1922 г., ягоныя публіцыстычныя творы становяцца больш аб'ёмнымі, разнастайнымі паводле праблематыкі, грунтоўна-аналітычнымі.

Роздумы над лёсам Беларусі й прычынамі няўдачы дзяржаўніцкай справы падводзяць Тамаша Грыба да тэарытычнага асэнсаваньня праблемаў нацыі, якое завяршылася дактаратам "Пытаньне народу й нацыі" ў Карлавым унівэрсытэце.

Для гісторыі айчыннай грамадзкай думкі зьмешчаныя ў выданьні творы згаданай праблематыкі будуць цікавыя з пункту гледжаньня генэзісу айчыннай паліталёгіі й пошукаў яе метадалягічнага інструмэнтарыю. Тамаш Грыб рэзка выступае супраць вульгарызацыі бальшавікамі марксісцкага матэрыялізму і не пакідае ягоных пазіцый. Адначасова, напэўна, упершыню ў айчынным навуковым дыскурсе ён спрабуе выкарыстаць для аналізу грамадзка-палітычных працэсаў сучасныя яму сацыялягічныя й сацыяпсыхалягічныя мэтады. Гэта найбольш выявілася ў трактоўцы праблемы беларускай нацыі й яе інтэлігенцыі, дзе Тамаш Грыб адступае ад схематычнага клясавага аналізу й набліжаецца да тэорыі элітаў, фармаваньня іх этнічнай ідэнтыфікацыі, апрабуе таксама канцэпцыю стратыфікацыі. Тэме прысьвечаны працы "Аснаўныя падваліны вызвольнай ідэолёгіі беларускай нацыі" (1924), "Інтэлігенцыя і народ" (1931) "Нацыя як прадмет навуковага вывучэньня" (1933), "Рэлігійная справа на Беларусі" (1934) і інш.

Яшчэ ў віленскіх артыкулах "Сучасныя думкі" (1921) у палеміцы з польскімі палітыкамі Тамаш Грыб аспрэчвае тэзу аб адсутнасьці ў беларусаў інтэлігенцыі, што было прызнана паказьнікам культурнацывілізацыйнай недасьпеласьці да прэтэнзій на дзяржаўнасьць. Аўтар зьвяртае ўвагу на непазьбежны, хоць і асінхронны працэс паўстаньня эўрапейскіх нацый і іх дзяржаўнага самавызначэньня. Без эліты, найперш інтэлектуальнай, гэты працэс сапраўды немагчымы, але спэцыфіка Беларусі ацэньваецца з пазіцый клясава-нацыянальных: на зьмену наяўнай, адчужанай ад беларускага народу іншаэтнічнасьцю й інтэграванасьцю ў інтэрэсы суседніх імпэрскіх цэнтраў гарадзкой інтэлігенцыі прыйдзе інтэлігенцыя свая — вясковая. Яе нараджэньне відавочна дэманструе плеяда *"сялянскіх песьняроў"* — Янка Купала, Якуб Колас, Алесь Гарун, Цішка Гартны, Максім Гарэцкі ды інш. Натхнёны гістарычным аптымізмам, Тамаш Грыб, як бачым, пакідае адкрытым важнае пытаньне аб пэрспэктывах кансалідацыі шматлікіх

іншанацыянальных элемэнтаў у агульнабеларускіх інтэрэсах, іх далейшага лёсу ў працэсе беларускага дзяржаўна-нацыянальнага разьвіцьця.

Пры гэтым са свабодным разьвіцьцём нацый публіцыст наўпрост зьвязвае міжнародны лад: “*праз нацыянальнае адраджэньне і дзяржаўную незалежнасьць... ляжыць шлях да міжнароднай згоды і братоўства, а не праз насільства і асіміляцыю*”. На гэтым шляху беларуская сялянская, простая, мова здольная рэалізаваць ўнёсак беларусаў у сусьветную культуру. Праз праблему фармаваньня нацыянальнай інтэлігенцыі ацэньвае Тамаш Грыб і навучаньне беларусаў у Празе (артыкул “Мэты і заданьні”), вітаючы сярод студэнтаў Карлава ўнівэрсытэту 100 сялянскіх дзяцей з радзімы — “*факт раней не вядомы*”. Але, заўважае аўтар, гістарычныя рэаліі ставяць пытаньне аб запатрабаванасьці гэтых сілаў у Беларусі: ці прыме савецкая Беларусь спэцыялістаў з дыплёмамі Карлава ўнівэрсытэту й Чэскага вышэйшага тэхнічнага вучылішча?

Навуковы досьвед прывозіў аўтара да тэарытыка-метадалягічных абагульненьняў паняцьцяў і суадносінаў нацыі й дзяржавы. На думку Тамаша Грыба, гэтыя катэгорыі непадзельныя: толькі той народ, які ўжо мае альбо імкнецца да здабыцьця дзяржавы, можа разьлічваць на гістарычную пэрспэктыву, шматнацыянальныя дзяржавы зьнікнуць у будучыні, недзяржаўныя народы чакае той жа лёс.

Палітычная публіцыстыка закранае такія праблемы, як сутнасьць і палітычныя формы дзяржавы, сацыяльныя сілы самавызначэньня, мэтады дасягненьня самастойнасьці, суадносіны ўнутраных і зьнешніх рэсурсаў і г. д.

Адметна, што ў трактоўцы дзяржаўнасьці й незалежнасьці Тамаш Грыб не абмяжоўваецца палітычнымі мэтамі, а ўзвышаецца да філязофска-гуманістычных высноваў: “*незалежнасьць — не дзяля незалежнасьці, а для вызваленьня асабістай і калектыўнай чалавечай індывідуальнасьці*”, прычым індывідуальнасьці “*крытычна-думаючай*”, а не прыгнечанай дзяржаўнымі імпэратывамі. Толькі праз дасягненьне гэтага ляжыць шлях інтэграцыі ў “*вольную сувязь вольных народаў зямлі*”.

Беларусь пакуль не здабыла незалежнасьці й застаецца разарванай на часткі, але “*шлях да перамогі вядзе праз паражэньні*”, а памылкі — навука на будучыню.

Пры ацэнцы сілаў барацьбы за нацыянальную свабоду, палітычнай сутнасьці беларускай дзяржаўнасьці Тамаш Грыб не адступае ад клясычнага народніцка-сацыялістычнага падыходу. Асноўныя сілы тут — сялянства (90 % жыхароў Беларусі) і інтэлігенцыя, якая зь яго выходзіць, а “*незалежная беларуская дзяржава можа быць толькі працоўная, соцыялістычная, або яе зусім ня будзе*”. Адметна, ад-

нак, што ў працах 1930-х гг. Тамаш Грыб заўважае працэс абуджэньня нацыянальнай сьвядомасьці ў спалянізаваных ці зрусіфікаваных “непрацоўных” стратах — сярод памешчыкаў, шляхты, сьвятароў, прадстаўнікоў буржуазіі, мяшчанства, у якіх нібыта ўжо “*дзьве душы*”, “*дзьве радзімы*”. Аднак гэтым групам адводзіцца роля ўсяго толькі прыстасаванцаў да непазьбежнага нацыянальнага адраджэньня.

Тамаш Грыб выдатна разумеў ролю ў працэсе паўстаньня нацыі й дзяржавы такога рэсурсу як гістарычная памяць. Шэраг артыкулаў — “Да пытаньня аб навуковым досьледзе і вывучаньні Беларусі” (1928), “У 50-я ўгодкі часопісі “Гоман”” (1931), “З віру дзён мінаючых” і іншыя — сьведчаць пра ягоную нязбыўную цікавасьць да беларускай гісторыі й гістарыяграфіі. У названых працах згадваюцца прозьвішчы бадай усіх аўтараў, якія зрабілі больш-менш заўважны ўнёсак у распрацоўку беларусазнаўства ў дарэвалюцыйнай Расеі, Заходняй і Савецкай Беларусі: ад Івана Насовіча і да Самуіла Агурскага. Аднак дасягнуты ўзровень Тамаш Грыб ацэньвае скептычна, зьвяртаючы ўвагу на навуковую нераспрацаванасьць гісторыі, прыродна-эканамічнага патэнцыялу, сацыяльна-нацыянальнай структуры й адносінаў, гісторыка-юрыдычных помнікаў, традыцый прававой культуры, мастацкай спадчыны, рэлігійных адносінаў у Беларусі, вытокаў нацыянальнага руху. На погляд Тамаша Грыба, час вымагаў сыстэмнага досьледу, выяўленьня самаістасьці й індывідуальнасьці краіны, прымяненьня ў ім гісторыка-сацыялягічнай мэтадалёгіі, аналізу гістарычных працэсаў у статыцы й дынаміцы, уключэньня ў сусьветны кантэкст. Пры гэтым палітык ня бачыў подступу для вырашэньня гэтых задач у тагачаснай БССР, дзе ні Акадэмія навук, ні ўнівэрсытэт ня сталі беларускімі інтэлектуальна-навуковымі цэнтрамі. Тамаш Грыб вельмі рана адчуў працэс згортваньня й зьнішчэньня вынікаў беларусізацыі.

Празорлівы характар адносна палітычных працэсаў у БССР і СССР мае праца “Што такое нацыянал-дэмакратызм” (1935), у якой Тамаш Грыб паказаў прыроду савецкай партыйна-дзяржаўнай дыктатуры, непазбежнасьць спаўзаньня бальшавіцкай ўлады да ўнутраных рэпрэсій і зьнішчэньня нацыянальна-адраджэнцкіх памкненьняў народаў. Аўтар прароча прадказаў, што масавыя рэпрэсіі супраць “нацдэмаў” у БССР і беларускіх дзеячаў у Заходняй Беларусі трагічна паўплываюць на лёс беларускага народу ў XX ст.

У год сьвяткаваньня 500-гадовага юбілею беларускага кнігадруку прыцягнуць увагу чытача зьмешчаныя ў “Выбраным” **скарыназнаўчыя артыкулы** Тамаша Грыба — “Мейсца і значаньне Францішка Скарыны ў сучасным беларускім вызвальна-адраджэнскім руху” (1931), “Пад сьцягам Скарыны” й “Шляхам Скарыны” (1934), “Адвечны шлях — гэта ёсьць шлях Скарыны” (1935). Вобраз Францыска Скарыны аўтар зьвязваў з пошукам культурных

сымбаляў і ідэалаў, на якія магла б абаперціся маладая беларуская нацыя. Азначаючы ўзровень скарыназнаўства на момант сьвяткаваньня 400-годзьдзя беларускага кнігадруку (у тым ліку ў БССР), зьвяртае ўвагу на ацэнку Францыска Скарыны пераважна як перакладчыка й першадрукара, што абмяжоўвае постаць і дзейнасьць генія Беларусі. Тамаш Грыб робіць пасыл, які быў падхоплены й разьвіты далейшым скарыназнаўствам ХХ ст.: Францыск Скарына — вялікі мысьляр, філёзаф, рэлігійны й сацыяльны рэфарматар, *“вялікі рэвалюцыянэр свайго часу, змагар за дабро паспалітае”*.

Для Тамаша Грыба Францыск Скарына — яскравы носьбіт рэнэсансна-рэфармацыйных каштоўнасьцяў, а фармаваньне такой асобы ў рэчаіснасьці Беларусі XVI ст. — паказчык яе тагачаснай культурнай, гаспадарчай і палітычнай магутнасьці, сінхроннасьці разьвіцьця з агульнаэўрапейскімі працэсамі. Прапанаванае ў артыкуле “Шляхам Скарыны” трактаванне рэнэсанснага гуманізму захавала сваю паўнавартаснасьць аж да нашых часоў, што адзначылі камэнтатары “Выбранага” ў параўнаньні тэкстаў Тамаша Грыба й такога аўтарэтэту сучаснай беларускай філязофска-культуралягічнай думкі, як Сямён Падокшын.

Пры біяграфічных дасьледаваньнях асаблівае значэньне маюць крыніцы **эпісталярнага й мэмуарнага характару**. Яны раскрываюць кола і зьмест кантактаў, ацэнкі пэрсоны атачэньнем, найчасьцей дазваляюць аднавіць і дапоўніць факталягічны бок жыцьцяпісаў малавядомымі падзеямі асабістага жыцьця, навуковай і грамадзкай дзейнасьці. Унікальнасьць эпісталярных дакумэнтаў палягае ў магчымасьці пранікненьня ў духоўна-псыхалягічны сьвет асобы, у раскрыцьцё матываў яе дзейнасьці, у самаацэнкі. Ліставаньне дае таксама ўяўленьне аб стылі працы й эпісталярнай манэры.

Том “Выбранага” таксама ўключае раздзелы “Ліставаньне” й “Сучасьнікі пра Тамаша Грыба”. Ліставаньне ахоплівае пэрыяд 1921—1927 гг. Тут зьмешчаныя лісты толькі самога Тамаша Грыба да невялікага кола рэспандэнтаў — Сымона Рак-Міхайлоўскага, Міхася Мялешкі, Уладзімера Жылкі, Мікіты Шапавала, аднапартыйцаў. Тым ня менш гэты разьдзел выданьня атрымаўся даволі значным як паводле аб’ёму, так і паводле інфармацыйнай насычанасьці. Тэматыка эпісталярных кантактаў з адрасатамі разнастайная: актуальныя палітычныя справы й эсэраўская тактыка, кантакты з замежнымі паплечнікамі; сытуацыя ў беларускім эмігранцкім асяродзьдзі, у тым ліку студэнцкім; абмеркаваньне навукова-філязофскіх і творча-мастацкіх зьяваў.

Апошняя тэма найбольш раскрытая ў лістах да Ўладзімера Жылкі, у якім Тамаш Грыб бачыў блізкага па духу й сьветаадчуваньні паплечніка. Паэма Уладзімера Жылкі “Ўяўленьні” зрабіла на Тамаша

моцнае ўражаньне й вымусіла да разважаньняў пра паэтыка-сымбалічнае ўвасабленьне вобразу Маці-Беларусі. У ліставаньні з аўтарам твору Тамаш Грыб дазваляе сабе ацэнкі айчыннага навуковага й літаратурнага працэсу (пэўна, нечаканым для чытачоў, будзе водгук пра клясычную працу Яўхіма Карскага "Беларусы"), філязофска-эстэтычныя разважаньні на тэмы нацыянальнага менталітэту й інтэлектуальных здольнасьцяў беларусаў, адпаведнасьці беларускай літаратуры агульнаэўрапейскаму працэсу. Аўтар лістоў раскрывае разуменьне суадносінаў розуму й пачуцьцяў, рацыяльнага й эмацыйнага, катэгорый аб'ектыўнага й суб'ектыўнага, пазнаньня й ісьціны ў інтэлектуальнай і мастацка-творчай дзейнасьці. Ліставаньне з Уладзімерам Жылкам сьведчыць пра такія высокавартасныя рысы асобы Тамаша Грыба, як адданасьць людзям, неабыякавасьць да іх лёсу, вострае суперажываньне. Найбольш яскрава гэта адчуваецца ў фрагмэнтах ліставаньня, якія датычаць хваробы Ўладзімера Жылкі ды Палуты Бадуновай, расколу сярод паплечнікаў.

Асобнае месца ў разьдзеле займае ліст "Да сяброў партыі". Гэты аб'ёмны тэкст толькі па форме мае эпісталярны характар, а па сутнасьці зьяўляецца вострым палітычным памфлетам. Ён напісаны ў адказ на зварот лідараў часткі беларускіх эсэраў, якія засталіся ў Беларусі ў спадзяваньнях на парытэт з камуністычнымі сіламі. Час даказаў марнасьць такіх надзей, а ціск з боку савецка-чэкісцкіх структураў вымусіў кіраўніцтва БПСР да ліквідацыйнага зьезду, які адбыўся ў 1924 г. Адказам на пазіцыю падсавецкай часткі партыі й стаў разгорнуты ліст Тамаша Грыба, у якім ён выкрыў прыроду бальшавіцкай дыктатуры, яе несумяшчальнасьць з клясычнай тэорыяй сацыялізму й міжнародным сацыялістычным рухам. Разважаньні зноў прыводзяць аўтара да высновы пра будучыню беларускага народу: яна можа быць толькі ў межах уласнай дзяржаўнасьці, якая стане адмежаваньнем ад расейскіх камуністычных эспэрыментаў у сялянскай краіне.

Спэцыялісты й простыя чытачы адзначаць адмысловы літаратурны стыль, а таксама й лексіку Тамаша Грыба, частка якой, на наш погляд, патрабавала б тлумачэньня камэнтатараў.

Разьдзел **"Сучасьнікі пра Тамаша Грыба"** аб'яднаў успаміны й нэкралёгі. Зь першых найбольш непасрэдным, жывым і асабістым характарам вылучаецца фрагмэнт успамінаў Паўліны Мядзёлкі — ужо друкаваны Ўладзімерам Калесьнікам у 1993 г., але пададзены па больш поўным варыянце, падрыхтаваным Ганнай Запартыкай.

Пасьмяротныя ўспаміны-нэкралёгі, улічваючы іх аўтарства, даюць падставы для ацэнкі Тамаша Грыба як дзеяча беларускага й міжнароднага руху. Ягоны ўнёсак у навуковае й грамадзкае жыцьцё засьведчылі такія аўтарытэты, як лідар расейскіх эсэраў Віктар Чарноў

і вядомы чэскі славіст Адольф Чэрны. Пранікнёнасьцю й цікавымі фрагмэнтамі эпісталярыю, раскрываючымі нязьдзейсьненыя пляны Тамаша Грыба, вызначаецца тэкст Сяргея Сахарава.

Некалькі выпадковым у гэтай групе падаецца ліст Палуты Бадуновай, зьмест якога сьведчыць не столькі пра Тамаша Грыба, колькі пра хваравіты стан самой аўтаркі й патрабаваў бы большага камэнтару. Без камэнтару засталіся таксама й факсімільныя тэксты, зьмешчаныя ў гэтым разьдзеле, хоць сам прыём падачы матэрыялаў трэба прызнаць удалым.

Навуковую вартасьць "Выбранага" забясьпечвае грунтоўны камэнтар складальнікаў, які ўвасобіўся ў амаль тысячы спасылак, а па аб'ёме займае ня менш як чвэрць усяго тэксту. Тут сабраны каштоўныя зьвесткі пра пэрсаналіі й падзеі беларускага руху 1920—1930-х гг.

Уключаная ў том **бібліяграфія** складае 93 публікацыі Тамаша Грыба, у тым ліку на чэскай і ўкраінскай мовах, і 29 пазначэньняў сучасных перадрукаў ягоных твораў. Апошняе сьведчыць пра пэўны пад'ём цікавасьці да спадчыны дзеяча, які пакуль не завяршыўся аналітычнымі абагульненьнямі, бо з 9 публікацый, прысьвечаных асобе палітыка й мысьляра, усяго 3 — сучасныя артыкулы (прычым адзін належыць украінскай дасьледчыцы Вользе Ямковай), што пацьвяржае справядлівасьць заўвагі пра неасэнсаванасьць пэрсоны, ягонай спадчыны, а таксама й палітычнага кантэксту ягонай дзейнасьці.

Будзем спадзявацца на ўвасабленьне надзеі складальнікаў, што "Выбранае" мае стаць ня так сымбалічным помнікам... як прыступкай да будучага поўнага збору твораў і поўнай, без лякунаў, біяграфіі Тамаша Грыба.

***Ганна Севярынец***
*Менск*

# ГЭТАК ПЕРАМОЖАМ

*Уладзімір Самойла. Выбранае. Мінск: Кнігазбор, 2017. — 288 с. — (Падсерыя “Спадчына: агледзіны”; серыя Бібліятэка Бацькаўшчыны: кн. 34).*




Усё ж кожная кніга прыходзіць да чытача ў свой час. Як бы тое ні было крыўдна творцам і добразычлівым сучасьнікам гэтых творцаў, але траекторыя лёсу кнігі амаль ніколі не супадае з кірункамі лёсу ягонага аўтара, асабліва калі кніга — вартая сваёй уласнай траекторыі. Хацелася б, вядома, каб прарокаў у сваёй Айчыне чулі й шанавалі своечасова, аднак ці магла б Касандра стацца прарочыцай на ўсе будучыя часы, калі б траянцы насуперак Апалёнаваму пракляцьцю выразшылі ўсё ж прыслухацца да яе? Дый наогул ці была б Троя вечнай у гісторыі й культуры, калі б не спазнала горыч паразы, жах сьмерці, шчасьце Шліманавай веры ў яе — і перамогу адраджэньня для вечнага жыцьця?

Абавязковасьць зла — як спосабу нарадзіць і ўзгадаваць дабро. Неабходнасьць зла — дзеля таго, каб дабру было як мацавацца. Жывёльнае існаваньне народу — як неабходная ступень фармаваньня нацыі. Тэорыя крытычнага аптымізму, распрацаваная выбітным беларускім філёзафам Уладзімерам Самойлам у 1924 г., вяртаецца ў наш пост-постмадэрнісцкі час да нашчадкаў, стомленых татальным адмаўленьнем і адсутнасьцю Абсалютаў, у сваім бясспрэчным і афарыстычным выглядзе.

Тое, что ў 1924 г., да таго ж — у акупаванай Вільні падавалася недзе спрэчным, недзе — занадта рамантычным, дзесьці, мабыць, другас-

ным, сьпісаным з брашураў Фіхтэ й томікаў Канта, сёньня апынаецца максімамі, сьцьверджанымі самой гісторыяй.

*“Усе рэвалюцыі беспасярэдна давадзілі да нябывалага ўзмацаваньня ўлады ўраду, да неабмяжованага дэспатызму аднае ці некалькіх асоб, — вялі проста да ўзьвялічэньня рабства”.*

*“Як толькі народ, нават той, які мае так званую “сувэрэннасьць”, пачынае адставаць, духова абленівацца, як толькі ён губляе сваю творчую, працоўную актыўнасьць, — дык ўраз-жа пачынае губляць часткамі сьпярша фактычную, а пасьля і юрыдычную “ўласнасьць” нават на сваю ўласную дзяржаву… Яго тэрыторыя, яго натуральныя багацьці пераходзяць да дужэйшых канкурэнтаў, якія маюць вышэйшую духовую актыўнасьць і ўлажылі ў яго зямлю капітал сваей энэргіі. Народ пападае перш у эканамічнае, а пасьля і ў палітычнае рабства ў народаў з вышэйшай актыўнасьцяй”.*

*“Права на народную зямлю, на сваю бацькаўшчыну, на сваю мову, культуру, — на самавызначэньне, на вольнае развіцьцё, нацыянальнае аблічча і г. д — усе гэтыя правы цяпер ня толькі “бяруцца з бою”, але і валаданьне імі ўсьцяж трэба падтрымліваць заўсёды напружанай энэргіяй, вечнай духовай актыўнасьцяй, як-быццам запраўды кожную часіну заваёвываць нанова — пасярод вечнае канкурэнцыі народаў”.*

*“Гістарычнае самапазнаньне як частка грамадзянскай культуры ставіць сабе галоўную для грамадзянства мэту: самаўзгадаваньне”.*

Усе мы сёньня адчуваем недахоп нашых, беларускіх афарызмаў і максімаў датычна нацыянальнага самавызначэньня. Надта простыя, мабыць, для філёзафаў і культуролягаў, яны, як паветра, патрэбныя папулярызатарам беларушчыны, публіцыстам, школьным настаўнікам і музэйным супрацоўнікам, тым, хто паўсядзённа *“ідзе ў народ”* зь беларускім словам і беларускай праўдай. Стоячы перад вялікай і часьцяком недаверлівай аўдыторыяй, якая трымае напагатове стагодзьдзямі каваныя аргумэнты “супраць”, мімаволі шукаеш нешта сьпінай: магчымасьці абаперціся, адчуць непахісную сьцяну, намацаць пад нагамі надзейную глебу, вэрбальна выказаную, завостраную ня горш за тую, якая абавязкова будзе супраць цябе скарыстаная. На жаль, сёньня якаснай зброі для папулярызатараў не вырабляюць: постмадэрн. Мала хто бярэ на сябе рызыку выказацца наўпрост і бясспрэчна, а калі й бярэ — дык гэта выглядае (і часам ёсьць) тэндэнцыйным і палітычна матываваным. Зло й Дабро даўно ня маюць межаў і вымярэньняў і наогул рэдка адрозьніваюцца адно ад аднаго. Маральная інтуіцыя не працуе ўжо некалькі дзесяцігодзьдзяў — адкуль брацца якасным максімам?

Цяпер з такой нагоды мы можам адкрыць “Выбранае” Ўладзімера Самойлы.

Не, гэта, вядома ж, не хрэстаматыя для сучаснага агітатара й прапагандыста беларушчыны. Але гэта менавіта тая філязофія, зь якой вырастае публіцыстычна завостраная й аксіёматычна бясспрэчная нацыянальная ідэя, прыдатная для скарыстаньня, нацыянальная праграма, зразумелая ў выкананьні.

Менавіта ў гэтым бачыцца мне вялікая гістарычная справядлівасьць: творы выбітнага беларускага філёзафа Ўладзімера Самойлы, дасюль не зьбіраныя, прыходзяць да чытача менавіта сёньня, тады, калі яны нам асабліва патрэбныя. Так, з пункту гледжаньня справядлівасьці чалавечай такое выказваньне выглядае занадта цынічным, але апраўданьнем мне — Самойлаў крытычны аптымізм, які вучыць скарыстоўваць непазьбежнае гістарычнае зло дзеля перамогі нацыянальнага дабра.

*"Абсалютнае зло — гэта ленасьць волі"*, — фармулюе Ўладзімер Самойла. *"Бязспынная творчая актыўнасьць, якая чынна змагаецца з злом, ператвараючы яго ў дабро"* — наша агульнае выратаваньне. Сапраўды, у тым, што Ўладзімер Самойла, як і іншыя беларускія філёзафы — Ігнат Дварчанін, Ігнат Канчэўскі (Абдзіраловіч), Тамаш Грыб, Мар'ян Зьдзяхоўскі, Адам Бабарэка — былі выкрасьленыя з навуковага й чытацкага ўжытку, шмат у чым менавіта *"ленасьці волі"* народу, спакутаванага ў бясконцых войнах і акупацыях. Але колькі бясспыннай творчай актыўнасьці, чыннага змаганьня з гэтым непазьбежным нацыянальным злом у факце зьяўленьня "Збору твораў" Адама Бабарэкі, "Выбранага" Тамаша Грыба, зараз — "Выбранага" Ўладзімера Самойлы, колькі сапраўднай самаахвярнай працы, якая, пэўна, ня мела б таго нутранага стрыжня, той рамантычнай напружанасьці, якой асьветлена сёньня дзейнасьць рупліўцаў беларушчыны, калі б не была адказам на гэтае крыўднае забыцьцё й прыкры ігнор афіцыйнай акадэмічнай навукі. Як сапраўдны й праўдзейны крытычны аптыміст (а ўсё — чытаньне Самойлы!), не магу не зазначыць: мо яно й добра, што такія выданьні сёньня — справа не акадэмічных інстытутаў і дзяржаўных філялягічных службаў, а грамадзкіх аб'яднаньняў і асабістых ініцыятываў. Такія сэрыі, як "Спадчына: агледзіны", такія кнігі, як "Выбранае" Ўладзімера Самойлы, тое, што нясе ў сабе нутранае сьвятло альтруістычнай навукі, захоўваюць тое прыгожае імкненьне й імпэт, які кіраваў іх героямі, творцамі міжваеннага часу. Гэтая тугая спружына той самай самойлаўскай творчай актыўнасьці выразна бачна ў сьціслай, пругкай прадмове да выданьня Натальлі Гардзіенкі й Лявона Юрэвіча, у зьмесьце, у падборы матэрыялу, у ёмкіх, зьмястоўных камэнтарах, напісаных укладальнікамі й Аляксандрам Пашкевічам.

Яна ж кіруе шпаркім бегам крытычна-біяграфічнага нарысу, напісанага Ўладзімерам Конанам: нягледзячы на аб'ектыўна небага-

тыя зьвесткі пра жыцьцё Ўладзімера Самойлы, якія меў дасьледчык перад сабой, чытачу прапанаваная максымальна насычанае чытаньне — насычанае ня толькі фактаграфічна, але й эмацыйна. Наогул гэтая эмацыйнасьць навуковага тэксту, адзнака сапраўднай дасьледчыцкай апантанасьці, непазьбежны спадарожнік творчай актыўнасьці, уласьцівая й кожнаму тэксту самога Ўладзімера Самойлы.

Найперш, вядома ж, легендарнае эсэ “Гэтым пераможаш!”, сэрца выданьня, спружына творчай спадчыны філёзафа. Насамрэч яно павінна быць раскладзенае (і будзе раскладзенае!) на цытаты, статусы ў сацыяльных сетках, эпіграфы да манаграфій і формулы, ад якіх пачынаецца сур’ёзная філязофская спрэчка. Празрыстасьць і доказнасьць асноўнай ідэі, аўтарская ўпэўненасьць у ёй, бясспрэчная аргумэнтацыя й лёгкая вобразная мова, якой усё гэта выкладзена, робяць *“нарысы крытычнага аптымізму”* сур’ёзнай заяўкай на фармулёўку нацыянальнай ідэі, прыдатнай для сучаснага скарыстаньня. Для чалавека, у памяць якога ўжо пакладзена крывавае дваццатае стагодзьдзе зь ягонымі немагчымымі пытаньнямі й патрэбамі даваць на іх адказы, крытычны аптымізм Уладзімера Самойлы выглядае на шклянку чыстай пітной вады, надта простай пасьля філязофскіх напояў постмадэрну, але неабходнай хоць каб проста спатоліць смагу, а потым — і атрымаць сілы пераўтвараць ваду ў віно.

Далей — крытычныя артыкулы, прысьвечаныя творчасьці Янкі Купалы, Казіміра Сваяка, Натальлі Арсеньневай, літаратурнай пэрыёдыцы й асобным творам аўтараў 1920–1930-х гг. Крый божа, калі б раптам зьніклі ўсе мастацкія творы, а засталіся толькі крытычныя працы й школьныя падручнікі з цытатамі колішніх аэдаў і рапсодаў, як гэта некалі здарылася ў вогнішчы Александрыйскай бібліятэкі, дык няхай бы тыя падручнікі складаў Уладзімер Самойла — настолькі шчодра ён цытуе вершы сваіх герояў, настолькі трапна й густоўна адбірае матэрыял для аналізу. Героі ягоных крытычных разбораў паўстаюць перад чытачом ва ўсім багацьці паўсядзённасьці, у якой засьпеў іх крытык — тэматычнай, вобразнай, творчай і чалавечай. І адначасова, сабраныя разам, разборы гэтыя складаюцца ў бясконцы канструктыўны розум аб тым, што ёсьць беларус, Беларусь, душа беларуская, дзе праходзіць мяжа беларускага й чужога, што ёсьць нацыянальнае, а што —прынесенае звонку. Неадступная думка Самойлы пра нацыянальную ідэнтычнасьць і стратэгію будаваньня нацыі счытваецца амаль у кожным ягоным артыкуле.

Яшчэ адно багацьце выданьня — лісты.

І ў лістах Уладзімера Самойлы выразна бачу я тое высокае імкненьне думак, тую незвычайную ўнутраную праблематыку, той асаблівы строй, які ўласьцівы, прыкладам, эпісталярным і мэмуарным тэкстам выбітных дзеячаў рускага Сярэбранага веку й *“новай*

*рэлігійнай сьвядомасьці*" Андрэя Белага, Аляксандра Блока, Паўла Фларэнскага, Мікалая Бярдзяева. Тое, што становіцца тэмай абмеркаваньня звычайнага, падавалася б, ліста — ці ліста да рэдактара — насамрэч ёсьць тэмай філязофскай працы, экзістэнцыйнага роздуму, якім сапраўды жыве адрасант Уладзімер Самойла пасярод няўтульнага, беднага, нішчымнага міжваеннага жыцьця. Асаблівая, у нечым нават інтымная шчырасьць, зь якой ён дзеліцца сваімі ўласнымі перажываньнямі й думкамі пра роднае, нацыянальнае, грамадзянскае, сусьветна, — уражвае.

Дарэчы, з Аляксандрам Блокам Уладзімер Самойла быў добра знаёмы па пецярбурскім жыцьці, стала ліставаўся, меў у хатняй бібліятэцы зборнікі ягоных вершаў з інскрыптамі, але сувязі паміж імі былі значна глыбейшыя за сяброўскае ліставаньне. Як і для Блока, для Ўладзімера Самойлы філязофскія пытаньні былі пытаньнямі жыцьцятворчымі. Прадмет філязофскага пошуку — нацыянальнае самавызначэньне, роля мовы й адукацыі на роднай мове ў жыцьці народу ды асобнага грамадзяніна, пераход ад духоўнай ляноты да творчай актыўнасьці ў нацыянальным кірунку, усьведамленьне нацыі ў сабе й сябе ў нацыі — гэтыя пытаньні Самойла вырашаў практычна, падпарадкоўваючы ім уласны лёс.

Наогул, і тэматыка, і праблематыка, і стылістыка тэкстаў Уладзімера Самойлы вырастаюць на той жа глебе ды жывяцца тымі ж сокамі, што й эўрапейская філязофія пачатку стагодзьдзя: гэта тое ж пераасэнсаваньне клясычных пастулатаў, хрэстаматыйных фармулёвак, фундамэнтальных муроў і бясспрэчных ісьцінаў праз рэлігійныя прызмы, адмытыя ад стэрэатыпных напластаваньняў папярэдняга тэалягічнага пошуку. І ён бы стаўся для нас, пэўна, шараговым эўрапейскім філёзафам і публіцыстам, калі б ня быў сапраўдным беларусам у сваіх развагах і высновах. Нашае, беларускае — і ў шматмоўі творчай спадчыны, і ў цяжкім, але ўпартым шляху да мовы, і ў абагульненым рэлігійным патасе, і ў часовай аўтарскай няўпэўненасьці, і ў выразным адчуваньні культурнага "скрыжаваньня", на якім даводзіцца стаяць, як на юры, са сваімі невыноснымі пытаньнямі, якія не цікавяць паблізу нікога, апрача самога цябе.

Гэтая адзінота, сьвятая самота беларускага культурніка, якую зьведалі пэўна ўсе, хто стаяў на пачатку і новай беларускай літаратуры, і новай беларускай філязофіі (і ці не яна так добра вядомая нам і сёньня?), выразна адчуваецца ў тэкстах, якія фіналяць выданьне: у фактаграфічна насычаным нарысе польскай дасьледчыцы Аляксандры Бэргман, поўным каштоўных біяграфічных зьвестак юбілейным артыкуле Станіслава Станкевіча, а таксама ў кранальным і зьмястоўным інтэрвію сына Ўладзімера Самойлы, якога напрыканцы стагодзьдзя адшукала Аляксандра Бэргман. "*Один меж них в ревущем*

*пламени и дыме*" — радкі Максіміліяна Валошына напісаны нібыта й пра Ўладзімера Самойлу, які сапраўды захоўваў свой выключны, неангажаваны погляд на гістарычнае разьвіцьцё беларускай нацыі й дзяржавы пасярод сусьветных рэвалюцый, войнаў, тэрытарыяльных падзелаў і цяжкіх умоваў чалавечага побыту.

І хіба нам сёньня часам не даводзіцца адчуваць сябе гэтаксама? Хіба наогул у беларусаў ёсьць іншыя варыянты самаадчуваньня? І што застаецца нам, акрамя нашага нацыянальнага майстэрства ператвараць непазьбежнае навакольнае гістарычнае зло ў спрадвечнае народнае дабро? "*Народ стаецца тым, чым ён сам сябе штодзённа робіць*", — піша Ўладзімер Самойла. Рупнае зьбіраньне й захаваньне таго, што засталося нам ад папярэднікаў, пільная ўвага да таго, што робяць на карысьць народную сучасьнікі, няспынная творчая праца дзеля будучыні сваёй краіны, якую ніхто болей не забярэ, — здаецца, простая й натхняльная праграма на кожны беларускі дзень.

Гэтым — пераможам. І дапамагай нам, паўтаруся я за ўкладальнікамі "Выбранага" Ўладзімера Самойлы, — і дапамагай нам крытычны аптымізм!

***Натальля Гардзіенка***
***Яна Славіна***

# КНІЖНЫ АГЛЯД

Цягам 2016—2017 гг. пабачыла сьвет адметная колькасьць кніг, зьвязаных з эміграцыязнаўчай тэматыкай. На вялікую частку зь іх у гэтым выпуску "Запісаў" падаюцца адмысловыя рэцэнзіі, таму яны ня ўключаныя ў сёлетні больш сьціплы, чым традыцыйна, агляд. Тут жа прапануем кароткія згадкі пра некаторыя выданьні, наўпрост ці пасярэдна зьвязаныя з тэмаю беларускага замежжа, што пабачылі сьвет цягам апошніх гадоў.

Можна згадаць адразу некалькі выданьняў, зьвязаных зь беларускай прысутнасьцю ў балтыйскіх краінах. Так, у 2016 г. пабачыла сьвет другая кніга з сэрыі ***"Беларусы ў Літве: учора і сёньня"***, гэтым разам прысьвечаная рэлігійнай гісторыі, што адлюстроўваецца ў падназове ***"З Богам па-беларуску"*** (Вільня, 2016). Аўтар-укладальнік Аляксандар Адамковіч сабраў і прадставіў чытачам вялікую колькасьць дакумэнтаў, зьвязаных як зь дзейнасьцю паасобных беларускіх сьвятароў і актывістаў, так і з працай розных установаў, выданьнем пэрыёдыкаў і інш., што паказвае рэлігійнае жыцьцё (і праваслаўных, і каталікоў, і пратэстантаў) і ў міжваенны пэрыяд, і ў сучаснасьці. У кнізе багата ілюстрацыйнага матэрыялу, і яна, безумоўна, ня можа застацца па-за ўвагай дасьледчыкаў беларускай прысутнасьці ў Літве, а таксама рэлігійнай гісторыі Беларусі.

Пабачыла сьвет і перавыданьне працы віленскага беларуса Лявона Луцкевіча ***"Вандроўкі па Вільні"*** (першае выданьне — Вільня, 1998; другое — Мінск, 2016). Вядомы аўтарскі даведнік па беларускіх месцах сучаснай літоўскай сталіцы суправаджаецца выдатнымі, вельмі якаснымі ілюстрацыямі, што надаюць напісанаму больш як 20 гадоў таму тэксту новае гучаньне. Экскурсіі, якія вадзіў некалі па Вільні Лявон Луцкевіч, застаюцца актуальнымі й сёньня.

У 2016 г. выйшаў і чарговы, пяты выпуск зборніку ***"Латышы і беларусы: разам скрозь стагодзьдзі"*** (Латыши и белорусы: вместе сквозь века. Минск, 2016). Пэрыядычнае выданьне матэрыялаў канфэрэнцый, што ладзяцца ў Рызе й Віцебску на працягу пяці гадоў, зьмяшчае тэксты, прысьвечаныя беларускай прысутнасьці ў Латвіі, латыскай у Беларусі, а таксама беларуска-латыскім культурным, навуковым і іншым стасункам.

Яшчэ адзін канфэрэнцыйны зборнік, прысьвечаны “блізкаму замежжу”, — ***“Беларуска-польскія моўныя, літаратурныя, гістарычныя і культурныя сувязі”*** (Мінск, 2016) — гэтым разам зроблены ў гонар вядомай дасьледчыцы й дыплямата Альжбэты Смулковай. Частка тэкстаў тут прысьвечаная менавіта ёй.

З аўтарскіх дасьледчых выданьняў варта адзначыць брашуру філятэліста Лявона Карповіча ***“Беларуская паштовая марка: ад вытокаў да эміграцыі і Незалежнасьці”*** (Луна-Воля, 2017). Грунтоўны й добра ілюстраваны разьдзел аб філятэліі на эміграцыі тут фактычна паўтарае тэкст аўтара, зьмешчаны некалі ў нашым альманаху (№ 36. 2013).

Яшчэ адно выданьне, дзе прысутнічае важная эміграцыйная складовая, — кніга ***“Міхась Кукабака”*** (Мінск, 2016). Прысьвечаная жыцьцю й дзейнасьці дысыдэнта, яна зьмяшчае як біяграфічныя матэрыялы, так і творчую спадчыну дзеяча. Асобны разьдзел у выданьні мае назоў “Міхась Кукабака і праваабарончая дзейнасьць беларускай эміграцыі” й заснаваны на архіве Янкі Запрудніка, які ня толькі доўгі час ліставаўся зь беларускім дысыдэнтам, але й як журналіст Радыё “Свабода” й рэдактар газэты “Беларус” зьбіраў зьвесткі пра Кукабаку, быў адным з арганізатараў акцый у ягоную падтрымку.

Біяграфіі асобных беларусаў-эмігрантаў можна спаткаць у невялікай папулярнай кнізе ***Ігара Мельнікава “Забытыя героі: Жаўнеры з Беларусі ў Другім польскім корпусе і Першай польскай асобнай паветрана-дэсантнай брыгадзе”*** (Мінск, 2017). Кніга рэпрэзэнтуе матэрыялы да гісторыі беларускага ўдзелу ў польскіх узброеных фармаваньнях на Захадзе ў часе Другой сусьветнай вайны.

Асобна трэба адзначыць выдадзены ў 2016 г. пасьмяротны зборнік твораў аднаго з “адкрывальнікаў” беларускай эміграцыі пачатку 1990-х гг. ***Барыса Сачанкі “Пад сузор’ем сярпа і молата”*** (Мінск, 2016). Сярод іншых тэкстаў тут можна знайсьці “З жыцьця беларускай эміграцыі”, а таксама “Вяртаньне дадому”, дзе асобныя эсэ прысьвечаныя Натальлі Арсеньневай, Масею Сяднёву, Юрку Віцьбічу, Янку Юхнаўцу ды інш.

Працягвала ў апошнія гады публікавацца творчая спадчына беларускіх эмігрантаў. Адным з найбольш значных выданьняў стаў першы том збору архіяпіскапа БАПЦ ***Мікалая (Мацукевіча) “У малітве за Беларусь”*** (Нью-Ёрк — Люблін — Варшава, 2017). Укладзены Юрыем Гарбінскім больш як 800-старонкавы фаліянт склалі малітвы й пропаведзі ярарха, архіпастырскія пасланьні й лісты, гісторыка-культуралягічная праца, прысьвечаная мястэчку Моталь, публіцыстыка, успаміны. Тэксты ўладыкі Мікалая дапоўненыя згадкамі іншых асобаў пра яго, а таксама багатай фотахронікай яго-

нага жыцьця й дзейнасьці. Больш падрабязную рэцэнзію на гэтае выданьне мы плянуем зьмясьціць у наступным выпуску “Запісаў”.

Сярод важных выданьняў творчай спадчыны варта таксама адзначыць ***новы зборнік кампазытара Міколы Равенскага***. Сёлета выйшлі адразу два сшыткі харавых твораў (Мінск, 2017). Таксама заўважнай падзеяй стала зьяўленьне з друку перакладу раману ***“Надбярэзінцы” Флярыяна Чарнушэвіча*** (Мінск, 2017), беларуска-польскага аўтара, што ад 1925 г. жыў у Аргентыне. Асобна трэба згадаць невялікую эміграцыйную складовую ў выданьні ***“Бліскавіцы: Анталогія беларускай жаночай паэзіі міжваеннага перыяду”*** (Мінск, 2017), дзе сярод прадстаўленых аўтарак ёсьць, прыкладам, колішняя латыская беларуска Валянціна Казлоўская, пазьнейшая эмігрантка ў ЗША Натальля Арсеньнева або будучая жонка Прэзыдэнта БНР Міколы Абрамчыка Ніна Раса ды інш.

Цягам 2016—2017 гг. пабачылі сьвет два новыя (дзявяты й дзясяты) выпускі ***літаратурнага альманаху беларускіх пісьменьнікаў замежжа “Беларус”***, выдаванага ў ЗША Маратам Клакоцкім. Выданьне традыцыйна рэпрэзэнтуе творчасьць замежных беларускіх аўтараў, зьмяшчаючы на сваіх старонках, акрамя паэзіі й прозы, пераклады й тэксты мэмуарнага кшталту. Актыўна выдае свае працы суайчыньнік у Канадзе ***Пётра Мурзёнак***. У 2016—2017 гг. выйшлі дзьве ягоныя кнігі: ***“Шляхі да беларускай нацыі”*** (Мінск, 2016) і ***“Чым трэба ганарыцца кожнаму Беларусу”*** (Мінск, 2017).

Пададзены тут пералік выданьняў, зьвязаных зь беларускім замежжам, не вычарпальны. На некаторых іншых мы спынімся больш падрабязна.

*Кантакты: Сіла прыцягненьня Бацькаўшчыны (Да 90-годзя Янкі Запрудніка) / укл. Н. Гардзіенка, Л. Юрэвіч. Мінск: Кнігазбор, 2016. — 280 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны: кн. 30). (Наклад 300 ас.)*

Выданьне кнігі “Кантакты: Сіла прыцягнення Бацькаўшчыны” было прымеркаванае да 90-годзьдзя амэрыканскага беларуса Янкі Запрудніка й заснаванае на ягоным багатым эпісталярным архіве. Часткі гэтага архіву захоўваюцца як у самога дзеяча, так і ў ягоным фондзе ў Беларускім дзяржаўным архіве-музэі літаратуры й мастацтва ў Менску. У нечым выданьне можна лічыць працягам кнігі Янкі Запрудніка “Па гарачых сьлядах мінуўшчыны. Лісты 1952—1959 гг.”, што пабачыла сьвет у 2016 г. і ўкладаньнем якой займалася Валянціна Трыгубовіч. Цяпер жа — той самы архіў, але іншы ракурс і іншыя ўкладальнікі: Натальля Гардзіенка й Лявон Юрэвіч.

Кніга прадстаўляе разнастайныя па зьмесьце й часе лісты зь Беларусі. Сабраныя разам, яны дазваляюць убачыць, як і дзеля чаго




наладжваліся сувязі беларусаў зь Беларусі з суродзічамі-эмігрантамі. У кнізе ёсьць лісты й з яшчэ савецкіх часоў з газэты “Голас Радзімы”, і з 1980-х, калі сталі больш актыўна пісаць шараговыя беларусы, і з 1990-х, калі інтэнсіўнасьць паступленьня лістоў з Бацькаўшчыны ды разнастайнасьць адрасантаў істотна павялічылася.

Значную частку кнігі складаюць матэрыялы так званай праваабарончай дзейнасьці беларускай эміграцыі. Асабліва ў 1980-я Янка Запруднік у шэрагу іншых эмігрантаў і як рэдактар газэты “Беларус” стаў актыўна падтрымоўваць беларускіх іншадумцаў, найбольш вядомым зь якіх быў Міхась Кукабака. Гэтая галіна дзейнасьці беларускіх суродзічаў на Захадзе на сёньня вельмі мала дасьледаваная, таму ўкладальнікі “Кантактаў” пастараліся зьмясціць і своеасаблівую хроніку паведамленьняў пра беларускіх іншадумцаў у эміграцыйным друку, і бібліяграфію, і вялікую падборку лістоў да Янкі Запрудніка ад Міхася Кукабакі ўжо па вызваленьні, а таксама матэрыялы пра іншых, менш вядомых іншадумцаў. Матэрыялы, зьвязаныя з асобай Міхася Кукабакі, дапоўненыя й пашыраныя, потым увайшлі ў адмысловае выданьне, прысьвечанае гэтаму дысыдэнту (Міхась Кукабака. Мінск, 2016).

Па-за іншадумцамі адрасантамі Янкі Запрудніка былі пратэстанты, што адчувалі ўціск на радзіме, людзі, якія спадзяваліся знайсьці сваякоў, некалі эміграваўшых у Новы Сьвет, выдаўцы й аўтары ў пошуках падтрымкі сваіх праектаў, удзячныя суродзічы, што атрымалі тую ці іншую дапамогу.

Сабраныя ў “Кантактах” лісты зь Беларусі — толькі невялікая частка тае шырокай карэспандэнцыі, якая адрасавалася Янку Запрудніку й наогул суродзічам на Захадзе. Укладальнікі стараліся зрабіць нібы агульны зрэз, засьведчыць розныя ўзроўні, тэмы, характар зваротаў да замежных суайчыньнікаў. Разам гэтыя матэрыялы адлюстроўваюць і ўяўленьні мэтраполіі адносна дыяспары, і тое, чым жылі асобныя беларусы й беларускае грамадзтва цалкам у 1980— 1990-я гг.

Нягледзячы на тое што Янка Запруднік быў толькі адрасантам тых лістоў, ён — сапраўдны герой кнігі, бо як бы стаўся праваднікам го-

ласу мэтрапольных беларусаў для замежных суродзічаў. Да яго часта зьвярталіся, бо верылі, што голас будзе пачуты ня толькі рэдактарам газэты “Беларус” ці журналістам Радыё “Свабода”, але й шырэйшымі коламі беларусаў на Захадзе.

Добра камэнтаваная й ілюстраваная ўнікальнымі здымкамі з архіву Янкі Запрудніка кніга “Кантакты” стала і прыемным падарункам юбіляру, і выдатнай крыніцай для вывучэньня спэцыфічных дачыненьняў дыяспары й мэтраполіі.

*Я. С.*

*Да гісторыі беларускай дыяспары: матэрыялы конкурсу працаў пра беларускае замежжа, прысьвечанага 25-годдзю “Бацькаўшчыны”. Сш. 2. Мінск: Кнігазбор, 2016. — 176 с. (Наклад 150 ас.)*




У 2015 г. на сваё 25-годзьдзе Згуртаваньне беларусаў сьвету “Бацькаўшчына” другі раз (першы быў у 2004 г.) абвясьціла конкурс навуковых працаў, прысьвечаных беларускаму замежжу. У склад журы ўвайшлі прадстаўнікі й дыяспары, і мэтраполіі: *Натальля Гардзіенка*, гісторык, намесьнік дырэктара БДАМЛМ (Менск), — старшыня; *Валер Герасімаў*, тагачасны загадчык аддзелу старадрукаў і рэдкіх выданьняў Прэзыдэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь, намесьнік старшыні Рады МГА “ЗБС “Бацькаўшчына” (Мінск); *др. Янка Запруднік*, сябра ўправы Беларускага інстытуту навукі й мастацтва (Нью-Ёрк); *др. Вітаўт Кіпель*, старшыня Беларускага інстытуту навукі й мастацтва (Нью-Ёрк); *Лявон Юрэвіч*, архівіст Нью-Ёркскай публічнай бібліятэкі (Нью-Ёрк). За перамогу спаборнічалі 13 працаў зь Беларусі, Літвы, Расеі й Украіны. Вынікам спаборніцтва стала ня толькі ўзнагароджаньне пераможцаў, але й публікацыя зборніку “Да гісторыі беларускай дыяспары. Сшытак 2” (Мінск, 2016), у які ўвайшлі амаль усе конкурсныя тэксты.

Сярод удзельнікаў спаборніцтва й адпаведна аўтараў зборніку апынуліся асобы вельмі розныя. Гэткімі ж ёсьць і іхныя тэксты. Уз-

ровень працаў відавочна вырас у параўнаньні зь першым конкурсам і зборнікам, больш разнастайнай стала і іх храналёгія, і геаграфічны абсяг. Тэматыка тэкстаў ахоплівае імёны выхадцаў зь Беларусі й беларускія арганізацыі ад пачатку XIX ст. да сучаснасьці, уключае як біяграфічныя дасьледаваньні, гэтак і аналіз міграцыйных працэсаў, арганізацыйныя, моўныя й літаратурныя аспэкты дзейнасьці замежных беларусаў. Так, тэкст пераможцы конкурсу Вольгі Мярчук "Эміграцыя насельніцтва з Заходняй Беларусі ў розныя краіны сьвету ў 1921—1939 гг." — сур'ёзнае дасьледаваньне малавывучанай на сёньня тэмы міжваеннай эміграцыі. Праца, што заняла другое месца, — "Я не паляк, а беларус": паўстанец 1863 г. Мікалай Віткоўскі, яго жыцьцёвы шлях і навуковыя дасягненьні ў Сібіры" Аляксея Кухты — таксама арыгінальнае дасьледаваньне, заснаванае на архіўных крыніцах. Вялікую цікавасьць выклікаюць тэксты Эмануіла Іофе "Арыгінальны талент вучонага, паэта і палітыка", прысьвечаны Ігнату Дварчаніну, Аляксандра Крука "Мне сьняцца сны аб Беларусі… (Станаўленьне й дзейнасьць арганізацыі беларусаў Прыбайкальля)", Канстаціна Касяка "Культурніцкая дзейнасьць Вацлава Ластоўскага ў Ковенскай Літве", Марыны Яўсейчык "Вобраз нацыянальнага героя ў пэрыёдыцы дыяспары" ды інш.

Зьмест і якасьць тэкстаў зборніку дазваляе зрабіць некаторыя агульныя заўвагі наконт стану й пэрспэктываў вывучэньня беларускага замежжа. Ня можа ня радаваць тэндэнцыя паступовага росту цікавасьці да дыяспарнай праблематыкі ў дасьледчыкаў, пашырэньне тэматычнай разнастайнасьці, увага й да гісторыі, і да сучаснасьці. Важна й тое, што аўтары не абмяжоўваюцца пераказваньнем раней апублікаваных тэкстаў, а выкарыстоўваюць у сваіх працах арыгінальныя, у тым ліку й архіўныя, крыніцы. Усё гэта робіць зборнік "Да гісторыі беларускай дыяспары. Сшытак 2" ня толькі цікавым чытвом ды ілюстрацыяй стану эміграцыязнаўства, але й крыніцай арыгінальнай інфармацыі ды правакацыяй для новых дасьледаваньняў.

*Н. Г.*

*Гардзіенка, Натальля; Юрэвіч, Лявон. Хронікі БІНіМу: Гісторыя Беларускага інстытуту навукі і мастацтва ў дакументах, лістах і ўспамінах. Мінск: Кнігазбор, 2017. — 352 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны: кн. 33). (Наклад 200 ас.)*

На фоне выданьня кніг пра эміграцыйныя Раду БНР, БЦР, Беларускі кангрэсавы камітэт Амэрыкі, падрыхтоўкі выданьня пра Беларуска-Амэрыканскае задзіночаньне цалкам заканамерным выглядае зьяўленьне працы, прысьвечанай Беларускаму інстытуту навукі й мастацтва. Гэтая ўстанова, што паўстала ў 1951 г. і мела на

мэце аб'яднаньне беларускіх інтэлектуалаў, якія апынуліся на Захадзе, стала эпіцэнтрам нацыянальнага навукова-культурнага жыцьця эміграцыі. Згуртаваўшы каля сотні пісьменьнікаў і мастакоў, кампазытараў і мовазнаўцаў, літаратуразнаўцаў ды іншых навукоўцаў, БІНіМ ладзіў дыскусіі, прэзэнтацыі, выставы, канфэрэнцыі, выдаваў і працягвае выдаваць пэрыёдыкі ды кнігі. Дзейнасьць гэтай інстытуцыі даўно патрабуе сур'ёзнага вывучэньня й асэнсаваньня, і праца Натальлі Гардзіенкі й Лявона Юрэвіча ёсьць першаю прыступкаю на гэтым шляху.




Зрабіць кнігу, прысьвечаную дзейнай да сёньня арганізацыі, тым больш у працу якой заангажаваныя самі аўтары, — надзвычай складаная задача. І Натальля Гардзіенка й Лявон Юрэвіч знайшлі добрае яе вырашэньне, абраўшы жанр хронікі й аддаўшы права расказваць пра БІНіМ самім ягоным стваральнікам і ўдзельнікам. Абапіраючыся на дакумэнты з архіву БІНіМу, які ў працэсе падрыхтоўкі кнігі працягваў свой дрэйф зь Нью-Ёрку ў Менск, у Беларускі дзяржаўны архіў-музэй літаратуры й мастацтва, аўтары выбудоўваюць гісторыю інстытуцыі паводле лістоў і справаздачаў, пратаколаў і інфармацыйных паведамленьняў, успамінаў і прэс-рэлізаў. У выніку чытач атрымоўвае жывую карціну дзейнасьці БІНіМу ў розныя часы: бачыць намаганьні Вітаўта Тумаша па наладжваньні выдавецкай і канфэрэнцыйнай дзейнасьці, можа ацаніць працу ягонага наступніка Вітаўта Кіпеля па ўмацаваньні фінансавага грунту арганізацыі, разбудове выдавецтва, наладжваньні кантактаў зь Беларусьсю. Шырокае ліставаньне паказвае, у якіх умовах даводзілася працаваць заснавальнікам інстытуту, пераадольваючы часам супраціў сваіх жа калегаў-суродзічаў. Яно ж сьведчыць, як шмат было зроблена ў справе дапамогі суайчыньнікам на Бацькаўшчыне ад пачатку 1990-х — лісты ў БІНіМ зь Беларусі, а таксама словы некаторых прыяцеляў арганізацыі зь Беларусі (Адама Мальдзіса, Радзіма Гарэцкага, Уладзімера Арлова, Генадзя Сагановіча) тое пацьвярджаюць.

Выдатна адлюстроўваюць "Хронікі..." даробак БІНіМу ды тое, якімі намаганьнямі ён ствараўся. Справаздачы Вітаўта Тумаша, сьпісы

тэматычных зборак, выдадзеных кніг, абшырны зьмест “Запісаў”, якіх на сёньня выйшла ўжо 38 нумароў, — усё гэта гаворыць само за сябе.

І яшчэ адзін важны момант, пра які сьведчыць “Хронікі...”: БІНіМ — гэта людзі. Роля канкрэтных асобаў (асабліва кіраўнікоў) у гісторыі арганізацыі выключная. Менавіта ад актыўнасьці і ўласных зацікаўленьняў ды здольнасьцяў двух Вітаўтаў —Тумаша ды Кіпеля, а таксама падтрымкі іх найбліжэйшага атачэньня залежалі зьмест і абсягі дзейнасьці інстытуту. Уяўленьне пра тое, што БІНіМ — гэта людзі, адлюстравалася й на вокладцы кнігі, дзе зьмешчаныя партрэты найбольш актыўнай часткі ягоных сябраў, і ў здымках на ўклейцы, і ў адмысловым біяграфічным даведніку, што прадстаўляе жыцьцёвыя й творчыя лёсы ўдзельнікаў арганізацыі.

“Хронікі БІНіМу”, безумоўна, не вычэрпваюць гісторыю інстытуту, не замяняюць і не адмяняюць патрэбы напісаньня адпаведнай аналітычнай працы, але даюць для яе каштоўныя крыніцы, ствараюць базу, на якую змогуць абаперціся наступныя дасьледчыкі.

*Я. С.*

*Запруднік, Янка. Берагу майго зарніцы: Паэзія (1946—2017). Дзёньнік (1949—1954). Мінск: Лімарыус, 2017. — 264 с. (Наклад 300 ас.)*

Новая кніга вядомага амэрыканскага беларуса Янкі Запрудніка “Берагу майго зарніцы”, што пабачыла сьвет у Менску, выглядае своеасаблівым “вяртаньнем да вытокаў” — большасьць апублікаванага датычыць часоў студэнцтва.




Першую частку выданьня складае паэтычны даробак гісторыка, журналіста й грамадзкага дзеяча: ад першых вершаў яшчэ гімназічнага часу да сёлетняй “Надзінай малітвы”, прысьвечанай жонцы. Часам даводзілася сустракаць у літаратуразнаўцаў нараканьні, што Сяргей Ясень (пад гэтым псэўданімам пачынаў пісаць вершы Янка Запруднік) дарма не працягваў паэтычную творчасьць, спыніўшы яе ў маладосьці на самым узьлёце. Іншыя справы й абавязкі падаліся больш важнымі й надзённымі, а вершы засталіся

раскіданымі па розных пэрыёдыках. Дзякуючы новай кнізе Янкі Запрудніка публіка й дасьледчыкі могуць атрымаць найбольш поўнае ўяўленьне пра ягоную паэтычную спадчыну, ацаніць яе комплексна: і вершы, і эпітафіі, і паэму.

Другую найважнейшую частку кнігі складае дзёньнік, які Янка Запруднік вёў у 1949—1954 гг. Часткова ён ужо публікаваўся ў кнізе "Дванаццатка", таксама прысьвечанай таму самаму пэрыяду жыцьця аўтара. Тут жа падаецца больш поўны варыянт зь некаторымі аўтарскімі камэнтарамі. Гэта дзёньнік маладога беларуса, які імкнецца атрымаць вышэйшую асьвету, працуе над сабою, зьяўляецца актыўным удзельнікам беларускай грамады, падарожнічае, шукае сваё каханьне.

Запісы нераўнамерныя: напачатку яны амаль штодзённыя — у 1949 г. Янка Запруднік зь сябрамі працаваў на капальнях у Ангельшчыне і чакаў вырашэньня справы са стыпэндыямі для навучаньня ва ўнівэрсытэце. Дзёньнік дапамагаў юнаку адрэфлексаваць свае жаданьні і надзеі, выказаць пачуцьці, упарадкаваць думкі. Па запісах можна прасочваць зьмены настрою і чаканьняў у дачыненьні і да навучаньня, і наогул да ўласнай будучыні. У 1950 г. пачалося навучаньне ў Каталіцкім унівэрсытэце ў Лювэне, і дзёньнікавыя запісы сталі менш рэгулярнымі. Сам аўтар тлумачыць гэта штодзённай занятасьцю, а таксама тым, што шмат часу стала забіраць абшырная карэспандэнцыя. Пацьвярджае гэта і папярэдняя кніга Янкі Запрудніка, што зьмяшчала якраз ягонае ліставаньне з 1950-х гг. Запісы за апошні год навучаньня наогул эпізадычныя. Гэта абсалютна натуральна для дзёньніка, які ствараўся для сябе, без ідэі публікацыі і фіксаваньня падзей поўнага і пасьлядоўнага.

Чым можа быць цікавы такі дзёньнік? Пра што ў ім можна прачытаць? Найперш ён адлюстроўвае штодзённае жыцьцё моладзі: умовы, у якіх яна жыла, матэрыяльныя складанасьці і іх пераадоленьне, інтарэсы, жаданьні, мэты. Можна зразумець, што ўяўляла зь сябе праца ў капальнях і студэнцкі побыт, прачытаць, як хадзілі на танцы, у кіно, езьдзілі на канцэрты і ў тэатры, як займаліся самаадукацыяй. Ёсьць у нататках і некаторыя інтымныя моманты разваг пра тых ці іншых дзяўчат, якія цікавілі аўтара. І калі пачынае Янка Запруднік весьці дзёньнік як малады чалавек "у пошуку", то пры канцы яго ён ужо ня бачыць свайго жыцьця безь сяброўкі Вольгі, што стала неўзабаве ягонай першай жонкаю.

Найбольш зьмястоўныя запісы дзёньніку, і гэта таксама вытлумачальна, прысьвечаныя падарожжам. Адведваньне Лёндану, Парыжу, Мюнхену, Бэрліну, Вэнэцыі, Флярэнцыі, Рыму, Нью-Ёрку, Вашынгтону і шмат якіх іншых меншых гарадоў і мястэчак Старога і Новага Сьвету — шырокая геаграфія вандровак беларускага студэнта пачатку 1950-х. Падарожныя нататкі даволі розныя. Недзе проста згадва-

юцца турыстычныя славутасьці і выказваюцца эмоцыі захапленьня тым ці іншым месцам ці музэем. У іншых нататках можна адшукаць унікальныя дэталі. Прыкладам, як праваднік у экскурсіях па Лёндане, тады яшчэ студэнт мясцовага ўнівэрсытэту Аляксандар Надсан плянаваў разам са сваім сябрам узьлезьці на калёну Нэльсана на Трафальгарскай плошчы, або як а. Пётра Татарыновіч вадзіў моладзь на экскурсію па рамскіх катакомбах, ці як у часе побыту ў Флярэнцыі ў манастыры беларусаў заядалі камары.

Безумоўна, важным складнікам дзёньнікавых запісаў зьяўляюцца зьвесткі пра ўнівэрсытэцкае жыцьцё: дзейнасьць студэнцкага згуртаваньня, міжасабовых дачыненьняў студэнтаў розных нацыянальнасьцяў, складанасьці навучаньня — фіксаваньне падрыхтоўкі да іспытаў і вынікі здачы сэсій (хто здаў, а хто не), заўвагі пра выкладчыкаў. Можна адзначыць, якую вялікую ролю ў жыцьці беларускіх студэнтаў адыграў пэр Робэрт ван Кавэлярт, які ня толькі дапамог з атрыманьнем стыпэндый, але і ўвесь час апекаваўся беларусамі, падтрымліваў іх матэрыяльна, вазіў на экскурсіі за ўласны кошт. Перааценіць значэньне гэтай асобы для беларускіх студэнтаў Лювэну вельмі складана.

Дзёньнік выразна адлюстроўвае асобу, яе характар. І запісы вядомага нам заўсёды ўзважлівага й дыпляматычнага Янкі Запрудніка паказваюць, што гэтыя рысы ён меў ад маладосьці. У ягоных нататках ня знойдзеш рэзкіх выказваньняў, “лішняй” інфармацыі. Скарбнік студэнцкага згуртаваньня, памочнік Прэзыдэнта БНР Міколы Абрамчыка Янка Запруднік не падае нідзе падрабязнасьці сваёй дзейнасьці — толькі асобныя згадкі ці агульныя характарыстыкі. Зрэшты, крыху больш інфармацыі пра справы звычайна падавалася ў лістах, мо й таму яна вельмі эпізадычна зьяўлялася ў дзёньніку.

Студэнцкі дзёньнік Янкі Запрудніка, у комплексе зь ліставаньнем, адкрывае нам надзвычай цікавы сьвет жыцьця беларускага студэнцтва пачатку 1950-х. Можна хіба пашкадаваць, што з тых амаль паўсотні беларусаў, што вучыліся тады ў Лювэне, толькі гэты рабіў дзёньнікавыя запісы (ці толькі гэтыя на сёньня нам вядомыя). Наколькі б шматаблічным выглядаў беларускі Лювэн, каб такіх дзёньнікаў было болей.

Выдатнай ілюстрацыяй і да “вяртаньня да вытокаў”, і да студэнцкага жыцьця зьяўляюцца зьмешчаныя ў кнізе Янкі Запрудніка здымкі, што пачынаюцца яшчэ ад бацькоўскае хаты.

Кніга Янкі Запрудніка “Берагу майго зарніцы” — яшчэ адна добрая крыніца па гісторыі і эміграцыйнай літаратуры, і беларускага студэнцтва на чужыне, а таксама каштоўны матэрыял да біяграфіі як самога аўтара, гэтак і ягоных сяброў.

*Н. Г.*

# ВЫСТАВА “ЗЬ ВЕРАЮ, ШТО ЗЫЙДУЦЦА ДАРОГІ...” ДА 90-ГОДЗЬДЗЯ ЯНКІ ЗАПРУДНІКА

9 жніўня 2016 г. у чытальнай залі Беларускага дзяржаўнага архіву-музэю літаратуры й мастацтва ў Менску адбылося адкрыцьцё выставы **“Зь вераю, што зыйдуцца дарогі...”** да 90-годзьдзя Янкі Запрудніка.

Янка Запруднік — дзеяч беларускай эміграцыі, аўтар 10 кніг, 11 брашураў і сотняў артыкулаў па гісторыі Беларусі. Сярод іншага выдаў кнігі, прысьвечаныя гісторыі “Дванаццаткі” й беларускім фэстывалям у Нью-Джэрзі. Уваходзіў у кіраўніцтва Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня й Беларускага інстытуту навукі й мастацтва, управу Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага.

Ад пачатку 2000-х гг. Янка Запруднік рэгулярна перадае свае дакумэнты на захаваньне ў Беларускі дзяржаўны архіў-музэй літаратуры й мастацтва. Гэтыя дакумэнты й склалі аснову юбілейнай экспазыцыі.

Прадстаўленыя на выставе дакумэнты ахапілі ўсе пэрыяды жыцьця дзеяча: ад навучаньня ў сямігодцы ў Міры да апошняга на-




Наталля Гардзіенка на створанай ёй выставе да 90-годзьдзя Янкі Запрудніка.

ведваньня Беларусі ўлетку 2016 г. Экспазыцыя пабудаваная паводле храналягічнага прынцыпу, што дазваляе прасачыць жыцьцёвы шлях Янкі Запрудніка праз розныя краіны.

Пачыналася выстава нешматлікімі копіямі даведак пра навучаньне ў Міры й Баранавічах, а таксама выдадзеным у 1943 г. пашпартам Сяргея Вільчыцкага (арыгінал). Далей былі прадстаўленыя дакумэнты з навучаньня, пачаткаў творчай і грамадзкай дзейнасьці будучага гісторыка й журналіста ў лягерах для перамешчаных асобаў у Нямеччыне, а таксама ў Вялікабрытаніі, дзе ён разам зь сябрамі па “Дванаццатцы” працаваў у вугальных капальнях.

Асобны важны разьдзел экспазыцыі адлюстроўваў навучаньне Янкі Запрудніка ў Каталіцкім унівэрсытэце ў Лювэне (Бэльгія). Тут можна было ўбачыць арыгінал дыплёмнай працы, сьпіс прадметаў, якія вывучаў будучы гісторык, сьпіс беларускіх студэнтаў гэтай установы ды інш. Тут жа разьмяшчаліся арыгінальныя падарожныя дакумэнты Янкі Запрудніка 1950—1951 гг., дакумэнты ягонай жонкі Вольгі Харытончык-Запруднік. Пэрыяд працы па заканчэньні ўнівэрсытэту ў Беларускай рэдакцыі Радыё “Вызваленьне” ў Мюнхене быў прадстаўлены разнастайнымі даведкамі, рэзюмэ, афіцыйнымі паперамі, публікацыямі вершаў на старонках газэты “Бацькаўшчына”, у альманаху “Ля чужых берагоў” і інш.

Значная колькасьць дакумэнтаў на выставе датычылі амэрыканскага пэрыяду жыцьця Янкі Запрудніка: яго навучаньню ў асьпірантуры ў Гарадзкім унівэрсытэце Нью-Ёрку, абароне дысэртацыі ў 1969 г. Цікавасьць выклікалі й афіцыйны дыплём аб наданьні доктарскай ступені, і шматлікія віншаваньні ад суродзічаў, арганізацый, установаў. Можна адзначыць адмысловую віншавальную паштоўку, падпісаную вядомымі дзеячамі беларускай эміграцыі: Натальляй Арсеньневай, Вітаўтам Тумашам, Янкам Садоўскім, Раісай Жук-Грышкевіч і іншымі. Тут жа ёсьць і выразкі з газэтаў з паведамленьнем пра беларусаведныя лекцыі Янкі Запрудніка ў вышэйшых навучальных установах Нью-Ёрку й Нью-Джэрзі, абвесткі пра даклады на пасяджэньнях Беларускага інстытуту навукі й мастацтва, візітоўкі, фотаздымкі індывідуальныя і ў групах зь дзеячамі беларускай дыяспары ў ЗША. На выставе таксама можна было ўбачыць дакумэнты, якія датычылі дзейнасьці Янкі Запрудніка на пасадзе рэдактара газэты “Беларус”, супрацоўніка нью-ёркскай Беларускай рэдакцыі Радыё “Свабода”. Шматлікімі публікацыямі на беларускай, ангельскай, украінскай мовах, а таксама кнігамі была прадстаўленая навуковая дзейнасьць юбіляра.

Своеасаблівае “вяртаньне” Янкі Запрудніка ў Беларусь ад пачатку 1990-х гг. адлюстравана на выставе шматлікімі фотаздымкамі з прадстаўнікамі беларускай творчай эліты – з Генадзем Бураўкіным,



Радзім Гарэцкі на адкрыцьці выставы да 90-годзьдзя Янкі Запрудніка.
*Здымак з сайта bdamlim.by*

Нілам Гілевічам, Вольгай Іпатавай, Карласам Шэрманам і іншымі, а таксама лістамі й запрашэньнямі зь Беларусі, інтэрв'ю ў менскіх газэтах, публікацыямі вершаў у розных паэтычных зборніках. Асаблівую важнасьць для супрацоўнікаў Беларускага дзяржаўнага архіву-музэю літаратуры й мастацтва мае адрасаваны ім аўтограф Янкі Запрудніка, пакінуты ў часе апошняга наведвання гэтай установы ў чэрвені 2016 г.

На адкрыцьці выставы, якое адбылося ў дзень народзінаў Янкі Запрудніка — 9 жніўня, сваімі згадкамі пра сустрэчы зь юбілярам падзяліліся акадэмік Радзім Гарэцкі, прафэсар Адам Мальдзіс, унучка Якуба Коласа Марыя Міцкевіч, дасьледчыца Лідзія Савік, дырэктар архіву-музэю Ганна Запартыка.

# ПРЭМІЯ СТАГАНОВІЧАЎ: ДРУГІ СЭЗОН

У 2014 г. сумеснымі намаганьнямі Беларускага інстытуту навукі й мастацтва, ГА “Саюз беларускіх пісьменнікаў”, МГА “Згуртаваньне беларусаў сьвету “Бацькаўшчына” й выдавецтва “Лімарыус” з ініцыятывы й пры фінансавай падтрымцы беларускай мастачкі ў ЗША Тамары Стагановіч была заснаваная Прэмія імя Аляксандра й Марыі Стагановічаў за найлепшую кнігу ў галіне непрыдуманай літаратуры. Яе першымі ляўрэатамі ў 2015 г. сталі кнігі Сяргея Дубаўца “Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду” (Радыё Свабода, 2012), Генадзя Кісялёва “Смак беларушчыны” (Мінск: Лімарыус, 2013) і Андрэя Федарэнкі “Сечка” (Мінск: Галіяфы, 2012).

Увосень 2016 г. быў абвешчаны другі сэзон Прэміі, на якую маглі прэтэндаваць кнігі ў галіне непрыдуманай літаратуры, выдадзеныя па-беларуску ў 2015—2016 гг., наступных жанраў: мэмуары, успаміны, дзёньнікі, эпісталярная спадчына, травэлёгі, біяграфіі, дакумэнтальная проза. У журы ўвайшлі: літаратуразнаўца, сябра Саюзу беларускіх пісьменьнікаў, дацэнт катэдры гісторыі беларускай літаратуры Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту,




Мэдалі й дыплёмы пераможцаў Прэміі Аляксандра й Марыі Стагановічаў.
*Здымак з сайта Svaboda.org*

кандыдат філялягічных навук Ірына Багдановіч; старшыня сэкцыі непрыдуманай літаратуры ў Саюзе беларускіх пісьменьнікаў, сябра Ўправы ЗБС “Бацькаўшчына”, галоўны рэдактар альманаху “Запісы БІНіМ”, кандыдат гістарычных навук Наталля Гардзіенка (старшыня); сябра Ўправы ЗБС “Бацькаўшчына”, былы загадчык аддзелу старадрукаў і рэдкіх выданьняў Прэзыдэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь Валер Герасімаў; сябра Саюзу беларускіх пісьменьнікаў, кандыдат філялягічных навук Віктар Жыбуль; дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіву-музэю літаратуры й мастацтва Ганна Запартыка; пісьменьнік, перакладчык, выдавец, сябра Саюзу беларускіх пісьменьнікаў і Беларускага ПЭН-цэнтру Ўладзімер Сіўчыкаў; дырэктар выдавецтва “Лімарыус” Марына Шыбко.

На пачатку лютага 2017 г. быў складзены даўгі сьпіс Прэміі з 26 пазыцый, а пры канцы сакавіка — кароткі сьпіс з 7 пазыцый.

11 траўня 2017 г. у кавярні “*Нетто*” ў Менску адбылося ўручэньне другой Прэміі імя Аляксандра й Марыі Стагановічаў. Першае месца атрымала кніга барда й журналіста Зьмітра Бартосіка “Жыў у пана верабейка гаварушчы” (Радыё Свабода, 2016), другое — успаміны Вітаўта Кіпеля “Жыць і дзеіць” (Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2015), а трэцяе — праца Сяргея Чыгрына “На радзіме Ігната Дварчаніна: з краязнаўчых вандровак па Дзятлаўшчыне” (Мінск: Кнігазбор, 2016). Усе пераможцы атрымалі дыплёмы, памятныя мэдалі й адпаведную частку прызавога фонду.

# ВЫСТАВА “БЕЛАРУСКА-ІТАЛЬЯНСКІЯ КУЛЬТУРНЫЯ СУВЯЗІ Ў ГІСТОРЫІ Й СУЧАСНАСЬЦІ”

**12 красавіка 2017 г. у** Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адбылося ўрачыстае адкрыцьцё выставы **“Беларуска-італьянскія культурныя сувязі ў гісторыі й сучаснасьці”.**

Выстава была прысьвечаная 25-годзьдзю фармальнага ўсталяваньня дыпляматычных адносінаў паміж Італьянскай Рэспублікай і Рэспублікай Беларусь і праходзіла ў межах Году італьянскай культуры ў Беларусі. Арганізатары — Амбасада Італьянскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь, Нацыянальная бібліятэка Беларусі, Беларускі дзяржаўны архіў-музэй літаратуры й мастацтва.

У адкрыцьці выставы ўзялі ўдзел дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раман Матульскі, Надзвычайны й Паўнамоцны Пасол Італьянскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Стэфана Б’янкі, першы міністар замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пётар Краўчанка, намеснік міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь Яўген Шастакоў, дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіву-музэю літаратуры й мастацтва Ганна Запартыка. Музычную частку мерапрыемства прадставіў ансамбаль *“Bon Voyage”* пад кіраўніцтвам Вольгі Перагуд.

Беларуска-італьянскія культурныя ўзаемадачыненьні шматгранныя й разнастайныя, што й адлюстроўвалі дакумэнты з фондаў Беларускага дзяржаўнага архіву-музэю літаратуры й мастацтва. Традыцыйнымі можна назваць сувязі ў музычнай і літаратурнай сфэрах, інфармацыя пра якія адмыслова прадстаўленая на выставе. Так, беларускія сьпевакі розных часоў: Міхась Забэйда-Суміцкі, Пётра Конюх, Віктар Скарабагатаў і іншыя навучаліся ці стажыраваліся ў музычных школах і тэатрах Рыму й Мілану, мелі італьянскія творы ў сваім рэпэртуары. Пісьменьнікі Максім Танк, Міхась Стральцоў, Язэп Семяжон і іншыя шмат перакладалі творы італьянскіх аўтараў. Акрамя таго, беларускія творцы часта адведвалі Італію, пра што захаваліся розныя сьведчаньні: фотаздымкі, паштоўкі, падарожныя нататкі.

Важнымі былі й навуковыя сувязі. Акрамя наяўнасьці кантактаў паміж паасобнымі дасьледчыкамі, ад 1990-х гг. Італія стала краінай, дзе пэрыядычна адбываліся прысьвечаныя гісторыі й культуры Беларусі навуковыя канфэрэнцыі. Іх ўдзельнікамі былі навукоўцы зь Беларусі, Італіі, Украіны, Літвы, Польшчы, ЗША ды іншых краін.

Асобнай старонкай гісторыі беларуска-італьянскіх стасункаў стала дзейнасьць у Італіі ад сярэдзіны XX ст. беларускіх каталіцкіх і грэка-каталіцкіх сьвятароў, якія навучаліся й працавалі ў Рыме. Прыкладам, прэлат Пётра Татарыновіч у другой палове 1940-х гг. займаўся дабрачыннай дапамогай беларусам, што апынуліся ў Італіі пасьля Другой сусьветнай вайны. Ён жа заснаваў Беларускую рэдакцыю Радыё Ватыкану (якая дзейнічае й да сёньня), цягам некалькіх дзесяцігодзьдзяў выдаваў у Рыме беларускі часопіс "Зьніч", займаўся перакладамі й друкам беларускіх кніг. Дакумэнты зь дзейнасьці беларускіх сьвятароў і рымскія беларускія выданьні таксама можна было ўбачыць на выставе.

Былі на выставе таксама арыгінальныя дакумэнты з афіцыйных архіваў Міністэрства замежных спраў і міжнароднага супрацоўніцтва Італьянскай Рэспублікі — вэрбальныя ноты, службовыя лісты й тэлеграмы, якія датычылі падпісаньня пратаколу аб усталяваньні дыпляматычных стасункаў. Можна было ўбачыць дакумэнты з прыватнага архіву першага міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пятра Краўчанкі — пратакольныя фотаздымкі, афіцыйныя лісты, кнігу Пятра Краўчанкі "Абраньнікі вечнасьці" ды інш. Дапоўнілі экспазыцыю архіўныя матэрыялы Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь і Беларускага тэлеграфнага агенцтва БелТА — фотаздымкі з афіцыйных мерапрыемстваў і сустрэчаў.

Нацыянальная бібліятэка Беларусі падрыхтавала кніжную экспазыцыю, прысьвечаную славутым гістарычным асобам, чый лёс быў зьвязаны з гісторыяй дзьвюх краінаў.




Некаторыя вітрыны выставы "Беларуска-італьянскія культурныя сувязі ў гісторыі й сучаснасьці". Красавік 2017 г. *Здымкі з сайта bdamlm.by*

# УДЗЯЧНАСЬЦЬ БІНІМУ — 2016

28 чэрвеня 2016 г. у часе прэзэнтацыі кнігі Натальлі Гардзіенкі й Лявона Юрэвіча “Кантакты: Сіла прыцягненьня Бацькаўшчыны” (Менск, 2019) і творчай сустрэчы зь беларускім дзеячам у ЗША Янкам Запруднікам, што адбывалася ў абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна ў Менску, была ўручаная “Удзячнасьць БІНіМу”. Гэтым разам яе атрымала Згуртаваньне беларусаў сьвету “Бацькаўшчына” за шматгадовую працу па аб’яднаньні беларускага замежжа й папулярызацыі зьвестак пра ягоную гісторыю й сучаснасьць. Прадстаўніца БІНіМу ў Беларусі Натальля Гардзіенка разам зь Янкам Запруднікам перадалі старшыні згуртаваньня Алене Макоўскай сымбалічную талерку з выявай эмблемы інстытуту ды невялікае матэрыяльнае ўвасабленьне Ўдзячнасьці.

Створаны ў 1951 г. эмігрантамі-інтэлектуаламі на Захадзе Беларускі інстытут навукі й мастацтва намагаецца падтрымліваць тых, хто спрыяе дасьледаваньню й папулярызацыі тэмы беларускай эміграцыі ў грамадзтве Беларусі. Дзеля гэтага ў 2013 г. была заснаваная практыка штогадовага выказваньня публічнай удзячнасьці асобам (а цяпер і арганізацыям), якія зрабілі заўважны ўнёсак у публікацыю й папулярызацыю эміграцыйнай спадчыны. Гэткую ўдзячнасьць ад БІНіМу раней ужо атрымалі гісторык Алесь Пашкевіч, мовазнаўца Зьміцер Саўка, архівіст Ганна Запартыка.




Старшыня “Бацькаўшчыны” Алена Макоўская з сымбалічным увасабленьнем “Удзячнасьці БІНіМу”. Чэрвень 2016 г. *Здымак з сайта zbsb.org*

*Хроніка*

# ВІНЬЕТКІ З ВЫЯВАМІ ГРАВЮРАЎ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ

Напярэдадні юбілею беларускага кнігадруку, які адзначаўся 6 жніўня 2017 г., Міжнароднае грамадзкае аб'яднаньне "Згуртаваньне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына"" й нью-ёркскі Беларускі інстытут навукі й мастацтва выпусьцілі сэрыю налепак з гравюрамі Францыска Скарыны.

Як вядома, гравюры кніжных выданьняў Францыска Скарыны — найбольш раньнія ілюстрацыйныя гравюры ў славянскім друку, якія вылучаюцца высокай вартасьцю, маюць арыгінальныя кампазыцыі, а таксама зьяўляюцца выдатным візуальным аздабленьнем да кніг.

Ініцыятарам выданьня налепак з выявамі Скарынавых гравюраў стаў вядомы філатэліст з Гарадзеншчыны Лявон Карповіч. Налепкі-віньеткі стылізаваны пад паштовыя маркі. Імі можна аздобіць ліст, паштоўку, нататнік, ноўтбук, планшэт ды іншыя прылады для пісьма.




Для БІНіМу выданьне налепак стала працягам шматгадовай Скарыніяны інстытуту. Згуртаваньне ж "Бацькаўшчына" ажыцьцяўляла фундаваньне праекту ў межах акцыі Пяцісотгоднасьць" (да 500-годзьдзя беларускага кнігадрукаваньня) пры падтрымцы кампаніі "Будзьма беларусамі".

# ВЫСТАВА “ЗОРА І ВІТАЎТ” ДА 90-Х УГОДКАЎ БЕЛАРУСКІХ ДЗЕЯЧАЎ У ЗША ЗОРЫ І ВІТАЎТА КІПЕЛЯЎ

14 ліпеня 2017 г. у мастацкай галерэі “Ўнівэрсытэт культуры” ў Палацы Рэспублікі ў Менску ў сувязі з правядзеньнем VII Зьезду беларусаў сьвету ўрачыста адкрылася выстава “Зора і Вітаўт” да 90-х угодкаў беларускіх дзеячаў у ЗША Зоры і Вітаўта Кіпеляў, арганізаваная Беларускім дзяржаўным архівам-музэем літаратуры й мастацтва, Міжнародным грамадзкім аб’яднаньнем “Згуртаваньне беларусаў сьвету “Бацькаўшчына”’ й мастацкай галерэяй “Унівэрсытэт культуры” Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту культуры й мастацтваў.

На выставе была прадстаўленая разнастайная й багатая творчая спадчына, матэрыяла з актыўнай грамадзкай, навуковай, творчай дзейнасьці, розных этапаў жыцьця Вітаўта і Зоры Кіпеляў, а таксама іх бацькоў. Усе дакумэнты й матэрыялы былі ўзятыя зь сямейнага фонду Кіпеляў, што ад 1990-х гг. стаў фармавацца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музэі літаратуры й мастацтва.

Бацькамі Зоры й Вітаўта былі ўдзельнікі беларусізацыі 1920-х гг., рэпрэсаваныя ў 1930-я гг. Яўхім Кіпель, дзякуючы якому быў уратаваны “Тэстамэнт” Уладзімера Жылкі, і Лявон Савёнак, аўтар дасьціпнага “Дзёньніка Ів. Ів. Чужанінава”. Маці — настаўніцы: Марыя Кіпель, што сьпявала ў хоры Ўладзімера Тэраўскага, і Апалёнія Савёнак, добрая знаёмая жонкі Янкі Купалы — Уладзіславы Луцэвіч. На выставе можна было пабачыць як асабістыя дакумэнты бацькоў юбіляраў з розных часоў, гэтак і матэрыялы, зьвязаныя зь іх пэдагагічнай, творчай і грамадзкай дзейнасьцю.

Вітаўт і Зора пазнаёміліся ў акупаваным Менску, пазьней вучыліся разам у Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў паваеннай Нямеччыне, ва ўнівэрсытэтах Марбургу (Нямеччына) і Лювэну (Бэльгія). У сярэдзіне 1950-х гг. сьледам за бацькамі выехалі ў ЗША, дзе й пасяліліся настала. Школьныя, гімназычныя, унівэрсытэцкія пасьведчаньні й здымкі, асабістыя дакумэнты розных часоў і краінаў былі прадстаўленыя на адпаведных стэндах выставы.

Паўсюль Вітаўт і Зора былі актыўнымі ўдзельнікамі беларускага жыцьця: ладзілі скаўцкія ды іншыя нацыянальныя імпрэзы, канцэрты, фэстывалі, канфэрэнцыі. Шматгадовая праца ў Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы дала магчымасьць паспрыяць разбудове




беларускіх фондаў розных амэрыканскіх бібліятэк, сабраць унікальную калекцыю беларусікі, ладзіць выставы беларускага друку, зьбіраць архівы, складаць бібліяграфіі, займацца навуковай працай. Сябры Беларускага інстытуту навукі й мастацтва (ад 1982 г. Вітаўт Кіпель зьяўляецца ягоным дырэктарам), яны шмат выступалі на канфэрэнцыях і іншых мерапрыемствах, сустракаліся з прэзыдэнтамі й сэнатарамі й пасюль расказвалі пра Беларусь і беларусаў. Усе гэтыя кірункі дзейнасьці Кіпеляў былі адлюстраваныя на стэндах “Грамадзкая дзейнасьць”, “Навуковая дзейнасьць”, “Творчая дзейнасьць”, “Рэпрэзэнтацыйная дзейнасьць”.

Ад пачатку 1990-х гг. Вітаўт і Зора сталі частымі гасьцямі на Бацькаўшчыне, перадавалі каштоўныя выданьні ў беларускія бібліятэкі, удзельнічалі ў навуковых і грамадзкіх імпрэзах, дапамагаючы чым і дзе было магчыма. І гэтай іх дзейнасьці быў прысьвечаны на выставе асобны стэнд “Кіпелі й Беларусь”.

Зора Кіпель адышла 14 красавіка 2003 г., і Вітаўт працягнуў агульную справу адзін, але не ў самоце — з аднадумцамі па два бакі акіяну. На ўрачыстым адкрыцьці выставы прысутнічала дачка Зоры й Вітаўта — Алеся Кіпель. Выступалі асобы, якія ведалі гэтую ўнікальную сям’ю: дырэктар архіву-музэю Ганна Запартыка, намесьнік старшыні ЗБС “Бацькаўшчына” Валер Герасімаў, першы міністар замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пётра Краўчанка, акадэмік Радзім Гарэцкі ды іншыя. Вяла імпрэзу стваральніца выставы намесьніца дырэктара архіву-музэю Натальля Гардзіенка. Адкрыцьцё багата асьвятлялася ў сродках масавай інфармацыі, у тым ліку й на тэлебачаньні. Выстава дзейнічала да 26 ліпеня, пасьля чаго была перанесеная ў адну з заляў архіву-музэю.

Выстава “Зора і Вітаўт” стала добрай магчымасьцю выказаць даніну павагі й падзякі двум дзеячам, якія ў замежжы так шмат зрабілі для Беларусі.

# НАТАЛЬЛЯ ГАРДЗІЕНКА: “БЕЛАРУСКАЕ ЗАМЕЖЖА Ў ГІСТОРЫІ Й СУЧАСНАСЬЦІ”
**(даклад)**

*15–16 ліпеня 2017 г. у Менску прайшоў Сёмы зьезд беларусаў сьвету Міжнароднай грамадскай арганізацыі “Згуртаваньне беларусаў сьвету “Бацькаўшчына”, у якім узялі ўдзел 228 дэлегатаў зь Беларусі й 20 краінаў замежжа. Адзін з галоўных дакладаў на зьезьдзе быў прысьвечаны стану беларускага замежжа. Ягоны тэкст і прапануем увазе чытачоў.*

Традыцыйна сьцьвярджаецца, што за межамі Беларусі жыве каля 3 мільёнаў беларусаў. Пачатак 1990-х гг. стаў важнаю вяхою ў гісторыі беларускага замежжа. Геапалітычныя зьмены на постсавецкай прасторы, зьяўленьне незалежнай Рэспублікі Беларусь прывялі да ўзьнікненьня новых беларускіх дыяспараў. Дагэтуль беларускае замежжа складалася або з грамадаў, створаных паваеннымі эмігрантамі, або з жыхароў этнічных беларускіх тэрыторый, што апынуліся ў складзе Польшчы, Літвы, Латвіі. Ад пачатку 1990-х на мапе сьвету сталі зьяўляцца новыя беларускія дыяспары, найперш у былых саюзных рэспубліках. У той жа час новая хваля эміграцыі ў заходнім напрамку зрабіла значны ўплыў на існаваньне старых дыяспараў у ЗША, Канадзе, Вялікабрытаніі ды інш. У выніку беларускае замежжа зрабілася больш разнастайным і паводле геаграфіі, і паводле характару, і паводле ўзросту грамады.

Цягам апошніх 27 гадоў гэтая разнастайнасьць няспынна павялічваецца. Ідзе натуральны працэс заняпаду адных суполак і зьяўленьня новых. За чатыры гады, што прайшлі ад мінулага зьезду, у беларускім замежжы зьявіліся новыя арганізацыі, прыкладам Беларускі культурны рух Малдовы або Беларускі культурны цэнтар імя Янкі Купалы ў той жа краіне. Можна казаць і пра новыя зьявы, мерапрыемствы ці ініцыятывы замежных беларусаў апошніх гадоў, сярод якіх Фэстываль беларусаў на Байкале, новая драўляная беларуская царква ў Лёндане, заснаваньне курсаў “Мова нанова” ў розных беларускіх асяродках замежжа, сьвяткаваньні “дзён вышыванак”, “дзён закаханых” і г. д. Формы беларускай прысутнасьці ў сьвеце робяцца больш разнастайнымі.

Пры гэтым цягам апошніх гадоў, напрыклад, беларускія арганізацыі Літвы, Латвіі, Эстоніі адзначылі сваё 25-годзьдзе, а найстарэйшыя арганізацыі Вялікабрытаніі, Канады, ЗША сёньня

падбіраюцца да 70-гадовых юбілеяў. Аднак і тыя старыя дыяспары цяпер ужо функцыянуюць пераважна дзякуючы прадстаўнікам новай хвалі эміграцыі 1990—2000-х гг. Захоўваючы свае традыцыі, яны дзейнічаюць у іншых умовах, у іншым стагодзьдзі, зь іншымі ўдзельнікамі й стаяць перад новымі выклікамі. Тым ня менш разуменьне сутнаснай рознасьці паміж старымі й новымі структурамі беларускага замежжа важнае сёньня як для мэтраполіі, так і для саміх сучасных замежных беларусаў.

## *Старыя й новыя*

Паміж старымі, пераважна заходнімі, беларускімі асяродкамі й новымі, пераважна постсавецкімі, — істотная розьніца ў саміх падставах стварэньня нацыянальных структураў. Дыяспары ў ЗША, Канадзе, Аўстраліі, Вялікабрытаніі, Нямеччыне, Бэльгіі ствараліся вымушанымі, палітычнымі эмігрантамі з выразным антыкамуністычным сьветапоглядам, агульнай памяцьцю пра ўціск беларусаў у міжваеннай Польшчы або рэпрэсіі ў БССР. Стваральнікі новых беларускіх структураў на тэрыторыі былога Савецкага Саюзу знаходзіліся зь іншага боку жалезнай заслоны, мелі агульны для ўсіх вопыт жыцьця ў “сацыялістычнай” дзяржаве й апынуліся ў замежжы найчасьцей не з уласнага жаданьня, а праз зьмену геапалітычнай сытуацыі.

Паваенныя эмігранты сутыкнуліся з абсалютным няведаньнем прымаючых грамадзтваў пра Беларусь і беларусаў, а часам нават насьцярожаным стаўленьнем да сябе як да эмігрантаў наогул. На постсавецкай прасторы ж Беларусь і беларусы былі добра вядомыя й мелі пераважна станоўчы імідж у мясцовых грамадзтвах, што адбівалася на працэсах заснаваньня структураў дыяспараў.

Для паваенных эмігрантаў стварэньне нацыянальных арганізацый, пошук суродзічаў рабіўся натуральнай умовай выжываньня: свае маглі дапамагчы ўладкавацца, атрымаць жытло, працу й г. д. Да таго ж у колах інтэлігенцыі было ўсьведамленьне асаблівай місіі паваенных эмігрантаў — захаваньне й рэпрэзэнтацыя несавецкай Беларусі, яе культуры й мовы. Для ўдзельнікаў новых постсавецкіх дыяспараў далучэньне да беларускіх суполак часта было “вяртаньнем да каранёў”, аднаўленьнем памяці пра продкаў, зваротам да забытай нацыянальнай мовы.

У асяродках паваенных эмігрантаў вялікую ролю адыгрывалі рэлігійныя структуры. Яны выступалі аб’яднаўчым фактарам шмат якіх беларускіх грамадаў яшчэ й таму, што часта рэлігійная сьвядомасьць у беларусаў была большаю, чым нацыянальная. Савецкая атэістычная рэчаіснасьць значна зьменшыла важнасьць рэлігіі для

беларусаў на постсавецкай прасторы і, адпаведна, каштоўнасьць нацыянальных рэлігійных структураў, у тым ліку й для эмігрантаў хвалі 1990—2000-х. Магчыма, часткова й таму ў сёньняшніх асяродках замежных беларусаў такую папулярнасьць набыло сьвяткаваньне Купальля й Дзядоў.

Старыя дыяспары ствараліся ў час халоднай вайны, у ізаляцыі ад Бацькаўшчыны й нават пры варожым яе стаўленьні да сябе. Новыя беларускія грамады зьявіліся ў кардынальна іншых умовах і адпачатку арыентаваліся на кантакты зь Беларусьсю, яе афіцыйнымі і/ці грамадзкімі структурамі.

Гэта толькі некаторыя істотныя адрозьненьні старых і новых дыяспараў, якія накладаюць адбітак і на агульную сытуацыю ў сучасным беларускім замежжы. Нягледзячы на тое што ў старых дыяспарах амаль завяршылася сёньня зьмена пакаленьняў за кошт апошняй хвалі эміграцыі, чый мэнталітэт істотна адрозьніваецца ад мэнталітэту паваенных эмігрантаў, пэўныя традыцыі тых “заходніх” беларускіх грамадаў дагэтуль істотна адрозьніваюць іх ад асяродкаў на постсавецкай прасторы.

Разам з тым у старых і новых беларускіх дыяспараў можна знайсьці багата агульнага й ва ўмовах існаваньня, і ў формах дзейнасьці, і ў праблемах, зь якімі яны сутыкаліся ды працягваюць сутыкацца. І ў сувязі з гэтым важнае значэньне мае вывучэньне, асэнсаваньне досьведу папярэднікаў для ўдзельнікаў сучасных беларускіх замежных асяродкаў, а таксама й для мэтрапольных беларусаў.

## *Праблема асыміляцыі*

Традыцыйнай праблемай усіх дыяспараў зьяўляецца асыміляцыя, страта нацыянальнай ідэнтычнасьці. Дыяспара існуе, пакуль супольнасьць захоўвае сваю адрознасьць, адметнасьць у мясцовым грамадзтве. Разам з тым сёньня праблема захаваньня нацыянальнай адметнасьці аднолькава актуальная й для беларусаў замежжа, і для суродзічаў у Беларусі. У глябалізаваным сьвеце, дзе чалавек мае магчымасьці значна больш езьдзіць, кантактаваць з прадстаўнікамі іншых культураў, пачувацца “грамадзянінам сьвету”, сама каштоўнасьць захаваньня нацыянальнай ідэнтычнасьці размываецца. А калі згадаць, што сёньня менавіта нацыянальная самасвядомасьць (а не рэлігійная, як часта ў паваенных эмігрантаў) зьяўляецца матывавальным фактарам далучэньня беларусаў да нацыянальных арганізацый у замежжы, то можна сьцьвярджаць, што праблемы з нацыянальнай ідэнтычнасьцю ў жыхароў Беларусі наўпрост уплываюць і на стан беларускіх асяродкаў у замежжы. Для прыкладу, цягам 1993—2016 гг. больш за 33 тысячы народжаных у Беларусі атрымалі амэры-

канскае грамадзянства. Пры гэтым колькасьць тых, хто далучыўся да беларускіх арганізацый у ЗША, вымяраецца ў найлепшым выпадку некалькімі тысячамі чалавек. Іншыя губляюцца ў новым грамадзтве ня толькі для дыяспары, але часта й для самой Беларусі. І гэткая ж сытуацыя бадай па ўсіх напрамках эміграцыі зь Беларусі.

Зрэшты, калі зьвярнуцца да досьведу старых дыяспараў, можна сказаць, што і ў сярэдзіне XX ст. далёка ня ўсе эмігранты, і нават не палова, далучаліся да беларускіх нацыянальных арганізацый. І зь пераменным посьпехам вялася "ўсьведамляльная" праца ў дачыненьні да суродзічаў, прытым і прадстаўнікоў папярэдніх хваляў эміграцыі (міжваеннай ці нават яшчэ з часоў Расейскай імпэрыі).

Сёньня можна сказаць, што вырашэньне праблемы захаваньня нацыянальнай самасьвядомасьці беларусаў — супольная задача й замежжа, і Беларусі. І роля беларусаў замежжа тут можа быць надзвычай важная. На пачатку 1990-х, у часы беларускага Адраджэньня, прыбылыя на Першы зьезд беларусаў сьвету суродзічы з ЗША, Аўстраліі, Канады, Вялікабрытаніі, што захавалі сваю мову й самасьвядомасьць, былі выдатным прыкладам для беларусаў на Бацькаўшчыне, стымулам аднаўленьня цікавасьці да нацыянальнай культуры. Гэтаксама й сёньня прыклад нацыянальна сьвядомых актыўных замежных беларусаў можа быць дадатковым фактарам пашырэньня беларушчыны ў самой Беларусі.

Супрацьстаяньне працэсам асыміляцыі, захаваньне нацыянальнай самасьвядомасьці ў прадстаўнікоў другога й трэцяга пакаленьняў беларусаў дыяспары — важная й складаная задача для любой нацыі. Вопыт старых беларускіх дыяспараў сьведчыць, што без мэтанакіраванага ўцягненьня дзяцей і моладзі ў нацыянальную дзейнасьць, без нацыянальнай адукацыі ўжо другое пакаленьне беларусаў страчваецца для дыяспары. Прыклад арганізацый, заснаваных паваеннымі эмігрантамі, выразна гэта даказвае: вельмі невялікі адсотак дзяцей эмігрантаў захаваў сувязі з грамадою, і бяз новай хвалі эміграцыі дзейнасьць беларускіх арганізацый у Вялікабрытаніі, Канадзе, ЗША на гэты момант фактычна спынілася б, як амаль замерла яна сёньня ў калісьці вельмі актыўнай беларускай Аўстраліі.

### *Замежжа й Беларусь*

Безумоўна, важным фактарам існаваньня беларускага замежжа зьяўляецца сувязь яго з Бацькаўшчынай. Чым большая адарванасьць дыяспары ад мэтраполіі, тым складанейшыя ўмовы выжываньня нацыянальных структураў у замежжы й магчымасьці паразуменьня паміж геаграфічна (і ня толькі) разьдзеленымі суродзічамі. Той самы вопыт старых дыяспараў сьведчыць, што абыякавасьць ці нават варо-

жасьць уладных структураў да замежных суродзічаў ня толькі спрыяе нэгатыўнаму стаўленьню да замежных суачыньнікаў у беларускім грамадзтве, але й правакуе зьяўленьне фэномену "падзеленай нацыі", прадстаўнікі якой адчужаныя адзін ад аднаго на сьветапоглядным узроўні. А яшчэ гэта вядзе да ўзьнікненьня сытуацыі, калі патрэбная ўжо своеасаблівая рэабілітацыя вобразу замежнага беларуса ў грамадзтве мэтраполіі, тлумачэньне, што беларус у ЗША, Канадзе, Літве, Украіне, Расеі — такі самы прадстаўнік агульнай беларускай нацыі, як і суродзіч у Беларусі. І найперш гэта павінны ўсьвядоміць уладныя структуры ў Беларусі.

Але... Мы ад зьезду да зьезду паўтараем, як мантры, што мэтраполія мае зразумець важнасьць і вартасьць замежных беларусаў, праводзіць сыстэмную палітыку й г. д. Але ёсьць тое, што залежыць ад канкрэтных асобаў і іх актыўнасьці, ад нас з вамі. Гісторыя беларускіх структураў у розных краінах сьвету пацьвярджае: усё залежыць ад асобаў.

## *Памяць і архівы*

Скажу толькі пра адзін важны момант, пра памяць. Менавіта супольная памяць лучыць людзей у нацыі. Памяць пра ўдзельнікаў і падзеі ў беларускіх асяродках у розных краінах — ня толькі важны фактар гуртаваньня тых грамадаў, але й частка агульнай гістарычнай памяці ўсіх беларусаў, частка супольнага вопыту выжываньня. Захаваньне гэтай памяці, вывучэньне вопыту — агульная задача беларусаў замежжа й Беларусі.

І ў сувязі з гэтым неабходна сказаць пра архівы ды супольную адказнасьць суродзічаў і замежжа, і мэтраполіі за захаваньне культурнай спадчыны замежных беларусаў як часткі агульнай нацыянальнай культуры. Архівы арганізацый і паасобных дзеячаў маюць зьвярнуць на сябе асаблівую ўвагу. Гэта датычыць як традыцыйных, так і электронных архіваў.

З 1990-х гг. у Беларускім дзяржаўным архіве-музэі літаратуры й мастацтва пачалося зьбіраньне архіваў замежных беларусаў. У 2014 г. гэта аформілася ў зьяўленьне адмысловай навукова-творчай ініцыятывы "Цэнтар камплектаваньня й вывучэньня дакумэнтальнай спадчыны беларускага замежжа". Цягам апошніх гадоў нам актыўна перадаюцца архівы беларускіх дзеячаў і арганізацый з ЗША, Канады, Аўстраліі, Польшчы, Расеі.

Архівы — гэта ня могільнікі папераў. Хто валодае архівамі — валодае гісторыяй. Сабранае ў архіве будзе спрыяць ня толькі захаваньню памяці пра вас для нашчадкаў, але й справе папулярызацыі дзейнасьці й спадчыны беларускага замежжа ў Беларусі. На мінулым зьездзе вы




На Сёмым зьезьдзе беларусаў сьвету. Ліпень 2017 г. *Здымак Надзеі Нортан*

маглі бачыць выставу “Ў літарах і вобразах”, заснаваную пераважна на калекцыях нью-ёркскага Беларускага інстытуту навукі й мастацтва. Цяпер гэтыя матэрыялы захоўваюцца ў нас у Менску. Да гэтага зьезду мы падрыхтавалі дзьве выставы ўжо на фондах нашага БДАМЛМ: “Зора і Вітаўт. Да 90-годзьдзя дзеячаў беларускай эміграцыі ў ЗША Зоры і Вітаўта Кіпеляў” і “За пчалою Скарыны: друкаваная спадчына беларускай эміграцыі на Захадзе”. І гэта толькі асобныя прыклады дзейнасьці па папулярызацыі беларускага замежжа, якая робіцца на падставе сабранага намі. Сумесна са Згуртаваньнем беларусаў сьвету “Бацькаўшчына” друкуюцца кнігі, рыхтуюцца публікацыі, ладзяцца мерапрыемствы. І мы запрашаем суродзічаў з усіх асяродкаў беларускага замежжа перадаваць нам дакумэнты й матэрыялы, зьвязаныя з вашай дзейнасьцю, атрымліваць кансультацыі па захаваньні й ўпарадкаваньні архіваў. Гэта тое, што мы з вамі самі рэальна можам зрабіць і адказнасьць за што нельга перакласьці на кагосьці іншага. Захаваньне нашай супольнай спадчыны залежыць менавіта ад нас з вамі. А гэта хоць і невялікая, але надзвычай важная справа ў працэсе захаваньня беларусаў як нацыі. Давайце рабіць яе разам!

# ВЫСТАВА “ЗА ПЧАЛОЮ СКАРЫНЫ: ДРУКАВАНАЯ СПАДЧЫНА БЕЛАРУСКАЙ ЭМІГРАЦЫІ НА ЗАХАДЗЕ”

На Сёмым зьездзе беларусаў сьвету, што адбываўся 15—16 ліпеня 2017 г. у Менску, экспанавалася выстава, зробленая на падставе фондаў Беларускага дзяржаўнага архіву-музэю літаратуры й мастацтва “За пчалою Скарыны: друкаваная спадчына беларускай эміграцыі на Захадзе”. Аўтарка выставы – Натальля Гардзіенка.

Традыцыю выданьня беларускіх кніг на Захадзе, запачаткаваную 500 гадоў таму Францыскам Скарынам, актыўна працягвалі ў XX ст. эмігранты. Маркі й капэрты, улёткі й абвесткі, паштоўкі й брашуры, пэрыёдыкі й кнігі — усё гэта выдадзенае ў Эўропе, Амэрыцы ды Аўстраліі сьведчыла пра Беларусь і беларусаў ды папаўняла нацыянальную друкаваную спадчыну, невялікую частку якой рэпрэзэнтуе згаданая выстава. Асабліва шмат карысталіся друкаваным варштатам паваенныя беларускія эмігранты, таму менавіта іх даробак, захаваны ў фондах Беларускага дзяржаўнага архіву-музэю літаратуры й мастацтва дзякуючы ахвярнасьці нью-ёркскага БІНіМу, склаў аснову экспазыцыі.

Друкаваная спадчына эміграцыі на выставе была разьмеркаваная на пяць разьдзелаў, што, зразумела, не вычэрпвалі яе цалкам, але давалі ўяўленьне пра асноўныя кірункі, галіны друку.

Беларускія ***маркі й капэрты*** за межамі Беларусі сталі друкавацца яшчэ ад 1920-х гг. У паваенны час асобныя віньеткі, маркі ды іх сэрыі выдавалі Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, Згуртаваньне беларусаў у Вялікабрытаніі, Беларускі інстытут навукі й мастацтва, Беларускае моладзевае згуртаваньне ў Амэрыцы ды іншыя арганізацыі, а таксама паасобныя актыўныя філятэлісты-беларусы. З нагоды юбілеяў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Рады БНР і іншых выходзілі й адмысловыя капэрты з адпаведнымі выявамі. Усё гэта пашырала беларускую прысутнасьць у сусьветнай паштовай prасторы, філятэлістычных каталёгах, на выставах і ў СМІ.

Велікодныя й калядныя, памятныя й віншавальныя беларускія ***паштоўкі*** актыўна сталі зьяўляцца ўжо ў паваеннай Нямеччыне канца 1940-х, адкуль гэтую справу эмігранты распаўсюдзілі на дзясяткі краінаў свайго сталага жыхарства на Захадзе. Найперш паштоўкамі карысталіся самі беларусы, віншуючы адзін аднаго з рэлігійнымі, нацыянальнымі ды сямейнымі сьвятамі, нагадваючы

пра сябе сваякам і знаёмым, расьцярушаным па розных кантынэнтах. Першыя паваенныя паштоўкі-самаробкі хутка саступілі месца якасным каляровым друкаваным, дзе зьмяшчаліся радкі з твораў беларускіх клясыкаў, выявы, зробленыя прафэсійнымі мастакамі. Ужываныя найперш унутры беларускай грамады паштоўкі трaплялі й навонкі, пашыраючы такім чынам сфэру мастацкай рэпрэзэнтацыі беларусаў у сьвеце.

Унутранае й зьнешняе прызначэньне мелі й шматлікія ***ўлёткі, абвесткі, запрашальнікі***, друкаваныя эмігрантамі. Зь іх дапамогай суайчыньнікі распаўсюджвалі інфармацыю пра разнастайныя мэрапрыемствы, важныя ініцыятывы, значныя падзеі ў жыцьці тае ці іншае грамады. Дзякуючы гэтым друкам сёньня можна даведацца пра беларускія танцавальныя вечары ў Дэтройце, урачыстыя прыняцьці ў Лёндане, калядныя ялінкі ў Мэльбурне, канцэрты ў Таронта, навуковыя канфэрэнцыі й выставы ў Нью-Ёрку, радыёперадачы ў Буэнас-Айрэсе й г. д. Друкаваныя традыцыйна ў некалькіх мовах улёткі ды абвесткі прыцягвалі ўвагу ня толькі суайчыньнікаў, дазвалялі прадстаўнікам іншых нацый даведацца пра беларускія імпрэзы, адведаць іх, далучыцца да цікавых ініцыятываў.

Важнай часткай друкаванай спадчыны беларусаў на Захадзе сталі й ***пэрыядычныя выданьні***. Яны пачалі зьяўляцца яшчэ ў 1920-я гг., але асабліва ад другой паловы 1940-х газэты й часопісы зрабіліся дзейным сродкам інфармаваньня й гуртаваньня суайчыньнікаў. Рэлігійныя, літаратурныя, грамадзкія, скаўцкія, навуковыя ды іншыя пэрыёдыкі давалі спажыву для розуму й пачуцьцяў тысячаў беларусаў, распаўсюджвалі зьвесткі пра сусьветныя, нацыянальныя й прыватныя падзеі, пашыралі творы беларускай літаратуры й мастацтва, аб’ядноўваючы такім чынам суродзічаў у розных краінах. Зазіраючы ў зьмест эміграцыйных часопісаў розных часоў можна ўбачыць, што чыталі й пісалі, чым цікавіліся беларускія аўтары й чытачы, якімі тэмамі й ідэямі жылі ды працягваюць жыць сёньня суайчыньнікі на Захадзе.

Безумоўна, найважнейшым прыкладам працягу Скарынавай традыцыі на Захадзе стала ўласна ***кнігадрукаваньне***. Сярод выданьняў паваеннай эміграцыі ёсьць узоры аматарскіх рукапісных, ратапарных і прафэсійна друкаваных кніг. Кнігавыдавецкай справай займаліся як паасобныя энтузіясты, гэтак і інстытуцыі ды адмысловыя выдавецтвы кшталту “Заранкі”, “Крыніцы”, “Бацькаўшчыны” ды іншых. Якія кнігі выдавалі беларускія эмігранты? Найперш літаратурную клясыку. Ужо ў 1950-я гг. на Захадзе пабачылі сьвет непадцэнзурныя выданьні твораў Янкі Купалы й Якуба Коласа, Алеся Гаруна й Максіма Багдановіча, Уладзімера Жылкі й Андрэя Мрыя ды іншых. Паказальна, што кніжнае выданьне аповесьці Васіля Быкава




Выстава “За пчалою Скарыны: друкаваная спадчына беларускай эміграцыі на Захадзе”. Ліпень, 2017 г. *Здымак Н. Гардзіенка*

“Мёртвым не баліць” перш пабачыла сьвет на Захадзе намаганьнямі эмігрантаў-беларусаў і толькі потым на радзіме. Перавыдаючы непадцэнзурную нацыянальную літаратурную клясыку, замежныя суачыньнікі ня толькі захоўвалі яе для нашчадкаў, пашыралі ў сваіх грамадах і рэпрэзэнтавалі навонкі. Яны яшчэ й вымушалі навукоўцаў і выдаўцоў у Беларусі зважаць на гэтыя выданьні, не забывацца на тыя творы й творцаў. Акрамя таго, эміграцыйныя выдаўцы друкавалі й кнігі аўтараў-эмігрантаў, якім не было, а часам і да сёньня няма месца ў афіцыйным кнігадруку на Бацькаўшчыне. І зразумела, што беларускае кнігавыданьне на Захадзе не абмяжоўвалася толькі мастацкай літаратурай. Навуковыя дасьледаваньні, кнігі царкоўна-рэлігійнага й прынагодна-інфармацыйнага зьместу, сьпеўнікі й дапаможнікі, слоўнікі й даведнікі — усё гэта складае каштоўную частку друкаванай спадчыны беларускай эміграцыі.

Прадстаўленыя на выставе выявы эміграцыйных друкаў дазволілі наведнікам ня толькі ўбачыць геаграфічную, тэматычную, зьместавую й мастацкую разнастайнасьць выдавецкага даробку нашчадкаў Скарыны на эміграцыі, але й ацаніць той значны пласт агульнабеларускай культурнай спадчыны, што доўгі час заставаўся нябачным і недасяжным для суродзічаў на Бацькаўшчыне.

# ЭМІГРАЦЫЯЗНАЎЧАЯ СЭКЦЫЯ І ПРЭМІІ КАНГРЭСУ ДАСЬЛЕДЧЫКАЎ БЕЛАРУСІ Ў ВАРШАВЕ

15—17 верасьня 2017 г. у Варшаве адбываўся Сёмы міжнародны кангрэс дасьледчыкаў Беларусі. На ім 16 верасьня працавала панэль “Беларускае замежжа: праблемы культурнай памяці і нацыянальнай ідэнтычнасьці”, яе арганізатарам які ўжо год выступае гісторык Натальля Гардзіенка.

Удзельнікамі панэлі былі 10 дасьледчыкаў зь Беларусі, Польшчы, Літвы, Латвіі, Нямеччыны й Украіны. Мадэратарамі выступалі доктар філялягічных навук з Варшаўскага ўнівэрсытэту Андрэй Масквін і Натальля Гардзіенка.

Адкрыў пасяджэньне панэлі даклад доктара гісторыі з Варшаўскага ўнівэрсытэту Юрыя Грыбоўскага, прысьвечаны дзейнасьці Канстанціна Езавітава ў Латвіі часоў Другой сусьветнай вайны. Далей кандыдат гістарычных навук зь Вінніцкага нацыянальнага аграрнага ўнівэрсытэту Вольга Зубко распавяла пра штодзённасьць у літаратуры й мастацтве праскіх беларусаў (1921—1939). Пра спэцыфіку й каштоўнасьць багатай эпісталярнай спадчыны віленскай беларускі Зоські Верас разважаў магістар гістарычных навук Вышэйшай школы дасьледаваньняў Усходняй і Паўднёва-Ўсходняй Эўропы Антон Лявіцкі. Тэму беларускай меншасьці ў міжваеннай Латвіі асьвятліў у сваім выступе магістар гісторыі з Цэнтру іудаікі Латвійскага ўнівэрсытэту Марыс Галдманіс.

Арганізатарка панэлі Натальля Гардзіенка рэпрэзэнтавала даклад на тэму “Ўплыў іміграцыйнай палітыкі Канады на фармаванне хваляў беларускай эміграцыі”. Кандыдат гуманітарных навук Інстытуту літоўскай літаратуры й фальклору Ліна Лепарскіенэ агучыла свае этнаграфічныя нататкі пра беларусаў у горадзе Грыгішкес у Літве. Доктар палітычных навук з Варшавы Малгажата Будыта-Будзыньска прадставіла даклад, прысьвечаны беларусаў у сучаснай Польшчы.

Другая частка працы панэлі была прысьвечаная пытаньням літаратуразнаўчага й мовазнаўчага вывучэньня спадчыны беларускай эміграцыі. Адкрыла яе дактарантка Варшаўскага ўнівэрсытэту Мажэна Грыбоўская, якая дала характарыстыку беларускім рэлігійным пэрыядычным выданьням, што выходзілі ў паваеннай Нямеччыне (1945—1951). Сьледам доктар Андрэй Масквін дэталёва разгледзеў зьмест і асаблівасьці выданьня часопіса “Сакавік” (Нямеччына,



Кіраўніца сэкцыі Натальля Гардзіенка ў часе выступу. Верасень 2017 г.
*Здымак А. Масквіна*

1947—1948). Завяршыў працу панэлі даклад Уладзіслава Іванова з Эўрапейскага гуманітарнага ўнівэрсытэту на тэму “Леў Гарошка як мовазнаўца”.

У той самы дзень, 16 верасьня, былі абвешчаны пераможцы Прэміі Кангрэсу, сярод якіх апынуліся тры ўдзельнікі эміграцыязнаўчай панэлі. Натальля Гардзіенка атрымала прэмію за найлепшы артыкул па гісторыі за тэкст “Могілкі як частка мэмарыяльнай культуры беларускай эміграцыі” (Запісы БІНіМ. Вып. 38. Нью-Ёрк — Менск, 2016. С. 8—70); Андрэй Масквін быў ганараваны прэміяй імя Зоры Кіпель за найлепшую манаграфію ў гуманітарных навуках — “*Беларускі тэатр 1920-30-х: адабраная памяць” (*Мінск: ЛогвінаЎ, 2016); Антон Лявіцкі атрымаў прэмію за найлепшую магістарскую працу на тэму “Праблема беларускай дзяржаўнасці ў савецкай гістарыяграфіі (1953–1985)” (Мінск: Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт, 2016).

*Хроніка*

# ПРЭЗЭНТАЦЫІ ВЫДАНЬНЯЎ БІНІМУ
## (2017)

10 чэрвеня 2017 г. у Доме маракоў на Мангэтане прайшоў чарговы чэрвеньскі сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня”, на якім адбылася прэзэнтацыя нядаўна выдадзенага ў Менску другога выданьня кнігі Вітаўта Кіпеля “Беларусы ў ЗША”, а таксама віншаваньне яе аўтара з 90-гадовым юбілеем.

17 жніўня 2017 г. у Цэнтры гарадзкога жыцьця ў Горадні адбылася прэзэнтацыя кнігі Тамаша Грыба “Выбранае”, укладзенай Натальляй Гардзіенкай і Лявонам Юрэвічам. Гэта першае выданьне падсэрыі “Спадчына: агледзіны”, заснаванай сумесна Згуртаваньнем беларусаў сьвету “Бацькаўшчына”, Беларускім інстытутам навукі й мастацтва ды Беларускім дзяржаўным архівам-музэем літаратуры й мастацтва. Кнігу прэзэнтавала адна з укладальнікаў Натальля Гардзіенка.

18 верасьня 2017 г. у музэі “Краіна міні” ў Палацы прафсаюзаў у Менску адбылася прэзэнтацыя першых двух выданьняў падсэрыі “Спадчына: агледзіны”, заснаванай сумесна Згуртаваньнем беларусаў сьвету “Бацькаўшчына”, Беларускім інстытутам навукі й мастацтва ды Беларускім дзяржаўным архівам-музэем літаратуры й мастацтва. Пра кнігі “Выбранае” Тамаша Грыба й “Выбранае” Ўладзімера Самойлы, укладзеныя Натальляй Гардзіенкай і Лявонам Юрэвічам, распавялі літаратурныя крытыкі Ціхан Чарнякевіч ды Ганна Севярынец.

1 кастрычніка 2017 г. у Нью-Ёрку, у грамадзкай залі Сабору БАПЦ Сьв. Кірылы Тураўскага, пры ўдзеле дырэктара Беларускага інстытуту навукі й мастацтва Вітаўта Кіпеля адбылася прэзэнтацыя кнігі Натальлі Гардзіенкі й Лявона Юрэвіча “Хронікі БІНІМу”. Адна з аўтараў Натальля Гардзіенка распавяла пра ідэю стварэньня кнігі, а Вітаўт Кіпель падзяліўся з прысутнымі ўспамінамі й развагамі пра гісторыю Беларускага інстытуту навукі й мастацтва.

# ЗЬВЕСТКІ ПРА АЎТАРАЎ

**Аляксандар Аўдзяюк** (нар. 1978), сьвятар, перакладчык. У 2000 г. закончыў мэханіка-матэматычны факультэт БДУ. У 2003—2009 гг. студыяваў багаслоўе ў навучальных закладах Польшчы й Нямеччыны, атрымаў дыплём па тэалёгіі ў Каталіцкім унівэрсытэце Айхштэт-Інгальштадт у 2009 г. (*Dipl. Theol.*). Працаваў у Менску і ў іншых каталіцкіх парафіях Беларусі. Ад 2015 г. працуе ў г. Чыкага (Ілінойс). Цікавіцца пытаньнямі гісторыі, тэорыі й практыкі літургічных і біблейскіх перакладаў, рэлігійнай гісторыяй беларускай дыяспары.

**Юрка Віцьбіч** (сапр. Серафім Шчарбакоў, 1905—1975), літаратар, публіцыст, краязнаўца, грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў пэдагагічным тэхнікуме. У 1922—1933 гг. працаваў на хімічных заводах у Маскве. Уваходзіў у літаратурнае аб'яднаньне "Ўзвышша", у 1939 г. прыняты ў Саюз пісьменьнікаў СССР. У часе нямецкай акупацыі актыўна выступаў у друку, выдаў два зборнікі публіцыстыкі — "Вяліжскія паўстанцы" і "Нацыянальныя сьвятыні", выступаў у друку з артыкуламі па гісторыі Беларусі. Быў сябрам Беларускага культурнага згуртаваньня, рэдактарам часопіса "Ўзвышша", адзіны нумар якога быў падрыхтаваны ў 1944 г. Ад лета 1944 г. на эміграцыі. У 1946 г. у Нямеччыне стварыў і ўзначаліў літаратурнае аб'яднаньне "Шыпшына", выдаваў аднайменны часопіс, а таксама часопісы "Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі", "БІС", газэту "Беларускае слова". Ад 1949 г. жыў у ЗША. Друкаваўся ў беларускім і расейскім пэрыядычным друку, у тым ліку ў "Новым рускім слове". Супрацоўнічаў з Радыё "Свабода". Як пісьменьнік дэбютаваў у 1929 г. у часопісе "Ўзвышша". Аўтар кніг прозы "Сьмерць Ірмы Лаймінг" (1932), "Формула супраціўленьня касьцей" (1937). У эміграцыі выдаў кнігу гістарычных нарысаў "Плыве з-пад Сьвятое гары Нёман" (Мюнхен, 1956) і зборнік артыкулаў на рускай мове "Мы дойдем" (Нью-Ёрк, 1975).

**Уладзіслаў Гарбацкі** (нар. 1978), лектар палітычнай навукі Эўрапейскага гуманітарнага ўнівэрсытэту (Вільня), палітоляг, перакладнік з француской мовы.

**Натальля Гардзіенка** (нар. 1977), гісторык, кандыдат гістарычных навук. Аўтарка некалькіх манаграфій і дзясяткаў

артыкулаў, прысьвечаных гісторыі беларускай эміграцыі. Галоўны рэдактар "Запісаў БІНіМ". Старшыня навукова-творчай ініцыятывы "Цэнтар камплектаваньня й вывучэньня дакумэнтальнай спадчыны беларускага замежжа", намесьніца дырэктара Беларускага дзяржаўнага архіву-музэю літаратуры й мастацтва.

**Зіна Гімпелевіч** (нар. 1949), доктар славяназнаўства. Прафэсар на эмэрытуры Ўнівэрсытэту ў Ватэрлоа (Канада). Аўтарка кніг, прысьвечаных беларускай габрэйскай літаратуры, творчасьці Васіля Быкава і інш. Доўгагадовы старшыня БІНіМу ў Канадзе.

**Сяргей Гірык** (нар. 1985), гісторык і філёляг, кандыдат гістарычных навук. Старшы навуковы супрацоўнік дзяржаўнай навуковай установы "Энцыкляпэдычнае выдавецтва" (Кіеў), старшы выкладчык магістарскай праграмы па юдаіцы Нацыянальнага ўнівэрсытэту "Кіева-Магілянская акадэмія" (Кіеў), вучоны сакратар Украінскай асацыяцыі юдаікі. Дасьледуе гісторыю ўкраінскага, беларускага й габрэйскага нацыянал-камунізму.

**Юры Грыбоўскі** (нар. 1979), гісторык. Доктар габілітаваны. Прафэсар Варшаўскага ўнівэрсытэту. Займаецца вайсковай, палітычнай і рэлігійнай гісторыяй краінаў Цэнтральна-Ўсходняй Эўропы. Аўтар трох манаграфій і больш як 130 навуковых артыкулаў у друку Польшчы, Беларусі, Нямеччыны, Вялікабрытаніі, Расеі, Украіны.

**Аксана Данільчык** (нар. 1970), паэтка, перакладчыца, літаратуразнаўца. Кандыдат філялягічных навук. Закончыла філялягічны факультэт БДУ (1993) і асьпірантуру пры Інстытуце літаратуры НАН Беларусі (1996). Па стыпэндыі Міністэрства замежных спраў Італіі вучылася ў Перуджы. Сябра Саюза беларускіх пісьменьнікаў. Аўтарка шматлікіх артыкулаў, прысьвечаных беларускай і італьянскай літаратурам, і паэтычных зборнікаў.

**Ларыса Доўнар** (нар. 1962), кнігазнаўца, кандыдат пэдагагічных навук, дацэнт. Прафэсар Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту культуры й мастацтваў. Аўтар некалькіх манаграфій, вучэбнага дапаможніка й шэрагу артыкулаў, прысьвечаных гісторыі беларускай кнігі й кнігазнаўства. Укладальнік зборніку навуковых працаў "Беларуская кніга ў кантэксьце сусьветнай кніжнай культуры".

**Вольга Зубко**, гісторык, кандыдат гістарычных навук. Спэцыяліст Цэнтру міжнародных сувязяў і дзейнасьці Віньніцкага нацыянальнага аграрнага ўнівэрсытэту. Займаецца вывучэньнем грамадзка-культурнага й палітычнага жыцьця ўкраінскай і беларускай эміграцыі ў Празе ў 1920-я гг., грамадзка-культурнага жыцьця ўкраінцаў у Беларусі ў 1991—2014 гг.

**Алена Ізергіна** (нар. 1989), гісторык і этноляг. У 2014 г. скончыла магістратуру Полацкага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Асьпірантка ДНУ "Цэнтар дасьледаваньняў беларускай культуры, мовы й літаратуры НАН Беларусі". Сфэра інтарэсаў: сацыяльна-эканамічнае, палітычнае, рэлігійнае становішча насельніцтва Заходняй Беларусі ў міжваенны пэрыяд (1921—1939 гг.); гісторыя штодзённасьці як кірунак гістарычных дасьледаваньняў; сацыяльна-эканамічныя, культурныя й дэмаграфічныя аспэкты фармаваньня й існаваньня беларускай этнічнай супольнасьці на тэрыторыі сучаснай Літвы (канец XIX — пачатак XXI ст.).

**Уладзімер Калупаеў**, каталіцкі сьвятар, доктар гістарычных навук. Дасьледнік цэнтру *"Russia Cristiana"* (Сэрыятэ, Італія). Сябра рэдкалегій часопісаў *"La Nuova Europa"* і *"Studia Humanitatis"*. Навуковыя зацікаўленьні: гісторыя, культура й рэлігійнае жыцьцё расейскага замежжа.

**Дзьмітры Камінскі** (1906—1989), кампазытар, піяніст. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР. Сябра Саюзу кампазытараў СССР (ад 1941 г.), Саюзу кампазытараў БССР (ад 1946 г.). Быў старшынём праўленьня Саюзу кампазытараў БССР (1963—1966). У 1980 г. эміграваў у Канаду.

**Вітаўт Кіпель** (нар. 1927), грамадзкі дзеяч, навуковец, дасьледнік беларускай эміграцыі, доктар мінэралёгіі. Жыве ў Нью-Джэрзі. З 1982 г. старшыня БІНІМу. Аўтар працы "Беларусы ў ЗША" (1993 і 2017 гг.; ангельскамоўнае выданьне — 1999 г.), шэрагу грунтоўных бібліяграфічных даведнікаў, а таксама дзясяткаў публікацый, у тым ліку артыкулаў на беларусазнаўчую тэматыку ў амэрыканскіх энцыкляпэдыях.

**Пётра Конюх** (1910—1994), грамадзкі дзеяч, сьпявак. У 1940 г. рэпрэсаваны й вывезены ў Сібір. У 1941 г. далучыўся да Другога Польскага корпусу. Ваяваў у Палестыне, Паўночнай Афрыцы, Італіі, браў удзел у бітве за Монтэ-Касіна. У 1945 г. атрымаў стыпэндыю для навучаньня ў Рымскай акадэміі мастацтваў, якую закончыў у 1951 г. Потым выступаў у Італіі, езьдзіў з гастролямі па Эўропе й Амэрыцы. Удзельнік хору данскіх казакоў пад кіраўніцтвам С. Жарава. Пераможца Міжнароднага конкурсу маладых вакалістаў у Рыме. Ад сярэдзіны 1950-х гг. жыў у ЗША. Выступаў з канцэртамі. Пры канцы жыцьця перабраўся ў Канаду.

**Макар Краўцоў** (1891 — пасьля 1939), паэт, грамадзкі дзеяч, публіцыст. Дэлегат Першага Ўсебеларускага кангрэсу (1917). Аўтар гімну БНР "Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Арыштаваны ў 1939 г.

неўзабаве пасьля далучэньня Заходняй Беларусі да БССР. Відавочна, памёр у зьняволеньні.

**Валянціна Лебедзева**, гісторык, краязнаўца. Закончыла гісторыка-філялягічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Навуковыя інтэрэсы: палітычная барацьба й беларускі рух пэрыяду змаганьня за нацыянальную дзяржаўнасьць, беларуска-ўкраінскія дачыненьні гэтай эпохі, дзейнасьць і навуковая спадчына Мітрафана Доўнар-Запольскага. Аўтарка дасьледваньня пра Палуту Бадунову, арганізатар Міжнародных Доўнараўскіх чытаньняў у Рэчыцы.

**Андрэй Масквін**, доктар філялягічных навук, дацэнт Варшаўскага ўнівэрсытэту. Супрацоўнік катэдры міжкультурных дасьледаваньняў Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы Выпускнік катэдры славянскай філялёгіі МДУ (1986). Выкладаў ва ўнівэрсытэтах Расеі (Краснаярск, Санкт-Пецярбург), Чэхіі (Пльзень) ды Італіі (Бэргама). Аўтар шматлікіх публікацый і кніг па пытаньнях мастацтва, тэатру й кіно. Займаецца праблемамі славянскай драматургіі й тэатру. Папулярызуе беларускую драматургію за мяжой (у прыватнасьці, у Польшчы). Жыве ў Варшаве.

**Янка Мойсік** (нар. 1956), журналіст. Закончыў Вышэйшую школу плянаваньня й статыстыкі ў Варшаве. У 1981 г. выехаў з Польшчы ў Вену. Ад 1983 г. стаў супрацоўнікам Беларускай рэдакцыі Радыё Ватыкану. У 1989—1994 г. выдаваў бюлэтэнь “Хрысьціянскія навіны”.

**Ганна Севярынец** (нар. 1975), літаратуразнаўца. Закончыла філялягічны факультэт БДУ, асьпірантуру па катэдры рускай літаратуры. Выкладае мовы й літаратуры ў гімназіі г. Смалявічы. Аўтар раману “Дзень сьвятога Патрыка”, укладальнік дакумэнтальнай біяграфіі У. Дубоўкі “Уладзімір Дубоўка. Ён і пра яго”, “Выбраных твораў” Алеся Дудара.

**Часлаў Сіповіч** (1914—1981), рэлігійны дзеяч, грэка-каталіцкі біскуп. Вучыўся ў Друйскай гімназіі. У 1934 г. пастрыжаны ў манахі. Вучыўся на факультэце філязофіі й тэалёгіі Віленскага ўнівэрсытэту. У 1938—1947 гг. жыў у Рыме, дзе закончыў Папскі грыгарыянскі ўнівэрсытэт і Папскі ўсходні інстытут. У 1944—1946 гг. апекаваўся беларускімі жаўнерамі Арміі Андэрса, раскватараванымі па ўсёй Апэнінскай паўвысьпе. Праводзіў сярод іх дабрачынную й асьветніцкую працу. У 1947 г. прызначаны рэктарам Беларускай каталіцкай місіі бізантыйска-славянскага абраду ў Вялікабрытаніі. 09.04.1947 прыбыў у Лёндан. У 1948 г. стаў адным з ініцыятараў стварэньня Беларускага хрысьціянскага акадэмічнага аб’еднаньня “Жыцьцё”, а пазьней — Беларускага акадэмічнага каталіцкага аб’еднаньня “Рунь”. 04.08.1960

высьвячаны на біскупа, пазьней быў прызначаны апостальскім візытатарам для беларусаў за мяжой. У ліпені 1963 г. прызначаны генэралам ордэну марыянаў, на гэтай пасадзе заставаўся да 1969 г. У Марыян Хаўз у Лёндане заснаваў кляштар беларускіх марыянаў. Фактычна быў заснавальнікам Беларускага рэлігійна-культурнага цэнтру ў Паўночным Лёндане, часткай якога стаў інтэрнат Сьв. Кірылы для беларускіх хлапцоў, а таксама Беларуская бібліятэка й музэй імя Ф. Скарыны.

**Надзея Старавойтава,** дасьледчыца беларускай перакладной літаратуры эпохі Адраджэньня, вывучае рыцарскія раманы XVI ст. "Трышчан", "Баво" і "Атыля" ("Пазнанскі зборнік"). Кандыдат філялягічных навук, дацэнт катэдры беларускай і рускай моваў Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўнівэрсытэту. У 2010—2015 гг. працавала лектарам беларускай мовы, літаратуры й культуры на катэдры славістыкі Інстытуту філялёгіі Кіеўскага нацыянальнага ўнівэрсытэту. Аўтар больш як 80 навуковых і навукова-папулярных артыкулаў, навучальнага дапаможніка "Беларуская мова: гісторыя і сучаснасць", рамана-агапэ "Артаграфія бяз правілаў" і шэрагу абразкоў ды эсэ.

**Міхаліна Татарыновіч** (1908—1987), сястра прэлата Пётры Татарыновіча. Закончыла Віленскую беларускую гімназію, вывучала францускую філялёгію ў Віленскім унівэрсытэце. Падчас нямецкай акупацыі была намесьніцай кіраўнічкі юначак, а з 31 траўня 1944 г. — кіраўнічкай (заступніцай) СБМ на Баранавіцкую акругу. Улетку 1944 г. пакінула Беларусь, апынулася ў аўстрыйскім Куфштайне. Потым пераехала ў Польшчу, жыла ў Вострудзе (цяпер Вармянска-Мазурскае ваяводзтва). Неаднаразова наведвала Рым.

**Пётра Татарыновіч** (1896—1978), рэлігійны дзеяч, каталіцкі сьвятар, пэдагог, перакладчык, публіцыст. У 1921 г. высьвячаны на сьвятара. Працаваў у парафіях Заходняй Беларусі. Ад лета 1944 г. на эміграцыі. У 1945—1949 гг. вучыўся ў Рыме, абараніў доктарскую дысэртацыю, прысьвечаную Кірылу Тураўскаму. У 1950 г. заснаваў беларускі каталіцкі часопіс *"Źnič"*, які й рэдагаваў цягам 1950—1975 гг. Заснаваў беларускую рэдакцыю Радыё Ватыкану й быў галоўным яе супрацоўнікам.

**Аляксандар Фядута** (нар. 1964), кандыдат філялягічных навук, дацэнт Эўрапейскага гуманітарнага ўнівэрсытэту (Вільня). Рэдактар беларускага біяграфічнага альманаху "Асоба і час", сурэдактар "Беларускай мэмуарнай бібліятэкі". Аўтар васьмі кніг, укладальнік зборнікаў твораў Фадзея Булгарына й Аляксея Карпюка.

**Сяргей Шабельцаў**, гісторык, кандыдат гістарычных навук. Дацэнт катэдры філязофіі й паліталёгіі Беларускага дзяржаўнага мэдычнага ўнівэрсытэту. Займаецца вывучэньнем беларускай дыяспары ў Аргентыне.

**Лявон Юрэвіч** (нар. 1965), архівіст, працуе ў Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы. Сябра БІНіМу й рэдкалегіі “Запісаў”.

# SUMMARY

## Topic of the issue: Italian Mosaic

**S. E. Stefano Bianchi. [Preface]** (page 8)

A preface to the issue from the ambassador of Italian Republic in Belarus.

## *PiotrTatarynovic's creative heritage*

**PiotrTatarynovič. Letters** (page 10)

Letters of prelate PiotrTatarynovič, the most known Belarusan in post-war Rome, to Vitaut Tumaš, director of the Belarusan Institute of Arts and Sciences (BINIM) in New York, demonstrate particularities of life and activity of the founder of the Belarusan edition of Radio Vatican and the publisher of the Belarusan magazine "Znic".

**PiotrTatarynovič. Memoirs** (page 39)

Memoirs of father PiotrTatarynovic about his native village of Miadzviedzičy, training in a theological seminary, meetings with metropolitan Andrei Šaptycki, etc.

**St. Mark's Gospel translated by Piotr Tatarynovič** (page 69)

Fragment from St. Mark's Gospel translated by P. Tatarynovič with explications of separate translations.

**Public discussion concerning father PiotrTatarynovič's terminology in his magazine "Znič" and Bible translations** (page 76)

Materials of the discussion in the 1950s concerning the language of the magazine "Znič" printed by father Piotr Tatarynovič in Rome. Letters and publications of father LeuHaroska, Janka Čarnecki, and others, as well as the editor of "Znič", demonstrate opinions of emigrated Belarusan intellectuals concerning separate moments of using religious terminology and specificities of separate figures' language.

**MichalinaTatarynovič. Letters to Vitaut Tumaš** (page 119)

Letters of Michalina, sister of father Piotr Tatarynovič, of the time when she was in Rome and looked after her ill brother.

## *Epistolaria*

**Piotr Koniuch. Letters to Vitaut Tumaš** (page 124)

Letters of the Italian period of the life of Piotr Koniuch, Belarusan singer who studied in Rome, display circumstances of his life and intentions to leave for the USA.

**Janka Moisik. Letters to Janka Zaprudnik** (page 127)

Letters of Janka Moisik, an employee of the Belarusan edition of Radio Vatican, of 1986—1991 to Janka Zaprudnik, editor of the newspaper “Bielarus” in New York and an employee of the Belarusan edition of Radio Free Europe.

**Časlaŭ Sipovič. Letters** (page 131)

Letters of bishop Časlaŭ Sipovič to Janka Zaprudnik in 1978—1981 concerning the election of new pope John Paul II and reaction to this event of Belarusan society in the West.

## *Edition*

**Lavon Jurevič. “Znič”** (page 138)

Data on the Belarusan magazine “Znič” published in Rome in 1950—1975 by prelate Piotr Tatarynovič.

**Bibliography of “Znič” (Ales Audziajuk)** (page 141)

Separate sections of the bibliography of the magazine “Znič”; the complete variant is attached on the CD to this almanac.

## *Establishment*

**Belarusan edition of Radio Vatican (conversations with employees)** (page 154)

Conversations with employees of the Belarusan edition of Radio Vatican Janka Moisik and Ales Pančanka about the history and present day of the edition and their own way to it.

## *Place on a map*

**Natalla Hardziyenka. The church built by Belarusans in Florence** (page 168)

Article about St. Nikolaos the Wonderworker and Christmas church in Florence built in the early 20th century by father Uladzimir Lavicki from the Žabinka District, Belarus.

## *Literature*

**Aksana Danilčyk. Poems** (page 171)

“Italian” poems by poetess and translator Aksana Danilčyk.

## Publications

**Jerzy Grzybowski. Belarusan military men in Italy during World War II** (page 190)

Article about Belarusan soldiers, mainly from the Second Polish Corps, who participated in combat operations on the territory of Italy during World War II and, when the war was over, tried to build Belarusan life in their military units.

**Uladzimir Kalupajeu. Sources on the history of Belarus in collections of the Italian center “Russia Christiana”** (page 219)

Description of funds of the Italian center “Russia Christiana” in the city of Seriate where there is a big collection of samizdat (a key form of dissident activity across the Soviet bloc in which individuals reproduced censored and underground publications by hand and passed the documents from reader to reader) and materials of the dissident movement, which can interest Belarusan researchers.

**Aksana Danilčyk. Jauhien Lacki’s articles about Belarusan literature in the Italian press** (page 228)

Belarusan translation of Slavicist researcher Jauhien Lacki’s articles published in the magazine “Rivista di letterature slave” in 1927—1928 dedicated to the creativity of Maksim Bahdanovič and Jakub Kolas.

**Nadzieja Staravoitava. Objectivity of the researches of Belarusan “Tristan” abroad (on the materials of Italian and American editions)** (page 244)

Representation of the approaches to the studying of The Novel About Tristan And Iseult, a work of Belarusan translated literature, of Italian researcher Emmanuela Sgambati and Belarusan emigrational researcher Zora Kipiel.

## Books

**Uladzimir Kalupajeu. Giuseppe Messina and informational support of Belarusan studies in Italy in the 1950s** (page 173)

Analysis of Italian sources of the only Italian-language book on the history of Belarusan literature “La letteratura belorussa” published in 1952 by Slavicist scientist Giuseppe Messina.

**Aksana Danilčyk. Ulisse AlessioFloridi and his review of Giuseppe Messina's book "Belarusan literature"** (page 173)

Article about reviews of Giuseppe Messina's book dedicated to Belarusan literature — "La letteratura belorussa", and in particular — about the author of one of these reviews — father Floridi and his remarks to the edition.

**Lavon Jurevič. Varia** (page 249)

Esseys about different authors and Belarusan literature in emigration and in Belarus.

## Future books

**Makar Kraŭcoŭ. Selected Works** (page 287)

Poems and critical sketches of Makar Kraŭcoŭ, figure of the Belarusan People's Republic (1918), poet and writer.

## Memoirs

**Zina Gimpelevič. Dzmitry R. Kaminski (1906—1989): life and musical creativity** (page 311)

Article of the Belarusan studies scientist from Canada about her stepfather, composer, former chairperson of the Union of Composers of the BSSR, Dzmitry Kaminski and his memoirs.

**Dzmitry Kaminski. About my father and myself. Memoirs about the best person in my life** (page 320)

Mmoirs of Belarusan composer Kaminski about his childhood, parents, life in Russia and Belarus prior to his departure to Canada in 1980, as well as letters of Belarusan composer Ales Karpovič to the Kaminski family about musical life in pre-war and wartime Minsk.

## Archives

**Lavon Jurevič. Close contacts of the third degree** (page 376)

History of Belarusans' relations with Lithuanians, Poles, and Russians in emigration based on archival materials of activities of Ales Ruzaniec-Ruzancoŭ, JurkaVicbič, and Uladzimir Bryleŭski.

**Jurka Vicbič. Letters to "New Russian Word"** (page 394)

Letters of Jurka Vicbič, Belarusan figure in emigration, to the editor of the newspaper "New Russian Word" (New York) concerning publications that touch Belarusan subjects.

**Jerzy Grzybowski. Letters of Franc Kušal and Natalla Arsiennieva to their relatives in Poland (1963—1965)**

Correspondence of military and public figure Franc Kušal with his brothers who lived in Poland.

## Emigration studies section at the 6th Congress of Researchers of Belarus

Reports dedicated to Belarusans abroad, which were read at the Sixth Congress of Researchers of Belarus in Kaunas in September 2016.

**Olga Zubko. Belarusan Prague emigration in a new language space (1921—1939)** (page 417)

Attempt to analyze the language aspect of Belarusans' life in interwar Prague, possibilities and difficulties while studying languages.

**Uladzislaŭ Harbacki. Dictionary of the Belarusan Diaspora's language: exploratory work, discoveries, funny things (socio-linguistic analysis of the Diaspora's language)** (page 428)

Statement of a problem of the necessity to specially study the language of texts of Belarusan post-war emigration.

**Andrei Maskvin. Belarusan emigrational writing: as exemplified by the magazine "Pahonia" in 1945—1946** (page 434)

The analysis of the contents of the Belarusan magazine "Pahonia" published in Austria in 1945-1946.

**Siarhiei Sabielcaŭ. Public-political activity of Belarusans of the third wave of emigration in Argentina** (page 450)

Article about peculiarities of the appearance in Argentina and activity of Belarusans after World War II.

**Alena Izierhina. Influence of changes of frontiers on the formation of the Belarusan ethnic community in Lithuania (the 20th — early 21st c.)** (page 459)

Survey of changes that happened in the Belarusan community in Lithuania, depending on geopolitical changes in this region.

**Natalla Hardziyenka. The latest wave of emigration to Canada: quantitative and qualitative characteristics** (page 471)

Article about representatives of Belarusan emigration to Canada in the 1990s — 2000s, mechanisms and bases of emigration, features of adaptation in a new society.

## Anniversaries

**90th anniversary of Janka Zaprudnik and Vitaŭt Kipel** (page 479)

Congratulations on the 90th anniversary of Dr. Janka Zaprudnik and Dr. Vitaŭt Kipel, figures of Belarusan emigration in the USA

**Vitaŭt Kipiel. Remarks on the Janka Kupala Encyclopedic Directory** (page 481)

Text of a program of Radio Liberty dedicated to the encyclopedic directory on Janka Kupala published in Minsk (1986). The author of the program —- Vitaŭt Kipiel, director of the Belarusan Institute of Arts and Sciences (BINIM) — outlines essential drawbacks of the directory.

**Stanislaŭ Stankievič's anniversary** (page 483)

Literary critic and publisher Stanislaŭ Stankievič's letters of different times to Anton Adamovič, Paviel Urban, and Vitaut Tumaš.

## Bookshelf

**Serhiy Hirik. The unknown work by Grigorii (Zvi) Fridland on the left wing of the Poale-Zionist movement in Belarus** (page 491)

The paper presents a short description of the newly discovered book by Belarusan-Jewish politician and historian Grigorii (Zvi) Fridland on the last years of the Jewish Communist Party (Poale Zion) in Belarus.

**Larysa Doŭnar. On the way to ennoblement of emigrational Skaryna studies** (page 500)

Review of Lavon Jurevič's book "Emigrant FrancyskSkaryna, or apologia" (Minsk, 2015).

**Alaksandar Fiaduta. "Literary Studies" by Lavon Jurevič** (page 507)

Review of the book of literary studies texts by Belarusan archivist from New York Lavon Jurevič "Literary Studies" (Minsk, 2017).

**Jerzy Grzybowski. Belarusans in the USA** (page 511)

Review of the second modified and enlarged edition of Vitaŭt Kipiel's book "Belarusans in the USA" (Minsk, 2017).

**Valancina Lebiedzieva. About the knight of Belarusan freedom** (page 517)

Review of the book of selected works by Tamaš Hryb, Belarusan public figure of interwar Prague, leader of Belarusan Socialist Revolutionary Party, philosopher and publicist, published in Minsk in 2017.

**Hanna Sieviaryniec. "We Shall Win"** (page 525)

Reviews of the book of selected works of Uladzimir Samoila, philosopher, literary critic, and public figure of interwar Vilnia (Vilnius). The book is published in Minsk in 2017.

**Natalla Hardziyenka, Jana Slavina. Book reviews** (page 531)

Reviews of books dedicated to problems of Belarusan emigration history and culture, as well as books published by Belarusan authors from abroad.

## Chronicle

**Information on events that happened in 2016—2017**, among which there are: the exhibition dedicated to Janka Zaprudnik; the second season of the literary award named after Ales and Maryja Stahanovičs; the Belarusan-Italian exhibition in Minsk; postage stamps with images of engravings by F. Skaryna; the exhibition dedicated to the 90th anniversary of Zora and Vitaŭt Kipiels; events of the seventh Congress of the Belarusans of the World; etc.

## Book in "Zapisy"

**Natalla Hardziyenka. Ales Vinicki and his "Materials on the history of Belarusan Scouting"** (page 500)

Preface to the American Belarusan's reprinted work dedicated to the history of Belarusan Scouting in emigration.

**Ales Vinicki. Materials on the history of Belarusan Scouting** (page 500)

The work is dedicated to the history of Belarusan Scouting in post-war Germany and Austria and is based on publications in the mass media and memoirs.

# АЛЕСЬ ВІНІЦКІ Й ЯГОНЫЯ “МАТАР’ЯЛЫ ДА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАГА СКАЎТЫНГУ”

Наколькі значнай і заўважнай зьявай быў беларускі скаўтынг у паваеннай Нямеччыне, настолькі ж, бадай, невядомы ён сёньня ў Беларусі. Тым, хто займаецца адраджэньнем гэтага руху, складана абапірацца на досьвед папярэднікаў, зьвесткі пра якіх раскіданыя па маладаступных на Бацькаўшчыне эміграцыйных скаўцкіх пэрыёдыках ці паасобных выданьнях.

А між тым спроба сістэматызацыі матэрыялаў па гісторыі паваеннага беларускага скаўтынгу была зробленая яшчэ ў 1970-я. Праўда, засталася яна ці не ў адзіным машынапісным асобніку ў архіве Бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лёндане. На тытульным лісьце надпіс: *“Алесь Вініцкі. Матар’ялы да гісторыі беларускага скаўтынгу. Лос Анжэлес 1972 г.”*. Што ж гэта за праца і чаму яна засталася нявыдадзенай? Адказы на гэтыя пытаньні варта пачаць зь біяграфіі аўтара.

Алесь (Аляксей) Вініцкі нарадзіўся 26 сьнежня 1891 г. у вёсцы Малева Слуцкага павету Менскае губэрні (сёньня Нясьвіскі раён Менскай вобласьці). Пасьля заканчэньня Нясьвіскай настаўніцкай сэмінарыі працаваў выкладчыкам. У часе Першай сусьветнай вайны ваяваў у царскім войску, даслужыўшыся да званьня капітана. Пасьля вайны вярнуўся ў родную вёску, дзе арганізаваў беларускую школу, якую неўзабаве зачынілі польскія ўлады. Настаўнічаў у польскіх школах, а з прыходам Саветаў стаў дырэктарам дзесяцігодкі. За немцамі ствараў беларускія школы й аднавіў Нясьвіскую настаўніцкую сэмінарыю.

Пасьля Другой сусьветнай вайны Алесь Вініцкі апынуўся ў Нямеччыне, дзе спрыяў стварэньню беларускіх лягераў для перамешчаных асобаў. Ад 1949 г. быў дырэктарам Беларускай гімназіі імя Я. Купалы, выкладаў геаграфію. У 1956 г. выехаў у ЗША. Жыў у Каліфорніі. Займаўся грамадзкай і навуковай працай, быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, яго Каліфарнійскага аддзелу.

Ужо ў ЗША ў 1960-я Алесь Вініцкі стаў актыўна зьбіраць матэрыялы да гісторыі беларускай прысутнасьці ў паваеннай Нямеччыне. Ён наладзіў ліставаньне зь беларусамі ў розных краінах, заахвочваў сваіх карэспандэнтаў пісаць успаміны-згадкі пра ўдзел у СБМ, беларускім школьніцтве і грамадзкім жыцьці ў 1940-я гг. Дапоўненыя зьвесткамі з эміграцыйнай пэрыёдыкі і дакумэнтаў тыя тэксты склалі тры часткі

працы “Матар’ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гадох”, якая выйшла мізэрным накладам у колькі паасобнікаў у Лос-Анджэлесе ў 1968 г. Пры гэтым першай частцы працы Вініцкага, што ўтрымлівала зьвесткі пра першыя арганізацыі беларусаў у Нямеччыне і засяроджвалася пераважна на школьніцтве, пашанцавала: у 1994 г. яна была перавыдадзеная на Бацькаўшчыне і на доўгія гады стала ці не галоўнай крыніцай інфармацыі пра жыцьцё беларусаў у паваенных лягерах Ды-Пі. Другая і трэцяя часткі, прысьвечаныя адпаведна рэлігійнаму жыцьцю эміграцыі ў Нямеччыне і сьвецкім арганізацыям, так і засталіся амаль невядомыя і маладасягальныя для мэтрапольных беларусаў. А між тым яны ня менш, чым першая, поўныя ўнікальных зьвестак пра дзейнасьць суродзічаў у Эўропе пасьля Другой сусьветнай вайны. У другой частцы можна знайсьці інфармацыю пра стварэньне беларускіх цэркваў у Нямеччыне, пра аднаўленьне БАПЦ, пра рэлігійнае супрацьстаяньне. Трэцяя частка працы Алеся Вініцкага падае інфармацыю пра дзейнасьць асноўных беларускіх арганізацый у паваенны час, у тым ліку літаратурнай “Шыпшыны”, разнастайных прафэсійных суполак кшталту Згуртаваньня беларускіх лекараў на чужыне, студэнцкіх таварыстваў і шмат іншых.

Пры гэтым варта згадаць, што “Матар’ялы...” — гэта своеасаблівыя архіўныя зборнікі. Аўтарская прысутнасьць у іх мінімізаваная і адчуваецца хіба ў сістэматызацыі падаваных дакумэнтальных сьведчаньняў. Гэта робіць кнігі Алеся Вініцкага каштоўнымі крыніцамі да гісторыі паваеннай беларускай эміграцыі.

Усё сказанае цалкам можна аднесьці і да своеасаблівай чацьвертай часткі працы, якой пашанцавала найменш. “Матар’ялы да гісторыі беларускага скаўтынгу” задумваліся, відавочна, як храналягічна больш шырокія, што меліся закранаць і гісторыю моладзевых арганізацый міжваеннага часу. Аднак выкладзена гэтая гісторыя з выкарыстаньнем абагульняльных артыкулаў з паваеннага эміграцыйнага друку. Жадаючы паказаць пераемнасьць міжваеннага і паваеннага скаўтынгу, Алесь Вініцкі ўключыў у сваю працу сьведчаньні пра дзейнасьць СБМ, якія падаваў у першай частцы “Матар’ялаў да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне”. Часам перагукаюцца зь ёй і некаторыя зьвесткі пра скаўцкія арганізацыі, што былі блізка зьвязаныя зь дзейнасьцю адукацыйных установаў, пра якія ішла гаворка ў першым томе. Разам з тым “Матар’ялы да гісторыі беларускага скаўтынгу” маюць іншую схему сістэматызацыі ў параўнаньні з папярэдняй працай Вініцкага. Аўтар намагаўся падаць ня проста падаць зьвесткі пра дзейнасьць розных скаўцкіх адзінак у канкрэтных Ды-Пі-лягерах, але прасачыць гісторыю іх узьнікненьня, разьвіцьця і заняпаду. Таму кніга складзеная ня толькі

паводле традыцыйнага для першых частак геаграфічнага прынцыпу (разглядаюцца асяродкі ў кожнай з зонаў акупацыі Нямеччыны паасобна), але і паводле храналягічнага — ад 1945 г., калі толькі пачалі засноўвацца скаўцкія адзінкі, да 1950 г., калі Згуртаваньне беларускіх скаўтаў на чужыне фактычна спыніла сваё існаваньне.

Дакумэнтальную аснову “Матар’ялаў да гісторыі беларускага скаўтынгу” склалі публікацыі з паваенных пэрыёдыкаў: “Шляхам Жыцьця”, “Скаўцкая Інфармацыйная Служба”, “Напагатове”, “Наперад”, “Скаўт” і інш. Большасьць з тых бюлетэняў і часопісаў сёньня складана знайсьці ня толькі ў Беларусі, што робіць працу Алеся Вініцкага асабліва каштоўнай.

Разам з тым “Матар’ялы да гісторыі беларускага скаўтынгу”, безумоўна, далёка ня поўныя. Аўтар рабіў пэўную выбарку зьвестак, часам намагаўся абыходзіць складаныя, канфліктныя моманты ў гісторыі моладзевага руху, што мелі месца ад 1947 г. Толькі мімаходзь у раздзеле пра 1947 г. можна знайсьці згадку пра канфлікт паміж скаўтамі і Галоўным кіраўніцтвам у Ватэнштэце, што ў 1949 г. меў вынікам фактычны падзел усяго ЗБСЧ. Падзел ужо немагчыма было абысьці ўвагай, тым больш нечаканым ён мае выглядаць для чытача, ня маючага папярэдніх зьвестак пра насьпяваньне супрацьстаяньня. Безумоўна, той канфлікт быў вынікам агульнага грамадзка-палітычнага падзелу паваеннай эміграцыі на прыхільнікаў Рады БНР і БЦР, які аформіўся ў 1948 г. Моладзь намагалася трымацца ўбаку ад яго, але цалкам пазьбегнуць уплыву таго супрацьстаяньня не змагла. Хоць у 1950 г., і гэта адлюстравана ў працы Вініцкага, імкненьне пераадолець наступствы палітычнага змаганьня было ў скаўтаў даволі вялікае. Перашкодзіла хіба што натуральнае зьнікненьне ЗБСЧ у выніку выезду ягоных сябраў зь Нямеччыны на сталае жыцьцё ў іншыя краіны сьвету.

Нягледзячы на зразумелую непаўнату, праца Алеся Вініцкага мае вялікую каштоўнасьць. Аднак, як выглядае, яна не была цалкам дапрацаваная. Хоць ягоная “гісторыя” мае адносную храналягічную завершанасьць (дзейнасьць скаўцкіх структураў у беларускіх асяродках 1950-х гг. і пазьней тут не разглядаецца), у тэксьце багата недапрацовак. Тут можна сустрэць абарваныя фрагмэнты дакумэнтаў, адсутнасьць спасылак на крыніцы, часам і храналягічную блытаніну ды паўторнасьць зьвестак. Магчыма, прычынаю стала тое, што аўтар-укладальнік проста не пасьпеў давесьці сваю працу да канчатковага выгляду. На карысьць гэтага кажа і адсутнасьць пераліку разьдзелаў пры канцы кнігі, які быў у кожнай з трох папярэдніх частак. Алесь Вініцкі памёр 23 лістапада 1972 г. у Каліфорніі і пахаваны на *Inglewood Park Cemetery*.

З увагі на незавершаны характар “Матар’ялаў да гісторыі беларускага скаўтынгу”, рыхтуючы яго да друку, мы, захоўваючы пераважна мову аўтэнтычных сьведчаньняў, намагаліся выправіць некаторыя відавочныя хібы — прыбраць паўторныя ці незавершаныя дакумэнты, дапільнаваць храналёгію падачы матэрыялу. Разам з тым было немагчыма спраўдзіць падаваныя Алесем Вініцкім спасылкі — гэта пакідаем адмыслоўцам, дасьледчыкам гісторыі беларускага скаўтынгу. Варта таксама заўважыць, што для спраўджваньня падаваных у “Матар’ялах да гісторыі беларускага скаўтынгу” зьвестак ёсьць магчымасьці. У 1950 г. у Лёндан, пад апеку а. Чaслава Сіповіча, быў перададзены вялікі архіў Згуртаваньня беларускіх скаўтаў у Нямеччыне, які да сёньня чакае сваіх дасьледчыкаў у Беларускай бібліятэцы імя Ф. Скарыны. Некаторыя скаўцкія дакумэнты можна знайсьці і ў зборах Беларускага інстытуту навукі й мастацтва, перададзеных у Беларускі дзяржаўны архіў-музэй літаратуры і мастацтва ў Менску. Усё гэта разам з уласна працай Алеся Вініцкага можа быць выдатным падмуркам для дасьледаваньня цікавай і важнай гісторыі беларускага скаўтынгу ў Нямеччыне, а таксама падтрымкай для тых, хто аднаўляе сёньня скаўцкі рух у Беларусі.

*Натальля Гардзіенка*

# ПРАДМОВА

Прайшло ўжо больш 20 гадоў ад часу заіснаваньня Згуртаваньня Беларускіх *Скаўтаў на Чужыне*[1]. *У часе свайго існаваньня Згуртаваньне выдавала свае часапісы, у якіх вялася хроніка падзеяў паасобных адзінак. Да гэтага часу у прэсе з’явіліся, на жаль, толькі два кароткія артыкулы з гісторыі і дзейнасьці Скаўтынгу.*

*З мэтаю захаваньня матар’ялаў аб Беларускім скаўтынгу для будучых дасьледнікаў і гісторыкаў гісторыі Беларускай Эміграцыі ў Нямеччыне (1939—1951) аўтар стараўся сабраць усе яму ведамыя, даступныя матар’ялы і весткі.*

*Пры нагодзе складаю шчырую падзяку ўсім тым асобам, якія мне памаглі ў зьбіраньні матар’ялаў і вестак аб Беларускім Скаўтынгу на Чужыне.*

*Аўтар.*

## Запаветы бацькоў

На долю нашага пакаленьня выпала перахаваць і перадаць нашым нашчадкам духовыя скарбы і нацыянальныя вартасьці нашага народу, які мы атрымалі ў спадчыну ад папярэднікаў, як гістарычны плён працы ўсяго беларускага народу на працягу яго існаваньня.

Ад бацькі сыну, ад дзеда ўнуку перадаваліся гэтыя скарбы, узбагачваліся ўкладам новых пакаленьняў. Нацыянальная традыцыя і нацыянальныя духовыя вартасьці будуць жыць, пакуль будзе жыць народ.

На працягу стагодзьдзяў праз Беларусь праходзілі цэлыя полчышчы ваякаў, розныя войскі, *“схадзіліся ўсе плямёны, спрэчкі сілаю канчаць”*[2]. Край нішчыўся, гарады й вёскі зьнікалі з зямлі, стагнаў народ і пад сацыяльным прыгонам і пад панскім бізуном. Перадчасныя магілы, крыжы значылі ягоны гістарычны шлях. Наш народ доўгі час стаяў здалёк ад гістарычных шляхоў, недапушчальны да ніякага голасу.

Прамінулі вякі. Тысячу гадоў таму назад над нашай Бацькаўшчынай шумелі вольныя вятры, калі нашыя продкі прабівалі сабе да-

[1] У ліпені 1946 г. падчас Першага зьлёту беларускіх скаўтаў на чужыне ўдзельнікі вырашылі аб’яднацца ў Згуртаваньне крывіцкіх скаўтаў на чужыне, якое пасьля пераназвалі ў Згуртаваньне беларускіх скаўтаў на Чужыне (ЗБСЧ).

[2] Недакладная цытата з паэмы Якуба Коласа “Сымон-музыка”. У арыгінале: *“Тут схадзіліся плямёны / Спрэчкі сілаю канчаць”*.

рогу ў глыб краю, выкарчоўвалі лясы, змагаючыся з стыхіяй пушчаў і балот. Вольныя вятры й сёньня шумяць над прасторамі Беларусі, калі па дарогах паўзуць чорныя цені і калышуцца трывожна ў імгле агні нашых вёсак…

На працягу гэтага доўгага часу, як ня гаснучы агонь, жыў дух нашага народу, то разгараўся вялікім полымем, то тлеў ледзь прыметнай скрынкай. Быў час, калі народ наш пакінуты сам сабе, *"забыты Богам і людзьмі"* моцна трымаўся веры й запаветаў сваіх бацькоў і ў сваёй народнай стыхіі перахаваў гэты агонь. Ня згінуў наш народ. Паводля народнай формулы *"Съледам за дзедам"* цягнецца неразрыўная ніць народнага жыцьця.

Паміж адным пакаленьнем, якое сыходзіць у морак гісторыі, і тым, якое выступае на сцэну гісторыі, існуе арганічная, неразрыўная сувязь, як сувязь маці з дзіцяцем, якое жыве ў яе ўлоньні. З улоньня аднаго пакаленьня выходзіць наступнае пакаленьне. Ніякія сілы ня могуць парваць гэтае натуральнае нацыянальнае традыцыі, якая зьяўляецца зарукай неўміручасьці народу. Гэты сацыялагічны закон можа нас натхняць верай, што наша праца і нашыя высілкі ня згінуць дарма, што, перахоўваючы *"запаветы бацькоў"*, мы захоўваем тое, што мае ўсе адзнакі чалавечнасьці і поступу. Ворагі нашага народу дарма падсоўваюць яму *"чужыя сьвісьцёлкі"*, апранаюць у *"нацыянальную форму"* чужы душы нашага народу зьмест. Пакуль будзе жыць народ, датуль будуць перадавацца *"запаветы бацькоў"*, датуль будзе жыць ягоная душа.

Калі на працягу вякоў беларуская маці-сялянка, пяючы беларускую песьню над калыскай свайго дзіцяці, перадала гэтым "запаветы", то сягоньня, калі ў нас ёсьць друк, ёсьць народная здаровая духова інтэлігенцыя, нашая нацыянальная традыцыя гэтыя "запаветы" бацькоў будуць перахаваны, якое-б ліхалецьце ня зносіў сяньня наш народ. Ён ня згінуў і ня згіне. Запаветаў бацькоў моцна трымаюцца дзеці, хіба згіне ўвесь народ… *"Не пагаснуць зоркі ў небе, покі неба будзе, Не загіне край забраны, покі будуць людзі…"*[3].

Жыцьцё не стаіць на месцы. Адбываецца безупынны поступ чалавецтва і ягоных складовых частак — народаў і нацыяў — як у галіне матар'яльнай, так і ў духовай культуры. Гэты рух наперад мы-б маглі параўнаць з цячэньнем ракі. Яна цячэ то роўна, то ўздымае свае хвалі. Напатыкаючы перашкоды, цячэньне часам стрымліваецца, воды адплываюць назад, каб на пэўным часе магутным напорам прарвацца наперад. Нам часта здаецца, што гістарычная хваля адплывае назад і *"гісторыя паўтараецца"*. Але гэта толькі ільлюзія. Усё цячэ, усё зьмяняецца, рухаецца ў пэўным напрамку і ў жыцьці людзей. На

[3] Радкі зь верша Янкі Купалы "Нашай Ніве". У арыгінале: "Не загаснуць зоркі ў небе…".

нашых-жа вачох рассыпалася адна таталітарная дзяржава. Сьвет ідзе ў кірунку зьдзяйсненьня ідэалаў, якімі жыве сучаснае чалавецтва. Гэтак ажыцьцявіцца ідэал сяньняшняе эпохі, у якой мы жывем, — ідэалы свабоды прыгнечаных народаў і вызаленьне людзкога духа з аковаў дзяржаўнае паншчыны.

Але новае, вырастаючы са старога, у пэўным мамэнце атрымлівае выразныя адзнакі, адрозьніваючыя яго ад старога. Такім чынам, у перадаваньні традыцыі крыецца пэўная дынаміка гістарычнага працэсу. Гэтае зьявішча мы адзначаем як зьявішча *“бацькоў і дзяцей”*.

Толькі на здаровай зааранай глебе можа ўзысьці маладая рунь. Толькі пры належным перадаваньні досьведу старэйшага пакалення маладому і належным перайманьні гэтага досьведу маладым пакаленьнем можа быць мова аб перахаваньні нашых нацыянальных скарбаў.

У гэтай сувязі пытаньне суадносінаў паміж старэйшым і маладым пакаленьнямі, пытаньне “бацькоў і дзяцей” у нас асабліва важнае і над суадносінамі паміж імі нам варта затрымацца.

Моладзь — гэта найвялікшы скарб народу. Пра яе кажуць, што яна зьяўляецца ягонай будучыняй. Гэта праўда: ад таго, як узгадаваная моладзь, чым яна цікавіцца, як адносіцца да народу, залежыць шлях гэтага народу ў найбліжэйшай будучыні. Гісторыя людзкасьці ведае прыклады, калі дзяржавы рассыпаліся ў выніку таго, што маладыя пакаленьні не маглі справіцца з вялікімі заданьнямі, атрыманымі ў спадку ад сваіх папярэднікаў, не маглі справіцца толькі таму, што ўзгадаваліся неадпаведна і не вытрымоўвалі выпрабаваньня жыцьця. Назіраецца часамі іншае, зусім адваротнае зьявішча, калі маладыя пакаленьні выводзілі народ з палітычнага заняпаду і вялі яго на ўзвышшы гістарычнага развіцьця, а гэта ставалася таму, што гэтыя пакаленьні былі жыцьцяздольнымі і паўнавартаснымі.

Моладзь зьяўляецца найболей шукаючай часткай кожнага народу. Яе хвалююць усе магчымыя праблемы, якія звычайна не цікавяць у вялікай меры старэйшае грамадзтва.

Сачыць за разьвіцьцём творчага руху моладзі, накіроўваць шукаючую душу маладога пакаленьня ў адпаведнае рэчышча — зьяўляецца адным з асноўных заданьняў тых, хто ўзяў на свае плечы справу ўзгадаваньня моладзі.

Паміж моладзьзю і старэйшымі існуе розьніца ў спосабе думаньня, існуе разьбежнасьць поглядаў, якую часта называюць канфліктам паміж бацькамі й дзяцьмі… Каб ўнікнуць такой магчымасьці, сучасная грамадзкасьць арганізавана ўзгадоўвае сваю моладзь. Юнацкія арганізацыі зьяўляюцца дзейнікамі такога ўзгадаваньня, калі яны знаходзяцца ў руках дасьветчаных выхаваўцаў, шчырых і самаахвярных сыноў свайго народу.

У гэтых арганізацыях моладзі дадзена поле для разьвіцьця сваіх здольнасьцяў, узгадаваньне ініцыятывы, адначасна з гэтым ёй паказваецца шлях, па якім павінен адбывацца поступ.

Прышчапленьне моладзі любові да агульналюдзкіх ідэалаў, адданасьць свайму народу і Бацькаўшчыне, прывязаннасць да нацыянальных традыцыяў — вось галоўныя выхаваўчыя лініі юнацкіх арганізацыяў.

Побач з гэтым ёсьць другая, ня менш важная задача — адмежаваць моладзь ад партыйнай гульні, выэлімінаваць яе з абсягу камбінацыяў розных палітычных спэкулянтаў і накіраваць яе высілкі на служэньне цэламу народу, а не партыйным догматам.

Наша моладзь павінна выхавацца ў духу нацыянальнага адзінства, у духу пашаны гістарычных традыцыяў. Яна павінна пераняць у свае рукі сьцягі бацькоў і пачынальнікаў нашага адраджэнскага руху, чэрпаючы свае духовыя сілы з чыстых крыніц гэтага руху, а ня з мутных вытакаў розных дэмагогаў, якія часта туляюцца па задворках нашага грамадзтва. Моладзь мае сьвяты абавязак дарабіць усё тое, чаго не змаглі зрабіць бацькі. Нашая моладзь мае вечна маладую і сьвежую ідэю — Адраджэньне Беларускага Нацыянальнага Духу, ідэю Незалежнасьці Беларусі. Гэтая ідэя зьўляецца тым злучывом, якое вяжа нашу маладую зьмену з старэйшым грамадзтвам.

Беларускі скаўтынг у сваім мінулым і сучасным ставіў і ставіць перад сабою вялікае значэньне — вясьці нашую моладзь па выпрабаваным і верным шляху нацыянальнага адзінства, аб’яднаньня ўсіх сілаў народу вакол ідэі Незалежнасьці Беларусі.

Па сваёй структуры, па сваіх выхаваўчых магчымасьцях і мэтах скаўтынг найлепш спрыяе замацаваньню сужыцьця і супрацоўніцтва старэйшага грамадзтва з моладзьзю.

Праз скаўцкі патранат бацькі маюць магчымасьць уплываць на кірунак узгадаваьня моладзі, а кіраўніцтва скаўтынгу павінна зьяўляцца складовай актыўнай часткай старэйшага грамадзтва.

Такім чынам у нас праблема *“бацькоў і дзяцей”* ня можа й не павінна выклікаць нейкіх глыбейшых канфліктаў. Нашае старэйшае грамадзтва і моладзь павінны падаць сабе рукі, памятуючы цьвёрда *“запаветы бацькоў”*, свае заданьні і ролю ў нашым нацыянальным жыцьці. Гэта адзіны правільны і пэўны шлях.

Скаўт Ількоў

Лістапад 1946 г.
Ватэнштэт[4].

[4] **Ватэнштэт** — вёска ў Ніжняй Саксоніі ў ангельскай акупацыйнай зоне Германіі, дзе ў 1945 г. паўстаў беларускі Ды-Пі-лягер, працавалі дзіцячы садок, пачатковая школа, гімназія, аматарскія тэатр, хор, танцавальныя гурткі. Лягер быў зьліквідаваны ў лютым 1950 г.

## Моладзь у беларускім Адраджэньні

Моладзь у Беларускім вызвольным руху адыграла і павінна адыгрываць вялікую ролю. Дзе толькі было магчыма, піянеры нашага нацыянальна-вызвольнага руху стараліся ўсьведаміць і арганізаваць моладзь, якая потым іх працу вяла далей.

З першых Беларускіх гурткоў моладзі, узьнікшых у 1880—1890 гадох, трэба адзначыць гурток студэнтаў у Маскве[5]. На вялікі жаль, ад іх засталося мала вестак, апрача таго толькі, што сябрам гэтага гуртка быў ведамы наш пісьменнік Антон Лявіцкі (Ядвігін Ш.)[6], які ў тыя часы выдаў па-беларуску кніжачку У. Гаршына[7] “Сыгнал”[8]. Падобныя гурткі (зямляцтвы) існавалі і ў другіх унівэрсытэцкіх гарадох Расеі.

Калі ў 1906 годзе зьявілася ў сьвет першая беларуская газэта “Наша Доля”[9], а за ёю “Наша Ніва”[10], рух моладзі значна пашырыўся. Друкаванае беларускае слова пранікала ува ўсе школы і рабіла сваю работу.

Першы Беларускі гурток ў 1906 годзе стварыўся у Маладэчанскай Настаўніцкай Сэмінарыі[11], які вёў прапаганду і пашыраў беларускае слова ня толькі сярод вучняў, але й сярод ваколічнага жыхарства.

---

[5] Гісторык Уладзімер Ляхоўскі адносіць стварэньне беларускага студэнцкага гуртку ў Маскве да пачатку 1890-х гг.

[6] **Антон Лявіцкі** (1869—1922), грамадзкі дзеяч, пісьменьнік, вядомы пад псэўданімам Ядвігін Ш. Вучыўся на мэдыцынскім факультэце Маскоўскага ўнівэрсытэту, але за ўдзел у студэнцкіх хваляваньнях быў выключаны ў 1890 г. Некалькі месяцаў правёў у Бутырскай турме. Менавіта за кратамі і паўстала ідэя арганізаваць беларускі гурток моладзі.

[7] **Усевалад Гаршын** (1855—1888), расейскі пісьменьнік.

[8] Маецца на ўвазе выданьне: Сігнал, або Расказ аб тым, як дабро перемагло зло ў чалавека / пераложана, с малымі пераменамі, з расказа Усевалада Гаршына [Ядвігіным Ш.]. Масква, 1891. — 31 с.

[9] **“Наша Доля”** — штотыднёвая легальная газэта на беларускай мове, якая выдавалася ў 1906 г. Выйшла 6 нумароў, 4 зь якіх былі канфіскаваныя. 7-ы нумар быў зьнішчаны ў наборы, пасьля чаго выданьне забаранілі.

[10] **“Наша Ніва”** — штотыднёвая легальная газэта на беларускай мове, якая выдавалася ў 1906—1915 гг. Стала наступніцай “Нашай Долі”. Выданьне праводзіла лінію на культурнае, палітычнае, эканамічнае адраджэньне Беларусі. Яе аўтарамі былі Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Зьмітрок Бядуля і іншыя.

[11] **Маладэчанская настаўніцкая сэмінарыя** — сярэдняя спэцыяльная навучальная ўстанова, у якой рыхтаваліся настаўнікі пачатковых школ. Дзейнічала ў 1864—1920 гг. Ад 1915 г. знаходзілася ў Смаленску. Сярод выпускнікоў сэмінарыі Флягонт Валынец, Пётра Мятла, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Міхась Чарот і інш.

Працаю моладзі кіравала Беларуская Сацыялістычная Грамада[12]. У тым-жа ўжо годзе былі першыя ахвяры сярод вучняў сэмінарыі ў Маладэчне — шмат вучняў за сваю нацыянальную працу пайшлі ў царскія вастрогі.

Па прыкладу Маладэчна пайшлі Полацкая, Сьвіслацкая і асабліва Нясьвіская Настаўніцкая Сэмінарыя, гадунцом якое быў і наш выдатны паэт Якуб Колас (Кастусь Міцкевіч). Яны далі не аднаго непахіснага змагара за нашы беларускія ідэалы, якія й давялі нас да вялікага Акту 25-га Сакавіка.

Падобныя арганізацыі былі блізу ўва ўсіх гарадох і мястэчках Беларусі, якую тады царскі ўрад афіцыйна назваў *"Северо-Западный Край"*. Па сваёй колькасьці сяброў і праведзенай працы трэба адзначыць Беларускую арганізацыю моладзі ў Горадзенскай Гімназіі[13]. Гурток гэты вёў вельмі інтэлігентную працу ня толькі сярод сваіх вучняў, але і сярод вучняў іншых школаў.

Меў ён сваю беларускую бібліятэку, кніжкамі якой карысталіся ня толькі вучні школаў, а і прыватныя асобы. Апрача сваіх сходак, на якіх чыталіся рэфэраты, імі вялася нацыянальна-культурная праца сярод насельніцтва, зьбіраліся грошы на выдаваньне "Нашае Нівы", пашыраліся беларускія кнігі, газэты й г. д.

Ня можна абыйсьці моўчкі гуртка моладзі ў Слуцку. Ня гледзячы на свой невялікі памер як гораду, духова заўсёды Слуцак быў адным з важнейшых цэнтраў. Апрача трох сярэдніх школ — мужчынскай, жаноцкай гімназіяў і камэрцыйнае школы, вучні якіх прымалі ўдзел у працы гуртка, беларускі рух ахопліваў і моладзь Гарадзкое й Рамясьніцкае школаў.

Апрача свае штодзённае працы, як — рэфэраты, вывучэньне беларускае мовы, гісторыі, геаграфіі і г. д., імі былі ладжаныя беларускія спэктаклі ня толькі ў горадзе, але й на вёсках. Душою моладзі, яе

---

[12] **Беларуская сацыялістычная грамада** — першая беларуская палітычная партыя леванароднiцкага кірунку. Створана ў 1902 г. пад назвай Беларуская рэвалюцыйная грамада. Заснавальнікамі былі Іван і Антон Луцкевічы, Алаіза Пашкевіч, Вацлаў Іваноўскі, Аляксандар Бурбіс і інш. Партыя выступала за зьвяржэньне самадзяржаўя і незалежную дэмакратычную Беларусь. У 1918 г. БСГ распалася на Беларускую сацыял-дэмакратычную партыю, Беларускую партыю сацыялістаў-рэвалюцыянэраў, Беларускую партыю сацыялістаў-фэдэралістаў.

[13] Магчыма, маецца на ўвазе **Гарадзенскі гурток беларускай моладзі**, які паўстаў у 1909 г. з навучэнцаў мясцовых сярэдніх школ. Яго заснавальнікамі былі ксёндз Францішак Грышкевіч і навучэнец Гарадзенскай мужчынскай урадавай гімназіі Адам Бычкоўскі. Арганізацыя выступала за вывучэньне роднай мовы, геаграфіі і гісторыі Беларусі. Удзельнікі ладзілі культурніцкія мерапрыемствы. Гурток распаўся ў 1914 г.

апекуном і павернікам быў случак Юрка Булгак[14] (Юры Бусел з пад Слуцка, ён жа Ю. Верашчака). Па яго пачыну ўлетку вучнямі гуртка рабіліся краязнаўчыя экскурсіі, а адначасова вялася і беларуская нацыянальная ўсьведамляючая праца.

З ранейшых гурткоў заслугоўвае на вялікую ўвагу гурток вучняў Віленскай Сярэдняй Хіміка-Тэхнічнай школы[15], заснаванай у 1909 годзе і Віленскай Цэнтральнай Фэльчарскай школы, заложанай у тым-жа годзе.

Апрача гэтых гурткоў вялася праца ў Віленскіх Гімназіях і Настаўніцкім Інстытуце. Вучні гэтых гурткоў прымалі удзел у арганізацыі вечарынаў і канцэртаў, пачынаючы з 1909 году, а таксама беларускага хору пад кіраўніцтвам ведамага кампазытара і гарманізатара Беларускіх песьняў Л. Рагоўскага[16], якога “Беларуская Сюіта” ў 1910 годзе ў Парыжу выклікала вялікае захапленьне і ўражаньне сярод парыжан.

Шмат гурткоў і арганізацыяў ня ўспомнена тут, як, прыкладам, Пецярбургу, Кіеве і іншых гарадох Расеі. Цэлай сеткай гурткоў была ахоплена ўся Беларусь. Сябры іх ахвярна вялі нашу беларускую справу. А вясьці тады беларускую справу было даволі цяжка. Толькі цьвёрдая і моцная вера, глыбокі ідэалізм, вера ў правату нашага адраджэньня натхнялі нашую моладзь на працу, на гераічныя чыны. Ніякія заба-

---

[14] **Юры Булгак**, як піша гісторык Алесь Пашкевіч, быў слуцкім абшарнікам, польска-беларускім палітычным і грамадзкім дзеячам. Сябра Польскай рады Менскай зямлі, які ў 1917—1918 гг. падтрымоўваў кантакты зь беларускім нацыянальным рухам. У 1918 г. ён запрашаўся ў фінансавую сэкцыю Арганізацыйнай камісіі па стварэньні менскага ўнівэрсытэту (паводле рашэньні Народнага сакратарыяту БНР).

[15] **Віленская сярэдняя хіміка-тэхнічная школа** працавала ў 1900—1922 гг. Прыкладна ў 1908 г. там паўстаў вучнёўскі гурток, якім апекаваўся прафэсар Вацлаў Іваноўскі. Як адзначае гісторык Уладзімер Ляхоўскі, найбольш актыўна працавалі браты Часлаў і Леапольд Родзевічы, якія бралі ўдзел у тэатральных пастаноўках. У 1913 г. гурток наладзіў сувязь з суайчыннікамі з Пскоўскай каморніцкай вучэльні, перасылаў туды беларускую літаратуру, прэсу.

[16] **Людамір Міхал Рагоўскі** (1881—1954), польскі кампазытар і дырыжэр. Закончыў Варшаўскі інстытут музыкі (1906). Працягваў навуку ў Мюнхэне, Ляйпцыгу, Рыме, Парыжы. У 1909—1912 гг. працаваў дырыжэрам у Вільні, дзе арганізаваў сымфанічны аркестар. Стварыў музычнае суправаджэньне да спэктакляў трупы Ігната Буйніцкага. Склаў “Biełaruski Piesiennik z notami dla narodnych i školnych chorov” (Вільня, 1911). У часе Першай сусьветнай вайны працаваў у Парыжы. У 1921 г. вярнуўся ў Варшаву. У 1926 г. выехаў у Дуброўнік (Харватыя), дзе і памёр.

роны, ніякія прасьледаваньні, ні катарга, ні турмы не змаглі іх зьвярнуць з раз абранае дарогі, дарогі да Вольнае й Незалежнае Беларусі[17].

Беларускі Скаўт

## Беларускі скаўтынг

Першыя дружыны беларускіх скаўтаў паўсталі ў лістападзе 1921 г. пры Беларускай Гімназіі ў Нясьвіжы[18]. Душою іх былі настаўнік Гімназіі сп. Язэп Шнаркевіч[19] і настаўніца сп-чна Ганна Малойла[20].

Скаўцкая арганізацыя ахоплівала ўсю вучнёўскую моладзь. Пры гэтым скаўтынг ня меў характару нейкай выключна школьнай арганізацыі, а быў агульнай арганізацыяй беларускай моладзі.

Нясьвіскія беларускія скаўты ладзілі вечарыны, спэктаклі і канцэрты. Яны выступалі ў гарадзкой Ратушы, куды сыходзіліся ўсе жыхары гораду. Першы раз у Нясьвіжы са сцэны Гарадзкой тэатральнай залі ў Ратушы быў прапяяны скаўтамі Беларускі Гімн: "Не пагаснуць зоркі ў небе"...

Нясьвіскія скаўты выдавалі свой часапіс, у якім маладыя таленты маглі каваць свае літаратурныя здольнасьці.

Скаўтынг праіснаваў у Нясьвіжы ад 1921 да 1924 году, да таго часу пакуль не былі нанесены ўдары па самай гімназіі. Частка якой пераехала ў мястэчка Клецак.

Амаль адначасова зараджаецца беларускі скаўцкі рух і ў Вільні. Ініцыятарам усяе справы быў вядомы беларускі дзеяч сп. Сымон Рак-Міхайлоўскі[21] (загінуў на Салавецкіх астравох у 1936 г.), які быў тады

---

[17] Беларускі Скаўт. № 1. Ватэнштэт, 1946. — ***А. В.*** Тут і далей камэнтары, зробленыя Алесем Вініцкім, адмыслова пазначаюцца.

[18] **Беларуская гімназія ў Нясьвіжы** створана ў 1921 г. на базе прыватнай рускай гімназіі. Зачынена ў 1924 г., хоць навучаньне не вялося ўжо ад лета 1923 г. Аднавілася як гімназія ў Клецку ў 1924 г.

[19] **Язэп Шнаркевіч** (1888—1974), культурны дзеяч, пэдагог. Выпускнік Нясьвіскай настаўніцкай сэмінарыі (1907) і Магілёўскага настаўніцкага інстытуту (1916). Зьяўляўся сакратаром Менскага настаўніцкага саюзу пачатковых і вышэйшых вучылішчаў. Дырэктар першага Менскага вучылішча. Належаў да Беларускай партыі эсэраў. У Заходняй Беларусі выкладаў у Нясьвіжы. Двойчы арыштоўваўся польскімі ўладамі. У 1923 г. перабраўся ў Вільню, дзе працаваў настаўнікам. Пад нямецкай акупацыяй выкладаў у Віленскай беларускай настаўніцкай сэмінарыі. Пасьля вайны не вяртаўся да школьніцтва. Пакінуў мэмуары.

[20] **Ганна Малойла** — выкладчыца Нясьвіскай беларускай гімназіі. Пачала працу ў 1922/23 навучальным годзе.

[21] **Сымон Рак-Міхайлоўскі** (1885—1938), грамадзка-палітычны дзеяч, пэдагог. Выпускнік Маладэчанскай настаўніцкай сэмінарыі (1904),

настаўнікам фізыкі ў гімназіі. Арганізацыю вёў былы Беларускі вайсковец Прохараў[22] і сп. Туронак[23]. У арганізацыі, якая абыймала толькі хлапцоў, было звыш 100 сяброў, падзеленых на 4 дружыны.

Праводзіліся заняткі, зборкі, экскурсіі. Пачалася падрыхтоўка да выданьня скаўцкага часапісу. Скаўцкае права, перакладзенае і апрацаванае самым сп. Рак-Міхайлоўскім, было нават надрукована, здаецца, у вучнёўскім часапісе “Маладое жыцьцё”[24] ці ў ваднэй з беларускіх газэт.[25] І тут скаўцкі рух быў аднэй са складовых частак беларускага нацыянальнага руху. Ён і ўзьнік тут па пачыну старэйшага грамадзтва, якое адчувала патрэбу стварэньня юнацкае арганізацыі. Настрой, які панаваў у той час у Беларускай Віленскай Гімназіі, апісвае Стары Скаўт[26] у ўспамінах аб Віленскім Скаўтынгу.

Аднак хутка скаўтынг быў забаронены польскай уладай. Некаторы час нелегальна праводзіцца праца далей. Пад відам геаграфічных экскурсіяў вядзе яе настаўнік геаграфіі І. Канчэўскі[27]. Хоць скаўцкі рух

---

пэдінстытуту ў Феадосіі (1912). Удзельнік Першай сусьветнай вайны. Уваходзіў у Беларускую сацыялістычную грамаду. Адзін са стваральнікаў Цэнтральнай вайсковай рады. Арганізоўваў беларускія школы. У 1920—1922 гг. дырэктар Беларускай настаўніцкай сэмінарыі ў Барунах. Пасол польскага сойму. Адзін з кіраўнікоў Беларускай сялянска-работніцкай грамады. У 1927 г. арыштаваны польскімі ўладамі. Вызвалены ў 1930 г. З-за пагрозы новага арышту перабраўся ў Савецкую Беларусь. Ад 1931 г. працаваў дырэктарам Беларускага дзяржаўнага музэю. У 1933 г. арыштаваны. Расстраляны.

22 Магчыма, маецца на ўвазе **Аляксандар Прохараў**, актывіст скаўцкага руху ў Заходняй Беларусі.

23 Маецца на ўвазе **Браніслаў Туронак** (1896—1938), грамадзка-палітычны дзеяч, мэдык. Выпускнік гімназіі ў Яраслаўлі (1917). Настаўнічаў у беларускіх школах на Дзісеншчыне. Закончыў мэдычны факультэт Віленскага ўнівэрсытэту (1924). Уваходзіў у Беларускі студэнцкі саюз, быў адказным рэдактарам месячніка “Наш Шлях”, тыднёвай газэты “Крыніца”. Узначальваў Віленскае аддзяленьне Беларускага інстытуту гаспадаркі і культуры, Гандлёва-прамысловы банк. У 1928 г. пакінуў Вільню і перабраўся ў мястэчка Дукшты (сёньня Літва), дзе працаваў лекарам. Бацька гісторыка Юрыя Туронка.

24 Магчыма, маецца на ўвазе **“Маладое жыцьцё”** — грамадзка-палітычны і літаратурны часопіс, які ад чэрвеня 1919 г. выдаваўся ў Вільні, а ў сьнежні 1919 — сакавіку 1920 гг. — у Мінску.

25 Беларускі Скаўт. № 1. Ватэнштэт, 1946. Бач. 2. — ***А. В.***

26 **Стары Скаўт** — псэўданім Хведара Ільляшэвіча.

27 **Ігнат Канчэўскі** (псэўд. **Абдзіраловіч**, 1896–1923), грамадзкі дзеяч, паэт, філёзаф. Закончыў Віленскае рэальнае вучылішча (1913). Паступў і Санкт-Пецярбурскі тэхналягічны ўнівэрсытэт, зь якога перавёўся

і быў спынены, але не спынілася шырокая праца моладзі ў гімназі і на вёсцы. Якраз цяпер пачынаецца гурткоўшчына, выдаваньне розных часапісаў на шапірографе (нп. “Усход”, “Зорка”, “Рунь”[28] і інш.).

Пасьля ліквідацыі легальнага скаўцкага руху як такога актыўная вучнёўская беларуская моладзь ідзе ў падпольле, вядзе шырокую нацыянальна-ўсьведамляючую працу сярод вясковай моладзі, зь якой яна была зьвязана крывёй і целам. У часе “Грамады”[29] маса беларускае моладзі ўліваецца ў яе рады. Былі спробы стварыць нават “Беларускую Сялянска-Работніцкую Грамаду Моладзі”, у якую-б уваходзіла моладзь да 18 гадоў. Спробы стварэньня беларускае арганізацыі моладзі спатыкаліся, аднак, з вострай забаронай польскіх уладаў. Гэткі-ж лёс спаткаў і спробы групы Беларускай моладзі стварыць сваю арганізацыю пад відам спартовага аб’еднаньня “Гайсак”[30] у Вільні.

Шмат чаго можна было-б дакінуць да гісторыі скаўцкага руху ў тым часе, аднак у сучасных умовах нельга гэтага зрабіць з розных прычын, перадусім па прычыне адсутнасьці адпаведных матар’ялаў. Шмат чаго яшчэ наагул не дасьледжана. Трэба думаць, што ў Горадні, дзе быў вялікі Беларускі Прытулак[31] і розныя ўстановы й арганізацыі ў першыя гады існаваньня Польшчы, была таксама скаўцкая арганізацыя.

на гісторыка-філялягічны факультэт Маскоўскага ўнівэрсытэту. Але скончыць вучобы ня змог — у 1916 г. забралі ў войска. У 1917 г. паступіў на вышэйшыя каапэратыўныя курсы пры Народным унівэрсытэце імя А. Шаняўскага ў Маскве. Працаваў у Цэнтральным саюзе льнаводаў у Смаленску. Быў інструктарам Саўнаргасу ў Менску. Пераехаў у Вільню, дзе працаваў у Саюзе беларускіх каапэратараў і кіраваў вучнёўскім гуртком геаграфіі ў Віленскай беларускай гімназіі. Памёр ад сухотаў. Аўтар філязофскага эсэ “Адвечным шляхам”.

[28] **“Рунь”** — ілюстраваны літаратурна-мастацкі часопіс гімназічнай моладзі, які выходзіў на беларускай мове ў лютым — верасьні 1923 г. у Вільні. Друкаваўся пры падтрымцы Пэдагагічнай рады Віленскай беларускай гімназіі і Леапольда Родзевіча. Выйшлі 3 нумары.

[29] Маецца на ўвазе **Беларуская сялянска-работніцкая грамада** — масавая легальная рэвалюцыйна-дэмакратычная нацыянальна-вызваленчая арганізацыя працоўных у Захоўняй Беларусі ў 1925—1927 гг.

[30] **“Гайсак”** — моладзевая суполка, якую стварыў паэт і журналіст у Заходняй Беларусі Ўладзіслаў Казлоўскі. Яна мела скаўцкі і спартовы кірунак.

[31] **Беларускі прытулак у Горадні** ўзьнік у пачатку Першай сусьветнай вайны, калі ў Барысаглебскі манастыр перавезьлі дзіцячы прытулак з манастыру з-пад Беластоку. Калі ў 1917 г. у Гродне быў створаны філіял Віленскага беларускага дабрачыннага таварыства “Золак”, прытулку пастараліся надаць беларускі характар. Сярод настаўнікаў прытулку была Станіслава Буйло, родная сястра паэткі Канстанцыі Буйло. Прытулак быў зачынены ў 1927 (1928?) г.

Ня менш цікавы матар’ял можна было-б сабраць з пачатковых школаў, у якіх беларуская моладзь ня раз рабіла дэманстрацыі, дамагаючыся беларускае мовы ў школу. У Беларускіх пачатковых школах, якія былі ў першых гадох існаваньня Польшчы ў Заходняй Беларусі, безумоўна, былі таксама скаўцкія арганізацыі. Зусім магчыма, што скаўцкі рух зараджаўся ўжо ў Беларускіх школах за часоў нямецкае акупацыі ў часе Першае сусьветнае вайны. Усё гэта, аднак, дапушчэньні, пакуль-што не пацьверджаныя фактычным матар’ялам.

Пасля даўжэйшага перапынку ўзноў удаецца ўзнавіць працу скаўцкае арганізацыі. Гэта наступае ў 1926 годзе, за часоў “Грамады”. Дзякуючы падтрымцы амэрыканскіх мэтадыстых[32] была заснавана пры Беларускім жаночым інтэрнаце дзявочая скаўцкая арганізацыя пад назовам “Сёстры Вогнішча”. У працы яе дапамагалі актыўна дзьве амэрыканкі спсп. Броўн і Браўн. Арганізацыя праіснавала да 1929 году. Традыцыя скаўцкага руху, аднак, не зьнікае. Ужо ў 1934 годзе у той-жа Віленскай Беларускай Гімназіі[33] ізноў закладаецца скаўцкая арганізацыя, якая існуе аж жа вайны. Апекуном яе быў настаўнік, а пасьля дырэктар гэтае Гімназіі сп. М. Анцукевіч[34].

Заданьнем арганізацыі было будзіць патрыятычны дух сярод моладзі гімназіі, узгадоўваць вартасных грамадзян народу, якія ў будучыні працавалі-б ахвярна для свае Бацькаўшчыны.

Час адраджэньня гэтага вучнёўскага згуртаваньня прыпадаў на цяжкі для беларусаў час наступу польскага Ўраду на ўсіх, хто адважыўся называць сябе беларусам і гаварыў па-беларуску. І таму польскія школьныя ўлады даўжэйшы час не хацелі даваць дазволу на арганізацыю Беларускага скаўтынгу.

Былі арганізаваны дзьве дружыны: хлапцоўская імя Фр. Багушэвіча і дзявоцкая імя сьв. Афрасіньні Полацкай. Хлапцоўская дружына была пад апякунствам сп. М. Анцукевіча, дзявоцкая-ж пад апякун-

---

32 **Мэтадысты** — прадстаўнікі адной з плыняў у пратэстантызьме.

33 **Віленская беларуская гімназія —** навучальная ўстанова, якую арганізаваў Іван Луцкевіч як прыватную гімназію. Існавала ў 1919—1944 гг. Спачатку яна была 8-класнай, па-беларуску навучаньне вялося толькі ў першых класах, у астатніх — па-руску. Ад 1924 г. гімназія стала цалкам беларускамоўнай. У 1928 г. атрымала права прымаць іспыты на атэстат сталасьці (матуру). Вучыліся ў гімназіі разам зь беларусамі яўрэі і расейцы. Сярод выпускнікоў гімназіі Натальля Арсеньнева, Хведар Ільляшэвіч, Ігнат Дварчанін, Адольф Клімовіч, Янка Шутовіч і інш.

34 **Мікалай Анцукевіч** (1892—1971), дырэктар Віленскай беларускай гімназіі, выкладаў лацінскую мову і гісторыю. Да пераезду ў Вільню выкладаў у Лунінецкім рускім вучылішчы. Пераклаў на рускую мову “Слова аб палку Ігаравым”, са старажытнагрэцкай — “Адысею” Гамэра.

ствам настаўніцы А. Сокалавай-Лекант[35]. Пад кіраўніцтвам гэтых настаўнікаў і пры ўдзеле актыўных вучняў, як: Найдзюк[36], Бразоўскі[37], Лявон і Кастусь Паўлі[38], Дручка[39], Корсак[40], Бараноўская[41], Казьлянкі[42], Громава[43] і іншыя, гурток Беларускіх Скаўтаў хутка разрастаўся і налічваў вялікую колькасьць вучняў.

Беларускія скаўты былі моцным нацыянальным ядром сярод вучняў свае гімназіі. Усе пачынаньні, усе імпрэзы скаўтаў былі скіраваныя на тое, каб будзіць патрыятычны дух сярод вучняў, а таксама сярод невучнёўскай моладзі, якая сутыкалася зь імі і ня мела магчымасьці вучыцца.

Сродкам да асягненьня высокіх патрыятычных мэтаў было арганізаваньне розных імпрэзаў, беларускіх прадстаўленьняў, рэфэратаў, этнаграфічных экскурсіяў і г. д. Адначасна зь вялікай

---

35 **Алена Сокалава-Лекант** (1893—1960), настаўніца беларускай мовы і арытмэтыкі ў Віленскай беларускай гімназіі. Уваходзіла ў кіраўніцтва Беларускага прафэсійнага настаўніцкага саюзу. У 1919 г. стала сябрам Беларускага навуковага таварыства ў Вільні. Пасьля 1944 г. рэпрэсаваная савецкімі органамі, высланая. У 1950-я гг. вярнулася ў Вільню.

36 Хутчэй за ўсё, маецца на ўвазе **Часлаў Найдзюк** (1915—1995), грамадзкі дзеяч, брат Язэпа Найдзюка. Вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі (1927—1935). Адвакат паводле адукацыі. Быў сябрам Беларускага студэнцкага саюзу, Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у Вялейцы на пасадзе міравога судзьдзі, узначальваў акруговую ўправу Беларускай народнай самапомачы. Ад лета 1944 г. на эміграцыі ў Нямеччыне. У 1950 г. пераехаў у ЗША. Жыў у Лос-Анжэлесе.

37 **Анатоль Бразоўскі** (1918—2010), грамадзкі дзеяч. Вучыўся на мэдычным факультэце Віленскага ўнівэрсытэту, завяршыў адукацыю ў Нямеччыне. Ад 1949 г. у Аўстраліі. Пасяліўся ў Пэрце, здолеў пацьвердзіць дыплём і працаваў па спэцыяльнасьці ў Дэпартамэнце аховы здароўя Заходняй Аўстраліі (з часам на кіраўнічых пасадах). Сябра Беларускага аб'еднаньня ў Заходняй Аўстраліі.

38 **Лявон і Кастусь Паўлі**, браты, навучэнцы Віленскай беларускай гімназіі, актывісты скаўцкага руху ў Заходняй Беларусі.

39 **Дручка**, навучэнка(-нец) Віленскай беларускай гімназіі, актывіст скаўцкага руху ў Заходняй Беларусі.

40 **Корсак**, навучэнка(-нец) Віленскай беларускай гімназіі, актывіст скаўцкага руху ў Заходняй Беларусі.

41 **Бараноўская**, навучэнка Віленскай беларускай гімназіі, актывістка скаўцкага руху ў Заходняй Беларусі.

42 **Казьлянка**, навучэнка Віленскай беларускай гімназіі, актывістка скаўцкага руху ў Заходняй Беларусі.

43 **Громава**, навучэнка Віленскай беларускай гімназіі, актывістка скаўцкага руху ў Заходняй Беларусі.

узгадаваўчай працай унутры школы беларускія скаўты вялі Беларускую прапагандную працу навонкі. Сярод шалеючага нацыянальнага прыгнёту, які панаваў тады на нашых землях, калі гаварыць і сьпяваць па-беларуску лічылася антыдзяржаўнай працай, беларускі скаўт адважна нёс беларускае слова і песьню далёка ў народ.

На Міжнародным скаўцкім зьлёце ў Спале[44] (летняя рэзыдэнцыя польскага прэзыдэнта Масьціцкага[45]), дзе сабраліся скаўты розных нацыянальнасьцяў усяго сьвету, былі прысутныя таксама й Беларускія скаўты. Яны актыўна удзельнічалі ў гэтым зьлёце, інфармуючы сваіх замежных сяброў аб беларускім народзе і сваім жыцьці.

Пры скаўтынгу быў Патранат, у якім асабліва актыўны ўдзел прымаў сьв. памяці кс. Глякоўскі[46], замучаны немцамі ў канцэнтрацыйным лягеры. Скаўты ладзілі імпрэзы, праводзілі зборкі і заняткі.

На працягу свайго існаваньня скаўцкае згуртаваньне Беларускай гімназіі ў Вільні правяло аграмадную нацыянальную працу, як у сэнсе ўзгадаваньня моладзі, так і ў сэнсе буджэньня нацыянальнай сьведамасьці ў народзе.

У крытычныя хвіліны далейшых падзеяў, якія разгортваліся на нашай зямлі, калі Бацькаўшчына патрабавала верных і адданых ёй сыноў, каб выканаць часта небясьпечную і ахвярную працу для свайго народу, у гэты момант прыходзілі ёй на дапамогу маладыя беларускія сілы, былыя скаўты — гадунцы Беларускай гімназіі ў Вільні.[47]

Гэткія больш-менш абрыўкі фактаў да гісторыі Беларускага скаўтынгу. Далейшы яго лёс быў супольны з лёсам Беларускай моладзі.

---

[44] **Спала** (пол. *Spała*) — вёска ў Лодзінскім ваяводзтве Польшчы.

[45] **Ігнацы Масьціцкі** (пол. *Ignacy Mościcki*) — трэці прэзыдэнт Польшчы (1926—1939).

[46] **Станіслаў Глякоўскі** (1896—?), каталіцкі сьвятар, выдавец. Стаў сьвятаром пасьля заканчэньня Віленскай духоўнай сэмінарыі (1921). Ступень доктара тэалягічных навук атрымаў ва ўнівэрсытэце ў Рыме. Служыў у Кнышынскім і Беластоцкім дэканатах, у Ваўкавыску. Ад 1929 г. у Вільні. Служыў у касьцёле Сьв. Мікалая, выкладаў Закон Божы ў сярэдніх школах, у тым ліку ў Віленскай беларускай гімназіі. Уваходзіў у склад кіраўніцтва Беларускага каталіцкага выдавецтва ў Вільні. Разам зь Язэпам Найдзюком выдаў некалькі кніжак Міхася Машары, Вінцука Адважнага і інш. Выдаваў часопіс для дзяцей “Пралескі”. Напярэдадні прыходу бальшавікоў перабраўся ў Коўна, але затым вярнуўся ў Вільню. Пад нямецкай акупацыяй выконваў абавязкі сьвятара ў менскім касьцёле Сьвятых Сымона і Алены. Арыштаваны немцамі ў сьнежні 1941 г. Далейшы лёс невядомы.

[47] Скаўт. № 1 (7). Студзень 1947. — ***А. В.***

Як бачым, палітычныя ўмовы, у якіх апынуўся наш народ пасьля Рыскага трактату, не дазвалялі паўстаньню ня толькі скаўцкае арганізацыі, але наогул якой-бы ня было арганізацыі Беларускай моладзі. Нелегальныя-ж арганізацыі не маглі разгарнуць вялікае працы і ахапіць пад свае ўплывы шырэйшыя гушчы Беларускае моладзі.

Вайна Польшчы з СССР у 1939 годзе і далучэньне Заходняй Беларусі да БССР дашчэнтна зьліквідавалі Беларускі скаўтынг на Бацькаўшчыне. Так як і ўва Ўсходняй Беларусі пасьля прыходу да ўлады бальшавікоў, скаўтынг тут цяпер быў забаронены, ягонае месца заняў Камуністычны Саюз Моладзі (Камсамол).

Беларуская моладзь заганялася ў Камсамол, які выхоўваў яе ў духу ваюючага бязбожніцтва і пралятарскага інтэрнацыяналізму, дыямэтральна супярэчнага з маральна-ідэйным укладам жыцьця Беларускага народу. Камсамол, як і ўсякія іншыя арганізацыі моладзі, імкнуўся выпаласкаць з яе душы ўсе здаровыя маральныя пачаткі, вынесеныя ёю з Беларускай народнай стыхіі.

Нельга ня сьцьвердзіць аднак, што юнацкі рух у Савецкай Беларусі да разгрому Беларускага руху, пачынаючы ад 1928 году, меў шмат нацыянальнага зьместу. Даволі ўспамянуць нам слаўных Лістападаўцаў[48], якія галоўным клічам сваёй арганізацыі мелі лёзунг: "*Няхай жыве Самастойна-Незалежная Беларусь*". Даволі ўспамянуць арганізацыю Беларускай моладзі пры "Беларускай хатцы"[49], студэнцкія нелегальныя гурткі ў Менску, арганізацыю Альтруістых[50] і цэлы рад іншых арганізацыяў, раскіданых па ўсёй Усходняй Беларусі, каб уявіць сабе той размах і сілу, якія прымаў там незалежніцкі рух Беларускай моладзі.

---

[48] **"Лістападаўцы"** — пяцёра хлапцоў ва ўзросьце ад 15 да 22 гадоў — навучэнцаў агульнаадукацыйных курсаў у Слуцку на чале з настаўнікам курсаў Юркам Лістападам (1897—1938), якія ў 1925—1926 гг. абвінавачваліся ў антысавецкай дзейнасьці, друку й распаўсюдзе ўлётак і падрыхтоўцы антыбальшавіцкага паўстаньня. Паколькі доказаў антысавецкай дзейнасьці багата не назьбіралася (па-за ўласна друкаванымі выданьнямі), хлопцы атрымалі невялікія тэрміны, якія адбывалі ў Менскай турме, і празь некалькі гадоў па амністыі выйшлі на волю.

[49] **"Беларуская хатка"** — клюб беларускай мастацкай інтэлігенцыі, які ў 1916—1920 гг. праводзіў культурна-асьветніцкую працу, прапагандаваў беларускае тэатральнае музычнае мастацтва.

[50] **Арганізацыя альтруістых** — нелегальная арганізацыя, што дзейнічала на Гомельшчыне і Мазыршчыне ў 1928—1930 гг. і складалася са студэнтаў тэхнікумаў, сялянаў, вайскоўцаў, службоўцаў і інш. Цэнтрам арганізацыі быў Бабчынскі пэдагагічны тэхнікум. У 1930 г. 47 чалавек былі арыштаваныя па гэтай справе і атрымалі розныя тэрміны зьняволеньня.

## Саюз Беларускай Моладзі (СБМ)[51]

У часе нямецкай акупацыі Беларусі ў 2-ю Сусьветную вайну, калі беларускі рух ізноў перажываў стыхійны ўздым і шукаў шляхоў для рэалізацыі сваіх мэтаў, паўстаў Саюз Беларускай Моладзі. Нам добра ведамы мэты нямецкіх акупантаў, якія яны стаўлялі ўadносінах да гэтае арганізацыі. Яны спадзяваліся выкарыстаць яе ў будучыні ў мэтах гэрманізацыі Беларускага народу. Але гэтыя нямецкія авантурнікі моцна прарахаваліся.

*“У Саюз Беларускай Моладзі ўвайшоў самы здаровы нацыянальна-рэвалюцыйны элемент, які адразу вызначае становішча адносна нямецкіх акупантаў. І хоць кіруючыя вярхі СБМ былі падатныя на паклоны, моладзь аставалася цьвёрдай, гатовай да змаганьня з акупантамі, а яе ўдзел у гэтым змаганьні займае пачэснае месца. І цяпер палітычныя ўмовы ня толькі не спрыялі свабоднаму разьвіцьцю нашае моладзі, а, наадварот, вымагалі ад яе асаблівае актыўнасьці і самаахвярнасьці. Хуткі рост арганізацыі ў неспрыяючых умовах сьветчыў аднак, як насьпела патрэба арганізацыі моладзі і якое вялікае значэньне яна адыгрывае ў нашым вызвольным змаганьні”*[52].

Саюз Беларускай Моладзі паўстаў 22 чэрвеня 1943 году. Камісар акупіраванай немцамі Беларусі Вільгельм Кубэ[53] на сходзе беларускіх прадстаўнікоў у Менскім тэатры[54] ўрачыста абвесьціў, што нямецкія ўлады дазваляюць Беларускай Моладзі стварыць сваю арганізацыю — Саюз Беларускай Моладзі, у скароце СБМ.

---

[51] **Саюз беларуская моладзі** — моладзевая арганізацыя, якая існавала з дазволу нямецкіх уладаў (Дзяржаўнага кіраўніцтва моладзі). Створана ў чэрвені 1943 г. пад кіраўніцтвам Міхася Ганько. Працавала на патрыятычнае выхаваньне беларускай моладзі. У сваіх шэрагах аб’ядноўвала некалькі тысяч чалавек. Друкаваным органам СБМ быў часопіс “Жыве Беларусь!”. Пасьля выезду СБМ зь Беларусі летам 1944 г. яго прыняў пад апеку прэзыдэнт БЦР Радаслаў Астроўскі. Дзейнічала Працоўная група СБМ у Нямеччыне, якую ўзначальваў Генрык Барановіч.

[52] У першапачатковым тэксьце тут стаіць зноска, але пад тэкстам яе няма.

[53] **Вільгельм Кубэ** (ням. *Wilhelm Richard Paul Kube*, 1887—1943), дзяржаўны і палітычны дзеяч Нямеччыны. У ліпені 1941 г. прызначаны генэральным камісарам Генэральнай акругі Беларусь Рэйхскамісарыяту Остлянд. Спрыяў беларускаму нацыянальнаму разьвіцьцю пад нямецкім кантролем. Загінуў ад выбуху міны, падкладзенай у яго спальню.

[54] Маецца на ўвазе **Менскі гарадзкі тэатар** — сёньня гэта будынак Нацыянальнага акадэмічнага тэатру імя Янкі Купалы.

Для падрыхтоўкі кадраў кіраўніцтва Саюзу Беларускай Моладзі былі арганізаваныя спэцыяльныя курсы ў Альбэртыне й Менску для юнакоў, а ў Драздох і Флёрыянове[55] для юначак-дзяўчат.

Шасьцітыднёвыя Курсы кіраўнікоў СБМ у Альбэртыне, каля Слоніма, былі адчынены 15.04.1943 году. Кіраўніком іх быў немец банфюрэр Мэнцэль[56] зь Нямецкага Дзяржаўнага Кіраўніцтва Моладзі[57] (Райхсюгэндфюрунг). Кожны курс меў свайго кіраўніка па Беларускай лініі.

На першым курсе было 16 кандыдатаў на кіраўнікоў Моладзі, на другім 30, а на 3-м да 6-га ўключна ад 60 да 70. Курсы кіраўнікоў Моладзі ў Альбэртыне спыніліся вясною 1944 г. дзеля наступу Чырвонай Арміі. Кіраўніцтва курсаў апынулася ў Бэрліне.

Рэжым на курсах быў паўвайсковы. Ад пад'ёму да спачынку вяліся інтэнсіўныя заняткі: фізкультура, вайсковая муштра, вывучэньне беларусаведы і іншыя. У полудзень курсанты мелі паўтары гадзіны прымусовага адпачынку.

Дзень курсанта пачынаўся гімнастыкай, потым сьнеданьне, вайсковы вышкал у полі, полудзень, адпачынак. Па поўдні — беларусаведа: гісторыя й геаграфія Беларусі, грамадазнаўства, сьпевы. Як дапаможнік для вядзеньня заняткаў, быў выданы друкам пабеларуску Рэгулямін вайсковай муштры, а для тэарэтычных заняткаў прысылаўся з Штабу СБМ у Менску "Вучэбны лісток"[58], якім і пазьней маглі карыстаццца акруговыя й павятовыя кіраўнікі СБМ.

Памешканьне й спаньне, як на ваенныя ўмовы, былі добрыя. Харчаваньне было недастатковае па колькасьці калёрыяў. Дастава харчоў у лягер ляжала на абавязку Беларускай Акруговай Самапомачы[59]. На-

---

[55] **Фларыянава** — сядзіба Бохвіцаў у Ляхавіцкім раёне Берасьцейскай вобласьці.

[56] **Мэнцэль** — кіраўнік беларускай групы ў аддзеле моладзі ў Міністэрстве акупаваных усходніх тэрыторый.

[57] Аддзел моладзі Міністэрства акупаваных усходніх тэрыторый (ням. *Reichsministerium für die besetzten Ostgebiete*).

[58] **"Вучэбны лісток"** — выданьне Кіраўнічага штабу СБМ і Адзелу прапаганды Імпэрскага міністэрства народнай асьветы і прапаганды. № 1 выйшаў у верасьні 1943 г. Спыніў выхад у 1944 г. Некалькі нумароў выйшла пад назвай "Рэгулямін вайсковай муштры".

[59] Правільна **Беларуская народная самапомач** (у акругах былі прадстаўнікі БНС) — адзіная арганізацыя, дазволеная ў 1941—1943 гг. (першы кіраўнік, да красавіка 1943 г., доктар Іван Ермачэнка). Паводле статуту, павінна была займацца пытаньнямі апекі насельніцтва і ахоўвай здароўя. Паступова яе ўлада пашырылася на школьніцтва, навуку, розныя сфэры грамадзкага жыцьця. У ліпені 1942 г. пры БНС была створана Самаахова, якую грамадзкія дзеячы разглядалі як пачаткі беларускага войска.

агул умовы жыцьця ў лягеры былі цяжкія дзякуючы ваеннаму часу, слабай арганізацыі і інш.

Мэтай Саюзу Беларускай Моладзі было — узгадаваньне беларускай моладзі ў нацыянальным духу праз працу й змаганьне. Каб асягнуць гэтую мэту, курсанты ў Альбэртыне абавязкава праходзілі грунтоўны курс беларусаведы, а таксама сьпявалі адпаведныя патрыятычныя песьні, як: нацыянальны гімн — Мы выйдзем шчыльнымі радамі[60], У гушчарах затканых імглою[61], Бывай мой родны кут і зьвяз[62], Ідуць жаўнеры беларусы[63], Мы бойкая моладзь[64], Люблю наш край[65] і іншыя.

Паводле інфармацыі, атрыманай ад сп. Міколы Ганько[66], супрацоўніка штабу СБМ у Менску і роднага брата шэфа-праваднік Міхася Ганько[67], СБМ налічваў больш за тысячу грамадаў, або сто тысяч юнакоў і юначак.

---

[60] ***“Мы выйдзем шчыльнымі радамі”*** — песьня на верш Макара Краўцова “Ваярскі гімн”, музыку напісаў Уладзімер Тэраўскі. Частка беларускай дыяспары ўважае яе за нацыянальны гімн.

[61] ***“У гушчарах затканых імглою”*** — песьня на верш Натальлі Арсьньневай “У гушчарах”, музыку напісаў Мікола Шчаглоў-Куліковіч.

[62] ***“Бывай мой родны кут і зьвяз”*** — песьня “Разьвітаньне” на словы Ўладзімера Лойкі і музыку М. Іванова.

[63] ***“Ідуць жаўнеры беларусы”*** — марш Беларускай краёвай абароны на словы і музыку Пётры Нядзьвецкага.

[64] ***“Мы — бойкая моладзь”*** — песьня на словы Міхася Ганько.

[65] ***“Люблю наш край”*** — песьня на верш Канстанцыі Буйло.

[66] **Мікола Ганько** (1924—1999), грамадзкі дзеяч у Канадзе, брат старшыні СБМ Міхася Ганько. Падчас нямецкай акупацыі вучыўся ў Маладэчанскай гандлёва-адміністрацыйнай школе, у 1944 г. быў на курсах сярэдніх кіраўнікоў СБМ у Альбэртыне. Ад лета 1944 г. на эміграцыі. Па вайне апынуўся ў Зальцбургу (Аўстрыя). У 1948 г. перабраўся ў Канаду. Быў адным з заснавальнікаў парафіі БАПЦ Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта, шматгадовым кіраўніком Згуртаваньня беларусаў у Канадзе. Адзін з ініцыятараў стварэньня таварыства дапамогі дзецям-ахвярам Чарнобыльскай катастрофы. Ягоная жонка Марыя напісала ўспаміны “Каб сьведчылі пра Беларусь: жыцьцё і дзейнасьць Міколы Ганько”, выдадзеныя ў Менску ў 2005 г.

[67] **Міхась Ганько** (1918—?), грамадзка-палітычны дзеяч. Закончыў Маладэчанскую гімназію. Напярэдадні нямецка-савецкай вайны вучыўся на мэдыцынскім факультэце Віленскага ўнівэрсытэту. У 1939—1941 гг. працаваў дырэктарам Лужоўскай сярэдняй школы (Маладэчанскі раён), бухгальтарам. Прызваны ў Чырвоную армію, у сьнежні 1941 г. трапіў у нямецкі палон пад Псковам. Зь лягера быў вызвалены па хадайніцтве Фабіяна Акінчыца. Закончыў Вустраўскую школу прапагандыстаў. Працаваў у аддзеле прапаганды Генэральнага камісарыяту Беларусь.

Адміністрацыйна СБМ дзяліўся на акругі, раёны (паветы), сэкцыі (гміны), школы і грамады (вёскі). Усёй адміністрацыйна-арганізацыйнай працай у Беларусі кіраваў Галоўны Штаб СБМ, які ў сваю чаргу дзяліўся на аддзелы: арганізацыйны, кадраў, прапаганды і жаночы.

Кіраўнікі й кіраўнічкі СБМ насілі на наплечніках адмысловыя знакі службовых ступеняў (рангаў). Рангі йшлі зьнізу ўверх наступным парадкам: старшы юнак, юначка, дружыновы/вая, грамадовы/вая, старшы грамадовы/вая, зьвязовы/вая, старшы зьвязовы, старшая зьвязовая, сэкцыйны/ная, праваднік/нічка, старшы праваднік, старшая праваднічка, штандаровы/вая, шэф штабу і шэф-праваднік.

Сябры й сяброўкі СБМ віталіся міжсобку словамі “Жыве Беларусь!”. Паступова ўводзілася ў звычай сяброў СБМ на пахвалу старшага адказваць не традыцыйным “дзякуй”, а “Служу Бацькаўшчыне!”.

Галоўны Штаб у Менску выдаваў друкам для беларускай моладзі часапіс “Жыве Беларусь”[68]. Па свайму зьместу меў ён характар нацыянальна-ўзгадаваўчы і інфармацыйны.

Генры Чурыла[69].

Торонто, Канада.
16.10.1967 г.

---

Ад 1943 г. узначальваў Кіраўнічы штаб Саюзу беларускай моладзі. Выдаваў часопіс “Жыве Беларусь!”. У 1944 г. эвакуяваўся ў Нямеччыну. Пасьля вайны разьлічваў вярнуцца на тэрыторыю Беларусі для ўдзелу ў антысавецкай партызанцы. Далейшы лёс невядомы. Гісторык Юры Туронак, спасылаючыся на сьведчаньні блізкіх да Ганька ў той час, адзначае, што Міхась Ганько загінуў у маі 1945 г. у Празе.

[68] **“Жыве Беларусь!”** — друкаваны орган СБМ. Выдавец — Міхась Ганько. № 1 выйшаў у ліпені 1943 г. у Менску, № 12 (апошні) — у жніўні 1944 г. у Тропаў (Нямеччына).

[69] **Генры Чурыла** (сапр. **Генрык Барановіч**, 1916—2002), грамадзка-палітычны дзеяч. Вучыўся ў настаўніцкай сэмінарыі ў Барунах, Віленскай настаўніцкай сэмінарыі. Настаўнічаў на Віленшчыне. Летам 1939 г. прызваны ў войска і ў верасьні трапіў у нямецкі палон. Вызвалены ў 1940 г. Далучыўся да групы Фабіяна Акінчыца. Працаваў лектарам Вустраўскай школы прапагандыстаў. Быў супрацоўнікам аддзелу моладзі ў Міністэрстве акупаваных усходніх тэрыторый. Арганізатар і кіраўнік Працоўнай групы СБМ. Выдаваў часопіс “Малады Змагар”. У 1945 г. трапіў у палон да амэрыканцаў. Перададзены савецкім органам, але здолеў уцячы з рэпатрыяцыйнага лягеру. У 1948 г. эміграваў у Канаду. Быў сябрам кіраўніцтва Згуртаваньня беларусаў Канады, радным БНР і сакратаром канадыйскага сэктару Рады БНР.

## Курсы для кіраўнічак СБМ

Курсы для кіраўнічак СБМ былі арганізаваныя ў саўгасе Дразды, каля Менску. Кіраўнічкай курсаў і гаспадарчай іх часткі была немка Гінк. Па беларускай лініі спачатку была Алена Аляхновіч[70], а потым Вера[71]. Праграма аднаго дня была наступная: фізкультуры, сьнеданьне, лекцыі немкі на тэму нацыянал-сацыялізму, нямецкай расе і нямецкай кухні. Д-р Абрамава[72] чытала лекцыі аб першай мэдычнай дапамозе ў патрэбных выпадках. Галоўны кіраўнік СБМ сп. М. Ганько чытаў лекцыі на тэмы арганізацыі і мэты СБМ.

Вечарам звычайна гарэў агонь ў каміне, а курсанткі пяялі песьні, танцавалі і наагул забаўляліся. Час ад часу выяжджалі з канцэртам беларускіх песьняў у госпіталі для параненых нямецкіх жаўнераў. Тады з намі была і д-р Н. Абрамава — Галоўная кіраўнічка юначак і адна зь яе заступніц.

Хоць кажны раз пры выступленьні хору зазначалі, што мы беларусы, нямецкія жаўнеры не разьбіраліся і не адрозьнівалі беларусаў ад расейцаў і прасілі, каб ім прапяялі “Волгу”. Хор адмаўляўся пяяць і гэтым заўсёды злаваў нашую кіраўнічку Абрамаву.

Курсантак на курсе было ад 30 да 50 асобаў. Памешканьне іх складалася з трох пакояў, якія былі застаўлены двухпавярховымі ложкамі. Умовы жыцьця былі магчымыя.

---

[70] **Алена Аляхновіч**, паводле гісторыка Юрыя Туронка, была супрацоўніцай кіраўнічага штабу СБМ, загадчыцай курсаў для кіраўнічак юначак у Драздах, ад лютага 1944 г. — Краёвай школы СБМ у Фларыянаве. Летам 1944 г. эвакуявалася ў Нямеччыну. Пасьля капітуляцыі Нямеччыны жыла ў лягеры ў г. Вайдэн. Выйшла замуж, пераехала ў Чыкага (ЗША).

[71] Хутчэй за ўсё, маецца на ўвазе **Вераніка Катковіч** (у замустве Клентак, 1918—?), дзяячка СБМ. Падчас нямецкай акупацыі вучылася ў Менскай мэдычнай школе. У 1943—1944 гг. узначальвала менскую дзявочую арганізацыю СБМ. Была намесьніцай Надзеі Абрамавай, галоўнай кіраўнічкі юначак СБМ. Летам 1944 г. выехала ў Нямеччыну. У 1945—1948 гг. працавала ў польскай ваеннай місіі ў Бэрліне. У жніўні 1949 г. арыштаваная ва Ўроцлаве й перададзеная савецкім органам. Асуджана на 10 гадоў лягераў. У 1956 г. вызвалена па амністыі, вярнулася да мужа ў Польшчу. Сястра Анэлі Катковіч.

[72] **Надзея Абрамава** (у эміграцыі **Тэадаровіч**, 1907—1979), грамадзкая дзяячка, лекар. Выпускніца менскіх пэдагагічнага і мэдычнага інстытутаў. Падчас нямецкай акупацыі працавала ўрачом-псыхіятрам. Узначальвала дзіцячы сэктар Беларускай народнай самапомачы, службу юначак Саюзу беларускай моладзі. Уваходзіла ў Беларускую Цэнтральную Раду. Была супрацоўніцай часопісу “Жыве Беларусь!”. У 1944 г. пакінула Беларусь. Жыла ў Нямеччыне. У эміграцыі пакінула працу лекара і адышла ад грамадзкай беларускай працы. Працавала ў мюнхенскім Інстытуце вывучэньня СССР, рэдагавала часопіс “*Религия и атеизм в СССР*”.

Курсы для кіраўнічак СБМ у Флёрыянове, каля Ляхавіч, трывалі па тры тыдні. Кіраўнічкай курсаў была прыехаўшая з Драздоў сп-чна Алена Аляхновіч, а ейнымі памочніцамі былі сп-чні Ванда Ч.[73] і Надзя М.[74]. Гаспадарчай часткай кіравалі тры немкі, зь якіх сп-ня Гінк была фактычным кіраўніком курсаў.

Памешканьне для курсантак і заля для выкладаў былі ў доме абшарніка двара Флёрыянова. Курсантак на курсе было ад 20 да 25 асобаў. Паходзілі яны з Заходняй Беларусі.

У 1944 годзе, калі фронт прыбліжаўся да Слуцка, у Флёрыянове была апошняя група курсантак. Кіраўніцтва курсаў сказала ім, каб ехалі дамоў або ў Нямеччыну.

Вольга.

Сакавік 1969 г.
Чыкаго, ЗША

Для ілюстрацыі арганізацыі аддзелаў СБМ і іх дзейнасьці ніжэй даюцца ўспаміны кіраўнічкі юначак у г. Баранавічах і Кіраўніка СБМ у Глыбокім.

## Саюз Беларускай Моладзі ў Баранавічах

У часе нямецкай акупацыі Беларусі, у 1941/42 н[авучальным] годзе ў г. Баранавічах былі арганізаваныя настаўніцкія, бухгальтэрыйныя і мэдычныя курсы. У наступным 1942/43 н[авучальным] годзе, былі арганізаваныя сярэднія школы: тэхнічная (500 хлапцоў), мэдычная (500 хлапцоў і дзяўчат), гандлёвая (450 хлапцоў і дзяўчат), мастацкая школа, прагімназія, настаўніцкія курсы і матуральныя вячэрнія курсы.

Увосені 1943 году ў Баранавічах і іншых гарадох акругі паўстала арганізацыя — Саюз Беларускай Моладзі (СБМ). Сябрамі гэтай арганізацыі былі вучні сярэдніх школ. Кажная школа тварыла асобную адзінку СБМ, а кажная кляса школы складала групу юнакоў і юначак.

---

[73] Маецца на ўвазе **Ванда Чарнэцкая** (у шлюбе **Махнач**, 1918—2007), дзяячка СБМ, лекар. Вучылася ў Віленскім унівэрсытэце, была сябрам Беларускага студэнцкага саюзу. Працавала настаўніцай у Ляхавічах. У 1944 г. выехала ў Нямеччыну. У 1950 г. перабралася ў ЗША. Жыла каля Чыкага.

[74] Маецца на ўвазе **Надзея Міцкевіч** (у шлюбе **Касмовіч**, 1923—?), дзяячка СБМ. Вучылася ў Віленскай і Нясьвіскай гімназіях. Падчас нямецкай акупацыі настаўнічала. Была павятовай кіраўнічкай юначак у Нясьвіжы. Зь лютага 1944 г. праводзіла заняткі ў краёвай школе СБМ у Фларыянаве. Удзельнічала ў Другім Усебеларускім кангрэсе. Летам 1944 г. выехала ў Нямеччыну. Жонка Дзьмітрыя Касмовіча, пляменьніца Якуба Коласа й Міхася Міцкевіча.

Кажная школа мела свайго кіраўніка юнакоў і кіраўнічку юначак. Акруговым кіраўніком СБМ у 1944 г. быў юнак Мануйла[75], гарадзкім — юнак Чарняўскі Л.[76], ягоным заступнікам — Гарошка Кастусь[77], старшым важатым — П. Л. З гэтых асобаў складаўся Штаб юнакоў г. Баранавічаў. Штаб юначак складалі: Лена В-Л-ч, Валя Шыла[78], Рая Кішкель[79] і іншыя.

Кіраўнічкай юначак у Гандлёвай школе была вучаніца 5-га курсу Лосева[80].

Я была на курсе ў Флёрыянове. Памешканьне для юначак і вялікая заля для выкладаў былі ў вялікім і прыгожым доме двара Флёрыянова. Вярнуўшыся з курсаў у Гандлёвую школу, я была прызначана дружыноваю юначак. Зборкі ў кажнай дружыне адбываліся два разы ў тыдзень. З прыбліжэньнем фронту вясною 1944 г. немцы змушалі вучняў Баранавіцкіх сярэдніх школаў капаць акопы.

20 чэрвеня 1944 году закончыўся навучальны год і неўзабаве пачалася эвакуацыя г. Баранавіч. Сябры СБМ выяжджалі ў Нямеччыну групамі й адзінкамі, але большасьць іх тайком пакінула горад і вярнулася ў свае вёскі.

Я і яшчэ некалькі сябровак СБМ былі далучаны да транспарту чыгуначнікаў. Мы пакінулі Баранавічы 2-га ліпеня 1944 году, гэта, здаецца, быў апошні транспарт. Па дарозе ў Нямеччыну да нашага транспарту далучалі юнакоў і юначак СБМ з Слоніму й Навагрудку. Шмат хто з юнакоў затрымаўся ў Польшчы.

Юзя Н.[81],
Былая Дружыновая СБМ у Баранавічах.

Лос Анжэлес
--.7.1968 г.

---

75 **Станіслаў Мануйла** (1923—?), дзеяч СБМ, настаўнік. Павятовы кіраўнік СБМ у Ляхавічах, ад лютага 1944 г. — у Баранавічах. Пасьля вайны ўдзельнічаў у антысавецкай партызанцы ў Баранавіцкай вобласьці. Арыштаваны савецкімі органамі. Далейшы лёс невядомы.

76 **Леанід Чарняўскі**, дзеяч СБМ у Баранавічах.

77 **Кастусь Гарошка**, дзеяч СБМ у Баранавічах.

78 **Валянціна Шыла**, акруговая кіраўнічка юначак СБМ у Баранавічах.

79 **Раіса Кішкель** — дзяячка СБМ, пазьней кіраўнічка й настаўніца пачатковай школы ў беларускі лягеры ў Фогэнштраўс у амэрыканскай акупацыйнай зоне Нямеччыны.

80 **Лосева**, дзяячка СБМ у Баранавічах.

81 Маецца на ўвазе **Юзэфа Найдзюк** (дзяв. **Брэчка**, 1927—2004), грамадзкая дзяячка. У часе нямецкай акупацыі вучылася ў Баранавіцкай сярэдняй гандлёва-адміністрацыйнай школе, дзе ўступіла ў шэрагі СБМ. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Выпускніца Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Нямеччыне. Працавала ў тэхнічным аддзеле Беларускай

## Саюз Беларускай Моладзі ў Глыбокім

(успамін)

…А цяпер загляну я ў мінулае і пастараюся праўдзіва перадаць падзеі жыцьця на Бацькаўшчыне, асабліва мой сьціплы ўдзел і працу ў СБМ.

Пасьля сканчэньня Беларускіх настаўніцкіх курсаў у Глыбокім (верасень 1942 — красавік 1943 г.) кароткі час я працаваў у Беларускай народнай школе. У гэтым часе паўстала арганізацыя — Саюз Беларускай Моладзі. Патрэбныя былі кадры кіраўнікоў для гэтай арганізацыі. У ліпені 1943 году я быў пасланы ў Школу кіраўнікоў СБМ у Менску. Гэта быў другі з чаргі курс у школе. Заняткі на курсе адбываліся ў будынку Галоўнага Штабу СБМ. Вуліцы не прыпамінаю, але памятаю, што будынак гэты стаяў на ўзгорку сярод руінаў роднага Менску і даволі далёка ад адзінай у той час трамвайнай лініі.

У Штабе тады працавалі й жылі: шэф-праваднік Міхал Ганько, старшы праваднік Стэльмах[82], праваднікі Гарэлік[83], Бузак[84] і Ка-

---

рэдакцыі Радыё "Вызваленьне". Жонка Часлава Найдзюка. Пераехала ў ЗША. Была актывісткай Каліфарнійскага аддзелу БАЗА.

[82] **Дзьмітры Стэльмах** (1919—?), дзеяч СБМ. Лейтэнант Чырвонай арміі. У 1942 г. трапіў у палон. Закончыў курсы прапагандыстаў у Вустраве (Нямеччына). У Менску закончыў курс для кандыдатаў на вышэйшых кіраўнікоў СБМ. Прызначаны намесьнікам Міхася Ганька й кіраўніком Менскай гарадзкой арганізацыі СБМ. Ад студзеня 1944 г. кіраўнік Краёвай школы СБМ у Альбяртыне. Летам 1944 г. выехаў у Нямеччыну. У сакавіку 1945 г. накіраваны ў раён фармаваньня 30-й дывізіі Вафэн СС у Баварыі, дзе служыў месяц і апынуўся ў амэрыканскім палоне. Дэпартаваны ў СССР. Далейшы лёс невядомы.

[83] **Уладзімер Гарэлік** (на эміграцыі **Мікола Латушкін,** 1922—2006), грамадзкі дзеяч. У 1940 г. мабілізаваны ў Чырвоную армію, афіцэр. У ліпені 1941 г. трапіў у палон. У 1942 г. закончыў курсы прапагандыстаў у Вустраве ў Нямеччыне. Намесьнік Міхася Ганька па СБМ, кіраваў курсамі падрыхтоўкі кіраўнікоў СБМ. У 1944 г. арыштаваны нямецкімі ўладамі. Ад лета 1944 г. на эміграцыі. Пасьля вайны вучыўся ў вэтэрынарных школах у Карсфілдзе й Рэгэнсбургу. У 1950 г. выехаў у ЗША. У першай палове 1950-х — прадстаўнік БЦР на штат Агаё. У 1957 г. у Чыкага закончыў школу мэханічнага чарчэньня. Уваходзіў у склад Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі, яго прадстаўнік на штат Ілінойс.

[84] **Сяргей Бузак** (1920—1945?), дзеяч СБМ. У 1941—1943 гг. служыў у Чырвонай арміі, афіцэр. Трапіў у палон. Закончыў школу прапагандыстаў у Вустраве (Нямеччына). Ад чэрвеня 1943 г. праваднік СБМ на Менскую акругу, ад пачатку 1944 г. кіраўнік Менскай гарадзкой арганізацыі СБМ. Улетку 1944 г. выехаў у Нямеччыну: працаваў у юнацкіх працоўных лягерох у Мульдэнштайне й Бэрліне. Паводле непацьверджаных зьвестак, загінуў у 1945 г. у Нямеччыне.

роткі[85]. У гэтым-жа будынку быў і Штаб юначак, а школа для кіраўнічак іх была зарганізавана ў Драздох, каля Менску. Там гадавалі шмат гародніны й дапамагалі гэтым Галоўнаму Штабу СБМ. Кіраўнічка юначак д-р Абрамава жыла на прыватнай кватэры.

Пры Штабе было некалькі й малодшых кіраўнікоў, якія трымалі варту і дбалі аб гаспадарскіх патрэбах будынку.

Курсантаў у школе кіраўнікоў СБМ звычайна было 15–20 асобаў, бо на больш не было ані месца, ані дастатковай кухні, ані навет санітарных умоваў. Курс трываў тры тыдні й першы тыдзень выдаўся мне годам. Ад пад’ёму і да позьняга вечару заняткі палягалі на лекцыях аб нацыянал-сацыялізьме, структуры нямецкага “Гітлер-Югэнд”[86] і амаль васковай муштры, якая зьнясіляла да болю.

Заняткі вялі нашыя кіраўнікі пад наглядам нямецкіх інструктараў — Аусбільдэр’с[87]. Ежа была бедная і недастатковая, таму вельмі добра спалася па 14-гадзінным напружаньні. Усе штабовыя кіраўнікі дапаўнялі свой галодны паёк прыватна, а пазьнейшыя курсанты прыяжджалі звычайна з “торбай”, калі яшчэ мелі крыху хлеба й сала ўдома.

Адносіны немцаў да Беларусаў у той час былі прыязныя і карэктныя. Далі нам чорныя касьцюмы “Гітлер-Югэнд”, у якіх мы й разьехаліся зь Менску, дадаўшы да іх пагоны СБМ і беларускую павязку на левым рукаве. Свае ўніформы былі ўжо ў праэкце, але не хапала ані мануфактуры, ані скуры на боты.

Вярнуўся з курсаў у Глыбокае як старшы зьвязовы і загадам шэфа-правадніка быў прызначаны раённым кіраўніком СБМ і заступнікам акруговага кіраўніка СБМ правадніка Аўгена Мацюшонка[88].

У Глыбоцкім раёне колькасьць юнакоў і юначак вясною 1944 году дасягала 500. У горадзе Глыбокім да СБМ належалі Курсан-

[85] **Аляксандар Кароткі** (1922—?), дзеяч СБМ, настаўнік. Закончыў курс для кандыдатаў на вышэйшых кіраўнікоў СБМ у Менску. Працаваў у кіраўнічым штабе СБМ, адказваў за культурна-асьветную дзейнасьць. Супрацоўнічаў з часопісам “Жыве Беларусь!”. Улетку 1944 г. выехаў у Нямеччыну. Далейшы лёс невядомы.

[86] **Гітлер-Югэнд** (ням. *Hitler-Jugend*) — моладзевая арганізацыя нацыянал-сацыялістычнай партыі Нямеччыны. Сябрамі саюзу былі толькі хлопцы. Існавала ад 1926 да 1945 гг.

[87] ***Ausbilder*** (ням.) — інструктар.

[88] **Яўген Мацюшонак** (1920—?), дзеяч СБМ, настаўнік. Акруговы кіраўнік СБМ у Глыбокім. Улетку 1944 г. выехаў у Нямеччыну. Быў кіраўніком юнацкага лягеру Арганізацыі Тодта. Вясной 1945 г. апынуўся ў Чэхаславаччыне. Арыштаваны савецкімі органамі. Далейшы лёс невядомы.

ты Настаўніцкай школы 40—60, школы тлумачоў (перакладчыкаў) 30—40, сельска-гаспадарчай школы 40—50, а рэшта вучні прагімназіі й сямігодкі. У вайсковых школах, з прычыны партызанкі, не было магчымасьці стварыць адзінак СБМ.

У Глыбокім было даволі прыемна працаваць. Беларуская школьная моладзь ахвотна ўступала ў шэрагі СБМ. Кожная школьная сэкцыя мела свайго кіраўніка. Рэгулярна адбываліся зборкі юначак і юнакоў, на якіх, апрача тэарэтычных выкладаў з галінаў гісторыі Беларусі й на актуальныя тэмы, сьпявалі, маршыравалі, забаўляліся ў розныя гульні і час ад часу цешылі гледачоў сваёй мастацкай самадзейнасьцю.

Шмат моладзі СБМ было здольных і працавітых. У нармальных умовах яны вырасьлі-б на выдатных беларускіх дзеячоў. Нажаль, умовы ваеннага часу ў акупаванай Бацькаўшчыне не спрыялі разьвіцьцю шырокай дзейнасьці і колькаснаму павелічэньню сяброў арганізацыі. Юнацтва вёсак асталося па-за арганізацыяй СБМ.

Былі й іншыя прычыны, якія перашкаджалі ў працы сяброў СБМ, прыкладна: у некаторых гарадох змушалі сяброў СБМ капаць недалёка ад гораду акопы, застаўлялі нясьці варту каля кватэраў нямецкіх урадоўцаў і былі спробы пасылаць старэйшых юнакоў на змаганьне з партызанамі. У гэтым часе дзеіў у Глыбокім нямецкі шпіён і нягоднік — нейкі Вітвіцкі[89], які стварыў “самаахову” з недабітага польскага элемэнту. Яны часта выяжджалі на “партызанаў”, але вярталіся заўсёды цэлыя й наладаваныя здабытым сялянскім дабром. У адной з такіх “акцыяў” загінуў дружыновы Жызьнеўскі[90] і з таго часу СБМ адмовілася браць удзел у Вітвіцкага паходах.

Варта прыпомніць таксама жахліва-балючы выпадак, калі дэлегацыя СБМ з Глыбокага паехала на паховіны “жаўнераў” Беларускай

[89] **Вітвіцкі** — супрацоўнік нямецкай адміністрацыі ў Глыбокім. Кастусь Акула ў сваім дакумэнтальным рамане “Змагарныя дарогі” апісвае пэрсанажа пад такім прозвішчам. Між іншым, сам Акула падчас нямецкай акупацыі вучыўся на настаўніцкіх курсах у Глыбокім. Вітвіцкі працаваў вартаўніком у польскай пачатковай школе ў Каралеўшчыне ў 1930-я гг. (відаць, гэта в. Крулеўшчына). З прыходам бальшавікоў у Заходнюю Беларусь ён быў аршытаваны. Акула піша, што Вітвіцкі быў нямецкім шпіёнам за палякамі, а тады яго Саветы абмянялі немцам. Калі ж немцы акупавалі Беларусь, Вітвіцкі вярнуўся і стаўся школьным інспэктарам на Глыбоцкую акругу. З адыходам немцаў выехаў на Захад.

[90] **Уладзімер Жызьнеўскі** (1923—1943), падчас нямецкай акупацыі працаваў у валасной управе Порплішча (Докшыцкі раён). Закончыў курсы для малодшых кіраўнікоў СБМ. Загінуў у баі з партызанамі.

Краёвай абароны[91] ў Варапаеве[92] вясною 1944 году. Змабілізаваныя колькі дзён назад, босыя або ў лапцях 15 чалавек загінулі бяз зброі ў руках, калі партызаны напалі на мястэчка.

Вясною 1944 году я меў 120 юнакоў і 90 юначак у ўніформах, якія з цяжкасьцю (за тры падарожжы) атрымаў і сам прывёз з Альбяртына. Вельмі часта калоніямі хадзілі па вуліцах гораду са сьпевам беларускіх маршавых песьняў, давалі канцэрты беларускім вайсковым адзінкам і грамадзтву.

У 1944 годзе (люты — сакавік) я быў на курсе старшых кіраўнікоў СБМ у Менску. Курс вёў маёр Родзька[93] ў памешканьні Штабу СБМ. Праграма курсу была прысьвечана выключна ідэям нацыянал-сацыялізму і часта лектарамі былі немцы высокай ваеннай ці партыйнай рангі. Муштры нам давалі мала, калі раньнюю гімнастыку можна залічыць да муштры. Наведаў нас тады і Камісар фон Годбэрг[94]. Ад

---

[91] **Беларуская краёвая абарона** – вайсковае фармаваньне на акупаванай нацыстамі беларускай тэрыторыі. Створана ў лютым 1944 г. Падпарадкоўвалася БЦР. Узначальваў БКА Францішак Кушаль. Асабовы склад налічваў каля 25 тысяч чалавек (большасьць скаладалі змабілізаваныя мужчыны й хлопцы, да іх далучылі некалькі паліцэйскіх батальёнаў). Былі створаны 39 пяхотных і 6 сапёрных батальёнаў. Галоўнай задачай фармаваньня была барацьба з партызанамі. Але зброя пачала паступаць толькі ў траўні 1944 г. І толькі тады іх пачалі выкарыстоўваць у змаганьні з партызанамі. Нярэдкія былі выпадкі дэзэртырства. З адступленьнем немцаў на Захад БКА перастала існаваць: невялікая частка адышла зь немцамі, астатнія пакінулі фармаваньне.

[92] **Варапаева** — сёньня гарадзкі пасёлак у Пастаўскім раёне Віцебскай вобласьці.

[93] **Усевалад Родзька** (1920—1946?), грамадзкі дзеяч. Закончыў Наваградзкую польскую гімназію імя А. Міцкевіча, потым падафіцэрскую школу. У 1939 г. трапіў у нямецкі палон, адкуль вызваліўся праз год. У Кракаве ўзначальваў мясцовы аддзел Варшаўскага Беларускага камітэту. Удзельнічаў у арганізацыі Беларускай незалежніцкай партыі. Ад вясны 1941 г. супрацоўнічаў з Абвэрам. Ад ліпеня 1941 г. быў бургамістрам Віцебску. Ад 1942 г. — старшынём ЦК БНП, арганізоўваў нацыянальную партызанку. Быў сябрам БЦР, адказваў за працу з моладзьдзю. Ад сакавіка 1944 г. быў камандзірам 15-га батальёну БКА. Арганізоўваў беларускі батальён “Дальвіц”, пасьля раззбраеньня батальёну ў Чэхіі нелегальна перабраўся ў Польшчу. Стварыў антысавецкую партызанку пад эгідай БНП. У 1945 г. арыштаваны і ў 1946 г. прыгавораны да найвышэйшай меры пакараньня.

[94] **Курт фон Готбэрг** (ням. *Curt von Gottberg*, 1896—1945), дзяржаўны й вайсковы дзеяч нацыскай Нямеччыны. Кіраўнік СС і паліцыі ў Беларусі (1942—1943). Пасьля забойства Вільгельма Кубэ стаў генэральным камісарам Беларусі (1943—1944). Скончыў жыцьцё самагубствам у брытанскім палоне.

сябе дадам, што ягоны папярэднік — фон Кубэ быў сапраўдным прыяцелем беларусаў, асабліва моладзі й таму ня дзіва, што бальшавікі пастараліся яго забіць. Па сканчэньні курсаў атрымаў я рангу сэкцыйнага.

У пачатку 1944 году немцы пачалі шукаць "ахвотнікаў" у сваю супрацьлятунскую абарону г. зв. Флякгэльфэрн[95]. Прывезьлі васільковага колеру ўніформы, але нашая моладзь рэагавала пасыўна. З Глыбокага і ягоных ваколіцаў паехала ў Менск, а адтуль у Нямеччыну каля 40 юнакоў, у тым ліку й мой сваяк.

Выезд з Глыбокага быў раптоўны. Вярнуўшыся з Кангрэсу[96] ў Менску застаў я немцаў ужо ў паніцы. 29.6.1944 г. немцы зьліквідавалі канцылярыю, якая была ў гарадзкім будынку. Пазьней будынак немцы ўзарвалі, а самі пакінулі горад. Усё гэта так хутка сталася, што рэдка хто з беларусаў здолеў выехаць у няведамае.

З прыгодамі дабраўся я ў Вільню на другі дзень, г. зн. 1.7.1944 г. У Вільні пражыў я амаль чатыры дні, бо станцыя гарэла. Тут згарэла некалькі вагонаў і нашае моладзі, што ехала у "Флякгэльфэрн". З Вільні прыехаў я, праз Коўна[97], у Бэрлін 7.7.1944 г. На другі дзень адправілі мяне ў горад Эгэр[98], дзе некалькі тысяч моладзі розных нацыяў падрыхтоўвалі немцы як "Флякгэльфэрн".

У лягеры Эгэр СБМ нічога свайго ня мела. Юнакі розных нацыянальнасьцяў былі памяшаныя й падзеленыя на групы, адбывалі нармальныя жаўнерскія заняткі пад наглядам немцаў і пад нямецкай камандай. Усе былі ў уніформе "Люфтвафэ"[99] з нацыянальнымі павязкамі. Заняткі часта спыняліся налётамі альянтаў і тады моладзь арганізавана выходзіла ў поле, у сады, у збожжа, бо лягер быў на ўскраіне гораду.

---

[95] ***Flakhelfern*** (ням.) — зенітныя памагатыя.

[96] **Другі Ўсебеларускі кангрэс** прайшоў 27 чэрвеня 1944 г. у Менску ў гарадзкім тэатры (Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы). Скліканы па прапанове прэзыдэнта БЦР Радаслава Астроўскага пры падтрымцы акупацыйных уладаў. На ўдзел зарэгістравалася 1039 дэлегатаў зь Беларусі, Смаленшчыны, Браншчыны, Арлоўшчыны, Бэрліну, Лодзі, Вены, Кёнігсбэргу. Рэзалюцыя Кангрэсу абвяшчала, што Беларусь зьяўляецца незалежнай ад Расеі, беларускія ўрады пад апекай Масквы не зьяўляюцца легетымнымі. А адзіным легальным прадстаўніком беларускага народу абвяшчалася БЦР.

[97] **Коўна** (літ. *Kaunas*) — другі па велічыні горад Літвы, часовая сталіцы Літоўскай рэспублікі (1919—1939).

[98] **Эгэр** (ням. *Eger*) — горад у Чэхіі, знаходзіцца на Захадзе краіны, на мяжы зь Нямеччынай. Ад 1945 г. горад называецца Хеб (чэс. *Cheb*).

[99] **Люфтвафэ** (ням. *Luftwaffe*) — нямецкія ваенна-паветраныя сілы.

На занятках нямецкія падафіцэры выганялі хлопцам “хатні хлеб”, г. зн. трымалі на паўгалодным пайку, а вымагалі здысцыплінаванага й дакладнага выконваньня вайсковых практыкаваньняў. На шчасьце, за пэўную рэч, мне ўдалося атрымаць дазвол на падарожжа па Нямеччыне і я пакінуў Эгэр. У Тропаў[100], дзе тады быў Штаб СБМ, я толькі правёў адну ноч і шэф-праваднік зараз-жа паслаў мяне назад у Бэрлін. З гэтае прычыны я не пасьпеў навет разгледзецца, што там дзеялася ў СБМ.

29.7.1944 г. я вярнуўся назад у Бэрлін. Тут якраз зьехалася амаль 20 знаёмых кіраўнікоў СБМ. Далі нам два тыдні адпачынку ў ОТ[101] лягеры Бэрлін-Грунвальд. Пасьля адпачынку нашае і нямецкае кіраўніцтва паслала нас усіх у лягеры, дзе былі групы беларускіх дзяцей, падроскаў і моладзі.

Нас трое былі накіраваныя ў ОТ лягер Шварцзээ І (каля Фалькэнбургу[102]) на Памор’і (200–220 клм. на паўночны ўсход ад Бэрліну). Прыехалі ў лягер 11.8.1944 г. Некалькі добрых нямецкіх баракаў замыкала малую плошчу. Збоку праходзіла добрая дарога, з трох бакоў прыгожы хваёвы лес і два малыя возеры. Лягер гэты напаўнялі сем’і і адзінокія з нашай краіны, але было шмат і расейцаў. Людзі гэтыя былі або працаўнікамі пры ОТ у часе вайны, або моладзь і дзеці.

Нас прыслалі сюды як кіраўнікоў да нашае моладзі, якая была пераважна з Усходняй Беларусі. Амаль усе яны былі сіроты: бацькі іх былі або пастраляныя, або жыўцом спаленыя нямецкімі карнымі аддзеламі. Было некалькі дзяцей і з Наваградчыны. Чаму іх немцы не зьліквідавалі разам з бацькамі — мне няведама.

Што-ж мы пабачылі ў культурнай Нямеччыне? 65 нашых хлопцаў ад 12 да 21 году жылі ў найменшым бараку, на нарах у тры паверхі, з дзьвюма коўдрамі на дошках, без падушак і тысячы вошаў! Працавалі ўсе, незалежна ад узросту, пры будове цагляных баракаў, якія ізноў разьбіралі і такім спосабам вучылі іх быццам на муляроў, сталяроў і г. д.

За 13 гадзін працы “майстры” так іх заганялі, што хлопцы, хлёбнуўшы кавы, ішлі зараз-жа спаць, каб захаваць сілы на заўтра.

Прыезд наш быў як пярун зь неба і на кіраўніка лягеру (мясцовы стары партыйны дзядзька), і на майстроў, і навет хлопцы нашыя спалохана глядзелі на нас. Трэба, аднак, падзякаваць і нашаму

---

[100] **Тропаў** (ням. *Troppau*, чэс. *Opava*) — горад на паўднёвым усходзе Чэхіі, Маравасілезкі край.

[101] **Арганізацыя Тодта** (ням. *Organisation Todt, OT*) — вайскова-будаўнічая кампанія ў нацыскай Нямеччыне.

[102] **Фалькэнбург** (ням. *Falkenburg*) — сёньня горад на паўночным захадзе Польшчы, Злоценец (пол. *Złocieniec*), Заходне-Паморскае ваяводзтва.

кіраўніцтву СБМ у Бэрліне і ўладам “Гітлер Югэнд” за тое, што далі нам добрыя рэкамандацыі і салідныя дакумэнты.

Ад першага дня праца, адпачынак і выхаваньне нашых юнакоў перайшло ў нашыя рукі. У той самы вечар праваднік А. Мацюшонак сабраў усіх немцаў-майстроў і нас да кіраўніка лягеру і сказаў ім, хто мы і што тут будзем рабіць. З боку беларусаў да гэтага часу “апекаваўся” юнакамі нейкі Сяргей Грамыка[103] ў уніформе ОТ.

Наступнай раніцы зрабілі мы хлопцам пад’ём не а 6-й, а а 7-й гадзіне раніцы. Пазьней пайшлі ў шэрагах да возера, выкупаліся, арганізавана прыйшлі на кухню, дзе атрымалі хлеб, маргарыну і падвойную порцыю кавы й на 9-ю гадзіну пайшлі на працу, пры гэтым сп. Майцюшонак паслаў толькі палавіну хлопцаў, а другая палавіна пад ягонай камандай зрабіла дэзынфэкцыю бараку, нагрэла лазьню, забрала з магазыну сяньнікі, новыя коўдры, падушкі, крацястыя простыні й пакрывалы. Па абедзе (зупа значна лепшая) усе хлопцы пайшлі ў лазьню, прайшлі санітарны агляд і вярнуліся ў чысты барак на сьвежыя пасьцелі.

Прайшло пяць дзён і з Бэрліну прыслалі юнацкія ўніформы, бацінкі, шапкі і працоўныя камбінэзоны. Па двух тыднях атрымалі мэталёвыя ложкі, і нашыя хлопцы-юнакі сапраўды аджылі. Працу й адпачынак іх мы строга, але з любасьцяй дзялілі й кіравалі. Замест 12 гадзін працавалі толькі 6 гадзін. Па абедзе або адбываліся лекцыі й гутаркі, або йшлі ў лес быццам бы на заняткі і там сьпявалі, або рыхтавалі дровы на зіму.

Пры людзкіх умовах і лепшым харчаваньні ў хлопцаў зьявілася бадзёрасьць і ахвота да працы і жыцьця. Атрымалі і радыё на барак.

У канцы студзеня 1945 году ў лягер прыехала шмат нямецкага войска (бо савецкая армія была ўжо на Одры[104]) і нас 3.2.1945 г. пасадзілі ў цягнік. Юнакі атрымалі два таварныя вагоны з саломай і печкай, таму язда была даволі ніштавата. Аднак цягнік стаяў часта і доўга на полі, бо Саветы бамбардавалі палатно чыгункі. Пастоі гэтыя давалі нам нагоду выйсьці ў поле і набраць з капцоў бульбы. Навет немцы гэта рабілі, бо ведалі, што бульба хутка будзе ані ім, ані нам.

14 лютага 1945 г. малодшых юнакоў і мяне завезьлі ў лягер “Гросс Гальле” на Шпандаў-Вэст, у Бэрліне. Тут пражыў я зь імі ў цяжкіх умовах да 3.3.45 г. Безупынныя налёты саюзьнікаў, недаспаныя ночы й голад заламалі ўсіх нас на духу.

---

[103] **Сяргей Грамыка**, вядома, што ён трапіў пасьля вайны ў ЗША, дзе займаўся грамадзкай дзейнасьцю ў штаце Канектыкут. Належаў да Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі.

[104] **Одра** — рака ў Польшчы, Чэхіі й Нямеччыне.

Хлопцы знайшлі недзе капец бручкі і патаёмна, у часе бамбардаваньня, прыносілі сырую бручку ў баракі і так дапамагалі сабе ў жыцьці. Пры гэтым неабходна ўспомніць і сумны факт: адзін хлопчык сірата, гадоў 14, з Наваградчыны быў забіты ў спрэчцы за мёрзлую бручку. Ня ведаю, што з гэтымі юнакамі сталася, бо мяне 3.3.1945 г. паклікалі ў лягер “Бісмарксэле”, дзе спаткаў сваіх каля 12-ці былых юнакоў у жаўнерскіх мундурах. Ня ведаю, што сталася далей з нашымі хлапцамі. Тут прабыў я да 28.3.1945 г. і адгэтуль паслалі мяне на канцылярскую працу пры нямецкай моладзі на Клёпштокштрасэ 47, а адгэтуль пры дапамозе банфюрэра Мэнцэля 15 красавіка 1945 году мы выехалі апошнім цягнікам з Бэрліну. Гэтага дня і скончылася мая актыўная праца ў СБМ.

М. Рачыцкі[105].

14.2.1968 г.
Торонто, Канада.

## Працоўная група СБМ у Нямеччыне

Арганізатарам і кіраўнікам Працоўнай групы СБМ у Нямеччыне быў сп. Гэнры Чурыла-Б. Аб жыцьці й працы сяброў і сябровак СБМ ён напісаў наступнае:

“Ад пачатку вайны да 1944 году на ўсходнім фронце йшлі цяжкія баі. Лінія фронту рухалася ўзад і ўперад. Гарэлі беларускія вёскі й сёлы, дашчэнту разбураліся нашыя гарады. У лясох Беларусі з кажным днём падрастала колькасьць партызанаў.

Нямецкае вайсковае камандаваньне цэнтральнага сэктару ўсходняга фронту ў паразуменьні зь Дзяржаўным Кіраўніцтвам Моладзі (Райхсміністэрыум фюр дзі бэзэтцэн Остгэбітэ[106]) пастанавіла вербаваць і высылаць у Нямеччыну беларускую моладзь на працу ў фабрыках. У цэлай гэтай акцыі мелі на ўвазе дзьве карысьці: падар-

---

[105] **Мечыслаў Рачыцкі** (1922–1972) вучыўся ў Дзісенскай гімназіі, а з прыходам Саветаў – у Глыбоцкім сельгастэхнікуме. Падчас нямецкай акупацыі закончыў настаўніцкія курсы ў Глыбокім (1943), настаўнічаў. Закончыў курс кіраўнікоў у Менску (1943) і быў прызначаны раённым кіраўніком Глыбоцкага СБМ і намеснікам Глыбоцкага акруговага кіраўніка моладзі. Летам 1944 г. выехаў у Нямеччыну, дзе быў арыштаваны амэрыканцамі. Адпушчаны ў 1946 г. У 1949 г. выехаў у Канаду. Быў сакратаром Выдавецкага фонду Згуртаваньня беларусаў Канады.

[106] ***Reichsministerium für die besetzten Ostgebiete*** (ням.) — Імпэрскае міністэрства акупаваных усходніх тэрыторый, заснаванае ў 1941 г. для грамадзянскага кіраваньня захопленымі падчас вайны тэрыторыямі СССР.

ваць асноўную людзкую базу партызаншчыны ў Беларусі і замяніць баяздольных немцаў на фабрыках і прадпрыемствах у Нямеччыне беларускімі юнакамі.

Першапачаткова немцы прывозілі ў Нямеччыну групы самых беларускіх юнакоў у веку ад 14-ці да 20-ці гадоў выключна з прызначэньнем на працу. Пасьля пачалі паяўляцца невялікія групы (20–50 асоб) і беларускіх дзяўчат (юначак). Гэтая моладзь тварыла Працоўную групу СБМ у Нямеччыне. Агульны лік Працоўнай групы даходзіў да 5-ці тысяч асоб. Каля трох тысяч моладзі было прыдзелена фірме Юнкэрс[107], якая вырабляла самалёты для нямецкага цывільнага й вайсковага лятунства, а рэшта вучылася й працавала ў арганізацыі Тод (ОТ).

Нагляд над усімі нацыянальнымі групамі моладзі — беларускай, украінскай, расейскай, латыскай і летувіскай — меў па нямецкай лініі шэф Аддзелу моладзі ў Міністэрстве занятых усходніх абшараў гауптбанфюрэр Ніккэль[108]. Былі кіраўнікі-немцы і для кажнай нацыянальнай групы, быў ім для беларускай банфюрэр Мэнцэль.

Кіраўнік СБМ на Нямеччыну меў сваю канцылярыю ў Міністэрстве Занятых Усходніх Абшараў у Бэрліне на Клосстэрштрассэ №19 і 5-7 супрацоўнікаў. Адным з іх быў ведамы беларускі паэта Лявон Случчанін[109], які перад самым канцом вайны трагічна загінуў ад амэрыканскай бомбы ў горадзе Дэссаў[110].

Кіраўніцтва СБМ на Нямеччыну выдавала часапісы для Беларускай моладзі. Адзін з іх называўся “Малады Змагар”[111] — месячнік. Вышла з друку толькі 5 нумароў тыражом у 50 тысяч кажны. Часапіс

---

[107] **Юнкерс** (ням. *Junkers*) – авіябудаўнічая кампанія Германіі.

[108] **Зыгфрыд Нікель** — начальнік аддзелу моладзі Міністэрства акупаваных усходніх тэрыторый.

[109] **Лявон Случанін** (сапр. **Шпакоўскі**, 1914—1995), паэт. Вучыўся ў Слуцкім пэдтэхнікуме, Менскім пэдагагічным інстытуце. Выкладаў расейскую мовы й літаратуру. Арыштаваны ў 1937 г., вызвалены праз два гады. Падчас нямецкай акупацыі працаваў дырэктарам Лучнікоўскай школы (1941—1943), школьным інспэктарам на Случчыне (1943—1944), супрацоўнічаў з “Газэтай Случчыны”. Улетку 1944 г. выехаў у Нямеччыну. У1945 г. вярнуўся ў Беларусь, дзе быў арыштаваны савецкімі органамі. Адпраўлены ў лягер. Пасьля вызваленьня жыў у Варкуце, а потым пераехаў у Салігорск.

[110] **Дэсаў** (ням. *Dessau*) — горад ва ўсходняй Нямеччыне, зямля Саксонія-Анхальт.

[111] **“Малады Змагар”** — часопіс беларускай моладзі. Выйшла 5 нумароў у 1943—1944 гг. Спачатку выходзіў у Бэрліне, затым у Пляўэне. Адказны рэдактар — Генрык Барановіч.

спачатку друкаваўся ў Бэрліне, а пасьля ў Пляўэн[112], у Саксоніі. Абедзьве друкарні былі дашчэнту збабмардаваныя, так што не ўдалося надрукаваць больш нумароў. Гэта ўжо быў і так канец Нямеччыны і вайны ў Эўропе. Часапіс меў характар нацыянальна-ўзгадаваўчы і інфармацыйны. Дапамагаў карыгаваць яго блізкі прыяцель Язэпа Лёсіка[113] — старэнькі прафесар Байкоў[114]. Ад’ютантам штандаровага Г. Чурыла быў малады настаўнік зьвязовы сп. Аўген Захаронак[115].

Рассыльшчыкам і кур’ерам працаваў лейтэнант артылерыі сэкцыйны В. Барысаў. Сакратаркай у канцылярыі была зьвязовая Тося Б-ч116.

Беларускіх юнакоў, прыдзеленых фірме Юнкэрс, прывозілі ў лягер Крымічаў[117], у Саксоніі. Пасьля шасьцітыднёвых тэхнічных курсаў, дзялілі іх на меншыя групы і рассылалі ў фабрыкі Юнкэрса. Цэнтрам Юнкэрса быў магутны фабрычны комплекс у Дэссаў, пад Эльбай[118]. У пераходным лагеры Крымічаў было пераважна да 300 беларускіх

---

112 **Пляўэн** (ням. *Plauen*) — горад ва ўсходняй Нямеччыне на мяжы з Чэхіяй, зямля Саксонія.

113 **Язэп Лёсік** (1883—1940), грамадзка-палітычны дзеяч, мовазнаўца.

114 **Мікола Байкоў** (1889—1945?), лінгвіст, літаратуразнаўца, пэдагог. Закончыў Маскоўскую духоўную акадэмію. Ад 1913 г. выкладаў у навучальных установах Беларусі. Вучоны сакратар слоўнікавай камісіі Інбелкульту, потым Інстытуту мовазнаўства АН БССР. Апрацаваў 4-ы выпуск “Беларускай навуковай тэрміналёгіі” — “Тэрміналёгія лёгікі і псыхалёгіі” (1928), з Андрэем Бараноўскім — “Практычны беларускі вайсковы слоўнік” (1927). Разам са Сьцяпанам Некрашэвічам уклаў “Беларуска-расейскі слоўнік” (1925) і “Расейска-беларускі слоўнік” (1928). У 1930 г. арыштоўваўся па справе “Саюзу вызваленьня Беларусі”, але быў вызвалены. У 1931—1941 гг. літсупрацоўнік Менскага рэклямнага бюро, стыліст у газэце “Чырвоная зьмена”. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у Інспэктарацe беларускіх школ і ў Выдавецтве школьных падручнікаў і літаратуры для моладзі ў Менску. Улетку 1944 г. выехаў у Нямеччыну, працаваў у рэдакцыі часопісу “Малады змагар”, прапагандысцкім бюро “Вінэта”. Пасьля капітуляцыі нямецкіх войскаў арыштаваны савецкімі органамі, утрымліваўся ў менскай турме. Далейшы лёс невядомы.

115 **Аўген Захаронак** — ад’ютант Генрыка Барановіча. Настаўнік паводле адукацыі. Пасьля вайны апынуўся ў Аўстраліі. Удзелу ў беларускім жыцьці ня браў.

116 Відаць, **Антаніна Барановіч**, дзяячка СБМ. Жонка Мечыслава Рачыцкага. Пасьля вайны апынулася ў Польшчы. У сьнежні 1958 г. выехала ў Канаду.

117 **Крымічы** (ням. *Crimmitschau*) — горад ва ўсходняй Нямеччыне, зямля Саксонія. Тут разьмяшчаўся беларускі лягер.

118 **Эльба** — рака на тэрыторыі Чэхіі й Нямеччыны.

юнакоў. Беларускімі кіраўнікамі былі тады надправаднік Весялуха[119] і сэкцыйна М. Кашэня, а ў 1944 годзе да сакавіка 1945 г. быў старшы праваднік П. Манькоў[120], а кіраўнічкай юначак была праваднічка Каткавічанка[121].

Другім вялікім асяродкам Юнкэрса быў горад Магдэбург[122], дзе працавала каля тысячы беларускіх юнакоў і хіба дзьве сотні беларускіх юначак. Праз кароткі час кіраўніком юнакоў быў прысланы з Дэссаў сэкцыйны М. Кашэня, а вясною 1944 г. я паслаў туды штандаровага П. Сценьніка[123]. Кіраўнічкай юначак была зьвязовая Каця Кавалёва[124].

Найкарацей існавала група 500 юнакоў пры заводзе Юнкэрса ў Штрасбургу[125]. Ангельскае лятунства пасьлядоўна бамбардавала гэтую фабрыку, так што летам 1944 г. немцы перасталі яе адбудоўваць, а беларускіх юнакоў разьвязлі па іншых гарадох.

У меру як усіляліся налёты саюзных самалётаў і штораз разбураліся фабрыкі Юнкэрса, немцы змушаныя былі перавозіць машынэрыю і работнікаў у іншыя гарады й маскавацца пад іншымі назовамі. Такім чынам паўстала колькі новых асяродкаў прадукцыі самалётаў Юнкэрса. Адным з іх быў Мульдэнштайн[126] з назовам “Мульдвэркэ А.Г.”, дзе апынулася вялікая колькасьць беларускіх юнакоў і юначак з Дэссаў.

---

[119] Магчыма, маецца на ўвазе **А. Весялуха**, дзеяч СБМ.

[120] **Палікарп Манькоў** (1910—1998), грамадзкі дзеяч. У 1939—1941 гг. служыў у Чырвонай арміі, трапіў у палон. У 1942—1943 гг. працаваў перакладчыкам у слонімскім гэбітскамісарыяце. Ад чэрвеня 1943 г. узначальваў СБМ у Слуцку. Удзельнік Другога Ўсебеларускага кангрэсу. Ад лета 1944 г. на эміграцыі. Спачатку жыў у Нямеччыне. Працаваў выкладчыкам у Беларускай гімназіі ў Міхельсдорфе (1946—1949). Пасьля пербраўся ў ЗША. Ад лістапада 1954 г. быў тэхнічным рэдактарам газэты “Беларускае Слова”. Выкладаў расейскую мову ў ваеннай школе ў Блумінгтане (штат Індыяна).

[121] Маецца на ўвазе Вераніка Катковіч-Клентак.

[122] **Магдэбург** (ням. *Magdeburg*) — горад ва ўсходняй Нямеччыне, сталіца зямлі Саксонія-Анхальт.

[123] **Пётра Сьценьнік** (1914 (1920) — ?), дзеяч СБМ. Вучыўся ў Дзісенскай гімназіі. Быў кіраўніком СБМ на Вялейскую акругу. Улетку 1944 г. выехаў у Нямеччыну, адкуль перабраўся ў Чэхію (1945), дзе яго арыштавалі савецкія спэцслужбы й вывезьлі ў СССР. Далейшы лёс невядомы.

[124] **Кацярына Кавалёва**, дзяячка СБМ.

[125] **Штрасбург** (ням. *Strasbur*) — горад ва ўсходняй Нямеччыне, зямля Мекленбург.

[126] **Мульдэнштайн** (ням. *Muldenstein*) — абшчына ва ўсходняй Нямеччыне, зямля Саксонія-Анхальт.

Кіраўніком юнакоў быў праваднік Кароткі, а Кіраўнічкай юначак Галіна Бузук[127].

Быў яшчэ адзін такі асяродак у Саксоніі Цьвікаўэр Вэркэ А. Г.[128], дзе кіраўніком юнакоў быў М. Лешчэнка (М. Кавыль)[129],а Кіраўнічкай юначак Мая Кротава.

У самым Бэрліне пры ОТ вучылася й працавала вялікая група беларускіх юнакоў (тысяча асоб) пад кіраўніцтвам Марозава і Т. Старчанкі, а пасьля быў назначаны кіраўніком штандаровы Дзімітры Стэльмах. ОТ вучыла беларускіх юнакоў розных карысных рамёстваў: сталяркі, муляркі, сьлясаркі, бляхаркі і інш.

У лягеры ОТ Рошток[130] было некалькі сотак беларускіх юнакоў, якімі кіравалі старшы праваднік А. Мацюшонак і Мечыслаў Рачыцкі. Між іншым штандаровы П. Сьценьнік і старшы праваднік А. Мацюшонак трагічна загінулі ў самым канцы вайны. Тое самае сталася і з

---

[127] **Галіна Бузук** (1924—?), дзяячка СБМ. Вучылася ў Наваградзкай гімназіі. У 1941/1942 навучальным годзе выкладала беларускую мову й літаратуру ў школе ў в. Лозкі Любчанскага раёну. Закончыла курсы за сярэднюю школу (матуральныя) пры Наваградзскай настаўніцкай сэмінарыі (1943). Была культурным рэфэрэнтам у кіраўнічым штабе СБМ. Рэдагавала інструктарскі бюлетэнь аддзелу прапаганды штабу “Служба юначак”, супрацоўнічала з часопісам “Жыве Беларусь!”. У 1944 г. эвакуявалася ў Нямеччыну. Была прызначана кіраўнічкай дзявочага лягеру ў Мундэльштайне, якім кіравала да красавіка 1945 г. Была арыштавана савецкімі спэцслужбамі. Далейшы лёс невядомы.

[128] **Цьвікаўэр** (ням. *Zwickauer*) — былы раён ва Ўсходняй Нямеччыне. Цяпер называецца Цьвікаў (ням. *Landkreis Zwickau*), зямля Саксонія.

[129] **Язэп Лешчанка** (псэўд. **Міхась Кавыль**, 1915—2017), пісьменьнік, рэдактар, грамадзкі дзеяч. У 1930—1933 гг. вучыўся ў Беларускім пэдагагічным тэхнікуме. Быў сябрам аб’яданьня “Маладняк”. 23 лютага 1933 г. арыштаваны й асуджаны на 3 гады. Пакараньне адбываў на Далёкім Усходзе. Вызвалены ў 1935 г. Жыў у Варонежы (1935—1938), вучыўся ў пэдагагічным інстытуце на літаратурным факультэце (1936—1938), працаваў настаўнікам. У 1941 г. у Чырвонай арміі, трапіў у палон. Закончыў прапагандысцкія курсы ў Вустраве пад Бэрлінам, працаваў у аддзеле прапаганды ў Менску. Ад 1944 г. на эміграцыі, спачатку ў Нямеччыне, потым у Бэльгіі. У 1950 г. выехаў у ЗША. Першы рэдактар газэты “Беларуская Трыбуна”. У 1950-я гг. браў актыўны ўдзел у працы Беларускага канрэсавага камітэту Амэрыкі. Ад 1983 г. быў сталым рэдактарам часопісу “Беларуская Думка”. Выдаў зборнікі паэзіі “Ростань” (Рэгэнсбург, 1947), “Пад зорамі белымі” (Нью-Ёрк, 1954), “Першая рана” (Манчэстэр, 1960), “Цяжкія думы” (ЗША, 1961), “Міжагнёўе” (Нью-Ёрк, 1990).

[130] Маецца на ўвазе **Ростак** (ням. *Rostock*) — партовы горад у Нямеччыне, у зямлі Меклендург — Пярэдняя Памэранія.

старшым праваднікам Сяргеем Бузаком. Пра сп. Бузака хадзіла слава, што ён быў вельмі здольным арганізатарам. У Менскай акрузе ён меў тры тысячы добра зарганізаваных сяброў і сябровак СБМ.

У лягеры ОТ Рацібор[131], Сілезія, было каля 300 беларускіх юнакоў, якія працавалі ў вельмі цяжкіх умовах пры будове вялікага тунэлю пад горамі. Тунэль гэты быў прызначаны для нейкай вельмі важнай ваеннай мэты (для вырабу ракетаў ці нейкіх новых разрыўных матар'ялаў). Кіраўніком лягеру быў надправаднік Шпак[132].

У Надрэніі-Вэстфалія[133] быў невялікі лягер ОТ у горадзе Гельсэнкірхен-Буэр[134]. У лягеры была група 50—100 беларускіх юнакоў. Беларускім кіраўніком групы быў зьвязовы Рэст. У гэтых-жа лягерах былі дзеці-падросткі — хлопцы й дзяўчаткі. Імі апякаваліся сяброўкі СБМ.

Быў яшчэ адзін асяродак — Школа кіраўнікоў і кіраўнічак СБМ у Драйсыгаккэр, каля Майнінгэн, у Турынгіі. Нямецкім кіраўніком яе быў сп. Шуман, а беларускім сп. Стась Грынкевіч[135].

Афіцыйнай уніформай СБМ была зялёная вопратка з бел-чырвона-белай павязкай на левым рукаве. На павязцы быў разьмешчаны чырвоны шчыт з залатым двукрыжжам Ярылы і сымбалямі працы й змаганьня — мячом і рыдлёўкай. Такую самую ўніформу насіла Працоўная група СБМ у Нямеччыне. Яна была вольная ад нашэньня надпісу "ОСТ".

Беларуская моладзь у Нямеччыне беларускіх школаў ня мела. Яна перадусім мусіла цяжка працаваць у фабрыках Юнкэрса і на роз-

---

131 **Рацібор** (ням. *Ratibor*, пол. *Racibórz*) — горад у Паўднёвай Польшчы, у Сілескім ваяводзтве.

132 **Фёдар Шпак** (1918—?), дзеяч СБМ. Служыў у Чырвонай арміі. У лютым 1942 г. трапіў у палон. Прайшоў курсы прапагандыстаў у Вустраве, быў накіраваны ў аддзел прапаганды акруговага камісарыяту ў Баранавічах. Як адзначае гісторык Юры Туронак, Шпак напісаў данос на Радаслава Астроўскага, за што быў адкліканы з пасады акруговага кіраўніка СБМ. Улетку 1944 г. выехаў у Нямеччыну. Далейшы лёс невядомы.

133 Маецца на ўвазе Паўночны Рэйн – Вэстфалія.

134 **Гельсэнкірхен** (ням. *Gelsenkirchen*) — горад у Заходняй Нямеччыне, зямля Паўночны Рэйн – Вэстфалія.

135 **Станіслаў Грынкевіч** (1912 —1966), грамадзкі дзеяч. Выпускнік Віленскага ўнівэрсытэту, сябра Беларускага студэнцкага саюзу. Сябра рэдкалегіі часопіса "Калосьсе". У 1939 г. быў мабілізаваны ў польскае войска, трапіў у нямецкі палон. Ад восені 1941 г. да восені 1943 г. сакратар Беларускага камітэту самапомачы ў Бэрліне, выкладчык на настаўніцкіх курсах пры камітэце. Пазьней рэдактар пэрыёдыкаў "Раніца" й "Беларускі работнік". У 1950 г. перабраўся ў ЗША. Радны БНР. Сябра БАЗА, удзельнік кіраўніцтва Кліўлендзкага аддзелу арганізацыі.

ных жахлівых праектах ОТ (Рацібор, Гельсэнкірхен-Буэр[136]). Кіраўнікі й кіраўнічкі лягераў павінны былі вучыць юнакоў і юначак беларусаведы з “Вучэбнага лістка”, распаўсюджваць у лягерах часапісы “Жыве Беларусь”, “Малады Змагар” і газэты “Раніцу”[137] і “Беларускі Работнік”[138].

У вольны час вечарам, калі такі час быў, кіраўнік ці кіраўнічка СБМ праводзіла гутаркі беларусаведы. У гэтай справе дазволена было кіраўнікам асяродкаў праяўляць сваю собскую ініцыятыву. Раз я быў запрошаны ў лягер СБМ пры групе ОТ у Бэрліне-Фалькэнзээ на вогнішча беларускіх юнакоў. Штандаровы зарганізаваў гэтую імпрэзу вельмі добра. Найбольш падабаліся ўсім прыгожыя беларускія песьні.

Адносіны немцаў да нашае моладзі былі розныя. Быў ваенны час і не магло быць зроблена так, каб усе былі задаволеныя. Беларуская моладзь і кіраўнікі яе ненавідзелі немцаў Гітлера за расстрэляных бацькоў, спаленыя вёскі разам з іх мірным насельніцтвам, разбураныя гарады, апустошаны край і прымусовы прывоз у Нямеччыну.

Дзякуючы асабістым захадам штандаровага Г. Чурыла-Б-ча і часткаваму зразуменьню нямецкіх дзейнікаў уся беларуская моладзь, ахопленая СБМ у Нямеччыне, мела людзкую вопратку, магчымыя баракі, абутак і харчаваньне такое самае, як і нямецкая моладзь.

Непрабачальнай памылкай было-б ня ўспомніць таго, што трывожыла чулае сэрца нашага нацынальнага прарока — Янкі Купалі і зырка адлюстравалася ў ягоным сказе-сумліве: “Ці ўскрэсьнем мы, душою ўпаўшы, зьвяўшы, каб выйсьці ў сьвет, як нейкі здольны род…”[139].

Каб сьветлы дух паэта-волата адчуў тое, што я бачыў уласнымі вачыма, дык ён бы захапляўся бязьмерна.

---

[136] **Гельзенкірхен-Буэр** (ням. *Gelsenkirchen-Buer*) — сёньня Гельзенкірхен, горад, цэнтар цяжкай прамысловасьці ў Нямеччыне, у зямлі Паўночны Рэйн — Вэстфалія. У часе Другой сусьветнай вайны тут знаходзіўся дадатковы лягер канцлягеру Бухенвальд і шмат жанчын працавалі на прымусовай працы на прамысловых прадпрыемствах.

[137] **“Раніца”** — беларуская тыднёвая газэта, якая выдавалася ў Бэрліне. № 1 выйшаў 3 сьнежня 1939 г. Першыя нумары рэдагаваў Фабіян Акінчыц. Ад 1941 г. адказны рэдактар — Мікалай Шкялёнак, ад 9 студзеня 1944 г. — Станіслаў Грынкевіч, ад 3 верасьня 1944 г. — Станіслаў Станкевіч. У 1944 г. газэта аб’ядналася з тыднёвікам “Беларускі Работнік” і пачала выходзіць двойчы на тыдзень. Апошні ведамы нумар — № 15 (235) выйшаў 21 сакавіка 1945 г.

[138] **“Беларускі Работнік”** — газэта ў Бэрліне, якая выдавалася для новапрывезеных беларускіх работнікаў. Выходзіла ў 1943—1944 гг. Рэдактарам быў Станіслаў Грынкевіч. У 1944 г. аб’яднана з газэтай “Раніца”.

[139] Радкі зь верша Янкі Купалы “Перад Будучыняй”.

Уявеце сабе галодных, абарваных, запалоханых беларускіх юнакоў і юначак з Віцебшчыны, Магілёўшчыны, Полаччыны, Меншчыны й г. д., бяздольных ахвяр татальнай вайны, бяздомных сіратаў, прывезеных прымусова на працу на фабрыках варожае краіны проста пад амэрыканскія бомбы. Але гэтыя нявучаныя дзеці здалі свой экзамін з усіх прадметаў на 100 % і ўсяму сьвету даказалі, што мы — Беларусы якраз ёсьць тым здольным родам.

На працы ў фабрыках Юнкэрса яны працавалі ўва ўсіх самых важных і найбольш засакрэчаных цэхах пад кіраўніцтвам найлепшых нямецкіх майстраў і найздальнейшых інжынераў. Дырэкцыя Юнкэрса не магла нахваліцца кемнасьці беларускае моладзі.

Афіцыйнага набору СС[140] ці вафэн СС[141] зь лягеру СБМ ня было. Адно толькі ў лютым 1945 г. немцы прывезьлі з Дэссаў групу беларускіх юнакоў у Бэрлін-Шпандау і пачалі яе вучыць вайсковасьці. Гэта быў поўны зьвяз (рота) лікам у 200 асоб. Іх рыхтавалі да абароны Бэрліну. Вайсковымі інструктарамі па муштры былі часткова падафіцэры СС, а часткова кіраўнікі СБМ, як Бузак, Гарэлік і інш. Агульны нагляд над цэласьцяй мелі банфюрэр Мэнцэль і Г. Чурыла.

Гэтая беларуская адзінка атрымала і насіла ўніформу Вэрмахту[142]. Ані адзін з юнакоў ці кіраўнікоў СБМ не хацеў абараняць Бэрліну. Але мы ня мелі іншага выхаду. Я асабіста знаю толькі адзін выпадак, што кіраўнік СБМ з собскага перакананьня й волі добраахвотна пайшоў у СС, быў ранены, выжыў і эміграваў за акіян.

Далейшы лёс зьвязу мне няведамы, бо 28.3.1945 г. я й некаторыя кіраўнікі групаў СБМ змушаныя былі пакінуць свае месцы працы і ставіцца ў 30-й дывізыі[143] ў ваколіцах Вай-

---

140 **СС** (ад ням. *Schutzstaffel*) — ваенізаваныя фармаваньні ў нацысцкай Нямеччыне. СС падпарадкоўваліся канцэнтрацыйныя лягеры, у якіх загінулі мільёны людзей. СС былі арганізатарам масавых забойстваў па расавым прынцыпе ў Нямеччыне й на акупаваных тэрыторыях.

141 **Вафэн СС** (ням. *Waffen-SS*) – вайсковыя фармаваньні СС, часткі ўзмацненьня СС, якія ўзьніклі на аснове палітычных частак і зондэркамандаў СС. Часткі войскаў СС бралі ўдзел як у ваенных дзеяннях, гэтак і ў акцыях айнзацгрупаў і генацыдзе.

142 **Вэрмахт** (ням. *Wehrmacht*) — узброеныя сілы нацысцкай Нямеччыны (1935—1945).

143 **30-я дывізія СС** (2-я расейская, 1-я беларуская, ням. *30.Waffen-Grenadier-Division der SS* (*russische Nr. 2, weißruthenische Nr. 1*)) — вайсковая частка ў складзе Вафэн СС. Створана ў жніўні 1944 г. Яе склад быў разнастайны: служылі немцы, расейцы, украінцы, беларусы, палякі. Камандаваў дывізіяй Ганс Зіглінг. Гісторык Юры Грыбоўскі адзначае, што ў дывізіі апынуліся беларусы — як удзельнікі антыпартызанскіх апэрацый, гэтак і юнакі зь Менскай школы афіцэраў БКА, якія ня бралі

дэн[144]. Мы ўсе згубілі ўсякі кантакт з лягерамі СБМ. Савецкая армія заняла Усходнюю Прусію[145], Памеранію[146], Сілезію, Саксонію і акружыла Бэрлін. 8-га травеня 1945 г. Бэрлін быў узяты. Нямеччына капітулявала. Ільвіная частка лягероў СБМ лучыла ў савецкія рукі. Лёгічна трэба спадзявацца, што савецкія ўлады рэпатрыявалі нашую моладзь на Бацькаўшчыну, а ў найгоршым выпадку ў глыб Савецкага Саюзу. Хто меў магчымасьць і крыху шчасьця, уцёк ад савецкай навалы далей на захад Нямеччыны. Што сталася з бальшынёй вышэйшых кіраўнікоў СБМ ніхто ня ведае”.

Г. Чурыла

Торонто, Канада.
16.10.1967 г.

## Эміграцыя СБМ

*У чэрвені 1944 г. адбылася масавая эміграцыя Беларусаў на захад, пераважна ў Нямеччыну. Арганізаваным парадкам прыехала ў Нямеччыну пяцітысячная (5000) група СБМ для вайскова-дапаможнай службы (Фляксгэльфер). Галоўны штаб і звыш тысячы юнакоў затрымаліся ў г. Троппаў, у Ўсходніх Судэтах, а рэшта, прайшоўшы падрыхтоўчы курс супрацьлятунскай службы ў г. Эгэры, большымі і меншымі групамі была прыдзелена да зэнітных батарэяў на тэрыторыі Нямеччыны.*

*Для юначак былі арганізаваныя курсы супрацьлятунскай абароны ў горадзе Пютніц[147], у Памераніі. Нагляд за ўсімі нацыянальнымі*

ўдзелу ў вайсковых апэрацыях. Скончыла існаваньне ў красавіку 1945 г. Падрабязьней гл.: Грыбоўскі, Ю. Беларусі легіён СС: міфы і рэчаіснасць // Беларускі гістарычны агляд. Т. 14. Сш. 1—2 (26—27). 2007. С. 97—139.

144 **Вайдэн** (ням. *Weiden in der Oberpfalz*) — горад у паўднёва-ўсходняй Нямеччыне, зямля Баварыя.

145 **Усходняя Прусія** (ням. *Ostpreußen*) — правінцыя нямецкага каралеўства Прусія (1701—1918) і Свабоднай дзяржавы Прусія (1918—1945). Ліквідавана паводле рашэньня Патсдамскай канфэрэнцыі. Тэрыторыя Ўсходняй Прусіі была падзеленая паміж Польшчай, Літвой і Расеяй.

146 **Памэранія** — вобласьць на поўдні Балтыйскага мора, якая ў розныя часы ўваходзіла ў склад розных дзяржаваў. У 1945 г. большая частка Памэраніі адышла да Польшчы, меншая — засталася ў складзе Нямеччыны.

147 Відаць, маецца на ўвазе колішні вайсковы аэрадром **Пютніц** (ням. *Pütnitz*), які пазьней называўся Дамгартэн, разьмешчаны за 28 км ад горада Росток у зямлі Мекленбург — Пярэдняя Памэранія ў Нямеччыне. Ён быў пабудаваны ў 1930 г. для Люфтвафэ й выкарыстоўваўся да канца Другой сусьветнай вайны.

*групамі меў Шэф Аддзелу моладзі пры Остміністэрыум гаўптбанфюрэр Нікель.*

*Аб лёсе групы СБМ ў Троппаў даведваемся з ліста ад 16.10.1945 г. д-ра Станіслава Грынкевіча, тагачаснага рэдактара газэты “Раніца”:*

...З Ганьком не ўдавалася гутарыць па шчырасьці, была невідочна сьцяна разьдзелу, створаная псыхозам Акінчыца[148]. Але пабачыў потым Ганька у сытуацыі, як кажуць, што сэрца крывавіла. А было гэтак. Ня памятаю даты, было гэта на Гумбінен штрассэ тады, калі нашую спадзяваную “Дывізію” ўлучылі ў “СС Зіглінг Группэ[149]”. Я быў у кабінеце ген. Езавітава[150], разважалі дэспэрацкую сытуацыю. Увайшоў М. Ганько. Зь ягоных паводзінаў відаць было глыбокае перажыванье

[148] **Фабіян Акінчыц** (1886—1943), палітычны дзяяч. Закончыў юрыдычны факультэт Пецярбурскага ўнівэрсытэту (1913). Належаў да расейскай Партыі сацыялістаў-рэвалюцыянэраў. У 1923 г. прыехаў у Заходнюю Беларусь. Настаўнічаў. У 1926 г. далучыўся да Беларускай сялянска-работніцкай грамады, арыштаваны польскімі ўладамі ў 1927 г. Пасьля вызваленьня выдаваў газэты “Голас Праўды”, “Праўда”, “Беларуская Праўда”. У 1933 г. абвясьціў аб стварэньні беларускага нацыянал-сацыялістычнага актыву. Пасьля 1939 г. выехаў у Бэрлін, дзе ўзначаліў Беларускае прадстаўніцтва. Безвынікова спрабаваў стаць лідарам сярод беларускіх эміграцкіх груповак у Нямеччыне й на акупаваных ёй тэрыторыях. Выступаў за стварэньне беларускай нацыянал-сацыялістычнай партыі, чаго не дазваляла Нямеччына. У 1941 г. кіраваў камісіяй, якая сярод палонных адбірала беларусаў для працы перакладчыкамі й прапагандыстамі ў нямецкіх установах у Беларусі. Арганізатар і лектар Вустраўскай школы прапагандыстаў. Забіты ў 1943 г. у Менску.

[149] **Шуцманшафт брыгада Зігліна** (ням. *Schutzmannschaft-Brigade Siegling*) — нямецкае ваеннае фармаваньне, якое атрымала назву ад імя камандзіра **Ганса Зіглінга** (ням. *Hans Siegling*, 1912 — пасьля 1975).

[150] **Канстанцін Езавітаў** (1893—1946), вайсковы й грамадзка-палітычны дзеяч. У Першую сусьветную вайну праводзіў актыўную тлумачальную й арганізацыйную працу сярод жаўнераў-беларусаў Паўночнага фронту, быў абраны намесьнікам старшыні Цэнтральнай беларускай вайсковай рады. Удзельнік Першага Ўсебеларускага Кангрэсу ў сьнежні 1917 г., у лютым 1918 г. — вайсковы камэндант Менску. Народны сакратар па вайсковых справах, удзельнік абвяшчэньня незалежнасьці БНР. У 1919—1920 гг. быў кіраўніком Вайскова-дыпляматычнай місыі БНР у Латвіі й Эстоніі. У 1921—1944 гг. узначальваў Беларускае нацыянальнае аб’яднаньне ў Рызе. У часе Другой сусьветнай вайны займаўся арганізацыяй у Латвіі беларускіх школ. У часе Другога Ўсебеларускага Кангрэсу быў абраны ў склад БЦР, у 1945 г. займаў пасаду кіраўніка вайсковага аддзелу БЦР. Затрыманы СМЕРШам у красавіку 1945 г. Паводле афіцыйнай вэрсіі, памёр падчас сьледзтва ад сухотаў і дыстрафіі 23 мая 1946 г., паводле іншых зьвестак — расстраляны.

нутраное дэспэрацыі[151]. Ад яго даведаліся, што падобная аналёгія, як з Дывізыяй, паступіла і з СБМ: беларускі ўдзел зусім выключаны, моладзь падпарадкавана поўнасьцю немцам. Ганькі прасіў: *“Памажэце ратаваць, ратуйце моладзь!”*

Які ратунак і ад каго? Не змаглі ані я, ані ген. Езавітаў ня толькі памагчы, а навет і пацехі даць. Сп. Ганько маналёгам працягваў: *“Я ведаю, я рабіў памылкі, але дзе былі іншыя? Ратуйце моладзь, за свае памылкі я іду апраўдацца да Родзькі[152]”*.

М. Ганько далучыўся да Родзькі, не адгадаем, ці жыве[153], але з гэтай сцэны ён паказаў, што ў лепшых абставінах мог-бы быць добрым правадыром, меў маральнасьць і пачуцьцё адказнасьці. Ранейшы недавер, які я меў да яго — разьвеяўся і ад таго часу, дзе толькі змог, прадстаўляю Міхася Ганька, як вартаснага юнака. Шкада, што доля не дала яму змогі праявіцца ў лепшым сьвятле”.

*У лісьце ад 10.5.1965 г. паміж іншага д-р Ст. Грынкевіч напісаў наступнае:*

“Усяго, як мяне інфармавалі, было ў Нямеччыне 15–20 тысяч юначак і юнакоў СБМ. Найбольшае згрупаваньне 6–7 тысяч было ў лягерох Дэссаў і Крымічаў, у Саксоніі. Гэтыя лягеры захапілі амэрыканцы. Амэрыканская тактыка ведамая: пакінулі лягеры, забясьпечыўшы іх харчамі. Але Саксонію амэрыканцы мелі пакінуць, дзетварня гэта ведала. Больш сьведамы элемэнт заахвочваў ісьці за амэрыканцамі. Зьнюхалі гэта бальшавікі і пад відам вайскова-палонных падкінулі энкавудзістых, ды гэтыя аргуманты — *“ведь вы былі прінуждены”* — гэтую моладзь псыхалягічна раззброілі і яна пасыўна чакала.

Як толькі амэрыканцаў ня стала, *“вайсковапалонныя”* адразу сябе праявілі: некалькі асобаў, што былі нацыянальна больш сьведамыя, адразу павесілі ў лягеры, а рэшту, стэрарызаваную, замкнулі ў таваровых вагонах да *“на родіну”*. Адно пару змагло схавацца паміж немцамі. Гэтую жудасную гісторыю я даведаўся ад лекара-немца Кобіс, які з Крымічаў эвакуаваўся ў горад Гоф[154].

Потым, як рэха, даведаўся ў 1946 годзе, што ў Беластоку быў *“паказовы”* суд над сябрамі СБМ — Станюком[155] і Мацюшонкам. Іх павесілі. Як, пішучы *“гісторыю СБМ”*, не падаць гэтага эпілёгу?”.

---

[151] **Дэспэрацыя** (ад пол. *desperacja*) — роспач, адчай.

[152] Маецца на ўвазе Ўсевалад Родзька.

[153] Зьвесткі пра Міхася Ганько губляюцца ў траўні 1945 г. Ёсьць розныя вэрсіі ягонага лёсу: ад гібелі ў Празе ў траўні 1945 г. да вяртаньня ў Беларусь і ўдзелу ў антысавецкай партызанцы.

[154] **Гоф** (ням. *Hof*) — горад у паўднёва-ўсходняй Нямеччыне, зямля Баварыя.

[155] **Станюк** — дзеяч СБМ, павешаны ў 1946 г. савецкімі спэцслужбамі.

## 1945—1946 гг.

# АМЭРЫКАНСКАЯ АКУПАЦЫЙНАЯ ЗОНА НЯМЕЧЧЫНЫ

### Згуртаваньне Беларускіх Скаўтаў на Чужыне

Пасьля капітуляцыі Нямеччыны[156] ў арганізацыі культурна-нацыянальнага і грамадзкага жыцьця, апрача старэйшага грамадзтва, узяла удзел і нашая моладзь. Яна, ня гледзячы на розныя цяжкасьці і перашкоды, зь якімі заўсёды прыходзілася спатыкацца, праявіла нямала юнацкага запалу і добрай волі ў кірунку гуртаваньня расьцярушаных крывічоў[157] і арганізаваньня сярод іх культурна-грамадзкае працы.

Грамадзкія імкненьні нашае моладзі перадусім-жа вылiліся ў арганізацыі Крывіцкага скаўтынгу. Гэтая міжнародная арганізацыя моладзі, якой зьяўляецца скаўтынг, ставіць перад сабою прыгожыя мэты й заданьні. Яна стараецца выхоўваць моладзь у духу глыбокай маральнасьці, дысцыпліны, патрыятызму, таварыскай салідарнасьці і безагляднай гатоўнасьці служэньня свайму народу.

Калі перастала існаваць адна з таталітарных сыстэмаў — гітлероўская Нямеччына, то ў розных акупацыйных зонах, дзе толькі вытварыліся большыя ці меншыя згрупаваньні беларусаў, паўсталі дружыны беларускіх скаўтаў.

15 кастрычніка 1945 году заснаваўся Першы Сьцяг беларускіх скаўтаў на чужыне імя Кастуся Каліноўскага ў горадзе Рэгэнсбургу[158]. Ён аказаўся найбольш моцнай скаўцкай адзінкай у Амэрыканскай акупацыйнай зоне Нямеччыны.

Спачатку Зьвяз быў даволі слабай адзінкай. Працаваць было вельмі цяжка, не было падрыхтаваных кіраўнікоў, амаль ніхто ня

---

[156] Акт капітуляцыі Нямецкіх узброеных сілаў быў падпісаны 7 мая 1945 г., а набыў моц на наступны дзень.

[157] У другой палове 1940-х гг. у асяродзьдзі беларускіх уцекачоў у Нямеччыне была папулярная колішняя ідэя Вацлава Ластоўскага, папулярызаваная Янкам Станкевічам, пра замены саманазвы “беларусы” на “крывічы”, а “Беларусь” — на “Крывію”. Таму некаторыя арганізацыі мелі ў назве слова “крывіцкі”.

[158] **Рэгэнсбург** (ням. *Regensburg*) — горад у паўднёва-ўсходняй Нямеччыне, зямля Баварыя. У першыя пасьляваенныя гады ў яго ваколіцах разьмяшчаўся адзін з найбуйнейшых лягераў для перамешчаных асобаў. Тут жа ў чэрвені 1945 г. быў створаны Беларускі нацыянальны камітэт.

ведаў гісторыі паўстаньня скаўтаў, іхніх мэтаў, у той час як іншыя нацыянальнасьці мелі добра падрыхтаваныя кадры. Але моладзі не давалі супакою думкі: чаму-ж гэта тут беларусы павінны быць на апошнім месцы?

Упорыстай працай скаўты імкнуліся заняць належнае месца сярод скаўтаў іншых нацыянальнасьцяў. І моладзь працавала. Атрымалі пакой, які агульнымі сіламі ўпарадкавалі і зрабілі сьвятліцу. Упрыгожылі яе партрэтамі беларускіх пісьменьнікаў і дзеячоў: Янкі Купалы, Якуба Коласа, Францішка Багушэвіча і нацыянальнага героя — Кастуся Каліноўскага, здабылі і патрэбную літаратуру.

Кажны новы дзень прыносіў у працы скаўтаў новыя дасягненьні. Да скаўцкае працы далучылася моладзь і Беларускай гімназіі[159]. Усе працавалі дружна, каб здабыць сабе права насіць тое імя, якое прысвоіў сабе Зьвяз — імя Каліноўцаў. Штодзень у сьвятліцы адбываліся зборкі скаўтаў па дружынах. На зборках чыталіся лекцыі-гутаркі на тэмы выхаваньня, мэты й заданьні скаўтаў і на тэмы актуальныя нацыянальнага характару.

У дзень вялікага нацыянальнага сьвята 25 Сакавіка 1946 г. беларускія скаўты ў Рэгэнсбургу складалі забавязаньне на службу свайму Народу. Яшчэ ад раньня сярод моладзі быў узьняты настрой. Скаўты ўпрыгожылі залю, дзе павінна была адбыцца ўрачыстасьць, дружыновыя правяралі скаўтаў сваіх дружынаў.

Калёнаю зьявіліся на месца прысягі. Зьвяз моладзі перад сьцягам выглядаў, як добра падрыхтаваная адзінка[160].

У спартовай залі пасёлку УНРРА[161], запоўненай нашым грамадзтвам і шматлікімі гасьцямі, быў урачыста адзначаны дзень нашага

---

[159] Маецца на ўвазе **Беларуская гімназія імя Янкі Купалы** — 8-клясная навучальная ўстанова, якая існавала ў 1945—1950 гг. у Нямеччыне згодна зь нямецкай сыстэмай адукацыі. Заснавана ў беларускім лягеры ў Рэгенсбургу. У 1946 г. пераехала ў Міхельсдорф: пераезд быў зьвязаны зь перавозам беларускага лягеру. У 1948 г. адбыўся палітычны падзел сярод беларусаў у лягеры Міхельсдорф, і дырэктар гімназіі Аляксандр Орса разам з 8 настаўнікамі пераехаў у лягер Віндышбэргердорф. Там заснавалі школу, якую таксама называлі імя Янкі Купалы. У Міхельсдорфе працягнула працу ранейшая школа, якую ўзначаліў а. Мікалай Лапіцкі. У 1949 г. гімназія зь Віндышбэргэрдорфу выехала ў лягер Розэнгайм, дзе часова пасаду дырэктара замест Аляксандра Орсы заняў Мечыслаў Рагажэцкі, а апошні год працы яе ўзначальваў Алесь Вініцкі. У 1950 г. абедзьве гімназіі спынілі існаваньне. (Падрабязней гл.: Максімюк, Я. Беларуская Гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне (1945—1950). Нью-Ёрк — Беласток, 1994.)

[160] Ведамкі. № 4. 07.07.1946. — ***А. В.***

[161] **УНРРА** (анг. *United Nations Relief and Rehabilitation Administration*) —

нацыянальнага сьвята 25 Сакавіка, прывітаў у цёплых словах скаўтаў і ўрачыста перадаў ім сьцяг.

Пасьля скаўтаў віталі прадстаўнікі ўкраінскай, расейскай, летувіскай і латыскай скаўцкіх арганізацыяў. Прадстаўнік украінскіх скаўтаў закончыў сваю прамову словамі: "Ад душы жадаю вам, дарагія сябры, пранесьці гэты сьцяг з гонарам і славай".

У спартовай залі селішча з удзелам групы беларускіх артыстых адбыўся вечар мастацкай самадзейнасьці скаўтаў. Сіламі скаўтаў была пастаўлена п'еса Натальлі Арсеньневай[162] "Чароўнае зельле", выканана некалькі дэкламацыяў, скокаў і песьняў. Вечар прайшоў весела і пакінуў добрае ўражаньне"[163]. Так закончыўся дзень, які глыбока і надоўга застанецца ў памяці кожнага скаўта.

Рэгэнсбургскі Скаўцкі Сьцяг меў свае аддзелы ў Аўгсбургу[164], Фюсэне[165], Тырсгайме[166] і Эльвангэне[167]. Ён стаўся адной з наймацнейшых

---

Адміністрацыя Аб'яднаных Нацый для дапамогі й аднаўленьня — міжнародная арганізацыя, створаная ў лістападзе 1943 г. для дапамогі пацярпелым у Другой сусьветнай вайне краінам. УНРРА апекавалася таксама ўцекачамі й перамешчанымі асобамі ў Нямеччыне й Аўстрыі. У 1947 г. спыніла працу, замененая Міжнароднай арганізацыяй па справах уцекачоў *IRO*.

162 **Натальля Арсеньнева** (1903—1997), паэтка, грамадзкая дзяячка. Нарадзілася ў расейскай дваранскай сям'і. Ад 1905 г., за выняткам 1915—1919 гг., жыла ў Вільні. Закончыла Віленскую беларускую гімназію. У 1922 г. узяла шлюб з вайсковым дзеячам Францам Кушалем і выехала на этнічна польскую тэрыторыю. У 1940—1941 гг. разам з сынамі Яраславам і Ўладзімерам знаходзілася ў высылцы на поўначы Казахстана. У траўні 1941 г. атрымала дазвол вярнуцца ў Беларусь. Працавала ў "Беларускай газэце" (1942—1944), перакладала лібрэта для Менскага гарадзкога тэатру. Ад лета 1944 г. на эміграцыі. Спачатку была ў Нямеччыне, дзе ўдзельнічала ў беларускім культурным жыцьці ў лягерах *DP*, выкладала ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. У 1950 г. пераехала ў ЗША. У 1952—1954 гг. рэдагавала газэту "Беларус", потым працавала ў нью-ёркскім офісе Беларускай рэдакцыі Радыё "Свабода". Была сябрам Галоўнай управы БАЗА, Управы БІНіМу. У 1967 г. пасьля сьмерці нявесткі, Натальлі Куліковіч-Кушаль, разам з мужам пераехала да сына Ўладзімера ў Рочэстар (штат Нью-Ёрк).

163 Ведамкі. № 4. 07.07.1946. — ***А. В.***

164 **Аўгсбург** (ням. *Augsburg*) — горад у паўднёвай Нямеччыне, зямля Баварыя, сталіца Швабіі.

165 **Фюсэн** (ням. *Füssen*) — горад на поўдні Нямеччыны, зямля Баварыя.

166 **Тырсгайм** (ням. *Thiersheim*) — абшчына на паўднёва-ўсходзе Нямеччыны, зямля Баварыя.

167 **Эльвангэн** (ням. *Ellwangen*) — горад на поўдні Нямеччыны, зямля Бадэн-Вюртэмбэрг.

адзінак у Амэрыканскай акупацыйнай зоне Нямеччыны.

Такім чынам на міжнародных зьлётах скаўтаў зьявіліся і беларускія скаўты.

2 чэрвеня 1946 г. у Рэгэнсбургу адбылася гульня-марш з перашкодамі старэйшых скаўтаў, зарганізаваная Міжнароднай Скаўцкай Арганізацыяй[168]. Першае і другое месцы ўзялі дружыны беларускіх скаўтаў, выпярэдзіўшы скаўтаў усіх іншых нацыянальнасьцяў (украінцаў, палякаў, расейцаў і латышоў).[169] Із 50-ці магчымых пунктаў адна дружына здабыла 46, а другая 44 пункты[170].

6—8 ліпеня кіраўнікі і старэйшыя скаўты і скаўткі Рэгэнсбургскага скаўцкага Сьцягу вялікай колькасьцю прынялі ўдзел у Першым Зьлёце беларускіх скаўтаў усяе заходне Нямеччыны ў Ватэнштэце. Яны актыўна ўдзельнічалі ў нарадах Зьлёту, а пазьней сваімі скаўцкімі паказамі ў вогнішчы[171].

27 ліпеня 1946 г. Беларускі лягер з Рэгэнсбургу быў перавезены ў вёску Міхэльсдорф[172] каля гораду Каму[173]. Разам з лягерам у Міхэльсдорф пераехаў і Першы Сьцяг Беларускіх Скаўтаў імя Кастуся Каліноўскага. І на новым месцы праводзілі заняткі скаўты і скаўткі паводле апрацаванага пляну. Апрача гэтага, у жыцьці скаўтаў адбываліся розныя іншыя падзеі, якія неабходна зацеміць.

13 кастычніка 1946 г. адбылося спартовае спаборніцтва скаўтаў Рэгэнсбургскае акругі, у якім дружына “Сокал” з Першага Сьцягу ў Міхэльсдорфе заняла першае месца ў стаўляньні шалаша, 2-е месца ў пілаваньні дроў і 3-е ў камбінаваным скаўцкім бегу[174].

---

[168] Сёньня **Сусьветная арганізацыя скаўцкага руху** (анг. *World Organization of the Scout Movement*).

[169] Вітаўт Кіпель згадвае падобнае мерапрыемства пад іншай датай і іншымі вынікамі. *“У траўні 1946 г. у Рэгенсбурзе міжнародная гульня-джэмбары (jamboree). Удзельнічалі каля 450 скаўтаў. Дружына “Рысь” — кіраваў я, В. Кіпель, — узяла першае месца, другая беларуская заняла трэцяе месца. Гэта быў фурор!”* (Запісы БІНіМ. № 34. Нью-Ёрк — Менск, 2011. С. 182)

[170] Ведамкі. № 4. 07.07.1946. — ***А. В.***

[171] Ведамкі. № 4. 07.07.1946. — ***А. В.***

[172] **Міхельсдорф** (ням. *Michelsdorf*) — вёска каля г. Кам, зямля Баварыя. Знаходзілася каля вайсковага лётнішча з баракамі, у якія й пасялілі беларусаў у 1946 г. Разам зь імі з Рэгэнсбургу былі перавезеныя дзіцячы садок, пачатковая школа, гімназія. Гэта быў адзін з найбуйнейшых беларускіх лягераў у Нямеччыне. У чэрвені 1949 г. жыхароў лягеру перавезьлі ў горад Бакнанг.

[173] **Кам** (ням. *Cham*) — гораду паўднёва-ўсходняй Нямеччыне, зямля Баварыя.

[174] Скаўцкая Інфармацыйная Служба (далей — СІС). № 2. Сьнежань 1946. — ***А. В.***

## Дайце мне спаць...

*(уражаньні са скаўцкай экскурсыі)*

*Я ўкручваюся з галавой у нейкую палатку, нацягваю шапку на вушы, абстаўляю каўнер і... прабую заснуць. Каб хоць пяць-дзесяць мінут падрамаць! Я пачынаю глыбей дыхаць і вось, вось, здаецца, засну... Але камары, няма ведама кудой, улазяць пад маё накрыцьцё і нялітасьціва кусаюць усюды, дзе толькі можна. Заснуць ніяк нельга. Урэшце я здагадваюся накідаць на сябе цэлую кучу зялёных галінак. Пад гэтым зялёным курганом камароў, сапраўды, не чуваць. Цяпер мне добра. Я плыву ў нейкай салодкай дрымоце.... Галасы становяцца далёкімі, сьвежае лісьцё абдае прыемна лясной сырасьцю...*

*Ціхі, летні расьсьвет. Лягер яшчэ сьпіць. Толькі на пляцы зьбіраюцца з крыкам скаўты і скаўткі. Пасьля кароткіх збораў — звонкая каманда і песьня ўдараецца ў цішу раніцы. На шашы роўна падае рытм нашых шагоў. Усё далей і далей лягер, меншае наш сьцяг на высокай машце. Вецер разьвявае павольна, калыша, і ён плыве, як беласьнежна-чырвоны парус, як белае акрываўленае крыло. І здалёк здаецца, быццам нехта махае бел-чырвона-белай хусткай, далёка... на Бацькаўшчыну... На польнай дарозе нас спатыкаюць разьвесістыя яблыні, і ўсё цямней набліжаецца да нас лес. Мы рассыпаемся між дрэў і ідзем па мяккім мурожніку з лістоў і шыкуцьця. Лясныя настроі... глыбокая ціша і заманлівыя прасекі, за якімі, здаецца, нешта роднае, блізкае. У гэтай цішы тонуць нашы звонкія галасы, яны здаюцца нявіннымі, яснымі званочкамі, не парушаючы ўрачыстасьці ляснога раньня. Пераскакваем праз пні, зьбіраем грыбы, вырэзваем кіёчкі, адганяем надакучлівых камароў, смяёмся, гутарым. Чым далей, тым усё больш павялічваецца ў кожнага нецярплівае жаданьне загаду на першы прывал. Але ніхто не адважваецца ўголас сказаць аб гэтым. І — нарэшце!*

*З нейкай каляровая насычанасьцю наплываюць абразы... я іду... Шарахціць жвір на шашы пад нагамі і губіцца ў рытме лясных шолахаў. Праз лёгкі дым вогнішча ідзе наш аддзел і зялёныя кашулі мітульжаць у адплываючай зелені дрэў. Так прыемна пасьля надакучлівых камароў. Я плыву...*

*Але нехта тармошыць мяне, не дае мне спаць. Я не зьвяртаю ўвагі і сплю далей.*

*— Дайце мне спаць!..*

*Ды нічога не памагае. Праз атворыны параскіданых галінаў ізноў пралазяць камары. Сон скончаны. Я вылажу з зелені галін, заспаны, незадаволены і злосны.*

*— Бульба гатова!*

*— Бульба гатова!*

*Мяне клічуць сябры, якія клапоцяцца надта, каб я часам не памёр з голаду. Я гатоў аддаць усю сваю порцыю бульбы за адну хвілінку сну. Але ўжо нічога не парадзіш. Бульбу варылі ў каве, бо вады не было. Відэльцы зрабілі з галінак. Выйшла ўсё назьдзіў смачна і добра. І зноў робіцца прыемна і весела. Пасьля бульбы ямо маліны. Гасім вогнішча, і ізноў марш.*

*Палі, як рознакалёрныя саматканы, раскінуліся перад намі. Далёка сінеюць горы, цёмныя фарботкі неба, сплюснутыя контуры. Ідзем скрай дарогі, загортваючы далоняй буйныя каласы. У кашулях у кожнага сінія васількі. Міжвольна зачэплівае іх кожны ў пяцелькі з затоенай тугой па родных палёх. Праходзім праз нямецкія вёскі. Пуста. Пахне сьвежым гноем. Наш задорны сьпеў і роўны крок адбіваецца дробна ў шыбах, зь якіх дзе-нідзе выглядаюць абыякавыя твары. А за вёскай ізноў брыдзём тыральеркай*[175] *пад нясьцерпнай сьпёкай ліпнёвага сонца. Ісьці ўсё цяжэй і цяжэй. Каб дзе кусьцік ці дрэўка. Горы зманліва блізка. Толькі там, у гэтай сіняй далечы, нас чакае цень.*

*Ізноў дым вогнішча. Запах бульбы. Малады сьмех. Утома хутка зьнікае. Ліпень сьмяецца ў далі. З гор ўсё здаецца ў нейкай праэкцыі быццам намаляваны пейзаж. Кожны ўвабірае ў сябе нешта чыстае, сьветлае. Укладаем частушкі, загараем на сонцы, ад якога толькі што шукалі схову, ходзім па лесе. І ў гэтым усім мімалётна, няўпрыцям кранаюць сэрца жывыя ўспаміны аб Беларусі, плешчуцца нейкай салодкай тугой у сэрцы. Заплюшчыш на хвіліну вочы... Здаецца, за вішнямі вёскі цягнецца роднае поле. Хвалі прыбоем бягуць аж у небасхіл. Каб напружыць слых, здаецца, пачуў-бы ў шуме каласоў жніўную песьню, што пяюць жнеі ў полі. Але... перад табой — чужы готык упаўшых недзе ў даліне нямецкіх вёсак, шахматна0я дошка чужых палёў і абыякавыя позіркі нямецкіх баўэраў*[176]*...*

-----------------------------

*Чым бліжэй да лягеру, тым цяжэй ісьці. Але ўтому памяншае радасьць зьбліжэньня да свайго гнязда. Аглядаем круг, які мы прайшлі. Гэта ня мала... Пазнаем ляскі, палянкі, вёскі — ужо добра знаёмыя нам. Ізноў роўны рытм нашых шагоў падае на шашы. Ужо відаць здалёк наш сьцяг. Бліжэй і бліжэй.*

*У лягер ізноў уваходзім з песьняй, бадзёрыя, загарэлыя, загартаваныя. Нас спатыкае вясёлы вечар крыкам дзяцей і прахалодай.*

*Стары Скаўт*[177].

[175] ***Tyralierka*** (пол.) — *вайск.* стралковы ланцуг.

[176] **Баўэр** (ням. *bauer*) — фэрмер.

[177] Шляхам Жыцьця. Ватэнштэт. 8, 23 жніўня 1946 г. — ***А. В.***

## Скаўцкія адзінкі ў беларускіх студэнцкіх асяродках у Амэрыканскай зоне

### *Мюнхэн*[178]

30 верасьня 1946 году пры ўдзеле Галоўнага кіраўніка Беларускіх скаўтаў заснаваўся Зьвяз скаўтаў-студэнтаў. Да студэнцкага Зьвязу належыць 16 беларускіх студэнтаў і студэнтак[179].

9 лістапада 1946 году адбылася ў Мюнхэне зборка студэнтаў-скаўтаў дзеля выбару кіраўніцтва студэнцкага Зьвязу Крывіцкіх скаўтаў. На зборцы былі прачытаны 2 рэфэраты: 1) "Скаўтынг" — гістарычны нарыс, 2) "Характар працы старэйшых скаўтаў. Іх правы і абавязкі". Выбранае кіраўніцтва студэнцкага Зьвязу зараз-жа прыступіла да працы[180].

З прычыны ліквідацыі Ўнраўскага ўнівэрсытэту[181] становішча студэнцкае моладзі сталася вельмі крытычнае. Пасьля доўгіх перагавораў уладаў унівэрсытэту з нямецкімі і амэрыканскімі ўладамі было дазволена з днём 1 сакавіка 1947 году распачаць ізноў выклады з мэтай заканчэньня толькі зімовага сэмэстру і з тым, што 15 красавіка 1947 г. унівэрсытэт мае наагул закончыць сваё існаваньне. Амэрыканскія ўлады дасюль ня могуць заняць выразнага становішча і гэтую справу мае вырашыць Галоўнакамандуючы генэрал Клейн[182]. Такім чынам уся справа павандравала ў Бэрлін, адкуль да гэтага часу няма адказу.

У сувязі з ліквідацыяй унівэрсытэту моладзь на сваю руку старалася дастацца на нямецкія ўнівэрсытэты. Як ведама, нямецкія ўнівэрсытэты перапоўнены і таму многія засталіся па-за магчымасьцю далейшых студыяў. Некалькім нашым студэнтам удалося ўладзіцца ў Мюнхэне, некалькім у Карлсруэ[183] і іншых гарадох, а каля 20 асобам у Марбургу[184],

---

[178] **Мюнхен** (ням. *München*) — горад на поўдні Нямеччыны, сталіца зямлі Баварыя.

[179] СІС. № 1. Кастрычнік 1946. С. 3. — ***А. В.***

[180] СІС. № 2. Сьнежань 1946. С. 3. — ***А. В.***

[181] **Унівэрсытэт ЮНРРА** — навучальная ўстанова для перамешчаных асобаў, якая размяшчалася ў Мюнхэне й працавала ў 1945—1947 гг.

[182] Магчыма, маецца на ўвазе **Юліюс Клейн** (анг. *Julius Klein*, 1901—1984), амэрыканскі гэнэрал, герой Другой сусьветнай вайны, журналіст, шпіён.

[183] **Карслруэ** (ням. *Karlsruhe*) — горад у паўднёва-заходняй Нямеччыне, у зямлі Бадэн-Вюртэмбэрг.

[184] **Марбург** (ням. *Marburg an der Lahn*) — горад у цэнтральнай Нямеччыне, у зямлі Гесэн.

дзякуючы выдатным стараньням некаторых студэнтаў з Марбургу. Вялікая частка моладзі надалей знаходзіцца ў нявыясьненым палажэньні і чакае на канчатковае вырашэньне справы з Унраўскім унівэрсытэтам.

У выніку гэтых падзеяў і Студэнцкі скаўцкі зьвяз апынуўся ў вельмі цяжкім становішчы. Многія скаўткі і скаўты разьехаліся ў іншыя ўнівэрсітэцкія асяродкі, іншыя проста да знаёмых у розныя лягеры. Міма ўсяго, удалося наладзіць зборку з рэфэратам у чэсьць Кастуся Каліноўскага ды супольна з студэнтамі — не-скаўтамі прыняць дзейны ўдзел у сьвяткаваньні 25 Сакавіка. Пры гэтым зборкі і ўрачыстасьці даводзілася праводзіць у ДП[185] лягеры ў Шляйсгайме[186], каля Мюнхэну, з прычыны недахопу адпаведнага памешканьня ў самым горадзе[187].

З дзейнасьці студэнцкай групы старэйшых скаўтаў у Мюнхэне:

22 чэрвеня 1947 г. адбылася зборка для абгаварэньня пляну працы.

29 чэрвеня1947 г. — зборка ў лесе. Тэма: “Скаўцкі рух і ягоная гісторыя”. Прынцыпы і ідэалёгія скаўтынгу. Падзел працы. Нацыянальныя песьні.

10 ліпеня 1947 г. падрыхтоўка да экскурсіі на возера Штарнбэрг.

13 ліпеня 1947 г. — [абмеркаваньне] “Жыцьцё скаўта — мэта і мэтад”. Песьні.

3 жніўня 1947 г. — зборка ў лесе каля Мюнхэну. Бягучыя справы. Піянерка, ейны сэнс і значэньне. Вузлы рознага віду. Практычныя заняткі.

У сувязі з рознымі перашкодамі ў нармальнай працы, галоўным чынам з прычыны выезду многіх скаўтаў-студэнтаў з Мюнхэну ў іншыя ўнівэрсытэцкія гарады, скаўцкая праца гэтай групы была на некаторы час спынена. Цяпер (люты 1948) змантаваліся дзьве групы студэнтаў-скаўтаў, а менавіта ў Мюнхэне і Марбургу.

У 2-м Зьезьдзе ЗБСЧ у Остэргофэне[188] ад 8 да 10 жніўня 1947 г. Ад студэнцкай скаўцкай арганізацыі ў Мюнхэне прынялі ўдзел скаўт-

---

[185] **ДП** (ад анг. *displaced person*) — перамешчаная асоба. ДП-лягер — месца, дзе ўтрымліваліся перамешчаныя асобы.

[186] **Шляйсгайм** (ням. *Schleißheim*) — ДП-лягер у Баварыі (недалёка ад Мюнхену), дзе ўтрымліваліся расейцы (большасьць), украінцы й беларусы. Працавалі беларускія садок і школа. У 1949 г. беларусаў адсюль перавезьлі ў лягер Розэнгайм.

[187] Шляхам Жыцьця. Ватэнштэт. № 1. 1946. — ***А. В.***

[188] **Остэргофэн** (ням. *Osterhofen*) — горад на поўдні Нямеччыны, у зямлі Баварыя, дзе месьціўся ДП-лягер беларусаў. Лягер быў заснаваны ў 1946 г., а ў чэрвені 1949 г. насельнікаў перавезьлі ў Розэнгайм.

майстар і кіраўнік зьвязу, 3 прадстаўнікі ад студэнцкай моладзі і скаўцкі праваднік.

Прадстаўнікі ад студэнцкай скаўцкай арганізацыі ў Мюнхэне прымалі ўдзел і ў 3-й Канфэрэнцыі ЗБСЧ у Шляйсгайме 9—10 сакавіка 1949 г.

## АНГЕЛЬСКАЯ АКУПАЦЫЙНАЯ ЗОНА НЯМЕЧЧЫНЫ

### Штандар "ГАРЦ"

### *Ватэнштэт*

маль адначасна пачалася арганізацыя беларускіх скаўтаў і ў Ангельскай зоне Нямеччыны. Там каля гораду Браўншвайгу[189] пры вёсцы Ватэнштэт быў заарганізаваны Беларускі ДП-лягер АБЦ. У лягеры працавала Беларуская гімназія[190] імя Максіма Багдановіча.

З ініцыятывы дырэктара сп. Вацлава Пануцэвіча[191] 10 лістапада 1945 году адбыўся сход вучняў гімназіі і іншай лягернай моладзі, на якім і заснавалася хлапцоўская скаўцкая арганізацыя і пры ёй група наймалодшых і сярэдніх дзяўчатак — пазьнейшых Пралесак і Юначак.

Беспасярэдную выхаваўчую працу ў дружынах пераняла кіраўнічка — скаўтка В. Жукоўская[192], якая арганізацыйна падлягала

---

[189] **Браўншвайг** (ням. *Braunschweig*) — горад у паўночнай Нямеччыне, у зямлі Ніжняя Саксонія.

[190] **Беларуская гімназія імя Максіма Багдановіча** была арганізаваная ў ДП-лягеры ў Ватэнштэце ў 1946 г. Працавала да 1950 г., калі быў ліквідаваны лягер.

[191] **Вацлаў Пануцэвіч** (да эміграцыі **Папуцэвіч**, псэўданім **Мікола Волацiч**, 1910 — 1991), грамадзкі дзеяч, гісторык, пэдагог. У 1936—1939 гг. вучыўся на юрыдычным факультэце Віленскага ўнівэрсытэту. Уваходзіў у склад Беларускага інстытуту навукі й гаспадаркі, быў сябрам Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі. У 1936 г. увайшоў у склад ініцыятыўнай групы па стварэньні Беларускага нацыянальнага фронту. У 1939—1941 гг. настаўнічаў у Гародні. Падчас нямецкай акупацыі працаваў на розных адміністрацыйных пасадах у Баранавічах. Ад лета 1944 г. на эміграцыі. У 1945 г. узначаліў Беларускую гімназію імя М. Багдановіча ў Ватэнштэце. Ад 1946 г. кіраваў Згуртаваньнем крывіцкіх скаўтаў на чужыне. У 1949 г. выехаў у ЗША. Жыў у Чыкага. Актывіст мясцовага аддзелу БАЗА. Займаўся дасьледчыцкай дзейнасьцю (вывучаў рэлігійную гісторыю Беларусі), браў актыўны ўдзел у арганізацыі грэка-каталіцкай парафіі Сьв. Хрыста Збаўцы ў Чыкага. Рэдактар часапісаў "Беларуская царква", "Літва".

[192] **Валянціна Жукоўская** (у шлюбе **Пашкевіч**, 1916 — 2004), грамадзкая

агульнаму кіраўніцтву.

Толькі пасьля чатырох месяцаў скаўцкая арганізацыя пашырылася і на старэйшых дзяўчат. На зборцы 24 студзеня 1946 г. заснавалася дружына старэйшых скаўтак, якая была названа "Сёстры Вогнішча". Дружына спачатку складалася з 8-мі дзяўчат. На рэгулярных зборках у працы й гульнях выхоўваліся нашы дзяўчаты ў агульналюдзкіх ідэалах чэснай і карыснай для сям'і і грамадства жанчыны, ды побач зь імі і ў нашых нацыянальных ідэалах — добрай беларускі.

24 сакавіка, у дзень перад сьвятам 25 Сакавіка, у Доме скаўта адбылося ўрачыстае пасьвячэньне Скаўцкага сьцягу і прыняцьце прысягі, якую злажылі побач хлапцоў каля 30-ці старэйшых і сярэдніх дзяўчат. Уручыў пасьвечаны сьцяг скаўтам камандант лягеру, які заклікаў скаўтаў моцна трымаць яго ў сваіх руках і быць вернымі скаўцкаму праву. На ўрачыстасьці прысягі і сяброўскім вечары былі прысутныя летувіскія і латыскія скаўты, кіраўнікі якіх таксама шчыра віталі беарускіх скаўтаў з гэтым важным здарэньнем у скаўцкім жыцьці.

Увечары адбылася мастацкая самадзейнасьць скаўтаў. Была пастаўлена п'еска Янкі Купалы "На папасе". Пасьля п'есы адбылася канцэртная частка ў выкананьні скаўтаў.

На 1 красавіка 1946 г. скаўты зладзілі вечар гумару й сьмеху для ўсяго лягеру. У вялікай надзвычай цікавай праграме скаўты выказалі свой размах і ўмецтва. Публіка сьмяялася, як кажуць, да ўпаду. Хор пад кіраўніцтвам сп. Міхайлы, джаз на бляшаных скрынках, розныя скэчы, анэкдоты і інш.

Пад канец канцэрту быў абвешчаны перапынак. Публіка чакала, што пасьля перапынку будзе наступная частка канцэрту. Пасьля доўгага чаканьня, урэшце, адчынілася заслона і на сцэне ўсе угледзелі вялікі надпіс "Прыма Апрыліс"[193].

Сёлетні Вялікдзень у беларускім лягеры Ватэнштэт можна сьмела сказаць, быў для нас першым Вялікаднем на чужыне, які хаця ў маленькай частцы нагадваў гэтае вялікае радаснае сьвята вясны ў на-

дзяячка, сястра Раісы Жук-Грышкевіч. Закончыла польскую гімназію імя Адама Міцкевіча ў Пружанах (1935) і фізыка-матэматычны факультэт Віленскага ўнівэрсытэту. Брала ўдзел у Беларускім студэнцкім саюзе. Падчас Другой сусьветнай вайны жыла ў Бэрліне, працавала ў перакладчыцкім бюро "Вінэта". У 1949 г. пераехала ў Канаду. Кіравала беларускай суботняй школкай пры царкве Сьв. Эўфрасіньні Полацкай. Выдала "Першую чытанку пасьля лемантара для беларускіх дапаўняльных школаў" (Кліўлэнд, 1968), ангельскамоўны падручнік "Беларуская мова — Fundamental Byelorussia" (1974, 1978). Падрыхтавала "Ангельска-беларускі слоўнік" (50 тыс. словаў, Менск, 2006).

[193] Шляхам Жыцьця. Ватэнштэт. № 1. 1946. — ***А. В.***

шых родных гарадох і сёлах. Ужо багаслужбы ў дні Вялікага тыдня з іхнімі багатымі і прыгожымі абрадамі і традыцыямі ўскалыхнулі сэрца радасьцю, а адначасна зашчымілі яго болем. Радасьцю ўспамінаў мінулага, няраз аж з дзіцячых гадоў, калі мы былі там, разам з нашымі роднымі і блізкімі, і болем сьведамасьці, што сяньня ўсё гэта далёка, страчана для нас, калі можа і не назаўсёды, дык у дадзены мамэнт.

У ноч Уваскрашэньня а 12-й гадзіне, як калісь у кожнай царкве на Беларусі, так і ў нашай лягернай цэркаўцы раздалося “Хрыстос уваскрос”, і гэтым уліваючы ў збалелыя сэрцы выгнанцаў надзею і веру, што праўдзе ніколі ня ўмерці, што як уваскрэсла Праўда Хрыстова, так уваскрэсьне наша Беларуская праўда...

Пасьля ўсяночнае Богаслужбы старэйшыя беларускія скаўты і “Сёстры Вогнішча” супольна разгавеліся за небагата, але прыгожа накрытым сталом, які перад разговінамі быў пасьвечаны лягерным сьвятаром. Сьнеданьне прайшло ў мілай сяброўскай атмасфэры, а патрыятычныя пачуцьці моладзі выяўляліся ў бадзёрых песьнях і кароткіх шматлікіх прамовах.

На першы дзень сьвятаў скаўты зарганізавалі лятарэю, якая карысталася ў лягеры вялікім посьпехам. На другі дзень сьвятаў нашыя скаўты прынялі ўдзел у супольна ладжаным з летувіскімі і латыскімі скаўтамі сьвяце Міжнароднага дня скаўта. Сьвяткаваньне складалася з параду, мастацкай самадзейнасьці і закончана было вечарам пры супольным вогнішчы.

23 красавіка, калі фактычна прыпадаў дзень сьв. Юрага[194], абраны Міжнародным днём скаўта, сіламі нашых скаўтаў быў наладжаны даклад аб гэтым Дню, а пасьля пастаноўка “Пінская Шляхта” Д. Марцінкевіча[195].

20-га травеня 1946 г. адбылося ўрачыстае адзначэньне малодшых скаўтаў першай зоркай. На ўрачыстасьці быў прысутны ўвесь Зьвяз скаўтаў. З выстраеных пад лінію радоў Зьвязу выступіла 18 закліканых для адзначэньня маладых скаўтаў. Да іх прамовіў кіраўнік скаўтаў і камандант лягеру. Пасьля гэтага кожнаму скаўту была начэплена зялёная зорачка.

Зьвяз дэфіляваў перад кіраўніцтвам, камандантам лягеру, прадстаўнікамі УНРРА-ы і жыхарамі лягеру, якія з радасьцю глядзелі на нашую маладую зьмену.

Было распалена вогнішча. Скаўты пелі песьні, скакалі нацыянальныя танцы. Вечар закончыўся спартовым спаборніцтвам[196].

---

[194] **Сьвяты Юры** — хрысьціянскі сьвяты, апякун сьледапытаў і скаўтаў.

[195] Шляхам Жыцьця. Ватэнштэт. № 3. 1946. — ***А. В.***

[196] Скаўт. № 1 (7). Студзень 1947. — ***А. В.***

## *Жаночы сьцяг*

У канцы травеня 1946 г. дзявоцкая група пераарганізавалася ў самастойны Жаночы сьцяг з сваім асобным кіраўніцтвам і са сьцяжной на чале.

Нягледзячы на гэта, не спынілася поўнае і годнае супрацоўніцтва з хлапцоўскім сьцягам. Яно праяўлялася асабліва ў супольна наладжваных вогнішчах, спэктаклях, сяброўскіх вечарох і экскурсіях.

У працягу лета абодва сьцягі супольна наладзілі два парадзённыя скаўцкія лягеры ў Госьляры[197] сярод гораў Гарцу[198] і адзін даўжэйшы марш у ваколіцы Ватэнштэту.

## *Першы Зьлёт беларускіх скаўтаў*

У днях 6—8 ліпеня 1946 году адбыўся ў Ватэнштэце Першы Зьлёт дэлегатаў ад усіх скаўцкіх адзінак з Ангельскае, Амэрыканскае і Францускае акупацыйных зонаў Нямеччыны. На Зьлёт побач вялікай колькасьці скаўцкай моладзі, прыбыла шмат выдатных прадстаўнікоў старэйшага грамадзтва.

Зьлёт быў ведзены выбраным Прэзыдыюмам у наступным складзе:

Старшыня —сьцяжная В. Жукоўская (Ангельская зона).
Заступнік — сьцяжны В. Войтанка[199] (Францускае зона).
Сакратары: грамадовы М. Сенька[200] (Ангельская зона).

---

[197] **Госьляр** (ням. *Goslar*) — горад у Нямеччыне, у зямлі Ніжняя Саксонія. Улетку 1945 г. побач з горадам быў створаны ДП-лягер, дзе працавалі беларуская пачатковая школа, скаўцкая дружына. Лягер зачынілі ў 1947 г.

[198] **Гарц** (ням. *Harz*) — горны масіў у Нямеччыне.

[199] **Віктар Войтанка** (на эміграцыі **Васілеўскі**, 1912—1972), грамадзкі і рэлігійны дзеяч, лекар, сын Сьцяпана Войтанкі. Закончыў мэдыцынскі факультэт Віленскага ўнівэрсытэту. Быў сябрам Беларускага студэнцкага саюзу. Падчас нямецкай акупацыі быў бурмістрам Баранавічаў. Удзельнік Беларускага Царкоўнага Сабору. Ад 1943 г. акруговы лекар у Слоніме, у 1944 г. доктар-інспэктар Беларускай Краёвай Абароны. Ад лета 1944 г. на эміграцыі. У 1945—1949 гг. жыў у паўднёва-заходняй Нямеччыне (Бадэн-Вюртэмбэрг, француская зона акупацыі). Удзельнік зьезду беларускіх сьвятароў і грамадзкіх дзеячаў — прыхільнікаў Рады БНР (5 чэрвеня 1948), на якім была адноўлена БАПЦ. Ад 1950 г. жыў у штаце Нью-Джэрзі, ЗША. Пасьля сьмерці бацькі ў 1968 г. вырашыў стаць сьвятаром і быў высьвячаны 15 чэрвеня 1969 г. Служыў у парафіі царквы Жыровіцкай Божай Маці ў Гайлэнд-Парку (Нью-Джэрзі), заснаванай ягоным бацькам. Займаўся перакладам літургічных тэкстаў на беларускую мову.

[200] **Міхась Сенька** (1922—2016), грамадзкі дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі закончыў Баранавіцкую мэдычную школу, працаваў кіраўніком

сьцяжны Д. Сямёнаў[201] (Амэрыканская зона).

На гэтым Зьлёце была пакліканая да жыцьця адзіная Беларуская скаўцкая арганізацыя пад назовам **“Згуртаванне Крывіцкіх Скаўтаў на Чужыне”**, у скарочаньні **ЗКСЧ**. З мэтай ахапленьня ўсяго беларускага скаўцкага руху па-за межамі Бацькаўшчыны, выхаваньня моладзі ў духу скаўцкай ідэалёгіі і глыбокага патрыятызму, праз вывучэньне нашай слаўнай мінуўшчыны, нашых традыцыяў, звычаяў, нацыянальнай героікі й культуры і да навязаньня зносін з міжнародным скаўтынгам.

Пасьля былі прачытаныя тры рэфэраты на тэмы:

1. “Мэтады і кірунак скаўцкага ўзгадаваньня”.

2. “Арганізацыя крывіцкіх скаўтаў” і

3. “Скаўцкія знакі, гімн і прывітаньне”.

Пасьля дыскусыі над імі было вынесена цэлы рад пастановаў адносна арганізацыйнай структуры, кірункаў выхаваньня і формаў скаўцкага жыцьця, выдадзеных пазьней Галоўнай кватэрай асобнай брашурай “Пастановы Першага Зьлёту Крывіцкіх Скаўтаў”[202].

Дзеля выкананьня прынятых заданьняў было пакліканае Галоўнае кіраўніцтва ЗКСЧ, з Галоўнай кватэрай ў Ватэнштэце, у склад якога ўвайшлі:

Вацлаў Пануцэвіч — Галоўны кіраўнік (Шэф скаўтаў).

Валентына Жукоўская — Галоўная кіраўнічка скаўтак.

Сасукевіч[203] — заступнік Галоўнага кіраўніка.

---

аптэкі ў Стоўпцах. Ад лета 1944 г. на эміграцыі. Па сканчэньні вайны знаходзіўся ў беларускім лягеры ў Ватэнштэце, дзе закончыў гімназію, браў актыўны ўдзел у скаўтынгу. У 1947—1949 гг. вучыўся ва Ўкраінскім тэхнічна-гаспадарчым інстытуце ў Мюнхене. У 1949 г. пераехаў у ЗША. Пасяліўся ў Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі). Працаваў на заводзе “Форд”. Браў удзел у беларускім грамадзкім жыцьці. У 1950-я гг. узначальваў Аб’яднаньне беларуска-амэрыканскай моладзі. Уваходзіў у царкоўную ўправу беларускага прыходу Сьв. Эўфрасіньні Полацкай. Шматгадовы сакратар управы Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі.

[201] **Дзьмітрый Сямёнаў** (1926—1982), грамадзкі дзеяч. Ягоныя бацькі, Аляксандар і Алёна з Турцэвічаў, былі эканамістамі з вышэйшай асьветаю. Падчас нямецкай акупацыі вучыўся ў фэльчарскай школе і працаваў у Краязнаўчым (Гістарычным) музэі (пад кіраўніцтвам Антона Шукелойца). Ад 1944 г. на эміграцыі. Спачатку ў Нямеччыне, затым у ЗША. Вывучаў паліталёгію ў Ратгерскім унівэрсытэце, штат Нью-Джэрзі, але ж працаваў хімікам. Аўтар “Дзёньніка 1943—1947” (Мінск, 2012).

[202] Пастановы першага зьлёту крывіцкіх скаўтаў. Ватэнштэт: Згуртаваньне Крывіцкіх Скаўтаў, 1946. — 13 с.

[203] **Аляксандар Сасукевіч**, паводле Вітаўта Кіпеля, быў баявым афіцэрам. Паходзіў з Палесься. Быў сярод арганізатараў беларускага скаўтынгу ў

Д. Сямёнаў — рэфэрэнт прапаганды.

Д-р В. Войтанка — рэфэрэнт міжнароднай сувязі.

К. Сіткоўскі[204] — рэфэрэнт гаспадарчы, рэфэраты арганізацыйны і гаспадарчы[205].

Першы Зьлёт беларускіх скаўтаў выслаў прывітальную тэлеграму ў Брытанскую скаўцкую Галоўную кватэру ў Лондане:

“*Беларускія Скаўты за Зьезду ў Ватэнштэце, Брытанская зона Нямеччыны, з найбольшай пашанай шлюць Вам сваё сяброўскае прывітаньне. Мы, Беларускія Скаўты, просім Вас дапамагчы нам ва ўзгадаваньні нашае моладзі на эміграцыі, даючы ў нашую дыспазыцыю кніжкі й часапісы з матар’ялам вышкалянёва-спартовага характару. Мы пэўныя, што нашыя гэткія дачыненьні замацуюць прыязьнь паміж нашым і Вялікабрытыйскім народамі*”.

*Старшыня Зьлёту скаўт Пануцэвіч.*

*Імпэр’яльная Галоўная*
*Кватэра Згуртаваньня Скаўтаў*

*Старшыні Зьлёту Беларускіх Скаўтаў*
*Ватэнштэт, Нямеччына*

*Я дзякую вам за ветлівыя прывітаньні ад Беларускіх Скаўтаў у Ватэнштэт і наўзаем пасылаю Вам найсардчнейшыя нашыя. Я меў прыемнасьць у іншай пачцы паслаць Вам крыху выбранай скаўцкай літаратуры, якая, я спадзяюся, можа быць Вам прыдатнай.*

*З найлепшымі пажаданьнямі Ваш Глэд Бінчэм,*
*Інтэрнацыянальны Комішынэр.*

...На прывітаньне гасьцей была пастаўленая п’еса С. Залужнага[206] “У купальскую ноч”.

На разьвітаньне пасьля заканчэньня працы Зьлёту на лягерным пляцы было ўладжана вогнішча, на якім выступалі паасобныя скаўцкія групы з сваёй мастацкай праграмай. Першы раз выступіла Жаноцкая гімнастычная дружына Ватэнштэцкіх скаўтак, паказваючы вялікія асягненьні свае працы.

---

Нямеччыне, але нядоўга. Выехаў у Бэльгію, а пазьней, магчыма, у Канаду.

[204] **Кастусь Сіткоўскі** (1923—1994), грамадзкі дзеяч. Настаўнік паводле адукацыі. Ад 1950 г. жыў у Аўстраліі. Адзін з стваральнікаў, доўгачасовы сябра ўправы, а ў 1954–1955 гг. і старшыня Беларускага аб’еднаньня ў Новай Паўднёвай Валіі. Радны БНР. Удзельнік Беларускага культурна-грамадзскага клюбу ў Сыднэі, дзе доўгі час выконваў абавязкі дырэктара.

[205] Шляхам Жыцьця. Ватэнштэт. № 8. 1948. — ***А. В.***

[206] **Сьвятаслаў Залужны** — псэўданім Хведара Ільляшэвіча.

9 і 10-га ліпеня, прыехаўшыя на зьлёт дэлегаты разьехаліся ўва ўсе бакі Нямеччыны, каб там з новымі сіламі праводзіць сярод Беларускае моладзі вялікую й карысную працу для дабра нашай Бацькаўшчыны – Беларусі[207].

## *Пастановы Першага зьлёту крывіцкіх скаўтаў у Ватэнштэце 6—8 ліпеня 1946 г.*

1. Назоў

Арганізацыя беларускіх (крывіцкіх) скаўтаў на чужыне носіць назоў: *"Згуртаваньне Крывіцкіх Скаўтаў на Чужыне"*, у скарочаньні *"ЗКСЧ"*.

2. Арганізацыя

Згуртаваньне Крывіцкіх Скаўтаў на Чужыне ахапляе так хлапцоў, як і дзяўчат. Аднак хлопцы і дзяўчаты ня твораць адной цэласьці, але самастойныя дзьве групы.

3. Галоўнае кіраўніцтва

Найвышэйшым кіруючым органам ЗКСЧ зьяўляецца Галоўнае кіраўніцтва, якое складаецца з Шэфа крывіцкіх скаўтаў, двух заступнікаў і Галоўнага штабу. Другім заступнікам Шэфа крывіцкіх скаўтаў ёсьць Галоўная кіраўнічка крывіцкіх скаўтак.

Галоўны штаб складаецца з 5 рэфэрэнтаў: арганізацыйны, выхаваўчы, прапаганды, гаспадарчы і міжнароднай сувязі.

Кожны рэфэрат падзяляецца на два сэктары: мужчынскі і жаночы, прычым працу жаночых сэктараў каардынуе Галоўная кіраўнічка крывіцкіх скаўтак. У выпадку недахопу кваліфікаваных жаночых сіл працу жаночага сэктару часова можа выконваць сэктар мужчынскі.

Галоўнае кіраўцтва вызначаецца і адклікаецца Радай скаўтаў Крывіі.

4. Штандар

Беспасрэдна Галоўнаму кіраўніцтву падпарадкаваны *штандары*. Тэрытарыяльна штандар абдымае сваёй дзейнасьцю тэрыторыю адной краіны (зоны).

Кіраўніцтва штандару складаецца з штандаровага, заступніка, штандаровай і штабу. Штаб мае такія самыя рэфэраты, што і штаб Галоўнага кіраўніцтва. Штандаровага, заступніка і штандаровую вызначае Галоўнае кіраўніцтва. Рэфэрэнтаў штабу штандару вызначае Кіраўніцтва штандару.

5. Сьцяг

Ніжэйшай арганізацыйнай адзінкай, беспасрэдна падпарадкаванай штандару, ёсьць *сьцяг*. Сьцяг складаецца з 2—4-х зьвязаў.

---

[207] Шляхам Жыцьця. № 8. 1946. — ***А. В.***

На чале сьцягу стаіць сьцяжны, жаночых сьцягаў — сьцяжная. У склад Кіраўніцтва сьцягу ўваходзіць яшчэ заступнік, сакратар і гаспадарчы кіраўнік.

Сьцяжнога і ягонага заступніка вызначае штандаровы, сакратара і гаспадарчага кіраўніка — сьцяжны (у жаночых сьцягох — сьцяжная).

6. Зьвяз

2—4 дружыны твораць *зьвяз*, які беспасрэдна падпарадкаваны *сьцягу*. На чале зьвязу стаіць зьвязовы. Ён мае ў дапамогу заступніка, сакратара і гаспадарчага кіраўніка, калі зьвяз творыць самастойную адзінку ў данай мясцовасьці. У праціўным выпадку, калі ў данай мясцовасьці існуе сьцяг, то функцыі сакратара і гаспадарчага кіраўніка выконвае кіраўніцтва сьцягу.

Зьвязовага, заступніка, сакратара і гаспадарчага кіраўніка зьвязу вызначае сьцяжны. У зьвязах дзяўчат — сьцяжная.

7. Дружына

Найменшай скаўцкай адзінкай ёсьць *дружына*, якая складаецца з 6—8 чалавек. На чале дружыны стаіць дружыновы (дружыновая), вызначаны сьцяжным (сьцяжной).

8. Падзел на групы

Апрача ўспомненых дзьвюх групаў — хлопцаў і дзяўчат — як хлопцы, так і дзяўчаты дзеляцца на меншыя групы паводле веку:

1) ад 7 да 11 год — Ваўчаняты, Пралескі.

2) ад 11 да 15 год — Юнакі, Юначкі.

3) ад 15 да 20 год — Старэйшыя скаўты, Старэйшыя скаўткі.

4) ад 20 год — Скаўты Крывіі, Скаўткі Крывіі.

9. Зоркі і ступені

У залежнасьці ад індывідуальнай падрыхтоўкі скаўты і скаўткі падзяляюцца

Ваўчаняты і Пралескі на: 1) маючыя першую зорку, 2) маючыя другую зорку і 3) маючыя трэйцюю зорку.

Юнакі і Юначкі на: 4) маючыя чацьвертую зорку, 5) маючыя пятую зорку, 6) маючыя шостую зорку.

Старэйшыя скаўты і скаўткі на: 7) праваднікоў і праваднічак (7 зорак), 8) скаўтаў і скаўтак Пагоні (8 зорак).

Скаўты і скаўткі Крывіі твораць найвышэйшую ступень індывідуальнай падрыхтоўкі і носяць 9 зорак.

Экзамэны на атрыманьне зорак праводзіць Камісія з трох асобаў, з якіх кіруючая асоба павінна мець службовую ступень, ня меншую ад сьцяжнога (сьцяжной).

Камісію вызначае для хлапцоў — штандаровы, для дзяўчат — штандаровая.

10. Службовыя ступені

Службовыя ступені надаюцца скаўтам і скаўткам за арганізацыйныя і кіраўнічыя здольнасьці ў вядзеньні скаўцкіх адзінак. Службовыя ступені ёсьць наступныя:

Для Ваўчанят: ганец — адна зялёная стрэлка, старшы ганец — дзьве такія стрэлкі, дружыновы — адзін зялёны вінкель.

Для Пралесак: малодшая гуртковая — адзін зялёны лісток пралескі, гуртковая — два такія лісткі, старшая гуртковая — тры такія лісткі.

Для Юнакоў і Юначак: паддружыновы (вая) — адна нашыўка на рукаве, дружыновы (вая) — дзьве такія нашыўкі, грамадовы (вая) — адзін вінкель.

Для Старэйшых скаўтаў і скаўтак: паддружыновы(вая) — адна сярэбраная нашыўка на рукаве, дружыновы(вая) — дзьве такія нашыўкі, грамадовы(вая) — адзін сярэбраны вінкель на рукаве, зьвязовы(вая) — два такіх вінкелі, старшы зьвязовы(вая) — адзін сярэбраны вінкель з зоркаю ў сярэдзіне.

Для скаўтаў і скаўтак Крывіі: паддружыновы(вая), дружыновы(вая), грамадовы(вая), зьвязовы(вая), старшы зьвязовы(вая), адзнакі як вышэй.

Сьцяжны(ная) — адна залатая зорка, надсьцяжны(ная) — дзьве залатыя зоркі, штандаровы(вая) — тры залатыя зоркі.

Службовыя ступені пры пераходзе з групы Ваўчанят (Пралесак) і Юнакоў (Юначак) у вышэйшую групу трацяць вартасьць.

Службовыя ступені носяцца на левым рукаве вышэй локця на фоне колеру гальштука.

11. Скаўцкі гэрб

Скаўцкім крывіцкім гэрбам прызнаецца міжнародная лілейка з беларускім нацыянальным знакам (падвойным крыжам, або Пагоняй, у залежнасьці ад лепшай графічнай разьвязкі). Гэткі гэрб з надпісам “Напагатове” мае быць на пячатках, сьцягох і шапках (бэрэтах).

12. Скаўцкі гімн

Пастаноўлена аб’явіць конкурс на напісаньне беларускага скаўцкага гімну, які-б выражаў скаўцкую ідэалёгію, патрыятызм, быў бадзёры і лёгкі ў пяяньні.

13. Сьцягі

Кожны *штандар* мае квадратовы сьцяг у нацыянальных колерах са скаўцкім гэрбам і надпісам назову краіны, дзе ён знаходзіцца. Дрэўца закончана Пагоняй.

Кожны *сьцяг* мае ў форме простакутніка сьцяг адвольнага колеру з нацыянальнай (бел-чырвона-белай) у форме трыкутніка ўстаўкай.

На палатне сьцягу скаўцкі гэрб, нумар *сьцягу* і надпіс “Крывія”. Заканчэньне дрэўца пікавае за скаўцкай лілейкай.

*Зьвяз* мае сьцяжок ў форме доўгага трыкутніка, колеру гальштука. На сьцяжку выпісаны назоў *зьвязу* (напр. імя Каліноўскага). Заканчэньне дрэўца простае.

*Дружына* мае сьцяжок ў форме меншага трыкутніка, колеру гальштука з татэмавай адзнакай данай *дружыны* (воўк, ліс, сокал). Заканчэньне дрэўца простае.

14. Скаўцкая ўніформа

Накрыцьцё галавы. За накрыцьцё галавы прынята чорныя бэрэты як для хлапцоў, так і для дзяўчат. На бэрэце скаўцкі крывіцкі гэрб.

Блюза. Колер блюзы — зялёны або жоўты. Дзяўчаты могуць з недахопу матар’ялу вымененага колеру, насіць блюзы іншага колеру (напр. сіняга). На левым рукаве ўверсе носіцца надпіс на чырвоным фоне лацінскімі літарамі “*Крывія*”, ніжэй — знак данай дружыны (галава ваўка, ліса, зубра) або знак групы (Скаўтаў, Скаўтак Крывіі). Яшчэ ніжэй, але вышэй локця — службовую ступень на фоне колеру гальштука.

На левай кішэні шчыток з нацыянальнымі колерамі і скаўцкай лілейкай. Над левай кішэняй — месца для зорак.

Шнуры (гальштук). Колер шаліка (гальштука) можа быць адвольны. Права выбару колеру гальштука прыслугоўвае зьвязу. Шалік завязваецца адвольна ў кожным зьвязе: або на вузел, або нацыянальнай стужкай і інш. на плячох, выпускаецца ў форме трыкутніка.

15. Назовы адзінак

Кажная дружына выбірае сабе за сімвалічны назоў імя якога-небудзь зьвера, птушкі або расьліны, што знаходзяцца на Беларусі. Знак гэты носіцца на левым рукаве і на сьцяжку дружыны. Зьмена назову дружыны вымагае згоды кіраўніка зьвязу.

Зьвяз выбірае сабе гістарычную назву (напр. імя Каліноўскага, “Радзімія”) і зьмена яе вымагае згоды Кіраўніцтва сьцягу. Назоў зьвязу выпісваецца на сьцяжку зьвязу.

Сьцягі абазначаюцца чароднымі нумарамі і назовамі мясцовасьцяў, дзе яны знаходзяцца (напр. 1-шы Сьцяг Ватэнштэт, 2-гі Сьцяг Гановэр[208]).

Штандары маюць назву краінаў, на абшары якіх яны дзеюць (напр. Штандар “Баварыя”, Штандар “Францыя”).

[208] **Гановэр** (ням. *Hannover*) — горад у паўночнай Нямеччыне, цэнтар зямлі Ніжняя Саксонія.

16. Скаўцкі кліч і прывітаньне

За крывіцкі скаўцкі кліч прынята: *“Напагатове!”* Адказ *“Заўсёды!”* За скаўцкае крывіцкае прывітаньне прынята агульна-беларускае: *“Жыве Беларусь!”* Адказ — *“Жыве!”*

17. Забавязаньне для Ваўчанят і Пралесак

*“Забавязваюся вучыцца служыць свайму Народу і быць паслушным сваім бацьком і ўладам”*.

18. Права Ваўчанят і Пралесак

1) буду кахаць сваю Бацькаўшчыну, 2) буду гаварыць заўсёды праўду, 3) буду заўсёды старанным (стараннай), 4) буду старацца быць штораз лепшым.

19. Скаўцкая прысяга

1. Скаўт(ка) служыць свайму Народу і Бацькаўшчыне і старанна выконвае свае абавязкі.

2. Скаўт(ка) высока трымае свой гонар і гонар свайго Крывіцкага Народу.

3. Скаўт(ка) заўсёды здысцыплінаваны і паслухмяны сваім бацьком і ўладам.

4. Скаўт(ка) услужны, рыцарскі, сяброўскі і дапамагае іншым.

5. Скаўт(ка) слоўны, сумленны і праўдамоўны.

6. Скаўт(ка) любіць прыроду і імкнецца яе пазнаць.

7. Скаўт(ка) заўсёды вясёлы і жыцьцярадасны.

8. Скаўт(ка) вырабляе ў сабе моцны характар, адвагу і мужнасьць.

9. Скаўт(ка) ня курыць і ня п’е алькагольных напіткаў.

10. Скаўт(ка) паважае тых, хто змагаліся і змагаюцца за свабоду Крывіцкага Народу і выслаўляе Дзень 25 Сакавіка.

20. Прыймо ў ЗКСЧ

У лік сяброў ЗКСЧ можа быць прыняты кажны беларускі хлопец і дзяўчына ад 7-мі год жыцьця на аснове вуснай заявы, калі ў пробным часе (да 3-х месяцаў) выявіць стараннасьць, паслухмянасьць і гатовасьць падпарадкавацца скаўцкаму праву і скаўцкай дысцыпліне.

Аб прыйме кандыдатаў пастанаўляе кіраўнік зьвязу. Пасля пробнага часу Ваўчаняты і Пралескі складаюць забавязаньне, Юнакі і Юначкі (а таксама і старэйшыя) — скаўцкую прысягу. Скаўцкую прысягу складаюць таксама Ваўчаняты і Пралескі пры пераходзе ў вышэйшую групу.

21. Сяброўскія складкі

Сяброўскія складкі выносяць у месяц:

Для Ваўчанят і Пралесак ........................ 0,20 маркі

Для Юнакоў і Юначак............................ 1,00 марка

Для Старэйшых скаўтаў і скаўтак.......... 2,00 маркі
Для Скаўтаў і скаўтак Крывіі.................. 3,00 маркі

22. <u>Фонд</u>

Скаўцкі фонд творыцца з сяброўскіх складак, прыбыткаў з скаўцкіх імпрэзаў, лятарэяў, забаваў, прадпрыемстваў і датацыяў.

25 % усіх прыбыткаў сьцяг передае ў штандар, а гэты апошні 25 % усіх сваіх прыбыткаў перадае Галоўнаму кіраўніцтву.

23. <u>Кантрольныя органы ЗКСЧ</u>

*Рада Скаўтаў Крывіі*

Верхнюю ўладу ЗКСЧ становіць Рада Скаўтаў Крывіі. У склад яе ўваходзяць усе скаўты і скаўткі Крывіі з пастанаўляючым голасам.

Рада Скаўтаў Крывіі вызначае і адклікае Галоўнае кіраўніцтва ЗКСЧ, праводзіць рэвізію дзейнасьці Галоўнага кіраўніцтва праз вызначэньне Надзвычайнай рэвізыйнай камісіі.

Рада Скаўтаў Крывіі склікаецца Шэфам крывіцкіх скаўтаў або 1/3 яе сяброў.

*Патранат крывіцкіх скаўтаў*

У кожнай мясцовасьці, дзе знаходзіцца ЗКСЧ (дружына, зьвяз, сьцяг) павінен існаваць Патранат крывіцкіх скаўтаў. У склад Патранату ўваходзяць актыўныя беларусы, якія ідэйна зьвязаны з арганізацыяй і жадаюць матар’яльна і маральна ёй дапамагчы.

Патранат Крывіцкіх Скаўтаў складаецца з старшыні Патранату, яго заступніка, 4—5 сяброў управы і звычайных сяброў.

Старшыня або яго заступнік маюць права прымаць удзел у нарадах і працах мясцовага кіраўніцтва скаўтаў з дарадчым голасам і выконваюць агульны нагляд над дзейнасьцю мясцовай скаўцкай адзінкі.

24. <u>Ганаровыя сябры</u>

Рада Скаўтаў Крывіі можа запрасіць на ганаровых сяброў ЗКСЧ выдатных беларусаў, якія сваім жыцьцём, характарам і дзейнасьцю выяўляюць скаўцкія прыметы і служаць прыкладам іншым.

25. <u>Правы і абавязкі крывіцкіх скаўтаў</u>

Кожны скаўт можа атрымаць ступень, прадбачаную Рэгулямінам скаўцкіх спраўнасьцяў.

Абавязкі крывіцкіх скаўтаў складзены ў *забавязаньні, праве і прысязе скаўтаў*, а таксама ў Рэгулямінах і распараджэннях Галоўнага кіраўніцтва.

26. <u>Ліквідацыя арганізацыі</u>

У выпадку ліквідацыі ЗКСЧ уся ягоная маёмасьць пераходзіць на іншую беларускую арганізацыю моладзі або беларускую грамадзкую ўстанову.

___________*___________

*Арганізацыйная схема ЗКСЧ*




*Скаўцкая прысяга*

На мой гонар прысягаю, што паводле маёй найлепшай волі і стараньняў:

буду верны Богу і Бацькаўшчыне,

буду дапамагаць кажнаму чалавеку ва ўсякім часе,

буду паслухмяны Скаўцкаму Праву і свайму Кіраўніцтву.

___________*___________

*Скаўцкае права*

11. Скаўт высока трымае свой гонар і гонар свайго Народу.

12. Скаўт служыць свайму Народу і Бацькаўшчыне і старанна выконвае свае абавязкі.

13. Скаўт услужны, рыцарскі, сяброўскі і памагае іншым. Скаўт скаўту ёсьць братам.

14. Скаўт слоўны, сумленны і праўдамоўны.

15. Скаўт любіць прыроду і імкнецца яе пазнаць.

16. Скаўт ашчадны.

17. Скаўт заўсёды вясёлы і жыцьцярадасны.

18. Скаўт вырабляе ў сабе моцны характар, адвагу і мужнасьць.

19. Скаўт заўсёды здысцыплінаваны і паслухмяны сваім бацьком і свайму кіраўніцтву.

20. Скаўт чысты ў мове, думках і ўчынках.

___________ *____________

*Скаўцкія запаветы*

1. Скаўт — сумленны і слоўны.
2. Скаўт верны Богу і Бацькаўшчыне.
3. Скаўт — карысны і памагае бліжнім.
4. Скаўт — сябра свайму бліжняму і брат іншаму скаўту.
5. Скаўт — ветлівы і рыцарскі.
6. Скаўт — прыяцель прыроды.
7. Скаўт — паслухмяны бацьком і кіраўнікам.
8. Скаўт заўсёды вясёлы, устрымлівы і ня траціць надзеі.
9. Скаўт ашчадны.
10. Скаўт заўсёды цьвярозы, чысты ў сваіх думках, сваіх словах і ў сваім захоўваньні.

___________ *____________

*Скаўцкія законы*

21. Не спадзявайся нічога ад іншых, а дай сам усё, што можаш.
22. Жыві для Бацькаўшчыны і ўсіх людзей ды будзь прыяцелем прыроды ды жывёлы.
23. Будзь рыцарам і барані бедных ды слабых, ідзі справядлівай дарогай.
24. Мацуй сваё цела і душу ды асьвятляй свой розум.
25. Хай твая воля будзе нацягнутая, як струна.
26. Шануй скаўцкага патрона – сьв. Юр’я, зьнішчай усё благое на сьвеце, а найперш у самім сабе.
27. Хай будзе твая першая думка аб іншых, а толькі другая аб сабе.
28. Расьці ў вышкі, як моцны дуб, толькі ня гніся нізка, як ніцая лаза.
29. Будзь заўтра лепшым, чым ёсьць ты сёньня і чым быў учора.
30. Мей Бога ў сэрцы і памятай заўсёды твой кліч: “Будзь гатовы!”.

___________ *____________

*Гімн скаўтаў*

Мы верым у праўду і гонар,
Мы любім жыцьцё і людзей,
Бурліць наша сіла, як мора,
Вясёла наперад вядзе.

Сагрэтыя сонцам Крывіцкім
І водарам ніў залатых,
Кахаем мы ўсё без граніцаў
Крывіччыну, край свой сьвяты.

Хай б'е проста ў вочы нам вецер,
Мы верым у долю сваю,
І кажны, хто ў зоры імкнецца,
Адну з намі творыць сямью.
Мы верым у праўду і гонар,
Мы любім жыцьцё і людзей,
Бурліць наша сіла, як мора,
Наперад, да шчасьця вядзе.

___________ *___________

*Скаўцкая адзнака*




З рысунку, які прадстаўляе скаўцкую лілейку, даведаецеся вы, што кажны лісток азначае адзін з трох пунктаў Скаўцкай прысягі: Вернасьць Богу і Бацькаўшчыне, Дапамога кажнаму чалавеку ва ўсякім часе і Паслухмянасьць скаўцкаму праву і кіраўніцтву.

На лілейцы бачыце двуканечны крыж, узяты з нашага нацыянальнага гэрбу Пагоня. Ён азначае любоў да Бацькаўшчыны, якую кажны скаўт павінен насіць у сэрцы.

Стужка, што зьвязвае тры лісткі лілейкі, — сымбаль сяброўства ўсіх скаўтаў сьвету, а ніжэй зьмешчаны кліч: “*Напагатове!*” — прыпамінае скаўту, што ён кажную хвіліну павінен быць гатовым да выкананьня скаўцкай прысягі і скаўцкага права[209].

*Скаўцкія малітвы*

Беларусь, наша Маці краіна[210],
Ты з нас моцных зрабіла людзёў,
Не загінулі мы й не загінем,
Пакуль Ты нас да шчасця вядзеш.
Абяцаем мы Табе сягоньня
.................................

[209] Скаўцкі спадарожнік. Галоўная Кватэра Беларускіх Скаўтаў. 1948. — ***А. В.***

[210] Песьня на словы Натальлі Арсеньневай і музыку Міколы Шчаглова.

Божа добры і ласкавы[211],
Божа моцны справядлівы,
Блаславі ўсе нашы справы,
Асьвяці ўсе нашы нівы.
Дай нам сілу, дай нам розум,
Спрыт і мужнасьць, цьвёрдасьць волі
Не паддацца злым пагрозам,
Не зламацца ў нядолі.
Падаруй нам чуласьць сэрца,
Умацуй нязгаснасьць веры,
Не пакінь у паняверцы —
Перакінь на родны бераг.
Збаў народ наш шматпакутны,
Вызвалі наш край забраны!
Божа вечны Ўсемагутны,
Загаі Радзімы раны.

___________ *___________

## ***Што трэба ведаць кожнаму скаўту***

Наш сьцяг

Наш дзяржаўны сьцяг бел-чырвона-белы. Створаны гэты сьцяг упяршыню ў 1917 г.[212]. (Дагэтуль як нацыянальны сьцяг ужываўся сьцяг бел-чырвона-чорны, але ён супадаў зь нямецкім сьцягам і таму быў адкінуты.)

Спачатку дзяржаўны сьцяг быў толькі белы, як сымбаль назову “Беларусі” і таксама як улюбёны колер нашага народу. Але таму, што белы сьцяг — гэта адзнака паддачы (капітуляцыі) пры вайне, а таксама сьцяг контррэвалюцыі, дык пасярэдзіне была сымэтрычна праведзеная чырвоная паласа, як сымбаль рэвалюцыйнасьці. Апрача таго, чырвоны колер — гэта таксама ўлюбёны колер нашага народу і сымбаль нашага старэйшага назову “Крывічы” (ад кроў)[213].

[211] Песьня “Скаўцкая малітва” на музыку Міколы Равенскага.

[212] Лічыцца, што ў 1917 г. эскіз бел-чырвона-белага сьцягу стварыў беларускі палітычны дзеяч Клаўдзій Дуж-Душэўскі (1891—1959).

[213] Напагатове. № 2-3. 1947. — ***А.В.***

___________ *___________

Гэрб

Наш нацыянальны і дзяржаўны гэрб — Пагоня. Гэта ўзброены коньнік на белым кані. Коньнік у правай руцэ трымае меч, напагатове сячы ворага, а ў левай руцэ мае авальны шчыт із шасьціканцовым Ярылавым крыжам (двукрыжжам).

Конь выцягнуўся ў скоку (адсуль назоў Пагоня). Гэты гэрб паходзіць яшчэ з паганскіх часоў. Нашыя прашчуры прынялі хрысьціянства, верылі ў розных багоў. Вялікай пашанай у іх карыстаўся бог вясны і вайны Ярыла. Яго ўяўлялі ў вобразе ўзброенага коньніка на белым кані. Шасьціканцовы крыж быў знакам агню, які і здабываўся церцем драўляных кавалкаў крыж-на-крыж.

У часе гаспадарстваваньня нашае дзяржавы “Вялікага Княства Літоўскага” — Пагоня была дзяржаўным гэрбам усяго гаспадарства[214].

___________ *___________

## *25-лецьце беларускаг скаўтынгу*

*Скаўцкі рух, як ведама, запачаткаваўся ў канцы мінулага стагодзьдзя[215]. Узнікшы з практычных патрэбаў у часе вайны з бурамі[216], ён хутка пераpoс практычныя свае мэты і разьвіўся ў цэлую выхаваўчую сыстэму, цэлую школу ўсебаковага выхаваньня моладзі. Сяньня няма хіба ў сьвеце такой арганізацыі, якая-б стаўляла перад сабою такія шырокія ідэалы выхаваньня маладога пакаленьня і знаходзіла канкрэтныя шляхі да іх асягненьня, як скаўтынг. Скаўтынг выхоўвае моцнага фізычна і духова, творчага і самастойнага чалавека, здольнага да працы і змаганьня, карыснага для грамадзтва і народу.*

*Зразумела, што скаўцкі рух, як арганізацыйная форма выхаваньня моладзі, прыйшоў да нас з апазьненьнем. Прычынай гэтага была і ня моладасьць самога руху, і, у дадзеным выпадку, ня*

---

[214] Напагатове. № 2-3. 1947. — ***А.В.***

[215] Маецца на ўвазе, што ідэя стварыць дапаможныя атрады з падлеткаў прыйшла заснавальніку будучага скаўцкага руху брытанцу Робэрту Бадэн-Паўэлу ў 1899 г., калі ён быў прызначаны камэндантам крэпасці ў Паўднёвай Афрыцы. Афіцыйна ж годам заснаваньня скаўцкага руху лічыцца 1907 год, калі Бадэн-Паўэл правёў першы летнік ужо ў Брытаніі.

[216] **Буры** — субэтнічная група ў складзе афрыканэраў у Паўднёва-Афрыканскай Рэспубліцы й Намібіі. Тут маецца на ўвазе англа-бурская вайна 1899—1902 гг.

*сталы каэфіцыент нашага апазьненьня ва ўспрыманьні заходня-эўрапейскіх уплываў, а своеасаблівыя ўмовы нашага нацыянальна-палітычнага жыцьця. Разьвіцьцю скаўцкага руху перашкаджала тая палітычная задуха, у якой знаходзіліся паняволеныя былой царскай Расеяй народы. У момант распаду былой Расеі — гэтага імпэрыялістычнага калоса на ўсходзе Эўропы, — калі на руінах яго пачалося дзяржаўнае будаўніцтва вызваленых у рэвалюцыі 1917 году народаў, шырока разьвіваецца сярод іх і скаўцкі рух. І гэта ня было прыпадковым зьявішчам. Скаўцкая арганізацыя была акурат найадпавяднейшай для вызвольна-нацыянальных рухаў гэтых народаў, бо ў васнове яе знаходзіўся нацыянальны зьмест: служэньне народу, практычная дапамога ў барацьбе і будаўніцтве гэтых народаў. Акрамя гэтага праз скаўцкі рух народы гэтыя, паміж іншым, працягвалі руку да Захаду, адрываючыся ад Расеі. У вагні змаганьня за дзяржаўнасьць пашыраецца скаўцкі рух сярод моладзі Прыбалтыкі, Украіны, Польшчы. На гэты час прыпадае запачаткаваньне скаўцкага руху і ў нас, на Беларусі. Гэта быў час змаганьня за маладую Беларускую Народную Рэспубліку, калі хвалі Беларускага нацыянальна-вызвольнага руху былі высока паднятыя і ўсьцяж прыбывалі.*

*Беларускі скаўцкі рух нельга разглядаць як нейкае паасобнае зьявішча, як нейкую паасобную арганізацыю, зачыненую ў сваіх выхаваўчых мэтах. Калі гэтыя мэты і мае скаўтынг іншых народаў, дык іх у вялікай меры ня меў Беларускі скаўтынг ад самага пачатку. Гэта таму, што наш народ не разьвіваўся ў нармальных умовах незалежнага дзяржаўна-палітычнага жыцьця, як іншыя народы, а быў у палітычнай няволі і залежнасьці. Таму на плечы моладзі ў сілу неабходнасьці спадалі заданьні, якія стаялі перад усім Беларусім Народам. Беларускі скаўтынг заўсёды быў змушаны аддаваць у ахвяру частку сваіх істотных заданьняў для практычных патрэбаў нашага жыцьця. Змагаючыся за ідэалы свайго народу, за ідэалы вольнага чалавека, беларускі скаўт змалку станавіўся ў рады змагароў, дапамагаў старэйшаму грамадзтву і йшоў з ім у ногу. Школа жыцьця беларускага скаўта ўжо з маладых гадоў пачыналася часта з турмы. Але ня гледзячы на ўсе перашкоды і цяжкасьці, беларускі скаўт заўсёды высока трымаў сьцяг вызваленьня Беларусі, верна і моцна трымаўся запаветаў 25 Сакавіка. Таму скаўцкі рух быў адным з падмуркаў нашага народнага вызвольнага руху, заўсёды быў арганічна спаяны з высілкамі і змаганьнем старэйшага грамадзтва і ніколі не зьбіваўся на вузкія і крутыя сьцежкі. У гэтых асновах Беларускага скаўцкага руху — зарука ягонае будучыні, у іх і ключ да ягонага мінулага.*

*Наш скаўтынг выхоўваў непахісных барацьбітоў за справу Беларускага Народу, выхоўваў пакаленьне беларускіх патрыётаў, і таму ён быў недаспадобы нашым палітычным ворагам, якія імкнуліся асыміляваць наш народ, у першую чаргу пазбавіць яго здаровае нацыянальнае маладое зьмены. Вось чаму ад самага пачатку наш скаўцкі рух спатыкае розныя перашкоды з боку чужацкае ўлады, вось чаму ён мусіць ісьці той-жа цярністай дарогай, якою ішоў увесь Беларускі Народ.*

*Гісторыя Беларускага скаўтынгу яшчэ мала вядомая і амаль не распрацаваная. Таму да 25-лецьця нашага скаўцкага руху мы прыходзім толькі з жменькай фактаў і дадзеных, на падставе якіх можна толькі ў агульных лініях зарысаваць іх гістарычную пасьлядоўнасьць.*

*Гурткі і арганізацыі Беларуская моладзі, якія паўстаюць у часе нацыянальна-вызвольнага ўздыму, падобна "Грамадзе беларускае моладзе" ў Горадні*[217] *(паўстала ў 1918 г.) — гэта прадвесьнікі скаўтынгу ў Беларусі. Яны паставілі тыя-ж ідэалы, якія пасьля выпісаў на сваіх сьцягох і Беларускі скаўтынг. У гадох змаганьня за Беларускую Народную Рэспубліку ўзьнікла патрэба масавай арганізацыі моладзі.*

*Найбольш адпаведнай арганізацыйнай формай быў скаўтынг. Аднак ва Ўсходняй Беларусі на перашкодзе ягонаму разьвіцьцю сталі дырэктывы бальшавіцкай партыі. Там, апрача камуністычных арганізацыяў моладзі, не магло быць ніякіх іншых арганізацыяў моладзі.*

*25-гадовы шлях Беларускага скаўтынгу ёсьць вымоўным доказам вялікай жыцьцёвай сілы скаўцкай ідэалёгіі. Маладога руху ня здолела забіць брутальная сіла. Яна сьсякала маладое скаўцкае дрэва. Але на месца сьсечаных выраслі новыя галінкі з новай, маладой сілай.*

*Гэты дваццаціпяцігадовы шлях сьветчыць таксама аб няўтомным змаганьні беларускай моладзі за свае правы да існаваньня, да разьвіцьця фізычных і духовых сілаў. Многія беларускія скаўты у гэтым непасільным змаганьні аддалі сваё маладое жыцьцё за Бацькаўшчыну, асабліва шмат іх загінула ў часе Другой сусьветнай вайны, з сэньёраў назавем найбольш актыўных: кс. д-ра Станіслава*

---

[217] **Грамада беларускай моладзі ў Горадні** — моладзевая арганізацыя. У Беларускай энцыклапедыі (т. 5), Уладзімір Ляхоўскі час дзейнасці арганізацыі падае як 1919—1921 гг. Старшынёй была Паўліна Мядзёлка, пасьля яе ад'езду — Уладзімір Курбскі. Філіялы арганізацыі дзейнічалі ў вёсках Верцялішкі і Крынкі. Арганізоўваліся лекцыі па беларусазнаўстве, вечарыны, тэатральныя пастаноўкі. У 1920 г. пры спартовай сэкцыі Грамады існавала скаўцкая дружына.

*Глякоўскага, Уладыслава Казлоўскага*[218]*, Адама Дасюкевіча*[219]*, Міхася Мамчыца*[220]*.*

*25-цігодзьдзе існаваньня нашага скаўцкага руху павінна адзначыць беларуская грамадзкасьць на чужыне асабліва ўрачыста, каб скаўцкі рух пранікнуў да сьведамасьці ўсіх і ахапіў усю беларускую моладзь пад сваімі сьцягамі*[221]*.*

***

Дня 21 верасня 1946 г. латыскія скаўты ў Ватэнштэце ўрачыста адзначылі гадавіну існаваньня сваёй арганізацыі на чужыне. Латыская скаўцкая моладзь зладзіла вечар, у якім прынялі ўдзел і нашыя скаўты і скаўткі. На асаблівую ўвагу заслугоўвае “Белы вальс”, выканаы балетнай групай нашых скаўтак.

Пасьля вечару адбылася супольная танцавальная вечарына, у часе якой нашы скаўткі і скаўты прапяялі некалькі беларускіх песьняў.

Сустрэча беларускіх і латыскіх скаўтаў прайшла ў атмасфэры адзінства і сяброўства. На памятку аб гэтым вечары латыскія скаўты

---

[218] **Уладыслаў Казлоўскі** (1896—1943), грамадзкі дзеяч, журналіст. Вучыўся ў Віленскай духоўнай каталіцкай сэмінарыі. Закончыў настаўніцкія курсы пры Цэнтральнай беларускай радзе Віленшчыны й Гарадзеншчыны. Арганізоўваў школы ў Сакольскім павеце. У 1920 г. Беларускай вайсковай камісіяй накіраваны ў школу падхарунжых у Варшаве. Служыў у польскім войску. Ад 1930 г. у Вільні. Арганізаваў моладзевае таварыства “Гайсакі”. Блізкі да Фабіяна Акінчыца. Сімпатызаваў ідэям нацыянал-сацыялізму. Рэдагаваў і выдаваў часопіс “Новы шлях” (1933—1937). Падчас нямецкай акупацыі рэдагаваў “Беларускую газэту”, у рэдакцыі якой быў забіты савецкімі падпольшчыкамі. Адзін са стваральнікаў Беларускай народнай самапомачы.

[219] **Адам Дасюкевіч** (1911—1943), грамадзка-палітычны дзеяч. Закончыў Віленскую беларускую гімназію (1933). Вучыўся ў Віленскім унівэрсытэце. Быў сябрам Беларускага студэнцкага саюзу, уваходзіў у рэдкалегію часопісу “Студэнцкая думка”. Рэдактара газэты “Беларуская крыніца” (1936—1938). Сябра Беларускага нацыянальнага камітэту ў Вільні. З прыходам немцаў у 1941 г. быў арыштаваны па даносе. Вызвалены праз дапамогу сваякоў. У 1942 г. стаў бурмістрам Пастаў. Застрэлены зондэрфюрэрам за невыкананьне паставак.

[220] Магчыма, маецца на ўвазе не Міхась, а **Мікалай Мамчыц** (1899—?), грамадзкі дзеяч, пэдагог. Вучыўся ў Белдзяржунівэрсытэце. Працаваў інспэктарам школ у Калінінскай акрузе (да 1927 г.), у Полацку. Затым — у апараце Наркамату асьветы БССР. У 1930 г. арыштаваны па справе “Саюзу вызваленьня Беларусі”, асуджаны на 5 гадоў высылкі. Адбываў пакараньне ў Кіраўскай вобласьці. У 1935 г. паўторна асуджаны на 2 гады лягераў. Далейшы лёс невядомы.

[221] СІС. № 2. 1946. — ***А. В.***

падарылі нам прыгожы абраз, намаляваны адным скаўтам[222].

З нагоды 35 угодкаў існаваньня Ўкраінскага скаўтынгу адбыўся дня 27 і 28 верасьня 1946 г. у горадзе Аўгсбургу (Баварыя) вялікі зьлёт Украінскіх скаўтаў. У зьлёце прымалі удзел дэлегацыі ад розных Украінскіх скаўцкіх адзінак, усяго каля 700 чалавек.

На зьлёце былі таксама побач з прадстаўнікамі ад латыскіх, летувіскіх, эстонскіх, польскіх скаўцкіх арганізацыяў дэлегаты і ад Беларускага скаўтынгу (з Галоўнай кватэры).

Зьлёт адбыўся ў атмасфэры міжнацыянальнае дружбы і зацясьніў яшчэ больш сувязь паміж беларускімі і ўкраінскімі скаўтамі[223].

Супольнымі сіламі латыскіх і беларускіх скаўтаў 10 кастрычніка 1946 г. было наладжана вогнішча ў прыбалтыйскім лягеры Галендорф. Беларускія скаўты выступілі пры вогнішчы з спартовымі паказамі і нашай нацыянальнай Лявоніхай. Акрамя гэтага, надзвычай удалым было выступленьне скаўцкай гімнастычнай дружыны з калатушкамі.

На заканчэньне вогнішча латыскія і беларускія скаўты, пабраўшыся за рукі і абступіўшы вогнішча прапяялі песьні.

Пасьля вогнішча адбыліся танцы ў латыскім скаўцкім клюбе.

Латыскія скаўты былі вельмі ўдзячны нашым скаўтам за ўдзел у вогнішчы і выказалі пажаданьне, каб падобныя імпрэзы ладзіліся часьцей[224].

13 кастрычніка 1946 г. адбылося ў нашым лягеры прыняцьце прысягі 20 скаўтак і скаўтаў. Гэта новыя кадры, якія ўліліся за апошні час у мясцовы сьцяг скаўтаў. Да складаючых прысягу прамовіў Галоўны кіраўнік крывіцкіх скаўтаў і камандант лягеру.

У гарачых словах заклікалі яны моладзь быць верным скаўцкім ідэалам і Бацькаўшчыне Беларусі. Дружным *"Гатовы"* моладзь адказала на заклікі прамоўцаў. Пасьля прысягі адбылося ўручэньне 42 скаўткам і скаўтам зорак, як адзнакаў за здабытыя пробы.

Вечарам было наладжана скаўцкае вогнішча, на якім былі прысутныя жыхары лягеру. Скаўцкія гульні, песьні, апавяданьні і дэклямацыі, гумарыстычныя паказы і народныя танцы выпаўнілі багатую праграму.

На асаблівую ўвагу заслугоўвае адыгранае пьеса "Нешчаслівае каханьне", напісанае Старым Скаўтам. На заканчэньне вогнішча яшчэ

---

[222] Беларускі Скаўт. № 1. Лістапад 1946. — ***А. В.***

[223] Шляхам Жыцьця. Ватэнштэт. № 10. 25 кастрычніка 1946. — ***А. В.***

[224] Шляхам Жыцьця. Ватэнштэт. № 10. 25 кастрычніка 1946. — ***А. В.***

раз прамовіў Кіраўнік скаўтаў, пасьля чаго ўсе прысутныя, пабраўшыся за рукі і калышучыся ў такт песьні, прапялі “Люблю наш край”...[225].

## *Бывай, лета...*

*Апошнія летнія дні. Хочацца выцягнуць рукі ў зару летняе раніцы, напіцца сонца і сасны. Хутка пасмурнае паўночнае неба павісьне маркотай над шэрай зямлёй і сьцісне сэрца. Трэба яшчэ нахапацца сонечнай энэргіі, каб яна праз зіму дадавала нам сіл, пульсавала ў нашай крыві.*

*Таму з такой радасьцю выяжджалі нашы скаўты і скаўткі на... апошнюю экскурсію ў горы Гарцу, 43 — усе маладыя, загартаваныя, абвеяныя вятрамі дальніх дарог. Дым і пыл закурэў на шашы, мільганулі, як у фільме, баракі лягеру і машына пачала ўразацца ў новыя краявіды.*

*Гэта ўжо звычай скаўтаў — пяяць заўсёды і ўсюды. Незмаўкаючы льецца беларуская песьня над нямецкімі палямі. Яна як-бы апавівае наш бел-чырвона-белы сьцяг, што горда павявае над самаходам.*

*Прыбыўшы на месца прызначэньня (невялікі беларускі лягер у падножжы Гарцу), скаўты напоўнілі яго сваімі маладымі звонкімі галасамі. Над берагам возера хутка растуць “лясныя хаткі” — шалашы. Праз некалькі хвілін вырас маленькі скаўцкі лягер — мадэль таго вялікага, з якім разьвіталіся скаўты на некалькі дзён. Над ім — наш бел-чырвона-белы сьцяг, да якога з цікавасьцю прыглядаюцца розныя прахожыя.*

*Доўга ў першы вечар не маглі заснуць усе на мяккіх яловых лапках, якія дражнілі сьвежым пахам сасны і... успамінамі. Доўга чуліся шэпты і ціхія гутаркі, аж пакуль, урэшце, сон ня ўпаў на павекі. Толькі сілуэты вартавых чорнымі ветразямі плавалі ўсю ноч над возерам ў сіні начнога неба. А тады ўдарыў у шалашы сыгнал пабудкі, і ўсіх спаткала халодная раніца. Усе ахвотна бегалі і гімнастыкаваліся пад каманду сваіх кіраўнікоў, каб перамагчы сьцюжу.*

*Пасьля малітвы, сьнеданьне, і тады ўсе ідуць у царкву. Астаюцца толькі службовы скаўт і дзьве скаўткі, каб прыгатаваць абед.*

*Стройнымі аддзеламі, з песьнямі, прайшлі скаўткі і скаўты па вуліцах закінутага ў горах мястэчка.*

*Пасьля абеду, які незвычайна смакаваў, усе рушылі ў горы. Усё вышэй і вышэй, над абрывамі, горнымі сьцежкамі, здаецца, пад самае сіняе неба... Але горам няма канца. Толькі пасьля доўгіх*

[225] Шляхам Жыцьця. Ватэнштэт. № 10. 25 кастрычніка 1946. — ***А. В.***

*пералазаў прад вачыма, урэшце, адкрываецца ўвесь чар гарыстых пэрспэктываў, якія абвальваюцца ў неба.*

*Быццам на далоні, маленькія даліны і лугі, стады маленькіх домікаў, і цёмна-сінія перавалы лясоў.*

*У горах ладзіцца рэпэтыцыя (скаўты задумалі зрабіць вогнішча разам для жыхароў лягеру), пачынаюцца гульні, сьмех і песьні ўдараюцца ў сосны, што мэрэжай ападаюць уніз. А тады ўсе зьбягаюцца з гор, як шумны струмень, і яловыя кволыя лапкі не казычуць больш нікога — глыбокі сон зьлятае на лягер. Толькі ізноў у небе выразаюцца чорныя сілуэты вартавых.*

*Вогнішча пачалося а 21 гадзіне, калі горы й даліны ахінуў змрок. Зусім інакш выглядаюць людзі ў сьвятле агню, сярод велічавай прыроды — у душы мімаволі западае нешта ўзвышана-вялікае.*

*Было шмат песьняў і сьмеху. Сьмяяліся асабліва, калі з цемры вырас караван вярблюдаў з вялікалюдам (ён быў у той час у модзе ў нашых скаўтаў). Вялікалюд прасьпяваў частушкі, у якіх тое-сёе было падмечана нашымі скаўтамі з жыцьця лягеру…*

*Урэшце, усе адсьпявалі “Пагоню”[226]. Камандант лягеру ў патрыятычнай прамове дзякаваў скаўтам за адведзіны і зладжанае вогнішча. Скаўты дружным “Жыве!” адказалі ў чэсьць каманданта і жыхароў лягеру, маленечкай беларускай вёскі, закінутай у горах.*

*І ізноў ціха плёскала возера і сінела начное неба. На наступны дзень ізноў пабудка, гімнастыка, малітва, сьнеданьне, перагляд парадкаў у шалашох, і ізноў марш у горы. Па дарозе прывал у лясным рэстаранчыку. Усе пьюць піва, а таму, што за піва, звычайна, плаціць нехта адзін, дык гэты гонар выпадае “скарбніку”.*

*Горы вядуць усё вышэй і вышэй. Грыбы колеру скалаў. Праскі, як сходы ў чыстыя просіні, а па клавішах каменьчыкаў спадаюць гамонкія ручайкі. Нейкая сьвятая цішыня гор нячутна ахінае душу.*

*І толькі на вяршынях, скуль усё ў далінах здаецца такім малым, адчуваем, які велічавы сьвет. А адначасна родзіцца пачуцьцё адарванасьці ад роднага краю, адчуваньне глыбокай адзіноты, і крык адчаю нарастае ў сэрцы. Таму кажны шолах, кажны трэск галінкі пад нагамі нагадвае лясныя сьцежкі і просіні далёкай, дарагой Беларусі.*

*Стары Скаўт*

*Кастрычнік, 1946 г.*

[226] Маецца на ўвазе песьня на верш Максіма Багдановіча “Пагоня”.

## Госьляр

1 траўня 1946 г. заложана ў Беларускім ДП-лягеры ў Госьляры скаўцкая дружына. Працай дружыны кіруе малады настаўнік мясцовай Беларуская школы.

У дружыну ўвайшла ўся беларуская моладзь лягеру.

З Госьляра паведамляюць:

Праца нашых скаўтаў ідзе шпарка наперад, асабліва цяпер вясною, калі ўсё будзіцца да новага жыцьця. За апошні квартал адбылося тут у нас некалькі рэфэратаў, асабліва добрымі былі рэфэраты, прысьвечаныя угодкам сьмерці Цёткі і Кастуся Каліноўскага.

Перад рэфэратамі адбылася паніхіда за ўсіх тых, што аддалі жыцьцё сваё ў барацьбе за лепшую долю нашай Бацькаўшчыны.

Прысутнымі былі двух сьвятароў, школа й настаўнікі школы, камандант лягеру і насельніцтва лягеру.

25 Сакавіка — 29-я угодкі абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі прынясьлі вялікую радасьць нашым скаўтам. На гэтую вялікую ўрачыстасьць прыбыў у Госьляр Шэф крывіцкіх скаўтаў з Ватэнштэту у асысьце аднаго скаўцкага кіраўніка.

Урачыстасьць распачалася малебнам на інтэнцыю Беларускага Народу. Пасьля быў пасьвечаны сьцяг скаўцкага зьвязу “Алень” у Госьляры. На гэты сьцяг як на найбольшую сьвятасьць нашых скаўтаў, на якім напісаны высокі ідэалы: верна любіць Бога і шчыра служыць свайму Народу — злажылі скаўты прысягу.

Шэф скаўтаў накрэсьліў у сваёй прамове вялікі й прыгожы шлях, поўны красы і шчасьця, шлях скаўцкага жыцьця, які вядзе да перамогі дабра над злом.

11 нашых юнакоў у гэты вялікі дзень 25 Сакавіка здабылі першыя зоркі.

Дружына мае 22 сяброў.

На акадэмію 25 Сакавіка злажыліся: рэфэрат, прамовы, дэклямацыі і песьні.

16 лістапада 1946 г. у скаўцкім клюбе у Ватэнштэце адбылас ўрачыстая зборка мясцовых сьцягоў скаўтак і скаўтаў з нагоды першых угодкаў існаваньня гэтых адзінак.

Першы Сьцяг крывіцкіх скаўтаў на чужыне адзначае вялікі момант на шляху свайго разьвіцьця. Мы далей панесьлі сьцяг, які беларуская моладзь шмат гадоў назад адважна падняла ў цяжкай і няроўнай барацьбе за вызваленьне Беларусі.

Падсумоўваючы ўсе асягненьні нашае працы, мы павінны і надалей паставіць сабе за мэту самаахвярную і вытрывалую працу на карысьць Бацькаўшчыны. І хай кожны з нас усьведаміць сабе, што

найбольшы сэнс нашага жыцьця на чужыне — служыць сьветлым агульнанацыянальным ідэалам.

Мы павінны ўсьведаміць сваю ролю, як скаўцкай моладзі, у беларускім нацыянальным жыцьці і руху, як у сёньняшні мамэнт, так і ў будучыні...

Беларуская моладзь патрапіла ўжо вырабіць свой ўласны круг дзейнасьці, палягаючы на грамадзкім і нацыянальным самавырабленьні. Гэтага аднак замала. Трэба яшчэ ясна ўсьведаміць свой абавязак перад нашым народам і прыступіць да грамадзкае дзейнасьці ў шырэйшым маштабе[227].

18 і 23 лістапада 1946 г. адбыліся скаўцкія ўрачыстасьці ў латыскім і летувіскім лягерах у Ватэнштэце з нагоды першых угодкаў існаваньня мясцовых скаўцкіх адзінак. У урачыстасьцях балтыцкіх скаўтаў прыймалі ўдзел і нашыя скаўткі і скаўты з Ватэнштэцкага лягеру[228].

У днях 30 лістапада і 1 сьнежня 1946 г. у лягеры былі адзначаны 20-я ўгодкі Слуцкага паўстаньня[229]. У сыботу 30 лістапада вечарам мясцовыя сьцягі скаўтак і скаўтаў ладзілі скаўцкае вогнішча на пляцы лягеру. На вогнішчы была праведзена ўрачыстая пераклічка герояў, паўшых за Бацькаўшчыну і адсьпяваны жалобны марш “Сьпі пад курганам герояў”[230]...

## Гановэр

У канцы 1946 году быў заснаваны ў Гановэры хлапцоўскі Сьцяг крывіцкіх скаўтаў, які налічваў 50 асобаў. Кіраўніком сьцягу быў настаўнік сп. Віктар Літаровіч[231].

[227] Беларускі Скаўт. № 1. 1946. — ***А. В.***

[228] СІС. № 2. 1946. — ***А. В.***

[229] **Слуцкі збройны чын** — паўстаньне на Случчыне, якое пачалося 27 лістапада і было задушанае ў канцы сьнежня 1920 г. Удзельнікі выступалі за беларускую дзяржаўнасьць, вызваленьне тэрыторыі ад акупантаў. Мабілізавалася каля 10 тысяч чалавек. Паводле прэлімінарнага міру паміж Расеяй і Польшчай Беларусь мелася быць падзеленая гэтымі краінамі, а мяжа павінна была прайсці праз Слуцкі павет. А пакуль Случчына знаходзілася ў нэўтральнай зоне. Калі кіраўнікі Расеі й Польшчы паразумеліся, бальшавікі ўвайшлі ў нэўтральную зону й зачысьцілі яе. Паўстанцы мусілі адысьці на польскую тэрыторыю, дзе іх раззброілі. Удзельнікі паўстаньня й іх сем’і былі рэпрэсаваныя на савецкім баку.

[230] Аўтар маршу — Міхась Ганько.

[231] **Віктар Літаровіч** (1923—1967), актывіст скаўтынгу, грамадзкі дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у адміністрацыі на Барысаўшчыне.

Адміністрацыя лягеру прыдзяліла скаўтам памешканьне, у якім яны ўладзілі сваю сьвятліцу і ўпрыгожылі яе нацыянальным гэрбам Пагоня і сьцягам, а таксама некалькімі партрэтамі нашых пісьменьнікаў і нацынальных герояў.

У сьвятліцы адбываліся чарговыя зборкі і імпрэзы. Пазьней, па прыезьдзе ў лягер нейкай колькасьці беларусаў з Зэедорфу[232], сярод іх аказалася нацыянальна сьведамая беларуска Л. М. Брылеўская[233]. Вось-жа яна ўклала ўсю сваю энэргію і ўмеласьць у арганізацыю дзявочага Сьцягу крывіцкіх скаўтаў. Сьцяг налічваў да 40 дзяўчат. Кіравала ім сп. Л. Брылеўская аж да часу ад’езду ў ЗША ў 1950 годзе.

Актыўны ўдзел у жыцьці скаўтынгу брала таксама і дружыновая сп. Валя Хадаровіч.

Скаўцкая адзінка ў Гановэры мела назоў: “Другі Сьцяг Гановэр”.

## ФРАНЦУСКАЯ АКУПАЦЫЙНАЯ ЗОНА НЯМЕЧЧЫНЫ

### Равэнсбург[234]

У пачатку кастрычніка 1946 году заснаваўся ў Равэнсбургу зьвяз крывіцкіх скаўтаў у ліку 16 асоб, галоўным чынам вучняў тамтэйшай гімназіі (польскай). Зьвязовым вызначаны праваднік Уладзімер.

Зьвязу мясцовая УНРРА прыдзяліла часткі ўніформы, колер скаўцкіх шалікаў — чорны[235].

### *Скаўтынг і грамадзтва*

Палітычныя ўмовы нашага жыцьця не *дазвалялі нам да гэтага часу стварыць арганізацыі моладзі, якая ўзгадоўвала-б нашае маладое пакаленьне ў духу нашых нацыянальных ідэалаў. Спробы ства-*

---

Ад лета 1944 г. у Нямеччыне, пазьней у ЗША. Адзін з арганізатараў Беларускага праваслаўнага царкоўнага камітэту ў Амэрыцы, заснавальнікаў парафіі ў Саўт-Рывэры.

[232] **Зэедорф** — ДП-лягер у Нямеччыне, у зямлі Ніжняя Саксонія.

[233] **Лёнгіна Брылеўская** (дзяв. **Захаркевіч**, 1923—2008), грамадзкая дзяячка, жонка Ўладзімера Брылеўскага. Працавала ў Рызе ў часопісе “Новы Шлях”. У 1944 г. выехала ў Нямеччыну. У 1948 г. — у ЗША. Была старшынёй аддзела Аб’еднаньня беларускіх жанчын у Саўт-Рывэры (1951—1952). Адна са стваральніц Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі.

[234] **Равенсбург** (ням. *Ravensburg*) — горад на поўдні Нямеччыны, у зямлі Бадэн-Вюртэмбэрг. Тут знаходзіўся ДП-лягер, у якім былі й беларусы.

[235] Шляхам Жыцьця. № 10. 1946. — ***А. В.***

*рэньня такой арганізацыі пад Польшчай спатыкаліся заўсёды з забаронай адміністрацыйных уладаў. Гэткі лёс спаткаў беларускія скаўцкія арганізацыі, спартовую арганізацыю “Гайсак” і інш.*

*У Савецкай Беларусі, апрача камуністычнага камсамолу, не магло быць ніякіх іншых арганізацыяў моладзі, а выхаваньне ў ім супярэчнае з маральна-ідэйным і гістарычна-бытавым укладам жыцьця Беларускага народу.*

*Арганізацыі моладзі, якія існавалі ў часе змаганьня за незалежнасьць Беларусі ў 1917—1920 гадох, на жаль, хутка распаліся, а нелегальныя арганізацыі не маглі развярнуць вялікшае працы й абхапіць пад свае ўплывы шырэйшыя гушчы ўсяе беларускае моладзі.*

*У часе нямецкае акупацыі, калі беларускі дух ізноў перажыў спантанічны ўздым і шукаў шляхоў да рэалізацыі сваіх палітычных мэтаў, паўстаў Саюз Беларускай Моладзі.*

*Нам добра ведамы мэты нямецкіх акупантаў, якія яны стаўлялі ў ваднасінах да гэтае арганізацыі. Яны імкнуліся выкарыстаць яе ў будучыні ў мэтах гэрманізацыі Беларускага народу. Але яны моцна перарахаваліся.*

*У Саюз Беларускай Моладзі ўвайшоў самы здаровы нацыянальна-рэвалюцыйны элемэнт, які адразу заняў выразнае становішча адносна нямецкіх акупантаў. І хоць кіруючыя вярхі СБМ былі падатныя на паклоны, моладзь заставалася цьвёрдай, гатовай да змаганьня з акупантамі, а яе ўдзел у гэтым змаганьні займае пачэснае месца. І цяпер палітычныя ўмовы ня толькі не спрыялі свабоднаму развіцьцю нашае моладзі, а наадварот, вымагалі ад яе асаблівае актыўнасьці і самаахвярнасьці. Хуткі рост арганізацыі, у неспрыяючых умовах, сьветчыў, аднак, як насьпела патрэба арганізацыі моладзі і якое вялікае значэньне яна адыгрывае ў нашым нацыйнальна-вызвольным змаганьні.*

*Зразумелая рэч, што нашыя ворагі заўсёды нішчылі ў зародышу ўсялякі пачын ў напрамку нацыянальнай арганізацыі нашай моладзі, разумеючы добра, што гэта адна з галаўнейшых пазыцыяў нашага руху. Дзякуючы гэтаму ў нас да сёньняшняга дня справа арганізацыі моладзі адстае і знаходзіцца ў незадавальняючым стане. А тымчасам гэта адна з найважнейшых справаў, якія сёньня стаяць перад намі. Бо толькі пры наяўнасьці моцнае нацыянальнае здаровае зьмены мы можам думаць аб будучыні нашага народу.*

*Кожнае сьвядомае грамадзтва, якое дбае аб сваёй будучыні, у першую чаргу клапоціцца аб належным узгадаваньні маладога пакаленьня, маладое зьмены, якая працягвала-б працу папярэдніх пакаленьняў.*

*Калі ў сьвеце зьвяроў справа ўзгадаваньня маладняка адыгрывае вялікую ролю і зьяўляецца складаным зьявішчам, то ў людзей*

*яно прыймае асаблівыя формы і ёй удзяляецца асаблівая ўвага. У зьвяроў працэс выхаваньня трывае коратка і абмяжоўваецца пераважна сфэрай інстыктаў, то ў чалавека ён трывае доўгі час. Чалавек, каб навучыцца жыць і авалодаць складанымі спосабамі здабыцьця сродкаў да існаваньня, мусіць пераняць увесь досьвед папярэдніх пакаленьняў, без чаго ён ня будзе здольны да жыцьця. Досьвед жа гэты надзвычай вялікі. Вось чаму ў людзей паўстаюць адмысловыя інстытуцыі, у якіх яны арганізавана навучаюць і ўзгадоўваюць маладое пакаленьне.*

*Школа зьяўляецца носьбітам ўзгадаваўчых ідэалаў таго ці іншага грамадзтва, праз навучаньне і ўзгадаваньне якіх ня толькі падрыхтоўвае моладзь да практычнага жыцьця, але й прышчапляе яму ідэалы, якія вызнае дадзенае грамадзтва.*

*Школа, аднак, выпаўняючы гэтыя выхаваўчыя і дыдактычныя заданьні, ня можа цалкам пераняць усяе функцыі фармаваньня дасьпелага поўнавартаснага сябра тае ці іншае грамады. У дапамогу ёй прыходзіць сям'я, асабліва арганізацыі моладзі, якія, дапасоўваючы сваю працу да асаблівасьцяў фізычнага й духовага дасьпяваньня моладзі, адчыняюць шырокія магчымасьці для пэдагагічных уплываў. Яны ўводзяць у выхаваньне новыя элемэнты грамадзкага парадку, якія фармуюць у першую чаргу грамадзяніна, падрыхтоўваючы актыўнага сябру грамады.*

*Гэтыя агульныя асновы, з якіх вынікае патрэба арганізацыі моладзі. Але ў народу, які змагаецца за зьдзейсненьне сваіх нацыянальна-палітычных ідэалаў, заданьні арганізацыі моладзі яшчэ большыя і вымагаюць ад моладзі самаахвярнасьці і напружаньня сілаў, але адначасова вымагаюць і ад старэйшага грамадзтва ўважлівых адносінаў да гэтых арганізацыяў, падтрымкі й дапамогі.*

*Скаўтынг, як форма ўзгадаваньня нашае моладзі, толькі цяпер пачынае быць шырэй ведамым сярод нашага грамадзтва на эміграцыі. Дэмакратычныя ўмовы жыцьця адчынілі цяпер шырокія магчымасьці для нашага скаўцкага руху. Ён мае выразны нацыянальны зьмест, ён узгадоўвае здаровую нацыянальна моладзь нашага народу, ён збліжае моладзь родных народаў, выробляе ў ёй гуманнасьць і ахоўвае, такім чынам, ад вузкага шавінізму ці фанатызму.*

*Праз нацыянальнае ўзгадаваньне скаўтынг уводзіць моладзь у шырокі круг агульна-людзкога поступу. Скаўтынг мае на мэце ўзгадаваньне ня толькі патрыёта, гатовага кожную хвіліну да найбольшых ахвяраў для дабра свайго народу, але і ўсебакова разьвітага чалавека, прыстасаванага да найбольш складаных умоваў жыцьця, здольнага заўсёды хутка арыентавацца і разьвязваць усялякія труднасьці і перамагаць перашкоды.*

*Больш шырокага ідэалу ўзгадаваньня нельга сабе уявіць. А гэты выхаваўчы ідэал, ідэал выхаваньня ўсебакова падрыхтаванага да жыцьця чалавека ў кажную хвіліну аддаць жыцьцё за справу свайго народу, а гэтым самым за свабоду чалавека, і адпавядае ўмовам, у якім знаходзіцца сёньня нашае нацыянальнае жыцьцё. Такога якраз чалавека, які пярэйме нацынальную справу нашага народу, і патрабуе сёньня нашае грамадзтва.*

*Скаўцкая праца для нас яшчэ новая, няма досьведу, традыцыяў, адпаведных кіраўнікоў. Прыйшлося ўсё пачынаць нанова. Моладзь перажыла 6 гадоў вайны.*

*Прыглядаючыся да праробленае працы, мы можам з задаваленьнем съцьвердзіць, што тварэньне нашага скаўтынгу йшло ў правільным кірунку і гуртуецца на моцных падвалінах.*

*Стары Скаўт*[236]

[236] Шляхам жыцьця. № 5. 9 чэрвеня 1946. — ***А.В.***

**1947 г.**

# АМЭРЫКАНСКАЯ АКУПАЦЫЙНАЯ ЗОНА НЯМЕЧЧЫНЫ

## Штандар “Баварыя”

### Міхэльсдорф

З пачаткам 1947 г. 1-шы Сьцяг у Міхэльсдорфе пачаў выдаваць скаўцкі часапіс “Напагатове”[237].

Сьцяжны Першага Сьцягу Штандару “Баварыя” ў вапошнім часе ў арганізацыйных мэтах адведаў цэлы рад Беларускіх асяродкаў у Амэрыканскай зоне Нямеччыны. 3 студзеня 1947 г. ён правёў зборку скаўтаў у Остэргофэне і прачытаў рэфэрат на тэму “Скаўтынг і праца ў скаўтынгу”.

4 студзеня 1947 г. ён правёў арганізацыйны сход моладзі лягеру Вогэнштраўс[238] і сарганізаваў два зьвязы скаўтаў.

20 студзеня 1947 г. арганізаваў Зьвяз беларускіх скаўтаў у Ашафэнбургу[239].

Скаўты ў Міхэльсдорфе 7 студзеня 1947 г. ладзілі традыцыйны абход з Каляднай зоркай у лягеры. Насельніцтва лягеру з вялікай цяплынёй прымала калядоўшчыкаў-скаўтаў. Была сабрана значная сума грошаў на скаўцкі фонд.

9 студзеня 1947 г. Першы Сьцяг у Міхэльсдорфе ўрачыста адзначыў сваё першыя ўгодкі існаваньня. Ва ўрачыстасьці таксама прымалі ўдзел скаўты 2-га Сьцягу з Остэргофэну. Пасьля агульнай справаздачы і рэфэрату сьцяжнога адбыўся вельмі ўдалы скаўцкі канцэрт. У гэты самы вечар у скаўцкай сьвятліцы пры ялінцы скаўты атрымалі калядныя падарункі, пасьля чаго адбылася скаўцкая вечарына[240].

Сьцяг Штандару “Баварыя” ў Міхэльсдорфе сарганізаваў скаўцкую бібліятэчку, якая налічвае 75 кніжак.

---

[237] **“Напагатове”** — часопіс беларускіх скаўтаў у Нямеччыне. Першы нумар выйшаў у студзені 1947 г., апошні — у сакавіку 1949 г. Усяго выйшла 9 нумароў. Рэдагавалі часопіс Вітаўт Кіпель і Кастусь Вайцяхоўскі.

[238] **Фогенштраўс** (ням. *Vohenstrauß*) — горад у паўднёва-ўсходняй Нямеччыне, у зямлі Баварыя.

[239] **Ашафэнбург** (ням. *Aschaffenburg*) — горад у паўднёвай Нямеччыне, у зямлі Баварыя.

[240] СІС. № 4. Люты 1947. — ***А. В.***

Першы Сьцяг у Міхэльсдорфе ганарова стаіць на першым месцы ў Амэрыканскай зоне, дзякуючы энэргічнаму кіраўніцтву сьцяжнога. Заняткі праводзяцца сыстэматычна і моладзь асягнула вялікі поступ у скаўцкім выхаваньні[241].

2 лютага 1947 г. дружыны юначак "Васілёк" і юнакоў "Сокал" здавалі на першую і другую скаўцкія зоркі. Пробы прайшлі пасьпяхова і выявілі здавальняючую спраўнасьць юнакоў і юначак. Гэтага самага дня адбыўся сяброўскі вечар. У праграму вечара ўвайшлі: дэклямацыі, сцэнічныя паказы, гумар, песьні і танцы. Вечар прайшоў вельмі весела і пакінуў прыемныя успаміны[242].

У № 2-3 "Напагатове" за 1947 г. з жыцьця скаўтаў пададзены наступныя весткі:

9 лютага 1947 г. наш Першы Сьцяг ладзіў вечар, прысьвечаны 31-м угодкам сьмерці паэткі Цёткі (Алаізы Пашкевіч). Быў прачытаны рэфэрат, пасьля якога скаўты прадэклямавалі рад вершаў Цёткі.

22 лютага 1947 г. наш Першы Сьцяг адзначыў угодкі нарадзінаў бацькі скаўтынгу Робэрта Бадэн Поўля[243]. Быў наладжаны сяброўскі вечар, на якім быў прачытаны кароткі рэфэрат аб жыцьці і дзейнасьці Бадэн Поўэля. Пасьля рэфэрату дырэктар гімназіі падзяліўся ўспамінамі аб першых аддзелах беларускіх скаўтаў на Бацькаўшчыне.

Па сканчэньні ўрачыстае часткі пачалася мастацкая самадзейнасьць. Прапялі некалькі народных песьняў, малодшыя юначкі "Пчолкі" паказалі інсцэнізацыю, старэйшыя скаўты – некалькі пірамідаў. Пасьля пачаліся танцы. Было вельмі шкада, што нельга было зрабіць усяго гэтага пры вогнішчы.

2 сакавіка 1947 г. адбыліся наступныя экзаміны на першую, другую і 3-ю зоркі. Дружына "Рысь" здавала за 1-ю і 2-ю зоркі, "Васілёк" і "Сокал" на 3-ю. За выдатнае злажэньне экзаміну скаўты ўзнагароджваліся скаўцкім падручнікам "Скаўцкі Спадарожнік"[244].

---

241 СІС. № 6. Травень 1947. — ***А. В.***

242 СІС. № 6. Травень 1947. — ***А. В.***

243 **Робэрт Бадэн-Паўэл** (анг. *Robert Stephenson Smyth Baden-Powell*, 1857—1941), брытанскі ваенны дзеяч, заснавальнік скаўтынгу.

244 Бута, Аляксандар. Скаўцкі спадарожнік. Міхельсдорф: "Крыніца", 1947. 31 с.

## *Міжнародная Скаўцкая Арганізацыя (ІСА)*

Дня 1 і 2 сакавіка 1947 г. у лягеры Лютэнзээ[245] каля Міттэнвальду[246] адбыўся зьезд прадстаўнікоў больш як 12 скаўцкіх арганізацыяў розных нацыянальнасьцяў, якія знаходзіліся ў Нямеччыне, разам зь нямецкімі скаўтамі й прадстаўнікамі прэсы. На гэтым міжнародным скаўцкім зьезьдзе былі прынятыя важныя пастановы і сарганізаваная Міжнародная Скаўцкая Арганізацыя (Інтэрнацыональ Скаўт Асосіейшэн[247]).

Да гэтых важнейшых пастановаў належаць:

1. Утварэньне Міжнароднай Скаўцкай Арганізацыі (ІСА) з сядзібай у Мюнхэне.

2. Утварэньне часовага бюра ў складзе прадстаўнікоў нямецкага скаўтынгу, расейскага і ўкраінскага, якія маюць паклікаць арганізацыю да жыцьця.

3. Апрацаваньне Статуту новай арганізацыі.

4. Выстасаваць да Міжнароднага скаўцкага бюра ў Лондане Мэмарандум у справе ўдзелу ўсіх аб’еднаных у ІСА арганізацыяў у 6-м Джэмбары.

5. Утварыць пры ІСА сталы Джэмбары-камітэт.

6. Склікаць у пачатку ліпеня 1947 г. каля Мурнаў пры Штафельзээ[248] ад усіх знаходзячыхся ў Нямеччыне скаўтаў на 14-дзённы зьлёт 500 асобаў дзеля ўлажэньня праграмы Джэмбары.

7. Паклікаць да жыцьця ўнутры ІСА камісію ў складзе дзьвюх сэкцыяў, адну для тэхнічных, а другую для гаспадарчых справаў.

У справе скаўцкай прэсы й прапаганды пастаноўлена:

1. 1Выдаваць у меру магчымасьцяў штодва тыдні Інфармацыйны бюлетэнь ІСА пад загалоўкам “ІСА Інформатіон”[249]. Заданьнем бюлетэню будзе паведамляць аб працах ІСА і аб’еднаных нацыянальных арганізацыяў у нямецкай і часткова ангельскай мовах.

---

[245] **Лютэнзээ** (ням. *Luttensee*) — возера каля Мітэнвальду, на поўдні Баварыі, на беразе якога знаходзіўся беларускі лягер. Тут у 1948 г. быў адкрыты помнік удзельнікам Слуцкага збройнага чыну.

[246] **Мітэнвальд** (ням. *Mittenwald*) — горад на поўдні Нямеччыны, у зямлі Баварыя, у ваколіцах якога на возеры Лютэнзээ ў 1947—1949 гг. існаваў ДП-лягер зь беларускай школкай, садком і скаўтынгам.

[247] *International Scout Associacion* (анг.).

[248] **Мурнаў** (ням. *Murnau am Staffelsee*) — мястэчка на поўдні Нямеччыны, у зямлі Баварыя.

[249] Інфармацыі пра выданьне з такой назвай не знойдзена.

2. Для інфармаваньня аб супрацоўніцтве скаўцкіх арганізацыяў мае выходзіць “Інфармацыйная Служба”[250], выдаваная прэсавым аддзелам ІСА. “Інфармацыйная Служба” мае зьмяшчаць у нямецкай мове састаўленьне вытрымак і даных аб зьмесьце важнейшых артыкулаў, дакладаў і падобнага матар’ялу з часапісаў нацыянальных арганізацыяў, у меру магчымасьцяў таксама з ранейшых важнейшых публікацыяў і выданьняў брашураў і кніжак. Прэсавы аддзел ІСА будзе рассылаць гэты інфармацыйны матар’ял усім аб’еднаным скаўцкім арганізацыям. Пытаньне аб аўтарскіх правох і ганарары за публікацыі часова адхіленае. Аднак мае падавацца пры ўсіх перакладах і публікацыях імя аўтара.

3. Кажная аб’яднаная скаўцкая арганізацыя павінна прысылаць у прэсавы аддзел ІСА столькі экзэмпляраў сваіх часапісаў і публікацыяў, каб кажная арганізацыя магла атрымаць тры экзэмпляры і каб два экзэмпляры маглі астацца ў прэсавым аддзеле ІСА.

4. Публічнасьць будзе паведамляцца аб скаўцкім руху праз далейшы інфармацыйны і прапагандовы матар’ял ў штодзённай юнацкай прэсе. Прадбачана таксама міжнародныя скаўцкія перадачы ў радыё Мюнхэн і Штутгарт.

5. Нямецкі часапіс “Дас Юнгэ ворт”[251] задэклараваў сваю гатовасьць зьмяшчаць на спэцыяльнай бачыне весткі аб скаўцкім руху іншых нацыянальнасьцяў і іншыя цікавыя матар’ялы паасобных народаў у такім парадку, што кажная арганізацыя мела-б магчымасьць прыблізна раз на 4 месяцы зьмяшчаць свой матар’ял.

6. Кажная нацыянальная арганізацыя са свайго боку павінна зьмяшчаць матар’ял, прысланы прэсавым бюро ў сваіх часапісах і сваёй нацыянальнай мове.

7. Прызнана за вельмі важную і пільную справу выданьне Міжнароднага скаўцкага сьпеўніка. Дзеля таго павінна кажная скаўцкая арганізацыя прыслаць у прэсавае бюро ІСА 5–10 найпрыгажэйшых скаўцкіх песьняў з нотамі і арыгінальнай мовай (лацінскімі літарамі) разам зь нямецкім перакладам або паданьнем зьместу ў магчыма найхутчэйшым часе. Скаўцкі сьпеўнік будзе такім чынам зьмяшчаць у нацыянальнай мове зь нямецкім перакладам песьні таксама ангельскіх, амэрыканскіх, французскіх і іншых скаўтаў. Рэдакцыя “Дас Юнгэ Ворт” забавязалася выдаць гэткі зборнік скаўцкіх песьняў.

У справе навязаньня цэснага супрацоўніцтва паміж арганізацыямі:

---

[250] Інфармацыі пра выданьне з такой назвай не знойдзена.

[251] ***“Das Junge Wort”*** (ням.) — моладзевы часопіс, які выдаецца ў зямлі Бадэн-Вюртэмбэрг ад 1945 г.

1. 1. Паклікаць да жыцьця сталыя міжнародныя курсы для сэньёраў[252].

2. 2. Праводзіць вымену тэкстаў права й забавязаньняў, скаўцкіх пробаў і ступеняў “Ваўчанят”, скаўтаў і сэньёраў, як матар’ял патрэбны для шкаленьня скаўтмайстраў.

3. 3. Запрашаць на ўсякія скаўцкія спатканьні моладзь розных нацыянальнасьцяў для замацаваньня міжнароднай дружбы.

4. 4. Арганізаваць скаўцкія спаборніцтвы і змаганьні розных нацыянальнасьцяў, а таксама ўзаемна паведамляць аб нацыянальных сьвятах і асаблівых скаўцкіх урачыстасьцях паасобных народаў[253].

Неўзабаве сябрам гэтай міжнароднай арганізацыі стаўся і беларускі скаўтынг ды прымаў актыўны ўдзел ува ўсіх праводжаных ёю канфэрэнцыях, зьлётах ці спаборніцтвах.

Зьвяз імя Кастуся Каліноўскага 1-га Сьцягу Штандару “Баварыя” пастановай Рады дружынных падзелены на два Зьвязы з прычыны ўступленьня новых кандыдатаў. Патронам 1-га Зьвязу, у якім застаюцца ўсе старыя дружыны, пакінуты нацыянальны герой К. Каліноўскі. Патронам 2-га Зьвязу, куды адышлі ўсе новыя дружыны, быў выбраны герой-змагар за незалежнасьць Беларусі Юры Лістапад[254].

Хто такі Юры Лістапад? Пасьля задушэньня Слуцкага паўстаньня ў 1920 г. шмат удзельнікаў яго эміграваਲа на захад. Сярод эмігрантаў быў малады настаўнік Юры Лістапад. Пасьля ён вярнуўся на Бацькаўшчыну і ў 1922 годзе пачаў працаваць настаўнікам у горадзе Слуцку. Ён заснаваў там у 1924 годзе вучнёўскі гурток моладзі, які вывучаў беларускую літаратуру, мову і краяведу. Сярод гуртка паўстала думка стварыць нелегальную супрацьбальшавіцкую арганізацыю з мэтай змаганьня за незалежнасьць Беларусі. Галоўным клічам арганізацыі быў: *“Няхай жыве незалежная Беларусь!”*. Але

252 ***Senior*** (анг.) — тут: старэйшы скаўт.

253 СІС. № 6. Травень 1947. — ***А. В.***

254 **Юры Лістапад** (1897—1938), дзеяч нацыянальнага руху. Закончыў Панявескую настаўніцкую сэмінарыю (1914). Настаўнічаў на Случчыне. Браў удзел у Слуцкім збройным чыне. Выехаў у Польшчу, адкуль у 1922 г. вярнуўся ў Беларусь. Настаўнічаў, працаваў стыльрэдактарам Дзяржвыдавецтва БССР. Арыштаваны ў 1925 г. як кіраўнік контррэвалюцыйнай арганізацыі. Асуджаны на 5 гадоў, але пасьля адпушчаны. У 1930 г. асуджаны па справе “Саюзу вызваленьня Беларусі” й зноў вызвалены. У 1933 г. арыштаваны па справе “Беларускага нацыянальнага цэнтру”, асуджаны на 8 гадоў. Пакараньне адбываў у БамЛАГу. Расстраляны.

ГПУ[255] хутка выкрыла гэтую арганізацыю і арыштавала ейных сяброў. Юры Лістапад быў галоўным абвінавачаным і асуджаны на 5 гадоў турмы. У 1933 годзе ён быў высланы ў Сібір[256].

24 сакавіка 1947 г. Першы Сьцяг у Міхэльсдорфе ладзіў скаўцкае вогнішча. Пры вогнішчы старэйшыя кандыдаты і кандыдаткі складалі прысягу, а "Ваўчаняты" і "Пралескі" забавязаньне. Пасьля ўрачыстае часткі распачалася мастацкая. Вечар быў закончаны апушчэньнем сьцягу і скаўцкай малітвай[257].

30 сакавіка 1947 г. у Міхэльсдорфе распачаўся курс скаўцкіх кіраўнікоў. Курс, які будзе цягнуцца 3 тыдні, наведае 10 асобаў. Пасьля сканчэньня гэтага курсу мае распачацца новы летні курс, які будзе трываць 4 тыдні[258].

## *Першы Зьезд скаўцкіх кіраўнікоў Амэрыканскай зоны*

Дня 9 красавіка 1947 г. у Міхэльсдорфе адбыўся Першы Зьезд скаўцкіх кіраўнікоў. Зьезд распачаўся а гадзіне 20-й. Адчыніў яго Сьцяжны сябра Бута[259], які высьветліў у агульных рысах мэту Зьезду, а таксама зрабіў кароткі агляд скаўцкай працы ў Амэрыканскай акупацыйнай зоне Нямеччыны. На парадку дзённым было некалькі пытанняў. Перш была праслуханая справаздача штандаровага. Матывуючы гэта адсутнасьцю часу ў сувязі з унівэрсытэцкімі студыямі і немагчымасьцю стварэньня штабу ў Рэгенсбурге, дзе ён цяпер знаходзіцца, зьезд прыняў прапанову Д. Сямёнава і на становішча штандаровага Штандару "Баварыя" быў выбраны сябра Бута. На апякуна Штандару выбраны ганаровы скаўт, былы апякун 1-га Сьцягу. На

---

[255] **ГПУ** — ад рас. **Дзяржаўнае палітычнае ўпраўленне** — савецкая спэцслужба.

[256] Напагатове. № 2-3. Міхельсдорф, 1947. — ***А. В.***

[257] СІС. № 6. Травень 1947. — ***А. В.***

[258] СІС. № 6. Травень 1947. — ***А. В.***

[259] **Аляксандар Бута** (1923—1998), грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў ДП-лягеры ў Нямеччыне. Закончыў 7 клясаў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. Быў кіраўніком беларускага скаўтынгу ў Амэрыканскай зоне Нямеччыны, аб'яднанага ў штандар "Баварыя". У 1948 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Зьяўляўся сябрам Згуртаваньня беларусаў Вялікай Брытаніі. Стваральнік Беларускага юнацкага клюбу ў Брадфардзе, ініцыяваў правядзеньне летнікаў для беларускіх дзяцей у Лёндане. У сярэдзіне 1960-х гг. адышоў ад ЗБВБ і далучыўся да прасавецкай суполкі. Стаў адным з аўтарам прасавецкага часопісу "Славянский голос".

сталае месца кіраўніцтва Штандару “Баварыя” выбрана Міхэльсдорф, дзе знаходзіцца большы Беларускі лягер.

Пры штабе Штандару створаныя наступныя рэфэраты:

1. Арганізацыйны рэфэрэнт — штандаровы.
2. Выхаваўчы рэфэрэнт — зьвязовы Зьвязу імя К. Каліноўскага.
3. Прапаганды рэфэрэнт — старшы зьвязовы 1-га Сьцягу Міхэльсдорф.
4. Гаспадарчы рэфэрэнт — скарбнік 1-га Сьцягу Міхэльсдорф.
5. Міжнацыянальнай сувязі рэфэрэнт — сьцяжны 2-га Сьцягу ў Остэргофэне.

На зьлёце была абгавораная таксама справа справа Міжнароднага скаўцкага зьлёту, які мае адбыцца ў Амэрыканскай зоне Нямеччыны. Пастаноўлена неадкладна распачаць падрыхтоўку да гэтага Зьлёту. Адказным за гэтую справу выбраны сьцяжны 2-га Сьцягу.

Часапіс 1-га Сьцягу Міхэльсдорф “Напагатове” становіцца з гэтага часу агульным часапісам Штандару “Баварыя”[260].

11 траўня 1947 г. адбылося футбольнае спаборніцтва паміж скаўцкай футбольнай камандай “Міхэльсдорф” і нямецкай камандай “Рээдорф”. Выйграла каманда “Міхэльсдорф” — 4:0[261].

17 траўня 1947 г. Сьцяг Міхэльсдорф праводзіў скаўцкія палявыя гульні, якія цягнуліся ад 17 да 18 траўня 1947 г. Пасьля гульняў скаўты наведалі сваіх сяброў новаўтворанага Сьцягу ў Віндзішбэргэрдорфе.

## ***Рыхтуймася да лета***

*Надыходзіць лета. Для нас, скаўтаў, гэта тая пара, калі мы павінны найбольш выявіць свае скаўцкія якасьці. Улетку мы павінны пашырыць і замацаваць тыя тэарэтычныя веды, якія мы набылі зімою як на зборках дружыны, гэтак і ў школе.*

*Дзе найбольш мы можам праверыць гэтыя якасьці? Дзе можам найбольш пазнаёміцца з практычным жыцьцём і выявіць свае скаўцкія здольнасьці: арыентацыю, знаходлівасьць, вытрываласьць, уважлівасьць, асьцярожнасьць? Дзе можам пазнаёміцца з жыцьцём прыроды, дзе загартуем сваю волю й выпрацуем характар і падрыхтуем іх для перанясеньня ўсіх цяжкасьцяў у будучым змаганьні й жыцьці?*

*Ува ўсім гэтым нам у значнай меры дапаможа лягер. Лягернае жыцьцё, жыцьцё на ўлоньні прыроды з усімі яе неспадзяванасьцямі можа выхаваць і загартаваць скаўта для далейшае працы і паможа набыць неабходныя ў практычным жыцьці веды.*

[260] СІС. № 6. Травень 1947. — ***А. В.***

[261] СІС № 7. 1947. — ***А. В.***

*Таму ўсе кіраўнікі мясцовых скаўцкіх адзінак павінны прыкласьці ўсе намаганьні, каб арганізаваць для сваіх аддзелаў мінімум тыднёвыя лягеры. Для гэтага кіраўнік мусіць перш за ўсё паведаміць адпаведныя кіруючыя ўлады, агледзець для лагеру мясцовасьць (пры выбары мясцовасьці ён павінен сам выказаць сябе найбольш спрактыкаваным і вольным скаўтам). Трэба, каб мясцовасьць была лясістая, што неабходна для скаўцкіх гульняў, каб ад лягеру знаходзілася недалёка крыніца, каб лягер быў цалкам ізаляваны ад гораду.*

*Кіраўнік павінен пастарацца здабыць увесь інвэнтар, неабходны для лягеру і падрыхтаваць да лягеру скаўтаў. Лягернае жыцьцё трэба наладзіць так, каб лягер пакідаў у скаўта найпрыямнейшае ўражаньне. У лягеры трэба менш за ўсё займацца тэорыяй, а больш зварочваць увагу на практычныя заняткі.*

*Вялікую ўвагу ў лягеры патрэбна зьвярнуць на спорт і розныя скаўцкія гульні, разьлічаныя на выхаваньне скаўта. Але скаўт не павінен у лягеры пераўтамляцца спортам. На спорт павінны быць вызначаны пэўныя гадзіны. Абавязкава патрэбна ладзіць вогнішчы для выяўленьня большай ініцыятывы ў моладзі.*

*Але ня толькі лягер выхоўвае якасьці, неабходныя скаўту. Выхаваўчае значэньне маюць таксама і скаўцкія паходы-экскурсіі з перамогай цяжкасьцяў.*

*Гэткія пераходы як на 300–350 клм трэба ўжо рабіць пераважна із старэйшай і сярэдняй моладзьдзю пад кіраўніцтвам спрактыкаваных старэйшых людзей — праваднікоў.*

*Такія пераходы разьлічаныя ня толькі на выпрацаваньне волі й характару, але таксама й на агульнае разьвіцьцё скаўта. Тут скаўт пазнае сваю краіну, народ, ягоныя звычаі, традыцыі.*

*У такіх пераходах скаўт якраз займаецца такім карысным і так мала пашыраным сярод скаўтаў заняткам — збіраньнем фальклёру. Калі мы заглянем гадоў на дваццаць у гісторыю арганізацыі нашай моладзі, у 1926—1927-я гады, дык пераканаемся, што нашая вучнёўская моладзь, тады зарганізаваная ў розных гурткох, рабіла такія пераходы па цікавых кутках радзімы. І тады нашая моладзь шмат зрабіла карыснага і ў навуковай галіне. Яна займалася раскопкамі, зьбіраньнем фальклёру і іншым.*

*На жаль, нам, скаўтам, выпала крыху горшая доля — мы не на Бацькаўшчыне. Мы не можам непасрэдна пазнаваць нашае краіны, плаваць у нашым Нёмне, Дняпры, Дзьвіне, Прыпяці, ня можам рабіць экскурсіі ў нашыя пушчы, адведваць нашыя слаўныя гарады: Полацак, Смаленск, Тураў, Пінск, Вільню, Наваградак, Магілёў, ня можам пабываць у нашай сталіцы — Менску. Але не падайма духам. Скаўт заўсёды вясёлы і спадзяецца на лепшае — на хуткі зварот*

*на Беларусі, а здабыцьцё вольнае Беларусі будзе йсьці праз цяжкае змаганьне, да якога мы павінны быць загартаваныя.*

*І вось тут, у Баварыі, на чужыне, мы маем ладную частку таго, што патрэбна для загартаваньня духу й цела скаўта. Цяпер, з надыходам летняга сезону, мы павінны пастарацца правесьці гэты сезон якнайлепш. І Альпы, і Гарц, і Баварскі Лес*[262]*, і Альгаў*[263]*, Дунай*[264]*, Ізар*[265]*, Рэйн*[266] *— усё павінна быць адпаведным чынам выкарыстана.*

*Магчыма, у вашых мясцовасьцях будуць скаўцкія лягеры і іншых нацыянальнасьцяў. Ідзеце туды і мяняйцеся зь імі скаўцкім досьведам, навучайцеся ад іх усяму лепшаму й будзьце зь імі ў добрых адносінах.*

*Дык “Напагатове!” загартоўваць свой дух і цела для будучага змаганьня за Беларусь!*

*“Заўсёды!”*[267].

*В. Рысь*[268].

---

[262] **Баварскі Лес** (ням. *Bayrischer Wald*) — горны хрыбет у паўднёва-заходняй Нямеччыне.

[263] **Альгаў** (ням. *Allgäu*) — рэгіён у паўднёвай Нямеччыне й паўночнай Аўстрыі, пралягае ад перадальпійскіх земляў да Альпаў. Папулярнае месца адпачынку.

[264] **Дунай** — рака, якая бярэ пачатак у Нямеччыне, працякае па Аўстрыі, Славакіі, Венгрыі, Харватыі, Сербіі, Балгарыі, Румыніі, Малдове, Украіне. Упадае ў Чорнае мора.

[265] **Ізар** (ням. *Isar*) — рака, якая бярэ пачатак у Аўстрыі, працякае па Нямеччыне, дзе ўпадае ў Дунай.

[266] **Рэйн** (ням. *Rhein*) — рака, якая бярэ пачатак у Швайцарыі, цячэ па Ліхтэнштэйне, Аўстрыі, Нямеччыне, Францыі, Нідэрландах і ўпадае ў Паўночнае мора.

[267] Напагатове. № 4-5. Красавік — травень 1947 г. — ***А. В.***

[268] **В. Рысь** — скаўцкі псэўданім **Вітаўта Кіпеля** (нар. 1927), грамадзкага дзеяча, навукоўца, дасьледчыка беларускай эміграцыі. У 1933—1942 гг. разам з бацькамі жыў у Расіі. Потым вучыўся ў Менску, пакуль у 1944 г. ня выехаў з бацькамі ў Нямеччыну. У 1945—1948 гг. вучыўся ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы, займаўся скаўтынгам. Паступіў на мэдыцынскі факультэт Цюбінгенскага ўнівэрсытэту, а ў 1953 г. закончыў Лювэнскі ўнівэрсытэт са спэцыяльнасьцю гэоляга, а ў 1955 г. атрымаў ступень доктара мінэралёгіі. Быў заступнікам старшыні Саюзу беларусаў Бэльгіі. У 1955 г. пераехаў у ЗША. Працаваў у навукова-вытворчых фірмах, у Балтымарскім унівэрсытэце (штат Мэрыленд). У 1959—1985 гг. — у Дасьледчым цэнтры навукі й тэхналёгіі Нью-Ёркскай публічнай бібліятэкі (у тым ліку на пасадзе выканаўчага дырэктара). У 1962—1963 гг. вучыўся ў Ратгерскім унівэрсытэце (Нью-Джэрзі) па спэцыяльнасьці “бібліятэказнаўства”.

## *Міжнародная скаўцкая канфэрэнцыя*

Міжнародная скаўцкая 11-я канфэрэнцыя ў Шато дэ Росны[269] ў Францыі ў жніўні 1947 г. пастанавіла паклікаць да жыцьця самастойны аддзел Міжнароднага скаўцкага бюра для справаў ДП, якіх лік у Нямеччыне і Аўстрыі выносіў 15 000.

Прадстаўніцтва Міжнароднага скаўцкага бюра ў Нямеччыне, дзеючае ў паразуменьні з акупацыйнымі ўладамі і IPO[270], атрымала наступныя даручэньні для праводжаньня свае дзейнасьці:

1) Пасярэдніцтва паміж скаўтамі ДП, Міжнародным Бюро і нацыянальнымі скаўцкімі арганізацыямі.

2) Шкаленьне скаўтаў у веку ад 8 да 18 год і тварэньне новых групаў у асяродках ДП.

3) Шкаленьне скаўцкіх інструктараў шляхам арганізаваньня “Гільвэрскіх” курсаў.

4) Праводжаньне прынцыпаў і пастановаў скаўцкага руху, каб мэты, мэтоды і асновы скаўтынгу былі ўспрыманыя і выконваныя ўсімі, каб не праводзілася палітычная прапаганда, каб не было розьніцаў што да паходжаньня, нацыянальнасьці, рэлігіі, расы і колеру, каб кажны сябра адносіўся лаяльна да рэлігійных пачуцьцяў іншых і да свайго веравызнаньня, каб прыналежнасьць да скаўцкага руху была добраахвотнай і асновы скаўтынгу былі дабравольна ўспрыйманыя ўсімі сябрамі.

---

Лідар беларускага рэспубліканскага руху. Пры канцы 1960-х гг. выкладаў у беларускай школе ў Брукліне. У 1960—1980-х гг. супрацоўнічаў з Радыё “Свабода”. У 1972—1982 гг. старшыня Фэдэрацыі беларускіх рэспубліканскіх клюбаў. У 1974 г. абраны на старшыню Рэспубліканскай федэрацыі штата Нью-Джэрсі. Рэдактар газэты нью-джэрсійскіх рэспубліканцаў *Heritage Review*. Заснавальнік і дырэктар беларускіх фэстываляў у Нью-Джэрзі (1976—1979). У 1972 г. у Вашынгтоне абраны на заступніка старшыні Нацыянальнай канфэдэрацыі амэрыканскіх этнічных груп. У 1975 г. узнагароджаны мэдалём Паняволеных народаў Эйзенхаўэра. У 1978—1982 гг. старшыня Этнічнай рады штату Нью-Джэрзі. Ад 1982 г. старшыня БІНІМу. Аўтар працы “Беларусы ў ЗША” (1993 і 2017 гг.; ангельскамоўнае выданьне 1999 г.), шэрагу грунтоўных бібліяграфічных даведнікаў, а таксама дзясяткаў публікацый, у тым ліку артыкулаў беларусазнаўчай тэматыкі ў амэрыканскіх энцыкляпэдыях.

[269] **Шато дэ Роні** (фр. *Le château de Rosny-sur-Seine*) — замак у горадзе Роні-сюр-Сен у дэпартамэнце Івэлін у Іль-дэ-Франс. Менавіта ў гэтым замку ў 1947 г. адбывалася 11-я Міжнародная скаўцкая канферэнцыя.

[270] **IPO** (анг. *International Refugee Organization, IRO*) — **Міжнарожная арганізацыя па справах уцекачоў**, створаная ААН у красавіку 1946 г. Стала спадкаемцам *UNRRA*. Дзейнічала да 1952 г.

5) Выхаваўчая служба за пасярэдніцтвам інструктараў у справах, якія адносяцца да стасаваньня скаўцкай мэтоды ў выхаваньні моладзі.

6) Служба па арганізацыі групаў.

7) Лягерніцтва і фізычнае выхаваньне.

8) Міжнароднае братэрства, каб дапамагчы скаўтам ДП увайсьці ў цесны кантакт з іншымі братамі скаўтамі ў іншых частках сьвету і іх нацыянальнасьцямі.

9) Рэпатрыяцыя, каб з узгляду на нацыянальныя скаўцкія арганізацыі дапамагчы кажнаму скаўту і сталаму скаўту пасьля вярнуцца на сваю Бацькаўшчыну.

На Зьлёце была таксама абгавораная справа Міжнароднага скаўцкага зьлёту, які мае адбыцца 12—13 чэрвеня 1948 году ў латыскім ДП-лягеры Эсьлінгэн[271].

Наступная Канфэрэнцыя адбудзецца 12—13 чэрвеня 1948 г. у латыскім лягеры Эсьлінгэн[272].

## *Другі Дзявочы Сьцяг*

Нашы дзяўчаты, прабыўшы разам з хлапцамі ў адным Сьцягу паўтары гадоў, пабачылі, што між хлапцоўскім скаўтынгам і дзявочым ёсьць розьніца і што яны ўжо даволі моцныя, каб пачаць самастойную працу.

28 верасьня 1947 г. адбылося ўрачыстае адлучэньне дзяўчат ад Першага Сьцягу і заснаваньне Другога Дзявочага Сьцягу.

У гэты дзень зладжаны быў вельмі добра канцэрт сіламі адных дзяўчат. Зімовы час нашыя скаўты праводзілі за навукай, у пазнаваньні ўсё новага і новага… З надыходам вясны, нашыя скаўты былі даволі добра падрыхтаваныя ўва ўсіх галінах скаўцкіх спраўнасьцяў і якасьцяў.

У гэтым годзе нашых скаўтаў можна заўважыць амаль на ўсіх міжнародных скаўцкіх сустрэчах. Першым заслугоўвае на ўвагу Джэмбары, якое адбылося 25—31 сакавіка 1947 г. у Гамбургу[273]. Тут прысутнічалі прадстаўнікі ўсіх ДП-скаўтаў, а таксама скаўтаў ангельскіх, амэрыканскіх і інш. Гэта была першая сустрэча беларускіх скаўтаў з ангельскімі. Ангельцы цікавіліся нашым скаўтынгам, на-

---

[271] **Эсьлінген** (ням. *Eßlingen*) — мястэчка на захадзе Нямеччыны, у зямлі Рэйнланд-Пфальц.

[272] 12-я Міжнародная скаўцкая канфэрэнцыя адбывалася ў 1949 г. у маленькім нарвэскім мястэчку Эльвесэтар (*Elvesæter*).

[273] **Гамбург** (ням. *Hamburg*) — горад на поўначы Нямеччыны, другі па велічыні ў краіне і з’яўляецца адной з 16 зямель Нямеччыны.

шым народам, яго гісторыяй і г. д. Якраз тут наша моладзь годна зарэпрэзэнтавала сябе, свой Народ і Край.

24 жніўня 1947 г. адбылося ўрачыстае сьвяткаваньне другіх ўгодкаў Міжнароднай Скаўцкай Арганізацыі ў Рэгенсбургу. У гэтай урачыстасьці ад беларускіх скаўтаў прымалі ўдзел 35 сябровак і сяброў з 1-га Сьцягу “Баварыя”, 16 з 6-га і сьцяжны 2-га Сьцягу. Днём адбыўся ўрачысты парад, у якім прымалі ўдзел скаўты шасьці нацыянальнасьцяў, вечарам — урачыстае вогнішча, на якім скаўты паасобных нацыянальнасьцяў выступалі са сваімі праграмамі[274].

## *Другія ўгодкі Першага Сьцягу.*

16 лістапада 1947 г. Першы Сьцяг у Міхэльсдорфе ўрачыста сьвяткаваў 2-я ўгодкі свайго існаваньня.

Сьвяткаваньне пачалося раніцай малебнам у лягернай царкве, а вечарам а 5-й гадзіне ў лягерным клюбе адбылася ўрачыстая частка. Перад вялікай грамадай мясцовых скаўтаў, гасьцей скаўтаў з Віндзішбэргэрдорфу, Остэргофэну, Майнлёйзу[275] і інш. ды жыхароў лягеру прайшлі сьцяжныя тройкі са сьцягамі Першага Сьцягу скаўтаў і Другога Сьцягу скаўтак. Пры ўрачыстай цішыні прачытаны быў першы загад Першага Сьцягу ў 1945 г.

Наступна заступнік Галоўнага кіраўніка ЗБСЧ штандаровы Штандару “Баварыя” расказаў аб працы і поступах гэтага Сьцягу за два гады.

З прывітальнымі словамі выступалі: апякун Штандару “Баварыя”, апякун Першага Сьцягу, дырэктар Гімназіі імя Янкі Купалы сп. А. Орса[276], сьцяжны Другога Сьцягу ў Остэргофэне і іншыя. Пась-

---

[274] СІС. № 9. Верасень 1947. — ***А. В.***

[275] **Майнлёйз** (ням. *Mainleus*) — горад у зямлі Баварыя, побач зь якім у казармах разьмяшчаўся ДП-лягер, дзе дзейнічалі беларускія дзіцячы садок, пачатковая школа. Беларусы ў лягеры знаходзіліся ад 1947 да 1948 г.

[276] **Аляксандар Орса** (1896—1959), грамадзкі дзеяч, пэдагог. У 1913 г. закончыў Наваградзкае гарадское вучылішча, потым — двухгадовыя настаўніцкія курсы. Мабілізаваны ў царскае войска, закончыў школу прапаршчыкаў і быў накіраваны на фронт. У 1918 г. вярнуўся на радзіму, настаўнічаў. У 1923—1929 гг. вучыўся ў Празе ва Ўкраінскім пэдагагічным інстытуце, потым у Карлавым унівэрсытэце. Доктар прыродазнаўчых навук. У 1929—1934 гг. выкладаў прыродазнаўства ў Наваградзкай беларускай гімназіі. У 1938 г. разам зь сям’ёю прымусова выселены ў этнічную Польшчу, аднак з пачаткам Другой сусьветнай вайны вярнуўся ў Беларусь, настаўнічаў, працаваў школьным інспэктарам у Наваградзкай акрузе. Ад 1944 г. на эміграцыі. У Нямеччыне быў дырэктарам Беларускай

ля ўрачыстай адбылася мастацкая частка. Сіламі Першага і Другога Сьцягоў быў дадзены невялікі канцэрт, у якім вельмі добра вышаў мантаж “Кастусь Каліноўскі” і пьеса “Чорт і баба”[277].

Урачыстасьць закончылася скаўцкай вечарынкай[278].

## Віндзішбэргэрдорф[279]

У другой палавіне траўня 1947 г. у Баварыі (6 клм на поўнач ад гораду Каму) паўстаў новы беларускі ДП-лягер ў Віндзішбэргэрдорфе, дзе амаль адначасна арганізавалася новая нашая скаўцкая адзінка, якая налічвала 45 асобаў. За кароткі час свайго існаваньня новапаўсталая скаўцкая група паказвала ўжо добрыя вынікі свае працы. 22 траўня 1947 г. група гэтая ў футбольным матчы са скаўтамі з Міхэльсдорфу выйшла пераможна. Вынік 1:3[280].

На 2-м Зьезьдзе ў Остэргофэне ад 8 да 10 жніўня 1947 г. Віндзішбэргэрдорф рэпрэзентаваў сьцяжны 6-га Сьцягу[281].

24 жніўня 1947 г. ва ўрачыстасьці сьвяткаваньня 2-х угодкаў Міжнароднай Скаўцкай Арганізацыі беларусаў рэпрезентавалі побач 35 скаўтаў і скаўтак з 1-га Сьцягу, штандару “Баварыя”, 16 скаўтаў з 6-га Сьцягу ў Віндзішбэргэрдорфе[282].

16 лістапада 1947 г. 1-шы Сьцяг у Міхэльсдорфе ўрачыста сьвяткаваў другія ўгодкі свайго існаваньня. Сярод іншых гасьцей-скаўтаў удзельнічалі і скаўты з Віндзішбэргэрдорфу[283].

## Марбург

21 травеня 1947 г. са студэнтаў, якія вучацца ва ўнівэрсытэце ў Марбургу, сарганізаваўся Зьвяз скаўтаў. У гэты Зьвяз улучыліся так-

гімназіі імя Я. Купалы ў Рэгэнсбургу, Міхэльсдорфе. У 1949 г. выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. Працаваў лябарантам у шпіталі. Арганізоўваў першыя беларускія школкі ў ЗША. Адзін з заснавальнікаў БАЗА і БІНіМу.

277 Маецца на ўвазе п’еса “Чорт і баба” Францішка Аляхновіча.

278 СІС. № 10. Студзень 1948. — ***А. В.***

279 **Віндзішбэргердорф** (ням. *Windischbergerdorf*) — вёска ў зямлі Баварыя, непадалёк ад Міхельсдорфу, дзе ў траўні 1947 г. быў створаны беларускі ДП-лягер. У Віндзішбэргердорфе дзейнічалі праваслаўная царква, дзіцячы садок, пачатковая школа, зьвяз скаўтаў. У 1948 г. сюды перавезьлі Беларускую гімназію імя Я. Купалы зь Міхельсдорфу. У чэрвені 1949 г. беларусаў вывезьлі ў горад Розэнгайм.

280 СІС. № 7. 1947. — ***А. В.***

281 СІС. № 8. 1947. — ***А. В.***

282 СІС. № 9. Верасень, 1947. — ***А. В.***

283 СІС. № 9. Верасень, 1947. — ***А. В.***

сама скаўткі і скаўты студэнты з Мюнхэну. Зьвяз ахоплівае ў даны момант тры дружыны: 2 мужчынскія й 1 жаночую.

8—10 жніўня 1947 г. — удзел Марбургу ў 2-м Зьезьдзе ЗБСЧ: скаўтмайстар і сьцяжны студэнцкага Сьцягу (А. Бразоўскі), зьвязовы Зьвязу Марбург (Я. Арцюх[284]), сьцяжная і кіраўнічка жаночага Зьвязу (Р. Жукоўская[285]), 3 прадстаўнікі ад студэнцкай скаўцкай моладзі.

Студэнцкая скаўцкая група ў Марбургу працуе.

За час зімовага сэмэстру, міма інтэнсыўнай падрыхтоўкі студэнтаў да экзамінаў, студэнцкая скаўцкая група ў Марбургу не спыняла і выхаваўчай працы ў сваім Зьвязе.

8 кастрычніка 1947 г. шэф-скаўт прачытаў тут рэфэрат на тэму: “Скаўтынг сярод студэнтаў”. Пасьля рэфэрату адбылася дыскусыя на прачытаную тэму. Пастаноўлена падрыхтавацца да прысягі і да скаўцкіх пробаў на ступень Вандроўніка.

Прадыскутавалі магчымасьць працы сярод малодшых скаўтаў у лягеры Мэнхэнгоф[286] каля Каселю, а таксама справу ўпрыгожаньня сьвятліцы і скаўцкай бібліятэчкі.

1 кастрычніка 1947 г. адбылася чарговая зборка. Тэма: падрыхтоўка да здачы пробаў.

19 кастрычніка 1947 г. — рэфэрат на тэму “Першы пэрыяд у гісторыі Беларусі” прачытала сяброўка Раіса Жукоўская. Рэфэрат на тэму

---

[284] **Язэп Арцюх** (?—2013), грамадзкі дзеяч. Інжынэр паводле адукацыі. Жыў у ЗША. У 1959 г. заснаваў і стаў старшынём Лос-Анджэлескага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня. Быў сябрам Рэспубліканскага клюбу. У 1981 г. як старшыня Беларускага рэспубліканскага клюбу ў Каліфорніі атрымаў ад Прэзыдэнта ЗША Р. Рэйґана падзяку за заслугі перад Партыяй. Ад 1989 г. быў адным з стваральнікаў і выдаўцоў англамоўнага часопіса *“Belarusian Review”*. Жыў у г. Торэнс (Каліфорнія).

[285] Маецца на ўвазе **Раіса Жук-Грышкевіч** (дзяв. **Жукоўская**; 1919—2009), грамадская дзяячка. Вучылася ў Віленскай беларускай гімназіі. Ад 1939 г. працавала настаўніцай у Пружанах. У 1942 г. выехала ў Нямеччыну, працавала ў “Вінэце”. Па вайне апынулася ў Беларускім лягеры ў Ватэнштэце, брала ўдзел у скаўтынгу, пазьней вучылася на дантыстку ў Марбургу. У 1949 г. пераехала ў Канаду. Закончыла Таронцкі ўнівэрсітэт па спэцыяльнасьці “дантыстыка”. У 1953 г. узяла шлюб з грамадскім дзеячам Вінцэнтам Жук-Грышкевічам. Актыўная сяброўка ЗБК. У 1965 г. заснавала і ўзначаліла Згуртаваньне беларускіх жанчын у Канадзе. У 1973 г. як прадстаўнік ад беларускай этнічнай групы ўведзена канадзкім урадам у Кансультацыйную Раду па пытаньнях шматкультуралізму. У 1993 г. напісала і выдала кнігу “Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча”.

[286] **Мэнхегоф** (ням. *Menhehof*) — вёска недалёка ад Касэлю, дзе ў будынках старога вайсковага лягеру быў арганізаваны новы ДП-Лягер, куды прывезьлі беларусаў у 1947 г. Тут дзейнічала пачатковая беларуская школа. Вясной 1949 г. беларусаў перавезьлі ў лягер Альтэнштат.

“Гісторыя скаўтынгу і жыцьця Бі-Пі (Бадэн Поўэля) прачытаў сябра Я. А. (Язэп Арцюх). Пасьля рэфэратаў вывязалася кароткая дыскусія.

26 кастрычніка 1947 г. быў прачытаны рэфэрат “Беларуская літаратура XIX ст.”.

9 лістапада 1947 г. — падрыхтоўка да вогнішча, сьпевы і дэклямацыі.

19 лістапада 1947 г. — чарговая зборка.

23 лістапада 1947 г. — падрыхтоўка да прысягі.

7 сьнежня 1947 г. — тэма зборкі — гутарка кіраўніка аб скаўцкай прысязе і праве; вывучэньне песьняў.

“Дзед Мароз” у студэнтаў.

13 сьнежня 1947 г. Марбурскія студэнты ладзілі ўрачысты вечар з нагоды заканчэньня зімовага сэмэстру і дзеля адзначаньня традыцыйнага сьвяткаваньня сьв. Мікалая, званага ў нас Дзедам Марозам. Вечар злучыў усіх беларускіх студэнтаў Марбурскага ўнівэрсытэту ў сяброўская атмасфэры, поўнай гумару і весялосьці за скромным сталом. Нацыянальныя песьні пераносілі сэрцы маладых патрыётаў да роднай Беларусі.

Урэшце зьявіўся на залі Дзед Мароз. Ён прынёс цэлы мех розных “падарункаў”, лістоў, жартаў і гумарыстычных вершаў з жыцьця студэнтаў. Доўга не сьціхаў сьмех, выкліканы Дзедам Марозам. Пакінуў ён на ўсіх прыемнае ўражаньне.

На вечары прысутнічаў, як госьць, Галоўны кіраўнік ЗБСЧ, які прыехаў сюды, каб прыняць Прысягу ад студэнтаў-скаўтаў.

Наступнага дня 14 сьнежня ў студэнцкай сьвятліцы ў Марбургу адбылася скаўцкая ўрачыстасьць складаньня прысягі. Да гэтага дня студэнты ўжо даўно рыхтаваліся.

А 9-й гадзіне раніцы сабралася моладзь, дзяўчаты і хлапцы ў скаўцкіх уніформах. Прыбыў і Галоўны кіраўнік В. Пануцэвіч з Галоўнай кіраўнічкай Вандай Махнач[287] у асысьце скаўтмайстра сябры А. Бразоўскага і мясцовых кіраўнікоў.

Рапарт, малітва, а пасьля вялікая ўрачыстасьць. Скаўтмайстар Бразоўскі выступае з нацыянальным сьцягом у руках, на які студэнты будуць складаць прысягу. Прамаўляе Галоўны кіраўнік. Ён падкрэсьлівае вялікія абавязкі, якія стаяць перад кандыдатамі адносна сябе, бліжніх, Бога і Бацькаўшчыны. Заклікае непахісна стаяць пры скаўцкіх нацыянальна-незалежніцкіх ідэалах і быць гатовым аддаць найбольш ахвяры для гэтых ідэалаў. *“Будзьце верныя гэтаму бел-чырвона-беламу сьцягу, на які за хвіліну зложыце скаўцкую пры-*

[287] Маецца на ўвазе Ванда Чарнэцкая.

*сягу, ганарыцеся ім, бараніце ўсімі сіламі і занясеце яго на вольную Бацькаўшчыну"*, — закончыў сваю кароткую прамову шэф-скаўт.

Пасьля адбыўся акт злажэньня прысягі і інвэстуры[288] — прыняцьце ў скаўцкае братэрства. Нацыянальны гімн і вокліч тройчы "Жыве!" закончыў урачыстасьць[289].

Скаўцкую прысягу злажыла 6 старэйшых скаўтаў і 4 старэйшыя скаўткі.

Вясною 1948 году ў Нямеччыне была праведзеная грашовая рэформа[290], якая нямецкай марцы вярнула больш-меньш калішнюю ейную нармальную вартасьць, што гэтак была ўпала пасьля праіграньня вайны Нямеччынай.

У выніку гэтай рэформы бальшыня нашых студэнтаў мусіла перарваць студыі на нямецкіх унівэрсытэтах, у тым ліку і Марбурскім. Студэнты ня толькі ня мелі, чым заплаціць за навуку на ўнівэрсытэце, але і за што наняць пакой у горадзе.

На шчасьце адкрылася новая магчымасьць. Стараньнем студэнтаў, а галоўным чынам старэйшых нашых дзеячоў былі здабытыя стыпэндыі для студэнтаў-беларусаў для студыяў на бэльгійскім універсытэце ў Лювэне[291]. Першым сьмельчаком, праўда, давялося рызыкаваць навет арыштам, прабіраючыся нелегальна праз "зялёную граніцу" ў Бэльгію[292], бо каб атрымаць стыпэндыі, трэба было мець для каго, г. зн. трэба было мець беларускіх студэнтаў у Бэльгіі, а іх там дагэтуль не было.

[288] Інвэстура (тое ж, што інвэстытура) — у скаўтынгу: прыём новых сяброў у арганізацыю.

[289] СІС. № 10. Студзень 1948. — ***А. В.***

[290] **Грашовая рэформа ў Заходняй Нямеччыне** была праведзеная ў 1948 г., калі замест рэйхсмаркі была ўведзеная дойчмарка. Суадносіны старой валюты да новай складалі 10:1. Былі ўведзеныя жорсткія абмежаванні на абмен, што прывяло да "згараньня" часткі накапленьняў людзей. Сьледам за Заходняй была праведзена грашовая рэформа й ва Ўсходняй Нямеччыне — уведзена остмарка.

[291] **Лювэнскі каталіцкі ўнівэрсітэт** — першы ўнівэрсытэт у Бэльгіі, які паўстаў у 1425 г. і праіснаваў да 1797 г. Праз 20 гадоў ён быў адноўлены. Пры ім пачалі рыхтаваць каталіцкіх сьвятароў. Гэта прывяло да рэвалюцыі 1830 г., у выніку якой узьнікла Бэльгійскае каралеўства. Ад 1835 г. навучальная ўстанова стала называцца Каталіцкім унівэрсытэтам. У 1968 г. унівэрсытэт падзяліўся на два: валонскамоўны Лёвэнскі (ад нідэр. *Leuven*) застаўся на ранейшым месцы, франкамоўны Лювэнскі (ад фр. *Louvain*) пераехаў у спэцыяльна пабудаваны студэнцкі гарадок Лювэн-ла-Нёў. На пачатку 1950-х гг. у Лювэнскім унівэрсытэце навучалася каля 50 беларусаў.

[292] Пра гэта гл.: Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць. Мінск, 2016. С. 198—199.

Хутка аднак стыпэндыі былі прызнаныя і дадзеная магчымасьць легальнага ўезду ў Бэльгію. Выехаўшыя ў Лювэн студэнты-скаўты і там працягваюць скаўцкую работу, праўда, больш у агульных рамках БСЗ[293].

## Остэргофэн

Беларускае селішча ў Остэргофэне (Ніжняя Баварыя) паўстала ў пачатку лістапада 1946 г., раней былі тут палякі. У лягеры былі арганізаваныя Беларуская пачатковая школа і гімназія, ды ў хуткім часе і скаўтынг. Гэта быў 2-гі Сьцяг Штандару “Баварыя”. Адміністрацыя лягеру прыдзяліла скаўтам вялікі пакой, дзе яны ўладзілі сваю сьвятліцу.

### *З жыцьця 2-га Сьцягу*

Заснаваны 15 лістапада 1946 году 2-гі Сьцяг крывіцкіх скаўтаў у Остэргофэне правёў на працягу апошніх двух месяцаў актыўную дзейнасьць у шкаленьні скаўтаў і наладжваньні імпрэзаў.

31 сьнежня 1946 г. удзельнічаў у канцэрце, прысьвечаным сустрэчы Новага Году. Скаўткі і скаўты выканалі вельмі ўдала некалькі народных танцаў і патрыятычных дэклямацыяў.

9 студзеня 1947 г. Остэргофэнскія беларускія скаўты прымалі ўдзел у сьвяткаваньні першых угодкаў Сьцягу ў Міхэльсдорфе, каля Каму.

13 студзеня 1947 г. скаўты наладзілі калядаваньне з зоркай. Калядоўшчыкаў-скаўтаў вельмі горача прымала жыхарства лягеру. Сабрана было 357 марак на карысьць Сьцягу.

14 студзеня 1947 г. адбылася скаўцкая калядная ялінка. У мастацкай частцы моладзь выступала з народнымі беларускімі танцамі, калядкамі і дэклямацыямі. Пасьля Дзед Мароз раздаваў усёй моладзі падаркі. На заканчэньне адбыліся гульні і танцы.

У гэты самы дзень Остэргофэнскіх скаўтаў наведалі дзьве прадстаўніцы амэрыканскіх скаўтаў. Яны цікавіліся працай нашых скаўтаў. На агульнай зборцы скаўты засьпявалі госьцям некалькі калядак і пратанцавалі пару народных танцаў. Госьці ўзамен навучылі іх сьпяваць адну песьню па-ангельску. На дварэ перад лягерам зрабілі шмат фотаздымкаў у розных позах: у страі, на месцы, у маршы і ў часе сьпеву. На заканчэньне адна з амэрыканак сказала наступныя словы: “*Праводзячы час з вамі, дарагія скаўты, і скаўткі, мне прыпамінаюцца тыя часы, калі я з такой самай групай пачынала працу дома. Па характары праца ваша і наша такія самыя. Я*

[293] Маецца на ўвазе **Беларускае студэнцкае згуртаваньне ў Бэльгіі** — арганізацыя беларускіх студэнтаў, што дзейнічала ў 1950-я гг.

*вельмі задаволена, што за такі кароткі час вы здолелі шмат чаго навучыцца. Я вельмі дзякую вам за так прыгожыя беларускія песьні і танцы, якія вы так стройна выканалі. Я жадаю вам шмат шчасьця і здароўя, а таксама плённай працы на скаўцкай ніве"*.

Амэрыканскія скаўткі падаравалі нашым скаўтам некалькі скаўцкіх кнігаў па-нямецку, паперы, алавікоў і інш.

Беларускія скаўты далі на памятку амэрыканскім гасьцям паштоўкі з нацыянальным гэрбам і беларускімі краявідамі.

Сьцяг у Остэргофэне зарганізаваў скаўцкую бібліятэчку, здабыў частку ўніформы і неабходныя спартовыя прылады. Дружыны паасобку рыхтуюцца да спаборніцтва з дружынамі 1-га Сьцягу ў Міхэльсдорфе[294].

23 лютага 1947 году на ладжаны тут міжнацыянальны зьлёт скаўтаў, прысьвечаны дню нарадзінаў бацькі скаўтынгу Бэйдэн Пэўля, прыбылі і нашыя скаўты і скаўткі. Гэта была мяшаная група дзяўчат і хлапцоў з Остэргофэну і адзін прадстаўнік з Міхэльсдорфу.

Скаўты нашыя вельмі добра рэпрэзентаваліся: здаровы выгляд, адпаведнае адзеньне, вясёлыя і што найважнейшае ветлівыя. Паяўленьне іх тут у Вільдфлэкэне было неспадзеўкаю. Распытвалі і цікавіліся ўсе нашай арганізацыяй.

Палякі прынялі нашых скаўтаў вельмі добра і скрозь вызначалі першае месца, але ня ўсюды здолелі пабываць нашыя. Не маглі быць на набажэнстве ў каталіцкай сьвятыні, бо ў гэтым часе якраз адбывалася набажэнства спэцыяльна для нашых скаўтаў у мясцовай праваслаўнай царкве.

23 сакавіка 1947 г. адбылося ў Остэргофэне ўрачыстае пасьвячэньне скаўцкага сьцягу. З гэтай нагоды было адслужана набажэнства з адпаведнай пропаведзьдзю ў патрыятычным духу.

24 сакавіка была адслужана паніхіда за нашых змагароў, што аддалі жыцьцё за свой Народ і Бацькаўшчыну. А 19 гадзіне таго-ж дня скаўцкае вогнішча і прысяга скаўтак і скаўтаў. Урачыстасьць адбывалася на гарадзкім пляцы. Народу як сваіх, так і чужых было многа. Гульні скаўтаў скаўтаў пасьля прысягі, якія сьведчылі аб добрай фізычнай падрыхтоўцы і дысцыпліне, зьвярнулі ўвагу гледачоў.

25 Сакавіка раніцай падняцьце сьцягу. Ад 9.30 да 12.00 — набажэнства, на заканчэньне якога ўпершыню тут у царкве хор пад кіраўніцтвам ведамага беларускага кампазытара Міколы Равенскага[295] пяяў рэлігійны гімн па-беларуску ("Магутны Божа" — словы

[294] СІС. № 4. Люты 1947. — ***А. В.***

[295] **Мікола Равенскі** (1886—1953), кампазытар, хормайстар. У 1903—1914 гг.

паэткі Н. Арсеньневай, музыка — М. Равенскага). Мэлёдыя і словы былі ўрачыстыя, ад чаго, здаецца, напаўнялі душу нейкім вышэйшым духам. Здаецца, як-бы чалавек адарваўся ад зямлі, ад штодзённых клопатаў і быў блізка вечнага шчасьця і радасьці.

Гэтага самага дня а 14-й гадзіне — адкрыцьцё выстаўкі, пераважна ручных вырабаў нашых жанчын, крыху манэт з часоў нашага Вялікага Княства і крыху з малярства.

Выстаўка трывала 3 дні — 25 да 27 сакавіка 1947 г. пад памешканьне была прызначана скаўцкая сьвятліца. Сумняваліся, ці будзе чым запоўніць гэтае памешканьне, дзеля гэтага кіраўніцтва выстаўкі зьвярнулася з просьбай да іншых нашых асяродкаў і згуртаваньняў сабраць і праслаць на выстаўку ў Остэргофэн ручныя вырабы нашых сялян. Адначасна пачалася рэгістрацыя на месцы адпаведных на выстаўку экспанатаў.

Жанчыны нашыя адгукнуліся ахвотна і са зразуменьнем пачалі самі прыносіць экспанаты. Хутка выявілася, што прызначаная заля будзе замалая. Трэба было выбіраць найпрыгажэйшыя рэчы. З другіх асяродкаў адгукнуліся і прыслалі свае экспанаты Вільдфлекэн[296], Вогэнштраус і Міхэльсдорф.

...У ваколіцы Остэргофэн хіба ня было інтэлігентнага немца, які не наведаў выстаўкі. Былі нямецкія настаўнікі, якія радзілі і сваёй школьнай моладзі паглядзець выстаўку. Былі жыхары гораду, былі і сяляне. Усе захапляліся тканінамі, зробленымі рукамі беларускай жанчыны, захапляліся ручнымі вышыўкамі. Падзіўляліся здольнасьці, замілаваньне да прыгажосьць і вытрываласьці ў працы нашых жанчын...

Былі і творы нашых мастакоў-маляроў. Найбольш цікавіў “Лірнік” Чайкоўскага[297]...

---

кіраўнік хору пры мужчынскім манастыры ў Менску. У 1915 г. закончыў рэгенцкія курсы ў Маскве, у 1930 г. — Маскоўскую кансэрваторыю (1930). У 1930-я гг. выкладаў у Менскім музычным тэхнікуме, Беларускай кансэрваторыі. У 1938 г. быў выключаны з Саюзу кампазытараў. Падчас нямецкай акупацыі жыў у Чэрвені, быў рэгентам царкоўнага хору. Ад лета 1944 г. на эміграцыі. Працаваў match рознарабочым на тартаку пад Мюнхэнам. У канцы 1940-х гг. пераехаў у Лювэн (Бэльгія), арганізаваў студэнцкі ансамбль пры Лювэнскім унівэрсытэце. Аўтар гімну-малітвы “Магутны Божа” (словы Н. Арсеньневай).

[296] **Вільдфлэкен** (ням. *Wildflecken*) — мястэчка ў паўднёвай Нямеччыне, у зямлі Баварыя.

[297] Маецца на ўвазе **Зьміцер Чайкоўскі** (1912—2002), мастак, вайсковы дзеяч. Вучыўся ў Клецкай беларускай гімназіі, у 1937—1939 гг. — у Кракаўскай акадэміі мастацтваў. У 1942—1943 гг. у рангу лейтэнанта быў камандзірам роты беларускага чыгуначнага батальёну ў Менску. Пасьля

Пасьля адкрыцьця выстаўкі скаўты зарганізавалі скромную каву для гасьцей.

А 18-й гадзіне — акадэмія, а 20-й — канцэрт.

Старшыня селішча, адчыняючы ўрачыстую акадэмію, сказаў аб значэньні для нас гэтага нацыянальнага сьвята і перадаў слова для прывітаньняў беларускім прадстаўніком з Вільдфлекэну, Шляйсгайму ды студэнту з Мюнхэну. Пасьля былі прачытаныя прывітальныя тэлеграмы. На ўвагу заслугоўвае прывітаньне каталіцкага духоўніка айца Аляксандра Гольдзікоўскіса[298], які першы раз наведаў нас разам з Яго Эксцэленцыяй Біскупам Слоскансам[299], а пасьля прыяжджаў спавядаць тутэйшых каталікоў. Гэты айцец шчыра жадаў нам наступнае 25 Сакавіка сьвяткаваць на Бацькаўшчыне.

Даклад аб 25 Сакавіку чытаў настаўнік гімназіі, ведамы публіцыст А. Адамовіч[300]. Ён у сваёй высока мастацкай прамове пазнаёміў слу-

эвакуацыі зь Беларусі, у лістападзе 1944 г. атрымаў ранг надлейтэнанта. Да 27.11.1944 быў ад'ютантам камандуючага БКА Ф. Кушаля. Пасьля быў у 1-м Кадравым батальёне БКА ў Бэрліне у складзе афіцэрскай школы, сябрам Статутовай камісіі Галоўнага камандаваньня вайсковымі сіламі БЦР. Ад пачатку 1945 г. камандаваў 2-м стралковым батальёнам у 1-й грэнадзёрскай брыгадзе "Беларусь". У канцы красавіка 1945 г. разам з брыгадай перайшоў праз фронт да амэрыканцаў. Выкладаў малюнак і фізычную падрыхтоўку ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Рэгенсбургу. Пасьля вайны жыў у Мюнхене. Працаваў у газэце "Бацькаўшчына", на Радыё "Вызваленьне" ("Свабода"), быў сябрам БІНіМу. Вядомы майстра партрэту й сакральнага жывапісу. Яго палотны выстаўляліся на розных выставах у Эўропе й Амэрыцы.

298 **Аляксандарс Галдзікоўскіс** (1906—2002), латыскі рэлігійны дзеяч, каталіцкі сьвятар. У 1950-я гг. апынуўся ў ЗША. Служыў у Кліўлэндзе.

299 **Баляслаў Слосканс** (1893—1981), рэлігійны дзеяч, каталіцкі ярарх. Паходзіў з латыскай каталіцкай сям'і. У 1926 г. прызначаны Папам Рымскім Апостальскім адміністратарам Менскім і Магілёўскім, біскупам Менскай і Магілёўскай архідыяцэзій. За рэлігійную дзейнасьць перасьледаваўся савецкімі ўладамі. Адседзеў шэсьць гадоў у сталінскіх лягерах. У 1933 г. паводле абмену палітвязьнямі выехаў у Латвію. Ад восені 1944 г. на эміграцыі. У 1952 г. прызначаны Ватыканам Апостальскім візытатарам для беларусаў-каталікаў у Эўропе. Браў удзел у культурным і нацыянальна-рэлігійным жыцьці беларускага замежжа, аказваў матэрыяльную падтрымку беларускім рэлігійным пэрыядычным выданьням.

300 **Антон Адамовіч** (1909—1998), грамадзкі дзеяч, літаратуразнавец, гісторык, публіцыст, літаратар. Уваходзіў у літаб'яднаньне "Ўзвышша". У 1930 г. арыштаваны па справе "Саюзу вызваленьня Беларусі" й высланы ў Глазаў, у 1934 г. пераведзены ў Вятку (Кіраў), дзе працаваў у навучальных установах. Арыштаваны паўторна ў 1937, вызвалены ў 1938 г. Вярнуўся ў Менск, закончыў БДУ. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у Менскай гарадзкой управе, "Беларускай газэце", галоўным рэдакта-

хачоў з магутнасьцю Вялікага Княства Літоўскага, крыху затрымаўся на асобе Вялікага Князя Альгерда. І так слухачы, навет слаба азнаёмленыя з гісторыяй Беларусі, атрымалі яркі нарыс нашай мінуўшчыны і гарт змаганьня за будучыню свайго народу і дзяржавы…

Акадэмія закончылася выступам нашага хору пад дырыгэнствам сп. Равенскага, дэклямацыямі ў выкананьні гімназіяльнай моладзі і нумарамі артыстаў-прафэсыяналаў і ў канцы прапяяньнем усімі прысутнымі нашага нацыянальнага гімну[301].

## *Другі зьлёт беларускіх скаўтаў.*

У днях 8—10 жніўня 1947 г. адбыўся ў Беларускім ДП-лягеры ў Остэргофэне зьезд скаўтаў, сэніёраў і скаўцкіх кіраўнікоў ЗКСЧ.

Ужо па дарозе са станцыі ў Беларускі лягер у Остэргофэне спаткала нас прыемная неспадзеўка: на поплаве пастаўлены тры палаткі беларускіх скаўтаў “Вільня”, “Пінск”, “Менск”.

У лягеры сьвяточны настрой. Ня дзіва. Тут скаўцкі зьлёт. Усюды бачацца групы беларускіх скаўтаў з рознакаляровымі хусткамі й адзнакамі. Яны прыехалі сюды з усіх бакоў Заходняй Нямеччыны.

Раніцаю 8-га жніўня быў падняты бел-чырвона-белы сьцяг пад гукі песьні “Беларусь наша Маці-Краіна”[302]. Пасьля гэтага для ўсіх удзельнікаў зьезду быў адслужаны ў лягернай царкве мясцовым сьвятаром урачысты малебен.

Гэтага-ж дня а 2-й гадзіне пасьля абеду наступіла фактычнае адкрыцьцё зьезду.

Зьезд адчыніў Шэф крывіцкіх скаўтаў сябра Пануцэвіч. Былі прачытаны шматлікія прывітальныя лісты ад беларусіх арганізацыяў і асяродкаў. Пасьля выбару старшыні Зьезду — д-ра В. Войтанка і сяброў Прэзыдыюм, Зьезд прыступіў да нарадаў.

Як першы пункт парадку дня ўдзельнікі слухалі справаздачу Галоўнага кіраўніка ЗКСЧ і Галоўнай кіраўнічкі скаўтак.

Справаздачу Галоўнага кіраўніка падаем амаль у цэласьці:

---

рам выдавецтва “Менск”, уваходзіў у Цэнтральную Раду БНС, выконваў абавязкі рэфэрэнта па справах прэсы і прапаганды Генэральнага камісарыяту Беларусь. Увосень 1943 г. выехаў у Нямеччыну. Па вайне працаваў у Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Рэгенсбургу, быў адным з заснавальнікаў газэты “Бацькаўшчына”, яе рэдактарам. Ад 1949 г. жыў у ЗША. Займаўся навуковымі дасьледаваньнямі, аўтар вялікай колькасьці літаратуразнаўчых прац. Адзін з заснавальнікаў БІНіМу.

301 СІС. № 6. Травень 1947. — ***А. В.***

302 ***“Беларусь наша Маці-Краіна”*** — песьня на словы Натальлі Арсеньневай і музыку Міколы Шчаглова-Куліковіча.

Лічбовы стан.

Згуртаваньне Крывіцкіх Скаўтаў на Чужыне налічвае:

Агулам хлапцоў і дзяўчат........................................................945.

Сьцягоў....................................................................................10.

Зьвязаў ....................................................................................30.

Сталых скаўтаў (скаўтэраў) ..................................................75.

Малодшых Кіраўнікоў.............................................................80.

Параўнаўча са станам прошлага году прыбыло:

Хлапцоў і дзяўчат ..................................................................416.

Сталых скаўтаў.........................................................................58.

Малодшых Кіраўнікоў.............................................................45.

Важнейшыя праявы дзейнасьці:

Адбылося:

Скаўцкіх лягероў........................................................................2.

Экскурсіяў.................................................................................11.

Скаўцкіх вогнішчаў .................................................................17.

Скаўцкіх урачыстасьцяў.......................................................... 31.

Скаўцкіх імпрэзаў ....................................................................19.

Нацыянальных урачыстасьцяў з удзелам скаўтаў ......................30.

Спартовых змаганьняў.............................................................17.

Скаўцкіх вечарын ....................................................................17.

Міжнацыянальных зьлётаў і спатканьняў ..................................14.

Міжнародная сувязь.

Галоўная Кватэра ЗКСЧ навязала кантакт:

1) З Міжнародным скаўцкім бюром у Лондане і зрабіла захады дзеля легалізацыі нашай арганізацыі.

2) З Імпер’яльнай Галоўнай кватэрай брытыйскіх скаўтаў у Лондане, ад якой атрымала патрэбную літаратуру.

3) З Галоўнай кватэрай скаўтаў Амэрыкі.

Апрача гэтага ЗБСЧ уступіла ў Міжнародную Скаўцкую Арганізацыю ў Нямеччыне (ІСА), да якой належаць амаль ўсе скаўцкія арганізацыі ДП і нямецкія. Навязаны таксама сталыя зносіны з Галоўнымі кватэрамі ўкраінскіх, расейскіх, летувіскіх, латыскіх і польскіх скаўтаў.

Скаўцкі рэфэрат у Лондане.

Стараньнем Галоўнай кватэры ЗБСЧ у паразуменьні з Згуртаваньнем беларусаў у Вялікай Брытаніі арганізаваны пры ўправе ЗБВБ у Лондане скаўцкі рэфэрат, які распачаў ужо дзейнасьць дзеля сарганізаваньня беларускіх скаўтаў у Англіі.

Скаўцкае выдавецтва і прапаганда.

За справаздачны год Галоўная Кватэра выдала:

1) Часапіс “Скаўт”[303] ............................................................7 нумароў.
2) Часапіс Юнак[304] ..............................................................4 нумары.
3) СІС (Скаўцкая Інфармацыйная Служба)[305] ..................7 нумароў.
4) Дзёньнік загадаў і пастановаў № 1[306].
5) Скаўцкіх рэгулямінаў[307] ..................................................3.
6) Канспэктаў .......................................................................1.
7) Іншай скаўцкай літаратуры ..........................................1 кніжку.

Падрыхтавана да выданьня:

1) Скаўцкі падручнік для моладзі[308] — пераклад з ангельскай мовы (вышаў у траўні 1948 г. — СІС. № 13. 1948).

2) Ідэалягічныя асновы скаўтынгу[309] — брашура.

3) Падручнік Скаўцкіх гульняў[310] (вышаў у травені 1948 г. пад загалоўкам “Беларускія народныя гульні” паводле этнографа Раманава[311] з мэтадычным уступам Галоўнага кіраўніка[312].

4) Галоўная кватэра ЗБСЧ займалася таксама інтэнсыўным распаўсюджаньнем беларускай літаратуры наагул... Вялікія заслугі

---

[303] **“Скаўт”** (*“Skaut”*) — часопіс крывіцкіх скаўтаў, выдаваны Згуртаваньнем крывіцкіх скаўтаў. Першы нумар выйшаў 10 сакавіка 1946 г. Першапачаткова выходзіў лацінкай, а ад № 4 — кірыліцай. Апошні, № 8, выйшаў у студзені 1948 г.

[304] **“Юнак”** — скаўцкі часопіс, выдаваны Згуртаваньнем крывіцкіх скаўтаў. Першы нумар выйшаў у лістападзе 1946 г., апошні (№ 4) — у 1951 г. у Чыкага пад рэдакцыяй Вацлава Пануцэвіча.

[305] **“Скаўцкая інфармацыйная служба”** — бюлетэнь Згуртаваньня беларускіх (крывіцкіх) скаўтаў на чужыне, які выходзіў у Ватэнштэце ў 1946—1950 гг. Выйшла 20 нумароў.

[306] Магчыма, маецца на ўвазе **“Пастановы першага зьлёту крывіцкіх скаўтаў”** (Ватэнштэт, 1946).

[307] Відаць, маюцца на ўвазе выданьні “Скаўцкі страявы рэгулямін. Частка I” (Ватэнштэт, 1946), “Рэгулямін скаўцкіх спраўнасьцяў” (Ватэнштэт, 1946), “Скаўцкі рэгулямін. Частка I: Ваўчаняты” (Ватэнштэт, 1947), “Рэгулямін скаўцкіх спраўнасьцяў. Частка I. Для Ваўчанятаў” (Ватэнштэт, 1947).

[308] Магчыма, маецца на ўвазе выданьне: Скаўцкі спадарожнік. The Scout`s how-to-do-it book. Фленсбург, 1948. — 79 с.

[309] Выданьня з такой назвай не выяўлена. Магчыма, пры публікацыі назва змянілася.

[310] Маецца на ўвазе выданьне: Р. Е. Гульні і забавы беларускіх дзяцей. [Ватэнштэт], 1948. — 19 с.; а таксама Беларускія Народныя Гульні. В. Пануцэвіч. Мэтадычныя заўвагі да гульняў. Прадмова.

[311] **Еўдакім Раманаў** (1855—1922), археоляг, гісторык, этнограф, фальклярыст.

[312] СІС. № 13. 1948. — ***А. В.***

палажылі ў выдавецкай галіне сябры нашай арганізацыі: Ч. Будзька[313], Я. Сурвіла[314], К. Сіткоўскі, М. Панькоў[315] і А. Бута, якія сваёй працай і коштам выдалі большасьць усіх кніжак, брашур і часапісаў, выданых беларусамі ў Нямеччыне.

Апрача Галоўнага кіраўніцтва ЗБСЧ, Штандар "Баварыя" выдаў:
Часапіс "Напагатове" ........................................................ 4 нумары.
Бюлетэнь "Ганец"[316] ........................................................ 5 нумароў.
Скаўцкіх брашур .............................................................. 3.

[313] **Часлаў Будзька** (1913—1985), грамадзкі дзеяч, гісторык, пэдагог. Закончыў Віленскую беларускую гімназію, а ў 1938 г. — аддзяленьне гісторыі гуманістычнага факультэту Віленскага ўнівэрсытэту. Браў удзел у нацыянальным грамадзкім руху, быў сябрам Беларускага студэнцкага саюзу. За актыўную грамадзкую дзейнасьць пазбаўлены права працаваць па спэцыяльнасьці. Уладкаваўся ў каапэратыўнае таварыства ў Варшаве, потым працаваў у Кельцах. Падчас Другой сусьветнай вайны знаходзіўся ў Нямеччыне. Па сканчэньні вайны жыў у лягеры ў Ватэнштэце, выкладаў гісторыю ў Беларускай гімназіі. У 1948 г. як *DP* прыбыў на працу ў Вялікабрытанію, быў сябрам ЗБВБ. У 1951 г. выехаў у ЗША, жыў у Чыкага. Быў актывістам Чыкагскага аддзелу БАЗА. Займаўся грамадзка-асьветніцкай працай, гістарычнымі дасьледаваньнямі, праектаваньнем вышыванак і дываноў.

[314] **Янка Сурвіла** (1925—1997), грамадзкі дзеяч. У 1943 г. выехаў у Нямеччыну, працаваў у Беларускім камітэце самапомачы ў Бэрліне. Пасьля вайны ў лягэры Ватэнштэт рэдагаваў і выдавалаў часопіс "Шляхам Жыцьця". У 1951 г. пераехаў у Гішпанію, закончыў факультэт палітычных і эканамічных навук Мадрыдзкага ўнівэрсытэту (1956). У 1952 г. заснаваў беларускую рэдакцыю перадачаў Нацыянальнага гішпанскага радыё. Муж Івонкі Сурвілы. У 1969 г. выехаў у Канаду, працаваў у Міністэрстве занятасьці й эміграцыі. Быў прадстаўніком ад беларусаў у Канадзкай радзе паняволеных эўрапейскіх народаў, быў старшынём Атаўскага аддзелу Згуртаваньня беларусаў Канады.

[315] **Мікола Панькоў** (псэўданім **Мікола Вольны** і інш., 1911—1995), грамадзкі дзеяч, бібліёграф, публіцыст. Вучыўся ў Дзьвінскай беларускай гімназіі. У міжваенны час сябра партыі эсэраў. У 1926 г. арыштаваны латвійскімі ўладамі й асуджаны да 5 гадоў турмы. Па вызваленьні супрацоўнічаў зь беларускімі пэрыёдыкамі ў Заходняй Беларусі й Латвіі. У часе нямецкай акупацыі працаваў на чыгунцы. Ад лета 1944 г. на эміграцыі. У лягеры *DP* у Альдэнбургу заснаваў Беларускую бібліяграфічную службу: зьбіраў і апісваў беларускія выданьні. Уклаў "Слоўнік замежных словаў беларускай мовы", уклаў і надрукаваў шэраг непэрыядычных выданьняў. У 1951 г. пераехаў у ЗША. Ад 1952 г. старшыня Саюзу беларускіх журналістаў. Падрыхтаваў даведнікі "Хто ёсьць хто на эміграцыі", "Мартыралёгія беларускага народу", "Беларуская прэса на эміграцыі".

[316] **"Ганец"** — інфармацыйны лісток штандару "Баварыя". Выходзіў у 1947—1948 гг. Вядомыя 9 нумароў.

Першы Сьцяг Ватэнштэт:

Часапіс “Беларускі Скаўт”[317] .......... № 1.

Паэму М. Машары[318] — “Сьмерць К. Каліноўскага”[319].

Стараньнем Галоўнага кіраўніцтва нашыя паэты й кампазытары напісалі для скаўцкай моладзі шэсьць новых песьняў.

Выпушчаныя былі мэталёвыя лілейкі 1000 штук.

Ува ўсіх амаль скаўцкіх асяродзьдзях наладжаны скаўцкія сьвятліцы, здабытыя найважнейшыя спартовыя прылады. Стан уніформаў прадстаўляецца наагул здавальняюча. Найгорш адносна са скаўцкай студэнцкай моладзьдзю, якая дасюль не мае ні ўніформы, ні памешканьняў на сьвятліцы, ні прыладаў.

У Міхэльсдорфе і Ватэнштэце ўрухомлены скаўцкія бібліятэчкі.

Вечарам гэтага-ж дня скаўтаў чакала прыемная неспадзеўка: сюды завітала якраз з нагоды Зьезду трупа Беларускага Тэатру Эстрады пад кіраўніцтвам кампазытара Кулiковіча[320]. У канцэрце прыняў удзел таксама хор лягеру ў Остэргофэне пад кіраўніцтвам кампазытара М. Равенскага.

Амаль цэлы другі дзень Зьезду прайшоў на нарадах. У часе абедзеннага перапынку наведаў нашых скаўтаў, калі яны ўсе сабраліся ля палатак, ранейшы Кіраўнік аддзелу скаўтаў пры Амэрыканскім вайсковым аддзеле ў горадзе Пассаў[321]. Ён шчыра прывітаў нашых

---

317 **“Беларускі Скаўт”** — часопіс Першага сьцягу Ватэнштэту. Адзіны нумар выйшаў у 1946 г.

318 **Міхась Машара** (1902—1976), пісьменьнік.

319 Асобным выданьнем “Сьмерць Кастуся Каліноўскага” выйшла ў 1946 г. у Ватэнштэце.

320 **Мікола Шчаглоў-Куліковіч** (1893—1969), кампазытар, музыка, музыказнаўца, грамадзка-культурны дзеяч. Ад 1937 г. працаваў выкладчыкам у Беларускай кансэрваторыі. У часе нямецкай акупацыі кіраваў аркестрам у Менскім гарадзкім тэатры. Аўтар операў “Кацярына” (1939 ці 1941), “Лясное возера” (пастаўлена ў 1942 г.), “Усяслаў Чарадзей” (пастаўлена ў 1943 г.), апэрэты “У вырай”. Ад студзеня 1944 г. кіраўнік музычнага аддзелу пры БЦР. Ад 1944 г. на эміграцыі. У Нямеччыне ў 1947 г. арганізаваў Беларускі тэатр эстрады, які гастраляваў па лягерах *DP*. У 1950 г. выехаў у ЗША. Спачатку жыў у Нью-Ёрку, дзе кіраваў хорам. Пазьней перабраўся ў Кліўлэнд, а ад 1959 г. жыў у Чыкага й кіраваў хорам беларускай грэка-каталіцкай царквы Хрыста-Збаўцы. Аўтар шэрагу музыказнаўчых публікацый. Сябра БІНіМу. Багаты архіў пасьля сьмерці кампазытара быў перададзены ў Беларускую бібліятэку імя Ф. Скарыны ў Лёндане.

321 **Пасаў** (ням. *Passau*) — горад у паўднёва-ўсходняй Нямеччыне, у зямлі Баварыя.

скаўтаў, выразіўшы сваё задавальненьне з тых поступаў, якія асягнулі беларускія скаўты да гэтага часу.

Нашыя скаўты, з свайго боку, прапяялі госьцю некалькі беларускіх і амэрыканскіх песень. Асабліва гэтыя апошнія вясёлыя ў выкананьні чужынцаў спадабаліся скаўту з-за мора.

Шмат часу заняла Зьезду г. зв. справа Ватэнштэцкая. Справа гэтая ня была нагэтулькі вялікай, як гучнай. Фактычна йшло аб становішча Зьезду да сьцяжнога й некалькі старэйшых скаўтаў 1-га Сьцягу ў Ватэнштэце, якія не падпарадкаваліся Галоўнаму кіраўніцтву[322].

Зьезд востра асудзіў паступак вышэй успомненых скаўтаў за недысцыплінаванасьць, даў аднак магчымасьць ім рэгабілітацыі й павароту ў пакінутыя імі рады.

У пярэрве працы Зьезду наш лектар А. Адамовіч прачытаў рэфэрат на тэму "Аб нацыянальным самавызначэньні Беларускага народу". Рэфэрат меў вялікае нацыянальна-ўзгадаваўчае значэньне, быў выгалашаны па-мастацку і, зразумела, усім падабаўся.

У далейшым ходзе нарадаў Зьезд разгледзеў справу назову "Згуртаваньне Крывіцкіх Скаўтаў на Чужыне" і вырашыў перамяніць яго на "Згуртаваньне Беларускіх Скаўтаў на Чужыне — ЗБСЧ".

Зьезд вызначыў цэлы шэраг камісіяў, якія маюць у будучыні апрацаваць і зрэфармаваць паасобныя галіны нашага скаўцкага жыцьця. Трэба стварыць тут Статутовую камісію, якая, абапіраючыся на практыцы аднагадовай працы, выправіць недахопы ранейшага Статуту.

Ужо быў позьні вечар, калі Зьезд, удзяліўшы быламу Галоўнаму кіраўніку абсалюторыюм, прыступіў да галоўнага пытаньня парадку дня — перавыбараў Галоўнага кіраўніцтва ЗБСЧ.

Ацаніўшы заслугі ранейшага Шэфа беларускіх скаўтаў сябры Пануцэвіча, Зьезд выбраў яго паўторна на гэтае становішча. Заступнікам Галоўнага кіраўніка выбраны сябра А. Бразоўскі з Амэрыканскае зоны, а Галоўнай кіраўнічкай дзяўчат студэнтка мэдыцыны ў Марбурзе В. Чарнецкая.

Новае Галоўнае кіраўніцтва прывітаў Старшыня БНК[323] і пажадаў яму посьпеху на гэтым адказным становішчы.

---

[322] Маецца на ўвазе канфлікт, які паўстаў у Ватэнштэце паміж Першым Сьцягам і Галоўным кіраўніцтвам улетку 1947 г. Канфлікт стаў водгукам змаганьня паміж "крывічамі" і "зарубежнікамі" ў асяродзьдзі беларускіх уцекачоў у Нямеччыне, выліўся ў забарону частцы скаўтаў удзельнічаць у зьлёце ў Мітэнвальдзе і непадпарадкаваньне гэтай забароне з боку скаўтаў на чале з М. Маеўскім. Пры гэтым на бок скаўтаў стаў і кіраўнік лагеру ў Ватэнштэце Сьвятаслаў Коўш. Пазыцыі "мяцежных" скаўтаў былі выкладзеныя ў адмысловым "Звароце да Беларускай Скаўцкай Моладзі", выдадзеным у ліпені 1947 г.

[323] **Беларускі нацыянальны камітэт (БНК)** быў заснаваны ў Рэгенсбургу

Высланы прывітальныя тэлеграмы на Міжнароднае скаўцкае джэмбары ў Парыж і на Джэмбары чужынецкіх скаўцкіх аргнізацыяў у Міттэнвальдзе.

Зьезд закончыў сваю працу а гадзіне 3-й 10 жніўня.

Нядзеля 10 жніўня. Для скаўтаў сьвята — тым больш пасьля двух працоўных дзён. Раніцай малебен. Пасьля абеду скаўты карыстаюцца поўнасьцю з аднаго скаўцкіх правоў: *“Скаўт любіць прыроду”*, дык напэўна і раку Дунай. І вось нашыя скаўты адпачываюць некалькі гадзін над тым Дунаем, якога воды праз горныя запоры ўпарта імкнуцца ў наш бок, на ўсход, і лучацца там дзесь у Чорным моры з водамі роднага, далёкага Дняпра.

Скаўты прыехалі на Зьлёт ня толькі каб працаваць, радзіць, але й вучыцца. І дзеля гэтага яны выслухалі другі рэфэрат, ня менш прыгожы, як першы, таго-ж самага аўтара аб “Нацыянальным назове”.

9-я гадзіна вечара. Ля скаўцкага лягеру ня толькі скаўты, але і шматлікія жыхары Беларускага лягеру ў Остэргофэне. Сьпеў “Беларусь, наша Маці-Краіна” і плаўна на мачце ўзьвіваецца сьцяг. Цішыня. Камандант зьлёту запальвае традыцыйнае скаўцкае вогнішча. Далёка разносяцца ў начной цішы беларускія песьні.

Зьбліжаецца кульмінацыйны пункт вечару. Скаўты пакажуць, што яны ўмеюць. І сапраўды яны ўмеюць шмат. Вось выступае палатка “Менск”, ці, як яны сябе завуць, “Калгас галодная Брація” (скаўты з Міхэльсдорфу). Беларускія й амэрыканскія песьні, мэлёдэклямацыі, фізкультурныя й камічныя выступленні. Разьвесяліла гэтая “Галодная Брація” ўсіх прысутных. Чакаем з напружаньнем далей і крыху разачароўваемся: іншым удаецца ня так добра.

Зьбліжаецца заканчэньне Зьезду. Урачыста прамаўляе Шэф-кіраўнік беларусіх скаўтаў. Асабліва праймаюць душу кожнага словы: *“І нясеце агонь гэты туды на Бацькаўшчыну”*. Шэф-кіраўнік уручае сьцяжным і зьвязовым запаленыя галоўні з вогнішча, якое злучыла нас тут усіх беларускіх скаўтаў. Гэтыя галоўні павінны завезьці ў свае аддзелы.

Апускаецца бел-чырвона-белы сьцяг. Ізноў у паветры лунаюць словы песьні “Беларусь, наша Маці-Краіна”.

Раніцою праходзім каля гэтых самых палатак, якія нас спачатку так прыемна зьдзівілі. Праходзім аднак не такімі, якімі йшлі сюды. Кажны з нас пачуўся больш блізкім да ўсіх маладых беларусаў-скаўтаў, пачуўся іх братам. Кажны панёс з сабою ўзмоцненую скаўцкую ідэю й занясе яе на Бацькаўшчыну.

ў 1945 г. для прадстаўніцтва беларускіх інтарэсаў у амэрыканскай зоне акупацыі Нямеччыны.

## Рэзалюцыя
## 2-га Зьезду ЗБСЧ у Остэргофэне 8—10 жніўня 1947 г.

Другі Зьезд ЗБСЧ у Остэргофэне, адбыты ў днях 8—10 жніўня 1947 г. накрэсьліў наступныя мэты й заданьні беларускаму скаўтынгу на найбліжэйшую будучыню:

1) Зьезд сьцвярджае, што ідэйныя асновы ЗБСЧ, выражаныя ў скаўцкай прысязе і скаўцкім праве, а таксама ў скаўцкіх рэгулямінах зьмяшчаюць у сабе ідэалёгію сусьветнага скаўцкага руху і нашу нацыянальна-незалежніцкую ідэю. Зьезд дае наказ усім беларускім скаўтам і скаўткам цьвёрда і непахісна трымацца ў сучасны цяжкі пэрыяд змаганьня нашай нацыі за сваё існаваньне на шляху скаўцкіх і нацыянальна-незалежніцкіх ідэалаў быць верным Богу і ахвярна служыць Бацькаўшчыне, супрацьстаўляючыся ўсякаму варожаму наступу.

2) Зьезд уважае, што ЗБСЧ павінна быць па-за палітычнымі партыямі, а ягоныя сябры афіцыйна ня могуць браць удзелу ў партыйна-палітычным жыцьці.

3) Згуртаваньне Беларускіх Скаўтаў на Чужыне, як адзіная скаўцкая арганізацыя, прымае ў свае рады беларускую моладзь бяз розьніцы веравызнаньня, прафэсыі і г. д. Зьезд заклікае ўсю беларускую моладзь далучыцца да ЗБСЧ і распачаць службу пад скаўцкімі сьцягамі на карысьць Бацькаўшчыны і сусьветнага братэрства.

4) Зьезд перадае ўсім скаўцкім арганізацыям сьвету сваё сяброўскае прывітаньне і адначасова заяўляе сваю гатовасьць супрацоўнічаць зь імі ў імя зьдзяйсненьня скаўцкіх ідэалаў.

5) Зьезд заклікае ўсіх сяброў і сябровак ЗБСЧ, дзе-б іх лёс ня кінуў, гуртавацца, даваць найлепшы прыклад сваім жыцьцём і паводзінамі і падтрымоўваць сувязь з Галоўным кіраўніцтвам ды выяўляць усюды скаўцкую ініцыятыву.

6) Зьезд заклівае ўсіх скаўтаў і скаўтак у сваёй дзейнасьці зьвяртаць асаблівую ўвагу не на вонкавыя формы, а на дух скаўцкай ідэі, на істотныя прынцыпы і скаўцкую мэтоду выхаваньня.

7) Зьезд уважае, што скаўцкая ідэалёгія і нашыя нацыянальна-вызвольныя ідэалы вымагаюць актыўнай прапаганды сярод сваіх і чужых жывым словам, асабістымі паводзінамі і прыкладам, друкам і г. д. Дзеля рэалізацыі выдавецкай дзейнасьці Зьезд дае наказ Галоўнаму кіраўніцтву сарганізаваць Выдавецкую скаўцкую каапэратыву, якая пяройме выдаваньне скаўцкай літаратуры і згуртуе ў сваіх радох скаўцкіх аўтараў і паасобных выдаўцоў. Уся скаўцкая літаратура і ўсякія іншыя матар'ялы перад выданьнем павінны быць зацьверджаны Галоўным кіраўніцтвам ЗБСЧ, інакш ня могуць яны называцца скаўцкімі выданьнямі.

8) Зьезд заклікае ўсіх скаўтаў і скаўтак зьбіраць і перахоўваць усякія скаўцкія і нацыянальныя памяткі (выданьні, дакуманты, фотаздымкі, адзнакі, песьні, маркі і г. д.) і запісваць важнейшыя мамэнты са скаўцкага жыцьця.

9) У мэтах практычнага і фаховага выхаваньня моладзі Зьезд уважае за неабходнае ўвесьці ў праграму скаўцкай працы навучаньне практычнай гаспадарчай дзейнасьці, як рамесніцкіх спраўнасьцяў, вядзеньня скаўцкіх і школьных каапэратываў, майстэрняў і г. д., а таксама навучаньне канцылярыйнай працы.

10) Зьезд заклікае ўсю скаўцкую моладзь уважаць родную мову за істотную вартасьць Беларускай нацыі і адначасна забавязвае ўсіх скаўтаў дбаць пра чысьціню мовы ў слове і пісьме, вывучаць яе асновы і родную літаратуру.

11) Дзеля апрацаваньня і ўвядзеньня абавязываючых рэгулямінаў паасобных скаўцкіх групаў, а таксама выданьня патрэбнай скаўцкай літаратуры Зьезд забавязвае Галоўнае кіраўніцтва ЗБСЧ паклікаць да жыцьця адпаведныя камісіі. Наступны Зьезд ЗБСЧ канчаткова зацьвердзіць рэгуляміны і літаратуру, апрацаваныя камісіямі і зацьверджаныя Галоўным кіраўніцтвам.

__________*___________

## *Камунікат*
## *2-га Зьезду ЗБСЧ 8—10 жніўня 1947 г., Остэргофэн*

Галоўная кватэра ЗБСЧ паведамляе:

У днях ад 8—10 жніўня 1947 г. у Остэргофэне (Баварыя) адбыўся з дазволу Амэрыканскіх уладаў 2-гі Зьезд скаўцкіх кіраўнікоў, скаўтмайстраў і скаўтаў сэньёраў з усіх трох заходніх зонаў Нямеччыны дзеля абгаварэньня арганізацыйных і праграмовых справаў, выбару новага кіраўніцтва і прыняцьця пастановаў, абавязываючых да наступнага гадавога Зьезду.

У Зьездзе прымалі ўдзел:

Ад Францускай зоны: штандаровы Штандару “Швабія”[324], сьцяжны Сьцягу Вайнгартэн[325], 2 малодшыя кіраўнікі.

Ангельскай зоны:

[324] **Швабія** (ням. *Schwaben*) — гістарычнай вобласьць у паўднёва-заходняй Нямеччыне, назва паходзіць ад швабаў — немцаў, якія размаўляюць на адным з паўднёванямецкіх дыялектаў.

[325] **Вайнгартэн** (ням. *Weingarten*) — горад у Нямеччыне, у зямлі Бадэн-Вюртэмбэрг.

Ватэнштэт: Галоўны кіраўнік і Галоўная кіраўнічка, 6 скаўтаў і скаўтак сэньёраў, заступніца сьцяжной 1-га жаночага Сьцягу, дэлегат ад 1-га Сьцягу скаўтаў.

Госьляр: скаўтмайстар, 3 малодшых кіраўнікоў.

Рынгельгайм: адзін кіраўнік Зьвязу.

Амэрыканская зона:

штандаровы Штандарту "Баварыя".

Міхэльсдорф: сьцяжны 1-га Сьцягу, 8 малодшых кіраўнікоў і кіраўнічак, адзін скаўтмайстар, 2 ганаровых скаўтаў з дарадчым голасам.

Остэргофэн: сьцяжны 2-га Сьцягу, 9 малодшых кіраўнікоў і кіраўнічак, 1 скаўцкі праваднік, 1 ганаровы скаўт з дарадчым голасам.

Вогэнштраўс: сьцяжны 3-га Сьцягу.

Майнлёйз: сьцяжны 4-га Сьцягу.

Мэнхэгоф: сьцяжны 5-га Сьцягу.

Віндзішбэргэрдорф: сьцяжны 6-га Сьцягу.

Ад студэнцкіх скаўцкіх арганізацыяў:

Марбург: скаўтмайстар і сьцяжны студэнцкага Сьцягу, зьвязовы Зьвязу Марбург, сьцяжная і кіраўнічка жаночага Зьвязу, 3 прадстаўнікі ад студэнцкай скаўцкай моладзі.

Мюнхэн: скаўтмайстар і кіраўнік Зьвязу, 3 прадстаўнікі ад студэнцкай скаўцкай моладзі і скаўцкі праваднік.

Рэгенсбург: 2 прадстаўнікі ад студэнцкай скаўцкай моладзі.

Дылінген[326]: 1 скаўцкі праваднік і кіраўнік Дружыны Аўгсбург.

Гоф[327]: скаўт сэньёр.

Агулам ад усіх існуючых скаўцкіх адзінак прысутнічала на Зьезьдзе 58 сяброў з правам пастанаўляючага голасу.

Пасьля праслуханьня рэфэратаў аб ідэялёгіі скаўцкага выхаваньня і аб нацыянальным выхаваньні моладзі Зьезд пастанавіў увесьці некаторыя папраўкі ў Статут ЗБСЧ.

Новая скаўцкая Дружына сарганізавана ў горадзе Эльвангэне[328].

__________*___________

326 Відаць, маецца на ўвазу **Дылінген-на-Дунаі** (ням. *Dillingen an der Donau*) — горад у паўднёвай Нямеччыне, у зямлі Баварыя.

327 **Гоф** (ням. *Hof*) — горад на ўсходзе Нямеччыны, у зямлі Баварыя.

328 **Эльванген** (ням. *Ellwangen*) — горад у Нямеччыне, у зямлі Бадэн-Вюртэмбэрг.

## Алендорф[329] (Гэссэн[330]) — Мэнхэгоф — Альтэнштат[331]

22 студзеня 1947 г. у лягеры Алендорф, каля гораду Марбургу, паўстаў Зьвяз з 22 беларускіх скаўтаў і скаўтак: 2 дружыны хлапцоў і адна дружына дзяўчат. Такім чынам утварыўся 5-ты Сьцяг ЗБСЧ.

Летам 1947 г. беларуская група была перавезена згэтуль у вялікі мяшаны лягер Мэнхэгоф, каля гораду Касэлю[332]. Скаўцкая дружына працягвала заняткі і на новым месцы. Новым кіраўніком назначаны малады энэргічны мясцовы настаўнік.

У жніўні месяцы ў летні лягер, арганізаваны ІМКА[333], паехалі і нашы скаўты. Лягер быў разьмешчаны каля самага возера Эдэр[334], у мясцовасьці, якая з правам лічыцца самай прыгожай мясцовасьцю Гэссэна недалёка ад 800-гадовага замку рыцараў-разбойнікаў — Вальдэк[335].

Агульным кіраўніком і душою гэтага лягеру была кіраўнічка Касэльскай акругі місс С. Дрэйер (швэдка). Начальніцай лягеру дзяўчынак была місс Аун (эстонка), а лягеру хлопчыкаў — Пузінаўскас[336] (летувіс). Лягер быў зроблены так, каб дзеці розных нацыяў магчыма больш зблізіліся. Лягер быў падзелены на 4-ры вёскі і кажная нацыя ў вёсцы мела па адной палатцы.

Нашы скаўты, расейцы, латышы і летувісы былі ва ўніформах. Дух і парадак у лягеры быў скаўцкі. Ацэньвалася чыстата палатак, былі лягерныя вогнішчы і скаўцкія заняткі. Беларуска-расейская палатка ў

---

329 **Алендорф** (ням. *Allendorf*) — мястэчка ў Нямеччыне, у зямлі Гесэн, недалёка ад Марбургу.

330 **Гесэн** (ням. *Hessen*) — зямля ў Нямеччыне са сталіцай у Вісбадэне.

331 **Альтэнштат** (ням. *Altenstadt*) — мястэчка ў Нямеччыне, у зямлі Гесэн, акруга Дармштат.

332 **Касэль** (ням. *Kassel*) — горад у цэнтральнай Нямеччыне, у зямлі Гесэн.

333 **ІМКА** (ад анг. *Young Men’s Christian Association*) — Юначая хрысьціянская асацыяцыя. **ІВКА** (ад анг. *Young Women’s Christian Association*) — Дзявочая хрысьціянская асацыяцыя. Гэта моладзевыя валянтэрскія арганізацыі, якія ў Нямеччыне для ДП-лягераў працавалі разам — праводзілі культурна-асьветную працу, ладзілі спартовыя мерапрыемствы, арганізоўвалі летнія лягеры.

334 **Эдэр** (ням. *Edersee*) — возера ў цэнтральнай Нямеччыне ў зямлі Гесэн.

335 **Замак Вальдэк** (ням. *Schloss Waldeck*) — сярэднявечны замак на беразе возера Эдэр, заснаваны ў XII ст.

336 Магчыма, гэта быў **Зенонас Пузінаўскас** (1920—1995), літоўскі баскетбаліст, чэмпіён Эўропы 1937 і 1939 гг., які ў паваенны час апынуўся ў Нямеччыне як уцякач, арганізоўваў спартовыя мерапрыемствы, працаваў у ІМКА. У 1951 г. пераехаў у ЗША.

лягеры хлопчыкаў была першай па акуратнасьці і парадку й атрымала ў канцы лягеру ўзнагароду.

Акрамя ўсіх відаў спорту, нашы скаўты займаліся тапаграфіяй і зрабілі плян лягеру.

Пасьля двух тыдняў лягеру ўсе удзельнікі прыбавілі 1—3 клг вагі, набылі сілаў і здароўя для надыходзячай зімы.

Лягер дружыны ў Валеродзе Вальд[337], каля Касэлю быў арганізаваны сп. Монэ — прадстаўніком Лондынскага бюро для скаўтаў ДП. У лягеры ўдзельнічалі дружыны ўсіх ДП нацыянальнасьцяў і замежныя госьці.

Беларускія скаўты з Міхэльсдорфу занялі некалькі першых мейсц на змаганьнях.

14 верасьня ў памешканьні Беларускай школы адбылася першая сустрэча скаўтаў пасьля летніх лягераў. У якасьці гасьцей прысутнічалі начальнік расейскіх скаўтаў і прыезжы з Міхэльсдорфу скаўт Дубяга[338].

Сьцяжны 5-га Сьцягу з Мэнхэгофу быў перавезены ў польскі лягер у Альтэнштаце, у Верхняй Баварыі, 3 клм ад чыгуначнай ст. Шонгаў[339]. І ў новым лягеры існавала і працавала скаўцкая дружына[340].

__________*___________

## Вогэнштраўс

На ўсход ад гораду Вайдэну, пры чыгуначнай станцыі Нойштат-Эслярн знаходзіцца невялікі горад Вогэнштраўс, у Баварыі. Летам 1946 г. сюды былі прывезены беларусы з ДП-лягеру Вайдэн і разьмешчаны ў 4-х вялікіх будынках. Такім чынам быў утвораны Беларускі ДП-лягер, які налічваў каля 300 жыхараў.

4 студзеня 1947 г. быў праведзены сьцяжным з Міхэльсдорфу арганізацыйны сход моладзі лягеру Вогэнштраўс і былі сарганізаваныя два зьвязы скаўтаў. Зьвяз хлапцоў і Зьвяз дзяўчат у агульнай колькасьці 45 асобаў. Гэтыя два зьвязы ўтварылі 3-ці Сьцяг Штандару “Баварыя”[341].

---

337 Маецца на ўвазе мястэчка **Валенрод** (ням. *Wallenrod*) у Нямеччыне, у зямлі Гесэн.

338 Магчыма, маецца на ўвазе **Алег Дубяга** (1928—2002), дзеяч эміграцыі. У 1944 г. з бацькамі апынуўся ў Нямеччыне. У 1950 г. выехаў у ЗША. Быў мабілізаваны ў войска, ваяваў у Карэі (1953—1954). Адзін з заснавальнікаў парафіі Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ у Гайлэнд-Парку. Старшыняваў у парафіяльнай радзе, быў сябрам БАЗА.

339 **Шонгаў** (ням. *Schongau*) — г*орад у Нямеччыне, у зямлі Баварыя.*

340 Праваслаўны Беларус. № 3. Кастрычнік 1943. — ***А. В.***

341 СІС. № 4. 1947. — ***А. В.***

У травені 1947 г. налічвалася тры дружыны “Ваўчанят” і юнакоў ды дзьве дружыны “Пралесак” і юначак, разам 36 асобаў. Заняткі хоць і ў трудных лягерных умовах, пры адсутнасьці скаўцкага памешканьня, праводзім сыстэматычна, а з надыходам вясны выкарыстоўваем недалёкі лес.

17 траўня 1947 г. кіраўніцтва 3-га Сьцягу ў Вогэнштраўсе абняў нованазначаны сьцяжны. Ён правёў рэарганізацыю Сьцягу[342].

У лістападзе 1947 г. беларускі ДП-лягер у Вогэнштраўсе быў зьліквідаваны. Адну частку жыхароў лягеру перавезьлі ў Беларускі ДП-лягер у Віндзішбэргэрдорфе. Там скаўты з Вогэнштраўс уліліся ў мясцовую скаўцкую сям'ю. Большасьць-жа жыхароў гэтага лягеру і скаўтаў пераехалі ў ДП-лягер у Міттэнвальдзе, у Альпах.

__________*___________

## Гэррэнбэрг[343] — Майнлейз — Гібэльштат[344]

Сьцяговы 1-га Сьцягу ў часе аб'езду Амэрыканскай зоны ад 16 да 26 студзеня 1947 г. наведаў некаторыя беларускія ДП-лягеры, дзе яму ўдалося арганізаваць колькі скаўцкіх адзінак. Гэтак ў Гэррэнбэргу (Вюртэнбэргія[345]) 18 студзеня 1947 г. паўстаў Сьцяг, які складаўся з двух зьвязаў: хлапцоўскага імя 25 Сакавіка (25 хлапцоў) і дзявочага імя княгіні Рагнеды (15 дзяўчат)[346].

Прайшло шмат часу ад заснаваньня 4-га Сьцягу ў Гэррэнбэргу, аднак праца не пайшла там так лёгка. Час ішоў, а 4-ы Сьцяг не падаваў навет ніякае весткі, ня гледзячы на загад аб тыднёвых справаздачах сьцягоў. Аказалася, што моладзь не заўсёды магла справіцца з усякімі цяжкасьцямі, якія паўсталі там у цягу працы.

З аднэй справаздачы, атрыманай за час існаваньня Сьцягу, відаць, што моладзь не сядзела, злажыўшы рукі: усё, што было магчыма, рабіла. На перашкодзе стаіць нястача кваліфікаваных сілаў, але гэта з часам уладзіцца. Штаб Штандару ладзіць трохтыднёвыя курсы

---

342 СІС. № 7. 1947. — ***А. В.***

343 **Герэнбэрг** (ням. *Herrenberg*) — горад у паўднёва-заходняй Нямеччыне, у зямлі Бадэн-Вюртэмбэрг, дзе знаходзіўся беларускі ДП-лягер.

344 **Гібэльштат** (ням. *Giebelstadt*) — прыгарад Вюрцбургу ў зямлі Баварыя. Побач знаходзіўся вайсковы аэрадром з казармамі, у якіх пасялілі беларускіх і расейскіх ДПістаў. Беларусы тут разьмяшчаліся зь вясны 1948 г. да лета 1949 г.

345 **Вюртэмбэрг** (ням. *Württemberg*) — гістарычная вобласьць на паўднёвым захадзе Нямеччыны, ад 1952 г. у складзе зямлі Бадэн-Вюртэмбэрг.

346 Напагатове. № 2-3. Міхельсдорф 1947. — ***А. В.***

кіраўнікоў, якія абхопяць найбольш актыўных скаўтаў з усіх скаўцкіх адзінак Амэрыканскае зоны.

Горш стаіць справа з матар'яльнага боку. Калі ў другіх лягерах скаўты атрымалі ўжо ўніформы і гаспадарчы аддзел паволі ўладжваецца, дык у Гэррэнбэргу і няма надзеі на атрыманьне ўніформаў з прычыны разьвязаньня мясцовае УНРРА-ы, да таго-ж кіраўніцтва лягеру адносіцца да арганізацыі вельмі холадна і абыякава. Як відаць, скаўты пакінуты зусім самі сабе.

Зразумеўшы цяжкае палажэньне сяброў з Гэррэнбэргу, Першы Сьцяг распачаў шырокую акцыю дапамогі: у хуткім часе 4-ты Сьцяг атрымае частку ўніформы і другія неабходныя для арганізацыі рэчы. Апрача гэтага Штаб Штандару робіць стараньні, каб перакінуць туды аднаго з кіраўнікоў, які падабраў-бы там адпаведных людзей ды падрыхтаваў іх да самастойнага кіраваньня арганізацыяй.

Трэба спадзявацца, што ў хуткім часе 4-ты Сьцяг пераможа ўсе перашкоды і займе адпаведнае месца ў Беларускай скаўцкай сям'і Амэрыканскае зоны.

Улетку 1947 году жыхары лягеру Гэррэнбэрг, а разам зь імі і скаўты былі перавезены ў баракі каля вёскі Майнлёйз, недалёка ад гораду Кульбах[347], у Баварыі. Скаўты атрымалі пакой, у якім уладзілі сьвятліцу. Заняткі праводзілі згодна ўсталенай праграмы.

23 лістапада 1947 г. 4-ты Сьцяг у Майнлёйз складаў скаўцкую прысягу. На ўрачыстасьці прысутнічалі прадстаўнікі Галоўнага кіраўніцтва ЗБСЧ, Штабу Штандару, сьцяжныя 1-га, 5-га і 6-га Сьцягоў, колькі скаўтаў 1-га хлапцоўскага і 2-га дзявочага Сьцягоў, а таксама расейскія скаўты. Пасьля падняцьця сьцягу і ранішняй малітвы моладзь прыняла ўдзел у малебне, пасьля якога адбылося пасьвячэньне сьцягу, ахвяраванага скаўтам беларускаю грамадзкасьцю лягеру.

Урачыстасьць уручэньня сьцягу і прысягі адбылася пры скаўцкім вогнішчы ў залі. Найстарэйшы паважаны жыхар лягеру уручыў сьцяжному 4-га Сьцягу сьцяг са словамі: *"Зрабеце тое, чаго мы не маглі зрабіць"*.

Прысягу злажыла 23 скаўткі і скаўты, а прырачэньне 7 "Ваўчанятаў". На заканчэньне сіламі скаўтаў 4-га Сьцягу быў наладжаны канцэрт. Госьці таксама не засталіся ў даўгу і далі ў чэсьць сьвята свой канцэрт. Сьцяг рыхтуецца здаваць экзаміны на наступныя скаўцкія ступені.

---

[347] **Кульбах** (ням. *Kulbach*) — горад у паўднёва-ўсходняй Нямеччыне, у зямлі Баварыя.

У Майнлёйзе беларуская група пражыла адзін год, і вясною 1948 г. перавязлі яе ў лягер у Гібэльштаце, недалёка ад Вюрцбургу[348].

### Міттэнвальд

У сувязі зь ліквідацыяй Беларускага лягеру ў Вогэнштраўсе большасьць жыхараў гэтага лягеру пераехала ў Міттэнвальд, дзе 3-ці Сьцяг працягвае сваю працу на новым месьце.

15 лістапада 1947 г. часовае кіраўніцтва гэтага Сьцягу пераняў сябра Г.

Спачатку праца ў Сьцягу была вельмі ўтруднёнай з прычыны непрыхільных адносінаў расейцаў, якіх у лягеры большасьць. Яны living рознымі нагаворамі стараліся прыцягнуць нашую моладзь у свае дружыны. Аднак, дзякуючы моцнай паставе і стойкасьці скаўцкага актыву і падтрымцы з боку ўкраінцаў, 3-ці Сьцяг перамог усе труднасьці, а перашкоды ўзмоцнілі нацыянальную стойкасьць нашай моладзі й павялічылі ейную актыўнасьць[349].

## АНГЕЛЬСКАЯ АКУПАЦЫЙНАЯ ЗОНА НЯМЕЧЧЫНЫ

### Штандар “Гарц”

### Ватэнштэт

У ноч з 31 сьнежня на 1 студзеня 1947 г. у Народным Доме адбылося спатканьне Новага Году. Сіламі Мастацкіх гурткоў была выкананая багатая праграма Новагодняга вечару. Вечар пачаўся у 20 гадзін канцэртам. У поўнач скаўты выканалі скэч “З новым Годам”. Стары год паміpae і адыходзіць у нябыт гісторыі.

25 студзеня 1947 г. нашы старэйшыя скаўткі — Сёстры Вогнішча, ладзілі вогнішча, на якое былі запрошаны бацькі і прадстаўнікі старэйшага грамадзтва. З увагі на вялікія маразы, яно ня было на дварэ, а ў Народным доме і таму выглядала сымбалічна: чырвоныя электрычныя лямпачкі, замаскаваныя галінкамі, суччом і паленамі, пакіданымі ў кучу на падлозе, стварылі ўражаньне сапраўднага вогнішча.

Вечар-вогнішча папярэдзіла сваёй прамовай Галоўная кіраўнічка беларускіх скаўтак, якая ў прыгожых, прадуманых словах расказала

---

348 **Вюрцбург** (ням. *Würzburg*) — горад у паўднёвай Нямеччыне, у зямлі Баварыя.

349 СІС. № 10. Студзень 1948. — ***А. В.***

аб значэньні, якое меў і мае агонь для людзей, чаму скаўцкая моладзь ладзіць вогнішчы і г. д.

Агонь ня толькі грэе, але й злучае людзей у вадну сям’ю, а нам, беларусам, закінутым на далёкую чужую зямлю, трэба аб’яднацца у моцную дружную сямейку, бо інакш мы загубімся сярод чужынцаў, а тады і загубім самае дарагое і каштоўнае, што нас вяжа з роднай зямелькай — свае звычаі, сваю мову, усё, што выдзяляе нас як асобны народ. А загубіць усё роднае — гэта грэх перад Богам і сваім Народам.

Пасьля ўступнага слова пачалася мастацкая праграма. Вогнішча ў выкананьні скаўтак. Калі-б хто думаў, што гэта было звычайнае вогнішча з песьнямі, звонкім сьмехам скаўтаў, жартамі і г. д., той глыбока памыліўся-б.

Былі тут, ясна, і песьні, і сьмех, і жарты: скаўты, асабліва малодшыя, укруг пасеўшы ля вогнішча, пяялі розныя песьні, няпрымушана гулялі, сьмяяліся. Галоўнае, аднак, што захапляла прысутных, адбывалася на сцэне.

Скаўткі сур’ёзна і старанна папрацавалі, рыхтуючыся да вечару і далі сапраўды мастацкія і арыгінальныя нумары. З іх на асаблівую ўвагу заслугоўвае балет “Вёска”, “Малітва” і “Арляняты”. Калектыўная дэклямацыя, гутарка Палескага з Віленскім і дэклямацыі.

Назвычайнае ўражаньне зрабіў выяўленчы танец “Вёска”, пасьля якога ўсе прысутныя былі ў небывалым захапленьні. Хлапец і дзяўчына ў вясковай беларускай вопратцы спатыкаюцца і... пачынаюць танцаваць. Недзе ў глыбі сцэны, з-за плоту ўглядаюцца дзеці: хлопчык і дзяўчынка. Нічога, здаецца, асаблівага... Але калі канчаецца танец дарослых, выходзяць малыя дзеткі і пачынаюць танцаваць такі-ж самы танец, які... яны падглядзелі з-за плоту.

Гэта адразу падымае публіку! Але гледача чакаюць яшчэ неспадзеўкі: выходзіць раптам цэлы карагод дзяўчат і хлапцоў і пачынаюцца масавыя танцы, якія, урэшце, канчаюцца “Лявоніхай”.

Скаўткі нашыя зразумелі вялікае дзеяньне калектыўнае дэклямацыі і ў гэтым напрамку яны стала працуюць.

“Малітва” пры паўзмроку на сцэне, дэклямаваная паўголасам, сапраўды, закранула ў кажнага самыя тонкія струны душы. І кожны зразумеў, як прыгожа і прыемна маліцца сваімі шчырымі, простымі словамі, як лёгка, прыемна робіцца тады на душы...

Што дало нам гэтае вогнішча? Яно паказала, што нашыя скаўты працуюць, што пры жаданьні і сур’ёзнай сыстэматычнай працы можна зрабіць вельмі шмат.

Часьцей-бы ладзіць такія вечары! Яны даюць кажнаму тую асалоду, якую дае сапраўды нешта прыгожае, а галоўнае, яны будзяць у кажнага імкненьне самаму нешта рабіць, самаму быць нейкім іншым.

На заканчэньне вечару, па ўведзенаму ўжо на скаўцкіх вогнішчах

звычаю, усе прысутныя, пабраўшыся за рукі, калышучыся ў такт песьні, прапяялі “Люблю наш край, старонку гэту...”[350].

23 сакавіка 1947 г. Ватэнштэцкі скаўцкі Зьвяз імя Каліноўскага ладзіў урачысты вечар у чэсьць вялікага нашага героя, загінуўшага ў 1864 г.

На праграму вечару склаліся: рэфэрат аб жыцьці і дзейнасьці К. Каліноўскага, чытаньне тэкстаў, напісаных Каліноўскім, дэклямацыі і сьпеў. Вечар праходзіў у высока патрыятычным настроі[351].

24 сакавіка 1947 г., напярэдадні нашага нацыянальнага сьвята, адбылася вялікая ўрачыстасьць, арганізаваная нашымі скаўтамі ў чэсьць беларускіх герояў, загінуўшых за вызваленьне Беларусі.

Пасьля паніхіды, адпраўленай у мясцовай царкве, скаўцкая моладзь, сабраўшыся на пляцы лягеру пры вогнішчы аддала ўрачыста гонар загінуўшым героям.

Пры вогнішчы новаўступіўшыя ў скаўтынг дзяўчаты і хлопцы злажылі скаўцкую прысягу, а тыя скаўткі і скаўты, што злажылі пробы, атрымалі права нашэньня адпаведных скаўцкіх адзнакаў[352].

У гэтым-жа дню жаночы Сьцяг Ватэнштэт атрымаў свой штандар. Акт пасьвячэньня выканаў мясцовы праваслаўны сьвятар у сьвяточна ўпрыгожанай салі. Сьцяг уручыў хросны бацька сп. Д., які заклікаў беларускіх скаўтаў горда і стойка трымаць яго ў сваіх руках, а разам з ім і гонар нашага Народу.

Прыняўшы штандар, сьцяжная Раіса Жукоўская ў імя ўсіх дзяўчат выразіла непахісную волю быць вернай на скаўцкім шляху Богу і Бацькаўшчыне.

Прыгожую прамову пры гэтай нагодзе сказала Галоўная кіраўнічка беларускіх скаўтак, накрэсьліваючы сапраўдны шлях скаўткі, як беларускі і грамадзянкі[353].

Беларускі ДП-лягер АБЦ у Ватэнштэце адзначыў нацыянальнае сьвята 25 Сакавіка 1947 г. асабліва ўрачыста. Рана пры ўдзеле скаўцкай моладзі і жыхараў лягеру адбылося ўрачыстае падняцьце сьцягу, пасьля чаго жыхары лягеру прынялі ўдзел у набажэнстве ў мясцовай царкве.

Вечарам у Народным Доме адбылася Акадэмія з багатай канцэртнай праграмай. На асаблівую ўвагу заслугоўваюць выступленьні на-

[350] Шляхам Жыцьця. Ватэнштэт. № 1 (13). 1947. — ***А. В.***

[351] СІС. № 6. Травень 1947. — ***А. В.***

[352] СІС. № 6. Травень 1947. — ***А. В.***

[353] СІС. № 6. Травень 1947. — ***А. В.***

шых скаўтак. Нязвычайна ўдала была выкананая імі інсцэнізацыя паэмы Я. Купалы “На куцьцю” і паасобныя дэклямацыі.

Ватэнштэцкія скаўткі сваімі імпрэзамі на працягу апошняга году здабылі найлепшае прызнаньне жыхараў лягеру.

З прывітаньнямі на Акадэміі выступалі прадстаўнікі летувіскага, латыскага і ўкраінскага грамадзянства, якія ў цёплых словах выказалі свае найлепшыя пажаданьні і запэўнілі ў непарушнай братняй прыязьні.

Скаўты ў гэты дзень праводзілі квэсту на ЗКСЧ, якая дала больш 1000 марак[354].

Вечарам 23 красавіка 1947 г. у дзень сьв. Юрага — патрона скаўтаў усяго сьвету нашы скаўты ў Ватэнштэце ладзілі разам з летувіскімі скаўтамі скаўцкае вогнішча, якое адбылося для замацаваньня міжнацыянальнай прыязьні між нашай і летувіскай моладзьдзю.

2 траўня 1947 г. адбылася нарада скаўцкіх кіраўнікоў разам са скаўтамі сэньёрамі. На нарадзе былі абгавораны актуальныя справы, як арганізаваньне беларускага скаўтынгу ў Англіі, куды распачалася акцыя выезду перасяленцаў на працу, далучэньне нашай арганізацыі да ICA, справа Джэмбары і інш.

Пастаноўлена ў першай палавіне травеня арганізаваць 14-цідзённы курс для скаўцкіх кіраўнікоў у Ватэнштэце, на якім прымуць удзел прадстаўнікі ад скаўцкіх адзінак ангельскае зоны[355].

Зімовы час нашыя скаўты праводзілі за навукай. За гэты час яны ўзрасьлі як духова, так і фізычна і заслужылі назоў і гонар сапраўднага скаўта, які, куды-б яго ні кінуў лёс, даў-бы сабе раду, памог-бы тым, хто патрабуе дапамогі, здабыў-бы павагу сярод тых, з кім ён будзе жыць. Годна рэпрэзэнтаваў-бы сябе і свой народ[356].

Скаўцкі Сьцяг утрымліваў сувязь са скаўтамі іншых народаў. Асабліва сяброўскія адносіны былі наладжаны са скаўтамі латышамі і летувісамі з суседніх лягероў. У іх няраз мы былі гасьцямі або ўдзельнікамі ў супольна наладжаных вогнішчах. Супольна з імі беларусы сьвяткавалі Міжнародны скаўцкі дзень 23 красавіка 1947 г., ды ў рамках гэтага сьвята зарганізавалі супольную выстаўку[357].

5 жніўня 1947 г. беларускіх скаўтаў у Ватэнштэце запрасілі ангельскія скаўты з Браўншвайгу на вечар, прысьвечаны памяці Бодэн Паўля.

---

[354] СІС. № 6. Травень 1947. — ***А. В.***

[355] СІС. № 6. Травень 1947. — ***А. В.***

[356] СІС. № 6. Травень 1947. — ***А. В.***

[357] Skaut. № 1 (7). 1947. — ***А. В.***

На вечары былі прысутныя і ўкраінскія, польскія, эстонскія, латыскія і летувіскія скаўты. У прыемнай сяброўскай атмасфэры беларускія скаўты правялі некалькі гадзін.

10 жніўня 1947 г. дружына “Пралесак” ладзіла вечар для дзяцей. У праграме вечару былі дэклямацыі, сьпевы, гульні і народныя скокі.

14 жніўня з нагоды 959 угодкаў хрышчэньня Ўкраіны, украінскія скаўты лягеру 25 у Галендорфе[358] запрасілі нашых скаўтаў на традыцыйнае вогнішча.

Нашы скаўты і скаўткі прымалі ўдзел у сьвяткаваньні. Яны прапяялі цэлы рад беларускіх песьняў і пратанцавалі некалькі беларускіх танцаў[359].

Дня 4 верасьня 1947 г. скаўты і скаўткі лягеру Ватэнштэт былі запрошаны на супольнае вогнішча, ладжанае летувіскімі скаўтамі ў лягеры Рэпнэр[360]. На вогнішчы былі прысутныя таксама латыскія і ўкраінскія скаўты. Асабліва падабаліся прысутным беларускія песьні. У агульнай праграме шмат нумароў была выканана беларускімі скаўтамі. Наагул на вогнішчы колькасна нашы скаўты пераважалі іншых.

Гаспадары вогнішча сапраўды па-сяброўску апекаваліся запрошанымі скаўтамі. Вечар пакінуў па сабе незабыўнае ўражаньне скаўцкай дружбы і салідарнасьці[361].

16 лістапада 1947 г. з нагоды 2-е гадавіны існаваньня скаўтынгу ў Ватэнштэце скаўцкая моладзь ладзіла вялікі вечар-вогнішча. На вечары былі прысутныя прадстаўнікі скаўцкай моладзі іншых нацыянальнасьцяў і прадстаўнікі ангельскіх уладаў.

Пасьля кароткага рэфэрату адбыўся багата распрацаваны танцавальны аддзел.

13 і 14 сьнежня 1947 г. у Ватэнштэце адбыўся Зьлёт беларускіх скаўтаў Ангельскае зоны. На Зьлёце былі прысутныя скаўткі і скаўты з Ватэнштэту і Гановэру (з апошняга 12 асобаў), а таксама прадстаўнікі старэйшага грамадзтва. Мэтай Зьлёту было ўтварэньне Штандару беларускіх скаўтаў Ангельскае зоны.

Пасьля праведзеных нарадаў і абгаварэньня спраў скаўцкага жыцьця й працы Зьлёт выбраў кіраўніцтва Штандару ў васобах:

[358] **Галендорф** (ням. *Hallendorf*) — адзін з раёнаў гораду Зальцгітэр у Ніжняй Саксоніі, недалёка ад Ватэнштэту.

[359] Шляхам Жыцьця. Ватэштэт. № 8. 1947. — ***А. В.***

[360] **Рэпнэр** (ням. *Reppner*) — адзін з раёнаў гораду Зальцгітэр у Ніжняй Саксоніі, недалёка ад Ватэнштэту.

[361] Шляхам Жыцьця. Ватэштэт. № 9-10 (21-22). 1947. — ***А. В.***

кіраўнік Штандару — сьцяжны М. Маеўскі[362], заступнік — В. Завістовіч[363] і штандаровая Н. Е.

Агульны лік скаўтаў і скаўтак, якія мелі права рашаючага голасу было 53, прычым права голасу мелі толькі скаўты і скаўткі.

З нагоды скліканьня Зьлёту, Першы Сьцяг скаўтаў і Першы Сьцяг скаўтак зладзілі скаўцкае вогнішча. Адбылося яно ў Народным Доме. Праграма вогнішча: скэч А. Кавалеўскага[364] "Зьбянтэжаная Бабара або двуногі кот", спартовыя паказы юначак і "Пралесак", жартаўлівы бокс юнакоў, "Полька Янка" ў выкананьні старэйшых скаўтак і квінтэт старэйшых скаўтаў, які выканаў тры песьні: "Ідуць жаўнеры Беларусы"[365], "Наваградзкі эскадрон"[366] і "Бурай рынуліся ў бой"[367].

Пасьля на салі адбыліся сяброўскія гульні, пераплятаныя скаўцкімі выклічамі і сьпевамі[368].

## Госьляр

25 Сакавіка 1947 г., у дзень Беларускага нацыянальнага сьвята, адбыліся ў Беларускім ДП-лягеры ў Госьляры ўрачыстасьці, якія

---

[362] **Міхась Маеўскі**, скаўцкі і грамадзкі дзеяч. Жыў у Ватэнштэце.

[363] Магчыма, маецца на ўвазе **Расьціслаў Завістовіч** (1928—2000), грамадзкі дзеяч. У 1944 г. з бацькамі выехаў з Беларусі. У 1948 г. сям'я перабралася ў ЗША. На пачатку 1950-х гг. служыў у амэрыканскай арміі ў Нямеччыне. Вучыўся ў Ратгерскім унівэрсытэце (Нью-Джэрзі), атрымаў спэцыяльнасьць інжынэра. Працаваў па спэцыяльнасьці, потым у Кангрэсавай бібліятэцы ў Вашынгтоне. Узначальваў Беларускі кангрэсавы камітэт Амэрыкі (1990—2000). Браў удзел у Першым зьезьдзе беларусаў сьвету ў Менску (1993).

[364] **Аўген Кавалеўскі** (1921—1963), тэатральны дзеяч, драматург. Са школьных гадоў браў удзел у дзіцячых пастаноўках Тэатра юнага гледача. Па рэкамэндацыі Еўсьцігнея Міровіча пайшоў у школу пры Беларускім дзяржаўным драматычным тэатры. У 1944 г. выехаў у Нямеччыну. З прафэсійных актораў на эміграцыі арганізаваў ансамбаль песьні й танца "Жыве Беларусь!", пазьней пераўтвораны ў Тэатар эстрады. У 1947 г. у Міхельсдорфе выдаў "Кароткі курс навучаньня актора". У 1949 г. пераехаў у Францыю, дзе працаваў у кравецкай майстэрні. На пачатку 1950-х гг. быў сакратаром і кіраўніком аддзелу культуры Галоўнай управы Беларускай незалежніцкай арганізацыі моладзі ў Францыі.

[365] ***"Ідуць жаўнеры Беларусы"*** — песьня, словы і музыку да якой напісаў Пётра Нядзьвецкі (Звонны).

[366] **"Наваградзкі эскадрон"** — песьня, якая пачынаецца словамі "Разьдзёрты сваркамі народ / Марнее ў горы з году ў год".

[367] ***"Бурай рынуліся ў бой"*** — першы радок зь песьні "Марш маладых" на словы А. Чэмера, музыка М. Іванова.

[368] Шляхам Жыцьця. Ватэнштэт. № 12 (24). 1947. — ***А. В.***

пачаліся малебнам. У часе малебну быў пасьвечаны сьцяг скаўцкае арганізацыі лягеру. Пасьля адбылася ўрачыстая Акадэмія, на якой быў прачытаны рэфэрат аб Акце 25 Сакавіка 1918 году, дэклямаваліся вершы і выконваліся песьні.

Было атрымана шмат тэлеграмаў і павіншаваньняў ад розных асобаў і беларускіх асяродкаў.

6 красавіка 1947 г. на Велікодныя Сьвяты адбылося ўрачыстае скаўцкае вогнішча на гары Рэмэльсбэрг у Госьляры, ладжанае беларускаю, украінскаю і нямецкаю моладзьдзю.

Гэта было першае спатканьне нашых скаўтаў з моладзьдзю іншых народаў у Госьляры. Пакунула яно па сабе глыбокае ўражаньне. Музыка, сьпевы, дэклямацыі гучэлі вакол вогнішча на фоне акружаючага лесу й прыгожага віду на горад. Асабліва глыбокае ўражаньне выклікала малітва пры паднятых факелах.

Вогнішча працягвалася да позьняй ночы ў жыцьцярадаснай атмасфэры. Яно станецца новым крокам для нашай скаўцкай працы і міжнароднага братэрства.

## ***Скаўцкі лягер у горах Гарц***

Прыгожыя дні ў канцы травеня й на пачатку чэрвеня 1947 г. выкарыстаў Ватэнштэцкі Сьцяг скаўтаў на тыднёвы лягер у цудоўных аколіцах гор Гарцу. У лягеры ўзялі ўдзел нашыя скаўты з Рынгельгайму[369] і Госьляру.

Паміж высокімі горамі, каля шумлівай рэчкі, што скача з скалы на скалу, раскінуўся маленькі куточак Беларусі — скаўцкі лягер імя Кастуся Каліноўскага. Вялікія шалашы-палаткі прадстаўлялі сабой большыя гарады нашае Бацькаўшчыны. На стрэхах шалашоў відаць было вялікія напісы: сталічны горад Менск, сэрца Беларусі — Вільня, Горадня, Віцебск, Полацак, Беласток, Глыбокае.

Пасярэдзіне лягеру на высокай машце калыхаўся наш бел-чырвона-белы сьцяг. Хлопцы занялі зьвязамі і дружынамі розныя “гарады”-шалашы, сэньёры — Горадню, дзяўчаты — Вільню. Кухня з сваёй базай заняла месца каля шумлівага Нёману.

Распачалося вясёлае скаўцкае жыцьцё паводля устаноўленага лягернага рэжыму. Штодзённая гімнастыка, спорт, палявыя заняткі, вандроўніцтва, гульні й гутаркі на розныя выхаваўчыя тэмы былі добрай школай для моладзі.

Вечарам скаўцкія вогнішчы. Горы Гарц чулі шмат прыгожых беларускіх песьняў і шчырага сьмеху нашых скаўтаў. Яны астануцца доўга ў памяці нашых юнакоў і юначак, скаўтаў і скаўтак.

---

[369] **Рынгельгайм** (ням. *Ringelheim*) — адзін з раёнаў гораду Зальцгітэр у Ніжняй Саксоніі, недалёка ад Ватэнштэту.

На заканчэньне лягеру адбыліся спаборніцтвы паміж дружынамі юнакоў у спартовых змаганьнях і скаўцкім бегу. На трасе 1 клм трэба было на час справіцца з чатырма перашкодамі: кожны юнак бег індывідуальна па скаўцкіх знаках, павінен быў знайсьці схованыя лісты, на якіх былі напісаныя загады: расшнураваць і зашнураваць левы чаравік, зьвязаць два скаўцкія вузлы, трыма каменямі трапіць у павешаны на дрэве прадмет, вызначыць бакі сьвету на зямлі. Выкананьне і час пры кожнай перашкодзе запісваў, схаваўшыся, інструктар.

Першае месца заняла дружына "Зубры" з Ватэнштэту, якая асягнула ў сярэднім час: 5 мінут і 7 сэкундаў і 18 пунктаў на 25 магчымых. Другое месца заняла дружына "Алень" з Госьляру, час: 6 мінут 3 сэкунды і 17 пунктаў.

Індывідуальна найлепшыя вынікі здабыў юнак Алесь Гарох[370], які прабег трасу ў 4 мінуты й 3 сэкунды і асягнуў 23 пункты, другое месца — Валасэвіч і Пракаповіч, час 6 мін і 21 пункт. Усе дружыны "Зубры" — Ватэнштэт. З дружыны "Алень" найлепшае месца заняў Стрэж: час 4 сэкунды і 20 пунктаў[371].

## *Беларуская вечарына ў Госьляры*

3 лістапада 1947 г. па просьбе Каманданта беларускага ДП-лягеру ў Госьляры выехалі туды беларускія скаўты і вучнёўская моладзь, якія зладзілі вечарыну. У праграме былі: дэклямацыі, беларускія песьні ў выкананьні школьнага хору, танцавальныя гурткі скаўтаў і старэйшае моладзі выступілі з народнымі танцамі, урэшце была пастаноўка скэчу "Нешчасьлівае каханьне".

Нягледзячы на некаторыя недахопы з тэхнічнага боку, вечар прайшоў даволі ўдала. Гледачы былі задаволеныя, што было відаць з гучных воплескаў і падзякаў пры ад'ездзе нашых маладых артыстых.

Жыхары ДП-лягеру ў Госьляры прасілі якнайчасьцей адведваць іх і сваімі выступамі хоць на хвіліну пераносіць іх у нашу дарагую Бацькаўшчыну... сэрцам і думкамі[372].

## Варбэрг[373]

Дня 20 красавіка 1947 году пры ўдзеле Галоўнага кіраўніка ЗБСЧ зарганізаваўся скаўцкі Зьвяз у беларускім ДП-лягеры Варбэрг.

---

[370] Магчыма, маецца на ўвазе **Аляксей Гарох —** вучань Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Нямеччыне.

[371] СІС. № 7. Чэрвень 1947. — ***А. В.***

[372] Шляхам Жыцьця. Ватэнштэт. № 11. Сьнежань 1946. — ***А. В.***

[373] **Варбэрг** (ням. *Warberg*) — мястэчка ў Нямеччыне, у зямлі Ніжняя Саксонія. Побач зь вёскай у замку быў створаны беларускі ДП-лягер, дзе дзейнічалі школа, скаўцкі зьвяз. Лягер быў ліквідаваны ў 1947 г.

Зьвяз складаўся з трох дружынаў і насіў назоў “Арляняты”. Кіраўніком Зьвязу быў настаўнік тамтэйшай школы.

Зьвяз адразу прыступіў да актыўнае працы.

Для самой моладзі такая арганізацыя, як скаўтынг, падабалася. Кажныя раніцы скаўты выходзілі на фізкультурную зарадку. А так як клічам было Бог і Бацькаўшчына, рабіліся часта рэфэраты на тэму беларусаведы, аб значэньні скаўтынгу і яго заданьнях ды інш.

Рабіліся паходы ў лес і горы. Таксама быў выезд у скаўцкі лягер на даўжэйшы час у горах Гарц, каля Госьляру.

Час ад часу рабіліся вогнішчы, каля якіх наладжваліся гульні і сьпевы.

Спэцыяльнай скаўцкай сьвятліцы не было. Для патрэбных заняткаў ужываўся клясавы пакой беларускае школы. Але калі ІРО зьліквідавала лягер і перавезла амаль усіх жыхараў у расейскі лягер, праца ня толькі ў скаўтынгу, але і ў беларускай школе стала шмат цяжэйшай, бо на перашкодзе сталі ня толькі старая расейская эміграцыя, але і новыя, якія адносіліся не сымпатычна да ўсяго беларускага, што толькі ўзьнікала.

Кіраўнік скаўтынгу пачаў настойліва дамагацца ад каманданта лягеру ды ад ІРО большых правоў для дзейнасьці беларускага Зьвязу скаўтынгу і школы.

ІРО не перашкаджала нашай дзейнасьці, але так як мы апынуліся ў варожым нам лягеры, кіраўніцтва было нам на перашкодзе. Адносіны паміж кіраўніком скаўтынгу і кіраўніцтвам лягеру моцна абвастрыліся. Зачаліся пагрозы. У такім выпадку кіраўнік скаўтынгу перадаў Зьвяз іншаму сьведамаму беларусу для часовай апекі, а сам пакінуў расейскі лягер ды пераехаў у беларускі ДП-лягер АБЦ у Ватэнштэце.

Нягледзячы на цяжкія абставіны беларускага Зьвязу скаўтаў у расейскім лягеры, гэты Зьвяз здолеў утрымацца да канца, аж пакуль не зьліквідаваўся і расейскі лягер. Амаль усе беларусы з гэтага лягеру пераехалі ў Беларускі ДП-лягер Ватэнштэт, а ў тым ліку і беларускі Зьвяз скаўтаў.

Часовым кіраўніком быў Аляксандар Мароз[374]. Такім чынам пачаў сваю дзейнасьць і скаўцкі Зьвяз “Арол” у палавіне травеня 1947 г. у

[374] Магчыма, маецца на ўвазе **Аляксандар Мароз** (1918—1989), грамадзкі дзеяч. У 1949 г. пераехаў зь Нямеччыны ў Аўстралію. Ад 1954 г. сябра аддзелу Задзіночаньня беларускіх вэтэранаў у Пэрце. Пазьней займаў розныя пасады (у тым ліку й старшыні) у Беларускім аб’еднаньні ў Заходняй Аўстраліі. Адзін з ініцыятараў і галоўны будаўнік Беларускага народнага дому ў Пэрце. Ад 1984 г. радны БНР. Доўгачасовы прадстаўнік беларускай прэсы ў Заходняй Аўстраліі.

ДП-лягеры Рынгельгайм, каля Госьляру, дзе працаваў аж да часу пераезду ў Беларускі лягер АБЦ у Ватэнштэце.

Б. Лішчонак[375].

Канада, Сакавік, 1947 г.

_________ * _________

## *Угодкі Слуцкага Паўстаньня*

*30 лістапада 1947 г. адбыўся ўрачысты Вечар, прысьвечаны 27 угодкам Слуцкага Паўстаньня. Яшчэ напярэдадні скаўткі і скаўты лягеру зладзілі вогнішча, пры якім былі прачытаны й памянуты загінуўшыя за Беларусь змагары.*

*Скаўты з паходнямі прайшлі праз лягер і апусьцілі сьцяг да паўмашты. У вячэрнім змроку шарэнгамі праз лягер ідзе моладзь. Твары асьветлены паходнямі, паднятымі высока ў цямнеючае небы. Гучаць баевыя песьні. У іх пяецца аб Бацькаўшчыне, аб змаганьні, аб шчыльных радох, у якіх ішлі такім-жа крокам, бясстрашныя на сьмерць... яны. Іх няма ўжо сярод жывых. Але ня ўпалі іх паходні да зямлі. Яны падхоплены моцнай рукой другімі, што заступілі іх.*

*Паходні асьвятляюць суровыя твары. І навакола яшчэ больш цёмна. У чорнай цемры асабліва рэзка зарысоўваюцца постаці хлапцоў і дзяўчат. Толькі адны зоркі спакойна мігцяць у вышыні. Яны ня ведаюць адлежнасьці, якая дзеліць гэтых людзей ад іх Бацькаўшчыны. Яны аднолькава асьвятляюць курганы загінуўшых герояў, родныя палеткі і гэтую чужую зямлю, на якой сабралася такая грамада моладзі, каб успомніць тую справу і тых людзей, што былі 27 гадоў таму...*

*Схіляем галовы. Сэрца сьціскаецца і ня можа адлегчы... “Загінулі за Бацькаўшчыну!” — раздаюцца галасы, быццам жорсткі пясок падае на магілы. Вечная памяць... Вечная памяць усім, што загінулі ў змаганьні за лепшую долю і волю, за сьветлую Будучыню...*

*Хаўтурны марш... З глыбокага засмучэньня родзіцца моцная пастанова. Паходні падняты! Крок упарты! У ім адбіваецца воля і імкненьне. Ён гаворыць аб нашай перамозе. Паходні не ўпадуць.*

*Многія з нас пойдуць сьледам тых, што ўжо сьпяць пад курганамі. І над намі будзе такая цем, толькі зоркі таксама будуць мігцець у неабсяжнай вышыні... Але наш сьпеў бадзёры, у ім няма*

[375] **Баляслаў Лішчонак** (1919—1990), грамадзкі дзеяч. Пазьней сакратар аддзелу Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі ў Брадфардзе. У канцы 1940-х гг. выехаў у Канаду. Заснавальнік аркестру “Ашава Мэлоды”, браў актыўны ўдзел у працы Згуртаваньня беларусаў Канады.

*аніводнай ноткі жалю. Справа нашая будзе жыць! Паходні ніколя ня згаснуць!*

*Роўна калышацца паход. Мы ідзем!*

*Р. А.*[376].

## *Склад Штабу Штандару «Гарц»*

18 сьнежня 1947 г. пакліканы штандаровым на становішча кіраўнікоў паасобных рэфэратаў наступныя сяброўкі і сябры:

1. Арганізацыйны......— М. Лужыцкі[377] і М. Левуш.
2. Выхаваўчы............— М. Сенька[378].
3. Прапаганды..........— Л. Шурак[379].
4. Сувязі.....................— Ю. Сенькоўскі[380] і Н. Занковіч[381].
5. Гаспадарчы...........— В. Косараў.

_________ * _________

[376] Шляхам Жыцьця. Ватэнштэт. № 11 (23). Лістапад 1947. — ***А. В.***

[377] Магчыма, маецца на ўвазе **Міхась Лужынскі** (1926—2011), грамадзкі дзеяч. У 1942 г. паступіў у Маладэчанскую гандлёвую школу. Сябра СБМ. Пасьля закрыцьця школы падаўся добраахвотнікам у школу Люфтвафэ. Канец вайны спаткаў у Нямеччыне. У 1948 г. закончыў Беларускую гімназію імя М. Багдановіча ў Ватэнштэце. Браў удзел у скаўтынгу. У 1950 г. выехаў у Аўстралію. Радны БНР. У 1952 г. стаў старшынём Беларускага аб'еднаньня ў Новай Паўднёвай Валіі. У 1953—1954 гг. рэдактар БНРаўскага варыянту часопісу “Новае Жыцьцё”. Пазьней сакратар Беларускага культурна-грамадзкага клюбу, яго старшыня. Ад 1976 г. сябра Беларускага радыёвага камітэту. У 1976—1980 гг. сакратар Фэдэральнай Рады беларускіх арганізацый у Аўстраліі. Ад 1983 да 1993 г. рабіў беларускія радыёпраграмы ў Сыднэі на станці 2ЕА.

[378] Маецца на ўвазе Міхась Сенька.

[379] **Лявон Шурак**, грамадзкі дзеяч. Зь Нямеччыны ў 1950 г. выехаў у ЗША, дзе служыў у войску, а потым быў актыўным удзельнікам рэдкалегіі часопісу “Беларуская моладзь”, сябрам саўт-рывэрскай беларускай вэтэранскай арганізацыі, сакратаром Нью-Джэрзійскага аддзелу БАЗА.

[380] **Юры Сянькоўскі** (1926—1995), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў Залескай польскай, Маладэчанскай беларускай школах. У 1942 г. паступіў у Віленскую настаўніцкую сэмінарыю. Належаў да СБМ. У 1944 г. выехаў зь Беларусі. Знаходзіўся ва Ўсходняй Прусіі. Дэсантнікам батальёну “Дальвіц” быў скінуты ў Беласточчыну. Ад 1946 г. у Нямеччыне. Закончыў Лювэнскі ўнівэрсытэт у Бэльгіі (1956). Працаваў на Радыё “Вызваленьне”, на якім узначальваў Беларускую рэдакцыю (1983—1991).

[381] Напэўна, маецца на ўвазе **Надзея Занкавіч (Занковіч)**, якая пазьней уваходзіла ў саўт-рывэрскі аддзел Аб'еданьня беларускіх жанчын.

# ФРАНЦУСКАЯ ЗОНА АКУПАЦЫІ НЯМЕЧЧЫНЫ

## Вайнгартэн

Мы зь вялікім напружаньнем чакаем на якую-небудзь вестку ад Галоўнай кватэры, якая зьяўляецца для нас штуршком да далейшай працы. Праца ў Зьвязе ідзе наперад, паміма вельмі вялікіх перашкодаў. Школа наша падпарадкавана Варшаўскай адміністрацыі, таму й адносіны паміж намі вельмі напружаныя.

Дня 6 сакавіка 1947 г. невялічкая група нашых вучняў і скаўтаў езьдзіла ў Шварцвальд[382] на курсы лыжаў.

25 Сакавіка мы таксама сьвяткавалі нашае нацыянальнае сьвята. На гэтую тэму быў прачытаны рэфэрат. У слухаючай моладзі наглядалася вялікае зацікаўленьне нашай нацыянальнай справай. Кожны выйшаў з пастановай змаганьня за шчасьце і дабрабыт Беларускага народу і Бацькаўшчыны.

Цяпер у нас ідзе інтэнсыўная падрыхтоўка да матуральных экзамэнаў, а ў скаўцкім Зьвязе да злажэньня скаўцкіх пробаў.

У днях ад 2 жніўня да 3 верасьня 1947 г. быў зладжаны, дзякуючы ініцыятыве сьцяжнога Сьцягу Вайнгартэн сябры Жэромскага[383], пры дапамозе дырэкцыі ІМКА, павету Заўльгаў[384], лягер адпачынку для скаўцкай моладзі.

На лягер скаўты выбралі маляўнічую ваколіцу над Дунаем. Дзякуючы здольнасьцям нашых скаўтаў, хутка вырас на дузе пад лесам горад з палатак. Побач, пасуседзку, разьмясьціліся расейскія скаўты. Ля пераможнага францускага сьцягу павяваў з аднаго боку беларускі бел-чырвона-белы, а з другога расейскі сьцяг.

Скаўты стараліся па-магчымасьці найлепш выкарыстаць воду і сонца: яны шмат купаліся, гулялі й сьпявалі. Цёплую атмасфэру, якая вытварылася ў лягеры, нарушылі толькі інтрыгі кіраўнікоў расейскага скаўтынгу, якім цяжка было пагадзіцца з тым, што камандантам лягеру быў беларус і, што ня ўсе сьцягі сіня-бела-чырвоныя. Гэта ясна. Але з фактамі, хочаш ня хочаш, трэба звыкацца.

---

[382] **Шварцвальд** (ням. *Schwarzwald*) — горны масіў у паўднёва-заходняй Нямеччыне, у зямлі Бадэн-Вюртэмбэрг.

[383] **Уладзімер Жэромскі (Жыромскі)**, дзеяч СБМ. Разам зь Віктарам Войтанкам быў ініцыятарам стварэньня скаўцкіх аддзелаў у францускай акупацыйнай зоне Нямеччыны.

[384] **Заўльгаў** (ням. *Bad Saulgau*) — горад на поўдні Нямеччыны, у зямлі Бадэн-Вюртэмбэрг.

Дня 31 жніўня 1947 г. лягер наведаў штандаровы д-р Войтанка ў асысьце некалькіх скаўтаў. Скаўты пры гэтай нагодзе пасьпяхова злажылі экзамэны і здабылі адпаведныя ступені.

У аснаўным скаўты правялі вельмі весела гэты час, разьяжджаліся з прыемнымі ўражаньнямі і з адным вялікім жаданьнем як найхутчэй ізноў спаткацца ў падобным лягеры[385].

## БЕЛАРУСКІЯ СКАЎТЫ Ў АНГЛІІ

У выніку пераезду ДП у Англію на працу разам зь іншымі беларусамі пераехала туды і група нашых скаўтаў з Ангельскае зоны. Яны распачалі арганізацыйную дзейнасьць над стварэньнем беларускага скаўтынгу ў Англіі. Незалежна ад гэтага нашыя скаўты ў новых асяродках не забываюцца аб сваіх абавязках у нацынальна-культурнай галіне. Вось што піша Лонданскі беларускі часапіс “На шляху”[386] № 4 аб адной з нашых групаў:

“Невялічкая група з Ватэнштэту пасьпела ўжо паказаць сябе і беларускае мастацтва на новым селішчы. Падаём выняткі зь іхняй карэспандэнцыі... “Жывем мы цяпер у пераходным лягеры ў Мальвэрму. Беларусаў ёсьць тут 10 асобаў, а рэшта гэта латышы, эстонцы і ўкраінцы. Кажную суботу ладзяцца нацыянальныя выступы з танцамі, сьпевамі й г. д.

Мы таксама сваею маленькаю групаю не засталіся ад другіх. Адна наша дзяўчына прапяяла солё, пасьля чатыры пары пратанцавалі Лявоніху і прапяялі дзьве песьні. Усё гэта выйшла вельмі дообра. Наш выступ вельмі спадабаўся ангельцам і ўсім прысутным”[387].

---

[385] Студэнцкі Кліч. № 2 (16). 1947. — ***А. В.***

[386] **“Na Šlachu”** — бюлетэнь Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, які выдаваўся ў Лёндане ў 1946—1951 гг.

[387] СІС. № 7. 1947. — ***А. В.***

## 1948 г.

### ЛЕГАЛІЗАЦЫЯ ЗБСЧ

На днях Галоўная кватэра ЗБСЧ атрымала ад Міжнароднага скаўцкага Бюра ў Лондане афіцыйнае пісьмо ў справе прызнаньня нашай скаўцкай арганізацыі і прыняцьця яе пад свой пратэктарат. Такім чынам стараньні Галоўнага кіраўніцтва, распачатыя яшчэ год таму, закончыліся добрым посьпехам. ЗБСЧ у Нямеччыне і Аўстрыі атрымала права на легальнае існаваньне, што зьяўляецца незвычайна важным мамэнтам у гісторыі нашага скаўтынгу.

У першых днях 1948 г. Галоўная Кватэра атрымала ад ІБ — Інтэрнэйшэл Бюро рэгістрацыйнае пасьветчаньне пад №№-мі 1, 2 і 3 з рэестру ДП скаўтаў з дня 30.12.1947 г.[388].

Ад гэтага моманту ЗБСЧ ня толькі намінальна, але й фактычна ўліваецца ў Міжнародны скаўтынг. Галоўны кіраўнік ЗБСЧ ад гэтага часу забавязаны ня толькі прымаць дзейны ўдзел ува ўсіх канфэрэнцыях, скліканых упаўнаважаным для спраў ДП ад Міжнароднага скаўцкага Бюра (ІБ) у Лондане, актыўна удзельнічаць у пастановах гэтых канфэрэнцыяў, але пазьней правозіць іх у жыцьцё ў сваёй арганізацыі.

### АМЭРЫКАНСКАЯ ЗОНА АКУПАЦЫІ НЯМЕЧЧЫНЫ

#### Штандарт "Баварыя"

#### Міхэльсдорф

Пасьля выезду ў Англію штандаровага ў студзені 1948 г. і амаль усіх сяброў Штабу Штандару "Баварыя"[389] працу пераняли новыя сябры, вызначаныя Галоўнай кватэрай ЗБСЧ, і здолелі перамагчы ўсе перашкоды рознага характару. Энэргічную дзейнасьць разгарнуў сябра В. Кіпель, заступнік штандаровага, і трэба спадзявацца, што скаўцкая праца ня толькі не занепадзе ў Амэрыканскай зоне, а,

[388] Skaŭt. № 6. 1948. — ***А. В.***

[389] Маюцца на ўвазе сябры "Дванаццаткі". Гл. падрабязьней у: Запруднік, Я. Дванаццатка: Дакумэнтальная аповесьць пра дванаццацёх беларускіх хлапцоў у Нямеччыне, Вялікабрытаніі й Бэльгіі (1946—1954 гг.). Нью Ёрк, 2002. — 510 с.

наадварот, будзе далей разьвівацца. Штандар “Баварыя” 30 студзеня 1948 г. выдаў 7-мы нумар “Ганца” і падрыхтоўвае да друку свой часапіс “Напагатове”.

Сьвята Калядаў і Новага 1948 году Беларускія скаўты адзначылі ўва ўсіх мясцовасьцях, ладзячы традыцыйную ёлку з падарункамі для дзяцей і скаўцкімі імпрэзамі. Асаблівым прызнаньнем цешыліся скаўты-калядоўшчыкі ў Міхэльсдорфе, якія пры гэтай нагодзе сабралі значныя матар’яльныя сродкі. Дрэннае надвор’е перашкодзіла гэтай групе наведаць іншыя беларускія асяродкі.

Другі Сьцяг скаўтак у Міхэльсдорфе налічвае 60 дзяўчат і праводзіць працу згодна з праграмай. На асаблівую ўвагу заслугоўвае праваднічка “Пралесак” Юзя Брэчка[390], якая ў сваёй выхаваўчай працы выяўляе найбольш стараннасьці.

Другі дзявочы Сьцяг вядзе падрыхтоўку да сяброўскай сустрэчы з скаўтамі 3-га Сьцягу ў Міттэнвальдзе.

1 лютага 1948 г. у Міхэльсдорфе адбыўся сяброўскі вечар, на якім прысутнічалі скаўты 1-га, 2-га дзявочага і 6-га Сьцягоў. У лягернай салі было ўладжана сымбалічнае вогнішча, пры якім скаўты прадэманстравалі свае ўмеласьці. Пасьля мастацкай часткі адбыліся гульні і танцы.

8 лютага 1948 г. у Рэгэнсбургу адбылася вялікая гульня-марш з перашкодамі, зарганізаваная Інтэрнацыянальнай Скаўцкай Асацыяцыяй. Першае месца ў ёй здабылі расейскія скаўты, якія набралі 64 пункты. Дружына беларускіх скаўтаў з Міхэльсдорфу асталася ад расейцаў толькі на два пункты і здабыла такім чынам 2-е месца. Да калекцыі дыплёмаў у Міхэльсдорфскай скаўцкай сьвятліцы дойдзе яшчэ адно адзначэньне.

У Міхэльсдорфе заснаваўся баксёрскі гурток пад кіраўніцтвам майстры боксу сп. Стасьцевіча. Сярод наведвальнікаў гуртка ёсьць колькі асобаў з 6-га Сьцягу з Віндзішбэргэрдорфу. Заняткі праводзяцца адзін раз на тыдзень.

У гэтым годзе прыпадаюць 40-я ўгодкі сусьветнага скаўцкага руху. Усе арганізацыі скаўтаў па ўсім сьвеце адзначаюць іх з вялікай урачыстасьцю. 7 сакавіка 1948 г. гэтыя ўгодкі ўрачыста адзначалі і нашыя скаўты Штандару “Баварыя” ў Міхэльсдорфе[391].

17 красавіка 1948 г. Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Міхэльсдорфе адзначыла 3-ці выпуск матурыстых. Пасьля малебну матурыстым былі ўручаны атэстаты сталасьці. Матурысты й

[390] Маецца на ўвазе згаданая раней Юзэфа Найдзюк (дзяв. Брэчка).

[391] СІС. № 12. Сакавік 1948. — ***А. В.***

матурысткі ў сваёй большасьці сябры ЗБСЧ, якія побач школьнай вучобы вельмі актыўна ўдзельнічалі ў скаўцкім руху. Частка іх ужо паступіла на вышэйшыя студыі на ўнівэрсытэт у Цюбінген (Француская зона). Жадаем нашым абсальвэнтам і студэнтам далейшай выдайнай працы для дабра нашага Народу і нашага скаўцкага руху[392].

18 красавіка 1948 г. адбылося ў лягеры Міхэльсдорф адкрыцьцё спартовага летняга сэзону. У спартовых змаганьнях прымалі ўдзел скаўты й скаўткі тутэйшых сьцягоў. У бегу на 100 м 1-е месца асягнуў зьвязовы Хведар Пагуда[393] — 12 сэк., юначка Вольга Маляш[394] — 16,5 сэк. У скоках у далечыню Пагуда — 5,19 м, юнак Шыбут[395] — 4,9 м, юначка Л. Харытончык[396] — 3,43 м. У скоках уверх юнак Рыгор Мікуліч[397] — 1,55 м, скаўт Янка Заруцкі[398] — 1,50 м, юначка Жэня Ляцяга[399] — 1,15 м.

На заканчэньне спартовых змаганьняў адбыўся футбольны мэч паміж скаўцкай дружынай "Штурм" і нямецкай "АСФ" з вынікам 6:0 у карысьць "Штурму"[400].

25 красавіка 1948 г. нашы скаўты з Міхэльсдорфу і Віндзішбэргэрдорфу прымалі актыўны ўдзел у міжнародным сьвяце ў чэсьць патрона скаўтаў сьв. Юрага ў Рэгэнсбургу, ладжаным Міжнароднай Скаўцкай Асацыяцыяй Рэгэнсбургскай акругі. У сьвяце прымалі ўдзел, апрача нашых скаўтаў, украінцы, латышы, летувісы,

---

392 СІС. № 13. Травень 1948. — ***А. В.***

393 **Хведар (Фёдар, Тодар) Пагуда**, грамадзкі дзеяч. У 1950-я гг. жыў у ЗША. Належаў да Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі. У 1957 г. стаў сакратаром Амэрыканска-беларускага культурна-дапамаговага аб'еднаньня. Жыў у Кліўлэндзе.

394 **Вольга Маляш**, навучэнка Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Нямеччыне.

395 Гэта можа быць або **Віталь Шыбут** (?—1948), актыўны ўдзельнік скаўтынгу, сын Хведара Шыбута, або **Янка Шыбут** (нар. 1933), навучэнец Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Нямеччыне, сын Хведара Шыбута. У канцы 1940 — пачатку 1950-х гг. з бацькамі выехаў у ЗША. Належаў да Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі.

396 **Людміла Харытончык**, навучэнка Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Нямеччыне.

397 **Рыгор Мікуліч**, навучэнец Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Нямеччыне.

398 **Янка Заруцкі**, навучэнец Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Нямеччыне.

399 **Яўгенія Ляцяга** (Ліцяга, у шлюбе **Дубяга**), навучэнка Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Нямеччыне. Жонка Алега Дубягі. Жыве ў ЗША.

400 СІС. № 13. Травень 1948. — ***А. В.***

палякі, расейцы і эстонцы. Урачыстасьць пачалася цырымоніяй падняцьця нацыянальных сьцягоў усіх прысутных нацыянальнасьцяў і кароткай прамовай старшыні асацыяцыі праф. Іваненкі[401]. Потым адбыліся міжнародныя спаборніцтвы ў скаўцкім камбінаваным бегу з рознымі перашкодамі і спраўнасьцямі ў стаўляньні палаткі, а дзяўчаты ў кухоннай спраўнасьці і сваім бегу. Нашыя скаўткі і скаўты ў гэтых змаганьнях атрымалі аж 5 дыплёмаў, як узнагароду за здабыцьцё першых, другіх і трэйціх месцаў (найбольшую колькасьць з усіх нацыянальнасьцяў).

Вечарам гэтага самага дня прадстаўнік амэрыканскіх уладаў урачыста ўручыў заслужаным сябром асацыяцыі памятныя адзнакі з адпаведнымі дыплёмамі за заслугі ў разьвіцьці скаўцкага руху. Нашыя скаўты атрымалі тры адзнакі першай клясы і 12 другой клясы.

На вялікім вогнішчы на заканчэньне ўрачыстасьці нашыя скаўты разам з іншымі нацыянальнасьцямі выступалі з беларускімі нацыянальнымі песьнямі і спартовымі паказамі. І ў гэтым спаборніцтве так, як і на ўсіх іншых на працягу трохгадовага існаваньня асацыяцыі, нашыя скаўты выявілі сябе з найлепшага боку, трымаючы высока гонар свайго Народу і Бацькаўшчыны[402].

Першая скаўцкая канфэрэнцыя Галоўных кіраўнікоў нацыянальных арганізацыяў

8—9 траўня 1948 г. у г. Аўгсбургу адбылася Першая скаўцкая канфэрэнцыя Галоўных кіраўнікоў нацыянальных скаўцкіх арганізацыяў у Нямеччыне і Аўстрыі, скліканая ўпаўнаважаным для справаў ДП ад Міжнароднага скаўцкага бюро ў Лондане.

На гэтай канфэрэнцыі былі дадзены справаздачы з жыцьця і дзейнасьці паасобных арганізацыяў і прынятыя пастановы.

Кампэтэнцыі Міжнароднага скаўцкага Бюро:

МСБ з’яўляецца сакратарыятам Міжнароднай канфэрэнцыі і міжнароднага скаўцкага руху. Міжнародная канфэрэнцыя, камітэт і бюро твораць Сусьветную ўладу скаўцкага руху.

23 траўня 1948 г. на спартовым пляцы ў горадзе Каме нашая скаўцкая спартовая дружына “Штурм” згуляла футбольны мэч з жыдоўскай “Такабі”. Гледачоў было больш за 2 тысячы. Вынік 1:0 у карысьць “Штурму”.

---

[401] Прафэсар **Іваненка** быў шэфам Інтэрнацыянальнага скаўтынгу й памёр у Рэгенсбургу 25 лістапада 1948 г.

[402] СІС. № 13. Травень 1948. — ***А. В.***

30 траўня 1948 г. той-жа “Такабі” хацеў адыграцца. Гледачоў было каля 1000, пераважна немцаў. Вынік 3:2 на карысьць зноў “Штурму”[403].

Другая канфэрэнцыя Дарадчага камітэту пры ДП-аддзеле ІБ

12—13 чэрвеня 1948 г. адбылася у Эсьлінгене 2-я канфэрэнцыя Галоўных кіраўнікоў, у якой прыняла ўдзел і беларуская дэлегацыя з Галоўным кіраўнікам на чале.

Кажная дэлегацыя злажыла свой плян летніх лягероў, зьлётаў і курсаў. Прадстаўнік ІБ (Інтэрнацыянальнае Бюро) рабіў стараньні ў адпаведных уладаў, каб забясьпечыць ў летнія лягеры неабходныя харчы і ўладжаньні.

Паводле нашага пляну прадбачылася наступная дзейнасьць ЗБСЧ на летні сэзон 1948 г.:

У ліпені — зьлёт і скаўцкі лягер у Брытанскай зоне, у верасьні (6—13) курс для дружыновых і зьвязовых у Остэргофэне, (15—31) зьлёт з усяе Нямеччыны і летні лягер у Графэншаў (Альпы), удзел у Гільвэрскіх курсах для скаўтмайстраў (12 асобаў), удзел у Шкоцкім джэмбары ў Шатландыі, удзел у Інтэрнацыянальным лягеры, арганізаваным ІБ, будзе ў лягерох ІМКА.

Нажаль, намечаная праграма не магла быць выкананай поўнасьцю ў аснаўным з дзьвюх прычынаў:

1) Грашовай рэформы, у выніку якой на працягу чэрвеня і ліпеня быў немагчымы выезд з лягеру, і

2) Ад канца ліпеня да канца верасьня ў Амэрыканскай зоне Нямеччыны былі забаронены ўсякія зборкі, зьлёты і лягеры з прычыны эпідэміі дзіцячага паралюшу. Зьлёт у Брытанскай зоне ня змог адбыцца з прычыны перамяшчэньня некаторых лягероў, дзе знаходзілася нашая скаўцкая моладзь. З прычыны эпідэміі не адбыўся наш нацыянальны лягер у Графэншаў. Таксама дзеля неатрыманьня ўязных візаў не ўдалося дэлегатам ад ДП скаўтаў (у тым ліку і нашым) прыняць удзел у Шкоцкім джэмбары[404].

Ад 28 чэрвеня да 6 ліпеня 1948 г. група старэйшых скаўтаў пад кіраўніцтвам сп. В. Кіпеля адбыла скаўцкі марш Кам — Бэртэсгадэн[405], каля 450 клм. Па дарозе далучыліся да іх старэйшыя скаўты з Остэргофэну. Гэта быў пачатак скаўцкага летняга сэзону і падрыхтоўка да лягернага жыцьця.

---

403 СІС. № 14. Лістапад 1948. — ***А. В.***

404 СІС. № 14. Лістапад 1948. — ***А. В.***

405 **Бэрхтэсгадэн** (ням. *Berchtesgaden*) — мястэчка ў Нямеччыне, у зямлі Баварыя.

Летні лягер ІМКА

У Марыенталі ад 25 ліпеня адбыўся летні інструктарскі лягер ІМКА для розных нацыянальнасьцяў. Ад ЗБСЧ прамала удзел 16 асобаў пад кіраўніцтвам сьцяжнога С. Кірыліка[406], які адначасна быў інструктарам на курсе.

Гільвэрскія курсы для скаўтмайстраў у Касэлі

Пачынаючы ад 12 ліпеня 1948 г. адбыліся двухтыднёвыя Гільвэрскія курсы для скаўтмайстраў, арганізаваныя Латыскай скаўцыяй пад пратэктаратам ІБ[407].

У гэтых курсах удзельнічалі 4 кандыдаты ад ЗБСЧ (с. с. М. Тулейка[408], В. Кіпель, Я. Арцюх і Пагуда)[409].

Нашы скаўты на інтэрнацыянальным зьлёце ў Касэлі

Ад 19 да 31 жніўня 1948 г. адбыўся інтэрнацыянальны скаўцкі Зьлёт у Касэль-Валенродзе. На Зьлёце прымалі ўдзел сем нацыянальнасьцяў ДП і французскія скаўты, а таксама 19 нашых скаўтаў у Міхэльсдорфу, Віндзішбэргэрдорфу і Остэргофэну.

На працягу двух тыдняў адбыўся цэлы рад гульняў і спаборніцтваў. На другі дзень зьлёту адбылося змаганьне ў плаваньні, дзе тры першыя месцы, з чатырох магчымых, здабылі нашыя скаўты: Молаш

---

[406] **Сьцяпан Кірылік**, грамадзкі дзеяч. У беларускай гімназіі ў Остэргофэне выкладаў фізычнае выхаваньне. Адзін зь лідараў беларускіх скаўтаў у амэрыканскай зоне акупацыі Нямеччыны. У 1950-я гг. жыў у ЗША.

[407] Маецца на ўвазе Міжнароднае скаўцкае бюро ў Лондане.

[408] **Міхась Тулейка** (1915—1998), грамадзкі дзеяч. У 1936 г. закончыў Нясьвіскую настаўніцкую сэмінарыю, адкуль адразу быў забраны ў польскае войска на падрыхтоўчыя афіцэрскія курсы. Працаваць настаўнікам пачаў у 1937 г. у Нясьвіжы, пазьней — у Снове. У 1939 г. быў зноў мабілізаваны, пад Варшаваю паранены. Працаваў у Нясвіжы — спачатку настаўнікам, пасьля заступнікам дырэктара настаўніцкай сэмінарыі. Пазьней працаваў у Баранавіцкай настаўніцкай сэмінарыі. Кіраваў камітэтам БНС на Баранавіцкую акругу. Быў дэлегатам Другога Ўсебеларускага кангрэсу. Ад 1944 г. на эміграцыі. Студыяваў у Мюнхэнскім унівэрсыітэце *UNRRA* і Ўкраінскім вольным унівэрсытэце ў Рэгенсбургу. Заснавальнік Беларускага студэнцкага зуртаваньня. У 1949 г. выехаў у ЗША. Быў абраны першым старшынём Згуртаваньня беларуска-амэрыканскай моладзі. Уваходзіў у рэдакцыйную калегію часапісу “Віці”. Зарганізаваў першы беларускі скаўтынгавы атрад у Амэрыцы. Сябра БАЗА, у тым ліку пэўны час кіраваў Нью-Ёркскім і Нью-Джэрзійскім аддзеламі арганізацыі. Найбольш часу аддаваў працы на пасадзе старшыні парафіяльнай рады БАПЦ у Брукліне, быў рэгентам хору. Пазьней, пераехаўшы ў Нью-Джэрзі, працягваў сваю грамадзка-рэлігійную дзейнасьць у Гайлэнд-Парку.

[409] СІС. № 14. Лістапад 1948. — ***А. В.***

Янка[410] (Міхэльсдорф), Карніловіч Сяргей[411] (Міхэльсдорф) і Дунец Уладзімер[412] (Віндзішбэргэрдорф).

У плаваньні малодшых скаўтаў усе тры першыя месцы занялі таксама нашыя скаўты: Паланевіч[413], В. Ковэль[414] і А. Гарох.

У кухарскім змаганьні Міхэльсдорфскія скаўты занялі 2-е месца. Такое-ж месца нашыя скаўты занялі ў бегу на 2 клм ды ў спаборніцтве спраўнасьці. Лягер адбыўся ва ўмовах сапраўднага ляснога жыцьця (у шалашох і вымагаў ад удзельнікаў выяўленьня максімум фізычнага й духовага высілку)[415].

## *Трэйцяя канфэрэнцыя Галоўных кіраўнікоў*

27 і 28 жніўня адбылася ў Касэль-Валенродзе 3-я канфэрэнцыя Дарадчага камітэту пры ДП-аддзеле ІБ.

Ад ЗБСЧ прысутнічаў штандаровы Францускай зоны д-р В. Войтанка. На канфэрэнцыі абгаворвалася выкананьне летняга пляну, справы эміграцыі, адзнакаў і легітымацыяў, скаўцкага часапісу, матар'яльнай дапамогі і інш.

Было пастаноўлена наступнае:

а) Кажная нацыянальная арганізацыя абавязана плаціць гадавую складку ў ІБ у вышыні 50 пфэнігаў ад асобы.

б) Усе скаўты, зарэгістраваныя ў ІБ, павінны насіць адумысныя адзнакі і мець легітымацыю ІБ (якімі забяспечыць ІБ).

в) Мае быць выданы ў ангельскай мове скаўцкі часапіс, у якім кажная нацыянальнасьць будзе мець адведзенае месца.

г) Трох сталых скаўтаў ад кажнай арганізацыі маюць быць аплачваны праз ІРО.

д) Што тры месяцы ўсе арганізацыі абавязаны здаваць рапарт і лічбовы стан сваёй арганізацыі.

---

410 **Янка Молаш**, навучэнец Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Нямеччыне.

411 **Сяргей Карніловіч** (1929—1993), грамадзкі дзеяч. У 1944 г. вывезены на прымусовыя работы ў Нямеччыну. Навучаўся ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. У 1949 г. выехаў у ЗША. Быў старшынём Беларуска-Амэрыканскага грамадзкага цэнтру "Полацак", сябрам БАЗА. Удзельнік Першага зьезду беларусаў сьвету ў Менску (1993).

412 **Уладзімер Дунец**, навучэнец Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Нямеччыне.

413 Магчыма, маецца на ўвазе **Віталь (Вінцэнт?) Паланевіч**, дзеяч СБМ у Менску, навучэнец Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Нямеччыне.

414 Магчыма, маецца на ўвазе **Віктар Ковель,** навучэнец Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Нямеччыне.

415 СІС. № 14. Лістапад 1948. — ***А. В.***

ІБ зрабіла захады ў Амэрыканскай скаўцкай арганізацыі, каб атрымаць дапамогу ва ўніформах.

## *Чацьвертая канфэрэнцыя Галоўных кіраўнікоў*

Гэтая канфэрэнцыя адбылася 2 і 3 кастрычніка 1948 г. у Айхштэце[416]. Пасьля разгледжаньня канфэрэнцыяй бягучых спраў апошняга кварталу 1948 году, прадстаўнік ІБ сп. Монэ падаў да ведама наступнае:

а) Для скаўтаў ДП прыслана з Амэрыкі тысячу капелюшоў і тры тысячы портак. Наша арганізацыя атрымала 75 капелюшоў і 100 портак.

б) Атрымана ўжо з Канады значкі і легітымацыі для ўсіх скаўтаў. ЗБСЧ мае прыдзел 600 штук.

в) Першы нумар скаўцкага часапісу павінен выйсьці на Каляды. Галоўным рэдактарам выбраны сп. Міхэльсон (эстонец).

г) Дырэктар Міжнароднага Бюра (ІБ) у Лондане плк. Вільсан у часе ад 8-га да 22 лістапада наведае Нямеччыну і скаўцкія адзінкі.

Вызначаны наступныя месцы спатканьня: Мюнхэн, Аўгсбург, Нюрэнбэрг[417], Рэлінген[418], Фрайбург[419], Ганаў[420], Франкфурт[421], Кёльн[422], Дзюсэльдорф[423], Дэтмольд[424], Гановэр, Гамбург, Любэк[425], Брэмэн[426],

---

[416] **Айхштэт** (ням. *Eichstätt*) — горад у Нямеччыне, у зямлі Баварыя.

[417] **Нюрнбэрг** (ням. *Nürnberg*) — горад у паўднёвай Нямеччыне, у зямлі Баварыя.

[418] **Рэлінген** (ням. *Rehlingen-Siersburg*) — мястэчка на захадзе Нямеччыны, у зямлі Саар.

[419] **Фрайбург** (ням. *Freiburg im Breisgau*) — горад у паўднёва-заходняй Нямеччыне, у зямлі Бадэн-Вюртэмбэрг.

[420] **Ганаў** (ням. *Hanau am Main*) — горад на захадзе Нямеччыны, у зямлі Гесэн.

[421] **Франкфурт** (ням. *Frankfurt am Main*) — горад у заходняй Нямеччыне, у зямля Гесэн.

[422] **Кёльн** (ням. *Köln*) — горад у заходняй Нямеччыне, у зямлі Паўночны Рэйн — Вэстфалія.

[423] **Дзюсэльдорф** (ням. *Düsseldorf*) — горад у заходняй Нямеччыне, сталіца зямлі Паўночны Рэйн — Вэстфалія.

[424] **Дэтмольд** (ням. *Detmold*) — горад на захадзе Нямеччыны, у зямлі Паўночны Рэйн — Вэстфалія.

[425] **Любэк** (ням. *Lübeck*) — горад-порт на поўначы Нямеччыны, у зямлі Шлезьвіг-Гольштэйн.

[426] **Брэмэн** (ням. *Bremen*) — горад у паўночна-заходняй Нямеччыне, у зямлі Брэмэн.

Ольдэнбург[427] і Оснабрук[428].

Да спатканьня паважанага госьця рыхтуюцца ўсе скаўцкія адзінкі. Ад ЗБСЧ будуць зьвязы скаўтаў і "Ваўчаняты" ў Нюрэнбэргу 9 лістапада, у Фрайбургу 11 і ў Гановэры 16 лістапада. Адпаведныя інструкцыі ўжо разасланыя.

д) Да першага лістапада ўсе нацыянальныя арганізацыі павінны перасланьць дакладны сьпісак паводле існуючых груп, прычым павінна быць зазначана, колькі і куды выехала скаўтаў з Нямеччыны і Аўстрыі.

е) ІБ арганізуе міжнацыянальную скаўцкую выстаўку ў Мюнхэне, якая мае быць часова адкрыта для сп. Вільсана, а ў студзені 1949 г. для публічнага наведваньня. Выбраны Выставачны камітэт у ліку 4-х асобаў. Кожны экспанат павінен быць падпісаны, кім зроблены і з якой групы. Усе кіраўнікі павінны далажыць усіх стараньняў, каб якнайлепш наладзіць свой аддзел.

г) Ад 3 да 6 сьнежня 1948 г. адбудзецца ў Міттэнвальдзе канфэрэнцыя сталых скаўтаў (скаўтэраў) розных нацыянальнасьцяў. У ёй, як і ў наступнай, што адбудзецца ў студзені 1949 г., будзе ўдзельнічаць наша дэлегацыя з 8—10 скаўтэраў.

Наступная 5-я канфэрэнцыя Галоўных кіраўнікоў адбудзецца 30 кастрычніка 1948 г. у Ганаў, у якой удзельнічаць будзе таксама наша дэлегацыя[429].

<u>Новы Падзел ЗБСЧ</u>

На аснове распараджэньня ІБ з дня 6 кастрычніка 1948 году Галоўная кватэра ЗБСЧ правяла новы падзел арганізацыі. Замест дагэтуль існуючага аднаго Штандару "Баварыя" ў Амэрыканскай зоне створаны тры штандары: "Франконія", "Баварыя" і "Гэсыя" (паводле паштовых акругаў). Такім чынам, маем цяпер 5 штандараў і самастойныя зьвязы ў Ангельшчыне і Аўстрыі[430].

17 кастрычніка 1948 г. адбыліся ў Рэгэнсбургу скаўцкія змаганьні розных нацыянальнасьцяў. Ад ЗБСЧ прымалі ўдзел 24 асобы з Міхэльсдорфу і Віндзішбэргэрдорфу. Наша рэпрэзентацыя, як і раней, выявіла сябе з найлепшага боку[431].

---

427 **Ольдэнбург** (ням. *Oldenburg*) — горад у паўночна-заходняй Нямеччыне, у зямлі Ніжняя Саксонія.

428 **Оснабрук** (ням. *Osnabrück*) — горад у заходняй Нямеччыне, у зямлі Ніжняя Саксонія

429 СІС. № 14. Лістапад 1948. — ***А. В.***

430 СІС. № 14. Лістапад 1948. — ***А. В.***

431 СІС. № 14. Лістапад 1948. — ***А. В.***

У сувязі з рээрганізацыяй лягероў у Міхэльсдорфе і Віндзішбэргэрдорфе, у Міхэльсдорфе створаны 7-ы Сьцяг ЗБСЧ.

## *Візытацыя плк. Вільсана скаўтаў у Нямеччыне*

9 лістапада 1948 г. у Нюрэнбэргу адбылася вялікая скаўцкая ўрачыстасьць у часе спатканьня скаўтаў з дырэктарам скаўцкага Інтэрнацыянальнага бюро ў Лондане палкоўнікам Вільсанам.

На ўрачыстасьць прыбылі дэлегацыі скаўцкай моладзі ад усіх нацыянальнасьцяў, якія знаходзяцца ў Рэгэнсбургскай акрузе. Сярод іх была і беларуская дэлегацыя на чале з Галоўным кіраўніком ЗБСЧ.

Пасьля афіцыйнага прывітаньня кіраўнікамі розных нацыянальных групаў, адбылася сустрэча на лясной паляне моладзі з дастойным госьцем. Паказы скаўцкіх спраўнасьцяў, скаўцкія і нацыянальныя песьні злажыліся на праграму сустрэчы.

Нашыя скаўты пры наведваньні іхняга лягеру плк. Вільсанам уручылі яму па-мастацку выкананы падарунак. Позна вечарам закончылася ўрачыстасьць.

Падобнае спатканьне скаўцкай моладзі, а ў тым ліку і нашай, і ангельскай зоны адбылося 16 лістапада 1948 г. у Гановэры.

## Остэргофэн

На працягу вясны і лета 1948 г. скаўты з Остэргофэну апрача працы ў сваіх адзінках, прымалі ўдзел ува ўсіх супольных скаўцкіх спаборніцтвах і імпрэзах. Гэтак у днях ад 28 чэрвеня да 6 ліпеня 1948 г. група старэйшых скаўтаў з Остэргофэну прыняла ўдзел у скаўцкім маршы Кам — Бэртэсгадэн (каля 450 клм), зарганізаваным скаўтамі з Міхэльсдорфу пад кіраўніцтвам сьцяжнога Вітаўта Кіпеля.

Ад 19 да 31 жніўня 1948 г. сярод нашых 19 скаўтаў, што прынялі ўдзел у Інтэрнацыянальным скаўцкім Зьлёце ў Касэлі — Валенродзе, былі таксама і скаўты з Остэргофэну.

Ад 6 да 13 верасьня 1948 г. адбыўся у Остэргофэне тыднёвы скаўцкі курс для дружыновых і зьвязовых. З прычыны эпідэміі дзіцячага паралюшу на курсе, не змагла прыняць удзелу прадбачаная колькасьць кандыдатаў з усіх скаўцкіх адзінак. Курс наведала 15 асобаў з Остэргофэну і Майнлёйзу.

У праграму курсу ўваходзілі тэарэтычныя і практычныя заняткі, змаганьні і спаборніцтвы, начныя і дзённыя гульні ў прасторы, а на заканчэньне было зладжанае для жыхароў лягеру скаўцкае вогнішча, на якім скаўты выступілі са сваёй багатай праграмай.

Пасьля трох месяцаў індывідуальнай працы і падрыхтоўкі ўдзельнікі курсу зложаць прадбачаныя рэгулямінам экзамэны і атры-

маюць пасьветчаньні[432].

У днях ад 15 да 20 лістапада ў Остэргофэне, як і ва ўсіх іншых асяродках, скаўты адзначалі 3-ю гадавіну ЗБСЧ[433].

## Віндзішбэргэрдорф

8 лютага скаўты з Міхэльсдорфу разам з 6-м Сьцягам (Віндзіш) ладзілі ўрачыстасьць у чэсьць Цёткі з нагоды ўгодкаў ейнай сьмерці. У скаўцкай сьвятліцы быў прачытаны кароткі рэфэрат аб жыцьці і творчасьці паэткі. Адначасова скаўты адзначылі дзень нараджэньня ведамага нашага пісьменьніка і гісторыка літаратуры Максіма Гарэцкага. Аб жыцьці і дзейнасьці М. Гарэцкага расказаў скаўтам адзін з старэйшых жыхараў лягеру[434].

Скаўткі і скаўты 6-га Сьцягу ў Віндзішбэргэрдорфе падрыхтоўваюцца да злажэньня прысягі, якая адбудзецца ў пачатку сакавіка 1948 г.[435].

Першым прыгожым дасягненьнем пасьля злажэньня прысягі быў удзел у міжнацыянальных скаўцкіх спаборніцтвах, якія адбыліся 25 красавіка 1948 г. у Рэгэнсбургу. Скаўты з Віндзішбэргэрдорфу здабылі ў гэтым спаборніцтве дыплём за першае месца ў пабудове шатра.

Юр’еўскі Дзень нашыя скаўты ў Беларускім лягеры Віндзішбэргэрдорф сьвяткавалі ў нядзелю 9 траўня 1948 г. (Дзень Юр’я 23 красавіка). А 10-й гадзіне адбылася агульная зборка Сьцягу скаўтаў і скаўтак, падняцьце нацыянальнага сьцягу і малітва. А 12-й гадзіне богаслужба ў мясцовай царкве.

Папаўдні адбыўся скаўцкі канцэрт з удзелам некаторых школьнікаў, якія выявілі жаданьне стаць у рады нашых скаўтаў. На праграму сцэнічных выступленьняў злажыліся наступныя нумары: 1) інсцэнізацыя “Змаганьне Ярылы з Юр’ем”, 2) сцэнка “Выгнанец і апякунчы дух Беларусі” пад дэклямацыю верша “Беларускія сыны”[436], 3) скаўцкі эпізод “Спатканьне Беларускага эмігранта на чужыне з Беларускімі скаўтамі”, 4) сцэнка з жыцьця школьнікаў, 5) два народныя скокі: “Юрачка” і полька “Янка”.

---

[432] СІС. № 14. Лістапад 1948. — ***А. В.***

[433] СІС. № 15. Сакавік 1949. — ***А. В.***

[434] СІС. № 12. Сакавік 1948. — ***А. В.***

[435] СІС. № 13. Травень 1948. — ***А. В.***

[436] **“Беларускія сыны”** — верш Янкі Купалы.

Перад выступленьнем скаўтаў зьмястоўны рэфэрат аб сьв. Юр'і і скаўцкай арганізацыі прачытаў сьцяжны 6-га Сьцягу М. Белямук[437]. Пасьля ў вясёлым кругу скаўцкай моладзі адбылася скаўцкая вечарынка.

## *Юбілей Беларускай Гімназіі імя Янкі Купалы*

26 сьнежня 1948 году вучні, скаўты і ўсе жыхары лягеру Віндзішбэргэрдорф урачыста адзначылі 3-я ўгодкі існаваньня і працы Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы. Гімназія была заснаваная ў 1945 годзе, хутка пасьля капітуляцыі Нямеччыны, і за тры гады ахвярнай і выдатнай працы зрабіла вялікі ўклад у нашую культуру і нацыянальныя дасягненьні, да што найважнейшае — здолела выхаваць значную колькасьць моладзі ў нацыянальным духу. За тры гады гімназія мела тры выпускі матурыстаў, большасьць якіх студыюе вышэйшыя навукі ў розных нямецкіх унівэрсытэтах і палітэхніках, ды курсаў замежных моваў з выдатнымі посьпехамі.

Скаўты, гадунцы гімназіі, выявілі ня раз сваю нацыянальную стойкасьць і выдатную спраўнасьць у розных спаборніцтвах і гэтым самым даюць надзею, што будуць добрымі сынамі нашай Бацькаўшчыны.

Пасьля ўрачыстай афіцыйнай часткі, у якой выступаў рад прамоўцаў, адбыўся канцэрт. У праграму канцэрту ўвайшлі: мэлядэклямацыя пад хор вершу Я. Купалы “Нёман”, дэклямацыі вершаў у беларускай, нямецкай, лацінскай, ангельскай і францускай мовах, клясычныя і народныя скокі, вакальныя выступленьні ды ўрэшце п'еса са сьпевамі і скокамі — “Модны шляхцюк”[438].[439]

Ад 27 сьнежня 1948 г. да 5 студзеня 1949 г. мае адбыцца курс для дружыновых і зьвязовых. Курс мае за заданьне падрыхтаваць малодшых кіраўнікоў (паводле абежніка Гал. Кват. ЗБСЧ)[440].

---

[437] **Міхась Белямук** (1924—2014), грамадзкі дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі афіцэр беластоцкага батальёну Самаахова. Ад лета 1944 г. на эміграцыі, ад 1949 г. у ЗША. Узначальваў Згуртаваньне беларускай моладзі ў Амэрыцы. Адзін з заснавальнікаў часопісу “Полацак”. Аўтар кніг “Вытокі беларускіх пячаткаў” (Кліўлэнд, 1986), “Свайго лёсу не мінеш” (Вільня, 2006), “Нумізматыка. Сфагістыка. Успаміны” (Мінск, 2010).

[438] **“Модны шляхцюк”** — вадэвіль Каруся Каганца.

[439] СІС. № 15. Сакавік 1949. — ***А. В.***

[440] Наперад. № 15. 1949. Бач. 39. — ***А. В.***

## Міттэнвальд
## ДП-лягер Лютэнзээ

У сувязі з ліквідацыяй Беларускага ДП-лягеру ў Вогэнштраўсе, частка жыхараў гэтага лягеру пераехала ў ДП-лягер Лютэнзээ, каля Міттэнвальду, дзе 3-ці Сьцяг беларускіх скаўтаў працягваў сваю працу на новым месцы.

22 лютага 1948 г. у 3-м Сьцягу нашых скаўтаў адбылася ўрачыстасьць складаньня прысягі. Прысягу злажыў адзін старэйшы скаўт, а 14 "Ваўчанят" і 7 "Пралесак" — прырачэньне. Прысягу прымаў заступнік штандаровага сябра В. Кіпель і Штаб Штандару.

Гэтая ўрачыстасьць з нагоды ўгодкаў з дня нараджэньня Бэйдэн Паўля сталася агульналягернай урачыстасьцю. Прымалі ўдзел таксама 10 скаўтаў ад Штандару "Баварыя", дэлегацыя ад украінскіх "Пластуноў"[441] і расейскіх "Разьведчыкаў"[442]. Пасьля ўрачыстага падняцьця нацыянальных сьцягоў госьці і 3-ці Сьцяг перайшлі ў мясцовую царкву на малебен і ўрачыстае пасьвячэньне сьцягу, падараванага мясцовым старэйшым грамадзтвам. Пасьвячэньне сьцягу даканаў беларускі сьвятар, які пры гэтай нагодзе сказаў цёплую і прыгожую пропаведзь да моладзі.

Вечарам Міхэльсдорфскія скаўты задэманстравалі свае мастацкія здольнасьці ў невялікай, але разнаякай праграме, на якую злажыліся: народныя песьні пад акампанэмэнт акардыёну, дэклямацыі, вясёлыя скэчы, танцы і маленькі сцэнічны абразок. Дарма, што некаторыя нумары праграмы былі апрацаваныя толькі "на хаду", у цягніку па дарозе ў Міттэнвальд, усё выконвалася з ведамым ужо бадзёрым настроем нашай скаўцкай групы з Міхэльсдорфу.

Не асталіся ў даўгу і мясцовыя "Ваўчаняты" ды "Пралескі", яны таксама зьявіліся на сцэне з "Крыжачком"[443].

### *Міжнародная Канфэрэнцыя скаўцкіх кіраўнікоў у Міттэнвальдзе*

Ад 3 да 6 сьнежня 1948 г. адбывалася ў Міттэнвальдзе Міжнародная канфэрэнцыя сталых скаўтаў (скаўтэраў) ад 7 нацыянальнасьцяў, у тым ліку і дэлегацыя ад ЗБСЧ. Гэта была першая канфэрэнцыя скаўцкіх кіраўнікоў у Амэрыканскай зоне Нямеччыны. На ёй было

[441] **Пластун** — сябра Пласту — нацыянальнай скаўцкай арганізацыі Ўкраіны.

[442] **Разьведчык** — тут: сябра скаўцкай Арганізацыі расейскіх юных разьведчыкаў.

[443] СІС. № 12. 1948. — ***А. В.***

прачытана рад рэфэратаў на інструктарскія тэмы і справаздачы з дзейнасьці паасобных нацыянальнасьцяў.

Кажны вечар удзельнікі канфэрэнцыі ладзілі скаўцкае вогнішча. Канфэрэнцыя злучыла ў цесную сям’ю скаўцкіх кіраўнікоў і накрэсьліла вытычныя далейшай працы супрацоўніцтва паміж нацыянальнымі арганізацыямі.

### Наша “Дванаццатка” ў Ангельшчыне наперадзе

Выехаўшы ў Ангельшчыну на працу, група старэйшых скаўтаў з штандаровым А. Бутай на пачатку гэтага году выявіла сябе з найлепшага боку ў новых умовах эміграцыйнага жыцьця і здабыла разгалос слаўнай “Дванаццаткі” (ад іхняга ліку – 12). Група выдае рэгулярна сваімі сіламі прыгожы часапіс “Наперад”[444] для беларускай моладзі (выйшла 8 нумароў) і ў апошнім часе прыступіла да арганізаваньня беларускага скаўтынгу ў рамах Нацыянальнай Ангельскай Скаўцкай Асацыяцыі.

Сваю грамадзкую і нацыянальную падрыхтоўку выявіла “Дванаццатка” асабліва ў часе апошняга Зьезду Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі”[445].[446]

## АНГЕЛЬСКАЯ ЗОНА АКУПАЦЫІ НЯМЕЧЧЫНЫ

### Штандарт “ГАРЦ”

### Ватэнштэт

27 студзеня 1948 г. у спартовай салі Іммэндорф[447] адбыліся спартовыя спаборніцтвы ў ігры ў пінг-понг. У спаборніцтве прыймалі ўдзел дзьве дружыны Нямецкага Спартовага Таварыства Іммэндорф і дзьве дружыны з Беларускага лягеру АБЦ. Спаборніцтвы закончыліся

---

[444] **“Наперад!”** — моладзевы часопіс, орган “Дванаццаткі”, які выходзіў у 1947—1953 гг., спачатку на шляху ў Вялікабрытанію, потым у Брытаніі, а ў 1953 г. — у Бэльгіі. Выйшлі 26 нумароў.

[445] Маецца на ўвазе Другі зьезд Згуртаваньня беларусаў Вялікабрытаніі, які прайшоў 2 траўня 1948 г.

[446] СІС. № 13. Травень 1948. — ***А. В.***

[447] **Імэндорф** (ням. *Immendorf*) **— горад у Нямеччыне, у зямлі Паўночны Рэйн — Вэстфалія.**

бліскучай перамогай Беларусаў. Першая дружына ІМКА выйграла ў першай дружыны НСТ з вынікам 8:1. Другая дружына скаўтаў-юнакоў у другой нямецкай дружыны з вынікам 7:2. Агульны вынік 15:3[448].

31 студзеня 1948 г. Зьвяз імя Каліноўскага ладзіў сяброўскі вечар. На вечар былі запрошаныя хросныя бацькі сьцягоў, Зьвяз імя Грынявецкага[449] і Зьвяз старэйшых скаўтак імя Цёткі. У праграму вечару ўвайшлі народныя танцы, песьні й гульні. Вечар закончыўся скаўцкай песьняй "Сонца ўжо адыйшло"[450].[451]

## *Наша дэлегацыя на зьлёце ангельскіх скаўтаў у Гамбургу*

У днях ад 25 да 31 сакавіка 1948 г. адбыўся ў Гамбургу Вялікодны Зьлёт ангельскіх скаўтаў з удзелам Шэфа-скаўта Лорда Роўвэлэна[452]. На Зьлёце былі апрача ангельскіх скаўтаў: амэрыканцы, французы, нарвэгі, беларусы, украінцы і латышы, усяго каля 450 удзельнікаў. Наша дэлегацыя складалася з нагоды 40-х угодкаў скаўцкага руху і мела за сваю мэту паказаць у кароткіх вобразах гісторыю скаўтынгу Шэфу-скаўту. Вось, як апісвае наш рэпартэр гэтую скаўцкую ўрачыстасьць:

<u>Падрыхтоўка да выступленьня й паказ.</u>

26 сакавіка прызначаны на пробы для выступленьня перад Шэфам-скаўтам, якое вызначана на наступны дзень на 14.30. Зь якой выступіць праграмай, што паказаць Галоўнаму скаўту і высокім уладам, каб гонар свайго народу ўтрымаць высока?

Вось украінскія скаўты, удзельнікі апошняга Джэмбары ў Францыі, паўтараюць старыя нумары: танцы й песьні. Латышы мяркуюць выступіць з нацыянальнымі танцамі. Трэба нешта рознае, арыгінальнае, каб ня зьліцца з імі, бо ўсе маюць выступаць у тым самым часе.

Галоўны кіраўнік запрапанаваў:

---

[448] Скаўцкі Бюлетэнь Штандару Гарц. № 2. 14.2.1948. — ***А. В.***

[449] Магчыма, маецца на ўвазе **Ігнат Грынявіцкі** (1855—1881), рэвалюцыянэр-народаволец, які забіў расейскага цара Аляксандра ІІ.

[450] ***"Сонца ўжо адыйшло"*** — словы зь песьні, якая ў "Зборніку песьняў" (Фленсбург, 1948) пазначаная як "Скаўцкая пры вогнішчы". Аўтар невядомы.

[451] Скаўцкі Бюлетэнь Штандару Гарц. № 2. 14.2.1948. — ***А. В.***

[452] **Лорд Роўвэлэн** (анг. *Thomas Godfrey Polson Corbett, 2nd Baron Rowallan*, 1895—1977), вайсковы, грамадзкі й скаўцкі дзеяч. У 1945—1959 гг. быў Шэфам скаўтаў Брытанскай садружнасьці і імпэрыі. У 1947—1953 гг. уваходзіў у кіраўніцтва Сусьветнай арганізацыі скаўцкага руху.

Мы павінны выступіць са скаўцкімі сцэнамі, паказаць у кароткіх вобразах нашу працу на працягу аднаго дня: гімнастыку, заняткі, вогнішча зь песьнямі й танцамі. Гэта будзе згодна з духам усяго паказу. Прапанова гэтыя падабалася нам усім...

Наступнага дня а гадзіне 14.30 сабралася публіка на пляцы. Прыбываюць вайсковыя прадстаўнікі і Шэф Штабу скаўт Лорд Роўвэлэн. Аркестр грае марш. Урачыстасьць “Саракагодзьдзя скаўтынгу” пачынаецца дэфілядай. Калона за калонай пад сваімі нацыянальнымі сьцягамі йдуць скаўты: ангельцы, амэрыканцы, французы, а за імі павявае і наш бел-чырвона-белы сьцяг. Ідуць стройна, як старыя жаўнеры. За беларусамі крочаць украінцы, нарвэгі, латышы і доўгай істужкай прабягаюць “Ваўчаняты” з воклічамі, шумам і сьмехам, перакідаючыся з разьбегу.

Пачынаецца паказ.

Камантатар перадае па радыё гісторыю скаўцкага руху ад пачатку яго заснаваньня да сёньняшніх дзён, а скаўты розных нацыянальнасьцяў ілюструюць даклад рознымі сцэнамі на вялікім пляцы.

Вось ангельцы паказваюць “нараджэньне скаўтынгу”. 12 хлапцоў у цывільнай вопратцы паяўляюцца на сцэне. Чытаюць яны кніжку “Скаўтынг для хлапцоў”[453]. Да іх далучаюцца іншыя, вучацца гульняў і нясуць дапамогу іншым. Гэта 1908 год, пачаткі скаўтынгу ў Англіі на аснове падручніка Бэйдэн Паўэля і ягоных папярэдніх досьледаў. Сцэна канчаецца сымбалічнай скаўцкай прысягай першых скаўтаў перад старэйшымі, якія ў 1907 г. адбылі дасьледчы лягер у Ісляндыі.

Наступна амэрыканскія скаўты адыгрываюць сцэну, як паўстаў скаўтынг у Амэрыцы. Хлопец гадоў 16 стругае палена і калечыць палец. Прыбягаюць іншыя, іх выхоўваў Вільям Бойд[454], нясуць яму першую дапамогу і вучаць, як правільна трымаць нож. Гэта быў 1909 год. У гэтым годзе паўсталі марскія скаўты ў Англіі. Некалькі хлапцоў паказвае сцэну з пачаткаў гэтае працы пры марскім маяку.

У эпізодзе трэйцім на пляцы паяўляюцца “ваўчаняты”. Камантатар апавядае, як паўстаў рух “ваўчанятаў” у часе Першай сусьветнай вайны ў Вялікай Брытаніі. Першы раз публічна выступілі яны ў 1914 г. у вялікім скаўцкім зьлёце. Немалую ролю ў гэтым руху адыграў побач Бі-Пі (Бэйдэн Поўэль) Кіплінг[455] сваімі цудоўнымі кніжкамі аб

[453] Маецца на ўвазе кніга *“Scouting for boys”*, якая ўпершыню выйшла ў 1908 г.

[454] **Уільям Дыксан Бойс** (анг. *William Dickson Boyce*, 1858—1929), амэрыканскі выдавец, бізнэсовец, заснавальнік скаўцкага руху ў ЗША.

[455] **Радзьярд Кіплінг** (анг. *Joseph Rudyard Kipling*, 1865—1936), ангельскі пісьменьнік, ляўрэат Нобэлеўскай прэміі па літаратуры (1907).

жыцьці і прыгодах у джунглі. Вялікае выцьцё “ваўчанятаў” сымбалізуе джунглю Кіплінга, а гульні і танцы “ваўчанятаў” выражаюць зьмест заняткаў дзяцей. Вітае іх Шэф-скаўт і прамаўляе аб вялікім значэньні ваўчаняцкага руху ў выхаваньні моладзі.

У 1918 г. скаўцкі рух разрастаецца, прыбываюць старэйшыя скаўты па-над 18 год. Заданьнем іх ёсьць практычна рэалізаваць ідэалы скаўцкага выхаваньня. Вось групы старэйшых скаўтаў дэманструюць розныя віды грамадзкае службы: нясуць санітарную і пажарную службу, школяць малодшае пакаленьне.

У 1920 г. скаўтынг ужо запусьціў глыбокія карэньні сярод моладзі ўсіх краінаў сьвету. Склікаецца яго заснавальнікам першае сусьветнае джэмбары, на якім Бі-Пі выбіраецца Шэфам сусьветнай скаўцкай моладзі. Сымбаль гэтага джэмбары: карабель, кіраваны моладзьдзю ўсяго сьвету, паказваюць юнакі.

Наступнае Джэмбары адбылося ў 1924 г. у Копэнгазе[456], дзе прымала удзел 6000 скаўтаў ад 34 народаў. У 1925 г. скаўтынг ахапіў хлопцаў-калекаў.

У 1929 г. Бі-Пі прысутнічаў на трэйцім сусьветным Джэмбары ў Ароў Парку каля Біркэнгэду[457] ў Англіі з удзелам 50 тысяч моладзі ад 41 народу. Сымбалем яго была залатая страла, якую нясуць юнакі праз пляц паказу.

У 1933 г. — чацьвертае Джэмбары на Вугоршчыне з сымбалем белага аленя — выражэньне чыстага скаўцкага духу, які нясецца ўдаль, нягледзячы на ніякія перашкоды.

І урэшце пятае і апошняе Джэмбары, на якім прысутнічаў вялікі заснавальнік, у 1937 г. у Галяндыі з сымбалем “Палка сьв. Якуба”.

Скаўцкі рух не спыніўся і пасьля сьмерці свайго заснавальніка 8 студзеня 1941 г. У 1947 г. у Францыі моладзь усяго сьвету на шостым Джэмбары дэманстравала свае далейшыя дасягненьні і працу ў справе сусьветнага міру ды збліжэньня ўсіх народаў у адзіную сям’ю чалавецтва. За 10 год існаваньня скаўцкі рух ахапіў 5 мільёнаў моладзі розных нацыянальнасьцяў і расаў.

Пасьля сьмерці Бі-Пі скаўтынг перажыў цяжкія выпрабаваньні. У акупаванай Эўропе прымушаны былі прадаўжаць сваю дзейнасьць у падпольлі. Французскія скаўты ілюструюць гэты пэрыяд сцэнамі змаганьня з акупантам. Скаўты атрымліваюць баявыя заданьні, распазнаюць аб’екты ворага і іх узрываюць, нясучы пры гэтам крывавыя ахвяры.

---

456 **Капэнгаген** (дац. *København*) — сталіца Даніі.

457 **Беркенхэд** (англ. *Birkenhead*) — горад у паўночна-заходняй Ангельшчыне, у графстве Мэрсісайд.

Ангельскія скаўты ў часе Другое сусьветнае вайны выконвалі адказныя дапаможныя службы, а перш за ўсё нясьці матар’яльную і маральную дапамогу ахвярам вайны. Урэшце вайна скончылася. Старэйшая моладзь усіх народаў маршыравала са сваімі нацыянальнымі песьнямі (сярод іх гучэла і нашая “Мы бойкая моладзь”[458]), каб злучыцца ў вялікім братэрскім коле супрацоўніцтва і далейшай працы на карысьць чалавецтва.

Прыходзіць чарга і да нашых скаўтаў. Вось у эпізодзе шостым камантатар апавядае аб узбуджэньні і росьце скаўцкага руху сярод розных нацыянальнасьцяў, якія ў апошнюю вайну апынуліся ў Нямеччыне. На арэну выбягаюць украінскія, латыскія і нашыя скаўты. Украінцы займаюць месца на левым, латышы — на правым баку арэны, беларусы — пасярэдзіне. Пачынаецца паказ.

Украінцы выконваюць скаўцкі танец, спалучаны з сьпевам, латышы танцуюць народныя танцы пад губны гармонік, а нашыя дэманструюць сцэны з скаўцкага жыцьця.

Вось усе ляжаць покатам на зямлі — сьпяць. Пабудка. Устаюць і выціраюць вочы кулакамі. Сьвісток — раньняя гімнастыка. Энэргічнымі рухамі становяцца ў рады і выконваюць, як адзін, рад практыкаваньняў. Ужо скончылі. Ракета — бум! І выбухла з гукам.

Цяпер палявыя заняткі. Кіраўнік разлажыў карту, нешта тлумачыць, паказвае кірунак і высылае выведнікаў. Пабеглі, пакідаючы за сабою ўмоўныя знакі. Раптам неспадзеўка. Адзін з выведнікаў упаў, відаць ранены. Знаходзяць яго сябры, даюць першую дапамогу ды пераносяць у заімправізаваны лягер. У лягеры вогнішча. Мігам вырасла куча паліва, разьвіваецца нацыянальны танец Лявоніха, зьвяртаючы ўвагу публікі і рэпартэраў. Потым зноў песьня і малітва. Вогнішча зьліквідавана і паказ скончаны. Пасыпаліся воплескі гледачоў за Галоўным скаўтам, які ўважна прыглядаўся нашай моладзі.

І ўрэшце заканчэньне ўрачыстасьці. На сярэдзіну арэны ставіцца падвышэньне для Галоўнага скаўта і да яго з усіх бакоў зьбягаецца моладзь ды ўстаўляецца ў форме вялікай зоркі. Сьплятаецца вялікае братэрскае кола Джэмбары, а на падвышэньне ўваходзіць лорд Роўвэлэн. Каралеўскі скаўт уручае яму падарунак ад ангельскіх скаўтаў. За ім дэлэгацыя ад беларусаў з сваімі падаркамі: прыгожым альбомам з рознакаляровай саломы ў народным стылю са скаўцкай лілейкай, перавязаным ня менш прыгожым беларускім поясам з лілейкай і Пагоняй.

Шэф-скаўт дзякуе Галоўнаму кіраўніку ЗБСЧ за падарунак, падкрэсьліваючы, што ў наступным сусьветным Джэмбары беларусы як вольны народ будуць удзельнікамі разам з усімі народамі сьвету. За беларусамі даюць свае падарункі ўкраінцы, латышы, нарвэгі

---

[458] Песня ***“Мы бойкая моладзь”*** зьмешчана ў “Зборніку песьняў” (Фленсбург, 1948).

і ўрэшце моладзь узносіць вокліч на чэсьць Шэфа-скаўта ды з песьняй разьвівае вялікае братэрскае кола ў паход — сымбаль запраўднай дружбы моладзі ўсіх народаў.

Так скончылася ўрачыстасьць "Саракагодзьдзе скаўтынгу" на Гамбурскім зьлёце. Як вялікая была радасьць нашых скаўтаў, калі на другі дзень лорд Роўвэлен, наведваючы выстраеных ў шэрагу скаўтаў усіх нацыянальнасьцяў, публічна падзякаваў нашай моладзі за паказ на арэне: "*Дзякую вам, Беларусы, за ўчарайшае выступленьне. Вельмі прыгожыя паказалі занятkі*". Гэта была вялікая ўзнагарода для нашага ўсяго скаўтынгу.

У спаборніцтвах.

Апрача паказаў прыйшлося і спаборнічаць. Гэтым разам ДП-скаўты супольна баранілі свой гонар і ня ўсе, але па трох з кажнай нацыянальнасьці, творачы адну дружыну супроць 7-мі падобных ангельскіх дружынаў старэйшых скаўтаў...

Напружаньне вялікае. Родзіцца ДПіская салідарнасьць у змаганьні за кажны пункт. І дарма, што ў лягерох ДП атрымоўваюць паўгалодныя харчы. Не зраўняцца зь імі ангельскім скаўтам. Увесь час маюць найбольшую колькасьць пунктаў, і толькі ў апошняй пробе даганяе іх адна ангельская дружына. Сярод ДП найбольшую колькасьць пунктаў атрымоўваюць беларусы[459].

## *25 Сакавіка на Гамбурскім Зьлеце*

Дзень вялікага нацыянальнага сьвята, 30-я ўгодкі абвешчаньня Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі адзначылі і нашыя ўдзельнікі Гамбурскага Зьлёту.

Пасьля багаслужэньня, адпраўленага ўкраінскім сьвятаром, сабраліся ў сваім памешканьні разам з прадстаўнікамі ад украінскай і латыскай моладзі, каб узмацаваць свае сілы й веру для далейшае працы й змаганьня за вялікія сакавіковыя ідэалы вольнасьці.

Пасьля ўступнага слова Галоўнага кіраўніка і песьні "Пагоня" кароткі нарыс гісторыі барацьбы нашага народу за сваё вызваленьне даў старэйшы скаўт з Марбургу. У яркіх і моцных словах прадставіў ён шлях барацьбы, па якім непахісна крочыць Беларускі народ да вызваленьня.

Жыве Акт 25 Сакавіка!

Жыве Беларуская Народная Рэспубліка!

Жыве! — Загучэла рэха па ўсім будынку.

Зь вялікім нацыянальным сьвятам вітаюць прадстаўнікі ад украінскай моладзі. Яны апавядаюць аб супольнай барацьбе ўкраінскага і беларускага народу з супольным ворагам.

---

[459] Шляхам Жыцьця. Ватэнштэт. Сакавік 1948. — ***А. В.***

Слава Беларускаму Народу ў дзень Яго Вялікага Нацыянальнага Сьвята! Слава!

Жыве ўкраінскі і латыскі народ, злучаныя з намі супольнай гісторыяй і змаганьнем!

Жыве!

Песьня “Ў гушчарах” заканчвае нашую нацыянальную ўрачыстасьць. Разыходзіцца моладзь трох суседніх народаў з жаданьнем цеснага супрацоўніцтва й барацьбы за супольны ідэал — вольнасьць. І кіруюцца нашыя думкі да ўсяго нашага народу, які, хоць распылены па ўсім сьвеце, у гэты вялікі дзень злучаецца адной думкай і адной любоўю — сакавіковым сонцам Адраджэньня...

## *Наша сустрэча з Шэфам-скаўтам*

Ужо ў першыя дні прыбыцьця лорда Роўвэлена нашыя скаўты не прамінулі ніводнага мамэнту, каб з ім спаткацца. Зараз пасьля ўручэньня яму падарунку акружылі яго:

— Просім з намі, беларусамі, зрабіць супольны фотаздымак. Наш рэпарцер быў ужо напагатове. Шэф-скаўт згадзіўся.

*“Калі, кажа, вы гэткія спрытныя — то калі ласка”*. Але не хапала ўсяе дванаццаткі. Іншым было крыўдна, што не прысутнічалі. Надарылася, аднак, новая нагода. У нядзелю пасьля набажэнства лорд Роўвэлен наведваў усіх скаўтаў і нас — беларусаў. Выразіў тады сваё прызнаньне за наш паказ на арэне... Упісаў у нашыя дзёньнікі сваё прозьвішча на памяць сустрэчы. Вечарам гэтага дня ўся беларуская група яшчэ раз спаткалася з Галоўным скаўтам і зрабіла супольную фатаграфію.

Вось ягоны вобраз, які астаўся ў маёй памяці: Высокага росту, у шкоцкай спадніцы і скромнай скаўцкай кашулі з закасанымі рукавамі ды скаўцкай адзнакай юнака 3-1 клясы. На грудзях вайсковыя адзначэньні ды на шыі завешаны на зялёна-бела-зялёнай істужцы сярэбраны воўк — найвышэйшая скаўцкая адзнака.

Пастава й рухі бадзёрыя, хоць век пажылы, гадоў больш 60. Супакой і роўнавага, выпрацаваныя рухі й жэсты сьветчаць аб лордаўскім выхаваньні. Узрок praніклівы, выказваньне думак свабоднае, лагічна сьветчаць аб высокай інтэлігэнцыі.

<u>Скаўцкае вогнішча</u>

29 сакавіка. На вялікім спартовым пляцы, дзе адбываўся паказ, устаўляюцца лаўкі й крэслы для гасьцей. Пасярэдзіне вялікая піраміда дроў. Грэнд кэмп фаер! Вялікае вогнішча з удзелам Галоўнага скаўта. Інсталююцца радыёвыя мікрафоны. Апошняя наша спроба ў ланцугу адбытых выпрабаваньняў. Каб толькі яна замацавала тыя дасягненьні, якія нам удалося здабыць на розных адрэзках нацыянальнай рэпрэзэнтацыі.

Прыбывае лорд Роўвэлен і дае загад распаліць вогнішча. 30 украінскіх скаўтаў, выконваючы сымбалічны танец, нясуць запаленыя сьветачы. Як агністы вуж бяжыць украінская моладзь да піраміды дроў, каб яе падпаліць. Ужо акружылі яе і — выбухае падліты бэнзынай агонь, сымбаль жыцьця і маладосьці, а зь ім зашумела песьня "Моладзь кліча"... Потым зноў супольная песьня, потым пяюць французы, нарвэгі, амэрыканцы... аж тут сьпікер паведамяе:

— Выступаюць Беларусы!

Песьня "Пагоня". Чуваць тупат конскіх капытоў і ўдары мячоў аб панцыры... Нехта запальвае магнэзію і робіць здымак... Не прагучэлі яшчэ конскія капыты Пагоні, раздаецца другая беларуская песьня, поўная народнага гумару й весялосьці: "Баба Еўка, дзед Тамаш"[460].

Вэры, вэры гуд! — грыміць моладзь.

Трашчыць дагараючае вогнішча і паддаецца начной цемры. Прамаўляе яшчэ раз Галоўны скаўт, дзякуючы арганізатарам зьезду за пазытыўную скаўцкую працу ў Нямеччыне. На разьвітаньне яшчэ адна песьня для ўсіх народаў: Гуд бай, Амэрыка,

Гуд бай, Уайтрутэнія,
Гуд бай, Украïна,
Гуд бай, Брытанія...

Як прыемна было перажыць гэты мамэнт, калі вялікае братэрскае кола ўсіх нацыянальнасьцяў з Галоўным скаўтам пяяла цёплыя нам словы разьвітаньня: Гуд бай, Уайтрутэнія! У розных адценях і варыянтах!

Так закончылася вялікае скаўцкае вогнішча 29 сакавіка 1948 г. Яно й папярэднія мамэнты незвычайна падбадзёрылі нашых скаўтаў да яшчэ больш напружанай працы на карысьць Бацькаўшчыны[461].

## *Сьвяткаваньне 28-х угодкаў Слуцкага Паўстаньня*

У Ватэнштэце, у сыботу вечарам, 27 лістапада 1948 г. вячэрні змрок разагнала сьвятло паходняў, з якімі скаўты абодвых Сьцягоў зьявіліся на лягерны пляц. На асьветленым пляцы відаць была калёна, якая шчыльнымі радамі, роўным крокам і з бадзёрай песьняй крочыла цераз лягер. Моцна трымаючы высока ўзнятыя паходні, скаўты горда маршыравалі наперад. На іх асьветленых маладых юнацкіх тварах выразна вырысоўвалася павага з адценкам суму. З іх кажны ўсьведамляе чаму ён узяў у гэты вечар паходню і якую гэтым самым дае сабе заруку.

[460] ***"Баба Еўка, дзед Тамаш"*** — беларуская народная песьня.

[461] СІС. № 13. 1948. — ***А. В.***

У іх сьведамасьці выразна рысуецца абраз сёньняшняга вечару, якім ён быў 28 год таму назад. Гэты абраз малюе ім геройскіх Случчакоў, якія падобна ім, пайшлі калёнамі са стрэльбамі ў руках і панесьлі паходні сьвятла для Маці-Беларусі. Шмат паўстанцаў загінула, аднак паходня змаганьня за незалежнасьць Бацькаўшчыны не згасае. Яе падхопліваюць іншыя, яна множыцца. І так ўяўляецца, што частку гэтага самага агню маюць гонар сёньня нясьці і яны тут на далёкай чужыне. Скаўты не заўважылі, як апынуліся на месцы, дзе быў прыгатаваны Скаўцкі зьніч. Сюда паволі падыходзілі жыхары лягеру. Скаўт і скаўтка падпалілі паходнямі зьніч.

Скаўцкі вечар, прысьвечаны памяці Слуцкіх Паўстанцаў распачаўся прамовай апекуна скаўтаў сп. Каўша[462]. Хвілінай маўчаньня ўшанавалі прысутныя загінуўшых паўстанцаў. Пасьля адпяваньня скаўтамі некалькіх патрыятычных песьняў, адбылася пераклічка ведамых прозьвішчаў герояў, загінуўшых у змаганьні за незалежнасьць Бацькаўшчыны. Адсьпявалі жалобны марш: “Сьпі пад курганам герояў”... Вечар закончыўся паўторным маршам скаўтаў з паходнямі па лягеры.

Назаўтра, 28.11 а гадзіне 8.30 скаўтамі быў падняты да паўмашты, у знак жалобы, перавязаны чорнай стужкай, нацыянальны сьцяг.

А гадзіне 10-й праваслаўныя скаўты накіраваліся ў царкву, а каталікі — у касьцёл. У абодвых сьвятынях былі адслужаныя паніхіды па загінуўшых змагарох за незалежнасьць Беларусі. Глыбокія патрыятычныя прамовы сьвятароў расчулілі вернікаў да сьлёз.

А гадзіне 15-й новаўступіўшыя ў арганізацыю скаўты і скаўткі, што адбылі пробны пэрыяд, злажылі Скаўцкую прысягу.

У праграму сьвяткаваньня Слуцкага Паўстаньня ўвайшлі спаборніцтвы паміж старэйшымі скаўтамі і юнакамі, што адбыліся

---

[462] **Сьвятаслаў Коўш** (1917—1997), рэлігійны й грамадзкі дзеяч, праваслаўны сьвятар. Закончыў факультэт права Віленскага ўнівэрсытэту, сябра Беларускага студэнцкага саюзу. У 1938 г. высьвячаны на дыякана. У 1938—1939 гг. псаломшчык у Засульлі (Стаўпецкі раён), у 1939—1941 гг. працаваў тамсама настаўнікам. Падчас нямецкай акупацыі быў начальнікам Клецкага павету. Ад лета 1944 г. на эміграцыі. У паваеннай Нямеччыне быў камэндантам беларускага лягеру ў Ватэнштэце. У 1949 г. выехаў у ЗША. Адзін з ініцыятараў стварэньня беларускай праваслаўнай парафіі ў Саўт-Рывэры. У 1951—1957 гг. быў віцэ-старшынём Галоўнай управы БККА. У 1969—1976 гг. настаяцель парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле, у 1976—1986 гг. — парафіі Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры. Па сьмерці а. Мікалая Лапіцкага, ад 1976 г., быў адміністратарам беларускіх (кананічных) парафій у Паўночнай Амэрыцы. Аўтар кніг: “Тры легенды” (1946), “Запавет бацькі” (1948), “Лягер Ватэнштэт” (1976), “Русальчына баляда” (1980), “Беларускі лягер у Ватэнштэт” (1981).

а гадзіне 16-й. Спаборніцтвы паказалі, што скаўты адносна сваіх спраўнасьцяў стаяць на адпаведным узроўні.

Вясёлымі клічамі і песьнямі закончыліся спаборніцтвы на карысьць старэйшых скаўтаў. Вечарам у Народным Доме адбылася агульная ўрачыстая Акадэмія, прысьвечаная Слуцкаму Паўстаньню. У мастацкай частцы актыўны ўдзел прымалі скаўты і скаўткі[463].

У часе надыходзячых Калядных сьвятаў, дзе скаўты, якія ў большасьці зьяўляюцца вучнямі пачатковых і сярэдніх школаў, будуць вольнымі ад заняткаў у сувязі з зімовымі канікуламі, кіраўніцтва Штандару "ГАРЦ" арганізуе курсы малодшых скаўцкіх кіраўнікоў. Курс будзе трываць тыдзень.

У абодвых сьцягох скаўтаў Ватэнштэту адбываецца інтэнсыўная падрыхтоўка скаўтаў да здачы пробаў на адпаведныя зоркі, якія скаўты атрымаюць ужо да Калядаў.

## *Успамінаюцца мне дні...*

*Я ўжо, здаецца, зусім дарослы, многія называюць мяне навет старым, а як убачу я нашых скаўтаў, мне так хочацца стаць разам з імі ў рады, весела і бадзёра шагаць, пяяць звонкія песьні і зноў быць маладым, як у тыя часы, калі і я быў скаўтам.*

*Гэта было ў 1921—1922 гг., калі я быў вучнем 2-й клясы Віленскае Беларускае Гімназіі, але ўспаміны аб тых сьветлых і радасных днях не зацерліся ў маёй памяці і будуць заўсёды вытканы з найясьнейшых колераў.*

*У той час Віленская Беларуская Гімназія была сапраўднай беларускай кузьняй, дзе каваліся маладыя сілы для працы на нашай роднай ніве. Тут былі ў той час настаўнікамі выдатныя беларускія дзеячы, пісьменьнікі й вучоныя, як Антон Луцкевіч[464], Сымон Рак-Міхайлоўскі, Аркадзь Смоліч[465], Максім Гарэцкі і іншыя. Яна*

---

[463] Скаўцкі Бюлетэнь Штандару Гарц. № 10. 10.12.1948. — ***А. В.***

[464] **Антон Луцкевіч** (1884—1943), грамадзка-палітычны дзеяч, гісторык. Брат Івана Луцкевіча. Адзін з пачынальнікаў беларускага нацыянальнага руху XX ст. Быў сярод заснавальнікаў газэтаў "Наша Доля" і "Наша Ніва". Старшыня Рады й міністр замежных спраў БНР. Арыштаваны савецкімі органамі ў 1939 г. Памёр у турме ў Саратаўскай вобласьці (Расея).

[465] **Аркадзь Смоліч** (1891—1938), навуковец, нацыянальны дзеяч. Сябра Беларускага сацыялістычнай грамады. Сябра ўраду БНР, намесьнік старшыні Рады БНР. Вярнуўся ў Менск у 1922 г. Працаваў у Наркамаце земляробства БССР, выкладаў у БДУ, быў намеснікам страшыні Інбелкульту й кіраўніком Цэнтральнага бюро краязнаўства. Арыштаваны па справе "Саюзу вызваленьня Беларусі" й асуджаны на 5 гадоў высылкі. Паўторна арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.

*мелі вялікі ўплыў на моладзь. Пасьля вайны і рэвалюцыі моладзь, вярнуўшыся з бежанства, пасьля доўгага перапынку ў навуцы кінулася з запалам у родную школу. Вучні старэйшых класаў былі зусім дарослыя людзі, а некаторыя з іх мелі навет і бародкі. Усе былі захоплены беларускай нацыянальнай працай. У Гімназіі чыталіся часта рэфэраты, ладзіліся літаратурныя суды, спэктаклі. Самі вучні зрабілі ў Гімназіі прыгожую сцэну, залажылі Драматычную Студыю, якою кіравалі выдатныя артыстыя, як Францішак Аляхновіч[466], Л. Родзевіч[467] і інш. Студыя выяжджала на правінцыю, дзе ладзіла спэктаклі, рабіла беларускія пастаноўкі ў Гарадзкой Залі. Вучні старэйшых класаў арганізавалі беларускую вясковую моладзь, прымалі дзейны ўдзел у грамадзкай працы (у Беларускім Пасольскім Клюбе[468], у выбарах), выдавалі друкаваны часапіс і г. д.*

*А мы, вучні малодшых класаў? Нам ўсё гэта было яшчэ недаступна. Але мімаволі тое, чым жылі старэйшыя вучні, пранікала і да нас. На перапынках мы падслухоўвалі іхнія гутаркі, хоць нас часта адганялі, з зайздрасьцю слухалі іхнія дружныя сьпевы. І мы стараліся насьлядоўваць іх ува ўсім так, як гэта робяць звычайна дзеці. Мы зьбіраліся ў грамадку асобна і з важнымі мінамі пачыналі сьпяваць. Але ў нас неяк выходзіла інакш, як у іх! І мы спрабавалі выдаць свой часапіс. Выдаць у друкарні мы не маглі, дык пачалі на шапірографе. Памятую, як мы друкавалі яго да позьняй ночы. І калі я позна прыйшоў дахаты, то дастаў добрую навучку ад бацькоў.*

*Галоўна часапіс наш быў гатовы! Вушы гарэлі, і я доўга ня мог заснуць. А назаўтра, як пярун з яснага неба, усіх нас аглушыла забарона і канфіската нашага часапісу. Аказалася, што “перадавіца”*

---

466 **Францішак Аляхновіч** (1883—1944), тэатральны дзеяч, драматург. У 1926 г. выехаў у Менск, дзе быў арыштаваны й высланы ў лягер на Салаўках. У 1933 г. быў абменены савецкімі ўладамі на вязьня польскай турмы Браніслава Тарашкевіча. Ад сакавіка 1942 г. рэдактар тыднёвіка *“Biełaruski Hołas”* у Вільні. Забіты ў сваёй кватэры, як мяркуецца, савецкімі спэцслужбамі.

467 **Леапольд Родзевіч** (1895—1938?), пісьменнік, дзеяч КПЗБ. Рэпрэсаваны.

468 **Беларускі польскі клюб** — нацыянальная пасольскай фракцыя ў польскім сейме ў 1922—1928 і 1928—1930 гг. Пасьля выбараў 1922 г. у БПК уваходзілі 11 паслоў (А. Аўсянік, П. Мятла, Б. Тарашкевіч, Ф. Ярэміч, А. Станкевіч, С. Баран, У. Каліноўскі, С. Якавюк, С. Рак-Міхайлоўскі, М. Кахановіч, В. Рагуля). Клюб займаў становішча апазыцыі да польскай дзяржаўнай палітыкі. У 1925 г. левае крыло БПК стварыла сваю фракцыю. А пасьля выбараў 1928 г. клюб складаўся з прадстаўнікоў Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі і Беларускага сялянскага саюзу, якія выступалі супраць прысутнасьці камуністаў у нацыянальным руху.

*ў ім была замоцна напісана, і інспэктар, выклікаўшы ўсіх маладых выдаўцоў, прачытаў нам натацыю:*

*— Палітыкай пачалі займацца, малакасосы!*

*Мы выйшлі з канцыляры, як пабітыя.*

*Мы чуліся пакрыўджаныя. Нашы спробы не ўдаваліся, нас ніхто, здавалася, не разумеў. А мы рваліся па-дзіцячаму да працы.*

*Але я ведаў больш, чым іншыя мае аднакласьнікі. Вось да майго старэйшага брата часта прыходзілі ягоныя сябры, і яны, зачыніўшыся ў пакоі, доўга аб нечым гутарылі. Я ўкрадкам падслухоўваў праз дзірачку ад замка іх гутарку. Шмат я ня мог зразумець, але даведаўся, што гутарка важная, і гавораць аб нейкіх тайнах справах. Часам брат з сябрамі кудысьці ішоў. Я бег за імі, а мяне гналі ісьці дахаты. Я спачатку ня слухаўся і сьпіраўся, але пасьля з глыбокай крыўдай у сэрцы, ішоў дамоў з вачмі, поўнымі сьлёз.*

*— Чаму яны ня хочуць узяць мяне? — думаў я з жалем. — Я-ж нікому нічога не сказаў-бы, а каб трэба было што зрабіць, я зрабіў-бы гэта лепш, як дарослыя.*

*І я доўга плакаў, забіўшыся недзе ў куток двара. Але я сам прыдумаў, што зрабіць. Аднойчы за сцэнай у Гімназіі я сабраў чалавек пяць сяброў-аднакласьнікаў. Я гаварыў шопатам, азіраючыся, ці хто ня слухае нас, што мы павінны быць сапраўднымі беларусамі і за Беларусь памерці. Каб клятва стала моцнай, кожны з нас пракалоў палец іголкай і крывёй паставіў знак на паперы. Аб гэтай клятве нехта з нас вычытаў у нейкай кнізе. Таму і зрабілі таксама. Паперу перахоўваў я пад страхой складзіка на нашым панадворку. Але ўсё-ж я адчуваў, што гэта ўсё ня так, як у дарослых.*

*Аднойчы ў нашу клясу прыйшоў наш настаўнік "навукі аб рэчах" (фізыкі) сп. Рак-Міхайлоўскі з адным вучнем старэйшай клясы. Яны расказалі нам аб скаўтынгу і аб тым, што ў нашай Гімназіі таксама арганізуецца беларускі скаўтынг. Мы ператварыліся ў слух і лавілі кажнае слоўца, як найсьвяцейшы закон для нас. Цяпер пачыналася нашае жыцьцё! Мы будзем вычыцца быць разьведчыкамі, знаходзіць па зорках і знаках дарогу, памагаць раненым, вучыцца сыгналізацыі, знакаў Морзэ, каб быць карыснымі Бацькаўшчыне-Беларусі.*

*І калі настаўнік спытаўся, ці хочам мы належаць да скаўтынгу, усе як з гарматы дружна сказалі:*

*— Так!*

*Пасьля лекцыяў была вызначана першая зборка ў залі. Мы не маглі дачакацца званка і канцы лекцыяў. І як толькі скончыліся лекцыі, усе, як віхор, паімчаліся ў вялікую залю. Тут ужо было поўна вучняў. Было весела, кожны чакаў нечага незвычайнага, што адрозьнівалася ад школьнага шэрага жыцьця.*

*Хутка мы стаялі ў двух шэрагах ўздоўж усяе залі. Кожны стараўся стаяць, як жаўнер. Каманды вучылі вучні старэйшых клясаў — беларускія вайскоўцы. Нас падзялілі на дружыны, вызначылі дружыновых і ўжо пасьля першай зборкі ўсе выйшлі на школьны пляц. Нас было шмат, і мы чулі, якая вялікая сіла ў нас. Кажны стараўся ісьці ў ногу, роўна, бо з вокнаў трэцяга паверху выглядалі цікавыя твары вучняў Праваслаўнае Духоўнае Сэмінарыі. Так пачаў сваю працу беларускі скаўтынг у Віленскай Беларускай Гімназіі.*

*Мы хутка вывучалі скаўцкае права, вязалі вузлы, хадзілі на экскурсыі, ладзілі вечары, зьбіраліся. Уся праца так падыходзіла да нашых дзіцячых імкненьняў, што мы аддаваліся ёй усёй душой і целам.*

*Прайшлі гады, але пасеянае ў нашых душах не заглохла. Яно знайшло новыя шляхі для свайго росту. І калі, бывала, даводзілася мне прыпадкова спатыкацца з быўшымі сябрамі ў цягніку, на вуліцы, на якім-небудзь сходзе, мы заўсёды з асаблівым, часта дзіцячым, захапленьнем успаміналі нашыя скаўцкія часы. У кажным з нас моцна трымалася грамадзкая настроенасьць, кажны з нас заўсёды горача адгукаўся на ўсялякі грамадзкі пачын, і сам часта быў зачыншчыкам працы, а галоўнае, кажны любіў аддана сваю Бацькаўшчыну. Гэта ўсё быў уплыў грамадзкае школы, якую прайшоў кажны з нас у скаўтынгу.*

*Вось, чаму мне цяпер часта хочацца шагаць разам з маладымі скаўтамі, вось чаму я і чуюся маладым, калі пабачу зялёныя гальштукі. Мне здаецца тады, што гэта паднялася маладая беларуская рунь. І ідзе яна ў нашу будучыню, сьветлую і ясную, як іх юнацкія сны. Я таксама быў скаўтам і хачу калыхацца ў гэтай руні — нашай надзеі.*

*Стары Скаўт (Хведар Ільляшэвіч[469]).*

Сьветлай памяці Хведар Ільляшэвіч зьгінуў у нешчасьлівым аўтамабільным выпадку 6 лістапада 1948 году недалёка Ватэнштэту[470].

---

[469] **Хведар Ільляшэвіч** (псэўд. **Сьвятаслаў Залужны**, 1910—1948), грамадзкі дзеяч, журналіст, пісьменьнік. Закончыў гістарычны факультэт Віленскага ўнівэрсытэту. Падчас нямецкай акупацыі — у Беластоку, кіраваў Беларускім камітэтам, рэдагаваў штотыднёвік “Новая Дарога”. У ліпені 1944 г. выехаў у Бэрлін, працаваў у рэдакцыі газэты “Раніца”. У 1944 г. выдаў восем кніг з сэрыі “Народная бібліятэчка”. Пасьля капітуляцыі Нямеччыны жыў у лягеры Ватэнштэт, настаўнічаў у беларускай гімназіі, апекаваўся беларускім скаўтынгам. Аўтар кніг “Навагоднія запросіны” (1946), “У Купальскую ноч” (1946), “Песьні выганьня” (1947), “Апавяданьні” (1948). Загінуў у аўтакатастрофе. У 1981 г. выйшла кніга “Недапетая песьня. Жыцьцё і творчая спадчына Хведара Ільляшэвіча”.

[470] Скаўцкі Бюлетэнь Штандару Гарц. № 10. 10.12.1948. — ***А. В.***

Нашы скаўты, так, як і ўсё грамадзтва найвялікшага ў Ангельскай зоне згрупаваньня Беларусаў — лягеру Ватэнштэт, перажылі перад некалькімі тыднямі трывогу з прычыны гвалтоўных намаганьняў некаторых варожых беларускасьці польскіх шавіністычна-імпэрыялістычных ворганаў, якія імкнуліся гвалтам пераіменаваць жыхароў лягеру з беларусаў на палякоў. Гэтая акцыя польскіх імпэрыялістых была талераваная, а ў поўнай меры і падтрымоўваная ўрадоўцамі IPO. Аднак, дзякуючы нацыянальнай сьведамасьці і стойкасьці жыхароў лягеру, гэтыя намаганьні польскім шавіністым не ўдаліся і лягер Ватэнштэт і далей з посьпехам рэпрэзэнтуе паміж чужынцамі беларускасьць[471].

## Другі Сьцяг Ганова

28 лютага 1948 г. у Гановэрскім лягеры Лысенка адбылася скаўцкая ўрачыстасьць з нагоды нараджэньньня Бадэн Поўля. Удзел бралі ангельскія, беларускія, украінскія і іншыя скаўты. Беларусаў рэпрэзэнтавалі скаўцкія мужчынскія і жаночыя сьцягі з Гановэру і Ватэнштэту. Была наладжана скаўцкая выстаўка. Беларускі аддзел быў аформлены з добрым густам.

Дня 16 лістапада 1948 г. адбылося спатканьне плк. Вільсана ў асысьце плк. Монэ з ДП і нямецкімі скаўтамі, якое мела месца ў Гановэры. У спатканьні з боку скаўтаў ДП бралі ўдзел групы скаўтаў з Гановэрскай правінцыі ад усіх нацыянльнасьцяў — жыхароў мясцовых лягероў. Між імі сваёю колькасьцю і ўніформаю вызначаліся беларусы, прыехаўшыя з Ватэнштэту, і мясцовыя Гановэрскія.

Скаўты кожнай нацыянальнай групы мелі свае асобныя палаткі, якімі быў акружаны пляц скаўцкага лягеру, дзе рыхтавалася спатканьне дастойных гасьцей. Вонкавы выгляд палаткі меў гаварыць аб скаўцкіх спраўнасьцях той групы, якая яе займала. Таму жыхары часовага лягеру стараліся якнайхітрэй упрыгожыць свае палаткі, трымаючыся якнайдакладней найбольш моднага скаўцкага стылю.

Унутры палаткі скаўты кожнай нацыянальнай групы рыхтавалі выстаўку сваіх уласнаручных вырабаў.

Каля 3-й гадзіны па абедзе прыехаў плк. Вільсан з асыстай. Адрэзак вуліцы, які дзяліў пляц скаўцкага лягеру з месцам высадкі гасьцей з прывёзшай іх машыны, быў абстаўлены штафэтай з скаўтак.

Беларускія скаўткі з Ватэнштэту ў сваіх сьветла-сініх блузах, як васількі ў жыце, кідаліся ярка ў вочы паміж скаўткамі іншых нацыянальнасьцяў. Плк. Вільсан накіраваўся да палатак, якія па чарзе аглядаў. Беларуская палатка зацікавіла гасьцей сваёй выстаўкай.

[471] Скаўцкі Бюлетэнь Штандару Гарц. № 10. 10.12.1948. — ***А. В***

Ручныя тканіны і вышыўкі часткі нацыянальных убораў зьдзіўлялі гасьцей сваім прыгаствам. Як падарак ад беларускіх скаўтаў, плк. Вільсан атрымаў акуратна вышыты нацыянальнымі ўзорамі з беларускай лілейкай пасярэдзіне скаўцкі гальштук.

Пасьля візыты скаўцкіх палатак плк. Вільсан меў прамову да прысутных скаўтаў, у якой ён, між іншым, прывітаў новаўступіўшую ў скаўцкае жыцьцё нямецкую моладзь.

На просьбу скаўтаў плк. Вільсан запаліў скаўцкае вогнішча, разьвітаўся і пакінуў лягер.

Дзень скаўцкага лягеру ў Ганоўэру закончыўся апушчэньнем нацыянальных сьцягоў і адсьпяваньнем нацыянальных гімнаў[472].

У 1948 годзе ў сьвятліцы ладзілі ялінку з адмысловай мастацкай часткай. Выканаўцамі яе былі выключна скаўты. На вечары прысутнічала старэйшае беларускае і ўкраінскае грамадзтва.

Сьцяговы В. Літаровіч

## НОВЫЯ СКАЎЦКІЯ АДЗІНКІ Ў АЎСТРЫІ

Куфштайн[473]: Сярод групы беларусаў, якая знаходзіцца у ДП-лягеры Куфштайн (француская зона Аўстрыі) і налічвае 300 асобаў, у верасьні гэтага году зарганізаваўся новы скаўскі сьцяг. Моладзь ахвотна горнецца да скаўцкае працы і ўжо на першай зборцы было 18 скаўтак і скаўтаў. Гэтая колькасьць, напэўна, з кажнай зборкай будзе павялічвацца, покуль не ахопіць усяе беларускае моладзі лягеру. Сьцяг складаюць цяпер: 1 дружына старэйшых скаўтаў, 1 дружына юначак і грамада Ваўчанятаў. Арганізатарам і апекуном Сьцягу зьяўляецца сп. Гуз Міхась[474].

---

472 Скаўцкі Бюлетэнь Штандару Гарц. № 10. 10.12.1948. — ***А. В.***

473 **Куфштайн** (ням. *Kufstein*) — горад на захадзе Аўстрыі, у зямлі Тыроль.

474 Наперад. № 13. 1948. — ***А. В.***
Маецца на ўвазе **Павал Гуз** (1924—2003), грамадзкі дзеяч. Нарадзіўся ў сялянскай сям’і. Разам з братам Аляксандрам прайшоў цераз Дахаў і па капітуляцыі Нямеччыны апынуўся ў лягеры *DP* Куфштайн (Аўстрыя), займаўся арганізацыяй беларускага скаўцкага Зьвязу імя Івана Луцкевіча. У 1949 г. разам з жонкай выехаў у Аўстралію. У часе паездкі пазнаёміўся з М. Зуем і стаў сябрам Беларускай Незалежніцкай Партыі. У Мэльбурне адразу пачаў наладжваць беларускую грамадзкую дзейнасьць. Сакратар першага створанага ў Мэльбурне Беларускага клюбу, які арганізаваў у 1950 г. першае сьвяткаваньне ўгодкаў незалежнасьці БНР. Пазьней сябра ўправы й культурна-асьветны рэфэрэнт Беларускага аб’еднаньня ў

Рыд[475]: Дзякуючы актыўнай працы сябры Яцэвіча[476] ў лягеры Рыд (Верхняя Аўстрыя) з пачаткам 1949 г. зарганізаваўся Зьвяз скаўцкай моладзі, які налічвае 17 сяброў. Зьвяз вядзе інтэнсыўныя заняткі і падрыхтоўваецца да злажэньня скаўцкай прысягі[477].

## ТРЭЦІЯ УГОДКІ ЗБСЧ

У днях ад 15 да 20 лістапада 1948 г. адбылося ўва ўсіх скаўцкіх адзінках урачыстае сьвяткаваньне 3-й гадавіны існаваньня ЗБСЧ.

На асаблівую ўвагу заслугоўваюць урачыстасьці, наладжаныя ў Міхэльсдорфе, Віндзішбэргэрдорфе, Маервіку[478] і Остэргофэне. Адбыліся там скаўцкія вогнішчы, мастацкая самадзейнасьць і адпаведныя гурткі.

Кандыдаты злажылі скаўцкую прысягу.

З нагоды 3-х угодкаў былі апублікаваныя ў Беларускай прэсе абшырныя матар'ялы аб дзейнасьці і пляне далейшае працы ЗБСЧ.

Ніжэй падаем вытрымкі з справаздачы Галоўнага кіраўніка В. Пануцэвіча, зьмешчанай з нагоды трэціх угодкаў ЗБСЧ у Скаўцкай інфармацыйнай службе № 14, 1 лістапада 1948 г.:

---

Вікторыі. Дапамагаў у выданьні часопіса "Новае Жыцьцё" ў Мэльбурне, займаўся тэхнічнай працай. Доўгагадовы сакратар-скарбнік, а ў апошнія гады жыцьця й старшыня Беларускага цэнтральнага камітэту ў Вікторыі. Ад 1989 г. сакратар Фэдэральнай рады беларускіх арганізацый у Аўстраліі. Дэлегат на XIV—XIX пленумах БЦР, спрыяў абраньню М. Зуя на пасаду прэзыдэнта БЦР. Меў узнагароды ад БЦР. Падтрымліваў сувязі зь беларускімі эміграцыйнымі выданьнямі ў іншых краінах, друкаваў нататкі з жыцьця беларусаў у Мэльбурне й уласныя вершы пад псэўданімам Паўлюк Дуброўскі.

475 **Рыд** (ням. *Ried im Innkrei*) — горад на поўначы Аўстрыі, у зямлі Верхняя Аўстрыя.

476 **Аляксандр Яцэвіч** (псэўд. **Алесь Змагар**, 1903—?), грамадзкі дзеяч, пісьменьнік, выдавец. Браў удзел у Слуцкім паўстаньні й антысавецкай партызанцы. Падчас нямецкай акупацыі працаваў настаўнікам. Быў дэлегатам Другога Ўсебеларускага кангрэсу. Ад 1944 г. на эміграцыі. Жыў у Нямеччыне, Аўстрыі. У 1949 г. пасяліўся ў Францыі, быў сябрам Рады БНР. У 1956 г. выехаў у ЗША. Быў актывістам Беларускага вызвольнага руху. Сябра літаратурнай сустані "Баявая ўскалось". Аўтар кніг: "Рэпка" (1946), "Случчакі" (1947), "Да згоды" (1962, 1963), "Змагарны шлях" (1962), "Дзень маці" (1964), "Вызвольныя шляхі" (1965), "Лесавікі" (1973), "Мае ўспаміны" (1985), "Случчына ў вагні" (1986).

477 СІС. № 15. 1949. — ***А. В.***

478 **Маервік** (ням. *Meierwik*) — мястэчка па поўначы Нямеччыны, у зямлі Шлезьвіг — Гальштэйн.

...З нагоды трэйціх угодкаў схарактарызуем найважнейшыя і істотныя мамэнты нашага скаўцкага руху і накрэсьлім нашыя вытычныя на будучыню.

Лічбовы стан ЗБСЧ

На сёньняшні дзень ЗБСЧ налічвае 512 сяброў і сябровак, зарганізаваных у 5 штандарах у ангельскай, амэрыканскай і францускай зонах Нямеччыны. Апрача гэтага існуюць нашыя аддзелы ў Аўстрыі і Англіі.

Паводле веку налічваецца:

| | |
|---|---|
| Ваўчанятаў.............80. | Пралесак ............ 50. |
| Юнакоў...................80. | Юначак................55. |
| Скаўтаў................... 75. | Скаўтак ................25. |
| Ст. скаўтаў..............80. | Ст. скаўтак.......... 30. |
| Сталых скаўтаў....... 35. | Сталых скаўтак....12. |

Падрыхтоўка кадраў

За тры гады існаваньня праведзена ў рамках арганізацыі 5 курсаў для дружыновых і зьвязовых, якія закончыла агулам 55 асобаў. 4 асобы закончылі ў гэтым годзе Гільфэрскія курсы на скаўтмайстраў.

У праграме працы на 1948 г. намечаны яшчэ адзін курс для дружыновых і зьвязовых на 20 удзельнікаў. Усё гэта далёка недастатковa для ахапленьня ўсяе моладзі скаўцкім рухам, за што прыйдзецца змагацца ў наступным пэрыядзе існаваньня ЗБСЧ.

Удзел у міжнародных выступленьнях

Побач агульна-выхаваўчай працы ЗБСЧ мае за заданьне быць жывым пашыральнікам нашага нацыянальнага імя, нашай культуры і традыцыяў, нашых нацыянальных эмблемаў, нацыянальнага гонару і вартасьці сярод розных заходня-эўрапейскіх народаў. На гэтым палягае пакуль-што тут, на чужыне, наша служба адносна Бацькаўшчыны.

Сьведамая гэтага вялікага заданьня наша арганізацыя ўжо ад першых дзён свайго існаваньня не абмінула амаль ніводнай большай нагоды, каб ня выступіць пад сваімі скаўцкімі і нацыянальнымі сьцягамі побач іншых народаў у розных урачыстасьцях і змаганьнях ды ў гэтых змаганьнях заваявала не апошняе месца для свайго народу.

Успомнім толькі аб нашым удзеле ў Міттэнвальдзе на ўкраінскім вялікім Зьлёце, у Вільдфлекэн або сталых выступах нашае моладзі з Міхэльсдорфу, Віндзішу і Остэргофэну ў міжнацыянальных змаганьнях і ўрачыстасьцях у Рэгэнсбургу, дзе заўсёды наша моладзь выходзіла пераможнай.

Год 1948 прынёс яшчэ большыя магчымасьці для пашырэньня імя нашага народу і собскай арганізацыі, пачынаючы ад нашага ўдзелу ў вялікім міжнародным зьезьдзе ў Гамбургу (25—31 сакавіка), дзе прысутнічаў Шэф-скаўт Брытыйскай імпэрыі лорд Роўвэлен, які асаблівую зьвярнуў увагу на нашу дэлегацыю, далей наша моладзь

прыняла актыўны ўдзел у часе летняга сезону ў міжнародным лягеры, арганізаваным Інтэрнацыянальным бюро ў Касэлі ды іншых зьездах і канфэрэнцыях. Перад намі яшчэ ў гэтым годзе сустрэча дырэктара Інтэрнацыянальнага бюра сп. Вільсана, удзел у канфэрэнцыях сталых скаўтаў (скаўтэраў), у скаўцкай выстаўцы. Падобнае заданьне ляжыць перад нашымі адзінкамі ў Ангельшчыне і Аўстрыі, ды прыдзецца ў хуткім часе разгарнуць працу ў Францыі, Аргэнтыне і Бразыліі...

Скаўцкае выдавецтва

Важным фактарам у агульным выхаваньні моладзі і пашырэньня нацыянальнай сьведамасьці сярод старэйшых зьяўляецца скаўцкае выдавецтва ў Нямеччыне і Англіі. За тры гады існаваньня ЗБСЧ было выдана:

Скаўцкіх часапісаў........................6 (10 тыс. экзэмпляраў),
Скаўцкай літаратуры....................15 кніжачак,
Нацыянальнай літаратуры..........25 кніжачак,
Каляндар на 1948 г.,
Розныя паштоўкі, скаўцкія і нацыянальныя значкі.

У Англіі скаўцкае выдавецтва "Крыніца"[479] працягвае выдаваць месячнік для моладзі "Наперад", вакол якога гуртуецца штораз больш Беларускай моладзі.

---

[479] Беларускае скаўцкае выдавецтва "Крыніца" выдавала часопісы "Напагатове", "Наперад!", "Сакавік", "У Выраі" і інш.

**1949 г.**

# АМЭРЫКАНСКАЯ ЗОНА АКУПАЦЫІ НЯМЕЧЧЫНЫ

## Штандар “Баварыя”

### Міхэльсдорф

7 студзеня 1949 г. нашы старэйшыя скаўты, выконваючы наш адвечны звычай, прайшлі па лягеры з Каляднай зоркай. Жыхары лягеру ахвотна прымалі іх, дзякуючы чаму каса Першага Сьцягу атрымала прыбытак у суме 110 нямецкіх марак.

9 студзеня 1949 г. адбылася скаўцкая ялінка з удзелам шырэйшага жыхарства Міхэльсдорфу. Скаўты й скаўткі выступілі з новай цікавай праграмай, пасьля чаго былі ўрачыста раздадзены скаўцкія падарункі.

19 студзеня 1949 г. у лягеры Міхэльсдорф адзначаліся трэція ўгодкі існаваньня Першай Беларускай гімназіі ў Нямеччыне. Нашы скаўты, якія ў большыні зьяўляюцца вучнямі гэтай гімназіі, прынялі ў сьвяткаваньні актыўны ўдзел.

21 студзеня 1949 г. адбыўся скаўцкі вечар. Сярод цікавейшых нумароў гэтага вечару быў “скаўцкі фільм” пад загалоўкам “Скаўт-каўбой”. Апрача гэтага было прапяяна шмат песьняў і расказана некалькі апавяданьняў. Вечар пры вогнішчы закончыўся супольнай скаўцкай малітвай.

### *Скаўцкі тыдзень у Нямеччыне*

Ад 20—27 лютага 1949 г. ува ўсіх зонах Заходняй Нямеччыны і Аўстрыі, а таксама і ў некаторых іншых краінах (Канада) скаўцкі тыдзень. Былі апрацаваныя ў паасобных асяродках, або акругах Міжнародным камітэтам дакладныя праграмы на кожны дзень тыдня, а Галоўны камітэт выдаў спэцыяльны плякат для ўсіх нацыянальнасьцяў.

У агульным праграма тыдня прадстаўлялася наступна: кожны дзень праводзіўся пад іншым клічам, узятым з наказаў скаўцкага права, падымаліся і апускаліся ўрачыста нацыянальныя сьцягі, ладзіліся супольныя вогнішчы, выстаўкі і спаборніцтвы скаўцкія і спартовыя. Моладзь праводзіла калектыўна або індывідуальныя добрыя ўчынкі для хворых, калекаў, дзяцей і г. д.

Дзеля прыкладу падаем рапарты з некаторых адзінак:

<u>Рэгэнсбург:</u> 20 лютага, у першы дзень скаўцкага тыдня, адбыліся змаганьні паміж дружынамі розных нацыянальнасьцяў (беларусы,

украінцы, расейцы, латышы, немцы). Ад ЗБСЧ выступалі па дзьве дружыны з Міхэльсдорфу і Віндзішбэргэрдорфу, і ў змаганьнях нашы дзяўчаты асягнулі нядрэнныя месцы. Хлопцы дзеля таго, што ў апошнім часе спынілі актыўную штодзённую падрыхтоўку, гэтым разам не асягнулі ніводнага месца.

Міхэльсдорф: 22 лютага ў дзень нарадзінаў БП (Бадэн Поўэля) адбылося скаўцкае вогнішча, якое прысьвечана было памяці Галоўнага скаўта. Запалены агонь перахоўваўся праз увесь тыдзень, а кажны вечар моладзь зьбіралася пры агні, пяялі песьні і праводзілі гутаркі. 27 лютага была зарганізаваная лятарэя.

Віндзішбэргэрдорф: Скаўцкі тыдзень прайшоў у нас пасьпяхова. Наладжаных было некалькі гульняў, колькі вогнішчаў, на заканчэньне канцэрт. Кажны дзень рана падымаўся сьцяг і праводзілася гімнастыка. Тыдзень стаўся для нас далейшым этапам на скаўцкім шляху.

Гановэр: 20 лютага нашыя скаўты разам з украінскімі пачалі скаўцкі тыдзень урачыстым падняцьцем нацыянальных сьцягоў, набажэнствам у сьвятынях. Пасьля абеду адбыўся конкурс песьні між дружынамі і грамадамі Ваўчанятаў, а таксама скаўцкія спаборніцтвы. Нашыя скаўты асягнулі ў гэтых спаборніцтвах два першыя месцы.

Маервік (над Флёнсбурскім фіёрдам): Скаўцкі тыдзень прайшоў тут міма неспрыяльнага надвор'я ўдала. Нашы скаўты і Ваўчаняты ўпершыню спрабавалі сваіх сілаў у змаганьнях з іншымі нацыянальнасьцямі. Кажны дзень урачыста паднімаўся, а вечарам апускаўся нацыянальны сьцяг кажнай прымаючай удзел у тыдні нацыі. Да найбольш эфектоўных вогнішчаў трэба залічыць 25 і 27 лютага, дзе нашы скаўты, скаўткі і Ваўчаняты паказалі з вялікім посьпехам рад цікавых нумароў, інсцэнізацыяў (полька "Бульба"), гульняў і г. д. На вогнішчах былі прадстаўнікі ад ангельскіх уладаў. Брытыйскі Чырвоны Крыж наладзіў 25 лютага для ўсіх скаўтаў падвячорак з падарункамі, дзе моладзь яшчэ раз мела нагоду прапяяць рад песьняў і супольна перажыць шчасьлівыя хвіліны. 27 лютага пасьля абеду пры сьнежнай завеі з дажджом адбыліся скаўцкія спаборніцтвы між дружынамі. Наша дружына здабыла першае месца.

Остэргофэн: Скаўцкі тыдзень не ўдалося нам поўнасьцю выкарыстаць на скаўцкую прапаганду з розных прычынаў. Тым ня менш наладжаныя былі гульні, зборкі і на заканчэньне невялічкі канцэрт. Тыдзень даў нам добрае заахвочаньне да далейшай працы на карысьць нашай Бацькаўшчыны".

## Остэргофэн

Сьвята 25 Сакавіка 1949 г. і гадавіну сьмерці нацыянальнага героя Кастуся Каліноўскага адзначыла тут скаўцкая моладзь і Згуртаваньне Беларускіх Ветэранаў[480] вельмі ўрачыста.

23 сакавіка наладжаны быў ранішнік у чэсьць Каліноўскага з нагоды 85-й гадавіны ягонай сьмерці. Быў прачытаны рэфэрат і пастаўлены літаратурны мантаж з паэмы М. Машары “Сьмерць Кастуся Каліноўскага”.

24 сакавіка вечарам у прыгожа ўдэкараванай залі адбылася ўрачыстая Акадэмія ў памяць нашых герояў.

25 сакавіка адбылося падняцьце сьцягу на гарадзкім пляцы, а вечарам Акадэмія, на якой быў прачытаны рэфэрат, выступленьні хораў, дэклямацыі й народныя танцы[481].

У палавіне чэрвеня 1949 годы жыхары Беларускага ДП-лягеру ў Остэргофэне, а разам зь імі і скаўты былі перавезены ў Розэнгайм[482], каля Мюнхэну[483].

## Віндзішбэргэрдорф

23 сакавіка Ваўчаняты 6-га Сьцягу складалі пробу на першую зорку. 24 і 25 сакавіка лягер Віндзішбэргэрдорф урачыста адзначаў Нацыянальнае сьвята. 24 сакавіка на пляцы лягеру было запалена вялікае вогнішча, сьцяг апушчаны на паўмашты пад гукі песьні ў памяць герояў “Сьпеце ўсе тыя, хто праўды на сьвеце шукалі”[484]. Наступна галоўны апякун скаўтаў на амэрыканскую зону палк. Ф. Кушаль[485] у каротка і прыгожай прамове зрабіў агляд гісторыі

---

[480] **Задзіночаньне беларускіх ветэранаў** (ЗБВ) — арганізацыя беларускіх вайскоўцаў, створаная 16.08.1947 г. у Міхэльсдорфе пад кіраўніцтвам Ф. Кушаля.

[481] СІС. № 16. Травень 1949. — ***А. В.***

[482] **Розэнгайм** (ням. *Rosenheim*) — горад у Баварыі, цэнтр раёну, недалёка ад возера Хімзээ.

[483] СІС. № 17. Верасень 1949. — ***А. В.***

[484] ***“Сьпеце ўсе тыя, хто праўды на сьвеце шукалі”*** — жалобны марш на словы Я. Купалы, музыка М. Куліковіча.

[485] Маецца на ўвазе **Францішак Кушаль** (1895—1968), вайсковы і грамадзкі дзеяч, муж Н. Арсеньневай. У 1915—1917 гг. служыў у царскім войску. У 1919—1920 гг. быў сябрам Беларускай вайсковай камісіі, якая займалася стварэньнем беларускіх вайсковых адзінак у складзе польскага войска. У 1924—1939 гг. кадравы афіцэр польскага войска. Увосень 1939 г. трапіў у савецкі палон, у красавіку 1941 г. выпушчаны пад нагляд НКУС. У 1941—1943 гг. займаў розныя вайсковыя пасады ў Менску: быў кіраўніком

змаганьня нашага народу за незалежнасьць і ўспомніў тых змагароў, што злажылі сваё жыцьцё ў барацьбе з ворагам.

25 сакавіка Багаслужба ў царкве, а пасьля яе перад скаўцкай моладзі і мясцовага аддзелу Згуртаваньня Беларускіх Ветэранаў. Вечарам гэтага дня сіламі скаўтаў у рамах агульнага канцэрту была пастаўленая п’еса “Кастусь Каліноўскі”[486].

3 красавіка 1949 г. адбылася вялікая скаўцкая гульня Зьвязу Кастуся Каліноўскага.

14 красавіка 1949 г. — начная скаўцкая гульня з удзелам усяго Сьцягу.

18 красавіка 1949 г. — урачыстае сьвяткаваньне 2-й гадавіны 6-га Сьцягу.

24 красавіка 1949 г. — лятарэя і валобнічаньне з нагоды Велікодных сьвятаў.

6 траўня 1949 г. — 6-ты Сьцяг адзначыў дзень сьв. Юр’я, патрона скаўцкага руху (сапраўдная дата гэтага дня 23 красавіка. Бадэн Поўэль наказваў, каб усе скаўты ў гэты дзень насілі на чэсьць свайго патрона ружу і разьвівалі свае сьцягі) скаўцкім бегам з перашкодамі на 5 клм і ўрачыстым вечарам з мастацкай часткай, зложанай з песьняў, скэчаў, дэклямацыяў[487].

14 травеня 1949 г. беларускі лягер Віндзішбэргэрдорф урачыста адзначыў важную падзею ў эміграцыйна-лягерным жыцьці — чацьверты выпуск матурыстых, скаўтаў 6-га Сьцягу. Матуру здало гэтым разам 6 юнакоў. Выпускная ўрачыстасьць, як і заўсёды ў Гімназіі імя Янкі Купалы, адбылася ў цёплай і ўрачыстай атмасфэры ў прысутнасьці настаўнікаў, бацькоў і шматлікіх гасьцей.

У чэрвені 1949 году лягер Віндзішбэргэрдорф і скаўты разам былі перавезены ў Розэнгайм[488].

## Міттэнвальд

У беларускай групе ДП-лягеру Міттэнвальд скаўцкая моладзь так, як і ў іншых асяродках, урачыста адзначыла Нацыянальнае сьвята. 24 сакавіка вечарам перад беларускімі блёкамі сабраліся скаўты са сьця-

---

афіцэрскіх курсаў, начальнікам штабу Самаахoвы. У лютым 1944 г. стаў камандзірам Беларускай краёвай абароны. Ад лета 1944 г. на эміграцыі. У Нямеччыне стаў адным з заснавальнікаў Згуртаваньня беларускіх ветэранаў. У 1950 г. выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. Браў актыўны ўдзел у працы Рады БНР, БАЗА (у 1952—1954 г. старшыня арганізацыі). У 1967 г. пераехаў з жонкай да сына ў Рочэстэр.

486 Відаць, маецца на ўвазе п’еса Еўсьцігнея Міровіча.

487 СІС. № 16. Травень 1949. — ***А. В.***

488 СІС. № 17. Верасень 1949. — ***А. В.***

гам, моладзь пачатковае школы і мясцовае жыхарства, каб пайсьці да помніка Слуцкім Паўстанцам, пабудаванага летась высока ў горах каля дарожкі над возерам Лютэнзээ жыхарамі лягеру Міттэнвальд і Лютэнзээ. Ва ўрачыстасьці складаньня вянкоў каля помніка прынялі ўдзел таксама і ўкраінскія скаўты і скаўткі, якія зладжылі ад сябе вянкі на сымбалічнай магіле. Пасьля адбылася паніхіда па загінуўшых.

Наступнага дня, 25 Сакавіка, была ўрачыстая акадэмія, ладжаная кіраўніцтвам пачатковае школы. Апрача прамоваў і прывітаньняў старэйшых беларусаў, выступала скаўцкая моладзь, якая выканала некалькі песьняў, патрыятычных дэклямацыяў і інсцэнізацыю “Пагоні”[489].

## *Курсы для скаўцкіх кіраўнікоў над возэрам Вальхэнзээ*

Ад 29 жніўня да 15 верасьня 1949 г. адбываўся міжнацыянальны курс скаўцкіх кіраўнікоў. На курсе былі скаўты беларусы, чэхі, расейцы і сэрбы. Агульная колькасьць курсантаў 60 асобаў. Курс праводзіўся высока кваліфікаванымі скаўцкімі кіраўнікамі. Праграма была даволі шырокая і ахоплівала ўсе галіны скаўцкага ўзгадаваньня.

Адбываліся паходы на цэлую пару па горах з рознага віду заданьнямі. Цікава адбываліся вогнішчы, якія кожны вечар мелі іншы характар. Гэты курс узбагаціў удзельнікаў практычнымі і тэарэтычнымі ведамі, ды даў уяўленьне, як трэба весьці скаўцкую працу ў сяньняшніх абставінах штораз узрастаючай эміграцыі да расьцярушанасьці нашай моладзі па сьвеце[490].

## *Першы вышкалянёвы лягер дружыньнікаў “Альгерд”*

Ад 27 верасьня да 5 кастрычніка 1949 г. у Міттэнвальдзе адбыўся Першы вышкалянёвы лягер ЗБСЧ “Альгэрд” для старэйшых скаўтаў-дружыньнікаў. Сярод гораў на ўлоньні прыгожай альпэйскай прыроды скаўты ад ранку да вечару праводзілі розныя тэарэтычныя і практычныя заняткі, якія толькі магчымыя ў скаўцкім жыцьці. Асаблівы націск быў зроблены на мэтады працы са скаўтамі-адзіночкамі.

Акрамя гэтага, быў зладжаны 24-гадзінны індывідуальны паход з球 рознымі заданьнямі. Вечарамі вогнішчы. Гучаць беларускія песьні і жарты рэхам сярод гор, лесу і рачнога шуму.

Кажны раз пры вогнішчы зьбіраюцца таксама нашы суродзічы, беларусы з Міттэнвальду, якія прыходзяць нас наведаць. Некаторыя

[489] СІС. № 16. Травень 1949. — ***А. В.***

[490] СІС. № 17. Верасень 1949. — ***А. В.***

знаходзяць знаёмых з Бацькаўшчыны ці блізкіх суседзяў, дзеляцца сваім нядаўна пеpажытым і думкі з Альпаў імкнуцца стралой на сьцежкі дзяцінства.

Апэтыты ўва ўсіх, як ніколі! Прывезеныя харчы хутка нікнуць. Прыходзіцца абмяжоўвацца, але тут прыходзяць з дапамогай нам нашыя міттэнвальдзкія суродзічы, за што ім шчырае нашае скаўцкае дзякуй.

Недалёка ад нас, бо ўсяго за якія дзьве сотні мэтраў Саюз Украінскай Моладзі[491] (СУМ) мае свой таксама вышкалянёвы лягер. З гэтай нагоды ладзім супольнае вогнішча, пры якім украінская і беларуская моладзь дзеляцца ўспамінамі з нядаўна мінулай ды й цяпер праводжанай вызвольнай барацьбы сваіх народаў. Пасьля чаргуюцца беларускія і ўкраінскія песьні[492].

Увосені 1949 г. ДП-лягер у Міттэнвальдзе (Лютэнзээ) быў зьліквідаваны. А разам зь яго ліквідацыяй перасталі існаваць школьныя ўстановы і арганізацыя беларускіх скаўтаў.

## Шляйсгайм

Скаўцкі Зьвяз у Шляйсгайме быў зарганізаваны ў канцы лістапада 1948 г. У часе скаўцкай канфэрэнцыі 10 сакавіка 1949 г. Шэф ЗБСЧ прыняў прысягу ад скаўтаў і скаўтак тамтэйшага Зьвязу. Агулам злажыла прысягу 11 хлапцоў і дзяўчат. Урачыстасьць адбылася ў прысутнасьці прадстаўнікоў ад старэйшага грамадзтва і закончылася гульнямі і песьнямі моладзі, пакідаючы глыбокае ўражаньне.

У сувязі зь ліквідацыяй ДП-лягероў і перавязеньнем беларусаў у два асноўныя лягеры ў Амэрыканскай зоне — у Розэнгайм і Бакнанг[493], наступіла ліквідацыя Штандару “Гэсыя” ды рэарганізацыя паасобных скаўцкіх адзінак.

Былі разьвязаныя наступныя скаўцкія адзінкі: Остэргофэн, Міттэнвальд, Мюнхэн і Рэгэнсбург, а скаўты і скаўткі далучаны да Шостага Сьцягу ў Розэнгайме”[494].

---

[491] **Саюз украінскай моладзі** (укр. *Спілка української молоді*) — грамадзская арганізацыя, створаная ў 1925 г. Аднавіла сваю дзейнасьць пасьля Другой сусьветнай вайны на эміграцыі.

[492] СІС. № 18. Студзень 1950. — ***А. В.***

[493] **Бакнанг** (ням. *Backnang*) — горад у Нямеччыне каля Штутгарту, у зямлі Бадэн-Вюртэмбэрг, дзе беларускі ДП-лягер. Тут апынуліся пераважна прыхільнікі БЦР. Лягер праіснаваў да 1950 г., калі апошнія жыхары выехалі ў ЗША.

[494] СІС. № 15. 1949. — ***А. В.***

## *Скаўцкая Канфэрэнцыя ў Шляйсгайме. 3-ці Зъезд ЗБСЧ*

Камунікат Галоўнай кватэры ЗБСЧ

У днях 9—10 сакавіка 1949 г. адбылася ў ДП-лягеры Шляйсгайм, каля Мюнхэну, беларускай скаўцкая канфэрэнцыя, заданьнем якой мела быць вырашэньне канфлікту з разьвязанай адзінкай Ватэнштэт за зламаньне Скаўцкага права і варожыя выступленьні супраць Галоўнага кіраўніцтва, далей прыняцьце Статуту і рэгулямінаў, абмеркаваньне пляну працы на бягучы год і ўрэшце перавыбары Галоўнага кіраўніцтва. У канфэрэнцыі мелі прыняць удзел, згодна з агульна прынятымі скаўцкімі прынцыпамі і пастановай Аддзелу ДП БСІБ, толькі скаўцкія старэйшыя кіраўнікі зарэгістраваных групаў пры абсалютным выключэньні няскаўтаў і прадстаўнікоў ад палітычных партыяў. З боку Галоўнай кватэры ЗБСЧ усё было зроблена, каб забясьпечыць ход канфэрэнцыі ў духу гэтых пастановаў і знайсьці найбольш нэўтральнае месца для адхіленьня ўсякіх уплываў збоку. Дзеля гэтых меркаваньняў раней вызначаная канфэрэнцыя скаўцкіх кіраўнікоў у Віндзішбэргэрдорфе (11.1.1949) была Галоўнай кватэрай ЗБСЧ адкліканая[495].

## *Справаздача з 3-га Зъезду ЗБСЧ*

Першы дзень нарадаў.

Першы дзень нарадаў 9.3.г.г. распачаўся роўна ў 10 гадзін дня малітвай, якую на прапанову сп. Монэ сказаў а. Лапіцкі[496]. Адчыніў паседжаньне сп. Монэ, Падарожнічаючы Камісар для ДП-скаўтаў у Нямеччыне і Аўстрыі, кароткай уступнай прамовай, у якой паясьніў мэту, для якой канфэрэнцыя была склікана. Ён выразіў надзею, што мэта канфэрэнцыі — аб’яднаньне ўсіх скаўцкіх групаў пад адным скаўцкім Галоўным кіраўніцтвам будзе асягнена. Ролю пасярэдніка ў

[495] СІС. № 15. 1949. — ***А. В.***

[496] Маецца на ўвазе а. **Мікалай Лапіцкі** (1907—1976), рэлігійна-грамадзкі дзеяч, праваслаўны сьвятар, пэдагог. Закончыў тэалягічны факультэт Варшаўскага ўнівэрсытэту, абараніў магістарскую дысэртацыю “Праваслаўе ў ВКЛ у часы вялікага князя Ягайлы”. Працаваў у прыходах у Ашмянах, Стэфанпалі Дзісьненскага павету. Падчас нямецкай акупацыі жыў у Менску, быў актыўным прыхільнікам БАПЦ. Ад 1944 г. на эміграцыі. Настаяцель царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Рэгенсбургу — першай беларускай царквы на Захадзе. Выкладаў у Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. У 1950 г. выехаў у ЗША. Арганізаваў парафію Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры і быў яе настаяцелем у 1950—1976 гг. Рэдактар часопіса “Царкоўны Сьветач”. У 1960—1970-я гг. узначальваў ЗБАДК, браў удзел у кангрэсах беларусаў Амэрыкі, уваходзіў у кіраўнічыя структуры БККА.

паразумяваньні паміж спрачаючыміся бакамі ўзяў плк. Монэ на сябе і дзеля гэтага дзеяў на Зьезьдзе ў якасьці Старшыні паседжаньня.

На першы дзень прыбылі і бралі ўдзел у нарадах дэлегаты ад наступных беларускіх скаўцкіх адзінак з 3-х зонаў Нямеччыны: Эльвангэн, Фэрдэн, Гібэльштат, Глюксбург[497], Гановэр, Мэнхэнгоф, Мюнхэн, Міхэльсдорф, Остэргофэн, Шляйсгайм, Цюбінген[498], Віндзішбэргэрдорф, Ватэнштэт.

Апроч дэлегатаў, прыбыло шмат гасьцей ад старэйшага грамадзтва (сп. сп. Коўш, Сабалеўскі[499], У. Сенька[500], Я. Кіпель[501], Манькоў,

---

[497] **Глюксбург** (ням. *Glücksburg*) — горад на поўначы Нямеччыны, у зямлі Шлэзьвіг — Гальштэйн.

[498] **Цюбінген** (ням. *Tübingen*) — горад у паўднёва-заходняй Нямеччыне, у зямлі Бадэн-Вюртэмбэрг.

[499] Маецца на ўвазе **Юры Сабалеўскі** (1889—1957), грамадзкі дзеяч. У 1922—1926 гг. пасол польскага сейму, у 1924—1926 гг. сябра і адзін з кіраўнікоў БСРГ. Некалькі разоў арыштоўваўся польскімі ўладамі. Падчас нямецкай акупацыі займаў пасаду бурмістра Баранавічаў. Ад лета 1943 г. да студзеня 1944 г. старшыня Беларускай самапомачы. У студзені 1944 г. стаў віцэ-прэзыдэнтам БЦР. Ад лета 1944 г. на эміграцыі. Жыў у Нямеччыне, ЗША, ад 1955 г. зноў у Нямеччыне. Рэдагаваў газэту “Беларускае Слова”. Браў актыўны ўдзел у грамадзка-палітычным жыцьці. Быў актывістам БЦР.

[500] **Уладзімер Сенька** (1918—1997), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў гімназіі ў Стоўпцах і Віленскім унівэрсытэце. Быў сябрам Беларускага студэнцкага саюзу. Закончыў школы афіцэраў рэзэрву ў Замброве й быў прыпісаны да баранавіцкага палка пяхоты. У 1939—1941 гг. працаваў настаўнікам. Быў начальнікам паліцыі ў Стоўпцах. У 1944 г. выехаў у Нямеччыну. Працаваў з прафэсарам фон Мэндэ ў Службе досьледаў Усходняй Эўропы. Быў настаўнікам у Беларускай гімназіі лягеру Ватэнштэт, а пасьля яе дырэктарам і кіраўніком лягеру да канца яго існаваньня. Рэдагаваў часопіс “Жыве Беларусь!”, а пасьля выдаваў “Інфармацыйныя сшыткі” ў нямецкай мове аб палітычным і эканамічным жыцьці ў БССР. Служыў у Бундэсвэры. У рангу маёра выйшаў на пэнсію.

[501] **Яўхім Кіпель** (1898—1969), грамадзкі дзеяч, бацька Вітаўта Кіпеля. Паручнік царскай арміі, ваяваў на Румынскім і Паўднёвым франтах. У 1918—1921 гг. у Чырвонай арміі. Ад 1921 г. жыў у Менску, быў сябрам Тэрміналягічнай камісіі Наркамату асьветы, працаваў у Інстытуце беларускай культуры. Арыштаваны ў 1930 г. па справе “Саюзу вызваленьня Беларусі” й высланы на 5 гадоў у Вяцкую вобласьць, у 1935 г. арыштаваны паўторна і высланы на Далёкі Ўсход. У 1942 г. вярнуўся ў Менск, працаваў у Галоўным школьным інспэктараце, рэдакцыі газэты “Голас вёскі”, займаўся падрыхтоўкай падручнікаў. Старшыня Другога Ўсебеларускага кангрэсу. Ад лета 1944 г. на эміграцыі, спачатку ў Нямеччыне, потым у ЗША. Браў удзел у грамадзка-палітычным руху, уваходзіў у кіраўніцтва БЦР, рэдагаваў газэту “Беларускае Слова”, быў сябрам БККА. Стварыў Асацыяцыю былых палітвязьняў савецкіх лягераў.

Родзевіч[502], Кушаль і інш.).

Для разгляду разыходжаньняў паміж скаўцкімі групамі сп. Монэ прыступіў у наступны спосаб: ён хацеў напачатку зарыентавацца, як скаўцкія адзінкі падзяляюцца на праціўныя сабе лягеры... з боку непасрэдных кіраўнікоў скаўцкіх адзінак паступіла асьветчаньне, у якім выяснена, што ў самай скаўцкай моладзі няма нічога, што-б яе падзяліла, а ёсьць толькі шчырае жаданьне як найцясьней з сабою супрацоўнічаць і што дасюлешні падзел[503] быў штучны, унесены ў скаўцкую арганізацыю асобамі з асяродзьдзя старэйшага грамадзтва, якія імкнуліся ператварыць беларускі скаўтынг у экспазытуру сваіх партыйна-груповых органаў. Далей прадстаўнікі моладзі дамагаліся, каб старэйшых асоб, якія таксама прыбылі на Зьезд, пазбавіць усякага рашаючага голасу ў скаўцкіх справах, што мелі быць абгавораныя на Зьезьдзе, і каб іх пазбавіць наагул ўсялякай магчымасьці ўплыву на ход нарадаў Зьезду, паколькі большасьць з іх ужо раней выявіла сваё нежаданьне да якога колечы аб’яднаньня, і што іх удзел у Зьезьдзе быў бы ізноў перашкодай у асягненьні галоўнай мэты Зьезду... Для пэўнасьці Старшыня Зьезду зажадаў, каб тыя, хто падзяляе пагляды асьветчаньня Кіраўніка моладзі паднялі ўверх рукі. Падаўляючая колькасьць “за” зьдзівіла Старшыню і ад таго часу ўся справа была разгляданая ўжо ў новай плошчы.

Наступна разглядалася справа: хто з прыбыўшых на Зьезд дэлегатаў ад скаўцкіх адзінак мае права рашаючага голасу. На гэтым тле ўзьніклі паважныя разьбежнасьці... Сп. Пануцэвіч з прыхільнікамі (г. зн. дэлегатамі скаўцкіх адзінак з Остэргофэну, Маервіку і Мюнхэну) намагаўся пераканаць прысутных, што права рашаючага голасу могуць мець толькі прадстаўнікі адзінак, паданых ім у ДП-аддзел БСІБ да рэгістрацыі... Палк. Монэ не згадзіўся з поглядам сп. Пануцэвіча і задэцыдаваў аб прызнаньні права рашаючага голасу ўсім існуючым,

[502] Магчыма, маецца на ўвазе **Ўсевалад Родзевіч** (1916—1998), грамадзкі дзеяч. Нарадзіўся ў сям’і праваслаўнага вайсковага сьвятара. Вучыўся ў Гандлёвай акадэміі ў Львове. У 1939 г. быў мабілізаваны ў польскую армію, трапіў у палон. Пазьней утрымліваўся ў канцэнтрацыйным лягеры ў Трыры, адкуль здолеў вырвацца. У 1944 г. ад’ютант прэзыдэнта БЦР, лейтэнант БКА, удзельнік Другога Ўсебеларускага кангрэсу. Ад лета 1944 г. на эміграцыі. Спачатку быў у Нямеччыне, у Мюнхене. У 1949 г. выехаў у Аўстралію. Жыў у Сыднэі, дзе браў удзел у жыцьці беларускай дыяспары. Быў сябрам Беларускага аб’еднаньня ў Аўстраліі. Пазьней удзельнічаў у нацыянальных мерапрыемствах, ладжаных Беларускім культурна-грамадзкім клюбам.

[503] Падзел скаўтаў быў зьвязаны з падзелам уцекачоў-беларусаў наогул у 1947—1948 гг. на два лягеры: прыхільнікаў Рады БНР і прыхільнікаў БЦР.

хоць і незарэгістраваным адзінкам, апроч Ватэнштэту, права якога вырашалася пазьней...

Справа Ватэнштэту была вырашана галасаваньнем, у выніку якога дзевяцьцю галасамі супраць трох пастанова аб разьвязаньні ватэнштэцкай адзінкі была анулявана. Пасьля такога вырашэньня справы Ватэнштэту прадстаўнік бышага Галоўнага кіраўніцтва пачаў тлумачыць, што яны не маюць нічога супроць скаўтаў Ватэнштэцкага Сьцягу...

Наступна Зьезд прыступіў да выбараў Галоўнага кіраўніцтва. Перад выбарамі было загадана ўсім старэйшым (гасьцям) пакінуць салю. Госьці пакорна выканалі загад і на салі асталіся толькі прадстаўнікі ад адзінак, маючыя права рашаючага голасу. Быў дадзены некалькі мінутны перапынак для нарадаў. Перад прыступленьнем да галасаваньня на прапанову Монэ а. Лапіцкім была сказана малітва. Галасаваньне адбылося тайна. Удзел у выбарах бралі прадстаўнікі усіх 13 прысутных на Зьездзе дэлегатаў скаўцкіх адзінак. На Галоўнага кіраўніка быў выбраны сп. Ю. Сянькоўскі, на першага заступніка сп. М. Белямук, на другога заступніка сп. Р. Завістовіч, усе той самай колькасьцю галасоў (8 супраць, 5 паўстрымаўшыхся).

Старшыня Зьезду сп. Монэ, апавясьціўшы вынік галасаваньня, апавясьціў канец нарадаў першага дня. Далейшае вядзеньне Зьезду сп. Монэ даручыў нававыбранаму Галоўнаму кіраўніку сп. Ю. Сянькоўскаму, зажадаўшы пасьля заканчэньня працы Зьезду справаздачы.

На заканчэньне ўзяў слова сп. Ф. Кушаль, які, між іншым, горача прывітаў нававыбранае Галоўнае кіраўніцтва.

Другі дзень нарадаў.

Адкрыў паседжаньне новы Галоўны кіраўнік сп. Ю. Сянькоўскі.

Як і ў папярэднім дні, а. Лапіцкім была сказана малітва, пасьля чаго сьвятар заняў сваё старое месца дарадчыка Старшыні Зьезду...

Укладаньне парадку дня нарадаў было пярэрвана просьбай старэйшых гасьцей, каб ім дазволілі прывітаць Зьезд. Прывітальнае слова гасьцям было дазволенаю першы з прывітаньнем выступіў сп. Я. Кіпель. Наступна ўзяў слова сп. Пануцэвіч, які асьветчыў, што ён і ягоная група не пагаджаюцца са Зьездам, бо зьезд, па-іхняму, ня скаўцкі, а палітычны, партыйны да гэтага не дэмакратычны, і таму ён не прызнае яго абавязваючым і сваё дасюляшняе становішча Галоўнага кіраўніка захоўвае за сабою. Слова ў вадказ Пануцэвічу заняў сп. Коўш, які падкрэсьліў нізкасьць поступу сп. Пануцэвіча. У сувязі з асьветчаньнем сп. Пануцэвіча зрабіў паясьненьні Старшыня Зьезду Ю. Сянькоўскі, які заклікаў прадстаўнікоў не прыдаваць вялікай вагі асьветчаньню сп. Пануцэвіча... Сп. Пануцэвіч пакінуў салю паседжаньня...

Колькасьць удзельнікаў у галасаваньні зьменшылася да адзінаццаці ў сувязі з адсутнасьцю прадстаўнікоў ад Остэргофэну, Глюксбургу і Мюнхэну. Сьвежа прыбыўшаму прадстаўніку ад Міттэнвальду быў даны голас і ён прымаў удзел у галасаваньні. Закончыўшы выбары рэфэрэнтаў:

| | |
|---|---|
| Арганізацыйны .......... М. Сенько | Прапаганды ............. В. Кіпель, |
| Выхаваўчы ............ а. М. Лапіцкі | Гаспадарчы ................ Пілеса[504], |
| Сувязі.............. К. Вайцяхоўскі[505] | Рэф. Ваўчанят .......... Калоша[506], |

Пярэйдзена да прыняцьця рэзалюцыі Зьезду… яна была аднагалосна прынята.

Увечары адбылося вогнішча.

Шкада, што сп. Монэ не паклікаў сакратара канфэрэнцыі. Аўтэнтычны пратакол быў-бы цікавейшым дакумантам, чымся справаздача, зрэдагаваная ўжо толькі ў вадказ на справаздачу, зьмешчаную ў СІС № 15, бач. 2—3, у якой чытаем:

---

[504] Маецца на ўвазе **Уладзімер Пеляса** (1918—2004), грамадзкі дзеяч. Закончыў Віленскую беларускую гімназію. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у структурах БНС. Ад лета 1944 г. на эміграцыі. У Заходняй Нямеччыне браў удзел у грамадзкім жыцьці, беларускім скаўтынгу. У 1949 г. пераехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. Працаваў апэратарам машынаў у кампаніі “Атланта-Карпарэйшн”. Узначальваў Нью-Ёркскі аддзел ЗБАДК, уваходзіў ва ўрад БККА. Належаў да Амэрыканскіх прыхільнікаў БЦР і Амэрыканскіх прыхільнікаў АБН. Актывіст парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле. У 1950-я гг. заснаваў выдавецтва, у якім выдрукаваў за ўласны кошт некалькі кніг беларускіх пісьменьнікаўэмігрантаў.

[505] **Кастусь Вайцяхоўскі** (на эміграцыі **Кон Ворт**, нар. 1926), грамадзкі дзеяч. Сын сьвятара Ксэнафонта Вайцяхоўскага. У 1942 г. паступіў у Баранавіцкі дарожна-будаўнічы тэхнікум, затым вучыўся ў настаўніцкай сэмінарыі ў Нясьвіжы. Быў сябрам СБМ. У 1944 г. выехаў у Нямеччыну. Закончыў Беларускую гімназію імя Я. Купалы. У 1949 г. пераехаў у ЗША. Там прызваны ў войска, служыў у вайсковай выведцы ў Карэі. Закончыў Ратгерскі ўнівэрсытэт. Сябра Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі. Жыве ў Каліфорніі.

[506] Відаць, маецца на ўвазе **Кастусь Калоша** (1924—2004), грамадзкі дзеяч. Закончыў бухгальтарскія курсы ў Баранавічах (1942), там жа гандлёва-адміністрацыйную школу (1944). Належаў да СБМ. Выехаў у Нямеччыну. У 1950 г. выправіўся ў ЗША. Закончыў Унівэрсытэт штату Мічыган (1955) па спэцыяльнасьці інжынэра-будаўніка. Сябра БАЗА і царкоўнай рады парафіі Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ у Кліўлэндзе. Адзін з заснавальнікаў і стваральнікаў Беларуска-Амэрыканскага грамадзкага цэнтру “Полацак”. Заснавальнік выдавецкай суполкі “Пагоня”.

*"...Канфэрэнцыя такім чынам ня толькі не ліквідавала Ватэнштэцкага канфлікту, але прывяла да разьбіцьця ЗБСЧ на дзьве часткі. На адну, якая стаіць на становішчы Галоўнага кіраўніцтва, і на другую, якая раней знаходзілася пад уплывам або беспасрэдным кіраўніцтвам успомненых палітычных партыяў (Міхэльсдорф, Ватэнштэт, Гановэр, Манлёйз). Гэтыя апошнія адзінкі на Канфэрэнцыі выбралі свайго Кіраўніка, які на працягу 2-х месяцаў мае быць лучнікам пры ДП-аддзеле БСІБ. Становішча гэта яны імкнуцца выкарыстаць, каб апанаваць усе адзінкі ЗБСЧ і падпарадкаваць "ад гок" створанаму свайму Кіраўніцтву з самай моладзі"...*

*У выніку гэтай сытуацыі сп. Монэ 13 сакавіка 1949 г. прыслаў у новую Галоўную кватэру ліст наступнага зьместу:*

*13.III.1949 г.*

*Да ўсіх скаўтмайстраў беларускіх скаўцкіх групаў ДП*

*Дарагія скаўтэры!*

*Як рэзультат 3-й Канфэрэнцыі беларускіх скаўтмайстраў, адбытай пад маім кіраўніцтвам у ДП-лягеры Шляйсгайм каля Мюнхэну, я маю радасьць паінфармаваць Вас, што новым шэфам для беларускіх ДП-скаўтаў у Нямеччыне і Аўстрыі ёсьць сп. Ю. Сенькоўскі, пражываючы ў ДП-лягеры "АБЦ" (20) Імэндорф бай Браўншвайг.*

*Гэтае назначэньне было прынятае і таму ня можа быць ніякіх пытаньняў, што да жаданьняў беларускіх скаўтаў адносна гэтай справы. Дайшло, аднак, да майго ведама, што папярэдні шэф беларускіх скаўтэраў мае прэтэнсыі да гэтага становішча.*

*Гэты ліст мае выясьніць, што Скаўцкае Інтэрнацыянальнае Бюро, праз свой ДП-Аддзел, будзе прызнаваць толькі сп. Ю. Сенькоўскага за Шэфа скаўтаў і даваць яму кажную дапамогу, якую ён патрабуе пры выкананьні сваіх абавязкаў у такі самы спосаб, як мы падтрымоўвалі і падтрымоўваем усіх свабодна выбраных рэпрэзэнтантаў ДП-скаўтаў, зарэгістраваных у ДП-аддзеле Скаўцкага Інтэрнацыянальнага Бюра.*

*Ваш аданы Й. Р. Монэ*
*Падарожнічаючы Камісар для ДП-скаўтаў*
*у Нямеччыне і Аўстрыі*[507].

Заўвага: Пачынаючы ад № 16 СІС выходзіла падвойна. Выдавала яго па-старому Галоўнае кіраўніцтва, выбранае на 2-м Скаўцкім Зьезд-

[507] СІС. №16. Красавік 1949. — ***А. В.***

зе ды прызнаванае і цяпер скаўцкімі адзінкамі, што лічылі Канфэрэнцыю ў Шляйгайме неправамоцнай, і выдала яе Галоўнае Кіраўніцтва, выбранае ў Шляйсгайме. Гэта апошняе выдавала сваю СІС пад такім самым ад рукі скапіяваным загаловачным штампам, прычым першы свой нумар адзначыла толькі агульнай датай “Сакавік 1949”, не падаючы ніякага чарговага нумару, а пачынаючы ад красавіка далучылася да нумарацыі, ведзенай сп. Пануцэвічам”.

## Розэнгайм

Горад Розэнгайм знаходзіцца на беразе ракі Інн[508], пры чыгуначнай лініі Мюнхэн-Зальцбург[509], у Баварыі. На краю гораду, у мураваных двухпавярховых “Піянэр-казармах” быў Беларускі ДП-лягер. Сюды былі прывезены беларусы з лягераў Віндзішбэргэрдорф, Остэргофэн, Альтэнштат і Шляйсгайм. Разам і з жыхарамі былі прывезеныя і скаўцкія адзінкі, якія тут злучыліся і ўтварылі 6-ты Сьцяг ЗБСЧ.

Ад 27 ліпеня да 7 жніўня Галоўная кватэра правяла ў Розэнгайме спэцыяльны курс для Старэйшых скаўтаў (ровэр-скаўтаў) дзеля падрыхтоўкі старэйшай моладзі да самастойнай працы па-за межамі Нямеччыны. Курсы праслухала 15 чалавек.

Нашыя скаўты з лягеру Куфштайн у Аўстрыі, вяртаючыся з летняга лягеру ў Ройтэ[510], даведаліся, што Розэнгаймскія беларускія скаўты знаходзяцца ў лягеры ІМКА каля аўстрыяцкай мяжы, не маглі прапусьціць гэтай нагоды, каб не сустрэцца са сваімі братамі. Хутка атрымалі пропуск у Нямеччыну і наведалі гэты лягер, а потым Розэнгайм, дзе мелі магчымасьць пабываць у беларускім большым асяродзьдзі. Былі яны ў лягерным тэатры, пазнаёміліся з моладзьдзю, атрымалі скаўцкія лілейкі і адзнакі.

Поўныя энтузіязму, вярнуўшыся, так пісалі: *“Мы цяпер утрох, але трымаем наш нацыянальны сьцяг моцна ў сваіх руках і ня змогуць яго вырваць ворагі. Праводзім дыскусіі сярод чужынцаў, асабліва з расейцамі, якія стаяць за “едіную і неделімую”. У прошлую нядзелю да нас далучыліся ўкраінцы і мы атрымалі перамогу, у выніку чаго расейцы, ня маючы ніякіх аргумэнтаў, прымушаны былі пакінуць дыскусію, называючы нас “самастыйнікамі”. Мы ведаем, што гэткім спосабам мы выпаўняем свой абавязак перад сваёй Бацькаўшчынай і будзем за яе ўсюды змагацца, каб ня сьмелі яе*

[508] **Ін** (ням. *Inn*) — рака, якая пачынаецца ў Швайцарыі, працякае па Аўстрыі і ў Нямеччыне ўпадае ў Дунай.

[509] **Зальцбург** (ням. *Salzburg*) — горад у Заходняй Аўстрыі, сталіца зямлі Зальцбург.

[510] **Ройтэ** (ням. *Reuthe*) — мястэчка ў Аўстрыі, у зямлі Тыроль.

*паніжаць усякія ворагі*"[511].

У лягеры Розэнгайм скаўты зарганізавалі вялікую бібліятэку для жыхароў лягеру, якая налічвае каля 1000 кніжак. Зацікаўленасьць кніжкамі ў жыхароў даволі вялікая. Прыклад Розэнгаймскіх скаўтаў павінны пераняць і іншыя асяродкі[512].

У рамах Калядных сьвяткаваньняў адбылася ў Беларускім ДП-лягеры Розэнгайм урачыстасьць злажэньня прысягі новазарганізаванай грамады Ваўчанятаў, правадніком якой зьяўляецца ведамы ў нашым руху скаўтмайстар Пётра Манькоўскі[513].[514]

12 ліпеня 1949 г. наша каманда выяжджала ў Міттэнвальд на Міжнароднае спартовае спаборніцтва ІРО Акруга 6. У спаборніцтве прымала ўдзел 12 народаў. Наша каманда мела добрыя вынікі.

У лістападзе 1949 г. Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Розэнгайме адзначала вялікую ўрачыстасьць 5-га выпуску матурыстых, старэйшых сяброў ЗБСЧ. Ня гледзячы на прысьпешаныя тэмпы працы, узровень ведаў нашых матурыстых быў добры. Пажадаем новым абсальвэнтам найлепшых посьпехаў у іхняй далейшай працы на вышэйшых навучальных установах на карысьць нашага Народу.

Ува ўсіх мясцовасьцях беларускай эміграцыі 29-я ўгодкі Слуцкага Паўстаньня адзначаліся ўрачыстымі зборкамі, малебнамі і Акадэміямі. Асабліва ўрачыста былі праведзены ўгодкі ў Розэнгайме з актыўным удзелам скаўцкай моладзі. Прамовай, апэлем загінуўшых за незалежнасьць Бацькаўшчыны і адсьпяваньнем жалобнага маршу скаўты аддалі пашану тым, што "*пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына*", вечарам у Народным доме адбылася Жалобная Акадэмія з рэфэратам, скаўцкай мастацкай часткай.

З нагоды Слуцкай гадавіны група беларускіх скаўтаў з Фэрдэна[515] наведала беларусаў у мяшаным ДП-лягеры Фішбэк[516], каля Гамбургу, дзе разам з мясцовай беларускай моладзьдзю адзначылі ўгодкі.

---

[511] СІС. № 17. Верасень 1949. — ***А. В.***

[512] СІС. № 17. Верасень 1949. — ***А. В.***

[513] **Пётра Манькоўскі** (1916—2002), грамадзкі дзеяч, публіцыст. Вывучаў юрыспрудэнцыю ва ўнівэрсытэтах Вільні, Мюнхену, Нью-Ёрку. Ачольваў Беларускую студэнцкую асацыяцыю ў ЗША. У 1980—1990-я гг. быў скарбнікам Кансысторыі БАПЦ. Пасьля Міхася Міцкевіча рэдагаваў часапіс "Голас царквы". Хварэў на манію перасьледу. Жыў адзін, у 1990-я гг. быў накіраваны на прымусовае лячэньне і догляд у дом для старых у *Wayne, NJ,* дзе і памёр.

[514] СІС. № 18. 1949. — ***А. В.***

[515] **Фэрдэн**, таксама **Вердэн** (ням. *Verden*) — горад у паўночна-заходняй Нямеччыне, у зямлі Ніжняя Саксонія.

[516] **Фішбэк** (ням. *Fischbeck*) — мястэчка ў паўночна-ўсходняй Нямеччыне, у зямлі Саксонія-Анхальт.

## *Высьвячэньне япіскапа беларускай праваслаўнай аутакефальнай царквы*

У днях 18 і 19 сьнежня 1949 г. праваслаўныя вернікі, а з імі і ўсё беларускае жыхарства лягеру ў Розэнгайме перажывалі вялікія дні ўрачыстасьцяў высьвячэньня а. іераманаха Ўладзімера Тамашчыка[517] на япіскапа БАПЦ да Заснаваньня Сьвяшчэннага Сабору Япіскапаў БАПЦ. Высьвечаны Прэасьвяшчэннейшы япіскап Васіль ёсьць актыўным сябрам ЗБСЧ і дастойным духоўным апекуном нашай праваслаўнай моладзі. Жадаем яму вялікіх посьпехаў у душпастырскай працы, здароўя і сілаў на пасадзе Ўладыкі[518].

## Штандар “Вюртэмбэргія”

## Бакнанг

У чэрвені 1949 г. жыхары лягеру Міхэльсдорф, а разам з імі і скаўты былі перавезены ў ДП-лягер у г. Бакнанг, на поўнач ад Штутгарту, у Вюртэмбергіі. Сюды былі прывезены таксама беларускія жыхары й скаўты з Гібэльштату, якія яшчэ раней жылі ў Майнлёйз, а да лета 1947 г. у Гэррэнбэргу.

---

[517] **Васіль** (сьвецкае **Ўладзімер Тамашчык,** 1900—1970), рэлігійна-грамадзкі дзеяч, архіяпіскап БАПЦ. Паходзіў з заможнай сялянскай сям’і. У 1913 г. сям’я перабралася на новаанабытую гаспадарку ў маёнтку Дубляны каля м. Вялікая Бераставіца. Вучыўся ў Вялікіх Азяранах, у Гародні. У 1915 г. разам зь сям’ёю як бежанец трапіў у Омск (Сыбір), дзе закончыў сярэднюю школу. У 1921 г. сям’я вярнулася ў Дубляны. Ад гэтага часу далучыўся да беларускага руху, належаў да КПЗБ. У 1927 г. быў арыштаваны польскімі ўладамі й асуджаны на тры гады турмы. Ад 1930 г. жыў у Чэхаславаччыне. Закончыў агранамічны факультэт Пражскай політэхнікі, працаваў асыстэнтам у Праскім інстытуце заалёгіі. Браў удзел у грамадзкім беларускім жыцьці. Некторы час быў сакратаром старшыні рады БНР Васіля Захаркі. З пачаткам Другой сусьветнай вайны пераехаў у Беласток. Быў намеснікам рэдактара газэты “Новая Дарога”, працаваў у Беларускім камітэце. Ад 1944 г. на эміграцыі. Быў абраны старшынём Беларускага цэнтральнага камітэту — галоўнай арганізацыі беларусаў у Нямеччыне ў 1945—1947 гг. У 1948 г. пастрыгся ў манахі зь імем Васіль, а ў 1949 г. вышэйшымі іерархамі Ўкраінскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы ўзьведзены ў сан япіскапа Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. У 1951 г. закончыў Украінскую багаслоўскую акадэмію з дыплёмам магістра багаслоўя. У 1951 г. пераехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. Узначальваў епіскапат БАПЦ у Паўночнай Амэрыцы. Браў актыўны ўдзел у беларускім грамадзкім жыцьці ў ЗША. Узначальваў БІНіМ (1951). Забіты невядомымі ў сваёй кватэры ў Нью-Ёрку.

[518] СІС (Пануцэвіча). № 18. 1959. — ***А. В.***

На новым месцы скаўты атрымалі пакой, уладзілі ў ім скаўцкую сьвятліцу, у якой стала вялі свае заняткі.

5 чэрвеня 1949 г. у Бакнангу былі наладжаны скаўцкія спаборніцтвы, у якіх прымалі ўдзел і скаўты іншых нацыянальнасьцяў, як: армяне, палякі і ўкраінцы. У праграму спаборніцтваў уваходзіў паход з перашкодамі, валейбол і футбол. Пасьля спаборніцтваў адбылося вогнішча, пры якім выхаваўчы рэфэрэнт ЗБСЧ зьвярнуўся да скаўтаў з прамовай, у якой заклікаў моладзь старацца перамагаць жыцьцёвыя перашкоды, нясьці ў сэрцах веру і надзею, што прыйдзе час, калі мы ўсе вернемся на родныя прасторы і там распалім свае вогнішчы.

Пачас вогнішча адбылася раздача даплёмаў за першыя месцы, здабытыя ў спаборніцтвах. Пасьля вогнішча адбылася скаўцкая вечарына, у якой прымалі ўдзел усе прысутныя скаўты.

11 чэрвеня 1949 г. адбылося спаборніцтва з немцамі ў футбол з вынікам 5:2 у карысьць беларускіх скаўтаў.

26 чэрвеня 1949 г. адбыліся спартовыя спаборніцтвы з немцамі ў футбол і валейбол. І на гэты раз перамога была за беларускімі скаўтамі.

Ад 1 да 15 ліпеня 1949 г. скаўткі ў ліку 25 асобаў адбывалі летні лягер ІВКА ў Прыне[519].

Ад 1 да 15 жніўня 1949 г. таксама ў Прыне 24 нашых скаўтаў адбылі лягер ІМКА. У першым тыдні быў наладжаны Беларускім хорам з Бакнангу канцэрт, які карыстаўся вялікім посьпехам. У другім тыдні было адслужана набажэнства, на якім прысутнічала каля 100 асобаў.

У днях ад 15 да 17 кастрычніка 1949 г. у Беларускім лягеры Бакнанг скаўты і скаўткі мясцовых сьцягоў зладзілі скаўцкае спатканьне, на якое запрасілі беларускіх скаўтаў з Ватэнштэту і Розэнгайму ды суседніх украінцаў, палякаў і армянаў.

У праграму спатканьня ўвайшлі: скаўцкі марш, а вечарам вогнішча ды пасьля яго канцэрт, зладжаны ў лягернай тэатральнай залі з удзелам скаўтаў і скаўтак з Бакнангу.

Пасьля канцэрту скаўцкая вечарына. Спатканьне праходзіла ў сяброўскай атмасфэры і пакінула прыемныя ўспаміны ў удзельнікаў[520].

Спатканьне 4-х угодкаў ЗБСЧ з найбольшым размахам зладзілі скаўты ў Бакнангу і Ватэнштэце[521].

---

[519] Маецца на ўвазе **Прын-ам-Хімзі** (ням. *Prien am Chiemsee*) — мястэчка ў Нямеччыне, у зямлі Баварыя на возеры Хімзі.

[520] СІС (Сянькоўскага) № 18. Студзень 1950. — ***А. В.***

[521] СІС (Сянькоўскага) № 18. Студзень 1950. — ***А. В.***

# АНГЕЛЬСКАЯ ЗОНА АКУПАЦЫІ НЯМЕЧЧЫНЫ

## *Міжнародная канфэрэнцыя скаўцкіх кіраўнікоў у Горнэбургу*[522]

Ад 21 да 24 студзеня 1949 г. адбылася Міжнародная канфэрэнцыя скаўцкіх кіраўнікоў (скаўтэраў) з Брытанскай зоны Нямеччыны ў Горнэбургу, каля Гамбургу. На Канфэрэнцыі прысутнічалі скаўтмайстры ад 7-мі нацыянальнасьцяў, у тым ліку і наша дэлегацыя, гэтым разам найбольш колькасная, бо аж 13 чалавек.

На Канфэрэнцыі былі праслуханыя кароткія справаздачы аб гісторыі і дзейнасьці паасобных нацыянальных скаўцкіх арганізацыяў і цэлы рад рэфэратаў:

“Месца ДП-скаўтынгу ў сям’і сусьветнай скаўцкай моладзі”,

“Супрацоўніцтва паміж скаўцкімі арганізацыямі”,

“Плян працы на 1949 год”.

На тэму рэфэратаў і корэфэратаў разгарнулася шырокая і актыўная дыскусія, якая прынясла шмат новых і карысных думак, зьмешчаных у канцовай рэзалюцыі. Разам з нашай дэлегацыяй на канфэрэнцыі быў Шэф ЗБСЧ, які выступаў са справаздачай аб ЗБСЧ і з рэфэратам “Плян працы на 1949 год”. Нарады вяліся ў нямецкай мове.

Кажны вечар ладзілася скаўцкае вогнішча, поўнае вясёласьці і тэмпэрамэнту. Нацыянальныя песьні, гульні, паказы й сьмех былі іх зьместам. На заканчэньне было зроблена шмат здымкаў. Канфэрэнцыя пакінула як найлепшае ўражаньне на ўсіх удзельнікаў, была вялікім укладам у скаўцкай працы.

### Ватэнштэт

## *Сьвяткаваньне ўгодкаў Слуцкага Паўстаньня*

У апошніх днях лістапада 1949 г. усе адзінкі беларускіх скаўтаў урачыста адзначалі 29-я ўгодкі Слуцкага Паўстаньня. Скаўты і скаўткі з Ватэнштэцкіх Сьцягоў сьвяткаваньне распачалі вечарам напярэдадні вялікай гадавіны вогнішчам, прысьвечаным памяці герояў Слуцкага Паўстаньня. Прамовай, адчытаньнем ведамых імёнаў загінуўшых у змаганьні за незалежнасьць Бацькаўшчыны, адсьпяваньнем жалобнага маршу скаўты аддавалі заслужаную пашану тым, што пайшлі паміраць, каб жыла Беларусь.

---

[522] **Горнэбург** (ням. *Horneburg*) — камуна на поўначы Нямеччыны, у зямлі Ніжняя Саксонія.

У дзень гадавіны быў падняты нацыянальны сьцяг. Скаўты са сьцягамі прынялі ўдзел у паніхідзе ў лягернай цэркві. Вечарам у Народным Доме адбылася зладжаная скаўтамі і скаўткамі Акадэмія. Пасьля рэфэрату скаўты прадэманстравалі адпаведныя гадавіне паказы.

З нагоды угодкаў Слуцкага Паўстаньня, група беларускіх скаўтаў з Фэрдэна наведала беларусаў, пражываючых у мяшаным лягеры Фішбэк, каля Гамбурга, дзе супольна з мясцовай беларускай моладзьдзю зладзілі сьвяткаваньне[523].

Ува ўсіх асяродках беларускай эміграцыі 29-я ўгодкі Слуцкага Паўстаньня адзначаліся ўрачыстымі зборкамі, паніхідамі і Акадэміямі. Асабліва ўрачыста праведзены былі ўгодкі ў Розэнгайме, Міттэнвальдзе, Бакнангу, Шляйсгайме, Парыжу, Торонто, Лондане і Лювэне. Сьвяткаваньне адбылося ў розныя дні сьнежня 1949 г. у залежнасьці ад мясцовых умоваў.

У Парыжы 4 сьнежня 1949 г. у памешканьні Хрысьціянскага сындыкату адбылася акадэмія, на якой удзельнікі гэтага Паўстаньня і скаўцкі кіраўнік з Рыд (Аўстрыя) зрабіў кароткі і зьмястоўны даклад аб гісторыі паўстаньня.

## *Заснаваньне Першай Дружыны Беларускіх Марскіх Скаўтаў*

29 лістапада 1949 г. пры 1-м Сьцягу “Ватэнштэт” заснавалася першая ў гісторыі беларускага скаўтынку дружына марскіх скаўтаў. Дружына інтэнсыўна разгортвае сваю працу. Выпрацоўвае свае традыцыі. Мае сваю сьвятліцу. Выдае свой часапіс — “Нашыя ветразі”[524]. Нядаўна атрымалі з Аддзелу БСІБ скаўцкую марскую ўніформу[525].

*Згуртаваньне Беларускіх Скаўтаў на Чужыне*
*Штандар “ГАРЦ” 1-шы Сьцяг Ватэнштэт”*

*Ватэнштэт 29.11.1949 г.*

*Загад № 235.*

*З сяньняшнім днём зацьвярджаю пры 1-м Сьцягу “Ватэнштэт” новасфармаваную дружыну марскіх скаўтаў “Пірат” у складзе на-*

[523] СІС (Сянькоўскага). № 18. 1950. — ***А. В.***

[524] **“Нашыя ветразі”** – часопіс беларускіх марскіх скаўтаў, дружыны “Пірат”. Выйшаў толькі адзін нумар у сьнежні 1949 г.

[525] СІС (Сянькоўскага). № 18. 1950. — ***А. В.***

*ступных сяброў: Шнэк Уладзімер[526], 2) Шнэк Алег[527], 3) Ражановіч Анатоль, 4) Калесьніковіч Мікола[528], 5) Гарачка Арсень, 6) Міравовіч*

---

526 **Уладзімір Шнэк** (псэўд. **Случанскі**, 1927—1995), пісьменьнік, грамадзкі й вайсковы дзеяч, сын Сьцяпана Шнэка, брат Алега Шнэка. Вучыўся ў Менскай афіцэрскай школе БКА. Па сканчэньні Другой сусьветнай вайны апынуўся ў лягерах ДП у Нямеччыне. У Ватэнштэце вучыўся ў Беларускай гімназіі й актыўна ўдзельнічаў у скаўтынгу, надрукаваў першае апавяданне ў лягерным часопісе пад псэўданімам Уладзімер Случанскі. У 1950 г. выехаў у Аўстралію. У 1958—1961 гг. завочна вучыўся ў Мастацкім інстытуце ў Мэльбурне, сябра Згуртаваньня мастакоў у Вікторыі. У 1969—1972 гг. закончыў Каралеўскі інстытут тэхналёгіі ў Мэльбурне з дыплёмам мэханічнага чарцёжніка. Хутка па прыезьдзе ў Аўстралію далучыўся да беларускай грамады ў Мэльбурне, стаў сябрам аддзелу Беларускага аб'яднаньня ў Вікторыі, узначаліў скаўцкі Зьвяз "Усяслаў Чарадзей". Шмат займаўся літаратурнай дзейнасьцю, выдрукаваў у 1958—1960 гг. гістарычную аповесьць "Драбы", а таксама ўласным коштам выдаў паэму Лявона Случаніна "Рагнеда". Сябра Беларускага вызвольнага фронту, займаў розныя пасады ў гэтай арганізацыі ў Аўстраліі. Выдаваў часопіс "На варце" як орган Краёвага штабу БВФ і гумарыстычны дадатак "Ёрш". Ад 1982 г. у рангу маёра БКА стаў кіраўніком Краёвага штабу БВФ, а ў 1986 г. ужо як палкоўнік вызначаны заступнікам начальніка Галоўнага штабу БВФ. Падрыхтаваў і выдаў альбом "Беларуская краёвая абарона" (1984). Удзельнічаў у канфэрэнцыях Сусьветнай антыкамуністычнай лігі ў Тайпэі (1987, 1989), 10-м Пленуме БЦР (1988). Ад 1990 г. сакратар управы БЦК у Вікторыі. Удзельнік Першага зьезду беларусаў сьвету ў Менску.

527 **Алег Шнэк** (1930—2005), грамадзкі дзеяч, брат Уладзімера Шнэка. Нарадзіўся ў Ленінградзе ў сям'і беларускага вайскоўца Сьцяпана Шнэка. Разам з бацькамі колькі часу жыў у Чыце, а ў 1939 г. прыехаў у Слуцк. У часе вайны быў дружыновым СБМ. Летам 1944 г. разам зь сям'ёй апынуўся ў Нямеччыне. У беларускім лягеры Ватэнштэт удзельнік Першага сьцягу беларускіх скаўтаў і Беларускага спартовага аб'еднаньня пры YMCA. Ад 1950 г. у Аўстраліі. У Мэльбурне далучыўся да беларускага скаўцкага Зьвязу "Ўсяслаў Чарадзей". Быў сакратаром Спартовага клюбу БВФ "Зубр". Актыўны сябра Беларускага вызвольнага руху (Фронту), дзе ад 1992 г. быў начальнікам Краёвага штабу, а ад 1993 г. – і ўсяго БВФ. Сябра Беларускага Цэнтральнага Камітэту ў Вікторыі, старшынём якога абраны ў 2003 г. Доўгагадовы заступнік старшыні Фэдэральнай Рады беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі, дэлегатам якой быў на Першым зьезьдзе беларусаў сьвету ў Менску ў 1993 г.

528 **Мікола Калесьніковіч** (**Колес**, нар. 1932), грамадзкі дзеяч, малодшы брат Уладзімера Калесьніковіча. У 1946—1947 гг. вучыўся ў польскай школе лягеру Маервік блізу Фленсбургу, пасьля чаго ўся сям'я перабралася ў беларускі лягер Ватэнштэт, дзе закончыў чатыры клясы Беларускай гімназіі. У 1950 г. пераехаў у Аўстралію. У 1987—1999 гг. узначальваў Беларускае аб'еднаньне ў Паўднёвай Аўстраліі. У часе яго кіраўніцтва была адчыненая беларуская экспазыцыя ў Этнічным музэі ў Адэляйдзе, а таксама пабудаваны сумесна з харватамі й украінцамі хастэль Сьвятой

*Сяргей, 7) Троіцкі Міхась, 8) Навумчык Сьцяпан[529], 9) Дашкевіч Станіслаў.*

*Камандзерам дружыны Пірат назначаю сябру Шнэка Уладзімера.*

*Загад № 236.*

*З сяньняшнім днём зацьвярджаю наступныя адзнакі марскіх скаўтаў дружыны Пірат:*

*1) Сьцяг: колер чорны, з аднаго боку пірацкі татом, з другога — лілія.*

*2) Уніформа: цёмна-сіняя, нагавіцы марскога крою, блюза, бэрэт.*

*3) Адзнакі: на бэрэце лілія, ззаду дзьве чорныя ленты; чорная хустка (гальштук) з белай акантоўкай; белы шнур праз шыю ў абедзьве кішэні, таксама як і хустка; над правай кішэняй нацыянальны сьцяжок; на левым рукаве зьверху надпіс "Пірат", над ім эмблема марскога скаўтынгу.*

*4) Адзнакі функцыяў: заступнік дружыновага — адна белая стужка навакол ніжняй часткі абодвых рукавоў; дружыновы — дзьве такія стужкі.*

*Кіраўнік 1-га Сьцягу Ватэнштэт СКМ. М. Ігнатовіч[530].*

Ганны (дом для састарэлых).

529 **Сьцяпан Навумчык** (1933—2006), грамадзкі дзеяч. З 1944 г. у Нямеччыне з бацькамі. З 1950 г. у ЗША.
Служыў у амэрыканскай арміі ў Нямеччыне. Жыў у Саўт-Рывэры. Браў удзел у жыцьці парафіі Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры, у 1980-я гг. належаў да рады БККА.

530 **Міхаіл Ігнатовіч** (?—?), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў Празе. У Нямеччыне быў камэндантам лягеру ў Міхэльдорфе. У 1946 г. уваходзіў у склад управы Беларускага праваслаўнага аб'яднаньня на чале з а. М. Лапіцкім. У 1947 г. стаў на чале міжлягернай Рады ў амэрыканскай зоне акупацыі Нямеччыны. У 1948 г. пераехаў у ЗША. Быў адным з заснавальнікаў Злучанага беларуска-амэрыканскага дапамаговага камітэту. Заснаваў разам зь беларусам Вішнеўскім фабрыку вырабу вокнаў — *IgWis*. Памёр ад раку.

## *Песьня Марскіх Скаўтаў*

Сл. і муз.
П. Звонны[531]

Кладзе пазалоту на ветразях сонца,
Калыша віхор на бакі.
Кругом нас бурлівае мора бясконца:
“Чакайце! Куды юнакі?!”
Калышуцца ветразі, бельлю ірдзяцца,
На маштах усходу агонь,
На хвалях крыклівыя мэвы садзяцца:
“За кім вы пайшлі у здагон?!”

Прыпеў: Нас штормам не разьбіць,
Нас бурай не спыніць,
Нас горам не зламаць
І ветрам не стрымаць.
Дружыньнікі, гэй! гэй!
Зважай! Прыбі! Ня стой!
І у-ха-ха! і гэй! гэй! гэй!
Агой! Агой! Агой! (2 разы).

Стагодзьдзі прайшлі, а Балтыцкае мора
На хвалях ня бачыла нас.
Мы верым, што Заўтрам заменіцца Учора,
Што хутка ўжо прыйдзе той час.
Такіх шмат, як кажуць, як быццам ніколі
Ня мець нам да мора дарог,
Ды заўтра надходзіць — мы скажам, — даволі!
І хвалі заб’юцца ля ног.

Прыпеў: Нас штормам не разьбіць...

## *Нашыя “Ветразі”*

*Ад рэдакцыі.*

*Выпушчаючы ў сьвет першы нумар нашага часапісу “Нашыя Ветразі”, мы лічым патрэбным паясьніць нашым паважаным чытачом некаторыя пытаньні адносна марскога скаўтынгу.*

*Аб тым, што ён існуе амаль у кожнай краіне, дзе наагул існуе скаўтынг, — мы гаварыць ня будзем. Аднак думаем, што знайдуц-*

[531] **Пятро Звонны** (сапр. **Пётр Нядзьвецкі**, 1918—2000), грамадзкі дзеяч. Быў намесьнікам кіраўніка СБМ у Вялейцы, настаўнікам сьпеваў у альбяртынскай краёвай школе СБМ. У 1944 г. выехаў у Нямеччыну. Працаваў у лягеры Дэсаў. Па сканчэньні вайны жыў у беларускім лягеры Ватэнштэт, дзе кіраваў мужчынскім хорам. Пры канцы 1940-х гг. выехаў у ЗША.

*ца людзі, якія захочуць спытацца: “Навошта нам марскі скаўтынг, калі мы мора ня маем?” Маем, ня маем, гэта пытаньне будучыні. Ды быць марскім скаўтам, гэта ня значыць, што мы павінны абавязкава плаваць на моры. Вады на Беларусі хапае і мы можам тварыць свае рэчныя флатыліі на рэках — Дзьвіне, Нёмане, Прыпяці ці Дняпры.*

*Сёньня, напрыклад, чэскі скаўтынг, які ў заходніх зонах Нямеччыны існуе толькі некалькі месяцаў, складаецца пераважна з адзінак марскіх скаўтаў. А мора яны, аднак, ня мелі і ня маюць. Вышкаленьне скаўтаў у марскім або рэчным напрамку амаль нічым ня розьніцца.*

*Сянняшняя нашая дружына марскіх скаўтаў пры 1-м Сьцягу “Ватэнштэт” (зарэгістраваная пры Інтэрнацыянальным Бюры) складаецца пераважна са скаўтаў-дружыньнікаў (скаўт-дружыньнік, “Ровэр скаўт” — гэта ёсьць старэйшы скаўт, якога пасьля адпаведнай падрыхтоўскі дапушчаецца да ўрачыстай прысягі. Яго далейшы шлях мае характар чыста нацыянальнай працы. Ён ідзе гэтым шляхом сам, без кіраўнкіа і нясе ў жыцьцё скаўцкія ідэалы).*

*Вось-жа нашыя дружыньнікі, жадаючы, пакольківёсьць яшчэ магчымасьць працаваць групова, пастанавілі вучыцца ў марскім напрамку, закладаючы гэтым самым першую ў гісторыі беларускага скаўтынгу марскую дружыну, якую назвалі дружынай “Пірат”. Магчыма, да нашага назову, які мы выбралі, будуць некаторыя засьцярогі, аднак мы яго выбіралі сьведама.*

*Піратамі былі людзі са своеасаблівай ідэяй, гэта праўда, але гэта былі людзі моцныя характарам і воляй, людзі, якіх спайвала сяброўства, людзі перадусім адважныя. Не адзін прыгожы чын такіх людзей запісаны ў гісторыі некаторых народаў.*

*Бяручы пад увагу вось гэтыя рысы, характэрныя такім людзям, мы і выбралі гэты сабе назоў.*

*Быць піратамі ў моры сёньняшняй эміграцыі, стаяць на вахце нашай бел-чырвона-белай бандэры, несьці нашыя сьвятыя нацыянальныя ідэалы праз буру гэтага мора, даючы адпор усім параплавам, ці яны будуць плысьці з усходу, ці з заходу, — вось нашая мэта.*

*Узгадаваньне нашай дружыны мае два галоўныя кірункі: Скаўцкі-марскі і рыцарскі. Аднак галоўнай нашай мэтай ёсьць і будзе праца на карысьць нашага народу, нашай Бацькаўшчыны.*

*Дня 3 сьнежня 1949 г. скаўтамі дружыны “Пірат” была ўладжана асобная сьвятліца (Штаб-Кватэра). Дэкарацыя выканана вельмі эстэтычна — усё ў марскім стылю. Цяпер нашыя марскія скаўты маюць свой уласны куток, дзе яны могуць праводзіць зборкі.*

*Дзень 6 сьнежня 1949 г. быў адным з сумных дзён нашых Піратаў. Вечарам гэтага дня адбылося разьвітальнае вогнішча*

*ад’яжджаючым скаўтам з нашага Сьцягу. Дружына Пірат разьвіталася з двума сваімі сябрамі — Гарачкам Арсенам і Дашкевічам Станіславам. Першы атрымаў воднае імя — Дэльфін, другі — Белы мядзьведзь. Такая ў нас існуе традыцыя: калі хто з нашых сяброў пакідае наш Сьцяг, ён пры заканчэньні разьвітальнага вогнішчы атрымлівае скаўцкае лясное імя — татэм. Татэм атрымлівалі марскія скаўты, толькі яно не называецца лясным, а водным імям.*

*Праграма вогнішча працягнулася больш за дзьве гадзіны. Яна перапляталася прамовамі, песьнямі й пажаданьнямі. Пры разьвітаньні нашыя сябры запэўнілі, што хоць яны і едуць далёка — у Аўстралію, аднак нас не разлучаць кілёмэтры, мы як былі, так і астанемся адной сям’ёй, з адной думкай, з адной ідэяй, праводзячы сваю нацыянальную працу далей.*

*Спадарожнага ветру, сябры!!!*[532].

[532] Нашыя Ветразі. № 1. 1949. — ***А. В.***

**1950 г.**

## ЗАКАНЧЭНЬНЕ АРГАНІЗАЦЫЙНАГА ЖЫЦЬЦЯ І ДЗЕЙНАСЬЦІ ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСКІХ СКАЎТАЎ НА ЧУЖЫНЕ

На 18 нумары спыняецца выхад СІС, выдаванай сп. Сянькоўскім, бо СІС № 19 за люты 1950 г. сп. Пануцэвіча напісаў наступнае:

У другой палавіне лютага 1950 г. наступіла ліквідацыя беларускіх лягероў у Бакнангу і Ватэнштэце. Адначасова перасталі існаваць тамтэйшыя скаўцкія групы і школьныя ўстановы.

Скаўцкі тыдзень

Падобна як у папярэднім годзе, у днёх 20—27 лютага будзе зладжаны ўсімі скаўтамі ДП "Скаўцкі тыдзень". Хоць на такі посьпех, зь якім Скаўцкі тыдзень быў адначаны ў прошлым годзе, трудна разьлічваць з прычыны наяўнасьці меншай колькасьці скаўтаў, Галоўная кватэра ЗБСЧ заклікае аднак кіраўнікоў усіх адзінак правесьці належную падрыхтоўку, каб на працягу тыдня праявіць усебаковую дзейнасьць. Адначасова прыпамінаем, што дня 22 лютага 1950 г. прыпадаюць угодкі нараджэньня Бодэн Поўля[533].

Ад 4 да 9 сакавіка 1950 г. у Бэртэсгэдэне адбудзецца інтэрнацыянальны курс кіраўнікоў дружын. У ім прымуць удзел скаўты ад 16 да 18 год ад усіх нацыянальнасьцяў ДП. Месцы падзеленыя між нацыянальнасьцямі прапарцыянальна да агульнага ліку скаўтаў[534].

Заснаваньне новай адзінкі ў Фішбэку.

12 студзеня 1950 г. заснавалася новая беларуская скаўцкая адзінка ў лягеры Фішбэк. У склад яе ўваходзіць моладзь старэйшага веку. Адзінка ўжо зацьверджана праз ДП-Аддзел БСІБ.

У днях 28 і 29 студзеня прадстаўнікі Галоўнай кватэры наведалі новую адзінку ў Фішбэк. Хоць прысьпешаны тэмп эміграцыі забірае ўсё штораз больш старэйшых і малодшых больш-менш актыўных сяброў, жаданьне гуртавацца ў сваёй арганізацыі фішбэцкая моладзь паказала ня толькі на словах, але і на практыцы. На месцы былі абмер-

533 СІС. № 18. Студзень 1950. — ***А. В.***

534 СІС. № 18. Студзень 1950. — ***А. В.***

каваныя актуальныя справы і прадстаўнікі Галоўнай кватэры ЗБСЧ з добрым ураженьнем і надзеяй разьвіталіся з новымі сябрамі[535].

## 4-я скаўцкая канфэрэнцыя ЗБСЧ

Дня 19 лютага 1950 г. адбылася ў Розэнгайме 4-я Скаўцкая канфэрэнцыя ЗБСЧ. У Канфэрэнцыі прынялі ўдзел прадстаўнікі ад ангельскай і амэрыканскай зонаў Нямеччыны ў агульным ліку 22 асобы. Пасьля праслуханьня ўрачыстай Божай Службы, выкананай Яго Прэасьвяшчэнствам япіскапам БАПЦ Васілём, удзельнікі сабраліся ў залі, упрыгожанай нацыянальнымі і скаўцкімі эмблемамі, дзе Галоўны кіраўнік ЗБСЧ В. Пануцэвіч уступнай прамовай адчыніў парадак нарадаў. На старшыню быў выбраны інж. Ханяўка[536], а на сакратара заступнік штандаровага ст. скаўт У. Бакуновіч[537].

Парадак нарадаў:

1. Справаздача Галоўнага кіраўніка з дзейнасьці ЗБСЧ за час ад апошняй канфэрэнцыі і дыскусыя над справаздачай.
2. Выбары Галоўнага кіраўніцтва.
3. Выбары ўпаўнаважаных на паасобныя краіны.
4. Плян і мэтады працы на бягучы год.

---

[535] СІС. № 18. Студзень 1950. — ***А. В.***

[536] Відаць, маецца на ўвазе **Часлаў Ханяўка** (1909—1988), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі й на агранамічным факультэце Віленскага ўнівэрсытэту. Браў актыўны ўдзел у Беларускім студэнцкім саюзе. Падчас Другой сусьветнай вайны працаваў у Камітэце беларускай самапомачы ў Бэрліне, Беларускім камітэце ў Варшаве. Займаўся вызваленьнем беларусаў, што трапілі ў нямецкі палон. У паваеннай Нямеччыне займаўся арганізацыяй беларускага школьніцтва. У 1950-я гг. выехаў у ЗША. Жыў у Саўт-Рывэры. Сябра БАЗА, адзін з заснавальнікаў і сябра ўправы Нью-Джэрзійскага аддзелу арганізацыі.

[537] **Уладзімер Бакуновіч** (1926—1992), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў польскай і савецкай школах. Ад 1944 г. разам зь сям’ёй бацькоў апынуўся ў Нямеччыне, дзе да канца Другой сусьветнай вайны працаваў у баўэра, а потым вучыўся ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў беларускіх лягерах у Рэгэнсбургу і Віндзішбэргердорфе. У 1950 г. разам з бацькамі выехаў у Аўстралію. У Сыднэі браў удзел у арганізацыі Беларускага аб’еднаньня ў Аўстраліі. Пазьней апублікаваў на старонках газэты “Бацькаўшчына” нататкі пра першыя гады беларускай прысутнасьці на пятым кантынэнце (друкаваўся пад псэўдонімам Уладзімер Сьцяблевіч). У 1954 г. паступіў на эканамічны факультэт Лювэнскага ўнівэрсытэту ў Бэльгіі, дзе ў 1963 г. атрымаў ступень доктара эканомікі. Пазьней пераехаў у ЗША. Жыў у Нью-Брансьвіку (штат Нью-Джэрзі), а ад 1968 г. — у Дэтройце (Мічыган), дзе працаваў як спэцыяліст па падатковых справах. Актыўна ўдзельнічаў у дзейнасьці БАЗА й Рады БНР.

5. Справа скаўцкіх архіваў і маёмасьці ў сувязі з ліквідацыяй скаўцкіх адзінак у Нямеччыне.

6. Скаўцкія часапісы і справы скаўцкага фонду.

7. Розныя справы.

8. Канцовыя пастановы.

У сваёй кароткай справаздачы дасюлешні Галоўны кіраўнік В. Пануцэвіч даў сынтэтычны агляд дзейнасьці ЗБСЧ за час між 3-й і 4-ай скаўцкімі канфэрэнцыямі. (12.3.1949 — 19.2.1950).

*“Трэйцяя скаўцкая канфэрэнцыя,* — казаў ён, — *што адбылася ў сакавіку мінулага году ў Шляйсгайме, запісана ў гісторыі нашага скаўцкага руху сумнымі літарамі, бо яна ня толькі ня вырашыла розных балючых пытаньняў, але з прычыны арганізаванага наступу ведамых партыйных ургупаваньняў на ЗБСЧ, дзякуючы іх інтрыганству і ператварэньню 3-й канфэрэнцыі ў партыйны зьезд старэйшага грамадзянства з удзелам разагітаванай моладзі, сталася месцам заснаваньня апазыцыйнага Галоўнага кіраўніцтва і канчатковым падзелам арганізацыі на два ўгрупаваньні. Гэткае становішча не магло не адбіцца на далейшым нашым скаўцкім руху і ягонай дзейнасьці ў розных напрамках...*

*Міма вялізных перашкодаў, бо апазыцыйнае ўгрупаваньне здолела бруднымі спосабамі ўвесьці ў блед кіраўніка ДП-аддзелу Інтэрнацыянальнага Бюра сп. Монэ, міма ўсякіх спробаў апанаваньня скаўцкіх адзінак — ідэйная і пераважаючая частка моладзі дала станоўкі адпор дывэрсыі і абараніла ў аснаўным наш рух ад вялізнай небясьпекі, перад якой ён апынуўся год назад”.*

Наступна Галоўны кіраўнік даў агляд, у якіх арганізацыйных умовах прайшоў справаздачны год дзейнасьці ЗБСЧ.

*“Мінулы год быў пачаткам усіленай эміграцыі з Нямеччыны і Аўстрыі ў розныя краіны, а ў сувязі з гэтым і пачаткам ліквідацыі многіх лягераў, дзе знаходзіліся нашыя скаўцкія адзінкі. Так перасталі існаваць скаўцкія групы ў Аўстрыі, Францускай зоне Нямеччыны ды многія ў Амэрыканскай і Ангельскай зонах. Асталіся толькі наступныя: у Розэнгайме, Марбургу, Бакнангу, Ватэнштэце і часткова ў Ганновэры. Адначасна пачалася арганізацыйная праца па-за межамі Нямеччыны. І так за справаздаўчы год паўсталі новыя групы ў Францыі, Бэльгіі, Бразыліі. У стадыі арганізацыі знаходзяцца скаўты ў Злучаных Штатах Амэрыкі, Аўстраліі і Аргэнтыне. На перашкодзе арганізацыйнай дзейнасьці стаяць: распыленасьць нашай эміграцыі, адсутнасьць матар'яльных сродкаў і розныя іншыя дзейнікі.*

*У сувязі з зьменнымі абставінамі зьмяніліся формы і спосабы дзейнасьці скаўцкай моладзі па-за Нямеччынай. Ва ўсіх краінах нашай моладзі прыходзіцца ўжо самастойна праводзіць у жыцьцё*

*нашыя скаўцкія і нацыянальныя ідэалы. Многія працуюць над павышэньнем сваіх ведаў і ўмеласьцяў, вывучаюць чужыя мовы, вучацца канкрэтнай спэцыяльнасьці, а вольны свой час аддаюць на грамадзка-нацыянальную працу для сваіх суродзічаў ці на ўсьведамленьне чужынцаў аб нашым народзе. Гэта ёсьць практычная служба нашай старэйшай моладзі свайму народу — аснаўны наказ скаўцкага права.*

*Формы гэтай службы — розныя, у залежнасьці ад мясцовых абставінаў. Там — дзе гэтага патрэба — нашая моладзь кіруе ці ўдзельнічае ў іншых грамадзкіх арганізацыях ці моладзі, выдае часапісы і гуртуе вакол сябе моладзь і старэйшых. Гэткую дзейнасьць праводзяць нашыя старэйшыя скаўты ў Бэльгіі, Англіі, Францыі, Злуч. Штатах Амэрыкі і ў Бразыліі. Усюды старэйшая скаўцкая моладзь стаіць непахісна пры нацыянальных і скаўцкіх ідэалах і гэтым дае падставу думаць, што наш скаўцкі рух перахавае на чужыне сваю ідэалёгію і перадасьць яе вызваленай Бацькаўшчыне.*

*У Нямеччыне скаўцкая моладзь у мінулым годзе праводзіла хоць абмежаваную, але пасьлядоўную выхаваўчую працу згодна з агульным выхаваўчым плянам. Сярэдняя і старэйшая моладзь актыўна ўдзельнічала ў розных курсах і навучальных установах, павышаючы свае веды і ўмеласьці. Летні сэзон правяла ў інтэрнацыянальных ІМКА-ўскіх лягерох, дзе ў сусьцягах змагалася за гонар свайго Народу. Дзеля павышэньня скаўцкага вышкаленьня наладжаныя былі курсы для старэйшых скаўтаў у Амэрыканскай і Ангельскай зонах Нямеччыны, якія скончыла 30 асобаў. Не адбылося ў Нямеччыне ніводнай беларускай імпрэзы, сьвяткаваньня ці ўрачыстасьці без самага актыўнага ўдзелу нашай скаўцкай моладзі. Апрача гэтага было праведзена цэлы рад самастойных скаўцкіх імпрэзаў, агульны лік 50. Усіх скаўцкіх зборак праведзены было 356, уступіла ў ЗБСЧ 57 новых сяброў і сяброваk.*

*У выдавецкім напрамку, ня гледзячы на цяжкія матар’яльныя ўмовы, Галоўная кватэра змагла выдаць цэлы рад брашур і скаўцкіх дапаможнікаў, як Рэгуляміны і Статут ЗБСЧ, скаўцкі сьпеўнік, дапаможнік для кіраўнікоў скаўтаў і старэйшых скаўтаў, скаўцкія гульні і розныя іншыя інфармацыйныя матар’ялы. Адначасна падрыхтаваныя да друку матар’ялы для працы з дзяцьмі дашкольнага веку, падручнік для старэйшых скаўтаў і праваднікоў ваўчанятаў...”*

У дыскусыі над справаздачай Галоўнага кіраўніка было закранутае пытаньне аб ліквідацыі вытварыўшагася падзелу арганізацыі, як шкоднага зьявішча. Галоўны кіраўнік, а таксама іншыя прамоўцы былі ўсе адной думкі, што гэтае становішча ёсьць непажаданым і

шкодным для скаўцкага руху, ды адначасна падкрэсьлівалі, што ліквідацыя гэтага падзелу сёньня напатыкае яшчэ на значныя перашкоды, асабліва ў Нямеччыне, дзе моладзь апазіцыйнага ўгрупаваньня знаходзіцца пад ціскам старэйшых. У выніку дыскусыі была прынятая пастанова, каб навязаць і ўтрымліваць з усімі скаўцкімі групамі брацкі кантакт і супрацоўніцтва, а па-за Нямеччынай імкнуцца ўсімі сіламі, каб да падобнага падзелу не дайшло.

Адносна пытаньня, пастаўленага Галоўным кіраўніком аб перавыбарах Галоўнага кіраўніцтва, у выніку дыскусыі прынята была пастанова, каб з прычыны адсутнасьці на канфэрэнцыі прадстаўнікоў ад скаўцкіх адзінак, што знаходзяцца па-за Нямеччынай, не праводзіць перавыбараў і даручыць дасюлешняму Галоўнаму кіраўніцтву ЗБСЧ вядзенне далейшай дзейнасьці да часу скліканьня наступнай скаўцкай канфэрэнцыі.

Дзеля каардынацыі скаўцкай дзейнасьці ў розных краінах 4-ая Скаўцкая канфэрэнцыя аднагалосна ўпаўнаважыла наступных сяброў: Уладзімер Бакуновіч — Аўстралія, Аляксандар Бута — Англія, сп. Юзэфіч[538] — Аргэнтына, Барыс Рагуля[539] — Бэльгія, Антон Бакуновіч[540] —

---

[538] Відаць, маецца на ўвазе **Генрык Юзэфовіч** (?—?), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў гімназіі, а ў 1946 г. — у Рымскім унівэрсытэце. З Італіі перабраўся ў Вялікабрытанію. Ад 24 сьнежня 1946 г. належаў да Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі. Быў сябрам Беларускага хрысьціянскага акадэмічнага аб'еднаньня "Жыцьцё". У 1949 г. выехаў у Аргентыну, дзе належаў да беларускіх нацыянальных арганізацый. Адтуль у 1952 г. выехаў на навучаньне ў Гішпанію.

[539] **Барыс Рагуля** (1920—2005), вайсковы і грамадзка-палітычны дзеяч. Удзельнік нямецка-польскай кампаніі 1939 г., трапіў у нямецкі палон. Уцёкшы з палону, працаваў настаўнікам у Навагрудку. Арыштаваны органамі НКУС, але з пачаткам нямецка-савецкай вайны ўцёк з-пад варты. У часе нямецкай акупацыі працаваў выкладчыкам у Наваградзкай настаўніцкай сэмінарыі, перакладчыкам акружнога камісара. Адзін з акружных кіраўнікоў СБМ і БНС, намесьнік БЦР і камэндант БКА. Арганізаваў і ўзначаліў паліцэйскі батальён № 68. Адзін з кіраўнікоў разведвальна-дывэрсійнай школы ў Дальвіцы, маёр 30-й (беларускай) дывізіі войск СС. Ад лета 1944 г. на эміграцыі. Спачатку быў у амэрыканскай зоне акупацыі Нямеччыны, ад 1949 г. — у Бэльгіі. Займаўся справамі беларускіх студэнтаў у Заходняй Эўропе. У 1954 г. пераехаў у Канаду. Пасяліўся ў Лёндане (Антарыа). Працаваў як мэдык, быў вядомым у краіне спэцыялістам па ракавых захворваньнях. Сябра Згуртаваньня беларусаў Канады. Ад 1971 г. намесьнік прэзыдэнта Рады БНР, адначасова ў 1973—1989 гг. старшыня Каардынацыйнага камітэту беларусаў Канады.

[540] Магчыма, **Антон Бакуновіч** (1923—?), грамадзкі дзеяч. Паходзіў зь вёскі Ярэмічы (сёньня Карэліцкі раён). Быў сябрам Задзіночаньня беларусаў Вялікай Брытаніі з 1947 г.

Бразілія, Міхась Наумовіч[541] — Францыя, Раіса Жукоўская — Канада, Міхась Белямук — Злучаныя Штаты Амэрыкі, Пётра Манькоўскі — Нямеччына.

У дыскусіі над прыняццем гадавога пляну на 1950 год Скаўцкая канфэрэнцыя прыняла і зацьвердзіла агульны плян дзейнасьці ЗБСЧ, апублікаваны Галоўнай кватэрай у Скаўцкай Інфармацыйнай Службе № 18 з наступнай папраўкай: месяц верасень прызначыць на зборку матар’яльных сродкаў ва ўсіх краінах на рукі вышэй названых упаўнамочаных. Зборка павінна быць разгорнута сярод усіх беларусаў і ахапляць усялякія ахвяры, неабходныя для праводжаньня далейшай дзейнасьці ЗБСЧ.

Ніжэй падаем гэты плян у цэласьці:

Плян скаўцкай дзейнасьці ЗБСЧ на 1950 год.

8 студзеня — Угодкі сьмерці заснавальніка скаўцкага руху Бадэн Поўля.

18 лютага — Нарада скаўцкіх кіраўнікоў Амэрыканскай зоны Нямеччыны ў Розэнгайме (замест яе адбылася 4-ая Канфэрэнцыя).

22 лютага — Дзень нарадзінаў Б. П.

26 лютага — Нарада скаўцкіх кіраўнікоў у Парыжы.

5 сакавіка — Нарада скаўцкіх кіраўнікоў у Лювэне (Бэльгія).

10 сакавіка — Гадавіна сьмерці Кастуся Каліноўскага. Урачыстыя вечары ўва усіх адзінках.

24/25 сакавіка — Нацыянальнае сьвята. Складаньне прысягі. Вялікія скаўцкія ўрачыстасьці і нацыянальны чын.

9 красавіка — Сьвята Ўваскрашэньня Хрыста і Вясны. Добры ўчынак для сіротаў, вязьняў і г. д.

23 красавіка — Дзень Патрона скаўтынгу сьв. Юр’я.

20–24 красавіка — Скаўцкі лягер ў Бразыліі (Апукаране[542]).

7 травеня — Нарада скаўцкіх кіраўнікоў у Новым Ерку.

7 травеня — Нарада скаўцкіх кіраўнікоў у Аўстраліі.

14 травеня — Нарада скаўцкіх кіраўнікоў у Англіі.

21–28 травеня — Тыдзень ЗБСЧ ува ўсіх краінах.

10 чэрвеня — 950-я ўгодкі ад дня сьмерці княгіні Рагнеды.

23 чэрвеня — Сьвята Купалы (Купальле).

---

[541] **Міхась Наўмовіч** (1922—2004), мастак, грамадзкі дзеяч. Падчас акупацыі навучаўся ў Школе афіцэраў БКА. У 1944 г. апынуўся ў Нямеччыне. У складзе Другога польскага корпусу генэрала Андэрса ваяваў у Італіі. Пасьля вайны жыў у Францыі. Закончыў факультэт скульптуры Нацыянальнай вышэйшай школы мастацтваў у Парыжы (1953). Браў удзел у беларускім нацыянальным жыцьці, спрычыніўся да стварэньня Беларускага незалежнага аб’еднаньня моладзі, выдаваў часопіс “Моладзь”.

[542] **Апукарана** (парт. *Apucarana*) — муніцыпалітэт у штаце Парана ў Бразыліі.

23—30 ліпеня — Скаўцкі зьлёт у Амэрыканскай зоне Нямеччыны.

23—30 ліпеня — Скаўцкі лягер каля Парыжу.

6—13 жніўня — Скаўцкі лягер ЗБСЧ у Бэльгіі.

3 верасня — Зборка ахвяраў на ЗБСЧ ува ўсіх краінах на рукі вышэй названых упаўнамочаных

24 верасня — Нарада скаўцкіх кіраўнікоў ува ўсіх краінах.

15—22 кастрычніка — Тыдзень грамадзкай службы скаўта.

19 лістапада — Угодкі Слуцкага Паўстаньня.

24 сьнежня — 7 студзеня — Калядныя ўрачыстасьці. Добры ўчынак для дзяцей і патрабуючым дапамогі.

Увага: на сваіх нарадах скаўцкія кіраўнікі апрацуюць падробныя праграмы вышкаленьня і дзейнасьці сваіх адзінак у рамках гэтага агульнага пляну ды перашлюць свае пастановы ў Галоўную кватэру ЗБСЧ.

У справе скаўцкіх архіваў тых адзінак і маёмасьці, якія зьліквідаваныя, або знаходзяцца ў стадыі ліквідацыі ў Нямеччыне, была прынятая пасьля кароткай дыкусіі пастанова, каб усе архівальныя матэрыялы былі перасланы ў скаўцкі архіў на рукі д-р Сіповіча[543] ў Лондане, а першы і шосты сьцяг — перасланы ў Зл. Штаты Амэрыкі на рукі с. М. Белямука, дзеля дальнейшага забесьпячэньня да часу наладжаньня скаўцкай дзейнасьці ў ЗБСЧ у гэтай краіне.

Скаўцкія бібліятэчкі й дапаможныя матэрыялы, неабходныя для праводжаньня бягучай дзейнасьці, маюць перасылацца ў розныя краіны, дзе праводзіцца або мяркуецца праводзіць далейшую дзейнасьць...

---

543 **Часлаў Сіповіч** (1914—1981), рэлігійны дзеяч, біскуп. Вучыўся ў Друйскай гімназіі. У 1934 г. пастрыжаны ў манахі. Вучыўся на факультэце філязофіі і тэалогіі ў Віленскім унівэрсытэце. У 1938—1947 гг. жыў у Рыме, дзе закончыў Папскі грыгарыянскі ўнівэрсытэт і Папскі ўсходні інстытут. У 1944—1946 гг. апекаваўся беларускімі жаўнерамі Арміі Андэрса, раскватараванымі па ўсёй Апэнінскай паўвысьпе. Праводзіў сярод іх дабрачынную і асьветніцкую працу. У 1947 г. прызначаны рэктарам Беларускай каталіцкай місіі візантыйска-славянскага абраду ў Вялікабрытаніі. 9 красавіка 1947 г. прыбыў у Лёндан. Быў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, у 1948 г. абіраўся на пасаду скарбніка арганізацыі. У 1948 г. стаў адным з ініцыятараў стварэньня БХАА “Жыцьцё”, а пазьней — БАКА “Рунь”. 4 жніўня 1960 г. высьвячаны на біскупа, пазьней быў прызначаны апостальскім візытатарам для беларусаў за мяжой. У ліпені 1963 г. прызначаны генэралам ордэну марыянаў, на гэтай пасадзе заставаўся да 1969 г. У Марыян Хаўз заснаваў кляштар беларускіх марыянаў. Фактычна быў заснавальнікам Беларускага рэлігійна-культурнага цэнтру ў Паўночным Лёндане, часткай якога стаў інтэрнат Сьв. Кірылы для беларускіх хлапцоў, а таксама Беларуская бібліятэка і музэй імя Ф. Скарыны.

У канцы нарадаў было разгледжанае пытаньне арганізацыі беларускіх скаўтак. Прынятая была пастанова згодная з дасюлешняй практыкай, што з прычыны недахопу скаўцкіх кіраўнічак і ў дальнейшым не выдзяляць дзяўчат у самастойную арганізацыю, але разглядаць іх як сэктар ЗБСЧ.

Урэшце было абгаворанае праўнае становішча ЗБСЧ з пункту гледжаньня пастановы 11-й Міжнароднай скаўцкай канфэрэнцыі 1947 г. (у Шато дэ Росны ў Францыі) і прынятыя пастановы пададзены ніжэй.

Канфэрэнцыя закончылася нацыянальным гімнам “Мы выйдзем шчыльнымі радамі”.

## *Пастановы 4-й Скаўцкай канфэрэнцыі ЗБСЧ*

1. 4-я Скаўцкая канфэрэнцыя ЗБСЧ заклікае ўсіх скаўцкіх кіраўнікоў навязваць лучнасьць і фактычнае супрацоўніцтва з усімі беларускімі і іншымі скаўцкімі адзінкамі на прынцыпе скаўцкай ідэалёгіі.

2. 4-я Скаўцкая канфэрэнцыя ЗБСЧ заклікае ўсіх скаўтаў і скаўтак зьбіраць адрысы і навязваць лучнасьць з беларускай моладзьдзю і старэйшымі беларусамі ўва ўсіх краінах ды прымаць актыўны ўдзел у грамадзкай працы.

3. 4-я Скаўцкая канфэрэнцыя ЗБСЧ, прыймаючы пад увагу існуючыя цяжкія абставіны для склíканьня старэйшых скаўтаў і кіраўнікоў з розных краінаў, выразіла прызнаньне дасюлешняму Галоўнаму кіраўніцтву і даручыла яму выконваньне далейшай дзейнасьці да часу скліканьня наступнай канфэрэнцыі.

4. 4-я Скаўцкая канфэрэнцыя ЗБСЧ даручае Галоўнаму кіраўніцтву выдаваньне скаўцкага часапісу і неабходнай скаўцкай літаратуры, а таксама справу выкарыстаньня існуючых няскаўцкіх часапісаў і газэтаў для пашырэньня скаўцкай ідэалёгіі.

5. 4-я Скаўцкая канфэрэнцыя ЗБСЧ даручае кіраўніцтву на Нямеччыну выяўленьне ўсей беларускай моладзі, якая астанецца ў Нямеччыне пасьля ліквідацыі ІРО, і арганізаваньне новых скаўцкіх адзінак.

6. 4-я Скаўцкая канфэрэнцыя ЗБСЧ заклікае ўсе скаўцкія адзінкі, якія знаходзяцца ў стадыі ліквідацыі, перасылаць архівальныя матар’ялы ў Скаўцкі архіў у Лондан на адрыс др. Ч. Сіповіча. Скаўцкія бібліятэчкі і дапаможыя матар’ялы перасылаць, дзе ўжо праводзіцца ці мае праводзіцца далейшая скаўцкая дзейнасьць.

7. 4-я Скаўцкая канфэрэнцыя ЗБСЧ заклікае ўсіх сяброў да ахвярнасьці і дзейнага падтрыманьня ўсіх пачынаньняў Галоўнага і мясцовага кіраўніцтва ЗБСЧ ды да паглыбленьня ідэйнага ўзроўню праз здабываньне скаўцкіх спраўнасьцяў і кіраўнічага вышкаленьня.

Угодкі нарадзінаў заснавальніка скаўтынгу Б. П.

У прысутнасьці Галоўнага кіраўніцтва ЗБСЧ адбылося 22 лютага 1950 г. у Розэнгайме скаўцкая ўрачыстасьць у чэсьць заснавальніка скаўтынгу Бэйдэн Поўля. Папалудні 5 сябровак і адзін юнак злажылі скаўцкія пробы на 3-ю і 2-ю ступені перад экзаменацыйнай камісіяй, а вечарам гэтага ж дня пры скаўцкім вогнішчы злажылі ўрачыстую прысягу. Гутарку аб скаўцкім шляху Б. П. меў скаўтмайстар П. Манькоўскі.

Чацьвёртыя ўгодкі ЗБСЧ

Кажная скаўцкая група старалася з нагоды чацьвертых угодкаў існаваньня ЗБСЧ наладзіць у залежнасьці ад сваіх мясцовых умоваў і сілаў адпаведную ўрачыстасьць. З найбольшым размахам заладзілі гэтае сьвята скаўты ў Бакнангу і Ватэнштэце, хаця стараліся ад іх не адставаць нашыя скаўты ў іншых беларускіх асяродках як Нямеччыны, так і другіх краінаў.

У нашых сяброваак

Нарэшце справа дзявочага скаўтынгу скранулася з месца. Прычыніўся да гэтага прыезд у Мюнхэн кіраўнічкі ад Інтэрнацыянальнага Бюра скаўтак міс Свэнсон. Хаця яна прыехала ў той час, калі шэрагі ДП-скаўтак у Нямеччыне ў сувязі з эміграцыяй радзеюць з кажным днём, усё-ж наколькі гэта было магчыма, яна здолела ажывіць дзейнасьць скаўтак на міжнацыянальным форуме. Кіраўніцтва беларускіх скаўтак трымае з міс Свэнсон цесную лучнасьць з моманту яе прыезду ў Нямеччыну.

Ад 3 да 10 студзеня гэтага году ў Прыне каля возера Хімзээ адбыліся міжнацыянальныя курсы кіраўнічак дружын. Прысутнічалі на іх таксама беларускія скаўткі... Скаўткі вярнуліся з даволі вялікім запасам тэарэтычных і практычных ведаў, што безумоўна павысіла ўзровень іхняй працы ў адзінках.

У хуткім часе беларускія скаўткі атрымаюць ад Інтэрнацыянальнага Бюра скаўтак скаўцкія адзнакі. Адпаведныя сьпіскі ўжо высланыя ў Інтэрнацыянальнае Бюро скаўтак у Мюнхэне.

Даводзіцца да ведама ўсіх беларускіх скаўтаў, што назначаныя наступныя краёвыя прадстаўнікі Галоўнай кватэры ЗБСЧ, праз якіх Галоўная кватэра будзе ўтрымоўваць лучнасьць з беларускімі скаўткамі па асобных краін сьвету: на ЗША с. К. Вайцяхоўскі, на Аўстралію с. М. Зуй[544]. У іншых краінах такія прадстаўнікі будуць у будучыні назначаныя.

[544] **Міхась Зуй** (1909—1995), палітычны й грамадзскі дзеяч. У 1932 г. у роднай вёсцы Вялікае Сяло (цяпер Шаркаўшчынскі раён) арганізаваў асьветны

Галоўная кватэра ЗБСЧ прыпамінае тым сябрам, якія да гэтага часу не падалі яшчэ сваіх новых адрасоў у краінах свайго новага пасяленьня, каб яны найхутчэй прыслалі іх на адрас сваіх краёвых прадстаўнікоў...

Заклік

*Незважаючы на расьцярушанасьць у выніку эміграцыі сяброў ЗБСЧ з Нямеччыны і Аўстрыі ў іншыя краіны, Галоўная кватэра ЗБСЧ заклікае ўсіх сяброў не перарываць ні на адну хвіліну скаўцкай дзейнасьці. Няхай далёкі ад нашай Бацькаўшчыны сьвет больш дакладней знаёміцца з беларусамі і Беларусьсю. Гэта нашае заданьне мы павінны выконваць ня менш пасьпяхова, як мы яго выконвалі на працягу нашага жыцьця ў Нямеччыне. Усе павінны памятаваць, што прадумовай пасьпяховай дзейнасьці зьяўляецца аб’яднаньне высілку праз арганізацыю. Таму моцна трымайся нашай арганізацыі, якая, паміма часта тысячакілямэтровых адлегласьцяў, будзе нас лучыць і надалей у аднэй сям’і. Толькі супольным скаардынаваным высілкам зможам вытрымаць пробу часу, выканаць заданьні і апраўдаць надзеі нашага Народу і Бацькаўшчыны. Няхай ніякія сілы ня здолеюць больш нарушаць гармонію ў нашай сям’і, сеяць узаемны недавер і нянавісьць у нашых маладняцкіх радох. Няхай адзінства тых, хто хоча шчыра і аддана працаваць для Радзімы стане моттам кожнага новага дня. Хай атрута прапаведнікаў розных “фільстваў”, якая атручвала нашыя маладыя здаровыя душы і раз’ядала нашыя шэрагі, не знаходзіць між намі больш посьпеху... Наша мэта — Незалежная Беларусь і мы сьвята верым, што сягнем яе толькі праз адзінства.*

*Няхай жыве нацыянальнае адзінства ўсяе Беларускай моладзі!*

*Галоўная Кватэра ЗБСЧ*[545].

гурток “Кола беларускай моладзі”. Ад 1942 г. працаваў у Беларускай народнай самапомачы, павятовы кіраўнік Шаркаўшчынскага павету. Сябра Беларускай незалежніцкай партыі. Дэлегат Другога Ўсебеларускага кангрэсу. Ад лета 1944 г. на эміграцыі. Быў у складзе беларускага батальёну Дальвіц. У жніўні 1949 г. выехаў у Аўстралію. Удзельнік першага сходу сяброў надпартыйнага Беларускага Аб’еднаньня ў Новай Паўднёвай Валіі (1950), пазьней стваральнік і нязьменны старшыня Беларускага аб’еднаньня ў Аўстраліі. У 1950–1960-я гг. арганізатар і кіраўнік беларускага драматычнага гуртка ў Сыднэі. Кіраўнік Дэлегатуры БЦР у Аўстраліі. У 1978 г. старшыня Беларускага культурна-грамадзкага клюбу ў Сыднэі. На XIX Пленуме БЦР абраны прэзыдэнтам БЦР.

[545] СІС (Пануцэвіча). № 18. Студзень 1950. — ***А. В.***

На прапанову Галоўнага кіраўніка моладзь аддала чэсьць Вялікаму скаўту скаўцкім клічам: *“Напагатове! — Заўсёды!”*. Наступна моладзь прасьпявала рад скаўцкіх, народных і патрыятычных песьняў, а юначкі выступілі з дэклямацыямі вершаў. Урачыстасьць закончылася гарачай разьвітальнай прамовай Галоўнага кіраўніка В. Пануцэвіча ды скаўцкай малітвай “Ноч ідзе”[546].

## *Нашыя скаўткі даюць прыклад актыўнасьці*

Нашыя дзяўчаты за час сваёй дзейнасьці ў Нямеччыне не ўступілі ў сваёй актыўнасьці хлопцам, а навет у многіх міжнацыянальных змаганьнях здабылі першыя месцы. Цяпер даходзяць да нас чуткі аб іх далейшай актыўнай і прыкладнай дзейнасьці па-за Нямеччынай.

Ніжэй падаем вытрымкі з лісту нашай ватэнштэцкая сяброўкі Веры Ж. (Жызьнеўскай[547]), якая навет на пераплаве ў Амэрыку не забылася аб скаўцкім абавязку службы Бацькаўшчыне.

*“У апошні вечар перад Нью-Еркам,* — піша сяброўка Вера Ж., — *усе нацыянальнасьці, якія там ехалі, ладзілі канцэрт для капітана і апякуючых уладаў. На маё стараньне, мы таксама бралі ўдзел у канцэрце, як асобная нацыя (беларусаў па пераплаве было ўсяго каля 40 чалавек). Перад нашым выступленьнем перакладчык сказаў коратка аб Беларусі і беларускім народзе. На заканчэньне я ўручыла для транспартнага маёра Сардона Смітса падарунак ад беларускай групы і ліст з падзякай за апеку. Ліст быў прачытаны публічна...”*

*“Цяпер я ў Амэрыцы. Працую 8 гадзін у дзень, а адзін дзень у тыдні маю вольны. Тут мной, як беларускай, вельмі цікавяцца. Прыходзіцца шмат расказваць пра наш край і народ. Амэрыканцы не разумеюць шмат чаго, і нямала трэба высілку, каб іх усьведаміць... Скаўцкай працай цікаўлюся далей, як толькі знайду магчымасьць, буду яе праводзіць. Цяпер шлю ў скаўцкі фонд два даляры”*.

Актыўнасьць сяброўкі Веры Жызьнеўскай хай будзе добрым прыкладам для ўсяе нашае моладзі[548].

Аб гэтай жа сяброўцы чытаем у СІС № 21 за ліпень 1950 г. на бач. 4-й:

---

[546] СІС. № 19. 1950. — ***А. В.***

[547] **Вера Жызьнеўская** (у шлюбе **Рамук**, 1931—2010), грамадзкая дзяячка, жонка доктара Вітаўта Рамука. У 1944 г. зь сям’ёй выехала на эміграцыю, ад 1949 г. у ЗША. Закончыла факультэт вольных навук ва ўнівэрсытэце Брэдлі (1954). З мужам узначальвала Беларускі каардынацыйны камітэт у Чыкага. Сябра Рады БНР.

[548] СІС. № 19. 1950. — ***А. В.***

## *Сяброўка ЗБСЧ прамаўляе ў радыё*

*Наша сяброўка Вера Ж. ужо тры разы выступала ў радыё-станцыі Піоры*[549] *(ЗША) з прамовай ад беларусаў, апавядаючы аб жудасным тэроры маскоўскіх бальшавікоў на нашай Бацькаўшчыне. Вера Ж. прамаўляла па ангельску да амэрыканскага жыхарства, каб гэтым пашырыць наша нацыянальнае імя сярэд амэрыканцаў ды выявіць тую нядолю, якую церпіць наш беларускі народ.*

## *ДП-аддзел БСІБ*

ДП-аддзел БСІБ сваю працу са скаўтамі ДП у Нямеччыне і Аўстрыі вёў і вядзе пры помачы адмыслова створанага Дарадчага камітэту, які складаецца з Шэфаў скаўцкіх арганізацыяў усіх нацыянальнасьцяў ДП. Дарадчы камітэт на працягу дзейнасьці ДП-аддзелу БСІБ прыблізна кажны месяц адбываў паседжаньні, на якіх Шэфы паасобных скаўцкіх арганізацыяў пры садзейнічаньні і падтрымцы прадстаўніка БСІБ каардынавалі сваю дзейнасьць у ДП-лягерах Нямеччыны й Аўстрыі і супольна абмяркоўвалі пытаньні скаўцкай працы ў будучыні ў краінах новага пасяленьня.

Прадстаўнікі ЗБСЧ, пачынаючы ад 3-га Зьезду ЗБСЧ у Шляйсгайме, рэгулярна ўдзельнічалі ўва ўсіх канфэрэнцыях. Аднак з прычыны сталай эміграцыі скаўтаў ДП з Нямеччыны і Аўстрыі лік скаўтаў у ДП-лягерах хутка памяншаецца і апошні падлік паказаў наяўнасьць толькі 3600 ДП-скаўтаў усіх нацыяў. У сувязі з гэтым трэба лічыцца з хуткай ліквідацыяй ДП-аддзелу БСІБ. Дакладней аб гэтым падана ў вытрымцы з пратаколу апошняга паседжаньня Дарадчага камітэту. Гучыць гэта наступна: *“Справа ДП-аддзелу: Падарожнічаючы Камісар падсумаваў працу ДП-аддзелу БСІБ ад заснаваньня да сёньняшняга дня. Паколькі ДП-аддзел быў створаны толькі для нацыянальнага заданьня, цяпер прыйшоў час, каб ужо падрыхтавацца да ліквідацыі яго. Падарожнічаючы Камісар зьвярнуўся да Дырэктара Інтэрнацыянальнага Скаўцкага Бюро з інфармацыяй Інтэрнацыянальнаму камітэту аб сучасным стане ДП-скаўтаў у Нямеччыне і Аўстрыі, прапануючы спыненьне працы ДП-аддзелу з днём 30 чэрвеня 1950 году”*[550].

## *Разьвязаньне ДП-аддзелу ў Мюнхэне*

У сувязі з афцыяльным заканчэньнем дзейнасьці ІРО з днём 1 ліпеня 1950 г. закончыў сваю дзейнасьць ДП-аддзел Інтэрнацыянальнага Скаўцкага Бюро ў Мюнхэне. Апошняя канфэрэнцыя Галоўных

---

[549] Маецца на ўвазе **Пэорыя** (анг. *Peoria*) — горад у штаце Ілінойс (ЗША).

[550] СІС (Пануцэвіча). № 18. Студзень 1950. — ***А. В.***

кіраўнікоў адбылася ў сакавіку гэтага году. За час сваёй дзейнасьці ад 1947 г. ДП-аддзел ІБ правёў шырокую скаўцкую дзейнасьць у заходніх зонах Нямеччыны і Аўстрыі, арганізуючы штогод цэлы рад міжнацыянальных лягероў, зьлётаў, курсаў, паказаў, выставак і іншых імпрэзаў, прычыняючыся гэтым да выдатнага росту ўсіх скаўцкіх арганізацыяў, у тым ліку і ЗБСЧ.

Дзякуючы ДП-аддзелу ІБ і нашая скаўцкая моладзь магла шырока рэпрэзэнтаваць нашае нацыянальнае імя, нашыя нацыянальныя эмблемы ды нашыя дасягненьні сярод розных нацыянальнасьцяў у Нямеччыне і Аўстрыі[551].

## Стан скаўцкіх адзінак ЗБСЧ

З прычыны далейшай эміграцыі з Нямеччыны і Аўстрыі ў розныя краіны шмат скаўцкіх адзінак ЗБСЧ разьвязалася, а архівы пераслалі ў Галоўны скаўцкі архіў ЗБСЧ ў Лондане. На сёньняшні дзень існуюць яшчэ дзьве скаўцкія адзінкі ў Заходняй Нямеччыне: у Розэнгайме і Зээдорфе каля 100 сяброў і сябровак. У іншых краінах існуюць: у Парыжы (Францыя), Лювэне (Бэльгія), Апукаране (Бразылія). У апошнім часе зроблены захады дзеля арганізацыі нашай скаўцкай адзінкі ў Новым Ёрку.

Рэшта сябровак і сяброў ЗБСЧ расьцярушаная ў розных краінах, галоўным чынам у Злучаных Штатах Паўночнай Амэрыкі, Канадзе, Англіі, Аўстраліі, Аргентыне, Новай Зэляндыі. Заданнем Галоўнай кватэры ЗБСЧ, а абавязкам гэтых сяброў ёсьць устанавіць зноў арганізацыйную лучнасьць з усімі і далей працягваць скаўцкую дзейнасьць[552].

№ 21 Скаўцкай Інфармацыйнай Службы зьяўляецца апошнім. Пачынаецца ён паведамленнем-зваротам Галоўнай кватэры ЗБСЧ, у якім між іншага гаворыцца:

*“...З прычыны далейшай эміграцыі Галоўная кватэра ЗБСЧ перанеслася ў Злучаныя Штаты Паўночнай Амэрыкі сваім Галоўным Бюром у Чыкага. Адсюль будзе працягваць сваю дзейнасьць, вясьці і разьвіваць далей наш скаўцкі рух.*

*Каб магчы далей праводзіць нашу скаўцкую дзейнасьць, абавязкам кожнага скаўта і кожнай скаўткі ёсьць навязаць і ўтрымліваць лучнасьць з Галоўнай кватэрай ЗБСЧ, вышукоўваць расьцярушаных сябровак і сяброў, дапамагаць ім ды сумленна выконваць усе даручэньні Галоўнага і мясцовага кіраўніцтва. Бяз гэтай арганізацыйнай дысцыпліны мы перастанем быць скаўтамі, бо буд-*

[551] СІС. № 21. Ліпень 1950. — ***А. В.***

[552] СІС. № 21. Ліпень 1950. — ***А. В.***

